

# МОВА СЕННЕНШЧЫНЫ

*Дыялектны слоўнік*

**Том 2**



НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры
Філіял «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа
і Янкі Купалы»

# МОВА
# СЕННЕНШЧЫНЫ

*Дыялектны слоўнік*

У двух тамах

## Том 2

***П–Я***

Мінск
«Беларуская навука»
2015

УДК 811.161.3’282’374(476.5)(038)
ББК 81.2Беи-4
М61

Укладальнікі:

Н. М. Бунько, Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова,
Ю. В. Маліцкі, Н. В. Сівіцкая, Т. М. Трухан

Навуковыя рэдактары:

В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч

Рэцэнзенты:

доктар філалагічных навук Т. В. Валодзіна,
кандыдат філалагічных навук В. Д. Астрэйка

**Мова** Сенненшчыны : дыялектны слоўнік. У 2 т. Т. 2. П–Я / Нац.
М61 акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., Філ. «Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» ; уклад.: Н. М. Бунько [і інш.] ; навук. рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч. – Мінск : Беларуская навука, 2015. – 407 с.
ISBN 978-985-08-1878-2.

Слоўнік уключае рэгіянальную лексіку, зафіксаваную на тэрыторыі Сенненшчыны ў 80-я гады XX ст. У гэтым томе лексікаграфічнай працы падаюцца дыялектныя словы і фразеалагізмы на літары *П–Я*, а таксама індэксы ўстойлівых словазлучэнняў і адметных выслоўяў.

Выданне адрасавана лінгвістам, этнографам, выкладчыкам па дыялекталогіі, словаўтварэнні, этымалогіі, анамастыцы, аматарам роднага слова, а таксама ўсім тым, хто цікавіцца беларускай мовай.

**УДК 811.161.3’282’374(476.5)(038)**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 978-985-08-1878-2 (т. 2)**
**ISBN 978-985-08-1861-4**

# АД РЭДАКТАРАЎ

Другі том лексікаграфічнай працы «Мова Сенненшчыны. Дыялектны слоўнік» уключае лексіку на літары *П–Я.* Рэестр гэтай часткі даведніка складае каля 6800 слоўнікавых артыкулаў, усяго ў двух тамах слоўніка распрацавана прыкладна 14 000 артыкулаў (з іх у першым томе звыш 7200).

Спосаб падачы лексікі застаўся такі ж, як і ў папярэднім томе. Загалоўнае слова пры наяўнасці запісу, які адпавядае літаратурнаму варыянту, мае нарматыўную форму, пры фіксацыі абазначальных сродкаў толькі ў дыялектным абліччы – іх занатаваны выгляд. У рэестравым радзе, які складаецца з лексічных адзінак, запісаных выключна ў мясцовым гучанні, на першым месцы выступае слова, якое характарызуецца адрознівальнымі мясцовымі дыялектнымі асаблівасцямі. Разам з тым дысімілятыўнае аканне, мяккае вымаўленне свісцячых зычных, спарадычна зафіксаванае мяккае *р* у рэестравых словах не перадаюцца. Акрамя таго, асімілятыўная мяккасць зычных, за рэдкім выключэннем, не адлюстроўваецца і ў прыкладах, якімі тлумачыцца значэнне.

У дадзеным томе ранейшымі засталіся спосаб раскрыцця сэнсу рэестравых слоў, сістэма памет, выкарыстанне ілюстрацыйнага матэрыялу. Ілюстрацыі падаюцца сродкамі сучаснага беларускага пісьма, але дадаткова ўжыты графічныя сімвалы **Ґ**, ґ, якімі паказваецца вымаўленне *г* выбухнога, і сімвал **ъ**, якім абазначаецца якасць рэдукаванага галоснага. Націскам пазначаны як рэестравыя словы, так і ілюстрацыйныя прыклады, за выключэннем адзінкавых цяжкіх выпадкаў, у якіх ён адсутнічаў у картатэчных запісах.

Слоўнік «Мова Сенненшчыны» цяпер з'яўляецца самым буйным зборам дыялектнай лексікі і адметных выслоўяў з тэрыторыі віцебскіх гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы. Для практычных патрэб у томе змяшчаюцца індэксы фразеалагічных адзінак, парэмій і іншых адметных выслоўяў, уключаных у выданне. Гэтыя дадаткі падрыхтавала В. М. Курцова.

Слоўнікавыя артыкулы на літару *П* (*ПА–ПАДУ*) першапачаткова распрацавала Н. В. Сівіцкая, у канцавым выглядзе гэты фрагмент слоўніка падрыхтавалі навуковыя рэдактары тома Л. П. Кунцэвіч і В. М. Курцова. Артыкулы на літары *П* (*ПОСТАЦЬ–ПЯЯЦЬ*), *С* (*С–САМ*), *Р, Х, Ц, Ч, Ш*

распрацавала В. М. Курцова, але набор тэксту, а таксама пачатковую апрацоўку матэрыялаў выканаў А. І. Шаблоўскі. Акрамя таго, асобныя артыкулы на літару *Ш* уклала Т. М. Трухан. Аўтарам раздзела на літару *С* (*САМА–СУРАПОНЯ*) з'яўляецца Л. П. Кунцэвіч. Матэрыялы на літары *П* (*ПАДЧАРКА–ПОСТ*), *С* (*СУРОВЫ–СЯЧЫ*), *Т* (*Т–ТАК*, *ТРЭСКАТ–ТЭРЦ*), *У* (*У–УНУТРАНАСЦЬ*) падрыхтаваў Ю. В. Маліцкі. Слоўнікавыя артыкулы на літару *Ф*, а таксама *У* (*УНУТРАНЫ–УЮШЧЫ*), *Т* (*ТАКАВІШЧА–ТРЭСАЧКА*) у іх пачатковым варыянце распрацавала Н. М. Бунько, поўнасцю падрыхтоўку дадзеных матэрыялаў да друку ажыццявілі Л. П. Кунцэвіч і В. М. Курцова. Артыкулы на літары *Э*, *Ю*, *Я* зроблены Т. М. Трухан.

Для больш зручнага карыстання матэрыяламі слоўніка «Мова Сенненшчыны» ў гэтым томе, як і папярэднім, паўтараюцца спіс абследаваных населеных пунктаў, сістэма памет і прынятыя скарачэнні.

# Спіс абследаваных населеных пунктаў

| | Населены пункт | Сельскі савет | Год абследавання | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | **Сенненскі раён** | | | | |
| 1 | Алексінічы | Студзёнкаўскі | 1987 | | | |
| 2 | Апечкі | Беліцкі | | | | 1990 |
| 3 | Багданава* | Багданаўскі | 1987 | 1988 | 1989 | 1990 |
| 4 | Багданава[1] | Нямойтаўскі | | | 1989 | |
| 5 | Баравікі | Нямойтаўскі | | 1988 | | |
| 6 | Буй | Нямойтаўскі | | | | 1990 |
| 7 | Вялікі Азярэцк | Багданаўскі | | | | 1990 |
| 8 | Галашчакіна | Беліцкі | 1987 | | | |
| 9 | Гарадзец | Багданаўскі | 1987 | | | 1990 |
| 10 | Гарадок | (страчаная назва) | 1987 | | | |
| 11 | Дольдзева | Багданаўскі | | 1988 | | |
| 12 | Жохава | Какоўчынскі | | 1988 | | |
| 13 | Заазер'е | Багданаўскі | | | 1989 | 1990 |
| 14 | Забор'е | Нямойтаўскі | 1987 | | | |
| 15 | Замошша | Багданаўскі | 1987 | | | |
| 16 | Запруддзе | (страчаная назва) | 1987 | 1988 | 1989 | 1990 |
| 17 | Івоні | Студзёнкаўскі | | | | 1990 |
| 18 | Кавалі | Студзёнкаўскі | 1987 | | | |
| 19 | Каменшчына | Ульянаўскі | | | 1989 | |
| 20 | Канева | Багданаўскі | 1987 | | | |
| 21 | Каралевічы | Багданаўскі | | | | 1990 |
| 22 | Каралі | Беліцкі | 1987 | | | |
| 23 | Карпавічы | Ходцаўскі | | 1988 | | |
| 24 | Кішуроўшчына | Багданаўскі | | | 1989 | |
| 25 | Кляпчэва | Студзёнкаўскі | | | 1989 | |
| 26 | Латыгаль | Беліцкі | | 1988 | | |
| 27 | Леснікі | Багданаўскі | | 1988 | | |
| 28 | Леснікова | Студзёнкаўскі | | 1988 | | |
| 29 | Малы Азярэцк | Багданаўскі | | | 1989 | |
| 30 | Манголія | Беліцкі | 1987 | | | 1990 |
| 31 | Марозаўка | Нямойтаўскі | | | 1989 | |
| 32 | Машчоны | Ходцаўскі | | | | |
| 33 | Міцюкова | Какоўчынскі | | 1988 | | |

* Для адрознення назвы вёскі Багданава Нямойтаўскага сельскага савета ад аналагічнай назвы вёскі Багданавіцкага сельскага савета выкарыстоўваецца надрадковы сімвал. Спасылка на вёску Багданава Нямойтаўскага сельскага савета мае выгляд Багданава[1].

| | Населены пункт | Сельскі савет | Год абследавання | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 34 | Міхнава | Какоўчынскі | | 1988 | | |
| 35 | Мянюцева | Беліцкі | | | | 1990 |
| 36 | Нямойта | Нямойтаўскі | 1987 | 1988 | 1989 | |
| 37 | Падворыца | Ходцаўскі | | | | |
| 38 | Партызаны (Торбінка) | Багданаўскі | | 1988 | | 1990 |
| 39 | Парэчча | Нямойтаўскі | | | | 1990 |
| 40 | Пожанькі | Багданаўскі | | 1988 | | |
| 41 | Пустынкі | Студзёнкаўскі | | | | 1990 |
| 42 | Ракаў Засценак | Нямойтаўскі | | 1988 | | |
| 43 | Рассвет (Чартоўшчына) | Студзёнкаўскі | | | 1989 | |
| 44 | Розмыслава | Нямойтаўскі | 1987 | | | |
| 45 | Рубежніца | Ходцаўскі | | 1988 | | |
| 46 | Рудніца | Багданаўскі | | 1988 | | |
| 47 | Рулёўшчына | Беліцкі | 1987 | | | |
| 48 | Рэчкі | Багушэўскі | | | | 1990 |
| 49 | Савінічы | Студзёнкаўскі | | | 1989 | |
| 50 | Самсоны | Ходцаўскі | | | 1989 | |
| 51 | Свечы | Багданаўскі | 1987 | | | |
| 52 | Серкуці | Нямойтаўскі | | | 1989 | |
| 53 | Станюкі | Беліцкі | | | | 1990 |
| 54 | Старая Беліца | Беліцкі | | | | |
| 55 | Сукрэмна | Нямойтаўскі | 1987 | | | |
| 56 | Сянно | | 1987 | 1988 | 1989 | 1990 |
| 57 | Сяргейкі | Багданаўскі | | 1988 | 1989 | |
| 58 | Турава | Багданаўскі | | | | 1990 |
| 59 | Ульянавічы | Багданаўскі | 1987 | | 1989 | 1990 |
| 60 | Фасаўшчына | Ульянаўскі | 1987 | | | |
| 61 | Хамінічы | Нямойтаўскі | | 1988 | | |
| 62 | Чуцькі | Нямойтаўскі | | | 1989 | |
| 63 | Цясішча | Нямойтаўскі | | | 1989 | 1990 |
| 64 | Яхімаўшчына | Студзёнкаўскі | 1987 | | | |

**Чашніцкі раён**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 65 | Дуброўкі | Альшанскі | 1986 |
| 66 | Закур'е | Альшанскі | 1986 |
| 67 | Неўгадава | Пачаевіцкі | 1986 |

Спіс населеных пунктаў быў складзены Н. В. Сівіцкай, правераны паводле даведніка «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Віцебская вобласць»[1] В. М. Курцовай. Назвы некаторых населеных пунктаў, якія былі перайменаваны, прыводзяцца ў дужках. Тыя населеныя пункты, якія перасталі існаваць, суправаджаюцца запісам *страчаная назва*.

[1] Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Віцебская вобласць: нармат. давед. / У. М. Генкін [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. Мінск: Тэхналогія, 2009.

## Спецыяльныя паметы

адгадка
велікодная гульня
выслоўе
вясельнае пажаданне
дражнілка
жарт
з анекдота
з дзіцячага вершыка
з дзіцячай калыханкі
з дзіцячай лічылкі
з дзіцячай песенькі
з замовы
з казкі
з малітвы
з назіранняў
з падання
з песні
з прыпеўкі
забаўлянка
загадка
звычай
зычэнне
лаянка
павер'е
праклён
прыгавор
прыгаворка
прыкмета
прыпеўка
урочышча

## Прынятыя скарачэнні

*абразл.* – абразлівае
*агульн.* – агульны (назоўнік агульнага роду)
*адкуль-н.* – адкуль-небудзь
*выкл.* – выклічнік
*г. д.* – гэтак далей
*груб.* – грубае
*да т. п.* – да таго падобнае
*дзе-н.* – дзе-небудзь
*дзеепрым.* – дзеепрыметнік
*дзеепрысл.* – дзеепрыслоўе
*дзіц.* – дзіцячае
*ж.* – жаночы род
*займ.* – займеннік
*зак.* – закончанае трыванне
*зб.* – зборны назоўнік
*злучн.* – злучнік
*зневаж.* – зневажальнае
*інш.* – іншае
*іран.* – іранічнае
*куды-н.* – куды-небудзь
*ласк.* – ласкальная форма
*лаянк.* – лаянкавае
*ліч.* – лічэбнік
*м.* – мужчынскі род
*метаф.* – метафарычнае
*мн.* – множны лік
*н.* – ніякі род
*неадабр.* – неадабральнае
*незак.* – незакончанае трыванне
*нескл.* – нескланяльнае
*пад.* – падобнае
*па н. ст.* – па новым стылі
*памянш.* – памяншальная форма
*памянш.-ласк.* – памяншальна-ласкальная форма
*перан.* – пераноснае значэнне
*прым.* – прыметнік
*прыназ.* – прыназоўнік
*прысл.* – прыслоўе
*спец.* – спецыяльнае
*устар.* – устарэлае
*хто-н.* – хто-небудзь і іншыя ўскосныя склонавыя формы займенніка *хто*
*часц.* – часціца
*чый-н.* – чый-небудзь і іншыя ўскосныя склонавыя формы займенніка *чый*
*што-н.* – што-небудзь і іншыя ўскосныя склонавыя формы займенніка *што*
*экспр.* – экспрэсіўнае
*эмац.-ацэн.* – эмацыянальна-ацэначнае
*які-н.* – які-небудзь і іншыя ўскосныя і родавыя формы займенніка *які*
*якія-н.* – якія-небудзь і іншыя ўскосныя склонавыя формы займенніка *якія*
*як-н.* – як-небудзь

## Асобныя сімвалы і знакі

() – заключаюцца словы, якія ўдакладняюць значэнне загалоўнага слова, а таксама варыянты слоў у сінтаксічна і камунікатыўна звязаных адзінках і словы-суправаджальнікі ў фразеалагізмах
○ – абазначэнне састаўнога тэрміна
◊ – абазначэнне фразеалагізма
□ – абазначэнне прыказкі і іншых адметных выслоўяў
<> – пры расшырэнні кантэксту фразеалагізмаў, адметных выслоўяў і іншых афарыстычных адзінак
[] – пры перадачы ўдакладняльнай інфармацыі ці этнаграфічных звестак
(?) – пры меркавальнасці значэння або няўпэўненасці ў ім
/ – пры размежаванні радкоў песні

**ПА, ПУ** *прыназ.* 1. За, з мэтай, у. *Хадзіў па грыбáх.* Міцюкова, Багданава, Рудніца. 2. Па, уздоўж. *Ажны сьлёзы пъкáпаюць, як па вýліцы ідýць дзяўкí.* Ульянавічы. *Хóдзіць боль па ўсім жыватý.* Партызаны. *Выскарадзіцца па бульбóўніку бýльба.* Кляпчэва. *Па цячэ́нію ракí былó, вéрна, тры мéльніцы.* Нямойта. 3. Да пэўнай мяжы. *Па печ атбівáюць.* Марозаўка. *Мáліц нібальшэ́нькій, ёй па плéчы.* Рэчкі. 4. На. *Апéнкі кýчамі пу пнях растýць.* Неўгадава, Вялікі Азярэцк. *Такíя ґузакí натóпчуць грáзі па падлóгі.* Гарадзец. 5. У час. *Па вяснé вóзьміш пъ підзісят зъ пъръсят.* Міцюкова. 6. Праз. *Па мінýці бýдзя ў хáці.* Запруддзе. 7. Пасля. *Усé ўдóвы астáлісь пъ вайнé.* Гарадок. 8. З-за, дзякуючы. *Пу руж'ю спужáўсь.* Рубежніца. *Інá на пéнсіі ўжо па дзіцях.* Запруддзе. 9. З, пры дапамозе, з дапамогай. *Ён дáжа ягó па сóсцы паіў.* Багданава. 10. У адпаведнасці. *У дзягнó соль па ўкýсу.* Дольдзева. 11. Пры ўказанні на размеркаванне. *Пáмітнікі бýдуць стáвіць па іх.* Міцюкова. *Яны́ у бýдзін дзень не бывáюць, а па нядзéлях.* Багданава, Фасаўшчына. 12. Пры ўказанні на падабенства. *Катóрая там, па прырóдзе узнáіш.* Івоні. *А інá уся па бáцьку.* Серкуці.

**ПААБВÓДЗІЦЬ, ПАБВÓДЗІЦЬ** *зак.* Павадзіць, завесці ўсюды. *Алé ш пааб-вóдзюць, пабвóдзюць усю́дъх, у метрó у гэ́та павялí пéрвы рас.* Заазер'е.

**ПААБДЗЁРЦІСЯ** *зак.* Абдрапацца, абадрацца. *Паабдзярýцца дзéці.* Чуцькі.

**ПААБÉДАЦЬ** *зак.* Паабедаць. *Вып'юць, паабéдаюць лю́дзі, танцýлькі адкрыюць.* Нямойта, Леснікі.

**ПААБ'ÉДЗЕНЫ** *дзеепрым.* Абкусаны, аб'едзены. *Даўнéй на пéчах рýкі былí пааб'éдзеныя търъкáнамі.* Запруддзе.

**ПААБÍДЗЕЦЬ** *зак.* Пакрыўдзіць. *Паабíдзеў Бох дачкý: зайшлá дачкá* [замуж], *машы́на зарэ́зала мужукá.* Запруддзе.

**ПААБМЫ́ЦЬ** *зак.* Абмыць, памыць. *Калí паабмы́ю бóты, калí – не.* Леснікова.

**ПААБРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Абрэзаць, абстрыгчы. *Паабрэ́зала въласы́.* Парэчча.

**ПААБСÉСЦІ** *зак.* Паабсядаць. *З вýдачкамі паабсядуць сáжалку: карасéй лóвюць.* Каралі.

**ПААБСЫ́ПАЦЦА** *зак.* Абсыпацца, апасці. *Цвет паабсы́паўся.* Гарадзец.

**ПААБЦÉРЦІСЯ** *зак.* Абцерціся. *Трáвы, што сушы́ла, паабцéрліся.* Багданава.

**ПААДАВÁЦЬ** *зак.* Пааддаваць. *Паадаю́ць дзяцём у дзярéўню, тады́ ужó ім лягчэ́й.* Багданава, Заазер'е.

**ПААДАЛЖЫ́ЦЬ** *зак.* Пазычыць. *Паадалжы́лі дзéнег éтых мне.* Савінічы.

**ПААДБЫ́ЦЬ** *зак.* Адбыць, адслужыць. *Áрмію сыны́ паадбылí і пашлí, яны́ ні хóчуць тут быць.* Рэчкі.

**ПААДДЗÉЛЬНА** *прысл.* Аднаасобна. *А як пааддзéльна жылí, ці лён бярэ́ш, ці лён трэ́піш, лён вытрáпъвала.* Заазер'е.

**ПААД'ÉДЖАНЫ** *дзеепрым.* Ад'едзены, адгрызены. *Паад'éджаныя галóвы ў піскляёнкаў былí.* Ракаў Засценак.

**ПААДЖЫ́ЦЬ** *зак.* Ажыць, вярнуцца да жыцця. *Пааджы́ла ўсё: і птýшачкі, і зямля́ – а сы́на не вéрніш.* Леснікова.

**ПААПСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Абсыпаць. *Мъладýха як ухóдзіць у хáту, усё пъапсы́піць: авёс сы́піць, канхвéты, барáнкі.* Ракаў Засценак.

**ПААПХАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Паабыходзіць. *Ко́лькі я пъапхадзіла ба́бък, дзе я ні была́!* Запруддзе.

**ПААРА́ЦЬ** *зак.* Паараць, узараць. *Лугі́ паара́лі, а се́на німа́.* Забор'е.

**ПААТБАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Выкрышыцца (пра зубы). *Паатбале́лі ўсе зу́бы, а карні крэ́пкія.* Партызаны.

**ПААТВА́ЖЫЦЦА** *зак.* Адважыцца, асмеліцца. *Паатва́жылася ла́ска, пъшла́ к каро́ві.* Міцюкова.

**ПААТКРЫВА́ЦЦА** *зак.* Адкрыцца, паадкрывацца. *Баля́чкі пааткрыва́ліся, гэ́та ні ў яго́ пе́рвага.* Партызаны.

**ПААТМЕ́РЗНУЦЬ** *зак.* Павымярзаць (пра ўсё, многае), вымерзнуць. *Маро́с ста́нець, паатме́рзніць усё, што распукну́лася.* Багданава.

**ПААТМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Вымакнуць, адмокнуць. *Бу́льба паатмя́кла, прыйшло́ся атса́джваць.* Багданава.

**ПААТМЯРЗА́ЦЬ, ПААТМІРЗА́ЦЬ** *зак.* 1. Вымерзнуць. *Паатмірза́ла, німа́ цвятоў.* Вялікі Азярэцк. 2. Адмерзнуць, паадмярзаць. *У ко́зачак ву́шкі паатмярза́лі, я іх – у ха́ту.* Багданава.

**ПААТ'ЯДА́ЦЬ** *зак.* Пааб'ядаць. *І цвету бу́льба ні дала́, паат'яда́лі бу́льбу.* Партызаны.

**ПААЦВІТА́ЦЬ** *зак.* Адцвісці, паадцвітаць. *Кра́скі пааацвіта́лі ўсе.* Сукрэмна.

**ПАБАГАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Пабагацець, стаць багатым. *Ну, ба́ба пабагаце́ла!* Запруддзе.

**ПАБАДЗЯ́ЎКА** *ж.* Непатрэбная, кінутая рэч. *Дзе яка́я пабадзя́ўка – ўся твая́.* Дольдзева.

**ПАБА́ІЦЬ** *зак.* Расказаць. *Яна́ мо́жыць тро́ху што паба́іць.* Івоні.

**ПАБА́ЛАВАЦЬ** *зак.* Разбэсціць. *Гро́шы паба́лавалі людзе́й.* Партызаны.

**ПАБА́ЛІВАЦЬ** *незак.* Пабольваць. *Галава́ паба́ліваіць.* Неўгадава.

**ПАБАМБІ́ЦЬ** *зак.* Разбамбіць. *Дзе лясы́, там пабамбілі ў вайну́, і мно́га пабіла.* Чуцькі.

**ПАБАРАБА́НІЦЬ** *зак.* Пабарабаніць, пастукаць. *У вакно́ пабараба́ню: «Хадзіце ў ха́ту!»* Нямойта.

**ПАБАЯВЕ́ЦЬ** *зак.* Паразумнець. *Я пабаяве́ю ро́зумам, паступлю́ вучы́цца.* Партызаны.

**ПАБЕ́ГАЦЦА** *зак.* Пабегаць, пакрыцца (пра карову, казу). *Злуча́ла ко́зачку, а яна́ не пабе́галася.* Багданава, Парэчча.

**ПАБЕ́ГЧЫ** *зак.* Пацячы. *А як пацісніш, гной аш пъбяжы́ць.* Станюкі.

**ПАБЕДАВА́ЦЬ** *зак.* Пабедаваць, пагараваць. *Пасядзіш, папла́чаш, пабяду́іш, – а што рабі́ць.* Багданава.

**ПАБЕЛЯ́НЫ** *дзеепрым.* Пакрыты знутры палудай. *Купля́лі чугуны́ пабеля́ныя.* Гарадзец.

**ПАБІРА́ЦЬ** *незак.* Пабраць, выбраць (жонку). *І сыны́ пабіра́лі ла́дных, пънра́віліся і бяры́ця, кажу́.* Багданава.

**ПАБІ́ТЫ** *дзеепрым.* 1. Пабіты, разбіты. *Като́ры шупшы́ць гаршо́к, той пабіты.* Багданава. *У цябе́ вакно́ пабі́таё.* Вялікі Азярэцк. 2. Адзначаны. *Ве́рсты былі пабі́тыя, стая́лі слупы́.* Алексінічы. *У бязьме́на пабі́тыя то́чкі, значкі такія, ту́тачкі.* Вялікі Азярэцк. 3. Перагароджаны. *На засе́кі пабі́та: жы́та, авёс там, пшаніца.* Вялікі Азярэцк.

# П

**ПАБІ́ЦЦА** *зак.* Разбіцца. *У ра́мцы пабі́лъсь шы́біна.* Запруддзе.

**ПАБІ́ЦЦЯ** *н.* Абіўка. *Гроп, пабі́ццяя до́рага стóіла?* Буй.

**ПАБІ́ЦЬ** *зак.* Забіць. *Як прыéхалі нéмцы рас, чуць не пабі́лі нас.* Партызаны.

**ПАБІ́ЦЬ** *зак.* Пасекчы, пакалоць. *Пабі́ ты мне дрóвы.* Багданава, Запруддзе, Рулёўшчына, Чуцькі.

**ПАБЛІ́ЗАСЦІ** *прысл.* Паблізу. *Паблі́зъсці збі́ралі дурні́цы, быль яны́ ў Я́нкувым імху́.* Гарадзец.

**ПАБЛЮСЦІ́** *зак.* Паберагчы. *Увíдзіш бървíкі, ду́мыіш: хай паблюду́, а яны́ ні расту́ць, сідзя́ць къла зéмлі, такі́мі, які́мі я іх ба́чыла.* Партызаны.

**ПАБО́ЛІ** *прысл.* Больш. *Як грыбы́ зъса́лююць, то со́лі сы́плюць што пабо́лі.* Дольдзева, Запруддзе.

**ПАБО́ЛЬШАЦЬ** *зак.* Падрасці. *Хоць бы дзéці тро́ху пабо́льшалі.* Алексінічы, Запруддзе, Партызаны, Серкуці.

**ПАБРА́ДЗЕНЫ** *дзеепрым.* Падабраны. *І гарля́нты стъя́ць на гълавé, і цвято́чкі, і фата́ пабра́дзена.* Заазер'е.

**ПАБРАХА́ЦЦА** *зак. эмац.-ацэн.* Пасварыцца. *Пъбръха́ліся, як съба́кі.* Серкуці.

**ПАБРА́ЦЬ** *зак.* Забраць, узяць. *Прыéхаў зяць на машы́ні і пъбра́ў усі́х тут нъ пъхаро́ны.* Партызаны, Заазер'е, Манголія, Фасаўшчына. ◊ ПАБРА́ЦЬ КРО́ШКІ. Быць вельмі падобным да некага. *Усé кро́шкі з яго́ пабра́ў.* Запруддзе.

**ПАБРУШНЕ́ЦЬ** *зак.* Патаўсцець, паправіцца. *Дзе́ўка пабрушнéла, патаўсцéла.* Савінічы.

**ПАБРЫ́ГАЦЬ** *зак.* Рэдка падаць (пра снег). *Сёліта снéгу ў нас ма́ла, пабры́гъіць тро́ху, а тады́ шчэ.* Міцюкова.

**ПАБУЛЁНІЦЬ** *зак. экспр.* Парэзаць. *Пабулёніць бу́льбу ў баразнé.* Дуброўкі.

**ПАБУЛТА́ЦЬ** *зак.* Памахаць, патрэсці. *Пабулта́еш руку́, пакалы́шаш і далéй жнеш.* Цясішча.

**ПАБУНТАВА́ЦЦА** *зак.* Пераблытацца. *Сёліта пабунтава́лася, калі́ якóе свя́та.* Багданава.

**ПАБУРЫ́ЦЬ** *зак.* Пабурыць, разбурыць. *Снех як пайшо́ў мно́га, так пабуры́ў дама́.* Багданава, Алексінічы, Леснікова.

**ПАБУТНЕ́ЦЬ** *зак.* Спарахнець. *Яно́ пабутнéіць, злёжыцца і прападзéць.* Запруддзе.

**ПАБУ́ХАЦЬ** *зак.* Пабухаць, пастукаць. *Пабу́хаў у дзвéры і пайшо́ў.* Гарадзец.

**ПАБЫ́ЦЬ** *зак.* Пабыць, пастаяць. *Пабыла́ бо́сымі нъга́мі ў вадзé, застудзі́лъся.* Запруддзе.

**ПАБЯДНЕ́ЦЬ** *зак.* Пабяднець. *Ці пабяднéю я ці не?* Нямойта.

**ПАБЯСЕ́ДАВАЦЬ** *зак.* Пагаварыць. *Яны́ ся́дуць, пъбясéдуюць.* Вялікі Азярэцк.

**ПАБЯСІ́ЦЦА** *зак.* Здурнець, разбэсціцца. *Пабясі́ўся наро́д: чуць свет заска́каваюць два мальчакі́ ў абшчажы́ція: вéшчы залаты́я дава́й.* Нямойта.

**ПАБЯСЦІ́ЦЬ** *зак.* Паабяцаць. *Пъбясці́лі дъба́віць пéнсіі на дзéсяць рублёў.* Нямойта.

**ПА́ВА** *ж. эмац.-ацэн.* Пра прыгожую жанчыну. *А Цярэ́шчыха, сасéтка мая́, надзéла пла́цце, сядзі́ць – па́ва!* Запруддзе.

**ПАВАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Павадзіць. *Ку́рыца павадзі́ла дзве нядзéлі і кі́нъла.* Каралевічы.

**ПА́ВАДКІ, ПАВО́ДКІ, ПА́ВАТКІ** *мн.* Паводка. *Вада́ вісно́ю у нас ішла́, як па́ваткі. А па́вадкі, разлі́лася вада́. А вясно́й, як паво́дкі, у раку́ ука́чвалі лес.* Серкуці.

**ПАВАЖА́ЦЬ** *незак.* Паважаць. *Цяпе́р стары́х ні пъвъжа́юць.* Гарадзец.

**ПАВА́ЖНА** *прысл.* Павольна, важна. *Іду́ так пъва́жна, ціха.* Станюкі.

**ПАВА́ЖЫЦЬ** *зак.* Узважыць. *Ён пъва́жыць, пъва́жыць і занясе́.* Буй.

**ПАВАЛАЧЫ́** *зак.* Павалачы. Сянно.

**ПАВАЛІ́ЦЦА, ПУВАЛІ́ЦЦА** *зак.* 1. Упасці. *У гълаве́ зьдзе́лълася кружэ́нне, і пуваліласся с пълка́.* Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Леснікова, Міцюкова. 2. *перан.* Памерці. *Я прашу́, кап хъдзя́чъя пъваліл́ъся.* Мянюцева.

**ПАВАРАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Пашаптаць. *Дзед павараж́ыў яму́, а ён трах – і засну́ў. Су́ткі спаў, уста́ў – і харо́ш.* Запруддзе.

**ПАВАРО́Т** *м.* Паварот. *Хат во́сім на́да праехаць ат паваро́та.* Карпавічы.

**ПАВАРО́ЧВАЦЦА** 1. *незак.* Паварочвацца, варочацца. *Пъваро́чваецца як мядзве́дзь.* Серкуці, Дольдзева. 2. *зак.* Вярнуцца. *Чо́ран во́ран пъхапа́ець мушчы́н, яны́ ш і не пъваро́чваліся.* Станюкі.

**ПАВЕ́РХУ, ПО́ВІРХУ** *прысл.* Зверху, паверх. *Ім малака́ плікне́ш паве́рху.* Каралевічы. *Бу́льбу як къпа́лі, то събіра́лі по́вірху.* Леснікова. *Ла́скі по́вірху пъ каро́ві по́ўзъюць.* Нямойта.

**ПАВЕ́СІЦЦА** *зак.* Павесіцца. *Ах, кап ты паве́сіўся!* (праклён). Партызаны.

**ПАВЕ́СМА** *ж.* Мера льновалакна. *Со́рак жмень – паве́сма льну.* Вялікі Азярэцк. *Паве́сма – жмень па пяцьдзеся́т ці шэ́сцьдзесят.* Гарадзец.

**ПАВЕ́СЦІ** *зак.* Павесці. *На́шча павіла́ спавіда́ць.* Багданава. ◊ ПАВЕ́СЦІ МА́СЛІНКУ. Хадзіць на Масленіцу па вуліцы, співаючы масленічныя песні. Закур'е.

**ПАВЕ́Т** *м.* 1. Навес. *Выцягнулі, пад паве́там палажы́лі, і ніхто́ ні аджы́ў.* Запруддзе. 2. Паветка, павець. *Цэ́лы паве́т дзе́ці надзяру́ць лазы́ і прадава́лі: го́ра было́.* Запруддзе.

**ПАВЕ́ТКА** *ж.* Паветка, павець. *Дзе́лалі паве́тку, пад ёй се́на. Пайшо́ў пад паве́тку.* Вялікі Азярэцк.

**ПАВЕ́ТРА** *ж.* Паветра. *Пчо́лы но́сяцца ў паве́тры.* Кляпчэва.

**ПАВЕ́ЦЬ** *ж.* Павець. *Паве́ць – кла́сці се́на, дро́вы, пат кры́шай.* Заазер'е. *Пат паве́цццю се́на.* Вялікі Азярэцк. *Во́сем дзяце́й, надзяру́ць* [лазы], *паве́ць лазы́ нанясу́ць.* Запруддзе, Міцюкова, Чуцькі.

**ПАВІ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Пабачыць. *Каб вы паві́дзелі, як ля́лькі, уну́кі.* Баравікі.

**ПАВІЛІ́ЦА, ПУВІЛІ́ЦА** *ж.* Павітуха (расліна). *Павілі́ца така́я, ўе́цца, ліпу́чая.* Заазер'е, Савінічы. *Пувілі́ца бе́лым цвіці́ць.* Жохава.

**ПАВО́ДЗІЦЬ** *незак.* Паводзіць сябе. *Яны́ о́чэнь культу́рна паво́дзяць.* Партызаны.

**ПАВУЕ́ТУЛЬ** *прысл.* Пагэтуль, дасюль. *Павуе́туль пратэ́з здзе́лалі.* Запруддзе.

**ПАВУ́К** *м.* 1. Павук. *Павуко́ў не на́да біць.* Каралевічы. *Паву́к кро́сны снуе́ць.* Вялікі Азярэцк. *Як паву́к спу́сціцца – но́васць* (прыкмета). Багданава. *Паву́к павучы́ну ўецць, дро́бных дзе́тък прызаве́ць.* Сукрэмна. ПАВУЧО́К *памянш.-ласк. Павучо́к-павучо́к, ты мне но́вась прынёс: як до́бруюу – уве́рх, плаху́ю – на ніз* (прыгаворка). *А ён мне – бэх на грудзь.* Каралевічы. 2. Саламяны выраб, які вешалі на столь. *Ра́ньшы дзе́лалі с сало́мы павукі́, паве́сіш сяро́т ха́ты, ён кру́ціцца.* Ракаў Засценак.

**ПАВУ́МЕРЦІ** *зак.* Памерці. *Сын шэсць лет паву́мер.* Цясішча.

**ПАВЫ́БЕЛІЦЬ** *зак.* Павыбельваць, выбеліць. *Павы́беліла палатно́.* Цясішча.

**ПАВЫБІРА́ЦЬ, ПАВЫ́БРАЦЬ** *зак.* Павыбіраць. *І до́чкі, і сыны́ павыбіра́лі са́мі* [мужоў і жонак]. Багданава. *І так ве́чарам усё павы́бралі. Лу́ччых павы́бралі, а мне што засталóся.* Запруддзе, Ульянавічы.

**ПАВЫ́БРАСІЦЬ** *зак.* Павыкідаць, выкінуць. *Павы́брашу я́блыкі, а дзе іх дзець?* Кляпчэва.

**ПАВЫ́ВЕЗЦІ** *зак.* Павывозіць. *Хто зь бе́рагу, той павы́везлі* [карчы]. Буй, Івоні.

**ПАВЫ́ВЕРНУЦЬ** *зак.* Пакруціць. *Ма́тка кале́ка, трасе́цца, ру́кі ей павывернула.* Запруддзе.

**ПАВЫ́ВЕСЦІ** *зак.* Павыводзіць (пра ўсіх, многае). *На Купа́лу карóў павы́велі, папрывя́звалі.* Партызаны.

**ПАВЫ́ВЕСЦІСЯ** *зак.* Вывесціся (пра птушак). *Павы́веліся, павы́лезлі верабе́йкі.* Ракаў Засценак.

**ПАВЫ́ГНАЦЬ** *зак.* 1. Павыганяць. *Карóў з сара́ю павы́гналі, папрывя́звалі па ву́ліцы.* Каралевічы, Партызаны. 2. Выгнаць. *Іх усіх павы́гналі, паме́шчыкаў.* Ракаў Засценак.

**ПАВЫ́КРУЦІЦЦА** *зак.* Выкруціцца (пра ўсіх, многае), увільнуць. *Мушчы́ны ўсе павы́круцяцца ад рабóты дóма.* Гарадзец.

**ПАВЫ́МАЦЬ** *зак.* Павымываць (пра ўсё, многае). *Усё бува́лашняе, тка́нае, павы́малі.* Алексінічы.

**ПАВЫ́СЦІРАЦЬ** *зак.* Павымываць (усё, многае). *Ба́ню тóпіць, усё павы́сціраіць.* Жохава. *Я сабяру́ і павы́сціраю вам.* Нямойта.

**ПАВЫ́ТАЧЫЦЬ** *зак.* Павыточваць, нарабіць дзірак. *Бярóзе на тры́ста гадóў, ка́жуць, дуплó чарвятóчына павы́тачыла.* Каралі.

**ПАВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Павярнуцца, нядоўга пабыць. *За́йдуць – паве́рнацца – і пайшлі.* Нямойта.

**ПАВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Рэзка змяніць (жыццё). *Ён так рэ́зка паъвярну́ў: жóнку кінуў, дачку́, злюбі́ўся з другéй.* Каралевічы.

**ПАВЯ́ТЫ** *дзеепрым.* Вялы, падвялы. *Пъвя́тая кукуру́за ляжы́ць.* Запруддзе.

**ПАГАДАВА́ЦЬ, ПУГУДАВА́ЦЬ** *зак.* Пагадаваць, выхаваць. *Паўтара́ гóда пагадава́ла ма́льчыка і паме́р.* Багданава. *Як пъчалі каці́цца – шэсць дзяцéй пугудава́ла.* Баравікі. *Цётка пугудава́ла ягó, з а́рміі – к цётцы.* Міцюкова.

**ПАГІБА́ЦЬ** *незак.* Паміраць. *Што ш на́да пагіба́ць, ня е́ўшы?* Станюкі.

**ПАГЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* ◊ ПАГЛА́ДЗІЦЬ ПА ШЭ́РСЦІ. Пахваліць, ва ўсім дагадзіць каму-н. *Па шэ́рсці пъгла́дзіла, то ста́ла ла́скува.* Сянно.

**ПАГНА́ЦЬ** *зак.* Пагнаць. *А то яé німа́ – пагна́лі. Адгэ́туль пагна́лі па дзярэ́ўні людзéй.* Леснікова.

**ПАГНІ́ЦЬ** *зак.* Пагнісці. *Во зальéць, так мóжыць на ніза́х пагні́ць.* Запруддзе. *Наваі на ха́це ёсць, а ставóў німа́, пагнілі.* Багданава.

**ПАД, ПАДА** *прыназ.* 1. Пад, каля (пры ўказанні на месца). *Е́халі пад гару́шку, і ава́рыя ста́ла.* Неўгадава, Багданава, Вялікі Азярэцк, Свечы. *А чый-та лён пад балóтам?* Нямойта. *Пад лóжачкай балі́ць.* Багданава, Гарадзец. 2. Да (пры абазначэнні месца, прасторы, да якіх накіроўваецца хто-, што-н.). *Та́нічка, падóйдзіш пъд мяне́?* Сянно. *Пайду́ пат карóў, у ле́сі па́сьцім.* Заазер'е. *А тут пъд нас машы́на падышла́.* Багданава. *Абы́ тóлькі пад яé, дык іна́* [курыца] *ляці́ць нівядóма куды́.* Вялікі Азярэцк, Савінічы. 3. Каля (перад сабою, блізка). *Ён пад сябе́ віdзіць.* Міцюкова. 4. Па, згодна, у адпаведнасці. *Бу́дзіць дъва́цца мъкарóн пад нóрму.*

Серкуці. 5. Пад (пры абазначэнні музычнага інструмента, на якім акампануюць). *Ён пъдъ скрыпку играў.* Чуцькі.

**ПАДАБА́ВІЦЬ** *зак.* Дабавіць. *Калхóз пабóлій падабáвіў пéнсіі.* Чуцькі.

**ПАДАБА́ЦЬ** *незак.* 1. Упадабаць. *Што ў нáшым мъгазіні пъдабáлі?* Багданава. 2. Падабацца. *Пъдабáіць маладýха – пайдзёць зáмуш.* Станюкі.

**ПАДАБЕ́ДАВАЦЬ** *незак.* Есці, палуднаваць. *Падабéдаваць бýдзім.* Багданава, Гарадзец.

**ПАДАБЕ́ДАК** *м.* Полудзень. *Падабéдак мінýт двáццаць.* Багданава.

**ПАДАБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Чыста выграбці (пра сена). *Гръблямі пъдбярэш узмéжжа.* Фасаўшчына. 2. Выбраць. *Нікáк ня мóгыць падабрáць* [жонку], *змянілі ямý, алé нáйдзіць.* Леснікі.

**ПАДАВА́ЦЦА** *незак.* Паддавацца, касіцца. *Свіннýха не дýжа падаéцца ў касý, дýжа сліская.* Партызаны.

**ПАДАВА́ЦЬ** *зак.* Пааддаваць, падарыць. *Дачкáм пъдавáл, а сыну не дал зóлата.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДАВА́ЦЬ** *незак.* Ставіць на стол. *Як жалóбны стол, то бáбы скъзáлі: «Пъдавáй вадý на стóл», – то ўсе выхóдзюць.* Закур'е.

**ПАДАВІ́ЦЦА** *зак.* Падавіцца. *Кап ты падавіўся!* (праклён). Багданава.

**ПАДАВІ́ЦЬ** *зак.* Пацiскаць. *Бáцька пацíскаў къбанá, падавіў зáўшыцу, кабáн выздаравеў.* Савінічы.

**ПАДАГАНЯ́ЦЬ** *зак.* Дагнаць. *Мушчыны кінълі бірдáнкі і пъдъгънялі сваé сéм'і ў лéсі.* Гарадок.

**ПАДАГРЭ́ЦЬ** *зак.* Падагрэць. *Пайдý, падагрэю на газý.* Нямойта.

**ПАДАДА́ЦЦА** *зак.* Удавацца, урадзіцца. *Калí пададýцца, гърбузы растýць бальшэя.* Гарадзец.

**ПАДАЗРЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Западозрыць. *Ягó падазрылі, што ат парцізáн, і забілі.* Чуцькі. 2. Выявіць. *Ні пъдазрылі, каб бальнэй быў.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДАІ́ЦЬ** *зак.* Падаіць. *Прышлá дамóў, павячэрала, карóву падаіла, усё, што нáды былó, здзéлала.* Заазер'е, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Сянно.

**ПАДАКЕ́НАК** *м.* Падаконнік. *Пъдакéнкі з дýба дзéлылі, а цяпéр с сасны пъдакóннікі.* Латыгаль.

**ПАДАКЕ́НКА, ПАДАКО́НКА** *ж.* Тое ж. *Падакéнкі ў вóкнах, лýткі, шáпка.* Дольдзева, Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Серкуці. *Падакóнка у вакнé, абсáда.* Савінічы.

**ПАДАКЕ́ННІК** *м.* Тое ж. *Падакéннік – пад акнóм.* Гарадзец.

**ПАДАКЕ́НЦА** *н.* Тое ж. *Падакéнца пабяліла, лýткі.* Каралі.

**ПАДАКО́ННІЦА, ПАДАКО́НІЦА** *ж.* Тое ж. *Гэта лýткі, а гэта падакéнка, унізу ляжыць, падакóнніца.* Фасаўшчына. *Лýткі, падакóніца ў вóкнах.* Буй.

**ПАДАКУ́ЧВАЦЬ** *незак.* Акучваць, абганяць. *Бýльбу пъдакýчваць нáда.* Міцюкова, Розмыслава.

**ПАДАЛЕ́ХАВІК, ПАДАЛЬХО́ВІК, ПАДАЛЕ́ХУВІК** *м.* 1. Польскі грыб. *Падалéхавікі – карычневыя адварóты. Падалéхавікі карычневыя.* Каралі. *Пъдалéхувік ръспусціўся* [вырас]. *Пъдальхóвікі высідáюць.* Сянно. 2. Свінуха тоўстая і тонкая (грыб). *Пъдальхóвікі – з'ядóмыя грыбы, іх брáлі і варылі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДАЛЕ́ШКА** *ж.* Млечнік мокры сінеючы (грыб). *У пъдалéшкі сівéнькі верх, гóркі смак, малакó.* Серкуці. *У нас яны пъдалéшкі завýцца.* Баравікі.

**ПАДАЛЕ́ШНІК** *м.* Свінуха тоўстая і тонкая (грыб). *Пъдалешнікі жоўціенькія, іх капыцікамі завуць.* Кавалі, Міцюкова.

**ПАДАЛІ́ЦЬ** *зак.* Заліць вадой. *Балота падалілі, ня улезіш у какошнік.* Чуцькі.

**ПА́ДАЛЬ** *ж.* Смурод, непрыемны пах. *Як якую падаль чуіш, нільзя плявайць, а то ў рабёнка з рота будзе пахніць* (павер'е). Багданава.

**ПАДАПЛЕ́КА** *ж.* Падпорка. *Падаплека стáвіцца, кап съпраціўленне было, кап не навалілася.* Вялікі Азярэцк. *Падаплека у сцяну і ў бальку.* Гарадзец.

**ПАДАРАЖЭ́ЦЬ** *зак.* Падаражэць. *Уся адзёжа падаражэла.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Буй, Івоні.

**ПАДАРО́ЖНІК** *м.* Трыпутнік (расліна). *Падарожнік нада сушыць, а патом завáрываць.* Гарадзец, Багданава.

**ПАДАРЭ́ХАВІК** *м.* 1. Махавік зялёны (грыб). Старая Беліца. 2. Польскі грыб. *Пъдарэхавік у арэшніку расцець і пъ бару.* Сукрэмна, Вялікі Азярэцк, Дуброўкі. *Падарэхъвік такей жуўтлявый, і ніс такей сáмы. Яго як возьмеш, так пъчарнеіць.* Сянно.

**ПАДАРЭ́ШНІК** *м.* Падмалочнік (грыб). *Падарэшнікі ні бяром.* Сяргейкі.

**ПАДАСІ́НАВІК** *м.* Падасінавік (грыб). *Падасінавікі, лісічкі пайшлі.* Партызаны, Багданава, Каралі, Пожанькі, Старая Беліца, Закур'е.

**ПАДАСЛА́ТЫ** *дзеепрым.* Падасланы, зроблены. *Трэба, штоп пъдъслата було пат стох.* Леснікова.

**ПАДАСЛА́ЦЬ** *зак.* Наслаць з дапамогай чараў. *Чъраўніца лягушку пъдашлець.* Гарадзец.

**ПАДА́ТАК** *м.* Падатак. *Мужык судзём быў, падаткі сабіраў.* Нямойта.

**ПАДА́ЦЦА** *зак.* 1. Паехаць. *Дзяцей на калёсы – і пъдаліся ў лес.* Леснікова. 2. Паступіць вучыцца. *Не прайшоў у інстытут, так у цехнікум пъдаўся.* Заазер'е. *Сын падаўся туды вучыцца.* Малы Азярэцк, Партызаны.

**ПАДА́ЦЦА** *зак.* Падацца, здацца. *Разумны ўжо, пъдалося яму.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДА́ЦЬ** *зак.* Заявіць. *Ён пъдаў на людзей заяўлення, што с парцізáнъмі яны.* Партызаны.

**ПА́ДАЦЬ** *незак.* Падаць, валіцца. *Кружэнне ў мяне дзелаіцца, і падаю.* Багданава.

**ПАДБА́ЛАШНЫ** *прым.* Падбалечны, які знаходзіцца пад бэлькай. *Вянец пъдбалашны у чашку рубліны.* Мянюцева.

**ПАДБАРО́ДАВІЧ** *м.* Падбародак; пухліна. *Як укусіла яго паросная вужака, апох, падбародавіч з'явіўся, узялі трынаццаць вод, трынаццаць вужачонкаў было.* Багданава.

**ПАДБАРО́ДАК** *м.* Тое ж. Багданава.

**ПАДБЕ́Л** *м.* Горкі грыб, які соляць на зіму. *Падбел пад альхой расцець, кучымі, ні чарвівіць, іх атвáрыюць і солюць.* Баравікі.

**ПАДБЕ́Л**, **ПАТБЕ́Л** *м.* Падбел, крываўнік (расліна). *Падбел – горкая трава, бывала жнеш, і яна пъпадаецца. Падбел, а хто завець падліснік.* Буй, Кавалі, Заазер'е. *Падбел дужа харашо ат мачавога пузыра, розавы – жэнскі, а беленькі – мужчынскі.* Запруддзе. *Патбел ат жалудка п'юць.* Каралі.

**ПАДБЕ́ЛА** *ж.* Тысячаліснік (расліна). *Мы завём падбела, тысячаліснік.* Серкуці. *Ці піла падбелу?* Сянно. *П'юць настойку ат грудзей, як у грудзях якія болі.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец.

**ПАДБІВА́ЦЦА** *незак.* Прыбівацца знізу. *Пад ніс падбіваліся падоскі жалезныя.* Гарадзец.

**ПАДБІВА́ЦЬ** *незак.* Раўняць. *Сало́му шчо́ткай падбіва́лі. Падаб'е́ш ро́ўна* [салому], *сальёцца, як адна́ сало́ма* [на страсе]. Багданава, Дольдзева. *Падбіва́лі страху́, як кры́лі, была́ такая шчо́тка з зу́бчыкамі.* Гарадзец.

**ПАДБІВА́ЦЬ** *незак.* Утоптваць. *Карму́шка каро́ві, штоб ні пъдбіва́ла пад но́гі.* Каралевічы.

**ПАДБІГА́ЦЬ** *незак.* Падбягаць. *Дзе́ці падбіга́юць, пъмъга́лі лён біць.* Запруддзе.

**ПАДБІРА́НЫ** *дзеепрым.* Вытыканы з узорамі. *Ска́церць падбі́раная. Падбі-ра́лі, сце́люць на Па́сху, на магі́лкі.* Запруддзе, Багданава.

**ПАДБІРА́ЦЦА** *незак.* Дасягаць пэўнага ўзросту. *Пат дзе́ўкі ўжэ падбіра́ліся.* Неўгадава.

**ПАДБІРА́ЦЬ** *незак.* Вытыкаць узор. *Ба́бы тка́лі, а я узо́р бра́ла, а дачка́ узо́р падбіра́ла.* Заазер'е.

**ПАДБІ́ТЫ** *дзеепрым.* Падбіты, абшыты. *Дзе пато́ркніш, калі́ сто́ля падбі́та* [дошкамі]. Карпавічы.

**ПАДБІ́ЦЦА** *зак.* Стаміцца, натрудзіць ногі. *Набі́ў но́гі, падбі́ўся.* Дольдзева, Запруддзе.

**ПАДБЛІЖА́ЦЦА** *незак.* Набліжацца, падыходзіць бліжэй. *Падбліжа́йцісь з тубарэ́ткамі к сталу́.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДБЛІ́ЖЫЦЦА** *зак.* Наблізіцца, падысці. *Падблі́жся сюды́.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДБРУ́ШША** *н.* Падбрушша, падчарэўе. *Падбру́шша ста́ла чо́рнае.* Нямойта.

**ПАДБРЫ́К** *м.* Падвох, выбрыкі. *Усё з падбры́кам у яе́.* Нямойта.

**ПАДБРЫ́КАЦЬ** *незак.* Падбрыкваць. *Падбры́къюць ціля́ты.* Запруддзе.

**ПАДБЯРО́ЗАВІК** *м.* Падбярозавік, абабак (грыб). *Падбяро́зъвікі расту́т пъд бяро́зъмі, у іх бе́ліенькіі но́шкі, яны́ ўку́сныі.* Карпавічы, Каралі. *Пъдбяро́завік – у яго́ то́ўстъя но́шка, а ша́пка шэ́рынькая.* Пожанькі, Сянно.

**ПАДВА́ЖЫЦЬ** *зак.* Прыпадняць падчапіўшы. *Пъдва́жылі вагой корч.* Нямойта.

**ПАДВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Паваліцца. *Хвата́й, паку́ль не по́зна, ма́льца, а то я пъд-валю́ся.* Нямойта.

**ПАДВАЛО́КА** *ж.* Невялікі невад; падвалока. *Падвало́кі былі́ – се́ці таке́я, не́вад зімо́й, ле́тняя – падвало́ка.* Самсоны.

**ПАДВАРА́ЧВАЦЬ** *незак.* Падварочваць. *Грабля́мі се́на падвара́чвалі.* Багданава.

**ПАДВАРО́ТНІЦА** *ж.* Дошка, якой закрываюць шчыліну паміж варотамі і зям-лёй; падваротніца. *Варо́ты ў нас, падваро́тніцу кла́лі.* Вялікі Азярэцк, Леснікі, Марозаўка.

**ПАДВЕ́Й** *м.* 1. Віхор. *Падве́й – віхо́р, как начнёт круці́ць.* Запруддзе. 2. Хва-роба, якая здараецца, калі прахопіць скразняком. *Спъръльюзава́на – гэ́та падве́й.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДВЕ́СЦІ** *зак.* Падвесці, дапамагчы дайсці. *Я не магу́ падве́сці.* Міцюкова.

**ПАДВІРА́ЦЬ** *незак.* Падплятаць. *Пъдвіра́юць ла́пці вяро́ўкъй.* Дольдзева. *А тады́ ла́пці пъдвіра́іш, увыя́мі, падві́ркъм.* Самсоны.

**ПАДВО́ДА** *ж.* Запрэжаны воз, калёсы; падвода. *Конь і калёсы, конь і са́нкі – гэ́та называ́ецца падво́да.* Гарадзец, Ульянавічы.

**ПАДВО́ДЗІЦЬ** *незак.* Падводзіць. *Пъдво́дзіць збо́ку: «Гэ́та я, злы́дня твая́».* Вялікі Азярэцк.

**ПАДВО́ЕНЫ** *прым.* Падвойны, двайны (пра вокны). *Цяпе́р падво́еныя во́кны, а ране́й адзіно́чкі анны́ былі́.* Заазер'е, Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Каралевічы, Каралі, Леснікова, Серкуці.

**ПАДВО́ЗІЦЬ** *незак.* Падвозіць. *Като́рыя корм падво́зюць, тым дава́лі калёсы.* Чуцькі.

**ПАДВО́ЙНЫ** *прым.* Падвойны, двайны (пра вокны). *Сёліта я і во́кна ні атніма́ла, падво́йныя.* Заазер'е.

**ПАДВО́ШЧЫК** *м.* Падвозчык. *У падво́шчыкаў къня́ ця́шка ўзяць.* Заазер'е.

**ПАДВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Падвярнуць. *Ёлку апсяку́ць, падве́рнуць.* Каралевічы. 2. Пакруціць. *Кап табе́ падвярну́ла ру́кі-но́гі!* (праклён). Вялікі Азярэцк.

**ПАДВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Выліць. *Мълька́ пъд бярно́ пъдвярну́ла.* Міцюкова.

**ПАДВЯСНЫ́** *прым.* Падвесны, падвешаны. *Падвясна́я лю́лька была́, патчэ́пліна на вяро́ўках.* Запруддзе.

**ПАДВЯЧО́РАК** *м.* Лёгкае перакусванне перад вячэрай; падвячорак. *Пъдвячо́рък перад вячэ́рай, садзя́цца есць, што ёсь у кърма́ні.* Багданава, Заазер'е, Чуцькі.

**ПАДВЯЧО́РКАВАЦЬ** *незак.* Падвячоркаваць, падсілкоўвацца. *Жнем, жнем, а тады́* [мы] *жнеі падвячо́ркуім тро́ху.* Заазер'е. *Падвячо́ркаваць вы́рвеш турнэ́псіну.* Чуцькі.

**ПАДГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Акучваць, абганяць. *Бу́льбу пъдганя́юць по́слі абе́да, тады́ ні лума́іцца каліу́я.* Самсоны.

**ПАДГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Шчыльна класці. *Засе́кі дзе́лалі, браўно́ к браўну́ пъдгъня́лі пло́тна.* Гарадзец, Серкуці.

**ПАДГА́РЛЯ, ПАДГА́Р'Я** *н.* Скура пад горлам у жывёлы. *У каро́ў у некато́рых вісі́ць падга́рля.* Серкуці. *У каро́вы э́та падга́р'я.* Марозаўка, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Парэчча.

**ПАДГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Падгледзець, падцікаваць. *Уся́к жа быва́іць: падгле́дзіць і ўкра́дзіць.* Заазер'е, Дольдзева.

**ПАДГЛЯ́ДАЦЬ, ПАДГЛІДА́ЦЬ** *незак.* 1. Выглядаць, цікаваць. *Што ты падгля́даеш, як кот мыш.* Вялікі Азярэцк. 2. Выбіраць, браць мёд у пчол. *Падгліда́ць пчол трэ́ба.* Міцюкова.

**ПАДГЛЯ́ДЫВАЦЬ** *незак.* Паглядваць. *Іду́ надо́зыр, то́лькі пъдгля́дываю.* Гарадзец.

**ПАДГНІ́ЦЬ** *зак.* Падгніць. *Када́ пень падгніе́ць.* Рэчкі.

**ПАДГО́Р'Я** *н.* Месца на схіле гары вышэй падэшвы. *Тут падго́р'я, а там гару́шка ўжо.* Гарадок.

**ПАДГРО́Б** *м.* Грузд (грыб). *Падгрёбы – яны́ го́ркіі, іх атва́рыш.* Карпавічы.

**ПАДГРУНІ́ЦЬ** *зак.* Угаварыць. *Та́я зноў падгруні́ла зуб вы́рваць.* Нямойта.

**ПАДГУЛЯ́ЦЬ** *зак.* Пагуляць, весела правесці час. *П'ець і лю́біць падгуля́ць.* Запруддзе.

**ПАДДА́ЦЦА** *зак.* Паддацца, уступіць. *Я была́ пра́ма брат тра́ктару, ніво́днаму мушчы́ну па сіле ні падда́мся.* Заазер'е. *Запяю́, не падда́мся салаў́ю.* Дуброўкі.

**ПАДДА́ЦЬ** *зак.* 1. Дапамагчы падняць. *Ён нам мяшкі́ пъдда́ў на плёчы, і мы пашлі́.* Гарадок. 2. Падкінуць. *Ён мя́чык пъддае́ць, а я б'ю, і ён ляці́ць у по́ля.* Запруддзе. 3. Прыбавіць працы. *Бу́льба паддала́ рабо́ты.* Розмыслава.

**ПАДДЗЕ́Л** *м.* Хвароба, непрыемнасці, насланыя з дапамогай чараў; сурокі. *Варажбі́т ат паддзе́лу зъгаво́рваіць.* Чуцькі, Закур'е.

**ПАДДЗЕ́ЛАЦЬ** *зак.* Сурочыць; наслаць хваробу, непрыемнасці з дапамогай злых чараў. *Э́та во калі́ сярдзі́ты на каго́, ды хто уме́іць, ну, ка́жыць, я ш табе́ паддзе́лаю.* Запруддзе, Міцюкова, Партызаны.

**ПАДДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Зачэрпнуць. *Чарплóм рыбы паддзéніць, пут рыбы!* Пожанькі.

**ПАДДЗЁЎКА, ПАДДЗЕ́ЎКА** *ж.* 1. Верхняя вопратка з даматканага сукна. *Паддзёўкі яўрэ́і чарнілі.* Каралі. *Паддзёўка на вáце, сваё сукнó, янá мне цяпéр цяжка.* Нямойта, Дуброўкі. 2. Абцягнуты сукном кажух. *Паддзёўка – кажýх, а звéрху тóненька суконó.* Каралі.

**ПАДДО́Н** *м.* Подсціл з галля, жэрдак, на які кладуць стог; адонак, стажар'е. *Кладзём стох нъ паддóн, на вéткі.* Леснікова.

**ПАДДУБО́ВІК, ПУДДУБО́ВІК** *м.* 1. Ядомы грыб. *Пуддубóвік, як бъравíк, мáла ёсь, сýшуць, ядóмый грыб, ну нікáчыствіный.* Дольдзева, Сянно. 2. Несапраўдны баравік, атрутны грыб. *Паддубóвікі – гóркія грыбы́.* Партызаны. 3. Польскі грыб. *Паддубóвік – у ягó пат нізъм сітавáта.* Серкуці.

**ПАД'Е́СЦІ** *зак.* Пад'есці, наесціся. *Пад'éсці – бальшáя рабóта без зубóў.* Партызаны. *Лéпей пад'éў бы дзягнá, як сáла.* Чуцькі, Вялікі Азярэцк, Фасаўшчына.

**ПАД'ЁМ** *м.* Хвароба ад пад'ёму цяжару ці непасільнай работы. *Ад пад'ёму я не ўмéю варажы́ць.* Заазер'е.

**ПАДЖАГА́ЦЬ** *незак.* Падпальваць. *Кíрылаву хáту паджагáлі.* Гарадзец.

**ПАДЖА́РЫ** *прым.* Рыжа-буры ці бура-чорны (масць жывёлы). *Тóнкая, длíннувáтая, мóжа, бéлая ці паджáрая* [ласка]. Міцюкова.

**ПАДЖО́ГА** *ж.* Смалякі, трэскі, папера і пад., якія служаць для распальвання; падпал. *Бес паджóгі дрóвы не гърáць.* Каралевічы.

**ПАДЖЫ́ЛЫ** *прым.* Пажылы. *Гэ́та паджы́лая бáба.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДЗАГНЕ́Т** *м.* Ніша паміж прыпечкам і падпеччу. *Пъдзагнéт здзéлъли патэ́льню стáвіць ці што.* Міцюкова, Партызаны. ПАДЗАГНЕ́ТЧЫК *памянш.* *У пъдзагнéтчыку ґáрніц стáрынькі з цыбýлюй стаíць.* Неўгадава.

**ПАДЗАГНЕ́ЦЦЕ** *н.* Тое ж. *Падзагнéцце – палажы́ць што хóчаш, скаварóду.* Багданава.

**ПАДЗВІ́ЖВАЦЦА** *незак.* Набліжацца, надыходзіць. *Узвíжанне – каб падзвíжвалася зімá.* Самсоны.

**ПАДЗЕ́ЛАЦЬ** *зак.* Парабіць. *Іх усíх вы́палілі, яны́ падзéлалі сабé зімлянкі.* Нямойта.

**ПАДЗЕ́ЛЬНА** *прысл.* Асобна. *Жывýць дзéці падзéльна.* Леснікі.

**ПАДЗЕ́МНЫ** *прым.* Падземны. *Там ракá падзéмнъя ёсь.* Сянно.

**ПАДЗЕ́ННЕ** *н.* ○ ПАДЗЕ́ННЕ МА́ТКІ. Выпадзенне маткі (хвароба). *У яé падзéнне мáткі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДЗЕ́ЦЦА** *зак.* Падзецца, прапасці. *А штó-та падзéлася дзе?* Марозаўка.

**ПАДЗЁЖА** *ж.* Падзеж, паморак (пра жывёлу, птушак). *Падзёжы ні булó хвъзáнуў.* Сянно.

**ПАДЗЁННА** *прысл.* Падзённа. *Бувáла, ізгóннага* [пастуха] *наймáлі, хадзíў ён падзённа.* Самсоны.

**ПАДЗЁНШЧЫНА** *ж.* Работа на працягу дня; падзёншчына. *Падзёншчына быá дзень цэ́лы.* Нямойта.

**ПАДЗІВА́ЦЦА** *зак.* Падзецца, прапасці. *Ну дзе што падзівáлася?* Багданава.

**ПАДЗІВІ́ЦЦА** *зак.* Здзівіцца. *Нéйкі раз падзіўлюся, як я вы́жыў.* Ульянавічы.

**ПАДЗІРБА́ЧЫЦЬ** *зак.* Разбіць зямлю матыкай (*дзербакóм*). *Узарýць, падзірбáчаць дзярбакóм, а пóтым баранóй.* Сукрэмна.

**ПАДЗІРКУВА́ЦІЦЬ** *зак.* Прадзіравіць, пабіць на дзіркі. *Мóшка, падзіркувáцілі лíсця, пасы́пъла пóпелам.* Серкуці.

**ПАДЗІСКУВА́ЦЬ** *зак.* Апрацаваць глебу дыскамі. *По́жню падзіскува́лі, пъръспа́хвалі.* Нямойта.

**ПАДЗІЧЭ́ЦЬ** *зак.* Стаць дзікімі, здрабнець (пра плады). *Пъдзічэ́лі я́блыны.* Самсоны.

**ПАДЗО́ЛІСТЫ** *прым.* Падзолісты. *Зямля́ падзо́лістая, дубы́ ні расту́ць.* Партызаны, Жохава.

**ПАДЗО́ЛЬ** *ж.* Бедная солямі глеба шаравата-белага колеру; падзол. *Цімахве́іўка лю́біць падзо́ль.* Жохава.

**ПАДЗО́Р** *м.* Вышыванае палатно ці карункі, якія прышываліся да прасціны ці прымацоўваліся да ложка як упрыгожанне. *Падзо́р быў, як прасціна́ канча́лася.* Баравікі, Закур'е.

**ПАДЗО́РНІК, ПАДУЗО́РНІК, ПУДУЗО́РНІК** *м.* Тое ж. *Падзо́рнік аддзе́льна, а ра́ньшы к про́стыні кружава́ прышыва́лі.* Багданава. *З е́стых ніта́к з магазі́нных вяза́лі падзо́рнікі.* Каралі, Леснікі, Леснікова. *Падузо́рнік на ко́йку.* Розмыслава. *Бува́ла, дзе́лалі пудузо́рнік.* Вялікі Азярэцк. *Цяпе́ра пудузо́рнік ёсь.* Розмыслава.

**ПАДЗЬ** *ж.* Падзь, мядовая раса. *Падзь выдзіля́іцца нъ лісту́, нъ лугу́.* Сянно.

**ПАДЗЯ́КАВАЦЬ** *зак.* Падзякаваць, выказаць удзячнасць. *Не́хта вам падзя́каець.* Запруддзе.

**ПАДЗЯ́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Падзелены. *Пупула́м усё падзя́лена.* Нямойта.

**ПАДЗЯЛІ́ЦЦА** *зак.* Падзяліцца. *Бе́дны пасле́днім падзе́ліцца, а бага́ты – не, ні дась і праго́ніць.* Багданава, Гарадзец.

**ПАДЗЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Падзяліць. *Бог падзялі́ў – тро́е мне дзяце́й, тро́е забра́ў.* Багданава.

**ПАДЗЯЎБА́НЫ** *дзеепрым. перан.* Параненa. *Брат уве́сь падзяўба́ны з вайны́, но́гі не хо́дзюць.* Запруддзе.

**ПАД'ІСПА́НЕЦ** *м.* Падыспань (танец). Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ПАДКАЛВУ́РЫЦЬ** *зак.* Падцікаваць, высачыць. *Ліса́ пъдкълву́рыла буцянён-ка.* Сянно.

**ПАДКА́РМЛІВАЦЬ** *незак.* Падкормліваць. *Суро́пам з са́хара падка́рмліваюць пчол.* Закур'е, Неўгадава.

**ПАДКАШЫ́ЦЬ** *зак.* Падкасаць, падторкнуць. *Хварту́х пад$^{т}$ка́шыць – і пайшла́.* Закур'е.

**ПАДКІДА́ЦЬ** *незак.* Падкідваць б'ючы. *Ката́ нільзя́ падкіда́ць, як бярэ́мяны, а то быва́юць крыкуны́* (павер'е). Парэчча.

**ПАДКІ́НУЦЬ** *зак. іран.* Пазбавіць. *Сышлі́ся, сістра́ падкі́нула здаро́ўя.* Жохава.

**ПАДКО́ЎВАЦЬ** *незак.* Падкоўваць. *Капыты́ падко́ўвалі.* Буй.

**ПАДКРА́СЦІСЯ** *зак.* Падкрасціся. *Мы падкра́дзімся к е́тым ба́бам, адзе́жу папухува́ем.* Запруддзе, Гарадок.

**ПАДКУ́РАВАЦЬ** *незак.* Падкурваць (пра пчол). *Дымка́р пчол падку́раваць.* Неўгадава.

**ПА́ДЛА** *ж.* Абразлівая назва чалавека, жывёлы. *Ня во́зьміць худу́ю па́длу – каро́ву.* Серкуці. *Жылі́, як на́да, але́ па́дла стара́я ўжо, не радзі́ла.* Міцюкова. *Калі́ змог – пъдня́ўся, а не – ляжы́, як па́дла.* Станюкі, Каралевічы, Партызаны.

**ПАДЛАВІ́ЦЬ** *зак.* 1. Злавіць. *Чэ́рці яго́ падлаві́лі і гаво́раць: «Ідзі́, дзе́душка!»* Багданава. *Каро́ву падлаві́лі партыза́ны.* Самсоны. 2. *перан.* Заўважыць слухаючы. *Але́ як скажу́ яко́е сло́ва, так падло́віця і запі́шыця.* Парэчча.

**ПАДЛАМА́ЦЦА** *зак.* Навучыцца. *Мы там тро́ху па-няме́цку падлама́ліся.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДЛАМА́ЦЬ** *зак.* Параўняць бараной ворыва перад сяўбой. *Пъдлама́ў бъра-но́й і сей!* Цясішча, Гарадок.

**ПАДЛЕ́ГЧЫ** *зак.* Паламаць, зрушыць з месца, разнесці. *Дрэ́ва вы́вірнулься, яго́ нілізя́ браць, як стро́юць дом, ка́жуць, мо́жыць бу́ра яго́ падле́гчы.* Запруддзе.

**ПАДЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Падлезці. *Клешч, як бло́шка, пат крыло́* [пчале] *падле́зіць.* Багданава.

**ПАДЛЕ́НІВАЦЦА** *незак.* Падленьвацца. *Так дык ты падле́ніваешся, а пера-ло́ўкі* [анекдоты] *то́лькі б і раска́заваў.* Нямойта.

**ПАДЛЕ́ЦІЦЬ** *зак.* Распарадзіцца. *Падле́ціў каня́ даць мне на сённяшні дзень.* Запруддзе.

**ПАДЛЕ́ЧЫЦЬ** *зак.* Падлячыць. *Пъмагу́ падле́чыць, а вы́лечыць – не.* Жохава. *Дзе́тка, сыно́к мой, ці мо́жна яго́ падле́чыць?* Цясішча.

**ПАДЛЕ́ШЧЫК** *м.* Падлешчык, малады лешч. *Падле́шчык – мъладэ́й лешч.* Сянно.

**ПАДЛЁТЫШ** *м.* Птушаня, якое вучыцца лётаць. *Адзі́нъццъць штук у саро́кі сърачанёнкуў вы́вілісі, ня ўсе ра́зъм, адзі́н то́лькі вы́віўся, а другі́ падлётыш.* Сянно.

**ПАДЛІВА́ЦЬ** *незак.* Падліваць. *Наза́ўтра кало́ціш, падліва́іш вады́* [у сала-духу], *як гу́ста, ва́рыш разы́ два-тры, кап закіпе́ла.* Багданава.

**ПАДЛІ́СНІК** *м.* Падбел, крываўнік (расліна). *Падбе́л, а хто заве́ць падлі́снік.* Кавалі.

**ПАДЛО́ГА** *ж.* Падлога. *Тры разы́ ў го́ду мы́лі падло́гу.* Багданава, Гарадзец, Гарадок, Партызаны, Закур'е, Неўгадава.

**ПАДЛО́ЖЫНА** *ж.* Масніца. *Адна́ падло́жына падыма́ецца, пъд падло́гай я́ма.* Дольдзева, Неўгадава.

**ПАДЛЫ́ШАНЫ** *дзеепрым.* Прыбраны, падмецены. *Каб было́ тро́ху падме́-цена, падлы́шана ў ха́ці.* Міцюкова.

**ПАДЛЯНІ́ЦЦА** *зак.* Паленавацца. *Падляні́цца като́ры.* Савінічы.

**ПАДЛЯ́ТВАЦЬ** *незак.* Падлятаць, узнімацца. *Бо́нбы ляця́ць – зімля́ падля́т-ваець.* Мянюцева.

**ПАДЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Прыляцець. *С апрэ́ля далжо́н баця́н падляце́ць, ле́тась па снягу́ хадзі́ў.* Нямойта.

**ПАДМА́ЗАЦЦА** *зак.* 1. Падмазаць, змазаць. *Як ні падма́заўся – скрыпі́ць.* Партызаны. 2. *перан.* Падлізацца, паддобрыцца. *Падма́жацца хоць к каму́.* Нямойта.

**ПАДМА́НЮВАЦЬ** *незак.* Падманваць, ашукваць. *Краду́ць, пъдма́нююць людзе́й.* Заазер'е.

**ПАДМА́СКА, ПО́ДМАСКА** *ж.* Кавалачак сала ці здору, якім змазвалі скавараду, каб ежа не прыгарала; подмазка. *А ра́ньшы падма́скі дзе́лалі: са́ла – у тра́пачкі, і ма́залі скаваро́ду, каб ні прагара́ла.* Дольдзева. *Укру́ціш са́ла кусо́к у тра́пачку, у шмато́к – э́та по́дмаска.* Багданава, Заазер'е.

**ПАДМА́ЧВАЦЦА** *незак.* Мачыцца. *Я ад сме́ху чуць ні падма́чваюся.* Міцюкова.

**ПАДМЕ́НА** *ж.* Замена. *Падме́ны яму́ ні было́.* Розмыслава.

**ПАДМЕ́ННЫ** *прым.* Той, хто падмяняе каго-н. *Падме́нным, замяня́іць брыга-дзі́ра.* Гарадзец.

**ПАДМЕ́СЦІ** *зак.* Падмесці. *Падме́сці ха́ту, вадо́й спы́рсквалі, а не – ве́нік памо́чыш, патрасе́ш.* Багданава.

**ПАДМЕ́ШВАЦЬ, ПАДМЕ́ШЫВАЦЬ** *незак.* Акучваць, разганяць. *Сахой падмешвалі бульбу два і тры разы.* Леснікова. *Пахалі съхамі раньшы, а бульбу падмешывалі.* Гарадзец.

**ПАДМО́СНІК** *м.* Брус, на які насцілаецца падлога, памост; падваліна. *Пат падлогъй клаць падмоснікі, адзін – падмоснік.* Гарадзец. *Масцічыны клалі на падмоснікі.* Міцюкова, Запруддзе, Леснікова, Нямойта.

**ПАДМУ́РАК** *м.* Падмурак, фундамент. *Падмурак – ета фундамінт.* Дольдзева. *Падмурак вісокі, і сцены вісокія былі ў аборы.* Баравікі. *Падмурак пад хатай увесь, пад углы камні паложаць.* Запруддзе, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Нямойта, Партызаны, Фасаўшчына.

**ПАДМЫ́ЦЦА** *зак.* Падмыцца. *Вазьмі падмыйся і на трэці вянец вылей – тры дні будзець на рубашцы.* Кляпчэва.

**ПАДМЫ́ЦЬ** *зак.* Памыць. *Думаю, во троху падмыю. У суботу пол падмыла.* Багданава. *Нада каго завярбавацъ падлогу падмыць.* Нямойта.

**ПАДМЯНІ́ЦЬ** *зак.* Падмяніць. *Я ў полі была, яна прышла і падмяніла мяне.* Марозаўка.

**ПАДМЯША́ЦЬ, ПАДМІША́ЦЬ** *зак.* Акучыць, разагнаць. *Акушнікам падмішаць нада – ні сахой.* Серкуці. *Ён патскарадзіў і рас падмішаў.* Розмыслава, Чуцькі. *Вечарам бульбу падмяшаіць.* Міцюкова. *Два разы падмішаць нада бульбу акушнікам і скърадзіць трэба.* Серкуці, Леснікова. *Бульбу ні пъдмішалі, уліло, ня ўлезьці.* Чуцькі, Розмыслава.

**ПАДНАВЕ́С** *м.* Пляцоўка пад страхой на слупах, прызначаная для хавання чаго-н. ад дажджу, непагоды; павець. *Паднавес над стажком.* Розмыслава. *Пъднавес – ета для сена.* Алексінічы, Вялікі Азярэцк.

**ПАДНАСІ́ЦЬ** *незак.* 1. Падносіць. *Паднасіў адной рукой дошкі.* Запруддзе, Жохава, Нямойта. 2. Прыносіць. *Што людзі паднасілі, з таго і шыў.* Леснікова.

**ПАДНІ́ЗАМ** *прысл.* 1. Унізе. *Паднізам навой быў.* Каралі. 2. Падыспадам. *Падхаджу пад яго, атшпільваю ўсё, навярху наша форма, а паднізам – нямецкая.* Запруддзе.

**ПАДНІ́ЗУ** *прысл.* Унізе. *У жарнах камень паднізу.* Багданава[1].

**ПАДНО́ШАНЫ** *дзеепрым.* Паношаны, зношаны. *Юпку, якая падношаная, распораш, і увярчывала* [дзіця]. Міцюкова.

**ПАДНЯБЕ́ННЕ** *н.* 1. Паднябенне, нёба. *Паднябенне баліць, нада зубы вынімаць.* Партызаны. 2. Скляпенне ў печы. *Ніс у печы спот, а верх – пъднябенне.* Запруддзе, Алексінічы, Багданава, Каралі, Леснікова, Міцюкова, Розмыслава, Серкуці, Фасаўшчына, Дуброўкі, Неўгадава.

**ПАДНЯ́ЦЦА** *зак.* 1. Узняцца, пачацца. *А бура як паднялася, тыя там асталіся.* Багданава. 2. Стаць дыбам. *На спіне шэрсць паднялася.* Запруддзе, Нямойта. 3. *перан.* Падрасці, акрэпнуць. *Трошкі пъдняліся мы, дзеці, а тут вьйна.* Латыгаль, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Партызаны, Чуцькі.

**ПАДНЯ́ЦЬ** *зак.* Падняць. *Ён цяпера ні аб'едзіць, ні плугі ні падыміць.* Цясішча, Багданава, Партызаны, Ульянавічы.

**ПАДО́ЙМА** *н.* Пра нешта цяжкае, важкае. *Дзвінаццаць шчучык улавілі, а бывала на падойма наловяць.* Нямойта.

**ПАДО́ЙМІШЧА** *н.* Тое ж. *Насыпяць на падоймішча і нясуць.* Запруддзе.

**ПАДО́ЙНІК** *м.* Даёнка. *Падойнік дзірвянный даіць карову.* Фасаўшчына.

**ПАДО́Л, ПО́ДАЛ** *м.* Падол. *Сцяры́ пъдало́м ат суро́цы.* Багданава, Партызаны. *У по́дал шчэ́пак назбіра́ла.* Багданава. *Як дзяцёнка суро́чылі, павядзі па лі́чыку тры разы́ по́далам* (павер'е). Каралі, Міцюкова, Парэчча. ПАДАЛО́К *памянш.-ласк. Падалко́м сваёй руба́шкі абатры́ рабёнка, тады́ не бу́дзе баяцца* (павер'е). Партызаны.

**ПАДО́САК** *м.* Вузкая жалезная пласціна, урэзаная пад ніз восі драўляных калёс; падосак. *Ра́ншэ былі́ дзіравя́ныя во́сі, пад ніс падбіва́лісь падо́скі.* Гарадзец.

**ПАДО́СКА** *ж.* Тое ж. *Пат ніс – падо́скі, каб ні зрабо́талася.* Гарадзец. *«Къса́, як падо́ска!» – «Ну й ні падо́ска».* Запруддзе.

**ПАДО́ХНУЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Памерці. *У бало́це сядзе́ў, з го́ладу чуць не падо́х.* Нямойта.

**ПАДО́ШВА, ПАДАШВА́** *ж.* 1. Падэшва (у абутку). *Пълатня́ныя шы́лі ту́флі, вяро́вачкі вілі, патшыва́лі падашву́ і смало́й пътсма́лівалі, кап ля́палі, сту́калі, і дзіравя́нны каблучо́к выта́чвалі.* Заазер'е. 2. Ступня. *С калéнь но́гі баля́ць пра́ма ў падо́швы.* Нямойта, Багданава. 3. Аснова чаго-н. *Пу пласту́ кладу́ць се́на па кру́гу і ў сяр́эдзіну, штоп і ў сяр́эдзіну, штоп пъдъшва́ была́.* Леснікова.

**ПАДПАЎЗЦІ́** *зак.* Падпаўзці. *Парцізáны но́ччу пъдпаўзу́ць і прыхо́дзяць у ха́ту.* Нямойта.

**ПАДПЕ́РЦІ** *зак.* 1. Падперці. *Падпе́рці дзе́ці мо́гуць на Купа́ла.* Апечкі. *Яны́ ш і падапру́ць цябе́* [на Купалле]. Самсоны. 2. Падвязаць. *А чаго́ э́та я йшла ў гаро́т? А, цвет падпе́рці.* Запруддзе. 3. Закрыць. *Ні падапрэ́ш не́ба, кап ня йшоў дош.* Міцюкова.

**ПАДПЁРТЫ** *дзеепрым.* Падпёрты. *У мяне́ была́ ха́та падпёрта.* Леснікова.

**ПАДПІ́ЦЬ** *зак.* Падпіць, напіцца гарэлкі. *Хто падап'е́ць тро́шку, мо́жыць падра́цца.* Дольдзева. *Падап'ю́ць – і ачы́сцюць цябе́.* Партызаны.

**ПАДПЛЕ́ЧНІКІ, ПАТПЛЕ́ЧНІКІ** *мн.* Двайная частка палатна на плячах у сарочцы. *Падпле́чнікі ў саро́чкі пъдшыва́лісі.* Запруддзе. *Патпле́чнікі дзе́лалі.* Турава.

**ПАДПРА́ВІЦЬ** *зак.* Падрамантаваць, падладзіць. *Се́нкі падпра́віў.* Партызаны.

**ПАДПУ́ЗЗЯ, ПАТПУ́ЗЗЯ** *н.* Падчарэўе, падбрушша. *Во гэ́та падпу́ззя, тро́хі пасо́люць, ні́тачкай звя́жуць – і ў чугу́н.* Багданава, Мянюцева. *Слімáк нъ грыба́х ёсь, слі́скі, патпу́ззя бе́лыя.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДПУШЧА́ЦЬ** *незак.* Пускаць сок, падразаючы кару дрэва. *У нас клён ні смакта́лі, то́лькі бярэ́знік пъдпушча́лі.* Багданава.

**ПАДПЯЧЫ́** *зак.* Падпячы. *Пе́чка пыла́іць, гары́ць, піра́т по́лынню падпячэ́ць мухамо́р, смітáнай абалье́ць, на акно́ пало́жыць, яны́* [мухі] *й до́хнуць, й до́хнуць.* Запруддзе.

**ПАДРАЖНІ́ЦЬ** *зак.* Падражніць. *Ён падра́жніць ма́тку.* Манголія.

**ПАДРАЗА́ЦЬ** *незак.* Даставаць мёд з вулея. *Як то́лькі пчол падрэ́жуць, так мёт вязу́ць у анба́р.* Каралі.

**ПАДРА́ІЦЬ** *зак.* Параіць, нараіць. *Я табе́ падра́ю мужыка́.* Каралевічы. *То́лькі падра́ілі яму́ ба́бу, і жані́ўся.* Партызаны. *Ра́ншы като́ры нявéсты і ня ві́дзеў, падра́юць нявéсту – сва́таў.* Багданава.

**ПАДРАМАНТАВА́ЦЬ** *зак.* Адрамантаваць, падладзіць. *На́да было́ у Сянно́ е́хаць пъдрамантава́ць.* Багданава.

**ПАДРА́НЫ** *прым.* Дзіравы. *Та́зік ста́ры, пъдра́ны нъ гняздо́ куры́цы.* Каралевічы.

**ПАДРА́ПКАЦЬ** *зак.* Разгрэбці, падрапаць. *Ку́ры падра́пкъюць мо́ркву, ні яду́ць яе́.* Запруддзе.

**ПАДРАСТА́ЦЬ** *незак.* Падрастаць. *Як пълядзіш, то апёнкі ні пъдрасту́ць, а ня від́зіўшы іх, расту́ць.* Пожанькі.

**ПАДРАСЦІ́** *зак.* Падрасці. *Сяго́нні ўвідзіш бырвічо́к, хай пъдрасцеу́ць, а ён як сядзе́ў, так і сядзі́ць.* Партызаны, Карпавічы.

**ПАДРАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Падгадаваць. *Пъдрашчу́ рабёнка і пайду́ ў даяркі.* Гарадок.

**ПАДРА́Т** *прысл.* 1. Адзін за адным. *А тады́ ў ма́мы чэ́цьвера дзяцей падра́т памёрла.* Самсоны, Вялікі Азярэцк. 2. Усё, без выключэння. *Мы бяро́м усе́ падра́т* [грыбы]. Багданава.

**ПАДРА́ЦЬ** *зак.* 1. Падрапаць, пачасаць. *Зъсвярбе́ла, зъсвярбе́ла, я во так пъдра́ла, улётку пъкупа́ла, а атту́ль ужо́ іду́ ку́ртку не́льга здзець.* Запруддзе. 2. Натаркаваць. *Пъдзярэ́ш бу́льбы* [у шчаўе] *і еш, шча́вель сліскі такі́, і сма́шна было́.* Нямойта.

**ПАДРАШЭ́ТНІК** *м.* Падрашэтнік (грыб). Сянно.

**ПАДРО́БНЕТЫ** *дзеепрым.* Раздроблены. *Рука́ падро́бнета, аско́лкі, як е́та канфе́ціна.* Каралі.

**ПАДРУБІ́ЦЬ** *зак.* Замяніць ніжнія вянкі ў зрубе. *Ту́ю гніль вы́кінулі, падрубілі і асадзілі ха́ту.* Савінічы.

**ПАДРУ́ГА** *ж.* Сяброўка. *Падру́га мъя́ дъръга́я, ръскажу́ я табе́, ніко́му ні кажы́!* Міцюкова.

**ПАДРУЖЫ́ЦЦА** *зак.* Пасябраваць. *Мы з ва́мі падружы́ліся.* Серкуці.

**ПАДРУЖЫ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Мы з ва́мі падружы́лі, свае́ ста́лі.* Серкуці.

**ПАДРУМЯ́НІЦЦА** *зак.* Падрумяніцца, падпячыся. *Сыр у пе́чку, падрумя́ніцца, і е́лі.* Гарадзец.

**ПАДРУ́П** *м.* Ніжні вянок зруба; падруб. *На падру́п ха́ты ле́су да́лі.* Неўгадава.

**ПАДРУ́ЧНІК** *м.* Хлопец, дружбак жаніха ці нявесты на вяселлі. *Бярэ́ць тава́рыша, пад руко́й сядзі́ць падру́чнік.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДРЫ́БАЦЬ** *зак.* Пайсці хуткімі дробнымі крокамі. *Скъзаў, то я і падры́бъла ў мъгазін.* Сянно.

**ПАДРЫ́МКАЦЬ** *зак.* Падрынкаць, пайграць. *Каго́ з му́зыкай хава́юць, падры́мкаюць тро́ху.* Закур'е.

**ПАДРЫ́Ў** *м.* Шкодніцтва. *Як ге́та рэспу́бліка адыйдзець – бальшы́ падры́ў.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДРЫХЛІ́ЦЬ, ПАДРЫ́ХЛІЦЬ** *зак.* Падрыхліць, падматычыць. *Я́гады сяго́ння на́да пъдрыхлі́ць.* Нямойта. *Падры́хліш зямлю́, штоб яна́ ры́хлая была́.* Розмыслава.

**ПАДРЫХТАВА́ЦЦА** *зак.* Падрыхтавацца. *Пъдръхтъва́ліся касі́ць се́на.* Запруддзе, Багданава.

**ПАДРЭ́З** *м.* ◊ У ПАДРЭ́З. Падрэзаны, па плечы (пра валасы). *Як дзе́ўкі, у падрэ́з валасы́ ма́лец насі́ў.* Партызаны.

**ПАДРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Падрэзаць, падкараціць. *Дзяўчо́нцы падрэ́заць* [валасы]. *Я Та́ні абраза́ла, а яны́ мне падрэ́жуць.* Багданава.

**ПАДСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* 1. Дапамагчы падняць. *Браўно́ падсадзі́ў.* Партызаны. 2. Пасадзіць да некага. *У Ка́неве падсадзілі ў клець, а пато́м у ако́пы.* Запруддзе, Нямойта. 3. Змясціць, падсунуць. *Каро́ва цялі́лься, і на́да было́ цялёнка пътсадзі́ць пъсса́ць.* Нямойта.

**ПАДСА́КА** *ж.* Рыбалоўная прылада: невялікі сеткавы мяшок, нацягнуты на драўляны каркас; падсак. *Я пъдса́къй лаўлю́.* Запруддзе.

**ПАДСА́НКІ** *толькі мн.* Маленькія санкі, якія выкарыстоўваліся для перавозкі бярвення; падсанкі, каркі. *Грузілі на падса́нкі, вазілі бро́ўны.* Леснікова.

**ПАДСВА́ТАЦЦА, ПАТСВА́ТАЦЦА** *зак.* 1. Прыстаць у мужы. *Падсва́таўся да яе́.* Запруддзе. 2. Прыстаць у жонкі. *Там не́йкая ба́ба да яго́ пътсва́талася.* Нямойта, Запруддзе.

**ПАДСВІ́НАК, ПАТСВІ́НАК** *м.* Парася ва ўзросце ад 4 да 10 месяцаў. *Патсві́нак – пад год свіння́.* Фасаўшчына. *Пяцёра падсві́нкаў прапа́ла.* Партызаны, Заазер'е. *Патсві́нак – гэ́та пудо́ў тры, чаты́ры, пяць, вясно́й нърънджа́юцца, а къба́н стаі́ць бо́льшы, і свіння зі́му стая́ць.* Багданава.

**ПАДСІНІ́ЦЬ** *зак.* Падсініць (бялізну). *Усё падсіні́ла.* Запруддзе.

**ПАДСІ́ТАК, ПАТСІ́ТАК** *м.* Падсітак. *Ёсць сі́та, падсі́так і рэ́шата.* Міцюкова. *Сі́та – дро́бныя дзі́рачкі, а патсі́так – бо́льшыя.* Каралевічы. *Кап шу́му ні было́, на патсі́так се́іш* [абтоўчаную пшаніцу]. Неўгадава.

**ПАДСКА́КВАЦЬ** *зак.* Раптоўна павышацца. *Даўле́нне падска́кваець.* Запруддзе.

**ПАДСМА́ЖЫЦЬ** *зак.* Падсмажыць, спрэгчы. *Як падсма́жыш – то́чна баравічкі, шапіёны гэ́тыя.* Запруддзе.

**ПАДСО́ЛНАШНЫ** *прым.* Прыгатаваны з зярнят сланечніку. *Кано́плі, мак, падсо́лнашнае ма́сла, грыбы́ ёлі ў пост.* Цясішча.

**ПАДСТРО́ІЦЬ** *зак.* Выдаць замуж. *Каб маю учы́цельніцу падстро́іў* [выдаў замуж]. Міцюкова.

**ПАДСЦІЛА́ЦЬ** *незак.* Падсцілаць, падкладваць. *Бох падсціла́ець дзяцёнку, як той ва́ліцца.* Ульянавічы, Нямойта.

**ПАДСЫЛА́ЦЬ** *незак.* Падкідваць, падкладаць. *Падсыла́юць лягу́шак чалаве́ку, кіда́юць крапіву́ жыгу́шку каля дзвярэ́й, як што паддзе́лываюць чалаве́ку.* Запруддзе.

**ПАДСЫПА́ЦЬ** *незак.* Падсыпаць, дабаўляць. *Пшані́цы тро́шку ў талакно́ падсыпа́лі.* Марозаўка.

**ПАДСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Насыпаць пад што-н. *Лі́сце кляно́выя, на іх хлеп пяклі, а калі мукі пад$^{т}$сы́піш.* Рулёўшчына.

**ПАДТАПІ́ЦЬ, ПАТТАПІ́ЦЬ** *зак.* Падпаліць. *Падто́пім печ, зва́рым што трэ́ба.* Закур'е. *Паттапі́ печ!* Вялікі Азярэцк. *Бума́гі гібе́ль ёсць цяпе́р у пе́чку паттапі́ць.* Станюкі.

**ПАДТО́ПА, ПАТТО́ПА** *ж.* Смалякі, трэскі, папера і пад., якія служаць для распальвання; падпал. *Падто́пы на́да – па́лку паскіпа́еш.* Багданава. *Э́та шчапа́ на патто́пу.* Нямойта.

**ПАДТО́РКНУЦЬ, ПАТТО́РКНУЦЬ** *зак.* 1. Уторкнуць, уставіць. *Вязьмо́ з дабра́ здзе́лаеш, сціснеш і падто́ркнеш.* Запруддзе, Партызаны. *Пъд вязьмо́ патто́ркнуць кол у куль і зъпа́люць* [на Купалле]. Каралевічы. *І фа́кіл такі́ патто́ркнуць пат страху́, і спалі́лі адзіна́ццаць дзераве́нь.* Леснікова. 2. Падключыць. *Дъя́рка падто́ркніць апара́т і до́іць.* Нямойта, Запруддзе, Карпавічы.

**ПАДУБА́ЦЬ** *зак.* Упадабаць, палюбіць. *Падуба́ла сваё радны́я вуглы́ і сяджу́.* Рэчкі.

**ПАДУ́ЖАЦЬ** *зак.* Падужаць, асіліць. *Калі́ паду́жаіць, каршу́н куры́цу схва́ціць.* Багданава.

**ПАДУ́ЗЫ** *толькі мн.* Раменная або вяровачная частка вупражы, якая накладваецца на тулава каню; набедрыкі, шлеі. *Убо́рны конь у паду́зах.* Дольдзева.

*Падýзы – к хамутý што чъпляюцца.* Гарадзец. *Падýзы на къня́ надзяюцца, кап з гары́ дзяржáў.* Міцюкова, Гарадок.

**ПАДУПÁЎШЫ** *дзеепрым.* Аслабелы. *Мáтка з вайны́ падупáўша здарóўем.* Партызаны.

**ПАДЎРАНЫ** *прым.* Закормлены (пра свойскую жывёлу). *Цяпéр і свінні абышто́ éсьці ня бýдуць – падýраныя.* Багданава.

**ПАДУРНÍЦЦА** *зак.* Падурыцца, пагуляць. *Прыдзіш на вічары́нку, падурнішся.* Серкуці. *У нас Чóрная гарá, яны́ падурня́цца – і дамóў.* Закур'е, Багданава.

**ПАДЎЧАЯ** *ж.* Эпілепсія. *Падýчая у яé булá – дýжа спугáлася.* Багданава. ○ ПАДЎЧАЯ БАЛÉЗНЬ (БАЛÉЗЬ, БАЛÉСЬ, БАЛÉСЦЬ). Эпілепсія. *Падýчая балéзнь ат іспýгу, ат сурóцы, хоць ат чагó мóжыць прыключы́цца.* Нямойта. *Падýчая балéзь, радзімая, бывáіць, мóжа спужáіцца, як нóсіш* [дзіця]. Леснікова. *Выкідваецца падýчая балéсь. Падýчая балéсь кідáець, трасéць.* Багданава, Гарадзец. *Падýчая балéсць с пýду.* Леснікі, Баравікі.

**ПАДЎШКА** *ж.* Падушка. *Падýшку дзéлалі с пéр'я, а мя́са éлі.* Самсоны. *Дарý чаты́ры падýшкі, каб мéлі чаты́ры дачýшкі* (вясельнае пажаданне). Каралевічы.

**ПАДХАДЗЯ́ШЧЫ** *прым.* 1. Добры. *Дзярэ́ўня падхадзя́шчая.* Закур'е. 2. Паспелы. *Падхадзя́шча картóшка, капáю.* Івоні, Машчоны.

**ПАДЦÉРЦІ** *зак.* Памыць. *Чуць палы́ падцёрла.* Дольдзева.

**ПАДЦÉРЦІ** *зак.* Пашкодзіць. *Падчáпліваў трáктар, ягó пад трáктар, пéчань падцёрла.* Запруддзе.

**ПАДЦÍСНУЦЦА** *зак.* Падлезці, залезці. *Мóжа пад пол падціснулася кры́са.* Нямойта.

**ПАДЦЯ́Г**, **ПАТЦЯ́Г** *м.* 1. Цяга (у печы). *Пътця́г у пéчы ця́гне – ця́га.* Багданава. 2. Пра стан, калі нагу скручвае, падкурчвае. *Нéйкі падця́г у нагé.* Мянюцева. *Сабáка спужáў – атнялó нагý, дýжа патця́г.* Мянюцева.

**ПАДЦЯГНЎЦЬ** *зак.* Расцягнуць, пашкодзіць моцным напружаннем, рыўком. *Падгінáла нагý – сухажы́лля падцягнýла.* Апечкі. *Каб цябé жы́лы падцягнýла!* (праклён). Вялікі Азярэцк, Ракаў Засценак.

**ПАДЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *незак.* Падцярэбліваць, абсякаць, абразаць ніжнія галінкі, сучкі на дрэве. *Падцярэ́блівалі сýчча у éльніка, гърадзілі.* Каралі.

**ПÁДЧАРКА**, **ПÁТЧАРКА** *ж.* Падчарка. *Жыў з пáдчаркай стары́.* Дольдзева. *Паéхалі ў Сушчэ́ва, там пáтчърка мъя́ жылá.* Кішуроўшчына. *Мая́ пáтчърка прышлá ка мне, мы як палáкаміліся.* Міцюкова.

**ПАДЧАРÓВАК**, **ПАТЧАРÓВАК** *м.* Падчарэўе, падбрушша. *Падчарóвак пускáюць на каўбáсы.* Гарадзец. *Патчарóвак слайкáмі паджáраюць, с патчарóўка тушóнку дзéлаюць.* Багданава, Міцюкова.

**ПАДЧÁС** *прысл.* Часам, іншы раз. *Падчáс не хачý нічóга дзéлъць.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДЧЫСТÓЕ** *прысл.* Падчыстую, поўнасцю. *Чабарóк, землянíчнік – усё падчыстóе у іх бярýць.* Цясішча.

**ПАДЧЫ́СЦІЦЬ**, **ПАТЧЫ́СЦІЦЬ** *зак.* Падчысціць, прыбраць. *Скарэ́й бы ўсё падчы́сціў у двары́.* Партызаны. *Так-сяк патрóшку патчы́сціш у хáце, багáцце нібальшóя.* Леснікова, Запруддзе.

**ПАДШТУРХÓЎВАЦЬ** *незак.* Надакучаць пытаннямі. *Нявéстка ўсё падштурхóўвае: чамý нехры́шчанае дзіця́?* Партызаны.

**ПАДШЎХАЦЬ** *зак.* Падбухторыць, падбіць. *Вы яé падшýхайце, то янá вам спяéць.* Вялікі Азярэцк.

**ПАДШЫВА́НЕЦ, ПАТШЫВА́НЕЦ** *м.* Падлетак. *Стáямі хóдзюць падшывáнцы-мáльчыкі.* Ульянавічы. *Патшывáнец – мáліц лет двънáццаці.* Запруддзе, Заазер'е.

**ПАДЫЙСЦІ́, ПАДАЙЦІ́Ц** *зак.* 1. Падысці. *Тáнічка, падыйдзі ш дъ мяне́!* Запруддзе. *Дай жа пъдъйціць і пълядзе́ць мóжна.* Цясішча. 2. Паставіцца, аднесціся да каго-н. *Ён харашó к ямý падайшóў.* Міцюкова.

**ПАДЫМА́ЦЦА** *незак.* Прачынацца, уставаць. *У шэсь падымáесся.* Багданава.

**ПАДЫМА́ЦЬ** *незак.* Падымаць (лён). *Лён пъдъмáлі рукáмі, а сярпóм – лъмáіцца. Аднэ́й рукóй пъджымáіш, а другóй падымáіш.* Багданава. *Лён ішлі падымáць – дзеръвя́шкі адзявáлі.* Нямойта, Рэчкі, Закур'е. ◊ ПАДЫМА́ЦЬ РУКУ́. Спрабаваць ударыць, біць каго-н. *На іх рукі ніяк ні падымý, на унýкаў.* Чуцькі.

**ПАДЫСПА́НЕЦ** *м.* Падыспань (танец). *Як ве́села былó падыспáнец танцавáць, кръкавя́к!* Партызаны. *І бáрыню іграюць, лявóніха, падыспáнец уключáіцца – у лінця́я шэсць калéняў!* Багданава, Міцюкова, Сукрэмна.

**ПАДЫСПА́НЬ** *м.* Тое ж. *Я шчэ пóмню, як падыспáнь гуля́юць.* Самсоны.

**ПАДЫСПО́ДАМ** *прысл.* Падыспадам. *Што там падыспóдам?* Сукрэмна.

**ПАДЫСЦЕ́НЬ** *м.* Немач, захворванне, выкліканае пярэпалахам. *Падысце́нь, падысце́нь, выхадзі з сустáў, з касце́й, з нахце́й, з въласóў, стънавíся на ме́сці, як мáці радзíла* (з замовы). Заазер'е.

**ПАДЫХА́ЦЬ** *незак.* Здыхаць (пра скаціну). *На нóгі падсвінкі пáдаюць і падыхáюць.* Партызаны.

**ПАДЫ́ХАЦЬ** *зак.* Падыхаць (паветрам). *Вы́йдзеш нóччу, пады́хаеш, здае́цца, як пад'е́ў.* Рэчкі.

**ПАДЫХО́ДЗІЦЬ, ПАДХО́ДЗІЦЬ, ПАТХО́ДЗІЦЬ** *незак.* 1. Прыходзіць, падыходзіць. *Падхаджý пад карóву, як гóняць.* Запруддзе. *Другія патхóдзюць, а майгó німá мужыкá.* Сукрэмна. 2. Набліжацца (пра час). *Патхóдзіць ужó зярно убірáць.* Серкуці. 3. Падыходзіць, паднімацца (пра цеста). *Рóшчына падхóдзіць.* Гарадзец. 4. *зак.* Заліцца (вадой). *А цяпе́р былá дастáла ў я́мі* [бульбу], *вадóй падышлá, дык я яе́ вы́цягнула пад кръвáць, янá стáла расці.* Самсоны. *Картóшка падыйшлá вадóю.* Запруддзе. 5. *зак.* Прыгадаць, узгадаць. *Вот падышлó пат разгавóр, чорт ягó ўсё ўспóмніць.* Алексінічы.

**ПАДЭ́РВА** *ж.* Расліна з ружовымі кветачкамі. *Падэ́рва – цвітýчая травá, рóзавым цве́там цвіціць.* Каралевічы.

**ПАД'Ю́ХРЫЦЬ** *зак.* Падбухторыць, падгаварыць. *Яны́ мяне́ пад'ю́хрылі зрабіць кýклу.* Нямойта.

**ПАД'ЯРО́ХА** *агульн. эмац.-ацэн.* Пра чалавека, які наўмысна выказвае меркаванне, што не супадае з агульнапрынятым. *«Вот ты пад'ярóха», – гавóруць, што я ужó хвалю, што другія не хвáлюць.* Заазер'е.

**ПАЕ́ЗДЗІЦЬ** *зак.* Паездзіць многа разоў. *Што я пае́здзіла, што пъхадзíла.* Заазер'е.

**ПАЕ́СЦІ** *зак.* 1. Паесці, падсілкавацца. *Дадýць ве́чарам пае́сці, там дзе ужó нáначках астае́сся.* Гарадзец. 2. *перан.* Пашкодзіць. *Тумáн пае́ў агурцы́.* Нямойта.

**ПАЕ́ХАЦЬ** *зак.* Паехаць. *Пае́халі, пънарáвілі, засталіся там.* Запруддзе. *Пае́хуў цяпе́ра нъ рабóту у дзе́сіць часóў, а ў дзвінáццъць – на абе́д, паабе́дуў, у полпя́тъга з рабóты е́дзіць.* Цясішча. *Мáтка, бувáла, пае́дзіць і кáжыць: купíла рыбёнка.* Буй, Гарадок, Нямойта.

# П

**ПА-ЁХНАМУ** *прысл.* Па-іхняму. *І цяпер па-ёхнаму так.* Багданава.

**ПАЁК** *м.* 1. Ежа або прадукты, якія выдаюцца ў пэўнай колькасці і на пэўны час. *Пайка нікакова ні даюць.* Апечкі. 2. Пасудзіна для зярна. *У паёк вётраіш зярно, і глядзіш, скольккі пайкоў намалаціў.* Нямойта. 3. Мера зярна. *Вазьмі пайкі два жыта, а нажнеш – аддасі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЖАЛЕЦЦА** *зак.* Абняцца. *Дай, кажыць, с табою пажалеімся.* Івоні.

**ПАЖАНІЦЦА** *зак.* Ажаніцца. *Толькі мы пъжанілісі, яго зъбралі на зборы.* Гарадзец. *Мальцы пажэнюцца, адна астанецца баба.* Запруддзе.

**ПАЖАРЫШЧА** *н.* Пажарышча. *Хата згарэла, пъжарышча асталъся толькі.* Гарадок.

**ПАЖАЎЦЕЦЬ** *зак.* 1. Зжоўкнуць. *Гурочнік пъжаўцеў ад улагі.* Ракаў Засценак. 2. Набыць нездаровы колер. *Пажаўцелі глазы.* Розмыслава.

**ПАЖАЦЬ** *зак.* Зжаць. *Пажнець жонка грэчку, змалоціць дзет.* Партызаны. *Частуець нас, штоб ужо пъжалі ўсё, у парадку здзелалі.* Багданава, Дольдзева.

**ПАЖЖЫЦЬ** *зак.* Збыць, звесці. *Цяпер усе пажжылі авечак, а у нас ёсь.* Міцюкова.

**ПАЖЫЗНЕННА** *прысл.* Пажыццёва, на ўсё жыццё. *Бабай завецца пажызненна баба, што перабабіла дзяцёнка.* Партызаны.

**ПАЖЫЛЫ** *прым.* Пажылы. *Астъләся жменя пажылых людзей.* Ракаў Засценак. *Пажылыя тут усе людзі.* Ульянавічы.

**ПАЖЫТАК** *м.* Пажыва, спажыва. *Ім жа* [птушкам] *тут пажытак.* Заазер'е.

**ПАЖЫТКІ** *мн.* Адзенне. *Усе пажыткі на ём – нашы, нічога німа зъграніччнъга.* Заазер'е.

**ПАЖЫЦЬ** *зак.* Пажыць, пабыць некаторы час. *Ён тут пажыў, хай там памучаіцца.* Нямойта. *Мы пажылі, усякае жызні паспыталі.* Гарадзец.

**ПАЗ** *м.* Паз, паглыбленне. *Пазы нъ качулках былі.* Фасаўшчына.

**ПАЗАБАЛЕЦЬ** *зак.* Пазахворваць. *Пазабалелі ўнукі.* Ракаў Засценак.

**ПАЗАБАРТАНЫ** *дзеепрым.* Перавязаны (дротам). *Лес зрэзън, провълкуй пъзъбартън.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЗАБІЦЦА** *зак.* Пазабівацца, забіць адзін аднаго. *А цяпер бы пъзабіліся, кап сталі жыць разам.* Самсоны.

**ПАЗАБРАЦЬ** *зак.* Пазабіраць (усё, многае). *Нас раскулачылі, усё пъзъбралі.* Рэчкі. *Пазабраў у мяне усё чысценька.* Нямойта.

**ПАЗАБУРЫЦЦА** *зак.* Разбурыцца (пра ўсё, многае). *Згніло усё, пъзабурылася.* Міцюкова.

**ПАЗАБЫЦЦА** *зак.* Забыцца. *Цяпер жа я пазабылася, як прасці.* Марозаўка. *Пазабыліся цяпер, а раней многа зналі.* Чуцькі, Багданава, Кляпчэва, Машчоны, Нямойта, Фасаўшчына.

**ПАЗАВАЛЬВАЦЦА** *зак. эмац.-ацэн.* Памерці, загінуць. *Папаляглі, пазавальваліся людзі.* Дольдзева.

**ПАЗАВЕЗЦІ** *зак.* Завезці. *Пазавязлі жукоў-каларадаў міліёны.* Буй.

**ПАЗАВЯРЦЕЦЬ** *зак.* Завязаць (хустку). *Самі пънадзелі кухайкі ды хусткі пъзъвярцелі.* Серкуці.

**ПАЗАГАТОВІЦЦА** *зак.* Зрабіць прыпасы (на зіму). *Пъзагатовіцца нада на зіму: брусніку, клюкву, яблык з бруснікай.* Цясішча.

**ПАЗАДДЗЕ** *н. зб.* Адходы, астаткі пры малацьбе або веянні; пазадкі. *Пъзаддзе – свінням, ета атходы.* Каралі.

**ПАЗАЕ́СЦІСЯ** *зак.* Насыціцца, наесціся ўволю. *Бліна спячэ́ш пу́шанага, напячэ́ш бу́лкі, а е́сці не хо́чацца – мы пазае́ліся.* Багданава.

**ПАЗАЙСЦІ́, ПАЗЫЙСЦІ́** *зак.* 1. Пазаходзіць, заплысці. *Пъза́йдуць туды́ на на́ръст.* Багданава. 2. Выйсці замуж, жаніцца (пра ўсіх, многіх). *Мо́жа яны́ за́муш пъзъйшлі?* Запруддзе. *У яе́ пазъйшлі за́муж дачка́ і два сыны́.* Самсоны.

**ПАЗАКАПА́ЦЬ** *зак.* Закапаць, пазакопваць. *Пъзъкапа́лі карто́шку: была́ харо́ша.* Леснікова. *Тро́ху хле́ба пазакапа́лі ў зямлю́.* Самсоны.

**ПАЗАКВАКТА́ЦЬ** *зак.* Заквактаць (пра ўсіх, многіх). *Пъзъквакта́лі ку́ры.* Апечкі.

**ПАЗАКЛА́СЦІ** *зак.* Закласці. *Во́кны паъзакла́ла я́блыкамі.* Нямойта.

**ПАЗАЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Замініраваць, закласці. *Мі́ны пазало́жуць, і го́нюць* [людзей] *на мі́ны.* Савінічы.

**ПАЗАЛАЧАВА́НЫ** *дзеепрым.* Пазалочаны. *Зълаты́ ці пъзълачъва́ны ку́мпал.* Нямойта.

**ПАЗАЛЕ́ТАСЬ** *прысл.* Пазалетась, два гады назад. *Пъзале́тъсь спрыя́ла грыба́м* [надвор'е]. Багданава.

**ПАЗАЛІ́ЦЬ** *зак.* Пазаліваць, затапіць (пра ўсё, многае). *Бало́ты пъзалілі: вада́ бальша́я.* Чуцькі.

**ПАЗАЛУ́ПЛІВАЦЬ** *зак.* Пазадзіраць, падняць уверх (пра ўсіх, многіх). *Пазалу́плівають хвасты́ каро́вы, як вадкі́ нася́дуць, і бягу́ць.* Баравікі. *Каро́вы пъзалу́плівають хвасты́, бе́гають, калі́ зік.* Кішуроўшчына.

**ПАЗАМЯНІ́ЦЬ** *зак.* Замяніць, падмяніць. *Каб не пазамяні́ць ка́чак, ла́пкі прабіва́юць, зна́кі пазнача́юць для сябе́.* Буй.

**ПАЗАНЯ́ЦЬ** *зак.* Засланіць (пра ўсё, многае). *Усе́ во́кны ракі́та пазаня́ла, цемната́ яка́я, на́да пасе́ч.* Ракаў Засценак.

**ПАЗАПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Пазапальваць. *Іду́ць, пъзапа́люць аго́нь, хто – калясо́, хто што, хо́дзяць тады́, пяю́ць* [на Купалле]. Запруддзе.

**ПАЗАПЁРЦІ** *зак.* Падперці (пра ўсіх, многіх). *Мно́га у каго́ пазапёрлі дзве́ры на Купа́лу.* Гарадзец. *Пазапёрлі усё, вы́лезці нямо́жна з ха́ты.* Нямойта.

**ПАЗАПЛЫ́ЦЬ** *зак.* Заплысці, зарасці. *Кра́сачкі раслі́, а цяпе́р пазаплыло́.* Фасаўшчына.

**ПАЗАПРАГА́ЦЬ** *зак.* Пазапрагаць. *Пъзъпрага́лі* [коней], *вы́йшлі на смотр пі́ръм пасяўно́й.* Алексінічы.

**ПАЗАПРАСІ́ЦЬ** *зак.* Папрасіць. *Пъзъпрасі́ла прыве́зці грэ́цкіх круп.* Багданава.

**ПАЗАПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* Прыйсці ў запусценне, зарасці (пра ўсё, многае). *Лясы́ пъзапусці́ліся, глу́шшу зараста́юць.* Цясішча.

**ПАЗАПУХА́ЦЬ** *зак.* Апухнуць (пра ўсё, многае). *Во́чы пъзъпуха́юць* [ад укусаў пчол]. Міцюкова.

**ПАЗАПУ́ШЧАНЫ** *дзеепрым.* Запушчаны, недагледжаны. *Тут была́ красата́, бо́жа мой, сат быў, цяпе́р усё пазапу́шчана.* Баравікі.

**ПАЗАРАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Урадзіць, урадзіцца. *Пры не́мцах бу́льба пазарадзі́лася.* Алексінічы.

**ПАЗАРАСЦІ́** *зак.* Пазарастаць, зарасці якой-н. расліннасцю. *Куста́мі пъзърасло́.* Латыгаль. *Пазмянілася тут усё, пазарасло́.* Фасаўшчына, Нямойта.

**ПАЗАСІКА́ЦЬ** *зак. экспр.* Моцна пабіць (рэменем). *Узлі́за́ю з рэ́мінім: пазасіка́ю вас.* Багданава.

**ПАЗАСПЕ́ЦЬ** *зак.* Заспець, застаць (пра ўсіх, многіх). *Ба́бы, паднімáйціся, а то пъзаспéюць.* Савінічы.

**ПАЗАТАЧЫ́ЦЦА** *зак.* Схавацца (пра ўсіх, многіх). *Дзéці пазатóчацца пъд кравáццю – пярунá баяцца.* Запруддзе.

**ПАЗАТО́ХНУЦЦА** *зак.* Пазадыхацца, задыхнуцца (пра ўсіх, многіх). *І пазатóхліся там éтыя лю́дзі.* Леснікова.

**ПАЗАХАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Захацець (пра ўсіх, многіх). *Дзéці есь пъзъхацéлі, плáчуць.* Гарадок.

**ПАЗАЦВІЦІ́ЦЬ** *зак.* Пафарбаваць. *Пазацвіціць вазóк рóзавым цвéтам.* Баравікі.

**ПАЗАЦО́БАЦЦА** *зак. эмац.-ацэн.* Запэцкацца, забрудзіцца (пра ўсіх, многіх). *Карóвы ў торх пъзацóбъюцца.* Баравікі.

**ПАЗАЦЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Зацяніцца. *Зараслі травóй сады́, пазацянéлі.* Нямойта.

**ПАЗБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Збіцца, зблытацца (пра валасы). *Въласы́ пазбіліся, калтуны́ здзéлалісі.* Парэчча. 2. Пазбівацца, пазразацца. *Кляцы́ у бъръна́х пъсаб'юцца.* Жохава.

**ПАЗБІ́ЦЬ** *зак.* Пазбіваць, патаптаць. *Карóвы хóдзяць, зверабóй пасаб'юць.* Нямойта.

**ПАЗБЫ́ЦЬ** *зак.* Збыць, звесці. *Пазбы́лі авéчкі, німá авéчак.* Нямойта.

**ПАЗВАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пазводзіць, знішчыць. *Кнігавак пазвадзілі, ці гэ́та хімія?* Закур'е.

**ПАЗВАЗІ́ЦЬ** *зак.* Пазвозіць, звезці (пра ўсё, многае). *Дамы́ нéкуды пазвазілі.* Баравікі.

**ПАЗВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Выпасці (пра ўсё, многае). *Зу́бы па дным валіліся – пазваліліся.* Ракаў Засценак.

**ПАЗВАНО́ЧНІК** *м.* Пазваночнік. *Аперáцыю пазванóчніку здзéлалі, мозг брáлі.* Багданава. *Калі зру́шыліся пазванкі, мая́ бáбушка табé пазванóчнік устанóвіць.* Розмыслава.

**ПАЗВА́ЦЬ** *зак.* Паклікаць. *Пазувéш у хáту, так старыкі пяю́ць.* Алексінічы.

**ПАЗВЕ́СЦІ** *зак.* Пазводзіць, знішчыць. *Цвяты́ пазвялі.* Баравікі.

**ПАЗВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Вярнуцца (пра ўсіх, многіх). *Яны́ тады́ пазвярну́ліся с плéну.* Серкуці.

**ПАЗВЯРЭ́ЦЬ** *зак.* Стаць жорсткім, злым (пра ўсіх, многіх). *Пазвярэ́лі, параспіліся лю́дзі.* Баравікі.

**ПАЗДАРАВЕ́ЦЬ** *зак.* Паздаравець, паправіцца. *Прыду́ туды́, на рóдзіну, і паздаравéю.* Багданава.

**ПАЗДА́ЦЬ** *зак.* Паздаваць, здаць (пра ўсё, многае). *Усё паздáлі у калхóз.* Міцюкова. *Павёз і паздáў сéна ў сенáж.* Баравікі, Сукрэмна.

**ПАЗ'Е́СЦІ** *зак.* Паз'ядаць, з'есці (пра ўсё, многае). *Смаля́нкі ўсё паз'éлі.* Нямойта.

**ПАЗІВА́ЦЬ** *незак.* Пазяхаць. *Як пъзівáіць* [дзіця], *тады́ глáдзюць і гавóруць: «Вялік расці!»* Нямойта.

**ПАЗМЫВА́ЦЬ** *зак.* Змыць, знесці (пра ўсё, многае). *Такі дождж быў, руччóм бех, пазмывáў усё.* Серкуці.

**ПАЗМЫ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Пазмы́ла ўсё, лівень такі ліў.* Багданава.

**ПАЗМЯНІ́ЦЦА** *зак.* Змяніцца (пра многае). *Ужó пазьмянілася мнóга.* Кляпчэва.

**ПАЗНАХАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пазнаходзіць. *А тады́ пóслі пазнахадзіла і чугуны́, і міскі.* Партызаны.

**ПАЗНА́ЦЬ** *зак.* Пазнаць, распазнаць. *Пъзна́ла сваю каро́ву, атда́лі.* Алексінічы.

**ПАЗНЕ́СЦІ** *зак.* Знесці, разбурыць. *Жылі там маскалі́, дом іх пазняслі́.* Івоні.

**ПАЗО́Р** *м.* Ганьба, сорам. *Пазо́ру мне ні было́, у мяне́ чаты́ры дачкі́.* Цясішча. *Пазо́ру ні абярэ́сся.* Нямойта.

**ПАЗО́РНЫ** *прым.* Ганебны. *Хоць пазо́рная рабо́та – варо́н гъняць – пайшла́.* Нямойта.

**ПАЗРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Пазразаць, зрэзаць. *Пазрэ́жуць мак.* Цясішча.

**ПАЗЫЧА́ЦЬ** *незак.* Пазычаць. *Пазыча́лі се́на.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЗЫ́ЧЫЦЬ** *зак.* Пазычыць. *Ён быў заядлы ахо́тнік: к сусе́ду по́йдзіць хле́ба пазы́чыць, і руж'ё – нъ плячо́.* Рубежніца. *Прые́дзь, я табе́ пазы́чу травы́.* Кішуроўшчына. *У на́шай ма́ткі ёсць, пазы́чыць табе́.* Запруддзе, Чуцькі. *Пазы́ч мне хле́ба два ху́нты.* Сукрэмна.

**ПАЗЯ́БНУЦЬ** *зак.* Азябнуць, змерзнуць. *Маро́с, пъзя́блі ру́кі.* Вялікі Азярэцк. *Пазя́бла ду́жа тады́, як купа́лася.* Міцюкова.

**ПАІМЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць, пачаць рабіць што-н. *Паіме́лі прудува́ць пъ къмісіённуй цане́.* Фасаўшчына.

**ПАІ́ЦЬ** *незак.* Паіць. *Я пашла́ на двор каро́ў паі́ць.* Заазер'е.

**ПА́ЙКА** *ж.* Надзел зямлі для індывідуальнай апрацоўкі (касьбы сена, вырошчвання гародніны і да т. п.). *Па́йку далі́ касі́ць у калхо́зі.* Фасаўшчына. *Па́йку буракоў пъпало́ла.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Заазер'е, Карпавічы, Партызаны, Розмыслава. ПА́ЯЧКА *памянш.* *Ко́сіш сваю па́ячку.* Багданава.

**ПА́ЙМА** *ж.* Пасма, пучок. *Сарціру́еш лён: бярэ́ш у руку́ па́йму.* Запруддзе. ПА́ЙМАЧКА *памянш.* *Па́ймачка да па́ймачкі – вя́жуць лён, а цяпе́р – абы-я́к, і вязу́ць на заво́д.* Багданава. *Кап па́ймачка была́ – адна́ ка дной* [пра сноп лёну]. Запруддзе. *Разло́жыш на па́ймъчкі, на ро́ўнінькія.* Каралевічы.

**ПАЙСТРЫ́ЦЬ** *зак.* Навастрыць, натачыць. *Ні було́ каму́ ні грабе́ль, ні пілкі пайстры́ць.* Багданава.

**ПАЙСЦІ́** *зак.* 1. Пайсці. *У лазу́ по́йдзім: лазу́ падзяро́м.* Ульянавічы. *Пайшо́ў на во́зіра і пътану́ў.* Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Івоні, Каралевічы, Леснікі, Партызаны, Сянно. 2. Пакінуць. *Куды́ яна́ по́йдзіць ад бацько́ў?!* Вялікі Азярэцк. 3. Пачаць расці. *Трава́ пайшла́ расці́.* Фасаўшчына. 4. Уступіць у якую-н. арганізацыю. *Я пайшо́ў у парціза́ны у со́рак фтары́м гаду́.* Фасаўшчына. 5. Пачаць араць. *Ну, я і пашо́ў за плу́гам.* Івоні. 6. Стаць бацькам для чужых дзяцей. *На траі́х дзяце́й пашо́ў.* Багданава. 7. *перан.* Памерці. *Хъзя́ін пашо́ў на шэ́йсят во́сьмым гаду́.* Заазер'е.

**ПАКАЗА́ЦЦА** *зак.* З'явіцца. *Со́нца пъказа́лъся – цёпла.* Буй.

**ПАКАЗА́ЦЬ** *зак.* Паказаць. *Пакажы́ сваё ру́чкі!* Нямойта. ◊ ПАКАЗА́ЦЬ ДЗЕ РА́КІ ЗІМУ́ЮЦЬ. Жорстка пакараць, правучыць каго-н. так, каб не захацелася паўтарыць што-н. яшчэ раз. Багданава. ◊ ПАКАЗА́ЦЬ ПАЧЫ́М ХУНТ ЛІ́ХА. Жорстка пакараць, правучыць каго-н., каб непанадна было. *Я яму́ пакажу́ пачы́м хунт лі́ха.* Багданава.

**ПАКАЗЮ́ЛІЦЬ** *зак.* Вытарашчыць (пра вочы). *Во́чы яго́ пъказю́ліць ад тых духо́ў за сем рублёў.* Вялікі Азярэцк.

**ПАКАЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Патаўчы. *З гарбуза́ ўку́сная ка́ша: зва́рыш, пъкало́ціш кълато́във̌чкай.* Кляпчэва.

**ПАКАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Змерзнуць (пра ўсіх, многіх). *Пъкалеюць піскляткі, выйдуць на сонца – пагрэюцца.* Заазер'е.

**ПАКАЛЕ́ЧЫЦЬ** *зак.* Пакалечыць. *Раз было пакалечыла ў шахці, і рэбры пацёрла, і ўсё пацёрла.* Леснікова.

**ПАКА́ЛІВАЦЬ** *незак.* Паколваць. *Доктар, у мяне серца пъкалівъіць.* Самсоны.

**ПАКАЛО́ЦЬ** *зак.* Пракалоць, праткнуць (пра вушы). *Пакалола вушы, і адным вокам віжу.* Закур'е.

**ПАКАЛО́ЦЬ** *зак.* Пасекчы нейкі час. *Троху пакалолі дровы.* Нямойта.

**ПАКАНА́ЦЬ** *зак.* Памерці. *Пъканаіць чълавек.* Фасаўшчына.

**ПАКАПА́НЫ** *дзеепрым.* Пакапаны, перарыты. *Усе агароды акопамі пакапаны.* Ульянавічы.

**ПАКА́ПАЦЬ** *зак.* Пакапаць, пакаціцца. *Ажны слёзы пакапаюць, як ідуць па вуліцы маладыя жанчыны.* Ульянавічы.

**ПАКАРА́ЦЬ** *зак.* Пакараць. *Бог пакараў, што свайго дзяцёнка кінула.* Запруддзе. *Пъкараў нас немец.* Чуцькі.

**ПАКАРМІ́ЦЬ** *зак.* Пакарміць. *Дзіцёнка пакорміць, а сама жнець ілі грабець.* Фасаўшчына.

**ПАКАРЫ́ЦЦА** *зак.* Паабяцаць. *Ён брату пъкарыўся: буду жыць толькі тут, ні пайду да бап.* Леснікова.

**ПАКАРЭ́ЦЬ** *зак.* Зрабіцца брудным. *Балела – усё пъкарэла, во троху пасцірала.* Багданава.

**ПАКАСІ́ЦЬ** *зак.* Касіць нейкі час. *Пъкасіў адной касой, другой – ці вострья?* Міцюкова.

**ПАКАТО́К** *м.* 1. Вобад (у калёсах). *Могуць пакаткі адымацца.* Дуброўкі. 2. Тое, што коціцца. *А чарачка й пакаток, / Каціся мне ў раток* (з песні). Каралевічы.

**ПАКАТО́М** *прысл.* Покатам, упокат. *Пъкатом ляглі дзеці мае.* Запруддзе.

**ПАКА́ТЫ** *мн.* Лагі, па якіх закочваюць бярвёны на зруб. *Клеці рубілі, і столь, і сцены: пакатъмі закачываліс* [бярвёны]. Гарадзец. *Лябётка была, але я кьчаў пъ пъкатъх* [бярвёны]. Жохава.

**ПАКА́ЦІСТЫ** *прым.* Адхонны, пакаты. *Пакаціcты берах.* Багданава.

**ПАКАЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Паехаць. *А іна як увідзіла – немцы, пъкаціла нъзат у лес.* Серкуці. 2. *перан.* Пакасіць. *Ціф усіх пъкаціў – у аднэй, у другей хаце.* Нямойта. ◊ ХОЦЬ ШАРО́М ПАКАЦІ́. Нічога няма, зусім пуста. *Нічаво німа – хоць шаром пъкаці.* Апечкі.

**ПАКАЧА́ЦЦА** *зак.* Неяк пражыць, перабыць. *Лета пакачаліся ў ёўні.* Партызаны.

**ПАКАЧА́ЦЬ** *зак.* 1. Згрэбці ў кучкі. *Горох кьсамі мушчыны косюць, у кучкі пъкачаім, ён высахніць хърашо, цъпамі білі.* Каралі. 2. Нарабіць што-н. акруглай формы. *Дралі картошку, атцэжывалі, вымесіш, вымесіш і пакачаіш клёцкі.* Багданава.

**ПАКАШМА́ЦІЦЬ** *зак.* Пакусаць пашкуматаўшы. *Саъбака паъкаъшмаціў, паляжала, ачухалася, балець галава стала.* Апечкі.

**ПАКА́ШЫВАЦЬ** *незак.* Касіць нейкі час. *Рана пакашываюць і – нъ работу.* Неўгадава.

**ПАКІ́ДЗІШЧА** *н.* Тое, што пакінута, знаходзіцца без прыгляду. *Зъ пакідзішча быў дом, што купіў.* Заазер'е.

**ПАКІ́НУЦЬ** *зак.* 1. Кінуць каго-, што-н. *Я цябе, бабушка, ні пакіну.* Рулёўшчына. *Могуць завесці кіламетраў за дзвінаццаць і пакінуць там.* Вялікі Азярэцк,

Нямойта, Серкуці. 2. Астаўляць. *Дро́вы рэ́жуць, а су́чча пакіда́юць.* Заазер'е. 3. Спыніць якое-н. дзеянне. *Пакінь рашчэ́съвъць!* Кішуроўшчына.

**ПАКЛА́ЖА** *ж.* Паклажа. *Пакла́жу наклада́юць.* Івоні.

**ПАКЛА́СЦІ** *зак.* Пакласці, палажыць. *Вазьмі палажы́.* Нямойта.

□ *Не пакладзі к..., ні вазьмёш па́пу.* Партызаны.

**ПАКЛЁПАНЫ** *дзеепрым.* Пакляпаны, адбіты малатком (пра лязо касы). *Ці каса́ паклёпана?* Каралевічы.

**ПАКЛІНА́ЦЬ** *зак.* Папаклясці. *Іна́ ле́там кліла́, Ма́рфа пакліна́ла.* Нямойта.

**ПАКЛЯПА́ЦЬ, ПАКЛЕ́ПІЦЬ** *зак.* Пакляпаць. *Мушчы́на касу́ кле́піць, і я ш пакляплю́.* Баравікі. *Пъкляпі касу́.* Партызаны, Вялікі Азярэцк. *То касу́ пакле́піць на́да, то шчэ яшчо́.* Дольдзева.

**ПАКО́Й** *м.* Пакой. *Тут жыў пан Вънанко́віч, там у яго́ у до́мі пако́і* [вельмі вялікія] *былі́!* Баравікі. *Быў пан, у па́на быў пако́й.* Вялікі Азярэцк.

**ПАКО́ЙНІК** *м.* Нябожчык. *Як пако́йніка вязу́ць – звон б'ець.* Багданава. *Ба́чыць пако́йніка – на дошч* (павер'е). Ракаў Засценак.

**ПАКО́МШЫЦЬ** *зак.* Памяць. *Це́ста раздзе́лаіш – трэ́ба пако́мшыць.* Фасаўшчына.

**ПАКО́НЧЫЦЬ** *зак.* Скончыць (пра ўсіх, многіх). *Усе́ мае́ дзе́ці па дзе́сяць кла́саў пако́нчылі.* Мянюцева.

**ПАКО́РНЫ** *прым.* Паслухмяны. *Будзь пако́рнай каля іх, абхадзі́сь харашо́.* Запруддзе. *Вот така́я харо́шая іна́, пако́рная.* Багданава.

**ПАКРА́СІЦЬ** *зак.* Упрыгожыць. *Калі́нкаю умыва́лася, рабі́нкаю уціра́лася. / Ты, рабі́начка, пакра́сі мяне́, / Ты, ма́мачка, пахвалі мяне́* (з песні). Баравікі.

**ПАКРО́ВА** *ж.* Пакровы; восеньскае свята ў народна-царкоўным календары. *Пакро́ва – е́та ж во́сеньскі пра́зьнік.* Ракаў Засценак.

**ПАКРО́Ў** *м.* Тое ж. *А тады́ пе́рвага наябра́ – Пакро́ў.* Багданава.

**ПАКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* 1. Скруціцца, завянуць (пра ўсё, многае). *Усё уністо́жылася ат удабрэ́ння, лісцё пакруці́ласе.* Карпавічы. 2. *перан.* Прапасці. *Уся сям'я́ пакруці́лася, павярце́лася.* Запруддзе.

**ПАКРУЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Пакруціць. *Бура́н кру́ціць, усе́ пакруці́ў.* Цясішча. 2. Натачыць, падзіравіць. *Смаля́нкі ды́ркі пакруці́лі у бро́ўнах.* Партызаны.

**ПАКРЫВА́ЦЦА** *незак.* Пакрывацца, пабегаць (пра жывёлу). *У Каля́ды пакрыва́юцца ваўкі́.* Гарадзец.

**ПАКРЫВА́ЦЬ** *незак.* Накрываць страху, рабіць дах. *Кры́шу пакрыва́лі сало́май.* Алексінічы.

**ПАКРЫ́ЦЦА** *зак.* Пакрыцца, пабегаць (пра карову, казу). *Ні пакры́лася каро́ва – пірадо́йка.* Багданава, Алексінічы, Дольдзева, Запруддзе, Леснікова, Міцюкова, Мянюцева, Нямойта, Партызаны, Рассвет, Савінічы.

**ПАКРЫ́ЦЬ** *зак.* Накрыць страху, зрабіць дах. *Пакры́лі кры́шу сало́май.* Нямойта.

**ПАКРЫЧА́ЦЬ** *зак.* Пакрычаць. *Пакрычы́ць – на тэй ж... ся́дзіць.* Каралевічы.

**ПАКРЫ́ШКА** *ж.* Скураное покрыва ў хамуце. *Пакры́шка ко́ннъя у хамуце́.* Гарадзец.

**ПАКРЫШЫ́ЦЬ** *зак.* Пасыпаць, дадаць. *Пакрышу́ са́хъру у я́блыка і з'ем.* Неўгадава.

**ПАКУ́ДА** *злучн.* Пакуль. *Паку́да каня́ прывёў, няма́ мальца́.* Фасаўшчына.

**ПА́КУЛЛЕ, ПА́КУЛЛЯ** *н.* Адходы пры апрацоўцы лёну; пакулле. *Па́кулле – плахо́я, каб дзе ды́рку зато́ркнуць.* Дольдзева. *Па́кулля – ністо́жнья, дрэ́ннья, е́слі на́да што зато́ркнуць пьт стряхо́й.* Запруддзе.

**ПАКУ́ЛЬ, ПАКА́** *злучн.* Пакуль. *На́да падажда́ць, паку́ль акрэ́пніш.* Фасаўшчына. *Ляжы́ць там* [змяя], *паку́ль мура́шкі ні пья́ду́ць.* Алексінічы, Багданава, Дуброўкі, Неўгадава. *І пака́ сваю рабо́ту ня здзе́лаіш, ня по́йдзіш на ву́ліцу гуля́ць.* Гарадзец.

**ПАКУ́РВАЦЬ** *незак.* Курыць употайкі. *Паку́рвае, ад мяне́ хава́ўшысь.* Партызаны.

**ПАКУРНУ́ЦЦА** *зак.* Акунуцца. *Не ўтапі́ўся, так, пакурну́ўся.* Вялікі Азярэцк.

**ПАКУРО́ЧЫЦЬ** *зак.* Абрабаваць (?). *Пайду́, – ка́ець* [кажа], *– пакуро́чу ту́ю ба́бку.* Нямойта.

**ПАКУРЫ́ЦЬ** *зак.* Выпаліць. *Печ пакуры́ла, бу́льбы звары́ла.* Партызаны.

**ПАКУ́ТА** *ж.* Пакута. *Мой грэх і мая́ паку́та.* Дуброўкі.

**ПАЛА́** *ж.* Крысо. *Пьла́ у пальто́ мо́крья.* Каралі.

**ПАЛАВІ́К** *м.* Палавік. *Палавікі́ ткалі у пало́ску.* Кляпчэва.

**ПАЛАВІ́НА** *ж.* Палова. *У ма́мы дзе́сіць дзяце́й было́, пьлаві́на паме́рла.* Самсоны. *Тады́ пагі́бла пьлаві́на пьрціза́н і мі́рных людзе́й.* Закур'е, Серкуці.

**ПАЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* 1. Ужыцца. *Дачка́ з ёй ні пала́дзіла, шкамута́ла, бі́ла яе́.* Запруддзе. *А хто яго́ зна́ў, як вы пала́дзіця.* Вялікі Азярэцк. 2. Адрамантаваць, паправіць. *Пала́дзіць калёсы на́да.* Жохава.

**ПАЛАЖЫ́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Палажыўшы, паклаўшы. □ *Ні палажы́ўшы, ні во́зьміш.* Ульянавічы.

**ПАЛАЖЫ́ЦЦА** *зак.* Даверыцца, паспадзявацца. *Ты на яе́ да́жа ні пало́жысся: усё мо́жыць забра́ць.* Запруддзе.

**ПАЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Пакласці, палажыць. *Пе́рвы вяне́ц палажы́лі.* Гарадзец. 2. *перан.* Забіць, адправіць на смерць. *Ско́лькі палажы́лі людзе́й там, у Афганіста́не, страх!* Запруддзе.

**ПАЛАЗО́К** *м.* Дэталь плуга, якая ідзе па зямлі. *Палазо́к у плу́ге, штоп ро́ўная баразна́, штоп харашо́ апсціла́ў.* Нямойта.

**ПАЛАМА́ТЫ** *дзеепрым.* Зламаны. *Палама́тыя ра́мы тут былі́.* Заазер'е.

**ПАЛА́НКІ** *толькі мн.* Начовачкі для ачысткі зерня, круп; апалушкі. *Пасу́шым кру́пы – у пала́нкі, вы́ветрым.* Марозаўка. *У пьла́нках кру́пы пьла́лі.* Вялікі Азярэцк, Розмыслава. ПАЛА́НАЧКІ *памянш.* *Пьла́начкі – начо́вачкі мале́нькія.* Дольдзева. *Пала́начкі з дрэ́ва выдзеўбаюць, і пала́лі ячме́нь.* Гарадзец. *Пьла́начкі пьла́ць кру́пы.* Фасаўшчына, Каралі, Кляпчэва, Манголія, Неўгадава.

**ПАЛАСА́, ПАЛО́СА** *ж.* Нешырокі ўчастак ворнай зямлі. *Пьласу́ засе́іў ячме́нем.* Міцюкова. *Пьха́лі на сваю пьласу́.* Багданава, Гарадзец, Ракаў Засценак, Фасаўшчына, Дуброўкі. *Пало́са зямлі́ у ка́ждага была́.* Каралі. ПАЛО́САЧКА *памянш.* *Зямля́ была́ пало́сьчкамі.* Неўгадава.

**ПАЛАСА́ТЫ** *прым.* Паласаты. *Гърнъста́і і бе́лінькія, і пъльса́тыя.* Марозаўка.

**ПАЛАСІ́НА** *ж.* Нешырокі ўчастак ворнай зямлі. *У ко́жнага паласі́на была́.* Самсоны. ПАЛАСІ́НКА *памянш.* *Яго́ паласі́нку злажы́ў пяру́н, усё жы́та злажы́ў трубо́й.* Каралевічы.

**ПАЛАСКА́ЦЬ** *незак.* Паласкаць, мыць. *Зімо́й пьльска́ла бяллё у про́лупцы.* Гарадок. *Кьпа́лі ране́й са́жалкі такія, там мы́лі і пьласка́лі пра́жу.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**ПАЛАСНІ́ЦА** *ж.* Нешырокі ўчастак ворнай зямлі. *Якáя-йта жызнь, на такóй паласніцы жыць?* Самсоны.

**ПАЛА́ТА** *ж.* Асобны пакой у бальніцы. *У тэй палáце вóздух абы-які.* Нямойта.

**ПАЛАТВЕ́ЧАР'Е** *н.* Абед, сярэдзіна дня. *Палатвéчар'е былó, палавіна дня, а увéчары нáда былó éсці.* Багданава.

**ПАЛАТНО́** *н.* Ільняная белая тканіна; палатно. *Пълатнó бéлінькае былó, што бумáга, ня хýжы купных.* Каралі. *Пълатнó бялілі ў пóпілі – трýпкі звáлісь.* Вялікі Азярэцк, Алексінічы, Апечкі, Карпавічы, Міцюкова, Закур'е.

**ПАЛАТНЯ́НЫ** *прым.* Зроблены з палатна. *Бéлыя, свайгó мацерыялу, тáпкі, палатняныя.* Цясішча.

**ПАЛА́Ц** *м.* Палац. *Палáцаў ні быó: бéдна жылі.* Запруддзе.

**ПАЛАЦЕ́НЦА** *н.* Ручнік. *І пълацéнцы бéлінькія у нас былі.* Вялікі Азярэцк. *Палацéнца кухóннае шчэ чыстае.* Нямойта, Гарадзец.

**ПАЛА́ЦІ** *толькі мн.* Насціл з дошак ад печы ўздоўж сцяны, дзе спалі; палаці. *Пълáці – кап спаць, лі пéчы.* Фасаўшчына, Гарадзец. *На палáцях мáці сыр сушыла.* Міцюкова.

**ПАЛА́ЦЬ** *незак.* Апалаць, ачышчаць абмалочанае ці абтоўчанае зерне ад мякіны апалушкамі. *Пълáем у пълáшках зярнó.* Леснікова. *Авёс спáраны высушыш, а патóм палáеш.* Цясішча, Баравікі, Запруддзе, Партызаны.

**ПАЛА́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Прымацаваны да крокваў. *Крыша лазóй пълáчъна былá.* Алексінічы.

**ПА́ЛАЧКА** *ж.* Форма ўліку працоўных дзён у калгасе. *За пáлачкі рабóталі ў кахóзі.* Цясішча. *За пáлачкі тады рабóталі.* Заазер'е.

**ПА́ЛАШНЫ** *прым.* Драўляны. *Дзéлалі, бувáла, барóны пáлашныя – дубóвыя спіцы тóркалі.* Запруддзе.

**ПАЛЕ́ГЧЫ**, **ПАЛЕ́ХЧЫ** *зак.* Палегчы, прыгнуцца сцяблом да зямлі (пра злакі). *Зірнавыя пълягли, бýльбы німá.* Гарадзец. *Гарóх ад даждждá мóжыць палéхчы.* Фасаўшчына.

**ПАЛЕ́НА** *н.* Палена, бервяно. *На Купáлле бáбы пяюць, дзéці выкінуць палéна.* Марозаўка.

**ПА́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Палены, апалены. *Кірпіч быў не пáлены, а сырцóм.* Закур'е. *Сáхар пáлены давáлі ад кóхліка, яшчэ шкіпідáр на сáхар кáпалі.* Гарадзец.

**ПАЛЕ́ПШАЦЬ** *зак.* Паздаравець. *Мóжа памрэш, а мóжа і палéпшаеш.* Кішуроўшчына. *Я б палéпшала, каб дóма былá.* Баравікі, Багданава, Заазер'е, Партызаны.

**ПА́ЛЕЦ**, **ПА́ЛІЦ** *м.* 1. Палец. *Укусіла за пáліц асвá.* Кішуроўшчына. *Маé пáльцы бъляць.* Запруддзе, Дольдзева, Карпавічы. 2. Тое, што па памеры роўна таўшчыні (шырыні) пальца. *Чэрып у вуўкá тóўстъй, у пáліц.* Пожанькі.

**ПАЛЕ́ШЧАЦЦА** *незак.* Хрумсцець, трашчаць. *Як павярнý галавý, палéшчацца нéшта.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЛЁТАЦЬ** *зак.* Палятаць. *Дзе пчóлы ні палётаюць, там яблык ні бýдзіць.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЛІ́ВА** *ж.* 1. Шклопадобная маса, якой пакрываюць керамічныя вырабы. *Бывáла, гандляр прыéдзець с палівай. Майсцерá былі, паліўнік дзéлаў, гаршкі.* Гарадзец. 2. *зб.* Посуд, пакрыты палівай. *Палíва – эта пасýда такáя.* Заазер'е.

**ПАЛІВА́ННЕ** *н.* Паляванне. *На палівáнне дýжа ні хадзілі.* Фасаўшчына.

**ПАЛІВА́НЫ** *прым.* Пакрыты палівай. *Кубáр гліняны, былі палівáныя, пад малакó.* Дольдзева. *Місачкі тады дзéлалі палівáныя, гліняныя, латýшкі цёмныя.* Каралі. *А міскі такія палівáныя, бальшэ́я.* Багданава.

**ПАЛІВА́ЦЬ** *незак.* Ліць (ваду). *Дарóгу палівáлі, кап пылу ні былó.* Багданава.

**ПАЛІ́ВАЧНІК, ПАЛІ́ВАШНІК** *м.* Гліняны паліваны гаршчок. *Гаршкі дзéлалі, палівачнікі.* Леснікова. *Палівачнік мóжыць здзéлаць. Паліваашнік бальшэ́й быў у мáмы.* Каралі.

**ПАЛІЖА́ЦЬ** *зак.* Паляжаць. *А ён лёг паліжáць, узяў і памёр.* Гарадзец.

**ПАЛІКЛІ́НІКА** *ж.* Паліклініка. *У паліклініцы медсястрóй дóчка.* Багданава.

**ПАЛІНА́ЦЬ** *зак.* Паліняць, выцвісці. *Палінáў, аблёз рушнік.* Багданава. *Палінáла спанніца, а гарэ́ла ж агнём.* Неўгадава.

**ПАЛІСА́ДНІК** *м.* Палісаднік. *Пълісáднік тут у нас, юргінь расцёць крáсная і бурдóвая.* Гарадзец.

**ПАЛІТРЫ́Т, ПЫЛІТРЫ́Т, ПІЛІТРЫ́Т** *м.* Поліартрыт, хранічнае захворванне. *Палітрыт мяне́ вырубіў, а былá дасýжая бáба.* Марозаўка. *Пылітрыт у мяне́: у рызіне* [у гумавых ботах] *хадзіла.* Латыгаль, Партызаны. *Пілітрыт замýчыць кáго хош.* Нямойта.

**ПАЛІХМА́ЦІР** *м.* Цырульнік. *У нас у калхóзі быў дъ вайны паліхмáцір свой.* Заазер'е.

**ПАЛІ́ЦА** *ж.* Паліца. *Нъ паліцы і міскі, і лóшкі клáлі.* Алексінічы. *У бывáлъшніх людзéй хлеб ліжáў нъ паліцы і нъ стале́.* Цясішча.

**ПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Паліць (вадой). *Хай паллёць гуркі.* Партызаны.

**ПАЛІ́ЦЬ** *незак.* Паліць, спальваць. *На Купáла, былó, кастры палілі.* Самсоны. *Нéмцы нáчалі паліць дзярэ́ўні, дзе парцізáны стаялі.* Леснікова, Алексінічы, Заазер'е, Запруддзе, Марозаўка, Міцюкова, Партызаны, Парэчча, Станюкі, Чуцькі.

**ПА́ЛКА** *ж.* 1. Палка. *Праз дзірку у пáлцы пралівáлі вадý – ад сурóку* (звычай). Багданава. 2. *мн.* Пра ўдары палкай як пакаранне. *Мне сéмдзесят пяць пáлак далі, а тым – па сóтні.* Фасаўшчына. 3. Пра вельмі худога чалавека. *Янá здзéлалася як пáлка, высахла.* Партызаны. *Ён што пáлка.* Багданава.

**ПАЛКА́РКІ** *толькі мн.* Маленькія санкі, якія выкарыстоўваліся для перавозкі бярвення; падсанкі, каркі. *Рагуты, а хто завёць палкáркі, – э́та павóскі.* Савінічы.

**ПАЛО́ВА** *ж.* Мякіна. *Палóва – з зірнá атхóды, тóе, што вéтраюць.* Багданава. *Палóву мятлóй змітáлі.* Дольдзева, Фасаўшчына, Дуброўкі.

**ПАЛО́ВЫ** *прым.* Які ўтрымлівае палову – мякіну. *Упéрат лю́дзі éлі хлеп палóвы, а сáмі былі здарóвы. Змятýць каласкі, мякінка астаéцца ў жыці, і малóлі гéткую, то хлеп звáлі палóвы.* Багданава. *Палóвае жыта.* Фасаўшчына.

**ПАЛО́ГІ** *прым.* Адхоністы, спадзісты. *Калі палóгі бéраг, тады пярýн б'ець ля вады.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЛО́К** *м.* Насціл з дошак ад печы ўздоўж сцяны, дзе спалі; палаці. *Ат аднóй сцяны да другéй здзéлаў палóк: спáлі там.* Леснікова. *Два казлы стáвяць, адзін кала шчытá, другі кала сцéнкі, і прыбівáюцца дóскі – гэ́та палóк.* Багданава, Гарадзец, Рулёўшчына. *Называліся палкі, ат шчытá цірраз усю сцянý, палóк называўся.* Леснікі.

**ПАЛО́НІК, ПАЛО́ННІК** *м.* Апалонік, вялікая лыжка. *Палóнікам наліць сýпу на ўсю міску.* Вялікі Азярэцк. *Сáмі дзéлалі лóшкі, палóнікі, дзірвя́нные, с яблыні, харóшыя, крэ́пкія.* Каралі, Дольдзева. *Палóннікам суп налівáем.* Вялікі Азярэцк,

Міцюкова, Нямойта. ПАЛО́НІЧАК *памянш. Па адны́м пало́нічку су́пу падле́йце.* Міцюкова.

**ПАЛО́ННІК** *м.* Апалонік, малёк жабы. *Пало́ннікі выво́дзяцца с ікры́.* Вялікі Азярэцк. *Пало́ннікуў гэ́тых аж кішы́ць.* Каралі. *Мы таго́ буцінка́, што буця́н скінуў з гнізда́, вы́кармілі. Ён і пало́ннікі еў, і лягу́шку еў.* Сянно.

**ПАЛО́ПАЦЦА** *зак.* Лопнуць, разарвацца (пра ўсё, многае). *Кало́нкі ні рабо́тъюць: тру́бы пало́пълісі.* Міцюкова.

**ПАЛО́ПАЦЬ** *зак.* Папляскаць (у далоні). *Пало́палі у дало́ні.* Каралевічы.

**ПАЛО́СКА** *ж.* 1. Палоска. *Палевая мыш – сама́ жо́ўцінькая, а пало́ска чо́рнінькая на спіне́.* Багданава. ПАЛО́САЧКА *памянш. Шчу́ка як гот пръжыла́, так пу луске́ – пало́съчка такая.* Сянно. 2. Нешырокі ўчастак ворнай зямлі. *На́да іці на пало́ску, жаць сярпо́м.* Розмыслава. *Адну́ пало́ску узара́лі – буты́лка.* Багданава, Каралі, Партызаны.

**ПАЛО́ЦЦЕ** *н.* Прапалка. *Гаро́т засе́іш, а тады́ – пало́цце.* Запруддзе.

**ПАЛО́ЦЬ** *незак.* Палоць. *Пало́ць на́да бу́льбу.* Багданава. *Пало́лі ба́бы лён, а ма́льчык гуля́ў кала іх.* Фасаўшчына, Запруддзе.

**ПАЛО́ШАЧАК** *м. памянш.* Апалонік, вялікая лыжка. *Па адны́м пало́шъчку су́пу падле́йце.* Міцюкова.

**ПАЛСУ́ШКА, ПАЛУСУ́ШКА** *ж.* 1. Падсохлае зверху сена на пракосах. *Палсу́шка вы́съхла, трэ́ба варо́чыць па ве́тру.* Леснікова. 2. Сена, якое недастаткова высахла. *Се́на шчэ палусу́шка, хай со́хніць.* Заазер'е.

**ПАЛУБА́НІК** *м.* Прылазнік. *Зале́тась у ба́ні уве́сь палуба́нік сарва́лі, но злавілі тхара́.* Партызаны.

**ПАЛУ́ДНАВАЦЬ** *незак.* Есці. *Упе́рат каза́лі: «Хадзі́це палу́днаваць, сне́даць»* [кажуць таму, хто зойдзе раніцай, калі ядуць]. Багданава.

**ПАЛУПА́ЦІЦЬ** *зак.* Пакляпаць, пабіць (касу). *Пълупа́ціў касу́.* Фасаўшчына.

**ПАЛУПІ́ЦЬ** *зак.* Палупіць, пачысціць. *Палу́піць цыбу́лі, я́йца – змяша́іць.* Фасаўшчына.

**ПАЛУ́ЧШАЦЬ** *зак.* Палепшаць (пра стан здароўя). *Мо́жа, палу́чшае мне.* Міцюкова. *Мая рука́ палу́чшала.* Партызаны.

**ПАЛУ́ЧШЫ** *прым.* Лепшы. *Палу́чшых дзе́вак пабра́лі за́муж.* Ульянавічы.

**ПАЛУЧЫ́ЦЦА** *зак.* Атрымацца. *Як калі палу́чыцца з ураджа́ем.* Леснікова.

**ПАЛУЧЫ́ЦЬ** *зак.* Атрымаць (пра грошы). *Што я пулучу́ – со́рак пяць рублёў. Усё с пе́нсіі купля́ю.* Багданава.

**ПАЛУШУ́БАК** *м.* Кароткі кажух. *Я надзе́ла палушу́бак, ва́ленкі і папе́раду дрылюва́ла.* Заазер'е.

**ПАЛУШЫ́НА** *ж.* Шкарлупіна. *Ку́рыца зне́сла вы́лівак, без палушы́ны.* Запруддзе.

**ПАЛЫ́Н** *м.* Палын. *Палы́н – лячэ́бны, нарвём, е́слі пано́с – кіпяці́м.* Каралі. *Палы́н, палы́н – трава́ го́ркая, / А я ў ма́менькі адна́, бяздо́льная* (з песні). Каралевічы, Багданава, Буй, Жохава, Заазер'е, Запруддзе, Рэчкі.

**ПАЛЬТО́** *н.* Паліто. *С свайго́ сукна́ пальто́ на зрэ́б'і пашы́лі, як за́муш ішла́.* Гарадзец. ПАЛЬЦЕ́ЧКА *памянш.-ласк. Індзюк як увідзіў кра́снае пальце́чка, уклю́нуў.* Буй.

**ПАЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Паляваць, шукаць здабычу. *Я́страп то́жа зімо́й палю́іць: быва́е, на гълуба́ нъва́ліцца.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЛЯВУ́ШКА** *ж.* Жывёліна, падобная да мышэй і пацукоў; палёўка. *У кладо́ўцы пупа́лі ў па́стачку мале́нькія палявушкі.* Нямойта.

**ПАЛЯВЫ́** *прым.* ○ ПАЛЯВА́Я МЫШ. Палёўка. *Палява́я мыш – сама́ жо́ўцінькая, а пало́ска чо́рнінькая на спіне́.* Багданава.

**ПАЛЯГЧЭ́ЦЬ, ПАЛЯХЧЭ́ЦЬ** *зак.* Палягчэць, палепшаць. *Табе́ ш тро́ху ды́хаць палягчэ́ла.* Міцюкова. *Як ста́ла кла́сці кампрэ́с, мне паляхчэ́ла.* Багданава, Баравікі, Марозаўка, Рулёўшчына.

**ПАЛЯДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Паглядзець. *Пълядзі́, пъжа́ру ні було́, а слівінка ссо́хла.* Багданава. *Як пълядзе́лі нъ апёнкі, так яны́ і ссо́хлі.* Пожанькі, Неўгадава.

**ПАЛЯ́НА** *ж.* Паляна. *Пъля́на заве́цца, як ле́су нямá.* Багданава. ПАЛЯ́НКА *памянш. Таке́я го́ръчкі, пъля́нкі, а на іх суніцы ёсь.* Партызаны. *По́йдзім на пъля́нку.* Запруддзе.

**ПАЛЯНЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць лянівым (пра ўсіх, многіх). *Яны́ там палянéлі ў го́радзе, а тут – рабо́та.* Запруддзе.

**ПАЛЯ́ПАЦЬ** *зак.* Пастукаць. *Па мі́сцы пъля́пъюць, і ціплёнкі бягу́ць.* Жохава.

**ПАЛЯРЫ́Ш, ПАЛЯ́РУС** *м.* Захворванне ў кароў. *Пълярыш – апо́хніць у каро́вы ві́ма, кро́ўю ж і гно́ем до́іцца.* Ракаў Засценак. ◊ А ПАЛЯ́РУС ЯГО́ ЗНА́ІЦЬ. Невядома. Запруддзе.

**ПАЛЯ́ТЫ** *мн.* Кураняты. *У нас не цыпля́ты, а паля́ты.* Багданава.

**ПАЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Упасці. *Во, пъляце́ла і руку́ зламі́ла.* Вялікі Азярэцк. 2. Хутка паехаць, пабегчы. *Пашо́ў касі́ць на кънáву, а туды́ пъляце́лі паліца́і.* Багданава.

**ПАМАГА́ЦЬ** *незак.* Дапамагаць. *Яны́ адзі́н аднаму́ пъмага́юць.* Багданава. *Ён табе́ так, задармá, ні ста́не памага́ць.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Заазер'е, Нямойта, Чуцькі, Неўгадава. *Лю́дзі як жнуць, то гаво́раць: «Пъмъга́й табе́ бог». – А ён атвіча́іць: «Спасі́ба».* Запруддзе.

**ПАМА́ЗАЦЬ, ПУМА́ЗАЦЬ** *зак.* 1. Пакрыць паверхню слоем чаго-н. *Дзе́ці ма́сла здзе́лаюць, пама́жуць скі́пку хле́ба і – на ву́ліцу.* Фасаўшчына. *Нямно́шка пъма́шчэ, як бу́дзіць гаі́ць, так ма́шчэ.* Запруддзе. 2. Змазаць што-н. *Пума́заць на́да къля́со.* Багданава.

□ *Як пама́жаш, так і пае́дзеш.* Каралевічы.

**ПАМАЗО́К** *м.* Невялікі пэндзаль. *Пъмазо́к – бялі́ць сцэ́ны.* Запруддзе.

**ПАМАЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Разбіць (пра ўсё, многае). *Памалаці́ў во́кны табурэ́там.* Багданава.

**ПАМАЛЕ́НЬКУ** *прысл.* Паціху. *Цягну́ памале́ньку.* Ульянавічы.

**ПАМАЛІ́ЦЦА** *зак.* Памаліцца. *Чарау́ніца памалі́лася, вужа́кі прыгаюць.* Міцюкова.

**ПАМАНІ́ЦЬ** *зак.* Падазваць. *Вот жа скаці́на пчо́лы: ні яе́ памані́ць, ні яе́ загна́ць!* Нямойта. *Пама́ніш саба́ку і даш малако́ ат каро́вы.* Запруддзе, Міцюкова.

**ПАМАРО́ЗІЦЬ** *зак.* Памарозіць. *Памаро́зіў ле́тась маро́с.* Ракаў Засценак.

**ПАМАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Намачыць. *Пайшла́ сваёй мо́ччу пъмачы́ла ліцо́, і пъмагло́.* Міцюкова.

**ПАМАШНІ́К** *м.* Памочнік (машыніста). *Ён памашні́к на по́ездзі.* Запруддзе.

**ПАМАШНІ́ЦА** *ж.* Памочніца. *Ма́ма, я табе́ прывязу́ памашні́цу, пъмага́ць.* Нямойта. *За́ра-зарыца, бо́жая памашні́ца, памага́іш ты усі́м: сляпы́м, храмы́м, нямы́м* (з замовы). Багданава.

**ПАМЕ́НЕЦЬ** *зак.* Паменшыцца (пра колькасць). *Паме́нела маладзёжы ў дзярэ́ўні.* Баравікі.

**ПАМЕ́НШАЦЬ** *зак.* Сцішыцца, зменшыцца (пра дождж). *Дождж ужо́ паме́ншаў.* Нямойта.

**ПАМЕРКАВА́ЦЬ** *зак.* Прымерыць. *На́да памеркава́ць табе́ жале́тку, не здзява́й, бяры́ дамо́й.* Нямойта.

**ПАМЕ́РЦІ** *зак.* Памерці. *На кла́дбішча насілі я́йцы кра́сныя, а як хто памрэ́ць се́літа, то бе́лыя я́йцы нясу́ць* (звычай). Чуцькі. *Раз увідзіць лягу́шку нежыву́ю – хто-не́будзь памрэ́ць* (павер'е). Багданава, Баравікі, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Запруддзе, Івоні, Каралевічы, Кляпчэва, Леснікова, Міцюкова, Нямойта, Партызаны, Ракаў Засценак, Неўгадава.

**ПА-МЕ́СНАМУ** *прысл.* Па-мясцоваму. *Іва́н у нас такі пра́знік, называ́ецца па-ме́снаму.* Фасаўшчына.

**ПАМЕ́ЦІНА** *ж.* Паляна. *Нъ паме́ціні ў ле́сі ры́жыкі і ўсякія грыбы́ расту́ць.* Сукрэмна.

**ПАМЕ́ШАНЫ** *прым.* Змешаны. *У нас паме́шаны язы́к.* Кляпчэва.

**ПАМЁТ** *м.* 1. Узараны ўчастак абложнай зямлі; няўдобіца. *Пад лён уздзіра́лі памёт, ту́ю зямлю́, што мно́га ліжа́ла, што й трува́ там ні расла́.* Гарадок. 2. Паляна. *Хрушчы́ пу памётъх расту́ць у ле́сі.* Сукрэмна.

**ПАМЁТ** *м.* Памёт, гной (курыны). *У нас памёт – гэ́та куры́ны гной.* Алексінічы. *Ат курэ́й памёт – у гаро́т.* Ракаў Засценак, Сукрэмна.

**ПАМІ́Ж, ПАМУ́Ж** *прыназ.* Паміж. *Паміж кусто́ў на гаро́дзе ляжы́ць жэ́ншчына і двое дзе́так забітых.* Алексінічы. *Паму́ж дубніко́м быў ху́тър.* Латыгаль.

**ПАМІ́Н** *м.* Абавязковыя абрадавыя стравы, якія ўжываюцца на памінках. *Са́мы гало́ўны памін – куцця́, ка́ша, паліўка.* Карпавічы.

**ПАМІ́Н** *м.* Успамін. *Кап ні я, кап ні спаса́ла яго́ – памі́ну б не было́ з яго́.* Жохава.

**ПАМІ́НАК** *м.* Звесткі. *Памі́нку ні было́, чаму́ гэ́та Забо́р'я называ́ецца.* Забор'е.

**ПАМІНА́ЦЬ** *незак.* 1. Успамінаць, узгадваць. *Вот і ста́лі паміна́ць Хрыста тады́.* Дольдзева. *Бо́га паміна́лі – Бох сахраня́ў.* Цясішча. *На Дзяды́ мёртвых паміна́лі.* Нямойта. 2. Спраўляць памінкі. *До́ма бо́льшай ча́сцю паміна́юць* [пакойнікаў на Дзяды]. Запруддзе. ◊ ПАМІНА́Й ЯК ЗВА́ЛІ. Знік, уцёк, схаваўся дзе-н. *Уцапі́ўся за мяне́, а наза́д – паміна́й як зва́лі.* Міцюкова.

**ПАМІ́НКІ** *толькі мн.* Памінкі. *Прые́дуць дзе́ці, памі́нкі атпра́вюць і пае́дуць, а ха́та пуста́я.* Міцюкова. *Ла́ткі – на памі́нках ці на хрэ́сьбінах.* Чуцькі.

**ПАМІНУ́ТНА** *прысл.* Штохвілінна. *Паміну́тна дзяцёнка на́да пъдзіржа́ць, кап не пла́каў.* Міцюкова.

**ПА́МІТНІК** *м.* Помнік. *Лі Ча́шнік ім па́мітнік пъста́вілі.* Закур'е.

**ПАМІША́ЦЬ** *зак.* Пераблытаць. *Паміша́ла, по́слі цябе́ зааце́хніцай была́ Га́ля.* Міцюкова.

**ПАМНО́ГУ, ПАМНО́ГА** *прысл.* Памногу, шмат. *Се́м'і бальшэ́я былі́, дзяце́й памно́гу было́.* Самсоны. *Грыбо́ў – ёсь, і памно́га су́шым.* Сяргейкі. *Аве́чак дзіржа́лі памно́га.* Леснікі, Нямойта.

**ПАМО́Р** *м.* Мор, эпідэмія. *Тут ужо́ то́жа бу́дзе памо́р.* Фасаўшчына.

**ПАМО́РА** *ж.* Гора, няшчасце. *Ба́ба пла́чыць: «А бо́жа, мой бо́жа! А мне памо́ра!»* Рубежніца. *Яна́ усё пра яго́, усё пра яго́! Ой, памо́ра ды і то́лькі!* Міцюкова.

**ПАМО́РШЧЫЦЦА** *зак. перан.* Памяцца, змяцца. *Памы́ла ў лугу́* [палатно], *паніслá, паразве́шывала, паве́сіла, а яно́ памо́ршчылася.* Багданава.

**ПАМО́ЎКА** *ж.* Памоўка, гаворка. □ *На во́ўка памо́ўка, а ры́бу ліса́ з'е́ла.* Каралевічы, Ульянавічы.

**ПАМО́Х** *м.* Ручка (дзяржанне) ў касе; касільна. *Памо́х у касе́ – во.* Фасаўшчына.

**ПАМО́ШЧАНЫ** *дзеепрым.* Памошчаны, насланы. *А к пе́чы пол памо́шчаны.* Серкуці. *Ла́ўкі памо́шчаныя, бывáла, у хáці былí.* Нямойта.

**ПАМПУ́ШКІ** *мн.*, **ПАНПУ́ШКА** *ж.* 1. Страва з бульбы. *Пампу́шкі калí здзéлаю с пáранай бу́льбы.* Буй. *Панпу́шкі паклí дáжэ з бу́льбы гнілэ́я.* Алексінічы, Нямойта. 2. Сухары. *Пампу́шкі мы звáлі сухáрыкі, з мукí – яшчэ́ смашнéй былí.* Запруддзе. 3. *эмац.-ацэн.* Пра тоўстую жанчыну. *Во, пашлá, панпу́шка.* Нямойта.

**ПАМЫ́ЙКА** *ж.* Пасудзіна, у якую зліваюць памыі; памыйніца. *Укíнь ягó ў памы́йку* [хлеб, які ўпаў на падлогу]. Гарадок.

**ПАМЫ́ЙКІ** *толькі мн.* 1. Памыі. *Памы́йкі – у вядрó і на гарóт, пóпіл – тóжа на гарóт.* Багданава. 2. *эмац.-ацэн.* Пра нешта нізкай якасці. *Віно́ – э́та памы́йкі.* Серкуці.

**ПАМЫ́ЦЬ** *зак.* Памыць. *Вару́шкі памы́іць жóнка, атвáрыць і пъжáрыць на сáле.* Цясішча. *Нáда ў хáці памы́ць.* Багданава.

**ПАМЯЛО́, ПУМЯЛО́** *н.* Венік, якім падмятаюць под у печы; памяло. *Як пéчку мялí, то брáлі памяло́, з éлачък.* Каралі. *Пумяло́ с сасóнніку было́.* Нямойта. *Вы́мяту пéчку пъмялóм – скары́начка ў хлéбі чы́стая.* Леснікова, Багданава, Буй, Серкуці, Чуцькі.

**ПАМЯСІ́ЦЬ** *зак.* Памяць. *У кулакý памéсіш талакнó і еш.* Багданава.

**ПА́МЯТЛІВЫ** *прым.* Памятлівы. *Сабáкі пáмятлівыя: пудфутбóліў – пóмніць бу́дзіць дóўга.* Вялікі Азярэцк.

**ПА́МЯТНЫ** *прым.* Тое ж. *Я пáмятны: усё пáмятаю!* Жохава.

**ПА́МЯЦЬ, ПА́МІЦЬ** *ж.* Памяць. *Забу́дзісся* [на што-н.], *і скажы́: «Дай, бóжа, пáміць!» – і ўзду́мъіш.* Ракаў Засценак. *Пáмяць ужó ні тъкáя дóбрая стáла.* Чуцькі, Нямойта, Рэчкі, Станюкі, Сянно, Закур'е. *Івáн Пáўлавіч Тумінéц жывéць ужó сто гадóў. Цяпéрыцька ён пры пáміці.* Алексінічы. ◊ НА <МАЁЙ> ПА́МЯЦІ. Пры жыцці каго-н., хто быў сведкам чаго-н. *Нъ маéй пáмяці адзін трáктар прышóў, так за ім дзéці бéглі, а цяпéр – і трактары́, і камбáйны.* Алексінічы.

**ПАН** *м.* Пан, памешчык. *Дзед Аўхім рабóтаў пры пáну.* Баравікі.

**ПАНАБІ́ЦЬ** *зак.* Панабіваць, убіць (пра ўсё, многае). *Гвазды́ панаб'юць, як грэ́бенец.* Запруддзе.

**ПАНАБРА́ЦЦА** *зак.* Панабірацца, напіцца (гарэлкі). *П'я́ныя ўсе, панабрáліся.* Ульянавічы.

**ПАНАБРА́ЦЬ** *зак.* Узяць у якой-н. колькасці. *Панабрáла трóе трусóў.* Запруддзе.

**ПАНАВА́ЦЬ** *незак.* Жыць у раскошы. *Не пънавáла, а гъравáла.* Дуброўкі.

**ПАНАГАТО́ВІЦЬ** *зак.* Прыгатаваць шмат (ежы). *Панагатóвілі яды́, сялёдак.* Баравікі.

**ПАНАГНАІ́ЦЬ** *зак.* Нацерці (мазалі). *Мазалёў панагнóіш на льну.* Багданава.

**ПАНАГНА́ЦЬ** *зак.* 1. Прыгнаць (пра ўсё, многае). *Кóні туды́ ду́жа пънъгнáлі.* Баравікі. 2. Панаганяць. *Цы́пак панагóніш на нагáх.* Багданава.

**ПАНАГНІ́ЦЬ** *зак.* Пагнісці ў вялікай колькасці. *Панагнілі я́блыкі – карóвам давáлі.* Запруддзе.

**ПАНАДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Абуць (пра ўсіх, многіх). *Пънадзéлі бóты высóкія і пашлí.* Серкуці.

**ПАНАДУМА́ЦЬ** *зак.* Панадзімаць, нанесці ветрам. *Пънадумáла снéгу.* Кішуроўшчына.

**ПАНАДУ́ЎШЫСЯ** *дзеепрым.* Панадзіманы, натапыраны. *Ліжáць гóлыя, панаду́ўшыся птýшкі, папамёрзлі.* Нямойта, Ульянавічы.

**ПАНАДУ́ЦЬ** *зак.* Панадзімаць, нанесці ветрам. *Ва ўсе шчэ́лкі сне́гу панадуло́!* Каралевічы.

**ПАНАЕ́ХАЦЬ** *зак.* Наехаць, прыехаць у вялікай колькасці. *Нінадзе́йна не́мцы панае́халі.* Леснікова.

**ПАНАЖА́РАЦЬ** *зак.* Напражыць у вялікай колькасці. *Панажа́раш рыжыкаў.* Баравікі.

**ПАНАЖЫ́** *мн.*, **ПО́НАЖ, ПО́НАШ, ПО́НУШ, ПАНО́Ш** *м.* Прылада ў ткацкім станку ў выглядзе дзвюх або некалькіх дошчачак пад кроснамі, пры дапамозе якіх нагамі прыводзяцца ў рух ніты; панажы. *На панажы́ – нажыма́іцца.* Карпавічы, Баравікі, Буй, Гарадзец, Рэчкі, Дуброўкі. *По́наш, ці пънажо́к, што наго́й кру́ціцца.* Вялікі Азярэцк. *Кацю́лачкі былі́, тры-чаты́ры, чъпа́еш і ці́снеш по́наш.* Леснікова, Багданава. *У пра́лкі ёсь по́нуш, што наго́й нъжыма́іш.* Заазер'е. *Ёсь пра́лка, у яе́ – пано́ш, кълясо́, стъя́к, швърано́к, ко́лічъчък, шнуры́, шпу́лька, ві́лькі, зубы́, га́йка зве́рху.* Закур'е. ПАНАЖО́К *памянш.* *Ге́та пънажо́к, дзень наго́й як пъкалы́шъш яго́.* Каралі.

**ПАНАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Панажываць. *Усё сама́ панажыла́: ду́жа стара́цільная дачка́.* Нямойта.

**ПАНАЗАПА́ШАНЫ** *дзеепрым.* Назапашаны (пра ўсё, многае). *Дро́вы былі́ паназапа́шаныя.* Нямойта.

**ПАНАКА́ШАЦЬ** *зак.* Панакошваць, накасіць у вялікай колькасці. *Ой, пънька́шъюць пъстухі́ се́на!* Партызаны.

**ПАНАКІДА́ЦЬ** *зак.* Панакідаць, загрувасціць. *Панакіда́лі усяго́ на ву́ліцы, прайці́ нямо́жна.* Марозаўка.

**ПАНАКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* Пазакручвацца, пакруціцца. *Паънакруці́ліся тра́вы, пагнілі́.* Цясішча.

**ПАНАКРУЦІ́ЦЬ** *зак.* Панакручваць; накруціць у вялікай колькасці. *Чъраўні́ца пънакру́ціць, пънакру́ціць тых зало́маў.* Гарадзец.

**ПАНАКУПЛЯ́ЦЬ** *зак.* Панакупліваць. *Пънакупля́юць тых бро́лераў, бе́гаюць ра́зам, папро́буй ты іх пъразлі́чай.* Буй.

**ПАНАЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Налавіць, злавіць. *Ра́ньшы ра́кі былі́, пънало́вяць і ва́рацъ.* Нямойта.

**ПАНАЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Паналазіць, налезці ў вялікай колькасці. *Дзет кініць рызі́нъвыя бо́ты ў во́зіра, то ў іх пънале́зіць кале́к* [рыбы]. Багданава.

**ПАНАМУРУВА́ЦЬ** *зак.* Набудаваць. *Паны́ муро́ў пънъмурува́лі.* Багданава.

**ПАНАНАСІ́ЦЬ** *зак.* Пананосіць, пананошваць. *Буцяны́ панано́сяць усяго́, гнёзды буду́юць.* Розмыслава. *Я нъ чърда́к пънънашу́ я́блък.* Каралевічы.

**ПАНАПЕ́РЦІ** *зак.* Панамятаць, намесці ў вялікай колькасці. *Панапрэ́ць, панапрэ́ць сне́гу к забо́ру.* Міцюкова.

**ПАНАПІСА́НЫ** *дзеепрым.* Напісаны. *Бо́жа, бо́жа, што там панапіса́на!* Серкуці.

**ПАНАПІ́ЦЦА** *зак.* Панапівацца. *Дзень драту́юць, к ве́чару бі́цца завяду́цца: панап'ю́цца.* Багданава.

**ПАНАПЛЁХАЦЬ** *зак. экспр.* Моцна загадзіць. *Во панаплёхалі ку́ры.* Багданава.

**ПАНАРА́ВІЦЦА** *зак.* Спадабацца. *Ні панара́вілася мне ту́та, як ту́та жыць?* Розмыслава.

**ПАНАРА́ВІЦЬ**, **ПАНРА́ВІЦЬ** *зак.* 1. Спадабаць. *Ні пънърáвіла я Къзъхстáн.* Запруддзе, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Заазер'е, Каралевічы, Парэчча. *Чагó цябé чорт гъняіць, панрáвіў што-нéбудзь і рабі!* Нямойта. 2. Пакахаць. *Панарáвіў дзéўку, дык свáтай.* Багданава.

**ПАНАРАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Панарастаць, завесціся. *Панарадзіўся кóньскі шчаўлюк, чорт ягó вéдаіць, як вы́капаць карані.* Запруддзе.

**ПАНАРУГА́ЦЦА** *зак.* Пасварыцца. *Мой на мянé панаругáўся, што свой нос саджý ні туды́, кудá нáда.* Нямойта.

**ПАНАСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Панасаджваць, насадзіць у вялікай колькасці (пра расліны). *Дзяўчáты цвяты́ пънасадзілі.* Алексінічы. *Садóў панасадзілі, у кáждаго – сад.* Вялікі Азярэцк.

**ПАНАСЛЫ́ХУ** *прысл.* Па чутках. *Я мнóга чагó знáю пънаслы́ху.* Серкуці.

**ПАНАСТРАСА́ЦЬ** *зак.* Натрэсці ў вялікай колькасці. *Унýк у вядрó панастрасáець жукóў каларáцкіх.* Буй.

**ПАНАСУШЫ́ЦЬ** *зак.* Панасушваць, насушыць у вялікай колькасці. *Панасушы́лі грыбóў.* Баравікі.

**ПАНАТАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Панаточваць, нарыць (пра кратоў). *Краты́ пънатóчуць пяскý, што касіць нéйік.* Багданава.

**ПАНАЎЧЫ́ЦЦА**, **ПАНУЎЧЫ́ЦЦА** *зак.* Панавучвацца, навучыцца (пра ўсіх, многіх). *Пънаўчы́лісь біцца дзéці.* Чуцькі. *Сáмі пануўчы́ліся вышывáць.* Запруддзе.

**ПАНАЦЕРУШЫ́ЦЦА** *зак.* Нападаць у вялікай колькасці. *Вóсенню увабрáла лісце, а цяпéр панацерушы́лася.* Багданава.

**ПАНАЦЯГА́ЦЬ** *зак.* Панацягваць, нанасіць у вялікай колькасці. *Пънъцягáлі пъ вядрý.* Багданава.

**ПАНАЧАПА́ЦЦА** *зак.* Вісець у вялікай колькасці. *Сёліта я́блык пънъчъпáлъся.* Гарадзец.

**ПАНАЧАПА́ЦЬ** *зак.* Паначэпліваць, начапіць (пра ўсё, многае). *Пънaчапáла калéчкі на гвóздзічкі.* Нямойта.

**ПАНАШЧЭ́ЛІЦЦА** *зак.* Патрэскацца. *Шы́фер панашчэ́льваўся.* Дуброўкі.

**ПАНАШЫ́ЦЬ** *зак.* Панашываць, пашыць у вялікай колькасці. *Панашэ́іць нам сарóчак с пълатнá.* Запруддзе. *К вяснé ш нáда панашы́ць* [адзення]. Багданава, Чуцькі.

**ПАНЕ́НКА** *ж.* 1. Памешчыца ці жонка памешчыка. *Панéнка нáша лáдная былá, пóмашчы давáла.* Нямойта. *Панéнка там жы́ла, у яé бы́лі мéльніцы, свінáрнік.* Баравікі. 2. Гульня ў лялькі. *У панéнкі сядзіць гуляіць.* Фасаўшчына.

**ПАНЕ́СЦІСЯ** *зак.* Паляцець, хутка пабегчы. *Што пýля панёсся.* Запруддзе. *Калі што з'ясі, а калі і так панясéсся.* Гарадзец.

**ПАНІМА́ЦЬ** *незак.* Цаніць. *Рáньшы я́блыкі ні панімáлі, не ганя́ліся за імі.* Алексінічы.

**ПАНІСТО́ЖЫЦЬ** *зак.* Панішчыць, знішчыць (пра ўсё, многае). *Зязю́лі кукýюць слáба: хімія ўсё паністóжыла.* Нямойта.

**ПАНІ́ЦІЦЦА** *зак.* Зрабіцца кволым (ад пустазелля). *У зéллі паніціцца цыбýля, як ні палі.* Гарадзец. *Ля́ху пасéіш бóбу – ён паніціцца.* Вялікі Азярэцк.

**ПАНІ́ШПАЦЬ** *зак.* Пашнырыць. *Смаля́нкі панішпалі ў хáце і пашлі.* Багданава.

**ПАНО́С** *м.* Панос. *Абдýцце прóйдзіць у карóвы, як панóсам прыхвóціць яé.* Нямойта. *Сёння у мянé панóс быў, ноч бéгала.* Багданава, Буй, Гарадзец, Пожанькі.

**ПА́НСКІ, ПА́НЬСКІ** *прым.* Які належыць пану. *Тут былі па́нскія або́ры харо́шыя, сат быў харо́шы.* Баравікі. *Там па́нская зімля́, жы́та пасе́іна.* Вялікі Азярэцк, Нямойта. *Па́ньськъя пу́ня астъла́ся.* Баравікі.

**ПА́НСТВА** *н.* 1. *зб.* Паны. *Рэвалю́цыя як ста́ла, скіда́ць ста́лі па́нства.* Нямойта. 2. Высокае сацыяльнае становішча. *Дай мужыку́ па́нства – свет перавéрніць.* Запруддзе.

**ПАНТО́ПЛІ, ПАНАТО́ПЛІ, ШАНТО́ПЛІ** *мн.* Вязаны дамашні абутак. *Панто́плі віза́лі з вяро́въчък.* Нямойта. *Панато́плі віза́лі кручко́м.* Нямойта. *Ве́чарам спляту́ шанто́плі і іду́ гу́ляць. Я і цяпе́р люблю́ гэ́тыя шанто́плі. Я сабе́ на смерць звіза́ла шанто́плі.* Нямойта.

**ПАНЦЫ́Р** *м.* Панцыр. *Панцы́р – е́та заве́цца у у́літкі.* Фасаўшчына.

**ПАНЧО́ХІ** *мн.* 1. Панчохі. *Панчо́хі сваé рабо́ты, а цяпе́р – чулкі кра́мныя.* Партызаны. 2. Гольфы. *Панчо́хі да калéна вя́жуць.* Турава, Буй, Нямойта, Фасаўшчына.

**ПАНЧО́ШЫНА** *ж.* Адна панчоха. *Панчо́шыну дава́й, ці чуло́к, цяпе́р съмавя́ска – панчо́шына.* Нямойта.

**ПА́НШЧЫНА** *ж.* Памешчыцкае землеўладанне. *Уся́ зямля́, што мы жывём, была́ пад па́ншчынай.* Самсоны.

**ПА́НЯ, ПАНЯ́** *ж.* 1. Памешчыца. *Па́ня Неслухо́ўская тут жыла́.* Нямойта. *Там не́йкая па́ня жыла́.* Розмыслава. 2. *эмац.-ацэн.* Пра жанчыну, якая жыве бестурботна, без клопатаў. *Жывé ба́ба, як пъня́: ні каро́вы, ні къня́.* Каралевічы.

**ПАНЯДЗЕ́ЛАК** *м.* Панядзелак. *У пънядзе́лак Іва́нішка прыéхала з Магілёва.* Нямойта.

**ПАНЯДЗЕ́ЛЬНІК** *м.* Тое ж. □ *Пънядзе́льнік – дзень бяздзе́льнік.* Каралевічы.

**ПАНЯМЕ́ЦЬ** *зак.* Панямець, анямець. *Кап хто піснуў, кап хто віснуў: усé панямéлі.* Самсоны.

**ПАНЯ́НЬЧЫЦЬ** *зак.* Паняньчыць. *Хоць бы я ўну́каў табé паня́ньчыла!* Гарадзец.

**ПАНЯТЫ́** *м.* Асоба, якая ацэньвае памер нанесенай шкоды; паняты. *Пъняці́лі пънятыя, а сам чълавéк* [які нанёс шкоду] *по́тым аддаéць.* Цясішча.

**ПАНЯЦІ́ЦЬ** *незак.* Ацэньваць памер нанесенай шкоды. *Пъняці́лі пънятыя, а сам чълавéк* [які нанёс шкоду] *по́тым аддаéць.* Цясішча.

**ПАНЯ́ЦЦЕ, ПАНЯ́ЦІЕ** *н.* Паняцце, разуменне, уяўленне. *Паня́цця не ма́ю.* Багданава. *Век пражыла́, і мълада́я ш была́ і саўсéм пъня́ція не зна́ю.* Самсоны.

**ПАНЯ́ЦЬ** *зак.* Зразумець. *Ма́ма, я ужэ́ паня́ў жызнь.* Партызаны. *Не паймéш, як разгава́рываюць.* Закур'е.

**ПА́ПА** *м. дзіц.* Хлеб. *Дзяцéй вучы́лі на хлеп каза́ць «па́па».* Савінічы. *Ба́цька даў па́пы і ка́жыць: «Ба́ба, éшча!»* Чуцькі, Міцюкова, Партызаны.

**ПАПАВЫ́КАЧАЦЦА** *зак.* Павымазвацца, забрудзіцца. *Як папавы́качаіцца – сра́зу у во́зіра, пукупа́іцца, пірадзéніцца і пашо́ў.* Багданава.

**ПАПАВЫ́САХНУЦЬ** *зак.* Высахнуць. *Усё ў ро́ці папавы́сахла.* Багданава.

**ПАПАВЫ́СЕКЧЫ** *зак.* Павысякаць. *Папавы́секлі ўсю маліну лéтась.* Запруддзе.

**ПАПАГАЛА́ШЫВАЦЬ** *незак.* Галасіць доўга, неаднаразова. *Ско́лькі я пъхадзі́ла, ско́лькі я пъпъгъла́шывала.* Кішуроўшчына.

**ПАПАГНІ́ЦЬ** *зак.* Пагнісці. *На ха́ту нéскалькі узнéслі я́блыкі – папагні́лі.* Запруддзе.

**ПАПАЕ́СЦІ, ПУПАЕ́СЦІ** *зак.* 1. Паесці ў вялікай колькасці. *Гнілу́ю бу́льбу папае́лі.* Чуцькі, Запруддзе. 2. З'есці (пра ўсё, многае). *Пупае́лі ўсе дзе́ці.* Запруддзе.

**ПАПАЕ́ХАЦЬ** *зак.* Паехаць (пра ўсіх, многіх). *Дзе́ці цяпе́р папае́дуць, а вы жыві́це, як хо́чаце.* Багданава. *Як свае́ сыны́ папае́халі, то гаро́д не адрэ́заў ад сябе́.* Цясішча, Запруддзе.

**ПАПАЗАЙСЦІ́** *зак.* Выйсці замуж (пра ўсіх, многіх). *Мно́га папазайшло́ за́муж і парадзі́лі.* Запруддзе.

**ПАПАЙСЦІ́** *зак.* Пайсці (пра ўсіх, многіх). *Як вы́ръстуць, то папо́йдуць хто куды́.* Запруддзе.

**ПАПАКАПІ́ЦЬ** *зак.* Накапіць (пра ўсіх, многіх). *Гро́шы папакапі́лі мно́га.* Партызаны.

**ПАПАКІ́НУЦЬ** *зак.* Кінуць (пра ўсё, многае). *Папакі́нулі ў тэй абшчажы́ціі.* Запруддзе.

**ПАПАКЛА́СЦІ** *зак.* Аддаць (пра ўсё, многае). *Усё пад парціза́н папакла́лі – і паду́шкі, і про́стыні.* Апечкі.

**ПАПАКО́НЧЫЦЬ** *зак.* Скончыць (пра ўсіх, многіх). *Мно́га маладзе́нькіх у нас, які́я папако́нчылі вучы́цца.* Запруддзе.

**ПАПА́Л** *прысл.* Пароўну, папалам. *Я́блыну къль мяжы́ па́пъл дзе́люць.* Гарадок.

**ПАПА́ЛАВАЦЬ** *незак.* Палоць. *Тро́шкі папа́лую адно́й руко́й.* Партызаны.

**ПАПАЛА́М, ПАПУЛА́М, ПУПАЛА́М** *прысл.* 1. Напалам, напалавіну. *Пупъла́м пірабі́ла чаргою аўтама́та.* Пожанькі. 2. Пароўну. *Папула́м усё падзе́ліна, атдзялі́ла мяне́ дачка́.* Нямойта. ◊ З ГО́РАМ ПАПАЛА́М. З вялікай цяжкасцю, ледзьледзь. *Мо́жна е́сці з го́рам папала́м.* Партызаны.

**ПАПАЛАМА́ЦЬ** *зак.* Паламаць (пра ўсё, многае). *Ла́вачкі папалама́юць і шчыке́т.* Багданава.

**ПАПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Спаліць (пра ўсё, многае). *А парціза́ны са́мі гавары́лі: «Дзе мы стаі́м, усё раўно́ ўсе дзярэ́ўні папа́люць».* Багданава.

**ПАПАЛУЧЫ́ЦЬ** *зак.* Атрымаць (пра ўсіх, многіх). *Папалучы́лі кварці́ры ўсі.* Запруддзе.

**ПАПА́Р, ПУПА́Р** *м.* 1. Поле, пакінутае на адно лета незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад пасеў азімых; папар. *Як папа́р, на зі́му аддыха́іць зямля́, – свіне́й па́сцілі.* Багданава, Гарадзец, Гарадок. 2. Папас, паша. *Там пъпа́р, там на́шы каро́вы пасу́цца.* Латыгаль. *Пупа́р – дзе каро́вы бу́дуць па́сьціцца.* Серкуці.

**ПАПАРАГНА́ЦЬ** *зак.* Прагнаць (пра ўсіх, многіх). *Адсю́ль пано́ў папарагна́лі.* Баравікі.

**ПАПАРА́ДЧЫЦЬ** *зак.* Папарадкаваць. *Парасё́нка забі́лі, папара́дчылі ўсё.* Вялікі Азярэцк.

**ПАПАРАЖА́ЦЦА** *зак.* Нарадзіцца (пра многіх). *Пъпаража́ліся паслі вайны́ ужэ́.* Дольдзева.

**ПАПАРАЗ'Е́ХАЦЦА** *зак.* Параз'язджацца, раз'ехацца (пра ўсіх, многіх). *Адзі́н жыве́ць: усі папараз'е́халіся.* Запруддзе.

**ПА́ПАРАЦЬ, ПА́ПЕРАЦЬ** *ж.* 1. Папараць. *У па́параць хадзі́ла, як натрэ́сся – не так балі́ць нага́.* Запруддзе. *Па́пърці у ле́сі е́сь!* Манголія. 2. Кветка, якая паводле павер'я цвіце на Купалле. *Па́параць на Іва́на Купа́лу цвіці́ць, рэ́тка ўло́віш цвет.* Каралі. *Па́параць цвіце́ць на Іва́на Купа́лу но́ччу.* Багданава. *Па́пераць шука́лі, у па́пераці здзе́лай круг* [і скажы]*: «Крыж-пакры́ж, уста́нь апо́ўнач, хто бу́дзе і́сці, то твой бу́дзе».* Багданава. ○ ПА́ПАРАЦЬ-КВЕ́ТКА. Тое ж. Багданава.

**ПАПАРВА́ЦЬ** *зак. перан.* Знервавацца. *З імі нёрвы папарвéць, з дзéцьмі.* Запруддзе.

**ПАПАРО́ЦЬ** *зак.* Распароць, разрэзаць. *Той сак папарóлі, павымылі, пла́цце пашылі.* Багданава.

**ПАПА́РЫЦЦА** *зак.* Папарыцца (у лазні). *Здóрава так папа́рыцца з вéнікам бярóзавым.* Міцюкова, Фасаўшчына.

**ПАПАСЕ́КЧЫ** *зак.* Пасекчы, парваць. *Нéмцы вóчарадзь пусцілі – на́скрась тэй дзéўцы кішкі паъпасéклі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАПАСЕ́ЯЦЦА** *зак.* Пасеяцца, рассеяцца. *Быва́ла, мак усюдъх папасéіцца.* Запруддзе.

**ПАПА́СЦІ, ПУПА́СЦІ** *зак.* 1. Трапіць, пацэліць. *У мянé не пупа́ў нéміц.* Розмыслава. 2. Натрапіць. *Пъпадзéш на гняздó, а там мъшаняты.* Багданава. *Ні пупа́лі той сцéшкай, якóй я пъшла́.* Нямойта. *Калі зъ які мéсяц пупадзéш туды.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк. 3. Трапіцца. *Ма́жу ма́сці якія пупа́ла.* Запруддзе. 4. Дастацца. *Пъпа́ла яму́ жóнка біз здарóўя.* Багданава. *У мянé яму́ пупадзéць та́я капéйка* [у печыве на Саракі]. Запруддзе. 5. Заспець на месцы злачынства. *Я ш вас пупаду́, як бу́дзеце кра́сці.* Сянно. ◊ ШТО ПАПА́ЛА. Рознае, усякае. *Трыццаць вóсем падвóд вывезлі: і хлеп, і адзéжу, і бу́льбу – што папа́ла.* Леснікова.

**ПАПА́СЦІСЯ** *зак.* Трапіць (да каго-н.). *Я пъпа́ўся к нéмцам.* Фасаўшчына. *Ста́лі хадзіць у лес, каб ні папа́сціся к ім.* Леснікова.

**ПАПАЎМІРА́ЦЬ** *зак.* Перамерці. *Папаўміра́лі пчóлы ў Іва́на Мóцькі.* Гарадзец. *Папаўміра́лі маладыя.* Запруддзе.

**ПАПАЎПЁРЦІ** *зак.* Паўпіхаць, упіхнуць. *Папаўпёрла ўсё бяллё, падсіліла.* Запруддзе.

**ПАПАХАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пахадзіць доўга, неаднаразова. *Кóлькі я пъпъхадзіла, ду́мала памру́. Я ўсюдъх папахадзіла.* Запруддзе.

**ПАПАШЫ́ЦЬ** *зак.* Нашыць у вялікай колькасці. *Я папашыла тóрбачак, у мянé ўсё ў тóрбачках.* Парэчча.

**ПАПЕ́РА** *ж.* Папера. *Папéра ра́ньшы зва́лі.* Нямойта.

**ПАПЕ́РАДУ, ПАПЕ́РАДЗІ** *прысл.* 1. Наперадзе. *Ішóў папéраду, ягó пяру́н і забіў.* Запруддзе. *Адзін пашóў папéраду, а другі – зза́ду, з пу́гай.* Самсоны, Галашчакіна, Дольдзева, Леснікова, Міцюкова, Нямойта, Савінічы, Дуброўкі. *Той трóшку пайшóў папéрадзі.* Запруддзе. 2. Спачатку. *Хто папéраду спра́віцца, той быстрэй і ўбярэць ураджа́й.* Вялікі Азярэцк. *Як прыдзець у магазін, то папéраду – ка мне.* Буй, Запруддзе, Партызаны, Савінічы. 3. Раней. *Кап ён папéраду памёр, яна́ і пажыла́ п адна́.* Багданава.

**ПАПЕРАЕ́СЦІ** *зак.* З'есці (пра ўсё, многае). *Лю́дцы ўсё папераéлі.* Запруддзе.

**ПАПЕ́РЦІ** *зак. экспр.* 1. Панесці, паплыць. *Удабрэння ў вóзіра папёрла, і рыбе зашкóдзіла.* Сянно. 2. Пачаць інтэнсіўна расці. *Шчэ ні съшóў снег, стаў ръсхадзіцца, а апéнкі папéрлі.* Пожанькі. 3. Разабраць, раскупіць. *Схадзі, дзет* [у магазін], *а то папру́ць увéсь хлеб.* Дольдзева.

**ПАПЕ́РЦІСЯ** *зак.* Пайсці, накіравацца. *Пайшóў, папéрся куды-та.* Запруддзе.

**ПАПЕ́РЫЦЬ, ПАПЯ́РЫЦЬ** *зак.* Паперыць бялізну. *Тады на вóзіра,* [палатно] *мыіш, пра́нікам папéрыш, у тру́пку скача́іш і шыіш рuба́шку, штаны.* Багданава. *Папя́руць палатнó пра́нікамі і атбéлівалі.* Карпавічы.

**ПАПЕ́ЦЦА** *зак.* Перастаць пець. *Цяпéр ужó ўсё папéлася.* Багданава.

**ПАПІВА́ЦЬ** *незак.* 1. Піць працяглы час. *Вам на́да папіва́ць казі́нае малако́.* Цясішча. 2. Піць многа, неаднаразова. *Яно́* [талакно з вадой] *ста́ніць каля́нае, бяр'эш у ру́ку і ясі́, і вады́ папіва́еш.* Багданава.

**ПАПІРАСУШЫ́ЦЬ** *зак.* Перасушыць (пра ўсё, многае). *Папірасушы́ць адзе́жу.* Багданава.

**ПАПІ́САЦЬ** *зак.* Памачыць, абліць мачой. *Ён папі́сыйіць на ра́ну* [як кастрыравалі каня]. Заазер'е.

**ПАПІХА́ЦЦА** *незак.* Плесціся. *Іду́ папіха́юся, пакуля́юся: с дзівяці́ часо́ў і да цёмнага рабо́тала.* Замошша.

**ПАПЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Адпомсціць. *Гэ́тая камі́сія папло́ціць цябе́.* Цясішча.

**ПАПЛЕ́СНЕЦЬ** *зак.* Пакрыцца плесняй (пра ўсё, многае). *Папле́снела капу́ста, пле́сенню пакры́лася.*

**ПАПЛЕ́СНІВЕЦЬ** *зак.* Тое ж. *Адзін апсы́паўся агрэ́ст, другі́ папле́сніваў.* Запруддзе.

**ПАПЛЕ́ЦІНА** *ж.* Жэрдка, якую кладуць паверх саломы пры крыцці страхі; паплёт. *Се́клі папле́ціны, часа́лі іх і прывя́зывалі лазо́й да ла́таў, кап сало́ма лу́чшы дзіржа́лася.* Фасаўшчына. *Када́ кро́іш кры́шу, насціла́іш рат сало́мы, по́верху ло́жыш папле́ціну, штоп сало́ма ні падыма́лася.* Нямойта.

**ПАПЛЁТ** *м.* 1. *зб.* Жэрдкі, якія кладуць паверх саломы пры крыцці страхі. *Паплёт сало́му прыціска́іць і прывя́зваіцца лазо́й.* Дольдзева. 2. Столь з жэрдак у хляве. *Насціла́іш па ба́лкам паплёт, пачці́ ўплатну́ю, штоп ні права́львалася се́на.* Нямойта, Серкуці.

**ПАПЛЁХЧЫЦЬ** *зак.* Папляскаць (у далоні). *Паплёхчуць у ладо́шкі – і усё.* Дуброўкі.

**ПАПЛУ́ТАНЫ** *дзеепрым.* Паблытаны, скручаны. *Паплу́тана жы́та, а на́да жаць.* Гарадзец.

**ПАПЛУ́ТАЦЦА** *зак.* Паблытацца, ускудлаціцца. *Не́дзе мае́ паплу́таліся валасы́.* Міцюкова.

**ПАПЛУ́ТАЦЬ** *зак.* Паблытаць, скруціць. *Паплу́таім жы́та, як васількі́ цвіця́ць.* Гарадзец.

**ПАПО́ЖЖЫ** *прысл.* Пазней. *А Мі́кола бу́дзіць папо́жжы.* Самсоны.

**ПАПО́ЛЬЗАВАЦЦА** *зак.* Пакарыстацца. *Я ш, калі́ хо́чаш, спужа́лася, на́да папо́льзавацца вадо́й.* Партызаны.

**ПАПО́РЦІЦЬ** *зак.* Сапсаваць (пра ўсіх, многіх). *Цяпе́р людзе́й папо́рцілі гро́шы, жа́днасць.* Партызаны.

**ПАПО́ХНУЦЬ** *зак.* Папухнуць. *Папо́хлі ру́кі ат рабо́ты.* Партызаны.

**ПАПРАВІНІ́ЦЦА** *зак.* Правініцца. *Тут, ві́дна, паправіні́ліся, што міліцыяне́р пры́ехаў.* Багданава.

**ПАПРА́ВІЦЦА** *зак.* Палепшаць. *Ліну́ў дожч, і карто́шка папра́вілася.* Ульянавічы.

**ПАПРА́ВІЦЬ** *зак.* Адрамантаваць, падладзіць. *Сват шчыке́т папра́віў, згаро́ду.* Буй.

**ПАПРАКА́ЦЬ** *незак.* Папракаць, дакараць. *Іна́ пъпръка́іць ёй?* Багданава.

**ПАПРАПАДА́ЦЬ** *зак.* Папрападаць, згубіцца. *Ні́ткі пра́дзеныя папрапада́лі. У мяне́ клу́пкі былі́ і так пъпръпа́лі.* Запруддзе.

**ПАПРАПІСА́ЦЬ** *зак.* Прапісаць (пра ўсіх, многіх). *Папрапіса́лі ўсіх, усі́ папалучы́лі кварці́ры.* Запруддзе.

**ПАПРАСІ́ЦЦА** *зак.* Папрасіцца, папрасіць аб дазволе. *У каго́ папро́сюцца, у таго́ й нучува́лі.* Серкуці.

**ПАПРАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* ◊ ГАЛО́ВЫ ПАПРАЎЛЯ́ЦЬ. Пахмяляцца. *На другі дзень* [пасля хрэсьбін] *гало́вы папраўля́ць по́йдзем.* Марозаўка.

**ПАПРО́БАЦЬ** *зак.* Пакаштаваць. *На́да папро́баць.* Багданава.

**ПАПРЫВЕ́ЗЦІ** *зак.* Папрывозіць. *Ён папрывёс там цвято́ў по́ўна.* Запруддзе.

**ПАПРЫЕ́ХАЦЬ** *зак.* Папрыязджаць. *Папрые́халі сёстры, папрыве́злі ўсяго́.* Лесьнікова. *Дзе́ці папрые́халі на ле́та.* Багданава, Запруддзе.

**ПАПРЫЙСЦІ́** *зак.* Папрыходзіць. *З вайны́ мужыкі ні папрыйшлі.* Запруддзе. *З рабо́ты папрыду́ць мушчы́ны, са́жалку паапся́дуць і ло́вяць ры́бу.* Каралі, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Міцюкова.

**ПАПРЫКРУ́ЧВАЦЬ** *зак.* Папрыкручваць, прыкруціць (пра ўсё, многае). *Бро́ўны папрыкру́чвалі.* Партызаны.

**ПАПРЫЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Папрылятаць. *Пту́шкі на Саракі́ папрыляце́лі, со́рак вырае́ў.* Лесьнікова.

**ПАПРЫЯ́ЦЬ** *зак.* Паспрыяць. *Ён мне папрыя́іць с таго́ све́ту.* Багданава.

**ПАПРЭ́ЦЬ** *зак.* Сапрэць (пра ўсё, многае). *Папрэ́лі па́льцы.* Багданава. *Як пера-гары́ць і заво́руюць, ну ён* [гной] *і папрэ́іць, там.* Станюкі.

**ПАПУСКА́ЦЬ** *зак.* Пускаць карэнне, парасткі. *У мяне́ ўжо расткі́ пра́ма ко́рні папуска́лі.* Запруддзе. *Гуркі ву́сікі папуска́лі.* Кішуроўшчына.

**ПАПУСЦЕ́ЦЬ** *зак.* Апусцець (пра ўсё, многае). *Папусце́лі ўсе дзярэ́ўні.* Вялікі Азярэцк.

**ПАПУ́ТНА** *прысл.* Па дарозе. *Нам папу́тна, у Ра́сні.* Нямойта.

**ПАПУХУВА́ЦЬ** *зак.* Схаваць (усё, цалкам). *Узіла́ папухува́ла пъраткі́ і не п'ець.* Запруддзе. *Папухува́ла парашко́ў: ты мяне́, ка́іць, атраві́ць хо́чаш.* Серкуці.

**ПАПУЦІ́ЦЦА** *зак.* Уладкавацца. *Усе́ мае́ дзе́ці папуці́лісі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАПЫ́РСКАЦЬ** *незак.* Папырскаць, абліць. *Къраcі́най сяго́ння папы́рскай – заў́тра жуко́ў по́ўна.* Каралі.

**ПАПЫ́ТВАЦЬ** *незак.* Параспытваць, папытаць. *На́да было́ ране́й папы́т-ваць бу́льбы.* Лесьнікова.

**ПАПЯЛО́К** *м.* Пра пушок са старога палатна. *Са старо́га палатна́ пушо́к гэ́ты скрабе́цца, папяло́к гэ́ты, і дзяце́й піраклада́лі, як прэ́лі яны́.* Заазер'е.

**ПАПЯРЭ́ДЗІЦЬ** *зак.* Папярэдзіць. *Папярэ́дзілі, ніч́ога ні гъвары́ць.* Фасаўшчына.

**ПАПЯРЭ́ЧКА, ПУПЯРЭ́ЧКА** *ж.* 1. Папярочная баразна. *Усі пъпярэ́чкі ръзъгна́ў і вы́къпъў бу́льбу.* Багданава. *Папярэ́чкі – у канца́х гаро́да.* Розмыслава, Міцюкова. *Пупярэ́чкі засе́яў.* Каралі. *У канцы́ падзе́лаюць пупярэ́чкі.* Міцюкова. 2. Сцяна, якая не дасягае столі, для адгароджвання часткі гаспадарчага памяшкання. *Э́та кура́тнік, а тут – папярэ́чка.* Марозаўка.

**ПАПЯЧЫ́** *зак.* Папрэгчы, спячы. *Ці ты ры́бу папікла́? – Нясі нам.* Запруддзе.

**ПАР** *м.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад пасеў азімых; папар. *Адно́ по́ля – нъ пар, дзе па́сцілі, ніч́ога не се́ялі, на зі́му засіва́лі.* Фасаўшчына.

**ПА́РА** *ж.* 1. Двое. *На па́ра ко́нях у Ві́цебск е́здзілі.* Багданава. *З'е́шце па па́ры кусо́чкаў, што́бы ў жы́зні былі ў па́ры.* Мянюцева, Серкуці, Ульянавічы. 2. Дзве асобіны; самец і самка. *У буцяно́ў па́ры ніразлу́шныя.* Нямойта. 3. Два аднародныя прадметы. *У жы́та схво́ціш кало́ссе, у па́ру ці не ў па́ру, як у па́ру, то за́муш по́йдзеш* [гэта рабілася на Івана Купалу]. Міцюкова. *Ці два ці чаты́ры яйца́ ў буця́наў, у па́ру, ці яйцо́ скі́нуць, ці дзяцёныша.* Нямойта. ◊ БЕС ПА́РЫ. Не ў шлюбе. *Аднаго́ радзіла́ бес па́ры.* Заазер'е.

**ПАРА́** *ж.* Пара, час. *Як тэ́я гады́, так ге́ткай паро́й мо́жна аткрыць і узяць мёду.* Вялікі Азярэцк. ◊ НЕ Ў ПАРУ́. Не ў час. *Го́сці прые́халі не ў пару́.* Нямойта. ◊ БІЗ ПАРЫ́. Рана, заўчасна. *А сама́ біз пары́ пайшла́.* Рэчкі.

**ПА́РА** *ж.* Пара. *Лінуць на ка́мені, каб дух пашо́ў, па́ра каб была́!* Багданава. *На печ ваду́ як лінуць, як ста́ніць па́ра, ве́нік бра́лі і хваста́ліся.* Вялікі Азярэцк.

**ПА́РАБАК** *м.* Наёмны сельскагаспадарчы рабочы; парабак. *Па́ръбак служыў у бъга́тъгъ чълаве́ка.* Дольдзева.

**ПАРАБІ́ЦЬ** *зак.* Парабіць, выканаць (работу). *На́да ўсё парабіць.* Багданава.

**ПАРАБЯ́ЦІЦЦА** *зак.* Здзяцініцца. *Ці вы пърабяціліся?* Багданава.

**ПАРАВЫ́** *прым.* Адпаведны часу, пары. *Я́гъды шчэ ні паравэ́я: мно́га зялёных.* Вялікі Азярэцк. *Ён сабе́ нако́сіць пърраво́га се́на, харо́шынькага, у пару́.* Запруддзе.

**ПАРАВЫ́** *прым.* Які прыводзіцца ў дзеянне парай. *Ме́льніца въдзіна́я і пъръва́я у яе́ былі.* Баравікі.

**ПАРА́ДАК** *м.* 1. Парадак, лад. *Людзе́й нейк мно́га было́, пъра́тку ду́жа ні было́.* Заазер'е. *«Ба́бушка, – ка́жыць, – я табе́ ў карыдо́ры пара́дак навяду́».* Запруддзе, Каралевічы, Фасаўшчына. ПАРА́ДАЧЭК *ласк.* *І пара́дъчэк усю́ды.* Неўгадава. 2. Па чарзе, адно за адным. *Бярэ́ш тады́ другу́ю, трэ́цюю* [постаць лёну] *– у пара́дак.* Заазер'е.

**ПАРА́ДАШНЫ, ПАРА́ДЗІШНЫ** *прым.* Даволі вялікі. *Я ш тады́ пара́дъшная была́.* Неўгадава. *Лес там пара́дашны.* Ракаў Засценак. *Сад быў пара́дзішны.* Нямойта.

**ПАРАДЖА́ЦЦА** *зак.* Нарадзіцца (пра ўсіх, многіх). *Так палучылься, чуць ні нъ адзін год пъръджа́лісі.* Рэчкі.

**ПАРА́ДЗІЦЦА** *зак.* Параіцца. *Я ні журтува́ць прышла́, а пъра́дзіцца, як пастро́іцца мне.* Багданава.

**ПАРА́ДЗІЦЬ** *зак.* Параіць, парадзіць. *Ра́ды ні дае́, ні пара́дзіла. На́да пара́дзіцца.* Багданава.

**ПАРА́ДКАМ, ПАРА́ТКАМ** *прысл.* 1. Па парадку. *Я яшчэ́ пе́сні уздумаю пара́дкам.* Багданава. 2. У пэўнай паслядоўнасці. *Яны́, выраі, ліцяць не пара́дкам.* Вялікі Азярэцк. 3. Шмат. *Яны́ гро́шы пара́ткам цо́пнулі.* Неўгадава.

**ПАРАЗАГНА́ЦЬ** *зак.* Паразганяць. *Ско́ра пъразго́нюць уве́сь калхо́з.* Вялікі Азярэцк. *Маладзёж усю паразагна́лі, німа́ ў нас маладзёжы.* Латыгаль.

**ПАРАЗАРЫ́ЦЬ** *зак.* Разбурыць, спустошыць (пра ўсё, многае). *Паразары́лі ўсе цэ́рквы – у Алёхнаве была́, у Нямо́йце.* Цясішча.

**ПАРАЗБАМБІ́ЦЬ** *зак.* Разбамбіць (пра ўсё, многае). *Не́мцы паразбамбілі ўсё.* Цясішча.

**ПАРАЗБЕ́ГЧЫСЯ** *зак.* Паразбягацца. *Што дзе́лаць, дзе дзе́цца з е́стай я́мы – і ўсе паразбе́гліся.* Леснікова.

**ПАРАЗБУРЫ́ЦЬ** *зак.* Паразбурваць. *Мы ха́ты свае́ пъразбуры́лі, переве́злі с хутаро́ў перад вайно́й.* Ракаў Засценак, Івоні.

**ПАРАЗВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Паразварочваць. *Трактары́ усе́ паразвярну́лі.* Буй.

**ПАРАЗДА́ЦЬ** *зак.* Параздаваць. *Навя́ліць акунёў і парazда́сьць іх у го́радзе.* Багданава.

**ПАРАЗ'Е́ХАЦЦА** *зак.* Параз'язджацца. *Хто памёр, хто куды́ пъраз'е́халіся.* Дольдзева. *Параз'е́халіся усе́ сыны́.* Леснікова.

**ПАРАЗРАСЦІ́СЯ** *зак.* Паразрастацца. *Пъразраста́ліся дзярэ́ўя, гадо́ў каля трыццаці са́ду.* Дольдзева.

**ПАРАЗРЫ́ЦЬ** *зак.* Паразрываць. *Пъразры́лі тыя курга́ны тръктара́мі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАРА́ІЦЬ** *зак.* Параіць, парадзіць. *Адна́ ба́ба пара́іла са́хар піць з вадо́ю.* Запруддзе.

**ПАРАЛІЗА́ЦЫЯ** *ж.* Параліч. *Была́ пърализа́цыя у мяне́ рукі́.* Міцюкова.

**ПА́РАНАСЦЬ** *ж.* Парнасць, гарачыня і вільготнасць. *Ве́чарам па́ранасць – вінна до́жджык по́йдзець.* Партызаны.

**ПА́РАНІНА, ПАРЭ́НІНА** *ж.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным для паляпшэння глебы пад пасеў азімых; папар. *Гані́ на па́раніну каро́ў.* Сукрэмна. *Гной на па́раніну во́зяць талако́й.* Запруддзе. *Там па́рьніна, пъпа́р, къла шля́ху.* Каралі. *Гані́ на парэ́ніну каро́ў.* Сукрэмна.

**ПАРА́НІТЫ** *дзеепрым.* Паранены. *Пара́ніты ён бы́ў крэ́пка.* Вялікі Азярэцк.

**ПА́РАНКА, ПАРО́НКА** *ж.* 1. Запраўленая паранай бульбай ці мукой і завараная кіпнем сечка або мякіна на корм жывёле. *Па́рънку каро́въм дава́лі.* Каралевічы. *Паро́нку даю свінням: крапі́вы насяку́, бу́льбы.* Мянюцева, Партызаны, Неўгадава. 2. Дробная агародніна на корм жывёле. *Паро́нка – бура́к, бу́льба, мо́рквіна дзе пъпадзе́цца, свінням дава́лі.* Каралевічы.

**ПА́РАННЕ** *н.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным для паляпшэння глебы пад пасеў азімых; папар. *Рама́шкі на па́ранне ра́слі.* Ракаў Засценак.

**ПА́РАНЫ** *прым.* Вараны. *З бу́льбы па́ранай панпу́шкі рабі́ла.* Буй. *Быва́ла, боб па́раны е́лі.* Рэчкі, Каралевічы, Міцюкова.

**ПАРАСЁНАК** *м.* Парася. *Я так прывучы́ў, што парасёнък спаў са мной у пасце́лі.* Міцюкова. *Як пърасёнка купля́лі – церас тры паро́гі перане́сці на́да у мяшку́* (звычай). Дольдзева, Запруддзе. ПАРАСЁНАЧАК, ПАРАСЕ́ЙКА *памянш.-ласк.* *Парасёначък ёсь, ме́сяца тры.* Багданава, Гарадзец. *Каро́ўка была́, парасе́йка.* Алексінічы.

**ПАРАСІ́ЦЦА** *незак.* Прыводзіць кацянят. *Ко́шка ўжо гады́ тры ні паро́сіцца.* Марозаўка. *Ко́шка паро́сная: парасі́цца бу́дзе.* Запруддзе.

**ПАРАСКРАСНЕ́ЦЦА** *зак.* Стаць чырвоным з твару (пра ўсіх, многіх). *Ніко́га ні злавілі, дык яны́ злы́я такея́, параскрасне́ліся.* Леснікова.

**ПАРАСКУЛУПА́ЦЬ** *зак.* Параскідваць, паразбіраць. *Пъраскулупа́лі дзе́ці тут у ха́ці.* Запруддзе.

**ПАРАСПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Распаліць (у вялікай колькасці). *Кастры́ параспа́ляць, ко́ні з калёсамі прые́дуць па́ску свяці́ць.* Нямойта.

**ПАРАСПІ́ЦЦА** *зак.* Распіцца, пачаць шмат піць (пра ўсіх, многіх). *Параспі́ліся лю́дзі.* Баравікі.

**ПАРАСПРЫ́НДЗІЦЬ** *зак. экспр.* Паразбрыняць, распухнуць. *Яны́ ўжо параспры́ндзілі. Ізве́сна: вясно́й было́ цёпла. На некато́рых глядзе́ць німо́жна было́* [трупы забітых]. Леснікова.

**ПАРАССЕ́ЯЦЬ** *зак.* Параскідаць, раскідаць (пра ўсё, многае). *Парассе́іла на гаро́д памёт.* Баравікі.

**ПАРАССЫ́ПАЦЦА** *зак.* 1. Падзяліцца, распасціся (пра ўсіх, многіх). *Пъррассы́паліся на гру́пы лю́дзі.* Серкуці. 2. Раз'ехацца (пра ўсіх, многіх). *Дзе́ці ўсе парассы́паліся па све́це.* Цясішча.

**ПАРАССЫ́ПАЦЬ** *зак.* Рассыпаць. *А іна́ нам усе́ пля́гі пърассы́піць, пъразаб'е́ць.* Запруддзе.

**ПАРАСТАЎСЦЕ́ЦЦА** *зак.* Растаўсцець, распаўнець (пра ўсіх, многіх). *Ба́бы парастаўсце́лісі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАРАСТРАЛЯ́ЦЬ** *зак.* Парасстрэльваць, расстраляць (пра ўсіх, многіх). *Парастраля́лі іх не́мцы.* Алексінічы.

**ПАРАСТРУСІ́ЦЬ** *зак.* Растрэсці, раскідаць. *Адну́ капе́шачку параструсілі, а тут дошч уліў.* Латыгаль.

**ПАРАСЦЕРАБІ́ЦЬ** *зак.* Высекчы (лес). *Быва́ла, ле́сам ідзе́ш ско́лькі, а ў нас парасціра́білі лес.* Гарадзец.

**ПАРАСЦІГА́ЦЬ** *зак.* Парасцягваць, паразбіраць. *Ко́ўдры ткалі ў тры ніцікі – парасціга́лі усё.* Багданава.

**ПАРАСЯ́ТКІ** *мн. памянш.-ласк.* Парасяткі. *Сяджу́ у хле́ві кала ма́лых пъра-ся́так.* Карпавічы.

**ПАРАСЯ́ТНІЦА** *ж.* Свінаматка. *Была́ парася́тніца: прыйшлі, на са́ла забра́лі.* Цясішча.

**ПАРАЎНАВА́ЦЬ** *зак.* Параўняць, выраўняць. *Кап параўнава́ць, кап было́ ро́ўная по́ля.* Запруддзе.

**ПАРАХНЯ́** *ж.* Парахня. *Э́та парахня́, э́та тако́я тле́лае унутры́, у дзе́раві.* Гарадзец.

**ПАРВА́ТЫ** *дзеепрым.* Парваны, падраны. *Лахманы́ – парва́тая адзе́жа, плаха́я.* Фасаўшчына.

**ПАРВА́ЦЦА** *зак.* Парвацца, падрацца. *Што парве́цца, то ла́талі. То на ло́кцях, то на кале́нях на́да ла́таць.* Фасаўшчына.

**ПАРВА́ЦЬ** *зак.* Парваць, вырваць. *У ляху́ ўско́чыць, траву́ парве́ць.* Багданава.

**ПАРВА́ЦЬ** *зак.* Парваць, разарваць. *Я сама́ парва́ла, яко́е рыззё было́.* Серкуці. *Бу́ра была́, усё плёнкі парва́ла.* Ракаў Засценак. *Даку́ль ты піць бу́дзеш? Кап цябе́ парва́ла!* (праклён). Вялікі Азярэцк.

**ПА́РКА** *ж.* Пара, двое. *Па́рку ко́ней запрага́лі і съха́мі се́ялі.* Каралі. *Па́ркай ко́ней бу́льбу разганя́лі.* Ульянавічы, Гарадзец, Закур’е.

**ПАРКА́Н** *м.* Плеценая агароджа з яловага суцча або калкоў. *Пърка́н гърадзілі із ял́овых суко́ў.* Каралі. *Пърка́н – э́та то́нінькія ко́лічкі ўбіва́еш, і – піракла́дамі – па́лка за па́лку, па́лка за па́лку.* Запруддзе, Буй, Каралі, Леснікі, Марозаўка, Міцюкова, Мянюцева, Нямойта, Пожанькі, Фасаўшчына.

**ПАРКА́НІНА** *ж.* Кол з плоту. *Ні парка́ніны ні адно́й ні было́ – усё згарэ́ла.* Серкуці.

**ПАРКЕ́Т** *м.* Плот, агароджа. *У нас згаро́да, другі ка́жыць парке́т.* Замошша.

**ПАРНАТА́** *ж.* Парнасць, гарачыня і вільготнасць. *Така́я парната́: дошч бу́дзіць.* Чуцькі.

**ПАРНУ́ЦЬ** *зак.* Парнуць, баднуць. *Не хадзі, цёлка цябе́ парне́ць.* Серкуці.

**ПА́РНЫ** *прым.* Парны, цотны. *Усё па́рнэе у буцяно́ў: я́йка два, чаты́ры кладу́ць.* Нямойта.

**ПАРНЯ́** *ж.* Памяшканне для гародніны; варыўня, стопка. *Пърня́ – сто́пка тъка́я, дзе бу́льбу хранілі.* Фасаўшчына.

**ПАРНЯ́ТКІ** *толькі мн.* Блізняты. *Яны́ ро́ўненькія, як пърня́ткі.* Парэчча.

**ПАРО́Г, ПАРО́Х** *м.* Парог. *У пе́ршы рас каро́ў выганя́еш – кладзе́ш пат паро́х яйцо́, замо́к замыка́іш – ат уся́кага нішча́сця, звяро́ў, кап каро́ва была́, як яйцо́ кру́гленькая, чы́сценькая* (прыкмета). Серкуці. *Як ха́та гарэ́ла, я дзяце́й вы́кінула*

*за парóх.* Баравікі, Багданава, Каралевічы, Кляпчэва, Партызаны. ◊ У ПАРÓЗЕ. Каля дзвярэй, каля ўваходу. *Сядзéла якрáс у парóзі.* Багданава.

□ *Ад кáждага парóга да Кіева дарóга.* Каралевічы.

**ПАРÓДА** *ж.* Род, радня. *Івáнішка, з іхняй парóды дзéўка, Івáнува дъчкá.* Цясішча.

**ПАРÓДНЫ** *прым.* Сапраўдны, тыповы. *У мянé зяць – парóдны яўрэ́й!* Пожанькі.

**ПАРÓЖНІ** *прым.* Пусты. *Там адзін пóграп парóжні быў.* Леснікова.

**ПАРÓС** *м.* Апарос. *Сем дней асталóся да парóсу.* Дольдзева.

**ПАРÓСНАЯ** *прым.* 1. Паросная (пра свінню). *Тры свінні парóсных былó.* Багданава. 2. Котная (пра кошку). *Кóшка парóсная: парасíцца бýдзе.* Запруддзе. 3. Шчэнная. *У нас чорт вéдае скóлькі пірабы́ла сабáк, а та парóсная булá.* Нямойта, Багданава, Гарадзец.

**ПАРÓЦЦА** *незак.* Капацца шукаючы. *Рабóчыі парóлісі у тых кургáнах, шукáлі кóсці.* Вялікі Азярэцк.

**ПАРÓЦЬ** *незак.* Абшукваць. *Адну ноч нéмцы усю хáту парóлі.* Серкуці.

**ПАРÓЦЬ** *зак.* Рыць. *Я къпáю бýльбу, і пъръсёнък кълъ мянé пóрыць зямлю.* Міцюкова, Заазер'е, Сукрэмна.

**ПАРÓШША** *н. зб.* Парушша. □ *На худóга чалавéка і парóшша ляціць.* Ульянавічы.

**ПАРПЛІЦА** *ж.* Металічная пята з воссю, жалезным шворанем, на якім круціцца верхні камень жорнаў. Яна рэгулюе, мяльчэй ці буйней малоць. *Парплíца – пад вéрхнім кáмнем у жóрнах.* Мянюцева. *Парплíца дзіржáла вéрхні кáмень у жóрнах.* Міцюкова, Алексінічы, Багданава, Гарадзец, Жохава, Запруддзе, Каралі, Кляпчэва, Марозаўка, Нямойта.

**ПАРСЮ́К, ПУРСЮ́К** *м.* Парсюк. *Пурсюкá длі сябé дзяржы́ць.* Чуцькі. *Заб'ю бальшóга пърсюкá і пълажý грóшы ў банк.* Неўгадава, Багданава, Дольдзева, Кішуроўшчына, Міцюкова, Партызаны. ПУРСЮЧÓК *памянш.-ласк.* *Бальнóй пурсючóк быў, то й здох.* Турава.

**ПАРТНІ́ХА** *ж.* Краўчыха. *Німáя былá партніха, шы́ла плáцці, óчынь харашó шы́ла.* Нямойта.

**ПАРТНЫ́** *м.* Кравец. *Партны́ шыў і паддзéўкі, і пóльты, і штаны́.* Нямойта. *Бáцька быў партны́м, да пóўначы шыў кажухí.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**ПАРТНЫ́, ПАРТНЭ́Й** *прым.* Ільняны. *Аснóва – куплёныя нíткі, а патóм – патыкáла сукнóм, і пъртнáя нíтка с кýжаллю.* Заазер'е. *Партнэ́я панчóхі з лёну рабíлі.* Ульянавічы.

**ПАРТНЯ́ЖЫЦЬ** *незак.* Займацца кравецтвам. *Стары́ мой тóжа партня́жыў.* Багданава.

**ПАРУСІ́НАВЫЙ** *прым.* Парусінавы. *Гэ́та парусíнавый мацерыя́л, як зóнцікі бывáюць.* Вялікі Азярэцк.

**ПАРУ́ШАНЫ** *прым.* Зменены, не такі, як быў раней. *Цяпéр й въдá, й зімля́, й нéба парýшъныя.* Цясішча.

**ПАРЦІЗА́Н** *м.* Партызан. *Бурмíстр парцізáн выручáў.* Фасаўшчына. *Парцізáны брáвы разбíлі ўсе упрáвы* (з песні). Закур'е. *Стáлі пърцізáны пътхадзíць.* Леснікова. *Пърцізáны стъя́лі ў Пілíпаўшчыні.* Партызаны.

**ПАРЦІЗА́НКА** *ж.* Партызанства, партызанскі рух. *Усякъя былá парцізáнка: і грáбілі яны́, а другíя ваявáлі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАРЦІЗА́НШЧЫНА** *ж.* Тое ж. *У Тры́лаве арганізава́лася парцізя́ншчына.* Нямойта. *У нас тут парцізя́ншчына была́ скрось!* Гарадзец, Запруддзе, Кляпчэва, Партызаны, Пожанькі.

**ПА́РЫНА** *ж.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным для паляпшэння глебы пад пасеў азімых; папар. *Па́рына – дзе скот хо́дзіць, дзе ня се́яна, аста́ўлена по́ле скот пасці́.* Самсоны.

**ПА́РЫЦЦА** *незак.* Парыцца. *Не любі́ла па́ръцца, а по́слі прыу́чы́лі ба́бы.* Нямойта. *Прымы́льнік – раздзе́нешся там, а ў ба́ні ужо́ па́рацца.* Жохава. *Бяра́знік – па́рацца ат радзікулі́та.* Партызаны.

**ПА́РЫЦЬ** *незак.* 1. Варыць. *Бу́льбы напа́рым, абальём са́лам.* Каралі. *Бу́льбу па́рылі, со́ллю пасыпа́лі і е́лі.* Багданава, Буй, Запруддзе, Міцюкова, Нямойта, Пожанькі. 2. Апрацоўваць парай. *Па́рыць на́да ячме́нь, сушы́ць і аттаўка́ць.* Багданава. 3. Парыць, праграваць. *Калі́ па́лец рвець, балі́ць, ме́ста німа́, яго́ па́руць.* Багданава. 4. Пра павышаную вільготнасць паветра. *Па́рыць сё́ння.* Нямойта. ◊ ПА́РЫЦЬ ЗЯМЛЮ́. Ляжаць у магіле. *Каб ня я, ты зямлю́ па́рыў бы.* Каралевічы.

**ПАРЭ́ПАНЫ** *дзеепрым.* Парэпаны, шурпаты. *Ру́кі во парэ́паныя.* Багданава.

**ПАРЭ́ЧКІ** *мн.* Парэчкі (ягады). *Парэ́чкі кра́сніенькія, я варэ́ння з іх вары́ла.* Гарадок. *Парэ́чак німа́, кра́сныя яны́.* Запруддзе.

**ПАС** *м.* 1. Выемка (паз) на коле калаўрота для ўтрымання шнура. *Кап шнур ні валі́ўся, у пра́лцы – пас.* Багданава. 2. Шнур, які замацоўваецца на коле калаўрота. *Пас у пра́лцы звалі́ўся.* Каралевічы.

**ПАСАБЛЯ́ЦЬ** *незак.* Дапамагаць. *Пъсабля́лі лю́дзі, адзі́н жа ха́ту ні пастро́іш.* Гарадзец. *Э́та іна́ пъсабля́ла нам бу́льбу капа́ць.* Запруддзе, Нямойта.

**ПАСАБРА́ЦЦА, ПАСУБРА́ЦЦА** *зак.* Пазбірацца, сабрацца (пра ўсіх, многіх). *Там уся́ дзярэ́ўня пасабра́лася.* Леснікова. *Як кунпа́нія, то ска́жуць: што вы тут къга́лам пасубра́ліся?* Міцюкова.

**ПАСАБРА́ЦЬ** *зак.* Сабраць (пра ўсіх, многіх). *Пасабра́лі усі́х у дзярэ́ўні і пагна́лі падво́дамі ў Шупкі.* Савінічы.

**ПАСА́Ґ** *м.* Пасаг. *Свінама́тку дава́лі у паса́ґ маладо́й.* Дуброўкі.

**ПАСА́ҐА** *ж.* Тое ж. *Прыда́нае зва́лі паса́ґа.* Леснікі. *Каро́ву дава́лі, аве́чку, свінню́ – вот табе́ і пъса́ґа.* Дуброўкі, Баравікі, Вялікі Азярэцк, Міцюкова.

**ПАСА́Д, ПАСА́Т** *м.* Рад снапоў, пакладзеных на ток для абмалоту; пасад. *Сла́лі паса́т на таку́, лю́дзі круго́м паса́да хадзі́лі, малаці́лі.* Гарадзец. *На ток скла́двалі, уме́ста, зва́лася паса́т.* Вялікі Азярэцк, Каралі.

**ПАСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* 1. Пасадзіць, пасеяць. *Кураспе́лкі гуркі́ паса́дзіш, і да са́май во́сені быва́юць.* Запруддзе. *Бíс карня́ пъсадзі́, то дзе ш яно́ прыжыве́.* Гарадзец. *Бу́льбу прасі́ў пасо́дзіць мужы́к.* Нямойта. 2. Паставіць у печ. *Пасо́дзіш таку́ю бу́лку, вы́ръсціць, як паду́шка.* Каралевічы. *Як пасо́дзіш, так бу́дзіць і сядзе́ць хлеп у пе́чы.* Гарадок. 3. Прымайстраваць. *Калі́ касу́ пъсадзі́ць ня ко́нъсна, то къса́ бу́дзіць браць вы́шы.* Леснікова. 4. Асадзіць рой, злавіць. *Сё́літа ні аднаго́ ръя́ ні пъсадзі́ла.* Вялікі Азярэцк.

**ПА́СВІЦЬ, ПА́СЦІЦЬ, ПАСЦІ́, ПА́СЦІВІЦЬ** *незак.* Пасвіць. *Ко́ні на́да па́сьвіць дзень і ноч.* Жохава. *Мне прыхадзі́лася па́сьвіць аве́чък калхо́зных.* Алексінічы. *Як па́сціла я радо́ўку, цвято́чкаў нъ́рва́ла.* Міцюкова. *Яе́ сын во́сем лет па́сціў скот.* Запруддзе. *Адзі́н рас па́сцілі аве́ц, так аве́чку схапі́ў воўк.* Баравікі, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Заазер'е, Партызаны, Савінічы, Самсоны,

Сукрэмна, Цясішча, Чуцькі, Закур'е. *Вýтак пасéць – кýры ў запóры дзень сядзяць.* Латыгаль. *Радóўку пáсцівіў за карóву і за авéчку.* Нямойта.

**ПАСВЯЦÁЦЬ, ПАСВІЦÁЦЬ** *незак.* Пасвячаць, асвячаць. *Перат пачáткам сяўбы пъсвяцáлі пáску.* Багданава. *Цэ́рква былá, мы насілі жыта пасвіцáць, вéрбу насілі пасвіцáць.* Багданава.

**ПАСВЯЦÍЦЬ** *зак.* Пасвяціць, асвяціць. *Пасвéцюць жыта, пасéюць ягó.* Багданава. *Свяшчэ́ннікі пасвéцюць і вязýць дадóму.* Вялікі Азярэцк.

**ПАСВЯЦÓНЫ** *дзеепрым.* Пасвячоны, асвечаны. *Соль пасвяцóная есць.* Савінічы.

**ПАСÉІЦЬ** *зак.* Пасеяць. *Пасéілі яр: ячмéнь, пшаніцу, авёс.* Гарадок. *Хто упéрад пасéіць, у тагó – лýчшае.* Багданава.

**ПАСÉЙКІ, ПАСÉЎКІ** *мн.* 1. Адходы пры веянні (паланні); высеўкі. *Як пълáіш, пасéйкі вылятáюць.* Вялікі Азярэцк. *Аўсá спарыш высушыш, палáеш, пасéяк мнóга, а пóтым – у жóрны.* Цясішча, Марозаўка, Міцюкова, Розмыслава. *Пасéўкі ат аўсá астаюцца, для свінéй скáрмліваюць.* Гарадзец. *Пасéўкі ад аўсá астаюцца, свінням скáрмліваюць.* Багданава, Каралевічы. *Пасéйкі аттáнуць, вéтраюць, і астаéцца чыстае зярнó.* Міцюкова. 2. Шалупінне круп. *Таўклі ў стýпі, абаб'éш усё, пасéйкі вылятáюць, шъ$^{ы}$лухі німá, куццю варылі.* Вялікі Азярэцк.

**ПÁСЕКА** *ж.* Пасека, пчальнік. *Пáсека ўсё аднó завéцца, што ля дóма, што ў калхóзі.* Вялікі Азярэцк. *Пчалíная пáсека.* Запруддзе, Нямойта.

**ПАСÉЎ** *м.* Угнаенне, удабрэнне. *Пасéў – па-беларýску, а удабрэ́нне – парýску. Пасéў сыпіць.* Буй.

**ПАСÉЧ** *зак.* Насекчы, накалоць. *Пасéч трэ́ба дроў.* Багданава.

**ПАСÉЧАНЫ** *дзеепрым.* Пасечаны, здробнены. *Сéчыва – éта што травá пасéчана, крапіву, любýю травіну, сікáч ёсь.* Міцюкова.

**ПАСЁЛАК** *м.* Пасёлак. *Брус – рэ́чка, два пасёлкі раздзяляіць.* Буй, Вялікі Азярэцк.

**ПАСІВÉЦЬ** *зак.* Пасівець. *Цяпéр ужó пасівéў увéсь.* Запруддзе.

**ПАСÍЛІЦЦА** *зак.* Павесіцца. *У нас тут пасíліліся: і маладыя, і старыя.* Багданава.

**ПАСÍЛЬНЫ** *прым.* Пасільны. *Рабóту дам, якáя табé пасільная: варóн гъняць с крыш, што салóмай пакрылі.* Нямойта.

**ПАСÍНІТЫ** *дзеепрым.* У сіняках. *Сільна рýкі у яé пасініты.* Запруддзе.

**ПÁСКА, ПÁСХА** *ж.* 1. Вялікдзень. *У нас хто Пáска, хто Вялíкдзень кáжуць, сёліта былá дзівятнáццатага апрэ́ля.* Багданава. *На Пáску вълачóбнікі хóдзяць.* Чуцькі. *На Пáсху валачóбнікі хадзілі: я бýлкі, яіц ім вынясу.* Самсоны, Гарадзец, Запруддзе, Каралевічы, Нямойта, Парэчча. 2. *перан.* Велікодныя песні. *Пáску пяюць.* Чуцькі.

**ПАСКАННÍ, ПАСКÁННІ, ПАСКАНÍ** *мн.* Мужчынскія асобіны канапель; маніцы. *У канóплях пъсканні бывáюць: тъкáя пустáя, німá на ёй кънапéль, тады пъсканí звáлі.* Запруддзе. *Бувáіць, канóпля пустáя вісіць, німá на ёй канапéль – э́та тады іх паскáнні звáлі.* Самсоны, Багданава, Дольдзева, Жохава, Леснікова, Нямойта, Чуцькі.

**ПАСКАРÓДЗІЦЬ, ПАСКАРАДЗÍЦЬ** *зак.* Паскародзіць, пабаранаваць. *Лéхі раз паскарóжу, раз паганяю.* Закур'е. *Нáда узърáць, пъскърадзíць бърaнóй, а тады узмішáць пъд зірнó.* Гарадок. *Паскарадзіла трóху граблямі бýльбу.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Закур'е.

**ПАСКВЯРЧЭ́ЦЬ** *зак.* Паклекатаць (пра бусла). *Буцян вóзьме пасквярчэ́ць, пасквярчэ́ць.* Міцюкова.

**ПА́СКІ** *мн.* Узор на тканіне ў палосы. *У па́сках пла́цце была.* Ульянавічы.

**ПАСКІПА́ЦЬ** *зак.* Раскалоцца, пашчапацца. *Усё паскіпа́ець у дрэ́ве, калі́ гром уда́рыць.* Ульянавічы.

**ПАСКЛА́СЦІ** *зак.* Паскладаць (пра ўсё, многае). *Дро́вы сама́ паскла́ла.* Запруддзе.

**ПАСКЛЮБА́ЦЬ** *зак.* Пакалоць на дробныя кавалкі. *Дзе ш ты пасклюба́іш палéны на дро́бныя шчэ́пкі?* Рулёўшчына.

**ПАСКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* Скруціцца (пра ўсё, многае). *Ду́дкі паскруці́ліся ў бу́льбы, згарэ́лі ад діклафо́су.* Партызаны.

**ПАСКУБА́ЦЬ** *зак.* Паскубці. *Ласі́ца з ласёначкам вы́шла у авёс, пъстая́ла, паскубла́ і пашла́.* Вялікі Азярэцк.

**ПАСКУ́ДЗІЦЬ** *незак.* Псаваць. *Ні паску́дзілі вы б зямлю з э́тай рабо́тай.* Гарадзец.

**ПАСКУ́СТВА** *н.* Шкодныя насякомыя ці паўзуны. *Клапы́, бло́хі, прусы́ – паску́ства, нягóж.* Вялікі Азярэцк. *Паску́ства: смаля́нкі і кра́ты ёсь.* Гарадзец.

**ПАСЛАБЕ́ЦЬ** *зак.* Аслабнуць, знясілець. *Паслабе́ў: хацэ́ў пчо́лы аддáць.* Івоні.

**ПАСЛА́НЫ** *дзеепрым.* Накіраваны. *Эканамістка пасла́ная ў Ча́шніке.* Неўгадава.

**ПАСЛЕ́Д** *м.* Паследкі, рэшткі чаго-н. *Бурт бу́льбы дабра́лі да пасле́ду.* Вялікі Азярэцк.

**ПАСЛЕ́Д, ПАСЛЕ́Т** *м.* Паслед, плацэнта. *Пасле́д у каро́вы аддзяля́ецца.* Парэчча. *Пасле́т вы́йшаў у каро́вы.* Рассвет.

**ПАСЛЕ́ДНІ, ПАСЛЕ́ННІ** *прым.* Апошні. *На рабо́ту з пасле́днімі сілачкамі ідзе́ць.* Нямойта. *Бяру́ць* [партызаны] *пасле́днія штаны́ у рабёнка!* Заазер'е, Гарадзец, Дольдзева, Дуброўкі. *Бу́льбу се́ялі са́му пасле́ннюю.* Неўгадава. ◊ ПАСЛЕ́ДНІ ПУЦЬ. Пра смерць. *Аста́ўся мне пасле́дні пуць.* Буй.

**ПАСЛЕ́ДСТВА** *н.* Паслед, плацэнта. *У каро́вы вы́йшла пасле́дства.* Заазер'е.

**ПАСЛЕ́СТВА** *н.* Спадчына. *Я перадаю свой дом сыну нъ пасле́ства.* Запруддзе.

**ПАСЛУХМЯ́НЫ** *прым.* Паслухмяны. *Дзяцёнак такі ла́дны, ён, як маладня́, жых – і паслу́хаець, паслухмя́ны.* Багданава.

**ПАСЛЮ́ЗНУЦЬ** *зак.* Пакрыцца слізззю. *Гаро́х паслю́зніць, як не бу́дзіць плéсціся па гарчы́цы, яна́ апо́ра яму́.* Партызаны.

**ПАСЛЯ́, ПО́СЛІ, ПАСЛЕ́** 1. *прысл.* Пасля, потым. *А по́слі тады́ е́дуць, прыда́нкі зва́лісі, е́та ужо́ пры́данае яе́ вязу́ць, ну сунду́к ці як там.* Гарадзец. 2. *прыназ.* Пасля. *Дзяды́ пасля Па́скі ўва ўто́рнік.* Багданава. *Пасля вайны́ радзі́ўся.* Гарадзец. *По́слі вайны́ гало́дныя і го́лыя, усяк прыхадзі́лася.* Нямойта. *Рацько́ўнік крышы́лі і вары́лі пасля вайны́.* Рэчкі. *По́слі вайны́ пірсялі́лісі Касаро́ва і І́ўчънкі ў Гълъшча́кіна.* Галашчакіна. *Акра́з то было́ по́слі Раждзжыства́.* Каралевічы, Багданава, Карпавічы, Партызаны, Чуцькі. *Пасле вайны́ дро́вы вазі́лі на сябе́.* Вялікі Азярэцк, Рассвет.

**ПА́СМА, ПА́СЬМА** *ж.* Пасма (нітак). *Па́сма называ́лася шэ́сдзісят ніта́к уме́ста.* Лесніко́ва. *Бёрда – дзе́сіць па́сім, ву́зенькая, кап рушнікі́ ткаць.* Сукрэмна, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Заазер'е. *У па́сьмі тры́ццъць ні́тък.* Закур'е.

**ПАСМАЛІ́ЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Паехаць. *Мы пъсмалі́лі на Вы́барг.* Вялікі Азярэцк.

**ПАСМЕ́ІВАЦЦА** *незак.* Пасмейвацца. *Пасме́іваіцца з мяне́, што ра́на гуркі́ пасе́яла.* Партызаны.

**ПАСМО́РГАЦЬ** *зак.* Нашморгаць, нарваць. *Ідзі пасмо́ргай сабе́ ягат.* Партызаны.

**ПАСМУЦІ́ЦЦА** *зак.* Пасумаваць. *Ёсць каму́ піць-весяліцца, не́каму – пасмуціцца.* Каралевічы.

**ПАСМЯЯ́ЦЦА, ПУСМЯЯ́ЦЦА** *зак.* Пасмяяцца, пажартаваць. *Бува́ла, пъпяю́ць, пъсмяю́цца.* Самсоны. *Пусмяя́цца люблю, пушуціць.* Каралевічы.

**ПАСНАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пачаставаць. *На́да ш паснадзіць лю́дзям, на стол не́шта пъста́віць.* Партызаны.

**ПАСНАТА́** *ж.* Нішчымніца. *Была́ пъснатá, вясно́й е́лі го́пікі* [аладкі з гнілой бульбы]. Ракаў Засценак.

**ПАСНІМА́ЦЬ** *зак.* Паздымаць, зняць (пра ўсё, многае). *Каўры́ паснімáла ды к ма́ццы піравізла́.* Багданава.

**ПАСНЯ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Разламі́лі* [царкву] *камсамо́льцы гэ́тыя, іко́ны пасня́лі і паламáлі ўсё.* Буй.

**ПАСО́БІЦЬ** *зак.* Пасобіць, дапамагчы. *На́да й каро́ўку загна́ць, на́да й ма́мкі пасо́біць.* Заазер'е.

**ПАСО́ХНУЦЬ** *зак.* Пазасыхаць, засохнуць (пра ўсё, многае). *Дрэ́вы ўсе пасо́хлі, як апыля́юць.* Запруддзе.

**ПАСПАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Спажыць (пра ўсё, многае). *Пъспажы́лі, спажы́лі усё.* Фасаўшчына.

**ПАСПАСІ́БАВАЦЬ** *зак.* Падзякаваць. *Вы́няў, аддáў гро́шы, паспасі́баваў.* Нямойта.

**ПАСПЕ́ЛЫ** *прым.* Паспелы, спелы. *Се́мя ллянóе паспе́лае таўклі, е́лі с карто́шкай.* Розмыслава.

**ПАСПЕ́ХІ** *мн.* ◊ СКО́РАНЬКІЯ ПАСПЕ́ХІ. Пра нешта хуткае, зробленае наспех. *Так атрымáлася, што скóранькія паспе́хі.* Савінічы.

**ПАСПЕ́ЦЬ** *зак.* Выспець. *Як паспе́іць лён, то яго́ брáлі рукáмі.* Неўгадава. *Спа́саўка – дзве нядзе́лі, усяго́ ёсць, агурцы́ ужо́ паспе́юць у гаро́дах.* Фасаўшчына, Гарадзец, Запруддзе, Леснікі.

**ПАСПО́РАЦЬ** *зак.* Паспрачацца. *То паспо́раюць, то паругáюцца.* Міцюкова.

**ПАСПЫТА́ЦЬ** *зак.* 1. Пакаштаваць. *Ні пъспытáлі бъръвікá, а ён го́ркі, то быў пълявэ́й бъравік.* Кавалі. *Дай паспытáць спірту!* Міцюкова, Вялікі Азярэцк, Багданава, Гарадзец, Партызаны, Фасаўшчына. 2. *перан.* Зведаць, пяражыць. *Мы пажылі́, уся́кае жы́зьні паспытáлі.* Гарадзец.

**ПАСРАДЗІ́** *прыназ.* Пасярод. *Наўскі́т арýць – э́та пасрадзі ні́вы начынáюць, а е́слі ўразо́р – то с краеў.* Гарадзец.

**ПАССА́ЦЬ** *зак.* Пассаць. *Грудзі не пассáў: паме́рла мáці.* Цясішча, Чуцькі.

**ПАССЯКА́ЦЬ** *зак.* Пассякаць, ссекчы (пра ўсё, многае). *Пассе́клі ігру́шы.* Каралевічы.

**ПА́СТА, ПА́СТВА** *ж.* Паша, выпас. *Я былá нъ пáсці, і ў мяне́ воўк аве́чку панёс.* Закур'е. *Гнаў каро́ў на пáсту, і мі́на яго́ падарвáла.* Кішуроўшчына. *Як ужо́ убо́рка, тады́ пасу́ць, тады́ – пáства.* Каралі.

**ПАСТАВА́ЦЦА** *зак.* Пааставацца, застацца (пра ўсіх, многіх). *Там адны́ жэ́ншчыны пъставáліся.* Багданава.

**ПАСТА́ВІЦЬ** *зак.* 1. Паставіць, размясціць. *Пе́рвы сноп на куце́ пъстáвіць, як пачынáіш жаць.* Гарадзец. 2. Пабудаваць. *Брат на тым ме́сці пъстáвіў хáту.*

Леснікова. *Яны і кварціру пъстáвілі каперацівам.* Багданава, Гарадзец, Міцюкова, Самсоны. 3. Назначыць на пасаду. *Пъстáвілі мянé брыгадзірам.* Фасаўшчына. 4. Падаць на стол. *Іná усё пъстáвіла: і гарэлку, і мёт.* Міцюкова. 5. Паставіць на чаргу. *Пъстáвюць нъ кварціру – калі мнóга, а што тут нас дваёх.* Гарадзец. ◊ ДУ́БА ПАСТА́ВІЦЬ. Натапырыць. *Вýшы дýба паставіў: спýдзіўся конь.* Міцюкова.

**ПАСТАВЫ́** *прым.* Посніцкі. *Як пост – паставыя пéсні пéлі.* Партызаны.

**ПАСТАГНА́ЦЬ** *зак.* Пастагнаць, паенчыць. *Захварэе, нядзéлі дзве пастóгнець, ну, і памрэ́.* Багданава.

**ПАСТАЛІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць стольь. *Я усё адзін пачысціў, пъсталíў.* Жохава.

**ПАСТАНАВІ́ЦЦА** *незак.* Ставіцца, размяшчаецца. *Мъхамóр лóжыцца ў блюдка і нъ вакнó пъстанóвіцца: ат мух.* Дольдзева.

**ПАСТАНАВІ́ЦЬ** *зак.* 1. Прызначыць. *Пастанавілі дъяркай, а патóм – цілят паіць.* Савінічы. 2. Прыняць рашэнне. *Дзірэ́ктър пъстънавіў пъстънаўлéнія: ні касіць.* Дуброўкі.

**ПАСТАРШАВА́ТА** *прысл.* Неадпаведна свайму ўзросту. *Вы пастаршавáта выдаіцé.* Гарадзец.

**ПАСТАРЭ́ЦЬ** *зак.* 1. Выглядаць пастарэлым. *Як прабалéла, так і пастарэла.* Запруддзе. 2. Стаць старым. *Пакýль зáйдзеш, то і травá пастарэ.* Партызаны.

**ПАСТА́ЎШЫСЯ** *дзеепрым.* Тыя, што засталіся. *Былі пастáўшысі цыгáнкі-яблыні.* Леснікова.

**ПАСТА́ЦЦА** *зак.* Пааставацца, застацца (пра ўсіх, многіх). *Мушчын пъзабірáлі, пъстáліся адны жэнщчыны.* Ракаў Засценак.

**ПАСТА́ЦЬ** *зак.* Пачаць бегаць (пра ўсіх, многіх). *Карóвы як пъстáнуць лётъць.* Кішуроўшчына.

**ПА́СТКА** *ж.* Пастка, капкан. *Пастáвілі пáстку на тхарóў, а кот пупáўся.* Кляпчэва. *Тады дзеравяныя дзéлалі пáсткі.* Станюкі, Багданава, Каралевічы, Ульянавічы.

**ПАСТРАДА́ЛЫ** *дзеепрым.* Пацярпелы. *Пастрадáлым пайкí давáлі пóсле вайны.* Розмыслава.

**ПАСТРАДА́НЫ** *дзеепрым.* Тое ж. *Пастрадáным сéм'ям давáлі дзвéсце грам касцярý пасля вайны.* Розмыслава.

**ПАСТРАКА́ЦЬ** *зак.* Пагрызці, пасекчы. *Яé мяшóчак пастракáлі мышы.* Багданава.

**ПАСТРАМІ́ЦЬ** *зак.* Пасарамаціць, пасароміць. *Пастраміла ягó: стыдна былó.* Запруддзе.

**ПАСТРО́ЕНЫ** *дзеепрым.* Пабудаваны. *Тады ш хáта былá пастрóена, то ні нáда ш будувáць.* Леснікова.

**ПАСТРО́ЙКА** *ж.* 1. Будынкі, пабудова. *Уся пастрóйка так і згінула* [пры пажары]. Партызаны. *Нáшымі людзямí стáлі занімáць пастрóйкі.* Неўгадава. 2. Будаўніцтва. *Буралóм нілізя нъ пастрóйку.* Гарадок. ○ ХАЛО́ДНАЯ ПАСТРО́ЙКА. Гаспадарчыя пабудовы. *Пан асіннíку нъ халóдную пастрóйку даў.* Рассвет.

**ПАСТРО́НКІ, ПАСТРО́МКІ** *мн.* Частка збруі – рамяні (вяроўкі), якія злучаюць ворчык з хамутом пры запраганні каня ў плуг, барану; пастронкі. *Пастрóнкі прыладзіш ды й арэш.* Станюкі. *Пастрóмкі – у аралёвым хамутý. Пастрóмкі дзéлаюць – вярóўкі звівáюць.* Гарадзец.

**ПАСТРУГА́ЦЬ** *зак.* Пастругаць, пагабляваць. *Калí камý што нáда – пастругáюць.* Чуцькі.

**ПАСТУПІ́ЦЬ, ПУСТУПІ́ЦЬ** *зак.* 1. Паступіць (на вучобу). *Як пуступіў у інсціту́т, дык яго́ ні бра́лі у а́рмію.* Заазер'е. 2. Уступіць. *Мы з хазяінам пе́рвые паступілі у калхо́з.* Багданава, Цясішча.

**ПАСТУ́Х** *м.* 1. Пастух. *До́бры насту́х відзець у ста́дзі ка́жную каро́ву.* Запруддзе. *Кармілі пастухо́ў па радо́ўкі.* Заазер'е. *Насту́х знаў загаво́р ад ваўко́ў.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Міцюкова, Партызаны, Фасаўшчына, Цясішча, Закур'е. 2. Пра таго, хто кантралюе каго-н. *Насту́х над ва́мі ёсць, не аднэ́й на юг е́хаць.* Нямойта.

**ПАСТУ́Ш'І** *прым.* ○ ПАСТУ́Ш'Я СУ́МКА. Стрэлкі (расліна). *Пасту́ш'я су́мка ёсь на гаро́дзе.* Розмыслава.

**ПАСТУ́ШКА** *ж.* Пастушка. *Пасту́шка з сынам па́сціла каро́вы.* Гарадзец.

**ПАСТЭРНА́К, ПАСТЭРНЯ́К** *м.* Пустырнік, сардэчнік (расліна). *Пастэрна́к каро́вы не яду́ць, ду́жа го́ркі.* Партызаны. *Пастэрня́к нападо́біе марко́ўкі.* Каралевічы.

**ПАСУ́ДА** *ж.* Посуд. *Пасу́ду пахува́еш у су́днік.* Рэчкі.

**ПАСУЛІ́ЦЬ** *зак.* Пажадаць. *Ні пасулю нікаму́ адзіно́чъства кру́глага.* Івоні.

**ПА-СУСЕ́ЦКУ** *прысл.* Па-суседску. *Па-сусе́цку жыве́ць.* Закур'е.

**ПАСУ́Ш** *ж.* Старая сухая трава; віш. *Пасу́ш – ста́ръя трува́, яе́ каро́вы яду́ць тро́ху.* Гарадок.

**ПАСЦЕ́ЛЬ** *ж.* Пасцель, ложак. *С субо́ты – на рабо́ту да нядзе́лі, / А ў нядзе́лю – да пасце́лі* (з песні). Запруддзе.

**ПАСЦЕ́ЛЯ** *ж.* 1. *зб.* Пасцель, пасцельная бялізна. *А дзед сваю пасце́лю прыбра́ў.* Дольдзева, Баравікі. 2. Месца для спання. *Печ пірърбляюць, а мъя́ пасце́ля къла пе́чы.* Станюкі. 3. Рад снапоў, пакладзеных на ток для абмалоту; пасад. *Пасце́лю пало́жаць жы́та і па каласа́х б'юць.* Запруддзе.

**ПАСЦЕ́ННА** *прысл.* Кожную сцяну асобна. *Злажы́лі зруп пасце́нна.* Серкуці.

**ПА́СЦІ** *зак.* 1. Упасці. *На но́гі пъдзе́ць каба́н, кру́ціцца, кру́ціцца і здо́хніць.* Партызаны. 2. Пачацца (пра хваробу). *Дзе́цкая бале́зь па́ла на се́рца – храп і ўсё.* Багданава. *Слажне́нія па́ла з ціху на ву́шы.* Дуброўкі.

**ПАСЦІБА́ЦЬ** *зак.* Пасцябаць. *Пасціба́юць ве́рбай скаціну і бръса́лі.* Багданава.

**ПАСЦІ́ЖНА** *прысл.* Раптоўна (пра смерць). *Паме́р пасці́жна: рак.* Запруддзе.

**ПАСЦІ́ЖНЫ** *прым.* Хуткацечны (пра захворванне). *Паме́р пра́ма рапто́ўна: быў рак пасці́жны.* Запруддзе.

**ПАСЦІЛА́ЦЬ** *незак.* Слаць, класці. *У рат снапы́ пасціла́юць і малаціл і.* Нямойта.

**ПАСЦІЛЕ́НАВЫ** *прым.* Поліэтыленавы. *Пасьціле́навую то́рбачку узяла́ і пашла́.* Буй.

**ПАСЦІЛЁНА** *ж.* Посцілка. *Зрэ́бныя пасцілёны рабілі.* Неўгадава.

**ПАСЦІ́ЛКА** *ж.* Тое ж. *Пасці́лкі засціла́лі на крава́ць.* Закур'е. *Тка́лі пасці́лкі ілляны́я, а адзія́лы – суко́нныя.* Леснікі, Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Нямойта, Ракаў Засценак, Сукрэмна.

**ПАСЦІПНЕ́Й** *прысл.* Шчыльней. *Пасціпне́й пърка́н рабілі, кап ні прахо́дзіў ні піскле́нъчък, ні ку́рыца.* Фасаўшчына.

**ПАСЦІ́ЦЬ** *незак.* Пасціць. *Пъсця́ць, а пато́м на Па́ску хоць пу́за разарві.* Партызаны.

**ПАСЦЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Пасцяліць. □ *Як пасце́ліш, так наспіш.* Багданава.

**ПА́СЫНАК** *м.* Пасынак, нядодны сын. *Па́сынак ажаніўся мой.* Багданава. *У па́сынка яе́ два па́льцы атарва́ла.* Партызаны, Ракаў Засценак.

**ПАСЫ́ПАЦЦА** *зак.* 1. Асыпацца. *Пасыпіцца сад – свінням сыпім я́блыкі.* Леснікова. 2. Нараджацца адно за адным. *Аднаго́ нашу́, другі за ю́пку цягніць, ну і пасы́паліся тады́ дзе́ці: дзяўчы́нка гэ́та, яшчэ́ дзяўчы́нка, было́ чэцьвёра.* Фасаўшчына.

**ПАСЫ́ПАЦЬ** *зак.* 1. Пасыпаць, абсыпаць. *Бу́льбу спа́рыш, со́ллю пасы́піш, і яду́ць.* Багданава. 2. Усыпаць, высыпаць. *І было́ куды́ пасы́пацць зярно́.* Гарадзец, Гарадок.

**ПАСЯДЗЕ́ННЕ** *н.* Пасяджэнне. *Сабра́нія былі́, пасядзе́нні дзе́лалі.* Заазер'е.

**ПАСЯЛЕ́НЕЦ** *м.* Перасяленец. *Пасяле́нцам стро́яць ха́ты.* Апечкі.

**ПАСЯЛЕ́НЬ, ПАСЯЛЕ́Й** *м.* Мужчына, які без справы ходзіць па вёсцы, па хатах. *Пьсяле́нь, пу сялу́ хо́дзіць, пасяльнём і заву́ць яго́.* Гарадзец. *Пасяле́й па сялу́ хо́дзіць, пасяллём і заву́ць яго́.* Гарадзец.

**ПАСЯЛЁНЫ, ПАСЯЛЁННЫ** *дзеепрым.* Паселены. *У кірпі́чных дама́х і на́шы калхо́знікі ёсць пасялёныя. Там ёсць пасялённыя армя́не.* Нямойта.

**ПАСЯЛІ́ЦЦА** *зак.* Пасяліцца. *Ён пьсялі́ўся і бу́дзіць жыць тут.* Багданава.

**ПАСЯЛУ́ХА** *ж.* Жанчына, якая без справы ходзіць па вёсцы, па хатах; пахатуха. *Ба́ба ціга́йцца пь дьма́х – пьсялу́ха.* Багданава.

**ПАСЯЛЯ́ЦЦА** *незак.* Гняздзіцца. *Шпакі́ ляця́ць у дзярэ́ўню, там пасяля́юцца.* Розмыслава, Марозаўка, Серкуці.

**ПАСЯРО́Д** *прыназ.* Пасярод, сярод. *Пьсяро́д нядзе́лі прыі́жджа́іць до́чка.* Заазер'е.

**ПАТАЛО́К** *м.* Столь. *Паталкі́ мы́ла у ха́ці.* Розмыслава. *Глядзі́ на патало́к, каб чорт ні звало́к* (з дзіцячай лічылкі). Партызаны, Закур'е.

**ПАТАЛО́ЧЫЦЬ** *незак.* Рабіць столь. *Пато́м зашыва́юць франто́ны, пато́м патало́чуць ізру́п.* Нямойта.

**ПАТАНЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Пахудзець. *Як бу́дзе ма́лец расці́, мо́жа, і патане́е.* Запруддзе, Міцюкова. 2. Апасці (пра пухліну), зменшыцца. *Нос распу́х, сіні, к ба́пке схадзі́ла – патане́ў.* Манголія.

**ПАТАНУ́ЦЬ** *зак.* Утапіцца. *Вяно́к не пато́ніць с кра́сак.* Каралевічы.

**ПАТАПІ́ЦЦА** *зак.* Утапіцца (пра ўсіх, многіх). *А я ду́мала: мо́жа, пьтапі́ліся?* Багданава.

**ПАТАПІ́ЦЬ** *зак.* Напаліць. *Як пато́піш печ, спаць пло́ха.* Жохава.

**ПАТАПТА́ЦЬ** *зак.* Патаптаць, пахадзіць. *Кап патапта́ў спіну́ пірат паро́гам са́мы ста́ршы, хто пе́рвы радзі́ўся ці насле́дні* (звычай). Дольдзева.

**ПАТАРГА́ЦЬ** *зак.* Паторгаць. *За рох пьтьрга́ў і закры́ў.* Гарадзец.

**ПАТАЎСЦЕ́Й** *прысл.* Таўсцей. *Стьра́іся, штоп пьтаўсце́й атрэ́зьць.* Заазер'е.

**ПАТАЎЧЫ́** *зак.* Патаўчы. *Бу́льбы ньва́руць, пьтаўку́ць і з со́льдьм зьва́рваюць.* Дольдзева. *Кано́плі патаўчэ́ш, намо́чыш, працэ́дзіш – і ў пе́чку.* Багданава, Запруддзе.

**ПАТА́Ш, ПО́ТАШ** *м.* Рэчыва са шчолачнымі ўласцівасцямі, якое атрымліваецца з попелу; паташ. *Пата́ш у калхо́з вазі́лі, удабрэ́нне.* Нямойта. *Як у вайну́ мы́ла вары́лі: касцёй нава́рым, пата́ш даба́вім, як разва́рацца, то ў начо́ўкі вы́ллем і парэ́жам на кускі́ – беллявое мы́ла.* Гарадзец. *Каро́сту дра́лі і паташо́м ма́залісі.* Багданава.

**ПА́ТАШЫЦЬ** *незак.* Патрашыць, вымаць вантробы. *Па́ташыў жалу́дьк ваўка́, то ў ім карчэ́й, гнілля́, асакі́, то́рфу було́. Гэ́та ужо́ ньжра́ўся мя́са.* Пожанькі.

**ПАТКАВЫРНУ́ЦЬ** *зак.* Падчапіць. *Паткавы́рніць кру́към і дъста́ніць вядро́ ў каló дзішы.* Неўгадава.

**ПАТКАЗА́ЦЬ** *зак.* Падказаць, навесці на думку. *А яму́ ніхто́ ні патказа́ў.* Заазер'е.

**ПАТКАЛА́ЧВАЦЬ** *незак.* Падбіваць, падбухторваць. *На ноч якія сілы нячы́стыя паткала́чваюць: біўся, гъняў па ха́це.* Партызаны.

**ПАТКА́ЛЫВАЦЬ** *незак.* 1. Паколваць (пра боль). *Начало́ сэ́рца патка́лываць, біцца абы́-як. Цяпе́р патка́лываіць часце́нька се́рца.* Нямойта. 2. *перан.* Гаварыць што-н. з'едлівае, непрыемнае. *Я ско́лькі свайго́ патка́лывала.* Сянно.

**ПАТКА́ПЫВАЦЦА** *незак.* Падкопвацца. *Патка́пываліся да́жэ ваўкі́ пат хлеў.* Леснікова.

**ПАТКА́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Падкочваць. *Камяні́ патка́чываюць, і е́та падму́рак быў.* Гарадзец.

**ПАТКЛАДА́ЦЬ** *незак.* Падкладваць, класці пад што-н. *Аір паткладáлі пат хлеб.* Дуброўкі. *Агір пад хлеб паткладáлі.* Гарадзец.

**ПАТКЛА́СЦІ** *зак.* ◊ ПАТКЛА́СЦІ ПІТУХА́. Зламысна падпаліць. *Яны́ сварылісі, то Трухо́н узя́ў і зъпаліў. Прышо́ў і жо́нцы ка́жыць: «Я пітуха́ пъткла́ў».* Заазер'е.

**ПАТКЛА́ТКА** *ж.* Падкладка (пра адзенне). *Куле́к жа надзе́ніш наве́рх, біс паткла́ткі.* Багданава. *Пъткла́тка, а наверху́ – маце́рыя.* Гарадзец.

**ПАТКО́ВА** *ж.* У складзе выразу, які звычайна ўжываецца пры характарыстыцы спрытнага чалавека. *Нъ хаду́ у къня́ атарве́ць патко́ву.* Запруддзе.

**ПАТКО́РМКА** *ж.* Дадатковае харчаванне. *Патко́рмка дзе́цям была́.* Сукрэмна.

**ПАТКРЫ́ЛЛЯ** *н.* Паддашак. *Паткры́лля, каб ні ка́пала.* Фасаўшчына.

**ПАТКРЫШЫ́ЦЦА** *зак.* Пакрышыцца, выкрышыцца. *Паткрышы́ліся зу́бы, каранне́ астало́ся.* Багданава.

**ПАТКУСІ́ЦЬ** *зак.* Падбіць, падбухторыць. *Лю́дзі паткусілі, і ръстръля́лі гэ́тага чълаве́ка.* Чуцькі.

**ПАТМЁРЦІ** *зак.* Вымерці (пра ўсё, многае). *Цяпе́р усё не́як патмёрла, хімія паўніцто́жыла.* Нямойта.

**ПАТНІ́К** *м.* Лямец, які падкладваецца пад сядло ці сядзёлку; патнік. *Сядзёлка: зве́рху – рэ́бры, зні́зу – патнік во́йлачны. Сядзёлка: рэ́бры жале́зныя, патнік во́йлачны,* [а] *зве́рху іс ко́жы.* Гарадзец.

**ПАТО́М** *прысл.* Потым. *Сьпярша́ паду́май, а пато́м скажы́.* Запруддзе.

**ПАТО́П** *м.* Разводдзе, паводка. *У нас жа усю́ды вісна́ і во́сінь – пра́ма пато́п, тапіліся.* Самсоны. *Пато́пы сёлета ўсю́ды.* Цясішча.

**ПАТО́ПЛЕННІК** *м.* Тапелец. *На тым све́це пато́пленьнікъм рай.* Кішуроўшчына.

**ПАТО́РКАНЫ** *дзеепрым.* Уторкнуты. *Дзе пато́ркана ве́рба, там не пару́шана, а дзе не пато́ркнута, – бурано́м пакру́чана дабро́.* Цясішча.

**ПАТО́РКАЦЬ** *зак.* Пасадзіць, пасеяць. *Я б даўно́ тут пато́ркала і тміну, і часнаку́.* Міцюкова.

**ПАТО́РКНУТЫ** *дзеепрым.* Пасаджаны, пасеяны. Цясішча.

**ПАТО́РКНУЦЬ** *зак.* 1. Пасадзіць, паторкаць. *Я б даўно́ тут пато́ркнула і тміну, і часнаку́.* Цясішча. *Як нарву́ць грыбы́ на кла́дбішчы, то ма́ці заста́віць пасадзіць, дзе ты бра́ла, пато́ркнуць туды́.* Запруддзе. 2. Ударыць. *Ціша́й, ты мне нос пато́ркнеш.* Запруддзе.

**ПАТО́РНУЦЬ** *зак.* Уторкнуць (канцы перавясла). *Калёнам перацíснеш сноп, пато́рнеш вязьмо́.* Розмыслава.

**ПАТО́ЎКНУЦЬ** *зак.* Патаўчы. *Пато́ўкнуць каноплі, закіпяця́ць – бéлая падымáіцца.* Запруддзе.

**ПАТО́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Пагрызены, пасечаны. *Бу́льба былá пато́чана, дзірачкі дáйжэ.* Багданава.

**ПАТПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Падпаліць. *Трэ́сачкамі патпáліць ці лучы́най.* Вялікі Азярэцк.

**ПАТПА́НАК** *м.* Падпанак, паўпанак. *Тут былі патпáнкі такíя.* Вялікі Азярэцк.

**ПАТПА́САК** *м.* Падпасак, памочнік пастуха. *Пътпáсак быў, э́та с кáжнай хáты прымéрна.* Самсоны.

**ПАТПЕ́ЧНІК** *м.* Месца, прастора пад печчу; падпечча. *Патпéчнік для курэ́й, то кот цяпéр туды́ хóдзіць у апíлкі.* Неўгадава.

**ПАТПЕ́ЧЧА** *н.* Тое ж. *Пат пéччу дзéлалі патпéчча: курэ́й туды́ садзілі.* Гарадзец. *Патпéчча пакідáюць, курэ́й на зіму́ запірáюць, кап ім цяплéй бы́ла.* Фасаўшчына. *Фундáмінт срáзу залівáецца, тады́ патпéчча, тады́ падзагнéт, загнéт, а там паднябéнне ўвярху́, а гэ́та пот.* Партызаны, Алексінічы, Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Каралевічы, Міцюкова, Рэчкі, Закур'е.

**ПАТПІНУ́ЦЬ** *зак.* Завязаць. *Фартушóк падпінéць бéленькі і йдзець на рабóту.* Запруддзе.

**ПАТПІРА́ЦЦА** *незак.* Падпірацца. *На сьцяну́ лóжыцца даскá і патпірáіцца упóрам.* Нямойта.

**ПАТПЛЁТКА** *ж.* Спіца для падплятання лапцей. *Патплётка былá, авéчак бувáла, рэ́залі, з касці з нох патплётку дзéлалі.* Каралі.

**ПАТПЛІТА́ЦЬ** *незак.* Падплятаць. *А гэ́та лы́кам патплітáлі* [лапці], *патшывáлі і кóжай патшывáлі.* Фасаўшчына. *Лáпці з вярóвак патплітáлі.* Закур'е.

**ПАТПЛЫ́ЦЬ** *зак.* Апухнуць, ацячы. *І так патплылó мянé скрось* [нарыў на руцэ]. Самсоны.

**ПАТПО́РА** *ж.* Падпора. *Станóвяцца пат страпілы па бáлкам патпóры, штоп страпілы ні прагінáлісі; станóвяцца штандáры, патпóры.* Нямойта. *У абóры, у карóўніку патпóры стáвяцца, а на патпóры лóжацца бэ́лькі. Патпóры дзéлалі рáньшы, наўскóсь станавілі.* Гарадзец. *У хлéві, што стáвюць патпóры, называ́юць дзядáмі.* Запруддзе.

**ПАТПО́РВАЦЬ** *незак.* Калоць, пароць (рагамі). *Аднá адну́ пътпóрваюць, нéма раву́ць.* Каралевічы.

**ПАТПО́РКА** *ж.* Падпора. *Што пахілены буды́нак, патпóркі там.* Гарадзец.

**ПАТПРУ́ГА** *ж.* Частка збруі для ўмацавання сядла, падсядзёлка на спіне каня; папруга. *У сядзёлцы – патпру́га с цесьмы́, пад ніс, пат кьня́, і патшпільваецца, кап не звалíлься сядзёлка.* Гарадзец.

**ПАТПУЖА́ЦЬ** *зак.* Напалохаць. *Патпужáць нас хацéла, каб ня éла гэ́тых грыбóў.* Гарадок.

**ПАТПЫ́ТВАЦЬ** *незак.* Дапытвацца, выпытваць. *Яны́ патпы́твалі, хто страля́ў.* Нямойта.

**ПАТРА́ВА** *ж.* Патрава, стаптаныя пасевы. *Улéзла скацíна, пътрáву здзéлала.* Ульянавічы. *То там, то там дзéлаюць патрáву.* Савінічы.

**ПАТРАВІ́ЦЦА** *зак.* Прапасці, вырадзіцца. *Пътравíлася ўсё – і мухамóраў німá.* Цясішча.

**ПАТРАВІЦЬ** *зак.* Атруціць (пра ўсё, многае). *Патравілі пчол атрáвай.* Баравікі.

**ПАТРÁПІЦЬ** *зак.* Застаць. *Я ні пътрáпіла: ні былá дóма.* Дольдзева.

**ПАТРАСЦІ** *зак. эмац.-ацэн.* Строга загадаць. *Патраслі, патраслі, кап ні правóдзілі ніякую рабóту агітацыóнную, тóлькі вучы́лі дзяцéй.* Фасаўшчына.

**ПАТРАШЧÁЦЬ** *зак.* Патрэскацца. *Гýбы крáсяць, калі патрэ́шчуць, і прахóдзіць.* Запруддзе.

**ПАТРÓШКУ** *прысл.* Патроху, пакрыху. *Тады́ ужó вады́ пап'юць свянцóнай, усíм дзéцям даюць патрóшку.* Гарадзец. *Патрóшку, патрóшку прывы́кнуць малады́я і сóйдуцца.* Ульянавічы.

**ПАТРУ́ССЕ** *н. зб.* Пацяруха. *Патру́ссе – ат сéна, я́йца крáсілі, тады́ яны́ жóўтыя.* Леснікова.

**ПАТРУ́ХА, ПАТРУХÁ** *ж.* Тое ж. *Ат сéна засталáся патру́ха.* Розмыслава. *Мякіна, патру́ха астаéцца, як камбáйн жнець.* Гарадзец, Леснікі, Сукрэмна. *Патрухá ат стóга астълáся, то яé хвызáны і éлі.* Сянно.

**ПАТРУШЫ́ЦЬ** *зак.* Памяць (лён). *Нáда патрушы́ць лён, памя́ць.* Ульянавічы.

**ПАТРЭ́П'Е, ПАТРÁП'Е** *н. зб.* Атрэп'е. *Мяшкі ткáлі с патрэ́п'я.* Дуброўкі. *Патрáп'е звáлівалася, вълакнó аставáлася, як трэ́плі лён.* Запруддзе. *Патрáп'е ні праў ніхтó.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**ПАТСÁДА** *ж.* Колца на ножцы грыба. *Як вы́ръшшы* [масляк], *то пътсáды німá.* Партызаны.

**ПАТСÁЛІВАЦЬ** *незак.* Падсольваць. *Я ш патсáлівъла сълáту.* Міцюкова.

**ПАТСÁНАЧКІ** *мн.* Невялікія санкі. *Малéнькія сáнкі на два капылы́ называліся патсáначкі.* Гарадзец.

**ПАТСÉВЫ** *мн.* Пасевы. *Лугі якія, дзе патсéвы, пътсівáюць трáвы.* Самсоны.

**ПАТСІНЬКА** *ж.* Сіняя фарба для тканіны; сінька. *На ікóны пълацéнцы пътсінівалі, патсінька называлася.* Багданава.

**ПАТСКАЗÁЦЕЛЬ** *м.* Прадказальнік. *Мы ш ні патсказáцелі, мы ш ні знáім.* Багданава.

**ПАТСКÁКАЦЬ** *незак.* Падскокваць. *Каб бліны́ былі пы́шныя, кап пътскáкълі нъ скъвърадзé.* Запруддзе.

**ПАТСКАРАДЗІЦЬ** *зак.* Паскародзіць. *Ён патскарадзіў рас бýльбу і рас падмішáў, яшчó рас падмішáць нáда.* Розмыслава.

**ПАТСКРÁБУВАЦЬ, ПАТСКРÁБЫВАЦЬ** *незак.* 1. Саскрабаць. *Патскрáбуіш дзéшку і мáлінькую бýлачку дéлъіш.* Дольдзева. 2. Выбіраць (пра торф (?)). *Калі трóху балóты патскрáбывалі.* Міцюкова.

**ПАТСКРÓБЫШ** *м.* Апошняе дзіця. *Патскрóбыш – паслéдні сын, завýць і так, пры бясéдзі.* Леснікі.

**ПАТСЛЁПАВАТЫ** *прым.* Падслепаваты, блізарукі. *Такі патслёпаваты мужы́к.* Міцюкова.

**ПАТСМÁЛІВАЦЬ** *незак.* Падсмальваць. *Пълатня́ныя шы́лі тýфлі, вярóвачкі вілі, патшывáлі падашвý і смалóй пътсмáлівалі, кап ля́палі, стýкалі, і дзіравя́нны каблучóк вытáчвалі.* Заазер'е.

**ПАТСМАЛІЦЬ** *зак.* Падсмаліць. *Прынясýць свéчы* [на Грамніцы], *патсмáлюць валасы́ дзéцям, трóшку спéраду, збóку, чаты́ры рáза, каб ні баяліся грóму* (звычай). Савінічы.

**ПАТСМÉЦІННЕ, ПАТСМÉЦІННЯ** *н.* 1. Асадак, які дае ператопленае масла. *Патсмéцінне – калі мáсла саб'юць і піратóпюць, на дне астаéцца.* Кляпчэва.

2. Вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла; маслёнка. *Патсьмéцiння, калí мáсла саб'юць*. Кляпчэва.

**ПАТСМÉЦІНЫ** *мн.* Асадак, які дае ператопленае масла. *Купíла мáсла нéйкае бéлае, як патсмéцiны*. Багданава.

**ПАТСМІ́ХЛІЛЫ** *прым.* Насмешлівы. *Патсміхлілы такí, язы́к у майгó зяця ніхарóшы*. Заазер'е.

**ПАТСМЫ́ГІВАЦЬ** *незак. эмац.-ацэн.* Выпіваць. *Сын трóху патсмы́гіваіць, а тады́ злýіць, халірýіць*. Багданава.

**ПАТСНÉЖНІК** *м.* Сіняя вясновая пралеска (расліна). *Патснéжнікуў сíніських нървáла*. Заазер'е.

**ПАТСÓБНІЦА** *ж.* Падсобніца, падсобны рабочы. *Стрóілі кірпíчны дом, я былá патсóбніцай*. Савінічы.

**ПАТСÓБНЫ** *прым.* Падсобнік, падсобны рабочы. *Гады́ тры я адзíн рабóтаў, а патóм дáлі патсóбнага*. Жохава.

**ПАТСÓХНУЦЬ** *зак.* 1. Падсохнуць. *Патсóхніць сéна трóху, у капёшкі складý*. Партызаны. 2. Высахнуць, атрафіравацца. *Рукá патсóхла, выскáкаець*. Запруддзе.

**ПАТСТРÁШЫЦЬ** *зак.* Падстрашыць, папалохаць. *Хуць пътстрáшу ягó*. Мянюцева.

**ПАТСТРÓІЦЬ** *зак.* Пабудаваць. [У] *Сянні бáню патстрóілі фíнскую і басéйн, у пя́тніцу мушчы́ны, жэ́ншчыны – у субóту*. Вялікі Азярэцк.

**ПАТСТРÓЙКА** *ж.* Будынак, пабудова. *Дадýць якýю патстрóйку разбірáць на дрóвы*. Вялікі Азярэцк.

**ПАТСТРÓНКІ** *толькі мн.* Частка збруі: рамяні (вяроўкі), якія злучаюць ворчык з хамутом пры запраганні каня ў плуг, барану; пастронкі. *Гужы́ ў хамýт з пáса* [не з вяроўкі, не з рэменя], *патстрóнкі – у клéшчы зыця́гвыліся, як пасы́ такéя*. Гарадзец.

**ПАТСТРЭ́ШША** *н.* Падстрэшак. *Патстрэ́шша пусцілі мнóга, кап хáту ні залівáла дажджóм*. Серкуці.

**ПАТСÝНУЦЬ** *зак.* Узвесці паклёп. *Патсýнулі майгó бáцьку, сказáлі, што кулáк*. Івоні.

**ПАТСУШЫ́ЦЬ** *зак.* Падсмажыць крыху. *Клёцкі с мукí мóжна бы́ла патсушы́ць нъ скъвърадзé*. Заазер'е.

**ПАТСЦЕРАГЧЫ́** *зак.* Падсцерагчы. *Патсцераглí мянé, забрáлі ўсё і пъпярэ́дзілі нічóга ні гъвары́ць*. Фасаўшчына.

**ПАТСЦІ́Л** *м.* Подсціл з галля, жэрдак, на які кладуць стог; адонак, стажар'е, стажарышча. *Клáлі патсцíл, лазý* [пад стог], *кап ні пръпáла сéна мнóга*. Леснікова.

**ПАТСЦІЛÁЦЬ** *незак.* Падсцілаць, засцілаць. *Рáншы у нас у бáніх ні былó* [падлогі], *салóмъй пътсьцілáлі*. Нямойта.

**ПАТСЦІ́ЛКА** *ж. эмац.-ацэн.* Палюбоўніца. *Ён меў у кáждуй дзярэ́ўні патсцíлку, а сам красíвый спіцыялíст!* Пожанькі.

**ПАТСЦЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Падсцяліць, падаслаць. *Кажýх патсцéлюць мълады́м, кап бъгáтыя былí* (звычай). Запруддзе.

**ПАТТÁРКВАЦЬ** *незак.* Уторкваць, падторкваць. *На Трóіцу ламáлі вéткі клёну, бярóзу, аір с карашкóм і пат столь паттáрквалі*. Карпавічы.

**ПАТÝГІ** *мн.* Патугі (пра роды). *Патýгі бярýць, як пачнéць ражáць*. Вялікі Азярэцк.

**ПАТÝЛЬ** *прысл.* Датуль, да таго часу. *Пакá яны́* [кааператары] *бýдуць, патýль і бýдзе плóха*. Нямойта.

**ПАТУРГУВА́ЦЬ** *зак.* Пагандляваць. *Да вайны́ патургува́ла зало́ўка.* Багданава.

**ПАТУ́ХНУЦЬ** *зак.* Патухнуць. *Ці патýх жар? – Ё йшчэ.* Гарадок.

**ПАТХВАЦІ́ЦЦА** *зак.* Падхапіцца, узняцца (пра з'явы прыроды). *Як бýра* [у час вяселля] *патхво́ціцца, то жы́жні ня бýдзіць* (павер'е). Ракаў Засценак.

**ПАТХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* Пачацца (пра хваробу). *Ліхара́тка патхваціла.* Карпавічы.

**ПАТХО́Д** *м.* Падыход; сукупнасць спосабаў, прыёмаў разгляду чаго-н., адносін да каго-, чаго-н. *Я к ім і с патхо́дам, і с патхо́дам.* Вялікі Азярэцк.

**ПАТХО́ДНЫ** *прым.* ○ ПАТХО́ДНЫЯ ДНІ. Апошнія дні перад Вялікаднем. *Патхо́дныя дні – э́та ўжо к Па́скі.* Буй.

**ПАТЦЁЛАК** *м.* 1. Цялушка. *Патцёлак – пака́ ня це́ліцца, а як це́ліцца – каро́ва.* Рассвет. 2. Пярэзімак, цяля-пярэзімак. *Патцёлак – як перазімýе цялёнак.* Нямойта.

**ПАТЦЁЛКА** *ж.* Цялушка трохгадовага ўзросту. *Патцёлкі – тры гады́. – Не, гэ́та ужэ́ каро́ва.* Багданава.

**ПАТЦІКАВА́ЦЬ** *зак.* Выгледзець, знайсці месца. *Ко́шка ме́сца сабе́ патцікýіць – апарасі́цца.* Каралевічы.

**ПАТЦЯ́ГАЦЬ** *незак.* ◊ ПАТЦЯ́ГАІЦЬ ЖЫ́ЛЫ. Хацець есці. *Патцяга́іць усе́ жы́лы.* Ракаў Засценак.

**ПАТЧА́ПЛІВАЦЬ** *незак.* Падчапляць. *Пайшо́ў патча́пліваць тра́ктар, ціскану́ла, і ўсё.* Запруддзе.

**ПАТЧАРАВА́ЦЬ** *зак.* Зачараваць. *Вот табе́ патчарýе, і каро́ва малака́ ні ма́е.* Нямойта.

**ПАТЧАРО́ВАК** *м.* Сала з падчарэўя (падбрушша). *Са́ла то́нкае каля брýха – патчаро́вак.* Багданава.

**ПАТЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* Дадаць што-н. у цеста. *Блі́ны на ноч учы́нім, бýльбіну здзяро́м, яшчэ́ патчы́нім.* Серкуці.

**ПАТЧЭ́ПЛІНЫ** *дзеепрым.* Падчэплены, падвешаны. *Падвісна́я лю́лька была́ патчэ́пліна на вяро́ўках.* Запруддзе.

**ПАТШАВЕ́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Пашавельваць. *Пашаве́льваю плух, арý.* Гарадзец.

**ПАТШАРАШЫ́ЦЬ** *зак.* Падчысціць, абабраць. *Патшарашы́ў усе́ чы́ста ў ха́ці паліца́й.* Нямойта.

**ПАТШПІ́ЛЬВАЦЦА** *незак.* Прышпільвацца, зашпільвацца. *Патпрýга с цесьмы́ пат ніс, пат кьня́, і патшпільваецца.* Гарадзец.

**ПАТШЧА́МЛІВАЦЬ** *незак.* Падціскаць, заціскаць. *Пътшча́мліваў ляшчы́ніну і струшко́м стругáў.* Багданава.

**ПАТШЫВА́ЦЬ** *незак.* Абшываць, падбіваць (столь). *Фане́рай абы́чна пъталкі патшыва́юць.* Нямойта.

**ПАТЫКА́НЫ** *дзеепрым.* Вытканы ніткамі markers рознага колеру. *Андаракі сукно́м патыка́ныя былі́.* Нямойта.

**ПАТЫКА́ЦЬ** *незак.* Ткаць ніткамі рознага колеру. *Ю́бкі шэ́рсцю патыка́лі.* Карпавічы.

**ПАТЫ́ЛІЦА** *ж.* Патыліца. *Атсю́ль начане́цца боль, у паты́ліцы, змер даўле́нне, ці павы́шанае.* Нямойта.

**ПАТЭ́ЛЬНЯ** *ж.* Бляха. *Патэ́льня – е́та така́я з жэ́сці, я́блыкі сушы́лі, жы́та ста́вілі, сушы́лі.* Каралі. *Зашы́іць ма́ма пърасёнка, нъ патэ́льню, кро́шъчку жы́ру паткі́нець – і ў печ.* Запруддзе, Буй, Гарадок, Заазер'е, Партызаны.

**ПАЎБІ́ЦЬ** *зак.* Пазабіваць, забіць (пра ўсіх, многіх). *Паўбі́лі гарнъста́юў бе́лых.* Багданава.

**ПАЎВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Паўвальвацца, уваліцца (пра ўсіх, многіх). *Ко́ні паўва-ліліся у по́грап.* Нямойта.

**ПАЎДЗЁН** *м.* 1. Поўдзень, сярэдзіна дня, абед. *Цяпе́рацька руса́лку пяюць у паўдзён.* Партызаны. 2. Абедзенны перапынак пры летнім выпасе кароў. *Каро́вы на паўдзён прышлі́.* Міцюкова. ПАЎДЗЁНАЧАК *ласк. За паўдзёначък дзе ж ён паб'е́ць тры́ццаць кос.* Закур'е.

**ПАЎДЗЁНКІ, ПУЎДЗЁНКІ** *толькі мн.* Абедзенны перапынак пры летнім выпасе кароў. *Хто ка́жыць паўдзёнкі, хто – паўра́нкі: тры часы́ стъя́ць каро́вы ў хле́ві.* Гарадзец. *На паўдзёнкі пъгна́лі каро́вы.* Чуцькі. *На пуўдзёнкі ганяюць каро́ў.* Міцюкова.

**ПАЎДРА́ЦЬ** *зак.* Паўцякаць, збегчы (пра ўсіх, многіх). *Маладзе́йшыя паўдра́лі, асталіся адны́ старыкі́.* Савінічы.

**ПАЎДЭ́СІКІ** *мн.* ◊ У ПАЎДЭ́СІКІ. Спосаб ткання ў чатыры ніты. *У паўдэ́сікі* [чатыры ніты] *ткалі, у во́сім ніто́ў, у пяць.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЎЕ́ЗДЗІЦЦА** *зак.* Утрамбавацца ад язды (пра ўсё, многае). *На даро́зі во́зюць зямлю, тру́сіцца, – гразь паўе́здзілась.* Запруддзе.

**ПАЎЕ́ХАЦЬ** *зак.* Павыязджаць, паехаць (пра ўсіх, многіх). *Дзе́ці паўе́халі, у дзяце́й свая́ сім'я, свая́ жы́зінь.* Марозаўка. *Паўе́халі дзе́ўкі у го́рат, а сын мяне́ не хо́чыць кіда́ць.* Леснікова.

**ПАЎЗВАХО́ЦІЦЦА** *зак.* Падахвоціцца, захацець. *Не́шта была́ паўзвахо́цілася будава́ць, але́ пато́м ні ста́ла.* Запруддзе.

**ПАЎЗДУ́МАЦЬ** *зак.* Уздумаць, успомніць. *Прыпе́ўкі ў яе́ ро́зныя, хваро́ба іх паўзду́мъіць.* Багданава.

**ПАЎЗКО́М** *прысл.* Паўзком. *Дык мы паўзко́м, паўзко́м ды ў кана́ву.* Фасаў-шчына. *І паўзко́м – у лес, бы́стра!* Вялікі Азярэцк, Галашчакіна, Міцюкова.

**ПАЎЗЦІ́** *незак.* Паўзці. *С куста́ паўзе́ць па траве́ воўк.* Фасаўшчына, Міцю-кова, Партызаны, Ульянавічы.

**ПАЎКАРЭ́ЦЬ** *зак.* Пакрыцца коркай. *Паўкарэ́лі но́гі, цы́пкі.* Вялікі Азярэцк.

**ПАЎКІ́ДЫВАЦЬ** *зак.* Павыкідваць. *Паўкі́дывалі людзе́й на ву́ліцу.* Неўгадава.

**ПАЎКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* Пазакручвацца, абматацца. *Маладзёш прыбра́ўшы хо́-дзіць, а шчэ гаро́хвінніім паўкру́ціцца* [на Шчадраца]. Каралевічы.

**ПАЎЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Улезці (пра ўсіх, многіх). *Паўле́зуць дзе́ці і пъпарву́ць.* Запруддзе.

**ПАЎЛЕ́ШЧЫК** *м.* Лешч. *Паўле́шчык – худы́, то́нкі, яго́ мо́жна прыляпі́ць к быстря́нцы.* Багданава. *Пло́ткі, паўле́шчыкі, яжгу́ры, укле́я лавіліся ў Бяро́заў-скім во́зеры.* Самсоны.

**ПАЎЛІ́ТАРА** *ж.* Паўлітроўка. *Ско́лькі паўлі́търуў узя́ў?* Сянно.

**ПАЎЛІ́ТРА** *м.* Палавіна літра. *Паўлі́тра малака́ каро́ва дае́ць дзіця́м.* Нямойта, Баравікі, Запруддзе, Каралі.

**ПАЎМЁРЦІ, ПУЎМЕ́РЦІ** *зак.* Памерці (пра ўсіх, многіх). *Паўмёрлі ўсе, ніко́га не застало́ся.* Гарадзец. *На дным гаду́ яны́ пуўме́рлі.* Багданава. *На дным гаду́ яны́ пуўміра́лі.* Запруддзе.

**ПАЎМУ́РЗАЦЦА** *зак.* Замурзацца, запэцкацца. *Паўму́рзаесся ў гаро́дзе.* Дольдзева.

**ПАЎРАДЗІ́ЦЬ, ПАЎРЭ́ДЗІЦЬ** *зак.* Пашкодзіць. *Радзія́цыя не паўрадзі́ць кала-ра́цкім жука́м.* Партызаны. *Е́слі не паўрэ́дзіць у гэ́тым гаду́, уръжа́й харо́шы бу́дзіць.* Серкуці.

**ПАЎРАЖДЗЁННЫ** *дзеепрым.* Хворы. *Жъна – сярдзэ́чніца, паўраждённае ў яе́ сэ́рца.* Жохава.

**ПАЎРА́НКІ** *толькі мн.* Абедзенны перапынак пры летнім выпасе кароў. *Ста́лі на паўра́нкі гъня́ць каро́ў, у шэсць выганя́юць.* Партызаны. *На паўра́нкі ў То́рбінцы і цяпе́р выганя́юць.* Кішуроўшчына, Багданава, Гарадзец.

**ПАЎСВЕ́ТА** *прысл.* Шмат людзей. *Паўсве́та жыве́ць тут і не бале́іць.* Нямойта.

**ПАЎСУ́НУЦЬ** *зак.* Пазасоўваць, усунуць (пра ўсё, многае). *У печ усё паўсу́нула і пабе́гла.* Латыгаль.

**ПАЎТАРА́, ПУЎТАРА́, ПУЎТУРА́** *ліч.* Паўтара. *Пъўтара́ ме́сіца атлёжыла.* Багданава, Самсоны. *Пуўтъра́ відра́ грыбо́ў ле́зіць у чугу́н.* Сяргейкі. *Пуўтура́ ме́сіца ня бы́ў* [у школе], *а пашо́ў – і до́бра ву́чыцца.* Нямойта.

**ПАЎТО́РКАЦЬ** *зак.* Пасадзіць, уторкнуць. *Я дзе-ніб́удзь паўто́ркала буракі́, капу́сты тро́шку.* Запруддзе.

**ПАЎЦАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Уцалець (пра ўсіх, многіх). *Ду́жа ста́лі бамбіць, якія ха́ты і паўцале́лі.* Нямойта.

**ПАЎЧЫ́ЦЬ** *зак.* Павучыць. *Я п сваі́х паўчы́ў, як по́ліўку вары́ць.* Партызаны.

**ПАЎШУ́БАК, ПУЎШУ́БАК** *м.* Паўшубак. *Ста́ла мо́да паўшу́пкі шыць.* Неўгадава. *Яму́ по́чкі бале́лі, дык яна́ яго́ пуўшу́бкам накры́ла.* Каралі, Сукрэмна.

**ПАФЫ́РКАЦЬ** *зак. перан.* Выказаць нязгоду, паўпарціцца. *Пафы́ркаў, як конь, і сеў на тым жа ме́сцы.* Жохава.

**ПАХ** *м.* Пах, водар. *Варэ́ння чарні́чнае, ніякъга па́ху ні́ма́.* Кішуроўшчына. *Вясна́ – таму́ і пах такі́.* Запруддзе, Фасаўшчына.

**ПА́ХА** *ж.* Паха. *Во пад па́ху хату́ль прэць.* Міцюкова. *Дъ пах у вадзе́ бу́дзіш.* Запруддзе.

**ПАХАВА́ЦЦА** *зак.* Пахавацца, схавацца (пра ўсіх, многіх). *Мы ў лясы́ пахава́лісі, а не́мцы зъня́лі ха́ты.* Неўгадава.

**ПАХАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Пахадзіць. *Я пахадзіла па двару́.* Гарадзец.

**ПАХАДЗЯ́ЧЫ** *прым.* Адпаведны захворванню. *Таке́я пъхъдзя́чыя табле́ткі, гулубе́нькія ад не́рваў.* Жохава.

**ПАХАДЗЯ́ШЧА** *прысл.* Добра. *Адзі́н пъхадзя́шча йграў на гармо́нь по́льку, ба́рыню.* Пожанькі.

**ПАХАПА́ЦЬ** *зак.* Пахапаць, схапіць (пра ўсіх, многіх). *Я́ічкі паъхаъпа́юць варо́ны.* Самсоны. *Чо́ран во́ран пъхапа́ець мушчы́н, яны́ ш і ні паваро́чваліся.* Станюкі.

**ПАХАРАНІ́ЦЬ** *зак.* Пахаваць. *Баі́ сціхлі, супако́ілася, мы іх і пахарані́лі.* Леснікова.

**ПАХАРО́Н, ПАХАРО́НЬ, ПО́ХАРАН** *м.*, **ПАХАРО́НЫ** *мн.* 1. Пахаванне, хаўтуры. *Яна́ мне нъ пъхаро́н ні дала́ ніско́лькі.* Кішуроўшчына. *Была́ на пахаро́ні ў старавéраў.* Закур'е. *Ён прые́хаў на пахаро́нь.* Багданава. *По́харан быў бальшы́.* Баравікі. *А ў мяне́ за пяць ме́сяцаў – тры пахаро́ны.* Багданава. *Прые́хаў зяць мой на машы́ні і забра́ў усі́х с пахаро́н.* Партызаны. 2. Могілкі. *Няме́цкая гъра́ – там быў няме́цкі пъхаро́н.* Вялікі Азярэцк.

**ПАХАРО́НІТЫ** *дзеепрым.* Пахаваны. *Ма́тка тут пахаро́ніта.* Заазер'е.

**ПА́ХАТА** *ж.* Ворыва. *Па́хаты ма́ла было́, а лугo̯ў – мно́га.* Буй. *Я па́хаты не пашу́, вы мне да́йце сенако́су, лу́гу.* Савінічы, Серкуці, Турава.

**ПАХА́ТНІЦА** *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць без справы па хатах; пахатуха. *Па ха́тах хо́дзіць – паха́тніца.* Багданава.

**ПАХА́ЦЦА** *незак.* Арацца. *Зімля́ сама́ ні бу́дзіць пъха́цца.* Фасаўшчына.

**ПАХА́ЦЬ** *незак.* 1. Араць. *Мы і пъха́лі с плу́гам, і касілі – рабо́талі.* Нямойта. *Зямлю́ падзялілі і пачалі паха́ць.* Алексінічы, Гарадзец, Запруддзе, Леснікова, Ракаў Засценак, Рассвет, Ульянавічы, Фасаўшчына, Неўгадава. 2. Баранаваць. *Плу́гам – ару́ць, барано́й – па́шуць.* Гарадок.

**ПАХВАЛІ́ЦЬ** *зак.* Пахваліць. *Ні магу́ сама́ сябе́ пахваліць.* Марозаўка.

**ПАХВАСТА́ЦЬ** *зак.* Пабіць, пасцябаць (венікам у лазні). *Дава́й ве́нік, я цябе́ пахвашчу́.* Нямойта.

**ПАХВАТА́ЦЬ** *зак.* Пахватаць, схапіць (пра ўсё, многае). *У ваду́ накіда́юць хле́ба, съба́ка пахвата́іць той хлеп, і тады́ ту́ю ваду́ п'юць* [ад спуду]. Запруддзе.

**ПАХВАЦІ́ЦЦА** *зак.* Спахапіцца. *Сра́зу пъхваці́ўся, што ўкра́лі сы́на.* Пожанькі.

**ПАХВІ́НА** *ж.* Пахвіна. *Каро́ва нагу́ падняла́ і ста́ла сябе́ ліза́ць у пахвіне.* Савінічы.

**ПАХІНУ́ЦЦА** *зак.* 1. Нахіліцца. *Ско́лькі лет стаіць пу́ня, а каб куды́ пахіну́лъся.* Баравікі. 2. Пахіснуцца. *Ста́ла бла́га ў галаве́, яна́ пахіну́лася – і ў ва́ду.* Каралевічы. 3. *перан.* Пацягнуцца, адчуць прыхільнасць. *Будзь до́бры з людзьмі́, дак і лю́дзі к табе́ пахіну́цца.* Дуброўкі.

**ПА́ХМУРНЫ** *прым.* Пахмурны, непагодлівы. *Па́хмурнъя паго́да.* Фасаўшчына.

**ПА́ХНУЦЬ** *незак.* Пахнуць. *А кве́ткі паху́чыя, па́хнуць!* Жохава. *Хлеп па́хніць прас ко́мін, сма́шны які!* Заазер'е, Запруддзе, Каралі, Міцюкова, Нямойта, Неўгадава.

**ПАХО́М** *м.* Пахом; веснавы прысвятак у народна-царкоўным календары. *На Пахо́ма гуркі са́дзюць: як Пахо́м – бу́дзім гуркі насіць мяхо́м.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе. *На Пахо́м се́ялі, як заро́дзіць харо́шы цвет, дык і гуркі бу́дуць.* Мянюцева, Манголія, Партызаны, Цясішча, Чуцькі.

**ПАХУДА́ЎШЫ** *дзеепрым.* Схуднелы. *Вы таке́я пахуда́ўшыя.* Вялікі Азярэцк.

**ПАХУДА́ЦЬ** *зак.* Схуднець. *Я віжу, вы пахуда́лі.* Багданава. *Цяпе́р пахуда́ла, а была́ по́ўная.* Цясішча, Ульянавічы.

**ПАХУ́ЖАЦЬ, ПАХУЖЖЭ́ЦЬ** *зак.* Пагоршаць (пра стан здароўя). *Мне сра́зу паху́жала.* Нямойта. *Цяпе́р мне паху́жала.* Багданава, Чуцькі. *Не́шта пахужэ́ла ў яе́.* Буй, Вялікі Азярэцк.

**ПАХУ́ХАЦЬ** *зак.* Пахукаць. *Паху́хаіць кура́шкі, і загары́цца.* Кішуроўшчына. *Як загаво́рыш віх, по́тым паху́хуеш і плю́неш.* Запруддзе.

**ПАХУ́ЧЫ** *прым.* Пахучы, водарны. *Чабо́р, зверабо́й, мя́та – паху́чыя.* Міцюкова. *Рама́шка – паху́чая, бе́лінькім цвіціць.* Буй, Жохава.

**ПАХЫ́ЛКАЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* З'есці ўсё. *Саба́ка пахы́лкала ўсё, да́жа рабіну.* Запруддзе.

**ПАЦАЛУ́І** *мн.* Гульня. *Былі гуля́лі, у фа́нты гуля́лі, у пацалу́і і тады́.* Заазер'е.

**ПАЦАНЬЁ** *н. зб.* Хлопцы. *Пацаньё на Купа́лу мо́жа падпе́рці, варо́ты знёсці.* Апечкі.

**ПАЦАРА́ПАНЫ** *дзеепрым.* Падрапаны, абдзёрты. *Ко́жа ста́ла пацара́пана.* Каралевічы.

**ПА́ЦЕПНІК** *м. зб.* Тонкія дровы, палкі. *Яке́я гэ́та дро́вы, па́цепнік, як лъза́!* Гарадок.

**ПАЦЕ́РАНЫ** *дзеепрым.* ◊ ПАЦЕ́РАНЫ УМУ́. Пра псіхічна хворага. *Два гады́, дык е́та іменна паце́раная уму́ была́.* Івоні.

**ПАЦЕРУШЫ́ЦЬ** *зак.* Пайсці (пра дробны снег). *Пацерушы́ць снег тро́шку, атле́га – згоніць.* Партызаны.

**ПАЦЕ́РЦІ** *зак.* 1. Пашкодзіць. *Раз было́ пакале́чыла ў ша́хці: і рэ́бры пацёр-ла, і ўсё пацёрла.* Леснікова. *Каро́ва нагу́ пацёрла.* Каралевічы, Дольдзева, Ракаў Засценак, Серкуці. 2. *перан.* Змарнаваць. *То́лькі урэ́мя патру́ і не зраблю́ ніч́ога.* Нямойта.

**ПАЦЕ́РЦІСЯ** *зак.* Ператварыцца ў пацяруху. *Пацёрлася се́на на патру́ху.* Фасаўшчына.

**ПАЦЕ́ХА** *ж.* Пацеха. *Паце́ха, а не казлёнак: усё за мной хо́дзіць.* Запруддзе. *Дык паце́ха яму́, дзіцёнъчку.* Івоні.

**ПАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Пакрывацца потам. *Ай, мі́лачка, у цябе́ ко́жа рэ́дкая – паце́еш.* Ульянавічы.

**ПАЦЕ́ШНА** *прысл.* Пацешна. □ *Дзе це́сна, там паце́шна.* Каралевічы.

**ПАЦЕ́ШЫЦЬ** *зак.* Палячыць. *Табле́тък мно́га піць – галаву́ паце́шыш, а се́рца паса́дзіш.* Заазер'е.

**ПАЦЁМНА** *прысл.* Цёмна. *Пацёмна было́, але́ ніхто́ мне ні зда́ўся.* Нямойта.

**ПАЦЁРТЫ** *дзеепрым.* Пашкоджаны. *Ніч́ога, што ру́кі пацёртыя, харашо́, што жывы́ заста́ўся.* Запруддзе.

**ПАЦІРА́ЦЬ** *зак.* Згубіць. *Падру́гу паціра́ў ле́бедзь.* Буй. *Як што паціра́іш, скажы́: «Чорт, чорт, аддай маё, вазьмі сваё»* (павер'е). Ракаў Засценак, Каралевічы.

**ПАЦІ́ХНУЦЬ** *зак.* Суняцца (пра боль). *Табле́тку вып'ю, то паціха́іць тро́ху.* Кішуроўшчына. *Паці́хла рука́ саўсе́м.* Баравікі.

**ПАЦІ́ХУ** *прысл.* Паціху, павольна, не спяшаючыся. *Паці́ху ша́гам ідзе́ць.* Нямойта. ПАЦІ́ХАНЬКУ *ласк.* *Паці́ханьку хаджу́ с кі́йко́м.* Савінічы.

**ПАЦІШЭ́ЦЬ** *зак.* 1. Суняцца (пра боль). *Паціше́ла не́як, бо́лі ні такія.* Нямойта. 2. Сціхнуць, аслабець (пра з'явы прыроды). *Паціше́іць, со́нца прыгрэ́іць – і цяпле́й.* Рассвет, Багданава. 3. Уціхамірыцца. *Зъбра́лі ў цюрму́, апстры́глі, пъціше́ла ба́ба.* Заазер'е.

**ПАЦЦЯ́ГАВАЦЬ** *незак.* Звужаць стог. *Тро́ху трэ́ба пъцця́гъвъць, звужа́ць кругóм пла́сты.* Леснікова.

**ПАЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* Пацягнуць. *Ягó руса́лкі як пацягну́лі!* Багданава.

**ПАЦЯЧЫ́** *зак.* Пайсці (пра дождж). *Цяпе́р пячэ́ць, а с абе́да пацячэ́ць* [пра дождж]. Станюкі.

**ПА́ЧАК, ПАЧО́К** *м.* Пачак. *Па́чак со́лі на чыгу́н грыбо́ў сы́плю.* Сяргейкі. *Соль у па́чку.* Вялікі Азярэцк. *Два па́чкі ці тры па́чкі пърашку́.* Дольдзева. *Му́кі даю́ць пачо́к.* Запруддзе. ПАЧО́ЧАК, ПАЧО́ЧЭК *памянш.* *Накупля́ла супо́ў у пачо́чках.* Нямойта. *Пачо́чэк ма́сла прыне́сла.* Нямойта.

**ПАЧО́ПКА** *ж.* Почапка, вяровачка, раменьчык і пад., за якія чапляюць, падвешваюць што-н. *Пъчо́пка – вяро́ўка така́я, саўю́ць – і праз плячо́.* Багданава, Дольдзева. *Сіва́лка – э́та у нас што се́ялі дабро́, яна́ дзе́лалася з дрэ́ва, пачо́пкай прывя́звалася.* Серкуці.

**ПАЧЫ́НАК** *м.* Пража, наматаная на верацяно або знятая з верацяна; пачынак. *Калі́ вірцяно́ с пра́жаю, то пачы́нак.* Рэчкі. *Стара́ісся, каб бо́льшы пачы́нак быў, бальшо́я віраця́но́.* Партызаны.

**ПАЧЫ́НАК** *м.* Рамонт. *Іна́, згаро́да, гадо́ў дзе́сяць стаі́ць біз пачы́нку.* Запруддзе.

**ПАЧЫНА́ЦЦА** *незак.* Пачынацца, арганізоўвацца. *Калхо́зы як ста́лі пачына́цца, мой хъзя́ін пе́ршы запіса́ўся.* Заазер'е.

**ПАЧЫНЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Рамантаваць. *Мо́жа што пачыня́ць бу́дуць у клу́бі.* Баравікі. *Пашо́ў пачыня́ць свет і пагі́б у сваі́м хле́ві.* Леснікова, Мянюцева. 2. За-

шываць, лапіць. *Пачыняла мяшкі, пакуль іголку дзяржала.* Нямойта. *Шорнік – ета што хамуты пачынялі, сядзёлкі ладзілі.* Леснікова, Манголія.

**ПАЧЫНЯЦЬ** *незак.* Начыняць, фаршыраваць. *Бярэш кроў, зварыш рысу, сечкі, паджарыш, пірамішаіш і ў тоўстыя кішкі пачыняіш – і каўбаскі крываўыя.* Багданава.

**ПАЧЫСЦІЦЬ** *зак.* Пастругаць, пагабляваць. *Я усё адзін пачысціў і пъсталіў.* Жохава.

**ПАЧЭПАНЫ** *дзеепрым.* Прычэплены. *Звон пачэпаны быў, на бед званілі.* Нямойта.

**ПАША** *ж.* Паша, выпас. *На пашу кароў ганяім. У прошлым гаду пашу плахую далі, а ў гэтым – харошую.* Нямойта. *Скот пасуць нъ пашы. Выгада ў нас: паша харошая.* Фасаўшчына, Гарадок, Партызаны.

**ПАШАВАЛІЦЦА** *зак.* Пашавяліцца, парухацца. *Пайшоў, пашаваліўся трохy на двары і прышоў.* Міцюкова.

**ПАШАЛЕЦЬ** *зак. экспр.* Празмерна захапіцца чым-н. (пра ўсіх, многіх). *Некъторыя ўжо пъшалелі з грашэй.* Цясішча.

**ПАШАНЦАВАЦЬ** *зак.* Пашанцаваць. *Пашанцавала яму са здароўім: лёхка пражыў, то і цяпера ні балеіць.* Сянно.

**ПАШАПЦІЦЬ** *зак.* Пашаптаць, сказаць замову. *Дзяцей во так пашэпціць, ні ў бальніцу іх ні вазіла, у добры час сказаць, ні хварэлі дужа.* Заазер'е.

**ПАШАРАШЫЦЬ** *зак.* Абчысціць. *Паліцай усё чыста пашарашыў, дажа двое штаноў мальчыкаў.* Нямойта.

**ПАШАТАЦЬ** *зак.* Патузаць, паварушыць. *Пашчупалі, пашаталі яго – жывы.* Запруддзе.

**ПАШТАВІТКА** *ж.* Паштальён (пра жанчыну). *Паштавітка, вінна, ідзець.* Багданава.

**ПАШТАРКА** *ж.* Тое ж. *Іна пъштаркай хадзіла.* Міцюкова.

**ПАШУРУВАЦЬ** *зак.* Пацерці. *Авёс бяруць і могуць пашурувацъ морду: нічога ні дала* [на хрэсьбінах], *ты, баба, грязная!* Савінічы.

**ПАШУЦІЦЬ** *зак.* Пажартаваць. *Пашуціць люблю, пусмяяцца.* Каралевічы.

**ПАШЦІ** *прысл.* Амаль. *Яны пашці што ўсё умеюць рабіць.* Жохава. *Адзінаццаць гадоў як памёр, пашці не балеў.* Багданава, Запруддзе.

**ПАШЧАПАНЫ** *дзеепрым.* Патрэсканы, у трэшчынах. *Уся зімля пъшчъпанъя ад жары.* Кішуроўшчына.

**ПАШЧЫПАЦЦА** *зак.* Патрэскацца (пра скуру). *Пашчыпаліся ногі – цыпкі – тады лячыліся.* Гарадзец.

**ПАШЧЫПАЦЬ** *зак.* Пазрываць. *Ну хай пашчыпліць ягаткі, гэта барбарыт.* Заазер'е. *Сліў пашчыпалі, паелі.* Кляпчэва.

**ПАШЫЦЬ** *зак.* Пашыць. *Мамка пашыіць рубашку.* Галашчакіна.

**ПАЯДАЦЬ, ПАІДАЦЬ** *незак.* Есці многа. *Мяса мы пъядалі многа.* Заазер'е. *Жмыху скот пъідаў.* Кляпчэва, Неўгадава.

**ПАЯРКА** *ж.* Авечка першага году. *Пъяркі – іх первы рас стрыгуць, гэта воўна аддзельна, іна мягчэйшая.* Фасаўшчына, Заазер'е, Савінічы.

**ПАЯСНІЦЬ** *зак.* Даць канчатковы адказ. *Заўтрі прыдзім, тады і пъяснім.* Гарадок.

**ПЕВЕНЬ** *м.* Певень. *Співаіць певень у чатыры, у пяць* [гадзін]. Буй, Розмыслава.

**ПЕГАШ** *м.* Рабы, пярэсты (пра каня). *Пегій конь, пегаш – гэта рабы конь.* Сянно.

**ПЕ́ГІЙ** *прым.* Тое ж. *Пе́гій конь – гэ́та шэ́ра-рабы́, гне́да-рабы́, рысакі ку́рскія быва́юць пе́гія.* Сянно.

**ПЕ́КЛА** *н.* Пекла. *У пе́кла пъпада́юць то́пленнікі, вісельнікі, а като́ры сваёй сме́рцю памрэ́ць – э́та пъпада́іць у рай* (павер'е). Запруддзе.

**ПЕ́ЛЕСЦЕНЬ, ПЕ́ЛЮСЕНЬ** *м.* 1. Адтуліна для рукі ў начоўках. *Дрэ́ва выбіва́юць цяслю́ю, выдзя́ўбыюць начо́въчкі, а збо́ку – для рукі пе́лесцень.* Запруддзе. 2. Закраіны, выступы ў начоўках. *На адзін пе́люсень сыпеш по́пел, туды́-сюды́* [як *крыксуны́*, як варожаць]. Запруддзе.

**ПЕЛЁРЫНАЧКА, ПУЛЕРЫ́НАЧКА** *ж. памянш.* Занавеска, фіранка. *За пелёрыначкай – атхіні яе́ – цітра́дзь ляжы́ць. Атхіна́й пулеры́начку, на шка́пе ляжы́ць, шчу́пай з гэ́тага бо́ку.* Міцюкова.

**ПЕ́ЛІХ** *м.* Перхаць. *Пе́ліх такі бе́ленькі ў гълаве́.* Багданава.

**ПЕ́НА** *ж.* ◊ ПАД ПЕ́НАЙ. Перагрэты конь. *Гнаў къня́ – конь път пе́най стаў!* Сянно. *Шы́бка е́хаць нільзя́: конь пад пе́най.* Дольдзева, Багданава, Гарадзец.

**ПЕ́НА** *ж.* Пенка. *Пе́на жо́ўцінькая на малацэ́, як скіпяціш.* Леснікова.

**ПЕНДІЦЫ́Т** *м.* Апендыцыт. *Пендіцы́т – перавaро́т кішо́к тады́ зва́лі.* Багданава.

**ПЕ́НІЦЦА** *незак.* Пеніцца. *У рэ́чкі въда́ пе́ніцца, дзе ко́рчык ці ка́мень.* Сянно.

**ПЕ́НКА** *ж.* Пенка. *Так і вы́ступіць пе́нка на малацэ́, як у печ паста́віш.* Гарадзец. *Пе́нка з мълака́ сма́шная.* Жохава, Ракаў Засценак.

**ПЕ́НСІЯ** *ж.* Пенсія. *Во цяпе́р гаво́руць, гаво́руць пра пе́нсію, а калі э́та бу́дзіць, калі даду́ць?* Леснікова. *Ма́тка на пе́нсії з-за дзяце́й.* Розмыслава.

**ПЕНЬ** *м.* Пень. *Вару́шкі къла пней расту́ць.* Партызаны. ПЯНЁК, ПНЮШО́К, ПІНЮШО́К *памянш.* 1. Рэшткі камля ссечанага дрэва. *На пянёк пало́жыш і тъпаро́м атруба́іш.* Партызаны. *Апе́нкі на пню́шках расту́ць, у нас яны́ ду́жа ро́дзюць.* Сукрэмна. *Канёк узбі́уся нъ пінюшо́к, і кане́ц – кішкі пъцяклі.* Самсоны, Буй, Пожанькі. 2. *мн.* Адросткі пер'яў пасля лінькі. *Пянькі – като́рая як яшчэ́ не выля́навала ку́рыца, як заб'е́ш, тырча́ць.* Багданава. ПЕНЮШКІ́, ПІНЮШКІ́ *памянш. Пенюшкі ў ку́рыцы. Я люблю́ яго́* [гусяня] *сдзе́лаць, штоб нігдзе́ пінюшко́ў ні было́, а е́сці ні магу́.* Самсоны. ◊ ЗА ПНЁМ ГАЛАВА́, ЗА КАЛО́ДАЙ НО́ГІ. Пра гультая. Партызаны.

□ *Вялік пень, ды ду́рань, мал зло́ты, ды дарагі.* Багданава.

**ПЕРАА́РЫВАЦЦА** *незак.* Пераворвацца. *На зіму́ по́ля перaа́рывъіцца.* Запруддзе.

**ПЕРАБАРТА́НЫ** *дзеепрым.* Перавязаны, звязаны. *Про́валкай лес перабарта́ны.* Вялікі Азярэцк.

**ПЕРАБАРТА́ЦЬ** *зак.* Перавязаць, звязаць. *Лаго́жы – е́та на са́нкі здзе́ланы, вяро́ўкай іх перабарта́юць.* Сукрэмна.

**ПЕРАБІВА́ЦЦА** *незак.* Жыць у нястачы. *Так жывём, тро́ху перабіва́емся.* Марозаўка.

**ПЕРАБІВА́ЦЬ** *незак.* Перапыняць, перарываць гаворку. *Не перабіва́й мяне́, я не маню́, пра́ўду гавару́.* Фасаўшчына.

**ПЕРАБІРА́ЦЬ** *незак.* 1. Чысціць (кішкі). *Перабіра́юць кішкі, перамыва́юць, перавéрнуць, чы́сцяць.* Гарадзец, Фасаўшчына. 2. Адчуваць хваравітае пачуццё ламоты. *Ло́міць но́гі, як ля́гу, то чу́ствую, што перабіра́іць.* Самсоны.

**ПЕРАБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Перакляпаць касу. *Перабі́ў клёп зноў і пашо́ў касіць.* Леснікова. 2. Перанесці эпілепсічны прыпадак. *Ідзе́ць, пава́ліцца, кідаецца, пераб'е́ць –*

*і атóйдзець, устáнець, як глýпы.* Гарадзец. 3. Перашкодзіць ажыццявіць, здзейсніць што-н. *Я ей перабіла пуць.* Жохава.

**ПЕРАБÓЙНЫ** *прым.* Час, у які трэба перабіцца, вытрываць. *Перабóйны дзень ямý, перабіваíцца: нічó вы́піць німá.* Жохава.

**ПЕРАБÓРКА, ПІРАБÓРКА** *ж.* 1. Перагародка. *Перабóрку прынялі, а штóрку здзéлалі – зацягаем.* Латыгаль. *Пірабóрку вынасілі, як сы́на жанілі.* Запруддзе, Жохава. 2. Сцяна, якая не дасягае столі, для адгароджвання часткі гаспадарчага памяшкання. *Пірабóрка – ні да пъталкá.* Заазер'е.

**ПЕРАБÓРЛІВЫ** *прым.* Пераборлівы. *Ён дýжа перабóрлівы ў ядзé, гладамы́ра такí.* Міцюкова.

**ПЕРАБРÁЦЬ, ПІРАБРÁЦЬ** *зак.* 1. Перабраць, рассартаваць. *Пірьбярóм грыбы́, намóчым, пакýль іх вары́ць.* Сяргейкі, Серкуці. 2. Паднавіць. *Згарóду нáда перабрáць.* Леснікова.

**ПЕРАБЫ́ЦЬ** *зак.* Пабыць, пажыць (пра ўсіх, многіх). *Перабулó іх мнóга тут у нас* [старшынь калгаса]. Парэчча. *Лéтам перабылí дзéці – зімóй дóўга не пішуць.* Багданава, Нямойта.

**ПЕРАВАДУВÁЦЬ** *незак.* Разносіць ветрам. *Пясóк перавадуваíць па гарóду.* Партызаны.

**ПЕРАВАЗÍЦЦА** *незак.* Пераязджаць, перасяляцца. *Дык яны́ сюды́ перавазíлісь.* Алексінічы.

**ПЕРАВАРВЭ́ЧЫЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Перавярнуць, прывесці ў беспарадак. *Переварвэ́чуць* [дзеці] *усё на пéчы: і «мъгазíн» зрóбяць, і «бібліятэ́кі».* Нямойта.

**ПЕРАВАСПІТÁЦЬ** *зак.* Перавыхаваць. *Перъвъсьпітáла мужукá: ня п'ець.* Чуцькі.

**ПЕРАВÉРЧВАЦЬ** *незак.* Пераварочваць. *Лъпáту перавéрчвалі тым бóкам, дзе хлеб брáлі.* Нямойта.

**ПЕРАВÉТРАЦЬ** *зак.* Перавеяць паўторна. *Каб пасéйкі аттáнулі, вéтраюць, перавéтраюць, і астаéцца зярнó чы́стае.* Міцюкова.

**ПЕРАВÉШВАЦЬ** *незак.* Завешваць чым-н. *Па печ атбівáюць, а тут перавéшваюць.* Марозаўка.

**ПЕРАВÉЯЦЬ** *зак.* Перавеяць. *Перасýшыш у ёўні сéна, перавéеш.* Ульянавічы.

**ПЕРАВÓДЗІНА, ПІРАВÓДЗІНА** *ж.* Перакладзіна, папярэчны брус, жэрдка і пад., якой змацоўваюць кроквы. *Казёл стáвіцца, лóжыцца перавóдзіна на ягó, на гэ́ту перавóдзіну – крýчча, і тады́ крóюць.* Вялікі Азярэцк. *На бáлку стáвілі казлы́, і піравóдзіна навéрх лóжыцца, крýчча чапáць.* Фасаўшчына.

**ПЕРАВЯЗÁЦЬ** *зак.* Перавіць, перавязаць. *Лазóй прывя́жуць трóху, во перавя́жуць, перавя́жуць згарóду.* Запруддзе.

**ПЕРАВЯ́ЗВАЦЬ** *незак.* Перавязваць, абвязваць. *Нітку, што назáт ішлá ат красён, рукý перавя́звалі, калі балéла.* Багданава.

**ПЕРАВЯРНУ́ЦЬ, ПІРАВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Паставіць іншым бокам да чаго-, каго-н. *Садзíцеся, я пірьвярнýла скамéечку.* Кляпчэва. 2. Змяніць. *Ну, перавéрнуць власць, а íкáя інá бýдзіць?* Рэчкі. 3. Вывернуць іншым бокам (пра адзенне). *Рубáшка навы́варат, перавярні.* Гарадзец.

**ПЕРАВЯРШЫ́ЦЬ** *зак.* Вырасці вышэйшым за іншых. *Усíх перавяршы́ў сын: рост – сто дзевянóста вóсем.* Карпавічы.

**ПЕРАГАВÓРШЧЫК** *м.* Перакладчык. *Ажны́ ідзéць нéмец і перагавóршчык.* Нямойта.

**ПЕРАГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Перасаджваць на іншае месца (пчол). *Пераганяюць рой: перанóсюць рáмкі, пастáвяць у другéй дóмік рáмку з мáткай – сáмі пераляцяць.* Запруддзе.

**ПЕРАГЛЫ́БАЦЬ** *зак. экспр.* Перайсці з цяжкасцю. *Цераз вýліцу пераглы́баю.* Чуцькі.

**ПЕРАГРЫ́ЗЦІ** *зак.* Перагрызці. *Бабры́ такóе дрэ́ва тóўстае зубáмі перагрызýць.* Вялікі Азярэцк.

**ПЕРАГРЭ́ЦЦА** *зак.* Перагрэцца. *Тады́ перагрэ́ўся: цімпіратýра былá ажнó сóрак.* Багданава.

**ПЕРАГУЛЯ́ЦЬ** *зак.* Станцаваць. *Пакýль пáры пóльку перагуляюць – мóкры* [гарманіст]. Марозаўка.

**ПЕ́РАД** *м.* Пярэдняя частка чаго-н. *Прáсніцу – на плéчы, а прáлку перат пéрадам нясýць.* Дольдзева.

**ПЕ́РАД, ПЕ́РАТ, ПІ́РАТ, ПРАТ** *прыназ.* Перад. *Перад Пáскай Вéрбніца, хадзілі ў цэ́ркву, вéрбу свяцілі.* Багданава. *Перад смéрцю раздалá усё ўсім.* Міцюкова, Багданава. *Перат ім, перат ім Сóнечка, / Як агóнь, цвіцíць* (з песні). Багданава, Дольдзева. *На дзéрава варóны сядуць, апкры́юць, кáркаюць, асóба пірат дóжджам.* Вялікі Азярэцк. *Я балéла прат пéнсіяй.* Рэчкі.

**ПЕРАДА́ЦЬ** *зак.* Навучыць чарадзейству. *Чараўніца перадáсць камý сваé чáры перад смéрцю – лягчэ́й памірáць ёй.* Міцюкова.

**ПЕРАДА́ЧА** *ж.* Пра перадачу ў спадчыну. *Чараўніцтва ідзéць па пакалéнню с перадáчай.* Партызаны.

**ПЕРАДЗЕ́ЛАЦЬ** *зак.* Зрабіць (пра ўсё, многае). *Што перад вáмі ёсетка, усё перадзéлаў сваімі рукáмі.* Ульянавічы.

**ПЕРАДЗЕ́РЖЫЦЬ** *зак.* Пераджыць. *Гóра перадзéржыла мнóга.* Заазер'е.

**ПЕРАДЗЕ́ЦЦА** *зак.* Пераапрануцца. *Я кажý: «Перадзéнься!», ён перадзéўся.* Галашчакіна.

**ПЕРАДЗІВА́ЦЦА** *незак.* Пераапранацца. *Ідзí у шкóле вазьмí халáт, перадзівáйся.* Міцюкова.

**ПЕРАДО́ЎКА** *ж.* Вяроўка, якой спераду ўціскаюць на возе сена, салому і пад. *Вос сéна увязвалі, навéрх жэрць, а перадóўка – як жэ́рдзіну ўвязвалі напéрадзе.* Гарадзец.

**ПЕРАДРА́ЦЬ** *зак.* Перайсці вуліцу ўпоперак. *Як карóў бýдуць гнаць на паўрáнкі, катóм трэ́ба вýліцу за перадзя пірадрáць* (звычай) [так робяць на Купалле]. Партызаны.

**ПЕРАДУВА́ЦЬ** *незак.* Пераносіцца ветрам. *Пішчáны агарóд, пясóк перадувáець па гарóду.* Партызаны.

**ПЕРАДЫХНУ́ЦЦА** *зак.* Перавесці дыханне, адпачыць (пры спевах). *Я мінýткай перадыхнýся, а яны́ дáжэ падхвацíць ні знáюць.* Каралевічы.

**ПЕРАЕ́СЦЬ, ПІРАЕ́СЦЬ** *зак.* 1. З'есці шмат чаго-н. *Піраéў рабёнък – панóс.* Заазер'е. 2. Перагрызці. *Ямý* [клапу] *дáйця мяшóк, ён пераéсць!* Багданава.

**ПЕРАЕ́ХАЦЬ, ПІРАЕ́ХАЦЬ** *зак.* 1. Праехаць па чым-н. *Піраéхаў конь, піраéхаў церас святóя зярнó.* Карпавічы. 2. Перасяліцца, перабрацца. *Туды́ пераéхала і хáту прадалá сваю.* Заазер'е.

**ПЕРАЖЫВА́ННЕ, ПІРАЖЫВА́ННЕ** *н.* Перажыванне, хваляванне. *Што я знáю, éткае перажывáнне, усё забы́ласё.* Дольдзева. *Тóжа піражывáнне былó: унýк служы́ў у Фганістáні.* Савінічы.

**ПЕРАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Перажыць, перанесці. *Ні ха́ханькі было́ – плен перажы́ць.* Ульянавічы. *На́да перажы́ць усякае го́ра.* Розмыслава, Запруддзе, Каралевічы, Партызаны, Рэчкі.

**ПЕРАЗВАНІ́ЦЦА** *зак.* Сазваніцца. *Калі́ яны́ па целефо́ну перазво́няцца?* Баравікі.

**ПЕРАЗО́ЎКІ, ПЕРАГО́ЎКІ** *толькі мн.* 1. Бяседа ў хаце маладых з бацькамі пасля трохтыднёвага тэрміну; пярэзвы. *У трэ́цюю субо́ту малад́эя ўжо бацькі́ прыглаша́юць, перазо́ўкі то́жа гуля́юць.* Запруддзе. 2. Гасціны жаніховай радні ў хаце нявесты. *Перагоўкі – прыежджа́юць жаніхо́ва радня́ к ніве́сце.* Вялікі Азярэцк.

**ПЕРАЙМІНАВА́ТЫ** *дзеепрым.* Перайменаваны. *Пераймінава́та е́та дзярэ́ўня.* Фасаўшчына.

**ПЕРАЙСЦІ́, ПІРАЙСЦІ́** *зак.* 1. Прайсці, прамінуць. *Вот мы перайшлі́ ха́ту, дзе былі́ вы.* Серкуці. 2. Прыйсці (пра ўсіх, многіх). *Усе́ лю́дзі перайшлі́ пъглядзе́ць* [памерлага чалавека]. Івоні. 3. Мінуць (пра час). *Перайшо́ў срок раджа́ць.* Багданава. 4. Атрымаць ва ўладанне. *Піра́йсці́ мо́жна, а по́льзавацца той зямлёй ня по́льзаваліся.* Самсоны. 5. Выканаць, зрабіць. *І мушкая рабо́та чэрас маі ру́кі перайшла́.* Марозаўка.

**ПЕ́РАК** *прысл.* Упоперак. *Па́лкі ло́жаць пе́рак.* Закур'е.

**ПЕРАКАЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Перавярнуць, пературэсці (пра ўсё, многае). *Яны́* [цыганкі] *прышлі́, улёзлі у шкап, усё перакълацілі.* Заазер'е.

**ПЕРАКАЛА́ЧВАЦЬ** *незак.* Перакалачваць, пературушваць. *Вазілі лён у ёўні, пъса́джвалі ў ёўні, сушы́лі, перакала́чвалі – і ў мялкі.* Карпавічы.

**ПЕРАКАСІ́ЦЬ, ПІРАКАСІ́ЦЬ** *зак.* 1. Скасіць нанава. *Сын перакасі́ў, як бы́ў.* Рэчкі. 2. Скасіць звыш меры. *Піръкасі́ў со́тък пітна́ццаць замест дзі́сяці.* Заазер'е.

**ПЕРАКАЦІ́ЦЬ** *зак.* Мінуць пэўную ўзроставую мяжу. *Яму́ тры́ццаць перакаці́ла.* Міцюкова.

**ПЕРАКІ́ДВАЦЬ** *незак.* Пераводзіць на другое месца працы. *Яго́ перакі́двалі ўсё, а по́тым напра́вілі у учо́ччыкі.* Нямойта.

**ПЕРАКЛА́ДЗІНА** *ж.* Перакладзіна, папярэчная дошка, бэлька. *Перакла́дзіна – уве́рсе, на ставо́х.* Карпавічы.

**ПЕРАКЛА́ДЗІ** *мн.* Жэрдкі, якія кладуцца па перыметры стога. *Перакла́дзі дзе́лълі на два́ццъць-тры́ццъць санціме́труў ат зямлі́. Нъ перакла́дзі кла́лі жэ́рдзя і пато́м кла́лі стох.* Леснікова.

**ПЕРАКЛА́СЦІ, ПІРАКЛА́СЦІ** *зак.* 1. Палажыць у іншае месца. *Я перакла́ла яго́* [дзіця], *пъдадзія́льнік, бяллё піpадзе́ла.* Фасаўшчына. 2. Укласці паміж чым-н. *Піpакладзе́ш пялёначкай і сціснеш но́шкі.* Міцюкова.

**ПЕРАКРУЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Перавязаць. *Прывязу́ць жэ́рдзя, перакру́цяць віткамі.* Нямойта. 2. *перан.* Рэзка пагоршаць (пра стан здароўя). *Кор за тры дні перакруці́ў дзе́ўку.* Неўгадава.

**ПЕРАКСЦІ́ЦЦА, ПІРАКСЦІ́ЦЦА** *зак.* Перахрысціцца. *А я перакшчу́ся, а так нічо́га ні ўме́ю гъвары́ць.* Міцюкова. *Кап ні пумалі́лісі, ні піраксці́лісі, спаць ні шлі.* Багданава, Гарадзец, Нямойта, Партызаны, Чуцькі, Закур'е, Неўгадава.

**ПЕРАКУВЫРКА́ЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Перавярнуць, змяніць. *Перакувырка́лі ўвесь свет.* Нямойта.

**ПЕРАЛА́ЖЧЫК, ПЕРАЛА́ШЧЫК** *м.* 1. Пералаз. *Пырх ку́рыца на пералáшчык і запéла.* Нямойта. 2. Той, хто пералез праз што-н. *Ку́рыца – пералáжчык, янá мне яé прату́рыць.* Нямойта.

**ПЕРАЛАМІ́ЦЬ** *зак.* Пераламаць. *Абабрáлі: сярпы́, тáпкі забрáлі. Каб вас пераламíла!* (праклён). Ракаў Засценак.

**ПЕРАЛЕ́ТАВІК** *м.* Цяля, ягня і пад. паўгадавога ўзросту; пералетак. *Перале́тавік – цёлка, калі перелéтуе.* Багданава.

**ПЕРАЛЕ́ТАК** *м.* Тое ж. *Цёлачка былá, перале́так, жаніху́ асталáсь.* Розмыслава.

**ПЕРАЛЁТ** *м.* Пералёт (расліна). *Ёсць травá пералёт, высóкая, булды́шачкі нападóбіе бéлай цімафéеўкі.* Каралевічы.

**ПЕРАЛІВА́ЦЦА, ПІРАЛІВА́ЦЦА** *незак.* 1. Выліваоцца. *А раскáзывалі, дъмавік бы́ў, кóйку падамáіць, ці вадá піралівáіцца, здаéцца.* Багданава. 2. Гучаць з пераліваміі. *Жáворонка пяéць, пераліваéцца.* Міцюкова.

**ПЕРАЛІ́ЎКІ** *мн.* Свойская жывёла, ад якой пазбаўляюцца з-за недахопу корму. *Мáла бýдзіць кóрму для скатá, вось яны́ непажадáныя авéчкі – пералíўкі, я іх здалá.* Партызаны.

**ПЕРАЛО́ЎКІ** *мн.* Жарты. *Ён на гéтыя перало́ўкі, анекдóты, вýха мáець.* Нямойта.

**ПЕРАЛЯТА́ЦЬ** *незак.* Пералятаць, перамяшчацца. *Пералятáіць гéты жук.* Жохава.

**ПЕРАМА́ЦАЦЬ** *зак.* Перамацаць, абмацаць. *Перамáцуў рукáмі ў цёмным мéсці.* Запруддзе.

**ПЕРАМЕ́НАЧКА** *ж. ласк.* Змена адзення. *Даўнéй надзéць жа ду́жа німá, калі тры якія перамéначкі – і ўсё.* Заазер'е.

**ПЕРАМЕ́ННАЕ** *н.* Зменнае (адзенне, бялізна). *Кáжды дзень нáда штó-та перамéннае.* Ульянавічы.

**ПЕРАМЕ́РЫЦЬ** *зак.* Зжаць (жыта). *Бывáла, як стáніць прыпáр, усё пóля у жмéнькі перамéрыш.* Самсоны.

**ПЕРАМЁРЗЛЫ** *прым.* Перамёрзлы. *Не былó чагó éсці, во бýльба катóрая перамёрзлая за зіму́.* Фасаўшчына.

**ПЕРАМЁРЗНУЦЬ** *зак.* Перамерзнуць. *Пад вóсінь апéнкі перамёрзлі.* Нямойта.

**ПЕРАМЁТ** *м.* Памылка пры снаванні красён. *А як перамёт зрóбіш, во, мáтка па рукáх б'е.* Партызаны.

**ПЕРАМІТУСІ́ЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Змяніць. *Перамітусíлі, перакавыркáлі свет мнóга раз.* Нямойта.

**ПЕРАМО́ТА** *ж.* Памылка пры снаванні красён. *І крычы́ць мáці, і клянéць, як перамóту размáтываеш.* Партызаны.

**ПЕРАМО́ЦІНА** *ж.* Тое ж. *Як снуéш, не на ты́я кóлкі палóжыш – перамóціна.* Гарадзец. *Як перамóціна пры сновáнні.* Леснікова. *Перамóціны былí, як няпрáвільна накру́ціш* [нітку на кросны]. Буй.

**ПЕРАМЯ́ЦЬ** *зак.* Памяць лён (пра ўсё, многае). *Лён перамя́ць нáда ў такóй пылí.* Ульянавічы.

**ПЕРАНЕ́СЦІ, ПІРАНЕ́СЦІ** *зак.* 1. Перавезці, пабудаваць у іншым месцы. *А таді́ мы хáту піранéслі.* Багданава. 2. Вытрымаць. *Бáба ўся парэ́заная: дзве аперáцыі перанíслá.* Леснікова.

**ПЕРАНО́ССЕ, ПІРАНО́ССЕ** *н.* Пераноссе. *Тра́пку мачы́ла і ў перано́ссе прыкла́дывала.* Кляпчэва. *Калі бро́вы густэ́я і нъ пірано́ссі зръста́юцца ўме́сці, то шчаслі́вы, пъня́тны чълаве́к* (павер'е). Нямойта.

**ПЕРАНУЧУВА́ЦЬ, ПІРАНУЧУВА́ЦЬ** *зак.* Пераначаваць. *Пае́хаў к пляме́ніку, перанучува́ў.* Нямойта. *Ці мо́жна ў вас піранучува́ць?* Серкуці.

**ПЕРАНЯ́ЦЬ, ПІРАНЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Сустрэць. *У вайну́ чуць воўк мяне́ ня з'еў: ішла́ ўве́чары, ён мяне́ піраня́ў.* Мянюцева. 2. Запомніць. *Пяро́йміць усё, што ні скажы́.* Багданава.

**ПЕРАПА́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Спалены. *Зрачо́к перапа́лены.* Самсоны.

**ПЕРАПАЛО́ЦЬ, ПІРАПАЛО́ЦЬ** *зак.* Перапалоць, папалоць (пра ўсё, многае). *Бу́льбу перапало́ла, бо́лі палаві́ны атмо́кла.* Фасаўшчына. *Ко́лькі пірыпало́ла, і ту́та, і та́ма.* Запруддзе.

**ПЕРАПА́СЦІ** *зак.* Прапасці, здохнуць (пра ўсіх, многіх). *Перапа́лі усе́ свінні.* Партызаны.

**ПЕ́РАПІЛ** *м.* Перапёлка. *Йна – пе́рапіл, у жы́ці вядзе́цца і пяе́ць: «Жаць-пало́ць, жаць-пало́ць...»* Сянно.

**ПЕРАПІ́ЦЦА** *зак.* Дапіцца да ручкі, спіцца. *Перап'е́цца – і да ма́ткі, яна́ нако́рміць.* Марозаўка.

**ПЕРАПЛЕ́ЦЕНЫ** *дзеепрым.* Пераплецены. *Каду́шак – сплецены з сало́мы і лазо́й перапле́цены.* Кляпчэва.

**ПЕРАПЛЁТ** *м.* Прыстасаванне для сушкі вікі, гароху, бобу і інш. раслін; азярод. *Пераплёт – паста́вяць шу́лля, боб$^{п}$, гаро́х су́шаць.* Дуброўкі.

**ПЕРАПЛІТА́ЦЬ, ПІРАПЛІТА́ЦЬ** *незак.* Пераплятаць, перавіваць. *Тын перапліта́лі лазо́й.* Вялікі Азярэцк. *Згаро́ду лазо́й пірапліта́лі.* Запруддзе, Фасаўшчына.

**ПЕРАПЛІ́ЦА** *ж.* Адтуліна ў верхнім жорне для засыпкі збожжа. *Насыпа́лі жы́та у перапллі́цу.* Дуброўкі.

**ПЕРАПО́НКА** *ж.* 1. Перапонка (у птушак). *У ка́чкі на нага́х – перапо́нка.* Буй, Вялікі Азярэцк. 2. Барабанная перапонка. *У вас парва́на перапо́нка, таму́ і не чу́еце.* Партызаны.

**ПЕРАПРУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Прапарыць. *Адзе́жу перапру́дзіш у пе́чы, на жары́, на духу́.* Партызаны.

**ПЕРАПУШЧЭ́НСТВА** *н.* Раздуранасць. *Пера́пушчэ́нства не́йкае цяпе́р: уве́сь свет змяні́ўся.* Заазер'е.

**ПЕРАПЫ́РХНУЦЬ** *зак.* Пераскочыць. *Во́зьмець каро́ва і чэраз про́валку і перапы́рхнець.* Латыгаль.

**ПЕРАПЯКЧЫ́СЯ** *зак.* Перапячыся, перасмажыць. *Мо́жа, ужо́ і перапякло́ся* [яечня]. Вялікі Азярэцк.

**ПЕРАРАБО́ТАНЫ** *дзеепрым.* Спрацаваны. *Ты перарабо́тана, таму́ усё і балі́ць.* Запруддзе.

**ПЕРАРАДЗІ́ЦЦА** *зак.* 1. Перарадзіцца, рэзка змяніцца. *Лю́дзі перарадзі́лісі, свет зміша́ўся.* Ульянавічы. 2. Вырадзіцца, прапасці. *Перарадзі́лася шаўко́вая трава́: не віда́ць па́сачкаў бе́ленькіх.* Ракаў Засценак.

**ПЕРАРАСЦІ́** *зак.* Перарасці. *Пара́ бу́льбу втаро́й раз аку́чываць, а то перарасце́ць.* Партызаны.

**ПЕРАРУ́БЛЕНЫ** *дзеепрым.* Падзелены на часткі ўнутранай сцяной. *Пяцісце́нка – калі перару́блена ха́та.* Гарадзец.

**ПЕРАРУ́П** *м.* Папярочная сцяна, якая падзяляе трысцен на дзве палавіны. *Пяцісцёнка – ёта с прыстрóйкам, брóўна сплашныя, а пасярэ́дзіне – пераруп.* Гарадзец.

**ПЕРАСЕ́СЦІ** *зак.* Засесці, захраснуць. *Нéшта перасéла ў глóтцы.* Дуброўкі.

**ПЕРАСКО́К** *м.* Прамежак паміж гадавымі кольцамі на рагах каровы. *На рагáх пераскóкі бальшэ́я, як карóва пірадóйкай былá.* Чуцькі.

**ПЕРАСЛА́ЦЬ** *зак.* Пераслаць, пасцяліць нанава. *Я пераслáла ягó, пъдъдзіяльнік, бяллё перадзéла.* Фасаўшчына.

**ПЕРАСЛУ́ХАЦЬ** *зак.* Перaслухаць, паслухаць (пра ўсё, многае). *Ці усё перaслýхаеш?* Нямойта.

**ПЕРАСТО́Й** *м.* Старадрэвіца; прыдатны для будаўніцтва лес. *У той хáце лес – перастóй, то ёй вéку не бýдзіць.* Баравікі.

**ПЕРАСТУПА́ЦЬ** *незак.* Пераступаць нагамі. *Нагáмі перaступáіць конь.* Запруддзе.

**ПЕРАСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Перабраць трысціны ў бёрдзе. *Нáда перасыпаць бёрда, каб танéй ткаць.* Багданава.

**ПЕРАТКА́ЦЬ** *зак.* Ткаць ніткамі рознага колеру. *Гэ́та ніткамі крáснымі перaткáла.* Фасаўшчына.

**ПЕРАТУЖЭ́ННЕ** *н.* Перанапружанне. *Перaтужэ́нне бальшóе былó.* Фасаўшчына.

**ПЕРАТУРЫ́ЦЬ** *зак.* Перавесці ўпустую. *Стóлькі янá мне спірту перaтурыла на нóгі, каб быў п'яніца – качáўся б нядзéлю.* Нямойта.

**ПЕРАТЫКА́НЫ** *дзеепрым.* Вытканы ніткамі рознага колеру. *Рушнікі наклaдáныя, перaтыкáныя – на кут, а сюдэ́ – прастэ́я рушнікі.* Багданава.

**ПЕРАТЫ́КІ** *мн.* Чаргаванне палеткаў рознага памеру. *Ніва былá с перaтыкамі: ніва йдзець шырóкая, пóтым – вýская, пóтым – зноў шырóкая.* Вялікі Азярэцк.

**ПЕРАЎЦЯПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Уцяпляць (пра ўсё, многае). *Калі ў вýллях мёд астáнецца і памёрлі пчóлы, лёткі лáпкамі перaўцяплялі.* Вялікі Азярэцк.

**ПЕ́РАЎШЫ** *дзеепрысл.* Запарваючы, залiваючы кіпнем. *Іх жа ня пéраўшы скубýць.* Дольдзева.

**ПЕРАХВАРЭ́ЦЬ** *зак.* Перахварэць, перанесці хваробу. *Як кóшка перaхварэ́ю.* Багданава.

**ПЕРАХО́Д** *м.* Перапынак у адкладанні яек курыцай. *Перaхóд: тóлькі дзéсяць яіц прынéсла с курасéдкі.* Кляпчэва.

**ПЕРАХО́ДАМ** *прысл.* Час ад часу. *Мядзвéдзі былі тут перaхóдам.* Марозаўка. *Хóдзюць перaхóдъм ваўкі ля хéрмы.* Нямойта, Міцюкова.

**ПЕРАХРЫСЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Перавязаць крыж-накрыж. *Тасёмачкі з нітак шарсцяных пілялі і тымі тасёмачкамі усягó дзяцёнка перaхрысцяць.* Запруддзе. 2. *экспр.* Вельмі моцна ўдарыць. *Палéзлі адны за каўбáсамі, я перaхрысціла, лéсніца пълящéла, і яны упáлі.* Міцюкова.

**ПЕРАЦЕРАБІ́ЦЬ** *зак.* Абабраць расткі. *Перaцераблю бýльбу, бо расткі пъраслі.* Запруддзе.

**ПЕРАЦЕ́РЦІ** *зак.* 1. Памыць (пра ўсё, многае). *Усюдъх перaцéрла, перамыла.* Каралевічы. 2. Нацерці. *Дзéшку вымаеш, высушыш, лýкам перaтрэ́ш.* Каралі.

**ПЕРАЦІ́ХНУЦЬ, ПІРАЦІ́ХНУЦЬ** *зак.* 1. Сціхнуць (пра дождж). *Дошч перaціх.* Багданава. 2. Перастаць гаварыць, змоўкнуць. *Дзіпутáты, во, ні піраціхáюць, усё гавóруць і гавóруць.* Партызаны.

**ПЕРАЧАСАВА́ЦЬ** *зак.* Пачакаць нейкі час. *Тро́шку перачасу́ю, а пато́м вы́п'ю табле́ткі.* Нямойта.

**ПЕ́РАШНІ** *прым.* Пярэдні. *Кіёк ута́ркаеш, зажы́м у пе́рашнім наваі́, дзе ні́ткі.* Багданава.

**ПЕРАШЧУ́ПАЦЬ** *зак.* Перамацаць (пра ўсё, многае). *Усё перашчу́пуў рука́мі: цёмна було́.* Запруддзе.

**ПЕ́РВА** *прысл.* Спачатку. *Ло́пух вя́сной пе́рва на дварэ́ жо́ўтым цвіці́ць.* Фасаўшчына. *Загне́т пе́рва, тады́ – чале́снікі.* Запруддзе. *Дажыда́юць с цэ́рквы, свянцо́нае па кро́шцы рэ́жуць, пе́рва яйцо́ яду́ць, рэ́жуць, яду́ць.* Карпавічы.

**ПЕ́РВА-НА́ПЕРВА** *прысл.* Перш-наперш. *Пе́рва-на́перва галаву́ адро́жуці* [у кабана]. Галашчакіна.

**ПЕРВАЦЕ́ЛЬ** *м.* Карова першага ацёлу. *Парваце́лем ацялі́лася.* Рулёўшчына.

**ПЕРВАЦЁЛКА** *ж.* Тое ж. *Перваце́лка – пе́ршы раз цялі́лася.* Гарадзец.

**ПЕРВО́СЕНЬКА** *ж. ласк.* Тое ж. *Перво́сенька – каро́ва пе́рвым це́лям.* Латыгаль.

**ПЕ́РВЫ** 1. *ліч.* Першы. *Пе́рвы раз ві́дзела таку́ю машы́ну.* Дуброўкі. *Пе́рвым це́лям каро́ва.* Рулёўшчына. *Сыно́чка ні даждáла пе́рвага* [з вайны]. Савінічы. 2. *прым.* Лепшы. *Я ў та́нцах была́ пе́рвая.* Партызаны.

**ПЕ́РНІК** *м.* Пернік. *Пе́рнікі былі жо́ўтыя, сало́ткія, былі і бе́лінькія, ускя́кія, ра́зныя.* Багданава, Фасаўшчына. *Пе́рнікі цёмныя, ру́хлыя, у вы́глядзе ко́нікаў.* Закур'е.

**ПЕРСТ** *м.* ◊ ПЯРСТО́М ЖЫЦЬ. Быць адзінокім, жыць аднаму. *Адна́ пярсто́м жыву́.* Самсоны.

**ПЕ́РСЦЕНЬ** *м.* Пярсцёнак. *Як каро́ва кро́ўю до́іцца, – прас пе́рсцень даі́лі.* Багданава.

**ПЕ́РХАЦЬ** *ж.* 1. Перхаць (на галаве, у жывёлы). *Луска́, пе́рхаць у галаве́, асо́біна як ма́ліньці ро́дзіцца, пе́рхаці мно́га.* Заазер'е. *Пе́рхаць – у гълаве́, у каро́вы – пе́рхаць.* Гарадзец. 2. Рыбная луска. *Шълуха́ у ры́бы – пе́рхаць е́та.* Фасаўшчына.

**ПЕ́РЦІ** *незак. экспр.* 1. Ляцець, бегчы. *Конь прэць, як съмашэ́ччый!* Самсоны. 2. Ліцца. *Ве́на рвану́ла, кроў пёрла із ве́ны.* Нямойта, Запруддзе, Міцюкова.

**ПЕ́РЦІСЯ, ПЭ́РЦІСЯ** *незак.* 1. Лезці куды не трэба. *Наш то́жа прэ́цца, мы яго́ – па́лкай* [пра ўнука]. Станюкі. 2. Гнаць (машыну). *Што я бу́ду пэ́рцісі, так усю машы́ну паб'ю!* Вялікі Азярэцк.

**ПЕРШ** *прысл.* Спачатку. *Перш е́лі капу́сту, тады́ – мя́са, а тады́ – крупе́ню.* Гарадок.

**ПЕРШАБЫ́ТНЫ** 1. *прым.* Першабытны (чалавек). *Жывём, як першабы́тныя.* Чуцькі. 2. *н.* Далёкае мінулае. *З першабы́тнъга зва́лі Мъро́зъўка, і ба́цька зваў, і дзет зваў.* Марозаўка, Чуцькі.

**ПЕРШАГО́ДНІК** *м.* Цяля сёлетняга году. *Цялёнак першаго́днік, як радзі́ўся то́лькі у гэ́тым го́дзе.* Серкуці.

**ПЕ́РШАЧКА** *ж. ласк.* Карова першага ацёлу. *Перваце́лка, пе́ршачка – пе́рвы раз ацялі́лася.* Парэчча.

**ПЕРШАЧО́К** *м. ласк.* Тое ж. *Цялу́шка маладáя – першачо́к, ня хо́чыць е́сці калхо́зную цімахве́еўку* [кармавая трава]. Вялікі Азярэцк.

**ПЕ́РШЫ** *ліч.* Першы. *Свякро́ў паме́рла на пе́ршы дзень Па́скі.* Гарадок. *Варажы́лі: як дзе́ўка во́зьме каро́ву за рог, ма́лец – пе́ршы, за бок – срэ́дні, за хвост – апо́шні* (павер'е). Дуброўкі.

**ПЕ́РЫЦЬ, ПЯРЫ́ЦЬ** *незак.* 1. Праць, мыць, б'ючы пранікам. *А пато́м іх* [скуты] *запа́рывалі, пе́рылі – білі пра́ннікамі.* Дольдзева. *Пе́рым пра́нікам палатно́,*

*як саткýць.* Дуброўкі, Заазер'е, Нямойта, Партызаны. *Вы́качаеш палатнó, пяры́лі, буўтáлі ў вадзé.* Багданава. *Крóсны пяры́лі.* Вялікі Азярэцк. *У яé пяры́ць булó пяць лаён біля́.* Кавалі. 2. Біць (пра кашаль). *Кáшаль во пяры́ць, б'ець.* Гарадзец. 3. Страляць (з гармат). *З арýдзь стáлі пяры́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ПÉР'Я** *н. зб.* 1. Пер'е. *Гэ́та пéр'я: бéла усю́ды.* Самсоны. ПÉР'ЕЙКА, ПÉРЫЙКА *памянш.-ласк. Сáмі пéр'ейка з вýтак перадзярóм.* Закур'е. *Пéрыйка на іх дрóбнінькъя, у піскля́т.* Фасаўшчына. 2. Лісце цыбулі. *У цыбýлі ёсць гълавá, а лісце – пéр'я.* Гарадзец.

**ПÉСНЯ** *ж.* Песня. *Пéсні – хоць трэ́сні* [пей], *тóлькі éсці не прасí.* Дуброўкі.

**ПÉСТА** *агульн.* Пястун. *Пéста íнá!* Фасаўшчына.

**ПÉСТАВАЦЬ** *незак.* Песціць, балаваць. *Пéстуеце іх, дзяцéй, а яны́ мълады́я, растýць як грыбы́.* Станюкі.

**ПÉСТУН** *м.* Пястун. *Пéстун ты мáмкін, спéшчаны дзіцёнак!* Запруддзе, Гарадзец.

**ПÉТЛІЦА** *ж.* Пятля, дзірка для гузіка. Каралі.

**ПЕТУШКÓЎ** *прым.* ○ ПЕТУШКÓЎ ГРАБЯШÓК. Расліна з гронкамі кветак, якія падобны на пеўневы грэбень. *Петушкóў грабяшóк – цвет такí.* Партызаны.

**ПÉЎНЕ** *прысл.* Пэўна. *Пéўне, памрý я: тáту відзела* [у сне]. Кішуроўшчына.

**ПÉЎНЫ** *прым.* Якасны. *Пъд марóзъм ні былá бýльба, дык пéўнъя, на сéмя гóднъя.* Нямойта. *Ячмéнь сéіла: катóры няпéўны – па вéрху, пéўны – на дне.* Чуцькі, Кішуроўшчына, Розмыслава, Серкуці.

**ПÉЎЧЫ, ПÉЎШЫ** *м.* Спявак царкоўнага хору; пеўчы. *У нас сáмыя лýчшыя пéўчыя былí.* Серкуці. *Пéўшыя пяю́ць у царквí.* Фасаўшчына.

**ПЕХАТÓЙ** *прысл.* Пешшу. *Пехатóй падалíся.* Вялікі Азярэцк.

**ПЕЦЬ, ПЯЯ́ЦЬ, ПІЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Спяваць, пець. *На сýпратках вéсела былó: пéсні пéлі.* Кавалі. *У нядзéлю пяю́ць пéсні.* Багданава *Завíдую, як стáрыя бáбы пяю́ць.* Вялікі Азярэцк. *Пяéць – па-беларýску, співáіць – па-рýску.* Каралевічы, Карпавічы, Мянюцева, Рассвет. *Вянóк з жы́та пастáвяць на кут і пяя́лі. Пéсні пія́лі і агóнь палíлі* (звычай) [на Купалле]. Дуброўкі, Закур'е. *Я пія́ць не ýмéю.* Багданава. 2. Крычаць (пра пеўня). *Пíтухі пяю́ць абы́чна у шэсць часóў.* Вялікі Азярэцк. *Пяю́ць пятухí на пагóду, як зімóй – пяю́ць на марóс* (прыкмета). Жохава, Марозаўка, Партызаны, Розмыслава. 3. Зумкаць (пра пчол). *Пяéць мáтка* [пчаліная]. Запруддзе.

**ПЕЧ** *ж.* 1. Печ. *У скóлькіх хáтах жылá, скóлькі пячэ́й тапíла!* Нямойта. *А мой зяць умéіць пéчы дзéлаць.* Партызаны, Багданава, Баравікі, Гарадзец, Заазер'е, Міцюкова, Ракаў Засценак, Ульянавічы. 2. Месца, прастора пад печчу; падпечча. *Пад пéч'ю курэ́й дзяржáлі.* Закур'е.

**ПЕЧАНЁЎКА** *ж.* Від каўбасы з вантробаў, у якую дадавалі печань. *Печанёўку дзéлалі аддзéльна: пéчань, лёхка, сéрца, пóчкі кры́шаць чэраз мясарýбку,* [дадаюць] *прыпрáвы, сáла, мя́са каўбáснага, і вéшаюць, каб вы́сахла.* Вялікі Азярэцк. *Печанёўку рабíлі, янá да лéта вісéла – высыхáла.* Міцюкова, Алексінічы, Дольдзева, Партызаны, Парэчча, Фасаўшчына.

**ПÉЧАНЬ** *ж.* 1. Печань (унутраны орган). *Мая́ пéчань разбалéлася. «Мой пéчань» і «мая́ пéчань» гавóраць.* Міцюкова. *Рáнета былá ў пéчань, памéрла скорапасцíжна.* Кляпчэва, Багданава, Гарадзец, Партызаны. 2. Пячонка як прадукт харчавання. *Пéчань у печанёўку дабáвіш.* Міцюкова.

**ПЕ́ЧАНЬ** *м.* Печань (унутраны орган). *Крапіву́ п'юць ад жалу́дка, пе́чаня.* Апечкі, Міцюкова.

**ПЕ́ЧКА** *ж.* Печ. *У пе́чку шэсь бу́лак пасо́дзіш, па тры ў рад.* Каралі, Заазер'е. ПЕ́ЧАЧКА *ласк. У пе́чачку уго́лле кіда́ла.* Нямойта.

**ПЕ́ЧКАВАЦЬ** *незак. эмац.-ацэн.* Будаваць дрэнна. *Здзе́лан дом наве́к, ні то, што на́шы пе́чкуюць.* Івоні.

**ПЕ́ША** *прысл.* Пешшу. *Пе́ша ніхто́ ня хо́чаць хадзі́ць.* Закур'е.

**ПЕШАХО́ДАМ** *прысл.* ◊ ХАДЗІ́ЦЬ ПЕШАХО́ДАМ. Хадзіць адкрыта, не хаваючыся. *Кры́сы хадзілі па ха́ці пешахо́дам.* Апечкі.

**ПЕ́ШКА** *прысл.* Пешшу. *Пе́шка хадзілі да Сянно́.* Буй.

**ПЕ́ШКАМ** *прысл.* Тое ж. *Пе́шкам да Багда́нава дабра́лісь.* Багданава. *Усю́дъх во́зяць на рабо́ту, а ко́лісь пе́шкам хадзілі.* Запруддзе, Гарадзец, Заазер'е, Манголія, Рэчкі.

**ПЕ́ШНЯ** *ж.* Лом з драўляным дзяржаннем для прабівання лёду, а таксама для выдзёўбвання сярэдзіны ў калодах; пешня. *Пе́шня была́ жале́зная, во́страя, наса́джваецца на дзеравя́нную ру́чку.* Запруддзе.

**ПЕ́ШШЫ** *прысл.* Пешшу. *Пе́шшы ў го́рад хадзілі.* Закур'е.

**ПЁРУШКІ** *мн. ласк.* Лісце цыбулі. *Харашо́ пёрушкі цыбу́лі кры́шыць.* Закур'е.

**ПЁРЫШКА**, **ПЮ́РЫШКА**, **ПЮ́РУШКА** *м.* Ласкавая назва жарабяці. *Пёрышка – ма́ліནькій, а тады́ – жаро́бъчък, а тады́ – жарабо́к, а як пъкладáный, – конь.* Багданава. *Быва́ла дзе́ці гуля́юць з ім, жърабёнкам, гуля́юць і называ́юць пю́рушка. Жърабёнка называ́юць пю́рышка, як прыхо́дзюць і глідзя́ць. А так – жърабёначък.* Рассвет.

**ПЁРЫШКА** *н.* Тое ж. *Калі ла́скава так гаво́раць на жърабёнка, то ка́жуць: «Пёрышка». Дзе́ці ка́жуць: «Пёрышка маё».* Багданава.

**ПІВО́НЬ** *ж.* Півоня (кветка). *Піво́нь су́шаць: ат канву́льсіі.* Каралі. *Куды́ мне ту́ю піво́нь дзець?* Запруддзе.

**ПІВО́НЯ**, **ПІО́НІЯ** *ж.* Тое ж. *Піво́ня – лячэ́бная: як спужа́іцца рабёнак, трэ́ба аттапі́ць і дава́ць піць. У піо́ніі лісто́чкі бе́лыя, кра́сныя, ат паду́чай бале́зні п'юць.* Багданава.

**ПІ́ГІ** *мн.* Узор на тканні ў касую клетку. Запруддзе.

**ПІДЗІСЯ́Т** *ліч.* Пяцьдзясят. *Ва ўсех се́на пъ підзіся́т пудо́ў було́.* Гарадзец. *Підзіся́т гадо́ў тут жыву́.* Кішуроўшчына.

**ПІ́ЖМА** *ж.* Піжма (расліна). *Пі́жма – жо́ўценькая, бу́бкамі, па бара́х расце́ць.* Каралі, Рэчкі. *Пі́жма, як аве́чкі, каро́вы ка́шляюць, па дзве-тры ло́жкі нато́пюць – і ско́ту.* Каралевічы.

**ПІКАНУ́ЦЬ** *зак. экспр.* Стаць моцным (пра мароз). *Маро́з пікану́ў!* Запруддзе.

**ПІ́КАЦЬ** *незак.* Папракаць чым-н. *І бу́дуць цябе́ пі́каць на ко́жным шагу́.* Вялікі Азярэцк.

**ПІКЕ́ЛІЦЦА** *незак.* Корпацца, калупацца. *На́да калхо́знікам, като́рыя ў г... піке́люцца, дава́ць бо́льшы* [грошай]. Вялікі Азярэцк.

**ПІЛА́** *ж.* Піла. *Лучко́вая пілá з аднэ́й ру́чкай, я адна́ дро́вы рэ́жу.* Вялікі Азярэцк.

**ПІ́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Распілаваны. *Гэ́та ня пі́лена, про́ста рука́мі апцёсана.* Запруддзе, Нямойта.

**ПІЛІНА́** *ж.* Суцэльная паласа, занятая чым-н. *Было́ спъшна́я пілінá мъхъвіко́ў, пъдасі́нувіко́ў, сураёж, а бъръвіко́ў ме́ні.* Пожанькі.

**ПІЛІ́П** *м.* Час, які выпадае на піліпаўскі пост. *Піліп дзяцей адзяець: прадзём дзень і ноч.* Самсоны.

**ПІЛІ́ПАЎКА** *ж.* Пост перад Калядамі. *Піліпаўка – гэта ні свята, эта пост, як бувала, пасцілі шэсць нядзель.* Самсоны. *Піліпаўка – пірат Калядамі, яна шэсь нядзель.* Нямойта, Багданава, Жохава, Міцюкова, Закур'е.

**ПІЛІ́ПАЎСКІ** *прым.* Які адносіцца да піліпаўкі. *Асеўшы піліпаўскі снех.* Вялікі Азярэцк.

**ПІЛІПСЕ́Я, ПІЛЕ́ПСІЯ** *ж.* Эпілепсія. *Піліпсея ў яе, кідаець, б'ець.* Запруддзе.

**ПІЛІ́ЦЬ** *незак.* 1. Пілаваць. *Лес на дошкі пілюць у Сянне.* Гарадок. *Як дровы сеч дъ пілііць, не забылісі?* Запруддзе, Сукрэмна, Неўгадава. 2. Грызці зубамі (пра баброў). *Бабры пілюць дзярэўя, дрэва тоўстае зубамі перагрызуць.* Вялікі Азярэцк.

**ПІ́ЛНА, ПІ́ЛЬНА** *прысл.* 1. Вельмі, надта, у высокай ступені. *Можа, каму гарэлкі пілна нада.* Рулёўшчына, Парэчча. *Мы ужо лезім, калі нада пільна.* Савінічы, Запруддзе. 2. Не падымаючыся з гнязда (пра свойскіх птушак). *Так пілна сядзіць на іцах, злезіць, пъгадзіць, апяць садзіцца* [пра курыцу]. Каралевічы.

**ПІЛНАВА́ЦЦА** *незак.* Пільнавацца. *Кошкі большы пілнуюцца хаты, а каты – эта зброт.* Дольдзева.

**ПІЛНАВА́ЦЬ, ПІЛЬНАВА́ЦЬ** *незак.* 1. Падпільноўваць. *Ліжаў за каменем воўк, пілнаваў дзевачку.* Фасаўшчына. *Як ты ні пілнуй, каровы усё роўна улезуць у шкоду.* Рассвет, Кляпчэва, Партызаны, Савінічы, Сянно, Ульянавічы, Закур'е. 2. Вартаваць. *Яны удвух ішлі, а мушчына з вінтоўкай пільнаваў.* Вялікі Азярэцк. *Што я буду тут пільнаваць, пайду, лягу.* Запруддзе, Алексінічы, Багданава, Партызаны, Неўгадава.

**ПІ́ЛЬШЧЫК** *м.* Той, хто заняты пілаваннем. *Хадзілі пільшчыкі, козлікі насілі, кап пілііць.* Ульянавічы. *Я і пілы тачыў, пъказаў пільшчык, як правільна нада тачыць.* Жохава.

**ПІ́ЛЬШЧЫК** *м.* Рагавы стрыжань пяра птушкі. *Пільшчыкі – ета цубукі такія ў пер'ях.* Багданава. *Калі скубеш курэй, пільшчыкі тарчаць, пушок абдзіраеш.* Запруддзе.

**ПІЛЮХА́** *ж.* Адходы пры ачыстцы зерня; мякіна. *На посту мелюць зярно з пілюхой.* Нямойта.

**ПІЛЯНДРЫ́ЦА, ПАЛЕМБЕРЫ́ЦА, ПАЛЯМБІ́ЦА, ПАЛЯЎНІ́ЦА** *ж.* Паляндвіца. *Пілянdрыца – длінны лаппас скрозь, пасолюць, скруцяць, прыправы усыпюць, падвесяць ці так з'ядуць.* Багданава. *Палемберыца у свінні – дзе хрыбет.* Гарадзец. *Палямбіцы, як кілбаса, адно там любовае мяса.* Вялікі Азярэцк. *Палямбіцу на каўбасы, кладуць і ад лапаткі, і ад рабёр, падчаровак пускаюць.* Міцюкова, Станюкі. *Паляўніца – дзе хрыбет, мяса.* Леснікова.

**ПІ́НДЖА** *ж.* Пінжак. *Пінджа звалілася, дайце павешу.* Каралевічы.

**ПІНДЫЦЫ́Т** *м.* Апендыцыт. *Я кажу: «Када мне будуць піндыцыт дзелаць?»* Багданава.

**ПІНЖА́К, ПІНДЖА́К** *м.* Пінжак. *Як жа ні надзець брукі і пінджак?* Карпавічы. *Пінжак: ета – ъратнік, а ета – барты, а ета пъла звалі.* Гарадзец. ПІНЖАЧЫ́ШКА *іран.* *Пінжачышка вазьму і здзену.* Нямойта.

**ПІ́ПКА** *ж.* Люлька (для курава). *Тъбаку курылі, у піпку нъкладуць і кураць.* Багданава. *У міня піпка глінянъя была.* Кляпчэва, Жохава, Ульянавічы, Фасаўшчына.

**ПІРАБАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Перабедаваць, моцна перажываць. *Збылі кароўку, прама пірабалелі, ай-ё!* Ульянавічы.

**ПІРАБАРО́ЦЬ** *зак.* Перамагчы. *Кра́сныя тады́ пірабаро́лі.* Савінічы.

**ПІРАБАРШЧЫ́ЦЬ** *зак.* Перабраць (меру). *Адна́ я пірабаршчы́ла: дзяце́й тро́е, а ўну́чак – пяць.* Буй.

**ПІРАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Пераварыць. *Я грыбы́ ў чугуно́к і ў пе́чы піравару́, цыбу́лькі, по́снъга ма́сла дъба́ўлю – у міскі і нъ сталы́.* Сяргейкі.

**ПІРАВЕ́ЗЦІ** *зак.* Перавезці. *І сюда́ нас пірьвязлі́ с пасе́лка Стърасе́лля.* Рулёўшчына.

**ПІРАВЕ́СЦІ** *зак. экспр.* Моцна стукнуць. *Міша́лкъй пірьвядзе́ць па лбу табе́ жо́нка!* Багданава.

**ПІРАВІВА́ЦЬ** *незак.* Перавіваць (лазой). *Лазо́ю піравіва́лі – э́та ўві́ткі.* Марозаўка.

**ПІРАВО́РАВАЦЬ** *незак.* Пераворваць. *Пъсъбля́ць прые́халі, піраво́раваць бульбя́ні́шча.* Неўгадава.

**ПІРАВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Перавярнуцца. *Кап яно́ пірьвярну́лася!* (праклён). Заазер'е.

**ПІРАВЯРЦЕ́ЦЬ** *зак.* Перавязаць. *На́да піравярце́ць плато́к.* Міцюкова.

**ПІРАГАРА́ДЖВАЦЬ** *незак.* Размяшчацца папярок чаго-н. *Суно́шка пірагара́джвала унізу́ стала́, но́гі станаві́ць.* Запруддзе.

**ПІРАГО́НАМ** *прысл.* З перапынкамі (пра дождж). *Піряго́нам дошч про́йдзіць.* Багданава.

**ПІРАДАВІ́ЦЬ** *зак.* Задушыць. *Рука́мі го́рла таму́ паліца́ю пірьдаві́лі.* Партызаны.

**ПІРАДНАРО́ДНА** *прысл.* Прынародна, публічна. *Піраднаро́дна ёй усё у магазіне выбіра́ець.* Дольдзева.

**ПІРАДО́ЙКА** *ж.* Карова-ялаўка. *Я́лаўка – іна́ ня до́іцца, пірадо́йка – усё адно́.* Вялікі Азярэцк. *Пірадо́йка у нас, адзін рас цялілася, гот – пірадо́йка.* Багданава, Гарадзец, Карпавічы, Нямойта, Партызаны, Рассвет, Рулёўшчына, Чуцькі.

**ПІРАДО́К** *м.* Перадок (у возе). *У калёсах – пірадо́к і зат, пірадо́к, гаво́руць, і задо́к.* Гарадзец.

**ПІРАДО́К** *м.* Невялікая, кароткая лаўка; услон. *Была́ ду́ўгая ла́ўка – ад сцяны́ дъ сцяны́, а пірадо́к быў каро́ткі, каля стала́.* Багданава. *Пірадо́к – е́та ла́ва, то́лькі ні на ўсю сцяну́.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Фасаўшчына. ПІРАДО́ЧАК, ПЕРАДО́ЧЫК *памянш.* *Зро́біць ба́бі пірадо́чък чысціць бу́льбу. Садзісь на пірадо́чък, ён къля пе́чы стаіць. Перадо́чык – яны́ і сло́нчыкамі заву́цца.* Багданава.

**ПІРАДУ́МАЦЬ** *зак.* Падумаць, пахваляцца за каго-н. *Німа́ дзяце́й, і жа́ласці німа́: а то ка́ждага на́да піраду́маць.* Запруддзе.

**ПІРАДУМА́ЦЬ** *незак.* Заносіць (снегам). *Закру́ціць, пірадума́іць ву́ліцу сне́гам.* Кішуроўшчына.

**ПІРАЕ́ХУЎШЫ** *дзеепрысл.* Пераехаць. *Я тут ні ста́ръя жыцілка, я піряе́хуўшы с пасе́лка Пустасе́лля.* Рулёўшчына.

**ПІРАЗО́ВЫ** *толькі мн.* Гасціны бацькоў маладых; пярэзвы. *А пато́м пірázо́вы былі, е́здзілі ў піразо́вы.* Серкуці.

**ПІРАКАВЫ́** *прым.* Папярочны. *Піракавы́я баро́зны, каб ячме́нь не тапта́ць.* Дольдзева.

**ПІРАКАЗА́ЦЬ** *зак.* Расказаць, перадаць (пра ўсё, многае). *Іна́* [бабуля] *мне пірькъза́ла загаво́ры: пато́мства паві́нна знаць.* Рулёўшчына, Багданава.

**ПІРАКАПА́ЦЬ** *зак.* Перакапаць. *Лю́цы мае́, піракъпа́лі даро́гу, ско́ръя ні прае́дзіць.* Кішуроўшчына.

**ПІРАКА́ТАЦЦА** *незак.* Перамяшчацца (пра рыбу). *Рыба пірькáтыіцца па мéлкъму у глубóкую вадý.* Багданава.

**ПІРАКА́ЯЦЦА** *зак.* Пакаяцца. *Дак ён піракáяўся, ай-ай-ай!* Заазер'е.

**ПІРАКІПЯЦІ́ЦЬ** *зак.* Пракіпяціць (пра ўсё, многае). *Трáпкі якіі піракіпяцíць, павы́маіць.* Нямойта.

**ПІРАКЛЁП** *м.* Паўторнае кляпанне касы. *Крътавіння зръзáіць клёп: аттачы́ ці піраклёп дзéлъй.* Леснікова.

**ПІРАКРО́СТАК, ПІРАКРЭ́СТАК** *м.* Скрыжаванне. *Хáта яé там, дзе піракрóстак.* Вялікі Азярэцк. *Піракрэ́стак быў на дарóгі.* Фасаўшчына.

**ПІРАКРО́СТКА** *ж.* Тое ж. *Там, дзе піракрóстка, дзярэ́ўня згарэ́ла.* Мянюцева.

**ПІРАКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* Развярнуцца. *Нъ дварэ́ ні піракруцíцца з вóзам.* Чуцькі.

**ПІРАКСЦІ́ЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Пастраляць, расстраляць. *Там іх пабілі нікатóрых, с аўтъмáтаў іх піраксцілі.* Вялікі Азярэцк.

**ПІРАКУЛЬНУ́ЦЦА** *зак.* Перакуліцца, перавярнуцца цераз галаву. *Кап ні бъяцца грóму, трэ́ба, як пéршы рас ягó пачýіш, тры разы́ піракульнýцца* (павер'е). Дольдзева.

**ПІРАКУ́П** *м.* Перапродаж, спекуляцыя. *На піракýп купляюць вóдку.* Гарадзец.

**ПІРАЛАВІ́ЦЬ** *зак.* Пералавіць, злавіць у вялікай колькасці. *Я шчук пірълавíў зъ сваю жы́зінь, што ня ўлéзіць у гэ́ту хáту.* Сянно.

**ПІРАЛО́М** *м.* Рэзкая змена ў развіцці чаго-н.; пералом. *Перажыві гэ́ты кры́зіс, піралóм, ні бяры́ яé, пагíбніш.* Серкуці.

**ПІРАМЕ́НА** *ж.* Змена надвор'я. *Як пагóды пірамéна – лóміць нагá.* Манголія. *У нядзéлю булá пірамéна: ужó дош бýдзіць.* Гарадзец.

**ПІРАМІНЯ́ЧЫЦЦА** *зак.* Перамяніцца, змяніцца. *Рáньшы ланцýх звáлі, цяпéр цэп – пірамінячылася мнóга.* Нямойта.

**ПІРАМЫ́ЦЬ** *зак.* Перамыць, памыць (пра ўсё, многае). *Я грыбы́ пірамы́ю – і ў чугунóк, і ў печ.* Сяргейкі.

**ПІРАМЯША́ЦЬ** *зак.* Перамяшаць. *Ягó кладýць, памёт гэ́ты, сы́пюць, з зямлёй пірамішáюць і тады́ сóдзюць.* Станюкі.

**ПІРАНУЧЧУВА́ЦЬ** *зак.* Пераначаваць. *Піранучувáла ноч і паехала дамóў.* Партызаны.

**ПІРАПАЛО́ЦЬ** *зак.* Перапалоць, папалоць. *Кóлькі пірьпалóла і тýта і тáма.* Запруддзе.

**ПІРАПАЎСЦІ́** *зак.* Перапаўзці. *Цірас дарóгу вуш пірапóўс.* Алексінічы.

**ПІРАПЕ́ЦЬ** *зак.* Праспяваць паўторна. *Сéўка ганяў, каб я яшчэ́ раз пірапéла пéсьню.* Каралевічы.

**ПІРАПЛА́ЎНІЦА** *ж.* Веснавы прысвятак у народна-царкоўным календары, які адзначаецца 26 мая. *Піраплáўніца перат Трóйцай, пръшлá піраплáўніца – мóжна купáцца.* Дольдзева.

**ПІРАПЛА́ЎНЫ** *прым.* ○ ПІРАПЛА́ЎНАЯ СТРАДА́. Час, пасля якога, паводле праваслаўнай традыцыі, дазвалялася купацца. *Бываíць тъкáя піраплáўнъя страдá, на піраплáўніцу, тады́ мóжна купáцца: Бох пераплы́ў цірас ракý, ці мóра, ці вóзера.* Ракаў Засценак.

**ПІРАПРАДА́НЫ** *дзеепрым.* Перапрададзены. *Мóжа, мой жъραбóк пірьпрьдáны?* Міцюкова.

**ПІРАПРАДА́ЦЬ** *зак.* Перапрадаць. *Кьня ўкраў і пірьпрьдáў нь базáры.* Самсоны.

**ПІРАПРЫ́ГАЦЬ** *незак.* Пераскокваць. *Язí ціраз верх піραпры́гаюць пляцéнь.* Багданава.

**ПІРАРАБО́ТАЦЬ** *зак.* Папрацаваць на розных месцах. *Усякімі трасцамі пірарабо́тала.* Карпавічы.

**ПІРАРУ́БЛІВАЦЬ** *зак.* Перабудоўваць. *Купілі ў То́ліка ха́ту, дык пірару́блівалі.* Кішуроўшчына.

**ПІРАРЫ́ВА** *ж.* Перапынак. *Здзе́лала пірары́ву, біз ліка́рства.* Жохава.

**ПІРАСО́ЛІНЫ** *дзеепрым.* Перасолены. *Ой, пірасо́ліна, а то нідасо́лана.* Вялікі Азярэцк.

**ПІРАСЫХА́ЦЬ** *незак.* Перасыхаць. *Рэ́чка ле́тъм пірьсыха́іць.* Савінічы.

**ПІРАСЯ́ДКА** *ж.* Перасадка. *Мно́га пірася́дак на Во́ршу.* Партызаны.

**ПІРАТАПІ́ЦЬ** *зак.* Ператапіць, растапіць. *Пірато́пюць яго́* [масла] *у чыгуне́.* Заазер'е. *Е́ту ву́зу пірато́пюць і астае́цца воск і гразь.* Фасаўшчына.

**ПІРАХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Перасяляцца. *Я по́мню, што мы, як пірахадзілі ў но́вую ха́ту, то кътá ў лю́льку ўсадзілі, пъкълыха́лі, а тады́ ма́льца пъкла́лі.* Заазер'е.

**ПІРАЦЕ́РПІЦЦА** *зак.* Перацярпець. *Пірацэ́рпіўся, е́сці не хачу́.* Сянно.

**ПІРАЧЫ́СЛІЦЬ** *зак.* Пералічыць. *Там мно́га іх было́, ні пірачы́сліць.* Нямойта.

**ПІРАШАГНУ́ЦЬ** *зак.* Пераступіць. *Ён іх пірьшагну́ў, і яго́ ні ста́ла* (з казкі). Багданава.

**ПІСАНУ́ЦЬ** *зак.* Распісацца. *Тут пісані мне ў квіта́нцыі, дърагóй!* Сянно.

**ПІСА́РСКІ** *прым.* Які належыць ці адносіцца да пісара. *Ка́жуць «піса́рскія ру́кі», калі па́льцы до́ўгія, худашча́выя.* Нямойта.

**ПІСА́ЦЦА** *незак.* 1. Перапісвацца, ліставацца. *Мъя́ сістра́ ў Мі́нску жыве́ць, так мы пі́шымся, пъ цілі́фо́ну ръзгъва́рваем.* Нямойта. 2. Рэгістравацца (пра шлюб). *Хадзілі піса́цца, на Пятро́ – вянча́ліся.* Багданава. *Вот такія сва́дзьбы бы́лі. Запісвайся, як хо́чаш: хо́чаш церас гот, церас два; хо́чаш саўсе́м ні пішы́ся ў то ўрэ́мя.* Фасаўшчына, Вялікі Азярэцк, Партызаны. 3. Запісвацца, уступаць у якую-н. арганізацыю і пад. *Стаў піса́цца ў калхо́с – мой* [муж] *пе́ршы запіса́ўся.* Заазер'е.

**ПІСА́ЦЬ** *незак. перан.* Вельмі клапатліва абыходзіцца з кім-н. *Ён* [сын] *як прые́дзіць, так ён* [муж] *пра́ма піша лі яго́.* Багданава.

**ПІСКАВЫ́** *прым.* Які падобны на пясок; цукровы пясок. *Быў са́хар і кускавы́, і піскавы́.* Дольдзева.

**ПІСКЛЁНАК** *м.*, **ПІСКЛІНЯ́ТЫ** *мн.* Кураня. *Адна́ ку́рыца вы́віла двіна́ццъць піскле́нкъў.* Запруддзе. *І піскле́нка, і гусе́нка дзе́ржым, і ко́жнаму дай.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Буй, Гарадзец, Дольдзева, Каралевічы, Мянюцева, Партызаны, Ракаў Засценак, Фасаўшчына, Чуцькі. *Сын са Шкло́ва піскліня́т прывёс.* Серкуці.

**ПІСКЛЯ́ТНІЦА** *ж.* Квактуха. *Ку́рыца, а за ей – піскля́тніца.* Багданава.

**ПІСКУ́Н** *м.* Уюн. *Піскуно́ў, бува́ла, ў са́женках лавілі, е́лі, такія, як вужа́кі, до́ўгія і то́нкія.* Багданава. *Піску́н во́дзіцца ў бало́цістых міста́х, у Сукрэ́мінскім, Ру́буўскім азёрьх.* Сянно, Алексінічы, Дольдзева, Марозаўка, Фасаўшчына.

**ПІСЬМЕ́ННЫ** *прым.* Адукаваны. *Цяпе́р усе́ пісьме́нныя.* Гарадзец.

**ПІСЯМЦО́** *н. ласк.* Пісьмо, ліст. *І ён мне то́ка адно́ пісямцо́ прысла́ў.* Савінічы.

**ПІ́СЯЦЦА** *незак. дзіц.* Сікацца. *Ты ня пі́сялася?* Станюкі.

**ПІТА́К** *м.* Пра што-н. памерам з пяцікапеечную манету. *Па пітаку́ баля́чкі – і не прахо́дзяць.* Партызаны.

**ПІТА́ННЯ** *н.* Харчаванне. *А цяпе́р піта́ння – до, а лю́дзі сла́быя.* Буй.

**ПІТНА́ЦЦАТЫ** *ліч.* Пятнаццаты. *У пятніцу бу́дзіць пе́ршъга, у другу́ю – во́сьмъга, і ў трэ́цію – пітна́ццътъга. У што бу́дзіць пе́ршъга, у то́я бу́дзіць во́сьмъга, і ў то́я бу́дзіць пітна́ццътъга. Я так шчыта́ю.* Міцюкова.

**ПІТО́К** *м.* Аматар выпіць (спіртныя напоі). *П'юць такія піткі і ўсё.* Партызаны.

**ПІТУ́Н** *м.* Тое ж. *У нас пітуно́ў німа́, ніхто́ ня п'ець.* Каралі.

**ПІХА́ЦЬ** *незак.* Штурхаць. *Руко́й піха́лі, каб ён пло́тна ліжа́ў.* Багданава.

**ПІЦА́Г** *м.* Шрам ад удару. *У Лі́пна жыве́ дзед Пато́цкі, у яго́ на спіне́ піцагі: білі паны́.* Пожанькі.

**ПІЦЬ** *незак.* Піць. *Бяро́завік такі́ ўку́сны, што п'еш і ішчо́ хо́чацца.* Багданава. ◊ ПІ, ХОЦЬ ГАЛАВУ́ ПАМЫ́Й. Пра што-н. у вялікай колькасці. Серкуці.

**ПІЦЮ́К** *м.* Ударная частка цэпа; біч. *На канца́х былі́ піцюкі́ ў цапа́х.* Ульянавічы.

**ПІШАКО́М** *прысл.* Пешшу. *Пішако́м хо́дзім, кіламе́тра чаты́ры.* Багданава.

**ПІШЧА́ЦЬ, ПІШЧЭ́ЦЬ** *незак.* Вішчаць. *Свінёнък пішчыць цэ́лы дзень: зада́ча така́я.* Запруддзе. *Бу́дзіць стъяць кърба́н ды пішчэ́ць.* Гарадзец. *Ду́жа пішчэ́ў кудла́ты бабёр у калдо́бінцы.* Багданава.

**ПІ́ШЧЫК** *м.* Рагавы стрыжань пяра птушкі. *Як начына́юць ліня́ць ку́ры, уво́сень, пе́р'я высыпа́ецца, пішчыкі тады́ цвёрдыя.* Самсоны.

**ПЛА́ВАЦЬ** *незак.* 1. Плаваць. *Я ня ўме́ю пла́ваць: я, як ка́мень на дно, утаплю́ся.* Нямойта. 2. Трымацца на паверхні вады ці іншай вадкасці. *Све́чкі пла́ваюць – такі́ суп харо́шы.* Багданава.

**ПЛАДАВІ́ТЫ** *прым.* Пладавіты; які хутка размнажаецца, дае вялікае патомства. *Да сямі́ гадо́ў ма́тка плъдаві́тая, пато́м – бяспло́дная.* Вялікі Азярэцк.

**ПЛА́ЖМА** *прысл.* Плоска, роўна. *Каб пла́жма було́, ро́ўна, склюды бра́лі да рабо́ты.* Нямойта.

**ПЛА́КАЦЬ** *незак.* Плакаць. *Ма́ма ста́ла пла́къць, што къня укра́лі.* Міцюкова. *Старычкі́ пла́калі, што ўсё аддалі́ ў калхо́з.* Алексінічы, Гарадзец, Гарадок, Каралевічы, Нямойта, Рэчкі, Чуцькі.

**ПЛА́КСА** *агульн.* Плакса, крыкун. *Пла́кса – пла́чыць, мно́га крычыць.* Міцюкова.

**ПЛАКСІ́ВЫ** *прым.* Плаксівы. *Сон-трава́ – э́та трава́ така́я ё, дзіця́м дава́лі, як дзіцёнак дрэ́нны, плаксі́вы, дык нато́пяць і дава́лі.* Гарадзец.

**ПЛАНЕ́ТА** *ж.* Лёс, прадвызначэнне. *У судзьбе́ ёсць твая́ плане́та, смартра́, у які́ дзень наро́дзішся.* Каралевічы.

**ПЛА́НКА** *ж.* Дошчачка (пры снаванні). *Пла́нкі зва́ліся, што гу́бкі снува́ць.* Закур'е.

**ПЛАСКАГУ́БЦЫ** *толькі мн.* Пласкагубцы, абцугі. *Пласкагу́бцы – што-ліба паддзе́ржываць: шчыпцы́ – во́стрыя, а пласкагу́бцы – пло́скія.* Запруддзе.

**ПЛАСКАННІ́** *мн.* Мужчынскія калівы канапель; маніцы. *Плъсканні дзелі пянькі се́ілі – вяро́ўкі вілі.* Каралі.

**ПЛАСКАНЦЫ́, ПЛАСКО́НЦЫ** *толькі мн.* Пласкагубцы. Гарадзец.

**ПЛАСКО́ННЕ** *н. зб.* Канаплянае валакно. *С пласко́ння – ска́церкі красі́выя.* Дуброўкі.

**ПЛАСТ** *м.* 1. Пласт (сена, саломы). *Пласт се́на здзе́лъць гръблямі, пъджа́ць руко́й – і панёс. По́слі вайны́ пласта́мі салямя́нымі кры́шы кры́лі: кулёў ні было́.* Леснікова, Багданава, Гарадзец, Нямойта. *С пласто́ў у ко́пны се́на.* Розмыслава.

ПЛАСТО́К *памянш. Вазьму́ пласто́к се́на і ні магу́ пъдня́ць.* Кішуроўшчына. 2. Мера вагі, роўная пуду. *Пласты́ тры – тры пуды́.* Багданава.

**ПЛАСТАВА́ЦЬ** *незак.* Накладваць пластамі. *Там ён пласту́іць і завярша́іць стох.* Леснікова.

**ПЛА́СТАМ** *прысл.* Пра вельмі густое, шчыльнае размяшчэнне чаго-н. *Гляджу́, у са́жалцы пла́стъм стаіць ры́ба.* Сянно.

**ПЛАСЦЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш плоскі. *Начо́ўкі – пласце́йшыя, пло́скія такія.* Міцюкова.

**ПЛАСЦІ́ЦЬ** *незак.* Збіваць сена ў пласты. *Се́на загро́п, а тады́ спласці́ў, цяпе́р ня пло́сцюць.* Фасаўшчына. *Пласці́ць, як на воз се́на* [складваюць]. Нямойта.

**ПЛА́ТА** *ж.* Плата. *Пуска́лі нучува́ць, а пла́ты ні бра́лі.* Міцюкова. *Пла́та не́йкая была́, а к пра́зніку – дарма́.* Каралевічы, Нямойта.

**ПЛАТВА́** *ж.* Плотка. *Цяпе́р, мо́жа, плътва́ харашо́ бярэ́цца.* Багданава.

**ПЛАТВЕ́ЙНЫ** *прым.* Прызначаны для лоўлі плоткі. Багданава.

**ПЛАТО́К** *м.* Хустка. *Да́жэ плътка́ ні было́.* Фасаўшчына. *Плато́к бярэ́ш, мы́ла, руба́шку, штаны́, чулкі́ і пашо́ў* [у лазню]. Багданава.

**ПЛАЎ** *м.* Зыбкі дзірван на возеры. *Ра́ншы плавы́ бы́лі на рэ́чкі.* Багданава.

**ПЛА́ЎКІ** *прым.* Пакаты. *Была́ пла́ўкъя стръха́ у хле́ві.* Гарадзец.

**ПЛА́ХА** *ж.* Рабочая частка сахі. *Тут – пла́ха, там – лімяшы́ сядзе́лі, а тады́ – во́бжы.* Фасаўшчына.

**ПЛАХІ́** *прым.* Слабы, бяссільны, дрэнны. Багданава. ПЛАШЭ́НЬКІ, ПЛО́ШАНЬКІ *эмац.-ацэн.* Вельмі кепскі. *Плашэ́нькія пъръся́ты: двое́ здо́хла.* Баравікі. *Калі́ ду́жа пло́шанькі парасёнак, то ме́ні даду́ць гро́шай.* Чуцькі.

**ПЛАЦЕ́ЙНЫ** *прым.* Прызначаны для лоўлі платвы. *Плаце́йная се́тка.* Багданава.

**ПЛАЦІ́НА** *ж.* Плаціна. *Плаці́на – гэ́та іхняя бабры́ная ха́та.* Багданава.

**ПЛАЦІ́ЦЦА** *незак.* Плаціць. *До́рага пло́ціцца, цяпе́р усё пъдаражэ́ла.* Багданава.

**ПЛАЦІ́ЦЬ** *незак.* Тое ж. *За бу́льбу плъці́лі хъзя́іну.* Міцюкова. *Па рублю́ ў дзень плаці́лі.* Сукрэмна, Багданава, Закур'е.

**ПЛА́ЦЦЕ**, **ПЛА́ЦЦЯ**, **ПЛА́ЦЬЕ** *н.* 1. Сукенка. *Як сябе́ у пла́цці ў цвіта́х прысні́ш – пло́ха, у бе́лым – харашо́* (павер'е). Каралевічы. *За шча́віль пла́цця купі́ла сабе́.* Каралевічы. 2. *зб.* Бялізна. *Пла́цце мы́лі пра́нікам.* Фасаўшчына. *Пра́ннікамі п'е́рыш пла́цця.* Багданава. *Пайду́ пла́цця памы́ю на кла́ткі.* Гарадок. *Пра́нікам пе́рым пла́цье.* Заазер'е. ПЛА́ЦІЙКА, ПЛАЦЁНКА *эмац.-ацэн. Два пла́ційкі было́, а з е́тым і зъйшла́.* Неўгадава. *Плацёнкі дзяўча́тъм ш'е́ць.* Гарадзец.

**ПЛАЧ** *м.* Плач. *Ён тут і даў у плач, паску́да!* Нямойта. *А я як дам у плач!* Багданава.

**ПЛА́ШКА** *ж.* Плашка. *Нарэ́залі ле́су пла́шкамі, абста́вілі бакі́, каб зімля́ у зімля́нцы ні апсыпа́лася.* Леснікова.

**ПЛАШЧАНІ́ЦА** *ж.* Пакрывала ў выглядзе кавалка палатна з адлюстраваннем цела Хрыста ў труне (выкарыстоўваецца ў асобных відах царкоўнай службы); плашчаніца. *Плашчані́цу у пя́тніцу пало́жаць, яна́ ляжы́ць да Па́скі, лю́дзі кладу́ць на э́ту плашчані́цу во́ўну, ма́сла, што ў каго́ ёсь* (звычай). Буй.

**ПЛЕН** *м.* Палон. *Свой ма́лец прыйшо́ў с пле́ну, і пайшла́ за яго́* [замуж]. Кляпчэва.

**ПЛЕ́СІНЬ** *ж.* Плесня, цвіль. *Пле́сінь на хле́бі, пле́сінь быва́іць і на зярне́.* Фасаўшчына. *Як пле́сінь абразава́лася ў дзе́жцы – сплёшчаш.* Міцюкова, Багданава.

**ПЛЕСНЕВА́ТЫ** *прым.* Пакрыты плесняй. *Я плесневáты éла хлеп.* Жохава.

**ПЛЕ́СНІЦЬ** *незак.* Плеснець, пакрывацца плесняй. *Гэ́та пъ бъкáм, пъсрадзí сéна плéсніць.* Вялікі Азярэцк. *Плéсніць, кóстачкі ілчáюць.* Багданава.

**ПЛЕ́СЦІ** *незак.* 1. Віць. *Вянóк плятýць і с пéснямі ідýць к хъзя́іну, ён і плóціць за вянóк* (звычай). Рассвет. 2. Вырабляць плеценыя рэчы (кошыкі). *Карзíны сáмі плялí із лазы́, а цяпéр с прóвалкі плятýць.* Запруддзе, Кляпчэва, Марозаўка, Партызаны. 3. Вязаць. *Плялí с шэ́рсці пъясы́.* Заазер'е. 4. Ствараць соты (пра пчол). *Рáньшы ліжакí былí вы́дзеўбаныя, а пчóлы сáмі плятýць там.* Нямойта. 5. *перан.* Пляткарыць, гаварыць глупства. *Събярýцца і плятýць плёткі.* Запруддзе, Заазер'е.

**ПЛЕ́ТЫ** *дзеепрым.* Сплецены. *У плéтой карзíне дáўнішнъя скараспéлка.* Нямойта.

**ПЛЕ́ЎКА** *ж.* 1. Пенка. *Плéўка на малацэ́, як атстóіш, тапíць ягó нáда.* Заазер'е. 2. Тонкая скурка, перапонка ў жывым арганізме. *У апёнък ёсць плéўка на нóшцы.* Нямойта. *Вы́піў націрáнне, так стáла ірвáць, аш жалýдачныя плéўкі пашлí.* Партызаны.

**ПЛЕ́ЧКА** *н.* Унутраная паверхня ручкі ў касе. *Плéчкі зъймáюць кассё.* Леснікова.

**ПЛЕШ** *м.* 1. Лысіна. *Дзе што дзéлъся, дзе плеш быў – въласы́ пъраслí пасля залатýхі.* Нямойта. 2. Агрэх на засеяным полі. *Калí сéюць урушнýю з лýпкі, другí* [сявец] *ідзéць слéдам і тóркаіць, кап пляшóў ні былó.* Дольдзева.

**ПЛЕ́ШКА** *ж.* Верхняя плоская частка цвіка; плешка. *Éтым глáзам – на гвоздзь, дык дóбра, што плéшка былá.* Багданава.

**ПЛЕ́ШЧЫЦЬ** *незак.* Страляць з грукатам. *Арцілéрыя плéшчыць.* Вялікі Азярэцк.

**ПЛЁНКА** *ж.* Тонкая, празрыстая, бясколерная матэрыя сінтэтычнага паходжання. *Навóз расця́гваеш на плёнцы.* Савінічы.

**ПЛЁТКА** *ж.* Сплеценыя канцы асновы красён пасля датыкання. *Знімáіш з плáнък крóсны ў плётку.* Закур'е. ПЛЁТАЧКА *памянш.* Тое, што сваім знешнім выглядам нагадвае сплецены выраб. *Гарадзілі плётачкай, адзíн за адзíн сук – паркáн называ́іцца.* Каралі.

**ПЛЁТНІЧАЦЬ** *незак.* Пляткарыць. *Плётнічаць – плёткі развóдзіць.* Фасаўшчына.

**ПЛЁХ** *выкл.* 1. Плюхнуць, укінуць. *Бáбу – плёх у вадý!* Жохава. 2. Плюнуць. *Плёх сярóд хáты – харкане́, і атóпкам разатрэ́ць.* Ракаў Засценак.

**ПЛІ́НУЦЬ** *зак.* Хлынуць, лінуць. *Як плíнула з яé кроў.* Цясішча.

**ПЛІСІ́ЦА** *ж.* Пліска (птушка). *Плісíца па пóлю лётаіць.* Гарадзец.

**ПЛІ́СКА** *ж.* Тое ж. *Плíска ў балóці вóдзіцца.* Багданава.

**ПЛІ́ТЫ** *мн.* Пра вельмі густое, шчыльнае размяшчэнне чаго-н. *Бэ́ры плíтъмі раслí.* Пожанькі.

**ПЛІ́ХНУЦЬ** *зак.* Плюхнуць, наліць. *Плíхніць свíнням якéя лабуды́.* Каралевічы.

**ПЛІЦЯ́НАЧКА** *ж. ласк.* Бутэлька з аплёткай. *Вінó давáлі у пліця́начках, з рýчкай.* Багданава.

**ПЛО́ДЗІЦЦА** *незак.* Нараджацца. *Русáлкі плóдзіліся: з зямлí ш ня вóзьміш.* Гарадзец.

**ПЛО́СКІ** *прым.* Плоскі. *Як плóскія стýпні, то цяжóл нъ хадý.* Нямойта.

**ПЛОТ** *м.* Агароджа. *П'я́ныя, як цапы́, пат плóтам ляжáць.* Багданава.

**ПЛО́ТКА** *ж.* 1. Плотка; назва некалькіх відаў невялікіх рыб з выцягнутым плоскім целам. *Плóтка – óбшчъя назвáнія.* Багданава. *Éздзюць рыбакí, вóзюць*

*плóтку.* Багданава. *Ёсь кръснапёрка, мы яé назывáем плóтка.* Алексінічы. *Плóтка – сáма паслéднъя рыбіна: бізукýснъя, крýглъя, гъркáва ў гóлуві.* Сянно. ПЛÓТАЧКА *памянш.-ласк. Плóтъчка глáдзінькая.* Заазер'е.

**ПЛÓТНА** *прысл.* Шчыльна. *Рукóй піхáлі, каб ён плóтна ліжáў.* Багданава.

**ПЛÓТНІК** *м.* Цясляр. *Éслі плóтнічаіць, назывáюць плóтнік.* Нямойта. *Ён плóтнікъм стаў. А бáцька ўпéрад не давáў ямý дóскі пóрціць.* Багданава.

**ПЛÓТНЫ** *прым.* 1. Тоўсты (пра палатно). *Палатнó качáіш, кап янó сліскае былó, кап янó плóтнае былó.* Багданава. 2. Добра складзены, здаровы. *Пóўненькі быў, плóтны мáлец.* Партызаны. *Сыны маé плóтныя.* Ракаў Засценак.

**ПЛÓХА** *прысл.* Дрэнна, кепска (пра стан здароўя, самаадчуванне). *Ну, а тады мне плóха стáла, пад вéчар.* Заазер'е. *Мне на ядý плóха.* Кляпчэва, Закур'е.

**ПЛЎТАНІЦА** *ж.* Блытаніна, складанасці. *У Óршы мнóга плýтаніцы, пірасядак.* Партызаны.

**ПЛЎТАЦЦА** *незак.* 1. Блытацца, заблытвацца (пра ніткі і пад.). *Плýтаюцца ніткі.* Гарадзец. 2. Даглядаць, вырошчваць. *Сáмі мы ня мóжым плýтацца за свіннямі.* Гарадок.

**ПЛУХ** *м.* Плуг. *Пат плух сéялі, боб пасéюць лáнны кусóк.* Вялікі Азярэцк. *І плух пъкъзáў, і касý наўчыў кляпáць.* Багданава.

**ПЛЫСЦЬ** *незак.* 1. Плыць (на плыце і пад.). *У нас раká Лýкъмка, нáда пъглядзéць, куды плысць, а то пупадзéш на бук.* Закур'е. 2. Сплываць, выкіпаць. *Суп плывéць, кіпіць!* Вялікі Азярэцк. *Малакó вáрыцца, плывéць, а янá і не патхóдзіць.* Каралевічы.

**ПЛЫТ** *м.* Плыт. *Плыў нъ плыцé.* Фасаўшчына.

**ПЛЫЦІЦЬ, ПЛÓЦІЦЬ** *незак.* Звязваць бярвёны ў плыт для сплаву па рацэ. *Плóцюць лес. Рáньшы лес плыцілі, то віткі круцілі.* Алексінічы.

**ПЛЮНУЦЬ** *зак.* ◊ І СПАСІБА НЕ СКАЗАЎ, І НА РУКУ НЕ ПЛЮНУЎ. Пра няпэўныя, нявызначаныя паводзіны каго-н. Партызаны.

**ПЛЮСКІ** *толькі мн.* ◊ У ПЛЮСКІ. Моцна заціснуць. *Так ягó ў плюскі – між машынамі – трос знімáў.* Савінічы.

**ПЛЮХНУЦЬ** *зак. экспр.* 1. Кінуць. *Пашлі на éльніцу, плюхнулі ствол – ён страляў.* Нямойта. 2. Лінуць. *Калі і плюхнеш мълакá къбáнчыку.* Сукрэмна.

**ПЛЮШАЎКА** *ж.* Плюшавы жакет. *Плюшаўку з дварá яшчэ прынясла.* Міцюкова.

**ПЛЮШКІ** *мн.* Перамёрзлая бульба, якая перазімавала на полі. *Вяснóй плюшкі къпáлі, яны ш былі – адзін кръхмáл.* Міцюкова.

**ПЛЮШÓВЫ** *прым.* Плюшавы. *Скáцірць у мінé тут плюшóвая.* Заазер'е.

**ПЛЯВЎШЫНА** *ж.* Аплявуха, поўха. *Падышлá, плявýшыны тры загрэла.* Нямойта.

**ПЛЯМА** *ж.* Пляма, след ад захворвання. *Плямa ад вóспы.* Гарадзец.

**ПЛЯМÉННІК, ПЛІМЯННІК** *м.* Пляменнік. *Кóжна рáння ка мне пляменнік захóдзіць.* Вялікі Азярэцк. *Мой пляменнік прывёс дроў.* Чуцькі, Баравікі, Запруддзе, Рэчкі, Дуброўкі. *Плімяннік мой два мéсяцы пугуляў і жаніўся.* Леснікі. ПЛЯМÉННІЧАК *змац.-ацэн. Пляменнічак дурны, што з ім гъварыць.* Міцюкова.

**ПЛЯМÉННІЦА, ПЛІМÉННІЦА** *ж.* Пляменніца. *Эта мая пляменніца прышлá.* Кішуроўшчына. *Ягóнъя пляменніца – біз дзяцéй.* Неўгадава, Багданава, Гарадзец. *Пліменніца прыхóдзіць къ мне, пъмъгáіць.* Рулёўшчына.

**ПЛЯСА́ЦЬ** *незак.* Танцаваць. *І пяюць, і пляшуць – і хоць ты што.* Самсоны.

**ПЛЯСНІ́ВЫ** *прым.* Шэры, пакрыты чырвонымі плямачкамі. *Плясні́вы конь – шэ́ры ў чуць кра́снінькія я́блычкі, блі́шчыць, пераліва́ецца.* Міцюкова. *Плясні́выя ко́ні – се́рыя ко́ні, а па йіх чуць кра́снінькія кро́пкі.* Нямойта.

**ПЛЯСЦІ́СЯ** *незак.* Далучацца адно да аднаго, звязвацца (пра песні, словы і пад.). *Як пяе́ш, тады́ адно́ з адны́м пляце́цца.* Партызаны.

**ПЛЯЦЕ́НЬ** *м.* Пляцень, агароджа. *Пляце́нь пераплі́таў лазо́й, шчы́тна зъплі́таў – ні ку́рыца, ніхто́ ні пераля́зіць.* Фасаўшчына. *Набіва́юць такія ко́лышкі ў зе́млю, а пато́м абы́чным хваро́сцем заплі́та́юць, ну, як карзі́ну плятýць. Э́та – пляце́нь.* Нямойта, Багданава, Вялікі Азярэцк, Леснікі, Марозаўка.

**ПЛЯЦЁНКА, ПЛІЦЁНКА** *ж.* 1. Пляцёнка, звязка цыбулі. *Сам навіза́ў цыбу́лю у пліцёнкі.* Жохава. *Як вы́сахне пе́р'е* [цыбулі], *вя́жацца цыбу́ля на ву́зел – гэ́та пляцёнка.* Розмыслава. 2. Кросны, сплеценыя ў ланцужок. *Наснýюць кро́сны, а тады́ ў пляцёнку плятýць.* Вялікі Азярэцк.

**ПЛЯЦЁНЫ** *дзеепрым.* Сплецены. *Лу́пка – е́та пляцёная сало́ма.* Дольдзева.

**ПЛЯЧО́** *н.*, **ПЛЕ́ЧЫ** *мн.* 1. Плячо. *Во, і сянні зъбале́ла плячо́.* Чуцькі. *У плячэ́ рука́ балі́ць, ноч ні сплю.* Пожанькі, Савінічы. 2. *толькі мн.* Частка тулава ад шыі да пояса. *По́сле вайны́ на пле́чы не было́ што надзе́ць.* Закур'е. 3. Частка тулава каня вакол шыі. *Хамýт на́да надзе́ць каню́ на пле́чы, змýліў хамýт каню́ пле́чы – дрэ́нны хамýт.* Гарадзец. 4. Частка стула. *Шэсць стуло́ў было́, то́лькі с плі́ча́мі, ко́жай апшы́ты.* Леснікова. ◊ НА СВАІ́Х ПЛЯЧА́Х. Самастойна, без дапамогі. *Усё на сваі́х плячах: і ара́лі, і касі́лі, і се́ялі.* Буй. ◊ ПЛЯЧО́ Ў ПЛЯЧО́. Дружна, адзін за адным. *Касі́ць хадзі́лі плячо́ ў плячо́.* Буй. ◊ ПАЦІ́СНУЦЬ ПЛІЧА́МІ. Пра няпэўную рэакцыю на што-н. *Лю́дзі то́лькі паці́снулі плі́ча́мі, што ён забараніў клéвір стугува́ць.* Пожанькі.

**ПЛЯ́ШКА** *ж.* Бутэлька. *Пля́шка – е́та буты́лка, нясі пля́шку з гарэ́лкай.* Нямойта.

**ПО́БАЧ** *прысл.* 1. Блізка, па суседстве. *Во по́бач дзярэ́ўня Клі́мавічы.* Чуцькі. 2. Міма, бокам. *Хма́ра пъшла́ по́бъч – до́жджу ня бу́дзіць.* Запруддзе.

**ПО́ВАД** *м.* Наглядчык. *Быў за павадо́м: хоць курэ́й зго́ніць.* Запруддзе.

**ПО́ВАД** *м.* 1. Прыклад для пераймання. *Жыві́, не бяры́ з ба́цькі по́вад, не ідзі́ пъ яго́ тръпе́.* Жохава. 2. Мелодыя, тон. *За гато́вым по́вадам – падцягнý тро́ху* [песню]. Нямойта.

**ПО́ВІРАК, ПАВІРА́К** *м.* Спіца для падплятання лапцей. *По́вірак с ко́сткі, ла́пці патплята́ць.* Нямойта. *Паві́ра́к зрэ́заны наіскась с аве́чай нагі́, ла́пці патплі́та́ць.* Жохава, Нямойта, Савінічы.

**ПО́ГРАБ, ПО́ГРАП** *м.* Пограб, склеп. *У по́граб схава́ліся ад бацько́ў.* Дуброўкі. *Дзе́лалі по́грап, склеп, път ха́тай, е́слі фунда́мент пъзваля́ў.* Гарадзец, Буй, Каралі, Розмыслава, Серкуці, Закур'е.

**ПО́ДАК** *м.* Падол. *На́да назбіра́ць у по́дак шчэ́пак, го́лы, бо́сы тры разы́ абе́гці кругóм ха́ты – бу́дзеш нахо́дзіць птушы́ныя гнёзды* (павер'е). Багданава.

**ПО́ДАЎНА** *прысл.* Даўно. *Дзед Аўхі́м і старýха по́даўна памёрлі.* Баравікі.

**ПО́ДВІЗЬ** *ж.* Вяроўка, якой прывязаюць свойскую жывёлу. *На по́двізі стая́ла каро́ўка.* Фасаўшчына.

**ПО́ДПІСЬ** *ж.* Подпіс. *Бо́льшэ тры́ста падпісе́й сабра́лі.* Парэчча.

**ПО́ДРУБ** *м.* Першы вянок зруба. *Ка́мні лажы́ў мой хъзя́ін, а на ка́мні – по́друб.* Латыгаль, Партызаны. *По́друб даю́ць, е́слі ха́та гніе́ць зні́зу, гніло́е выбра́сываюць, но́вае пъдстаўля́юць.* Запруддзе.

**ПО́ЖНЯ** *ж.* 1. Сенажаць. *По́жню сваю́ ні́як ні скашу́.* Савінічы. *Ну й да́лі по́жню – адзі́н звані́ц!* Гарадок. *Лі калотца по́жня, да́лі зъ цялёнка.* Баравікі, Вялікі Азярэцк, Каралі, Нямойта, Самсоны, Сянно, Цясішча, Чуцькі, Закур'е, Неўгадава. ПО́ЖАНЬКА *памянш.-ласк. Во, даду́ць яку́ю по́жаньку скасі́ць, так яны́ сабяру́цца.* Заазер'е. *На по́жъньках лён сла́лі.* Карпавічы, Турава. 2. Лясная дзялянка, парослая мохам. *Ба́бъчкі па сі́ніх по́жнях расту́ць, дзе мшок ёсь.* Галашчакіна.

**ПО́ЗНА** *прысл.* Позна, вечарам. *Дзве жанчы́ны с Сянна́ ішлі́ дамо́ў по́зна.* Багданава.

**ПО́ЗНІ, ПАЗНЫ́** *прым.* Які позна расце. *Радо́укі – по́зні грып, асе́нні.* Серкуці, Заазер'е. *Гэ́та пазнэ́я грыбы́.* Вялікі Азярэцк.

**ПО́ЙЛА** *н.* Пойла. *Я ў по́йла хле́бнъя мукі́ сы́плю.* Неўгадава. ПО́ЙЛАЧКА *ласк. Рэ́дкага по́йлачка нава́рыш.* Кляпчэва.

**ПОЛ** *м.* 1. Насціл з дошак ад печы ўздоўж сцяны, дзе спалі; палаці. *Пол – е́та што спа́лі, пол быў ад пе́чы да сцяны́.* Гарадзец. *У нас дзяце́й мно́га было́, быў пол такі́ – насло́ны к пе́чы і к сцяне́, там папяро́к спа́лі.* Алексінічы, Багданава, Кляпчэва, Леснікова, Цясішча. 2. Падлога. *У Чы́сты чацве́р памы́ім палы́.* Багданава. *У гэ́тым до́ме пол быў з дасо́к.* Серкуці, Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Нямойта. 3. Склеп. *Карто́шка – пад по́лам, склеп заве́цца.* Міцюкова. *Свіння́ апарасі́лася і во ляжы́ць пад по́лам.* Багданава, Алексінічы, Латыгаль.

**ПО́ЛАЗ, ПО́ЛАС** *м.* Полаз. *На дны́м пълазу́ пяць капылоў у бальшы́х санёх дзе́лълі.* Гарадзец. *У са́нках по́лас е, капы́л, цяга, пярэ́дняя пла́нка.* Нямойта.

**ПОЛАТВЕ́ЧАР'Е** *н.* Сярэдзіна дня. *Полатве́чар'е было́, палаві́на дня, а уве́чары на́да было́ е́сці.* Багданава.

**ПО́ЛАЦКІ** *прым.* Які мае адносіны да горада Полацка. Вялікі Азярэцк.

**ПО́ЛЕ, ПО́ЛЯ** *н.* 1. Ворная зямля. *На́ша по́ле ту́тацькі.* Вялікі Азярэцк. *По́ля ёсьціка, харо́шая.* Гарадзец, Міцюкова, Чуцькі, Неўгадава. 2. Выпас. *У по́ле каро́ў выгъня́юць, як тръва́ ёсь.* Гарадзец. *Цялу́х, пъшла́ ў по́ля! Цялу́х, у по́ля!* Галашчакіна.

**ПО́ЛІК** *м.* Насціл з дошак ад печы ўздоўж сцяны, дзе спалі; палаці. *По́лік – кала пе́чы, там спяць.* Леснікова.

**ПО́ЛІЎКА** *ж.* Кіслая вадкая страва, падкалочаная мукой з закрасай. *По́ліўка – увалью́ць вады́, прытру́ць муко́й, прыкі́сляць смята́най, мя́са кусо́к укі́нуць, кмі́ну для за́паху.* Гарадзец. *Це́ста кълатоўкуй з пяці́ ражкоў разбіва́юць, і по́ліўка стано́віцца кудра́вінькъя.* Дольдзева. *По́ліўку ва́руць с сыва́раткі і прыціра́юць муко́й.* Карпавічы, Вялікі Азярэцк, Багданава, Буй, Дольдзева, Жохава, Заазер'е, Івоні, Леснікова, Нямойта, Партызаны. ПО́ЛІВАЧКА *ласк. По́лівъчкі зва́рыць з мъладзе́нічкімі пъдасі́нъвічкъмі.* Дольдзева. *З уну́транасцямі по́лівачку ва́раць.* Багданава.

**ПО́ЛКА** *ж.* Пялёнка. *На пялёнкі – по́лкі каза́лі.* Запруддзе. *Што нясу́ць на радзі́ны? Хто по́лкі які́я, ну, і заку́скі нясу́ць.* Заазер'е. ПО́ЛАЧКА *памянш.-ласк. У по́лачку увёртуець дзяцёнка.* Партызаны. *Як Ні́ну радзі́ла, яна́ ліжа́ла ў по́лачках.* Фасаўшчына, Багданава.

**ПО́ЛЫМНЯ**, **ПО́ЛЫННЯ**, **ПАЛЫ́ННЯ** *ж.* Полымя, агонь. *Пе́чка пъла́іць, гары́ць, перат по́лымню прыпячэ́ць мухамо́р, кладзе́ць, і до́хнуць му́хі.* Запруддзе. *На по́лынню патпячэ́ць мухамо́р, сміта́най абалье́ць, на акно́ пало́жыць, яны́* [мухі] *й до́хнуць, й до́хнуць.* Заазер'е. *Палы́ння бъльша́я пъла́іць у пе́чы.* Фасаўшчына.

**ПО́ЛЬКА** *ж.* Полька (танец). *По́льку у шэсць пар гуля́лі.* Закур'е. *Пашлі мы з ма́льцам по́льку гуля́ць.* Партызаны, Багданава. ○ ПО́ЛЬКА-БА́БАЧКА. Від полькі. *По́льку-ба́бачку цмы́халі.* Партызаны. ○ ГО́НКАЯ ПО́ЛЬКА. Тое ж. *Го́нкая по́лька – бува́ла, стаіць на ме́сцы* [хлопец], *а дзе́ўка круго́м яго́ лётаіць: тата́х-тата́х.* Багданава. ○ ПО́ЛЬКА-ТРАСУ́ХА. Тое ж. *По́лька-трасу́ха – гэ́та гуля́іш по́льку і трасе́сся на ме́сці.* Багданава. ○ ПО́ЛІЧКА-КРУТУ́ХА. Тое ж. *По́лічка-круту́ха была́: як крутане́ць – ляціш круго́м.* Багданава.

**ПО́МАЧ**, **ПО́МАШЧ** *ж.* 1. Садзейнічанне каму-н. у чым-н. *Узя́лі тры чалаве́кі для по́мачы.* Марозаўка. *А ў са́мам дзе́лі, ніхто́ ня спро́сіць: ці табе́ по́машч на́да ці не.* Леснікова, Апечкі, Багданава, Буй, Галашчакіна, Жохава, Нямойта, Партызаны. 2. Матэрыяльная падтрымка. *По́мъч з-зъ ба́цькі даюць.* Гарадок. *Тры́ста рублёў – яка́я е́та по́мач?!* Буй. 3. Садзейнічанне ў палягчэнні пакут. *Сталётнік прыкладаюць ат валасня́, а ці по́мач, ці не – няясна.* Ракаў Засценак. ◊ БОГ У ПО́МАЧ! Пажаданне, каб была паспяховай праца. Запруддзе.

**ПО́МНІЦЦА** *незак.* Памятацца, помніцца. *Не́шта мне ня по́мніцца.* Багданава.

**ПО́МНІЦЬ** *незак.* Памятаць. *Ба́цька памёр, сто гадо́ў, і ні по́мніць, калі́ э́ту царкву́ стро́ілі.* Буй. *Я по́мню, тады́ лучы́нка гарэ́ла.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Міцюкова, Самсоны.

**ПО́МСЛІВЫ** *прым.* Помслівы. *Дзед ду́жа по́мслівы.* Партызаны.

**ПО́МСТВА** *н.* Помслівасць. *Няма́ ге́тага – по́мства – у яго́.* Дольдзева.

**ПОП** *м.* Поп, праваслаўны святар. *Як пупа́ ўстрэ́ніш, ба́цюшку, – ніўда́ча бу́дзіць.* Ракаў Засценак. *Як хто памрэ́ць, пупа́ на́да зваць.* Фасаўшчына.

**ПО́ПАЎЗКАМ** *прысл.* Паўзком. *І я по́пъўзкам, а яны́ біга́ць за мной.* Багданава.

**ПО́ПЕЛ**, **ПО́ПІЛ**, **ПЕ́ПІЛ** *м.* Попел. *По́пел на гаро́т вы́сыпалі.* Станюкі. *По́пелу зъва́рвалі кіпятко́м і лу́гам адбе́львалі. Лух – тъка́я сліскъя въда́, бялле́ сціра́лі, гълаву́ мы́лі.* Нямойта. *Чыгу́н вады́, по́пілу туды́, закіпіць, і с по́пілам і сціра́лі: со́ды ні было́, да́йжа мы́ла тру́дна бы́ла купіць.* Багданава. *По́піл зава́рывалі і ў по́піл іх кла́лі, ты́я скуты́.* Баравікі. *Ці яны́ ваду́ яку́ю падліва́юць, ці яны́ пе́піл які́ сы́пюць, ну, не́шта ш яны́ дзе́лаюць.* Запруддзе.

**ПО́ПЕРАК** *прысл.* Упоперак. *По́перак гъня́юць баро́зны.* Запруддзе.

**ПО́РАЗНЬ** *прысл.* Паасобку. *Няве́стка харо́шая, як жыву́ць по́разнь.* Івоні.

**ПОРК** *выкл.* Рэзка пырнуць. *Я – порк па́лкай у вужа́ку і ўця́ка́ць.* Багданава.

**ПО́РКАЦЦА** *незак.* Корпацца, поркацца. *Ста́рая ба́ба, по́ркаіцца, калупа́іцца.* Галашчакіна.

**ПО́РХАЎКА** *ж.* Пра складзенае сена, салому, якое па форме нагадвае грыб порхаўку. *По́рхаўкай се́на ляжы́ць у ма́жы.* Дуброўкі.

**ПО́РЧАНЫ** *прым.* Сапсаваны. *Збыла́ по́рчаную ры́бу.* Івоні.

**ПО́СІК** *м.* 1. Мачавы пузыр. *Вы́карміш къбъна́, то́лькі по́сік – сабе́, а ўсё на́да разне́сці.* Нямойта. 2. Дзетародны член. *По́сік натру́ць казе́льцам, я́дры распу́хнуць – у а́рмію не йшлі: дзізерці́ры.* Чуцькі.

**ПО́СНА** *прысл.* Так, як у пост. *У пост жывём по́сна.* Запруддзе.

**ПО́СНІЦА** *ж.* Пост, час посту. *По́сніца была́, а я ішо́ў на фронт.* Партызаны. *По́мню, тады́ по́сніца была́.* Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ПО́СНЫ** *прым.* 1. Нішчымны. *Сялёдак е́лі, тарано́ў – усё по́снае.* Леснікова. 2. Нятлусты. *Ну, у сусе́да, як по́снъя мълако́, дык по́снъя, не́чым шча́віль забялі́ць.* Чуцькі. *Ні глыта́іцца, тако́я по́снъя* [мяса індыкоў]. Каралевічы. *Ума́ша гэ́тага су́пу нава́рыць, із гаро́хам, по́сны ён, але́ем запра́віць.* Заазер'е, Міцюкова, Ульянавічы. 3. Несалёны. *По́снае, нясо́лінае е́лі, со́лі не было́ салі́ць.* Цясішча. 4. *н.* Посная ежа. *Е́лі по́снае, а е́ту скаро́міну ня е́лі.* Багданава. *У пост на́да по́сноё е́сці.* Партызаны. *По́снаё есць не хацяць.* Закур'е. ○ ПО́СНАЕ МА́СЛА. Алей. *Льняно́е се́мя таўклі, ду́жа ўку́снае, па́хнець по́сным ма́слам.* Ракаў Засценак. ○ ПО́СНЫ ХЛЕБ. Хлеб з бездражджавога цеста. *Цяпе́р по́снъга хле́ба і праглыну́ць ні магу́.* Багданава. *По́сны хлеб палажы́ла ў тра́пачку.* Каралевічы. ○ ПО́СНЫ ІВА́Н. Прысвятак у народна-царкоўным календары. *А е́та бува́іць Іва́н-галаварэ́з, Іва́н по́сны. Е́та бува́іць ле́там, яко́га чысла́, ня по́мню.* Самсоны.

**ПО́СПА** *ж.* Пасыпка, мука з неачышчанага, няякаснага зерня, якую сыплюць у корм свойскай жывёле. *По́спа – пъміша́юць касцёр, дрэ́нную пшані́цу, ячме́нь, зме́люць і ко́рмнъму къбану́ усы́пюць.* Каралевічы. *Бу́льбу ні дава́лі ско́ту, а свінням мало́лі по́спу і кармі́лі.* Гарадок, Гарадзец, Каралі, Мянюцева, Нямойта.

**ПОСТ** *м.* Пост. *Пост усігда́ сем нядзе́ль: і перат Па́скай, і перат Къля́дамі.* Запруддзе. *Як пост – гра́ма ні дава́лі жы́рнага.* Цясішча, Багданава, Буй.

**ПО́СТАЦЬ, ПО́СТАСЬ** *ж.* 1. Палоска жыта або іншай збажыны, занятаяаднай жняёй у час жніва. *Ра́ньшы за по́стаць руга́ліся: «Ты на маю ста́ла* [постаць]». *Ціпе́р німа́ по́стацей, машы́намі жнуць.* Марозаўка. *О, твая́ по́стаць ме́ншая, мая́ шырай.* Розмыслава. *Як апхо́дзіць по́стаць, завя́зваеш ку́клу. Як хо́дзіш, по́стась займе́ш жаць.* Гарадзец. 2. Дзялка лёну. *Як лён браць, заве́цца по́стаць.* Каралі. *По́стаць лёну ра́ньшы атвадзілі, со́так дзе́сяць, пітна́ццаць, два́ццаць, як атвядзе́ш сам сабе́. А ў мяне́ ужо́ яшчэ́ по́стаць лёну бъльша́я была́, дык ён пъмагаў мне.* Заазер'е. *Ма́ма, я пайду́ по́стаць тваю лёну дабра́ць.* Партызаны.

**ПО́СЦІЛКА** *ж.* Посцілка, коўдра. *По́сцілкі сістра́ мне прысыла́ла.* Апечкі.

**ПО́СЦІЛЬ** *ж.* Тое, што можна падаслаць свойскай жывёле; подсціл. *По́сцілі у мяне́ ішчо́ ёсць.* Івоні.

**ПОТ** *м.* Пот. *Пот іллецъ, устаю, перадзяюся.* Партызаны.

**ПОТ** *м.* Под (у печы). *Пот – у пе́чы: чыгуны́ ста́вяць, гаршчкі́.* Леснікова. *На пот гаршкі́ ста́вім.* Леснікова. *На пот са́дзіш хлеп і пячэ́ш.* Чуцькі. *Дзёртую ба́бку запра́віш са́лам, на пот паста́віш і ло́жкаю кладзе́ш у міску.* Міцюкова, Багданава, Гарадзец, Заазер'е, Каралі, Фасаўшчына, Дуброўкі.

**ПО́ТНЫ** *прым.* Перагрэты (пра каня). *Ні на́да по́тнага паіць каня́, паку́ль ахладзі́цца, атдыхне́ць.* Гарадзец.

**ПО́ТСЦІЛКА** *ж.* Тое, што можна падаслаць свойскай жывёле; подсціл. *Шу́му вы́трасіш, е́та ужо́ на по́тсцілку.* Нямойта.

**ПО́ТСЦІЛЬ** *ж.* Тое ж. *Апі́лък на по́тсціль каро́ві прывёс.* Гарадок.

**ПОЎВІДРА́** *н.* Паўвядра. *Поўвідра́ вады́ ні магу́ прыне́сці.* Нямойта.

**ПО́ЎДЗЕНЬ** *м.* Поўдзень, сярэдзіна дня. Багданава.

**ПО́ЎЗАЦЬ** *незак.* 1. Поўзаць, перамяшчацца. *Жукі-наво́знікі чо́рныя, то́ўстыя, по́ўзаюць па наво́зу, пра́ма сі́нія.* Запруддзе. *У гаро́дзі по́ўзаюць вужа́кі.* Партызаны. 2. Коўзацца, корпацца. *Сама́ на ж... по́ўзаю, квасо́лю палю́.* Апечкі.

**ПО́ЎНА** *прысл.* 1. Поўна, многа. *По́ўна яды́, а е́сці ня хо́чацца.* Нямойта. *Касць* [кажа], *у лясу́ лъма́чча по́ўна.* Запруддзе. *Грыбы́ ўжо ёсць, по́ўна!* Сукрэмна. *Апе́нак было́ по́ўна сёліта.* Неўгадава. *Пе́рвыя гады́ гулусува́лі – усяго́ было́ по́ўна, і танцу́лькі былі́.* Нямойта. *По́ўна наро́ду там было́.* Багданава. ПО́ЎНЕНЬКА *памянш.-ласк. Ра́ньшы ўсяго́ было́ по́ўненька.* Буй. *Па грыба́х пайшлі́, там ло́гава во́ўчыя касцёй по́ўненька.* Багданава. 2. Поўна, напоўнена да берагоў. *У намётку атдае́ш с хле́бам, тады́ атчыня́лі ку́біл, ці по́ўна ці няпо́ўна.* Багданава.

**ПО́ЎНАЕ** *н.* Поўня; поўная фаза месяца. *Бу́дзем пад по́ўнае біць къбана́, капу́сту крышы́ць.* Вялікі Азярэцк. *Маладзічко́м на́да біць свінню́, а по́ўным, ка́жуць, нільзя́. Маладзічко́м ня бу́дзіць чарве́й, а як по́ўным – бу́дзіць чарве́й* (павер'е). Запруддзе.

**ПО́ЎНЫ, ПО́ЛНЫЙ** *прым.* 1. Поўны, напоўнены. *Прыхаджу́ ў ха́ту, сало́мы по́ўна ха́та: мы сало́мы нанасілі й на сало́мі спа́лі.* Леснікова. 2. Перапоўнены. *А яблы́к по́ўны сад быў.* Неўгадава. ПО́ЎНЕНЬКІ *памянш.-ласк. Усе́ ву́ліцы былі́ по́ўненькі дамо́ў, цяпе́р выміра́юць лю́дзі.* Буй. 3. Увесь, цэлы. *По́лный дзень удваі́х.* Івоні. 4. Тоўсты, мажны. *По́ўны чалаве́к – бры́дкі чалаве́к.* Нямойта. ПО́ЎНЕНЬКІ *памянш.-ласк. Такі́ по́ўненькі, пло́тны ма́лец.* Партызаны.

**ПО́ЎПЛІЦА** *ж.* Металічная пята з воссю, жалезным шворанем, на якім круціцца верхні камень жорнаў. Яна рэгулюе, мяльчэй ці буйней малоць. *У жо́рнах по́ўпліца.* Міцюкова.

**ПОЎСЦЬ** *ж.* Валаскі па целе. *Поўсць па це́лі, калі́ нашні́цы, по́пілам смыва́іць.* Багданава.

**ПОЎЧА́СА** *м.* Палавіна гадзіны, трыццаць мінут. *На поўча́са часы́ іду́ць упяро́д ды упяро́д.* Нямойта.

**ПО́ХНУЦЬ** *незак.* Пухнуць, апухаць. *По́хнула рука́, по́хнула і апо́хла, як бірвяно́.* Партызаны. *Ужо́ по́хлі з го́ладу.* Міцюкова. *А но́гі цяпе́р у мяне́ по́хнуць, баля́ць.* Багданава. *Но́гі по́хлі ад го́ладу.* Серкуці. *Жыво́т стаў по́хнуць, і памёрла.* Розмыслава.

**ПО́ЦЯКІ** *мн.* Струменьчыкі поту. *По́цякі, ка́жуць, пацяклі́, пот.* Багданава.

**ПО́ЧВА** *ж.* Глеба, зямля. *Грачы́ха лю́біць пішча́ную по́чву.* Нямойта.

**ПО́ЯС, ПО́ІС** *м.* 1. Пояс, пасак. *Тка́лі такія шыро́каньківя пъясы́ і спавіва́лі.* Гарадзец. *По́іс с кута́самі – патпяра́зваліся, быва́ло.* Каралі. *Як по́іс пляце́ш, – прышы́еш, апкру́ціш с канцо́ў.* Леснікова, Заазер'е. 2. Папярочная перакладзіна, якая звязвае кроквы. *У нас кро́квы по́ясам звя́зываліся.* Фасаўшчына. *Пъсрадзі страпіла іду́ць пъясы́.* Багданава. *Цяпе́р казлы́ не стано́вяць, а страпі́лы, і по́яс там. Цяпе́р вя́жуць страпі́лы паясо́м.* Гарадзец.

**ПРА** *прыназ.* Пра, аб. *Пры́йдзець, абапрэ́цца аб згаро́ду – і ўсё пра Мала́хавіча.* Міцюкова. *Бу́ду раска́зъць пръ тълакно́.* Дольдзева.

**ПРАБАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Перахварэць. *Як прабале́ла, так і пастарэ́ла.* Запруддзе.

**ПРАБА́ЛІВАЦЬ** *незак.* Балець. *Наза́ўтра праба́ліваць гълава́ ста́ла, е́сці не хо́чацца.* Партызаны.

**ПРАБІРА́ЦЦА** *незак.* Выбіраць, рабіць выемку, паз. *Дзе́лълі ґонт са сі́ны* [з асіны], *у ём шпар пръбіра́іцца.* Багданава.

**ПРАБІТНЫ́** *прым.* Баявы, актыўны. *Яна́ ба́ба прабі́тная, усю́дъх до́йдзіць.* Міцюкова.

**ПРАБІ́ТЫ** *дзеепрым.* Прабіты. *Дзі́рка прабі́та.* Марозаўка.

**ПРАБІ́ЦЬ** *зак.* Прабіць, пракалоць. *Прабіла кóжу карóва карóве.* Гарадзец. *Прабіла бок карóва.* Рассвет.

**ПРАБО́Й** *м.* ◊ ПАЦУЛУВА́ЎШЫ Ў ПРАБО́Й. Не застаць нікога дома, пастаяць перад замкнёнымі дзвярыма. *Пацулувáўшы ў прабóй, я назáд.* Савінічы.

**ПРАБО́Й** *м.* Інструмент для прабівання, высякання дзірак; прабойнік. *Прабóй быў, дыркі прабівáлі, разганялі.* Жохава.

**ПРАБО́ЙКА** *ж.* Тое ж. *Прабóйкі дыркі прабівáць у жалéза.* Мянюцева.

**ПРАБО́ЙНІ** *мн.* Дзіркі, якія прабіваюцца прабойнікам. *Прабóйні прабівáюць, дзіркі у жалéзе.* Мянюцева.

**ПРАБУКСАВА́ЦЬ** *зак.* Прабуксаваць, забуксаваць. *Палі дрэ́нныя, трáктар прабуксýіць, і нічóга не зарóбіш.* Гарадзец.

**ПРАБЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Адбыць, праваяваць. *Ён прабы́ў сем гадóў на фрóнце.* Баравікі. 2. Пражыць. *Я прабы́ў шэ́йсят пяць гадóў, і не былó такóга ўрьджáя, як тады́ быў.* Фасаўшчына.

**ПРАВАЖА́ЦЦА** *незак.* Праважаць, праводзіць. *Пайшлá праважáцца.* Каралевічы.

**ПРАВАЖА́ЦЬ** *незак.* Суправаджаць. *Калі-нéбудзь ідзéш, і воўк прьважáіць.* Міцюкова. ◊ ПРАВАЖА́ЦЬ УМЕ́ЦЬ. Рабаваць, разбойнічаць, красці. *У Рубяжы́ былі людзі, што прьважáць умéлі.* Рубежніца.

**ПРАВА́ЛІНА** *ж.* Праваліна, упадзіна. *Тькáя раўчы́на, прьвáліна тькáя, з рóва крынічка цячэ́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Праваліцца. *Прьвáлісся* [у дрыгве] – *аж нідзé кьнцá німá.* Запруддзе. ◊ ПРАВАЛІ́СЯ ЯНО́ СКРОЗЬ ЗЯМЛІ́! Згінуць (у праклёнах). *Прьваліся янó скрозь зямлі, тькáя жы́зня!* (праклён). Міцюкова.

**ПРАВАЛЯ́ЦЬ** *зак.* Прагультайнічаць. *Нівáжна, кім бы ня бы́ў, абы́ ні прьвьлíў, хоць гліну ляпі, усякьв рабóта вáжньв.* Каралевічы.

**ПРАВА́РВАЦЦА** *незак.* Варыць некаторы час. *Капýсны ліст правáрваіцца, я мукý пад хлеб падсыпáю.* Самсоны.

**ПРАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Праварыць, крыху паварыць. *Правары́ў пячóнку, пуп, яéц, унýтр прыпрáвы – і тýшаная кýрыца ці вýтка. Як тýшылі, ў кацёл жыру дасі.* Буй.

**ПРАВЕ́СЦІ** *зак.* Прокласці. *Па дзярэ́ўні асфáльт гэ́ты правялі, машы́ны ёздзюць і кур дýшаць.* Вялікі Азярэцк.

**ПРА́ВІДНЫ** *прым.* Які спраўджваецца. *Ёсць прáвідныя пры́хьмьці* [прыкметы, звычаі]. Ракаў Засценак.

**ПРА́ВІЦЦА** *незак.* Сыцець, гладчэць. *О, як свінні прáвюцца ат крапівы.* Заазер'е.

**ПРА́ВІЦЬ** *незак.* Запраўляць алеем. *Кісéль прáвілі алéім.* Каралі.

**ПРА́ВІЦЬ** *незак.* Служыць, адпраўляць службу (у царкве). *Красіва там абéдню прáвілі.* Парэчча.

**ПРАВО́ДНІЦА** *ж.* Другі тыдзень пасля Вялікадня. *Правóдніца – правадзілі Пáсху. Нь правóдніцу нь клáдбішча йдуць.* Самсоны. *На правóдніцу ні рабóталі нічóга, прáзнувалі.* Багданава. *Пóслі Пáскі церас нядзéлю будзé правóдніца.* Нямойта. *Хаджý на правóдніцу: сабярóмся, пагавóрым, вячэ́раем, успамінáем.* Партызаны.

**ПРАВОДНЫ** *прым.* ○ ПРАВО́ДНАЕ ВАСКРАСЕ́ННЕ. Наступная нядзеля пасля Вялікадня. *Пóслі Пáскі да правóднага васкрасéння нільзя́ гарадзíць згарóды, а то ні бýдзя даждждóў* (павер'е). Карпавічы.

**ПРАВО́ЛЬНА** *прысл.* Прывольна, раздольна. *Раво́льна ім жыць там на ху́търы.* Гарадок.

**ПРАВЫ́** *мн.* ◊ НЕ Ў ПРАВА́Х. Быць не правым, памыляцца. *Вы ш ні ў пръва́х, Аксе́ньцевіч!* Сянно.

**ПРА́ВЫ** *прым.* Правы, процілеглы леваму. *Нагу́ пра́вую ўпяро́т і гувары́ць тры сло́вы.* Леснікова.

**ПРАГАВАРЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Прагаварыць, пераказаць. *Тры разы́ прагавары́ пад ве́чар: Святы́ Самсо́н, сасніся сон.* Каралевічы. *Во, гавару́, пръгъвары́ў, мо́жа сам сабе́ ссуро́чыў. Ні на́да было́ так пірат людзьмі́ каза́ць так.* Фасаўшчына. 2. Абмеркаваць, абгаварыць. *Дува́йця пръгаво́рым, што здзе́лъць.* Запруддзе.

**ПРАГА́КАЦЬ** *зак. экспр.* Парваць танцуючы. *Прага́каіш з лазы́ ла́пці.* Неўгадава.

**ПРАГАНЯ́ЦЬ** *незак. перан.* Запіваць што-н. *А чаго́ ш вы мълако́м ні пръганя́іці.* Нямойта.

**ПРАГАРА́ЦЬ** *незак.* Прагараць, станавіцца дзіравым. *А ра́ньшы по́дмаскі дзе́лалі: са́ла ў тра́пачку і́лі здор і ма́залі скаваро́ду, каб ні прагара́ла.* Дольдзева.

**ПРАГІНА́ЦЦА** *незак.* Прагінацца. *Стано́вяцца пат страпілы па ба́лкам паттпо́ры, штоп страпі́лы ні прагіна́лісі.* Нямойта.

**ПРАГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *зак.* 1. Празяваць, прапусціць. *Я во прагле́жу, а ты заб'е́шся.* Багданава. 2. Праглядзець, не выявіць захворвання. *Прагле́дзелі мяне́ ўрачы́.* Цясішча.

**ПРАГЛЫНУ́ЦЬ** *зак.* Праглынуць. *Саўсі́м нямо́жна было́ праглыну́ць. У рот укладу́ – ні магу́ праглыну́ць.* Нямойта.

**ПРАГНА́ЦЬ** *зак.* 1. Прагнаць, выгнаць. *Кап стары́я лю́дзі былі́, яны́ п усі́х з зямлі́ пръгна́лі. Ні рабо́таіць ніхто́ цяпе́р.* Гарадзец. 2. Зрабіць пракос. *Во так пъласу́ прaго́ніць.* Серкуці.

**ПРАГО́Н** *м.* 1. Агароджаны праход, дарога, па якой ганяюць кароў. *Прaго́н каро́вам – е́та пляце́нь заплітáлі, кап каро́вы ні шлі на пасе́вы. Прaго́н гаро́дзяць, каро́ў ганя́ць.* Нямойта. *У прaго́ні пъстъя́ла, аш ён ідзе́ць.* Рулёўшчына. 2. Частка агароджы паміж двума суседнімі слупамі; прасла. *Прaго́н е́та, а хто́ пра́сла ка́жыць.* Манголія. *Между сталбо́ў ге́та, гаво́рaць, прaго́н.* Гарадзец. *Тры прaго́ны згаро́ды вы́валілі.* Ульянавічы.

**ПРАГО́ННЫ** *прым.* ○ ПРАГО́ННАЕ БЯРНО́. Апошняе, верхняе бервяно зруба, на якое кладуцца бэлькі. *Прaго́ннае бярно́ – на ім ло́жацца ба́лькі.* Нямойта.

**ПРАГРАВА́ЦЦА** *незак.* Добра саграваццa. *Като́рыя лу́чча пръгръва́лісі, ты́я вы́вілісі* [пра куранят, качанят]. Каралевічы.

**ПРАГУ́ЛІНА** *ж.* Прагаліна; бязлесая прастора. *Прагу́ліна – німа́ ле́су. Дзе ні вырyба́та, так прагу́ліна, ле́су німа́.* Манголія.

**ПРАГУ́ЛКА** *ж.* Несур'ёзны занятак. *Прагу́лка, а не рабо́та ў ЛТП.* Нямойта.

**ПРАГЦІ́** *незак.* Прэгчы, пражыць. *Гаро́х праглі́ і вары́лі.* Каралевічы.

**ПРАГЦІ́СЯ** *незак.* Прэгчыся, пражыцца. *На скъваро́дзі пражэ́цца гаро́х.* Каралевічы.

**ПРАГЧЫ́СЯ** *незак.* Прагнуць, хацець. *Яе́ ду́шачка пражэ́цца гуля́ць.* Ульянавічы.

**ПРАДАВА́ЦЦА** *незак.* Прадавацца, прадаваць. *Там ха́та пръдае́цца, купі́лі ге́ту.* Вялікі Азярэцк. *Ёсь, прадаю́цца ха́ты.* Латыгаль.

**ПРАДАВА́ЦЬ** *незак.* Прадаваць. *І скот, і свіне́й прывазі́лі, пръдава́лі.* Багданава. *Скот пръдава́лі, каро́ў, свіне́й.* Дольдзева. *Ні прадава́й каро́ву!* Неўгадава.

**ПРАДА́ЖНЫ** *прым.* Прадажны, выстаўлены на продаж. *Есць прада́жныя карціны?* Каралевічы.

**ПРАДАЎГАВА́ТЫ, ПРАДУУЎГУВА́ТЫ** *прым.* Прадаўгаваты, падоўжаны. *Е́слі прадаўгава́тыя во́блакі – зернавы́я* [добрыя будуць], *як кру́глыя – картафля́ны год бу́дзіць, з пры́мессю – ураджа́йны по́ўнасцю* (прыкмета). Партызаны. *Хаму́т такі́ прадуу́ўгува́ты на вълá.* Гарадзец. ПРУДУУЎГУВА́ЦЕНЬКІ *памянш.-ласк. Як гарла́чыкі прудууўгува́ценькія, глаксін.* Міцюкова.

**ПРАДА́ЦЦА** *зак.* Прадацца, перайсці на бок ворага. *Пръда́цілі былі́, во, не́мцам пръда́лісь.* Леснікова.

**ПРАДА́ЦЬ** *зак.* Прадаць. *Се́ннінскі лес* [назва ўрочышча] *пръда́ў стъ́ршына́ хъхла́м, ён ужо́ атро́с. Пръдала́ цімафе́еўкі на паўтара́ рубля́ пуд.* Баравікі. *Пръда́ў мужука́м зямлю́.* Гарадзец.

**ПРА́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* 1. Прадзены, спрадзены. *Събра́ліся супружа́нкі – у су́пратні прышлі. Ляглі́ і заснулі. Праснуліся: як жа, ні пра́джана і дамо́ў ісці́?* Нямойта. 2. *н.* Зроблены з прадзіва. *Цяпе́р ніхто́ ні хо́чыць пра́джънага.* Нямойта.

**ПРАДЗЕ́Д, ПРА́ДЗІД** *м.* 1. Прадзед. *Як прадзе́д быў, не дъва́ў плахе́й вады́, ня быў чараўніко́м.* Парэчча. *Па дзе́ду і пра́дзіду заву́ць Адамёкі.* Сянно. 2. *мн.* Продкі. *А дзяды́ і пра́дзяды – усе́ тут.* Фасаўшчына.

**ПРАДЗЕ́ЛАВАЦЬ, ПРАДЗЕ́ЛЫВАЦЬ** *незак.* Выраблять, рабіць. *Усё раска-за́ла, як ён прадзе́лаваў. Прыбе́глі к дзе́ду ста́ршыя дзе́ці: аддзе́лай, ма́ці што прадзе́лываець, дзяцёнка кінала.* Запруддзе.

**ПРА́ДЗІВА** *н.* Прадзіва, пража. *Во якое пра́дзіва нупра́ла. Пакруціла на наскі́.* Запруддзе.

**ПРАДМЕ́Т** *м.* Прыкмета. *Німа́ на прадме́ці тако́га чалаве́ка. Мне буця́н нъ пръдме́ці: мужы́к памёр, а яна́ так і вяку́іць, адна́ ка́ждый год прыліта́іць і сядзі́ць.* Запруддзе.

□ *Не знай прадме́т, ня бу́дзіш знаць бед.* Каралевічы.

**ПРАДМЕ́ТА** *ж.* Прыкмета, знак. *Дурна́я пръдме́та.* Нямойта. *Э́та пръдме́ты для людзе́й, калі́ бу́сел з гнязда́ выкіда́іць яйцо́ ці рабёнка.* Запруддзе. *Па е́тых пръдме́тъх, то ка́жуць, што калі́ на пе́ршую Къляду́ мно́га зо́рък, то бу́дзіць арэ́хуў мно́га, а калі́ на другу́ю – то я́гът, а на трэ́ццію – то грыбо́ў.* Рудніца.

**ПРАДО́ННЯ** *н.* Бяздонне, бездань. *Там тако́я бало́та, тако́я прадо́ння, што, ка́жуць, там цэ́рква пратану́ла.* Чуцькі.

**ПРАДО́НЫ** *прым.* Прадзены, спрадзены. *Прапа́лі ніткі прадо́ные.* Запруддзе.

**ПРАДРА́ЦЬ** *зак.* Прадраць, зрабіць адтуліну. *Прышо́ў не́міц, узле́з нъ ха́ту, пръдра́ў кры́шу і стаў глядзе́ць пърціза́н, каб ні нъпа́лі.* Закур'е.

**ПРАДУМА́ННЕ** *н.* Прадуванне, прадзіманне (медыцынская працэдура). *Хадзіла на прадума́нне, нічо́га ні пъмагло́, ні чу́ю.* Станюкі.

**ПРАДУ́МЧЫВЫ** *прым.* Удумлівы, уніклівы. *Така́я ба́ба яна́ праду́мчывая.* Багданава.

**ПРАДЫ́ХАЦЬ** *зак.* Дыхнуць. *Каб ты не мог прады́хаць!* (праклён). Запруддзе.

**ПРАЕ́ЖЖЫ** *прым.* Праезны, праезджы. *Даро́га прае́жжъя.* Сянно.

**ПРАЕ́СЦІ** *зак.* ◊ ЗУ́БЫ ПРАЕ́Ў. Мае, набыў вялікі вопыт, навыкі ў чым-н.; майстар на што-н. *Ён на е́тым зу́бы прае́ў.* Ульянавічы.

**ПРАЕ́ХАЎШЫ** *дзеепрысл.* Праехаўшы. *Е́та туды́ да́льшы прае́хаўшы, там адна́ дра́хлая стару́шка.* Карпавічы.

**ПРАЕ́ХАЦЬ** *зак.* Праехаць, абмінуць. *Бало́та й не́ік пра́ехаць.* Закур'е.

**ПРА́ЖА** *ж.* Прадзіва, пража. *Пра́жа быва́е крута́я – су́кръткі і про́стая, як пло́ская, дык ро́уненькая ні́тка.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАЖА́РЫЦЬ** *зак.* Патрымаць у духу, у напаленым паветры (у лазні). *Былі́ шасты́ у ба́ні, кап бяллё пръжа́рыць.* Нямойта.

**ПРА́ЖКА** *ж.* Пражка. *Ты ж глядзі́ пра́жкай то́ка ня бі.* Заазер'е.

**ПРАЖО́РЛІВЫ** *прым.* Пражэрлівы, ненасытны. *Бро́йлер пражо́рлівы.* Буй. *А гу́сі е́тыя такі́я пражо́рлівыя, яны́, дзе жару́ць, і га́дзюць.* Самсоны. *Пражо́р-лівыя ву́ткі: травы́ ні набярэ́сся.* Станюкі.

**ПРАЖЫВА́ЦЬ** *незак.* 1. Пражываць, існаваць. *Каму́ дро́вы паб'е́ць, каму́ ко́сіць – так і пражыва́е.* Запруддзе. *Во так век і пражыва́ла, дзе́ткі.* Цясішча. 2. Жыць, мець сялібу. *Там Паўлю́к пражыва́ў, і цяпе́р Пуўлюко́ва по́ля.* Баравікі. 3. Знаходзіцца, жыць сумесна з кім-н. *Я ро́ждзіны ў Вялі́кім Сяле́, а пръжыва́ю ў Міцюко́ві, ў дачкі́.* Міцюкова.

**ПРАЖЫ́ЦЦА** *зак.* 1. Пражыць, прабыць некаторы час. *Ну, пражылі́ся, а па-то́м пашлі́ ў парціза́ны.* Серкуці. 2. Прыжыцца. *Із дзе́цьмі захаце́ла* [жыць] *іна́, і там пражыла́ся, у е́тым Мі́нску.* Багданава.

**ПРАЖЫЦЦЁ** *н.* ◊ НА ПРАЖЫЦЦЁ. Столькі, каб толькі пражыць. *Пе́нсія ма́лъя, то́лькі на пражыццё.* Чуцькі.

**ПРА́ЖЫЦЬ** *незак.* Пражыць, пячы, смажыць. *Мо́чаный боб пра́жылі у пе́чы, пу́хлый, аж со́пкій.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАЖЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Пражыць, праіснаваць. *Мно́га пражылі́ гадо́ў.* Багданава. *Пръжыла́ век – жы́зні до́брай ня ві́дзела.* Нямойта. *Пражыла́ дзевяно́сты чаты́ры го́ды.* Свечы. *Я пражыла́ с трыма́ мужука́мі.* Кішуроўшчына. 2. Перажыць, пера-быць. *Што пражылі́, то ўжо забы́лісі.* Вялікі Азярэцк. *Дзень пражыла́ і сла́ва бо́гу.* Цясішча. *Цяжо́лую пръжыла́ жысь.* Міцюкова.

**ПРАЖЭ́НІНА** *ж.* Страва з мукі, сала, яек; мачанка. *Пражэ́ніна – мукі́ пша-ні́чнай, са́ла і яйцо́ ўваб'е́ш, ръскало́чваюць і блі́ны мъка́юць.* Кішуроўшчына.

**ПРАЗ**, **ПРАС** *прыназ.* 1. Праз, цераз. *Праз двор пабе́гла.* Гарадзец. *Як дажы-на́юць жы́та, завя́звалі узяло́к, хле́ба тро́шачку укладу́ць, укру́чваюць круцё́лачкай і куля́юцца прас е́та.* Розмыслава. 2. З-за. *Праз е́та не ду́май гавары́ць.* Савінічы.

**ПРАЗДРА́ВІЦЬ** *зак.* Павіншаваць. *Праздра́вім яго́* [старшыню], *даду́ць нам дзе́ніх і апя́ць у нас кульма́ны.* Запруддзе.

**ПРАЗДРАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Віншаваць. *Праздраўля́лі да́йжа Пятра́ і Па́ўла* [на народна-рэлігійнае свята]. Івоні. *Тацця́нін дзень быў, праздраўля́лі яе́.* Нямойта.

**ПРА́ЗНАВАЦЬ** *незак.* Адносіцца з павагай, прыслухоўвацца да меркаванняў каго-н. *А во ніко́га ён ні пра́знуіць, што хо́чыць, то й ро́біць.* Багданава. *І цяпе́р яна́ мяне́ ду́жа ні пра́знуіць.* Леснікі.

**ПРА́ЗНАВАЦЬ** *незак.* Святкаваць. *У людзе́й тры дні пра́знуюць Купа́лу.* Запруддзе.

**ПРА́ЗНІК** *м.* Свята. *А е́тых пра́знікаў мно́га.* Самсоны. *Вясно́ўскіх пра́знічкаў даждалі́.* Багданава. ПРА́ЗНІЧАК *ласк.* Багданава.

**ПРАЙГРА́ЦЬ** *зак.* Прайграць, страціць. *Прайгра́іць ён, е́слі так бу́дзіць дзе́-лъць.* Нямойта.

**ПРАЙЦІ́** *зак.* 1. Прайсці. *Тут то́пка па раву́, прайці́ не́льга.* Розмыслава. 2. Праехаць, перамясціцца. *Канём ідзе́ш і вя́знеш во так. А цяпе́р, як про́йдзіць*

*этыя сто пяцідзесятыя і сямісотыя* [трактары], *дык ідзёш пъ пахъці лучча, як па пълу.* Фасаўшчына. 3. Прааараць. *Міжа ў мяне з ёй – як плугу прайці* [разора ці грыўка]. Цясішча. 4. Выпасці (пра дождж). *Еслі дош пройдзіць, то зраўняіца.* Кавалі. *На нядзелі два даждзі нада штоб прайшлі, у мяне гарод вісокі.* Нямойта. 5. Сцячы, збегчы (пра кроў). *Далі прайці крыві, а тады ўнялі.* Дольдзева. 6. Мінуць, адбыцца. *Як пройдзіць свята, можна абы-што дзелаць.* Дольдзева. *Кьляды ужо прашлі. А цяпер во Саракі прайшлі.* Запруддзе. *Так вот Івана Купала і пройдзіць.* Нямойта. 7. Прыняць, залічыць. *Хто тады пашоў у армію, ніхто ні прашоў.* Каралі. 8. Праваяваць, адслужыць. *Мужык усю вайну прайшоў, а мне ніхто ні паможэць. Дзед польскую прайшоў, фінскую прайшоў.* Багданава. *Дзед прайшоў тры вайны.* Гарадзец. *Ён і вайну прашоў, ранены быў.* Міцюкова.

**ПРАКАЛО́ЦЬ** *зак.* Закалоць. *Вілкьмі прькалоць хацела лягушку, і йна ўцікла.* Гарадок. *А цяпер здаецца бы друг друга пракалолі.* Цясішча.

**ПРАКА́ПАЦЦА** *незак.* Пракопвацца. *Прькапъіцца кьнава, кладзеш каменьня і зьліваіш раствор'ьм* [пра падмурак печы]. Міцюкова.

**ПРАКАТА́ЦЦА** *зак.* Праехацца. *Хацела сесці сястра прькатацца.* Неўгадава.

**ПРАКАЧА́ЦЦА** *зак.* Пракачацца, прахварэць. *Больш года пракачаўся і памёр.* Партызаны.

**ПРАКІ́ДАЦЦА** *незак.* Выступаць, абазначацца. *Вена на нагé як пракідълься, стала цеч, лопнала гетая вена.* Запруддзе.

**ПРАКІ́ДВАЦЦА** *незак.* Трапляцца. *На высокім месцы соснік расце, арэшнік прькідваецца.* Багданава.

**ПРАКІСА́ЦЬ** *незак.* Укісаць, праквашвацца. *На комін пастáвіш, іна* [саладуха] *там пракісаіць і пракісаіць дні тры-чатыры.* Багданава.

**ПРА́КЛЫ** *прым.* Крывадушны. *Ён праклы такі: мякка сцеліць, мулка спаць.* Рэчкі.

**ПРАКЛЯ́НУЎШЫ** *дзеепрысл.* Укленчыўшы. *Праклянуўшы к зямлі стаяць палякі ў касцёле.* Запруддзе.

**ПРАКО́ЛЛЕ** *н.* Наваколле, ваколіца. *Лётаюць па праколлю, дзе вочы відзюць.* Запруддзе.

**ПРАКО́ПКА** *ж.* Пракапаны, выкапаны. *Тут ікая рэчка – пракопка, дрьнаж лажылі, пракъпалі.* Марозаўка.

**ПРАКО́С** *м.* Радок скошанай травы; пракос, пакос. *Пракосаў пяць-дзесяць, скашу, на гародзі.* Вялікі Азярэцк. *Пракос разбіваеш, а тады варочаеш, сушыш. Пракосаў як у каго зямлі, хто шырай, хто вузей* [косіць]. Гарадзец. *Пракос чысты – кьсар добры, во хьзяін.* Леснікова. *Занімаець пракос шырокі.* Розмыслава.

**ПРАКРУЦІ́ЦЬ** *зак.* Пракруціць, зрабіць. *Бярозу у нас толькі пьдпушчаюць. Пракруцяць дзірачкі і саломку уторкнуць.* Багданава. *Пракруціць дзіркі і дубовы шпунт туды.* Серкуці.

**ПРАКУ́РЫВАЦЬ** *незак.* Паліць у печы. *Баба печку пракурыіць і жывець адна.* Багданава.

**ПРАКУРЫ́ЦЬ** *зак.* Выпаліць (печ). *Печ пракурыла, паела. Печку чуць пракуру – і лажуся.* Партызаны.

**ПРАЛЕ́ЖАЦЬ** *зак.* Праляжаць. *Пралежала ў бальніцы дваццаць чатыры дні.* Нямойта.

**ПРАЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Пралезці, праехаць. *У гэту змену* [палетак, частка поля] *пралезці ня можна было.* Латыгаль.

**ПРАЛЕ́САК** *м.* Пералесак, невялікі лес. *Там ні лясы́, а пралéскі, нібальшэ́я лясы́.* Пожанькі.

**ПРАЛЕ́СКА** *ж.* Пралеска (расліна). *Пралéскі цвіця́ць сіненькія і бéленькія. Пралéскі бéлыя і сіненькія, пéрвыя.* Багданава. *Як снех згóніць, то ў лéсі растýць пралéскі гулубэ́я, як ръмáшыкі яны́.* Гарадок. *Бéлым цвітýць – éта пралéскі ў лéсі, пу кустóх.* Заазер'е. *Пралéскі і кураслéп – як снег далóў. Яны́ такія сіненькія. Пралéска – сіненькі цвет, нізенькі, нядзéлю аднý пацвіціць – і злітáець цвет.* Каралі. *Пралéскі бéлыя, бальшэ́я. Пралéскі бéлага цвéта, есь і сіненькім цвéтам цвітýць.* Самсоны.

**ПРАЛЁТ** *м.* Прастора, адлегласць паміж апорамі ў збудаванні; пралёт. *Пралёт – ад сталбá да сталбá.* Буй. *Зъгъръдзíў два пралёта ты́ну.* Запруддзе. *Пралёты двá зъгъръдзíў, і брыгадзíр памéрыў.* Фасаўшчына.

**ПРАЛЁТКА** *ж.* Выязныя сані. *У пралётцы ззáду зрóблены плéчыкі.* Гарадзец.

**ПРАЛІВА́ЦЬ** *незак.* Пралiваць. *Ат сурóцы пралівáлі вадý прас сук – дзíрку у сукý. Пралівáць вадý праз вíлкі ат сурóцы. Пралівáюць вадý дзéвяць раз па тры рáзы прас кля́мку, замóк, вíлкі і даю́ць піць.* Багданава.

**ПРА́ЛІЦА** *ж.* Калаўрот, самапрадка. *У Закýр'і звáлі прáсніца, а ў Шумíлінскім раёне звáлі прáліца.* Закур'е.

**ПРАЛІ́ЦЬ** *зак.* Праліць. *Тры разы́ па тры пралíць прас кля́мку. У ю́шку – пéрвы дым, як печ затóпіцца, і пастанавíць. І прóйдзіць дым – вадý піць, грýдзі, галóўку мáзаць дзіцёнку.* Багданава.

**ПРА́ЛКА** *ж.* 1. Калаўрот, самапрадка. *Прáлка былá, з кудзéлькі скубéш – прадýць.* Багданава. *У прáлку прадýць.* Буй. *Кýжэль прáлі прáлкамі.* Вялікі Азярэцк. *Ідзéш на сýпраткі – прáлку перат сабóй ця́гніш.* Дольдзева. *Дзве прáлкі есь стары́нных.* Карпавічы. *Усé урэ́м'я прадавáлі прáлкі.* Марозаўка. *Прáлкі былí, лён прáлі.* Рэчкі. *Гудзя́ць прáлкі.* Ульянавічы. 2. Сукала. *Прáлка – нъ яé нíткі сýчым.* Кляпчэва.

**ПРА́ЛЛЯ** *ж.* 1. Пралля, папрадуха. *Прáлля мая́ забалéла.* Багданава. *Ся́дзім мы вéчарам, прадзём. А я прáлля тъкáя* [дрэнная]. *Прáлля такáя былá, зрéбніну прáла на мяшкí.* Серкуці. 2. *эмац.-ацэн.* Пра няўмелую папрадуху. *Дзе с кóласа, а дзе с вóласа – прáлля такáя. Я ня ўмéла шчэ прáсці.* Серкуці.

**ПРА́МА** *часц.* 1. Проста. *П'ець прáма з відрá.* 2. Зусім. *Гóлыя прáма астáлісь. Бъля́ць нóгі – прáма ня мóжыць хадзíць.* Запруддзе. *Прáма усё гары́ць, сýшыць.* Нямойта. 3. Нібы, быццам бы. *Я былá прáма брат трáктару, нівóднаму мушчы́ну па сíле ні паддáмся.* Заазер'е.

**ПРАМАРГА́ЦЬ** *зак.* Прамаргаць, празяваць. *Інá ш пръмъргáла карóў.* Заазер'е.

**ПРАМАЎЧА́ЦЬ** *зак.* Прамаўчаць, не адказаць. *Ну, каб éта знаў, то прамаўчáў.* Запруддзе.

**ПРАМЕ́ЖАК** *м.* Прамежак, прастора паміж чым-н. *За пéчкай ці за шчы́там прамéжак паміж пéчкай і сцéнкай.* Серкуці.

**ПРАМЕ́ЖНАСЦЬ** *ж.* Прамежнасць. *Лучы́начкі* [бралі], *разагравáлі скаварóдкі, прамéжнасць пъдагравáлі – і раджáлі.* Мянюцева.

**ПРАМНУ́ЦЦА** *зак.* Перастаць крыўдаваць. *Прамнéцца хай інá трóху, а то засéрдзілася.* Багданава.

**ПРАМО́ВІЦЬ** *зак.* Прамовіць, сказаць. *Прамóвіў слóва, а то муўчáў.* Заазер'е.

**ПРА́НІК, ПРА́ННІК, ПРА́ЛЬНІК** *м.* Прылада для выбівання бялізны і абівання лёну, канапель; пранік. *Прáнікам атбівáлі канаплю́.* Дольдзева. *Абсóхніць*

*лён – білі пра́нікамі.* Карпавічы. *Былі пра́нікі дзервя́нныя, асно́ву сцёлем і б'ем пра́нікам, кро́сны б'ем.* Леснікова. *Пра́ннік – е́та як пе́рым бялізну. Лён білі пра́ннікамі ра́ньшы. Лён бра́лі, малаці́лі пра́ннікам і сла́лі.* Запруддзе. *Пра́ннік такі з ру́чкай, бяллё біць.* Каралі, Нямойта. *Пра́ннікам пяры́ла лайно́.* Сукрэмна, Багданава, Буй, Гарадзец, Фасаўшчына, Чуцькі, Закур'е. *Асно́ву білі пра́льнікамі.* Рэчкі.

**ПРА́НЦЫ** *толькі мн.* Пранцы. *Каб гэ́тыя му́хі – пра́нцы іх бра́лі бы.* Міцюкова. ◊ А ПРА́НЦЫ ЦЯБЕ́ ВЕ́ДАЮЦЬ. Выказванне абурэння, злосці, гневу. Запруддзе.

**ПРАПАДА́ЦЬ** *незак.* 1. Знікаць, засыхаць. *Сон-трава́ ра́нняй вясно́й цвіці́ць. Іна́ ра́на пръпъда́іць.* Фасаўшчына. 2. Здыхаць. *Пръпада́юць у́ткі, не то ім паўра́дзіла, ня ве́даю.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАПА́ДНІК** *м.* Той, хто прапаў. *Во прапа́днік хаджа́ін – піў.* Дольдзева.

**ПРА́ПАРШЧЫК** *м.* Прапаршчык. *Ён быў з пра́паршчыкам е́стым.* Міцюкова.

**ПРАПА́СЦІ** *зак.* 1. Знікнуць, згубіцца. *Калі хо́чыш прапа́сці – ідзі́ кра́сці.* Багданава. 2. Загінуць. *Пръпа́ла людзе́й у вайну́ мно́га.* Чуцькі. 3. Засохнуць. *І та́я ку́кла стаіць зъвя́заная на по́лі, паку́ль яна́ там ужо́ і пръпадзе́.* Багданава. *Агрэ́ст пръпа́ў, слівы павы́мерзлі.* Вялікі Азярэцк. *А сёліта ніякай ні было́* [бульбы], *ні бальшэ́й, ні ма́лай, пръпа́ла.* Самсоны. 4. Здохнуць. *Парасёнък у про́шлым го́дзе пръпа́ў.* Заазер'е. *А цялу́шка – пъўкаро́вы, і пръпа́ла.* Малы Азярэцк. *А то прапа́ла ў нас каро́ва.* Міцюкова. *У аднаго́ чалаве́ка каро́ва вяху́ з'е́ла і пръпа́ла.* Чуцькі. *Парсю́к мой прапа́ў: ні са́ла німа́, ніч́ога.* Багданава. 5. Не ўзысці, згнісці. *У мяне́ гла́дка пръпа́ла бу́льба.* Дольдзева, Багданава.

**ПРАПА́СЦІЦЬ** *зак.* Адпасвіць пэўны час. *Васімна́ццаць лет пръпа́сціць скот, а цяпе́р во зъбале́ў.* Цясішча.

**ПРАПА́ШЧЫ** *прым.* Прапашчы; той, хто прападзе. *Къла іх жыву́, так бы прыпа́шчая ба́ба была́.* Заазер'е.

**ПРАПІСНЯ́К** *м.* Пісар. *Праціснякóм быў у не́мцаў.* Нямойта.

**ПРАПІ́ТЫВАЦЬ** *незак.* Прапускаць, усмоктваць. *Въда́ стаі́ць, і не прапі́тыіць ваду́ гліна.* Кавалі.

**ПРАПІ́ЦЦА** *зак.* Спіцца, стаць алкаголікам. *Быў пан Хваро́шча, і да таго́ дажы́ўся, што прапі́ўся, але́ баб ні любі́ў.* Рэчкі.

**ПРАПО́ЛІС, ПРАПО́ЛЮС** *м.* Праполіс; пчаліны клей, вуза. *Прапо́ліс бу́рага цве́та, наста́іваюць, лячэ́бны.* Запруддзе. *Прапо́люс – пчаліны клей. Ідзе́ дзі́рачкі ёсць у ра́мках – там прапо́люс. Ду́жа го́іць ра́ны.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАПО́ЛІЦА** *ж.* Калодачка (металічная планка) для дзяржання (млёна) у адтуліне верхняга жарна. *Прапо́ліца к вірхняку́ прыкрыпля́іцца, кап дзіржа́цца, кап круці́ць.* Фасаўшчына.

**ПРАПО́ЛЬНІК** *м.* Плуг-рыхліцель міжрадкоўя; прапашнік. *Я съма́ зъ прапо́льнікам, за ку́шнікъм – усё ўме́ю дзе́лъць, усё ўме́ю ро́біць.* Дуброўкі.

**ПРАПУСКА́ЦЬ** *незак.* Прыпускаць. *Прапуска́лі с клёна сок кляно́вы, бяро́завы то́жа.* Багданава, Дольдзева.

**ПРАПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* Прапусціць. *Раз жыве́ць чалаве́к. Там прапусці́ў, там прапусці́ў – усё ў пусты́ свет.* Ульянавічы.

**ПРАПЫ́ТВАЦЦА** *незак.* Прапытваць, распытваць. *Прапы́твацца на́да, ці мо́жна апера́цыю зрабі́ць.* Партызаны.

**ПРАПЫ́ТВАЦЬ** *незак.* Тое ж. *Сваты́ прапы́твалі ўсё.* Запруддзе.

**ПРАПЯЧЫ́** *зак.* Прапячы, прапаліць. *Кало́дачка, дзі́рку прапя́чэш, заго́ніш у яе́ жале́за.* Жохава.

**ПРАРАЗА́ЦЦА** *незак.* 1. Прарэзвацца. *Як зу́бы пръръза́юцца ў дзяцей.* Нямойта. 2. Узыходзіць, прарастаць. *На гра́нцы* [на градцы] *квасо́ль ста́ла праразацца.* Сукрэмна.

**ПРАРАСЦІ́** *зак.* Прарасці. *Ба́пкі жы́та пръраслі́* [ад дажджу]. Алексінічы.

**ПРАРАСЦІ́ЦЬ, ПРАРАШЧЫ́ЦЬ** *зак.* Прарасціць. *Прарасця́ць дабро́, рост здзе́лаюць.* Гарадзец. *Со́луд з дъбра́ прърасці́ць трэ́ба.* Дольдзева. *Памя́кнуць тро́хі* [зярняты], *прарашчы́ць на́да, с расто́чкъмі пъсадзі́ць, зямлёй прысы́паць.* Гарадзец.

**ПРАРА́ШЧАЦЬ** *незак.* Прарошчваць. *Прара́шчаем гуркі.* Гарадзец.

**ПРАРА́ШЧВАЦЬ** *незак.* Тое ж. *Нама́чваюць гуркі́, прара́шчваюць.* Розмыслава.

**ПРАРВА́ЦЬ** *зак.* Прарваць (пра гнойнае захворванне). *Загавары́ла, прарва́ла уро́чная ро́жа.* Багданава.

**ПРА́РВАЦЬ** *незак.* Прарваць, прарадзіць. *На́да пра́рваць марко́ўку.* Розмыслава.

**ПРАРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* 1. Прарэзаць, выразаць. *Во́кны прарэ́залі.* Буй. 2. Парэзаць, параніць. *Я акра́с нагу́ прарэ́зала.* Багданава.

**ПРАС** *м.* Прас. *Прас – вуглі кла́лі, вуга́лля з пе́чы накладу́ць.* Фасаўшчына.

**ПРАСАВА́ЦЬ, ПРУСУВА́ЦЬ** *незак.* Сціскаць. *Ціцюко́вэ* [Цяцюк – мянушка] *се́на прасава́лі, хі́ба ма́ла яму́. Прасава́лі дзень се́на.* Міцюкова. *Учо́ра прусува́лі, прэ́са звалі́лася.* Міцюкова.

**ПРАСАЛІ́ЦЦА** *зак.* Прасаліцца. *За два́ ме́сіцы грыбы́ прасо́люцца.* Пожанькі.

**ПРАСВЯТЛЁНЫЙ** *прым.* Асветлены, радкаваты. *Дзе лес пръсвятлёный, там і грыбы́ расту́ць.* Сянно.

**ПРАСЕ́КА, ПРО́СІКА** *ж.* Шырокая ачышчаная ад дрэў паласа ў лесе, дзе праходзіць высакавольтная лінія; прасека. *Як вяду́ць лі́нію, то прасе́ку дзе́лъюць.* Гарадок. *Прасе́ку прасе́клі сквазну́ю.* Запруддзе. *Пълуча́іцца про́сіка, як лі́нію вяду́ць* [у лесе]. Гарадок.

**ПРАСЕ́СЦЬ, ПРАСЕ́СЬ** *ж.* 1. Частка палатна і асновы на ткацкім станку ад пярэдняга навоя да нітоў і бёрда. *Нъця́гавіч ў пярэ́днім наво́і, штоп ту́га была́ прасе́сць. Паку́ль вы́ччыш прасе́сць, тады́ скру́чвъяш нъ пярэ́дні наво́й.* Сукрэмна. 2. Зеў (прамежак паміж верхняй і ніжняй часткамі асновы) у нітках асновы. *До́шчъчкі зъ ніта́мі, кап прасе́сць была́, як насту́піш на пънажы́.* Сукрэмна. *У прасе́сь кіда́лі чаўно́к.* Рэчкі.

**ПРАСІФО́НІЦЬ** *зак. экспр.* Прадзьмуць. *Прасіфо́ніць усё, ажно́ гълъва́ балі́ць.* Багданава.

**ПРАСІ́ЦЬ** *незак.* Прасіць. *Кот про́сіць, як ста́ну радо́ўкі жа́рыць, зна́чыць мо́жна е́сці, сма́чныя.* Пожанькі.

□ *Як про́сюць, тады́ жнуць і ко́сюць.* Багданава.

**ПРАСКА́КАЦЬ** *незак.* Праскокваць, пралазіць. *Ма́лъя пло́тка пръска́къіць ці́рас се́тку.* Багданава.

**ПРАСКО́ЧЫЦЬ** *зак.* Абмінуць. *Уся́ судзьба́ праско́чыла мі́ма.* Каралевічы.

**ПРАСКУ́РКА** *ж.* Белая круглая прэсная булачка, якая выкарыстоўваецца ў абрадах праваслаўнага набажэнства; просвіра, прасвірка. *Тады́ ба́цюшка даў пячэ́нне – е́та праску́рка называ́ецца.* Багданава. *Як свяці́м, сало́джаную ваду́ і праску́рку дава́лі, свянцо́ны сухаро́к, як суха́рык.* Міцюкова. *Спра́шыіць, чым грьшна́, праску́рку дъва́ў, вады́ свянцо́ныя.* Фасаўшчына.

**ПРА́СЛА** *н.* 1. Плот (з дошчачак, планак). *Сце́люцца до́скі, прыме́рна шырына́ шэсць санці́метраў, і набіва́юцца на жардзі́ну пла́нкі, э́та называ́іцца пра́сла.* Ня-

мойта. 2. Частка агароджы (паміж слупамі). *Прáсла – э́та расстаянія.* Марозаўка. *Загарадзіў два прáслы ў згарóдзі.* Сянно. 3. Парэнчы, жардзінка каля кладкі цераз рэчку. *Буó прáсла дзіржáцца, як ідзéш церас клáтку.* Сянно. 4. Радок агародніны. *Нъ ляхé расó прáсла гуркóў, мóрквы, грыжынкі, бóбу, квасóлі, гарóху, буракóў, капýсты, сълáты і прáсла рэ́віню.* Сянно. 5. Пра гультаяватага чалавека, лежня. *Ля́жыць, аж мо, нъдаéў, што прáсла.* Запруддзе.

**ПРАСМЯЯ́ЦЬ** *зак.* Засмяяць. *Цяпéр павядзі Мáслінку, то пръсмяюць, скá-жуць, што чóкнутъя.* Закур'е.

**ПРАСНА́К, ПРАСНЯ́К** *м.* 1. Тоўсты блін з прэснага цеста. *Пръснáк мóжна на яічку сдзéлаць, сóду усыпаць.* Заазер'е. *Праснякóў напякýць, як хлéба німá.* Самсоны. *На скаварóдзі спячэ́ш у пéчы пръснáк.* Вялікі Азярэцк. *Мукý ражнýю* [жытнюю] *мясíць, качáць, кап сухóе* [каб цеста не прыставала да рук]. *Праснáк здзéлаць, кап прыклáсці, як рóжа у кагó.* Нямойта. 2. Тоўсты блін з хлебнага цеста. *А дзéлалі і с хлéбнага цéста. Цéста раскълаціў і пячы праснакí.* Заазер'е. *С хлéба праснáк спячы трэ́ба.* Вялікі Азярэцк. 3. Тоўсты блін з канапляным семем. *Пръснакі пяклі з канапéлек.* Партызаны. 4. Тоўсты блін з мукі і бульбы. *Праснакí пяклі з картóшкай.* Парэчча. *І малóлі ў жóрнах – на кулéш, на праснáк.* Цясішча. ПРАСНАЧÓК *памянш.-ласк.* *Шалухі малóлі, праснaчкí пяклí.* Багданава. *Праснaчкí ў вайнý пяклí са шчаўлюкá, і кінеш жмéню мукí.* Багданава.

**ПРА́СНІЦА** *ж.* Прыстасаванне, да якога прывязваецца кудзеля пры прадзенні; праснiца. *Скрýчваеш лён, к прáсніцы прывя́зваеш і прадзéш. Прывя́зываем кудзéлю к прáсніцы і прадзéм.* Апечкі. *К прáсніцы прывя́звалі кудзéльку.* Буй. *І прáлкі рабіў, і прáсніцы, і ставы.* Гарадзец. *Прáсніцу на плéчы і ідзéш на сýпраткі. Прáсніца – што ся́дзеш і сядзíш.* Дольдзева. *Увя́жъш кудзéлю к прáсніцы.* Каралі. *Ёсць дзве прáлкі, прáсніца, і дъчкáм ткáла.* Карпавічы, Рэчкі.

**ПРАСПА́ЦЬ** *зак.* Праспаць. *Мы праспáлі, ужó відна.* Серкуцi.

**ПРАСТАРНЕ́Й** *прысл.* Больш праcторна. *Былó бóлей прастарнéй.* Розмыслава.

**ПРАСТАФІ́ЛЯ** *ж.* Дурніца. *Тáя прастафіля, янá Бóга пажалéіць.* Нямойта.

**ПРАСТРАЛІ́ЦЬ** *зак.* Прастрэліць, параніць. *Прастралілі нагý, заражэ́нне і анґрэ́я* [гангрэна]. Багданава.

**ПРАСТУ́ДА** *ж.* Прастуда, хвароба. *Ад прастýды бърсýчім сáлам націрáцца нáда.* Багданава. *Бруснíчнік гэ́ты ат прастýды.* Заазер'е.

**ПРАСТУДЗІ́ЦЦА** *зак.* Прастудзіцца. *Атчынялі акнó, і я прастудзілася.* Нямойта.

**ПРАСТУДЗІ́ЦЬ** *зак.* Астудзіць, ахаладзіць. *Прастýдзіш хлеб у сéнях і з'ясí.* Чуцькі.

**ПРАСТУ́ДНЫ** *прым.* Прастудны, які выкарыстоўваецца ад прастуды. *Чабóр ад прастýды, прастýдны.* Буй.

**ПРАСТЫ́НУЦЬ** *зак.* Прастыць, астудзіцца. *Суп вынісі, хай прастыніць.* Баг-данава. *Цыбýля як прастыніць у хáці зімой, тады інá ідзéць у пукí.* Парэчча.

**ПРАСТЫІ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Прастуджаны. *Прастыўшы былá бáба, тяжóла так, ніяркі гóлас.* Багданава.

**ПРАСТЫ́ЦЬ** *зак.* Прастыць, прастудзіцца. *Прастыла я крэ́пка.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАСУ́ШАЦЬ** *незак.* Прасушваць. *Замéсіць цéста, раскáчъюць тóнінька, а тады крышуць, завýць лапшá, прасýшъюць.* Фасаўшчына.

**ПРАСЦЕ́Й** *прысл.* Больш проста, сціпла. *Стáршыя жанчыны прасцéй надзéўшы.* Партызаны.

**ПРАСЦЕ́НАК** *м.* Частка сцяны паміж вокнамі; прасценак. *Як даў, той прасце́нък вон!* Пожанькі.

**ПРАСЦЕРАЗАВА́ЦЬ** *зак.* Прастэрылізаваць. *Прасцеразу́ю ба́нкі заліва́ю вадо́й я́блыкі.* Парэчча.

**ПРА́СЦІ** *незак.* Прасці (кудзелю, воўну). *Пра́сці – э́та ж ня віць вяро́вачку. На су́пратках кудзе́льку пра́лі. Мно́га красён. На́да і на мяхі́, на́да і на матра́сы пра́сці, на́да і на руба́шкі.* Багданава. *Я рабо́тала, пра́ла ду́жа.* Заазер'е. *Як ся́ду пра́сці, праду́ усю ноч.* Кляпчэва. *Прадзём – дзяце́й адзяём.* Самсоны. *На Каля́ды ні пра́лі, пачына́лі з во́сені.* Чуцькі, Серкуці.

**ПРАСЦІНА́, ПРО́СТЫНЯ, ПРАСТЫНЯ́** *ж.* 1. Прасціна. *Прасціну́ прывязла́ і на́валкі дзве. Прасціну́, на́валку, пададзея́льнік прыве́злі.* Леснікова. 2. Прасціна ці любая іншая посцілка, якой накрываюць труну пры пахаванні. *Уле́зіць у я́мку, про́стыню по́вірху усягды́ закрыва́юць* [паверх труны]. Ракаў Засценак. *Як памру́, мне прастыню́ засціла́йце.* Нямойта.

**ПРАСЫ́ПАЦЦА** *зак.* Рассыпацца. *Тут* [у жорнах] *мука́ ніку́ды ні прасы́піцца.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАСЫХА́ЦЬ** *незак.* Прасыхаць, сохнуць. *То́лькі се́на ста́ла прасыха́ць, і такі́ дош уліў!* Міцюкова.

**ПРАСЯ́НЫ** *прым.* Прасяны, звязаны з просам. *Прася́нае по́ле пасля про́са.* Міцюкова.

**ПРАТА́ЛКА, ПРЫ́ТАЛКА** *ж.* Праталіна, пратанінка. *Дзе прата́лкі ста́лі, шпакі́ яўля́юцца.* Чуцькі. *Март ста́ніць, пры́тълкі, тада́ курэ́й вон* [з падпечча]. Каралевічы.

**ПРАТАПІ́ЦЬ** *зак.* Выпаліць. *Пратаплю́ печ, а то адзічэ́ла ха́та.* Багданава. *Я пртапі́ла печ ся́нні, і ў ха́ці цёпла.* Запруддзе.

**ПРАТО́К** *м.* Рака, якая ўпадае ў большую раку; прыток. *Та́мыцька мно́га прато́куў, і ўсе яны́ ў Абъля́нку* [цякуць]. Алексінічы.

**ПРАТУРЫ́ЦЬ** *зак.* Прытурыць, прыгнаць. *Мне пратуры́ла ку́рыцу, перала́жчык, запе́ла, як пяту́х.* Нямойта.

**ПРАТЭ́С, ПРАТЭ́З** *м.* Царкоўная ці хаўтурная харугва. *Чълаве́к памёр – пратэ́с стаіць кълa двъра́. Пратэ́с – кіёк і пъло́тнішча. С царквы́ нясу́ць пратэ́сы, абыхо́дзяцца кълa цэ́рквы.* Вялікі Азярэц, Ульянавічы. *Як хто памрэ́ць, ры́зы, пратэ́зы кала вако́н чо́рныя, то́чна, як флаг.* Фасаўшчына.

**ПРА́ЎДА** *ж.* 1. Праўда. *Каб я с ха́ты тваёй не вы́шаў, як пра́ўду кажу́!* Багданава, Запруддзе. *Кажу́ па пра́ўдзе, лю́цы мае́.* Кішуроўшчына. *Тады́ пашла́ я ў Яно́ва. Дабі́ўся пра́ўды.* Ульянавічы. 2. *часц.* Так, сапраўды. *Пра́ўда, пъла́тка ръспя́та, і там врач.* Леснікова.

□ *Што то́рба, то ня мех, што пра́ўда, то ня грэх.* Багданава.

**ПРАЎЛЕ́НЕЦ** *м.* Член праўлення. *Я была́ праўле́нец, до́ўга была́.* Самсоны.

**ПРА́ЎНУК** *м.* Праўнук. *І пра́ўнукоў ско́лькі – чатыры.* Багданава. *Ужо́ пра́ўнъкі ў мяне́ ёсь.* Баравікі.

**ПРА́ЎНУЧКА** *ж.* Праўнучка. *Пра́ўнучак у мяне́ дзе́сяць.* Цясішча.

**ПРАХ** *м.* Прах, астанкі. *А це́ла – е́та прах, узя́ты ў зямлі́.* Гарадзец.

**ПРАХА́ДЖЫВАЦЦА** *незак.* Праходжвацца, прагульвацца. *На́да тро́ху праха́джываццa.* Леснікі.

**ПРАХАДЗІ́МЕЦ** *м.* Прайдоха, прайдзісвет. *Я была́ прахадзі́мец, будзь-будзь.* Самсоны.

**ПРАХАДЗІЦЦА** *незак.* Выпадаць. *Ні прахадзілася мне відзець* [чарцей]. Гарадзец.

**ПРАХАДЗІЦЬ** *незак.* Пераходзіць, перадавацца. *Пъ наслéству пръхадзілі надзéлы.* Марозаўка.

**ПРАХАДНЫ** *прым.* ◊ НІ ВЫХАДНÓГА НІ ПРАХАДНÓГА. Пра адсутнасць выхадных дзён. *Ні выхаднóга ні прахаднóга – рабóтаем і рабóтаем на фéрме без падмéнных.* Ракаў Засценак.

**ПРАХАЛАДÁЦЦА** *зак.* Прахаладзіцца. *Пашлí, прахаладáйся.* Багданава.

**ПРАХАРЧЫЦЦА** *зак.* Прахарчавацца. *Нáда прахарчыцца лю́дзям.* Пожанькі.

**ПРАХВАЦІЦЬ** *зак.* Прахапіць, праняць, прадзьмуць, выклікаўшы хваробу. *С вéтру, сквазнякá прахвóціць глаз – і ячмéнь.* Партызаны.

**ПРАХÓДЗІЦЬ, ПРАХАДЗІЦЬ** *незак.* 1. Праходзіць (пра дождж). *Бóлі даждж́ы прахóдзюць і пáрныя нóчы, то і грыбы ёсь.* Алексінічы. *А як гарóды ніскія і стáнуць даждж́ы пръхадзіць, як ты бýдзіш сéяць?* Самсоны. 2. Цячы. *Во у нас там къла дзярéўні рікá прахóдзіць, і лугí – этá усё былó пáнскае.* Самсоны. 3. З'яўляцца, веяць. *Вéцер прахóдзіць, і сóхніць бульбóўнік.* Баравікі.

**ПРÁХЦІКА** *ж.* 1. Уменне, спрыт. *Клíпáць умéць нáда, éта ўсё прáхціка.* Дольдзева. 2. Вытворчая практыка. *Дзéўкі-віцінáркі былí на прáхціке.* Багданава.

**ПРАЦАВÁЦЬ, ПРУЦУВÁЦЬ** *незак.* Працаваць. *Сабірáемся шáйкамі працавáць.* Багданава. *Няўжэлі ён у сем рук пруцувáў?!* [што яму такая вялікая пенсія]. Вялікі Азярэцк.

**ПРАЦАВІТЫ** *прым.* Працавіты. *Працавітая дзяўчына.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАЦАДЗÉНЬ** *м.* Працадзень. *На зарóблены рубль пісáлі працадзéнь.* Марозаўка. *Даў людзя́м па дзвéсця грам късцярý на працадзéнь.* Розмыслава.

**ПРАЦАДЗІЦЬ** *зак.* Працадзіць. *Падóіш і працóдзіш малакó, каб жа чысценька былó.* Мянюцева. *Працóдзіць малакó.* Нямойта.

**ПРАЦВЕРАЗІЦЦА** *зак.* Працверазіцца. *Ляжыць п'яная ў грась, працверазіцца, кáжа: грась прынімáла.* Нямойта.

**ПРАЦІРÁЦЦА** *незак.* Праціраццa. *Алюмíній працірáіцца* [у кошыку], *а рызíна ня хóчыць ірвáцца.* Багданава.

**ПРАЦІЎНА** *прысл.* Агідна, брыдка. *Біс прывычкі дýжа праціўна.* Нямойта.

**ПРАЦЭЛІВАЦЦА** *незак.* Прыцэльвацца. *Працэліваешся на бутылачку – хватáй!* Нямойта.

**ПРАЦЯГНУТЫ** *прым.* ◊ З ПРАЦЯГНУТАЙ РУКÓЙ. Просячы міласціну. *Век з працягнýтай рукóй не прывыкла хáдзіць.* Нямойта.

**ПРАЦЯКÁЦЬ, ПРАЦІКÁЦЬ** *незак.* Цячы. *На днэй старанé там рэчка працякáла.* Леснікова. *Рэчка працікáіць.* Латыгаль.

**ПРАЦЯРПÉЦЬ** *зак.* Сцярпець. *Стары усё працéрпіць.* Каралі.

**ПРАЧÓСКА** *ж.* Прачэсванне. *Нéмцы пашлí на парцізáн, на прачóску.* Нямойта.

**ПРАЧУДНЫ** *прым.* Дзівакаваты. *Быў такí прачýдны дзя́дзька: зайшóў на клáдбішча і раздзéўся нагалá.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАЧУХА** *ж.* ◊ БІС ПРАЧУХІ. Без перапынку, не перастаючы. *П'я́ны, біс прачýхі, п'е і п'е кóжны дзень.* Запруддзе.

**ПРАЧУХÁНКА** *ж.* Біццё, лупцоўка. *Прачухáнку даéць удóль сядзёлкі* [спіны] *рамнём.* Буй.

**ПРАЧХНУ́ЦЦА** *зак.* Прачнуцца. *І ні ста́ла тут яе́, і я прачхну́лася.* Багданава. *Цыга́нка вы́маніла мно́га чаго́. Кап сын ні прачхну́ўся, уне́сла п.* Заазер'е. *А во прачхну́ліся, а як жа іці́ дамо́ў.* Нямойта.

**ПРАЧЫ́СТАЯ, ПРАЧЫ́СТА** *ж.*, **ПРАЧЫ́СТАЕ** *н.* Прачыстая; свята ў народна-царкоўным календары. *А за Іллём бу́дзіць Прачы́ста, кап на по́лі было́ чы́ста. Бълыша́я Прачы́ста і ма́лая Прачы́ста.* Багданава. *На Прачы́сту жы́та свяці́лі, на бо́льшую Прачы́сту, у а́ўгусці і се́юць. А васьмо́га сінцябра́ – ма́лая Прачы́ста.* Савінічы.

□ *Да Прачы́стага каб было́ по́ле чы́стае.* Гарадзец, Багданава. □ *Да дру́ге Прачы́сты каб было ў по́лі чы́ста.* Запруддзе. □ *Втара́я Прачы́ста го́ніць дрэ́ва усе́ чы́ста* [з дрэў ападае лісце]. Каралевічы. □ *Адна́ Прачы́ста глядзі́ць, каб жы́то усе́ было́ чы́сто, друга́я Прачы́ста глядзі́ць, каб усе́ было́ чы́сто.* Самсоны, Алексінічы, Ульянавічы, Чуцькі. □ *Да пе́рвае Прачы́стае каб было́ по́ле чы́стае, а да друге́й Прачы́стае каб было́ ў ха́це чы́ста.* Вялікі Азярэцк. □ *Пятро́к атшчыкне́ць ліcто́к, Ілля́ – два, Прачы́стая* [другая Прачыстая] *го́ніць дрэ́ва ўсё чы́ста.* Каралевічы, Запруддзе, Партызаны, Самсоны, Чуцькі. □ *Пятро́к атарва́ў адзі́н ліcто́к, Ілля́ накіда́ець гнілля́, Прачы́стая – на по́лі усё чы́ста.* Кляпчэва.

**ПРАЧЫХА́ЦЦА, ПРАЧАХА́ЦЦА** *незак.* 1. Прачынацца. *Спіць ён, не прачаха́еца.* Парэчча. 2. Ачухвацца. *П'ець, ні ра́зу ні пръчыха́ўся.* Партызаны. 3. Пераставаць, спыняцца. *Малы́ дзяцёнак пабе́гаець, ста́нець плака́ць – ні прачыха́еца. Вазьмі́ по́дал мацяры́нскі і павядзі́ па лі́чыку.* Партызаны.

**ПРАШНУ́ЦЦА** *зак.* Прачнуцца, абудзіцца. *Лёг спаць і ні пращну́ўся.* Жохава. *А як ён прашне́цца* [дзіця, унук], *то што я бу́ду дзе́лыць.* Міцюкова.

**ПРАШЧА́ЛЬНЫ** *прым.* Развітальны вечар, провады ў войска. *У прашча́льны гуля́лі* [перад арміяй]. Багданава. *Сы́на пусці́ла на прашча́льны.* Партызаны. *Атхадзі́ў сын у а́рмію – прашча́льны быў.* Ульянавічы. *Ні была́ на пръшча́льным* [пра вечар провадаў]. Запруддзе.

**ПРАШЧА́ЦЦА** *незак.* Развітвацца. *Расхо́дзюцца ужо́, пръшча́юцца, жэла́юць.* Вялікі Азярэцк.

**ПРАШЧЫКНУ́ЦЬ** *зак.* Пракалоць. *Пузы́р прашчыкну́ такі́ із вадо́ю. Вада́ со́йдзіць, і рабё́нъчък пъка́зываецца.* Заазер'е.

**ПРАШЫВА́ЦЬ** *незак.* Прыбіваць. *Унізу́ плі́нтусы прашыва́юць.* Серкуці.

**ПРАЯЗНЫ́** *прым.* Выязны, якім карысталіся для выезду. *Дра́пка – э́та калёсы з ра́мачкай, е́та праязны́я калёсы. Вазо́к – э́та праязны́, на база́р, на пра́знікі, во ён ма́ліньki, апшы́ты, разукра́шаны.* Нямойта.

**ПРО́ВАДЫ** *толькі мн.* Провады, развітальны вечар. *Атхадзі́ў сын у а́рмію, так про́вады былі́.* Ульянавічы.

**ПРО́ВАЛКА** *ж.* Дрот, провад. *Про́валкі ду́жа ні было́.* Запруддзе.

**ПРО́ҐА** *ж.* Частка агароджы паміж слупамі; прасла. *Про́ґа – памі́ж сто́лбікамі.* Ульянавічы. *На Іва́на мне тры пра́сла, про́ґі тры зльма́лі.* Запруддзе.

**ПРО́КАРАМ** *м.* Кармленне, догляд. *За про́кърьм късня́ ні зъплаці́ў* [што зіму карміў]. Сянно.

**ПРО́ЛУПКА, ПРО́ЛАПКА, ПРО́ГЛУПКА** *ж.* Палонка, пелька, проламка. *Про́лупкі пръсяка́юць на во́зіры.* Багданава. *Про́лапку прасе́клі на во́зеры паласка́ць бяллё.* Гарадок. *На рацэ́ про́лъпкі чуць ні ў ка́ждага былі́.* Серкуці. *У лёт у про́лапку кълясо́ на кол нъдзяю́ць і дзе́лаюць калаўро́т.* Багданава. *Про́глупку прасячэ́ць, бяллё мыць. У про́глупку пълъска́ць хадзі́лі* [бялізну]. Каралі.

**ПРО́ПКА** *ж.* Корак, затычка. *Про́пкі такія мя́ккія.* Каралі.

**ПРО́РВА** *ж.* Прорва, бяздонне. *Про́рва – каро́вы тапіліся.* Серкуці. *Пупа́ў нъ бало́та ў про́рву.* Гарадок.

**ПРО́СА** *ж.*, **ПРО́СЫ** *мн.* 1. Проса (расліна). *Ня се́ялі яе́, про́су гэ́ту, у нас яе́ ні се́юць.* Міцюкова. *Про́су не се́ялі.* Сукрэмна. *Як былі аднасо́бна, про́су се́ялі, грэ́чку.* Партызаны. 2. Прасяныя крупы. *У сту́пах дзервя́ных про́сы таўклі.* Нямойта.

**ПРО́СВІРКА** *ж.* Белая круглая прэсная булачка з крутога цеста, якая выкарыстоўваецца ў абрадах праваслаўнага набажэнства; просвіра. Ульянавічы.

**ПРО́СВІТКА** *ж.* Выспа сярод возера (?). *Про́сьвітка была́, во́зера там было́, і цэ́рква там утану́ла.* Буй.

**ПРО́СТА** *прысл.* Проста, нескладана. *Не так гэ́та про́ста купіць: гро́шай ні было́.* Гарадзец.

**ПРО́СТЫ** *прым.* Просты, нескладаны. *Гэ́та зусім про́сты ўзор.* Фасаўшчына.

**ПРО́ФІЛЬ** *ж.* Спецыялізацыя шырокага профілю. *Тры гады́ вучы́ўся на шыро́кую про́філь.* Багданава.

**ПРО́ЦІ, ПРО́ЦІЎ** 1. *прысл.* Супраць. *Быга́ты жаніх, і бацькі былі про́ці, каб браў бе́дную.* Заазер'е. 2. *прыназ.* Насупраць. *Про́ціў той дзярэ́ўні – чарнішнік* [лес]. Нямойта. *Про́ці нас навялі даро́гу.* Буй. *Хай бы про́ці нас дамы́ два́ пастро́ілі, цяплей было́ б кала нас.* Нямойта. *Про́ці свайго́ гаро́ду, пры́ме́рна, калі ў мяне́ гря́зна, я ні хачу́, што гря́зна, я вы́къпаю кърна́ву.* Самсоны. *Про́ці ка́мня нашла́ касы́начку.* Фасаўшчына. 3. Напярэдадні. *Яна́ ж про́ці ле́та свінню здала́.* Партызаны. 4. У параўнанні. *Про́ці цяпе́рашняй жы́зні, што та́я.* Галашчакіна. *Про́ціў лю́дзей як рабо́тала – абідна ду́жа.* Партызаны.

**ПРОЧ** *прысл.* Прэч. *Як жані́ўся, так проч ат ма́ткі, ат ба́цькі цяпе́р.* Самсоны.

**ПРО́ЧКІ** *толькі мн.* ◊ ПРЫЕ́ХАЦЬ У ПРО́ЧКІ. Пакінуць на некаторы час сям'ю з-за нязгоды, разладу. *Так іна́ была́ ў про́чкі прые́хала.* Нямойта.

**ПРО́ШЛЫ** *прым.* Мінулы. *Про́шлы гот падбіў яго́ мальчо́нык На́дзін, е́хуў нъ тра́ктары.* Нямойта. *Про́шлы гот памёрла ба́ба* [што немца забіла]. Закур'е.

**ПРУГІ́** *мн.* Тонкія дошчачкі для нацягвання краёў палатна пры тканні. *То́ркалі ў палатно́ пругі.* Рэчкі.

**ПРУГУЛУСАВА́ЦЬ** *зак.* Прагаласаваць, выбраць галасаваннем. *Мы пругулусава́лі харо́шыга брыгадзіра.* Запруддзе.

**ПРУД** *м.* Паз у драўляным вырабе, посудзе. *У пруды́ застаўля́еш дно дзе́шкі.* Жохава.

**ПРУД, ПРУТ** *м.* 1. Вадзяны млын. *Пруды́ стаялі па вадзе́, па рацэ́. У прут во́зюць адзіра́ць кру́пы.* Вялікі Азярэцк. *У прут пае́ду дабро́ мало́ць.* Запруддзе, Леснікова, Рудніца. 2. Вятрак, ветраны млын. *Вітраны́ прут, вадзяны́ прут быў.* Леснікова.

**ПРУ́ДЗІЦЬ** *незак.* 1. Знішчаць вошы. *Пру́дзілі ў ба́ні во́шай.* 2. Прасушваць адзенне пры высокай тэмпературы. *Пру́дзілі адзе́жу ў ба́ні.* Нямойта.

**ПРУС** *м.* Прусак, рыжы таракан. *Прусы́ такія кра́сныя, а търака́ны чо́рныя, бальшы́я. А прусы́, яны́ ме́ньшыя, рыжыва́тыя, чалаве́ка грызу́ць.* Запруддзе. *Пасля вайны́ прусы́ былі. Як ля́жаш спаць, аткінеш руку́ – ло́каць абгрызу́ць. Прусы́ жо́ўтыя, малы́я.* Вялікі Азярэцк. *Прусы́ ёсць. Была́ ў бальніцы, а там, ай-ё – прусы́.* Сукрэмна. *І прусо́ў, і клапо́ў, і жуко́ў чо́рных – усяго́ было́ калісьці.* Закур'е. *Прусо́ў калі мно́га, ў каро́бачку събяру́ць ды ў магілу.* Ракаў Засценак.

**ПРУСЯ́НКІ** *мн.* Зялёнкі (грыбы). *Прусянкі ў такóя ўрэ́мя высідáлі і да вóсіні. Яны́ як сураéжкі, свéтла-жóўтыя, а па ім як крýпы пакíдыны.* Сянно.

**ПРУТ** *м.* Тупы край касы, патоўшчаная яе частка, супрацьлеглая вастрыю. *Прут у касé ёсць.* Леснікова.

**ПРУТ** *н.* Пра жылы, крывяносныя сасуды. *Пруты́ такéя на нагáх. Пахаджý – аж распóхлі.* Багданава.

**ПРУТО́К** *м.* 1. Стрыжанёк, на якім трымаецца цэўка ў чаўнаку. *На прутóк надзявáлася цэ́ўка і ў чаўнóк укладáлася.* Рэчкі. *Цэ́ўка на прýціку.* Карпавічы. 2. *мн.* Спіцы для вязання. *Пруткáмі візáлі наскí, кручкáмі. Спóткі візáлі пруткáмі – пяць пруткóў* [пяць пруткоў трэба, каб звязаць *спóткі*]. Турава. ПРУТО́ЧАК *памянш.* 1. Тонкі, невялікі пруток. *Прутóчък тóркнет, і карóва нікуды́ ня пабяжы́т.* Багданава. 2. Пруток у жолаба навою для прымацавання палатна. *У навóі прутóчкъм прáжу прыцíскáюць, а то ні найдзéш* [будзе круціцца на навоі]. Вялікі Азярэцк.

**ПРУ́ЦІК** *м.* Стрыжанёк, на якім трымаецца цэўка ў чаўнаку. *Цэ́ўка на прýціку.* Карпавічы.

**ПРУ́ЦЦЕЙКА** *н. зб.* Адламаныя дробныя галінкі. *На Вéрбніцу ідýць дзéці, наламáюць прýццейка, абвя́жуць цвітáмі.* Каралевічы.

**ПРЫ** *прыназ.* 1. Пры, каля. *Тут былó пры дарóзі сáма гліня́нэ мéста.* Багданава. *Кърчмá пры бальшакý былá даўнó.* Савінічы. *Гэ́та ні пры нас былó.* Запруддзе. 2. Пры, са. *У дварэ́ я пры сваíх дзіця́х, пры сваíм мужыкý.* Галашчакіна. *Пры свéццы вячэ́рылі* [пасля навальніцы не было святла]. Міцюкова. 3. Каля, з боку. *Пры бóку харанíлі вíсільнікаў, тóпільнікуў.* Партызаны. 4. Пры, у час. *Пры рóдах хадзíла.* Заазер'е. *Хáта згарэ́ла пры пéрвым агні* [у самым пачатку]. Дуброўкі.

**ПРЫБА́ННІК, ПРЫБА́НІК, ПРЫБА́ЙНІК** *м.* Прылазнік. *У прыбáнніку раздзéўся.* Гарадзец. *У прыбáніку раздзявáліся.* Вялікі Азярэцк. *У прыбáйнік згружáіш бýльбу. Во дош, а я пірабірáю, ні нъ дварэ́.* Неўгадава.

**ПРЫБАЎ́ТКА, ПРЫБАЎ́ШКА** *ж.* Прыгаворка, выслоўе, прыказка. *Што ужó гéтых прыбаўтак знáець!* Вялікі Азярэцк, Нямойта. *Прыбаўшкі раскáзываў.* Багданава, Леснікова.

**ПРЫБА́ЎКА** *ж.* Прыбаўка, дамешка. *Прыбáўка з піскá былá ў смалý* [на мянташцы]. Леснікова.

**ПРЫБАЎЛЯ́ЦЬ, ПРЫБУЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Прыбаўляць, дадаваць. *Я усё ап сабé прыбаўля́ю гады́.* Дольдзева. 2. Павышаць, дабаўляць. *Мне прыбуўля́лі пéнсію.* Ульянавічы.

**ПРЫБЕГА́ЦЬ** *незак.* Прыбягаць. *Дзéвір прыбегáіць, гавóрыць: «Алéксінічы гарáць – бýдзім уцікáць».* Леснікова.

**ПРЫБЕ́РЫЦЬ** *зак.* Прыбраць, апрануць. *Хай хърашó ні прыбéрыш дзяцéй, а карміць нáда.* Закур'е.

**ПРЫБІВА́ЦЦА** *незак.* Прыбівацца, прыблукаць. *К нам прыбівáюцца каты́.* Багданава.

**ПРЫБІВА́ЦЬ** *незак.* Прыбіваць, прымацоўваць. *Рáньшы к лáтам прывя́зывалі салóму, а цяпéр во шы́фер прыбівáюць.* Фасаўшчына.

**ПРЫБІРА́ЦЦА** *незак.* Прыбірацца, апранацца прыгожа. *Съмá і прыбірáіцца, съмá і надзівáіцца.* Запруддзе.

**ПРЫБІРА́ЦЬ** *незак.* Выбіраць, рабіць паз. *У гóнтах нáда спецыя́льна шпáры прыбірáць.* Сукрэмна.

**ПРЫБІРА́ЦЬ** *незак.* 1. Прыбіраць, апранаць прыгожа. *Прыбіра́юць то́лькі на кут* [нябожчыка] *ці маладу́ху.* Сянно. 2. Даглядаць, карміць. *Скаці́ну прыбіра́ць к ве́чару на́да. А тут на́да і скот прыбіра́ць, і дзе́ці.* Багданава. *За дзень заціга́ішся ужо́, скарэ́й лажы́сся, скот прыбіра́іш і лажы́сся.* Міцюкова.

**ПРЫБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Прыстаць. *К аднаму́ там прыбілася – і жыве́ць.* Савінічы. 2. Здарыцца. *Бува́іць, што прыб'е́цца, ці плахо́е, як пту́шка б'е́цца ў вакно́.* Розмыслава.

**ПРЫБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Трапіць, ударыць. *Мяне́ ў вайну́ прыбіла мо́лнія.* Вялікі Азярэцк. 2. Прымусіць, заставіць. *Не хо́чуць ма́льцы рабо́тать, прыбі́ць іх к рабо́це – паспрабу́й!* Баравікі.

**ПРЫБЛУДЗІ́ЦЦА** *зак.* Прыбіцца. *Прыблудзі́ўся сюда́.* Серкуці.

**ПРЫБЛУ́ДНЫ** *прым.* Прыблуда, чужы. *Прыбы́цкія лю́дзі – хто прые́халі, а не – так прыблу́дныя.* Фасаўшчына.

**ПРЫБО́РЫ** *толькі мн.* Уборы, адзенне. *У скры́ні палаце́нца, прыбо́ры, які́я дзе́ўка но́сіць.* Багданава. *Адзе́жы ні пънашу́. А які́я там мне прыбо́ры на́да?!* Івоні.

**ПРЫБРА́ЦЦА** *зак.* Прыбрацца, апрануцца прыгожа. *Прыбра́ўся ты, як маладзён.* Леснікова.

**ПРЫБРА́ЦЬ, ПРАБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Навесці парадак, чысціню. *Яна́ усе́ прабе́рыць у ха́ці.* Закур'е. 2. Упрыгожыць. *Каня́ прыбяру́ць, зво́ніць, як маладу́ху вязу́ць.* Міцюкова.

**ПРЫ́БЫЛЬ** *ж.* Прыбытак. *Як яі́чкі харо́шыя ві́дзіш во сне́ – к пры́былі* (павер'е). Каралевічы.

**ПРЫБЫ́ЦКІ** *прым.* Прыезджы. *Прыбы́цкія лю́дзі – хто прые́халі.* Фасаўшчына.

**ПРЫВАЗІ́ЦЬ, ПРАВАЗІ́ЦЬ** *незак.* Прывозіць. *Яўрэ́і тургува́лі, прывазі́лі шэрсць, плюш чо́рный і бе́лый – дзе́сіць капе́ек аршы́н.* Багданава, Каралевічы. *Мы правазі́лі я́блыкі.* Латыгаль.

**ПРЫВАЛАЧЫ́** *зак.* Прывалачы, прынесці. *Як ён яе́, ту шчу́ку, прывало́к.* Заазер'е.

**ПРЫВА́РАК, ПРЫВА́РУК** *м.* Пшанічная мука, крупы, якія выкарыстоўваліся для прыгатавання ежы. *Прыва́рак харо́шы быў, – пшані́ца ніабдзіра́ная. На прыва́рак мало́лі с пшо́ннай мукі́.* Багданава. *Кру́пы дзе́лалі – прыва́рук.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫВА́РВАЦЦА** *незак.* Прыліпаць запякаючыся. *На капу́сны ліст не садзі́лі хлеб – прыва́рваецца. На лапа́ту – і ў печ, а там муко́й пасы́піш.* Самсоны.

**ПРЫВА́РКА** *ж.* Пшанічная ці ячменная мука. *Прыва́рку мало́лі з ячме́ню, з пшані́цы.* Багданава.

**ПРЫВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Зварыць, згатаваць. *Абы́ е́сці прывары́ць мне іна́ мыгла́ п.* Міцюкова. *Абы́ е́сці прывару́.* Кішуроўшчына.

**ПРЫВЕ́СЦІ** *зак.* Прывезці. *Абішча́ла прыве́сці лісі́чык, у їх пыд вакно́м грыбы́.* Нямойта, Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ПРЫВЕ́СЦІ** *зак.* Прывесці. *Прывялі ста́ршага ўрача́.* Дольдзева.

**ПРЫВЕ́ТАК** *м.* Пабудова, падпаветак. *Прыве́так увесь спалі́лі да тла.* Фасаўшчына.

**ПРЫВІДЗЕ́ННЯ, ПРЫВЯДЗЕ́НІЯ** *н.* Прывід, здань. *Не́йкае прывідзе́ння кыла кла́дбішча.* Ракаў Засценак. *Мне самэ́й зда́нькі здъва́лісі, прывядзе́нія тако́я.* Багданава.

**ПРЫВІЛЕ́Я** *ж.* Прывілея. *Не́йкую дзе́лаюць прывіле́ю – калхо́с.* Івоні.

**ПРЫВІТА́ННЕ** *н.* Прывітанне, вітанне. *Прывіта́нне – е́та, е́та ка́жуць: «До́бра ву́тра!»* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫВО́Д** *м.* Прылада, якая прыводзілася ў рух канём; конная малатарня, прывод. *Ко́німіі, прыво́дъм мълаці́лі.* Каралі.

**ПРЫВО́ЗНЫ** *прым.* Прывазны, прывезены. *Прыво́зны лук у нас.* Закур'е. *Не сваё – прыво́знае, дарагое.* Партызаны.

**ПРЫВУЧА́ЦЬ** *незак.* Прывучваць. *Мъладзёш ні прывуча́юць ні к чаму́.* Латыгаль.

**ПРЫВУЧЫ́ЦЬ** *зак.* Прывучыць, выпрацаваць звычку. *Я сваю каро́ву прывучы́ла так.* Кішуроўшчына.

**ПРЫВЫКА́ЦЬ** *незак.* Прывыкаць, прызвычайвацца. *Я тры гады́ прывыка́ў, паку́ль прывы́к да жо́нкі.* Ульянавічы.

**ПРЫВЫ́КНУЦЬ** *зак.* Прывыкнуць, асвоіцца. *Дзе чорт прывы́к? – У бало́ці.* Рулёўшчына.

**ПРЫВЫ́КШЫ** *дзеепрысл.* Звыкнуць, прызвычаіцца. *У дзярэ́ўні прывы́кшы так е́сці.* Багданава. *Я прывы́кшы к го́ру.* Вялікі Азярэцк. *Каро́вы прывы́кшы ў по́лі – раву́ць у хле́ві.* Неўгадава, Латыгаль.

**ПРЫВЫ́ЧКА** *ж.* Прывычка, звычка. *У прывы́чку ўвайшло́ – не́як і блі́зка.* Партызаны, Самсоны.

**ПРЫВЯЗА́ЦЬ** *зак.* Прывязаць. *У дварэ́ хвост прывяжу́ або́рынкай і даю́* [пра карову]. Чуцькі. *Лазо́й прывя́жуць тро́ху, во перавя́жуць, перавя́жуць згаро́ду.* Запруддзе.

**ПРЫВЯ́ЗЫВАЦЬ** *незак.* Прывязваць, прымацоўваць. *Ра́ньшы к ла́там прывя́зывалі сало́му, а цяпе́р во шы́фер прыбіва́юць.* Фасаўшчына.

**ПРЫ́ВЯЗЬ** *ж.* Прывязь, прывязка. *Хуць ты іх* [дзяцей] *на пры́вязь, так бясі́цца то́лькі яны́ мо́гуць.* Партызаны.

**ПРЫВЯ́НУЦЬ** *зак.* Падвянуць, падсохнуць. *Тро́шычкі прывя́ніць се́на, і кла́лі ў капе́шку* [а тады дасушвалі]. Запруддзе.

**ПРЫГАВО́Р, ПРАГАВО́Р** *м.* Варажба, чараўніцтва. *Ат прыгаво́ру: у сучо́к пралі́ць тры разы́ вады́ і папы́рскаць, як суро́цы ў дзіця́.* Вялікі Азярэцк. *А ёсць і тако́е сло́ва, што с прыгаво́ру во січа́с ста́ніць пло́ха – і ўсё тут, асуро́чыць.* Запруддзе. *Ле́ва во́ка прапа́ла ў яго́ ат прыгаво́ру. Крыў ха́ту сало́май, адзі́н і сказа́ў: «Ой, до́бра накры́ў!» Но́ччы забале́ла гълава́ і во́ка.* Партызаны. *Ваду́ даю́ць ат прагаво́ру.* Партызаны.

**ПРЫГАВО́РА** *ж.* Прыгаворка, выслоўе. *Ну, прыгаво́ру гаво́раць: жыві́ця, дзе́ткі, дру́жна.* Запруддзе.

**ПРЫГАВО́РКА** *ж.* Тое ж. *Ка́ждая прыгаво́рка справядлі́вая.* Каралевічы.

**ПРЫГАВО́РЧЫВЫ, ПРАГАВО́РЧЫВЫ** *прым.* Прыгаворны, чараўнічы. *Міну́та мо́жа быць така́я прыгаво́рчывая.* Манголія. *Стара́йся атніма́ць ат сіські адзі́н раз, а то як атні́міш і другі́ раз даш – глаза́ нехаро́шыя; як паду́маіць, таму́ пло́ха ста́ніць – такі́ прагаво́рчывы.* Партызаны.

**ПРЫГАДАВА́ЦЬ** *зак.* Выгадаваць, вырасціць. *Прыгадава́ла так дзяце́й, – так, гэ́дак: на рабо́ту хадзі́ла.* Гарадзец.

**ПРЫГАЖАВІ́ТЫ, ПРЫЖЫГАВІ́ТЫ** *прым.* Прыгожы. *Стаі́ць загаро́да та́я, ні прыгажаві́тая, а стаі́ць.* Запруддзе. *Абы-іка́я, ні прыжыгаві́тая.* Запруддзе.

**ПРЫ́ГАЛАШКА** *ж.* Палена, плашка (пад касцёр, пад клетку дроў у печы). *Пъкладзі прыгълъшкі і нъкладзі дроў!* Міцюкова.

**ПРЫГА́РКА** *ж.* Прыгарка, падгарэлае месца на страве. *Прыгáркі ядýць, я й самá люблю.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫГАРНУ́ЦЦА** *зак.* Прыгарнуцца, прытуліцца. *З чыстым сéрцам к табé прыгарнýся.* Каралевічы.

**ПРЫ́ГАРШЧЫ, ПРЫГО́РШЧЫ** *мн.*, **ПРЫГО́РШЧ** *м.* 1. Прыгаршчы. *Дык у жмéньку ні вóзьміш вадьí – у прыгóршчы.* Заазер'е. 2. Колькасць чаго-н., змешчанага ў прыгаршчы. *Набрáла цэ́лы прыгóршчы.* Сукрэмна. *Прыгóршчы набрáла.* Фасаўшчына. *Дзéжку дзервя́нную расчыня́лі, бýльбы спáраш, мукí, падóйдзіць – бýльбы здзярэ́ш, яшчэ́ прыгаршчы мукí усыпіш, спячэ́ш – смáчны хлеб.* Запруддзе. *Прыгóршчы мукí нъ два стакáна вадьí.* Багданава. *Закалáцілі харóшы кулéш с харóшай мукí. Прымéрна, чыгунóчак вадьí і прыгóршч мукí.* Нямойта. 3. Памерам з прыгаршчы. *Крýпныя я́блькі, па прыгаршчы.* Каралевічы. ПРЫГО́РШЧЫКІ *памянш. Апчы́сціла шымпіёны, прыгóршчыкі іх былó.* Баравікі.

**ПРЫГАТА́ЎЛІВАЦЬ** *незак.* Рыхтаваць, прыбіраць. *Прыгатáўлівъім хáту, і вячóркі тадьí.* Запруддзе.

**ПРЫ́ГАЦЬ** *незак.* Скакаць. *Тхарыца на нас прыгала.* Партызаны. ПРЫГ. Скокнуць. *Прыг – трусёначак ускóчыў у хáту.* Партызаны.

**ПРЫГЛАША́ЦЬ** *незак.* Запрашаць выпіваць. *Гарэ́лкі былó, то стайіць кълa ягó паўлітра, і ён сам сваю душý ў гóсці прыглашáйіць.* Дуброўкі.

**ПРЫГЛЕ́ДЗІЦЬ** *зак.* Прыгледзець, дагледзець. *Ты не грашьí богý: яшчэ́ самá за сабóй прыглéдзіш.* Нямойта.

**ПРЫГЛУПІ́ЦЬ** *зак.* Здураваць, учыніць глупства. *Я ужэ́ прыглупíла: гасудáрство мне б памаглó.* Баравікі.

**ПРЫГЛЯДА́ЦЬ, ПРЫГЛІДА́ЦЬ** *незак.* Прыглядаць, даглядаць. *Адзін другóга прыглядáць стáлі.* Нямойта. *А ёй далí чалавéка, каб трóху прыглідáў яé.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫГНА́ЦЬ** *зак.* Прыгнаць куды-н., загнаць. *То карóву прыгóнь, то яшчэ́ што знóйдзецца з рабóты.* Нямойта.

**ПРЫГО́ДЫ** *мн.* Прыгоды. □ *На гот мнóга прыгóт, а на вякý – як на даўгéй ніве.* Ульянавічы.

**ПРЫГО́Н** *м.* Прыгонніцтва. *За прыгóнъм жылí, яньí ръскáзвалі.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫГРЭ́ЦЦА** *зак.* Прыгрэцца, сагрэцца. *Віцебскім сóнцам як прыгрэ́ецца – і нічóга.* Буй. *Як кот на сóнцы, прыгрэ́ўся.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫГРЭ́ЦЬ** *зак.* Падагрэць. *Вадьí на гáзі прыгрэ́ю.* Неўгадава.

**ПРЫГУБІ́ЦЬ** *зак.* Прыгубіць, пакаштаваць. *Тóлькі прыгубíла віна – янá пат пáху дзіця́: то на гълавý, то пад мóсцік дзяцёнка.* Нямойта.

**ПРЫГУМЕ́ННЕ** *н.* Месца, плошча, дзе стаялі гаспадарчыя пабудовы; прыгуменне. *Прыгумéнне – дзе пастрóйкі стаялі.* Нямойта.

**ПРЫ́ДАМ** *прысл.* ◊ СЕ́СЦІ ПРЫ́ДАМ. Зацвярдзець. *Зямля́ прыдам сéла, нямóжна ускалупнýць. Нямóжна убíць нічóга ў зямлю́, так прыдам зямля́ сéла.* Нямойта.

**ПРЫДА́НАЕ, ПРЫ́ДАНАЕ, ПРЫДА́ННАЕ, ПРЫ́ДАННАЕ, ПРЫ́ДАННА, ПРАДА́ННЯ** *н.* Пасаг. *Прыдáнае бáцька дась: кабылы, быка.* Міцюкова. *А пóслі тадьí éдуць, прыдáнкі звáлісі, éта ужó прыданае яé вязýць, ну, сундýк*

*ці як там.* Гарадзец. *Прыда́ннае маладу́се вязу́ць. Маладу́хіна прыда́ннае.* Багданава. *У сундуку́ было́ прыда́ннае.* Нямойта. *Пры́даннае дъва́лі: і къня́, і каро́ву, і скры́ню ўкі́ніць.* Запруддзе. *Дъва́лі пры́данна: каро́ву дъва́лі, бъга́ту скры́ню дъва́лі – тру́бак* [саматканага палатна] *мно́га.* Дольдзева. *Бы́ка яко́га у прада́ння на́да даць.* Міцюкова.

**ПРЫДА́НІЕ** *н.* Паданне. *Прыда́ніе гаво́рыць, што стараве́ры пры́былі с Се́вера.* Закур'е.

**ПРЫДА́НКІ** *мн.* Вясельныя госці з боку маладой. *А по́слі тады́ е́дуць, прыда́нкі зва́лісі, е́та ужо́ пры́данае яе́ вязу́ць.* Гарадзец.

**ПРЫДА́ТКІ** *мн.* Дабавачная зямля да асноўнага надзелу; дадатак. *Прыда́ткі – у нас ёсць уча́стак зямлі́ асо́бна.* Гарадзец.

**ПРЫДА́ЦЕЛЬ** *м.* Здраднік; чалавек, які пайшоў на службу да немцаў. *Прыда́целі былі́, во не́мцам прыда́лісь.* Леснікова.

**ПРЫДА́ЦЬ** *зак.* Дадаць, дабавіць. *Мя́са, парэ́жыш яго́, прыпра́вы прыдасі́: там і со́лі, кмі́ну, і цыбу́лі, часнаку́.* Багданава.

**ПРЫДБА́ЦЬ** *зак.* Прыдбаць, набыць. *Каро́ўку прыдба́лі, ха́ту паста́вілі но́вую.* Багданава. *Мы жа сваі́м трудо́м усё прыдба́лі.* Партызаны.

**ПРЫДЗВЕ́РНЫ** *прым.* 1. Швейцар. *Вучы́ся, а то бу́дзіш у рыстыра́ні зы прыдзве́рныга.* Сянно. 2. Сакратар (ва ўстанове). *Зайці́ не́ік, дзяржы́ць сабе́ прыдзве́рных!* Сянно.

**ПРЫДЗЁРКІ** *мн.* Дадатак прыаранай цаліны. *На прыдзёркъх се́ілі лён.* Гарадок.

**ПРЫДЗЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Падзяліць, даць. *Бох прыдзялі́ў: тро́е яму́, тро́е мне – дзяце́й.* Багданава.

**ПРЫДУ́МА** *ж.* Назва, прыдумка. *Кабы́лка, капы́цік, блін – е́та адзі́н грып, е́та прыду́ма ўсё.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫДУ́МАЦЬ** *зак.* 1. Выдумаць. *Міну́шкі – е́та прыду́маюць на чалаве́ка і бу́дуць гавары́ць.* Запруддзе. 2. Задумаць. *К чаму́ гэ́та яны́ прыду́малі?* Заазер'е. 3. Зразумець. *Чаму́ так, я ні магу́ прыду́маць.* Латыгаль. 4. Успомніць. *Яшчэ́ мо́жа што прыду́маеце? На́да ўсё запіса́ць.* Багданава.

**ПРЫДУМЛЯ́ЦЬ** *незак.* Прыдумляць, выдумляць. *Ну, не́шта яны́ там прыдумля́лі. Мы яшчэ́ тако́га ня ві́дзелі, як яны́ здзе́лалі касцёр.* Запруддзе, Гарадзец.

**ПРЫДУ́РВАЦЦА** *незак.* Прыкідвацца, прытварацца. *А то не́катарыя прыду́рвалісі. Во́зьміць аглёблі асмо́ліць і е́здзіць – на пагарэ́льца про́сіць.* Марозаўка.

**ПРЫДУРНІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць здаровага дурным ад лупцоўкі, удараў. *Ты паб'е́ш ба́бу, прыдурні́ш яе́, а ёй дзяце́й гудува́ць.* Нямойта.

**ПРЫДУРЫ́ЦЦА** *зак.* Прыкінуцца, прытварыцца. *На́да ш прыдуры́цца, што я бъльна́я.* Баравікі.

**ПРЫЕ́ЖДЖЫ** *прым.* Прыезджы. *Сусе́т, ён прые́жджы.* Заазер'е.

**ПРЫЕ́ХАЎШЫ** *дзеепрысл.* Прыехаць, прыбыць. *Дъчка́ прые́хаўшы з Во́ршы ў го́сці, і дво́е дзе́так прые́хаўшы.* Закур'е. *Дачка́ была́ прые́хаўшы.* Леснікова. *Былі́ прые́хаўшы ў го́сці сын і няве́стка.* Чуцькі.

**ПРЫЕ́ХАЦЬ** *зак.* Тое ж. *Ну й прые́халі ў сва́ты, а ба́цька і ма́тка – ні ду́хі* [не хочуць]. Багданава. *Прые́дзь узва́ж ръська́, а ён быў чаты́рысты пі́дзіся́т кі́лъгра́м.* Сянно.

**ПРЫЁМНЫ** *прым.* Гасцінны. *Прыёмныя былі́, хоць і бъга́тыя. Прыёмныя лю́дзі былі́, харо́шыя, але́ іх усі́х павы́гналі.* Ракаў Засценак.

**ПРЫЖАНІ́ЦЦА** *зак.* Прыжаніцца, ажаніцца. *Ён там і прыжаніўся.* Багданава.

**ПРЫЖАНІ́ЦЬ** *зак.* Прыжаніць, ажаніць. *Прыжанілі яго́ – вот і ўсё.* Багданава.

**ПРЫЖА́ЦЬ** *зак.* Натрудзіць, давесці да хваравітага стану. *Схвацілася бале́ць рука́: прыжа́ла рабо́тай.* Баравікі.

**ПРЫЖЫ́ЎШЫСЯ** *дзеепрым.* Загоены. *Ме́сто было́ прыжы́ўшыся у яе́, ба́ба зале́зла, а кроў як хлы́нула.* Цясішча.

**ПРЫЖЫ́ЦЕЛЬ** *м.* Жыхар. *Прыжы́целяў тых не было́, мы са́мі капа́лі кало́дзісь.* Мянюцева.

**ПРЫЖЫ́ЦЦА** *зак.* Прызвычаіцца, прыстасавацца. *Із дзе́цьмі захаце́ла* [жыць] *іна́, і там пражыла́ся, у е́тым Мі́нску.* Багданава.

**ПРЫЖЫ́ЦЬ** *зак.* Прыжыцца, прарасці. *Свая́ раса́да прыжыве́ць.* Чуцькі.

**ПРЫЗАПА́СІЦЦА** *зак.* Назапасіцца, мець у вялікай колькасці. *А хто прызапа́сіўся ра́ньшы – у таго́ й бяро́м.* Заазер’е.

**ПРЫЗАПА́СІЦЬ** *зак.* Пакінуць. *Зямлі́ мала́ прызапа́сіла для раса́ды.* Леснікова.

**ПРЫЗВАНО́ШНІК** *м.* Пазваночнік. *Прызвано́шнік паўрадзіла – гърба́ты.* Гарадзец.

**ПРЫ́ЗВІШЧА** *н.* 1. Родавае імя, мянушка. *Пры́звішча да́лі Мъргаве́ц* [з Маргоў]. Багданава. *Шмэ́карыха – пры́звішча тако́е ў яе́.* Дольдзева. *Пры́звішча тако́я – Вусёнык.* Запруддзе, Гарадзец. 2. Назва. *Ну, пры́звішча ў ко́жнай вёскі ёсць.* Заазер’е. *Узго́ўя, Траццінікі – такія пры́звішчы. На Траццінках жа́лі.* Кішуроўшчына. *Пры́звішча таго́ ме́ста – Пачо́піца.* Рассвет, Партызаны. 3. Выслоўе. *Спа́саўка – ла́саўка – пры́звішча.* Чуцькі.

**ПРЫЗНАВА́ЦЬ** *незак.* Лічыць, меркаваць. *Хто ў ру́кі рэ́жыць* [мяса, якім начыняюць каўбасы], *а хто – на машы́нку. Але́ прызнаю́ць, што ў ру́кі укусне́й, як на машы́нку.* Багданава, Запруддзе.

**ПРЫ́ЗНАК** *м.* Прыкмета. *Усё на све́ці на пры́знъкъх.* Нямойта.

**ПРЫЗНА́ЦЬ** *зак.* Устанавіць, выявіць. *Так не прызна́лі хво́рай.* Багданава.

**ПРЫІ́МЧЫВЫ** *прым.* Успрымальны, урочлівы. *Като́ры арганізм прыі́мчывы к глаза́м.* Каралевічы, Нямойта. *Зяць ка́жэць, што прыі́мчывая жанчы́на.* Багданава.

**ПРЫЙШО́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Прыйсці. *С фро́нту прыйшо́ўшы памёр.* Багданава.

**ПРЫКАЗ**, **ПРЫКА́С** *м.* Загад. *Прышо́ў прыка́с, што і зъ нядзе́лю пасе́іць.* Фасаўшчына.

□ *Як пры́дзіць прыка́з – ступа́й ура́с.* Запруддзе.

**ПРЫ́КАЗКА** *ж.* Прыказка; прыгаворка, зачын казкі. *Э́та так, пры́казка была́.* Заазер’е.

**ПРЫКАПЫ́ЛІЦЬ** *зак.* Падрыхліць. *Цыбу́ля про́сіцца прыкапы́ліць.* Баравікі.

**ПРЫКАРЭ́ЦЬ** *зак.* 1. Прыліпнуць. *Прыкарэ́лі бу́льбіны к чыгуну́.* Вялікі Азярэцк. 2. Забалець, усохнуць (?). *Прыкарэ́ла рука́, падыма́ць тру́дна.* Баравікі.

**ПРЫКАСА́ЦЦА** *незак.* 1. Прыставаць (пра хваробу). *Сы спу́гу, спуга́еўца чалаве́к, прыкаса́еўца да яго́ паду́чая бале́сць.* Баравікі, Запруддзе. 2. *перан.* Прывязвацца. *Чаго́ ты прыкаса́лася к яму́? Чаго́ ён прыкаса́еўца к дачцэ́?* Запруддзе.

**ПРЫКІ́ДВАЦЦА** *незак.* 1. Трапляцца. *Вавёрка – жаўтля́вая, і цёмненькія вало́сікі на ней прыкі́дваюцца.* Багданава. *Бу́рыя пя́тны прыкі́дваюцца* [у каровы]. Гарадзец. 2. Прыставаць, прычэпліваўцца (пра нядобрае, хваробу). *Не́йкая хале́ра прыкі́дваецца – іці́ не́ік.* Запруддзе.

**ПРЫКІ́НУЦЦА** *зак.* 1. Ператварыцца, перакінуцца ў каго-н. з дапамогай чараў. *Чараўнікі і лягўшкай мóгуць прыкінуцца і карóў смактáць.* Партызаны. 2. Раптоўна наступіць, прыстаць (пра хваробу). *Парэ́жаш – прыкінецца нарыў.* Запруддзе. *Бóлей што прыкінецца, як не так лéчыш.* Гарадзец. *Як застўдзіць вўха, зноў прыкініцца* [хвароба]. Запруддзе.

**ПРЫКІ́НУЦЦА** *зак.* Прыбавіцца, прыарацца дадаткова. *Прыкінуцца к гэ́таму загóну пупярóчкі.* Цясішча.

**ПРЫКІ́НУЦЬ** *зак.* Прыбавіць, прыараць дадаткова. *Прыкінуць к загóну пупярóчкі.* Цясішча.

**ПРЫКІПЕ́ЦЬ** *зак. экспр.* Прыкіпець, надоўга засядзецца. *Прышлá к табé і прыкіпéла.* Івоні.

□ *Сéла, як прыкіпéла.* Фасаўшчына.

**ПРЫКІ́СЛІЦЬ** *зак.* Закісліць, зрабіць кіславатым, дадаўшы смятаны. *Прыкіслі пóліўку смятáнай.* Гарадзец.

**ПРЫКІ́СНУЦЬ** *зак.* Падкіснуць. *Съладўха съ ражанэ́я мукі прыкісніць...* Запруддзе. *Як прыкісніць, варылі тады́* [кулагу] *у пéчы.* Міцюкова. *Піце канпóт, а то сычáс прыкісніць.* Парэчча.

**ПРЫКЛАДА́ЦЬ, ПРАКЛАДА́ЦЬ** *незак.* 1. Класці на што-н. *Бувáла праклaдáлі камянькі к магілам. Камянькōў цяпéр ні пракладáюць на магілы.* Партызаны. 2. Прыкладваць, абкладваць. *Смітáнай нáда намáзаць і прыкладáць.* Багданава. *І дзядóўнік прыкладáю к стўпням.* Марозаўка. 3. Прыбаўляць, дабаўляць. *Не прыкладáй мне гадóў.* Дольдзева.

**ПРЫКЛЕ́НЧЫЦЬ** *зак.* Прыкленчыць, стаць на калені. *Прыклéнчыў у цэ́ркві, даў паклóн.* Нямойта.

**ПРЫКЛЕ́ТНІК** *м.* Пабудова для захавання збожжа; свіран. *Прыклéтнік як навéс, там мы збóжжа хувáлі.* Серкуці.

**ПРЫКЛЮЧЫ́ЦЦА** *зак.* Напасці, прыстаць (пра хваробу). *Прыключылася балéзня ад сурóцы.* Нямойта.

**ПРЫКЛЯПІ́ЦЬ** *зак.* Прыкляпаць, прымацаваць. *Дзя́дзя Міфóдзя, прыкляпіця мне брóшку.* Запруддзе.

**ПРЫКО́РЧЫЦЬ** *зак.* Скруціць ад болю. *Шыю прыкóрчыла, зусім не маглá.* Алексінічы. *Каб табé прыкóрчыла рўкі і нóгі!* (праклён). Запруддзе.

**ПРЫ́КРА** *прысл.* Слотна, непагодліва. *Цяпéр халóдна, лéтась нéяк прыкра былó.* Багданава.

**ПРЫКУКО́ЖЫЦЬ** *зак.* Прыкончыць, забіць. *Прыкукóжыў ягó.* Фасаўшчына.

**ПРЫКУ́ПЛІВАЦЬ** *незак.* Прыкупліваць, закупліваць. *Éздзім, прыкўпліваем хлéба.* Неўгадава.

**ПРЫКУСІ́ЦЬ** *зак.* ◊ ПРЫКУСІ́ЦЬ ЯЗЫ́К. Раптоўна замаўчаць, устрымацца ад размовы. *Язык прыкусю.* Міцюкова.

**ПРЫЛА́Д** *м.* Прыладак, камплект. *З усім прылáдам дáлі каліндáр.* Нямойта.

**ПРЫЛА́ДЗІЦЦА** *зак.* 1. Падрыхтаваць неабходнае. *Пакўль прылáдзіліся зашывáць, ён падняўся і ўцёк – быў парэ́заны.* Багданава. 2. Прыбрацца, апрануцца святочна. *Бáбы прыбярўцца, прылáджуцца і йдуць там, нъ клáдбішча.* Запруддзе. 3. Падрыхтавацца (да смерці). *Я ўжо пымірáць прылáдзілься.* Нямойта. 4. Абдумаць, прымеркавацца. *Янó ж нáда каб прылáдзіцца, што і як гаварыць.* Ракаў Засценак.

**ПРЫЛА́ДЗІЦЬ** *зак.* 1. Адрамантаваць, падрыхтаваць. *Хазя́ін жо́рны пры ла́дзіў.* Цясішча. *Прыла́дзілі калёсы, вязу́ць сабо́ю, ні канём: «Дава́йце ўса́дзім ба́бу, што памякчэ́й, што пакрапчэ́й!»* [на хрэсьбінах]. Нямойта. 2. Згатаваць, прыгатаваць (пра ежу). *На газу́ прыла́джу чаго́ з'е́сці.* Закур'е. *Свайго́ прыла́дзіш закусі́ць.* Багданава. *Ты ж мне так прыла́дзіла* [пра прыгатаваную ежу] – *су́ткі стаі́ць.* Дольдзева. *Прыла́дзіла пае́сці сыну.* Каралевічы. 3. Нарыхтаваць. *К Па́сцы як прыла́дзіш бу́лык, кунпя́к, яе́ц, сыру.* Запруддзе. 4. Падрыхтаваць (да смерці). *Хто мне тады́ прыла́дзіць* [пра адзенне для смерці], *як памру́.* Леснікова. 5. Зрабіць. *С хле́ба прыла́дзіш со́ску і дае́ш дзіцёнку.*

**ПРЫЛА́ДЫ** *мн.* Прылады (калаўрот, верацяно і інш. начынне для традыцыйна жаночага вытворчага занятку). *Гэ́та ба́бскія прыла́ды – пра́лка, пра́сніца.* Каралі.

**ПРЫЛАЎЧЫ́ЎШЫСЯ** *дзеепрысл.* Прывучаны. *Ні прылаўчы́ўшыся рабі́ць.* Багданава.

**ПРЫЛА́ЎШЧЫК** *м.* Прадавец. *Прыла́ўшчык яго́ лю́біць, услу́жлівы: ён да до́му давязе́ць.* Жохава.

**ПРЫЛЕ́ПЛЕНЫ** *дзеепрым.* ◊ ЯК ПРЫЛЕ́ПЛЕНЫ. Дакладна па памеры. *На́да сядзёлка, а так хаму́т на ме́сце як прыле́плены.* Гарадзец.

**ПРЫЛЁТНЫ** *прым.* Прыстасаваны для пасадкі пры прылёце. *Прылётная даска́, штоб пчо́лам садзі́цца.* Запруддзе. *Э́та прылётная даска́, а э́та літо́к называ́ецца.* Нямойта.

**ПРЫЛІ́ЦЬ** *зак.* Уліць. *Замо́к закры́лі і тры разы́ па дзе́вяць раз прылілі вады́* [ад сурокаў]. Багданава.

**ПРЫЛУЎЧЫ́ЦЦА** *зак.* Прылаўчыцца, прыстасавацца. *Ён як се́е, ужэ́ пры луўчы́ўся, як пасо́джано.* Багданава.

**ПРЫЛЯГА́ЦЬ** *незак. перан.* Настойліва дапытвацца, дабівацца. *Ма́ці ста́ла к дачцэ́ прыляга́ць.* Кляпчэва.

**ПРЫЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Прыляцець. *Як буця́н прыляці́ць дъ Благаве́шчання і ся́дзіць – ско́лькі дней сядзі́ць, сто́лькі дней бу́дзіць хо́ладна усе адно́* (з назіранняў). Дольдзева, Гарадзец.

**ПРЫМАЗГАВА́ЦЬ** *зак.* Надумаць. *Прымазгава́ў – наду́маў.* Фасаўшчына.

**ПРЫМА́К, ПРЫМА́КА** *м.* 1. Прымак. *А былі ж дзіўча́ты, што ні было́ мушчын, бра́лі прымака́.* Марозаўка. *І ты прыма́ка, і я прыма́ка, / Мы о́ба прыма́кі. / Пазбіра́ем клума́кі – / І наўцёкі прыма́кі* (з песні). Вялікі Азярэцк. *Рапто́ўна умір, так узяла́ прыма́ку.* Леснікі, Заазер'е. 2. *мн.* Жыццё ў прымаках. *Пръма́кі надаелі.* Дольдзева. ◊ ПА ПРЫМА́КАХ пайсці. Жыць у прымаках. *Ацец пайшо́ў па пры ма́ках.* Карпавічы.

**ПРЫМАРО́ЗІЦЬ** *зак.* Лёгка падмарозіць. *А тады́ мо́жа прымаро́зіць у ма́і.* Фасаўшчына.

**ПРЫ́МАЎКА** *ж.* Прымаўка, выслоўе. *Пры́маўка тъка́я ёсь.* Дольдзева. *На све́ці мно́га ўся́кіх пры́мавак, уся́кіх пра́знікаў.* Самсоны.

**ПРЫМАЎЧА́ЦЬ, ПРЫМО́ЎЧЫЦЬ** *зак.* Прамаўчаць, стрымацца. *Вы́піў ча́рку – прымаўчы́ сабе́. Вы́піў ча́рку – прымо́ўчы яму́, а наза́ўтра гавары́.* Дольдзева.

**ПРЫМА́ЦЬ** *незак.* 1. Забіраць назад. *Прыма́йця свае́ ска́цёркі пянько́выя, / Мы пасце́лім свае́ шаўко́выя* (з песні). Закур'е. 2. Атрымліваць, забіраць. *Ідзі́ рас пі́сывыйсі, ідзі́, «касі́р», прыма́й гро́шы* [гаспадар гаворыць гаспадыні, калі прыносяць пенсію]. Гарадок, Латыгаль, Ракаў Засценак. 3. Прымаць на працу. *І́хнія се́м'і*

*вярну́ліся, а на рабо́ту ні пуска́лі, ні прыма́лі* [пра кулакоў]. Буй. 4. Частаваць. *Я ўсіх* [гасцей], *ка́жыцца, прыма́ю.* Міцюкова.

**ПРЫМЕ́РНА** *прысл.* Напрыклад. *Ра́ньшы я быў хъзя́іным, пры́ме́рна.* Фасаўшчына.

**ПРЫ́МЕСЬ** *м.* Прымесь. *Не́йкі пры́месь ду́жа сільны есць.* Жохава.

**ПРЫМЕ́ТА** *ж.* ◊ НІ Ў ПРЫМЕ́ЦІ. Не ведаць. *Не́шта ні ў прыме́ці, кап так къза́лі.* Запруддзе.

**ПРЫМЕ́ЦІЦЬ** *зак.* Прыкмеціць, заўважыць. *Я ўжо прыме́ціла даўно́ яго́.* Леснікова.

**ПРЫМІРЫ́ЦЦА** *зак.* Прымірыцца, памірыцца. *Ні за што ні прыміру́ся з ім! – браха́ла на яго́.* Багданава.

**ПРЫМКНУ́ТЫ** *дзеепрым.* Закрыты, зачынены ненадоўга. *Ха́та прымкну́та.* Неўгадава.

**ПРЫМКНУ́ЦЬ** *зак.* Прымкнуць, далучыцца. *Ён прымкну́ў да мяне́, як ішлі́ дамо́ў.* Міцюкова.

**ПРЫМУ́ДРАВЫ** *прым.* Разумны, вынаходлівы. *Лю́дзі такія прыму́дравыя былі.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫМУДРА́ЦЦА, ПРАМУДРА́ЦЦА** *незак.* 1. Прыладжвацца, прыстасоўвацца. *Прымудра́ліся ўсяк, ка́жды прымудрэ́нне сваё меў.* Багданава. *Усяк лю́дзі прамудра́юцца.* Вялікі Азярэцк. 2. Думаць. *Прымудра́еццa, як да Нямо́йты дае́хаць.* Буй.

**ПРЫМУДРА́ЦЬ** *незак.* Прыдумваць. *Тро́ху прымудра́лі: і мя́лкі круцілі, круцілі лён.* Карпавічы.

**ПРЫМУДРЫ́ЦЦА** *зак.* Умудрыцца, ухітрыцца. *Адна́ прымудры́лася і прадава́ла самаго́н.* Дольдзева. *Прымудры́лася сасе́дка раствара́ць парашо́к мало́чны і здава́ць як малако́ ад каро́вы.* Партызаны.

**ПРЫМУДРЫ́ЦЬ** *зак.* Прыдумаць. *Што я прымудры́ў: ўзяў у кърма́н будзільнік.* Заазер'е.

**ПРЫМУДРЭ́ННЕ** *н.* Вымудры, выдумкі. *Прымудра́ліся ўсяк, ка́жды прымудрэ́нне сваё меў.* Багданава.

**ПРЫМУЙСТРУВА́ЦЦА** *зак.* Прыладзіцца, прыстасавацца. *Са́мі ўсё здзе́лылі, прымуйструва́лісі.* Запруддзе.

**ПРЫ́МУШ** *м.* Прымак. *Пры́муш ці пры́мака – то́е ш.* Заазер'е. ◊ БРАЦЬ (УЗЯ́ЦЬ) ПРЫ́МУША. Прыняць прымака. *Яны́ ўзялі ў пры́мушы майго́ ба́цьку.* Івоні. *Яны́ пры́муша бра́лі сабе́ к дзе́ўцы.* Гарадзец. *Узя́ла пры́муша, мужы́к з вайны́ ні прышо́ў.* Запруддзе, Багданава, Мянюцева, Нямойта, Ракаў Засценак, Партызаны, Ульянавічы. ◊ У ПРЫ́МУШЫ (ПРЫ́МШЫ) прысці, пайсці, зайсці, ісці. Стаць прымаком. *У пры́мушы прышо́ў – пры́ма́ка.* Заазер'е. *Сам здаро́вы, крэ́пкі, прышо́ў у пры́мушы.* Чуцькі, Партызаны. *У пры́мушы пайшо́ў.* Савінічы, Чуцькі. *Сын пайшо́ў у пры́мшы.* Партызаны. *Ён у То́рбінку ў пры́мушы зайшо́ў.* Партызаны, Нямойта, Розмыслава. *У пры́мушы ішлі.* Марозаўка. *Ішлі ў пры́мушы, калі зямлі ў ба́цькі ма́ла.* Самсоны. ◊ У ПРЫ́МУШАХ БЫЦЬ. Жыць у прымаках. *У пры́мушах быў.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫ́МЫ** *толькі мн.* ◊ У ПРЫ́МЫ прысці, зайсці. Стаць прымаком. *Сюды́ я про́шлы гот у пры́мы прышо́ў.* Партызаны. *У Пар́эччы ў пры́мы зайшо́ў.* Нямойта.

**ПРЫМЫ́ЛЬНІК** *м.* Прылазнік. *Прымы́льнік – дзе раздзіва́юцца. У прымы́льніку хо́чыш абдава́йся, хо́чыш аддыха́й.* Багданава, Жохава, Марозаўка, Нямойта, Серкуці.

**ПРЫ́МЫЧ** *м.* ◊ У ПРЫ́МЫЧ зайсці. Стаць прымаком. *Ба́цька яго́ зайшо́ў у пры́мыч.* Кішуроўшчына.

**ПРЫМЯНЯ́ЦЬ** *незак.* Вывучаць, выкарыстоўваць. *Па-белару́ску вучы́лася ў шко́лі. У трэ́цім кла́се прымяня́лі ўжо ру́скі язы́к.* Серкуці.

**ПРЫНЕ́СЦІ** *зак.* Прынесці. *Лу́пку по́лніталькую на́да жы́та прыне́сці.* Багданава, Вялікі Азярэцк. *Прынясі́ці мълька́!* Неўгадава. *Зімо́й прынясу́ць бу́лку хле́ба і сяджу́.* Нямойта. *Прынясём любэ́я грыбы́ і ў дзя́жычку со́лім.* Сяргейкі, Чуцькі.

**ПРЫНІМА́ЦЬ** *незак.* 1. Прыбіраць. *Не прыніма́юць сто́лу, так і начу́юць.* 2. Працягваць. *Калі́ трына́ццаць па́съм пръз кально́ прыніма́юць, то во, ка́жыць, до́бръя пра́ха.* Закур'е. 3. Бабіць, аказваць дапамогу пры родах. *Іна́ ў маёй ма́мы мяне́ прыніма́ла.* Заазер'е. 4. Падпускаць, дазваляць наблізіцца. *Каро́ва ацялілась і цялёнка ні прыніма́іць.* Жохава.

**ПРЫНО́С** *м.* Прынос. *Твой жа прыно́с хле́ба.* Нямойта.

**ПРЫНУЖДА́ЦЬ** *незак.* Прымушаць. *Цібе́ ніхто́ не прынужда́іць.* Ульянавічы.

**ПРЫНЯ́ТАКІ** *мн.* Вельмі падобныя адзін да аднаго. *Як прыня́такі яны́, як блізнецы́.* Парэчча.

**ПРЫНЯ́ТЫ** *дзеепрым.* Заведзены. *Э́та ў нас прыня́та было́.* Самсоны.

**ПРЫНЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Забраць, купіць. *Со́ръх гало́ў лупілі, пъ зямлі́ къча́лі і ні прыня́лі іх у стало́вую, пътаму́ што яны́ гра́зныя.* Міцюкова. 2. Узяць пад сваё начальства. *Прыма́й брыга́ду.* Івоні. 3. Разбурыць. *Ку́зня была́ тут, яе́ ўжо прыня́лі.* Цясішча. 4. Пераэжыць, зведаць. *А я сто́лька го́ра прыняла́.* Алексінічы, Міцюкова, Савінічы. 5. Забраць (у магілу). *Ці ско́ра мяне́ Бо́жынька пры́міць?* Галашчакіна. 6. Палічыць за каго-н., прызнаць. *І ку́рыца прыніла́. Прыніла́ гусіня́т.* Запруддзе.

**ПРЫПА́ДАШНЫ** *прым.* Дурны, неразумны. *Не, во́зьмуць атра́вы – во які́я прыпа́дашныя.* Буй.

**ПРЫПА́ДКІ, ПРЫПА́ТКІ** *мн.*, **ПРЫПА́ДАК** *м.* 1. Нешта непатрэбнае, раздражняльнае; погань. *Прыпа́ткі ге́тыя* [пра вераб'ёў], *як паляця́ць к кура́м, спа́су німа́.* Дольдзева. 2. Эпілепсія. *Хай цябе́ прыпа́ткі хо́пюць!* (праклён). Фасаўшчына. ◊ КАБ (ХАЙ) ЦЯБЕ́ (ВАС, ІХ, ЯГО́, ЯЕ́) ПРЫПА́ДАК (ПРЫПА́ДКІ (ПРЫПА́ТКІ)). Выказванне абурэння, злосці, гневу. *Кап цябе́ прыпа́дак забі́ў!* (праклён). Запруддзе, Вялікі Азярэцк. *Кап цябе́ прыпа́ткі забілі!* (праклён). Каралевічы. *Каб вас прыпа́дкі!* [на мух] (праклён). Міцюкова. *Но́гі баля́ць, кап іх прыпа́ткі.* Станюкі. ◊ ПРЫПА́ТКІ ІХ ВЕ́ДАЮЦЬ. Невядома. *Прыпа́ткі іх ве́дъюць, дзе яны́.* Каралевічы. *Прыпа́ткі іх ве́даюць, пашчы́плюць усё.* Запруддзе.

**ПРЫПАЛО́К** *м.* Прыпол. *Ляжы́ць зо́лата, йна яго́ ў прыпало́к і прыніслá ма́цы* (з казкі). Вялікі Азярэцк.

**ПРЫПА́МЯТАЦЬ** *незак.* Прыпамінаць, успамінаць. *Лучы́ну тро́хі прыпа́мятую я.* Фасаўшчына.

**ПРЫ́ПАР** *ж.* Напружаны, загружаны работай час; прыпар. *Са́ма пры́пар така́я, рабо́ты мно́га.* Запруддзе. *Кап у пры́пар жо́нка абрадзілася, када́ жнуць рож.* Сукрэмна.

**ПРЫПЕ́ЎКА, ПРЫ́ПІЎКА** *ж.* Прыпеўка. *І пе́ла прыпе́ўкі, і тунцува́ла. І зва́лі яе́ Падго́рная. І ве́чар аддзяўбе́ць і атпяе́ць.* Багданава, Машчоны. *Пры́піўкі красі́выя зна́іць.* Заазер'е.

**ПРЫПЕ́ШЫЦЬ** *зак.* ◊ ПРЫПЕ́ШЫЦЬ ДА БУХА́. Давесці да вынішчэння, да адчаю. *Ге́тыя лю́дзі, што ў дзярэ́ўні зъсталіса, прыпе́шылі да буха́: і вайну́, і пад'ём, і застой перане́слі.* Мянюцева.

**ПРЫПІВА́ЦЬ** *незак.* Прыпяваць, падпяваць. *Ён ігра́ў і прыпіва́ў.* Багданава.

**ПРЫПІ́САНЫ** *дзеепрым.* Прыпісаны, зарэгістраваны. *Я была́ прыпі́сана к сы́ну.* Багданава. *Былі́ прыпі́саны к Гарадцу́.* Свечы.

**ПРЫПІСНІ́К** *м.* Ваеннаабавязаны, які прыставаў у прымы да жанчыны на акупаванай тэрыторыі ў час Вялікай Айчыннай вайны. *Усі́ прыпіснікі́ пашлі́ ў парціза́ны.* Жохава. *Прыпіснікі́ былі́ у нас, не́мцы іх і ні чъпа́лі.* Партызаны. *Прыпіснікі́ ў вайну́ былі́ ў нас, чаты́ры дзяў́чыны нърадзіліся ад іх.* Серкуці, Вялікі Азярэцк.

**ПРЫПІСТО́НІЦЦА** *зак. экспр.* Прыстаць, прыжаніцца. *Прыпісто́ніўся і нъ цябе́ забы́ўся.* Запруддзе.

**ПРЫПЛЮ́СНУЦЬ** *зак.* Прыплюшчыць вочы, заснуць. *Но́чачку крыча́ла, кап глас прыплю́снула.* Нямойта.

**ПРЫПНУ́ЦЬ** *зак.* Завязаць. *Фа́ртух прыпне́ць.* Закур'е.

**ПРЫПРА́ВА, ПРАПРА́ВА** *ж.* Прыправа, закраса. *Мя́са, парэ́жыш яго́, прыпра́вы прыдасі́: там і со́лі, кмі́ну, цыбу́лі, часнаку́.* Багданава. *Часны́к, цыбу́ля і кмін – гэ́та ўся прыпра́ва была́.* Запруддзе. *Малако́, усю гэ́ту прапра́ву туды́* [у кашу]. Кляпчэва.

**ПРЫПЯЧЫ́** *зак.* Прыпячы, падпячы. *Перат по́лымню прыпячэ́ць мухамо́р, кладзе́ць – і до́хнуць му́хі.* Запруддзе.

**ПРЫРО́ДА** *ж.* 1. Спадчыннасць. *На́ша пиро́да така́я: усе́ худэ́і.* Багданава. *Мая́ прыро́да ду́жа даўгаве́чная. Ма́тка жыла́ дзевяно́ста гадо́ў.* Мянюцева. *Ма́тка з прыро́ды ня́мая, ба́цька аняме́ў.* Гарадзец. *У мяне́ дзя́цька быў бяздзе́тны, во па прыро́дзі пашло́.* Вялікі Азярэцк. *Па прыро́дзе, па насле́цтву пірадаю́цца.* Запруддзе. *Блізару́кая, па прыро́дзе глаза́ы сліпя́ць.* Жохава. *Дачка́ двайня́т радзіла па прыро́дзі.* Міцюкова. 2. Род, кроўная радня. *Зна́лі па ўсёй прыро́дзе, якія мы тру́жанікі.* Баравікі. 3. Спадчына. *Ба́цькуўшчына аста́лься пу прыро́дзі.* Міцюкова.

**ПРЫРО́ДНЫ** *прым.* 1. Спадчынны, ад нараджэння. *Ка́жуць, прыро́дная чахо́тка ў яе́.* Вялікі Азярэцк. *У ма́льца прыро́дныя ду́жа ўю́шчыя въласы́.* Партызаны. 2. Прыроджаны, надзвычай таленавіты. *Музыка́нт прыро́дны.* Пожанькі. 3. Карэнны, мясцовы. *Я у дачкі́ была́, а тут усе́ сваё, прыро́дныя.* Партызаны.

**ПРЫРУЧА́ЦЬ** *незак.* Прывучваць. *Прыруча́е усе́ к бува́лашняму.* Дольдзева.

**ПРЫРЭ́ЗАЦЦА** *зак. экспр.* Памерці. *Як спіш* [і сніцца], *кроў ідзе́ць – прырэ́жацца ро́дсцвеннік* (прыкмета). Каралевічы.

**ПРЫРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Прырэзаць, забіць. *Прырэ́залі лаба́тую каро́ву.* Гарадзец.

**ПРЫ́САК** *м.* Попел з жарынкамі. *Ё йшчэ пры́сък у жару́.* Гарадок. *Зімо́й пълъска́ла бяллё і то́ркнула ру́кі – як пры́сък.* Гарадок.

**ПРЫСВО́ЙЛІВЫ** *прым.* Звыклы. *Ён такі́ прысво́йлівы, прывы́клы.* Кляпчэва.

**ПРЫСЕ́ЛЛЕ** *н.* Ваколіца, наваколле. *Там у іх присе́лле харо́шае, уся́дзьба харо́шая.* Нямойта.

**ПРЫСЕ́СЦІ** *зак.* 1. Прысесці. *Прысе́ў апе́нкі рэ́зъць.* Сянно. 2. Асесці (пра хлеб). *Хлеп прысе́ў к скары́нцы ні́жняй, ня ўда́ўся.* Багданава.

**ПРЫСІ́ЛІЦЬ** *зак.* Прымусіць. *Адзін аднагó у кумпáн бываíць прысíліць: давáй вып'ім.* Івоні.

**ПРЫ́СКАСКА** *ж.* Выслоўе, прыказка. *Скóлькі пры́сказак ёсь.* Ульянавічы.

**ПРЫСКРЫ́НАК** *м.* Скрыначка ў куфры на бакавой сценцы для захоўвання рэчаў; прыскрынак. *Скры́ню дзéлалі, яшчэ́ і прыскры́нак быў адбíты.* ПРЫСКРЫ́НАЧАК *памянш. Быў у скры́ні прыскры́начък, віpацёны склáдывалі, мітэ́ркі.* Гарадзец. *Прыскры́начак для ігóлак, нíтак, грóшай.* Жохава.

**ПРЫСЛА́НЫ** *дзеепрым.* Прысланы. *А німá пърáтку ні ў чóму, / Ні гэ́тым гóсцейкъм прыслáным, / Ні гэ́тым сусéдзям зъзвáным* (з песні). Каралевічы.

**ПРЫСЛА́ЦЬ** *зак.* Прыслаць, паведаміць. *Мне прыслáлі: «Бéзвісцую пръпáў».* Серкуці.

**ПРЫСЛУ́ГА** *ж. зб.* Слугі. *Жыў пан, і ягó дамы́ былí для прыслу́гі.* Фасаўшчына.

**ПРЫСЛЯПІ́ЦЬ** *зак.* Пашкодзіць зрок. *Прысляпíла вóчы.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫСМА́КІ** *мн.* Прысмакі, ласункі. *Прысмáкаў ні нáда мне вáшых. Тóлькі прысмáкі лю́біць.* Багданава.

**ПРЫСПЕ́ШНІК** *м.* Царкоўны памагаты, хаўруснік. *Паны́ былí, там хальвáрнік быў, прыспéшнікі царквы́ жылí.* Серкуці.

**ПРЫСТА́ВІЦЬ** *зак.* Паставіць, прысунуць. *Калóдачку прыстáўлю і печ таплю́.* Багданава.

**ПРЫСТАКВА́ША** *ж.* Сыракваша; густое кіслае малако. Жохава.

**ПРЫСТАНА́ЎЛІВАЦЬ** *незак.* Прыстаўляць што-н. *Сын рáмку прыстанáўлівъіць к ву́ліцы.* Запруддзе.

**ПРЫСТАРЭ́ЦЬ** *зак.* Састарэць. *Паку́ль прыстарэ́ла, былá ў праўлéнні.* Самсоны.

**ПРЫСТА́ЎКА** *ж.* Прыстаўка, прыбор (?). *Удáрыўся ў прыстáўку, стáла мітусíцца ў вачáх.* Розмыслава.

**ПРЫСТА́ЦЬ** *зак.* Прытаміцца. *Бáба ўжэ прыстáла за век.* Рэчкі.

**ПРЫСТАЯ́ЦЬ** *незак.* Падлягаць. *Машы́на рамóнту не прыстаéць.* Запруддзе.

**ПРЫСТО́ІЦЬ** *зак.* Прыпыніцца, спыніцца на кароткі час. *Шлі, шлі і прыстóілі, замары́ліся.* Багданава.

**ПРЫСТРА́ІВАЦЦА** *незак.* Будавацца за кім-н. *Прыстрáіваюся к тым, што стрóяць дамы́.* Нямойта.

**ПРЫСТРАЛІ́ЦЬ** *зак.* Застрэліць. *Ня вéдаю, ці пръстралíў ён яé ці уплылá кудá-та.* Багданава.

**ПРЫСТРО́ЕК** *м.* Трысцен. *Трохсцéнка – як прыстрóек.* Гарадзец. *Прыстрóек гéты пастáвілі пóслі вайны́.* Партызаны.

**ПРЫСТРО́ЙКА** *ж.* Тое ж. *Хáту стрóілі, а тады́ прыстрóйку.* Гарадзец. *Хáта з прыстрóйкамі, хлявы́ – усé есь.* Запруддзе.

**ПРЫСТУ́КНУЦЬ** *зак.* Прыбіць (пры тканні). *Кінець нітку – і прысту́кніць* [пра працу на кроснах]. Карпавічы.

**ПРЫ́СТУП** *м.* ◊ НІ ПРЫ́СТУПУ. Нежаданне наблізіцца, падысці. *Дзéці ні пры́ступу ка мнé: гéта ж не мая́ мáмка* [не пазнаюць]. Алексінічы.

**ПРЫСТУПІ́ЦЦА** *зак.* Наблізіцца, падысці. *Кап к табé лю́дзі ні прыступíліся!* (праклён). Запруддзе.

**ПРЫСЦЕРАГЧЫ́** *зак.* Засцерагчы. *Не, ня йдзі! Э́та я цябé прысцярóх, і ты ў дрэ́ннае не пупáў.* Гарадзец.

**ПРЫСЦІ́** *зак.* 1. Прыйсці, увайсці. *Прышлí ў лес. Ну ў мянé і праснакі – яé мáтка гавóрыць.* Партызаны. 2. Прыйсці, вярнуцца. *Адзін цяпéр з áрміі прышóў.*

Буй. *У нас прышо́ў з Гырма́н чылаве́к. То кыза́ў, што там до́ктар нацёр но́гі ма́ззю. Як жа мне бо́льна було́.* Запруддзе, Кляпчэва. 3. Прыстаць, прыкінуцца (пра хваробу). *Якая хваро́бушка прышла́ мне.* Нямойта. 4. Даслаць. *Прышо́ў прыка́с: што і зъ нядзе́лю пасе́іць.* Фасаўшчына.

**ПРЫСЦІ́СЯ** *зак.* 1. Прыйсці, вярнуцца. *І конь прышо́ўся с калхо́зу.* Нямойта. 2. Давесціся. *Калі́ пры́дзіцца, то пае́ду* [к дачцэ]. Багданава. *Гуля́юць малад́эя, а тады́, як пры́йдзіцца, ці пажэ́нюцца ці не.* Цясішча.

**ПРЫСЦЯЖНЫ́** *прым.* Прыпражны (пра каня). *Адзі́н конь каранны́, другі́ прысцяжны́ – гэ́та па́рка ко́ней.* Гарадзец.

**ПРЫСЯ́ГА, ПРАСЯ́ГА** *ж.* Клятва. *Прыся́гу даю таму́: бе́лъй бяро́зі, шыро́кър даро́зі, густо́му ку́сту, Ісу́су Хрысту́, прысяга́ю таму́, што ў кърма́ні дзяржу́* (з замовы). Каралевічы. *Прамо́ў прася́гу.* Запруддзе.

**ПРЫ́ТАЛКА** *ж.* Асада ў акне; бакавыя часткі аконнай асады. *У вакне́ дзве пры́талкі і ваке́нніца ёсь.* Нямойта. *Пры́талка у вакне́.* Савінічы.

**ПРЫ́ТАЛКА** *ж.* Паглыбленне, гняздо ці вуха, колца, у якое ўстаўляецца што-н. *Пры́тълка ё ў жо́рнах лі ка́мня, куды́ ўстуўля́іцца ме́лін* [кіёк, палка], *і ўго́ры лі ба́лкі, – ву́ха тако́е, штоб дзіржа́ла.* Запруддзе.

**ПРЫТВА́РСТА** *н.* Прытворства. *Яко́е гэ́та прытва́рства, не магу́ нагіна́цца: тлум у галаве́.* Запруддзе.

**ПРЫ́ТКІ** *прым.* Прыткі. *О́чынь пры́ткі конь уда́ўся.* Сянно.

**ПРЫТКНУ́ЦЦА** *зак.* 1. Дакрануцца. *Пыдасі́навік, ён, дзе да яго́ прыткну́ўся, так і чарне́іць.* Галашчакіна. 2. Прыхіліцца, абаперціся. *Ён ві́дна прыткну́ўся нъ згаро́ду і асе́ў* [пра параненага на смерць]. Савінічы.

**ПРЫТО́ПВАЦЬ** *незак.* Хадзіць следам. *Усю́дых прыто́пвала за і́мі.* Жохава.

**ПРЫТО́РКНУЦЦА** *зак.* Дакрануцца. *Так ссіні́ў яе́, а ру́кі – прыто́ркнуцца не́льга, чо́рная, сі́няя у́ся.* Запруддзе.

**ПРЫТО́ЧКІ** *мн.* Вушкі ў лапцях, у якія зацягваюцца аборы. *Прыто́чкі ў лапця́х.* Савінічы.

**ПРЫТРАВІ́ЦЬ** *зак.* Атруціць. *Прытраві́лі яго́ там.* Самсоны.

**ПРЫТУ́КАЦЬ** *зак.* Прымусіць, прывучыць. *Чуць прыту́кала яго́, каб мълако́ піў.* Партызаны.

**ПРЫТУРЫ́ЦЬ** *зак.* Прыгнаць. *Яна́ мне прытуры́ла ку́рыцу.* Нямойта.

**ПРЫТУ́ХАВАЦЬ** *незак.* Аддаваць тухлым, непрыемным пахам. *У іх прыту́хъвъіць въда́.* Кляпчэва.

**ПРЫТЫ́К** *м.* Супынак. *Мне пры́тыку ні было́ ні́дзе́. І сва́дзьбы спраўля́ла.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЫЎЧЫ́ЦЬ** *зак.* Прывучыць. *Малады́х трэ́ба прыўчы́ць хле́ба хаце́ць.* Гарадзец.

**ПРЫХАДЗІ́ЦЦА** *незак.* 1. Даводзіцца. *Мне так не прыхадзі́лася ві́дзець.* Самсоны. *Ні прыхадзі́лася чуць тако́е сло́ва.* Цясішча. *По́слі вайны́ гало́дныя і го́лыя, усяк прыхадзі́лася.* Нямойта, Алексінічы. 2. Прылягаць. *Пабіва́лі мълатко́м, кап шчы́тна прыхадзі́лася.* Запруддзе.

**ПРЫХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Прыходзіць. *Прыхадзі́лі ма́льцы бес пра́цы* [на попрадкі]. Кавалі. *Рабо́таў лесніко́м – ка́жны бо́жы дзень п'я́ны прыхадзі́ў.* Ракаў Засценак.

**ПРЫ́ХАМАЦЬ, ПРЫ́ХАМІЦЬ, ПРЫ́ХАМЯЦЬ, ПРЫ́ХАЛАЦЬ, ПРЫ́ХВАМЕЦЬ** *ж.* Прымхі, забабоны. *Стары́нная э́та пры́хамаць.* Савінічы. *Якáя-то пры́хамаць ат кáжнъга дзéла.* Каралевічы. *Ёсць прáвідныя пры́хъмъці.* Ракаў Засценак. *Пры́хаміці ўсякія былí. Пры́хаміцё éтые вы́думаюць.* Нямойта. *Мнóга було́ пры́хъміцей.* Ракаў Засценак. *Стары́нная э́та пры́хаміць – цяпéр э́та ні нáда.* Савінічы. *Пры́хамяці ўсякія ёсць. Кап спінá не балéла, трэ́ба перакулíцца цераз галаву́, як жы́та дажынáюць, як калóссе звя́жуць у цючóк такí* (павер'е). Нямойта. *Якáя-та пры́халаць ат кáжнъга дзéла.* Каралевічы. *Пры́хвамець.* Ракаў Засценак.

**ПРЫ́ХАМІШЧЫ** *мн.* Тое ж. *Пры́хамішчы былí рáньшэ.* Ульянавічы.

**ПРЫХАПÍЦЬ** *зак.* Праняць. *Грыбы́ пувáрыш, аццэ́дзіш, а тады́ жáрыш, каб панóс ні прыхапíў.* Дольдзева.

**ПРЫХАЦКÍ** *прым.* Прыхадскі. *Былá прыхацкáя шкóла, я кóнчыла, э́та чаты́ры гады́, і двухклáсную.* Станюкі.

**ПРЫХВАРНУ́ЦЬ** *зак.* Захварэць. *Я прыхварну́ла трóху.* Розмыслава.

**ПРЫХІНУ́ЦЦА** *зак. перан.* Знайсці спагаду, адчуць прыхільнасць. *Прыхіну́цца мне німá к каму́.* Мянюцева. *Будзь дóбрым з людзьмí, і лю́дзі к табé прыхіну́цца.* Дуброўкі. *Я абы́ к каму́ прыхіну́ся.* Дольдзева.

**ПРЫХЛЫ́НУЦЬ** *зак.* Нахлынуць, набегчы ў вялікай колькасці. *Канéўцы прыхлы́нылі і пубрáлі суніцы.* Канева.

**ПРЫХО́Т** *м.* Прыход, парафія. *Цэ́рква былá й бальшы́ пръхóт быў, лю́дзі малíлісі і прыхадзíлі.* Буй.

**ПРЫ́ЦЕМКІ** *толькі мн.* Прыцемак, паўзмрок. *Пры́цемкі наступíлі ужэ́.* Багданава.

**ПРЫ́ЦЕМНА** *прысл.* Прыцемна, цемнавата. *Пры́цемна дзéлаіцца – сяжу́ у вакнá.* Багданава.

**ПРЫЦЕ́РЦІ** *зак.* Прыправіць, заправіць (страву). *Шчáвель бу́льбай прытрэ́ш – во смáшна былó.* Нямойта.

**ПРЫЦІРА́ЦЬ** *незак.* Дабаўляць раскалочаную муку. *Пóліўка з сы́вараткі і прыцірáюць з мукóй.* Карпавічы.

**ПРЫЦÍРКА, ПРЫ́ЦІРКА, ПРЫ́ЦЕРКА** *ж.* 1. Дабаўка ў страву мукі. *Пры́церка – як прытру́ць мукóй.* Гарадзец. 2. Мачанка. *А то пры́цірку дзéлалі. Яйцó разаб'ю́ць, у лату́шачку вы́люць, крóшак сáла налíюць, макáнка былá.* Вялікі Азярэцк. *Прыцíрка – там сáла жжáрыш і залівáіш, бліны́ пячэ́ш і з блінáмі ясí.* Заазер'е.

**ПРЫЦІСКА́ЦЬ** *незак.* Прыціскаць. *У нас у мяшóк клáлі і кáмень навéрх – прыціскáлі.* Багданава.

**ПРЫЦÍСНУЦЦА** *зак.* Прыціснуцца, прытуліцца. *Стрáшына, Рыпíння і Надзéжда прыцíснуліся і йшлí.* Багданава.

**ПРЫЧА́ЛІЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Пасадзіць на якое-н. месца. *Куды́ вас прычáліць?* Запруддзе.

**ПРЫЧВА́РА** *агульн.* Абібок. *Прычвáра – хто ня хóчыць рабóтаць, прычварáйіцца.* Серкуці.

**ПРЫЧВАРА́ЦЦА** *незак.* Гультаяваць. *Прычварáюцца цяпéрашніе дзéці, ня хóчуць рабóтаць.* Серкуці.

**ПРЫЧО́ПКА** *ж.* Зачэпка, прычына. *Бáбы заварылі кáшу, то прычóпка – прышлí правярáць.* Сянно.

**ПРЫЧУ́ДДЗЕ** *н.* Пра некага дзіўнага. *Там прычу́ддзе такóе, а дзяцёнка радзíла.* Дуброўкі.

**ПРЫ́ЧЧА** *н.* Выпадак, здарэнне. *І на тóя пры́чча прыéхаў сын* [як адбылася бойка]. Запруддзе.

**ПРЫЧЫ́НА** *ж.* Патрэба, неабходнасць. *Каб табé прычы́ны не былó!* (праклён). Фасаўшчына.

**ПРЫЧЫ́ТВАЦЬ** *незак.* Галасіць. *На галаву́ ру́кі склáла і прычы́тваіць.* Запруддзе.

**ПРЫ́ШВА** *ж.* Дубец для прывязвання латы да кроквах; паплеціна, прывязка. *Нарэ́заў пук бярóзавых пры́швуў.* Алексінічы.

**ПРЫШПА́РЫЦЬ** *зак. экспр.* Прыціснуць. *К пéчы прышпáруць мáці ці жóнку – і давáй гарэ́лку.* Станюкі.

**ПРЫШЧ** *м.* Прышч. *Пашлí па ёй прышчы́. Насавéтавалі зверабóю. Сталí завáрваць, іску́пываць.* Цясішча. *Прышчы́ бывáюць ад вады́.* Гарадзец.

**ПРЫ́ШЧАЎКА, ПРЫ́ШЧУЎКА** *ж.* Тое ж. *Пражылá – ні пры́шчаўкі ні былó.* Нямойта. *Пры́шчуўка сéла.* Манголія.

**ПРЫШЧУ́РАНЫ** *прым.* Хітры, хціві. *Ён такéй прышчу́ръны, іхíдны.* Сянно.

**ПРЫ́ШЧЫВЫ** *мн.* Прышчы. *Пры́шчывы пашлí па цéлу, асы́пка, у зверабóі купáлі.* Цясішча.

**ПРЫШЫВА́ЦЬ** *незак.* 1. Прышываць. *Прышывáлі* [на спадніцу] *улáнчыкі* [брыжы]. Турава. 2. Прыбіваць. *К ру́чкъм дóскі прышывáюць.* Гарадзец.

**ПРЫШЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Прышыць. *Як ды́рка – пад ніз бальшы́ лáпік прышы́юць, а тады́ апкíдвалі кругóм.* Фасаўшчына. 2. *перан.* Абвінаваціць. *Булá яжóўшчына. Во прышы́юць табé стаццю́, што прыпíшуць – ні аткáжысся.* Чуцькі.

**ПРЫЮ́Т** *м.* Прытулак. *Прыю́ту ні былó.* Багданава.

**ПРЫЮЧА́ЦЬ** *незак.* Уладкоўваць. *Нáда прыючáць сваю́ жызь.* Ульянавічы.

**ПРЫЯЖДЖА́ЦЬ, ПРЫІЖДЖА́ЦЬ** *незак.* Прыязджаць, наведваць. *Раз у нядзéлю прыяжджáюць у чэ́цьвер.* Партызаны. *Маладóй прыяжджáў за маладóю.* Дуброўкі. *Лéтась прыяжджáў брат лéтам.* Неўгадава. *Чъргвякóў прыіжджáў і пъдары́ў імéнія Пóжанькі пáна Бугушэ́ўскага маймý бáцьку – рывулюцыянéру Хвіткéвічу Сяргéю Сямёнывічу у 1922–23 гаду́. Прыіжджáў, гасцíў. А бáцьку тады́ сыслáлі, што і* [нягледзячы на тое, што] *пéршы пашóў у кългáс.* Пожанькі.

**ПРЫЯЗДНЫ́** *прым.* Выязны, якім карысталіся для выезду. *Вазóк – прыязны́, груз не вазíлі на базáр.* Міцюкова.

**ПРЫЯ́ЦЬ** *незак.* Спрыяць. *Дóжджык на вясéллі ідзéць – прыя́ець, на бъгáцце* (павер'е). Запруддзе. *Як маглá дачцы́ прыя́ла. Я прыя́ла сваймý дзяцёнку. Я ш сюды́ прыя́ла: рáзам жылí.* Нямойта. *Пакóйнікі сня́цца – яны́ прыя́юць жывы́м* [падказваюць, папярэджваюць, выказваюць неспакой]. Кляпчэва. *Нябóшчык снíцца: катóры – дрэ́нна, а катóры прыя́іць, а бальшынствó – да пагóды* (павер'е). Ракаў Засценак.

**ПРЭ́ГЧЫ** *незак.* Прэгчы, смажыць. *Гарóх праглí: намóчуць, а тады́ прагу́ць.* Каралевічы.

**ПРЭДА́ЎНЫ** *прым.* Даўні, надзвычай стары. *Тут такóя дáўнае пухъвáнне, прэдáўнае клáдбішча былó.* Самсоны.

**ПРЭ́ЖАНЫ** *дзеепрым.* Прэжаны, смажаны. *Прэ́жаны гарох.* Каралевічы.

**ПРЭ́МЯ** *ж.* Прэмія, узнагарода. *Прэ́мя давáлі харóшую.* Запруддзе.

**ПРЭ́МЯ** *н.* Тое ж. *За кратóў давáлі прэ́мя.* Багданава. *Мъя́ дъчкá прэ́мя пулучáіць.* Чуцькі.

**ПРЭНТ** *м.* Металічны прут. *Затáлківаецца жалéзны прэнт, рэ́хва набівáецца на стýпіцу, штоп стýпіца ні лóпалася.* Вялікі Азярэцк.

**ПРЭС** *м.* Цяжар для націсканне. *Пат прэс, націсні пат прэс.* Нямойта.

**ПРЭ́СНЫ** *прым.* Някіслы. *Бывáла капýсту звáраць, шчáўлю, а цяпéр прэ́снае.* Партызаны.

**ПРЭ́ТКІ** *мн.* ◊ С ПРЭ́ТКАЎ. Спрадвеку. *С прэ́ткаў-прэ́ткаў раскáзуюць: стáвілі зруп, дзе крынíчка.* Заазер'е.

**ПРЭЦЬ** *незак.* Распарвацца, разбухаць (пра крупы). *А цяпéр ня прэ́юць крýпы ў сýпу.* Багданава.

**ПСІК** *выкл.* Хутчэй, марш. *Псік на макýшку!* [так гаварылі на жыхароў вёскі Сукрэмна, бо тыя лазілі на бярозы і адсякалі сукі, галіны і вязалі для продажу мётлы]. Сянно.

**ПСІХАВА́ЦЬ** *незак.* Злавацца, нервавацца. *Псіхýець, рвець – рабёнак бýдзіць* [пра жанчыну, якая зацяжарыла]. Жохава.

**ПСІХАНУ́ЦЬ, ПСІХНУ́ЦЬ** *зак.* Зазлаваць. *Прыйдзець, абапрэ́цца аб згарóду – і ўсё пра Малáхавіча. А мой мужык як псіханéць: у ягó штó-то не завінчваецца.* Міцюкова. *Врэ́мем ён псіхнéць, врэ́мем харóшы.* Каралевічы.

**ПСТРЫКА́ЦЦА** *незак.* Пячы (пра крапіву). *Я яé рукáмі гóлымі рву* [крапіву], *пстры́каіцца, рýкі гарáць.* Заазер'е.

**ПСТРЫ́КАЦЬ** *незак.* Закапваць (пра лекі). *Пстры́калі вóка, нéчым мáзалі.* Партызаны.

**ПСТРЫ́КНУЦЬ** *зак.* Пстрыкнуць, уключыць. *Пстры́кнеш – а німá свéту.* Міцюкова.

**ПСЮ́ЛІЧКА** *ж.* Ласкальная назва каня. *Псюлічка, ідзі – на каня так.* Алексінічы.

**ПТАША́РНІЦА** *ж.* Работніца, якая даглядае свойскую птушку; птушніца. *Мáтка птъшáрніцай былá.* Вялікі Азярэцк.

**ПТУША́НЫ** *прым.* Птушыны. *Гэтá я́йкі бýдуць нъхадзíць, птушáныя.* Заазер'е.

**ПТУ́ШКА** *ж.* Птушка. *Шчэ ня чуць – птýшкі ні прыляцéлі.* Дольдзева. *Птýшкі пяюць, пакýль дзяцéй сваíх вы́гадуіць.* Гарадзец. *Мáла птýшак, нéдзе ім дзéцца. Дзет гавары́ў: «Бýдуць птýшкі літáць, у галóвы дзіўбáць, на жалéзных кóніх арáць».* Багданава. *Дзет казáў, што жалéзныя птýшкі бýдуць лётаць.* Неўгадава. *Рáньшы лю́дзі крэ́пкія былí і птýшак больш былó.* Заазер'е. *Птýшкі нізка лётаюць – дождж бýдзіць* (прыкмета). Каралевічы. ПТУ́ШАЧКА *памянш.-ласк. Прыляцéла ў хáту дзве птýшачкі – рóўненькія, шэ́ранькія, са мной ласкáюцца.* Каралевічы. *Віраб'ёў ды халёры ёсь, а харóшыя птýшъчкі пуўмірáлі.* Сукрэмна.

□ *Рáннія птýшка* (*птýшъчка*) *зýпкі калупáіць, а пóзнія вóчкі прадзірáіць* (*працірáіць*). Заазер'е, Багданава.

**ПУАБЦЁСАНЫ** *дзеепрым.* Абчасаны. *Камéнні на мур пуабцёсъны былí глáдзінька.* Баравікі.

**ПУБІВА́ЦЬ** *зак.* Адлупцаваць. *Якýбіха ў маé хъзяйкі ýкрала пълатнó, то йна яé пубівáла пълатнóм éтым па чым ні пупáла.* Міцюкова.

**ПУБРАТА́ЦЦА** *зак.* Пазнаёміцца, пабратацца. *Пубратáўся з чълавéкъм, як рóвін ямý.* Чуцькі.

**ПУБУЧНЕ́ЦЬ** *зак.* Пабуяць, разрасціся. *Пубучнéла, разраслáся.* Савінічы.

**ПУВА́ГА** *ж.* Павага. *Мне і пувáгі німá нíякай ат дзяцéй.* Рэчкі.

**ПУВАДО́К** *м.* Повад. *Каро́ву пръдае́ш з вяро́вачкай, пувадко́м.* Міцюкова.

**ПУВА́Л** *м.* Павал, буралом. *Пува́л ніхто́ ні бярэ́ць, ні ў пастро́йку і нікуда́ на дро́вы – у пува́л бу́дзіць біць пяру́н.* Ракаў Засценак.

**ПУВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Паваліцца, упасці. *Каб знаў, куды́ пува́лісся, ні пашо́ў бы.* Багданава. *Змо́рысся, пува́лісся.* Запруддзе.

**ПУВУЧЫ́НА** *ж.* Павуціна. *Як атарве́ш вуўня́нку, дык там пувучы́на.* Сукрэмна.

**ПУВЯЗА́ЦЬ** *зак.* Павязаць. *Пувя́жуць лён – і на заво́д.* Буй.

**ПУ́ГА** *ж.* 1. Пуга. *Пу́гай сціб́ану́ў.* Гарадзец. ПУ́ШКА *памянш.* 1. Пужка. *Сцібану́ў пу́шкай каня́.* Гарадзец. 2. Дубец. *Пу́шка – дубе́ц такі, хвърасціна гнаць каро́ў.* Кляпчэва. 2. Электрапастух – спецыяльнае тэхнічнае прыстасаванне. *Пу́гу абваду́ць і пасу́ць.* Савінічы.

**ПУ́ГАЛА** *н.* Пудзіла. *Пу́гала ста́вілі ў ячме́нь.* Міцюкова.

**ПУ́ГАЛНО** *н.* Дубец. *Прут такі ў рука́х, як пу́гално.* Нямойта.

**ПУГАЎЁ, ПУГАЎЕ́** *н.* Ручка (дзяржанне) у пузе; пужальна. *Пугаўё дзеравянае, а гэ́та – рамянна́я ці віраўча́нъя.* Гарадзец. *Пугаўе́ ў руцэ́: не́хаця на́да стая́ць і маўча́ць.* Нямойта.

**ПУГА́ЦЬ** *незак.* Палохаць. *Так пуга́юць: ня йдзіця, у жы́та ня йдзіця, там руса́лкі ш.* Самсоны.

**ПУГЛІ́ВЫ** *прым.* Пудлівы. *Пуглі́вы конь, пужа́ецца машы́н. Есь пуглі́выя ко́ні – ду́ба стаў, як спужа́ецца чаго́.* Гарадзец.

**ПУГНУ́ЦЬ** *зак.* Пугнуць, выпусціць. *Адкры́й варо́ты – пугні піскля́т.* Апечкі.

**ПУГО́РАК, ПУГУ́РАК** *м.* 1. Пагорак. *За жы́та, за пуго́рак адхіне́цца.* Нямойта. *Сіве́ц на пугу́рках расце́ць.* Баравікі. *Ха́та яе́ пат шко́лу, на пугу́рку.* Кляпчэва. *Пугу́рак там быў, і мно́га камне́й.* Мянюцева, Чуцькі. 2. Бугаркі ад кратавіння. *Пугу́ркі гэ́тыя пънакапа́лі, пънары́лі краты́.* Багданава. ПУГУ́РАЧАК *памянш.-ласк.* *А яго́ дом на пугу́рачку стаіць.* Баравікі. *Суні́шніку на пугу́рачку мно́га ў лясу́.* Кавалі. *Я ў сат і лігла́ там на пугу́рачку.* Леснікова, Фасаўшчына.

**ПУГУРУВА́ЦЬ** *зак.* Нагаравацца. *Пугурува́ла з вайны́: плух ціга́ла на сабе́.* Багданава. *Пугурува́ла до́бра.* Партызаны.

**ПУД** *м.* Пуд (мера вагі). *Пуд – э́та ужо́ со́рак фу́нтаў.* Марозаўка. *Пръдала́ цімафе́еўкі па паўтара́ рубля́ пуд.* Багданава. *Стаіць кала пу́да се́на і глядзіць, калі́ дош.* Баравікі. *У зя́ця со́рык пудо́ў жы́та було́.* Міцюкова. *Я за зіму́ два пуды́ бу́льбы ня з'е́ла.* Нямойта.

**ПУД** *м.* Пуд, страх. *Ба́пка мая́ ат пу́ду наўчы́ла. Ат пу́ду дзяце́й нале́чылася* [лячыла шмат разоў і працяглы час]. *Ско́лькі дзяце́й пъвылечыла ат пу́ду, зълатні́ка́, суро́цы, звіху!* Багданава. *Ат пу́ду даюць ваду́.* Вялікі Азярэцк. *Навучу́ я вас ат пу́ду. Хлеб, соль, свянцо́ная вада́. Радзі́, Бо́жа, усі́м: храмы́м, сляпы́м, дурны́м і нам* (з замовы). *Соль нало́жаць у куто́чку.* Запруддзе. *Я загаво́р ад пу́ду знаю.* Каралевічы. *Пуд гэ́ты апасны для жы́зні, да́жэ і уміра́юць лю́дзі з ге́стага пу́ду. Ат пу́ду бальні́ца ні памо́жэць.* Партызаны. *Я с пу́ду брась нъ зямлю. А я с пу́ду ні ба́чыла.* Багданава.

**ПУДАВЫ́** *прым.* Вагой у адзін пуд. *Пудавэ́я гіры былі́, бальшэ́я, двухпадавэ́я.* Багданава. *К Па́скі ба́цька руздува́ў карзі́ну пудаву́ю асе́нніга бруне́ту.* Пожанькі.

**ПУДДУВА́ЛА** *н.* Адтуліна пад топкай, куды праходзіць паветра, якое падтрымлівае гарэнне; паддувала. *А е́та пуддува́ла, а е́та то́пка.* Дольдзева.

**ПУДДУМА́ЦЬ** *незак.* Прадзімаць, пранімаць холадам. *Тро́ху пуддума́іць у спіну́.* Гарадзец.

**ПУ́ДЗІЦЦА** *незак.* Пудзіцца. *Каб ня пу́дзіўся конь, то ён убіў ко́льцы мітальічныя ў дугу́ спра́ва і злёва. І як то́лькі ён* [рысак] *пычына́іць не́сці, то ён* [Антон] *яго́ во́жкімі гылаву́ ўверх – і тэй ня пу́дзіцца.* Сянно.

**ПУДРУЖЫ́ЦЬ** *зак.* Пасябраваць. *Во пудружы́лі так пудружы́лі.* Вялікі Азярэцк.

**ПУДУБА́ЦЬ** *незак.* Падабацца. *Я ні пудуба́ла гурбуза́ з рысъм.* Гарадзец. *Ні пудуба́лі ў Жэ́рані – паеха́лі ў Сушчо́ва.* Кішуроўшчына.

**ПУДУПА́СЦЬ** *зак.* Надарыцца, напаткаць. *Такі́ ж маме́нт пудупа́ў – на ўсё ра́зам.* Дольдзева.

**ПУДУРО́СТАК** *м.* Падлетак. *Пудуро́сткі пашлі́ ў пърціза́ны.* Закур'е.

**ПУДУРЭ́ЦЬ** *зак.* Страціць розум, разбэсціцца. *Цяпе́р гро́шы пулучы́ў і запі́ў, ад гро́шы пудурэ́лі!* Цясішча.

**ПУДФУТБО́ЛІЦЬ** *зак.* Ударыць, падкінуць. *Не́калі пудфутбо́ліў ша́рыка.* Вялікі Азярэцк.

**ПУЖА́ЛА** *агульн. эмац.-ацэн.* Пра неахайнага чалавека (дзяўчыну, жанчыну). *Чаго́ ты як пужа́ла хо́дзіш тут, валасы́ распусці́ўшы?* Вялікі Азярэцк.

**ПУЖА́ЦЦА** *незак.* Палохацца. *Воўк хвост закладзе́ ў вакно́ – аве́чкі пужа́ліся.* Міцюкова.

**ПУЖА́ЦЬ** *незак.* Палохаць. *Бацькі́ пужа́лі: змеі́ ці вужа́кі вы́скычуць, ці ба́баёга, ці къркъдзі́л в во́зера утя́шчіт.* Багданава. *Руса́лкі пужа́лі дзяце́й, ны бярэ́зіні кылыха́лісі.* Ракаў Засценак.

**ПУ́ЗА** *н.* Пуза, жывот. *Нае́ўся, нае́ўся, аш усё пу́за рувдуло́ся.* Сянно. *Пу́за тако́е, што, не́калі бу́дзіць ісці́, – ло́пніць.* Багданава. ◊ АД ПУ́ЗА е́сці. Уволю, удосталь. *Ад пу́за еш хлеб, як той цыга́н каза́ў.* Вялікі Азярэцк.

**ПУЗА́ТЫ** *прым.* Пузаты, пузан. *Некрасі́ва, як мушчы́на пуза́ты, штаны́ ня мо́жа ўсцягну́ць на пу́за.* Багданава.

**ПУЗУБУВА́ЦЦА** *зак.* Пазабывацца, запамятаць. *Пузубува́ліся свя́ткі.* Каралевічы.

**ПУЗУДУ́ЦЬ** *зак.* Пазадуваць, занесці (снегам). *Пузуду́ла усё: мяце́ліца пёрла.* Вялікі Азярэцк.

**ПУЗУЛУЖЫ́ЦЬ** *зак.* Задзірванець, стаць лугам. *А то́я по́ля пузулужы́ла, ко́сюць на се́на.* Баравікі.

**ПУЗУПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* Прывесці да запусцення (пра ўсё, многае). *Там абло́га, там се́ілі, а цяпе́р пузупусці́лі.* Самсоны.

**ПУЗЫ́Р, ПУЗУ́Р** *м.* 1. Бурбалка. *Пузуры́ ўска́куюць на во́зеры, на лу́жыне – дош аблё́жны* (прыкмета). Багданава. *Е́слі пузыры́ паяўля́юцца на вадзе́, то до́ўга бу́дзіць іці́ дош* (прыкмета). Дольдзева. *Пузуры́ на снягу́.* Міцюкова. 2. Пухір. *Пузы́р на нагé, як спе́чаны* [калі апячэшся]. Нямо́йта. 3. Плавальны пухір (у рыбы). *Пузы́р мы завём, ні ў ка́ждай ры́бы ёсь.* Фасаўшчына. 4. Асінае гняздо. *О́сы так злё́пяць бальшы́ пузы́р – і та́ма сідзя́ць.* Вялікі Азярэцк. *Пузы́р бо́ўтаецца, асва́ тут жыла́.* Кішуроўшчына. 5. Пукатасць, няроўнасць (на касе). *Пузура́мі къса́ дзе́лаецца, як не уме́іць кляпа́ць.* Нямойта.

**ПУК** *м.* Вязка, пук (лыку, тытуню, кветак і інш.). *Два пукі́ лык ку́піць, напляце́ к Къля́дам но́вых лапце́й.* Алексінічы. *Пук лы́ка надзяру́ць і нясу́ць.* Вялікі Азярэцк.

*У пукі візáлі табáку.* Жохава. *Пук крáсык нарвёш і пынясёш у цэ́ркву свяціць.* Гарадок. *Бывáла на Йвáна травы́ нарвёш, звя́жъш пук, свяціць нясёш у цэ́ркву.* Кішуроўшчына. *Хай цвіціць, я тáбе атажну́ цэ́лы пук.* Серкуці. ПУЧÓК *памянш. Пучóк салóмкі ўтóркнулі.* Багданава. *У пучкі тады́ павя́жуць лазу́, сдавáць вазілі.* Дольдзева, Запруддзе. *Пучкóў лісту́ навязáла пат хлеп.* Заазер'е.

**ПУК** *м.* 1. Сцябло цыбулі з суквеццем, стрэлка. *Пукі во на цыбу́лі расту́ць.* Галашчакіна. *Зацвіця́ць пукі. У пук ідзе́ць цыбу́ля, пук такі таўсты́ ідзе́ць. Як у халóдным зіму́іць* [цыбуля], *то інá ў пук ідзе́ць. Пукі – як інá засты́ніць.* Гарадзец. *Цыбу́ля як прасты́ніць у хáці зімой, тады́ інá ідзе́ць у пукі.* Парэчча, Партызаны. *Ідзе́й-та цыбу́ля ў хóладзе прасты́ла – палучáюцца пукі.* Розмыслава. *Цубу́ля ў пук пышлá.* Сянно. 2. Трубка ў коласе. *Ячмéнь пычане́ць с пу́ка выхадзіць, як стáніць с тру́пкі выхадзіць.* Сянно.

**ПУКÁЦІНЬКІ** *прым. памянш.-ласк.* Пукаты, выпуклы. *Сураéжкі сінінькія, бéлінькія, пукáцінькія, кърнáнёчык крэ́пінькі.* Дольдзева. *Лісічкі пукáцінькіі.* Карпавічы.

**ПУ́КЛІ** *мн.* Кроплі. *Пу́клі расы́ вісяць на лісцях.* Вялікі Азярэцк.

**ПУК-МЯК** *выкл.* Які лёгка паддаецца ўздзеянню. *Пъцягну́ла дактóрка кóрань* [корань зуба], *ён пук-мяк – і пайшóў.* Нямойта.

**ПУКЧЭ́ЦЬ, ПУХЦЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Брадзіць, пыхкаць. *Тады́ брáга брáжыць, хóдзіць, пухціць.* Дольдзева. *Хлеп пукчы́ць. У дзяжы́ гэ́та.* Фасаўшчына. 2. *перан.* Бурчаць. *Стáла дачкá на ягó пукчэ́ць: вучы́ся.* Самсоны. *Што ты пукчы́ш?* Фасаўшчына.

**ПУЛУМÁЖЫ** *толькі мн.* Воз з нізкімі драбінамі. *Пулумáжы бы́лі: нъкашу́ травы́, стъя́ць, і яду́ць ля іх конь і карóва.* Сянно.

**ПУЛУМÁНЫ** *дзеепрым.* Паламаны. *Згарóда пулумáная.* Цясішча.

**ПУЛУМÁЦЬ** *зак.* Паламаць. *Згарóду мне пулумáлі.* Цясішча.

**ПУ́ЛЯ** *ж.* Куля. *Ні дай хлéба – пу́ля ў лоб бу́дзіць.* Фасаўшчына.

**ПУМÁЛУВАЦЬ** *незак.* Малоць многа, усё. *У нас былі такéя жóрны, пумá-лувыў.* Фасаўшчына.

**ПУМІШÁННЕ** *н.* Псіхічнае захворванне. *У галавé пумішáння стáла.* Дуброўкі.

**ПУНУВÁЦЬ** *незак.* Добра жыць. *Бáба гéта за ім пунувáла, жылá хырашó за дзéдам.* Багданава.

**ПУ́НЯ** *ж.* Будыніна для захоўвання сена, саломы; пуня. *Пу́ня – для сéна. Для зірнá – ток, ёўня ў таку́.* Дольдзева, Запруддзе, Каралі, Кляпчэва, Нямойта, Рулёўшчына, Серкуці, Ульянавічы, Фасаўшчына. *Салóму суграбу́ць і у пу́ню пъкладу́ць.* Вялікі Азярэцк. *Кажаны́ лятáлі у пу́нях, дзе сéна.* Багданава. *У кагó не былó пу́ні, стáвілі стагі.* Гарадзец. ПУ́НЬКА *памянш.-ласк. Місачка стаіць на углé, у пу́нькі.* Міцюкова.

**ПУП** *м.* Пупавіна. *Пуп абразáлі на кніжку. Прынясéць, пуп пакláла на два пáльцы, паклáла і абрэ́зала, каб грáматны быў.* Запруддзе. *Атразáюць пуп, хъвáюць ягó, вы́сахніць. Як стáніць панімáць* [дзіцяці], *змóжыць развязáць. Як развя́жыць – грáматны, даўгавéчны пуць, а не змóжыць – нешчаслівы, пажывéць нядóўга* (павер'е). Партызаны. *Пуп пат печ хавáлі, закáпвалі.* Чуцькі. ◊ ГРЫ́ЗЦІ ПУП. Бурчаць, бубнець. *Дзяцёнку гры́зла пуп – бурчы́ць: гры́зла пуп.* Багданава.

**ПУПАВÁ** *ж.* Тое ж. *Кап пáмятлівы быў, кáжуць: як рóдзіш, пупаву́ нáда брáць з бальні́цы і завязáць, пóтым ужэ́ перат шкóлай кап сам развязáў яé.* Багданава.

**ПУПАВІ́НА** *ж.* Тое ж. *Бярэ́ш вяро́вачку і ад пупавіны і да мыльніцы зміра́іш.* Леснікова.

**ПУПАДЗЕ́ЛАЦЬ** *зак.* Панавырабляць, нашкодзіць. *Што вы пупадзе́лалі: ла́вачку на Купа́лу разабра́лі.* Алексінічы.

**ПУПАЛІ́ЦЬ** *зак.* Папаліць, спаліць. *Хлявы́ пупалілі не́мцы.* Закур'е.

**ПУПАЛУ́ДНІВАЦЬ** *зак.* Пад'есці, паабедаць. *Дзет Трахі́м пъзва́ў пупалу́днівъць.* Багданава.

**ПУПА́РЫНІНА** *ж.* Поле, дзе сеюць жыта. *Пупа́рыніна – дзе се́юць жы́та.* Сянно.

**ПУПАШЫ́ЦЬ** *зак.* Папашыць, нашыць многа. *Пупашы́ла суке́начкі, самътка́лачкі.* Алексінічы.

**ПУПЕ́ЛЯ** *н. зб.* Нерасчэсаныя касмылі воўны. *Дрэ́нна счэ́сана, тут адно́ пупе́ля ў во́ўні.* Запруддзе.

**ПУ́ПІК** *м.* Невялікі акруглы выступ; пупок. *Пу́пік у шухля́дцы атлъма́ўся, зрабі́, Архі́п.* Запруддзе.

**ПУПЛА́ТЫ** *прым.* Касмыкаваты, у касмылях. *А е́та* [воўна] *пупла́тъя ўся.* Багданава.

**ПУПЛЫ́** *мн.* 1. Касмылі воўны. *Ле́зуць е́тыя пуплы́ плахія́ з во́ўны, ні ўпрадзе́ш. Уся́ ў пуплы́ пабі́тая* [воўна]. Багданава. *Як пуплы́, іх пра́сці ням́ожна.* Заазер'е. 2. *эмац.-ацэн.* Малеча, малыя дзеці. *Каб гэ́тыя пуплы́ падраслі́, жа́лка іх.* Баравікі. *Хоць бы пуплы́ зъсталі́сі здаро́выя.* Буй.

**ПУПО́К** *м.* Пупавіна. *Пупо́к увя́звалі – як вы́расце дзіцёнак, каб зна́ў, як развяза́ць: ду́жа разу́мны бу́дзіць.* Багданава. *Як адва́ліцца пупо́к – у тра́пачку, у скры́ню. Як падрасцёць* [дзіця], *дай яму́ развяза́ць. Хто перад кні́жкай – ву́мны, перад хле́бам – на хле́бе рабо́таць бу́дзіць, каб бага́ты бы́ў* (павер'е). Запруддзе, Заазер'е, Міцюкова.

**ПУПРА́ЦЬ** *зак.* Папраць, паперыць (бялізну). *Грут пла́ццяя пупра́ла.* Цясішча.

**ПУПРУСАВА́ЦЬ** *зак.* Спрасаваць, прыціснуць. *Пупрусува́ў се́на сухе́нькъя!* Пожанькі.

**ПУПРЫЖЫ́ЦЦА** *зак.* Прыжыцца, прызвычаіцца. *Тут пупръжы́лася, і так жыву́ біс хазя́іна.* Івоні.

**ПУ́ПСІЧАК** *м. памянш.* Невялікі акруглы выступ; пупок. *Ні рукмі́* [рукамі] *бярэ́цца* [за суднічак – шафу для посуду], *а за пу́псічък.* Гарадзец.

**ПУ́РА** *ж.* 1. Мера ад аднаго да трох пудоў. *Пу́ра – тры пу́да се́на.* Партызаны. 2. Пасудзіна, якая змяшчае ад аднаго да трох пудоў. *Насы́паў пу́ру. Пу́ра бо́лій пу́да.* Фасаўшчына.

**ПУРГА́** *ж.* Завіруха, мяцеліца. *Як пурга́ бальша́я, ні пі, ні еш, с ха́ты ні лезь.* Гарадзец.

**ПУРУЗУРЫ́ЦЦА** *зак.* Разарыцца, агалець (пра ўсіх, многіх). *З вайны́ ўсе пурузуры́ласё.* Партызаны.

**ПУСКА́ЦЦА** *незак.* 1. Пачаць размаўляць. *Сла́ба ў разгаво́ры пуска́еццa, сядзі́ць як маўду́ць.* Багданава. 2. Пачаць распуснічаць. *Другі́я ў дур пуска́юцца, а ты глядзі́, кап была́ чалаве́кам. Глядзі́, як другі́я ў дур пуска́юцца.* Нямойта.

**ПУСКА́ЦЬ** *незак.* 1. Дазволіць пайсці. *Ні ра́зу ні пуска́лі без ху́сткі.* Запруддзе. 2. Падпускаць. *Ку́рыца нядзе́лі тры во́дзіць цыпля́т, пітуха́ ні пуска́е.* Станюкі.

**ПУСТАЗЕ́ЛЛЕ** *н.* Пустазелле. *Ідзé гарóшына пупыдáіцца, пустазéльле.* Каралевічы.

**ПУСТАЦВЕ́Т** *м.* Пустацвет. *Пустацвéт цвіцéць.* Запруддзе.

**ПУСТУВА́ЦЬ** *незак.* Пуставаць. *А тут зімля́ пустувáла.* Манголія.

**ПУСТУЛЬГА́** *ж.* Пустое, пустата. *Ай-ё, пустульгá!* [не дапамагае шаптанне ад зубнога болю]. Нямойта.

**ПУСТУМАЛО́Т** *м.* Пустамеля, балбатун. *Мéліць і мéліць! Сціхні, пустумалóт!* Буй.

**ПУСТЫ́** *прым.* 1. Неўрадлівы. *Кýклу кідáем на пóле, каб к налéццю ужэ́ уражáй быў, не пустáя каб земля́ былá.* Багданава. *Зімля́ пустáя, то грыбóў німá, радзíць пірыстáлі.* Партызаны. 2. Незасеяны. *Дзéлай прáвільна, каб лáпік ня быў пусты́.* Багданава. 3. Незапоўнены. *Бáнкі пустэ́я стъя́ць у прымы́льніку.* Марозаўшчына. 4. Без жыхароў. *Есь і пустэ́я хáты ў нас.* Леснікова. *Старыкí жылí, паўмірáлі, астълáся хáта пустáя.* Мянюцева. 5. Пазбаўлены зместу. *Пустэ́і твае́ разгавóры, як вéціp.* Вялікі Азярэцк.

**ПУСТЫ́НЯ** *ж.* 1. Неўрадлівая зямля. *Калí на пусты́ні, тады́ сей неізвéсна як, і не зарóдзіць.* Багданава. 2. Незаселенае месца. *Тут нічóга ні былó. Былá пусты́ня. Быў сянны́ бъзáр.* Турава.

**ПУСТЫ́РНІК** *м.* Пустырнік, сардэчнік (расліна). *Пусты́рнік э́та, нерв лéчуць ад ягó.* Заазер'е. *Пусты́рнік дýжа гóркі, ад ламóты харашó. Пусты́рнік – глухáя крапíва – ад ламóтаў. Гóркая, нóгі пáруць.* Каралевічы. *Пусты́рнік – травá ат сéрца, чай завáрваюць, п'юць.* Леснікі.

**ПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* Пачаць, стаць расці. *Пусцíлісі бырвікí расьцí, дзе былí футары́.* Пожанькі. *Крапíва пусцíлася кýчамі.* Нямойта.

**ПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Пусціць, адпусціць. *Лю́да, пусцí мянé!* Сянно. 2. Упусціць, укінуць. *У новýю хáту папéраду къта́, кýрыцу пýсцюць.* Заазер'е. 3. Дазволіць. *Ягó ні пусцíлі вы́ехаць, астáвілі ў Маскве.* Івоні. *Нáда ж дзяцéй у лёд пусцíць* [у халодную, з ільдзінкамі ваду]. Закур'е. 4. Пачаць. *Блакáду як пусцíлі, тады́ Рай спалíлі.* Жохава. 5. Высунуць. *Кірпічы́ну даўжэ́й пýсцяць – спíчкі пълажы́ць і для красаты́.* Фасаўшчына. 6. Выдзеліць (сок). *Грыбы́ салíць увéрх рашóткымі, яны́ сок пýсцюць, што і злівáць шчэ бýдзіш.* Пожанькі. 7. Не дазволіць пакрыўдзіць. *Бáцька сы́на ў абíду не пýсціць.* Жохава. ◊ ПУСЦІ́ЦЬ НА СВЕТ. Нарадзіць, даць жыццё каму-н. *Не загубíла, а душý на свет пусцíла.* Каралевічы. ◊ ПУСЦІ́ ПАВАЛЮ́СЯ. Вельмі дрэнны. *Ёсць такíя бáбы – пусцí-павалю́ся.* Марозаўка.

**ПУ́ТА** *ж.* Пута. *На нóгі пýта – і лéзем.* Ульянавічы. *Пýты на кóні нáда.* Дольдзева. *Нáда навíць вярóвак, пýтоў навíць. Пýтам абшчэ́піць нóгі і да гняздá на дзéраве дабярэ́цца.* Ульянавічы.

**ПУ́ТАНА** *прысл.* Блытана. *Я так пýтана пéсню знáю.* Чуцькі.

**ПУ́ТАНІЦА** *ж.* Рыбалоўная снасць; сетка, якой ловяць рыбу. *Мой хъзя́ін дýжа ры́бай зънімáўся, лáвіў. Брэ́дзінь, пýтаніца былá. Заéдзіць, у пýтаніцу налóвіць.* Нямойта.

**ПУ́ТАНКА** *ж.* Тое ж. *Пýтанка – éта сець, у ёй пълатнó.* Багданава. *Калéка, йна ў пýтынку ня йдзёць.* Сянно.

**ПУ́ТАЦЬ** *незак.* Путаць, звязваць ногі путам. *Яшчэ́ карóву дзяржý, інá б'éцца, пýтаць нáда, і аднóй рукóй нáда даíць.* Багданава. *Кóні пýтаць нáда былó, пýты былí.* Дольдзева. *А быў конь, і мы ягó ні пýтылі. Ён, калí ўбáчыць вуўкá, ён ягó заб'éць. Мы ягó нікыгдá ня пýтълі.* Міцюкова.

**ПУТКАЛЫ́ПАЦЬ** *незак. перан.* Падколваць, гаварыць што-н. з'едлівае, непрыемнае. *Язы́к пуга́ны ў чълаве́ка, усё путкалы́паіць ім.* Заазер'е.

**ПУТКАПА́ЦЬ** *зак.* Падкапаць. *Воўк хлеў путкапа́ў – вакно́ ні́ска.* Міцюкова.

**ПУ́ТНІК** *м.* Спадарожнік. *Ба́цька з вайны́ прабіра́ўся за пу́тнікамі: за пу́тнікамі дамо́й прыйшо́ў.* Багданава.

**ПУТНЫ́** *прым.* Разумны, прыстойны. *То́жа не путна́я дачка́.* Нямойта.

**ПУТПАВЕ́ТАК** *м.* Пабудова для захоўвання вазоў і інш. гаспадарчага начыння. *У путпъве́тку калёсы схува́ў.* Багданава.

**ПУЎГО́РАК** *м.* Невялікі пагорак, узвышша. *Ако́пы вы́шай, тут пуўго́рак.* Серкуці.

**ПУЎКАСІ́ЦЬ** *зак.* Павыкасіць, скасіць (пра ўсё, многае). *І сваё се́на пуўкасі́лі, пъчарне́ла ад до́жджу.* Баравікі.

**ПУЎКРА́СЦІ** *зак.* Украсці (пра ўсё, многае). *У яго́ грыбы́ пуўкра́лі з пъдва́ла, сто ба́нък.* Міцюкова.

**ПУЎНАДЗЕ́Л** *м.* 1. Мера зямельнага надзелу. *Ну э́та ш ня жысць на пуўнадзе́ла с сям'ёй.* Самсоны. 2. Палова надзелу. *Дзед аднаму́ сы́ну даў пуўнадзе́ла зямлі́, друго́му – надзе́л, а трэ́ціму – пуўтъра́ надзе́ла.* Міцюкова, Фасаўшчына.

**ПУЎСА́ЧЫК** *м.* Від самаробнай вопраткі. *Пуўса́чык насі́лі.* Багданава.

**ПУЎСЯМЕ́СНА** *прысл.* Паўсюдна. *Вару́шкі ў нас пуўсяме́сна заву́ць.* Пожанькі.

**ПУЎЦІКА́ЦЬ** *зак.* Уцячы (пра ўсіх, многіх). *Ба́бы пуўціка́лі, а пърціза́ны ста́лі страля́ць па не́мцах, то яны́ – хо́ду.* Закур'е.

**ПУ́ЎЧЫЦЦА** *незак.* Наліваецца сокам (пра ягады). *Смаро́днік ужэ́ пу́ўчыцца.* Багданава.

**ПУФ** *выкл.* Пыхцець. *Такі́ таўсцю́чы. Ідзе́ць – пуф!* Гарадзец.

**ПУХ** *м.* Пух. *У ка́чак пу́ху мно́га.* Буй. *Ну ў ку́ріцы дак гэ́та німа́ пу́ху.* Самсоны. ПУШО́К *памянш.-ласк. Пе́р'е зве́рху абарве́ш, а пато́м там пушо́к такі́.* Самсоны.

**ПУХАВЫ́** *прым.* Пуховы, зроблены з пуху. *Пухаву́ю паду́шку сама́ зрабі́ла.* Буй.

**ПУХА́ЦЬ** *незак.* Пахаць, араць. *Сама́ ара́ла, сама́ пуха́ла, се́яла – і ні́чо́га.* Багданава.

**ПУХЛІ́НА** *ж.* Пухліна. *Цяпе́р во тро́ху пухлі́на спа́ла.* Багданава. *Тады́ пухлі́на бу́дзіць, распо́хніць чалаве́к, як уку́сіць вужа́ка.* Гарадзец. *Пухлі́на паднялáсь, падцягну́ла я нагу́ – ні вы́раўную.* Цясішча.

**ПУХЛУБУ́ШЧЫЦЬ** *зак.* Так-сяк пасекчы, пакалоць. *Тады́ йна пухлубу́шчыць, паб'е́ дро́вы.* Заазер'е.

**ПУ́ХЛЫ** *прым.* Апухлы. *А лю́дзі хадзі́лі пу́хлыя.* Заазер'е.

**ПУ́ХНУЦЬ** *зак.* Выбухнуць, бухнуць. *Ком агню́ вы́скачыў з разе́ткі – нада мной пу́хнула, на чарда́к ускочы́ў, пла́ўна там разгара́ўся.* Нямойта.

**ПУ́ХНУЦЬ** *незак.* Распухаць, апухаць. *Прышла́ дамо́ў, нага́ ста́ла пу́хнуць, распу́хшы нага́ была́.* Жохава. *Пу́хніць, баі́цца ўку́саў пчол.* Івоні. *Рука́ пу́хніць, балі́ць.* Каралі. *Хрась трэ́скаіцца, расціра́іцца усё, пу́хнуць но́гі.* Савінічы.

**ПУХО́ЎКА** *ж.* Порхаўка (грыб). *Пухо́ўкі чо́рныя, кары́чневыя ля Ахрэ́мічы былі́.* Багданава. *Пухо́ўкі бе́лыя по́верху, як яйцо́. Ста́ніш – дым ідзе́ць.* Жохава. *Пухо́ўкі – аш бе́ла па по́лю. Іх пухо́ўкі заву́ць, што шты́лі расту́ць.* Запруддзе, Старая Беліца. *Кру́глінькія, як пухо́ўкі, усё по́ля ссы́пана, грыбы́ такі́я, крэ́пінькія, шапіёны такі́я.* Запруддзе.

**ПУХ-ПАХ** *выкл.* Перадача гукаў адзіночных стрэлаў, якія зроблены праз вельмі кароткі прамежак часу. *Вóйны былí – з вінтóўкі пух-пах. А цяпéр увéсь свет задымляць, застучáць. Не вéдаеш, дзе спасцíся.* Нямойта.

**ПУЦЁВЫ** *прым.* Добра выхаваны. *У нас пуцёвыя дзéці, харóшыя.* Вялікі Азярэцк.

**ПÝЦІКІ** *мн.* Падцёкі, сляды ад тонкіх струменьчыкаў вады. *Пýцікі цякýць, вóкны атпацéлі.* Багданава. *Вадá бяжыць, і пýцікі на кне, во ўжо пýцікі паплылі.* Заазер'е. *Пýцікі цякýць, як упацéіш па ліцý.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Леснікова, Серкуці. *Есь, аж з нóсу пýцікі кáпълі.* Запруддзе.

**ПУЦÍНА, ПУЧЫ́НА** *ж.* Павуціннe. *Стáла пуцíну выцірáць у хáці.* Нямойта. *Як павýк спускáіцца нъ пучыні, то нóвысь бýдзіць* (прыкмета). Сукрэмна.

**ПУЦЬ** *ж.* 1. Дарога. *Нáшу пуць знаў і за нáмі ні паéхаў.* Жохава. *Пат Сяннó на гэ́тай пуці дзярэ́ўня.* Нямойта, Каралевічы. *У пуці-дарóгі сімнáццаты гóдзік нъстáў.* Дольдзева. 2. Бок дарогі. *Ні па сваéй пуці ляцéў.* Неўгадава.

**ПУЧ** *м.* Кветканожка ў цыбулі, пук. *Цубýля ў пуч ідзéць.* Галашчакіна.

**ПУЧÓК** *м.* Драўляная дэталь у падсядзёлку. *Пучкі тачылі длі сядзёлкі, былі і літыя.* Гарадок.

**ПÝЧЧА** *н. зб.* Кветканожка ў цыбулі, пук. *Цыбýля ў пýчча пайшлá.* Закур'е.

**ПÝЧЫЦЦА** *незак.* Покацца, распускацца (пра пупышкі). *Смарóднік ужó пýчыцца.* Багданава. *Калí грымíць пéрвы гром, а лес хоць пýчыцца, то бýдзе ўръджáй на бýльбу.* Каралевічы.

**ПУШÁНЫ, ПЫШÁНЫ** *прым.* Пульхны. *Блін такí пушáны вырасцець. Хлеп вырасцець у пéчы, пышáны.* Багданава.

**ПÝШАЧКА** *ж.* Невялікая ёмістасць, скрыначка. *Камбікóрму дзве пýшачкі даю Бурóне.* Багданава.

**ПÝШЧА** *ж.* Пушча. *Бор ад лéсу ніяк ні атлічáецца. Во, за дзярэ́ўней пýшча булá, а э́та называўся бор.* Багданава.

**ПУШЧÁЦЬ** *незак.* Пускаць. *У хáты ні пушчáюць тýтуцька.* Неўгадава.

**ПУШЫ́НКА** *ж.* Пушынка. *Пушынка аднá.* Буй.

**ПУШЫ́СТЫ, ПУШÁСТЫ** *прым.* Пушысты. *Бýкавіца бéлым цвіціць, пушыстым.* Марозаўка. *Я бáчыла, як лáска з грýшыны і я́блыны бéгыла, і хвастóк у яé пушáсты. Бéлка жóўценькая, хвастóк пушáсты.* Багданава.

**ПХАЦЬ** *незак.* Прымушаць рабіць што-н. *Мы, як пъдраслí, нас пхáлі ў рабóту.* Карпавічы.

**ПЦÉНЕЦ** *м.* Птушаня. *Цяцéра выскачыць – пцéнцы ляжáць. Пцéнцаў ня відзела.* Баравікі.

**ПЦÍЧКА** *ж.* Паметка, адзнака за працадзень. *Што ты зърабóтаіш? Пцíчку.* Запруддзе.

**ПЧАЛÁ, ПШЧАЛÁ** *ж.* Пчала. *Мóжа пчалáм аддáм сáхар яшчэ́. У пчалы крылушкі, нóшкі, што абнóшку нясýць.* Вялікі Азярэцк. *Пчълá на любы цвет ляцíць.* Гарадзец. *Сóрак пяць дней жывéць пчълá, мáтка – больш.* Міцюкова. *Німá нідзé ім заробóтку пчалáм.* Нямойта. *Пчóлы кусáюцца – на дошч* (прыкмета). Запруддзе. *Як тóлька пчол патрэ́жуць, той прадаюць мёт.* Каралі. *Пчóлы бярýць стóлькі мёду, скóлькі сáмі вéсюць.* Кляпчэва. *Ён займáўся пшчалáмі, а яны памёрлі.* Закур'е. ○ РАБÓЧАЯ ПЧАЛÁ. Пчала, якая збірае пылок. *Рабóчая пчълá бярэ́ць нектáр, пыльцý с цвятóў, лазы, с я́блын, грýшы, слíвы, вíшні.* Запруддзе. ○ ПЧÓЛЫ-

ВАРО́ЎКІ. Пчолы, якія крадуць мёд. *Пчо́лы-варо́ўкі наліта́юць на ву́лле, мёд забіра́юць у пчол і нясу́ць к сабе́.* Запруддзе.

□ *Пчо́лы ні бъя́цца хо́лъду, а жары́ і го́льду.* Сянно.

**ПЧАЛАВО́Д** *м.* Пчаляр. *Пчалаво́д ту́тацька я адна́.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**ПЧАЛІ́ННЫ** *прым.* ○ ПЧАЛІ́ННЫ ХЛЕБ. Пылок з кветак, сабраны пчоламі і прынесены ў вулей для падкормкі маладых пчол; пярга. *Пчалі́нны хлеп – бальшо́е ляка́рства. Пчо́лы но́сюць мёд, а пчалі́нны хлеп – як нясу́ць пыльцу́. Спецыя́льную ра́мку нало́жаць пыльцо́ў ге́тых, хле́ба.* Вялікі Азярэцк. *Пчалі́нны хлеб – для пчол малады́х.* Запруддзе.

**ПЧАЛЬНІ́К** *м.* Пчальнік, пасека. *О́свы вадзі́ліся – пчальні́к, былі́ дуплы́.* Серкуці.

**ПЧАЛЯ́Р** *м.* Пчаляр. *Там пчъля́р за масто́м жыве́ць.* Каралевічы.

**ПШАНІ́ЦА** *ж.* Пшаніца. *Зімъвая была́ пшані́ца, се́ілі на пугу́рках.* Манголія. ◊ спаць ЯК ПШАНІ́ЦУ ПРАДА́ЎШЫ. Вельмі моцна, не прачынаючыся. Вялікі Азярэцк.

**ПШАНІ́ШНЫ** *прым.* Прыгатаваны з зерня пшаніцы; пшанічны. *С пшані́шнай мукі́ бліны́ пяклі́, бу́лку, што захо́чыш.* Багданава[1]. *Дай, пано́к, хоць пшані́шныя сало́мы!* Серкуці.

**ПШАНО́** *н.* Проса (расліна). *Пшано́ на гаро́дзі се́ялі.* Жохава.

**ПШО́ННЫ** *прым.* Пшанічны; прыгатаваны з зерня пшаніцы. *Пшо́нную* [муку] *бо́льшы біраглі́: куле́ш вары́лі, бліны́ пяклі́.* Фасаўшчына. *Куле́ш вары́лі з пшо́ннай мукі́.* Жохава. *Яго́ жо́нка прышла́, прасначо́к пшо́нны спякла́.* Заазер'е. *Дасі́ пшо́ннае мукі́, зме́леш на дро́жджы.* Партызаны.

**ПШЭ́НАЎЕ** *н.* Поле, дзе расла пшаніца; пшанічышча. *Пшэ́наўе – як пшані́цу сажне́ш.* Міцюкова.

**ПЫЛ** *м.* Пыл. *Як дажджу́ німа́, тады́ пыл на даро́зі.* Багданава.

**ПЫЛА́ЦЬ** *незак.* Палаць. *Пе́чка пыла́іць, гары́ць, пі́рат по́лынню падпячэ́ць мухамо́р, смíта́най абалье́ць, на акно́ пало́жыць, яны́* [мухі] *й до́хнуць, й до́хнуць.* Запруддзе.

**ПЫ́ЛЕЧКІ** *мн. ласк.* Кураняты. *Пы́лечкі мае́, пы́лечкі!* Запруддзе.

**ПЫЛІ́НА** *ж.* Пыліна, пыл. *Лён мя́лі, трапа́лі, спуска́лі – ды ўсё у ха́це. Гэ́та ціпе́р, каб у ха́це ні пылі́ны.* Багданава.

**ПЫ́ЛІ-ПЫ́ЛІ, ПЫЛЬ-ПЫЛЬ-ПЫ́ЛЯ** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць куранят. Жохава, Станюкі.

**ПЫ́ЛКІ** *прым.* Моцны, крэпкі (пра віно, гарэлку). *Гарэ́лка хле́бная, ня дужа пы́лкая.* Міцюкова.

**ПЫЛЬ** *ж.* Пыл. *Бу́дзіць пы́лі.* Багданава.

**ПЫЛЬЦА́** *ж.* Пылок. *Набіра́ець на за́днія но́шкі пыльцы́ пчъла́, бярэ́ць з ро́зных цвято́ў.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Леснікова, Нямойта.

**ПЫ́РГАЦЬ** *незак.* Размахваць, рабіць рэзкія рухі рукамі. *Стаі́ць і рука́мі пы́ргаець.* Фасаўшчына.

**ПЫ́РНІК** *м.* Пырнік (расліна). *Пы́рнік караніcты – па бу́льбі усю́ды ён.* Багданава, Заазер'е, Партызаны, Закур'е.

**ПЫРНУ́ЦЬ, ПАРНУ́ЦЬ, ПЯРНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Пырнуць, пракалоць. *Ві́лкамі пърну́ла: ду́мала кура́пуўка – бальша́я така́ лягу́шка, а гэ́та кашалёк.* Вялікі Азярэцк. *Хуць но́жъм парне́ць – так ня про́йдзіць.* Заазер'е. 2. Вельмі моцна ўдарыць, выцяць. *А тады́ як пярну́ла мне!* Рэчкі.

**ПЫ́РСКАЦЬ** *незак.* Пырскаць, крапіць. *Вадо́й свянцо́най пы́рскаюць.* Вялікі Азярэцк.

**ПЫ́РСНУЦЬ** *зак.* Пырснуць, разляцецца. *Жыр пы́рснуў съ скъваро́ды.* Багданава.

**ПЫРСЬ, ПЫРСЦЬ** *выкл.* 1. Скокнуць, пырхнуць. *Лягу́шка пырсць – і пад бърађу́.* Міцюкова. 2. Выгнаць вон. *Цябе́ са шко́лы е́тай – пырсь!* Дольдзева.

**ПЫ́РХАЦЬ** *незак.* Скакаць. *Уцікаў кот, пы́рхаў на печ.* Багданава. ПЫРХ-ПЫРХ. Хуценька пераскокваць. *Я па ступе́ньках ґанка пырх-пырх.* Нямойта.

**ПЫ́РХВАЧКА** *ж.* Маленькая барадаўка. *Пы́рхвачка на шчацэ́. Зма́жаш чыстацэ́лам – адлята́ець, сухе́нькая. Пы́рхвачкі сухе́нькія, высо́чанькія.* Парэчча.

**ПЫЎ-ПЫЎ** *выкл.* Перадача гукаў спеву птушкі кані. *Ваду́ про́сіць: пыў-пыў – ка́ня.* Мянюцева.

**ПЫ́ШКА** *ж.* Перамёрзлая бульба, якая перазімавала на полі. *Што перазіму́іць, і тады́ сабіра́лі на по́лі, – е́та пы́шкі. І з тых пы́шак пяклі́ панпу́шкі.* Алексінічы, Запруддзе.

**ПЭ́ЙСЫ** *мн. метаф.* Рэшткі сена, абчасанага са стога пры яго завяршэнні. *Стох абхо́дзіш грабе́лькымі, абгрьба́іш чы́сцінька і наве́рх пыдае́ш. А пэ́йсы трэ́ба падбі́ць наго́й пат стох.* Леснікова.

**ПЭ́КАНКА** *ж.* Апад, падалкі (пра яблыкі). Вялікі Азярэцк.

**ПЭ́ЛЬНУЦЬ** *зак.* Пульнуць, стрэліць. *З рага́ткі мне адзі́н рас як пэ́льнулі ў вакно́!* Запруддзе.

**ПЮ́РЫШКА-ПЮРО́К** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць жарабя. *Пю́рышка-пюро́к – падзыва́лі жърабе́нка.* Багданава.

**П'Ю́ШЧЫ** *прым.* Той, хто часта выпівае, злоўжывае спіртным; апіводша. *Брат п'ю́шчы ў яе́.* Жохава.

**ПЯВІ́ЦА** *ж.* Спявачка. *О, яна́ пе́рвая пяві́ца на дзяре́ўні.* Машчоны.

**ПЯВУ́ЧЫ** *прым.* Гаваркі, прыемны ў размове. *Пятуха́ карміі́лі. Як на Каляду́ некато́ры пяе́ць – пяву́чы ма́лец* [будучы муж] *бу́дзе, а маўчы́ць – маўклі́вы ма́лец дъста́нецца* (павер'е). Дуброўкі.

**ПЯ́ДЗЯ** *ж.* Старая мера даўжыні, роўная адлегласці паміж канцамі расцягнутых вялікага і ўказальнага пальцаў. *Корх ілі пя́дзя называ́лася.* Дольдзева.

**ПЯКО́ЛАК, ПЯКЁЛАК** *м.* 1. Прыпечак. *Ён валі́ўся з пяко́лка дало́й, сьмяк уве́сь.* Буй. *Бо́ты стая́лі на пякёлку, уздзе́ла: хало́дна сёлета.* Леснікова. 2. Прымурак, выступ у печы. *Пакладзі́ спі́чкі на пяко́лак.* ПЯКО́ЛАЧАК *памяшн.* Пра нешта, невялікае, вузкае, падобнае на нару. *Як пяко́лачак гэ́ты гроп, а гэ́ты харо́шы. Аббі́лі і пасла́лі се́на яму́ пад іспо́т.* Буй.

**ПЯКО́ТКА** *ж.* Пякотка. *Ну вот калі-не́будзь з'ясі́ што-не́будзь тако́я – пяко́тка, і гарэ́лым яйцо́м атрыга́іцца.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец.

**ПЯЛЁСКАЦЦА, ПЯЛЯ́СКАЦЦА** *незак.* 1. Пялёскацца. *Сядзя́ць дзе́ці і пялёшчуцца у вадзе́.* Фасаўшчына. 2. Боўтацца. *Яйцо́ махаіць, а баўту́н пяля́шчыцца.* Вялікі Азярэцк.

**ПЯЛЁХ-ПЯЛЁХ** *выкл.* 1. Перадача гукаў плёскату пры руху па вадзе, гразі і пад. *Чу́ю, е́дзіць па гра́зі: пялёх-пялёх.* Галашчакіна. 2. Плюхнуцца, шлёпнуцца. *Вуш* [вуж] *нап'е́цца мълька́ ў каро́вы і, як пра́нік, шлёп нъ зямлю́ – пялёх аб зямлю́ і пашо́ў у нару́.* Алексінічы. *Я рас прывіза́ла пу́гуй яго́ лі на́мързні, конь пацягну́ў са́нкі, а ён пялёх – і ляжы́ць нъ снягу́.* Партызаны. *Рас пайшо́ў у лес на Благаве́шчанне. Снех быў. Вужа́кі пялёх аб снег – з зямлі́ выхо́дзюць.* Ракаў Засценак. 3. Плюхнуць, кінуць. *Ръзмъта́лі і пялёх у ваду́ цы́гана.* Сянно.

**П'Я́НІЦА** *м.* П'яніца. *На Кълядў гъдáлі. Насыпюць кўчкі зірнá, чыю кўчку пятўх перш клюніць – тáя перш зáмуж пóйдзіць. І вадў пъстáвюць. Калí пятўх клюніць і тады вадў пóйдзіць піць, то скáжуць: той мужык бўдзіць п'яніца.* Дольдзева. *Цягніць, як п'яніцу да вóткі.* Серкуці.

**П'Я́НІЦЫ** *мн.* Дурніцы, буякі (ягады). *Дурніцы п'яніцымі завўць, іх як з'ясі, рыгáць бўдзіш.* Сукрэмна.

**П'ЯНТÓС, П'ЯНТЭ́С** *м. эмац.-ацэн.* Апівошына, п'яніца. *П'янтóсы дзікалóн купілі. Во п'янтóс: нап'éцца ды ламáіць усё.* Багданава. *Адны п'янтóсы, а ні мужыкі.* Запруддзе. *П'янтэ́сы гэ́тыя! Дўжа ім у гóлаве, што нáда на рабóту!* Партызаны.

**П'ЯНТÓЎШКА** *ж.* П'янства. *Ні былó тады п'янтóўшкі.* Дуброўкі.

**П'Я́НЫ** *прым.* 1. П'яны, нецвярозы. *П'я́ны – той жа дурны.* Нямойта. *Вíдзіць: п'я́ныя ўжо ўсе. А на вайнў ж éдуць!* Ульянавічы. 2. П'янкі, які п'яніць. *У я́блычны сок дражжэ́й – п'я́ны сок.* Каралевічы. ◊ П'Я́НЫ Ў ГРАЗЬ. Празмерна п'яны. Нямойта. ◊ прыстáў ЯК П'Я́НЫ К ПЛÓТУ. Пра надакучлівага, назойлівага чалавека. Багданава.

**ПЯНЬКÁ, ПІНЬКÁ** *ж.* 1. Канапляная траста. *У éўні і пянькў сушылі.* Серкуці. *Ты пянькў сваю нъмачыў?* Заазер'е. *Канóплі сéілі, пінькá шчытáлъся, вярóўкі вілі. І пянькў мачылі, янá тады бéлінькія.* Каралі. 2. Каноплі (зерне). *З пянькí мáсла рóбілі.* Закур'е.

**ПЯРВÓСЦЕНКА, ПЯРВÓСЦІНКА** *ж.* Карова першага ацёлу. *Пярвóсценка – карóва пéрвым цéлем.* Латыгаль. *Мъя́ пярвóсцінка літраў дзéсіць дъвáла мълькá.* Нямойта. *Нáша карóва пярвóсцінка.* Чуцькі, Марозаўка.

**ПЯРВЯ́К** *м.* Рой пчол, які першым пакідае вулей. Кляпчэва.

**ПЯРГÁ, ПЯРХÁ** *ж.* Пылок, якім пчолы запячатваюць соты. *Заліты бéлінькай пярхóй – гатóвы мёт.* Вялікі Азярэцк. *Убірáюць пяргў.* Запруддзе.

**ПЯРЛÓЎКА** *ж.* Пярлоўка, ячныя крупы. *Пярлóўка – ячмéнныя крўпы.* Багданава[1]. *А там сéчка ці пярлóўка?* Багданава. *З Кузьмінá да Вялікага Сялá нéслі крўпы – пярлóўку – з мéльніцы.* Міцюкова.

**ПЯРÓ** *н.*, **ПЁРЫ** *мн.* 1. Ліст. *Раслі ў пятае пярó агурцы.* Партызаны. 2. Крыло ў ветраным млыне, на якое нацягвалі палатно; лопасць. *Пёры – для бóльшага ўпóру вéтра.* Малы Азярэцк.

**ПЯРЎН, ПІРЎН** *м.* Удар грому з маланкай. *Не даглéдзела дзяўчыны, пярўн удáрыў – спужáлася, захварэ́ла.* Апечкі. *Дом пярўн спаліў.* Вялікі Азярэцк. *Пярўн удáрыў у вакнó, малыння блісь, – і хáта загарэ́лася. Дáйжа скот біў пярўн.* Багданава. *Пярўн як даў – на мéсцы аднў бабў забіла. Сягóнні бўдзіць рабінавая ноч – пярўн бўдзіць.* Запруддзе. *Гром грыміць, а як удáрыў, то пярўн б'ець.* Кішуроўшчына. *Свéчкі дзéлаюць на Грамніцы, нясўць свяціць іх. Шчытáлі ад гразы, ат пярунóў палілі, як пярўн.* Мянюцева. *Нільзя́ ў пастрóйку лажыць дрэ́ва гэ́тыя, што пярўн удáрыў, бо бўдзіць біць пярўн у тўю пастрóйку.* Ракаў Засценак. *Дзе бацьян жывéць, пярўн у дом не ўдáрыць.* Дуброўкі, Партызаны, Сукрэмна. *Пад пірунóм пабылá, чуць саўсім кáпцы ні былі.* Нямойта. *Каб цябé пярўн <у Каля́ды> забіў!* (праклён). Вялікі Азярэцк, Багданава, Запруддзе, Міцюкова, Партызаны. ◊ ПЯРЎН ЯГÓ (ЦЯБÉ) ЗНÁІЦЬ. Невядома. *Дзе сáхар, пярўн ягó знáіць. Быў і кускавы, і піскавы.* Дольдзева, Жохава.

**ПЯРШÁК, ПІРШÁК** *м.* 1. Карова першага ацёлу. *Піршáк – пéршы рас цялілася карóва.* Багданава. *Піршáк – пéршым цёлам.* Гарадзец, Запруддзе, Партыза-

ны, Рассвет. 2. Рой пчол, які першым пакідае вулей. *Пе́рвы рой – пяршáк, втары́ – сáмы сі́льны, старáя мáтка ідзе́ць у пе́рвым раю́.* Вялікі Азярэцк.

**ПЯРША́ЧКА, ПІРША́ЧКА** *ж.* Карова першага ацёлу. *Пяршáчка – пе́рвы раз цялі́лася.* Парэчча. *Піршáчка – пе́ршы рас цялі́лася карóва.* Фасаўшчына.

**ПЯРЫ́НА** *ж.* 1. Пяро, пер'е. *Шмат пяры́н у ку́рыцы. Пяры́ны курáчыя.* Буй. 2. Пярына, пуховая коўдра. *Пяры́на хай ёй бу́дзіць.* Нямойта. 3. Лісток расліны. *Пяць пяры́н гуркі пусці́лі.* Партызаны.

**ПЯРЭ́ДАЙКА** *ж.* Перадойка, ялавіца. *У мяне́ гэ́ты гот пярэ́дайка былá.* Багданава.

**ПЯРЭ́ДНІ** *прым.* Пярэдні. *Ву́згълаўе станóвіцца нъ пярэ́днію вось.* Гарадзец. *Хáта пярэ́дняя і зáдняя хáта.* Марозаўка.

**ПЯРЭ́ДНІК** *м.* Фартух. *Дай ты мне мой пярэ́днік.* Багданава.

**ПЯРЭ́КЛЯЦЬ** *м.* Перадклецце, шырокі ганак з навесам перад дзвярыма ў клець. *Быу́ пярэ́кляць, тады́ клець.* Вялікі Азярэцк.

**ПЯРЭ́КРУТА** *ж.* Скручанае месца ніткі, вяроўкі; сукаратка. *Пярэ́крутка бывáіць пры сукáнні.* Серкуці.

**ПЯРЭ́СМАЧКІ** *мн.* Другі сорт ільновалакна пры абдзіранні на драчку. Закур'е.

**ПЯРЭ́ЧКА** *ж.* Папярэчная баразна. *Узары́ мне пярэ́чкі там.* Гарадок.

**ПЯСÓК** *м.* Пясок. *Калі́ ў пясóк ле́зуць ку́ры, то цёпла бу́дзець* (з назіранняў). Дольдзева. *Мáлы быў, а бáчыць, што панёс воўк брáта, сыпнуў пяскóм – і воўк ягó кі́нуў.* Пожанькі. ПЯСÓЧАК *памянш.-ласк. Пясóчак як бегунóк, харóшанькі.* Міцюкова.

**ПЯСÓЧЫНА** *ж.* Пясчынка. *Зачапі́ўся пáлец за пясóчыну і распахáіць.* Нямойта.

**ПЯСТУ́Н, ПЕ́СТУН** *м.* Пястун, балаўнік. *Яе́ дачкá такі́ пясту́н, такáя нóтная, бáлъваная.* Вялікі Азярэцк. *Атхóдзіць мáтка нъ рабóту, скáжыць дзіцям: «Ты стаўчы́ круп, ты бу́льбу пачы́сці!» А цяпе́р гэ́та пе́стуны.* Гарадзец.

**ПЯТА́, ПІТА́** *ж.* 1. Пятка нагі. *К пяце́ мазь прылажы́лі.* Апечкі. *Смързану́ла сцяклóм – пяту́ атшарáшыла.* Багданава. 2. Канец шырокай часткі касы. *У касе́ пітá ш ёсць.* Галашчакіна.

**ПЯ́ТКА** *ж.* 1. Канец шырокай часткі касы. *Пъдгъняіш касу́ – ад пупаві́ны ды пя́ткі і нóсіка змірáеш* [вымяраеш] *вярóвъчкую.* Леснікова. *Пя́ткай надрэ́жыцца ствóлік, канцóм.* Нямойта. 2. Тупы канец яйка. *Пя́тка і нóсік у яйцы́.* Багданава.

**ПЯТЛЁЎКА** *ж.* Мука вышэйшага гатунку; пытляванка. *Пятлёўка – пітлёванъя мукá.* Каралевічы.

**ПЯТЛІ́ЦА** *ж.* Прарэзаная ў адзенні дзірка для зашпільвання. Гарадзец.

**ПЯТЛЯ́** *ж.* Сіло для жывёлы. *Сын стáвіць пе́тлі.* Рэчкі.

**ПЯ́ТНІЦА** *ж.* Пятніца. *Кáждую сераду́ і пя́тніцу пасці́лі, і сімнáццаць нядзе́ль пóсту былó. Е́лі але́й і тырáн.* Алексінічы. *Грымі́ць гром у сіраду́, у пя́тніцу на гóлы лес – ніўръджáй на бу́льбу* (прыкмета). Каралевічы.

**ПЯТНÓ, ПЯТМÓ** *н.* Пляма. *Пя́тны ад вóспы, плямы.* Гарадзец. *Пя́тмы крáсныя. Усе́ плёчы ў пя́тмах.* Каралевічы.

**ПЯТРÓ** *м.* Старажытнае земляробчае і рэлігійнае свята. *Пятрó ш во бу́дзіць дзвінáццатага ію́ля.* Багданава. *Ве́нікі нáда візáць на Пятрá.* Буй. *З Вялі́кадня да Пятрá зязю́ля куку́іць* (з назіранняў). Вялікі Азярэцк. *Да Пітрá зязю́ля куку́іць, а с Пітрá – ні дня́* (прыкмета). Міцюкова.

□ *Святы́ Пятрó ў касу́ звóніць, а Святы́ Пáула грáблі лóміць.* Партызаны, Вялікі Азярэцк.

**ПЯТРÓК** *м.* Тое ж. *Вéнікі дзяржы́ да Пітрá, зязю́ля кукýіць да Пітрá.* Міцюкова. *Пóслі Дýха* [Тройцы] *Пятрóк прáзнувалі.* Самсоны. *А Пятрóк атарвáў лістóк – і з дзéрава вáліцца лістóк.* Фасаўшчына. *Пятрóк атшчыпнéць лістóк, а Ілля́ – два, і пайшлó на хóлад. Пятрóк атървáў лістóк – ужó лéта канéц.* Багданава.

□ *Пятрóк атшчыпнýў лістóк, а Лля* <укінуў> *два, Прачы́ста апчы́сціць чы́ста.* Алексінічы, Вялікі Азярэцк. □ *Пятрóк атшчыкнýў лістóк, а Лля укінуў лядня́.* Вялікі Азярэцк. □ *Прышóў Пятрóк, атарвáў* (*атшчыкнýў*) *лістóк.* Запруддзе, Гарадзец, Нямойта. □ *Пятрóк атшчыкнéць* (*атшчыкнýў*) *лістóк, (а) Ілля́ – двá.* Каралевічы, Чуцькі.

**ПЯТРÓЎКА** *ж.* Час, які прыпадае на Пятро, які ў мінулым быў галодным. *Там пятрóўка лéтам бувáіць.* Самсоны. *Цяпéра пятрóўка-гъладóўка, ат Купáла да Пітрá.* Малы Азярэцк, Буй, Запруддзе, Партызаны, Ульянавічы.

□ *Пятрóўка – гаъладóўка.* Малы Азярэцк, Запруддзе.

**ПЯТРÓЎКІ** *мн.* Тое ж. *Патóм пятрóўкі – усё пóмню бывáлашняе.* Закур'е.

**ПЯТÝХ, ПІТÝХ** *м.* 1. Певень. *Быў пятýх пат пéччу, а ён акрáс вóўрэмя разбýдзіць.* Гарадок. *Пад вуглóм вады́ нап'éцца на Грамніцы пятýх* (з назіранняў). Партызаны. *Éслі у дош пяю́ць пятухі́, знáчыць пагóда, а éслі ў пагóду харóшу пяю́ць, знáчыць бýдзе дош* (з назіранняў). Розмыслава, Закур'е. *Пéрвы пятýх запяéць.* Неўгадава, Запруддзе. *Як запія́лі пітухі́, так чарцéй ні стáніць* (павер'е). Багданава. 2. Знак ад удару на тонкім лёдзе. *Як стýкніш кýкъй* [па лёдзе], *тады́ пулучáціцца пятýх рáзнымі цвітáмі.* Багданава.

**П'Я́ЎКА** *ж.* П'яўка. *У вы́гарцы якóй п'я́ўкі, апалóнікі. П'я́ўкі у какóшніку вадзіліся.* Багданава. *П'я́ўка ў вадзé. Ці не кусáла трóху?* Рулёўшчына. *Як нóгі баля́ць, нáда п'я́ўкі пастáвіць, – каб былí галóдныя. Упівáюцца ў цéла, аж я́мка здзéлаецца, не вы́рваць.* Вялікі Азярэцк. *П'я́ўкі пастáвілі – ёй палéпшыла.* Закур'е.

**ПЯХЦÉЛЬ, ПЯХЦÉР** *м.* 1. Вераўчаны мех для сена. *Піхцялí такія дзéлалі. Пяхцéль з вярóвак, тады́ пудóў два сéна ўлéзіць.* Гарадзец. *Пяхцéль сéна напхáў.* Заазер'е. *Пяхцéль – сéна насíць, з вярóвак тóлькі, дарóжны, напіхáіш сéна.* Савінічы. *Пяхцéр – брáлі сéна ў ягó. Насíлі сéна ў пяхцéры.* Фасаўшчына. 2. Грэблівая назва старога няўклюднага чалавека. *Дзéда старóга звáлі пяхцéль. Ох ты, пяхцéль стары́, неўварóтлівы.* Савінічы.

**ПЯЦÉЛЬКА** *ж.* Невялікая, прарэзаная ў адзенні дзірка для зашпільвання. *Пяцéлька зашпíліваць, пятлíца.* Гарадзец.

**ПЯ́ЦЕРА, ПЯ́ЦІРА** *ліч.* Пяцёра. *Пя́цера згудувáла, а трóе дзяцéй памёрла.* Багданава. *Былó дзяцéй пя́ціра.* Заазер'е, Партызаны.

**ПЯ́ЦІНКА** *ж.* Прысвятак у народна-царкоўным календары, які бывае пасля Тройцы. *На Пя́цінку* [летам пасля Тройцы] *адзéжу на рацэ́ пускáюць, камý што не вядзéцца* (звычай). Закур'е.

**ПЯЦІПАЛЬЦÓЎКА** *ж.* Сетка з вочкамі на пяць пальцаў велічыні. Багданава.

**ПЯЦІСЦÉНКА** *ж.* Хата, падзеленая на часткі ўнутранай сцяной; пяцісценка. *Пяцісцéнка – брóўны скваз́ныя, а ў срадзíны перарýбы.* Гарадзец.

**ПЯЦЬ** *ліч.* 1. Пяць. *Ваўкóў булó штук пяць. Яны́ вы́лі і гры́злі лясíну.* Багданава, Сянно. 2. Пяцёра. *Усéм пяцём на вайнé былí.* Запруддзе.

**ПЯЧКÝР** *м.* Пячнік. *Пячкýр пéчкі дзéлыў.* Леснікова, Нямойта. *Пячкýр пры́дзіць, параўня́іць, кап рóўна булó* [пясок на запечках]. Міцюкова. *Пячкýр быў, кóмін дзéлаў тóжа ў пéчы.* Сукрэмна, Фасаўшчына.

**ПЯЧО́НКІ** *толькі мн.* Згусткі крыві. *Кроў у но́се ідзе́ць, патрыма́еш хало́дную ваду́ – пячо́нкі запяку́цца. Дзяржа́ла на перано́ссі тра́пку, хало́дную ваду́, пячо́нкі запяку́цца.* Кляпчэва.

**ПЯЧУ́РКА, ПЯШЧУ́РКА** *ж.* 1. Невялікая ніша ў сцяне печы; пячурка. *Пячу́рка – дзе рукаві́чкі, спі́чкі.* Багданава. *У пячу́рку і спо́ткі пакладу́ць со́хнуць, капату́шачку пъста́вяць.* Запруддзе. *У пячу́рцы рукаві́чкі су́шаць.* Каралі, Дольдзева. *Пасадзі́ла цыплёнка ў пяшчу́рку, ён сядзе́ў і здох* [гаворка пра змёрзлае кураня, якое пасадзілі адаграваць у пячурку]. Міцюкова. *У пячу́рку кладзе́ш што-не́будзь.* Дуброўкі. ПЯЧУ́РАЧКА *памянш.-ласк. Пячу́рачка – рукаві́чкі пало́жыш.* Багданава. 2. Нара, норка. *Лісі́ца пячу́рку здзе́лъла і жыве́ там.* Гарадок.

**ПЯЧЫ́, ПЕЧ** *незак.* 1. Гатаваць, смажыць (ежу). *Бліны́ пяку́ць нъ Дзяды́.* Нямойта. *Пасо́блю печ піра́жкі.* Багданава. *Мъкаро́н пе́клі с кръхма́лу.* Сянно, Алексінічы, Запруддзе, Карпавічы, Міцюкова, Рулёўшчына. 2. Моцна прыпякаць, паліць. *Пячэ́ць, жа́рка ду́жа.* Вялікі Азярэцк. *Со́нца крэ́пка пячэ́.* Запруддзе. *Е́слі сі́льна пячэ́, то бу́дзе граза́* (з назіранняў). Розмыслава.

**ПЯШКО́М** *прысл.* Пешшу. *Ужо́ ве́лік адда́ў, ідзёць пяшко́м.* Станюкі. *На плячо́ лемяшы́ і пяшко́м прыпрэ́ць.* Алексінічы. *Пяшко́м хадзі́лі на Вя́тна.* Партызаны. *І абра́тна пяшко́м у Ле́піль, пяшко́м!* Фасаўшчына.

**ПЯШНЫ́** *прым.* Пячны. *Мълато́к пяшны́ быў.* Жохава.

**ПЯШЧА́НЫ, ПІШЧА́НЫ** *прым.* Пясчаны. *Што зімля́ была́ пішча́нъя, то назва́лі пасёлък у 1928 го́дзе Манго́лія, а ху́тар, як е́дзіш на Асі́наўку, – Шанха́й. Там дзяцёй бало́ бъга́та.* Манголія. *Пяшча́наму гаро́ду на́да дошч. Гаро́т пішча́ны: яка́я ро́дзіць бу́льба, таку́ю і саджу́.* Партызаны. *Пішча́нае во́зера было́: не́як было́ мачы́ць палатно́.* Самсоны.

**ПЯШЧУ́РА, ПЯШЧУРА́** *ж.* Пясчаная, вельмі неўрадлівая глеба. *Там пяшчу́ра така́я. Дзе Лі́пава гъра́, пяшчура́ там.* Багданава.

**ПЯЮ́Н** *м.* 1. Пявун. *І пяю́н, і скаку́н ска́жуць.* Багданава. 2. Певень. *Пяю́н – пяту́х пяе́ць і пяе́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ПЯЮ́ННЯ, ПЯЮ́ЛЛЯ** *ж.* Пявуння, спявачка. *Ма́ма мъя́ ду́жа была́ пяю́ння, пе́ла харашо́.* Нямойта. *Пяю́лляў німа́ ў Фа́саўшчыне.* Ульянавічы.

**ПЯЮ́ХА** *ж.* Тое ж. *Пяю́ха бы́ла, гарэ́лку пілá, цыга́начку тънцава́ла. Яе́ зва́лі Рубаўчы́ха. Усе́ пе́лі, се́на ўбі́раць е́здзілі, туды́ пе́лі, наза́д пе́лі – пяю́хі былі́.* Багданава. *Была́ пяю́ха, пяцьдзеся́т сва́дзьбаў згуля́ла.* Баравікі. *Яна́ іка́я пяю́ха?* Вялікі Азярэцк. *І пяю́ха, і скаку́ха у мяне́ дачка́.* Цясішча.

**ПЯЮЧЫ́** *дзеепрысл.* Спяваючы. *І пайшлі́ да Запру́ддзя, пяючы́ і ска́чучы.* Багданава.

**РАБЁНАК** *м.* Дзіця. *Ну, прыня́лі, тут рабёнка пакупа́лі, у мяшо́к уварцёла ба́пка гэ́та. Мех – ну вот што сы́пюць. У мяшо́к, кап спако́йная была́, як мех.* Заазер'е. *Бяру́ць рабёнка, тъганы́ і нясу́ць у по́ля.* Запруддзе. *Іна́ с малым* [нацiск ?] *рабёнкам тут.* Івоні.

**РАБІ́НА** *ж.* Рабіна. *Як рабі́ны мно́га – мо́кръя во́сінь* (прыкмета). Ракаў Засценак.

**РАБІ́НАВЫ** *прым.* Колеру спелых ягад рабіны. *Пла́цце рабі́навага ко́леру – от любі́ла. Рабі́ны цвет красі́вы.* Запруддзе. ◊ РАБІ́НАВАЯ НОЧ. Летняя ноч

з громам, маланкай, дажджом. *Рабінъвъя ноч – мъла́нка і гром, пяру́н б'ець.* Кішуроўшчына. *Рабінавая ноч – гром, мълыння́, лю́дзі не спяць. У рабінаву ноч гром быва́іць, малыння́. Ноч ні спаць: пяру́н бу́дзіць.* Запруддзе.

**РАБІ́ННІК** *м.* Рабінавы зараснік. *До* [досыць] *рабі́ннiку, калі́ны!* Гарадок.

**РАБІ́ЦЬ, РО́БІЦЬ** *незак.* 1. Працаваць, займацца справай. *Ту́ю рабо́ту роб, роб, і кънца́ ёй німа́.* Запруддзе. *Роп ня ро́п – ня бу́дзіць залаты́ гроп.* Нямойта. *Ро́біш, ро́біш – і ні за́ табо́ю, ні перат табо́ю.* Партызаны. *Ніхто́ ня ро́біў у пра́знічны дзень: абірага́лісі.* Савінічы. *У Засла́ўі ро́білі, там і пазнако́мілісі.* Дуброўкі. *У брыга́дзі чатыры жанчы́ны, не́каму ро́біць. Ду́жа ні спа́лі, ро́білі.* Закур'е. *Роп як вол, а ў нядзе́лю рас пу́сціць гуля́ць.* Неўгадава. 2. Майстраваць. *З ясяно́га дзе́рава рабі́ў са́нкі.* Чуцькі. *Ро́зьвіны былі́, плялі́ іх. Вяро́ўкі вілі́ з канапе́ль, дзве ду́шкі рабілі – се́на насі́лі, сало́му.* Станюкі. 3. Займацца па гаспадарцы. *Калі́ змагу́, ро́блю, а калі́ ні змагу́, то й так. Ён ужо́ ня ро́біў ніч́ога.* Цясішча. 4. Рубіць, будаваць. *Дай людзе́й, хай мне ха́ту ро́бяць.* Нямойта.

**РА́БО́ТА** *ж.* 1. Праца, занятак. *Дзе́лаць на́да, а рабо́та ня ле́зіць у ру́кі.* Багданава. *І до* [хопіць] *мне рабо́ты ў се́мдзісят пяць гадо́ў.* Гарадок. 2. Месца працы. *Німа́ чалаве́ка на рабо́ці.* Неўгадава. ◊ СВАЁЙ РАБО́ТЫ. Саматробны, зроблены сваімі рукамі. *Штаны́ сваёй рабо́ты зъкъса́еш – і бъсяко́м пъ расе́.* Дольдзева.

□ *Уво́сень – рабо́т во́сем* (*дзе́сіць*). Запруддзе, Партызаны, Дуброўкі. □ *Дурука́ рабо́та лю́біць, а дура́к рабо́ту.* Запруддзе, Партызаны. □ *Вясно́ю рабо́ты ат нядзе́лі да субо́ты.* Запруддзе. □ *Рабо́та дурака́ лю́біць, а дура́к яе́ хва́ліць.* Багданава. □ *Рабо́ты аж да субо́ты.* Багданава.

**РАБО́ТАЦЬ** *незак.* Працаваць, быць занятым чым-н. *Як рабо́таім, так і іме́ем.* Багданава. *Мы ўсе рабо́талі.* Заазер'е. *Лю́да ў Сянно́ рабо́таець з Іво́нь.* Івоні. *Ско́лька ў ма́ткі ні рабо́тай, ні заслу́жыш залаты́ дом.* Каралевічы. *У каго́ та́мыка на хе́рмі* [на ферме] *рабо́тъюць, то бага́та се́на палуча́юць.* Партызаны, Рулёўшчына, Турава, Ульянавічы, Цясішча.

**РАБО́ТКІ** *мн.* Розныя заняткі па гаспадарцы. *Усе́ рабо́ткі перадзе́лала.* Неўгадава.

**РАБО́ТНІЦА** *ж.* Працавітая жанчына. *Вось і сышлі́ся рабо́тніца і гульта́й.* Дуброўкі.

**РАБО́ЧЫ, РАБО́ЧЫЙ** *прым.* Працалюбівы, працавіты. *Ён дзе́лаў, рабо́таў, рабо́чы быў чълаве́к.* Багданава. *Ён як конь рабо́чый.* Дольдзева. *Рабо́чаму чълаве́ку німа́ тут чаго́ ро́біць.* Фасаўшчына.

**РАБРО́** *н.*, **РЭ́БРЫ** *мн.* 1. Рабро (у чалавека, жывёлы). *Рэ́бры абраза́еш, жа́рыш. Адны́ рэ́бры, ссох ужэ́.* Багданава. *Не́калькі рабёр зло́мана.* Запруддзе. *Пулума́ў рэ́бры і гадо́ў пітна́ццыць по́слі то́га жыве́ць.* Міцюкова, Нямойта. РЭ́БРАЧКА *н.*, РАБРЫ́НКА *ж. памянш. Рэ́брачкі абраза́юць.* Багданава. *З'еў яе́ воўк, адну́ рабры́нку знайшлі і по́чачку.* Вялікі Азярэцк. 2. Частка каркаса (у рэчах). *Сядзёлка – зве́рху рэ́бры, зні́зу патні́к.* Гарадзец. *До́ўжанькія рэ́бры зве́рху ў карзі́не.* РЭ́БРУШКА *н. памянш.-ласк. Рэ́брушкі куды́ ўто́ркнуць.* Багданава.

**РАБРЫ́НА** *ж.* Рабрына (у кашы́). *Адна́ рабры́на* [у кошыку]. Гарадзец.

**РА́БЫ, РАБЫ́** *прым.* 1. Рабы, пярэсты (пра каня, карову). *Ра́бая каро́ва быва́ець – чо́рнъя зь бе́лым. Рабая каро́ва – чо́рна з бе́лым.* Буй, Станюкі. *Ра́бы конь бува́йіць.* Нямойта. *Ён на рабы́м кані́ е́здзіць.* Гарадзец. РА́БЕНЬКІ *ласк. Ла́ска – яна́ жо́ўценькая з бе́лым, тро́шку з чо́рным – ра́бенькая.* Вялікі Азярэцк.

2. Васпаваты, з воспінамі. *Рабы чалавек, ён воспай перабалеў.* Запруддзе. 3. *мн.* Пра статак пярэстых кароў. *Куда, рабыя!* Баравікова.

**РАВІЗІЯ** *ж.* 1. Рэвізія, праверка. *У калхозі быў, равізію ён там дзелаў.* Багданава. *Равізія ў нас, ні работаім.* Станюкі. 2. Агляд каго-н. *Равізію пчълам дзелаем, можна і сахару даць, каторыя бедныя.* Вялікі Азярэцк.

**РАГАЗА** *ж. эмац.-ацэн.* Пра нязграбнага, няўклюднага чалавека. *Ах ты ръгъза, нізграбная ты!* Заазер'е.

**РАГАТАЦЬ** *незак.* Гучна смяяцца. *Як жарабок рагочаш!* Вялікі Азярэцк.

**РАГАТКА** *ж.* Часовае прыстасаванне, збітае накрыж з некалькіх колікаў (планак), якое ставілі для спынення руху вясельнага поезда. *Ръгатку пъставілі: на стул хлеп, соль пыставілі.* Сянно.

**РАГАТКА** *ж.* Карова з вялікімі рагамі. *Рагатка з вялікімі рагамі.* Каралевічы. *Кап яны мне ръгатку прывялі.* Багданава.

**РАГАТКІ** *мн.* Небяспечнае топкае месца. *Ръгаткі – што ўваліўся і дъ дна. Въда тъкая бузянъя там.* Запруддзе.

**РАГАТЫ** *прым.* Сукаваты. *Там елка стъяла ръгатая.* Рассвет. *З ръгатыя елкі астроўцы дзелыіць. Іх мінімум трэба шэсць.* Сукрэмна.

**РАГАТЫ** *мн. эмац.-ацэн.* Набытак, начынне (?). *І хаты, і рагаты! На чорта?! О, як я абсунулася!* Дольдзева.

**РАГАЦІНА** *ж.* Раздвоены ствол ці сук дрэва, вілачкі. *Высікаіць ръгаціну з метр.* Сянно.

**РАГАЦЮЛЬКІ** *мн.* Махры, адросткі (пра расліну). *У свірэпіцы рагацюлькі, як у радыскі.* Запруддзе.

**РАГАЧЫКІ** *мн.* Сучкі, палачкі на ніжнім канцы калатоўкі. *Кълатоўка дзіравяннъя, і ръгачыкі такія да гетъга дзелылісь.* Дольдзева.

**РАГУЛЬКА** *ж.* Трыножка. *На рагульку міску ставілі.* Дольдзева.

**РАГУЛЯТАР** *м.* Дэталь калаўрота для рэгулявання руху ніткі. *Рагулятар – кап нітка цішэй ішла.* Каралі.

**РАГУТЫ** *толькі мн.* Сані для гаспадарчых патрэб. *Рагуты, а хто завець палкаркі – эта павоскі.* Савінічы.

**РАД** *м.* Рад. *Снапы ставілі ў два рады.* Вялікі Азярэцк.

**РАДА** *ж.* ◊ ДАЦЬ РАДЫ. Дапамагчы. *Можа што як рады дасьцё? Ніхто ей рады ні даў.* Багданава. *Нідзе ні могуць рады даць і дъктары.* Запруддзе. *Схадзіў к бабі-шаптусі – ні дала рады.* Нямойта. ◊ НІМА РАДЫ. Пра бязвыхаднае, роспачнае становішча. *Падаваў на перасут: німа рады.* Запруддзе. ◊ НАЙСЦІ (НАХОДЗІЦЬ) РАДЫ. Атрымаць (атрымліваць) дапамогу. *Ну, тады йдзеш, рады находзіш. К аднаму вады сходзіш, к бабе якой, пакуль рады найдзеш. Але ж во рады находзюць. І вады даюць, і вылечваюць.* Запруддзе.

**РАДАМ** *прысл.* Разам. *Радам гулялі нъ танцах.* Леснікова.

**РАДАНІЦА** *ж.* Дзень памінання памерлых; Радаўніца. *Раданіца послі Паскі, во ўторак бываець.* Багданава. *Раданіца послі Вялікадня, спусця нядзелю ў аўторнік. На кладбішча усе ходзім.* Самсоны. *Послі праводніцы ў аўторак будзе Раданіца. Гэта ідуць ужо мёртвых успамінаюць.* Нямойта. *На Раданіцу ходзяць на кладбішча.* Вялікі Азярэцк. *На Раданіцу кашу зварам з круп, запрамвім салам. Галосім да безумія.* Запруддзе.

**РАДАСЬ** *ж.* Радасць. *У жорны змеліш, спячэш – во і радась, во і хлеп.* Нямойта.

**РА́ДАЧКАМ** *прысл.* Недалёчка, побач. *Нъвасёлкі во ра́дъчкъм яны́ тут.* Закур'е. *У нас саўхо́з ра́дъчкъм.* Дуброўкі.

**РАДЗЁНАЧАК** *м.* Немаўлятка. *Як радзёначка радзіла пе́рвага, то тры ме́сяцы усяго́ карміла.* Савінічы.

**РА́ДЗІВА, РА́ДЗІВО** *н.* Радыё. *Ра́дзіва не гаво́рыць. За ра́дзіва здзіра́ю гро́шы ў ба́бы.* Багданава. *Пе́лі па ра́дзіва сва́дзьбу.* Чуцькі. *Ра́дзіва гра́іць.* Закур'е. *Я тут ні бува́ю, так ра́дзіво гаво́рыць.* Багданава[1].

**РАДЗІ́МАЯ** *ж.* Падучая хвароба, эпілепсія. *Паду́чая бале́сць і радзі́мая – іс пу́ду спужа́ецца, як но́сіць.* Леснікі. *У ім радзі́мая была́, бале́сь.* Багданава.

**РАДЗІ́МКІ** *мн.*, **РАДЗІ́МКА** *ж.* Прыроджаныя плямкі на скуры; радзімкі. *Як пъжа́р, спужа́ешся, схво́ціцца за ліцо́ – радзі́мкі, значкі́.* Багданава. *Радзі́мкі ні змыва́юцца і ні здзіра́юцца.* Гарадзец. *Радзі́мка на ліцэ́.* Міцюкова. *У хло́пца радзі́мкі на це́лі ёсь.* Цясішча. *Радзі́мка здзе́шная.* Неўгадава.

**РАДЗІ́МЫ** *прым.* Свой, уласны. *Я б з іх здыма́ла радзі́мую шку́ру.* Івоні. ○ РАДЗІ́МЫ ЗНАК. Радзімка. *Радзі́мых два зна́ка на руцэ́ – два мужука́ бу́дзіць* [палоскі такія]. Дольдзева.

**РАДЗІ́НА** *ж.* Радня, сваякі. □ *А мне та́я радзі́на, што му́жа радзі́ла.* Леснікова.

**РАДЗІ́НЫ** *толькі мн.* Святкаванне, звязанае з нараджэннем дзіцяці. *Ро́дзіцца рабёнък, яго́ апчы́сцюць, абмы́юць, пато́м дзе́лаюць радзі́ны.* Заазер'е. *На радзі́нах ба́бу пасо́дзюць і вязу́ць у начо́ўках с То́рбінкі ў Прыве́так.* Партызаны.

□ *Смерць і радзі́ны ня жду́ць до́брай гадзі́ны.* Каралевічы, Багданава, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Запруддзе.

**РАДЗІ́ЎШЫСЯ** *дзеепрысл.* Нарадзіцца. *Я была́ ў Ка́ніві радзі́ўшыся.* Багданава.

**РАДЗІ́ХА** *ж.* Парадзіха. *Ма́ку стаўку́ць з са́харам – гэ́так ка мне, к радзі́се, прыхо́дзілі. Аддаю́ць радзі́хе гро́шы для дзяцёнка.* Багданава. *Пашлі́ радзі́ху атве́дыць. Хадзі́ла кума́ к радзі́сі, чустува́лісі.* Партызаны. *Радзі́ха зва́лі. Радзі́хі тут былі́, у пако́йчыку.* Заазер'е, Галашчакіна, Карпавічы, Міцюкова.

**РАДЗІ́ЦЦА** 1. *зак.* Нарадзіцца, з'явіцца на свет. *Ні ў той дзень радзі́ўся, кап бъга́тым быў.* Кляпчэва, Кішуроўшчына. 2. *незак.* Станавіцца ўрадлівай. *Зімля́ там ста́ла лу́ччы ўжо радзі́цца.* Самсоны. 3. *незак.* Радзіць, даваць добры ўраджай. *Калі́ны мно́га ро́дзіцца ў нас.* 4. *незак.* Расці. *Ро́дзюцца ў дубні́ку бырывікі́.* Кавалі. *Лес Ро́шча ёсь, тут ро́дзюцца апе́нкі.* Турава.

**РАДЗІ́ЦЬ** *зак.* 1. Нарадзіць. *До́чку я пе́рвую радзі́ла – рабо́тала да пасле́дняга. Ба́пка, прыдзі́ памагі́ ужо́ радзі́ць.* Заазер'е. *Радзі́ла ў дзіўка́х, а другі́ мужы́к у Во́ршы рабо́тыіць.* Чуцькі, Міцюкова. 2. Прынесці прыплод. *Ко́шка чэ́цьвіра радзі́ла дъ на чърдаку́.* Малы Азярэцк. 3. Даваць ураджай, быць урадлівай. *Але́ рабо́талі, зімля́ радзі́ла, і хлеп быў.* Буй. *Ня ро́дзіць зімля́, ні ста́ла радзі́ць.* Гарадзец. *Радзі́, Бо́жа, с кънца́ ў кане́ц. Разбіва́лі камкі́ рука́мі, по́ўзалі ра́кам – і радзі́ла зямля́.* Закур'е. 4. Урадзіць. *А во і бу́льба радзі́ла.* Багданава. *Усе́ гады́ радзі́ла бу́льба.* Неўгадава. *Бъраві́кі радзі́лі, баро́к быў.* Баравікі. *Пшані́ца радзі́ла харо́шъя. У нас ду́жа харо́шы лён ро́дзіць. Бува́ла, пъ ліса́х па́сцілі каро́ў, то й грыбы́ радзі́лі.* Партызаны. *На́шы льны харо́шъя радзі́лі.* Закур'е, Фасаўшчына, Чуцькі. 5. Падарыць, даць шчаслівы лёс, долю. *Радзі́, Бо́жа, на ўсіх до́лю: і на сляпы́х, і на храмы́х, і на старцо́ў* (з малітвы). Нямойта.

□ *Радзі́ў ні радзі́ў, а я го́лы ні хадзі́ў.* Нямойта. □ *Пъгадзі́ радзі́ць: дай зъ ба́бъй схадзі́ць.* Каралевічы.

**РАДЖА́ЦЬ** *незак.* Нараджаць. *Аднаго́ ма́льца до́ма раджа́ла.* Багданава. *А ня бу́ду я бо́лій ръджа́ць.* Заазер'е. *Пе́рвы раз, як дзяцёнка раджа́лі, усе́ пат печ лілі.* Мянюцева. *Я баб ні бра́ла, сама́ раджа́ла.* Чуцькі.

**РАДКА́ВЫ** *прым.* Радкаваты, рэдкі. *Радка́вая се́тачка на галаву́.* Неўгадава.

**РАДНІ́ЦЦА** *незак.* Падтрымліваць сваяцкія адносіны. *З ёй радні́ўся.* Івоні. *Радня́цца сваты́.* Сянно.

**РАДНЯ́, РАННЯ́** *ж.* Радня, сваякі. *Радня́ то́жа: зяць, няве́стка, свякро́ў, свёкар, це́шча, цесь.* Леснікі. *Ні ръдня́ іна́ мне.* Галашчакіна. *Сваé мы ёй, ръдня́.* Заазер'е. *Ранья́ заве́ць мяне́.* Неўгадава, Партызаны, Цясішча, Чуцькі.

□ *Радня́ да паўдня́, а як со́нца за́йдзіць, дак і чорт ні на́йдзіць.* Багданава.

**РАДО́К** *м.* 1. Радок пасаджанай гароднiны. *Ны лясе́ раткі буракóў, капу́сты со́дзіш.* Гарадок. 2. Слой, пласт. *Ма́тка радо́к грыбо́ў нало́жыць, перасы́піць со́ллю, кмі́нам.* Запруддзе. 3. Рад, шарэнга. *Усе́ ў ратку́ стая́ць учанікі ў цэ́ркві, а учыцiля́ – ззáдзі.* Станюкі.

**РАДО́ЎКА** *ж.* ○ СІНЯЯ РАДО́ЎКА. Радоўка фіялетавая (грыб). Міцюкова.

**РАДО́ЎКА** *ж.* 1. Чарга пасвіць скаціну. *Радо́ўкай пасу́ць і чарадо́й пасу́ць. Два дні радо́ўка будзіць ісцi.* Вялікі Азярэцк. *У нас радо́ўка ідзе́ць па дзярэ́ўні.* Багданава. *У мяне́ радо́ўка: за каро́ву – дзень.* Галашчакіна. *Радо́ўкамі па́сцілі каро́вы, і цяпе́р ге́так пасу́ць. К свя́ту ла́дзілыся, акра́с радо́ўка была́ аве́ччыя* [чарга пасвіць авечак]. Гарадок. *А як паслі́? Радо́ўку адбыва́лі. У по́ляганя́лі, радо́ўку адбыва́лі па во́чарадзі.* Самсоны. *Пасу́ць на радо́ўках.* Савінічы, Запруддзе, Латыгаль, Міцюкова, Партызаны, Ракаў Засценак, Неўгадава. 2. Статак, які пасецца ў радоўку. *Пры́дзіць радо́ўка ў ха́ту, і тады́ два чълаве́кі далжны́ выхо́дзіць, каро́ў со́рак у радо́ўцы з дзвюх дзіраве́нь.* Гарадзец.

**РАДО́ЎШЧЫК** *м.* Памочнік таго, хто адбывае радоўку. *Радо́ўшчык – памо́шнік пастуха́.* Заазер'е.

**РА́ДУХА** *ж.* Вясёлка. *Ра́духа ваду́ бярэ́ць – на трэць дзень дош бу́дзіць* (прыкмета). Багданава.

**РАДУ́ХА** *ж.* Парадзіха. *Ба́пка была́. Прашу́ Бо́га, асвабадзі Бох раду́ху.* Заазер'е.

**РАДЫЯ́ЦЫЯ** *ж.* Радыяцыя. *Прыйшла́ радыя́цыя – бульбіна чо́рная, дупло́.* Нямойта.

**РАЁЎКА** *ж.* Пасудзіна для лоўлі пчалінага рою; райнік, райніца. *Раёўка з ліпы, з кары́ ліпо́вай, вы́сахніць, кру́гла, на ніс се́тку ча́сценькую абаб'юць, штоб во́здух прахадзі́ў.* Запруддзе.

**РАЁЎНЯ, РАЯЎНЯ́** *ж.* Тое ж. *Ръёўня – пасу́дзіна, куда́ рой аграба́юць.* Закур'е. *Каб задзе́ржыць пчол, вадо́й спы́рсну і ў ръяўню́. Ръяўня́ – лу́бка пле́ценая.* Вялікі Азярэцк.

**РАЖДЖА́ЦЦА** *незак.* Нараджацца. *Дзе́ці раждджа́юцца і не вяду́цца.* Запруддзе.

**РАЖДЗЕ́ННЯ** *н.* Нараджэнне. *Я с ты́сяча дзіві́цьсо́т шысна́ццытыга го́да раждзе́ння.* Рулёўшчына.

**РАЖЖА́ЛІЦЬ** *зак.* Разжаліць, расчуліць. *Як ръжжа́ліў, аш пла́къла дъчка́.* Рэчкі.

**РАЖЖА́РУВАЦЬ** *незак.* Разжарваць, прэгчы. *Ръжжа́рувъла са́ла нъ скаваро́дзі, рэ́зъла грыбы́ – ша́пку і но́жкі, на такія кусо́чкі – лажы́ла со́лі, цыбу́лі, ліст.* Партызаны.

**РАЖЖЫВА́ЦЦА** *незак.* Разжывацца, багацець. *То́лькі ражжыва́цца ста́лі – вьйна́ ста́ла.* Заазер'е.

**РА́ЖКА** *ж.* Драўляная пасудзіна для гаспадарчых патрэб у выглядзе цэбрыка з вушкамі; ражка. *Ра́шку дзе́лалі, лі́лі бяро́завік.* Жохава. РА́ЖАЧКА *памянш.* *З ву́шкамі, с кле́пачак сдзе́лана ра́жачка.* Савінічы.

**РАЖО́К** *м.* 1. Рог хусткі. *Усё ўрэ́мя, век у ражку́ платка́ гро́шы насі́лі.* Запруддзе. 2. *мн.* Вушкі (у ражцы). *Ку́бел пахо́ж на бо́чку. Зве́рху кры́шка і два рашкі́. На гэ́тыя рашкі́ надзіва́лася кры́шка.* Гарадзец.

**РАЖО́Н** *м.* ◊ РАЖО́Н ТАБЕ́ Ў БОК. Пажаданне нядобрага (пры лаянцы). Вялікі Азярэцк. ◊ РАЖНА́ НІ ХВАТА́ЦЬ. Чаго (трэба, не хапае каму-н.). *Ты рабо́тала на льнькамбіна́ці, там табе́ то́лька ражна́ ні хвьта́ла. Там табе́ аднаго́ рьжна́ ні хвьта́ла, а ўсяго́ было́.* Дольдзева. ◊ РАЖО́Н ЯГО́ ЗНА́ІЦЬ. Пра поўнае няведанне ці неразуменне чаго-н. Запруддзе.

**РАЗ** *м.* Абазначэнне аднакратнасці дзеяння (пры падліку, указанні на колькасць). *Ба́цька тры ра́зы жані́ўся.* Закур'е. *Е́здзілі разо́ў ко́лькі ў Ві́цебск.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗ** *прысл.* Аднойчы, адзін раз. *Як я рас е́ла, то сма́шна. Я раз жы́да прывіза́ла лі на́мырзні.* Партызаны. ◊ НІ РА́ЗУ. Ніколі, ні пры якіх умовах. *Як што пражы́ў, ні забу́дзіш ні ра́зу.* ◊ НІ РА́ЗАЧКУ. Зусім ніколі. *Ні ра́зачку ня відзела ваўко́ў.* Баравікі.

**РАЗ** *злучн.* Раз, калі. *Раз е́сці хо́чаш, то бу́дзіш дзе́лаць.* Гарадзец, Нямойта.

**РАЗАБІ́ДЗІЦЦА** *зак.* Расчуліцца. *Я рьзабі́дзілася, і яму́ ўступі́ла* [на яго крыўду]. Мянюцева.

**РАЗАБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Раскідаць, разбурыць. *Разабра́ў згаро́ду, во апьха́ў тро́ху.* Жохава. *До́скі... Я пол рьзьбра́ла.* Алексінічы. *На дро́вы рьзбяры́ гэ́ту ха́ту.* Кішуроўшчына, Партызаны. 2. Зразумець, распазнаць. *Сам чорт не разбярэ́ць, так пі́шуць.* Партызаны.

**РАЗАВА́ЦЕНЬКІ** *прым. ласк.* Ружовенькі. *Цвято́к даліка́тны, разава́ценькі.* Запруддзе.

**РАЗАГУ́ЛІЦЬ** *зак.* Агульнае, грамадскае зрабіць прыватным. *Усё разагу́лілі, а ў тры́ццаць пе́рвым гаду́ апя́ць калхо́с сарганізава́лі.* Савінічы.

**РАЗАДМУ́ЦЦА** *зак.* 1. Разгарэцца, распаліцца. *Жар рьзадме́цца ва ўцюгу́ – і гла́дзілі.* Партызаны. 2. Празмерна павялічыцца. *Клешч увап'е́цца, мо́жыць упі́цца, кроў п'юць і сам разадме́цца.* Жохава. *Як нап'ю́цца, дык во рьзадму́цца!* [пра цялят, якіх кормяць салёным перад узважваннем]. Жохава.

**РАЗАДМУ́ЦЬ** *зак.* Празмерна павялічыцца, успушыцца. *Есь той бык кукуру́зу, паку́ль яго́ рьзьдме́ць.* Запруддзе.

**РАЗАДРА́ЦЬ** *зак.* 1. Абадраць скуру. *Кап я яе́* [руку] *ні рьзадра́ла.* Запруддзе. 2. Парваць, падзяліць на часткі. *І мяшо́к мо́жна разадра́ць.* Дольдзева. 3. Разламаць. *Ты кап пале́зла, так дзе́рава разадра́ла.* Дольдзева.

**РАЗАЖВА́ЦЬ** *зак.* Разжаваць. *Ні разажва́ць ніяк са́ла.* Алексінічы.

**РАЗАЗНА́ЦЬ** *зак.* Разведаць, дазнацца. *Пырці́за́ны ска́жуць: «Рьзьзна́й, як тут!»* Дуброўкі.

**РА́ЗАМ** *прысл.* 1. Разам, сумесна. *Ну там жа усе́ ра́зам прадзём, весяле́й жа.* Гарадзец. *А штоп і дзе́ці гурува́лі ра́зам?* Міцюкова. *Як ра́зам ішлі́ і нашлі́ не́шта, то дзе́люць пупыла́м.* Цясішча. 2. Адначасова. *Я ра́зам із Юрко́м прызыва́ўся.* Забор'е. 3. Побач. *Ра́зам з кла́дбішчам лясо́к, Баро́к называ́ўся.* Баравікі.

**РАЗАНУ́ЦЬ, РЭЗАНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Разануць, параніць. *Па́льца разане́ш се́рпам – то́пель наста́івалі, по́чкі наста́івалі і заліва́лі. Спяшы́м жаць і па́льцы рэзане́ш.* Чуцкі. 2. *экспр.* Пачаць страляць часта і шчыльна. *Як ръзану́лі тры пулямёты!* Фасаўшчына.

**РАЗА́НЫ** *прым.* Рыжавата-светлы, пад колер іржы. *Лаза́ жо́ўценькая, бы жале́за, раза́ная.* Дольдзева.

**РАЗАПНУ́ЦЬ** *зак.* Распяць, раскінуць. *Шатры́ разапну́ць цага́не.* Ульянавічы.

**РАЗАПРАВА́ЦЬ** *незак.* Размякаць, распарвацца. *Разаправа́ў геркуле́с у ва́ру.* Дольдзева.

**РАЗАРА́ЦЬ, РАЗУРА́ЦЬ** *незак.* 1. Разбураць, раскідваць. *Хто гнёзды разара́е, у таго́ шэ́ркі бу́дуць, э́та вясну́шкі* (прыкмета). Фасаўшчына. *Нільзя́ разура́ць гняздо́ на ха́ці: яны́* [птушкі] *ш там ні бу́дуць вадзі́цца.* Партызаны. 2. Непакоіць, хваляваць. *Я ім* [дзецям] *ні разара́ю, ні растра́іваю.* Багданава.

**РАЗАРВА́ЦЦА** *зак.* Моцна ўдарыцца распластаўшыся. *На льдзе мо́жна разарва́цца.* Савінічы.

**РАЗА́РВАЦЦА** *незак.* Крычаць ад болю. *Ноч ні спа́ла: раза́рваецца дзяўчо́нка, выпіна́ецца.* Багданава.

**РАЗА́РВАЦЦА** *незак.* Рвацца. *На табе́, вяжы́, гэ́та нітка не ръза́рваіцца.* Міцюкова.

**РАЗА́РВАЦЬ** *незак.* Разрываць, раздзіраць. *Тады́ яго́ раза́рваюць.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗАРВА́ЦЬ** *зак.* ◊ КАБ ЦЯБЕ́ РАЗАРВА́ЛА, РАЗДУЛО́! Ужываецца пры лаянцы як пажаданне непрыемнасці, няшчасця каму-н. Вялікі Азярэцк.

**РАЗАРО́НЫ, РАЗАРЫ́НЫ** *прым.* 1. Спустошаны, абрабаваны. *Там ніхто́ ні жыве́ць, памёрла ба́ба, стаі́ць разаро́ная ха́та.* Марозаўка. 2. Пашкоджаны, разбураны. *Кры́ша разары́ная, цячэ́ць.* Парэчча.

**РАЗАРЫ́ЦЦА** *зак.* 1. Разбурыцца. *Там усё згі́нула, усё разары́лась.* Буй. 2. Зачыніцца, перастаць існаваць. *Шко́ла разары́лася: дзяце́й не ста́ла.* Самсоны.

**РАЗАРЫ́ЦЦА** *зак.* 1. Збяднець пераплаціўшы. *Я разары́лася па брыке́ту: пяцьдзеся́т сем рублёў аддала́.* Багданава. 2. Моцна расхвалявацца, устрывожыцца. *Я з растро́йства разары́лася: дзе́ вы дзе́ліся?!* Багданава.

**РАЗАРЫ́ЦЬ, РАЗУ́РЫЦЬ** *зак.* 1. Разбурыць, знішчыць. *Касцёл быў, хрэст быў – усё разары́лі.* Багданава. *Разары́лі яго́, цяпе́р нямо́жна нічо́га здзе́лаць.* Ульянавічы. *Вы́кінулі партрэ́ты, разары́лі на́ша ўсё. А зна́еце, які́ гэ́та страх быў.* Фасаўшчына. 2. Парушыць парадак. *А ён там ні разу́рыць* [пашкодзіць пастаўленыя на стале прадметы]. Партызаны. 3. Парушыць, перабіць (пра сон). *Бува́ла, як клапы́ былі́, любы́ сон разара́ць, не засну́.* Нямойта.

**РАЗАРЭ́Ц** *м.* Беспарадак, вэрхал. *Во які́ ў мяне́ разарэ́ц.* Дольдзева.

**РАЗА́ЧКА** *ж.* Асака (расліна). *Асака́ рэ́ская – раза́чка, па мша́рах.* Багданава.

**РАЗБА́ЛАВАЦЦА** *зак.* Разбэсціцца. *Лю́дзі ръзба́лъвалісі да пасьле́дняй сце́піні.* Каралевічы.

**РАЗБАЛЕ́ЦЦА** *зак.* Расхварэцца. *А на трэ́ці гадо́чак ръзбале́лъся, / Мне ў го́сьцейкі к ма́маньцы зъхаце́лася* (з песні). Каралевічы.

**РАЗБАРА́НІВАЦЬ** *незак.* Разнімаць, разводзіць (хто б'ецца). *Стаў разбара́ніваць іх.* Запруддзе.

**РАЗБАСА́ЦЦА** *зак.* Разбэсціцца, распусціцца. *Разбаса́лася маладзёж.* Баравікі.

**РАЗБАСЯ́ЧЫЦЦА** *зак.* Тое ж. *Разбэ́сьціліся мы, разбася́чыліся.* Фасаўшчына.

**РАЗБЕ́ГЧЫСЯ** *зак.* 1. Пабегчы ў розныя бакі. *Мы разбе́гліся, прывялі людзе́й.* Запруддзе. 2. Набраць вялікую скорасць. *Разбе́гся, хаце́ў пераско́чыць прас къна́ву ды і ўвалі́ўся.* Фасаўшчына.

**РАЗБІВА́ЦЬ** *незак.* Растрасаць, раскідаць. *Ну, тады́ іду́ць гной разбіва́ць дзве ці тры ба́бы.* Багданава. *Бяры́ грабе́лькі і ръзьбіва́й праќо́сы.* Леснікова. *Гной разьбіва́лі. Ка́жды клачо́к разаб'е́ш і усю зяме́льку усы́піш.* Нямойта. *Разбіва́ць се́на, варо́чаць, грэ́сці ў ко́пы.* Розмыслава, Гарадзец, Фасаўшчына, Закур'е.

**РАЗБІВА́ЧКА** *ж.* Жанчына, што разбівае гной. *Там разбіва́чкі аставалісі, като́рыя наво́з разбіва́юць успе́т, трасу́ць наво́з.* Самсоны.

**РАЗБІРА́ЦЬ** *незак.* 1. Раскідваць, разбураць. *Я разбіра́ю дро́вы і кляну́* [на Івана Купалу заваліл дрывамі]. Чуцькі. 2. Пазнаваць, адрозніваць. *Ні разбіра́ю лю́дзей ужо́.* Чуцькі. 3. Лаяцца, злавацца. *Як уваап'е́цца, разбіра́ець на яе́.* Дольдзева.

**РАЗБІ́ТЫ** *прым.* ○ РАЗБІ́ТАЕ СЭ́РЦА. Пакаёвая кветка. *Разбі́тае сэ́рца сіненькім цвіці́ць, як баці́начак.* Партызаны.

**РАЗБІЎНЫ́** *прым.* Раскалочаны, размешаны ў малаку. *Разбіўна́я яе́шня – я́йкі разбіва́ныя з малако́м.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Разбіць, раскалоць. *На́да, кап нъ Ляксе́і ры́біна хвасто́м лёт разбі́ла.* Багданава. *Разьбі́ў ушчэ́нт, удрэ́бізгі.* Савінічы. 2. Папсаваць яздой, раз'ездзіць. *Машы́н не было́, а ко́ні так не разаб'ю́ць даро́г.* Буй. 3. Растрэсці, раскінуць (сена). *Разаб'е́м праќо́с, у капе́шкі стаўляем* [націск?]. Партызаны, Машчоны. 4. Знішчыць, разбамбіць. *Як іх разбі́лі ашало́н, ён і пайшо́ў у парціза́ны.* Серкуці. 5. Пабіць, збіць. *Разбі́ў яе́ ўсю, ссі́ніў.* Запруддзе. 6. Раскалаціць, размяшаць. *Муку́ разбіва́еш пало́нікам.* Міцюкова.

**РАЗБО́ЙСТВА** *н.* Шкодніцтва. *Цішына́ была́, не было́ разбо́йства.* Баравікі.

**РАЗБРАКА́ЦЬ** *незак.* Разбухаць, размякаць. *Авёс прасе́юць, абтаўку́ць, вы́сушуць, па́руць. На́да со́лі, вады́ – і талакно́ само́ разбрака́іць. Мука́ разбрака́іць.* Марозаўка.

**РАЗБРУ́КНУЦЬ** *зак.* Разбракнуць, разбухнуць. *Ячме́нь ръзмя́к і разбру́к* [у жываце каровы, якая аб'елася]. Запруддзе.

**РАЗБУРЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Разбурыць, паламаць. *Зъльта́я была́ пастро́йка – разбуры́лі.* Баравікі. *У вайну́ усё разбуры́лі, ні было́ ме́льніцы.* Гарадзец. *Была́ цэ́рква – разбуры́лі.* Запруддзе. *На ху́тары жылі́, ха́ту разбуры́лі.* Кляпчэва. *Тут то́га ўжо німа́, хто разбуры́ў цэ́ркву.* Нямойта. *Разбуры́ў зямля́нку мой ма́лец і шва́гра.* Партызаны. 2. Раскідаць, знішчыць. *Ла́стаўкіна гняздо́ разбуры́ў.* Гарадзец.

**РАЗБЭ́СЦІЦЦА** *зак.* Распусціцца, апусціцца. *Разбэ́сціліся мы, разбася́чыліся.* Фасаўшчына.

**РАЗБЭ́ШЧАНЫ** *прым.* Разбэшчаны, распуснік. *Разбэ́шчаны чалаве́к, ба́бнік, разба́лаваны.* Савінічы.

**РАЗБЯГА́ЦЦА** *незак.* 1. Бегчы ў розныя бакі. *Ду́жа ні хадзі́лі з дзе́цьмі, яны́ разбяга́юцца.* Запруддзе. 2. Разыходзіцца, разліваціца. *Со́нца разбіга́ецца ро́зныміі цвіта́мі* [на Івана Купалу]. Запруддзе.

**РАЗВАДЗІ́ЦЦА** *незак.* Разводзіцца, скасоўваць шлюб. *Хто не разво́дзіцца, той жы́зні не зна́ець.* Каралевічы.

**РАЗВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Разбаўляць. *Куцця́ – чы́ста выбіра́юць пшані́цу, кіпіця́ць яе́ ні да гато́ўнасці, із мёдам разво́дзюць.* Карпавічы. 2. Вырошчваць, гадаваць. *Ко́ні развадзі́ць бу́дуць.* Багданава. 3. *перан.* Пускаць плёткі. *Плё́тнічаіць, плёткі разво́дзіць.* Фасаўшчына.

**РАЗВАДНЫ́** *прым.* Развядзён; які скасаваў шлюб. *Дъчка́ у яе́ ръзвадна́я.* Запруддзе.

**РАЗВАЖА́ЦЬ** *незак.* Думаць, лічыць. *Съма́ сабе́ разважа́ю: дзень пражыла́ – і до́бра.* Цясішча.

**РАЗВА́ЖЫВАЦЬ** *незак.* Разважваць (на вагах). *Мы там ръзва́жывалі муку́.* Запруддзе.

**РАЗВА́ЛІСТЫ** *прым.* Шырокі, з вялікай умяшчальнасцю. *Бальшы́я такі́я калёсы, ръзва́лістыя такі́я.* Гарадзец.

**РАЗВАЛІ́ЦЦА** *зак.* 1. Разбурыцца, паламацца. *Усё развалі́лася, абламалася.* Запруддзе. 2. Распасціся, рассыпацца. *Хлеб развалі́ўся з ка́сцеру.* Запруддзе. 3. Празмерна распаўнець, растаўсцець. *Таўста́я, развалі́лася: ні́ма́ забо́т, і пърасёнка не дзяржы́ць. Чаму́ ёй ні разваліцца: сама́ для сябе́ жыве́ць.* Запруддзе.

**РАЗВА́ЛЫ, РО́ЗВАЛІ** *толькі мн.* 1. Рама з трох жэрдак, якая кладзецца на сані для большай умяшчальнасці; развалы. *Ако́скі ці ръзва́лы нъ са́нкі ло́жъцца, кап шырэ́й было́.* Гарадзец. *Ръзва́лы – е́та кап се́на мно́га накла́ў на ръзва́лах.* Галашчакіна. *Ро́звалі к э́цім са́нкам.* Леснікова. 2. Выязныя сані. *Былі́ са́ні – ро́звъли, е́здзіць нъ бъза́р.* Гарадзец.

**РАЗВА́РАНЫ** *прым.* Разварны, рассыпчасты. *Я люблю́ разва́раную бу́льбу.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗВАРО́Т** *м.* Развод зубоў (у піле). *Разваро́т здзе́лаць у пі́лцы – і ня рэ́жыць тады́ ўжо.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗВАРО́ТКА** *ж.* Месца развароту, паварот. *На разваро́тку пае́хаў аўто́бус.* Манголія.

**РАЗВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Зрасходаваць для прыгатавання чаго-н. *Мяшо́к са́хару ръзвару́ нъ варэ́нне.* Міцюкова.

**РАЗВЕ́ЗЦІ** *зак.* Зрабіць цяжкапраходным, непрыгодным для язды ў час дажджу, раставання снегу (пра дарогу). *Развязло́ зямлю́.* Рассвет.

**РАЗВЕ́СЦІ** *зак.* 1. Развесці, гадаваць. *Аве́чак развялі́, ткалі і пра́лі.* Леснікова. 2. Зрасходаваць, страціць. *Усё гро́шы развядзёш: то пла́цце ку́піш, то штано́ў.* Запруддзе. 3. *перан.* Расказаць пра няшчасце, бяду. Нямойта.

**РАЗВЕ́ХАЦЦА** *зак.* Расшумецца, разбегацца. *Разве́хъліся дзе́ці.* Гарадзец.

**РАЗВЕ́ЯЦЬ** *зак. перан.* Пазбавіцца перажываннаў, думак. *Мо́жа б го́ра і разве́яў, каб узя́ў до́брую супру́гу.* Івоні.

**РАЗВІДНЕ́ЦЦА** *зак.* Развіднець. *Як развідне́лася, так по́яс той знайшла́.* Серкуці.

**РАЗВІ́ЛКА** *ж.* Месца, дзе разыходзяцца дарогі; развіліна. *Даро́га, дзе разыхо́дзіцца, – разві́лка.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗВІНЦІ́ЦЦА** *зак. перан.* Узрушыцца, узбудзіцца. *Развінці́ліcь на́шы ба́бы і на́чалі бло́каць.* Партызаны.

**РАЗВО́Д** *м.* Скасаванне шлюбу. *Пъда́лі нъ разво́д, ръзышлі́сі.* Запруддзе.

**РАЗВО́ДДЗЕ** *н.* 1. Разліў, паводка. *Ён ужо́, як разво́ддзя ста́ла, быў до́ма.* Нямойта. *Саўсі́м сла́бае было́ разво́ддзе. Як разво́ддзе, дзяцёй пуска́юць на кані́кулы.* Фасаўшчына. 2. Непагадзь, сырое дажджлівае надвор'е. *У ма́рце ноч і дзень разво́ддзе.* Дуброўкі.

**РАЗВО́ДЗІЦЬ** *незак.* Размячаць, адзначаць плошчу. *Ста́лі стох разво́дзіць шэсць ны пяць ме́труў уні́зу, лазу́ кла́сці.* Леснікова.

**РАЗВО́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Разведзены, распушчаны. *Е́та разво́джаныя дро́жджы.* Савінічы.

**РАЗВО́ТКА** *ж.* Ключ для разводу зубоў (у піле). *Разво́тка – пілку што разво́дзіць.* Савінічы.

**РАЗВЯРНУ́ЦЦА** *зак.* Павярнуцца. *Там на́да развярну́цца і йці абра́тна.* Дольдзева.

**РАЗВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Раскідаць (пра сена). *Мы зайшлі, то́е се́на ръзвярну́лі, ръзвярну́лі, ръстраслі ўсё.* Запруддзе.

**РАЗГАВЕ́ЦЦА** *зак.* Закончыць пост. *Тады́ ўжо Вялікадня, тады́ ўжо разгаве́ішся, тады́ ўжо харашо́.* Буй.

**РАЗГАВО́Р** *м.* Размова. *Каб гэ́та быў разгаво́р, ні по́мню.* Серкуці. *К разгаво́ру пры́дзець і успо́мніш.* Ульянавічы.

**РАЗГАВО́РЧЫВЫ** *прым.* Гаваркі, гаманкі. *Ён у нас разгаво́рчывы.* Багданава.

**РАЗГАДА́ЦЬ** *зак.* Правільна зразумець. *Нямо́жна ръзгъда́ць людзе́й.* Мянюцева.

**РАЗГА́ДЫ** *мн.* Развагі, роздум. *Усі на разга́дах: калі гнаць каро́ў?* Заазер'е.

**РАЗГА́Р** *м.* Самы пік чаго-н.; разгар. *Гульня́ ў разга́ры, а на́да дамо́й.* Запруддзе.

**РАЗГА́РНАЦЬ** *незак.* Разгортваць, разграбаць. *Уво́сінь лісця ръзга́рнъіш, а там чо́рны грусць* [грузд]. Сянно.

**РАЗГАРНУ́ЦЬ** *зак.* Рассунуць. *А тады́ е́тые дро́вы разгарну́ць пу бака́х.* Буй.

**РАЗГА́ЎЛІВАЦЦА** *незак.* Заканчваць пост. *По́слі разга́ўліваемся на Прачы́стую бо́льшую.* Самсоны.

**РАЗГІЛЬДЗЯ́Й** *м.* Гультай, абібок. *Ло́дыр і е ло́дыр, разгільдзя́й.* Леснікова. *Ён разгільдзя́й такі, лянівец, ло́дыр ці во гульта́й. Туля́іцца, каб ме́ній параб́отаць.* Міцюкова.

**РАЗГЛЕ́ДЗІЦЬ** *зак.* Убачыць, разгледзець. *Я сам разгле́дзіў у лясу́.* Запруддзе. *Разгле́дзіла я той го́рат.* Запруддзе.

**РАЗГЛІДА́ЦЬ** *незак.* Разглядаць, разважаць. *Не́калі было́ разгліда́ць. Быва́ла: гані свіне́й у по́ле.* Баравікі.

**РАЗГНІ́ЦЦА** *зак.* Згнісці, сапсавацца ад гнілі. *Разгні́лася сто́йка. Для дзяцёнка твайго́ хаце́ла яе́ даць.* Запруддзе.

**РАЗГУЛЯ́ЦЦА** *зак.* Загуляць, звязацца з іншым мужчынам. *Іна́ разгуля́лася, узяла́ і бро́сіла.* Багданава.

**РАЗДАБЫ́ЦЬ** *зак.* Здабыць, адшукаць. *Але́ раздабы́ў то́е, што табе́ на́да.* Багданава.

**РАЗДА́ІВАЦЬ** *незак.* Раздойваць, прывучаць да даення. *Не́целей разда́івала.* Партызаны.

**РАЗДАЛІКА́ЦІЦЦА** *зак.* Заленавацца. *Раздаліка́ціцца, пасядзе́ць, пагавары́ць лішняе, ня здзе́лаць нічаго́.* Савінічы.

**РАЗДА́ЦЦА** *зак.* Парвацца, разысціся. *Руба́шка ръздъла́ся на спіне́.* Галашчакіна.

**РАЗДА́ЦЬ** *зак.* Пааддаваць. *Пъдаю каро́ву – людзя́м ръздаю.* Нямойта.

**РАЗДВА́ЕНЫ** *прым.* Раздвоены, раздзелены надвое. *У каро́вы капы́ты раздва́еныя.* Міцюкова.

**РАЗДЗВІ́ЖНІКІ** *мн.*, **РАЗДВІЖНІ́К** *м.* Спецыяльныя доўгія калёсы для перавозкі лесу. *Раздві́жнікі – даўгія драбі́ны лес вазі́ць.* Дольдзева. *Да́ніла, дава́й къня́, раздвіжні́к, паеду увязу́ і прывязу́ ха́ту.* Партызаны.

**РАЗДЗВІ́ШКІ** *мн.* Тое ж. *Раздзвішкі цяпе́р з до́ўгай жэ́рдзінай.* Гарадзец.

**РАЗДЗЕ́Л** *м.* Падзел маёмасці пры скасаванні шлюбу. *На раздзе́л у сельсаве́т падалі.* Розмыслава.

**РАЗДЗЕ́ЛАЦЦА** *зак.* Празмерна папаўнець, растаўсцець. *Па ма́тцы пайшлі, раздзе́лалісі.* Запруддзе.

**РАЗДЗЕ́РЦІ** *зак.* Забіць. *«Я цябе́ раздзяру́!» – калі б'ю́цца, ка́жуць. – «Раздзяру́, як лягу́шку, я цябе́ раздзяру́!»* Савінічы.

**РАЗДЗЕ́ТЫ** *прым.* Голы, без лісця. *Палавіна ле́та – палавіна дзярэ́ўеў раздзе́та.* Нямойта.

**РАЗДЗЕ́ЦЦА** *зак.* Зняць адзенне. *Це́ла б яе́ е́ла, як раздзе́нецца ў ба́ні. А цяпе́р гуля́іць.* Кляпчэва.

**РАЗДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Чэ́рці яго́ на гла́ткі ка́мень ўзвялі, раздзе́лі, пълажы́лі спаць да пітухо́ў* (з казкі). Багданава.

**РАЗДЗІЛЯ́ЦЦА** *незак.* Аддзяляцца. *Лох і гыра́ ръзьдзіля́юцца.* Гарадок.

**РАЗДЗІЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Дзяліць, даваць. *Тады́ раздзе́люють па́йкі, лю́дзі су́шуць се́на.* Багданава. 2. Адрозніваць. *Счас ужэ́ мяне́ раздзіля́юць па разгаво́ру старавє́ры.* Карпавічы.

**РАЗДЗЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Падзяліць. *Як сім'я́, то раздзе́люць патро́шку зямлі.* Гарадзец. *Раздзялілі ко́ней, на тры хызя́іна дава́лі кыня́.* Леснікова.

**РАЗДО́Р** *м.* Сварка, нелады. *Ай, у іх раздо́р у сям'і, яны́ дрэ́нна жыву́ць.* Нямойта.

**РАЗДРАБЛЕ́ННЕ** *н.* Пашкоджанне (пра косці). *У яго́ было́ раздрабле́нне касце́й.* Апечкі.

**РАЗДРАГБЕ́ЦЬ** *зак.* Растаўсцець, распаўнець. *Раздрагбе́ла, як апо́ка, апо́чынай здзе́лалася, гульта́й ты!* Запруддзе.

**РАЗДРУ́ЗНУЦЬ, РАЗДРУ́ЗГНУЦЬ** *зак.* 1. Разбухнуць, разбрыняць. *Раздру́зла дрэ́ва.* Фасаўшчына. 2. Растаўсцець, распухнуць. *Раздру́згла ба́ба, распу́хла.* Латыгаль.

**РАЗДУВА́ЦЬ** *незак.* Успушваць, павялічвацца. *Е такія* [ведзьмакі]: *паддзе́лаюць каро́ву – ці раздува́іць, ці во мо́края ўся!* Запруддзе.

**РАЗДУМА́ЦЬ** *незак.* Раздзімаць, надзімаць. *Мех агонь раздума́ў.* Жохава.

**РАЗДУ́ЦЬ** *зак.* 1. Успушыць. Партызаны. 2. Разнесці (пра паўнату). *Каб цябе́ раздуло́!* (праклён). Вялікі Азярэцк.

**РАЗ'Е́ЖАВАЦЦА** *незак.* Шмат ездзіць. *Ты, як Грамы́ка, раз'е́жуісся.* Багданава.

**РАЗ'Е́СЦІ** *зак.* 1. Развярэдзіць, раз'есці (пра балючае месца). *Масць Вішне́ўскага ра́ну раз'е́ла.* Апечкі. 2. Паступова знішчыць. *Пе́чань метлюгі раз'ядуць – падо́хніць каро́ва.* Гарадзец.

**РАЗЕ́Ц** *м.* Спецыяльны інструмент з лязом і ручкай для працы з дрэвам; разец. *Разе́ц такі быў. Расцо́м тым выраза́лі ло́шкі.* Вялікі Азярэцк. *У яго́ быў спуст і хвуга́н, разе́ц тры зубы́.* Запруддзе.

**РАЗЖАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Пашкадаваць. *А я ні ръзжале́ла даць ціжа́рнуй жанчы́ні, то ў мяне́ мы́шы ні пае́лі.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗЖЫВА́ЦЦА** *незак.* 1. Пачынаць жыць, багацець. *Мы ж пачына́лі з ло́жкі разжыва́цца.* Латыгаль. 2. Даставаць, раздабываць. *Ма́кам разжыва́ліся і канаплі́мі.* Цясішча.

**РАЗЖЫ́ЦЦА** *зак.* Пабагацець. *Тады́ яны́ разжылісі – ста́лі жыць бага́ты.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗЖЭ́ГЦІ** *зак.* Распаліць. *На Купалу касцёр разжагу́ць, на та́нцы по́йдуць.* Багданава.

**РАЗІ́НАВЫ** *прым.* Гумавы. *У Багушэ́ўску паліца́й мне даў два́ццаць во́сем разінавых па́лак – вадо́й атлілі.* Алексінічы.

**РАЗІ́НУЦЦА** *зак.* Раскрыцца, адкрыцца. *Каб на цябе́ я́ма разі́нулася!* (праклён). Запруддзе.

**РАЗІ́НУЦЬ** *зак.* Разявіць, шырока раскрыць. *Рот разі́нуў – і стаіць.* Каралевічы. ◊ РОТ НІ РАЗІ́НУЦЬ. Маўчаць, хаваючы тайну. *Рот ні разі́ну, ско́лькі буду́ жы́ць.* Партызаны.

**РАЗЛАЖЫ́ЦЦА** *зак.* Разбэсціцца. *Лю́дзі разлажы́ліся, як гніла́я ры́ба, – начына́ць на́да з гало́ўкі.* Івоні.

**РАЗЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Раскласці, распаліць. *Разло́жым кастры́ – гара́ць бальшэ́я, кап камары́ нас ні куса́лі.* Буй.

**РАЗЛАМІ́ЦЬ** *зак.* 1. Разламаць, пераламаўшы, падзяліць на часткі. *Два снапы́ звя́жуць, разло́мяць і на ба́пку пъста́вяць.* Вялікі Азярэцк. 2. Разбурыць, зруйнаваць. *Усё ж разламілі тады́ цэ́ркву.* Багданава.

**РАЗЛАПО́ШЫЦЬ** *зак.* Аблапошыць, скрасці. *Ні кладзі тут, ато́ ръзлапо́шуць.* Пожанькі.

**РАЗЛА́ЦІЦЬ** *зак.* Зняць латы. *Раскры́лі, разла́цілі ха́ту яму́.* Сукрэмна.

**РАЗЛЕ́ЗЦІСЯ** *зак.* Разваліцца, знасіцца. *Вечары́нку пагуля́ю, і ла́пці разле́зуцца.* Кляпчэва.

**РАЗЛІВА́ЦЦА** *незак. перан.* Гаварыць красамоўна, пераконваючы. *А ён разліва́ецца перат ей, кап жыла́.* Рэчкі.

**РАЗЛІ́К** *м.* Падлік, меркаванне. *І то се́юць ні так, што лу́пку ўзяў і пашо́ў се́іць, а там па які́м-та разлі́кам было́.* Фасаўшчына.

**РАЗЛІ́ЎШЫСЯ** *дзеепрым.* Разліты, які разліўся. *Вада́ была́ разлі́ўшыся.* Багданава.

**РАЗЛІ́ЦЦА** *зак.* ◊ ВАДО́Й РАЗЛІ́ЦЦА. Знікнуць, прапасці. *Казёл прышо́ў, і ру́кі ёй дава́ў ліза́ць, а тут пяту́х запе́ў, й ён вадо́й разлі́ўся* (з казкі). Багданава. *Як вадо́й ръзьліло́сь, німа́ яго́.* Пожанькі.

**РАЗЛО́ЖЫСТЫ** *прым.* Шырокі, пакаты. *Валуйі разло́жыстыя, як сураве́жы.* Партызаны.

**РАЗЛО́М** *м.* Блытаніна, мешаніна (у думках, памяці). *Е́ты стары́ ніч́ога ні зна́іць, у яго́ ў гълаве́ ўжо разло́м.* Багданава.

**РАЗЛУ́КА** *ж.* Развод, скасаванне шлюбу. *Калі паруга́юцца, іна́ ўжо ўсё – разлу́ка.* Рэчкі.

**РАЗЛУЧА́ЦЦА** *незак.* Разводзіцца, разыходзіцца. *Разлуча́йся, як б'е́цца мужы́к.* Запруддзе. *Быва́ло, разлуча́цца ніко́лі не паду́маеш.* Закур'е.

**РАЗЛУ́ЧНІК** *м.* Развядзён; мужчына, які развёўся з жонкай. *Узяла́ не́йкага разлу́чніка. У яго́ дво́е дзяце́й.* Запруддзе. *Разлу́чніка прыво́дзіць.* Кляпчэва. *Халасцякі-разлу́чнікі застаўяць піць, куды́ ні кі́нься.* Партызаны.

**РАЗЛУ́ЧНІЦА** *ж.* Развядзёнка; жанчына, якая развялася з мужам. *Ве́ра – разлу́чніца.* Багданава. *Лу́ччую не ўзяў, разлу́чніцу.* Запруддзе. *Мой брат разлу́чніцу ўзяў.* Неўгадава.

**РАЗЛУЧЫ́ЦЬ** *зак.* Адбіць (пра каханага). *Разлучы́ла, з друге́й дзяўчо́нкай дру́жыць.* Нямойта.

**РАЗЛЯЦЕ́ЦЦА** *зак.* Разбіцца на друзачкі. *Быў там дзед. Ты яму́ пыста́ў бутылку нъ руку́, то ён дуне́ ў рыла, то бутылка ўраз ръзьляціцца.* Міцюкова.

**РАЗМАРЫ́ЦЬ** *зак.* Разамлець. *Размарыла ад спяко́ты, замарыўся, аддыхну́.* Фасаўшчына.

**РАЗМАТА́ЦЬ** *зак.* Размахнуць. *Ръзмъта́лі – і пялёх у ваду́ цыгана.* Сянно.

**РАЗМАТНІ́К** *м.* Прыстасаванне для размотвання. *Уздзіва́ець на разматні́к і разма́тываеш.* Багданава.

**РАЗМАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Гаварыць, гутарыць. *Лю́дзі не бузя́ць, лацвей с такімі людзьмі размаўля́ць.* Багданава. *Размо́ўка – э́та разгаво́р, як размаўля́іш.* Савінічы.

**РАЗМА́ХВАЦЬ** *незак.* Узмахваць. *Кры́ллямі разма́хваець ку́рыца.* Буй.

**РАЗМІКА́ЦЬ** *незак.* Размякаць, станавіцца мяккім. *Як вытчэш, зніма́еш, бе́ліш палатно́, выма́чываеш у ваду́, каб размікала.* Апечкі.

**РАЗМІ́Н** *м.* 1. Раз'езд, размін. Алексінічы. 2. Выйсце. *Размі́ну ні было́: і наво́з вазілі машыны, удабрэ́нне, бу́льбу.* Ракаў Засценак.

**РАЗМІ́НАК** *м.* Раз'езд, размін. *Аўто́бусы хо́дзюць, размі́нку німа́.*

**РАЗМІНІ́РАВАЦЬ** *незак.* Размініраваць. *Размініравалі ў Гіста́не* [Афганістане] – *во́ка німа́, рукі німа́.* Запруддзе.

**РАЗМО́Л** *м.* Памол. *Быва́ла, як бліны хто пячэ́ць зъ свайго́ размо́лу мукі, на ўсю дзярэ́ўню за́пах.* Серкуці.

**РАЗМО́ЎКА** *ж.* Размова, гаворка. *Размо́ўка – э́та разгаво́р, як размаўля́іш.* Савінічы.

**РАЗМУЎЛЯ́КАЦЬ** *зак.* Разжаваць. *Зубо́ў у хазя́іна німа́, і я́блык размуўля́кацъ ня мо́жа.* Станюкі.

**РАЗМЫ́ЛІЦЬ** *зак.* Размежаваць, аддзяліць. *Размы́лію да́чку по́пілам.* Нямойта.

**РАЗМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Размякнуць, памякчэць. *Хай нямно́шка размя́кніць хлеп.* Серкуці.

**РАЗНАВА́ЖКА** *ж.* Хібнасць, памылка ў вызначэнні вагі. *Разнава́жка на ва́гах.* Фасаўшчына.

**РАЗНЕ́СЦІ** *зак.* 1. Параздаваць. *Свіннёнка заб'е́ць, разнясе́ць.* Нямойта. 2. Разабраць, раскупіць. *Пуста́я ба́нка: рыбу разняслі.* Нямойта. 3. Распухнуць. *Разнясло́ руку́, балі́ць.* Чуцькі.

**РАЗНІ́К** *м.* Той, хто займаецца рэзаннем жывёлы; мяснік. *У Але́ксінічых жылі́ яўрэ́і. Трэ́ба ку́рыцу к свя́ту. Яўрэ́й нясе́ць ку́рыцу зарэ́зъць зъ пяць вёрст, ідзе́ць ръзніка́ шука́ць.* Алексінічы.

**РАЗНІ́ЦА** *ж.* Разніца, бойня. *Бе́гаіць, як саба́ка кала разні́цы.* Багданава.

**РАЗНО́СКА** *ж.* Вялікая сетка з ручкамі для хлеба. *Разно́ска січа́с – се́тка, то́жа за хле́бам хадзілі. Разно́ска ў яе́ была́, што хлеп но́сяць. Пакла́ла разно́ску каля мяне́ і пашла́.* Багданава. *Дзве разно́скі – пу́да два-тры набярэ́ць.* Вялікі Азярэцк.

**РАЗНЯ́ЦЬ** *зак.* Раскрыць, адарваць. *Узя́ў руку́ – ні разня́ць.* Нямойта. *Дзет цуць пласкагу́бцамі ръзня́ў жале́зы.* Ульянавічы.

**РАЗО́ВІК** *м.* Канюшына (расліна). *Разо́вік – кле́вер кра́сна-ро́завы, са́мы лу́чшы.* Жохава.

**РАЗО́Р** *м.* 1. Шырокая баразна пасярод ворыва. *Разо́р – шыро́къя бъръзна́ пасяро́т, як ару́ць ўраскі́т.* Гарадок. *Палуча́іцца разо́р пасрадзіне, к мяжэ́й аднэ́й, другей, як нараскі́т пахалі.* Дольдзева. *Разо́р – разо́руюць пъсяро́т.* Міцюкова. 2. Мяжа памерам з баразну. *У іх мі́жа́ – разо́р, як плу́гъм пръгна́цца.* Цясішча.

**РАЗО́РАЦЬ** *незак.* Рабіць разору, баразну. *Разóр – разóруюць пъсярóт.* Міцюкова.

**РАЗРАЗА́ЦЬ** *незак.* Рабіць надрэз пры нарыве. *Пáльцы разразáлі.* Запруддзе.

**РАЗРАСТА́ЦЦА** *незак.* Павялічвацца, большаць. *Ён сам сабóй налівáіцца, разрастáіцца.* Заазер'е.

**РАЗРАСЦІ́СЯ** *зак.* Разрасціся (пра расліны, дрэвы). *Зімля́ харóшъя, ръзрасьлíся.* Каралевічы.

**РАЗРАШЫ́ЦЬ** *зак.* Дазволіць. *Мóжна, éслі дóма разрашылі, дык астáніссятам.* Гарадзец.

**РАЗРАШЭ́ННЕ** *н.* Першы дзень пасля Вадохрышча. *А паслéдняя Калядá – схот Калят: Крышчэ́нне, разрашэ́нне і тады схот Калят.* Гарадзец. *Нъ ръзрашэ́ньня пасля Кшчэ́ння, а на трэ́цьці раштóўскі дзень і рабóтый увéсь дзень.* Ракаў Засценак.

**РАЗРУ́МЗАЦЦА** *зак.* Моцна расплакацца. *Разрýмзаўся, рýмзаеш, весь абрýмсаўся, апплáкаўся знáчыць.* Савінічы. *Во плáчыць, разрýмзаўся. Чагó ты рóмзаіш? Ня плач, ня рóмзай.* Фасаўшчына.

**РАЗРЫ́ЦЬ** *зак.* Разбурыць, разабраць. *Разрылі пéчку.* Савінічы.

**РАЗРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* 1. Парэзаць. *Я якрáс нагý разрэ́зала.* Багданава. 2. Падзяліць на часткі. *Ня пі ўвесь* [парашок], *пъпалáм ягó разрэ́шча.* Самсоны.

**РАЗРЭ́ЗЫ** *толькі мн.* Узор на палатне. *Палатнó ў разрэ́зы ткáлі.* Рэчкі, Апечкі.

**РАЗУКРА́ШАНЫ** *дзеепрым.* Прыгожа пафарбаваны, аздоблены. *Вазóк э́та праязны, на базáр, на прáзнікі, во ён мáлінькі, апшыты, разукрáшаны.* Нямойта.

**РАЗУ́МНЫ** *прым.* 1. Здольны, таленавіты. *Трэ́ба кніжку класьпыд падýшку, каб дзяцёнык разýмны быў* (павер'е). Чуцькі. 2. Разважлівы. *Ён разýмны чълавéк, усё рассýдзіць, усім пъсавéтуіць.* Фасаўшчына. 3. *н.* Разумнае, тое, што варта ўвагі і даверу. *Ёсць і разýмнъга мнóга такóга ў прыхвамецях.* Ракаў Засценак.

**РАЗЫСЦІ́СЯ**, **РАЗЫЙЦІ́СЯ** *зак.* 1. Расхадзіцца, пахадзіць пэўны час. *Спінá так баліць, пакýль разóйдзішся.* Каралі. *Сягóнні, я дýмала, ні разыйдýся саўсім: усё крýціць, лóміць.* Нямойта. *Я пайдý пъмалéньку, разыдýся, мне нáда ў бáню.* Станюкі. 2. Разбалецца, развярэдзіцца. *Разóйдзіцца рукá, разышлáся рукá, як цяшка парóбіш.* Запруддзе. *Разышлáся рукá – бярýць завя́зку, перавя́жуць, як жнуць.* Міцюкова. *Разóйдзіцца рукá: здыхліна валяецца – кóсткай патрэ́ш, плюнеш і пóйдзеш. Кідáлі к балóту, к лéсу вéнік, нітку звя́жаш, каб не балéла.* Чуцькі. *Як разóйдзіцца рукá, абвя́звалі рукý ніткай, як крóсны ткáлі, ідýць ніткі, – узлы вя́жаш, успамінáючы катóрую удавý.* Запруддзе. 3. Знікнуць, сысці (пра гуз, пухліну). *У ягó жóнкі быў нéйкі нáрасцень і разашóўся: смітáнай нáда намáзаць і прыкладáць.* Багданава. *Вазмóжна, прыжáла малóчную сасýду: гузлачóк быў, пóтым разышлáся.* Нямойта. 4. Распусціцца, растварыцца (пра рэчыва). *Вужáкі ні разыйшліся на вóдцы, а стáлі цвёрдыя-цвёрдыя.* Марозаўка.

**РАЗ'ЯЖЖА́ЦЦА** *незак.* З'язджаць, выязджаць. *Дзéці раз'яжжáюцца ў свéці, жэ́нюцца.* Парэчча.

**РАІ́** *мн.* Раенне. *Як райі, тады дýжа мёду німá.* Івоні.

**РАІ́ЦЦА** *незак.* Раіцца (пра пчол). *Рая́цца пчóлы.* Вялікі Азярэцк.

**РА́ІЦЬ** *незак.* Даваць парады, рэкамендаваць. *Хто што рáіць, усé дзéлаю.* Марозаўка. *Рáйілі прапóліс піць.* Міцюкова. *Бáбы рáюць аднá другóй, што піць ад ламóтаў.* Ракаў Засценак.

**РАЙНІЦА** *ж.* Пасудзіна для лоўлі пчалінага рою; райнік, райніца. *Рой збіраюць у райніцу.* Кішуроўшчына.

**РАК, АРАК** *м.* Рак (жывёліна). *Сачкамі ракаў лавілі ў возеры, а то сапагоў рваных набрасаюць – ракі туды наб'юцца.* Багданава. *У раку мяса, нічога німа.* Марозаўка. *Ракі лавілі ў возеры.* Закур'е. *Многа было аракаў.* Алексінічы.

□ *Адны ракі задъм ходзюць.* Нямойта.

**РАК** *м.* Рак (захворванне). *Не ў гэтай хатцы будзь казана – у яго рак быў.* Баравікі. *Рак напоўз – памерла. Злосна клялі: кап ты скалеў, кап ні вярнуўся. А цяпер усё гэтым ракам: кап цябе рак з'еў.* Нямойта.

**РАКА** *ж.* Рэчка. *Тутацькі рака Вобыль праходзіць.* Алексінічы.

**РАКАВІНА** *ж.* Нарост на капыце ў каня. *Ракавіна ёсь у капытах. Яна расцець сама сабою. Еслі дарога цвёрдая – баліць. Ракавіну зразаюць, каб была роўная з капытом.* Дольдзева.

**РАКАВЫ** *прым.* Які мае адносіны да раку (пухліны). *Ракавая вопухаль у глазах. Аперацыю зрабілі – дзве нядзелі патскаквала, як мяч.* Міцюкова.

**РАКАМ** *прысл.* 1. На карачках. *Прыйшоў к Сахвеі, ракам кала хаты стаў – такі п'яны.* Каралевічы. *С Конева да лесу паўзлі ракам.* Партызаны. *Кажацца: іду, як ракам паўзу.* Цясішча. 2. Сагнуўшыся. *Спіна баліць, ракъм хадзіць і то цяжка.* Чуцькі. *Шчытай лета ракъм атходзіш* [усё трэба было рабіць уручную]. Гарадок.

**РАКІТА** *ж.* Драбналістая лаза з тонкімі галінкамі. *Ракіта жаўтлявъя.* Дольдзева. *Ракіта ўрадзіць хаці, як некаму ссікаць.* Ракаў Засценак.

**РАКІТНІК** *м.* 1. Зараслі ракіты. *Ракітнік расьцець красьнінькій. На дровы яго сякуць.* Гарадок. *Ракітніку було многа раньшы.* Кляпчэва. 2. *зб.* Галінкі ракітніку. *З ракітніку карзіны плятуць. Як крышы крылі, прывязвалі ракітнікам крышу.* Багданава.

**РАКІТНЫ** *прым.* Які зроблены з ракіты. *С колікаў ракітных павырасла дзерава.* Ракаў Засценак.

**РАКУШКА** *ж.* Ракавінка. *Ракушкі – некоё сядзіць, як мяса ўсярэдзіне. На возеры ракушкі.* Вялікі Азярэцк.

**РАМА** *ж.* Аконны пераплёт са шклом ці без яго. *Рамы – ета столір вяжыць.* Сукрэмна. *Дзе сцякло у вокнах – рама.* Леснікова. *Я сам рамы візаць умею.* Баравікі. РАМІНКА *памянш.-ласк. Дзет усё знаў, усё дзелаў да рамінкі.* Чуцькі.

**РАМА** *ж.* Рамачны вулей. *Газету ў чатыры рэдзі падсоўваю пад раму і дыму надам. Кляшчы ад дыму падаюць. Яны маленькія.* Вялікі Азярэцк.

**РАМАВІК, РАМОВІК** *м.* Тое ж. *Радам стаяў рамавік – пчолы перайшлі. Рамовік – рас рамкі ставюцца.* Вялікі Азярэцк. *Судно – гэта рамовік, а былі і ліжакі.* Кішуроўшчына. *Рамовікі у мяне укралі.* Партызаны.

**РАМАТУС, РАМАЦІЗ, РАМАЦІС** *м.* Рэўматызм. *Ванючы грып – націраць раматус.* Сянно. *Рамацiз, палітрыт – усе жыццё у рызіне прахадзілі.* Латыгаль. *Рамацiс скруціў.* Багданава. *У яе рамацiс быў. Лечылі – не налечылі. Накапалі дзівасілу, дзівасілам налечылася.* Партызаны. *Рамацiс у руцэ, і косці ломюць, жылы баляць.* Сукрэмна.

**РАМАШКА, РУМАШКА** *ж.* Рамонак. *Ръмашка – белінькая іна, гъдаюць, гаворуць і рамунка.* Заазер'е. *Румашка белая с сярэдзінкай жоўтай.* Савінічы, Кавалі.

**РАМАШНІК** *м.* Рамачны вулей. Кляпчэва.

**РАМЕ́ННЫ** *прым.* Зроблены са скуры. *Былі раме́нныя гужы́. Раме́ннъя ці віраўча́нъя аброць.* Гарадзец.

**РА́МКА** *ж.* Прыстасаванне для сотаў у вулеі. *Тут стол стаіць, на сталé ра́мкі валяюцца з мéдам, пустэ́я.* Леснікова.

**РАМО́ЎКА** *ж.* Рамачны вулей. *У мянé ра́мъшнъя рамо́ўкі, а ра́ншы ліжакí былí.* Турава. *На до́шчачку пшчо́лы садзяцца – і ў рамо́ўку.* Закур'е.

**РАМУ́НКА** *ж.* Рамонак. *Ръма́шка – бéлінькая іна́, гъда́юць, гаво́руць і раму́нка.* Заазер'е.

**РАМЧА́К** *м.* Рамачны вулей. *Ён сам і ръмча́к здзéлаіць, ён і шыў, партны́ быў харо́шы.* Леснікова.

**РА́НА** *ж.* Рана, пашкоджанне. *Ат маткí аста́лъся ра́на.* Нямойта.

**РА́НА** *прысл.* Раніцай, уранні. □ *Ра́нъ ро́сна, а ўдзень мло́сна* [так прыгаворваюць, калі збіраюцца касіць]. Багданава.

**РА́НАК** *м.* Раніца, ранак. *З ра́нку да вéчара рабо́таіць.* Багданава.

**РАНЕ́Й** *прысл.* 1. Даўней. *Ранéй садо́ў мéней було́, а цяпéр у ка́жным двары́.* Гарадок. *Ранéй лю́дзі рабо́талі ў підзіся́т рас лу́чшы, чым у цяпéрашняя ўрэ́мя.* Фасаўшчына. 2. Зараней, рана. *Паéхалі ранéй, кап сéна убра́ць.* Кляпчэва.

**РА́НЕНЫ** *прым.* Параненым. *У мянé ш ужо́ рука́ ра́нена, кроў з рукí.* Леснікова.

**РА́НЕТЫ, РА́НІТЫ, РА́НІТЫЙ** *прым.* 1. Ранены. *І то́жа ра́ніты быў і пагíп.* Багданава. *Ра́неты, нéръўны, псíх.* Каралевічы. *Ра́ніты быў у руку́, рука́ падро́блянъ была́.* Каралі. *Хазя́ін мой быў жыво́й, аста́ўся ра́неты ў Тамбо́ўскай во́бласці.* Карпавічы. *Ра́неты ў гълаву́, по́йдзіць на рабо́ту і пава́ліцца.* Партызаны, Ракаў Засценак, Рэчкі. *Два разы́ ра́ніты. Мой прышо́ў, ра́нітый быў, му́чыўся й памёр.* Цясішча. *Быў мужы́к ра́ніты малéнька.* Неўгадава. 2. *м.* Паранены чалавек. *Далжны́ былі ра́нітых атпра́віць за фронт.* Нямойта. *Во, ра́нітый сдзéлаўся.* Фасаўшчына.

**РА́НІЦА** *ж.* Ранак. *Наступіла ра́ніца.* Нямойта.

**РА́НІШНІ** *прым.* Які адбыўся пад раніцу. *Ра́нішнія ўзду́мыйіш чу́ды.* Заазер'е.

**РА́ННЕ** *н.* Раніца, ранак. *То́лькі заснéш – і ра́нне.* Партызаны. *Умары́лася, ра́нне – ні шавéлюць ужо́ маé лыткі.* Станюкі. *На́да гавары́ць ад ра́ння да смярка́ння.* Нямойта.

**РА́ННЕВЫ** *прым.* Ранішні. *Палівай, палівай ру́ту-мя́тачку ча́сценька / То ра́нневаю, то вячэ́рняю паро́ю, / То бу́йнаю, то драбню́сенькай слязо́ю* (з песні). Міцюкова.

**РА́ННІ, РА́ННЫ** *прым.* Які з'яўляецца першым. *Са́ма ра́нні с са́май зімы́ грып* [пра смаржкі]. Фасаўшчына. *Са́ма ра́ннія – адува́нчыкі.* Гарадзец. *Ра́нныя смаршкí і казлы́ ё, па со́снічку расту́ць.* Кавалі. *Ло́пуха – са́мая ра́нная.* Запруддзе. *Ду́жа ра́нны штры́фяль.* Савінічы. *Ра́нныя ду́жа асыка́ ў куста́х ёсь.* Закур'е.

**РАНТГЭ́НЬ** *м.* Рэнтген. *Усé рантгэ́ні прайшла́.* Кішуроўшчына.

**РА́НШЫ, РА́НЬШЫ** *прысл.* Раней, даўней. *Апéнкі ра́ншы сушы́лі: ні зна́лі, што дзéлыць з íмі.* Алексінічы. *Ра́ншы хадзíлі ў жы́та. Та́мацькі вянкí вілі, пéсні пéлі.* Чуцькі. *Ра́ньшы мéрыліся ў мъхавы́ са́жынь. Ну, іх ра́ньшы вы́селілі быць.* Багданава. *Дзярэ́ўня бéдненькъя: ра́ньшы ко́лькі людзéй было́, а цяпéр адны́ старыкí.* Буй. *Сту́калава ра́ньшы зва́лася, там калéснікі жылí.* Жохава, Заазер'е, Каралевічы, Кляпчэва, Леснікі, Закур'е.

**РАПАЦЫ́РАВАЦЬ** *незак.* Рэпеціраваць, трэніравацца. *Саста́віла рапацы́раваць, што гъвары́ць, як у мянé гро́шы прапа́лі.* Нямойта.

**РАПÓЎНІК** *м.* Бацвінне рэпы. *Брукóўнік, рапóўнік – кáждаму назвáнія.* Савінічы.

**РАПТÓЎНА** *прысл.* Знянацку, нечакана. *Рáнняя вяснá раптóўна прышлá.* Багданава[1]. *А ён сéрцам ні жáліўся, раптóўна памёр.* Буй. *Ён паслýшны быў: папрóсіш, то паслýхаіць, зрóбіць. Узяў ды раптóўна памёр.* Пожанькі, Дольдзева, Неўгадава.

**РАПТÝХ** *м.* 1. Вераўчаны мех. *Раптýх з вярóвъчак звя́жуць.* Фасаўшчына. 2. Мера сена, якое змяшчалася ў вераўчаны мех. *Раптýх сéна.* Фасаўшчына.

**РАПÝХА** *ж.* Палявая, земляная жаба; рапуха. *Рапýхі тóўстыя, кóжа на іх тóўстая, чóрная.* Партызаны. *Рапýха вы́скачыць на парóх: рот шырóкі, самá шурпáтая.* Міцюкова. *Рапýха, вуж карóву ссуць.* Леснікова. *Прышóў скот с пóля. Скот стáлі зъгъня́ць. Гéта былó на Купáлле. І тъкáя бъльшáя, здарóвъя рапýха скáчыць. Бабýля ей лáпу пірабíла. На другí дзень лягýшкі ні стáла.* Мянюцева. *Зямля́ ды́хаіць. Я капыль – ажнó рапýха цыбýлю есць.* Нямойта.

**РАСÁ** *ж.* Раса. *Біз расы́ травá ні расцéць.* Дольдзева. *Расá бíта былá – хтóта ішóў ні адзíн.* Леснікова, Нямойта.

**РАСÁДА** *ж.* Расада. *Фля́нсы буракóў, а бальшынствó называ́юць капýсты расáда.* Рассвет.

**РАСÍЦА** *ж. ласк.* Раса. *Ідзé ш Ю́р'я з расíцаю, з вадзíцаю* (з песні). Чуцькі.

**РАСКАЛАЦÍЦЬ** *зак.* Размяшаць, зрабіць (пра цеста). *Мукý раскалóціш, учы́ніш, закісáецъ, вы́ніць – бýлкі. Кулéш вары́лі з пшóннай мукí. Картóшкі пакрышы́ць, звáрыцца, пакалацíць картóшку, раскалацíць і нямнóга туды́ мукí пшóннай усы́паць і пакалацíць. Звáрыцца і патóм туды́ сáла, калбасы́. Блін так жа раскалацíў і пячы́. А цацэ́нь* [корж] *нáда мясíць і раскáтывацъ.* Жохава. *Кръвáвікі – бліны́. Éта кроў раскалóцюць – на жы́рную скъварадý льеш і пячэ́ш.* Багданава.

**РАСКАЛÁЧВАЦЬ** *незак.* Размешваць, рабіць (пра цеста). *Раскълáчвалі мукý, яйцó бíлі, макарóн дзéлалі.* Дольдзева.

**РАСКÁЛІНЫ** *прым.* Распалены, гарачы (пра жалеза). *А éслі ръскáлінъя іржáвъя жалéза, то* [у час кавання] *атлітáюць íскры і малéнькія пласцíнъчкі.* Запруддзе.

**РАСКАЛЫХÁЦЦА** *зак.* Разгуляцца, разысціся. *Дáйце ей раскалыхáцца, янá запяéць.* Чуцькі.

**РАСКАМÁРСКІ** *м.* Танец. *Раскамáрскага – пар скóлькі, крыж-нáкрыж.* Самсоны.

**РАСКÁПАЦЬ** *незак.* Раскопваць, расчышчаць. *Кáжны дзень ръскáпъіш сьнег.* Кішуроўшчына.

**РАСКÁПЛІВАЦЦА** *незак.* Разрастацца, раскашоўвацца. *Капýста-кураспéлка* [ранні сорт] *расцéць і раскáпліваецца.* Запруддзе.

**РАСКАПЫ́ЛІЦЬ** *зак.* Разбіць капытамі. *Карóвы ръскапы́лілі тýю ліхý.* Каралевічы.

**РАСКАРÁЧ** *м.* 1. Кусок абрэзанага пасля датыкання палатна і сплеценага ў матузы. *Ръскърáч – мáма бíла сваíх сынóў ръскърачóм. Як даткáюць крóсны, астаю́цца канцы́. Іх атрэ́жуць. Тагó пълътнá сплятýць у матускí, – а ня прóста махры́, нíткі.* Серкуці. 2. Кусок недатканага палатна з махрамі, які выкарыстоўвалі для нашэння ежы ў поле. *Раскарачóм насíлі ядý пастухáм ці жанчы́нам, як жáлі.* Леснікова.

**РАСКАРЧÓЎВАЦЬ** *незак.* Выкарчоўваючы кусты, дрэвы, асушаць балоты. *Стáлі раскарчóўвацъ балóты – вужáкі ўзнáлі.* Нямойта.

**РАСКÁТАЦЦА** *незак.* Ездзіць з форсам. *Дзяржы́ць рысъкá, на íм ръскáтъіцца.* Сянно.

**РАСКА́ТЫ** *толькі мн.* 1. Двухкалёсны воз для вывазу лесу. *Такéі былі раскáты: калёсы ніскія, два калэ́ – і ýскóцім браўнó.* Вялікі Азярэцк. 2. Пра крываногага, раскірэку. *Раскáты, нóгі – лес вазíць. Во раскáты – лес вазíць* [кажуць на крываногага]. Нямойта.

**РАСКА́ТЫВАЦЬ, РАСКА́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Раскатваць (пра цеста). *Блін так жа раскалацíў і пячы́, а цацэ́нь нáда мясíць і раскáтываць.* Жохава. *Замéсіць цéста, раскáчываць тóнінька, а тады́ кры́шуць – завýць лапшá – прасýшыюць.* Фасаўшчына.

**РАСКАЦІ́ЦЦА** *зак.* Раздзяліцца. *Сóнца як бы раскацілася на тры чáсці і саедзінілася – сóнца гуля́іць.* Дуброўкі.

**РАСКАШАВА́ЦЦА** *незак.* Ашчаджаць, не дазваляць сабе лішняга. *Хоць на сéмя, дык блюдзём, не раскашýемся* [пра бульбу]. Вялікі Азярэцк.

**РАСКАШНЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш свабодны, большы за патрэбны памер. *Узя́лі съпагі ръскашнéйшыя.* Багданава.

**РАСКВАКТА́ЦЬ** *зак. экспр.* Разбіць ушчэнт. *Кванатýнскую áрмію разбілі, расквъктáлі.* Вялікі Азярэцк.

**РАСКЕ́ПІЦЦА** *незак.* Разваліцца на аскепкі, кавалачкі. *Раскéпіцца бýлка хлéба.* Чуцькі.

**РАСКІ́ДУВАЦЦА, РАСКІ́ДЫВАЦЦА** *незак.* Пакрывацца лісцем. *Як лес раскíдуецца, то лазóвікі па дрэ́вах паўвéчары лётаюць і гудзя́ць. Лазóвікі – як лес раскíдываецца, тады́ яны́.* Гарадзец.

**РАСКІ́ДЫ** *мн.* Раскінуўшы ў бакі. *Рýкі ў раскíды хадзíў, мéтра па двá.* Ульянавічы.

**РАСКІ́ДЫВАЦЬ** *незак.* Раскідваць. *А інá давáй раскíдываць бярвéнні.* Серкуці.

**РАСКІНА́ТЫ** *дзеепрым.* Раскінуты, рассунуты (пра калені). *Нóжкі ў калéнях раскінáты, быў бы кавалеры́стам.* Партызаны.

**РАСКІ́НУЦЦА** *зак.* Пакрыцца лісцем. *Слівіны ні раскíнулісь і ні цвіцéлі – змéрзлі.* Партызаны.

**РАСКІ́НУЦЬ** *зак.* 1. Параскідваць. *Сабярýцца мáльчыкі, дзіўчáты, дрóвы раскíнуць на Івáна Купáлу. Сёння ня спі, бо зруп раскíнуць* [на Івана Купалу]. Гарадзец. 2. Разабраць, разбурыць. *Ну, раскíнулі цэ́ркву.* Нямойта. 3. Раскласці для гадання, пагадаць. *Саскýчыцца па ім – раскíніць кáрты.* Міцюкова.

**РАСКЛАДА́ЦЬ** *незак.* 1. Разводзіць, распальваць вогнішча. *Манасты́р быў, жылí манáхі, быў прáзнік, туды́ з'іджáлісі нáнач, кастры́ раскладáлі.* Нямойта. 2. Вышываць, ткаць (?). *Раскладáла* [дываны] *цвятáмі, букéтамі.* Цясішча.

**РАСКЛА́СЦІ** *зак.* Развесці, распаліць вогнішча. *Як кóні пáсцілі, то цяплó ръскладýць.* Багданава.

**РАСКО́ШНЫ** *прым.* Свабодны, большы за патрэбны памер. *Ёсць тáпкі раскóшныя, сказáла дамóў* [у гроб] *у іх пайдý.* Нямойта.

**РАСКРА́ТАЦЦА** *зак.* Раскатурхацца, расхадзіцца. *Уся́ мóкрая, пот іллéць, пакýль раскрáталася, хажý, як сóная. Хаджý, як п'я́ная, пакýль раскрáтаюся.* Партызаны. *Утамлю́ся за дзень, захаджýся, чуць раскрáтаюся.* Ракаў Засценак.

**РАСКРУ́ЧУВАЦЬ** *незак.* Раскручваць, размотваць. *Раскрýчувай палатнó да змáтувай.* Нямойта.

**РАСКРЫВА́ЦЬ** *незак.* Знімаць верхнія снапы. *Нáда бáпку раскры́ваць.* Дольдзева.

**РАСКУ́БЦІ** *зак.* Расскубці. *Яны́ яé ні раскýблі і панясл́і часáць* [пра воўну]. Багданава.

**РАСКУЛА́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Раскулачаны. *Татусь наш з раскула́чънй сям'і, пісаў пісьмы: «Во січа́с я нъзваў бы сябе́ кулако́м». І раскула́чаны, і ба́цька забра́джаны* [арыштаваны], *а ў палі́цыю ні пайшоў.* Рэчкі.

**РАСКУЛА́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Раскулачваць. *Я чуў, што хаце́лі іх раскула́чываць, яны́ ўцяклі.* Фасаўшчына.

**РАСКУЛА́ЧЫЦЬ** *зак.* Раскулачыць. *Былі хутары́ Гато́ўскія. Тры ху́тары раскула́чылі.* Баравікі. *Нас раскула́чылі, усё пъдъбра́лі.* Рэчкі.

**РАСКУЛУПА́ЦЬ, РУСКУЛУПА́ЦЬ, РУСКУЛУПІ́ЦЬ** *зак.* 1. Раскалупаць, развязаць. *Пуп атрэ́жуць, схува́юць у сухім ме́сці. У школу як ідзе́ць, каб мале́ц рускулупа́ў пуп* [пуп захоўваўся ў звязанай хустачцы] (звычай). Запруддзе. 2. Раздзяліць, разадраць. *Ра́ньшы раскулупа́еш бараду́, каро́й злі́ўшыся, ма́кам засыпа́лі.* Міцюкова. 3. Раскорпаць. *Це́шча наўчы́ла: ръскулупі́, ка́жа, ды натры́, ка́жа, нагу́. А дъктары́ ўзна́лі, што яму́ къзла́мі наце́рлі.* Партызаны.

**РАСКУРО́ЧЫЦЬ** *зак.* Раскулачыць. *А тады́ рэвалю́цыя была́, і па́на тро́ху раскуро́чылі.* Самсоны.

**РАСКУСІ́ЦЬ** *зак.* Раскусіць. *Ге́та не арэ́х, не раску́сіш.* Каралевічы.

**РАСКЯПІ́ЦЦА** *зак.* Рассыпацца, распасціся. *Каб кало́дка ні ръськяпі́лъсь, то рэ́хву набіва́лі.* Багданава.

**РАСНІ́ЦЫ** *мн.* Вейкі. *Расні́цы вялі́кія.* Багданава.

**РАСО́Л** *м.* Бурачны настой, квас. *Расо́л з буракоў ста́вілі. Бурачкоў начы́сцюць – і ў цэ́бар.* Гарадзец. *Ачышча́юцца рэ́пкі кра́сныя, куска́мі пакі́даюць, вадо́й заліва́юць. З бурака́ вада́ выса́сываіць сок, кіснець тры-чаты́ры дні, тады́ прыятны расо́л з буракоў.* Манголія. *Паста́віла Таццянка на стол расо́лу, хле́ба бу́лачку. Ду́мала, ці дажду́ таго́ ўрэ́мя, калі бу́дзе хлеп і ў мяне́. А цяпе́р і бе́лы, і чо́рны хлеп, і тмін – і не е́сца.* Багданава.

**РАСПАЛО́Х** *м.* Перапалох. *З распало́ху тако́га забы́ўся, як яго́ і зваць.* Нямойта.

**РАСПАРО́ЦЬ** *зак.* Прабіць, вылезці. *Грусць бе́лы, і ў маро́с зямлю распо́рыць, цвёрды сам, махна́цінькі.* Баравікі.

**РАСПА́РЫЦЦА** *зак.* 1. Разбухнуць, памякчэць. *Распа́рыцца ве́нік, і тады́ яго́ на печ.* Багданава. 2. Разварыцца. *Бу́льба ду́жа ўмало́тная, але́ ш ні ръспа́рыцца.* Запруддзе.

**РАСПА́РЫЦЬ** *зак.* Апрацаваць парай. *Лёстачкі дзе́лаліся із ёлкі: гнёцца харашо́, як распа́рыш, і ні так гніёць.* Дольдзева.

**РАСПАТРЭ́СКАЦЦА** *зак.* Патрэскацца ў многіх месцах. *Ён спячэ́цца, ма́ла закла́дкі, распатрэ́скаецца хлеб, атско́чыць, як не укі́сне.* Чуцькі.

**РАСПАТТРЫБУШЫ́ЦЬ** *зак.* Адабраць маёмасць, зямлю. *Як тады́ па́на ўжо распаттрыбушы́лі, зімля́ ста́ла тады́ пад дзярэ́ўню.* Самсоны.

**РАСПАХА́ЦЬ** *зак.* Разараць. *Распаха́лі і гаро́т, і ўсё.* Заазер'е.

**РАСПАХА́ЦЬ** *незак.* Распухаць, апухаць. *Нага́ пра́ма распаха́ець.* Савінічы.

**РАСПАЦЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Моцна спацець. *Распаце́ю, звару́ся – і праступа.* Запруддзе. 2. Разагрэцца да поту. *Вы́тапілі мы ба́ню, я распаце́ла ў ба́ні.* Нямойта.

**РАСПЕ́РЦІ** *зак.* 1. Разнесці, распухнуць. *Як хле́ба бу́лка, распёрла калёна. Прыкладала мазь Вішне́ўскага. Ба́бу, як укусі́ла гадзю́ка, аж язы́к распёрла ў яе́.* Багданава. *Хай цябе́ разапрэ́ць!* (праклён). Вялікі Азярэцк. *Мужыкі́ – саба́кі, хай іх разапрэ́ць!* Запруддзе. 2. Сабрацца ў грудзях, выклікаючы боль, хваравіты стан (пра малако мацеры). *І гру́дзі распёрлі, і ўсё – суро́чылі.* Леснікі.

**РАСПЕ́СТАНЫ** *прым.* Распешчаны, разбалаваны. *З ма́ткамі былі́ до́чкі распе́станы.* Неўгадава.

**РАСПЕЧА́ЛІЦЦА** *зак.* Засумаваць, засмуціцца. *Распеча́люся, шко́да ста́ніць уну́ка: ім жа усі́м у дзярэ́ўню хо́чацца.* Дольдзева.

**РАСПІЛО́ЎКА** *ж.* Распіл, распілаваны лесаматэрыял. *То́лькі распіло́ўку вазі́ў.* Сукрэмна.

**РАСПІ́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Распілоўваць, разразаць. *І пато́м распі́львающь ручно́й піло́й: адзі́н стаі́ць навярху́, а другі́ – ўнізу́.* Нямойта.

**РАСПІНА́ЦЬ** *незак.* Расцягваць, ставіць. *Пала́ткі ў ле́сі распіна́юць, начу́юць, е́сці ва́руць.* Багданава.

**РАСПІСА́ЦЦА** *зак.* Зарэгістравацць шлюб. *Іна́ ръспіса́лься, а ўзяў мужы́к і памёр.* Багданава.

**РАСПІ́СВАЦЦА** *незак.* Рэгістравацць шлюб. *У за́ксе булі́, як распі́свалісі.* Вялікі Азярэцк.

**РАСПІ́ЎШЫСІ** *дзеепрым.* Які распіўся, многа і часта піў гарэлку. *Распі́ўшысі быў ты́я гады́.* Нямойта.

**РАСПІ́ЦЦА** *зак.* Пачаць піць гарэлку, стаць алкаголікам. *Стаў піць, узя́ў і распі́ўся.* Гарадзец. *Мужы́к памёр, іна́ там распіла́ся.* Багданава. *Жыў у Ленінгра́дзі і там распі́ўся.* Запруддзе.

**РАСПІЧА́ТАЦЬ** *зак.* Адкрыць. *Распіча́таў ба́нку с со́кам.* Івоні.

**РАСПЛАДЗІ́ЦЦА** *зак. перан.* Развесціся, распаўсюдзіцца. *Плахо́га распладзі́лася.* Каралевічы.

**РАСПЛАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Размножыць, развесці. *У нас распладзя́ць на шку́ру гє́тых звяркоў.* Ульянавічы.

**РАСПЛАСТА́ЦЦА** *зак.* 1. Сесці, распусціўшы крылы. *Ляжы́ць гусі́на, распласта́лася, хво́рая.* Каралевічы. 2. Упасці выцягнуўшыся. *Рас ло́пнала я́зва, ён упа́ў і расплъста́ўся.* Кішуроўшчына. 3. Распраміцца. *Ляжы́ць камо́к, ві́лкамі кульну́ла – і ў бало́та. Ён распласта́ўся і паплы́ў* [вожык]. Міцюкова.

**РАСПЛЁСКАНЫ** *прым.* Расплюшчаны, расплясканы. *Ро́ўны, расплёсканы, як тапо́р.* Жохава.

**РАСПЛЯСКА́ЦЬ** *зак.* Раскатаць, зрабіць плоскім. *Расплє́шчыш пръсначко́м.* Заазер'е.

**РАСПЛЯ́СКВАЦЦА** *незак.* Расплюшчвацца, рабіцца плоскім. *Свярло́ расплє́скваецца, а тады́ скру́чваеш* [у працэсе кавання]. Жохава.

**РАСПО́РАВАЦЬ** *зак.* Пасправачацца, пасварыцца. *Жыла́ дзе́ўка с па́рнем – распо́равалі.* Каралевічы.

**РАСПО́РКІ** *мн.* Тонкія дошчачкі перад палатняным навоем, якія прытрымліваюць палатно, каб яно не сцягвалася. Заазер'е.

**РАСПРАДЗЯЛІ́ЦЬ** *зак.* Пазнаць. *Ідзе́ць чълаве́к, а я ні распръдзялі́ла хто́.* Чуцькі.

**РАСПРАСТА́ЦЬ** *зак.* Выраўняць, распраміць. *Адзія́ла распраста́ла.* Партызаны. *Пе́рылі кро́сны, а тады́ ръспръста́лі і апя́ць у плётку.* Закур'е.

**РАСПРАШЧЭ́ННЕ** *н.* Заканчэнне каляднага перыяду. Багданава.

**РАСПУ́СТВА** *н.* Распуста, балаўства. *Ба́льства, распу́ства. Мі́ру дваі́м ні́ма́, б'ю́цца!* Цясішча.

**РАСПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* 1. Расцвісці. *Распусці́лася бяро́за ра́ньшы сро́ку – год сухі́ бу́дзіць* (прыкмета). Каралевічы. 2. Раскрыцца. *Апе́нкі распусці́ліся.* Сянно.

**РАСПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* Распусціцца, разбэсціцца. *А цяпёр распусцілісі, ні стыду, ні ўважаюць.* Буй.

**РАСПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* ◊ РАСПУСЦІ́ЦЬ НЮ́НІ. Расплакацца, разжаліцца. *Слімáк кáжуць, як хто плáчэць, распýсціць нюні.* Запруддзе.

**РАСПУ́ХНУЦЬ, РАСПО́ХНУЦЬ** *зак.* 1. Распухнуць. *Ліцó распýхніць, і крáснае, і сіняе стáнець.* Ракаў Засценак. *Распóхніць, і язык запóх, як укýсіць вужáка.* Гарадзец. *Распóхла рукá, рáна жоўтая.* Каралі. *Пахаджý, нъгá аж распóхне.* Багданава. *Пóйдуць у лес, распóхнуць ад змяі.* Алексінічы. *Пчóлы пукусáлі бáцьку, распóх, і ў бальніцу пълажылі. І бóлі ні ліжáў.* Цясішча, Вялікі Азярэцк, Кішуроўшчына, Нямойта. 2. Патаўсцець. *Прышóў з цюрмы* [паправіўшыся], *а людзі кáжуць распóх.* Розмыслава.

**РАСПУ́ЦІН** *прым.* Разбалаванае, распешчанае дзіця. *Распýцін – гэ́дак гавóраць на дзяцéй.* Міцюкова.

**РАСПУ́ШАНЫ** *дзеепрым.* Бухматы, пушысты. *Зімóй нъ бярóзі распýшъна лісця ў ёй* [расліне]. *Ягó събірáюць.* Нямойта.

**РАССАВЕ́ТАВАЦЬ** *зак.* Адгаварыць. *Янá рассавéтавала éхаць.* Кляпчэва.

**РАССАКАТА́ЦЦА** *зак. перан.* Пачаць хутка і многа гаварыць. *Рассакатáлася, як сарóка.* Багданава.

**РАССАЛІ́ЦЦА** *зак.* Прасаліцца. *Нарэ́жуць мяса – паляндвіцу, падчарóвак, ноч рассóліцца. Часнакý накрышуць, каляндру, кмін, часнóк, пéрац душысты. Натáрківалі ў сцякló – верх ад лáмпы* [пра тое, як начынялі каўбасу]. Нямойта.

**РАССАСУ́ЛІВАЦЬ** *незак.* Разважаць, марна траціць час. *Там жа нáда напрáсць, там нéкалі дýжа рассасýліваць.* Гарадзец.

**РАССЕ́ІНЫ** *дзеепрым.* Пазбаўлены сэнсу, мітуслівы. *Жызнь рассéіна.* Каралевічы.

**РАССЕ́КА** *ж.* Шырокая, расцярэбленая паласа ў лесе, дзе праходзіць высакавольтная лінія. *Рашóткі* [ядомыя пласцінчатыя грыбы] *растýць, дзе рассéка.* Вялікі Азярэцк.

**РАССІКА́ЦЬ** *незак.* Рассякаць, сячы. *Тапóр у рýкі і давáй рассікáць лазý.* Партызаны. *Як саграшыш, то канчáіцца схот Кълят, рассікáіш тры пáры на трох кóліках, то тады ўжэ грэх ня бýдзіць.* Фасаўшчына.

**РАССО́ЎВАЦЬ** *незак.* Рассоўваць, адымаць (дошкі). *Цэ́лую нядзéлю варажбітка памірáла. Ім паталóк нáда рассóўваць.* Міцюкова.

**РАССТА́ВІЦЬ** *зак.* Пасяліць на кароткі час. *На кварціру расстáвюць ка мне.* Гарадзец.

**РАССТРА́ІВАЦЦА** *незак.* Разбудоўвацца, прыбудоўваць. *Расстрáіваліся, сад садзілі.* Івоні.

**РАССТРО́ІЦЦА** *зак.* Расхваляваўцца, узрушыцца. *Ну й расстрóіўся. Нягóш, другáя дóчка, а тады і трэ́ццяя.* Заазер'е.

**РАССТРО́ЙСТВА** *н.* Трывога, хваляванне. *Я з растрóйства разарылася: дзе вы дзéліся?* Багданава.

**РАССУПО́НІЦЬ** *зак.* Развязаць, распусціць супоню, якая сцягвае хамут на шыі ў каня; рассупоніць. *Рассупóню кънá.* Гарадзец.

**РАССЦІЛА́ЦЬ, РАСЦІЛА́ЦЬ** *незак.* 1. Слаць (пра лён). *Рассцілáць лён.* Станюкі. *Лён расцілáеш на пóлі.* Апечкі. 2. Засцілаць. *Пълацéнцы на йкóны нáда вéшаць, скáцеркі расцілáць.* Нямойта.

**РАССЫ́ПАЦЦА** *зак.* Раз'ехацца. *Дзяцёй параскідалі, рассыпаліся дзёці* [як бацька памёр]. Латыгаль.

**РАССЫПА́ЦЦА** *незак.* Раскрышвацца, развальвацца. *Кра́снья сыраёшкі крэ́пчы, ні рассыпа́юцца.* Сянно. ◊ РАССЫПА́ЦЦА ДРАБНЕ́Й МА́КУ. Лісліва дагаджаць каму-н., паддобрывацца да каго-н. Партызаны.

**РАССЫ́ПЧАСТЫ** *прым.* Разварысты, сопкі. *Гёта навамо́дная цяпе́рашняя бу́льба, рассы́пчастая.* Нямойта.

**РАССЯ́ДЖУВАЦЦА** *незак.* Расседжвацца, доўга сядзець. *Ці йна бу́дзіць ръсся́джувъцца там.* Нямойта.

**РАССЯЧЫ́, РАССЕ́Ч** *зак.* 1. Рассекчы, пасячы. *До́жджу нет, то пайдзём згаро́ду рассячо́м.* Карпавічы. *Рассе́ч на паро́зі што-не́будзь.* Запруддзе. *Трэ́ба суко́ла рассе́ч і хърашо́ бу́дзіць.* Вялікі Азярэцк. *У ку́зні рассячэ́ць зяле́за.* Манголія. 2. Пашкодзіць. *Во́ка рассе́к, нагу́ паламаў.* Запруддзе. *Пу́ля руку́ рассе́кла.* Леснікова.

**РАСТАРЖЫ́ЦЬ** *зак.* Расцягнуць, разбурыць. *Ръстаржы́лі ба́ню.* Буй.

**РАСТА́РКІВАЦЬ** *незак.* Расторкваць, уторкваць у розных месцах. *Свянцо́ную ве́рбу ръста́ркъвалі па сваі́х пало́сах, па жы́ту. Іна́ як ікая зашчы́та.* Дольдзева.

**РАСТАРО́П** *м.* Бездарожжа, распуцце. *Даро́га, як заду́та, ці вясно́й, як растаро́п, не прае́дзіць аўто́бус.* Багданава.

**РАСТАРО́ПНЫ** *прым.* Увішны. *Стару́ха – маць была́ ні растъро́пная.* Нямойта.

**РАСТАРЫ́ШЧЫЦЦА** *зак.* Разварыцца. *Растары́шчыцца бу́льба, сма́шная, як па́рыш парасёнку бу́льбу с шалу́п'ямі.* Запруддзе.

**РАСТАЎСЦЕ́ЦЦА** *зак.* Растаўсцець, распаўнець. *Растаўсцёўся, як та́я А́нька-сярдзе́чніца.* Запруддзе.

**РАСТА́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Растаць. *Снег раста́ўшы, пу па́хыці ні прайці.* Леснікова.

**РАСТАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Пашырыць, зрабіць шырэйшым. *Гэ́ты сара́йчык растачы́лі ўвесь.* Партызаны.

**РАСТВАРА́ЦЦА** *незак.* Расквашвацца, размякаць (пра зямлю). *Зімля́ раствара́ецца, вады́ мно́га.* Партызаны.

**РАСТВАРЫ́ЦЦА** *зак.* Распусціцца, разысціся (пра рэчыва). *Чарве́й земляны́х сабіра́ла ў каро́бачку, кап са́мі сабо́й раствары́ліся, – і націра́ла но́гі.* Нямойта.

**РАСТКІ́** *м.* Расткі, парасткі. *Во цыбу́ля расткі́ пусціла.* Багданава. *Расткі́, хале́ра іх, ужо́ якія вялікія* [на бульбе]. *У мяне́ ўжо во расткі́, пра́ма карні́ папусцілі.* Запруддзе.

**РАСТО́ПКА** *ж.* Распалка, распальванне. *Трэ́сачкі, лучы́нкі на расто́пку.* Вялікі Азярэцк.

**РАСТО́РКНУЦЬ** *зак.* Растраціць, распусціць (пра грошы). *Расто́ркніш сваё піддзіся́т рублёй і ходзь ба да палу́чкі хапіла.* Цясішча.

**РАСТРАНЖЫ́РАВАЦЬ** *незак.* 1. Растрачваць. *Біз яё хлеў згарэ́ў і ба́ня. Біз яё ту́та растранжы́раваў.* Нямойта. 2. Размяркоўваць. *Растранжы́равалі бальны́х у Хо́тцы.* Нямойта.

**РАСТРАСА́ЦЦА** *незак.* Раструшвацца, расцярушвацца. *Увя́зъвалі се́на, кап се́на ні ръстраса́лъся.* Гарадзец.

**РАСТРАСА́ЦЬ** *незак.* Растрасаць, раскідаць. *Се́на на́да растраса́ць.* Багданава. *Растраса́лі ту́ю капе́шку яго́ бальшу́ю се́на.* Запруддзе. *Се́на растраса́лі, сушы́лі,*

*там пу́ня стая́ла. І ток, і гумно́ называ́лася.* Лесні́кова. *Гной растраса́ць ё чатыры рагі́* [пра вілы з чатырма зубцамі]. Цясішча.

**РАСТРАСЦІ́СЯ** *зак.* Нарадзіць дачасна. *Што ты дзе́лаіш: растрасе́цца во ба́ба на по́лі* [пра цяжарную жанчыну]. Заазер'е.

**РАСТРУСІ́ЦЬ** *зак.* Раструсіць, раскідаць. *Раструсілі гной аднъму́, другóму, трэ́ццяму. Э́та тълака́ ўжэ ко́нчылася.* Партызаны.

**РАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Расстрэльваць, забіваць. *Выво́дзілі ў роў і растрэ́львалі.* Чуцькі.

**РАСТРЭ́СЦІ** *зак.* Растрэсці, раскідаць. *Той гной трэ́ба ня вілкамі, а рука́мі растрэ́сці.* Багданава. *То́лькі растрасе́лі се́на – дож.* Буй.

**РАСТРУ́ШЧЫЦЬ** *зак.* Раструшчыць, разбіць. *Кап вы я́йца ні растру́шчылі.* Міцюкова.

**РАСТРЫ́ШЧЫЦЦА** *зак.* Раскалоцца, разбіцца. *Чабу́хніць, яйцо́ растры́шчыцца, і выво́дзіцца цыплёнък.* Каралевічы.

**РАСТУШЫ́ЦЦА** *зак.* Разварыцца, утушыцца. *Разва́рацца, расту́шацца ко́сці.* Гарадзец.

**РАСТЫ́** *мн.* Расткі, парасткі. *Дабро́ набу́бніць* [зерне прарасце], *а тады́ расты́ прърасту́ць.* Дольдзева.

**РАСУМА́ХА** *ж.* Лаянкавая назва жанчыны. *Така́я расума́ха, паклёп на мяне́ навяла́. Я ш тваймý дзе́ду служы́ла.* Латыгаль.

**РАСХАДЗІ́ЦЦА** *незак.* Разводзіцца, скасоўваць шлюб. *Два разы́ схадзілася і расхадзілася.* Запруддзе.

**РАСХАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Разбалецца, развярэдзіцца. *Расхадзілася рука́ – звя́жаш ніткай. Кро́сны ткалі – ніткі ў ніт не укінеш, руку́ абвя́зваць.* Вялікі Азярэцк. *Расхо́дзюцца ру́кі, як жнеш. Перавя́звалі ніткамі ат красён, като́рые наза́д іду́ць. І прахо́дзіць.* Дольдзева, Багданава, Партызаны.

**РАСХВАЛЯ́ЦЬ** *незак.* Расхвальваць, хваліць. *Усё ръсхвъля́лі, што харо́шы пан быў.* Малы Азярэцк.

**РАСХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* Расхапаць, хутка раскупіць. *Ён пръда́ў маме́нтам, сваі́ расхвацілі.* Івоні. *Паку́ль мы пачу́лі, так расхвацілі канхве́ты.* Кішуроўшчына.

**РАСХІ́НУТЫ** *прым.* Раскірэчаны. *Но́шкі ў калёнях расхінутыя: къваляры́стам быў.* Партызаны.

**РАСХІ́НУЦЬ** *зак.* Раскрыць, зрабіць дзірку. *Кры́шу сълъмя́ную расхінуў і ўцёк.* Кляпчэва.

**РАСХО́Д** *м.* Спажыванне. *Длі свайго́ расхо́ду хапа́іць грыбо́ў.* Цясішча.

**РАСХО́ДАВАЦЬ** *незак.* Знішчаць, выкідваць. *Не́йкія прыіжджа́лі і скъза́лі: «Вы, ба́пка, гэ́ту сту́пу ні расхо́дуйце».* Рулёўшчына.

**РАСХО́ДЗІЦЦА** *незак.* Разыходзіцца. *Расхо́дзюцца ужо́, прышча́юцца, жэла́юць.* Вялікі Азярэцк.

**РАСХО́ДНАЕ** *н.* Час на заканчэнні каляднага перыяду. *У расхо́днае пяклі ла́дкі, мякіну таўклі – е́лі.* Чуцькі.

**РАСЦАНІ́ЦЬ** *зак.* Вызначыць. *Расхваліў, расцаніў, што жыве́ць харашо́, калхо́з харо́шы.* Розмыслава.

**РАСЦВІНУ́ЦЬ** *зак.* Растаць, сысці. *Як то́лькі ръсьцвіне́ць сьнех, чърнъгало́ўка пышла́.* Пожанькі.

**РАСЦВІТА́ЦЬ** *незак.* Развідняць. *Чуць ста́ніць расцвіта́ць – крыча́ць, крыча́ць.* Баравікі.

**РАСЦВІЦЕ́ЦЬ** *зак.* Расцвісці. *Яшчэ́ ні расцвіце́лі усе́ цвяты́.* Кавалі.

**РАСЦЕРАБІ́ЦЬ** *зак.* Расчысціць, выкарчаваць. *Расцерабілі лес там. Ку́пліная ге́та зімля́.* Серкуці.

**РАСЦЕ́РВІЦЦА, РАССЦЕРВІ́ЦЦА** *зак.* 1. Раз'юшыцца, разгневацца. *Як расце́рвілася на яго́, калі ка́скай* [нямецкай] *як шварну́ла!* Дольдзева. 2. Ашалець. *Ма́лых ваўча́т узя́лі, а воўк і ваўчы́ха рассцервілісі. Як зъбра́лі вуўчыня́т, то ваўкі́ расьце́рвілісі, то кідълісі нъ людзе́й.* Багданава.

**РАСЦЕ́РЦІ** *зак.* 1. Размяць, раздрабніць. *Аналгіну расцярэ́ць і на зуб.* Нямойта. 2. Размазаць. *Заб'е́ш вош но́гцім, у па́льцъх яе́ ж ні ръзатрэ́ш.* Міцюкова. 3. Раз'ездзіць. *До́бра, што тро́ху расце́рлі даро́гу.* Міцюкова.

**РАСЦІ́** *незак.* Расці. *Се́юць амінякі* [аміяк; хімічнае ўгнаенне] *– трыва́ расце́ць, а для пчол дрэ́нна.* Алексінічы. *Сон-трава́ сінім цвіціць, на высо́кіх луга́х расце́ць.* Гарадзец. *Со́снік у Лук'яныві расьце́ць, а ў нас – е́лкі, бяро́зы, але́шнік.* Гарадок. *Я́блыкі расцю́ць мале́нькія.* Жохава. *Як ста́нуць расці́, то шчыпне́ць зу́бкамі дзіця́ ма́ці за цы́цу. Брушні́цы ў бары́ растуць, журавіны – на мху.* Нямойта. *Раслі́ гуркі́ ў пятае пяро́.* Партызаны. *На Чо́рнуй гарэ́ нічо́га ні расце́ць.* Закур'е. ◊ РАСЦІ́ Ў РО́ЦЕ. Пра адсутнасць апетыту. *Я ўсё ро́ўна не бу́ду е́сці. У мяне́ расце́ць у ро́ці.* Заазер'е.

**РАСЦІРА́ЦЦА** *незак.* Зношвацца, станавіцца крохкім. *Хрась трэ́скаіцца, расціра́іцца усё, пу́хнуць но́гі.* Савінічы.

**РАСЦІРА́ЦЦА** *зак.* Разгубіцца. *Ба́ба расціра́лася і спужа́лася.* Багданава.

**РАСЦІРА́ЦЬ** *незак.* Расціраць. *Ня бу́дзіць я́блык. Я сама́ зніма́ла і расціра́ла* [почкі на яблыні]. *Другі́ ш рас не бу́дуць по́чкі.* Партызаны.

**РАСЦІ́ЦЦА** *незак.* Гадавацца, расці. *По́слі вайны́ расціліся дзе́ці – нічо́га ні было́.* Гарадзец.

**РАСЦЯ́ГАЦЦА** *незак.* Развязвацца, рассупоньвацца. *Ве́рхнія супо́ня наглу́ха зъвя́зваіцца, а ніжнія – не: яно́ тут ръсця́гъіцца.* Гарадзец.

**РАСЦЯ́ГАЦЦА** *незак.* Выцягвацца ад болю, ныць. *Як расця́гаецца ўсё це́ла, балі́ць – ат прагаво́ру.* Партызаны.

**РАСЦЯГА́ЦЬ** *зак.* Арыштаваць і вывезці. *Усі́х расцяга́лі і прапа́лі без ізве́сця.* Фасаўшчына.

**РАСЦЯЛІ́ЦЦА** *зак.* Ацяліцца. *Каро́ва у іх ня расцялілася.* Вялікі Азярэцк.

**РАСЦЯРО́Б** *м.* Месца, дзе расцерабілі лес, кусты; расцяроб. *Як прасе́ку рассіка́юць – э́та расьцяро́б заве́цца, на расьцяро́бі.* Кляпчэва. *У расцяро́бах я́гады, малі́на расце́ць. На ръсцяро́бах раскарчо́ўваюць.* Запруддзе.

**РАСЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *незак.* Расчышчаць ад дрэў, кустоў. *Расцярэ́блівалі лінію – я дроў купіла.* Кішуроўшчына.

**РАСЧУ́БІЦЬ** *зак.* Раскарчаваць, ачысціць ад кустоўя. *Цяпе́р усё расчу́білі* [выкарчавалі, высеклі кусты]. Багданава.

**РАСШАВАЛІ́ЦЦА** *зак.* Разысціся, узрушыцца. *Як расшаво́ліся, тады́ сваде́бную пе́сню бу́дзем пяя́ць.* Міцюкова.

**РАСШУРУДЗІ́ЦЬ** *зак.* Разабрацца, уразумець. *Я скарэ́й расшуруджу́, да́йце яго́ а́драс.* Багданава.

**РАСШЫРЭ́ННЕ** *н.* Улік па пашырэнні жыллёвай плошчы. *Ста́ла на расшырэ́нне.* Запруддзе.

**РАТАВА́ЦЬ, РУТУВА́ЦЬ** *незак.* Ратаваць. *Мы ж яго́ рутува́лі: пыд вазо́м быў.* *Улля́нка, рату́й, крычы́ць: руса́лка выла́зіць.* Запруддзе. *Я яе́ рутува́ла ад сме́рці, а яна́ барбу́ вядзе́ць.* Нямойта. *Рату́йце мяне́: як сльта́ прывіза́лась.* Серкуці. *Брат набе́х, рутува́ў яе́.* Партызаны, Фасаўшчына. ◊ РАТУ́Й МАЮ ГАЛАВУ́. Выказванне моцнага здзіўлення. *Эй-я! Рату́й маю́ гълаву́! Ён яе́ на рука́х насі́ў.* Розмыслава.

**РАТАЗЕ́Й** *м.* Разява. *Ратазе́й ён, рот разі́нуў, і яна́ звалі́лася з рук.* Фасаўшчына.

**РАТАЎЁ** *н.* Ручка (дзяржанне) у лапаце (рыдлёўцы); цаўё. *Ратаўё ў лъпа́ці ці ў шу́хлі, а ў ві́лках – віла́шнік.* Жохава. *Чырано́к ці ратаўё называ́еццa.* Вялікі Азярэцк. *У лъпа́це ръта́ўё, за што дзіржа́ць.* Заазер'е.

**РАТКА́ВЕНЬКІ** *прым.* Вельмі рэдкі. *Ратка́венькі сянні́к, дзе салóмінка яка́я прако́леццa.* Багданава.

**РАТУ́НАК** *м.* Дапамога, ратаванне. *Стральну́лі з лаку́нак, а дзе́ці! Рату́нку!* Запруддзе. *Гэ́тый саба́ка кі́даццa на ўсіх стал, а уну́чка крычы́ць: «Рату́нку!* Вялікі Азярэцк. *Крычы́ла: «Рату́нку!» а каб слязі́нка вы́йшла: се́рца акамяне́ла.* Запруддзе. *Ён як стаў іх мяце́ліць, а яны́ крыча́ць: «Рату́нку!»* Пожанькі, Каралевічы, Ульянавічы. *Крычу́: «Рату́нку!», як ста́ніць бале́ць по́чка.* Нямойта. *Ён жа крыча́ў: «Рату́нкі!» – у пазвано́чніку зру́шыліся дзі́скі.* Розмыслава. РАТУ́НАЧАК *эмац.-ацэн.* *Калі́ відзюць ваўко́ў, про́сяць рату́начку, у вёдры бърабаняць.* Гарадзец. *Прашу́ рату́начку: «Та́нічка, ба́цька ўміра́іць!»* Фасаўшчына. *Усе́ лі́чычка, усе́ во́чачкі гарэ́лыя, рату́начку про́сіць.* Багданава. *Як ля́гу спаць, прашу́ рату́начку.* Леснікова. *Про́сіць кот рату́начку і са шпо́рамі прышо́ў.* Ульянавічы.

**РАЎ-МЕТР, РАЎ-КУБАМЕ́ТР** *м.* 1. Адзінка вымярэння дроў. *Раў-кубаме́тр – е́та во́сімдзісят на во́сімдзісят.* Фасаўшчына. 2. Колькасць дроў у раў-метрах. *Даю́ць дро́вы, пяць раў-ме́траў даю́ць.* Нямойта.

**РАЎНАВА́ЦЬ** *незак.* Раўняць, выпрамляць. *У Віцепска жэсць раўнава́ў.* Вялікі Азярэцк.

**РАЎНІ́ВЫ** *прым.* Раўнівы. *Як раўні́выя, чуць тро́шку, дык раўну́юць.* Міцюкова.

**РАЎНУ́Я** *дзеепрысл.* Не тут кажучы. *Ні раўну́я тут у ха́ці. Як у гэ́тым ву́глу страла́ ляце́ла і забі́ла.* Багданава.

**РАЎНЯ́ЦЦА** *незак.* Выпрамляцца. *Так хо́дзіць сагну́ўшыся, а як ён прые́дзіць, раўня́іцца.* Міцюкова.

**РАЎЦІ́, РАЎСЦІ́** *незак.* 1. Рыкаць. *Каро́вы ідýць с по́ля – раву́ць.* Гарадзец, Партызаны, Закур'е. 2. Вішчаць. *Сві́нні раву́ць.* Вялікі Азярэцк. 3. Моцна плакаць, крычаць. *Гэ́та жэ́ншчына – чараўні́ца. Тры дні памі́ра́ла – раўла́, як каро́ва.* Партызаны. ◊ РО́ВАМ РАЎСЦІ́ (РАЎЦІ́). Вельмі моцна раўці, плакаць. *Я вабшчэ́ раўла́ ро́вам.* Розмыслава. ◊ НЕ́МА РАЎСЦІ́ (РАЎЦІ́). Тое ж. *Не́ма раве́ць каро́ва, на́да вады́ куды́ схадзі́ць: ей паддзе́лана.* Каралевічы, Вялікі Азярэцк.

**РАЎЧЫ́НА** *ж.* Вялікі і глыбокі роў. *Така́я раўчы́на, пръва́ліна ткая́.* Вялікі Азярэцк.

**РАХУ́НАК** *м.* 1. Рахунак у банку. *На раху́нку ма́ла гро́шай.* Кляпчэва. 2. Выгада, сэнс. *Німа́ раху́нку тут што стро́іць. Німа́ раху́нку абе́даць: два рублі́ абе́д – рубль заро́біш.* Буй.

**РАЦІ́ВЫЙ** *прым.* 1. Натурысты (пра каня). *Конь рацівый.* Міцюкова. 2. Ахвочы, ахвотнік. *Я на яе́* [выпіўку] *не рацівый.* Міцюкова.

**РАЦЫЁН** *м.* Пасылка (з харчовымі, прамысловымі таварамі) як знак пасляваеннай дапамогі. *Пóслі вайны́ рацыёны Амéрыка нам прысылáла. І мне што пóмачы дáлі – шáпку с пярóм. А у мянé сарóчкі ні былó.* Нямойта.

**РА́ЦЫЯ** *ж.* Радыяцыя. *Íлі рáцыя к нам пъпáла.* Леснікова.

**РАЦЭ́П** *м.* Рэцэпт. *Вóзьмеш рацэ́п, а зéлля, кáжуць, нямá.* Запруддзе.

**РАЦЬКО́ЎНІК** *м.* Бацвінне рэдзькі; радзькоўнік. *Рацькóўнік крышы́лі і вары́лі пасля вайны́.* Рэчкі.

**РАЧАНЦЫ́** *мн.* Час, тэрмін ачышчэння пасля нараджэння жывёлы. *Радзíўся цялёнак, німá ямý яшчэ́ дзвінáццаць дзён, яшчэ́ ні атышлí ръчанцы́.* Фасаўшчына.

**РАЧА́ТКА** *ж.* Дрыгвянае глыбокае месца. *Ръчáтка тъкáя, як я́мъ. Стáнеш, так увáлісся, там дрыгбá тъкáя.* Запруддзе.

**РАЧНЫ́** *прым.* ○ РАЧНЫ́ БЫК. Птушка бугай. *Рачны́ бык, у ягó дзю́ба длінныя і пу вадзé тырр... гу-гу-гу* [такі атрымліваецца гук]. Сянно.

**РАЧУ́ЛАЧКА** *ж.* Невялічкая рэчка. *Рачýлъчка ў Зямкóві булá, то я там рас вужá вы́цігнуў.* Алексінічы.

**РА́ЧЫКІ** *мн.* Драсён (расліна). *Рáчыкі смóргалі. У іх сéмечкі, як кóцікі. Па асéліцах, па нізкіх мясцáх.* Чуцькі.

**РАША́ЦЬ** *незак.* Вырашаць. *Сáмі далжны́ рашáць.* Ульянавічы.

**РАШО́ТКА** *ж.* Ядомы губчасты грыб карычневага колеру; рашэтнік. Сянно.

**РАШО́ТКА** *ж.* Жалезная насечка на аглоблі, дзе замацоўваецца атоса. *За рашóтку зачэ́пляецца атóса.* Гарадзец, Гарадок.

**РАШО́ТКІ** *толькі мн.* Вялікая Мядзведзіца (?); група зорак, аб’яднаных агульнай назвай. *Як вýтра, арынцíруйся на Рашóткі, на кýчку мéлкіх зóрык, і аднá так.* Багданава.

**РА́ШПІЛЬ** *м.* Напільнік з буйна насечанымі зубчыкамі; рашпіль. *Рáшпіль – плóскі і шурпáценькі. Як плух заржавéіць, чы́сціла ім.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**РАШПІ́ЛЬКА** *ж.* Расшпільванне; так, каб расшпільвалася і зашпільвалася адзенне. *Кóфты ні дзéлалі на рашпíльку.* Леснікова.

**РАШПІЛЬНЫ́** *прым.* Які расшпіляецца. *Пінжáк – ён рашпільны́, світар засягіваіцца.* Нямойта.

**РАШТВО́, РАШСТВО́, РАДЗІСТВО́, РАЖДЗЯСТВО́** *н.* Раство, Нараджэнне Хрыстова. *Рашствó бывáла тры дні.* Карпавічы. *Кълядьі на Раштвó.* Багданава. *Раштвó і Кълядьі завéцца.* Ракаў Засценак. *К Радзіствý тáтка лáпці сплёў мне.* Заазер’е. *Раждзяствó пéрвая, Хрышчэ́нне за ім.* Багданава.

**РАШТО́ЎСКІ** *прым.* Які мае адносіны да Раства. *На трэ́ці раштóўскі дзень прышлá.* Ракаў Засценак.

**РАШЧАПІ́ЦЦА** *зак.* Раскалоцца. *Во палáначкі рашчапíліся. Э́та крýпы палáлі.* Кляпчэва.

**РАШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* Адчыніць. *Паліцáй прыклáдам дзвéры рашчапíў.* Нямойта.

**РАШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* 1. Раскалоць. *Рашчэ́пюць гэ́ту плáшку, апчэ́шуць.* 2. Рассячы, раструшчыць (пра косць). *Нагý рашчапíла даскóй.* Ракаў Засценак.

**РАШЧАПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Дзяліць на часткі. *Скíбачку рашчапляю, а ня есць.* Партызаны.

**РАШЧА́СВАЦЦА** *незак.* Расчэсвацца. *Дзéўкі, ні ръшчáсвайцеся, бо кýры грáды пъграбýць* [было традыцыйнае свята, калі нельга было расчэсвацца]. Багданава.

**РАШЧА́СЫВАЦЬ** *незак.* Расчэсваць. *Куўтуны́ нільзя́ рашчáсываць.* Нямойта.

**РАШЧАЧЭ́НІЦЦА** *зак.* Ачомацца, ачухацца. *Ні даў рашчачэ́ніцца паліцáю. Ён стýкнуў ягó і не дáўшы ямý рашчачэ́ніцца, шчэ рас стýкнуў.* Нямойта.

**РАШЧЫ́НА** *ж.* 1. Рошчына. *Рашчы́на – хлеб рашчыня́ць. Пякéш хлеб – рашчы́на аставáлася.* Дуброўкі. *Ты ш там пакінь на рашчы́ну, каб ні высыхáла дзéшка. Такі камóк, як у рукý ўзяць, пакідáлі цéста гэ́та.* Серкуці. *Як пірагі, хлеп печ, рашчы́ну рóбім.* Вялікі Азярэцк. *Рашчы́ны трóху астыўля́лі. Рашчы́ну астаўля́лі, штóбы квась былá.* Дольдзева. 2. Страва, прыгатаваная з выкарыстаннем рошчыны. *А тады́ рашчы́ны ў чугунóк і вады́, і закіпіць. А тады́ цыбýлі туды́, часнакý туды́, укрóпу туды́.* Багданава. РАШЧЫ́НКА *памянш. Рашчы́нкі астаўля́лі.* Карпавічы, Міцюкова, Нямойта.

**РАШЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* Адчыніць. *Рашчыніла дзвéры і крычý: ратýйце, бáбу дýшыць той п'я́ны!* Каралевічы.

**РАШЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* Рашчыніць, учыніць (цеста). *Бліны́ рашчынілі. Хлеп ръшчыніла нъзáўтра.* Каралевічы.

**РАШЧЫНЯ́ТЫ** *дзеепрым.* Рашчынены, учынены (пра цеста). *Рашчыня́тая мукá укýсная.* Партызаны.

**РАШЧЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Адчыняць. *Кóмін рашчыня́ў і ў кóмін нéшта варажы́ў.* Кляпчэва.

**РАШЧЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Рашчыняць, учыняць (цеста). *Мáма бýлкі ў начы́ўкъх ръшчыня́ла, і яны́ там пътхадзілі.* Запруддзе. ◊ РАШЧЫНЯ́ЦЬ КÁШУ. Разблытваць якую-н. складаную, клопатную ці непрыемную справу. *Як зачыніў, хай так і рашчыня́іць гэ́ту кáшу.* Багданава.

**РАШЧЫ́ПТЫ** *прым.* З прарослымі расткамі. *Рашчы́птая бýльба ранéйшая, расткі папускáла бéлые. Хай трóхі засінéецца, крапчэ́йша бýдзіць.* Нямойта.

**РАШЧЫТÁЦЦА** *зак.* Расстацца. *І с карóвай рашчытáцца ні магý: як бізь яé?* Івоні.

**РАШЧЫ́ТВАЦЬ** *незак.* Разлічвацца, аплачваць працу. *Пастухá рашчы́твалі: наймáлі, а ўвóсінь рашчы́твалі па поўпýда хлéба і два пуды́ бýльбы.* Чуцькі.

**РАШЧЭ́САЦЬ** *незак.* Расчэсваць. *Я сяджý рашчэ́сью въласы́.* Кішуроўшчына.

**РАШШАШЭ́ЦЬ** *зак.* Разбалавацца (пра дзіця). *Ръшшашэ́ла ты ў дзярэ́ўні, Кáця.* Партызаны.

**РАШШЧЭ́ПЛІНЫ** *дзеепрым.* Адчэплены, незачынены. *А хай рашшчэ́пліна бýдзіць.* Запруддзе.

**РАШШЫБІ́ЦЦА** *зак.* ◊ ХОЦЬ РАШШЫБІ́СЯ. Нягледзячы ні на якія старанні, намаганні; што ні рабі (не атрымліваецца што-н.). *У кагó поўнадзéла* [палова надзелу – участак зямлі, не дастатковы для таго, каб весці гаспадарку і жыць заможна], *хоць рашшыбíся ты, еш – лáпу ссі.* Чуцькі.

**РАШЫ́ЦЦА** *зак.* Адважыцца, надумацца. *Ръшы́лася, паéхала ў нéйкі гóрад.* Запруддзе.

**РАШЫ́ЦЬ** *зак.* Расходаваць, патраціць. *Ты ўсе грóшы, дачýшка, рашы́ла сваé.* Запруддзе.

**РВАНУЦЬ** *зак.* Лінуць, паліцца. *З вéны як рванýла натурáльная харóшая кроў.* Нямойта.

**РВАЦЬ** *незак.* ◊ НА ХАДЎ ПАДМЁТКІ РВЕЦЬ. Вельмі знаходлівы, спрытны, лоўкі ў сваіх справах, учынках і пад. *Ну і злóдзей жа ён, на хадý падмёткі рвець.* Партызаны.

**РВО́ТЫ** *мн.* Ірвота. *Рво́ты былі ад дурні́ц ці ад ба́гану. Дык у кано́плі кла́лісі.* Багданава.

**РЖАВЕ́ЛЫ** *прым.* Іржавы. *Жэсць ржаве́лая там, дзе па́мітнік стаі́ць.* Леснікова.

**РЖА́ВЫ** *прым.* Пад колер іржы. *Мацер'я́л ржа́вага цве́ту.* Запруддзе.

**РЖЫ́ШЧА** *н.* Астаткі сцяблоў ад зжатага збожжа на полі; іржышча. *Ржы́шча высо́кае, няро́ўнае, за то́е, што заём бальшы́* [*заём* – шырыня жаткі ў камбайна]. Самсоны, Міцюкова.

**РЖЭ́ННЕ** *н.* Тое ж. *Як сажне́ш жы́та – ржэ́нне.* Міцюкова.

**РЗАЦЬ** *незак.* Іржаць. *Даўно́ рзуць ко́ні.* Баравікі. *Нъ ляпу была́ надзе́та абръця́, каб конь ні рза́ў.* Міцюкова.

**РОГ** *м.* 1. Рог (жывёлы). *Бальшэ́і ласі, жо́ўта-рыжува́тыя, ро́гі ду́жсыя, большэ́й зу́бы на іх, як па́льцы.* Багданава. *Лъба́тая каро́ва бяз рог. Яна́ ні прывы́кшы ў ста́дзі хадзі́ць.* Гарадзец. *Каро́ва перавярну́лася, і рог той у зе́млю.* Запруддзе. 2. Зуб у вілах. *Ві́лкі дзірвя́нныя нъ два рагі́, і́мі растрасу́ць сало́му* [у час малацьбы]. Цясішча. 3. Вусікі ў смаўжа. *Дай ро́гі на піро́гі* [пра смаўжа]. Фасаўшчына. 4. Рабочая частка сахі, плуга. Вялікі Азярэцк.

**РОД** *м.* 1. Род, радня. *Я й ро́ду вялі́кага, атца́-ма́ці нібага́тага. / Жы́ла ўдава́ пракрасі́ва. / Дзе́вяць сыно́ў спарадзі́ла, дзіся́ту дачку́ Насту́лечку* (з песні). Буй. *Каб ні ста́ла твайго́ ро́ду!* (праклён). Запруддзе. *Пе́сня пра то́е, як з ро́дам мы хъращо́ жывём.* Серкуці. *Можа з і́хняга ро́ду аста́ўшыся.* Чуцькі. 2. Быць ураджэнцам якой-н. мясцовасці. *Дзе я ро́ду была́, там тургува́лі кра́май.* Нямойта. ◊ АТ РО́ДУ. Ад нараджэння. *У маёй ма́мы ат ро́ду дзе́сяць дзяцёнкаў было́, а палаві́ну у́мерла.* Самсоны. *Я ат ро́ду жы́зні ня відзі́ла сто́лькі наро́ду.* Нямойта. ◊ НА РАДУ́. Тое ж. *У мяне́ на раду́ адзі́н сын.* Баравікі. *У ма́мы было́ на раду́ во́сьміра. У ма́мы было́ на раду́ адзі́наццаць дзяцёнкаў.* Дуброўкі. *Адзі́н сын на раду́.* Неўгадава. ◊ НІ РО́ДУ НІ ПЛО́ДУ. Нічога; нікога з родных, сваякоў (няма, не засталося). *Е́сітка такі́я ха́ты, што ні ро́ду ні пло́ду.* Вялікі Азярэцк.

□ *Што на раду́, то на вяку́.* Савінічы.

**РО́ДАМ** *прысл.* Родам, па паходжанні. *Ён ро́дам ні ат'е́туль.* Фасаўшчына.

**РО́ДЗІЛКА** *ж.* Гірса (пустазелле). *Е́лі хлеп з ро́дзілкъй.* Дуброўкі.

**РО́ДЗІЛЬНЫ** *прым.* З дабаўленнем гірсы (пра хлеб). *Хлеп ро́дзільны мужукі́ е́лі.* Дуброўкі.

**РО́ДЗІНА** *ж.* Радзіма, бацькаўшчына. *Ён з ро́дзіны мае́. Прыду́ туды́ на ро́дзіну, паздараве́ю.* Багданава. *Я ў дзярэ́ўні тут і радзі́лася, е́та ро́дзіна мая́.* Леснікі, Партызаны.

**РО́ДНЫ**, **РО́ННЫ**, **РАДНЫ́** *прым.* 1. Родны, які знаходзіцца ў кроўнай роднасці. *І ма́ма ро́нная была́.* Вялікі Азярэцк. *Гэ́та яе́ ро́нная сістра́ з Кастры́ прышла́ ў го́сці.* Дуброўкі. *Дачу́шка мыя́ ро́дныя!* Міцюкова. 2. *мн.* Радня, сваякі. *Е́та мае́ радні́я.* Багданава. РАДНЮ́СЕНЬКІ, РАДНЮ́СІНЬКІ *ласк.* Даражэнькі, любенькі. *Раднюсінькі мой та́тачка! Радню́сенькі мой, – събіра́йціш усякі́я радне́йшыя сло́вы.* Міцюкова.

**РО́ДЫ** *мн.*, **РОД** *м.* Роды. *Ма́ці умярла́ з ро́даў.* Розмыслава. *А з ро́ду сістра́ памёрла, грудзі не пасса́ў.* Цясішча. *Я з ро́ду была́, і мяне́ ні пуска́лі.* Фасаўшчына.

**РОЖ** *ж.* Жыта. *А мы ў ро́жы сядзі́м, слу́хаім.* Жохава.

**РО́ЖА** *ж.* Рожа (хвароба скуры). *Ад ро́жы нъга́ была́ чо́рная.* Апечкі. *То ў руцэ́, то ў назе́ была́ ро́жа.* Багданава, Нямойта. *Ро́жа ў свіне́й, пя́тны по́йдуць, бугры́ таке́я. Бугры́ кра́сные по́йдуць, пя́тна – то ро́жа.* Вялікі Азярэцк, Буй. *Ро́жа*

*ўскінулася, загавóрвалі ад рóжы. Рóжай свінні хварэ́юць.* Гарадзец. *Рóжа буваíць, бáбы лéчаць. На ліцы́, на нагé буваíць.* Баравікі, Партызаны. *Рóжа ў ліцы́ ат пры-гавóру, ат сурóцы. Гэ́та загавóрвалі, і пóмач былá.* Ракаў Засценак. *Рóжа! Ай, хай янá на сухí лес ідзéць!* (з замовы). Сукрэмна. ○ ВАДЗЯНА́Я (ВАДЗІНА́Я) РÓЖА. Від рожы. *Рóжу загавáрваюць. Усякае назвáнне ей: і вадзянáя, і паравáя.* Нямойта. *У мяне́ былá вьдзінáя рóжа, з вады́.* Партызаны. ○ ПАРАВА́Я РÓЖА. Тое ж. Нямойта. ○ ПАЎЗУ́ЧАЯ РÓЖА. Тое ж. *Паўзýчая рóжа есь.* Манголія. ○ РÓСНАЯ РÓЖА. Тое ж. *У мяне́ самóй былá рóсная рóжа. Ай! Скóлькі я пахадзíла, я дý-мала – памрý.* Запруддзе. ○ УРÓЧНАЯ РÓЖА. Тое ж. *Як рóжа, да бáбі хадзíлі. Урóчная рóжа і так. Аднá як загавóрыць, спаць хóчыцца. А да другóй – рвець усё. Рóжу бáба загавóрвала. І ўрóчная былá рóжа.* Багданава. *Урóчная рóжа – аш сíняя нъгá – рвець. Загавáрвалі рóжу.* Партызаны.

**РÓЖДЗІНЫ, РÓЖДЗІНЫЙ** *дзеепрым.* Народжаны. *Ён сам рóждзіный у Стърасéллі, а тут жывéць.* Міцюкова. *Я рóждзіны ў Вялíкім Сялé, а пръжываю ў Міцюкóві, ў дачкí.* Міцюкова.

**РÓЗАВІНЬКА** *прысл. ласк.* Ружовенька. *Шымпіёны. У йіх пыд нізóм рóзъ-вінька, а звéрху бéла. І такéй парóй* [чэрвень] *пыйíўляюцца.* Латыгаль.

**РÓЗВАЛІ, РÓЗВАЛЫ** *толькі мн.* 1. Выязныя сані. *Былí сáні – рóзвълі, éздзіць нъ бъзáр.* Гарадзец. 2. Рама з трох жэрдак, якая кладзецца на сані для большай умяшчальнасці; развалкі. *Рóзвалі к э́цім сáнкам.* Леснікова.

**РÓЗГАРАДЗЬ** *ж.* Разгароджванне плота як спроба пазбавіцца ад граху. *Хоць і дзéлуў, гърадзíў, то ў пънядзéлък былá рóзгъръдзь, нічóга табé ня бýдзіць* [можна для спробы разгарадзіць кавалак агароджы]. Партызаны.

**РÓЗГАРЫ** *мн.* Апошні дзень русальнага тыдня, у які неабходна што-н. рассячы. *На рóзгары сякýць галéнь абó тры лазíны.* Партызаны.

**РÓЗГІ** *мн.* Розгі, дубчыкі. *Дзéда майгó яшчэ́ рóзгамі сéклі.* Вялікі Азярэцк.

**РÓЗНА** *прысл.* Асобна. *Кладзíця шáпкі рóзна.* Каралі.

**РÓЗНІЦА, РА́ЗНІЦА** *ж.* Розніца. *Рóзніца, што адзíн грып лýпіцца, а другí не.* Алексінічы. *А рáзніца бальшáя срадзí ніх.* Запруддзе.

**РÓЗНЫ** *прым.* Розны. *Пáціпнік рóзны там расцéць.* Гарадок.

**РÓЗУМ** *м.* ◊ НА <ЦЯПЕ́РАШНІ> РÓЗУМ. Разважаючы цвяроза, разумна. *На цяпéрашні рóзум вынуў бы ўсе.* Апечкі.

□ *У старóга рóзум пъпълáм з навóзам.* Багданава, Буй, Запруддзе, Каралевічы, Самсоны, Закур'е. □ *Рóзум – не кулéш: у гълавý ні валлéш.* Ульянавічы.

**РОЙ** *м.* 1. Пчаліны рой. *Палавíна раяí на íск ляцíць.* Вялікі Азярэцк. *Рой бýдзе атхадзíць, рой гудзíць і ляцíць.* Закур'е. *Пчóлы на тры раí давáлі.* Партызаны. 2. Пра нешта ў выглядзе клубка. *А ў нас каля кóміна, як рой, звілíся* [прусы]. Багданава.

**РÓЙЛА** *н.* Беспарадак, вэрхал. *Хай у мяне́ хоць рóйла, а я ідý на рабóту.* Чуцькі.

**РÓСКАШ** *ж.* 1. Раскоша, багацце. *З бальшэ́й рóскашы так дзéлаюць.* Баравікі. 2. Радасць, дабро. *Рóскашы ні грáма ня вíдзіш – гóра і гóра.* Запруддзе. 3. Вялікія магчымасці, прыдатныя ўмовы. *Цяпéр рóскаш дзяцём.* Заазер'е. *Цяпéр гудувáць дзяцéй – рóскаш.* Чуцькі.

**РÓСЛЫ** *прым.* Высокі. *Былá пóлная нявéстка, рóслая.* Цясішча.

**РÓСЛЫ** *прым.* Зроблены з прарослага (з расткамі) зерня. *Рóслая мукá – і хлеб ацéслівы.* Міцюкова.

**РО́СПІСЬ** *ж.* Подпіс. *Сабра́лі ро́спісі, бу́дуць цэ́ркву ла́дзіць.* Буй.

**РОСТ** *м.* Рост. *Ма́лец і ро́сту бальшо́га і красі́вы.* Запруддзе.

**РО́СТВА** *н.* Радня, сваякі. *Там у Бугушэ́ві было́ ў яе́ ро́ства.* Галашчакіна.

**РО́СЦВЕННІК, РО́СВЕНІК** *м.* Тое ж. *Пайшла́ к ро́сьцьвіннікам прасі́ць бу́льбы, а яны́ мне пацяро́бак да́лі дзіцянёнку.* Заазер'е. *У каго́ какія ро́сьцьвеннікі ёсь, у каго́ – сасе́дзі. Прасі́лі, пъмага́лі.* Самсоны. *Ё, што ро́сьвенікі есь, а ё, што і німа́.* Буй.

**РОТ** *м.* Рот. *Раты́ пъразі́нуць ад дзі́ва.* Заазер'е. *Каб зу́бы скрозь ро́ты вы́сыпаліся.* Запруддзе. РАЦЁНАК *памянш.-ласк.* *У рацёнак уто́ркніш хлеб – заняўся, не пла́чыць, на́да ж ро́біць. У рацёнак уто́ркніш со́ску – ні пла́чэць, ну й харашо́.* Цясішча.

**РОЎ** *м.* Роў, канава. *Ста́рыя равы́ былі́, въда́ вясно́й зъхадзі́ла.* Багданава. *Каро́вы ў ро́ві хо́дзюць.* Гарадок. *У раву́ тут прыхадзі́лі късаны́.* Латыгаль. *І ко́ні і паво́скі ляцэ́лі ў роў: гъра́ вялі́кая была́.* Серкуці. РАВО́К, РАВО́ЧАК *памянш.* 1. Невялікі роў. *Пусці́ каро́ў пы раўку́! Во! То ня хо́дзюць, а ў авёс увырва́лісі.* Баравікі. 2. Канаўка для затрымання вады. *Раўкі́ падзе́лаіш, кап въда́ была́.* Запруддзе. *Раво́к як жо́лап.* Нямойта. 3. Паглыбленне для пасадкі. *Сухі́мі пакіда́ла гуро́чкі ў раўкі́. Сухо́е насе́нне пакіда́ла ў раво́чак, палі́ла́, закры́ла плёнкай.* Партызаны.

**РО́ЎНА** *прысл.* 1. Аднолькава. *Ро́ўна ш ніхто́ ні жыве́ць.* Марозаўка. 2. Якраз, дакладна. *Ро́ўна пад кане́ц ма́рта развё́ддзе.* Дуброўкі. РО́ЎНІНЬКА *памянш.-ласк.* 1. Гладка. *Што́бы ні было́ э́тай я́мкі, што́бы было́ ро́ўнінька такса́ма.* Гарадзец. 2. Раўнамерна, роўным слоем. *Каб ро́ўнінька гной па зямлі́ ляжа́ў.* Багданава.

**РО́ЎНІЦЫ** *мн.* Равеснікі. *Як ро́ўніцы мы, тады́ гавары́ць мо́жна.* Багданава. *Мы з ёй пасці́ ро́ўніцы.* Баравікі.

**РО́ЎНЫ** *прым.* 1. Прамы. *Тут ру́бяць, каб уго́л быў ро́ўны.* Дольдзева. 2. Аднолькавы. *Лес няро́ўны і лю́дзі няро́ўныя.* Кляпчэва. *Я німълъда́я і ён – ро́ўныя събра́ліся.* Рэчкі.

**РО́ХАЦЬ** *незак.* Рохкаць. *Свінні ро́хаюць.* Вялікі Азярэцк. *Кнуро́ў хо́чыць свіння́, ро́хаіць, ня есь.* Станюкі.

**РО́ХЛЯ** *ж. эмац.-ацэн.* Вельмі неахайны, неакуратны. *Во хадзі́лі ро́хлі!* Савінічы.

**РО́ШЧА** *ж.* Гай. *Памі́ж ро́шчай къна́ва.* Фасаўшчына.

**РУ́БАЛЬ, РУП** *м.* Рубель (грашовая адзінка). *Пръдала́ цімафе́еўкі па паўтара́ рубля́ пуд. Уне́рат у Ві́цебск на ко́нях вазі́лі – тры рублі́ заро́бяць.* Багданава. *І ты ру́бъль сем, і я ру́бъль сем, трэ́цій к нам ру́бъль сем – і мы п'я́ныя саўсе́м* [пра мужчын, якія рабілі складчыну на траіх, каб купіць паўлітровую бутэльку гарэлкі пры кошце яе тры рублі дваццаць капеек]. Дуброўкі. *Адзі́н руп бра́ла с кваці́ра́нта.* Чуцькі.

**РУБА́НАК** *м.* Сталярны інструмент у выглядзе калодкі з шырокім лязом для стругання драўніны; рубанак. *Руба́нак – што чы́сцяць до́шкі на пол удваёх.* Вялікі Азярэцк. *Габёлкам пе́рвы, ве́рхні слой сніма́юць с до́скі, а руба́нкам – втаро́й слой.* Запруддзе, Гарадзец.

**РУБА́ШКА** *ж.* Сарочка, кашуля. *Мно́га пра́сці на́да і на руба́шкі. Усё було́ ручно́е: і ніз, і верх. Ні було́ ла́вашнага.* Багданава. *Дачка́ гато́ва руба́шку здзець і аддаць.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Кляпчэва.

**РУБАШО́НКА** *ж. эмац.-ацэн.* Тое ж. *Рубашо́нка на ім мо́края ста́ла.* Неўгадава.

**РУБЕ́Ц** *м.* 1. Гадавое кальцо на розе ў каровы. *Ско́лькі гадо́ў, сто́ка рупцо́ў* [на рагах у каровы]. Запруддзе. 2. Шво, рубец. *Я гляджу́ – на ёй рупцы́, аш суке́нка навы́варат.* Заазер'е. ◊ БАЛЕ́ЦЬ РУБЦО́М. Пра вельмі моцны галаўны боль. *Скарэ́й гълаву́ ўспака́йваю, рубцо́м гълава́ балі́ць, рэ́зкія бо́лі.* Партызаны.

**РУБЕ́Ц** *м.* Свіны страўнік, які выкарыстоўваецца для прыгатавання ежы. *У рубе́ц гэ́ты напіха́юць ву́шы, храшчы́, лёхкае атва́ранае. У вар – і сальцісо́н такі́.* Міцюкова.

**РУБІ́НАЧКА** *ж.* ◊ ДА РУБІ́НАЧКІ. Цалкам, поўнасцю. *Усё скі́нула с сябе́, да рубі́начкі.* Заазер'е.

**РУБІ́ЦЬ** *незак.* Будаваць, ставіць. *Рубі́лі ў сцяну́, палуча́іцца харо́шы дом.* Багданава. *Ён сам і рубі́ў, сам і мшыў.* Кішуроўшчына. *Пло́тнікі яны́ зва́лісі. Рубі́лі ха́ту.* Нямойта. *Рубі́лі амба́р, за́сікі дзе́лалі.* Фасаўшчына.

**РУБІ́ЦЬ** *незак.* Падрубліваць, падшываць (край тканіны). *У ваччу́ шэ́рань, ачкі́ адзе́ну, пагляжу́: а як жа э́та я рубі́ла?* Запруддзе. *Пла́ціца я рубі́ла яшчэ́ ў Гро́дні.* Міцюкова. *Ніс рубі́лі* [у спадніцы]. *Шшы́іш і зару́біш.* Турава.

**РУБЧА́СТЫ** *прым.* Зубчаты, з выступамі. *Кача́лкі рубча́стъя і кру́глъя былі́.* Запруддзе.

**РУГА́ЦЦА** *незак.* Лаяцца, сварыцца. *Ён ня бу́дзіць руга́цца.* Багданава. *Нікагда́ ні руга́ліся, а тукды́ далей – і б'ю́цца, і руга́юцца.* Заазер'е. *Кап ня со́рылісі, ні руга́ліся, каб адзі́н аднаго́ уважа́лі, дру́жна жылі́.* Запруддзе. *Ну, ён увідзеў, паліца́й, і стаў руга́цца. Мы за пяць гадо́ў нікагда́ ні ръга́лісі.* Леснікова.

**РУГЛІ́ВЫ** *прым.* Лаянкавы, брыдкі (пра слова). *Руглі́выя славы́ Ма́нька гаво́рыць.* Заазер'е. *Руглі́въя сло́ва – бля́ха.* Запруддзе.

**РУГНУ́ЦЦА** *зак.* Аблаяць. *Ні ругне́цца, дак так прыдзярэ́цца.* Каралевічы.

**РУГНУ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Ста́лі яму́ дъка́зваць – ён яму́ ругну́ў.* Каралевічы.

**РУГНЯ́** *ж.* Лаянка, сварка. *Павізла́ ў бальні́цу апя́ць мацъ. Ні ў како́е браць – до́ктар у ругню́ пусці́лася.* Нямойта. ◊ РУГНЯ́ ДА ПАРО́ГА. Пра крыўду ці сварку, якая хутка праходзіць, забываецца. *На́ша ругня́ дъ паро́га.* Заазер'е.

**РУГУВА́ЦЬ** *незак.* Рохкаць. *Свіння́ ругу́ець у хле́ві, падло́гу ўзарве́ць. Надае́ла – воўк цябе́ хай парве́ць.* Багданава.

**РУДА́** *ж.* Гной з раны. *Падаро́жнік, е́слі бо́лька, нары́ў, змыў мы́лам, прыкла́ў – ду́жа выця́гваіць руду́, грась.* Сукрэмна.

□ *Руда́ бядзе́ не по́мач.* Каралевічы.

**РУЖАВЫ́** *прым.* Дзікарослы, нясеяны (пра сена). *Ружаво́е се́нца дро́бнінькае, гэ́та аве́ччае се́на, паху́чае, як чай.* Багданава.

**РУЖЖО́** *н.* Стрэльба. *Ба́цька за ружжо́ схапі́ўся.* Ульянавічы.

**РУЖО́НЫ** *прым.* Узброены. *Ружо́ных было́ мно́га іх* [пра немцаў]. Багданава.

**РУЙНУВА́ЦЬ** *незак.* Раўнаваць, рабіць роўным. *І шчо́ткай дзіръвя́ннай падбіва́лі, руйнува́лі* [салому]. Серкуці.

**РУКА́** *ж.* Рука. *Рука́ забале́ла ў сы́на, ад рукі́ памёр.* Рэчкі. *Як рука́ разо́йдзецца, канцы́, што наза́д іду́ць ні́ткі, як тчэш кро́сны, канцы́ тэ́я абвя́зваеш.* Самсоны. *Цэ́лы гаро́т на адны́ ру́кі.* Кішуроўшчына. *Рука́мы жа́лі, сярпо́м.* Сукрэмна. *Цяпе́р жа рука́мі не бяру́ць* [лён]. *У ру́кі жа́лі сярпо́м. Цяпе́р жа ў ру́кі ня жнуць.* Гарадзец. *У нас у ру́кі рэ́зьлі до́шкі.* Багданава. *Ай, і ў ру́кі кру́ціл лён. У ру́кі малаці́лі лён. І авёс, і ячме́нь, і жы́та – усе́ ў ру́кі.* Запруддзе. *Во ў ру́кі так во трэш*

*лён.* Заазер'е. *У рукі шые ці на машынку?* Багданава[1]. ◊ ПАЙСЦІ З РУКІ. Прадаць. *Цялушка – лета і зіму і на тоя лета пъкрываійцца – пашла з рукі: на сіськъх мазалі паявілісі, гузкі у сярэдзіні.* Неўгадава. ◊ РУКІ АПУСЦЯ́. Няўважліва, без належнай стараннасці. *За ўсім лўччы сматрэлі раньшэ, а цяпер рукі апусця смотраць.* Цясішча. ◊ ЗАЛАТЫЯ РУКІ. Пра вельмі ўмелага і здольнага ў сваёй справе чалавека. *А ў Васі рукі зълатыя.* Нямойта. ◊ ЛЁХКАЯ РУКА́. Пра таго, хто прыносіць шчасце, поспех, удачу. *З лёхкай рукі зажыналі, у каго лёхкая рука – зажынала.* Запруддзе. ◊ НА РУ́КІ. Здольны на многае, здатны да ўсяго. *Ён так на рукі: і касу возьміць, і на канбайн.* Багданава. ◊ РУКА́ РУКУ́ МЫ́ЕЦЬ. Аб адносінах людзей, калі яны пакрываюць дрэнныя ўчынкі адзін аднаго. Вялікі Азярэцк.

□ *Рукі сваé – усё на сталé.* Міцюкова. □ *Дзéла мазóліць рýкі. Дзéла рýкі мазóліць біс канцá.* Ульянавічы.

**РУКАВІ́ЦЫ** *мн.* Рукавіцы. *Рукавіцы звязала красівыя.* Заазер'е.

**РУКАДЗЕ́ЛЛЕ** *н.* Усё, што зроблена рукамі. *Ай, дылі, вы, дылі! / А што ў гэтай скрыні? / Ці кірпіч, ці каменнія? / Ці сваё рукадзелля?* (з песні). Багданава.

**РУКАДЗЕ́ЛЬНЫ** *прым.* 1. Самаробны, ручной работы. *Рукадзельная ўжо было даўно. І шылі, і насілі – усё рукадзельнае было.* Гарадзец. *Кружава з рукадзельных нітак. Антэну рукадзельную здзелалі.* Нямойта. *Сваё ўсё было, рукадзельнае.* Самсоны. *Былі сваé рукадзельныя ніткі.* Турава. 2. Рукадзельніца. *Баба іна рукадзельная.* Партызаны.

**РУКУЯ́ТКА, РУКАВЯ́ТКА** *ж.* Верацяно з наматанай на яго пражай; ручайка. *Дзе тая рукавятка?* Дуброўкі. *Нъпрала цэлую рукуятку.* Закур'е.

**РУ́МАН** *м.* Рамонак, рамон. *Румашкі, яны запах iмеюць, а ета руман, белы цвяток.* Кавалі.

**РУ́МЗА** *агульн.* Румза, плакса. *Румза, стыднік ты!* Савінічы.

**РУ́МЗАЦЬ, РО́МЗАЦЬ** *незак.* Румзаць. *Разрумзаўся, румзаеш, весь абрумсаўся, аппла́каўся значыць.* Савінічы. *Чаго ты ромзаіш? Ня плач, ня ромзай.* Фасаўшчына.

**РУНДУ́К** *м.* Дошкі ў ніжняй частцы калодзежа, якія закладаюцца за зруб. *Рундук у калодцы за ізруп унізў закладаюць, кап ні гнала пясок.* Нямойта.

**РУНО́** *м.* Шэрсць авечкі. *Першы рас астрых авечку – адно руно, другі рас – другая руно.* Жохава.

**РУНЬ** *ж.* Рунь, усходы. *Рунь – як пасеюць жыта, пшаніцу, авёс. Рунь нібълшая.* Гарадзец. *Узышла рунь.* Сукрэмна. *А рунь якая была!* Багданава. *Рунь краску ськінъла.* Заазер'е.

**РУ́ПІЦЬ** *незак.* Карцець, непакоіць. *Нешта рупіць, каб здаецца што дзелаць.* Запруддзе.

**РУПЛІ́ВЫ** *прым.* Дбайны, клапатлівы. *Руплівы – хто зарання ўстаець, рупны.* Заазер'е. *Матка – жэншчына ні руплівая.* Ульянавічы.

**РУ́ПНЫ** *прым.* Руплівы. Заазер'е.

**РУ́ПЧЫК** *м.* Грубая тканіна з дыяганалевым перапляценнем нітак (тканіна тыпу штроксу). *Белыя сеткі ў рупчыкі – гета купляли.* Гарадзец.

**РУРО́Н** *м.* Рулон. *Сена скътаць у рурон валкаватым, то станіць сівым, і коні ні ядуць.* Жохава.

**РУСА́ЛКА** *ж.* Русалка. *Як жыта красуіцца, то русалкі там ёсь. Русалкі ў жыце, гъварылі, а тады яны шчазаюць. Дзяцей страшылі русалкамі, каб жыта*

*ні таптáлі. Русáлка – лахмáценькі звярóк такí. Русáлкі плóдзіліся: з зямлí ш ня вóзьміш.* Гарадзец. *Русáлка, кáжуць, бывáіць у жыце. У русáлкі валасы распýшчаны.* Запруддзе. *Бувáла стрáшылі: не хадзіце ў жыце, там русáлкі дýжа валасы распýсцяць абы-як.* Марозаўка. *Як красýецца жыта, тады русáлкі.* Ракаў Засценак. *Пáльцы длíнныя ў руках у русáлкі.* Ульянавічы. *Бувáла, русáлкі былí як нячыстая сіла.* Фасаўшчына. *Па лісáх маладэ́я русáлкі.* Багданава. *Назвáння Хрыстынка пад Рýдню, там русáлка зыдушыла Хрыстынку.* Вялікі Азярэцк. *Русáлкі былí. Éта бáбы раздзівáліся гóлыя і бягýць.* Багданава.

**РУСÁЛЬНІЦА** *ж.* Русальны тыдзень; першы тыдзень пасля Тройцы (Сёмухі), калі спраўлялі русальныя абрады. *Русáльніца пъсля Трóйцы, русáльнъя нядзéля. На русáльніцу русáлкі ны бярэ́зіні калышуцца.* Ракаў Засценак. *Русáльніца бувáіць, то на яé, калí ўзяўся, то кап канчыў, ня мóжна гарадзíць, забівáць гвóздзя. Дзéлалі гэ́дак.* Вялікі Азярэцк. *На русáльніцу трэ́ба адзёжу на вýліцы перасýшваць.* Багданава. *У жыта на русáльніцу хадзілі.* Фасаўшчына. *Русáльніца пóслі Дýха. С късáмі бальшымі ў жыці на русáльніцу ніхтó нікóга не пускáў: ухвóціць.* Чуцькі.

**РУСÁЛЬНЫ, РУСÁЛНЫ** *прым.* Які звязаны з русальным тыднем. *Ганнэ́ча ўмéіць русáлныя пéсні пець.* Партызаны. ○ РУСÁЛЬНАЯ (РУСÁЛНА) НЯДЗÉЛЯ. Першы тыдзень пасля Тройцы (Сёмухі), калі спраўлялі русальныя абрады. *На русáльнай нядзéлі капýсту ні сóдзюць: ні расцéць* (прыкмета). Гарадзец. *Русáльная ў лéта* [летам бывае]. *Яшчэ́ жыта ні паспéла. Якрáс русáльная нядзéля былá, а мы з бáбай Мáр'яй глядзéлі цілят.* Запруддзе. *Русáльная нядзéля пóслі Дýха. Не гарóдзяць, а то мóжна загарадзíць, і жыта ня пóйдзіць расці. У áўгусце мéсяцы былá русáльная нядзéля. Жыта вазíў с пóля. «Ня вазі жыта, – мне сказáлі, – русáлкі схóпяць».* Міцюкова. *Ну, называíцца русáльная нядзéля, лéтам.* Самсоны. *Пóсле Пáсхі – русáлная нядзéля. Русáлкі па дрэ́вах прыгалі. Ніштó не дзéлалі нядзéлю.* Баравікі. *Русáлная нядзéля ёсь, калí русáлкі калышуцца у лéсі, у кустáх. Русáлка, кáжуць, лъхмáценькі звірóк.* Гарадзец. *Перат Купáлъм русáлнъя нядзéля. Русáлку гóняць у жыта, а купáлъ – у пъпáр.* Дольдзева. *На русáлную нядзéлю у лес ні йдзí: русáлкі схóпюць.* Міцюкова. *Ня шыў стáрага, ні лáпіў на русáлну нядзéлю.* Партызаны.

**РУСÁЧЫЦЦА** *незак.* Гаварыць па-руску. *Дакýль мы ўжо бýдзем русáчыцца.* Буй.

**РÝСКІ** *прым.* Рускі, але не старавер. *Нас, рýскіх, тут сямéй тры, астальныя мъскалí.* Карпавічы.

**РУСÓРЫ** *мн.* Рысоры. *Калёсы на русóрах.* Гарадзец.

**РÝСЫ** *прым.* Русы, светлавалосы. *Рýсыя валасы, доўганóсы.* Багданава. *Яны сáмі рýсыя ўсе, а нявéстка чóрнъя.* Запруддзе. *Ён цёмны ці рýсы?* Каралевічы.

**РÝТА-МЯ́ТА** *ж.* Рута (?). Багданава.

**РУЎНУВÁЦЬ** *незак.* Раўніва паводзіць сябе. *Руўнувáл яé і біўсі, дык і памёр мълады.* Багданава.

**РУХ-РУХ** *выкл.* Перадача гукаў рохкання свіней. *Éду, а свінні къпáюць бýльбу. Рух-рух – і атскóчылі.* Нямойта.

**РУЧАЁМ, РУЧЧÓМ** *прысл.* Моцным струменем. *Ручаём крыша цяклá.* Фасаўшчына. *Ідзéць кроў руччóм. Нос затóркну – ідзéць.* Манголія. *Янó руччóм бяжыць.* Кляпчэва. *Такí дождж быў, руччóм бех.* Серкуці.

**РУЧАÍНКА** *ж. памянш.-ласк.* Невялічкі ручаёк. *Ручаíнка пръцікáла ўсягдá, ў ёй былá въдá.* Мянюцева.

**РУЧА́ЙКА** *ж.* Верацяно з наматанай на яго пражай; ручайка. *Вірцяно́ с пра́жаю – руча́йка.* Рэчкі. *Нъпраду́ць на вірцяно́ – во руча́йку.* Міцюкова.

**РУЧАНІ́ЦЫ** *толькі мн.* Час, тэрмін ачышчэння пасля нараджэння жывёлы. *Дзвіна́ццаць дней нільзя́ рэ́заць цялёнка: ручані́цы ні атышлі́.* Рулёўшчына.

**РУ́ЧКА** *ж.* Рука. *Цыга́ні жаніліся нъ сваíх. Прывяду́ць за ру́чку, як су́чку.* Запруддзе. РУ́ЧАЧКА *ласк. Як забале́ла ў мяне́ ру́чачка пра́вая!* Цясішча.

**РУ́ЧКА** *ж.* Ручка, дзяржанне. *Ру́чка ў карзíне, ка́жды плёў сам сабе́.* Багданава. *У нажы́ ру́чка, ру́чка ў карзíні. Ру́чкі ў сахе́, што бра́лісі рука́мі.* Гарадзец, Манголія.

**РУ́ЧНА, РУ́ШНА** *прысл.* 1. Уручную. *А ра́ньшы усё ру́чна рабо́талі.* Багданава. *Рэ́залі ру́чна до́скі, дро́вы рэ́залі ру́чна. Мы ш ру́чна даíлі.* Дольдзева. *Сваé ўча́сткі ру́чна варо́чаюць.* Нямойта. *Трапа́лі, мя́лі ру́шна, ноч тром.* Цясішча, Ульянавічы, Чуцькі. 2. Самі, уласнымі рукамі. *Прые́халі* [немцы] *і ру́чна патпалíлі.* Багданава.

**РУЧНІ́К, РУШНІ́К** *м.* Ручнік. *Рушнíкі былí, на кут ве́шалі.* Алексінічы. *Адзія́лы, по́сцілкі, ручнíкі ткáлі.* Буй. *Рушнíкоў наткáла, пасцíлак.* Вялікі Азярэцк. *Уну́к укра́ў у мяне́ рушнíк.* Дольдзева. *Спецыя́льна былí ручнíкі, для цэ́рквы хадзíць, свяцíць.* Карпавічы. *Рушнíк на ікóнах і цяпе́р вісíць.* Нямойта. *Гэ́та рушнíкі ў во́сем нітóў.* Фасаўшчына. РУШНІЧÓК *памянш.-ласк. Вазьмí паве́сь рушнічóк.* Закур'е.

**РУЧНЫ́, РУ́ЧНЫ, РУШНЫ́, РУ́ШНЫ** *прым.* 1. Які робіцца рукамі. *Цяпе́р лёхка, не ручны́ трут, усё машы́ны.* Нямойта. 2. Які прыводзіцца ў дзеянне рукамі. *І патóм распíльваюць ручнэ́й пілóй. Адзíн стаíць навярху́, а другí ўнізу́.* Нямойта. 3. Самаробны, некуплёны. *Ра́ньшы ручнóя усё былó. Усё ручнóе: і ніз, і верх. Ні булó ла́вашнаго.* Багданава. *Адзія́лы рушны́я ткáлі.* Гарадзец. 4. Прыручаны, свойскі. *Мъя́ кóшка Му́ръчка ру́шнъя.* Каралі. 5. *н.* Саматканае, самаробнае. *Сваё ру́чнае къча́лкамі къча́лі.* Алексінічы.

**РУЧЧЭ́Й** *м.* Ручай. *З крынíцы руччэ́й цячэ́ць.* Гарадок. *Руччэ́й там бы́стры.* Машчоны.

**РУ́ШЫЦЦА** *незак.* 1. Падаць, валіцца. *Ру́шуцца дрэ́вы, та́мацька дрэ́ва на кры́шу павалíлася.* Латыгаль. 2. Прыходзіць у заняпад. *Дзярэ́ўня ста́рая, усé ва́ліцца, ру́шыцца.* Латыгаль.

**РУ́ШЫЦЬ** *незак.* Чапаць, браць (у спалучэнні з адмоўем). *Ня руш ху́стку, ге́та ба́біна, ня на́да браць* [да дзіцяці]. Нямойта. *Са́ша, ня руш! Нíчóга ня дзе́лай!* Станюкі. *Ня руш, во машы́нкай гуля́й.* Фасаўшчына. *Ку́зя, ня рух!* Багданава.

**РЫ́БА** *ж.* Рыба. *Ры́бы мно́га булó, карзíнамі лавíлі.* Вялікі Азярэцк. *У йіх каты́ ры́бы свéжыя ні яду́ць!* Сянно. ◊ НІ РЫ́БА НІ МЯ́СА. Пасрэдны чалавек, які нічым не вызначаецца. *Ні ры́ба ні мя́са ён, абы-штó.* Вялікі Азярэцк. *Паглядзе́ла, што ні ры́ба ні мя́са – і млéіць.* Міцюкова.

□ *І ры́ба б запе́ла, каб гóлас іме́ла.* Каралевічы.

**РЫБАЛÓЎ** *м.* Рачная чайка. *Рыбалóў – ча́йічкі такéя.* Сянно.

**РЫБА́ЧЫЦЬ** *незак.* Лавіць рыбу. *Сам ён рыба́чуў, а сыны́ сварылісі.* Заазер'е.

**РЫ́БІНА** *ж.* Рыба, рыбіна. *Ня йме́іш пра́ва ры́біны ўлавíць.* Багданава. *Дзет, ры́біну ўлавíў бы!* Рассвет, Вялікі Азярэцк. РЫ́БКА, РЫ́БІНКА *памянш.-ласк. Мал, ры́бка, ма́ла ваду́ замуцíла. / А я бе́дная, нешчаслíвая, / Што ягó палюбíла* (з песні). Міцюкова. *Цёплінькая ры́бінка.* Запруддзе.

**РЫ́БНЫ** *прым.* Багаты рыбай. *Яны́ ся́нні аранду́юць, то йіх былі ры́бныя азёры.* Пожанькі.

**РЫДВА́Н, РАДВА́Н** *м. эмац.-ацэн.* 1. Пра самавольнага чалавека. *Рыдва́н – такі́ чалаве́к самаво́льны, як рыдва́н.* Фасаўшчына. 2. Пра расхрыстанага чалавека. *Во радва́н пашо́ў рашпі́ліны. Адзе́жа на ім як вірцяно́м скалану́тъя.* Манголія.

**РЫ́ДЗЕЛЬ, РЫ́ДЗІЛЬ** *м.* Самаробная драўляная рыдлёўка, акаваная жалезам. *Ры́дзель дзе́лалі сваімі рука́мі з дзе́рава. А што ў зямлю – аббіва́юць жале́зам то́ўстым.* Запруддзе. *Ры́дзіль называ́лі. Тут ру́чка дзірвя́нная, лъпа́тка дзірвя́нная, накане́чнікі жале́зныя.* Манголія. *Ры́дзіль быў зале́зны, рудлёўка зва́лі то́жа, цяпе́р лыпа́та.* Нямойта. *Ры́дзілім къпа́ў канаву́.* Буй. *Ры́дзіль быў дзірвя́нны, жале́зам ако́ваны, лъпа́та така́я во́йстрая.* Жохава. *Ры́дзіль, былі ры́длі, зямлю капа́ць. Ра́ньшы былі такія ры́длі дзеравя́нъя, жале́зам ако́ўваліся, бо́льшы лъпа́ты, зямлю́ къпа́ць.* Гарадзец. *Ры́дзіль зва́лі. Абыкнаве́нная, як саво́к, жале́зам абі́та, падо́бны на шу́фель.* Сукрэмна.

**РЫДЛЁЎКА** *ж.* Рыдлёўка, лапата. *Рыдлёўка – е́та капе́ц закапа́ць.* Дольдзева. *Дзе́й-та рыдлёўка мъя́? Мне на́да ле́хі зака́павъць.* Запруддзе. *Лъпа́та, ра́ньшы зва́лі рыдлёўка.* Леснікі.

**РЫ́ЖЫ, РЫ́ЖЫЙ** *прым.* Рыжы, чырвона-жоўты (пра колер). *Рыжа́к – ры́жый. Бе́лый бува́іць, сівый, жо́ўтый.* Багданава. *У нас аднаго́ зва́лі Вус, у яго́ былі ры́жыя, закру́чыныя вусы́. Ры́жы конь све́тленькі.* Запруддзе. *Е́здзіў і на ры́жым кані́.* Міцюкова. *Ёсь конь ры́жыя ма́сці.* Сянно, Нямойта.

**РЫ́ЖЫК** *м.* Рыжык (грыб). *Узя́ў чылаве́к ры́жык, і ні расту́ць там ужо́.* Пожанькі. *Ры́жыкі со́люць.* Каралі, Багданава, Старая Беліца, Дуброўкі.

**РЫ́ЖЫНКА** *ж.* Бручка. *Ры́жынка каза́лі на бру́кву.* Алексінічы. *Там ры́жынка бру́кву заву́ць* [гаворка пра вёску Ладынец Ходцаўскага сельскага савета], *а тут німа́.* Багданава.

**РЫ́ЗА** *ж.* Адзенне святара; рыза. *Поп надзе́ў ры́зу і хадзі́ў.* Буй, Парэчча.

**РЫЗЗЁ, РЫ́ЗЗЕ, РЫ́ЗЗЯ** *н.* 1. Старое, зношанае ці парванае адзенне. *Ры́ззе на ўсё старо́е адзе́нне каза́лі. Ры́ззя тра́пашнік сабіра́ў.* Буй. 2. Старыя, зношаныя рэчы. *Рыззё – е́та дзяру́га як парве́цца.* Алексінічы. *Рыззё бра́лі, парва́нае ўсё. Събра́ў рыззё ды тра́пашніку адда́ў.* Гарадзец. *Я сама́ во парва́ла, яко́я рыззё было́.* Серкуці. *Тра́пкі е́та, ры́ззя.* Манголія. 3. Любое адзенне. *На́да ш було́ ры́ззя купі́ць.* Мянюцева. *Паку́ль ры́ззе пъздзяю́.* Каралевічы. *Ры́ззе адзе́ну, сабяру́ сваё мана́ткі і пайду́ начава́ць.* Серкуці. *Нажыва́ць усё цяжка, а расцягну́ць ры́ззя – про́ста во!* Партызаны. *Аксі́ння ка́жа: «Зъбяру́ сваё рыззё».* Серкуці.

**РЫЗЕ́ТКА** *ж.* Разетка. *Шнюр ута́рківаеш у рызе́тку.* Каралі.

**РЫ́КАЦЬ, РЫКА́ЦЬ** *незак.* Рыкаць, раўсці. *Каро́ўка ры́каіць, свінні раву́ць.* Багданава. *Каро́вы рыка́юць.* Гарадзец.

**РЫКНУ́ЦЬ** *зак.* Рыкнуць, падаць голас. *Каро́ва знаць дае́ць. Йна рыкне́ць, і вуш выла́зіць з нары́.* Алексінічы.

**РЫ́ЛА** *н.* 1. *груб.* Твар чалавека. *Як ры́ла б'юць, то пло́ха.* Станюкі. 2. Горла ў бутэльцы ці інш. пасудзіне. *Яе́ ў ча́ркі ня лі́ць – пі з ры́ла.* Вялікі Азярэцк.

**РЫ́ЛІШЧА** *н. эмац.-ацэн.* Празмерна вялікі твар. *Там ры́лішча тако́я, а ён у інвалі́ды зъпіса́ўся, на хро́нці ня быў.* Сянно.

**РЫ́МАР** *м.* Чалавек, які шые і рамантуе конскую збрую (хамуты, аброці і інш.); рымар. *Ры́мар – е́та хамуты́ пачыня́ў, абро́ць пашы́іць.* Манголія. *Ры́мар хамуты́ шы́іць.* Сукрэмна.

**РЫ́НА** *ж.* Вадасцёкавая труба. *Былá абóра. Пíракрыцць нáда быó, здзéльць рыну, дзе стык.* Баравікі.

**РЫ́НДА** *агульн.* Пра неахайна апранутага чалавека. *Рында – абы-як адзéніцца, во рында, казáлі.* Багданава.

**РЫ́НУЦЬ** *зак.* Лінуць. *У мянé как рынула кроў із нóса, із рóта.* Дольдзева.

**РЫ́СІНА** *ж.* Адно рысавае зерне. *Дзéсяць тых рысін.* Багданава.

**РЫСКЛІ́ВЫ** *прым.* Рызыкоўны, адчайны. *Кудьí другéй раз зáмуж выхадзíць – нáда быць рысклíваму.* Карпавічы.

**РЫСКО́ВАННЫ** *прым.* Тое ж. *Не рыскóванны нíскóлькі.* Міцюкова.

**РЫСКО́ВЫ** *прым.* Тое ж. *Сын спакóйны, а акáзьіцца і рыскóвы. Здарóвы, спакóйны зяць, алé рыскóвы.* Рэчкі.

**РЫХЛІ́ЦЦА** *незак.* Рыхлець, станавіцца рыхлым. *Былá сахá, два рагí, хъращó зімля рыхліцца.* Вялікі Азярэцк.

**РЫХЛІ́ЦЬ** *незак.* Рабіць мяккім, рыхлым (пра глебу). *Сыхá рыхлíла, акýшнік лýччы, крылля рассýніш...* Запруддзе.

**РЫ́ХЛЫ** *прым.* Рыхлы, мяккі. *Рыхлы снех, правáлісся. Рыхлы снег, незляжáны такí.* Багданава. *Пóслі клéвера рыхлая зімля.* Гарадок. *Нáда што і рыхлая зімля, íлі гусянíчнымі трактарáмі абрóбляць.* Фасаўшчына.

**РЫ́ХЦІК** *прысл.* Падобна, зусім. *Рыхцік бáцька!* Запруддзе. *Рыхцік бáба – кóпія бáба.* Фасаўшчына.

**РЫЦЬ** *незак.* Рыць, капаць. *Свінні лычамі рыюць зямлю.* Гарадзец.

**РЭДА́К** *м.* Рэдкая сетка. Багданава.

**РЭДЗЬ** *ж.* Столка. *Рэмінь у дзве рэдзі злажыў. У дзве ж рэдзі дзярýгі былí.* Багданава. *Скуты качáюць у трýпкі і складáюць у дзве рэдзі. Газéту у дзве рэдзі склаў.* Вялікі Азярэцк. *Сплéсці хамуцíну ў тры рэдзі.* Гарадзец. *У чатыры рэдзі склáлі.* Запруддзе.

**РЭ́ДЗЬКА, РЭ́ЦЬКА** *ж.* Рэдзька. *Рэцьку, брýчку варылі.* Алексінічы. *Рэцьку сóдзюць.* Гарадзец. ◊ ЯК ГО́РКАЯ РЭ́ДЗЬКА. Вельмі моцна, нязносна (надакучыць, абрыдзець і пад.). *Надаéла ты мне як гóркая рэдзька.* Вялікі Азярэцк.

□ *Гóрка рэдзька, ды ядýць, хýда зáмужам, ды йдуць.* Багданава.

**РЭ́ДКА, РЭ́ТКА** *прысл.* Зрэдку. *Буравíк, ён, як вам сказáць, ні кáждый гот бувáіць, а другí гот рэдка.* Алексінічы. *Трыста дзівянóста шэсь гіктáр Сéнінскыя вóзера, а рыбы рэтка ўвíдзіш.* Пожанькі. РЭ́ДЗІНЬКА *памянш.-ласк.* Вельмі рэдка. *Саладýху дзéлала. Ржынáя мукá, на цёплінькай вадзíчкі раскалóціш рэдзінька.* Багданава.

**РЭ́ДКА-НАРЭ́ДКА** *прысл.* Вельмі рэдка. *Рэдка-нарэдка бувáйіць, што рыджáюцца дзéці, ў йіх два зубóчкі.* Нямойта.

**РЭ́ДКАСЦЬ** *ж.* ◊ НА РЭ́ДКАСЦЬ. Выключна, на дзіва. *Дýжа на рэдкасць мужык яé ня п'ець.* Нямойта. ◊ У РЭ́ТКАСЦІ. Надзвычай рэдка. *Ну, ў рэткасці рыба ціпéр: людзéй і лéта, і зíму* [многа]. Багданава.

**РЭ́ДКІ, РЭ́ТКІ** *прым.* 1. Негусты. *Рэтке жыта ў калхóзе.* Самсоны. *У канáву скрось рэдкага* [гною] *навярнýлі.* Неўгадава. 2. Нячасты. *Рыжыкі цяпéр рэдкі.* Сяргейкі. 3. Асаблівы, адметны. *Рэдкі слýчай: кýрыца і на харóшае і на плахóе пяéць.* Буй. 4. Адзіночны. *Мы жылí на пасёлку Рýбава: рэткія хáты былí.* Запруддзе. РЭ́ДЗЕНЬКІ *памянш.-ласк. Смарóдзіна рэдзенькая ў мянé.* Вялікі Азярэцк.

**РЭ́ДЧЫНА** *ж.* Рэдзька. *Хто бурáк, хто рэдчыну прыгатýець – і пéсню пяюць.* Цясішча.

**РЭЖ** *выкл.* Нізашто, ні пры якіх умовах. *Пáспарт, рэж, у калхóзі ні даюць.* Буй.

**РЭЗ**, **РЭС** *м.*, **РАЗЫ́**, **РА́ЗЫ** *мн.* Зямельны надзел. *Былá зімля́ падзéлена на палóскі – рэ́зам звáлі.* Гарадзец. *У нас быў рэс на Хрысты́нцы. Там чъраны́ тóлькі валя́ліся.* Вялікі Азярэцк. *Свае́ разы́ сéялі. Рэз на пóўны дом.* Гарадзец. *У нас рэз быў сем дзеся́цін, а ў дзярэ́ўне Пóўзікі – трынáццаць.* Гарадок. *Рáзы назывáліся. Кóжнаму свой рэз жы́та, пшаніца.* Партызаны.

**РЭЗА́К** *м.* Асака (расліна). *Травá рэзáк парасцéць, карóвы не хóчуць éсці.* Жохава.

**РЭ́ЗАНЫ** *прым.* ◊ крычáць ЯК РЭ́ЗАНЫ. Вельмі моцна, гучна, нястрымна. *Крычы́ш ты як рэ́заны.* Вялікі Азярэцк.

**РЭ́ЗАЦЬ** *незак.* 1. Раздзяляць на часткі, драбніць. *Рэ́зкі былí, травý рэ́залі.* Запруддзе. *Хто у рýкі рэ́жуць* [мяса для хатняй каўбасы], *а хто на машы́нку рэ́жуць. Алé прызнаю́ць, што у рýкі* [уручную нажом] *укуснéй, як на машы́нку.* 2. Адразаць. *Рэ́жчэ хлеб, цяпéр даюць. Нáце во, рэ́шча. Хлéба рэ́жчэ, бярэ́це. Хоць нóжум рэш* [пра кашу, якая застыла і зліплася]. Багданава. 3. Разразаць, дзяліць. *Дажыдáюць с цэ́рквы, свянцóнае па крóшцы рэ́жуць. Пéрва яйцó ядýць, рэ́жуць і ядýць.* Карпавічы, Вялікі Азярэцк. 4. Пілаваць. *Хъзя́ін у лéсі, там лес рэ́жуць.* Багданава. *Я іх рэ́зала, калóла і склáдывала ў градý* [пра дровы]. *Дрóвы рэ́жуць, а сýчча пакідáюць.* Заазер’е. *Нарэ́залі лéсу плáшкамі, абстáвілі гэ́тыя бакí, каб зімля́ ні апсыпáлася* [у зямлянцы]. Леснікова. *Мы ёй дóскі тут рэ́залі. Я йду дрóвы сеч. Пілóй – éта назывáецца рэ́заць.* Нямойта. 5. Браць, збіраць (пра грыбы). *Прыéдуць з Вíцепску і рэ́жуць абы-якéя грыбы́.* Вялікі Азярэцк. 6. Касіць. *Лóпаўкі на касé, éслі плóха пакліпáў. Íнá лóпніць і плóха рэ́жыць.* Дольдзева. *Травý рэ́залі і касóй* [для сечкі]. Фасаўшчына. 7. Пераціраць зубамі, грызці. *Кап мы́шы ня рэ́залі сéна, жы́та, май кладýць, што на Трóйцу тóркаім.* Ракаў Засценак. 8. Брыдкасловіць. *Унýчка мáты рэ́жыць* [ужывае брыдкія словы], *як мáльцы, бóлей як мáльцы!* Кляпчэва. 9. *перан.* Прызначаць вялікую колькасць. *Дзе п ні быў, укóламі рэ́жуць* [прызначаюць многа ўколаў, каб вылечыць], *а мне балíць.* Партызаны. 10. Актыўна бавіць час. *Зóйдуць у хáту, вічáры́ну рэ́жуць.* Мянюцева. ◊ РЭШ КАСО́Й. Вельмі многа, у вялікай колькасці (пра грыбы). *Мъхъвікí – рэш касóй!* Сянно.

**РЭ́ЗВІНЫ**, **РО́ЗВІНЫ**, **РО́ЗБІНЫ** *толькі мн.* Прыстасаванне насіць сена, салому, зробленае з вяровачнай сеткі, нацягнутай на сагнутыя пруткі, дужкі; рэзгіны. *Рэ́зьвіны – сéна, салóму нóсім.* Серкуці. *Рóзвіны – дзве дугí вярóвачкамі пераплятýць. Дýгі з ляшчэ́ўніку, сéна насілі, салóму.* Гарадзец. *Рóзвіны – éта сéна насíць, дзве дугí тут.* Фасаўшчына. *Сéна нóсюць у рóзвінах, з вярóвак плéціныя, з рýчкамі.* Каралі. *А э́та рóзьвіны назывáюцца, сéна насíць.* Марозаўка, Гарадок, Заазер’е, Рассвет, Савінічы. *У гумнó схадзí, прынясí рóзьвіны. У іх травý нóсюць. Рóзьвіны – тóлькі сéна карóвам дъвáлі. Рóзьбіны з вярóвак здзéлаюць. Сéна наклáў на плéчы і пашóў.* Рэчкі.

**РЭ́ЗКА** *ж.* 1. Прылада, каб дробна секчы (рэзаць) бацвінне, салому на корм скаціне; сячкарня, сечка. *Рэ́зка ўсё рэ́зала, запáрвалі і карóвам давáлі.* Гарадзец. *Былá рэ́зка, рэ́жаш на рэ́зку кулí, салóму.* Дольдзева. 2. Усё, што пасечана (парэзана) сячкарняй. *Рэ́зка – і квасалёўнік, і бабóўнік, як парэ́жаш.* Гарадзец.

**РЭ́ЗКІ**, **РЭ́СКІ** *прым.* 1. Моцны, востры. *Асакá рэ́ская, рýкі рэ́жыць. У бабрá зýбы рэ́зкія. Тóўстыя дрэ́вы вáліць íмі бабёр.* Багданава. 2. Вельмі кіслы. *А інá дýжа рэ́ская, смáчная съладýха, тóлькі с аржанэ́я мукí.* Багданава. 3. Дзёрзкі, агрэсіўны. *Там лю́дзі рэ́зкія, карты́жнікі. Ні дай бог!* Пожанькі.

**РЭЗЬ, РЭСЬ** *ж.* Дробная нарэзаная салома; сечка. *Рэзь даваў каробі. Рэзь – парэзаная салома.* Дольдзева. *Кармілі скот рэззю, аржаную салому на рэзь.* Жохава. *Сярпом нърізалі рэсь.* Каралевічы. *Ні хватаіць кърма, рэзалі рэзь, аржаную салому.* Каралі. *Рэзь уперад рэзалі, ня рэжуць цяпер.* Гарадзец.

**РЭЗЬ, РЭСЬ** *ж.* Рыбалоўная сетка з вялікімі вочкамі. *Рэзь – ета кагда бальшыя вочы. Бальшая* [рыба] *запутаіцца ў рэзь. Рыбіна зъваліцца за рэсь – і гатова.* Багданава.

**РЭЗЬМА** *прысл.* З усіх ног, бягом. *Я рэзьма ў тое балота.* Партызаны.

**РЭЙЗАК** *м.* Разуха (?), вастралістая асака (?). *Рэйзак – трава ні трава: каровы ні хочуць есці.* Жохава.

**РЭЙКА** *ж.* 1. Вузкая дошчачка, вузкі брусок. *З рэяк рамы.* Багданава. *Рэйкі на крышы.* Нямойта. *Рэйкі з дрэва.* Сукрэмна. 2. Вузкі стальны брус на чыгунцы. *После вайны рэйкі клалі.* Багданава.

**РЭЙСАВЫ** *прым.* Рэйсавы (пра транспарт). *Рэйсавы ў трэцім часу ідзець.* Багданава.

**РЭМЕНЬ** *м.* Рэмень. *Сцібануў чым? Рэмнім.* Багданава. *Рэмнем так адлупіць, каб на вечарынку схадзіць* [пра бацьку, які забараняў дачцэ хадзіць на вечарынкі]. Закур'е. РАМУШОК *памянш. Атшпіліў ръмушок.* Багданава.

**РЭПА** *ж.* Рэпа (карняплод). *Хай мяса німа ўдоваль, як рэпу есці, ёсць што другоя.* Серкуці.

**РЭПЕЙ** *м. эмац.-ацэн.* Пра настырнага, назойлівага чалавека. *Ну і лезеш жа ты ў вочы, як рэпей!* Партызаны.

**РЭПКА** *ж.* Драўляны блок, які прыводзіць у рух шпульку ў калаўроце, кальцо для замацавання шпулькі ў калаўроце і інш. *Рэпка – іна круціцца. На ёй шнуры і на калясо шнуры, і круціцца калясо.* Каралі.

**РЭСМУС, РЭЗМУС, РЭСМУРС** *м.* Іструмент для правядзення ліній, паралельных краю якога-н. вырабу ці дэталі; рэйсмус. *Рэсмус дзелаіш развотку.* Нямойта. *Рэзмус – што дзелаюць рамы, дзірывянны.* Гарадзец. *Рэсмурс – мерыць, дзе коса абрэзъць.* Фасаўшчына.

**РЭХА** *ж.* Жалезны абруч, які наганяецца (набіваецца) на драўляную калодку кола; рэхва. *Рэха надзяецца на ступіцу, шына – на вобат.* Багданава.

**РЭХВА** *ж.* 1. Жалезны абруч, які наганяецца (набіваецца) на драўляную калодку кола; рэхва. *Рэхва набіваецца на ступіцу, штоп ступіца не лопалася.* Вялікі Азярэцк. *Рэхва наверх на ступіцу надзяецца.* Гарадзец. 2. Кальцо для замацавання шпулькі ў калаўроце. *Рэхва ў вілачках, як шпулька закручваіцца.* Фасаўшчына. 3. Кальцо, якім змацоўваюцца часткі прылады (?). *Рэхва – ета утулак, заганяіцца ў трубку.* Нямойта. 4. Гульня, у час якой выкарыстоўвалі рэхву – жалезны абруч, які здымалі з кола. *Тъкая гульня была: рэхвы късалі пъ дзярэўні. Нъ кълясы рэхва: знімуць і качаюць.* Фасаўшчына.

**РЭХВІНА** *ж.* Жалезны абруч, які наганяецца (набіваецца) на драўляную калодку кола; рэхва. *Рэхвіна дзіржала, ні давала рашчапіцца* [колу]. Дольдзева.

**РЭЦЬМА** *прысл.* З усіх ног, бягом. *Рэцьма ляціць к той ямі бык.* Запруддзе. *Каровы ляцелі рэцьма. Аны ляцяць рэцьма, бягом.* Каралевічы.

**РЭЧ** *ж.* Гаворка, маўленне. *У нас тут адна рэч, а паедзеце туды, на Хоцца, там другая рэч.* Гарадзец. *Рэч атлічаецца у нас.* Закур'е.

**РЭ́ЧКА** *ж.* Рака, рэчка. *Рэ́чка была́, хто ня по́йдзіць купа́цца, ня пры́дзіць.* Багданава. *Рэ́чка ў нас Пало́нка. Бало́ння цяпе́р заву́ць.* Нямойта. *Тут рэ́чка Субо́та, а там Абъля́нка.* Серкуці.

**РЭ́ЧЧЫК** *м.* Рэдкае палатно, тканіна. *Рэ́ччыкам прыкры́ла рой.* Неўгадава.

**РЭ́ШАТА, РЭ́ШЫТА** *н.* Сіта, рэшата. *Муку́ се́ялі рэ́шытам.* Вялікі Азярэцк. *Рэ́шата із сасны́ рабілі.* Жохава. *Рэ́шъта, а цяпе́р заву́ць сіта. На рэ́шата прасе́юць се́мя, і бу́льбу мака́лі.* Запруддзе. *Гэ́та рэ́шъта радзе́йшъя. А э́та сіта і патсі́тък – ні то ні сё.* Каралевічы. *Цераз рэ́шата ваду́ тры разы́ пралі́ць, цераз кля́мку, парплі́цу. Чыраз рэ́шата во́ду праліва́юць ат суро́цы.* Нямойта. ◊ ЯК У РЭ́ШАЦЕ. Вельмі моцным струменем, суцэльным патокам. *Цячэ́ць як у рэ́шаце.* Серкуці, Міцюкова.

**СА** *прыназ.* 1. Са. *Было́ тро́е дзяце́й са мной.* Міцюкова. *Мъльчаня́ты хадзілі на лён, се́на са мной.* Запруддзе, Партызаны. 2. З. *У яго́ ста́дзі было́ сімна́ццаць штук каро́ў са днэй цыцко́й. А здаць ня мо́жна – гулува́?!* Пожанькі. *Кърыва́й пяклі са пшаніцы.* Ракаў Засценак.

**САБА́КА** *м.* 1. Сабака. *Съба́ка чужы́ быў.* Рулёўшчына. *Глядзі́ця: съба́ка пры́шо́ў сы Свярдло́ўска! У нас быў съба́ка Сако́л. Прыда́лі яго́. Нядзе́лі тры ні було́ яго́. І пры́шо́ў.* Самсоны. *Во дзе нагуля́юцца с саба́кам. А каб ні съба́ка, то б ні зыбра́лі* [злодзея]. Міцюкова. 2. *эмац.-ацэн.* Пра непрыстойную кампанію. *Ой, саба́кі на́йдуцца, лю́біць падгуля́ць.* Запруддзе. ◊ ЯК САБА́КУ ПЯ́ТАЯ НАГА́. Зусім не, ніколькі не (патрэбны каму-н.) *На́да ты мне як саба́ку пя́тая нага́.* Вялікі Азярэцк.

□ *Съба́ку съба́ччая смерць.* □ *Съба́ку выбіра́юць пъ псярні, а жо́нку пъ радні́.* Багданава.

**САБАЛТУ́Й** *м.* Свята з застоллем, сабантуй. *Сабалту́й рабілі, гуля́лі.* Фасаўшчына.

**САБАЧАНЁНАК** *м.* Сабачаня, шчаня. *Ма́лінькій събачънёнък.* Баравікі. *Ве́рна і събачанёнка забра́ў.* Дольдзева.

**САБА́ЧКА** *ж.* Палачка, якая ўтрымлівае палатняны навой. *Съба́чка – штоб наво́й ні атхадзі́ў.* Закур’е.

**САБАЧО́НАК** *м.* Сабака. *Събачо́нак – чатырана́ццаці гот.* Марозаўка.

**САБА́ЧЧЫ** *прым.* Падобны на сабачую будку, невялікі. *Тая ха́та, як бу́дачка саба́ччая.* Партызаны. ○ САБА́ЧЧАЯ ЛА́ПА. Невядомая кветка. *Съба́ччыя ла́пы цвіту́ць красі́вым.* Багданава. ◊ САБА́ЧЧАЯ ДО́ЛЯ. Пра незаможнае, несамавітае жыццё. *Мы цяпе́р ны съба́ччый до́лі жывём* (з падання) [вислоўе з падання, як Бог на скаргу жанчыны, што цяжка жаць, пакінуў кароткі колас, хаця мог бы не пакінуць нічога; Бог пачуў, як загыркалі сабакі: яны папрасілі ўвесь колас не здзіраць, пакінуць кароткім]. Ракаў Засценак. ◊ САБА́ЧЧАЯ СМЕРЦЬ. Смерць без пахавання. *Саба́ку саба́ччая смерць.* Міцюкова.

**САБЕ́** *займ.* Ад сябе, ні на каго не спасылаючыся. *Я сабе́ ні гъвару́ гэ́та. Я чу́ла.* Заазер’е.

**САБІРА́НАЕ** *н. зб.* Усё, што сабрана. *Усякае сабіра́нае.* Багданава.

**САБІРА́ЦЦА** *незак.* Збірацца, сыходзіцца. *Лі Васіля́ усé събіра́ліся.* Гарадзец. *Ну, на Па́сху, чъсо́ў пад дзвіна́ццаць събіра́юцца на кла́дбішча. Ну, събяру́цца, пасідзя́ць, вы́п'юць, заку́сяць і дамо́й.* Запруддзе. *На Узнясе́ння тады́ сабіра́ліся на кірма́ш.* Карпавічы. *На гару́ усé сабяру́цца.* Неўгадава.

**САБІРА́ЦЬ** *незак.* 1. Збіраць. *Бап събіра́лі, учы́лі тады́ зъда́чы.* Багданава. *Дзяк яго́ сабіра́ў, хлеп събіра́ў, я́йцы, кунпя́к, са́ла, куўба́сы.* Багданава. *Мъльќо́ сабіра́юць на гэ́тым кані́.* Вялікі Азярэцк. *Сабіра́лі мак с трох хъзя́інаў і сы́палі ў кало́дзісь, кап дош бы́ў.* Карпавічы. 2. Забіраць, абагульваць. *Со́хі сабіра́лі, баро́ны – што ў каго́. Каро́ў абагу́лівалі, ко́ней – усё о́пшчэм* [у калгас]. Заазер'е. 3. Запасіць, збіраць. *А́жны ба́чу: яны́ събіра́юць тэ́я гро́шы.* Рассвет.

**САБЛЮДА́ЦЬ** *незак.* Памятаць, зберагаць. *Ну, съблюда́лі, старэ́йшыя пра́знікі съблюда́ем, мно́га зна́лі е́тых пра́знікаў.* Самсоны.

**САБО́Й**, **САБО́Ю** *займ.* На сабе, уручную. *Сабо́й ара́лі, ба́бъмі ара́лі.* Гарадзец. *Мы ш і плух ціга́лі сабо́й, і баранава́лі, і снапы́ на сабе́ насі́лі. Усё ш сабо́й!* Леснікова. *Лён у сара́йчык сабо́й насі́лі.* Цясішча. *Курчува́лі сабо́ю Па́нскій гай* (урочышча). Багданава.

**САБО́Р** *м.* Сабор. *У Сянне́ сабо́р быў і царква́.* Ульянавічы.

**САБРА́ЎШЫ** *дзеепрым.* Сабраўшыся. *Сваé усé сабра́ўшы, і саба́ка маўчы́ць.* Манголія.

**САБРА́ЦЦА** *зак.* 1. Сысціся, сабрацца. *Хъзя́іна два-тры събярёмся, і тады́ мне сяго́ння вы́вемзім гной да бе́да. Усé събра́лісі дзе́ці і пъмаглі́, і схува́лі ма́му.* Багданава. *Сабяру́цца ў адзі́н крух, зы́блюцца, калы́шуцца – неінцірэ́сна* [аб сучасных танцах]. Леснікова. *Ба́ба з ба́бай як сабяру́цца, ды й сплéтнічаць.* Савінічы, Ульянавічы. *У анну́ ха́ту збяру́цца пяць-шэсць баб – весялéй.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе. 2. Пайсці (пра дождж). *Ве́рна, събярэ́цца дождж.* Гарадзец.

**САБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Скласці. *До́скі събра́ла і павязла́ дамо́ў.* Багданава. *Я събра́ла, събра́ла і ў кладо́ўку пъкла́ла въласы́. І цяпе́р ліжа́ць.* Нямойта. 2. Назбіраць. *Пайду́ ъжаві́н тро́ху събяру́.* Багданава. 3. Накапіць. *Сабе́руць гро́шы і пла́цяць.* Неўгадава. 4. Паставіць, пабудаваць. *Я чуць во сабра́ла хацёнку.* Савінічы.

**САВА́**, **СУВА́** *ж.* Сава. *Съва́ пу́хлая така́я. Съва́ – зязю́ля, яка́я куку́іць, пера́тварáецца ў саву́. Съва́ днём спіць, а но́ччы літа́іць.* Багданава. *Каб табе́ сава́ вы́драла во́чы!* (праклён). Запруддзе. *Сава́ курэ́й хвата́іць.* Міцюкова. *Сува́ гыня́іцца зы за́йцъм.* Сянно.

□ *Сава́ спіць, ды* (*а*) *курэ́й ба́чыць* (*ві́дзіць*). Гарадзец, Вялікі Азярэцк. □ *Сава́ не ро́дзіць сакала́.* Багданава.

**САВА́Н** *м.* Верхняе адзенне; саван. *У іх* [старавераў] *шы́ецца сава́н с башлыко́м.* Карпавічы.

**САВЕ́Т** *м.* Парада. *Ране́й бо́лей с саве́ту жані́ліся.* Розмыслава.

**САВІНЯ́ТЫ** *мн.* Птушаняты савы. *У савы́ бува́іць чаты́ры-пяць съвіня́т.* Багданава.

**СА́ВЫ** *мн.* Прысвятак у народна-царкоўным календары, які бывае перад Калядамі. *Са́вы – э́та пі́рат Каля́дамі.* Запруддзе.

**САГБА́ЦЦА** *незак.* Згінацца, нахіляцца. *То́лькі стаў съгба́цца, а конь наго́й тро́пнуў.* Самсоны.

**САГЛА́СНЫ** *прым.* Дружны, сяброўскі. *Бывáла лю́дзі былі́ съгла́сныя, у дзярэ́ўні жылі́ адно́й сям'éй.* Ульянавічы.

**САГНА́ЦЬ** *зак.* 1. Вывезці ў няволю (у час вайны). *Баялася, каб у Германію ні сагналі, хавалася ў лесе.* Партызаны. 2. Занесці. *Самаго машыну сагнала ў кювет.* Савінічы. 3. Змесці. *Мятлой згонюць каласкі, касцярок, саломіну.* Гарадзец.

**САГНУ́ТЫ** *прым.* Згорблены, сагнуты. *Дзед сагнуты, бальны.* Леснікова.

**САГНУ́ЎШЫСЯ** *дзеепрысл.* Сагнуўшыся. *Тады я, сагнуўшыся, абрэзала траву.* Багданава.

**САГНУ́ЦЬ** *зак.* Сагнуць, згорбіць. *Мяне сагнула ў крук, ужо ісці ні магу.* Савінічы.

**САГРАБСЦІ́, САГРЭ́СЦІ** *зак.* Згрэбці. *Ужо съграблі сена.* Гарадзец. *Грабілкай саграблі сена – і на трактар.* Партызаны. *Я сагрэсці памагла.* Івоні.

**САГРЭ́ЦЦА** *зак.* Нагрэцца (пра сена). *Сена сагрэіцца, так загарэцца можыць.* Фасаўшчына.

**САД, САТ** *м.* Сад. *Кажды год былі яблыкі, а цяпер лісце паскруцілася, ніякі сад.* Латыгаль. *Сады цвілі, ай-ё, аж бела було.* Міцюкова. *У тым садзі нічога німа сёліта.* Рулёўшчына. *Сат ня мой, з енай хаты сат.* Закур'е.

**САДАВЫ́** *прым.* Садовы. *А ёсць такі садавы мак, эта бальшэя такія галовы, цвіцець усякамі цвятамі.* Заазер'е, Дольдзева.

**САДЗІ́ЦЦА** *незак.* 1. Сядаць. *Ноччы содзімся і прадзём.* Баравікі. *Як спъклъдаюць жырыбцá, то звязъюць ногі і цераз спіну рэмінь. Пувалюць і нъ гълаву хто-небудзь содзіцца. Хъдзяін на кут содзіцца* [у час абеду]. Заазер'е. *Содзюцца мухі, дзе рана на нагé.* Запруддзе. *Содзюцца за стол у прыдані. Ні садзісся, а папробуй кашу цёртую з бульбы, клёцкі, поліўку з смятаны, мукі, воцата. А пакойнік стаіць пад вуглом. І пъсля пъвязлі яго.* Закур'е. 2. Гняздзіцца, вадзіцца. *Къль яго буцяны ні садзілісі* [буцяня было выкінута з гнязда буцянамі; выкарміў буцяна чалавек]. Сянно. 3. Садзіцца (пра птушак). *Курыца квохчыць, садзіцца хочыць.* Каралевічы.

**САДЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Усаджваць. *Гарэлкі набярэць і нас содзіць і частуець.* Багданава. 2. Сеяць (пра насенне). *Содзіш бульбу на абароці* [у канцы загона]. *Цыбулю абы-калі содзюш.* Багданава. *Іна содзіць цвяты. Буракі, гуркі, цыбулю содзім. Капусту пазней содзюць.* Гарадзец. *Лешачку ўскапаіш і содзім перат Троіцай, бувала на Дзяды.* Жохава. *Агурцы содзім на Пахом. Ёсць такі празнік Пахом. І гавораць: «Будзім насіць агурцы мяхом».* Запруддзе. *Содзім у гаротчыку маркоўку, цыбулю, памідоры і агурцы.* Леснікі. *Агуркі содзюць на Хома – пятнаццатага мая. Содзюць на Хом – будзем збіраць агуркі мяхом* (прыкмета). Ульянавічы. 3. Садзіцца (пра птушак). *Сваіх курыц содзюць, яец падсыпюць, тры нядзелі пасядзіць – і цыпляткі.* Станюкі. *Вечърам содзюць курыцу. Рана садзіць – будуць зърання на куръсодню садзіцца.* Каралевічы. 4. Ставіць у печ для выпякання. *Садзіла хлеб у печ.* Багданава. *Бачыла, як садзіць хлеп, а садзіць не садзіла.* Гарадок. *Содзюць у печ хлеп. А як грат пойдзіць сільны, выбрасывалі лъпату, што хлеп содзюць.* Дольдзева. *Лапата хлебная, хлеп садзіць.* Карпавічы. 5. Запаўняць снапамі. *Як ёўні былі, тады садзілі снапы ў ёўні, сушылі. У такі возюць снапы. На ёўню садзяць, тапілі, сушылка тъкая.* Заазер'е. *Жыта жнуць, а тады на ёўню содзюць.* Міцюкова. 6. Трымаць у падпечны. *У патпечча курэй садзілі.* Гарадзец. 7. Засяляць. *Купляли* [калгас] *хаты* [пустыя], *апклъдалі кірпічом і садзілі людзей, нысілялі.* Фасаўшчына.

**САДО́К** *м. ласк.* Агародчык, кветнік. *У саткý німа яшчэ чаго пілнъваць.* Ульянавічы.

**САДРА́ЦЦА** *зак.* Абадраць, зняць верхнюю абалонку. *Засыпалі ў кош* [зерне]. *Атчыніш люк, усыпіш туды – крупы здзяруцца.* Нямойта.

**СА́ЖА** *ж.* Сажа. *Сажа чорная.* Дольдзева. *Ръзьмішаюць сажу ны къpacіні і ръзьмічаюць сцэны дома, пастройкі – ны піравос* [калі трэба перавезці хату на другое месца] *ці як пірысыпаюць* [разбіраюць па бярвёнах і збіраюць зноў]. Запруддзе. *Стала капціць* [печ] *– сажа там.* Рулёўшчына.

**СА́ЖАЛКА** *ж.* Спецыяльна зробленая копанка (вадаём) для гаспадарчых патрэб; у сажалцы мачылі лён, каноплі, паілі скаціну. *Къпалі ранéй сажалкі такія, там мылі і пъласкалі пражу.* Вялікі Азярэцк. *Сажалка выкапаная.* Запруддзе. *Белы лён мачылі ў сажалцы.* Гарадзец. *Копынка і сажълка – адно і тожа.* Гарадок. *Насіў ваду с сажълкі* [палівацъ капусту]. Жохава. *Сажълка там, дзе ніскъё места.* Заазер'е. *Там сажълка, нам ціпер там хърашо, мы там скот поім.* Каралі. *Къпанъя сажълка.* Самсоны, Багданава, Чуцькі.

**СА́ЖАНЬ, САЖЭ́НЬ** *м.* Старая мера даўжыні ў тры аршыны, што крыху болей за два метры. *Сажънь дроў, як раньшы къзалі, дзесіць вазоў, квадратна. Дліна сажня – 2,25.* Вялікі Азярэцк. *Сажънь, наверна, два метры.* Фасаўшчына. *А сажэнь – тры аршына называўся сажэнь.* Марозаўка. ○ МАХАВЫ́ СА́ЖАНЬ. Мера даўжыні на раскінутыя рукі ці адлегласць паміж далонямі раскінутых рук; махавым сажнем мералі даўжыню рыбалоўных сетак. *Раньшы мераліся ў мъхавы сажънь. Прымерна, трыццаць шэсь мъхавых сажанéй.* Багданава.

**СА́ЖАНЬ** *м.* Саджанец. *Первыя сажні асталіся.* Партызаны.

**САЖВА́ЦЬ** *зак.* Зжаваць. *Нясі, можа сажвець цялёнак хлеп.* Серкуці.

**САЖГЁНЫ** *дзеепрым.* Спалены. *Паслі вайны сажгёна усё.* Нямойта.

**САЗДО́ЛЕЦЬ** *зак.* Адолець, асіліць. *Дажджы прайшлі, въда, лужыны стъяць, въда саздолела* [і ў агародзе на разорах стаіць вада]. Запруддзе.

**САЗНА́ННЕ** *н.* Свядомасць. *Здзелалі апірацыю – ён быў бес сазнання.* Запруддзе. *У сазнанне ні прахадзілася* [не прыходзіла]. Неўгадава.

**САЗНА́ЦЬ** *зак.* Паспачуваць. *Сазнай, хоць мяшок бульбы дай.* Леснікова.

**САЗНІЯ́ВЕЦЬ** *зак.* Падпячыся, падгарэць. *Сазніявіў хлеп, згарэў. Дасі камунібудзь, а то і самі паядуць.* Ульянавічы.

**САЙДЗЯНІ́ЦЬ** *зак.* Аб'яднаць. *Як ужо съйдзянілі два калхоза, ён стаў брыгадзір.* Багданава.

**СА́ЙКА** *ж.* Чайка. *Сайкі лётаюць, белые такіе.* Цясішча.

**САЙСЦІ́** *зак.* Сысці, збегчы. *Яны п сышлі, бох ведаіць куды, кап іх не прывязвалі* [гаворка пра коз]. Рэчкі.

**САК** *м.* Верхняя жаночая вопратка, палатняная ці шарсцяная; куртка ніжэйшая за калена. *У маткі маéй быў сак, за калена, шарасцяны. Той сак распаролі, павымылі, плацце пашылі. Плацце з сака было.* Багданава. *Сак дліннъ быў, скрозь так во длінны.* Буй. *Сак пашыты ў талію, як куртка, толькі называішча, што сак. У бъгатых съматканыя і шэрсныя былі.* Нямойта. *Армякі насілі, жалеткі, сак.* Партызаны.

**САК** *м.* Рыбалоўная снасць у выглядзе сеткі, нацягнутай на абручы; жак. *Сак пахожы на тъптуна, у сярэдзіні жыраґо.* Фасаўшчына.

**САКАЛЕ́ЧЫЦЦА** *зак.* Скалечыцца, нешта пашкодзіць. *Дачка сама нешта сакалечылася, нагу выбіла.* Нямойта.

**САКАТА́ЦЬ** *незак.* 1. Кудахтаць. *Сакочуць куры. Сакочуць перад яйцом курачкі.* Багданава. *Куры кажны дзень сакочуць, кудакчуць. Іна знеслася і кудакчыць.*

*Кўрыца сакóчыць, як з яйцóм. Як зьнісла́ся – кудáкчыць.* Вялікі Азярэцк. *Кўрьчка сакóчыць – нéсціся хóчыць.* Каралевічы, Розмыслава. 2. Стракатаць (пра сароку). *Сарóка сакóчъць – гóсці бўдуць* (прыкмета). Вялікі Азярэцк, Сукрэмна. 3. Страляць, страчыць. *Ду-ду-ду – нямéцкі пулямёт, а наш драбнéй сакóчыць.* Леснікова. 4. *перан.* Хутка, не сціхаючы гаварыць. *Сакóчуць бáбы, як сарóкі.* Багданава. *А бóжа, як мятлóй мяціць, сакóчыць і сакóчыць.* Вялікі Азярэцк.

**САКО́ЛІК** *м.* Ласкавы, пачцівы зварот да чалавека. *Сакóлік мой!* Міцюкова.

**САКРАШЧЭ́ННЕ** *н.* Клімакс (?). *Як стáнець сакрашчэ́нне, вы і папрáвіцеся.* Нямойта.

**СА́ЛА** *н.* 1. Сала, саланіна. *Ну, два мéсяцы пабўдзіш з касцямі. Кóсці канчылісі – ну, тады адно́ сáла.* Багданава. *Бўдзіць у два пáльчыкі сáла – і хърашó. А было́ – ў стакáн. Во э́та сáла!* Буй. *Хто сáла ня есць, той не рабóтнік.* Вялікі Азярэцк. *Сáла ў я́шчык склáдывалі.* Гарадзец, Фасаўшчына. СА́ЛЦА *ласк.* Запруддзе. 2. Нутраны тлушч; лой. *Палéзлі на чардáк, ажны там нашлі гэ́та сáла карóўскае.* Леснікова.

□ *Калі ня бўдзіць сáлца, не памóчыш пáлца.* Запруддзе.

**САЛАВЕ́Й** *м.* Салавей (птушка). *Сълавéй пяéць у кустáх.* Багданава. *Калí хóчыш паслўхаць сълъўя́, йдзі ў Глíнішча* [урочышча, знаходзіцца недалёка ад лесу]. *І там пачўйіш сълъўя́ і квакўшку, і гылубóў лясных.* Запруддзе. *Чълавéк ні сълавéй: пéсьнямі сыт ні бўдзіш.* Каралевічы. *Сълаўёў не чувáць.* Нямойта. *Салавéй сільна на мнóга галасóў пяéць.* Розмыслава. *Салавéй ёсь, пяёць, ні памёр ад хімікáтаў.* Сукрэмна. *Тўта сълавéй кълa амшáрынкі пяéць яшчэ́.* Сянно. *Так пяя́ла, як сълавéй.* Дуброўкі.

**САЛАДЖА́ЦЬ** *незак.* Станавіцца салодкім. *Съладўха сълъджáла, а тады ў дзéжачку, у хлéбнічку – і квáсілі. Яé нáда ўчыніць, тóлькі кап ня ўкісла, кап саладжáла.* Багданава. *Інá сълъджáіць, съладўха гэ́та.* Кішуроўшчына. *Саладжáіць кулáга, кíсніць і вáруць.* Марозаўка.

**САЛАДЗЕ́Й** *прысл.* Саладзейшы. *Казíнае малакó саладзéй карóўськага.* Багданава.

**САЛАДУ́ХА** *ж.* Салодкая страва з густазаваранай жытняй мукі; саладуха. *Съладўху варылі. Аржанáя мукá развóдзілася на халóднай вадзé. Пéчка тóпіцца – стáвіцца пéрад, кап саладжáлася. Мёду ўкінеш. Пéчка як тóпіцца – вытапіцца, пастáвіць у чугунé. Вынімáеш – у дзéшку. Як прастыне – квась рэ́ская, укўсная. З бўльбай пад'ясі. Саладўху варылі з аржанóе мукі. Я съмá прóшлы гот съладўху дзéлъла. Саладўха – інá укўсная, саладўху дзéлалі. Ну, саладўха – як рáньшы хлеп пяклі. У хлéбніцу звáрыш яé. Тады ў хлéбніцы янá пастаіць і стáніць такáя вíнная, рэ́ская.* Багданава. *З мукі з жыта. Прасéюць мучыцы, у вар раскалóцюць у хлéбніцу. Папéраду зъсъладжáюць. Тады падкíсніць – éта съладўха. Саладўху дзéлалі з мукі аржанэ́я.* Вялікі Азярэцк. *Съладўха: ў дзяжў хлéба кідаіць трóшкі, скарынак. Інá ўкісáіць. Нáда, кап інá пракíсла трóхі, ў дзяжў залівáюць. Як на загнéце стаіць, ільдў кідáюць.* Кішуроўшчына. *Саладўху на халóднай вадзé развóдзім. Урáнні ўчыніш, лядзіну укíніш, каб саладжáла, вéчарам вáраш.* Самсоны. *Саладўху варылі. Мукў ржанўю на загнéці съладзілі. Размішáюць халóднай вадóй, тады лідзякí – і стáніць салóткай.* Фасаўшчына.

**САЛАМАРЭ́ЗКА** *ж.* Прылада, каб дробна секчы (рэзаць) бацвінне, салому на корм скаціне; сячкарня, сечка. *Съльмарэ́ска былá рэсь рэ́заць.* Каралевічы.

**САЛАМЯ́НЫ**, **САЛАМЯ́ННЫ** *прым.* Зроблены з саломы. *Страха́ была́ съльмя́нья.* Гарадзец. *По́слі вайны́ пласта́мі салямя́нымі кры́лі: кулёў ні было́.* Леснікова. *Хлеў мой съльмя́ны, сало́мъй кры́ты.* Чуцькі, Манголія. *Съльмя́нныя былі то́лькі стрэ́хі.* Багданава.

**САЛАНІ́НА** *ж.* Саланіна, салёнае сала. *Хто гаво́рыць саланíна, хто са́ла, а хто жыры́.* Алексінічы. *Са́ла пасо́люць і гаво́раць: во насалíў саланíны.* Багданава.

**САЛА́Т** *м.* Салат. *Бу́льба ёсь, два яйцы́ – мо́жна здзе́лаць сала́ту.* Багданава. *Сала́та палажу́.* Міцюкова.

**САЛА́ТНІЦА** *ж.* Шырокая і глыбокая талерка, у якой робіцца салат. *Я жа аб паро́г пабíла сала́тніцы.* Латыгаль.

**САЛГА́ЦЬ** *зак.* Схлусіць. *Як вам расказа́ць пра мой жысь, ні сълга́ць.* Івоні. *Хто лю́біць вы́піць, той лю́біць салга́ць.* Каралевічы. *Каб э́та ж я сълга́ў, так ёсітка ж дакуме́нты, што так было́.* Ульянавічы. *Ты мяне́ загубí, алí ні салгу́.* Івоні.

**САЛДА́Т** *м.* Салдат. *Сълда́ты ра́нетыя выска́квъюць.* Кляпчэва.

**САЛЁНКА** *ж.* Невялікая пасудзіна для трымання солі; сальніца. *Салёнка з дрэ́ва. У салёнцы соль.* Багданава.

**САЛЁНЫ** *прым.* Салёны, пасолены. *Грыбы́ салёныя, як з ляхí* [нібы свежыя, толькі што сабраныя ў лесе]. Пожанькі.

**САЛІДО́Р** *м.* Салідол. *Салідо́рам хлеб па́хніць.* Запруддзе.

**САЛІ́ЦЦА** *незак.* Саліць. *Салíлісі калíйную со́ллю. Пъва́рыш яе́, сальйе́ш.* Запруддзе.

**САЛІ́ЦЬ** *незак.* Саліць. *А во́каракі салíлі ў цэ́бары.* Багданава. *Салíць грыбы́* [трэба] *біс прыпра́вы. Бу́дуць пяць гадо́ў стъя́ць* [і не сапсуюцца]. Пожанькі. *Салíлі агурцы́ ў бо́чках, у дзе́шку пасо́люць.* Станюкі.

**САЛО́ДКІ**, **САЛО́ТКІ** *прым.* Салодкі. *Сало́дкі, як мед.* Запруддзе. *С сало́ткага малака́ нíчо́га ні рабíлі.* Вялікі Азярэцк. *Хо́чыш сало́ткага мълъка́, хо́чыш – кíслага.* Міцюкова.

**САЛО́МА** *ж.* Салома. *Ржано́й сало́май кры́лі ха́ты.* Багданава. *Ране́й кры́лі сало́май і скот кармíлі гэ́тай сало́май.* Вялікі Азярэцк. *Сало́май ха́ту кры́лі.* Гарадзец. *Сало́му бра́лі з ёўні, апкла́дылі ла́пнікам асе́нні бруне́т* [у капцы]. Пожанькі. *Зы сало́муй е́здзілі ў Пру́сію, а свой кле́вір пыгнаíлі.* Пожанькі. *Ба́чыць* [сніць] *сало́му, се́на – шум, сва́рка.* Ракаў Засценак. *Сало́май рэ́дзенькай ха́ту пакры́лі.* Фасаўшчына. *Мая́ ха́та со́рак гадо́ў стая́ла пад сало́май. Сало́ма, як дрот, была́.* Закур'е.

**САЛО́МІНА** *ж.* 1. Асобнае сухое сцябло жыта, пшаніцы ці інш. злакаў. *Сало́міна з жы́та, аўса́.* Гарадзец. САЛО́МІНКА *памянш. Выбíра́лі касу́: плюнь – і на сало́мінку. Йна кру́цiцца, як ста́ніць, то хъръша́ късa.* Леснікова. 2. Дудка ў саломіне. *Праз дзíрку у ка́жную сало́мінку цячэ́ць сок.* Багданава.

**САЛО́МКА** *ж.* 1. Саломінка. *Пракру́цяць дзíрачкі і сало́мку уто́ркнуць. А ён* [сок] *па сало́мцы ка́паець, ка́паець.* Багданава. 2. Кастрыца. *Сало́мка ня то́йдзіць ат валакна́* [у лёне]. Дольдзева.

**САЛФЕ́ТКА** *ж.* 1. Сурвэтка. *І салфе́ткі на бразы́ ве́шаць – такíя харо́шыя палаце́нты тка́лі.* Гарадзец. 2. Настольнік, абрус. *На стол тка́лі салфе́ткі ў во́сім, двíна́ццаць нíто́ў.* Каралі.

**САЛЦІСО́Н** *м.* Сальцісон. *Салцісо́н – ву́шы, хра́шчыкі, ат шчок, лёхкае атва́ранае ў трыбу́х напхну́ць – і ў вар. Вады́ шчэ ллёцца, засту́дзіцца, як сту́дзінь.* Міцюкова.

**САЛЬНІ́ЦА, СА́ЛЬНІЦА** *ж.* Невялікая пасудзіна для трымання солі; сальніца. *Са́льніца – е́та соль што ляжы́ць.* Міцюкова. *Сальніца была́, з до́шчачък збі́та, на сцёнцы вісі́ць.* Каралі.

**СА́ЛЬНЫ, СА́ЛНЫ, САЛНЫ́** *прым.* 1. Тлусты (пра ежу). *Са́льнага, гру́бага ня ем.* Закур'е. 2. *н.* Ежа з салам. *Мясно́я ці сално́е ядзі́м, а мълако́ іздъва́лі.* Неўгадава. 3. *перан.* Непрыстойны. *Мно́га пагаво́рак ёсь, і са́льных, руга́цельскіх, брахлі́вых.* Каралевічы.

**САМ** *займ.* Сам. *Сам сабо́й хазя́ін быў, зімля́ была́.* Фасаўшчына. ◊ САМ (САМА́) ПРАЗ СЯБЕ́. Самастойна, без нікога. *На цымба́лах сам пра сябе́ ігра́ць навучы́ўся.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе. *Сама́ праз сябе́ навучы́лася шыць.* Багданава. ◊ СА́МІ АТ СЯБЕ́. Самастойна, без дапамогі ад каго-н. *Яны́ са́мі ат сябе́ уме́юць, адна́ ат адные́.* Багданава.

**САМА́** *займ.* Сама, ніхто іншы. *Я съма́ хадзі́ла кала зямлі́.* Каралі. *У саму́е тро́е дзяцёй памёрла. Сама́ ні з'ем, а нясу́ усе́ дамо́й.* Багданава. *Нас самы́х два разы́ завіза́лі.* Гарадзец. *Во съма́ пайду́ ў лес, гэ́тых па́лак прынясу́.* Заазер'е. *Та́та, да́й-ка пъкашу́! Во й сумуе́й на́да* [цяпер сама косіць, а раней прасіла паспрабаваць касіць у бацькі, калі прыносіла яму есці на пожню]. Забор'е. *Полбяды́, што мужу́к кі́нуў, абы́ само́й быць у аўтарыцэ́це.* Каралевічы. *Як жа мяне́ самаю ра́нілі.* Леснікова. *У мяне́ ў съмае́ буракі во які́я.* Марозаўка. *Мне самэ́й на́да было́ пъдъсла́ць.* Запруддзе. *Ёй самэ́й ужэ́ во́сімдзісят.* Міцюкова. *Адна́ гару́ю: гэ́ткі агаро́д убіра́ць самэ́й.* Розмыслава. *Я сама́ лашча́нская, з Лыско́ў.* Закур'е. ◊ САМА́ ПА САБЕ́. Адвольна, незалежна ні ад каго. *Сама́ па сабе́ бальша́я дзярэ́ўня.* Закур'е.

**СА́МА, СА́МЫЯ** *часц.* 1. Такі, які ўказвае на крайнюю ступень чаго-н. *Хало́нна было́, не́як са́ма хо́лат быў.* Нямойта. 2. *прысл.* Якраз, таксама. *І гулубо́ў са́ма так заву́ць: вуль-вуль.* Запруддзе. *Са́ма такі́ і ў нас.* Карпавічы. *Са́ма то́е было́, што і цяпе́р.* Партызаны. *Тут са́ма былі́ лясы́!* Каралі, Рудніца. 3. Якраз цяпер, у гэты час. *Са́ма сізо́н грыбо́ў пад во́сінь.* Вялікі Азярэцк.

**САМАВО́ЛЬНА** *прысл.* Без дазволу. *Мо́жа ўзяў што самаво́льна, ні спра́шываючы.* Міцюкова. *Нічо́га не бяры́ самаво́льна.* Нямойта. *Німа́ тако́га, кап капе́йку узя́ў, пусці́ў самаво́льна.* Партызаны. *Самаво́льна кі́нуў нас.* Неўгадава.

**САМАВУ́ЧКА** *ж.* Той, хто навучыўся нечаму самастойна. *Я ма́ла гра́матна, я самаву́чкай.* Савінічы.

**САМАВЯ́ЗКА** *ж.* Тое, што звязана ўручную. *Съмъвя́зка – так панчо́шына.* Нямойта.

**САМАДЗЕ́ЛКА** *ж.* Усё, што зроблена самаробна, што не куплялася. *Віда́ць, што самадзе́лкі – шкапы́ е́тыя.* Запруддзе.

**САМАДЗЕ́ЛКАВЫ** *прым.* Самаробны. *Дра́чкі былі́ самадзе́лкавыя.* Леснікі.

**САМАДЗЕ́ЛЬНЫ** *прым.* Тое ж. *Штаны́ самадзе́льныя да калёна зъкъса́юць.* Баравікі. *Во фабры́чны тапо́р, а во – самадзе́льны, дро́вы кало́ць.* Фасаўшчына.

**САМАКА́Т** *м. экспр.* Самагонка. *Съмъка́ту ру́мку вы́піў – лажы́ся аддыха́й* [кажа бацька]. Леснікова.

**САМАЛЮБІ́МЕЦ** *м.* Самалюбівы чалавек. *Самалюбі́мцы ёсь лю́дзі.* Гарадзец.

**САМАПРА́ЛКА** *ж.* Самапрадка, калаўрот. *І самапра́лкі, і пасці́лкі пра́ннікамі пе́рылі.* Закур'е.

**САМАПРА́ХА** *ж.* Тое ж. *Пра́лі на самапра́хі.* Карпавічы.

**САМАРДА́ЧЫЦЬ** *зак. экспр.* Займацца жаночым рамяслом. *Тро́ху самарда́чыла, пра́ла.* Буй.

**САМАРО́ДНЫ** *прым.* Прыродны, ад нараджэння. *Былі́ курча́выя, съмаро́дныя въласы́ ў яе́.* Партызаны.

**САМАРУ́ЧНАЕ** *н.* Даматканае. *Тады́ усё съмару́чнае насілі.* Багданава.

**САМАСА́ТКА** *ж.* Курыца-наседка, якая вывела куранят сама па сабе. *Самаса́тка вы́ведзіць гняздо́ ціпля́т.* Багданава, Каралевічы.

**САМАСА́ТКІ** *мн.* Кураняты, якіх вывела курыца-самаседка. *А е́та съмъса́ткі: са́мі се́лі – і са́мі вы́віліся. Самъса́ткі – ку́ры, ву́ткі, са́мі выво́дзяцца.* Каралевічы. *Самаса́ткі вы́вяліся бяс ку́ры. Самаса́ткі – кураня́ты.* Розмыслава. *Ку́рыца сама́ ся́дзіць, вы́ведзіць гняздо́ ціпля́т – самаса́ткі.* Багданава. *Вы́ваткі завём съмаса́ткі, як са́мі.* Вялікі Азярэцк.

**САМАСЕ́ЙКА** *ж.* 1. Самасей. *Мо́жа яка́я тръва́, што насе́іцца сама́, то съмасе́йка.* Міцюкова. *Тъба́ка-съмасе́йка была́.* Гарадзец. 2. Мак-цякун. *Съмасе́йка – е́та лу́чый мак, сам се́йіцца.* Гарадок.

**САМАСТАЯ́ЦЕЛЬНАСЦЬ** *ж.* Самастойнасць. *Стаў жыць, за съмастая́цельнасць, за ум узя́ўся.* Фасаўшчына.

**САМАСТРЭ́Л** *м.* Саматробная стрэльба. *Сам сабе́ здзе́лаў самастрэ́л.* Пожанькі.

**САМАСТРЭ́Л** *м.* Чалавек, які стрэліў сам у сябе. *Съмастрэ́л – прыстралі́ў сабе́ нагу́ і яму́ пе́нсію даю́ць.* Сянно.

**САМАТКА́ЛКА, САМАТКА́НКА** *ж.* Спадніца з даматканага палатна, якое пeратыкалася воўнай; андарак. *Сноў прасты́, а шэ́рсцю патыка́лі. Съмътка́лкі зва́ліся.* Нямойта. *Раскра́шваюць ніткі, у кле́тачку сную́ць – саматка́лкі.* Дуброўкі. *Былі́ ш съмътка́лкі таке́я. Саматка́лкі – спадні́цы ў забо́ры насілі.* Алексінічы. *Былі́ спадні́цы съмътка́лкі. Ку́рты шы́лі, съматка́лкі, спадні́цы ў кле́тачкі, суке́начкі.* Гарадзец. *Саматка́лкі шыро́кіе ткалі. Андара́кі былі́, саматка́лкі шыро́кія.* Дольдзева. *Саматка́лку надзе́ніш да і цiга́ешся в ней.* Партызаны. *Саматка́лкі лу́чшыя надзява́лі.* Закур'е. *Ране́й саматка́нкі насілі.* Закур'е. САМАТКА́ЛАЧКА *ласк. Саматка́лачкі былі́ ў кле́тачку, у пало́ску, ю́пкі шы́лі.* Станюкі. *Ма́ма саматка́лачкі вы́ткець.* Алексінічы.

**САМАТКА́ЛЬНЫ** *прым.* Самаробны, даматканы. *Пасці́лка саматка́льнъя.* Баравікі. *Бялле́ саматка́льнае было́. Са саматка́льнага што пашы́ць. Лу́гам мы́лі ўсё саматка́льнае.* Гарадзец. *Ра́ньшы саматка́льнае усё было́.* Дольдзева. *Саматка́льны ге́тат пулаві́к.* Заазер'е. *Я ўжо была́ дзяўчы́нкай, съмътка́льнае ткалі.* Нямойта. *Ме́тар мануфаркту́ры стóіў со́рак яе́ц, так съмътка́льнае насілі.* Кляпчэва. *Съмътка́льныя дры́ліхі вытыка́лі.* Ракаў Засценак. *Съматка́льнае ра́ньшы ўсё было́.* Запруддзе, Буй, Кляпчэва.

**САМАТКА́НЫ, САМАТКА́ННЫ** *прым.* Тое ж. *Ра́ньшы съмътка́ныя усё было́.* Дольдзева. *Сама́ хадзі́ла у съматка́нным пла́цце.* Вялікі Азярэцк.

**САМАЦЁКАМ** *прысл.* Які выцякае без дапамогі, сам па сабе. *Мёт з ву́зы съмацёкъм выціка́іць.* Фасаўшчына.

**САМДЗЕ́ЛАШНІ** *прым.* Самаробны. *Рубца́ ла́вачнага не было́ на іх* [пра тое, у што былі апрануты дзеці] – *усё самдзе́лашняе.* Цясішча.

**СА́МКА** *ж.* Самка. *Уністо́жаць са́мку* [бусла] *ці самца́ – бу́дуць аднэ́і век дажыва́ць.* Нямойта.

**САМСО́Н** *м.* Уласнае мужчынскае імя. *Святы́ Самсо́н, сасніся сон, каб прыйшо́ў Анто́н. Калі не прыйдзець, хай мая́ жызня сатрэ́цца* (з замовы). Каралевічы.

**САМСЦІ́ЦЬ** *зак.* Адпомсціць. *Самсціць, ці што спъгъня́іш.* Гарадзец. *Да́йця я зъ сваю кроў* [за сына] *самшчу́.* Закур'е.

**САМШО́НЫ** *дзеепрым.* Зымшэлы. *Як ні самшо́ны сруп, мо́жна пераво́зіць.* Марозаўка.

**САМШЫ́ЦЬ, ШАМШЫ́ЦЬ** *зак.* Перакласці мохам бярвёны, ставячы цёплы будынак; зымшыць. *Зрубілі, самшылі і кладу́цца ашлапны́я бро́ўны.* Вялікі Азярэцк. *Самшым – кладу́цца бурла́ты, а на бурла́ты кладу́цца кро́квы.* Леснікова. *Самшылі і склалі ха́ту.* Партызаны. *Дзе́віць вянцо́ў съмшылі мо́хам, а астальну́ю злажылі так.* Серкуці, Леснікова, Савінічы, Ульянавічы. *Бурла́ты кладу́цца, як шъмша́ць, каб крышу дзяржа́лі.* Дольдзева.

**СА́МЫ, СА́МЫЙ** *займ.* Самы (указвае на крайнюю ступень чаго-н.). *У са́мый кут зъгна́ў каро́ў.* Гарадок. *Тры, чатыры ме́тры ўеш с са́мых атхо́дуў, а тады́ пътплітаіш* [лапці]. Самсоны. *Ульянуўская во́лъсь была́ са́мъя бъга́тъя на грыбы́.* Пожанькі. *Як у са́мы біражо́к пры́дзіць* [рыба]. Багданава, Гарадзец, Дольдзева.

**САНАТО́РЫЯ** *ж.* Санаторый. *По́сьлі балёзьні ў санато́рыю ёзьдзіла.* Заазер'е.

**СА́НІ** *толькі мн.* Сані. *У са́ні запраге́ць і паедзіць.* Дуброўкі. *Ле́там на́да дзе́лаць са́ні, а зімо́й калёсы.* Леснікова.

**СА́НКІ** *толькі мн.* Тое ж. *Бальшынство́ са́нкі заву́ць. Во́сем капыло́ў у са́нках.* Гарадзец. СА́НАЧКІ *памянш.* Саначкі. *Са́нъчкі дзяцём здзе́лаў ката́цца.* Гарадзец.

**СА́НКІ** *толькі мн.* Скіўіцы. *Як зу́бы баля́ць, то і са́нкі баля́ць.* Баравікі.

**САПАГІ́** *мн.* Боты. *Сапагі, ту́флі купля́іш* [у сне] – *друг з'я́віцца* (павер'е). Каралевічы.

**САПЛАША́ЦЬ** *зак.* Сапсавацца. *Іна́* [карова] *съплаша́ла, нежыво́га цялёнка радзіла.* Нямойта.

**САПЛІ́ВЕЦ** *м. зневаж.* Пра нявопытнага чалавека. Саплівы. *Сапліве́ц ты!* Гарадзец.

**САПЛЮ́КА** *агульн. зневаж.* Тое ж. *Ах ты саплю́ка, саплі цяку́ць.* Нямойта.

**САПО́ЖНІЧАЦЬ** *незак.* Займацца шавецтвам, быць шаўцом. *Кра́йняя ха́та, во інвалі́т, ён сапо́жнічаў, а паха́ць ні мох.* Івоні. *Тро́ху сапо́жнічаў мужы́к, а по́сле вайны́ стро́іць памага́ў.* Нямойта.

**САПСАВА́ЦЦА** *зак.* Распаўнець, расплысціся. *Як за́муж за́йдуць, так і сапсую́цца – ба́бамі ста́нуць.* Нямойта.

**САПСА́Н** *м.* Драпежная птушка сямейства сакаліных, сапраўдны сокал; сапсан. *Сапса́н, то́жа іна́ хішчная, вро́дзі каршуна́, клюў крывы́, шэ́ры цвет.* Вялікі Азярэцк.

**САРАВА́ТКА** *ж.* Сыроватка. *На сарава́тцы хлеп спячэ́ш.* Багданава.

**САРА́ЙКА** *м.* Невялікі хлеў. *Та́мацькі сара́йка, ба́ня.* Закур'е.

**САРАКАВІ́НЫ** *мн.* Памінальны стол па нябожчыку праз сорак дзён пасля смерці. *Со́рак дней про́йдзіць, тады́ саракаві́ны дзе́лалі.* Фасаўшчына.

**САРАКАНО́ШКА** *ж.* Сараканожка. *Як бурт бу́льбы дабіра́еш, на дне мільёны сарака́но́жак.* Вялікі Азярэцк.

**САРАКВА́ША** *ж.* Сыракваша, кіслае малако. *Сараква́шу сві́нням ллю.* Партызаны. *Сараква́шу е́лі, а вясёлыя былі.* Дольдзева.

**САРАКІ́** *мн.* Прысвятак у народна-царкоўным календары, які бывае ў сакавіку. *Саракі ў чэсць пту́шак. Гаво́раць птушы́ная свя́та.* Нямойта. *Саракі 22 ма́рта. Со́рак выраяў прылята́ець. Со́рак клёцак пяклі. Бу́льбы надзярэ́ш, напячэ́ш,*

*у школу ідзём і ядзім – хвалілісі.* Міцюкова, Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Заазер'е, Запруддзе, Леснікова, Ракаў Засценак, Розмыслава, Самсоны, Чуцькі. *На Саракі тры разы трэба аббегаць кругом хаты і сорак шчэпак сабраць, тады яйцы на купінах будзеш находзіць* (павер'е). Багданава, Партызаны.

□ *Саракі – вада пашла з ракі.* Дольдзева. □ *На Саракі пойдзіць зіма да ракі.* Вялікі Азярэцк. □ *Саъракі гонюць снех дъ ракі.* Запруддзе.

**САРАПУЦЯ** *ж.* Сыракваша. *Сарапуці каму наліць?* Міцюкова.

**САРАЧАНЁНАК** *м.* Сарачаня. *У сарокіным гняздзе толькі адзін съраченёнък вывіўся.* Сянно.

**САРАЧЫНЫ** *мн.* Памінальны стол па нябожчыку праз сорак дзён пасля смерці. *Дзевяціны сабіраюць, шасціны, сарачыны – шэсць нядзель, эта ўжо нада сваіх усіх.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева.

**САРВАТЫ** *дзеепрым.* Сарваны. *Сарватыя ў нашай каровы рогі.* Мянюцева.

**САРВАЦЦА** *зак.* 1. Пашкодзіць здароўе ад празмернага напружання. *Залатнік – бываіць сарвецца чалавек.* Запруддзе, Жохава. 2. Хутка, імкліва пакінуць якое-н. месца. *Пабех, як сабака сарваўся с цэпа.* Серкуці.

**САРВАЦЬ** *зак.* 1. Адарваць, сашчыпаць. *Сарвець зверху, а не вырываіць с карнём.* Запруддзе 2. *незак.* Зрываць. *Жалезная бърънá бульбу сарвайіць, як баранўеш пасля абганяння.* Міцюкова. 3. Здзерці, абадраць скуру. *Вясною каровы колюцца, наша сарвала лапік.* Гарадзец. 4. *перан.* Прымусіць пакінуць. *Стыдна людзям глянуць у вочы: нашто ты дзеўку сарваў з Віцебску.* Запруддзе.

**САРВЫВАЦЬ** *незак.* Зрываць, скідаць. *Сарвывалі іконы ў нас.* Багданава.

**САРГАНІЗАВАЦЬ** *зак.* Арганізаваць, стварыць. *А патом у трыццаць первым гаду апяць калхос сарганізавалі.* Савінічы, Багданава.

**САРЖАВЕЦЬ** *зак.* Саржавець. *Саржавеіць матацыкл.* Партызаны.

**САРОКА** *ж.* Сарока. *Кажуць, калі сарока забітъя ў хляву вісіць, то ніхто мълъка ні адбярэць* (з назіранняў). Нямойта. *У нас там роў ёсь. Рас іду, а дразды крычаць, гляджу, аш сарока ў дзюпку яйцо і пънясла.* Сянно, Багданава, Вялікі Азярэцк, Латыгаль, Розмыслава, Цясішча. *Як сарока ў вакно – на новасць* (прыкмета). Каралевічы.

□ *Сабака бегла, а сарока на хвасце сядзела.* Партызаны. □ *Сарока стракочыць – бяды хочыць.* Партызаны.

**САРОМНЫ** *прым.* Непрыстойны. Міцюкова.

**САРОЧКА** *ж.* Мужчынская або жаночая кашуля. *Падай мне сарочку.* Міцякова, Нямойта. *Чаго ты прыдраўся? Кап цябе сарочка ні чапала, я цябе ні чапаю!* (праклён). Вялікі Азярэцк.

□ *Свая сарочка бліжэй к целу.* Багданава.

**САРТАВАЦЬ** *незак.* Перастаўляць. *Сартуем, каторую булку на халаднейшым месцы, каторую – на жарчэйшым дзержым, як пячэш хлеп.* Міцюкова.

**САРЦАВІНА** *ж.* Сарцавіна. *Сарцавіны папракручвалі.* Партызаны.

**САРЫНА** *ж.* Парушына. *Сарына ў вока ўляцела.* Сукрэмна, Багданава.

**САСЕД** *м.* Сусед. *У дзярэўні мы саседы.* Савінічы. *Бывала, сасет с саседам як браты былі.* Вялікі Азярэцк, Каралевічы.

**САСЕДНІЧАЦЬ** *незак.* Блізка, побач з кім-н. жыць. *Яны там саседнічаюць з унукам маім.* Нямойта.

**САСЁНКА, САСО́НКА** *ж.* Сасонка. *Раздзе́ўся, сеў пат сасёнку і сядзіць го́лы.* Жохава. *С сасо́нкі, з е́лкі ва́руць варэ́нне.* Багданава, Ульянавічы. САСЁНАЧКА *памянш.-ласк. Схадзіла ў бор, сасёначку прынесла, у вядзе́рка паста́віла.* Нямойта.

**САСІ́ЦЬ** *незак.* Карміць грудзьмі. *Як ма́ці рэгулярна не ста́не сасі́ць дзіця́, перагары́ць малако́, по́рціцца.* Партызаны. *Мая́ няве́стка рабёнка сасіла гот.* Багданава.

**САСКО́ЧЫЦЬ** *зак.* Саскочыць. *Ён саско́чыў с пе́чы і за ёй пабе́х.* Фасаўшчына.

**САСКРАБА́ЦЦА** *незак.* Саскрабацца, счышчацца. *Вы́верніш пру́цік з ве́ніка, папала́м сагне́ш, працягваеш і саскраба́ецца, кішо́чка то́нкая стано́віцца.* Міцюкова.

**САСКУЧА́ЦЬ** *зак.* Засумаваць. *Саскуча́ла я.* Багданава.

**САСКУ́ЧЫЦЬ** *зак.* Тое ж. *Бабу́ля, саску́чыла па табе́.* Закур'е.

**САСЛІ́ЗНУЦЬ** *зак.* Пакрыцца слізззю, сапсавацца. *Ён асьлізніць у вас у мяшку́* [цыбуля], *саслі́зніць.* Запруддзе.

**САСМАРГНУ́ЦЬ** *зак.* Сашмаргнуць, абарваць. *Ве́тку я́гат як сасмаргне́ш, у руку́ ня ўле́зіць.* Кішуроўшчына.

**САСМО́РГУВАЦЬ** *незак.* Сашморгваць, абрываць. *Як красу́іць жы́та, то нільзя́ сасмо́ргувъць цвяткі, бо мы жывём на пашы́нуй до́лі, на той ча́стцы мало́га ко́ласа, які застаўся пасля бо́жага пакара́ння за нарака́нне, што ко́лас быў вялікі ад зямлі, ад пе́ршага сукалёнца на сало́міне.* Партызаны.

**САСНІ́НА** *ж.* Сасна. *А сук ат сасніны сухі – і па мне!* Багданава.

**САСНІ́ЦЦА** *зак.* Сасніцца, прысніцца. *Свято́е Узві́жанне, сасніся: найці мне до́брага мужыка́* [дапамажы]. Каралевічы. *Калі сасніцца гняздо́ яе́ц, то напа́сці, ніпрыя́тнасці* [будуць] (павер'е). Нямойта, Багданава, Запруддзе, Ракаў Засценак, Леснікова.

**САСО́ННІК** *м.* Сасоннік. *Налама́ім сасо́нніку ў ле́сі, мятлу́ зро́бім і вы́мяту ў пе́чы.* Леснікова, Запруддзе. САСО́ННІЧАК *памянш. Лісічкі лю́бяць у сасо́ннічку расці. Тут кла́дбішча, дзе сасо́ннічък.* Баравікі.

**САСТА́ВЫ** *мн.* Суставы. *Ста́лі бале́ць ко́сці ў ста́вах.* Партызаны.

**САСТАРЭ́ЦЬ** *зак.* Састарэць. *Дзет рабо́тъў тут і състарэ́ў тут.* Багданава. *Састарэ́ў Пълка́н* [конь], *здалі па ста́расці.* Запруддзе.

**САСТАЯ́НІЯ** *н.* Стан. *Як у каго́ състая́нія.* Кавалі.

**САСТО́ЯЦЦА** *зак.* Састояцца, сабрацца зверху, пастаяўшы нейкі час (пра малако). *Цы́пкі са́лам нісалёным, але́ім, вяршко́м пама́жуць, як то́лькі састо́іцца.* Неўгадава.

**САСТУПА́ЦЬ** 1. *незак.* Пакінуўшы якое-н. месца, перайсці на іншае. *Саступа́іць на край сто́га, і яму́ падаю́ць се́на завяршы́ць стог.* Леснікова. 2. *зак.* Ісці на ўступкі адпаведна з патрабаваннямі, пажаданнямі іншых. *Е́сць жо́нкі састу́пяць, а е́сць – і не састу́пяць.* Нямойта.

**САСТУПІ́ЦЬ** *зак.* Адысці ўбок. *Ідзе́ць – і не састу́піць з даро́гі, а тут машы́н по́ўна.* Вялікі Азярэцк.

**САСУ́ДА** *ж.* Сасуд, жыла. *Нагну́лася, уда́рылася, мало́чная сасу́да абраза-ва́лася гузлачко́м.* Нямойта.

**САСУ́ДЗІНА** *ж.* Тое ж. *Сасу́дзіна як бы ло́пнула.* Запруддзе.

**САСУ́ЛКІ** *мн.* Ледзяшы. *Сасу́лкі звіса́юць.* Багданава. *Сасу́лкі дзе́ці рвуць і смо́кчуць* [са стрэх]. Міцюкова.

**САСУ́Н** *м.* Сысун. *Сасу́н – цялёнак, які яшчэ́ ссе.* Нямойта. *Сасу́н ссець ма́тку, а атнялі – атнёмыш.* Нямойта. САСУНО́К *памянш.-ласк.* *Сасуно́к, калі ссець цялёнъчък.* Багданава.

**САСУ́ТКІ** *мн.* Ледзяшы. *Дзе́ці рвуць сасу́ткі.* Багданава.

**САСЦІГА́ЦЬ** *зак.* Насцябаць, набіць. *Кап мы ні слу́халі, наш бы па́па съсцігá ў бы нас.* Міцюкова.

**САСЦІРНУ́ЦЬ** *зак.* Памыць. *Сасцірну́ мо што лягчэ́йшае, але́ паго́да дрэ́нная.* Нямойта.

**САСЦІ́СНУЦЬ** *зак.* Сціснуць. *Зу́бы сасці́снуліся, а я ло́жку туды́.* Нямойта.

**САТВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Вытварыць. *На Купа́ла сатвары́лі ту́тацькі.* Чуцькі.

**САТКА́ТЫ** *дзеепрым.* Сатканы. *Сатка́тае з свайго́ сукна́ пальто́.* Запруддзе.

**САТЛЕ́ЦЬ** *зак.* Сатлець. *Э́та тако́я тле́лае ўнутры́ ў дзе́раві, про́ста так сатле́іць.* Гарадзец.

**САТРО́ДУ** *прысл.* Ніколі. *Я сатро́ду ня е́ла шынпіёнуў.* Гарадок.

**САЎЛАДА́ЦЬ** *зак.* Справіцца. *Вас у мяне́ чэ́цвера, дзе ш з ва́мі саўлада́ю.* Сянно.

**САЎМЕ́СЦІ** *прысл.* Сумесна, разам. *Мъхъвікі і ку́рачкі саўме́сці расту́ць.* Кавалі.

**САЎРЭМЁННЫ** *прым.* Сучасны. *Я саўрэмённы чалаве́к, хоць у го́радзе і не жыву́.* Багданава.

**САЎСІ́М, САЎСЕ́М** *прысл.* Зусім. *Саўсі́м да вайны́ ма́ла было́ маце́рыі, усяму́ рат.* Леснікова, Заазер'е, Запруддзе, Кішуроўшчына, Партызаны, Фасаўшчына, Дуброўкі. *Саўсе́м павярну́цца німа́ як.* Апечкі, Галашчакіна. *Саўсе́м закі́нулі дзярэ́ўню.* Закур'е.

**САЎХО́СКІ** *прым.* Саўгасаўскі. *У нас саўхо́скія пчо́лы.* Каралі, Мянюцева.

**САХА́** *ж.* Прымітыўная сельскагаспадарчая прылада для ворыва; саха. *Саха́ бу́льбу аку́чваць. Съха́ была́, два ле́мяшы с-падні́зу, два рагі́, ганя́юць бу́льбу.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Каралі, Манголія, Міцюкова, Нямойта.

**СА́ХАР** *м.* Цукар. *Прэ́мію дъва́лі: ужэ́ мукі́, са́хару дъва́лі, гро́шы ш ні было́ купі́ць за што.* Заазер'е.

**СА́ХАРНЫ** *прым.* ○ СА́ХАРНЫ ДЗІБЕ́Т. Цукровы дыябет. *Атку́ль той са́харны дзібе́т* [дыябет] *узя́ўся?* Леснікова.

**САХРАНІ́ЦЦА** *зак.* Захавацца. *Ме́трыкі ні съхрані́лісі.* Замошша.

**САЧО́К** *м.* Рыбалоўная снасць у выглядзе сеткі, нацягнутай на абручы; сак, жак. *Сачо́к і тапту́н былі́.* Багданава.

**САЧО́К** *м.* Жаночая верхняя вопратка, паўпаліто; сак. *Сак, сачо́к са́мі шы́лі, ра́бінькія, уся́кія.* Партызаны.

**САЧУ́СТВАВАЦЬ** *незак.* Спачуваць. *Ра́ньшэ сачу́ствавалі па старыка́х, а цяпе́р дзе́ці такія, што ні сачу́стваюць.* Марозаўка.

**САЧУ́СТВІЕ** *н.* Спачуванне, спагадлівыя адносіны. *У ка́ждага было́ сваё сачу́ствіе: хто се́рцы йме́ў, той с пасле́днім дзялі́ўся.* Марозаўка.

**СА́ЧЫК** *м.* Жаночая верхняя вопратка, паўпаліто; сак. *Ку́ртка, са́чык бы́ў – жано́цкая адзе́жа.* Фасаўшчына.

**САЧЫ́ЦЦА** *незак.* Сачыцца, выцякаць тонкім струменем (пра вадкасць). *А чаго́ кроў со́чыцца? Ра́на ў яе́.* Савінічы, Самсоны.

**САШЧАПІ́ЦЬ** *зак.* ◊ САШЧАПІ́ЦЬ РУ́КІ. Памерці. *Цяпе́рыцька, як сашчэ́піш ру́кі, тады́ ня бу́дзіш забо́ціцца.* Рулёўшчына.

**САШЧЫ́ПЛІВАЦЬ** *незак.* Сашчыпваць. *Сашчы́пліваюць ку́ры агуркі мъладзе́нькія, бурачкі.* Запруддзе.

**САЧЭ́НЬ, САШЭ́НЬ** *м.* Выраб з кіслага цеста; сачэнь. *Е́та ў нас нъзъвалі сачэ́нь, с це́ста с кісльга.* Заазер'е, Дуброўкі. САЧАНЁК *памянш. У нас съчанёк заву́ць, сачні пяку́ць з хле́бнъга це́ста.* Дуброўкі. *Сашэ́нь спяклá.* Дольдзева.

**САШЫ́ЦЬ** *зак.* Пашыць. *Мáтка с пълътнá су́мкі ў шко́лу сашы́іць.* Запруддзе.

**САШЭ́ЙНЫ** *прым.* Шашэйны. *Ту́тыцькі ні было́ сашэ́йныя даро́гі.* Алексінічы.

**СБАМБІ́ЦЬ** *зак.* Пабамбіць. *Нас сбамбілі не́мцы.* Партызаны.

**СВАБАДНЕ́Й** *прысл.* Больш вольны, незаняты. *Мо́жа ў нядзе́лю бу́ду свабадне́й.* Багданава.

**СВА́ДЗЕБНЫ, СВАДЗЁБНЫ** *прым.* 1. Які мае адносіны да вяселля; вясельны. *На́да фатагра́фії сва́дзебныя здзе́лаць. Адны́ сва́дзебные пе́сні пяюць на сва́дзьбе.* Жохава, Марозаўка. *Свадзёбныя пе́сні пе́ла.* Чуцькі, Багданава. *Прышлі ма́льцы дзеравенскія ні сва́дзебные.* Партызаны. 2. *мн.* Удзельнікі вяселля. *Ве́чарам сва́дзебныя іду́ць у клуп. Пры́дзіць прытсіда́ціль калхо́за – угашча́іць, а свадзёбныя сідзя́ць і сідзя́ць.* Фасаўшчына.

**СВА́ДЗЬБА** *ж.* Вяселле. *На сва́дзьбе піце, е́шце і пе́йце.* Каралевічы, Леснікова, Запруддзе, Розмыслава. *Ско́лькі сва́дзьбу ігра́лі, дождж ішо́ў – на бага́тства.* Партызаны. ○ ВАЎЧЫ́НАЯ СВА́ДЗЬБА. Перыяд цечкі ў ваўкоў. *Як сва́дзьба ў ваўко́ў – не папада́йся ім.* Алексінічы.

□ *Сва́дзьба рубашку на́йдзіць.* Івоні, Вялікі Азярэцк, Пожанькі.

**СВАЁ** *займ.* Сваё. *С свайго́ сукна́ пашы́лі.* Гарадзец, Багданава.

**СВАЙСТВО́** *н.* Сваяцтва. *А кампа́нія нізавісіма ат свайства́, е́та свае́, а гэ́та і чужы́я.* Леснікі.

**СВА́РКА** *ж.* Сварка. *У нас усігда́ сва́рка. Ёсць і сва́рка, ёсць і папра́ўка, уме́сці жывучы́.* Дольдзева, Багданава, Вялікі Азярэцк.

**СВАРЛІ́ВЫ** *прым.* Сварлівы. *Сварлі́вая баба і німа́ за што завядзе́цца.* Гарадзец.

**СВАРЫ́ЦЦА** *незак.* Сварыцца. *Сва́рацца, руга́юцца адзін на аднаго́.* Заазер'е, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Міцюкова, Нямойта, Партызаны, Закур'е.

**СВАТ** *м.* Сват. *Сва́та хоць палаце́нцам абвяжы́.* Багданава, Нямойта.

□ *Сва́ту пе́рвая ча́рка і пе́рвая па́лка!* Багданава.

**СВА́ТАЦЦА** *незак.* Сватацца. *Ра́ньшы не сва́таліся. Са́дзіць і вязе́ць ба́цька па дзярэ́ўні перад Каля́дамі і крычы́ць: дыра́ паспе́ла. Ма́льцы выхо́дзяць: спе́лую дыру́ завара́чвай к майму́ двару́. Пато́м запо́іны.* Дуброўкі.

**СВА́ЦЦЯ** *ж.* Свацця. *Мая́ сва́цця жыла́ ў Запру́ддзі.* Багданава, Дуброўкі, Запруддзе, Партызаны. СВА́ЦЬКА *ласк. Сва́цька мая́, усё мне бу́дзіць.* Нямойта.

**СВАЯ́К** *м.* Сваяк, родзіч. □ *Свой сваіка́ ві́дзіць здаліка́.* Вялікі Азярэцк.

**СВАЯ́ЧКА** *ж.* Сваячка. *На́ша е́зьдзіла сваячка.* Запруддзе.

**СВАЯ́ЧЫНА** *ж.* Радня. *А там у нас сваячына.* Алексінічы.

**СВАЯ́ЧЫНЯ** *ж.* Сваячка. *Сваячыня была́ медсястро́й, рассаве́тавала прыма́ць то́е лякарства.* Кляпчэва.

**СВЕ́ЖЫ** *прым.* 1. Свежы, чысты. *Не́хта асуро́чыў сястру́. Я пашо́ў у каро́дзіш і прынёс въды́. Іна́ вы́піла, пъмачы́ла твар, гру́дзі і яе́ атпусціла. Пъмъга́іць све́жая въда́.* Самсоны. 2. Малады. *Све́жую бу́льбу яшчэ́ ні капа́ю ў цяпе́ръшняе ўрэ́мя.* Каралевічы. 3. Які ўпершыню з'явіўся дзе-н., чужы, дагэтуль тут невядо-

мы. *Свежы чалавек увайшоў у хату – і гіпноста цыганская адыйшла.* Нямойта. 4. Новы. *Варочаюся, мне жарка, не сплю на свежым месяцы.* Запруддзе, Гарадок.

**СВЕКРАТКАЎ** *прым.* Які належыць свекрыві. *Не таткаву, а свекраткаву брашку піла.* Багданава.

**СВЕРБАТА, СВІРБАТА** *ж.* Сверб. *Як свербата, патры шчаўлюком коньскім, не стане свארбець.* Запруддзе. *Крапіва рукі папякла, свірбата замучыла.* Дольдзева.

**СВЕРДЗЕЛ** *м.* Свердзел. *Свердзел пракруціць дзіркі.* Дольдзева, Вялікі Азярэцк.

**СВЕТ** *м.* 1. Зямля з усім тым, што на ёй існуе, сусвет. *Свет не бяз добрых людзей, ад душы пагавораць, падзеляцца.* Гарадзец, Багданава, Нямойта, Партызаны, Самсоны. *Кап ты так свет божы відзіў!* (праклён). Багданава, Нямойта. 2. Святло. *Дым заверніць – і сьвету ні відаць.* Запруддзе. 3. Досвітак. *Толькі на свет стала.* Неўгадава. 4. Электрычнае святло. *Бура была, свету не было.* Каралі. ◊ СВЕТУ НЕ ВІДЗЕЦЬ. Быць вельмі занятым. *Ён свету не відзіць за работай.* Багданава. ◊ ПУСЦІЦЬ НА СВЕТ. Нарадзіць. *На свет пусціў гървацьь бацька.* Самсоны. ◊ ТОЙ СВЕТ. Замагільны свет. *На той свет зубы ні ставюць.* Рэчкі. *І дамоў атправілі – на той сьвет.* Нямойта.

□ *Не ўвесь свет, што ў вакне, за акном болей.* Каралевічы.

**СВЕТ** *м.* Многа. *У мяне свет пабралі эціх адрасоў.* Розмыслава. *Тут свет людзей!* Багданава. ◊ У СВЕЦЕ. Далёка. *У свеце не бяры дзеўку, а сваю, з дзярэўні.* Розмыслава. ◊ ЗА СВЕТ. Тое ж. *Ездзіла за свет за кормам цілятам.* Серкуці, Багданава, Парэчча. ◊ СВЕТ КАЛІ. Вельмі даўно. *Гэта даўно было, свет калі!* Чуцькі.

**СВЕТАЧ, СВЕТАШ, СВЕТЫШ, СВЕТУШ** *м.* 1. Прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны; лучнік. *Пралі пры лучыні, светач на трох ношках стаіць пасярот хаты: калодачка, кіёк тут з жалеза здзеланы, утыркалі лучынку.* Нямойта, Алексінічы, Багданава, Запруддзе, Леснікова, Партызаны, Сукрэмна, Ульянавічы. *Вот ні было карасіну, насушаць лучыны сасновыя, лучынку у светаш, і баба прадзець.* Сукрэмна. *Лучыну палілі, называўся светаш, палка такая, жалезіна, на хрэставіне стаіць. Вісеў светыш, лучыну туда торкалі.* Багданава. 2. Той, хто трымаў светач. *Хто за светушу будзіць? Я згаджалася. Светуш – хто дзержыць лучынкі.* Нямойта.

**СВЕТЛА-ГНЯДЫ** *прым.* Светла-гняды (масць каня). *Такі красівы, светла-гняды конь.* Дольдзева.

**СВЕТЛА-ЖОЎЦЕНЬКІ** *прым.* Светла-жоўценькі. *З рапсу мёт светла-жоўценькі.* Нямойта.

**СВЕТЛА-РЫЖЫ** *прым.* Светла-рыжы. *Конь здаровы, светла-рыжы.* Дольдзева.

**СВЕТЛА-СЕРЫ** *прым.* Светла-шэры. *Ёсь коні светла-серыя масці.* Сянно.

**СВЕТЛЫ** *прым.* Светлы, чысты, празрысты (пра вадкасць). *Сніцца вада чыстая, светлая – ета к дарозі* (павер'е). Леснікова, Запруддзе.

**СВЕТУШНІК** *м.* Прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны; лучнік. *Светушнік быў, лучын наскіпаеш і ў светушнік уставіш.* Багданава.

**СВЕЧКА** *ж.* Свечка. *Трэба свечку запаліць.* Нямойта. СВЕЧАЧКА *памянш.* *Свечачку купіла, запаліла, сама на каленках стаяла, Богу малілася.* Заазер'е, Багданава. ◊ НІ БОГУ СВЕЧКА НІ ЧОРТУ КАЧАРГА. Пра пасрэднага чалавека, які не вызначаецца здольнасцямі да чаго-н. *І сама збросіла – і асталася ні богу свечка, ні чорту качарга.* Кляпчэва, Ульянавічы.

**СВЕ́ЧКА** *ж.* Кропля тлушчу на паверхні вадкай стравы. *Све́чкі пла́ваюць, дзе́ці не хо́чуць е́сці суп.* Багданава, Алексінічы. СВЕ́ЧАЧКА *памянш. Укініш у по́ліўку любо́я мяса, то све́чачкі стая́ць.* Дольдзева.

**СВЁКАР** *м.* Свёкар. *Свёкар ліжа́ў у бальні́цы.* Закур'е.

**СВІДА́ННЕ** *н.* Світанак. *Да свіда́ння по́ту вы́льеш чорт зна́іць ко́лька.* Ульянавічы.

**СВІДЗЕ́ЦІЛЬ** *м.* Сведка, дружка (на вяселлі). *Падру́х бра́лі як за свідзе́циляў.* Запруддзе.

**СВІЖА́К** *м.* Неаплодненае яйка. *Свіжа́к – як усё адно́ све́жанькае яйцо́.* Станюкі. *Я́йцы свежакі, як пало́жыш, так і вы́меш.* Багданава.

**СВІНАКРО́П** *м.* Свінакроп (расліна). *Свінакро́п каля згаро́ды, расце́ць па бу́льбі дро́бненькі.* Запруддзе, Багданава.

**СВІНАМА́ТКА** *ж.* Свінаматка. *Гало́ў сем есь свінама́так тут у нас.* Латыгаль, Нямойта.

**СВІНА́РКА** *ж.* Свінарка. *Іна́ рабо́таіць сьвіна́ркай.* Вялікі Азярэцк.

**СВІНАСЛО́ВІЯ** *н.* Брыдкаслоўе. *І дзе́ўкі, і ма́льцы, і така́я свінасло́вія.* Кляпчэва.

**СВІНЁНАК, СВІННЁНАК** *м.* Парася. *Хто свінёнка увідзіць* [у сне], *то да свінства, а як мне, то да гасцей.* Леснікова, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Нямойта, Савінічы, Фасаўшчына. *Свіннёнка пайду́ карміць.* Партызаны.

**СВІНІ́НА** *ж.* Свініна. *Яны́ й свініну, яны́ й кура́ціну* [елі]. Леснікова.

**СВІ́НКА** *ж.* Свінка (хвароба). *Сві́нка ў дзяце́й была́.* Гарадзец.

**СВІННА́РНІК** *м.* Свінарнік. *Свінна́рнікі пападзе́лълі кірпі́чныя.* Баравікі.

**СВІННЕ́Ц** *м.* Сівец. *Свінне́ц не яду́ць каро́вы.* Запруддзе.

**СВІННУ́ХА** *ж.* Тое ж. *Свінну́ха – яна́ не падае́цца ў касу́, слізкая така́я, яе́ каро́вы не яду́ць.* Партызаны.

**СВІННЯ́** *ж.* Свіння (свойская і дзікая). *На́да свінні́ даць е́сці.* Запруддзе, Багданава, Вялікі Азярэцк, Жохава, Заазер'е, Карпавічы, Нямойта, Ракаў Засценак, Ульянавічы, Фасаўшчына. *Сві́нні дзікія ішлі ў пу́шчы, ста́дам і пайшлі.* Багданава, Жохава, Каралі. СВІ́НКА *памянш. Сёліта здъла́ сві́нку.* Чуцькі, Партызаны.

□ *Сві́нні ні да парася́т, калі на аго́нь нясу́ць.* Каралі. □ *Кап свінні́ ро́гі – не саступіла б з даро́гі.* Вялікі Азярэцк. □ *Дай свінні́ ро́гі, то й свет пераве́рнець.* Запруддзе. □ *Ні дай бох свінні́ рох.* Ульянавічы. □ *Свінню́ ніхто́ ня хры́сціць.* Каралевічы. □ *Свіння́ грась на́йдзіць.* Ульянавічы.

**СВІННЯ́** *ж.* 1. Чорны грузд (грыб). *Сьві́нні, у іх верх чо́рны, а знізу бе́лыя, мълако́ ёсь, яны́ го́ркія, йіх ва́рым, перабіра́ем ат шумы́, кап шумы́ ні было́, і ва́рым.* Міцюкова, Баравікі, Дольдзева, Каралі, Старая Беліца. СВІ́НКА *памянш. Сві́нкі салі́лі і пад гнёт.* Старая Беліца. 2. Свінушка (грыб). *Глухе́я свінні́ мясі́стыя, расту́ць куста́мі, плі́ткъмі, курганóм.* Дольдзева.

**СВІНТАЯ́НКА** *ж.* Святаяннік, зверабой (расліна). *Свінтъя́нкі нъта́піла і дъва́лі каро́ві, як крывамо́чка была́.* Заазер'е.

**СВІРЭ́ПІЦА** *ж.* Свірэпка (расліна). *Свірэ́піца жо́ўтым такі́м цвіці́ць, па по́лю бальшынство́, свінні́ яе́ ні яду́ць. Свірэ́піца гарка́вая, і па ячме́ню, і па ўся́каму дабру́ расце́ць.* Жохава, Багданава, Запруддзе, Каралі, Кляпчэва.

**СВІСТА́ЦЬ** *незак.* 1. Свістаць. *Віста́ць нільзя́ ў ха́ці, у лес ідзі́ свіста́ць, бо пустата́ бу́дзіць у даму́.* Запруддзе. СВІСЬ. Раптоўна, нечакана свіснуць. *А мы ідзём ззáдзі, свісь! Спі́чкі як запа́лім.* Запруддзе. 2. *экспр.* Вельмі хутка нешта

рабіць. *Я свішчў і свішчў ля мяжы́, ніўзбіга́ючыся, кап сноп у снóп.* Чуцькі. 3. Біць, ліцца з сілаю. *Кроў свíшчыць.* Галашчакіна.

**СВІСТО́К** *м.* Свісток. *Свісткí дзéлълі ў фóрмі пітушка́.* Кляпчэва.

**СВІСТУ́Н** *м. перан.* Пра вельмі вадкі (няспелы) мёд. *Свістýн бýдзіць ліцца, як въда́, гóніць ягó лёхка, ён ні зъпіча́тъваный, нязрэ́лы.* Сянно, Пожанькі.

**СВІТА́ЦЬ** *незак.* Світаць. *Як ста́ніць світа́ць, свéцюць хлеп і дамóў вязýць.* Гарадок, Дольдзева, Міцюкова.

**СВІ́ТЭР, СВЕ́ТАР** *м.* Світар. *Сві́тэры вяза́лі.* Запруддзе. *Я ў свéтары была́, хóладна ста́ла.* Партызаны.

**СВІХНУ́ЦЬ** *зак.* Вывіхнуць. *Як свіхнéш спіну, на парóг кладзéшся, на цябé ступа́юць туды́-сюды́.* Запруддзе.

**СВІЦІ́ЦЦА** *незак.* Віднецца, быць бачным. *Я ха́ты ня вíдзіла, тóлькі вакнó чуць свіцíлася.* Баравікі.

**СВІШЧАВЫ́** *прым.* ○ СВІШЧАВА́Я МА́ТКА. Пчаліная матка, якая вывелася з ячэйкі, падрыхтаванай для звычайнай пчалы, а потым лічынку пчолы сталі карміць як матку. Кляпчэва.

**СВОЕСО́ВЕСНА** *прысл.* Абавязкова. *Своесóвесна вы́несі ім малака́.* Партызаны.

**СВОЙ** *займ.* 1. Свой, уласны. *Дзя́куй Гóспаду Бóгу, што я на сваíх нóшках!* Запруддзе, Сукрэмна, Багданава, Партызаны, Неўгадава. 2. Хто знаходзіцца ў сваяцкіх, сяброўскіх або інш. блізкіх адносінах. *Сваé мы ёй, радня́.* Заазер'е.

**СВО́ЙЛІВЫ** *прым.* Ручны, не дзікі; свойскі. *Ялéц свóйлівая была́ ры́ба, яé ў нéраст рука́мі бра́лі.* Сянно, Алексінічы, Розмыслава. *Кацíняты дýмаълa дзíкія, а яны́ свóйлівыя, іна́ й съма́ ма́тка была́ харóшъя, ня дзíкъя.* Малы Азярэцк, Багданава.

**СВО́ЙСЬКІ** *прым.* Не куплёны, прыгатаваны дома. *Бýлкі сма́чныя свóйськія, мы пяклí ча́ста.* Каралі.

**СВОТ** *м.* Выпуклае або крывалінейнае перакрыцце, што злучае сцены, апоры якога-н. збудавання; чалеснікі. *Свот – увахóт у печ.* Алексінічы.

**СВЯКРО́ВА** *ж.* Свякроў. *Свякрóва вялíць пéчку тапíць, / Свёкар вялíць абува́ці* (з песні). Каралевічы, Алексінічы.

**СВЯКРО́Ў** *ж.* Тое ж. *Свякрóў і дзве залóўкі ў э́ннай ха́ці жылí.* Закур'е. *А я ў пóлі жы́то жа́ла, / У мянé ў дóме бíда́ ста́ла. / Завалíлася свякрóў з ты́ну / З ты́ну, з ты́ну – ды ў крапíву* (з песні). Заазер'е, Алексінічы, Гарадок, Дольдзева, Запруддзе, Леснікова, Цясішча.

□ *Свякрóў, свякрóў, пі маю́ кроў, як ражжывýся, і я тваé нап'ю́ся.* Сянно. □ *Свякрóў – чужа́я кроў.* Каралевічы. □ *Ха́та мая́ зялёная, свякрóў мая́ шалёная.* Дольдзева.

**СВЯКРО́ЎКА** *ж.* Тое ж. *Свякрóўка нічóга была́, ні свары́ліся.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Закур'е.

**СВЯНЦО́НАЕ** *н.* Асвячонае ў царкве. *Дажыда́юць с цэ́рквы, свянцóнае па крóшцы рэ́жуць, пéрва яйцó ядýць, рэ́жуць і ядýць.* Карпавічы, Цясішча.

**СВЯНЦО́НКА** *ж.* Тое ж. *На Па́сху палóжаць у лýпку пърасёнка, сы́ра, ма́сла, я́йца, усягó, ба́цька запръга́іць каня́ і ў цэ́ркву, усё гэ́та свянцóнка.* Вялікі Азярэцк.

**СВЯНЦО́НЫ** *прым.* Асвечаны. *Пака́ ваду́ свянцóнае с цэ́рквы ні прывязýць, éсці нільзя́. На Ю́р'я выганя́лі карóў свянцóнай вéрбай.* Гарадзец, Алексінічы, Багданава, Кавалі, Міцюкова, Партызаны, Ракаў Засценак, Цясішча.

**СВЯРБЕ́ЦЬ** *зак.* Свярбець. *Баліць, сьвярбіць, я ночачкі ні спала.* Запруддзе, Багданава, Вялікі Азярэцк.

**СВЯРДЗЁЛАК** *м.* Невялікі свердзел. *Свярдзёлак малéнькі, дзіркі свéрдлюць.* Гарадзец, Запруддзе, Марозаўка, Чуцькі.

**СВЯРДЛІ́ЦЬ, СВЯРДЗІ́ЦЬ** *незак.* Свідраваць. *Дзіркі свярдлілі калаўрóтам.* Міцюкова, Запруддзе, Неўгадава. *У Вуркáх свярдзілі калóдзіша.* Неўгадава.

**СВЯ́ТА** *н.* Свята. *На свя́та, на Благавéшчанне, прылітáіць бъцян.* Багданава, Гарадзец, Івоні, Каралевічы, Неўгадава.

**СВЯТКАВА́ЦЬ, СВІТКАВА́ЦЬ** *незак.* Святкаваць. *Каляды святкýюць два дні.* Багданава, Сукрэмна. *Світкавáць ета ні світкавáлі.* Гарадзец.

**СВЯТКІ́, СВЯ́ТКІ** *мн.* Невызначальныя гадавыя святы ў народна-царкоўным календары; прысвяткі. *Сяткі вяснóўскія ёсць. Па свя́тках дýжа не знáю.* Вялікі Азярэцк, Партызаны.

**СВЯТЛІ́ЦЦА** *незак.* Свяціцца. *Усцінка святліцца ат жыру.* Пожанькі.

**СВЯТО́ШНЫ** *прым.* Святочны. *Святóшнае далжнó быць у аднó числó кáжны гот, а ні выхóдзіць.* Запруддзе, Гарадзец.

**СВЯТЫ́** *прым.* 1. Асвечаны. *Скóлькі там нарóду стъяла за э́тай за святóй вадóй.* Нямойта. *Конь праéхаў церас святóе зярнó.* Карпавічы. 2. Святочны. *Святы́ дзень, а малады́я ні прáзнуюць нічóга, а ранéй у святы́я дні – ігры́шча.* Багданава, Дольдзева, Серкуці. 3. Святы. *У Бóга святы́я пракóкі былí.* Міцюкова.

**СВЯЦІ́ЦЬ** *незак.* 1. Выпраменьваць святло. *Як пóўныя, то мéсіц свéціць.* Багданава. *Каб на цябé сóнца ні свяціла!* (праклён). Запруддзе, Вялікі Азярэцк. 2. Асвячаць. *Бáцюшка свéціць вадý. На Вялікдзень свяціць вéзлі рáнінька, а тады́ ядýць. Усякіе трáвы свяцілі на Трóйцу.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Карпавічы, Партызаны, Савінічы, Ульянавічы. *Як свяцілі салóджаную вадý, і праскýрку давáлі, свянцóны сухарóк, як сухáрык.* Міцюкова.

**СВЯШЧЭ́ННІК** *м.* Святар. *Свяшчэ́ннікі прыхадзілі, пóля сьвяцілі.* Савінічы.

**СГАЛАДА́ЦЬ** *зак.* Згаладаць. *Сгаладáў воўк, сівы такí.* Багданава.

**СГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Пазбаўляцца ад чаго-н. *Я дýмала, што нóгаць сгóніць.* Заазер'е.

**СЕ́ВАЧКА** *ж.* Высеўкі. *Калí якáя сéвачка, янá ш высяéцца ў рэ́шацi.* Запруддзе.

**СЕ́ВЕР, СЕ́ВІР** *м.* 1. Поўнач. *Ат Сéўраў наéхалі, іх бáмаўцы завýць.* Багданава. 2. Паўночны вецер. *Сéвір цяпéра – дрóвы сóхнуць дóбра. Рýкі ат сéўру патрэ́скъліся.* Цясішча, Багданава, Заазер'е. СЕ́ВІРКА *памянш.-ласк. Сéвірка – вéцір як прахвáціць, нóгі пакарэ́юць.* Неўгадава.

**СЕДА́К** *м.* Сядок, пасажыр. *Узяў нéскалькі седакóў. Ты мнóга седакóў нъбрáў.* Гарадзец.

**СЕДА́ЛЬНЫ** *прым.* ○ СЕДА́ЛЬНЫ НЕРВ. Сядалішчны нерв. *Седáльны нерв абастрóны.* Жохава.

**СЕ́ДЗЯ** *дзеепрысл.* Седзячы. *Я ўзялá сéла і сéдзя заснýла. Сядзéлі бáбы, палóлі сéдзя.* Запруддзе, Партызаны.

**СЕ́ДЫ** *прым.* Сівы. *І валасы́ ўжо сéдыя на гълавé.* Ульянавічы.

**СЕ́ІЛКА** *ж. Сéілка крýглая іс салóмы, палацéнца на шыю – і сéюць.* Запруддзе.

**СЕ́ІЦЬ** *незак.* 1. Высяваць (пра насенне). *На бальшýю Прачы́стую ў вáўгусці сéюць ужó жы́та.* Савінічы, Заазер'е, Каралевічы, Каралі. 2. Рассыпаць. *Рукóй пóпіл стáла сéіць, яны́ пóпілу бъяцца.* Багданава. 3. Марасіць. *Сéіць дрóбны дошч.* Багданава.

**СЕ́ЙКА** *ж.* Лубянка для ручной сяўбы; сявенька. *Се́йка – лу́бка такáя.* Сукрэмна, Жохава.

**СЕ́КЧЫ**, **СЕЧ** *незак.* 1. Сячы, расколваць. *Ні было́ піл, дак тъпрáмі се́клі.* Багданава. *Дроў ніхто́ сеч не хо́чыць.* Ракаў Засценак. 2. Рэзаць, драбніць. *Жыгу́чку вýткам сяку́ць.* Нямойта. 3. Калоць шмат уколаў. *Укóламі сяку́ць, а по́льзы яны́ ні даю́ць.* Галашчакіна.

**СЕ́ЛЬСКІ** *прым.* Які мае адносіны да сяла; сельскі. *Ні знаў нічо́га па се́льскъму хъзя́йству.* Сянно.

**СЕЛЯЗЕ́НЬ** *м.* Пра гукі, якія выдае конь з сярэдзіны ў час бегу. *Калі́ селязе́нь ігрáіць, то, кáжуць, конь харо́шый, спрáўный, ні бальнэ́й.* Самсоны.

**СЕЛЯЗЕ́НЬ**, **СІЛЯЗЕ́НЬ** *м.* Качар. *Селязе́нь плыве́.* Міцюкова, Розмыслава. *Сілязе́нь е́та, а е́та індзю́чка.* Вялікі Азярэцк.

**СЕЛЯЗЁНКА** *ж.* Селязёнка. *Селязёнку разбіла, хлы́нула кроў.* Запруддзе. *Селязёнкі часць удалёна у яго́.* Латыгаль.

**СЕМ** *ліч.* Сем. *Мой тáта сем капе́ік на працадзе́нь пълучáў.* Цясішча, Нямойта, Неўгадава.

**СЕ́МДЗЕСЯТ** *ліч.* Семдзесят. *Да се́мдзесяці пе́нсія.* Запруддзе.

**СЕ́МЕНКА** *ж.* Семянная бульба. *У каго́ се́менка* [бульба], *дык расткі́ то́нкія.* Марозаўка. СЕ́МЕНАЧКА *памянш.* *Выбірáю бу́льбу на се́меначку.* Нямойта.

**СЕ́МІРА**, **СЕ́МЯРА** *ліч.* Сямёра. *Было́ нас се́міра дзяце́й.* Рэчкі, Гарадзец, Сукрэмна. *Се́мяра дзяце́й было́ ў мяне́.* Партызаны, Фасаўшчына.

**СЕ́МІШКАВЫ** *прым.* Семечкавы, вырашчаны з зярнятка. *Чарэ́шня былá се́мішкавая.* Пожанькі.

**СЕМНАСТО́ЎКА** *ж.* Сямнаццатка (сямнаццацігадовая дзяўчына). *Жыве́, як семнасто́ўка.* Жохава.

**СЕ́МЯ**, **СІМЯНО́** *н.* 1. Насенне (любое). *Хоць ба на се́мя было́ бу́льбы.* Запруддзе, Неўгадава. *Німá сімяно́ў табáкі, а то я б пасе́іў.* Рассвет, Самсоны. 2. Насенне лёну. *Се́мя пáхнець по́сным мáслам. Се́мя льняно́е таўклі́, бу́льбу вáраную патаўку́ць, памяшáюць з се́мем льняны́м, накры́юць – і ў печ.* Каралі, Гарадзец, Ракаў Засценак, Рэчкі.

**СЕМЯНЯ́ТАР** *м.* Асемянатар. *Семяня́тар е́здзіць і абсемяня́е каро́ў.* Неўгадава.

**СЕ́НА** *ж.* Сена. *Ля Сянно́ во́зіра, бальшы́я лугí, касі́лі мно́га се́на, кругóм былí таргашы́, за тарго́ўлю се́нам і назвáлі Сянно́.* Запруддзе. *Се́на згарэ́лася, каро́вы ў рот ні бяру́ць.* Жохава. *Дзет се́на но́сіць каро́ві ў ро́зьвіных.* Гарадок. *Ро́зьвіны – рáньшы се́на во каро́вам насі́лі.* Заазер'е, Багданава, Баравікі, Буй, Запруддзе, Пожанькі, Ракаў Засценак. СЕ́НЦЭ *ласк.* *Се́нцэ, што было́ ў мяне́, прапáла.* Цясішча. ◊ САБА́КАМ СЕ́НА КАСІ́ЦЬ. Бадзяцца дзе-н., займаючыся пустой справай. *Яе́ бáцька сабáкам се́на касі́ць паехаў.* Міцюкова.

**СЕНА́Ж** *м.* Сенаж. *Сенáж купля́лі ў калхо́з.* Леснікова, Цясішча.

**СЕНАКО́С**, **СІНАКО́С** *м.* 1. Касьба; час уборкі сена. *Там юнь – расце́ць, у ю́лі – сенако́с, се́на ко́сюць. Пасле́днія жнуць аве́с.* Леснікі. *Сінако́с дзе́лалі, а дош, дош ліў.* Неўгадава. 2. Месца для сена ў гумне. *Гумно́ – е́та о́бшча, тут і пу́ня, ток, і ёўня, і кусо́к сенако́са.* Дольдзева.

**СЕ́НІ** *толькі мн.* Сені. *Былá хáта, і се́ні былí. У сяня́х капу́ста стаíць.* Буй, Багданава, Гарадзец, Каралі, Міцюкова, Самсоны, Закур'е. СЕ́НАЧКІ, СЕ́НКІ,

СЕ́НЬКІ *памянш. Яшчэ́ ля ха́ты се́начкі былі.* Фасаўшчына. *Мале́нькія се́нкі былі. У се́нках пастанавіў матацы́кл.* Ульянавічы, Партызаны. *А ў нас былі се́нькі такé́я: слупкі паўкъпа́ў дзет, саломай зълажы́ў.* Манголія.

**СЕННАВЭ́Й** *прым.* Які мае адносіны да сена. *Сеннавэ́я вілкі кала стóга ёсь, у іх чыранóк даўгéй.* Леснікова.

**СЕРАБРЫ́СТЫ, СЕРАБРА́СТЫ** *прым.* Серабрысты. *Серабра́стыя крóкацінь* [жабіна ікра] *з вóчкамі ў вадзé была́.* Багданава. *Пра́ннікамі лупілі пра́жу, пака́ серабры́стая ні ста́нець.* Цясішча.

**СЕРАДА́** *ж.* ○ ПЕРАПЛА́ЎНАЯ СЕРАДА́. Дзень пасля Тройцы (Сёмухі). *Перапла́ўная серада́ пасля Сёмухі, ні палóць гра́ткі, ні шыць, ні парóць нільзя́. Дрэ́ннъя нядзе́ля. У перапла́ўную сераду́ Бох піраплы́ў цірас вóзіра.* Ракаў Засценак.

**СЕРАЦАВІ́НКА** *ж. памянш.* Сарцавінка. *Серацавінкі ў я́блык выражу, выкіну, дрóбненька пакрышу – стушы́ліся я́блыкі.* Парэчча.

**СЕРБАНУ́ЦЬ, СІРБАНУ́ЦЬ** *зак.* З'есці чаго-н. вадкага. *Шчаўлю сем раз сербану́ць.* Ульянавічы, Міцюкова. *Мълька́ калі сірбане́ш, калі не.* Марозаўка.

**СЕРБІЯ́НКА, СІРБІЯ́НКА** *ж.* Сербіянка (танец). *Упе́рад сербія́нку гуля́лі.* Багданава. *Сірбія́нку скъка́лі, былі такія ма́льцы.* СЕРБІЯ́НАЧКА *ласк. Сербія́начку гуля́лі па два: адзін упярóд, ты за ім – і перакру́чваеш.* Марозаўка.

**СЕ́РГІ** *мн.* Вушкі пад шыяй у свіней. *Се́ргі пат барадóй у свіне́й вісяць – эта харóшая парóда.* Багданава.

**СЕРП** *м.* Серп. *Сірпóм жа́лі ба́бы. Я сірпа́ ні ўзіла́, дык с крапівы маку́шкі аткру́чывала.* Міцюкова, Багданава, Чуцькі, Закур'е. *Рабóтаім, у сярпу́ стаім загну́ўшысі, а ве́чарам на та́нцы.* Партызаны. СЯРПО́К *памянш.* Знак у форме сярпа. *Як сярпóк на лбу ў карóвы, то Зóрка.* Латыгаль.

**СЕРПАРЭ́З** *м.* Крываўнік (расліна). *Серпарэ́з расце́ць ля жы́та, цяпе́р я́дамі ўсё атравілі.* Каралі.

**СЕ́РЦА** *н.* 1. Сэрца. *Се́рца мне пъсадзілі табле́ткъмі.* Заазер'е, Багданава. *Быў ра́неты ў бок, тут, кала се́рца, а тады́ памёр.* Ракаў Засценак. 2. Асяродак, стрыжань. *Се́рца ўсярэ́дзіне ў маркóўкі.* Парэчча.

**СЕ́СЦІ** *зак.* 1. Сесці. *Пакрычы́ць і на той ж...і ся́дзець.* Каралевічы, Апечкі. *Се́лі гу́сі на варóцях у чырвóных бóцях, ста́лі въркъва́ці, як Кóлічку гъдува́ці* (з дзіцячай лічылкі). Багданава. 2. Пасяліцца. *Ма́рка сеў на лясу́, Ма́ркаў лес зва́лі.* Буй.

**СЕ́ТКА** *ж.* Хустка рэдкай вязкі. *Вя́заныя ху́сткі зва́лі се́ткі.* Гарадзец.

**СЕЦЬ** *ж.* Загарадка, клетка. *Сястру́шку ў сець пасадзілі ў хле́ві.* Запруддзе.

**СЕЧ** *незак.* 1. Секчы, калоць. *Я йду дрóвы сеч* [сякерай], *пілóй е́та называ́еццa рэ́заць.* Нямойта. 2. Грызці, прагрызаць дзіркі. *Ай, як яны́* [жукі] *сяку́ць бу́льбу.* Заазер'е. 3. Кусаць (пра насякомых). *У лясу́ сяку́ць ні ля́мцы, а кле́шчы.* Алексінічы.

**СЕ́ЧАНКА** *ж.* Драблёныя ячныя крупы. *Се́чанка – е́та сячóнка пярлóвая.* Галашчакіна.

**СЕ́ЧКА** *ж.* Тое ж. Галашчакіна.

**СЕ́ЧКА** *ж.* 1. Дробна парэзаная салома, сена. *Се́чку блюду́ для казы́.* Багданава. 2. Страва, прыгатаваная з дробна парэзаных вантробаў. *Се́чка – е́та уну́траньсь с прыпра́вай, атва́руць, на машы́нцы піракру́цяць, у ма́рлю ці прóста так, і яічка ўкруту́ю ва́ранае.* Жохава. 3. Драблёныя крупы. *Пяць кілагра́маў са́ла – за мех се́чкі.* Багданава, Нямойта.

**СЕ́ЧЫВА** *н.* Дробна парэзаная трава. *Се́чыва – што трава́ пасе́чана, крапі́ву, любу́ю траві́ну, сіка́ч ёсь.* Міцюкова.

**СЕ́ЯЦЬ**, **СЕ́ІЦЬ** *незак.* 1. Сеяць. *Цяпе́р сей гаро́т, ко́лько хо́чаш. Павучы́ся, як на́да се́яць боб.* Рэчкі. *Ён мяне́ навучы́ў: і касі́ла, і гъня́ла, і гаро́т се́яла.* Багданава, Гарадзец, Каралевічы, Леснікі, Нямойта, Савінічы, Самсоны. *Нільзя́ было́ се́іць, як пе́чы то́пюцца, каб уратава́цца ат са́жы ў пшані́цы* (прыкмета). Савінічы. 2. Марасіць (пра дождж). *Се́іць дож, як с се́ялкі.* Багданава. 3. Пасыпаць. *Грыбы́, як салю́, бакнаве́нна се́ю со́ллю.* Пожанькі.

**СЁЛЕТА**, **СЁЛІТА** *прысл.* Сёлета. *Сёлета было́ апе́нек бага́та.* Дуброўкі. *Сёлета зарадзіла жы́та.* Закур'е. *Сёліта ціплаты́ нет нікако́й.* Цясішча, Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралі, Кішуроўшчына, Міцюкова, Серкуці, Турава.

**СЁЛЕТНІ**, **СЁЛІТНЫ**, **СЁЛЁТНІ**, **СЁЛІТНІ** *прым.* Сяголетні, сёлетні. *У сёлетнім гаду́ страда́юць лю́дзі.* Цясішча. *Сёлітныя зіма́ была́ ня ду́жа зла́я.* Ракаў Засценак. *Се́лётні гот быў харо́шы.* Неўгадава. *Сёлітні гот ёсь я́блык.* Серкуці, Багданава, Фасаўшчына.

**СЁЛЕТНІК**, **СІЛЕ́ТНІК** *м.* Маладняк гэтага года (пра жывёлу); сяголетак. *Сёлетнік – вясно́ю радзі́ўся.* Рассвет. *Сіле́тнік* [цялё], *е́слі ў э́тым гаду́ радзі́ўся.* Багданава. СЁЛІТНІЧАК *памянш.-ласк. Сёлітнічак, вясно́й радзіласё, у ма́і.* Вялікі Азярэцк.

**СЁННЯ**, **СЁННІ** *прысл.* Сягоння. *Тэ́кля ім гавары́ла сёння.* Мянюцева. *Сённі стаіць машы́нка не́йка пасці ля са́мых хат.* Багданава.

**СЁРБАЦЬ** *незак.* Есці што-н. вадкае. *Ся́дзім круго́м сто́ла, бу́дзіць глядзе́ць* [бацька], *як мы сёрбаем.* Міцюкова.

**СЖЫВА́ЦЦА** *незак.* Перайначвацца, мяняцца. *Сжыва́ецца свет.* Багданава.

**СІВАЛЁЗЕНЬКІ** *прым. ласк.* Сівенькі. *Сівалёзенькія галубкі ёсць, а бе́лых ма́ла-ма́ла, дзе́ці ўсе пу́ні пазла́зюць, а зло́вяць-такі бе́лага галуба́.* Запруддзе.

**СІВА́ЛКА** *ж.* Лубянка для ручной сяўбы; сявенька. *Сіва́лка – э́та ў нас што се́ялі дабро́, яна́ дзе́лалася з дрэ́ва, пачо́пка прывя́зывалася. Сіва́лка была́ спецыя́льная* [з саломы] *се́іць жы́та.* Серкуці, Каралі, Леснікі, Чуцькі.

**СІВАХУ́Й** *м.* Сівец (расліна). *Ай, бу́ду я той сівахуй сабіра́ць, начапа́ецца за пляч́о.* Міцюкова.

**СІ́ВЕНЬКІ**, **СІ́ВІНЬКІ** *прым. памянш-ласк.* 1. Шэры. *Пъдале́шкі сівінькія, мълачко́ ў іх ёсь.* Вялікі Азярэцк, Серкуці. 2. *м.* Млечнік вялы (грыб). *Іх, сівенькія, бяро́м, атса́лівъць хърашо́.* Цясішча.

**СІВЕ́Ц** *м.* Сівец (расліна). *Сіве́ц ён такі сівы, іна́ така́я шо́рсткая, як свіня́чая шэрсць, дзе вы́шшае ме́сца расце́ць. Сіўца́ ў во́ўну начапа́ецца ў аве́чках, нямо́жна стры́чыць.* Серкуці, Багданава, Запруддзе, Каралі, Леснікова, Міцюкова, Нямойта.

**СІВІЗНА́** *ж.* Сівізна. *Сіві́зны німа́ ні гра́ма.* Міцюкова.

**СІВУВА́ТЫ** *прым.* Сіваваты. *Варо́на сівува́тъя, белабо́кая саро́ка.* Вялікі Азярэцк. *Сві́нні, сівы́я грыбы́ бува́юць, сівува́тыя такі́я зве́рху, як вару́шкі.* Багданава. СІВУВА́ЦЕНЬКІ *памянш.-ласк. Сівува́ценькі казлёнак ад тэй казы́, харо́шы.* Запруддзе.

**СІВУ́ШКІ** *мн.* Падзялёнкі (грыбы). *Сіву́шкі во́сенню, дзе мох, пясо́чак.* Дуброўкі.

**СІВЫ́**, **СІ́ВЫ** *прым.* Сівы. *Усе́ валасы́ сівы́я, ад го́ра ссіве́ла.* Запруддзе, Апечкі, Вялікі Азярэцк, Рассвет, Серкуці. *Мыш пълівя́я жъўтліва́тыя, а смълля́нка сі́вья, і ха́тнія мыш сі́вья.* Багданава, Жохава, Каралевічы, Кляпчэва. СІ́ВЕНЬКІ *памянш.-ласк. Сі́венькі дзет.* Неўгадава.

**СІГАЛЕ́ТКА** *ж.* Сяголетак. *Сігалётка, такі малёнькі цялёнък.* Леснікова.

**СІГАНУ́ЦЬ** *зак.* Сігануць, шпарка пабегчы. *Як сіганýлі аш у Азярэ́цк на тáнцы.* Партызаны.

**СІ́ДАР** *м.* Торба, сумка. *Тóрбу-сідар нясéць на плячáх.* Вялікі Азярэцк. *За сідарам прыéхаў сын, а патóм прыéдзе яшчэ́ – гатóў.* Нямойта.

**СІ́ЗЫ, СІ́ЗЫЙ** *прым.* Сівы. *І вужáкі, і вужы́ шэ́рыя, такія сізыя бывáюць.* Самсоны. *Сізый гóлуп і бéлыя ёсь.* Вялікі Азярэцк.

**СІКА́ЛА** *ж.* Крэсіва. *Камéнчык, тады́ жалéзінку бярэ́ш, сікáлу аб жалéзінку – прыкýрыш.* Фасаўшчына.

**СІКАНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Накусаць (пра насякомых). *Вадні сіканýлі карóву, інá атървáлься.* Фасаўшчына. 2. Лінуць моцна (пра дождж). *Дóждж ык сікані, я паéду на кані* (з дзіцячага вершыка). Карпавічы. 3. Выстраліць кароткай чаргой. *Парцізáны éхалі па лясý, сіканýлі па нéмцах.* Серкуці.

**СІ́КАЎКА** *ж.* «Самастрэл» з пустацелага сцябла расліны. *Дзéці сікаўкі дзéлалі з гэ́тай травы́.* Багданава.

**СІКА́Ч** *м.* Сякач. *Крапіву, любýю травіну пасéкчы сікáч ёсь.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк, Жохава, Серкуці.

**СІКНУ́ЦЬ** *зак.* Паліць мураўінай кіслатой (пра мурашак). *Мурáшкі крáсныя як сікнýць!* Сукрэмна.

**СІ́ЛА** *ж.* Моц, фізічная энергія чалавека. *І аднó ўжо, што сілы нямá.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Івоні, Канева, Каралевічы, Міцюкова, Нямойта, Партызаны, Ракаў Засценак, Цясішча, Дуброўкі. СІ́ЛКА *ласк.* *Як дажынáюць, завязжуць цючóк, закрýцяць к зямлé, муракýляцца цераз галавý і прыгавóрваюць: ніўка, ніўка, аддáй маю сілку. Я ж цябé жáла, сілку пацярáла.* Нямойта. ◊ НЯ Ў СІЛУ. Зусім немагчыма, вельмі цяжка (зробіць што-н.). *Мне ня ў сілу купіць гэ́ту хáту.* Кішуроўшчына.

□ *Чыя сіла, тагó й ніва.* Каралевічы.

**СІЛА́Ч** *м.* Асілак. *Сілáч крэ́пкі, сільны.* Запруддзе.

**СІЛЁНІК** *м.* Вісельнік, хто павесіўся. *І тóплінік, і сілёнік – рáзам хъвáюць.* Запруддзе.

**СІ́ЛІЦЦА, СІЛІ́ЦЦА** *незак.* Вешацца. *Сілюцца бывáе, ну й у нас во засіліўся мáліц. Цвярóзыя ня сілюцца, а п'яныя, во скóлькі дурны́х людзéй на свéці.* Запруддзе, Багданава, Кляпчэва, Цясішча.

**СІЛКО́М** *прысл.* Сілком. *Напраўлéнне ў дактóркі ўзялі, сілкóм ягó атпрáвілі ў бальніцу.* Нямойта.

**СІ́ЛЛЮ** *прысл.* Сілай. *Сіллю ўзялі ягó і павéзлі, і ён пагíп у парцізáнах.* Ракаў Засценак, Заазер'е.

**СІЛО́** *н.* Сіло. *Сілó пъстáвіў, і зáіц улёз у сілó.* Багданава.

**СІЛО́С** *м.* Сілас. *На сілóс гарóх з гарчыцай пасéяна.* Партызаны.

**СІ́ЛЬНА** *прысл.* Вельмі, надта. *Пасéяла ня то, што сільна гýста, нярэ́дка.* Карпавічы, Жохава, Нямойта, Закур'е. *Яны́ сільна набóжныя былі.* Багданава.

**СІ́ЛЬНЫ** *прым.* Вялікі. *А там жа лясы́ былі сільныя.* Багданава.

**СІЛЯНІ́Н** *м.* Селянін. *Сіляне дзялілі зямлю.* Самсоны.

**СІМІКА́Т** *м.* Хімікат. *Ат сімікáтаў памёр сусéт, ні надзéў мáску, як сéяў пратрáўленае насéнне.* Жохава.

**СІМЯННЫ́** *прым.* Семянны. *Сімянны́ гарóх, я дýмала ў сілóс ягó.* Партызаны.

**СІНАВА́Л** *м.* Сенавал. *Пýня – э́та і ёсь сінавáл.* Нямойта.

**СІ́НЕ, СІ́НЯ** *прысл.* Сіне. *По́йдзім ва́сількі рваць, іх аш сі́ня ў жы́це.* Багданава. *Сі́не цвято́ў.* Партызаны.

**СІНЕГЛА́ЗКА** *ж.* Сіняглазка (сорт бульбы). *Сінегла́зку саджу́, яка́я ро́дзіць, харашо́ расце́ць.* Партызаны, Нямойта, Сукрэмна.

**СІНЕ́ЦЬ** *незак.* Сінець, рабіцца сінім. *Падале́шка, як барaві́к, але́ сіне́іць.* Цясішча. *Здзе́лана мае́й каро́ве, малако́ сіне́іць.* Міцюкова.

**СІ́НІ** *прым.* Сіні. *Сі́ніх васількóў нарва́ла ў жы́ці.* Нямойта. *Прые́хаў пляма́нік, а ён – сі́ні.* Апечкі. СІ́НЕНЬКІ *памянш.-ласк. Лён цвіце́ сі́ненькім, як жо́ўценькім ста́не, так і браць мо́жна.* Вялікі Азярэцк.

**СІНІТА́РНЫ** *прым.* Санітарны. *Была́ ў сініта́рным атра́дзе.* Каралевічы.

**СІНІ́ЦА** *ж.* Сініца. *Сіні́ц мно́га сарто́ў ёсь.* Сянно. СІНІ́ЧКА *ласк. Сіні́чка як у вакно́ б'е́цца – на хо́лат* (з назіранняў). Каралевічы, Нямойта.

**СІ́НЬКА** *ж.* Сіняя фарба, якая выкарыстоўваецца для падсіньвання бялізны; сінька. *Сі́нькай патсі́ньваю бяллё.* Неўгадава.

**СІНЮВА́ТЫ, СІНІВА́ТЫ** *прым.* Сіняваты. *Твар сінюва́ты не́йкі, мо́жа, хво́ры, а мо́жа і піў мно́га.* Запруддзе. *Сініва́ты.* Серкуці.

**СІНЯПУ́ЗІК** *м.* Несапраўдная апенька. *Сіняпу́зікі, як вару́шкі, у іх рашо́тка сі́нія і верх сініва́ты.* Серкуці.

**СІНЯ́ЎКА** *ж.* Укляя (рыба). Марозаўка.

**СІПА́К** *м.* Неўрадлівая глеба сівога колеру. *Сіпа́к – ме́лкі пясо́к, аш бе́лы, на ім ніч́ога ні ро́дзіць.* Фасаўшчына.

**СІПА́ТА** *прысл.* Сіпата. *Брат сіпа́та так гаво́рыць.* Івоні.

**СІПЕ́ЦЬ** *незак.* Сіпець. *Сі́піш ты, як вужа́ка. Вужа́кі сіпя́ць, а ўкусі́ць – ніво́дная ні ўкусі́ла.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Савінічы, Самсоны.

**СІРАТА́** *агульн.* Сірата. *Сірато́й гудува́лася ба́ба.* Запруддзе, Леснікі. *Паду́мала б я на то́я, што сын жа астане́цца сірато́й, не, я аб е́тым ня ду́мала.* Леснікова. СІРО́ТАЧКА *ласк. Бяжы́ць, бяжы́ць сіро́тачка, бяжы́ць, бяжы́ць мале́нькая. Сустрэ́ў яе́ сам Го́спад Бог, сустрэ́ў яе́ Дух Святы́* (з замовы). Буй.

□ *Хто сірата́, той ве́чная дурата́.* Багданава.

**СІРМЯ́ШКА** *ж.* Сярмяжка. □ *Свъя́ сірмя́шка ніко́му ні ця́шка.* Багданава.

**СІРТУЧО́К** *м. памянш.* Сюртучок. *Сіртучкі́ які́я дра́хлыя адзе́нуць, і харашо́ была.* Фасаўшчына.

**СІРЭ́НЕВЫ** *прым.* Бэзавы. *Сірэ́невы куст рос, спаць ні даюць салаўі́ – а-ё!* Нямойта, Міцюкова.

**СІСЁЛКА** *ж.* Самаробная соска. *Як я гадава́ў сваі́х, то ў сісёлку хле́ба, са́хъру пажве́ш і ён сасе́ць.* Міцюкова.

**СІСЦЕ́М** *ж.* Сістэма. *Не́рвная сісце́м усяа́ ръзышла́ся.* Багданава.

**СІ́СЬКА** *ж.* 1. Грудзі. *Ба́ба крычы́ць: ні дава́й ёй сі́ські, а то уро́шная бу́дзіць* [пасля таго, як дзіця аднялі ад грудзей]. Партызаны. *Ма́лец сі́ську ссець, як гот ато́йдзіць, со́дзяць на кажу́х лахма́ты, каб быў бага́ты, кладу́ць кні́жкі, хлеб, гро́шы, карандашы́, за што схо́піцца глядзя́ць, што во́зьміць – бу́дзіць гра́матны, бага́ты ці бе́дны* (звычай). Запруддзе. 2. Сасок. *Да́жа сем было́ сісёк у каро́вы.* Кішуроўшчына, Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Ракаў Засценак.

**СІСЯ́** *ж.* ◊ СІСЮ́ І ТУ́Ю НІ ЎСЮ зна́еш. Нічога, зусім нічога не ведаць. *Ты зна́еш сісю́ і ту́ю ні ўсю.* Марозаўка.

**СІ́ТА** *н.* 1. Сіта. *Прасе́івалі на сі́та. Сі́та часце́йшае, чым рэ́шата.* Міцюкова, Леснікова. 2. Матэрыя ў рэшаце. *Во рэ́шъта: во абіча́йка і сі́та, і абру́чык, кап сі́та ня вы́біл ся.* Фасаўшчына.

**СІТАВАТЫ** *прым.* Трубчасты. *У бабъчкі пад нізам сітавата мізгра́.* Серкуці.

**СІТКА** *ж.* Пчалярская сетка. *Збіра́юць рой, сітку накла́даюць.* Кішуроўшчына.

**СІЎКА** *ж.* Карова сівай масці і яе клічка. *Сіўка – э́та масць такая, сівая. Сіўка, Сіўка, цесь-цесь.* Станюкі, Нямойта.

**СІЎКАВАРО́НКА** *ж.* Сіваваронка. *Сіўкаваро́нкі сінія, красі́выя, аш блішча́ць, у дупле́ выво́дзяцца.* Лесніќова, Буй, Сянно.

**СІЧА́С** *прысл.* Зараз. *Січа́с яго́ ў ёўню запро́м.* Нямойта, Багданава, Запруддзе, Ульянавічы.

**СКА́БКА, СКА́ПКА** *ж.* Стрэмка. *Ска́бку загна́ў.* Марозаўка. *Заскалю́біў па́ліц ска́пкай.* Сянно.

**СКАБЛІ́ЦЦА** *незак.* Здымаць, здзіраць кару. *Кара́ ско́бліцца до́бра.* Дольдзева.

**СКАБЛІ́ЦЬ** *незак.* 1. Чысціць. *Уб'е́ць крук, вяро́ўкай завя́жыць аўчы́нку і ско́бліць гэ́тым.* Неўгадава. 2. *экспр.* Ісці. *Яны́ папе́раду бу́дуць скаблі́ць.* Нямойта.

**СКАБЫЗІ́ЦЦА** *зак.* Прыйсці ў заняпад, разбурыцца. *А цяпе́р усё скабызі́лася.* Багданава.

**СКАВАРАДА́, СКАВАРО́ДА** *ж.* Скаварада. *Це́сна на скаварадзе́, я не́йку нікрасі́вую яе́чню спякла́.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Запруддзе, Каралі, Міцюкова, Нямойта, Цясішча. *Кап дош пашо́ў, скъваро́ду кі́далі ў кало́дзеш* (звычай). *Скъваро́ду ўкра́дзеш ды ўкі́неш, і ляжы́ць там, а чы́сціш кало́дзіш, ды вы́міш.* Нямойта.

**СКАВА́ТАР** *м.* Экскаватар. *Другі́ сын на скава́тары.* Багданава.

**СКАВЕ́РКАЦЬ** *зак.* Сапсаваць. *Глядзе́лі зямлю́, ні так як цяпе́р зямлю́ скаве́ркалі.* Гарадзец.

**СКАЗА́ЦЬ** *зак.* Сказаць. *Мне ён пра́ўду скъза́ў.* Запруддзе. *А ту́та і сказа́лі, што німа́ вады́.* Неўгадава. ◊ НЯЎРО́КАМ СКАЗА́ЦЬ. Каб не сурочыць. *Дня́мі ка мне зайшла́ на нямно́га, няўро́кам сказа́ць.* Нямойта.

**СКАКА́ЦЬ** *незак.* 1. Танцаваць. *Я п і так скъка́ла, біз гарэ́лкі.* Чуцькі, Каралевічы. 2. Падскокваць, рабіць скачкі. *Баюся ля кла́дбішча, здае́цца, хто́-та папіраду́ ска́чыць.* Нямойта, Багданава. *Жа́ба бальша́я ска́чыць. Хаце́лі віламі праткну́ць, ні ўспе́лі.* Гарадзец. ◊ ДУГО́Й СКАКА́ЦЬ. Сапсавацца (завяліся чэрві). *Ма́ла со́лі дасі* [у кіндзюк], *мо́жыць дуго́й скака́ць, чэ́рві.* Багданава.

**СКА́КІ** *мн.* Скокі. *Як вы́піў гарэ́лкі, то пашо́ў ба і ў ска́кі.* Рассвет.

**СКАКУ́Н** *м.* 1. Жарабя аднагадовага ўзросту. *Як год жарабёнку – скаку́н.* Дольдзева. 2. Танцор. *Пяю́н, скаку́н, ка́жуць на таго́, хто пачына́іць пець і скака́ць.* Багданава.

**СКАКУ́ХА** *ж.* Танцорка. *І пяю́ха, і скаку́ха.* Цясішча.

**СКА́ЛА** *ж.* Крэсіва. *Губу́ аб ска́лу* [камушкі] *це́рлі.* Дольдзева. СКА́ЛКА *памянш. Высіка́лі аго́нь – ска́лка аб ска́лку жах!* Вялікі Азярэцк, Жохава.

**СКАЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Збіць (пра масла). *Я й сміта́нку збе́ру, ма́сла скълачу́.* Неўгадава, Алексінічы, Турава.

**СКАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Акалець. *Зло́сна кля́лі: кап ты скале́ў, кап ні вярну́ўся.* Нямойта.

**СКА́ЛІЦЬ** *незак.* ◊ ЗУ́БЫ СКА́ЛІЦЬ. Смяяцца, рагатаць. *Прыхадзі́лі ма́льцы бес пра́цы на су́пратку, зу́бы ска́лілі.* Кавалі.

**СКАЛО́ЦІНЫ** *мн.* Маслёнка. *Скало́ціны – э́та ат ма́сла: ма́сла сабе́, а скало́ціны сабе́, сма́шна піць.* Марозаўка.

**СКАЛЫПА́ЦЬ** *зак.* Скалупаць. *Ма́ліц узя́ў скалыпа́ў зямлю́.* Партызаны.

**СКАМКАНУ́ЦЬ** *зак.* Скамячыць. *Я ўзіла́ дзве дзіся́ткі, а е́тыя скамкану́ла – і ў ба́начку.* Нямойта.

**СКАМКА́ЦЬ** *зак.* Зляпіць (у камяк). *Тълакно́ зъхра́сніць, къля́ныя ста́ніць, у руку́ скъмка́іш і пашо́ў.* Дольдзева.

**СКАНДА́ЛЬНІЦА** *ж.* Скандалістка. *Засва́рацца, і ён жо́нцы: сканда́льніца ты, ланцу́жніца.* Ульянавічы.

**СКАНЧЫ́ННЕ** *н.* Канчына. *Перад сканчы́ннем ён ёй што́-та сказа́ў.* Каралевічы.

**СКА́ПАНЫ** *дзеепрым.* Перакапаны. *Усё там ска́пана. Чо́рная гъра́ ўся была́ ска́пана нъ я́мкі.* Баравікі, Ульянавічы, Закур'е.

**СКАПА́ЦЬ** *зак.* Ускапаць, зрыць. *Штук шэсь гор скъпа́лі на пясо́к.* Вялікі Азярэцк, Нямойта.

**СКА́ПАЦЬ** *незак.* Скідваць адкуль-н. *У мяне́ ё ска́пыч з двума́ зуба́мі, ска́пъць гной.* Гарадзец.

**СКАПЕ́Ц** *м.* Баран спакладаны. *Нізлігча́ны – бъра́н, скапе́ц – спаклада́ны бъра́н.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Жохава, Марозаўка.

**СКА́ПЫЧ** *м.* Вілы з двума рагамі (скідваць гной з воза). *З во́за скіда́ць гной быў ска́пыч на два рагі́ загну́тыя.* Цясішча, Запруддзе.

**СКАРАГО́ДЗІЦЬ** *зак. перан.* Ажаніць. *Хоць бы яго́ як скараго́дзіць.* Партызаны.

**СКАРАДЗІ́ЦЬ**, **СКАРО́ДЗІЦЬ** *незак.* Скарадзіць. *Са́дзюць бу́льбу, а нядзе́лі чараз тры скаро́дзюць. Дзіръвя́ныя былі́ баро́ны. Рас падміша́ем бу́льбу і скарадзі́ць на́да.* Розмыслава, Багданава, Гарадок, Заазер'е, Запруддзе, Нямойта, Серкуці, Сукрэмна, Ульянавічы, Закур'е.

**СКАРАНІ́ЦЬ** *зак.* Выкараніць, знішчыць. *Лес скарані́лі, цяпе́р адна́ за́расцень.* Галашчакіна.

**СКАРА́НЫ** *дзеепрым.* Пакараны. *Ні скара́ная я ні была́ за ім* [пра мужа], *ні бі́уся, ні руга́уся.* Вялікі Азярэцк.

**СКАРАСПЕ́ЛКА**, **СКУРАСПЕ́ЛКА** *ж.* Скараспелая садавіна і гародніна; скараспелка. *Скараспе́лкі не накапа́ець.* Нямойта. *Скураспе́лка ў мяне́, бе́лы налі́ў, штры́фель. На скураспе́лкі есь я́блыкі.* Кляпчэва.

**СКАРАСЦЕ́ЛЬ** *м.* Драч (птушка). *Скарасце́ль ён крычы́ць: кар-кар.* Сянно.

**СКАРБАЦЕ́НЬ** *м.* Любы нязручны абутак. *Надзе́неш калі́сь на база́ры скърбаце́нь які́ – гэ́та баці́нак ці ту́фель.* Багданава.

**СКАРМІ́ЦЬ** *зак.* Скарміць. *Камбіко́рм скармі́ла ўвесь.* Партызаны.

**СКА́РМЛІВАЦЬ** *незак.* Скормліваць. *Жмуху́ цыля́там ска́рмліваюць.* Багданава.

**СКАРО́ЖЫЦЬ** *зак.* Паралізаваць. *Мо́жа чалаве́ка скаро́жыць з воч.* Каралевічы.

**СКАРО́МІНА** *ж.* Мяса; скароміна, скаромная ежа. *Калі́ было́, то яку́ю скаро́міну ў крупе́нік кіда́лі, а цяпе́р ко́жны дзень Па́ска, ко́жны дзень Ко́ляды, усё скаро́мнае.* Фасаўшчына, Багданава.

**СКАРО́МНАЕ** *н.* Тое ж. *Скаро́мнае ясі – ня грэх у пост, а чълаве́ка абруга́ць, абгъвары́ць – грэх.* Багданава.

**СКАРО́МНЫ** *прым.* Прыгатаваны на малаку, масле, яйцах і пад. *Пірагі́ скаро́мные, як дзе́лалі, я́йцы бі́лі, малако́ лілі́, зюм сы́палі.* Буй.

**СКАРЫ́НКА** *ж.* Скарынка. *Як на аіры пячэ́ш, са́мы смачне́йшы хлеп, уку́сная скары́нка.* Міцюкова, Багданава, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Цясішча, Чуцькі. *Адрэ́ш скары́нку хле́ба, а акра́йчык хле́ба – гарбу́шка.* Міцюкова. СКАРЫ́НАЧКА *памянш.-ласк. Скары́начку патпа́ліш на скаваро́дзе, пало́жыш у ваду́ кіпячо́ную – квас так ро́бяць.* Міцюкова, Кішуроўшчына, Леснікова.

**СКАРЭ́Й** *прысл.* Хутчэй. *Скарэ́й ноч про́йдзець, дзень весяле́й.* Нямойта, Багданава, Гарадзец, Закур'е.

**СКАСАВА́ЦЬ** *зак.* Знішчыць, раскапаць. *Той бугра́н ні скасава́лі, стаі́ць у ле́сі.* Рассвет.

**СКАСІ́ЦЦА** *зак.* Скасіць. *А се́на ско́сіцца і ў стагі́.* Станюкі.

**СКАСТРЫ́РАВАНЫ** *дзеепрым.* Спакладаны, палягчаны. *Скастры́раваны каба́н.* Рулёўшчына.

**СКАСТРЫ́РАВАЦЬ** *зак.* Спакладаць, палягчаць. *Скапе́ц – э́та як скастры́руюць барана́.* Марозаўка, Партызаны.

**СКАТ** *м.* Пакаты спуск. *Ска́ту нікý́ды німа́ для вады́, і вы́мякла карто́шка, уся́ прапа́ла гла́тка.* Леснікова, Кавалі.

**СКАТАЎЁ** *н.* Свойская жывёла; скаціна. *Гэ́та ш скаці́на, скътаўё.* Каралевічы.

**СКАТА́ЦЬ** *зак.* Хутка з'ездзіць. *Лёша, вазьмі́ лісапе́ту, ската́й к дзя́дзьку Мі́шу.* Фасаўшчына.

**СКАТНЫ́** *прым.* Прызначаны для скаціны. *Мо́рква ці ні калхо́зная, ці яна́ ні скатна́я. Буракі́ скатны́е пасадзі́ла.* Запруддзе, Партызаны, Ульянавічы.

**СКАЎЗНУ́ЦЦА** *зак.* Саскаўзнуць, выслізнуць, выпасці. *Скаўзну́лася яі́шніца і другі́м бо́кам перавярну́лася.* Міцюкова.

**СКА́ЦЕРЦЬ** *ж.* Абрус. *Ска́церці ра́зныя былі́, ткалі іх па-ра́знаму.* Фасаўшчына, Заазер'е, Запруддзе, Рэчкі.

**СКАЦІ́НА** *ж.* Свойская жывёла; скаціна. *Со́хнець чълаве́к ці скаці́на, ні набіра́іць це́ла, як сухо́ты. Скаці́на быва́іць така́я разу́мная.* Заазер'е, Багданава, Запруддзе, Самсоны, Неўгадава. *Калі́ ку́рыца запяе́ць, то скаці́на здо́хніць ці сам забале́іш* (прыкмета). Ракаў Засценак.

**СКА́ЦІСТЫ** *прым.* Спадзісты, нахільны, не круты. *Тут даро́га ска́цістая і зва́лася касаго́р'я.* Запруддзе.

**СКАЦІ́ЦЬ** *зак.* Скруціць. *У трубёлачку ско́цюць жыр нутраны́.* Міцюкова.

**СКАЧО́К** *м.* ◊ СКАЧКО́М ТАБЕ́. Пажаданне ўдачы, поспехаў. *Скачко́м табе́! – ска́жуць, як тчэш, каб чаўно́к скъка́ў.* Запруддзе, Гарадок, Нямойта. ◊ СКАЧКО́М БЛІНЫ́! Пажаданне таму, хто пячэ бліны. *Скачко́м бліны́! Ка́жуць, каб до́бра пяклі́сі бліны́, хто зо́йдзе ў ха́ту.* Нямойта.

**СКА́ШЫВАЦЬ** *незак.* Скошваць. *Я тры́ццаць пяць со́тък ска́шываю, мяне́ ня трэ́ба прывя́зваць за я́йцы.* Леснікова, Серкуці.

**СКВАЗАНУ́ЦЬ** *зак.* Праняць скразняком, прадзьмуць. *На сквазні́к пъпа́ў, сквъзану́ла там мяне́.* Баравікі.

**СКВАЗНІ́К** *м.* Скразняк. *Там на то́ку рабо́таў, на сквазні́к пъпа́ў.* Баравікі, Міцюкова.

**СКВА́РКА** *ж.* Скварка. *Во харашо́ вы́жарыліся сква́ркі.* Вялікі Азярэцк, Леснікова.

□ *Зямле́ сква́рка – а лю́дзям ча́рка* [пра пакойніка]. Запруддзе.

**СКВАРНА́** *ж.* Крумканне, гукі, якія ўтвараюць жабы. *Скварна́ така́я, аш не чу́ цца. Лягу́шак сто́лькі было́.* Нямойта.

**СКВАРЦІ́ЦЬ** *незак.* Прарэзліва крычаць (пра птушак). *Драч як ста́не скварці́ць.* Буй.

**СКВАРЭ́Ц** *м.* Грак. *Скварцы́ то́жа чо́рныя.* Вялікі Азярэцк.

**СКВА́СІЦЬ** *зак.* Сквасіць. *Мълако́ сква́сіла.* Багданава.

**СКВЕРНАСЛО́ВІЯ** *ж.* Брыдкаслоўе. *Така́я скверна сло́вія, уну́чка рэ́жыць бо́лей, чым ма́льцы.* Кляпчэва.

**СКВЯРЦІ́СЯ** *незак.* Крумкаць, крактаць. *Лягу́шкі сквя́руцца.* Багданава. *Драч сквярціся ста́не, уро́дзе пад нага́мі што.* Буй.

**СКВЯРЭ́ЧЫЦЬ** *незак.* Ліпець, скрыпець. *Ён чо́рны ўвесь, чуць сквярэ́чыць.* Галашчакіна.

**СКІ́БА** *ж.* Скіба. *Атрэ́жыш скі́бу ці лу́сту жы́ру нутрано́га і ясі́.* Міцюкова. СКІ́БАЧКА *памянш. Скі́бачку са́ла атрэ́ш. Хле́ба па скі́баццы прынясе́ць у абе́т.* Багданава, Запруддзе, Фасаўшчына, Закур'е.

**СКІ́БКА** *ж.* Тое ж. *Ма́сла здзе́лаюць, дзе́ці пама́жуць скі́бку хле́ба і на ву́ліцу.* Фасаўшчына, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Запруддзе.

**СКІДА́ЦЬ, ШКІДА́ЦЬ** *незак.* 1. Скідваць, выкідваць. *Бура́н быў скі́нуў гнядзо́, сабра́ліся мужкі́ і ўсцягну́лі наве́рх.* Запруддзе, Міцюкова. *Дзвіна́ццаць грахо́ў с сябе́ скі́ніш, як заб'е́ш зьмяю́.* Запруддзе. 2. Пазбаўляць улады. *Рэвалю́цыя ста́ла шкіда́ць па́нства.* Нямойта.

**СКІ́ДЫВАЦЬ** *незак.* Скідваць. *Ён жа бе́дны быў, із ног ла́пці лазо́выя, ліпо́выя ня скі́дываў, вот табе́ кула́к – съпага́ ня іме́ў.* Парэчча.

**СКІ́НУЦЬ** *зак.* 1. Скінуць уніз адкуль-н. *Мо́жа, стары́ лён на ёу́ні? На́да скі́нуць, а то дажджу́ німа́.* Савінічы. 2. Зняць з сябе адзенне. *Усё скі́нула с сябе́.* Запруддзе. 3. Звергнуць, пазбавіцца ад цяжарнасці. *Скі́нула каро́ва, абарці́равалася.* Парэчча, Гарадзец. 4. *перан.* Пазбавіцца ад душэўнага непакою. *Дзвіна́ццаць грахо́ў с сябе́ скі́ніш, чым грэ́шна, то́е скі́ніш.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк.

**СКІПА́ЦЦА** *зак.* Трэскацца (ад тлушчу). *Цялу́шка аш скіпа́лася і здо́хла.* Закур'е.

**СКІРГІ́КАЦЬ** *незак.* Скрыпець. *Скіргі́каюць на жо́рнах, до́ўга га́рніц ме́люць.* Неўгадава.

**СКІРДА́, СКІ́РДА** *ж.* Сціртa. *Скірда́, дзе храні́цца се́на ў цюка́х. Стох до́мікам, длі́нны – гэ́та скірда́.* Розмыслава, Багданава, Фасаўшчына. *Склада́юць цюка́мі се́на ў скі́рду.* Розмыслава.

**СКІ́СНУЦЦА** *зак.* Скіснуцца. *Скі́сніцца смята́на, сальём і б'ём ма́сла.* Жохава.

**СКІ́СНУЦЬ** *зак.* Скіснуць, зрабіцца кіслым. *А тады́ й скі́снець малако́.* Вялікі Азярэцк.

**СКЛАД** *м.* 1. Склад, сховішча. *На скла́дах са́хар ляжы́ць.* Ульянавічы. 2. Фізічны выгляд, будова (чалавека, жывёлы). *Склад такі́ ў яго́: па шэсь яе́ц выпіва́іць, а худэ́й.* Багданава.

**СКЛАДА́НКА** *ж.* Складчына. *Сабіра́юцца ба́бы, як склада́нку здзе́лаюць, дажы́нкі гуля́юць, пяю́ць.* Самсоны.

**СКЛАДА́ЦЬ** *незак.* 1. Складаць разам, у адно месца. *Ві́ку, гаро́х, се́на склада́лі ў пу́ню.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Рулёўшчына. *У ку́біл ра́ньшы то́жа адзе́жу склада́лі, а са́ла ў я́шчык.* Нямойта. 2. Будаваць, рабіць. *Так яны́ хадзі́лі, ха́ту склада́лі, па лі́тру мълька́ дъва́лі ім. Му́ляры пе́чы склада́лі.* Партызаны, Манголія. 3. Збіраць, складваць з якіх-н. частак. *Што-не́будзь шы́юць, склада́юць.* Запруддзе. 4. *зак.* Угнаіць. *Калі́ зямлю́ складзе́ш нъво́зам, тады́ заро́дзіць.* Багданава, Баравікі.

**СКЛА́ДЗІКІ** *мн.* Стосы. *Палатно́ скла́дзікамі склада́ла.* Нямойта.

**СКЛА́ДЗІШЧА** *н.* Павець, склад. *Скла́дзішча з до́шчак сдзе́лаюць, там склада́іш абы́-што.* Заазер'е.

**СКЛА́ДКА** *ж.* Складчына. *Чму́рысся, якія скла́дкі, усе́ ка мне! Усе́ лю́дзі хадзі́лі.* Вялікі Азярэцк.

**СКЛА́ДНА** *прысл.* Складна, добра. *Павыду́мвалі скла́дна.* Каралевічы.

**СКЛА́ДНАСЦЬ** *ж.* Стройнасць, зладжанасць. *Паю, што з тапара́: німа́ маціфа, скла́днасці.* Каралевічы.

**СКЛА́ДЫВАЦЬ** *незак.* Складваць. *Я дро́вы рэ́зала, кало́ла й скла́дывала ў граду́.* Заазер'е.

**СКЛАНІ́ЦЦА** *зак.* Пакланіцца. *Ма́ліц скло́ніцца, як на та́нцы ідзе́ць прыглаша́ць.* Рулёўшчына.

**СКЛАНІ́ЦЬ** *зак.* Схіліць. *Скланіла гълаву́ на ка́мень – і бо́гу душу́ аддае́.* Каралевічы.

**СКЛА́СЦІ** *зак.* 1. Напісаць, распрацаваць. *Ні скла́лі да гэ́тага пла́на.* Вялікі Азярэцк. 2. Пабудаваць, скласці. *Дву́м мушчы́нам далі па літру малаку́, кап ха́ту мне скла́лі.* Партызаны.

**СКЛА́ШЧЫНА** *ж.* Складчына. *Бува́ла скла́шчына называ́лася, складалі́ся.* Нямойта.

**СКЛЕП** *м.* 1. Закрытае падземнае памяшканне для дамавін з нябожчыкамі. *Былі такія скляпы́, папы́ харанілісі.* Баравікі. 2. Паглыбленае ў зямлю памяшканне для захоўвання прадуктаў; пограб. *Склеп зрабіў з бравён для бу́льбы на агаро́дзі. Жыла́ ў вайну́ ў скле́пі.* Запруддзе, Алексінічы, Гарадзец, Гарадок, Партызаны. *У мяне́ пат по́лам склеп заве́цца.* Міцюкова.

**СКЛЮД** *м.* Сякера для абчэсвання бярвення; склюд. *Склю́да ні было́ ў мяне́, я ім ні рабо́таў, ён тачы́ўся на адну́ сто́рану. Ім быстрэ́е шпа́лы ціса́ць, як ча́хнуў – і ўсё.* Жохава, Міцюкова.

**СКЛЮЧЫ́ЦЕЛЬНА** *прысл.* Выключна. *Атмякла бу́льба ўся склюючы́цельна.* Нямойта.

**СКЛЯПЕ́ННЯ** *н.* Скляпенне. *Скляпе́ння було́ ў той магіле.* Вялікі Азярэцк.

**СКЛЯСЦІ́** *зак.* Праклясці. *Як яго́ скляну́ць і збрэ́шуць.* Вялікі Азярэцк, Карпавічы.

**СКНА́РА** *агульн.* Вельмі скупы. *Ой, скна́ра пярно́ўская* [пра чалавека, які быў на заробках у г. Пярну] *вы́къньkъіць у ка́жньга чълаве́ка.* Запруддзе.

**СКО́БЛЯ** *ж.* Прылада ў выглядзе нажа з ручкамі на канцах для стругання начарна ці здзірання кары з бярвення; скобля. *Кару́ зніма́юць ско́бляй – і кру́глая, і прама́я, загну́тая ско́бля. Во такія ско́блі, ско́блюць па́лкі, ра́ньшы начо́ўкі дзе́лалі, кары́ты.* Дольдзева, Гарадзец, Жохава, Запруддзе, Марозаўка, Савінічы, Фасаўшчына.

**СКО́КНУЦЬ** *зак.* Пераскочыць. *Ку́рыца ажны́ чэрас плот ско́кнула і больш ні падышла́ да кураня́т.* Запруддзе.

**СКО́ЛЬЗКІ** *прым.* Слізкі. *Даро́га ско́льзкая, слізгаісся.* Запруддзе.

**СКО́ЛЬКІ, СКО́ЛЬКА, СКО́КА** 1. *прысл.* Колькі. *Ско́лькі тут ні жыві, а туды́* [на той свет] *ла́дзься.* Партызаны. *Ско́лькі се́на на́да, э́та ш ай!* Запруддзе. *Ско́лька чалаве́к жыве́ць, сто́лька ду́маіць.* Каралевічы, Вялікі Азярэцк, Гарадзец. *Ско́ка го́ра было́!* Алексінічы. 2. *ліч.* Некалькі. *Ско́лькі къласо́ў звя́жыш і пакініш на по́лі.* Партызаны. ◊ СКО́ЛЬКІ ЗАЎГО́ДНА. Колькі хочаш. *Ско́лькі заўго́дна ў нас ёсь глухіх баравіко́ў!* Пожанькі, Запруддзе, Сянно.

**СКО́МШЫЦЬ** *зак.* Скамячыць. *Ско́мшыць, скру́ціць ге́ту адзе́жу.* Запруддзе.

**СКО́НЧЫЦЬ** *зак.* Закончыць. *Мая́ ўжэ паўчы́лъся, пяць ско́нчыла, і вучы́лъся тро́ху ніч́ога.* Запруддзе.

**СКО́РА** *прысл.* Хутка. *Скóра вóсімдзісят мне ўжо бýдзіць.* Заазер'е. *Варýшкі скóра стáнуць высядáць, па пнях растýць.* Каралі, Закур'е. СКО́РАНЬКА *памянш. Скóранька раздзéўся і дастáў пляме́нніка, які тапíўся.* Нямойта, Карпавічы. *Éсьлі зьмiя ўкýсіць, кóрань медуніцы скóранька грызі.* Партызаны.

**СКО́РАЯ** *ж.* Доктар хуткай дапамогі. *Скóрая тóжа лáдная, укóл далá і ўéхала.* Запруддзе.

**СКО́СА** *прысл.* Недружалюбна, коса. *Глядзíць скóса, як бык.* Серкуці, Каралевічы.

**СКО́СНЫ** *прым.* Нахільны. *На дóшку прыбівáецца плáнка, а нъ плáнку даéцца скóснъя дóшка, нъ касýю, а на яé набівáецца гвóздзя для часáння лёну.* Запруддзе.

**СКОТ** *м. зб.* Свойская жывёла; скаціна. *Як відзіш ва сне, што скот гóнюць, – памрэ́ць хто-нéбудзь* (павер'е). Каралевічы, Заазер'е, Партызаны, Парэчча, Станюкі. *Стóлькі скóту с калхóзу здаюць, а пóйдзіш у Сяннó і нямóжна мяса купíць.* Гарадзец, Багданава, Баравікі, Гарадок, Дольдзева, Запруддзе, Івоні, Каралі, Кішуроўшчына, Леснікова, Манголія, Нямойта, Партызаны, Парэчча, Ракаў Засценак, Самсоны, Хамінічы.

**СКО́ТНІК** *м.* 1. Кароўнік. *За скóтным двóрам, за скóтнікам – клáдбішча.* Мянюцева. 2. Даглядчык жывёлы. *Скóтнікі лéтась брáлі сéна, кóжны хóча сваю грýпу падкармíць.* Вялікі Азярэцк.

**СКРАБАНУ́ЦЬ** *зак.* Скрабянуць. *Ні скрабанýць, ні цісанýць, нічагýтачкі ні ўмéіць унýк.* Ульянавічы.

**СКРАБАТКІ́** *мн.* Драўляны абутак. *Скрабаткí – дзіравя́шкі, з вайны́ дзéлалі.* Багданава.

**СКРАБАЦЕ́НЬ** *м.* Зношаны абутак. *Скрабацéнь на шумéтніку нашóў і насíў тады́.* Багданава.

**СКРАБЛО́** *н.* Скобля. *Скраблó, што жардзё скрабéш.* Багданава.

**СКРАЗНЫ́, СКВАЗНЫ́** *прым.* Суцэльны, нясточаны. *Бурлáты скразны́я.* Міцюкова. *Ператкі былí мéншыя, а лáўкі скразны́я, скразны́я дóшкі былí.* Дольдзева, Запруддзе. *Рáньшы сквазны́я дóскі лажы́лі, цяпéр – рэ́заныя.* Гарадзец, Запруддзе, Манголія.

**СКРАНУ́ЦЦА** *зак.* Зрушыцца з месца. *Ні магý з мéста скранýцца, нóгі баля́ць.* Партызаны.

**СКРАПЛЕ́ННЕ** *н.* Змацаванне. *Паясы́ для скраплéння, тады́ цягнуць сталбы́.* Вялікі Азярэцк.

**СКРА́СЦІ** *зак.* Украсці. *І скрáлі гэ́тыя пядзісят рублéй.* Запруддзе.

**СКРА́Ю** *прысл.* У канцы вуліцы. *У нас вот скрáю па аднэ́й старýхі, па аднэ́й старýхі жывём.* Самсоны.

**СКРОЗЬ, СКРОСЬ** *прысл.* 1. Усюды. *Цэмянтóвыя трýбы ўстáвілі скрозь.* Заазер'е, Буй. *Сéннінскае вóзіра, янó скрось ідзéць, у Багдáнаўскае.* Турава, Алексінічы, Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Каралі, Кішуроўшчына, Латыгаль, Леснікова, Партызаны, Закур'е. 2. Заўсёды. *Скрозь цябé цёшча бýдзіць прэзірáць.* Савінічы. 3. *прыназ.* Праз. *Усíх карóў скрозь сон раскажý.* Гарадзец. *На Івáна Купáла салóму, трýпку с калясóм, мазніцу пáляць, ідýць скрось жы́та.* Кішуроўшчына, Вялікі Азярэцк.

**СКРО́ІЦЬ** *зак.* Адрэзаць. *Пáску скрóіў, рас – зацягнýў* [пры пляценні карзіны]. Багданава.

**СКРО́НІ** *мн.* Скроні. *Скрóні гэ́та.* Гарадзец.

**СКРЎЖЫВАЦЬ** *незак.* Падсяваць зерне на рэшаце. *Дабро́ на рэ́шата скрў-жывалі, каб ні пяску́, ні шу́мы ні было́.* Цясішча.

**СКРУЗДО́ННА** *прысл.* Скрозь дно. *Як пашо́ў, дык скруздо́нна праваліўся.* Багданава.

**СКРУЦІ́ЦЦА** *зак.* 1. Скруціцца, звіцца ў клубок. *Скруцілася вяро́вачка на шыі, не́як была па́льца падкла́сці.* Запруддзе. *Вужа́ка скруцілася ў клубо́к.* Рулёўшчына. 2. Разбэсціцца, маральна распусціцца. *Іна́ скруцілася.* Багданава. ◊ ГАЛАВА́ СКРУЦІ́ЛАСЯ. Пра аслабелую памяць. *Скруцілася галава́ – сястра́ бальна́я.* Запруддзе.

**СКРУЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Звіць што-н. колцам. *Уста́нім до́світа, адну́ ёўню скру́цім, другу́ю* [лёну]. Запруддзе. 2. Спакусіць. *Раз скруціў дзе́ўку – бяры́.* Запруддзе.

**СКРЫВІ́ЦЬ** *зак.* ◊ СКРЫВІ́ЦЬ ДУ́ШУ. Пасквапнічаць. *Кап ні я, скрывіў бы ду́шу. Я кажу́: гро́шы згнію́ць, ніхто́ ні памяне́ць. Так і дае́ць цяпе́р дзе́цям.* Жохава.

**СКРЫЖА́ЦЦА** *незак.* Ставіць крыж-накрыж. *Бэ́лькі скрыжа́юцца, збіва́юцца.* Запруддзе.

**СКРЫЛЬ** *м.* 1. Пласт адрэзанага торфу. *Харашо́ скрыля́мі рэ́жацца на то́рсі ры́дзілім.* Турава. 2. Крыга. *Во скрыль атарва́ўся і паплы́ў, як во́зіра раста́ла.* Багданава. СКРЫЛЁК *памянш.* Лустачка. *Атрэ́ш скрылёк хле́ба. Бурачка́ скрылёк атрэ́заў.* Багданава, Заазер'е.

**СКРЫ́НКА** *ж.* Скрынка. *У скры́нку цяпе́р са́ла склада́ем.* Нямойта.

**СКРЫ́НЯ** *ж.* 1. Скрыня для мукі. *Скры́ні дзе́лалі, мяхі чаты́ры мукі ле́злі.* Фасаўшчына, Партызаны. 2. Куфар. *Тады́ вязу́ць маладу́ху, і вязу́ць яе́ скры́ню. Бага́тую скры́ню далі, тру́бак* [палатна] *мно́га.* Буй, Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Леснікі, Нямойта, Партызаны, Рулёўшчына, Цясішча, Закур'е. 3. Шуфляда ў аконным праёме; асада. *У вакне́ скры́ня.* Гарадзец.

**СКРЫПЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Скрыпець. *На наге́ быў гузлачо́к і за чаты́ры сіянсы разышо́ўся, і шэ́я піраста́ла скрыпе́ць.* Багданава. 2. Рыпаць (пра дзверы, калёсы). *Скрыпя́ць дзве́ры, я ўзяла́ і вады́ лі́нула на гэ́тыя заве́сы, і ні скрыпя́ць.* Багданава, Гарадзец. СКРЫП-СКРЫП. Злёгку парыпваць. *Ла́пцікі бе́лінькія скрып-скрып.* Нямойта, Каралевічы.

**СКРЫ́ПКА** *ж.* Скрыпка. *У нас дзе́сяць чалаве́к на скры́пцы ігра́лі.* Вялікі Азярэцк, Партызаны.

**СКРЫ́ЎДЖАНЫ** *дзеепрым.* Пакрыўджаны. *Скры́ўджаны ён, пакры́ўдзілі яго́.* Багданава.

**СКРЫ́ЎДЗІЦЦА** *зак.* Пакрыўдзіцца. *Скры́ўдзіўся ён.* Багданава.

**СКРЫЎЛЕ́ННЕ** *н.* Скрыўленне. *Упусціла яго́ – скрыўле́нне пазвано́чніка.* Гарадзец.

**СКРЫШЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Парэзаць на кавалачкі. *Усё мо́жна скрышы́ць: і буракі, і капу́стачку. Ры́жыкі пірамы́ць, скрышы́ць цыбу́ліну і е́сці.* Багданава, Сукрэмна. 2. *перан.* Скрывіць, паралізаваць. *Ма́тка вы́шла і кля́сці сы́на ста́ла, яго́ за міну́ту скрышы́ла.* Запруддзе.

**СКРЭ́БАЦЬ** *незак.* Грэбці. *Гра́блямі скрэ́баеш, скрэ́баеш.* Мянюцева.

**СКУБАНУ́ЦЬ** *зак.* Тузануць. *Пры́дзеш, скубане́ш, што каро́ву гнаць на́да.* Дольдзева.

**СКУ́БЦІ, СКУСЦІ́** *незак.* 1. Выскубваць, шчыпаць (пер'е). *Курэ́й ску́бці на́да, апскуба́лі пе́р'я, рабілі паду́шкі, пяры́ны.* Багданава. 2. Грызці, адрываць (пра траву).

*Ім нáда травіца. Відзіця, як скубýць, аш вáліцца, скубéць.* Партызаны. *Ужó чуць, йдзе йна* [карова] *скубéць.* Міцюкова. 3. Вырываць, выдзіраць. *Кручóк – э́та, сéна скусці.* Марозаўка, Партызаны, Савінічы.

**СКУВЫ́РЫЧЫЦЬ** *зак.* Скурочыць. *Скувы́рычыла рукý – нóчы ня сплю.* Алексінічы.

**СКУГÓЛІЦЬ** *незак.* Скуголіць. *Сабáка і скугóліць, і вы́ець: калí ўверх – пажáр, а як уніс – хтó-та памрэ́ць.* Багданава.

**СКУЛÁ, СКЎЛА** *ж.* 1. Нарыў, фурункул. *Скулá вы́стаіцца, лóпаецца і прахóдзіць, яé нáда выгравáць.* Гарадзец. *Кап табé скýла сéла.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Баравікі, Партызаны. СКЎЛКА *памянш. Скýлка ў бок табé!* (праклён). Багданава. 2. *экспр.* Ніхто ніколі. *Скýлу пóйдзіць нам хто дрóвы рэ́заць задармá.* Ульянавічы, Неўгадава.

**СКУЛАМÉСІЦЦА** *зак.* Збіцца ў кучу. *Лю́дзі, бывáюць, у кýчу сы́йдуцца, як куламéс здзéлаюць, скуламéсяцца.* Багданава.

**СКУЛАМЭ́СІЦЬ** *зак.* Перавярнуць. *Як ні цёпла, у хáці скуламэ́сяць усё.* Запруддзе.

**СКЎЛЛЯ, СКУЛЛЁ, СКУЛЛÉ** *н. зб.* 1. Скулы. *Каб табé скýлля запéрла глóтку!* (праклён). *Каб табé скýлля ў гóрла сéла: каб ты не мог прады́хаць!* (праклён). Запруддзе. *Вáсількі рвуць, éслі ёсць залатýха, скуллё апся́дзіць, купáюць дзіця́, прыкладáюць прымóчкі.* Партызаны. *А скуллé табé!* (праклён). Запруддзе, Багданава. 2. Нічога. *Цяпéр скýлля! – дражджэ́й ні дастáць.* Партызаны. ◊ СКЎЛЛЯ ЧАПÁЦЬ. Займацца непатрэбшчынай, лайдачыць. *А Мáнька што бýдзець дзéлаць? Скýлля на нітачку чапáць?* Нямойта.

**СКУЛЬНЎЦЦА** *зак.* Упасці. *І скульнýўся самалёт у я́му.* Неўгадава.

**СКУМАЦІ́ЦЬ** *незак.* Шкуматаць. *А тýю і скумаціць німá чагó.* Запруддзе.

**СКУПÁЦЦА** *зак.* Пакупацца. *А бувáла ш нáшы дзéці купáліся дзень, ні вылізáлі з вады́. А цяпéр скупáіцца і балéіць.* Нямойта.

**СКУПЕРДЗЯ́** *агульн.* Скупы. *Скупы́, ні даёць нічóга, скупердзя́ ты.* Багданава.

**СКУПІ́ЦЦА** *незак.* Скупіцца, эканоміць. *Ты б не скупíўся, на базáр схадзíў да купíў што.* Міцюкова.

**СКУПЫ́** *прым.* Скупы. *Стары́к жáдны, скупы́, а я пайдý і ён мне ўсё дась.* Каралевічы, Багданава.

**СКЎРА** *ж.* 1. Скура. *Хай скýру з цябé дзярýць!* Запруддзе. СКЎРКА *памянш. Ранéй салóмай смалíлі, скýрка тады́ мя́ккая.* Багданава. 2. Выробленая шкура жывёлы. *У лапця́х хадзíў са скýры.* Запруддзе.

**СКУРАСПÉЛАЧНЫ** *прым.* Скараспелы. *Скураспéлачную бýльбіну кала паркáну пасадзí.* Нямойта.

**СКУРАСПÉЛЧЫНА** *ж.* Бульба-скараспелка. *Скураспéлчына ніхáй прарасцéць.* Нямойта.

**СКУРЛУПÁ** *ж.* Шкарлупа. *Вы́кінь курáм скурлупý з яйцá.* Розмыслава.

**СКУРÓЎЧЫЦЬ** *зак.* Скалечыць, паралізаваць. *І тут жа яé скурóўчыла.* Івоні.

**СКУСУВÁЦЬ** *зак.* Разбурыць. *Скусувáлі цэ́ркаў, німá нічавó.* Багданава.

**СКУТ** *м.* Кавалак палатна каля 10 метраў (12 губак – чатыры скуты). *Скуты́ мачы́лі ў вы́гърцы ў пóпілі і слáлі бялíць. Скуты́ на сáжалку насíлі, расцéлеш, а лядóк храп-храп. Насцéлюць éтых скутóў на сóнцы.* Запруддзе, Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Каралі, Леснікі, Партызаны, Савінічы, Чуцькі.

**СКУЧА́ЦЬ** *незак.* Сумаваць. *Я так ду́жа ні скуча́ю па малаку́.* Ульянавічы.

**СКУ́ШНА** *прысл.* Сумна. *І чыста, і паеўшы, ну ску́шна. Ску́шна без рабо́ты.* Багданава.

**СКУ́ШНЫ, СКУ́ЧНЫ** *прым.* Сумны. *А ціпе́р жыць харашо́, то́лькі ску́шнае жыццё. Саўсі́м бясе́да была́ ску́чная.* Вялікі Азярэцк, Каралевічы.

**СКЯПА́ЦЦА** *незак.* Расколвацца. *Каб пълазы́ ні ськіпа́ліся, то шы́нныя жале́за пъдбіва́лі.* Багданава.

**СКЯПА́ЦЬ, СКІПА́ЦЬ** *незак.* Адколваць, шчапаць. *Лучы́начку во скіпа́еш ат стрыжанька́, каб іна́ гарэ́ла, то́нінька.* Багданава, Буй, Запруддзе, Фасаўшчына. *Скяпа́лі лучы́ну.* Гарадзец.

**СЛА́БА** *прысл.* 1. Дрэнна, рэдка. *Некато́ра ку́рыца сла́ба нясе́цца.* Вялікі Азярэцк. 2. Мала. *Цётка, ён сла́ба еў. У мяне́ аве́чак сла́ба было́, не́калі было́ дзіржа́ць.* Багданава.

**СЛАБАВІ́ДЗЯШЧЫ** *прым.* Хто дрэнна бачыць, слепаваты. *Ён слабаві́дзяшчы, яму́ во́ка вы́нялі.* Запруддзе.

**СЛАБАДНЕ́Й** *прысл.* Больш свабодна. *У каго́ слабадне́й – дзіржа́ць на кварці́рах.* Леснікова, Запруддзе.

**СЛА́БАСЦЬ** *ж.* Слабасць. *І́ншы дзень ды́хаць не́чым, сла́басць, вя́лы чалаве́к.* Запруддзе, Івоні.

**СЛАБЕ́ЦЬ** *незак.* Слабець. *Лю́дзі ста́рые, слабе́юць, атміра́юць.* Буй.

**СЛА́БНЫ** *прым.* Нягеглы. *Я ўжо сла́бна.* Заазер'е.

**СЛАБО́ДА** *ж.* Свабода. *Ка́ждый лю́біць со́нца, слабо́ду.* Турава.

**СЛАБО́ДНЫ** *прым.* Свабодны. *Свіння́м дам есь, і тады́ ўжо слабо́дная.* Неўгадава.

**СЛА́БЫ** *прым.* 1. Нямоцны, аслаблены. *Зу́бы ўжо сла́быя ў яго́. Цяпе́р лю́дзі сла́быя.* Рэчкі, Багданава, Вялікі Азярэцк, Замошша. 2. Нятлусты, пусты. *Сла́боё мълько́, няжы́рнаё.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**СЛА́ВІЦЬ** *незак.* Праслаўляць. *Поп і сла́віць, і пра́віць.* Каралевічы.

**СЛА́ДАСЦЬ, СЛА́ДАСЬ** *ж.* Салодкасць. *Я ду́жа ні магу́ сла́дасці.* Розмыслава. *Пъдасі́навікі жа́рыш, то сла́дась ёсь, сураве́шкі ма́ла саўсі́м жа́рым.* Міцюкова, Дольдзева.

**СЛА́ДЖАНЫ** *прым.* Салоджаны. *Не сла́джаны чай пап'ю.* Апечкі.

**СЛАЁК** *м.* Праслойка. *Слайка́мі са́ла: то са́ла, то мя́са.* Багданава.

**СЛАЖЫ́ЦЦА** *зак.* Заснуць. *Слажы́лася с чатыро́х часо́ў.* Жохава.

**СЛАНЕ́ЧНІК, СЛАНЕ́ШНІК** *м.* Сланечнік. *Іна́ каля згаро́ды яго́ со́дзіць, цвіці́ць слане́чнік.* Нямойта, Запруддзе. *Слане́шнік пту́шкі склява́лі.* Розмыслава.

**СЛА́ПКІ** *прым.* Мяккі, рыхлы (пра ежу). *Ба́пка сла́пка.* Запруддзе.

**СЛАТА́** *ж.* ◊ ЛЕ́ЗЦІ СЛАТО́Ю Ў ВО́ЧЫ. Лезці назойліва, нахабна. *Чаго́ слато́ю ў во́чы ле́зіш?* Вялікі Азярэцк, Серкуці.

**СЛАТА́** *ж.* Саладосць. *Слаты́ ні́якай, расчы́ніш з ве́чара хлеп, пле́сень пу́сціць, накры́еш фуфа́йкай якей-не́будзь.* Каралі.

**СЛА́ЦЦА** *незак.* Слацца, лятаць. *Ла́стачкі кала ні́зу сце́люцца – на дош* (прыкмета). Манголія.

**СЛАЦЬ** *незак.* Рассцілаць. *І трапа́лі лён, і бра́лі, й сла́лі, а цяпе́р усё машы́най.* Запруддзе, Карпавічы, Закур'е. ◊ МЯ́ККА СЦЕ́ЛІЦЬ <МУ́ЛКА СПАЦЬ>. Знешне ветлівы, далікатны, а спадцішка робіць ці можа зрабіць шкоду. *Ён пра́клы такі́: мя́кка сце́ліць, му́лка спаць.* Рэчкі.

**СЛАЦЬ** *незак.* Пасылаць. *Іна ўсім аткрыткі шлець.* Заазер'е.

**СЛЕД** *м.* 1. След. *След мядзьведзя абнаружылі, к самай бані прыхадзіў, но ніхто яго ня відзеў.* Партызаны, Леснікова, Гарадок. СЛЯДОК *памянш. Ужо слядок відзелі туды, дзе сундук зъкапаны.* Леснікова. 2. Адбітак ад бараны на ворыве. *Узарэш, скародзіш пъпярок сляды ў два і ўдоўж сляды два. Конь ідзець, што па попілі.* Міцюкова, Цясішча.

**СЛЁЗКІ** *мн.* Пакаёвая расліна. *Слёзкі я знаю, цвет у хаці.* Жохава.

**СЛЁЗНА** *прысл.* Слёзна. *Яны яго руж'ё ў возіра шах! Памора слёзна заплакаў.* Рубежніца.

**СЛЁЗЫ** *мн.*, **СЛЯЗА** *ж.* 1. Слёзы. *Кап ты ў маіх слізах заліўся і задушыўся!* (праклён). Запруддзе. *Еслі відзіш* [у сне] *маліны, чарніцы – слёзы* (павер'е). Каралевічы. 2. Кропля слёз. *Сляза пакацілася.* Багданава.

**СЛІБА** *часц.* Хіба. *Сліба там ёсь дзірычка?* Баравікі. *Сліба летам надзену калі кашулю.* Гарадок, Нямойта.

**СЛІВАЧ** *м.* 1. Зборшчык малака. *Слівач прыехаў, банку малака вынісла.* Партызаны, Заазер'е. 2. Злітае малако, поснае. *Мне прыслалі слівач.* Багданава.

**СЛІВІНА** *ж.* 1. Адно дрэва слівы. *Слівіна расла, яе ўнук садзіў.* Пожанькі, Каралі. 2. Адзін плод слівы. *Хоць бы анна слівіна асталася, атпалі ўсе.* Багданава. *Рукі як слівіны, даяркай столькі работала.* Партызаны. СЛІВЫНКА *памянш. Слівынка, яблынка – усё звяла, пъчарнела, ат пъжару.* Багданава.

**СЛІЖ, СЛІС, СЛІШ** *м.* 1. Вераценніца, якую ў некаторых мясцінах лічаць ядавітай змяёй. *Сліш ёсь большы, на вужаку пахожы, таўсты, на яго брытка сматрэць, зялёны, у цвяты, як лягушка, ён кусаіцца, дужа ядавіты, ён карацей за змяі. І сліш ё няўрэдны. Сліж тожа стъраіцца скарэй у ваду, як укусіць.* Жохава, Багданава, Рулёўшчына. 2. Слізняк. *Сліш на грыбах біваіць.* Гарадзец. 3. Слімак. *Сліс? У яго глас німа, нічога ня відзіць, у яго хвост і галава – ўсё адзінакува. Сліш няўрэдны.* Алексінічы, Багданава.

**СЛІЖОК** *м.* Палка з засечкамі, зарубінамі для вяроўкі, якую падкладвалі пад капу, калі цягнулі яе да стога канём. *Пат капу пяці пудоў сухога сена, сухі падбіваюць сліжок, цірас верх пракідваюць вяроўку, зацапліваюць за задні канец слішка.* Леснікова.

**СЛІЗГАТА** *ж.* Слізгота. *Слізгата сянні.* Багданава.

**СЛІЗГАЦЦА** *незак.* Коўзацца. *Дарога скольская, слізгаісся. Як галаледзіца – ідзеш і слізгаісся.* Запруддзе.

**СЛІЗІСТЫЯ** *мн.* Слізістая абалонка, якая высцілае ўнутраную паверхню некаторых органаў чалавека і жывёлы. *Слізістыя аблезлі ад сцеклаацысціцеля.* Вялікі Азярэцк.

**СЛІЗКІ, СЛІСКІ** *прым.* 1. Слізкі, гладкі. *Апяць яго* [палатно] *качаіш, каб яно сліскае было, кап плотнае было.* Багданава, Запруддзе. 2. Мылкі. *Лух – сліская вада, бяльлё сьцірáлі.* Нямойта, Партызаны, Цясішча. СЛІЗІНЬКІ *памянш.-ласк. Кару апчысціш, кап слізінька была.* Серкуці. *Чаўнок з яблыні дзелалі, ён такі слізінькі.* Кляпчэва.

**СЛІМАК** *м.* 1. Слізень. *Слімакі, яны жывуць на лісьціне, вылізаюць яны перат дажджом, сліскі такі.* Запруддзе. 2. *эмац.-ацэн.* Пра таго, у каго цячэ сліна. *Раз слінкі цякуць – слімак.* Гарадзец, Фасаўшчына. 3. *эмац.-ацэн.* Пра бязвольнага чалавека. *Слімак скажуць, як хто плачэць, распусціць нюні.* Запруддзе.

**СЛІНА** *ж.* Сліна. *Сліна цячэць, як зубы ідуць у дзіцяці.* Запруддзе.

**СЛІ́НІЦЬ** *незак.* Слініць. *Слі́ніш па́льцы і пра́жа мо́края.* Закур'е.

**СЛІ́НКІ** *толькі мн.* ◊ СЛІ́НКІ ЦЯКУ́ЦЬ. Пра моцнае жаданне з'есці, выпіць што-н. смачнае. *Слі́нкі цяку́ць.* Гарадзец, Багданава.

**СЛІСА́К** *м.* Прыстасаванне ў выглядзе рычажка ў клямцы, пры дапамозе якога адчыняюцца і зачыняюцца дзверы; слясак. *Гэ́та кля́мка, а язычо́к, што ці́снуць – сліса́к.* Нямойта, Багданава, Запруддзе.

**СЛО́ВА** *н.*, **СЛО́ВЫ**, **СЛАВЫ́** *мн.* Слова, словы. *Усе́ гэ́тыя сло́вы ў тым баку́, ні ў нас. Славы́ такія ёсць, ат суро́цы памага́юць.* Заазер'е, Нямойта, Івоні, Каралевічы, Кішуроўшчына, Міцюкова, Сукрэмна, Неўгадава. СЛАВЕ́ЧКА *ласк.* *А́лыя цвято́чкі, бо́жыя славе́чкі* (з замовы). Каралевічы.

**СЛО́ІК** *м.* Слоік. *Сло́ік трохлітро́вы завя́зваюць, як матро́шку, і гро́шы туда́ то́ркаюць* [на вяселлі]. Партызаны.

**СЛОН** *м.* Сланечнік. *Слон заву́ць у дзірэ́ўні, на по́лі се́юць, кру́глая така́я ша́пка, жо́ўтым цвіце́ць.* Гарадзец, Багданава.

**СЛО́НУЦЦА** *незак.* Слацца. *Дым сло́нецца па зямле́ – дош бу́дзіць* (прыкмета). Гарадзец.

**СЛУГА́** *м.* Слуга. □ *На́шы слу́гі пагну́ліся ў ду́гі.* Ульянавічы.

**СЛУ́ЖБА** *ж.* Служба. □ *Слу́жба – ня дру́жба.* Каралевічы.

**СЛУЖЫ́ЦЬ** *незак.* 1. Працаваць (на пана). *Мой па́па ат сямі́ гадо́ў служы́ў у па́на. У кулька́ служы́ў, як мы слу́жым у дзірэ́ктара.* Кляпчэва, Станюкі. 2. Прызначацца для чаго-н. *Пальто́ мне служы́ла і за саро́чку, і за суке́нку, і за пальто́.* Нямойта, Багданава.

**СЛУХ**, **СЛЫХ** *м.* Слых. *Слух у яго́ дрэ́нны быў.* Кішуроўшчына, Багданава. *На слых дзяце́й гука́юць у ле́се.* Багданава. ◊ НІ СЛУ́ХУ НІ ДУ́ХУ. Ніякіх вестак (няма пра каго-н.). *Прапа́ў – ні слу́ху ні ду́ху.* Запруддзе, Партызаны.

**СЛУ́ХАЦЬ** *незак.* Падпарадкоўвацца каму-н. *Слу́хаіць ма́ліц, паслу́шны. Ня слу́хаіць конь, ляні́вы, хоць ты ва́ру яму́ падлі́.* Заазер'е.

**СЛУЧА́Й**, **СЛУ́ЧАЙ** *м.* Выпадак. *У нас у самы́х быў слу́чай.* Лееснікі. *Э́та рэ́ткі случа́й, але́ быва́іць, што і ку́ра спява́іць.* Буй.

**СЛУЧЫ́ЦЦА** *зак.* Здарыцца. *Як з дзе́дам случы́ласё, прые́хаў яго́ сын.* Багданава.

**СЛЮЗ** *м.* Шлюз. *Ся́нні слюз закры́лі, ры́ба бу́дзіць.* Запруддзе.

**СЛЮЗЬ** *ж.* Слізь. *Ай там слюзі́, га́дасці, горт ско́лькі* [у кішках]. Багданава.

**СЛЮМА́ЧЫЦЬ** *незак.* Слініць. *Када́ праду́ць ні́тку, то слюма́чуць, сліно́й ні́тку сма́зываюць.* Запруддзе.

**СЛЮ́НІ** *мн.* Сліна. *Слю́ні папусці́ць.* Багданава.

**СЛЯДЗІ́ЦЬ** *незак.* Сачыць. *Радзі́целі там ні слідзя́ць.* Гарадзец.

**СЛЯ́КАЦЬ** *ж.* Непагода. *Сля́каць така́я ў ге́тую во́сень.* Нямойта.

**СЛЯМЕ́НЬ** *м.* Слімак. *Сляме́нь – э́та такі́ жук на лі́сцях.* Запруддзе.

**СЛЯПЕ́НЬ** *м.* Сляпень (насякомае). *Вадні́ днём літа́юць і куса́юцца, а сляпні́ – пад ве́чар, такі́я куслі́выя. Сляпні́ зае́лі каро́ў, не́льга падаі́ць.* Жохава, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Каралі, Партызаны.

**СЛЯПЕ́Ц** *м.* Пра таго, хто чаго-н. не заўважае. *Папаро́ліся і пашлі́. О, сляпцы́, ні ба́чылі, што ў прыёмніку гарэ́лка стаі́ць.* Рубежніца.

**СЛЯПУ́ХА** *ж.* Тое ж. *Што ты дзе́лаіш, сляпу́ха, паглядзі́, як ге́ты дзяцёнак се́іць, а ты ня ўме́еш.* Нямойта, Запруддзе.

**СЛЯПЫ́** *прым.* Сляпы. *Ду́маеш, я ду́жа ві́жу, мае́ во́чы сляпы́е. І яна́ сляпа́я, як ку́рыца.* Міцюкова, Багданава, Івоні, Нямойта, Серкуці, Закур'е, Неўгадава.

**СМА́ГА**, **СМЯ́ГА** *ж.* Смага, моцнае жаданне піць. *Бу́дзець хто-не́будзь ісці і са сма́гі я́блачка атарве́ць.* Парэчча. ◊ СМА́ГУ ПРАГНА́ЦЬ. Напіцца вады. *Ён сма́гу сабе́ праго́ніць вадо́й.* Дуброўкі. *Хо́чацца піць, така́я сьмя́га.* Запруддзе.

**СМА́ЖЫЦЬ** *незак.* 1. Жарыць, прэгчы. *Сураéжкі салíла. Яны́ як улéжъцца, то дъліка́тныя, тады́ сма́жыла.* Дольдзева. 2. Пра сухасць у роце. *Сма́жыць у ро́це, вы́сахніць і язы́к ат жары́, і піражыва́ння.* Багданава.

**СМАК** *м.* Смак. *Каб ты сма́ку ня відзіў ня ў чым!* (праклён). Запруддзе. *Ёлкае са́ла, ні такí смак, нісма́шнае.* Вялікі Азярэцк, Закур'е.

**СМАКТА́ЦЬ** *незак.* Смактаць. *Со́скі смо́кчуць, як малы́я, у са́хър мъка́лі.* Багданава.

**СМАЛА́** *ж.* ◊ прыліпнуць ЯК СМАЛА́. Неадчэпна, дакучліва. *Прылíп ты як смъла́.* Партызаны.

**СМАЛІ́ЦЬ** *незак.* 1. Абпальваць агнём (шэрсць). *Ранéй саломай смалíлі, ску́рка тады́ мя́ккая. Прымéрна ты сма́ліш късбана́, то ўсё акура́тна ро́біш, лю́дзі ш ня свíнні.* Багданава, Міцюкова. 2. Моцна марозіць. *Маро́з гальцо́м смалíў, снéгу ні было́.* Партызаны. 3. Моцна стукаць. *А ба́ба ў бу́бен як ста́ніць смалíць.* Багданава.

**СМАЛЯ́К** *м.* 1. Смаляны корч. *Смълякоў у лéсі накапа́ў іс пней, су́шуць іх і па́люць.* Багданава. 2. Што-н. абгарэлае. *Згарэ́ла ўсё, то́лькі стая́ць смълякí.* Фасаўшчына.

**СМАЛЯ́НКА**, **СМАЛЛЯ́НКА** *ж.* Пацук. *Смаля́нкі – кры́сы бальшы́я, хвасты́ длíнныя, такíя гíдкія, усю́ды лéзуць. Ду́мала лéтась смалля́нкі з'яду́ць. Каты́ іх не яду́ць, зада́віць і пало́жыць.* Буй, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Каралевічы, Партызаны.

**СМАЛЯНУ́ЦЬ** *зак.* Смальнуць, моцна ўдарыць. *Харашэ́нька смаляну́ў яму́, каб ён знаў.* Дольдзева.

**СМАРГАНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Шмаргануць, пацягнуць. *Было́ жы́та бальшэ́ннае, а Бох як смъргану́ў то́е жы́та, ат караня́ да маку́шкі, адзíн ко́лас аста́ўся.* Ракаў Засценак. 2. Рэзкім рухам пацягнуць чым-н. па чым-н. *Смъргану́ла сцяклó́м, пяту́ атшара́шыла.* Багданава.

**СМАРГА́ЦЬ** *незак.* Абшморгваць, зрываць. *Кънапéлькі смърга́лі, таўклí ў сту́пі, пръснакí пяклí.* Ракаў Засценак.

**СМАРЖО́К**, **СМАРЧО́К**, **СМАРШО́К** *м.* Смаржок, смарчок. *Смаржкí больш памо́ршчаныя, смарчо́к мо́ршчаты, мършчакí ў íм.* Міцюкова. *А вясно́й смаршкí бува́юць кърува́тыя.* Багданава, Сянно.

**СМАРКА́Ч** *м. зневаж.* Пра нявопытнага чалавека. *Калí саплí цяку́ць, то смарка́ч ка́жуць.* Багданава.

**СМАРО́ДА** *ж.* Парэчкі. *Пар́эчкі – гэ́та і ё чо́рная смаро́да. Паспéла ўжэ смаро́да.* Запруддзе, Гарадзец, Гарадок, Пожанькі, Розмыслава, Цясішча.

**СМАРО́ДЗІНА** *ж.* Тое ж. *Куст смаро́дзіны расцéць пад вакно́м.* Каралевічы, Багданава.

**СМАРО́ДНІК** *м. зб.* Галінкі парэчак. *Смаро́дніку натаплю́. У бяро́завік кладу́ць дубо́вую кару́ і смаро́днік, сучкí, дзень-два і гато́ва пітво́.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Леснікова, Партызаны.

**СМАТРЭ́ННЕ** *н.* Догляд, клопат аб кім-н. *І нíякага сматрэ́ння нíма́, і калхо́з ні смо́трыць.* Вялікі Азярэцк.

**СМА́ЧНА**, **СМА́ШНА** *прысл.* Смачна. *Па́хніць сма́шна.* Багданава, Фасаўшчына. □ *Век сма́чна ні з'ясí, век ла́скава ні піражывéш.* Галашчакіна, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Запруддзе, Леснікі.

**СМАЧНЕЙШЫ** *прым.* Смачнейшы. *У гърла́чыках смачне́йшае мълако́.* Вялікі Азярэцк.

**СМА́ЧНЫ, СМА́ШНЫ** *прым.* Смачны. *О, чаго́ б сма́шнага з'е́сці. Блін пшо́нны спячэ́ш, ён жа сма́шны.* Нямойта, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Заазер'е, Каралевічы, Марозаўка.

**СМАШНЕ́Й** *прысл.* Вельмі смачна. *Са́мо смашне́й пячы́ хлеб на аі́ры.* Запруддзе, Манголія, Міцюкова.

**СМЕ́ЛА** *прысл.* Смела. *Прыхадзі́ сме́ла, я дзіця́м мълька́ дам.* Нямойта.

**СМЕ́ЛЫ** *прым.* Смелы. □ *Каму́ нагу́, каму́ галаву́, а хто сме́лы, аста́ўся цэ́лы.* Сянно.

**СМЕРЦЬ** *ж.* Смерць. *Што харашо́ здзе́лаў, што ат сме́рці бага́ты ніяк ні атку́піцца.* Запруддзе.

□ *Ат сме́рці і пад гаршко́м ні схава́ісся.* Неўгадава. □ *Ат сме́рці бага́ты ніяк не атку́піцца.* Запруддзе, Рэчкі, Неўгадава. □ *Смерць не (ні) глядзіць у бараду́, а ў чараду́. Чърада́ падышла́ – да ўміра́й.* Багданава. □ *Му́чыцца на́да, паку́ль смерць лу́чыцца. Бу́дзем му́чыцца, паку́ль смерць лу́чыцца, паку́ль падо́йдзіць.* Кішуроўшчына, Багданава. □ *Бу́дзем су́чыцца, паку́ль смерць злу́чыцца.* Кішуроўшчына.

**СМЕСЬ** *ж.* Помесь. *Смесь уся́кая жыве́ць цяпе́р.* Нямойта.

**СМЕХ** *м.* Смех. *Во́сьмера дзяце́й – то ж не смех.* Леснікова, Міцюкова. ◊ КУРА́М НА СМЕ́Х. Пра што-н. вельмі недарэчнае. Запруддзе.

**СМЕ́ЦЦЕ, СМЯЦЦЁ, ШМЕ́ЦЦЕ** *н.* Смецце. *Сме́цце і шу́ма зва́лі.* Запруддзе. *Смяццё на суме́тнішча вы́кінь.* Галашчакіна. *У шме́цце вы́кіну гэ́та.* Мянюцева.

**СМЕ́ШКІ** *мн.* ◊ СМЕ́ШКІ СТРО́ІЦЬ. Насміхацца, смяяцца з каго-н. *Не́ча табе́ сме́шкі стро́іць нада мной, я табе́ пакажу́.* Запруддзе.

**СМЕ́ШНЫ** *прым.* Смяшлівы. *А я ба́ба сме́шная: і пла́чу, і смяюся.* Галашчакіна.

**СМІКНУ́ЦЬ** *зак.* Скеміць. *Ён смікну́ў і ў лес пае́хаў.* Баравікі.

**СМІРКА́ЦЦА** *незак.* Змяркацца. Багданава.

**СМІТА́НА, СМЕТА́НА** *ж.* 1. Смятана. *Скісніцца сміта́на, сальём і б'ём ма́сла.* Жохава. СМІТА́НКА *памянш.-ласк. Ну, тады́, як ку́шаць, сміта́нку кладзе́ш.* Заазер'е. *Смета́на до́бра атсто́ялася.* Багданава. 2. Мачанне, прыгатаванае з цёртых канапель (з маку). *Кано́плі змало́ціш, сту́па дзервя́нная, натаўчэ́ш, сміта́на кънапля́ная зва́лася. Бліно́ў напячэ́ш і мача́еш.* Леснікова, Алексінічы, Жохава, Міцюкова.

**СМІТА́НІНА** *ж.* Смятана. *Шча́ўлю по́снага нава́рыш, яйцо́ туды́, сміта́ніны кры́ху ўвалье́ш і ясі.* Запруддзе.

**СМО́ЛКА** *ж.* Смолка (кветка). *Смо́лкі ро́завенькія, ліпу́чыя па луга́х расту́ць.* Багданава, Манголія, Пожанькі.

**СМО́РГАЦЬ** *незак.* 1. Шморгаць, саскубваць, ірваць. *У галадо́ўку асаку́, пукі́ смо́ргалі са шча́ўлю, таўклі́ і е́лі. Я не смо́ргала і не вары́ла ліба́ду.* Заазер'е, Багданава, Запруддзе, Партызаны, Ракаў Засценак, Серкуці, Чуцькі. 2. Часаць (лён). *Лён смо́ргаюць на грэ́бні.* Фасаўшчына, Закур'е. 3. Соўгаць туды-сюды. *Вяро́ўку смо́ргаюць, так перадзвіга́юць.* Фасаўшчына.

**СМОЎЖ, СМУЎЖ, СМУЖ** *м.* Слімак, смоўж. *Смоўж такі́, як улі́тачкі, у до́міку.* Фасаўшчына, Вялікі Азярэцк, Жохава. *А цяпе́р, як смужы́, жыву́ць.* Дольдзева, Фасаўшчына. *Смуўж, смуўж, пакажы́ рог, дам піро́г* (прыгаворка). Партызаны.

**СМУГА́** *ж.* Лёгкая, падобная на дым атмасферная плёнка, туман, дымка; смуга. *Смуга́, як не́ба цёмная, аху́тала смуго́й, цімната́.* Фасаўшчына.

**СМУ́ГЛЫ** *прым.* Смуглы. *Сму́глы, цёмны ў яе́ цвет ко́жы.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**СМУРО́Д, СМУРО́Т** *м.* Смурод. *Даўно́ падо́х бы і смуро́ду ні было́ б!* Запруддзе, Гарадзец, Нямойта, Ульянавічы. *Смуро́т з вару́шак пашо́ў, яны́ для со́лкі ні гадзя́цца.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Серкуці, Ульянавічы.

**СМУРЫ́ЖЫЦЬ** *незак.* 1. Вадзіць па чым-н., націраць, церці. *Дзе смала́, пасмалі́ць на́да ні́тку для ва́лінак, смуры́жыць.* Турава. 2. Касіць патроху. *Пакле́піць касу́, і я патро́ху смуры́жу. Шэсць прако́саў прагна́ла.* Партызаны.

**СМУ́ТНЫ** *прым.* Маркотны, сумны. *Сму́тная така́я, не́шта зда́рылася. Жысь сму́тная січа́с, а ёсь у што прыбра́цца і што есць, а ране́й пе́лі, хоць гало́дныя былі.* Фасаўшчына, Багданава.

**СМЫК** *м.* 1. Дэталь у станку (?). *Дзет віpацёны дзе́лаў, стано́к такі́ быў, смык такі́ – вяро́вачка ў станку́.* Вялікі Азярэцк. 2. Пра вельмі худога чалавека. *То́нкі, як смык.* Заазер'е, Гарадзец, Фасаўшчына.

**СМЫЛЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Гарэць без полымя, тлець. *Смылі́ць, калі ні гары́ць, а так, чуць, без агня́.* Фасаўшчына, Гарадзец. 2. Балець, пячы. *Смылі́ць, гары́ць, чэ́шацца пры́шчуўка.* Манголія.

**СМЫЛЬ, СМЭЛЬ** *м.* Смурод, які вылучаецца пры паленні. *Во смярдзі́ць смэль – э́та аго́нь, што гары́ць.* Багданава. ◊ ХОЦЬ СМЫЛЬ СМАЛІ́. Пра нішчымніцу, галечу. *Ну пра́ма смыль смалі́: нічо́га німа́, ні се́чкі, ні крупі́ны.* Запруддзе.

**СМЫЧО́К** *м.* Смык (у музычным інструменце). *Смычо́к на скры́пкі ігра́ць.* Фасаўшчына.

**СМЯ́ГНУЦЬ** *незак.* 1. Перасыхаць, сохнуць (пра губы, горла, рот). *Так сасмя́гла ў ро́ці, смя́гніць усё і піць хо́чацца.* Запруддзе. 2. Тушыцца (пра ежу). *Як мя́са смя́гла хараш́о ў пе́чы!* Запруддзе.

**СМЯ́КНУЦЬ** *зак.* Абмякнуць. *Ён зваліўся с пяко́лка дало́й, сьмяк уве́сь.* Буй.

**СМЯРДЗЕ́ЦЬ** *незак.* Непрыемна пахнуць. *Смярдзі́ць у ха́ці, мы́шына дзе-та здо́хла. Ат цябе́ фе́рмай смярдзі́ць.* Запруддзе, Багданава, Нямойта, Цясішча.

**СМЯРДЗЮ́К** *м.* 1. Лясны клоп. *Смердзюкі́ яны́ па я́гадах, па лугу́ нагда́ быва́юць.* Жохава. 2. *эмац.-ацэн.* Хто смярдзючы. *Смярдзю́к ты!* Жохава.

**СМЯРДЗЮ́ЧКА** *ж. эмац.-ацэн.* Хто смярдзючы. *Ах гразну́ля, смярдзю́чка ты!* Запруддзе.

**СМЯРДЗЮ́ЧЫ** *прым.* Смярдзючы, які дрэнна пахне. *Бздзюль – жук такі́, сільна ваню́чы, такі́ смярдзю́чы.* Запруддзе. *Вясёлка – смярдзю́чы грып такі́, рэ́тка ёсь, я яго́ ня відзі́ў.* Міцюкова, Жохава, Заазер'е, Запруддзе, Каралі.

**СМЯРКА́НАК, СМІРКА́НАК** *м.* ◊ З РА́НКУ ДА СМІРКА́НКУ. Цэлы дзень. *З ра́нку да смірка́нку рабо́таіць.* Багданава. *З ра́нку да смірка́нку рабо́тала.* Запруддзе.

□ *Як ні павязе́ць, то з ра́нку да смярка́нку.* Запруддзе.

**СМЯРКА́ННЕ, СМІРКА́ННЕ** *н.* Змярканне. *Гарава́ць на́да ат ра́ння да смярка́ння.* Нямойта. ◊ АД РА́ННЯ ДА СМЯРКА́ННЯ. Цэлы дзень. *На́да гарава́ць ад ра́ння і да смярка́ння.* Нямойта.

□ *Як пашло́ з ра́ння, так і да смірка́ння.* Багданава.

**СМЯРО́ТНІК** *м.* Нябожчык. *Туды́ ш смяро́тніка вазі́лі, ён там нъчува́ў у каплі́цы.* Серкуці.

**СМЯРО́ТНІК** *м.* Расліна (?). *Смяро́тнік па́раць, ку́рацьу сара́і, каб скот вадзі́ўся, да трох лет дзяржы́цца то́е.* Запруддзе.

**СМЯРО́ТНЫ** *прым.* Прызначаны для памерлага. *Э́та сьмяро́тны ву́зел, мне на смерць, ня тро́гайце яго́.* Запруддзе.

**СМЯЯ́ЦЦА, СМІЯ́ЦЦА** *незак.* Смяяцца. *Ты смяе́сся кала людзе́й, з людзе́й ня сме́йся.* Дольдзева, Гарадзец, Заазер'е, Мянюцева, Партызаны. *Кала мяне́ дзе́ці смі́яліся.* Манголія.

**СНАВА́ЦЬ** *незак.* 1. Снаваць, рабіць аснову палатна і інш. *Кро́сны сную́ць, ко́лышкі ў́біты, снава́лі на сцяне́: 5 гу́бак, 12 гу́бак, ткуць тады́.* Фасаўшчына, Апечкі, Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Заазер'е, Каралі, Карпавічы, Леснікова, Манголія, Мянюцева, Рэчкі, Дуброўкі. *Сную́ць з вяро́вак ла́пці, сную́ць удо́ль, а плялу́ць упо́перак.* Гарадзец. 2. *перан.* Плесці павуціну. *Кро́сны снуе́ць паву́к.* Вялікі Азярэцк.

**СНАСІ́ЦЬ** *незак.* Зносіць, звозіць. *Када́ калхо́зы абразо́вываліся, ста́лі снасі́ць у о́бшчыя дзярэ́ўні малы́я ве́сачкі.* Нямойта.

**СНАСЬ** *ж.* Снасць, рыбалоўная прылада. *На снась трэ́ба лаві́ць ры́бу, мармы́шку.* Багданава.

**СНЕГ** *м.* Снег. *Снег вы́паў па кале́ні. Кагда́ мно́га сне́гу, то мно́га хле́ба. Снягі́ іду́ць і іду́ць.* Гарадзец, Багданава, Запруддзе, Леснікова, Савінічы, Серкуці.

**СНЕДА́ННЕ, СНІДА́ННЕ** *н.* Снеданне. *Да снеда́ння нако́сіць воз се́на.* Фасаўшчына. *Да сніда́ння ідзём сваё агаро́ды абраба́тываем.* Леснікова.

**СНЕ́ДАЦЬ** *незак.* Снедаць. *Іна́ ішчо́ ні сне́дала, саўсі́м ба́ба нія́кая.* Багданава, Манголія.

**СНЕ́ЖНЫ** *прым.* Снежны. *Зіма́ сне́жная – ле́та бага́тае* (прыкмета). Гарадзец.

**СНІДА́НКА** *ж.* Шаферка. *Як бяру́ць маладу́ху, то е́дуць такія дзяўча́ты з е́ю, сніда́нкі заву́цца.* Гарадзец, Запруддзе.

**СНІ́ЦЦА** *незак.* Сніцца. *Сні́цца ёй сон: шука́йце ба́бу ў канцы́ дзярэ́ўні памі́ш трох камне́й.* Турава. *Як сні́цца къпа́ць бу́льбу – хъяашо́, кунпа́нія, а як садзі́ць – абіза́цільна не́хта памрэ́ць* (павер'е). *Гэ́та да сме́рці.* Ракаў Засценак.

**СНІЦЬ** *незак.* Бачыць у сне. *Я А́ліка сяго́ньня сьні́ла.* Каралевічы.

**СНОП** *м.*, **СНО́П'Я** *мн.* Сноп, снапы. *Мой сноп як ля́лька, а малады́я ня ўме́юць вяза́ць. У ха́ту нясьлі пе́рвы сноп, на кут ста́вілі, з нядзе́льку ці дзве стаі́ць той снапо́к, абаб'ю́ць і пасе́юць яго́, у цэ́ркву но́сяць, пасвяці́ць на́да жы́та.* Дуброўкі, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Нямойта, Рэчкі, Фасаўшчына. *Сноп ста́вілі на кут, стаі́ць, паку́ль с по́ля не пачну́ць вазі́ць усе́ сно́п'я.* Нямойта, Івоні, Савінічы. СНАПО́К *памянш.* *Дзе́ткі, хадзі́це снапкі́ бу́дзеце насі́ць. На кут ста́вілі снапо́к, як пачына́лі жаць.* Цясішча, Багданава, Каралі, Карпавічы, Ульянавічы.

**СНОЎ** *м.* Аснова. *Сноў прасты́, а шэ́рсцю патыка́лі.* Нямойта.

**СНО́ЎДАЦЦА** *незак. перан.* Пра неўсталяваныя адносіны паміж мужам і жонкай. *Сын з жо́нкай сно́ўдаецца: то схо́дзіцца, то расхо́дзіцца.* Рулёўшчына.

**СНУВА́ЛКА** *ж.* Прылада для снавання красён. *Снува́лкі на сце́нку чапа́лі.* Цясішча.

**СНУВА́ЛЬНЯ** *ж.* Тое ж. *Снува́льня была́, на яе́ снува́лі.* Рэчкі.

**СНУ́ЛЛІЦА, СНУ́ЛЬНІЦА** *ж.* Тое ж. *У рука́х сну́лліца была́ – до́шачка з трамя́ ды́рачкамі.* Вялікі Азярэцк, Багданава. *Сну́льніца і кругава́я была́.* Дольдзева.

**СНУ́ЛЛЯ** *ж.* Тое ж. *У мяне́ і цяпе́р сну́ллі ёсць, там пла́нкі, ко́лікі такія, мы снува́лі. Была́ сну́лля ў адну́ нітку, у дзьве.* Манголія, Багданава, Фасаўшчына.

**СНЯГІ́Р, СНІГІ́Р** *м.* Снягір. *Снягіры́ есь, но рэ́дка, у снігіро́ў пу́зцы кра́сненькія.* Розмыслава, Сянно.

**СО́БІЦЬ** *незак.* Шанцаваць. *Со́біла, а пашанцава́ла гаво́раць у за́паднуй.* Фасаўшчына.

**СО́БСТВЕННА** *прысл.* Уласна. *Со́бственна яго́ аве́чку панёс воўк.* Міцюкова.

**СО́ВЕСЬ, СО́ВІСЬ** *ж.* Сумленне. *Ці ёсь у цябе́ со́весь! На́да ш со́вісь мець. Ён уважы́цельны, у чалаве́ка ёсь со́вісь.* Вялікі Азярэцк, Івоні, Міцюкова, Партызаны.

**СО́ВЯСНО** *прысл.* Сорамна. *Мне ад людзе́й со́вясно бу́дзіць, што цябе́ кінуў адну́.* Партызаны.

**СО́ДА** *ж.* Сода. *На со́дзі бліны́ пяку́.* Марозаўка.

**СО́ЙКА** *ж.* Сойка. *Со́йка – пту́шка нібальшэ́нькая, жо́ўтая ці рабая́.* Багданава.

**СО́ЙСКВАЦЬ** *незак.* Сысквацъ. *Ніхто́ с цябе́ ня бу́дзе ніча́га со́йскваць.* Нямойта.

**СОК** *м.* Сок. *Тады́ дубо́ваю кару́ і смаро́днік кі́даюць туды́, і сок* [бярозавік] *такі ўку́сны.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Манголія.

**СО́ЛАД, СО́ЛАТ** *м.* Брадзільны прадукт, прыгатаваны з прарошчанага высушанага, змолатага зерня; солад. *Дзе́лъіцца со́лът зь ячме́ню. Гарэ́лку с со́ладу дзе́лалі і з бу́льбы.* Дольдзева, Заазер'е.

**СО́ЛЕНА** *прысл.* Салёна. *Калі́йную соль бра́лі – і со́лена, і го́рка.* Кляпчэва, Запруддзе.

**СО́ЛЕНЫ, СО́ЛЁНЫ, СО́ЛІНЫ** *прым.* Салёны. *С со́леным агурцо́м еў мёт. Са́ла со́ленае, як лю́біце, е́шце.* Нямойта, Буй, Вялікі Азярэцк, Міцюкова. *Як са́ла ні со́лёнае, тады́ ш і з'е́сці нямо́жна.* Заазер'е. *Со́лінай вадо́й два разы́ паліва́ла.* Багданава.

**СОЛЬ** *ж.* Соль. *І хлеб, і соль – усё на стале́ ляжы́ць.* Багданава, Буй, Гарадзец, Запруддзе, Каралевічы, Нямойта, Парэчча. *Соль табе́ ў во́чы, гале́нь паміж кале́нь!* (з замовы). Вялікі Азярэцк, Нямойта, Партызаны.

**СОМ** *м.* Сом. *У на́шым во́зіры само́ў ні было́. Сом на Дзвіне́ ло́вюць.* Алексінічы, Сянно, Фасаўшчына.

**СОН** *м.* Сон. *Я від́ала ўва сне́, сасні́ўся мне сон. Я па снах усю́ сваю́ жызьнь зна́ю.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Каралевічы, Міцюкова, Партызаны.

**СО́ННІК** *м.* Кніга, у якой даецца тлумачэнне сноў; соннік. *Быў у мяне́ со́ннік, мно́га сноў.* Каралевічы.

**СО́ННЫ** *прым.* 1. Сонны, вялы. *Тады́ прывязлі́ мяне́ со́нную.* Запруддзе. 2. Снатворны, які выклікае сон. *Со́нных ка́пель пусці́лі, засну́лі сто́ражы.* Самсоны.

**СОН-ТРАВА́** *ж.* Сон (расліна). *Сон-трава́ ра́нняй вясно́й цвіці́ць на пісча́ных міста́х. Як дзяцёнак дрэ́нны, плаксі́вы, дык нато́пяць яе́ і дава́лі.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**СО́НЦА** *н.* Сонца. *Со́нца свеці́ць усі́м ро́ўна.* Запруддзе, Каралі, Сяргейкі, Ульянавічы. *Со́нца ігра́ець, мільга́ець на пе́ршы дзень Па́скі і ў Чы́сты чэ́цьвір.* Ракаў Засценак, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Міцюкова, Нямойта. СО́ЎНЕЙКА *ласк. Во со́ўнейка ўзышло́. Дзе со́ўнейка, там і піскляня́ты.* Гарадзец, Запруддзе, Фасаўшчына. СО́ЎНІШКА *ласк. Со́ўнішка свеці́ць.* Запруддзе. ◊ З СО́НЦА ДА СО́НЦА. Цэлы дзень. *Хадзі́ла па чужы́х ні́вах і с со́нца да со́нца стая́ла ра́кам.* Марозаўка.

□ *Зімо́й со́нца свеці́ць, да ні грэ́ець.* Гарадзец.

**СО́НЬКА** *агульн.* Хто любіць многа спаць. *Хто мно́га спіць, ужо́ така́я со́нька.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**СО́НЯ** *агульн.* Тое ж. *Со́ня ўсе спіць і спіць.* Гарадзец.

**СО́ПАТ** *м.* Дыханне. *Каб со́пату ні чуць.* Закур'е.

**СО́ПКІ** *прым.* Сопкі, рассыпісты. *Грэ́цка ка́ша со́пка, перасе́ла ў гло́тцы.* Дуброўкі. *Пра́жылі боб, гаро́х, намо́чым, пу́хлы, аш со́пкі, мя́ккі – і ў печ.* Вялікі Азярэцк.

**СО́ПЛІ, САПЛІ́** *мн.* Соплі. *Со́плі пат но́сам у дзяцёй ра́ншы бы́лі, а цяпе́ра і дзе́ці ні саплі́выя.* Нямойта, Партызаны. *Галава́ балі́ць, саплі́ цяку́ць.* Нямойта.

**СО́ПУХА, ЦО́ПАХА** *ж.* 1. Сажа, копаць. *Было́ закапцёўшы нат пе́чкай і зва́лі со́пуха.* Дольдзева. 2. Цёплы дух ад печы. *Паве́сім што нат со́пухай, кап вы́сахла. Нат пе́чкай здзе́ланы такі́ шо́сцік, як пе́чы бяз ко́мінаў бы́лі.* Алексінічы. *Э́то бува́лашняя сло́ва со́пуха.* Гарадзец, Дольдзева. 3. Верхнія камяні ў курнай лазні, на якія льюць ваду і з якіх ідзе дух. *Цо́пъха – як у пе́чкі верх і ў ба́ні, дзе ваду́ ллюць.* Фасаўшчына.

**СО́РА** *ж.* □ *На́ша Со́ра шы́е і по́ра.* Ульянавічы.

**СО́РАК** *ліч.* Сорак. *Два́ццаць друго́га Сарақі́ – со́рак выраяў прыляці́ць.* Запруддзе, Гарадзец.

**СО́РАМНА** *прысл.* Сорамна. *Ты што ніпра́ўду сказа́ў, як табе́ ні со́рамна.* Гарадзец.

**СО́РЫЦА** *ж.* Танец. *І ба́рыню ігра́юць, ляво́ніху, со́рыца уключа́іцца, падыспа́нец уключа́іцца, у лі́нцяя шэсць калёняў.* Партызаны.

**СО́РЫЦЦА** *незак.* Сварыцца. *Кап ні со́рылісі, ні руга́лісі, дру́жна жылі́.* Запруддзе.

**СО́РЫЦЬ** *незак.* Засмечваць. *Ні на́да со́рыць. Што насо́рым, убяры́це.* Гарадзец.

**СО́СКА** *ж.* 1. Самаробная соска з жаванага з цукрам хлеба. *Дава́лі со́ску іс хле́ба і са́хару, дзе́лалі таку́ю тра́пку, пажму́ць тро́ху.* Запруддзе, Заазер'е, Цясішча. 2. Сасок. *Со́скі трэ́скаюцца ў каро́вы, ма́жам нясо́леным са́лам.* Гарадзец, Міцюкова. СО́САЧКА *памянш. Ві́ма бальшо́я, мно́га цыцо́к, ёсь і со́сачкі ма́лінькія.* Заазер'е.

**СО́СНІК** *м.* Сасоннік. *Круго́м нас лес, со́снік, вот дзе да́ча.* Партызаны, Багданава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Каралевічы, Каралі, Неўгадава. СО́СНІЧАК *памянш. Там лужа́йкі такія красі́выя ё, со́снічак.* Багданава, Каралі.

**СО́ТКА** *ж.* Сотка. *Мы па тры́ццаць со́так выжына́лі.* Багданава, Кляпчэва, Міцюкова, Дуброўкі.

**СО́ТЫ** *мн.* Соты. *Со́ты пчо́лы са́мі дзе́лаюць.* Міцюкова.

**СО́ЎГАЦЦА** *незак.* Ісці павольна, хістаючыся. *А тады́ во на кавіла́х хадзі́ла, со́ўгалася.* Нямойта.

**СО́ХНУЦЬ** *незак.* 1. Рабіцца сухім. *Со́хніць усё, до́жджу німа́шатка.* Заазер'е, Латыгаль. 2. Худзець. *Со́хнець чълаве́к ці скаці́на, ні набіра́іць це́ла, як сухо́ты.* Заазер'е, Закур'е.

**СО́ЧНЫ** *прым.* Сакавіты. *Жыгу́чка бо́лі со́чнъя.* Савінічы.

**СО́ЯН** *м.* Фартух з паўсукна (?). *Ба́бка у ўну́ка нъчава́ла, / Хварту́х-со́ян пацера́ла* (з песні). Чуцькі.

**СПАВЕ́ДВАЦЦА** *незак.* Спавядацца. *Спаве́дваюцца то́жа, даю́ць гро́шы на ахвя́ру.* Нямойта.

**СПАВІВА́НКА** *ж.* Доўгая вузкая палоска тканіны, якой спавіваюць немаўлят; спавівач. *Спавіва́нка – мату́с такі́, як абвёртываюць рабёнка.* Фасаўшчына.

**СПАВІВА́ЦЬ** *незак.* Спавіваць. *Як спавіва́лі дзіця́, плялі́ тасёмачкі з ні́так шарсцяны́х. Ба́пка спавіва́ла дзяцёнка паясо́м.* Запруддзе, Багданава, Міцюкова, Фасаўшчына.

**СПАВІДА́ЦЦА, СПАВЯДА́ЦЦА** *незак.* Спавядацца. *Ідýць к папу́ спавіда́юцца, каб грахі́ сняць. Я по́мню й мяне́ к спо́відзі вадзі́лі, спавіда́ўся я.* Парэчча, Івоні, Фасаўшчына. *І на ўсёнашную хадзі́лі і спавяда́ліся.* Станюкі.

**СПАВІДА́ЦЬ** *незак.* Прымаць споведзь у каго-н. *Ідýць, і поп спавіда́іць.* Нямойта.

**СПАВІ́ЦЬ** *зак.* Спавіць. *Ба́пка пуп атрэ́зала, памы́лі і спаві́лі дзіцёнка. Чатыры пялёнкі было́, спаўю́ і ляжы́ць да утра́, то́лькі ву́шы сухі́я, а так уве́сь мо́кры.* Запруддзе, Багданава, Нямойта, Цясішча.

**СПАГАДА́ЦЬ** *незак.* Выказваць спагаду. *Я табе́ спагада́ю, сдзе́лаць гэ́та ця́шка.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**СПАГА́ДЛІВЫ** *прым.* Спагадлівы, чулы. *Спага́длівы ён, сазна́цельны, сачу́ственны.* Гарадзец.

**СПАГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Спаганяць. *Е́слі до́лжан хто, то трэ́ба спаганя́ць, спаганю́ долг.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**СПАДАБА́ЦЦА** *зак.* Спадабацца. *Вот спадаба́лася мне гэ́та ці што.* Гарадзец.

**СПАДА́К** *м.* Ніжні камень у жорнах. *Спъда́к – спо́дні ка́мень у жо́рнах.* Вялікі Азярэцк.

**СПАДАРО́ЖЫЦЦА** *зак.* Здарожыцца. *Спадаро́жылася я.* Фасаўшчына.

**СПАДА́ЦЬ** *незак.* Нападаць. *Бло́шка на лён спадзе́ць і сам ду́стам тра́вішся.* Буй.

**СПАДВЕ́КУ** *прысл.* Спрадвеку. *Я яго́ спадве́ку ні ем – ціфі́р* [зефір]. Чуцькі.

**СПАДЗЯВА́ЦЦА** *незак.* Спадзявацца. *Мо́жна на цябе́ спадзява́цца?* Гарадзец.

**СПА́ДКІ, СПА́ТКІ** *мн.* Маёмасць, якая пасля смерці ўладальніка пераходзіць у карыстанне каго-н.; спадчына. *Я памру́, а хто мае́ спа́ткі забярэ́ць: адзёжа, пасу́да, аста́ткі. Хазя́йства ці зямля́ – э́та спа́дчына, а спа́ткі – э́та ве́шчы.* Гарадзец, Марозаўка, Фасаўшчына.

**СПАДМАНУ́ЦЬ** *зак.* Падмануць. *Спадману́ць ён мо́жа.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**СПАДНІ́ЗУ** *прысл.* Спаднізу. *Спадні́зу цёпла.* Каралевічы, Гарадзец. *Капы́т гніе́ць спадні́зу.* Гарадзец.

**СПАДНІ́К** *м.* Спадніца (ніжняя?). *Спадні́к – э́та ю́пка абыкнаве́нная. Жэ́нщына ра́ньшэ два спадні́кі надзе́ніць, куды-ніб́удзь кужэ́льніцькі спадніčо́к, кру́жава з ні́так лляны́х.* Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Нямойта, Савінічы, Турава, Фасаўшчына. СПАДНІЧО́К *памянш. Да спадні́чка́ і кру́жэўка прышы́юць.* Багданава.

**СПАДНІ́ЦА, СПАННІ́ЦА, СПІДНІ́ЦА** *ж.* Спадніца. *Са́мі тка́лі і шы́лі спадні́цы.* Гарадзец, Запруддзе, Каралі, Нямойта, Неўгадава. *У скры́ні тру́бкі палатна́, спанні́цы.* Закур'е. *Цыга́нка, яка́я ў спі́дніцы.* Нямойта.

**СПАДНЯ́** *прысл.* Спаднізу. *Спадня́ нага́ гара́чая, гара́чая ступня́. Пя́ты спадня́ баля́ць, лажу́ся, каб но́гі ні датыка́ліся да пасце́лі.* Партызаны.

**СПАДРУ́ЧНА** *прысл.* Зручна. *Спадру́чна было́ лён браць, ні палёх.* Фасаўшчына, Гарадзец.

**СПАДРУ́ЧНЕЙ** *прысл.* Больш зручна. *Жаць у гэ́ты бок ніспадру́чна, адге́туль спадру́чней.* Гарадзец.

**СПА́ДЧЫНА** *ж.* Спадчына. *Хазя́йства ці зямля́ – э́та спа́дчына.* Гарадзец.

**СПАЖЫВА́ЦЬ** *незак.* Спажываць. *Спажыва́йце ма́льцы* [цыбулю], *мне нічо́га ні на́да.* Каралевічы. *Э́та мо́жна есць, спажыва́ць, упатрабля́ць.* Гарадзец.

**СПАЗНА́ЦЬ** *зак.* 1. Даведацца. *Мо́жа вы спазна́еце, як уко́лы называ́юцца.* Партызаны, Міцюкова. 2. Пазнаць. *Хо́дзіць па калы́сцы, харо́шы ма́лец. Уве́сь Лё́нка, каб ні знаў, то спазна́ў бы, што Лё́нкін.* Запруддзе. *Я ж вас ні спазна́ла.* Буй, Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Міцюкова, Партызаны, Ракаў Засценак, Серкуці.

**СПАЗНІ́ЦЦА** *зак.* Спазніцца. *Ты спазні́ўся пасе́іць, то тваё ні заро́дзіць.* Цясішча, Гарадзец, Нямойта.

**СПАЙМА́ЦЬ** *зак.* Злавіць. *Цаплё́нка на́да спайма́ць, улаві́ць.* Гарадзец.

**СПАКЛАДА́ЦЬ** *зак.* Спакладаць, кастрыраваць. *Спъклада́лі къбъна́, быко́ў, жъръбцо́ў.* Заазер'е.

**СПАКО́Й** *м.* Спакой. *Ні дае́ць каро́ві спако́ю.* Марозаўка.

**СПАКО́ЙНА** *прысл.* Спакойна. *Ціха ста́ла, спако́йна, не́мцаў німа́ нідзе́.* Леснікова, Нямойта.

**СПАКО́ЙНЫ** *прым.* Спакойны, ціхі. *Яны́* [цыпляты] *спако́йныя і ні бая́цца ніко́га.* Фасаўшчына, Леснікова.

**СПАКО́ЙСТВА** *н.* Спакой. *Спако́йства – э́та цішыня́, ніхто́ ні міша́іць, ня тлу́міць.* Гарадзец.

**СПАКУ́СА** *ж.* Спакуса. Гарадзец.

**СПАКУСІ́ЦЬ** *зак.* Прывабіць чым-н. *Спакусі́ў – э́та звеў, угавары́ў там піць ці гуля́ць.* Гарадзец.

**СПАЛАСКА́ЦЬ** *зак.* Памыць. *Спало́шчаш дзе́шку тро́ху, як хлеб пячэ́ш.* Міцюкова.

**СПАЛАСО́ВАНЫ** *прым.* Знявечаны шрамамі. *У мяне́ ўсе но́гі спаласо́ваныя* [пасля раненняў]. Рэчкі.

**СПА́ЛЕНЫ** *прым.* Спалены. *Прые́хаў дамо́ў, а ўсе двары́ спа́леныя.* Нямойта, Чуцькі.

**СПАЛІ́ЦЬ** *зак.* 1. Знішчыць агнём. *Мар'яно́ва ў ты́сяча дзевятсо́т со́рак трэ́цім спалілі не́мцы.* Фасаўшчына, Леснікова, Партызаны, Рулёўшчына, Дуброўкі. 2. Атрымаць апёкі; апячы. *Спалі́ла кіпятко́м, во зъгаі́лься.* Багданава. 3. Пашкодзіць. *Мъла́нка спалі́ла, чо́рны арэ́х.* Запруддзе.

**СПАЛНЯ́ЦЬ** *незак.* Выконваць. *Табе́ сказа́лі, і ты до́лжан э́та спо́лніць, на́да спалня́ць.* Гарадзец.

**СПАЛО́Х** *м.* Спалох. *Зна́іця, спало́ху дык усяго́ бая́ліся.* Леснікова.

**СПАЛО́ХАЦЦА** *зак.* Спалохацца. *Спало́халася мая́ дзе́ўчына тады́, заіка́цца ста́ла.* Івоні.

**СПА́ННІК** *м.* Пасцельная бялізна. *Спа́ннікі з тка́нага палатна́ шы́лі.* Рэчкі.

**СПАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Нарадзіць. *Жыла́ ўдава́ пракрасівая, дзе́вяць сыно́ў спарадзі́ла, дзіся́ту – дачку́ Насту́лечку* (з казкі). Буй.

**СПАРАЖНІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць аборт. *Пае́хала ў Віцебск, там яе́ спаражнілі.* Кляпчэва.

**СПАРАЛІЗАВА́ЦЬ, СПАРАЛІЖУВА́ЦЬ** *зак.* Паралізаваць. *Спаралізава́ла яе́, а ра́ньшы касі́ла, ара́ла, се́яла.* Мянюцева, Вялікі Азярэцк. *Віхор мо́жыць спараліжува́ць, як наско́чыць.* Гарадзец, Багданава, Забор'е, Нямойта.

**СПАРАЛІЗО́ВАНЫ** *дзеепрым.* Паралізаваны. *Руќа лéвая ў яé спаралізóвана.* Буй, Жохава.

**СПАРНЕ́Й** *прысл.* Больш спорна. *Брацьь спарнéй акýшнікам, мóжна вýжай, шырай.* Нямойта.

**СПАРНЯ́** *ж.* Два спараныя прадметы; спарыш. *Кóлас жыта двайны́ – спърня́ ці спары́ш.* Фасаўшчына.

**СПАРНЯ́** *ж.* ◊ СПАРНЯ́ Ў ДЗЯЖУ́. Пажаданне, каб было спорным замешванне хлеба. *Спарня́ ў дзяжу́ -- кáжыць, як захóдзіць хто, як хлеп мéсіш.* Нямойта.

**СПАРНЯ́** *ж.* Паразітны грыб у каласах жыта, пшаніцы, ячменю ў выглядзе чорных ражкоў; спарынння. *Бáбам спарню́ кіпяцíць і піць.* Сянно.

**СПА́РЫЦЦА** *зак.* Сапрэць. *На пéчы спáрыліся ат стрáху.* Жохава.

**СПА́РЫЦЬ** *зак.* 1. Згатаваць, зварыць. *Бýльбінак спáру, скíсніць – замяшý хлеб.* Леснікова, Алексінічы, Гарадок, Ракаў Засценак, Чуцькі. *Нáда аўсá спáрыць, вы́сушыць і ў стýпі таўчóм.* Дольдзева. 2. Аб'яднаць два ў адзін. *Як спáрыш два раí, тады́ вылáўліваеш мáтку.* Фасаўшчына.

**СПАРЫ́Ш** *м.* Спарыш, драсён птушыны (расліна). *Травá спары́ш дýжа караністая, дрóбненькая, вы́палаць яé дык гóра. Спары́ш свінні ядýць.* Гарадзец, Багданава, Запруддзе, Каралі, Міцюкова, Мянюцева, Серкуці, Сукрэмна.

**СПАРЫ́Ш** *м.* 1. Два спараныя прадметы (пра плады, расліны і пад., якія зросліся). *Гурóк, як два ўмéста, – éта спары́ш, ці арэ́хі ў лясý два – спары́ш. Два каласы́ – э́та спары́ш, укíнім у хлеп, каб на лéта лýччы бы́ла.* Заазер'е, Гарадзец, Дольдзева, Савінічы. 2. Два гліняныя гаршчочкі, злучаныя адной ручкай. *Спарышы́ – гаршкí дзéлалі палівáшнікі.* Леснікова. СПАРЫШО́К *памянш. Мéленькі спарышóк, як павýк які-нéбудзь.* Міцюкова.

**СПАРЫ́Ш** *м.* Паразітны грыб у каласах жыта, пшаніцы, ячменю ў выглядзе чорных ражкоў; спарынння. *Спарышы́ чóрныя такéя ў жыцí, сабірáлі іх, лякáрства рабíлі.* Сукрэмна.

**СПАС** *м.* Спас. *Спас бывáіць дзівятнáццатага áўгуста, я́блыкі ў царквý нясýць. Да Спáса мужы́к я́блык не еў.* Карпавічы, Багданава, Вялікі Азярэцк, Самсоны. *Éсьлі дзéці ўмірáюць, нільзя́ я́блыкі есьць дъ Спáса* (павер'е). Каралевічы.

□ *Пятрóк атшчыкнéць лістóк, Іллá – два, Спас – у квас, Прачы́стая начанéць чы́сціць чы́ста.* Нямойта. □ *Спас на ўсё лас.* Чуцькі. □ *Спас – усямý час.* Запруддзе.

**СПАС** *м.* ◊ НІМА́ СПА́СУ. Не пазбавіцца, не ўратавацца ад чаго-н. *Німá спáсу за éтымі жукáмі, аб'ядáюць усё на нет.* Серкуці, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Леснікова, Нямойта, Партызаны.

**СПА́САЎКА** *ж.* 1. Спасаўка, пост перад Спасам, народна-царкоўным святам, якое прыпадае на жнівень. *На спáсаўку гной вóзюць на пъпáр. Спáсаўка – дзве нядзéлі ўсягó ёсць, агурцы́ ужó пасьпéюць у гарóдах.* Багданава, Партызаны. *Спáсаўка-лáсаўка пасля Пітрá, пасля Спáса, а Пятрóк – дзвінáццатага іюля.* Фасаўшчына, Вялікі Азярэцк, Міцюкова. 2. Сорт груш, якія паспяваюць к Спасу. *Спáсаўкі сартóў з дзéсіць былó.* Пожанькі. 3. Абрадавая песня, якую пелі, як ірвалі лён. *Гéта спáсаўка, пéлі, як лён рвáлі: У барý ціцярýк балбóчыць, / З бóру ляцéць ня хóчыць. / А ў барý ягóткі салóткі, / А па пóлі калю́чы й балю́чы* (з песні). Мянюцева.

□ *Пятрóўка – галадóўка, а спáсаўка – лáсаўка.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Малы Азярэцк, Міцюкова, Партызаны, Самсоны, Чуцькі.

**СПА́САЎСКІ** *прым.* Які адносіцца да Спаса. *Спа́саўскія му́хі куса́юцца крэ́пка.* Запруддзе.

**СПАСЕ́ННЕ** *н.* ◊ НІМА́ СПАСЕ́ННЯ. Не пазбавіцца, не ўратавацца ад чаго-н. *Німа́ спасе́ння, жукі карто́шку з'іда́юць.* Рэчкі.

**СПАСІ́БА** *выкл.* Дзякуй. *А спасі́ба ці хоць сказа́ў?* Марозаўка.

**СПАСІ́БАВАЦЬ** *незак.* Дзякаваць. *Ай, за што тут спасі́баваць.* Багданава.

**СПАСЦІ́** *зак.* Выратаваць. *То́лькі й спасло́ бало́та мяне́.* Міцюкова.

**СПАСЦІ́СЯ** *зак.* Выратавацца. *Чым ні травілі карто́шку, усё ро́ўна ня мо́жна спасці́ся.* Партызаны.

**СПАСЫЛА́ЦЬ** *незак.* Пасылаць. *Трэ́ба спасыла́ць дзяце́й за хле́бам.* Нямойта.

**СПАТКА́ЦЦА** *зак.* Сустрэцца. *Назна́чыў с кім спатка́цца.* Гарадзец.

**СПАТЫКНУ́ЦЦА** *зак.* Зачапіўшыся за што-н., страціць раўнавагу. *Ішо́ў, ішо́ў і рас – спатыкну́ўся, астанаві́ўся.* Гарадзец.

**СПАХА́ЦЬ** *зак.* Узараць. *Ён сам спаха́ў зямлю.* Нямойта.

**СПАХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* Схапіць, хутка забраць. *Тут жа яго́ спахвацілі і павязлі́ ў бальні́цу.* Запруддзе.

**СПАЦЫРАВА́ЦЬ** *незак.* Шпацыраваць. *Што ты спацыру́еш ту́ды-сю́ды.* Нямойта.

**СПАЦЬ** *незак.* Спаць. *Дзень як пърабо́таеш з віламі – хърашо́ спіш. Ма́ці пераксціць пасце́ль і ска́жа: спаць кладу́ся, на Бо́га здаюся, крэст пад на́мі, а Бох над на́мі* (з малітвы). Буй, Багданава, Дольдзева, Нямойта.

**СПАЧА́ТКУ** *прысл.* Спачатку. *На́да даёнку ўзяць спача́тку, тады́ бу́ду даіць каро́ву.* Гарадзец.

**СПЕ́ЛЫ** *прым.* Спелы. *Як спе́лае жы́та, то йдзеш і жнеш.* Гарадзец, Ракаў Засценак.

**СПЕ́РАДЗІ** *прысл.* Спераду. *Перадо́к спе́радзі.* Гарадзец.

**СПЕ́РЦІ** *зак. экспр.* Украсці. *А ўнук дрэ́нны, лю́біць што спе́рці.* Нямойта, Заазер'е.

**СПЕ́СТАВАНЫ** *прым.* Распешчаны. *Спе́ставаны ён, збалаваны, ра́ньшы дзе́ці ні былі́ спе́ставаныя.* Запруддзе.

**СПЕ́СТАВАЦЬ, ЗПЕ́СТАВАЦЬ** *зак.* Распесціць. *Спе́ставала ба́ба ўну́чку.* Івоні, Розмыслава. *Зпе́ставалі мяне́.* Івоні.

**СПЕЦ** *м.* Спецыяліст. *Мой спец быў на ўсё, што ні ўба́ча, то зро́біць: і шыў, і къва́ў, і стъляраваў.* Неўгадава, Нямойта, Фасаўшчына.

**СПЕ́ЦЦА** *зак.* Дасягнуць адзінства; спецца. *Яны́ сьпе́ліся міжду сабо́й, сдружы́ліся, у адну́ лінію гнуць.* Запруддзе.

**СПЕЦЬ** *незак.* Спець, рабіцца спелым, выспяваць. *Яны́ во ўжо сы́пюцца, сьпе́юць* [ягады]. Заазер'е.

**СПЕЦЬ** *зак.* Праспяваць. *Хадзі́, яку́ю прыпе́ўку спей.* Машчоны.

**СПЕЧ** *зак.* Спячы. *На́да спеч што-не́будзь.* Гарадзец, Партызаны.

**СПЕ́ШКА** *ж.* Скараспелка (сорт бульбы). *Да́ўнішнія бу́льба, з да́ўнішніх прэ́ткаў – спе́шка.* Запруддзе.

**СПЕ́ШНЯ** *ж.* ◊ СПЕ́ШНЯ ТКА́ЛЛІ! Пажаданне поспеху, удачы ткаллі. *Спе́шня тка́ллі! – Дзя́куй!* Запруддзе.

**СПЕ́ШЧАНЫ** *прым.* Распешчаны. *І адку́ль у яго́ такі́ спе́шчаны дзяцёнак?* Запруддзе.

**СПЁРЦІСЯ** *зак.* Сысці. *Куды́ ты сьпёрся, пайшо́ў, папёрся куды́-та.* Запруддзе.

**СПІВА́КА** *агульн.* Спявак. *Вот сьпіва́ка, вот сьпіва́е, го́лас харо́шы.* Запруддзе.

**СПІВА́ЦЦА** *незак.* Спявацъ, пяяць. *Не ўжо – ні співа́іцца.* Буй.

**СПІВА́ЦЬ** *незак.* 1. Спяваць. *Увеча́ры співа́лі пе́сні.* Запруддзе. 2. Цвыркаць. *Цвыркун – но́гі длі́нныя, а як у ха́ту ўле́зіць, то співа́іць.* Запруддзе, Буй.

**СПІВА́ЧКА** *ж.* Спявачка. *Во гэ́та харашо́ паёць, сьпіва́чка, танцо́рка.* Запруддзе.

**СПІ́ГАН** *м.* Спінінг. *Спі́ган бальшы́ закіда́еиь на шчу́ку.* Багданава.

**СПІЖ, СПІШ** *м.* Піжма (расліна). *Спіж жо́ўты, го́ркі, на мяжы́ расцёць, ад глісто́ў.* Багданава.

**СПІНА́** *ж.* Спіна. *Як спіна́ балі́ць, лажы́лі пат паро́г, другі́я таптáлі: малы́ каб пахадзі́ў, каб пе́рвы дзяцёнак ці пасле́дні ў сям'і́* (звычай). Вялікі Азярэцк, Багданава. СПІ́НАЧКА *ласк.* *Е́слі я то́ка ля́гу ніц, наза́ўтра балі́ць спі́начка, трыва́ць ні магу́.* Запруддзе. ◊ НА СПІНЕ́. Пад апекай каго-н. *Шэсь душ на маёй спіне́.* Баравікі, Багданава.

**СПІ́НКА** *ж.* Апора для спіны на сядзенні. *Дзірвя́нныя ко́йкі былі́ са сьпі́нкай.* Гарадзец.

**СПІРАБО́Й** *м.* Святаяннік, зверабой (расліна). *Трава́ ёсць жо́ўцінькая така́я, зьбіра́ім, забы́лася называ́еица як, а спірабо́й.* Заазер'е.

**СПІРТ** *м.* Спірт. *Спі́рту лі́труў дзе́сіць улі́лі ў рызі́ну* [камера з кола]. Міцюкова.

**СПІРЫ́Н** *м.* Аспірын. *Упе́рат ста́лі саве́таваць спіры́ну і бутадыёну.* Нямойта.

**СПІ́САНЫ** *дзеепрым.* Зняты. *Быў спі́саны с учо́та.* Ульянавічы.

**СПІСА́ЦЬ** *зак.* Перанесці, перарысаваць. *Які́ ўзор увíдзіць, спі́ша на бума́жку.* Закур'е, Рэчкі.

**СПІСО́К** *м.* Спіс. *Спісо́к да́лі. Па спіску́ даю́ць са́хар.* Нямойта, Міцюкова, Цясішча.

**СПІ́СЫВАЦЬ** *незак.* Перапісваць. *Усі́х спі́сывалі ў нас, хто пагі́пшы.* Самсоны.

**СПІХНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Сапхнуць, ссунуць. *Не́хта ўзяў спіхну́ў ло́тку, яна́ і затапі́лася ў вадзе́.* Багданава. 2. Схаваць. *У ку́сцік галаву́ спіхну́ла.* Баравікі.

**СПІ́ЦА** *ж.* Спіца (у коле). *Спі́цы ў калясе́, у катку́.* Міцюкова, Гарадзец, Гарадок, Дуброўкі.

**СПІЦА́К** *м.* Спіца (завостраная палачка), якой падпляталі лапці. *Спіца́к с ко́сткі дзе́лаўся, бальшынство́ аве́ччай, ла́пці плялі́ лы́какавыя.* Леснікова, Алексінічы, Багданава, Нямойта.

**СПІЦЫЯЛІ́СТ** *м.* Спецыяліст. *Спіцыялі́сты са́мі ма́льцы, дык навядзіцё яго́, цілівізара.* Багданава.

**СПІЦЫЯ́ЛЬНА** *прысл.* Спецыяльна. *Сьпіцыя́льна е́зьдзіла паглядзе́ць.* Кішуроўшчына.

**СПІ́ЧЫНКА** *ж. памянш.* Запалка. *Тры спі́чынкі ўкра́дзем.* Фасаўшчына.

**СПІША́ЦЦА** *незак.* Спяшацца. *Сьпіша́цца на́да, а то ні заспе́ю. На́да сьпіша́цца ісьці́ дамо́ў.* Запруддзе.

**СПЛАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Згарнуць сена ў пласты. *Грабля́мі сплашчу́ се́на – і на капе́ц.* Чуцькі.

**СПЛАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Сплаўляць. *Шні́пры Дзвіно́й сплаўля́лі ў Ры́гу.* Ульянавічы.

**СПЛА́ЧВАЦЬ** *незак.* Сплачваць, аплачваць. *Касілі ўсе, а хто каро́вы ні дзіржа́ў, таму́ за се́на сплачвалі.* Кляпчэва. *Іна́ дзе́ньгі спла́чваіць, мужыку́ за маё масць, як развод.* Запруддзе.

**СПЛАШНІ́НА** *ж.* 1. Суцэльны, непадзельны. *Са́ла і мя́са ўме́сці, ні аддзіля́юць – э́та сплашні́на.* Фасаўшчына. 2. Адной паласой. *По́ле ско́шана так, сплашні́най.* Нямойта.

**СПЛАШНЫ́** *прым.* Суцэльны, які цалкам займае якую-н. прастору. *Сплашно́я по́ля пшаніцы. Тут жа сплашна́я вада́.* Гарадзец.

**СПЛЕ́СЦІ** *зак.* 1. Зрабіць з саломы, лазы і інш. *Дык я сплёў ла́пці. Ве́чарам сплят́у панто́плі і іду́ гуля́ць, спляцеш, патшыіш чым-не́будзь.* Сукрэмна, Нямойта. 2. Злучыць, змацаваць пляценнем. *На́да сплесці ў мато́к цыбу́лю.* Гарадзец, Рулёўшчына.

**СПЛЕ́ТНІЦА** *ж.* Пляткарка. *Яна́ сплетніца, сплетні сплета́ець.* Гарадзец.

**СПЛЕ́ТНІЧАЦЬ** *незак.* Пляткарыць, разводзіць плёткі. *Ба́ба с ба́бай як сабяру́цца ды й сплетнічаюць.* Савінічы.

**СПЛІСКА́ЎШЫСІ** *дзеепрым.* Зляжалы. *Такі сплiска́ўшысі быў той ужо́ кіндзю́к.* Багданава.

**СПЛОШ** *прысл.* Скрозь. *Сплош і ра́дам усё кладу́ць но́вае.* Самсоны.

**СПЛУ́ТАЦЦА** *зак.* Зблытацца. *Каб ні сплу́талася асно́ва, сплітáлі ў пляцёнкі.* Рэчкі, Чуцькі.

**СПЛЫВА́ЦЬ** *незак.* Усплываць. *Дзе́лълі, кап ён ні сплыва́ў.* Савінічы.

**СПЛЫ́ТАЦЬ** *зак.* Зблытаць. *Мо́жа што я сплы́тала?* Багданава.

**СПЛЫЦЬ** *зак.* Мінуцца, прайсці. □ *Было́ ды сплыло́.* Вялікі Азярэцк.

**СПЛЮ́ХНУЦЬ** *зак.* Згнісці. *Грып сплюх ужо́.* Міцюкова. *Уве́сь агаро́т прапа́ў, сплю́хла карто́шка.* Леснікова.

**СПЛЮ́ШЧЫЎШЫСІ** *дзеепрысл.* Зросшыся. *Бъръвікі сплю́шчыўшысі сідзя́ць і па тры.* Дольдзева.

**СПЛЮ́ШЧЫЦЬ** *зак.* Сціснуўшы, зрабіць пляскатым; сплюшчыць. *Сплю́шчылі міску ці вядро́.* Гарадзец.

**СПЛЯТА́НКА** *ж.* Стрыжань рознага прызначэння; спічак. *Сплята́нку с ко́сткі выдзе́лывалі.* Дуброўкі.

**СПЛЯТА́ЦЦА** *незак.* Скручвацца. *Калтуны́ расчэ́шыш, а яны́ ізно́ў сплятýцца.* Нямойта.

**СПЛЯТА́ЦЬ, СПЛІТА́ЦЬ** *незак.* 1. Скручваць. *Асно́ву зніма́еш і сплята́еш у пляцёнку.* Леснікова. 2. *перан.* Выдумляць. *Спле́тні спліта́ць.* Гарадзец.

**СПО́ВІДЗЬ** *ж. перан.* Праборка, вымова. *Я ямý дала́ спо́відзь.* Буй.

**СПОД, СПОТ, ІСПО́Т, ІСПО́Д** *м.* 1. Спод, адваротны бок (тканіны, адзення і пад.). *Верх чо́рны, а спод кра́сны быў у паўшу́бку.* Сукрэмна. *На́да іспо́т ме́рыць, а ён – зве́рху.* Заазер'е. 2. Под. *Ніс у пе́чы – спот, а верх – паднябе́нне.* Запруддзе. 3. Падэшва. *На́да спот ме́раць у бацінку.* Заазер'е. ◊ ПАД ІСПО́Д. Знізу. *А гэ́ты гроп харо́шы: аббілі і пасла́лі се́на яму́ пад іспо́т.* Буй. ◊ ПАДА СПО́ДАМ. Тое ж. *Ба́пкі, як казе́льчыкі, пъдъ спо́дъм бе́лінька.* Сукрэмна.

**СПО́ДКІ, СПО́ТКІ** *мн.* Рукавіцы. *І спо́ткі пърабі́ла ўну́кам і наскі. Е́слі пъчане́ш спо́ткі, ды кап ко́нчыў на крывы́я вечары́* [каб у Каляды не заставаліся]. Партызаны, Багданава, Заазер'е, Леснікова, Нямойта, Ракаў Засценак. СПО́ДАЧКІ *памянш. Бяры́ці і прадзі́ці дзяцём спо́дачкі.* Неўгадава.

**СПО́ДНІ** *прым.* Ніжні. *Спо́дні ка́мень у жарна́х і вярхня́к.* Багданава[1].

**СПО́ЛАХ** *м.* Спалох. *Ат спо́лаху, уро́ку іна́ шэ́пчыць.* Івоні.

**СПО́ЛНІЦЬ** *зак.* Выканаць. *Ты до́лжан э́та спо́лніць.* Гарадзец.

**СПО́ЛЬЗАВАЦЬ** *зак.* Выкарыстаць. *Мо́жа я памру́ і ні спо́льзую пе́нсію.* Багданава.

**СПО́МНІЦЬ** *зак.* Успомніць. *Гълъва́ ня спо́мніць.* Багданава.

**СПОР** *м.* Спрэчка. *Быва́юць спо́ры якія ў хазя́йстві.* Запруддзе.

**СПО́Р** *м.* ◊ СПОР (СПО́РА) <ТАБЕ́> Ў ДЗЯЖУ́! Пажаданне, каб было спорным замешванне хлеба. *Як хлеп ме́сіш, ка́жуць: спор табе́ ў дзяжу́!* Багданава, Запруддзе. ◊ СПО́РА Ў АСНО́ВУ! Пажаданне, каб было добрым тканнё. Запруддзе.

**СПО́РАВАЦЬ** *незак.* Спрачацца. *Адна́ не спо́равала са мной, а другая сабе́ ідзе́ць і ідзе́ць па гаро́ду, я ганю́ і крычу́.* Нямойта, Міцюкова.

**СПО́РНА** *прысл.* 1. Больш, чым трэба. *Спо́рна, ой спо́рна як, даў гаро́ху спо́рна.* Фасаўшчына. 2. Эканомна. *Са́ла спо́рна бу́дзя.* Нямойта.

**СПО́РНЫ** *прым.* 1. Часты (пра дождж). *Спо́рны до́ждж ідзе́.* Нямойта, Кляпчэва. 2. З вялікай колькасцю ягад. *Яны́* [клубніцы] *ду́жа сало́ткія і спо́рныя, як на со́нцы сідзя́ць.* Запруддзе. 3. Шчодры. *Пазы́чыла спо́рны кілагра́м са́ла, з га́кам там было́.* Запруддзе.

**СПО́РЦІЦЦА** *зак.* Сапсавацца. *Я ня ўме́ю яго́ зашчапі́ць, замо́к спо́рціўся.* Запруддзе, Багданава.

**СПО́РЦІЦЬ** *зак.* Сапсаваць. *Мо́жна сказа́ць, спо́рцілі ўсё.* Гарадзец.

**СПО́РЫЦЬ** *незак.* Спрачацца. *Мы спо́раім, спо́раім, а като́рая і запла́чыць.* Баравікі, Заазер'е, Каралевічы.

**СПО́ЎЗАЦЬ** *зак.* Павольна сходзіць. *І гэ́ткай паро́й спо́ўзала на вясе́лле.* Дольдзева, Кішуроўшчына.

**СПО́ЎЧАСА** *прысл.* Паўгадзіны. *Ну й спо́ўчаса – я і дзе́вачку радзіла.* Заазер'е.

**СПРА́ВІЦЦА** *зак.* 1. Управіцца, дагледзець гаспадарку. *Ве́чар, спра́ўлюся ў дзіся́тым часу́, закрыва́юся.* Партызаны, Гарадок, Каралевічы. 2. Паспець зрабіць што-н. *Усю́ды на́да спра́віцца, хай яно́ права́ліцца.* Міцюкова.

**СПРА́ВІЦЬ** *зак.* 1. Адсвяткаваць, адзначыць. *І е́так і спра́вяць радзі́ны.* Заазер'е. *Дажы́нкі, дако́скі спра́вілі – біто́н спірту пашло́.* Міцюкова. 2. Нарабіць крыку, шуму, учыніць вэрхал. *Як спра́вілі ґва́лт, як спра́вілі крык.* Міцюкова, Ульянавічы. 3. Выканаць якую-н. работу. *Як я ўсё спра́ўлю, то ў нядзе́лю рас пу́сціць гуля́ць.* Неўгадава. 4. Падрыхтаваць корм. *Я спра́віла кура́м.* Гарадзец.

**СПРАВО́НКІ** *мн.* Справункі, пакупкі. *О, якія ў яе́ справо́нкі, харашо́ адзяе́цца.* Нямойта.

**СПРАВУ́НКІ** *мн.* Справы. *На́да зрабі́ць усе́ справу́нкі, усю́ рабо́ту. Усе́ справу́нкі спра́віць.* Марозаўка, Фасаўшчына.

**СПРАВЯДЛІ́ВА** *прысл.* Правільна. *Гэ́та па-хахле́цку, гэ́та мо і справядлі́ва.* Міцюкова.

**СПРАДАЎНА́** *прысл.* З даўніх часоў. *Спрадаўна́ тут рэ́чка.* Самсоны.

**СПРАДВЕ́КУ** *прысл.* Тое ж. *Яна́* [наша вёска] *спрадве́ку Забо́р'я і Забо́р'я. У нас шко́ла была́ спрадве́ку.* Забор'е. *Спрадве́ку і е́тыя пра́знікі, і ўсё.* Рэчкі, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Серкуці, Сукрэмна, Чуцькі.

**СПРА́ЖЫЦЦА** *зак.* Запрэгчыся. *Спра́жымся во́сім бап у плух, а дзівя́тыя за плу́гъм.* Закур'е.

**СПРА́ЖЫЦЬ** *зак.* Спрэгчы, спячы, сасмажыць. *Спра́жыць гаро́х, боп, се́мя мо́жна.* Багданава. *Намо́чыш гаро́х, тады́ нъ скъваро́ду, спра́жыш.* Каралі.

**СПРАСАВА́ЦЦА** *зак.* Шчыльна зляжацца. *Сыпалі на столь лісце, каб яно́ ні так сухо́е было́, а то спрасу́ецца.* Леснікова.

**СПРАСО́ННЯ** *прысл.* Спрасонку. *Спрасо́ння не́шта крыча́ў но́чы се́ння.* Багданава.

**СПРАСТА́** *прысл.* ◊ СПРАСТА́ ЯК З МАСТА́. Адразу ж, раптоўна, зусім не падумаўшы (рабіць). Вялікі Азярэцк.

**СПРА́СЦІ** *зак.* Спрасці, папрасці. *Спра́сці ўжо ш на́да ніткі.* Багданава.

**СПРА́ЎДЗІЦЦА** *зак.* Здзейсніцца, збыцца. *Дурны́ сон не спра́ўдзіцца, як плюнеш на шчэ́лку* (павер'е). Каралевічы.

**СПРАЎЛЯ́ЦЦА** *незак.* Паспяваць. *А як у каго́ тры-чаты́ры каро́вы было́, дзе ён спраўля́іцца той хазя́ін здзе́лаць.* Самсоны.

**СПРАЎЛЯ́ЦЬ** 1. *незак.* Адзначаць, спраўляць. *Хрэ́сьбіны спраўля́юць, ба́бушак у начо́ўках во́зяць. Цяпе́р дажы́нкі ні спраўля́юць.* Міцюкова, Леснікова, Рассвет. 2. *зак.* Набыць, купіць. *Хто дзяцёнку спра́віць пла́цце харо́шае ду́жа.* Фасаўшчына.

**СПРАЎНЕ́ЙШЫ** *прым.* Поўны, дагледжаны. *Я дзе́ўкай была́ спраўне́йшая, палавіна з'е́хала.* Багданава, Міцюкова, Закур'е.

**СПРА́ЎНЫ** *прым.* 1. Добры. *А іна́ спра́ўная хазя́йка.* Марозаўка. 2. Удалы, прыгожы, здаровы. *Като́ра сільная, харо́шая – спра́ўная дзе́ўка.* Багданава.

**СПРА́ШКА** *ж.* Спражка. *Ра́ншы былі про́сьцінькія спра́шкі.* Багданава.

**СПРА́ШЫВАЦЬ** *незак.* Пытаць. *І бу́дзіць у ма́мы спра́шываць.* Серкуці, Гарадок, Нямойта.

**СПРУЖЫ́НА** *ж.* Пружына. *Нажыма́еш спружы́ну.* Сукрэмна.

**СПРУЖЫНАВА́ЦЬ** *незак.* Апрацоўваць бараной-спружыноўкай; культываваць. *Спружыну́ю агаро́т.* Жохава.

**СПРЫЖЫНО́ЎКА** *ж.* Спружыноўка, культыватар. *Спрыжыно́ўку цігалі два кані.* Фасаўшчына.

**СПРЫ́ТНА** *прысл.* Лоўка, умела. *Во спры́тна прадзе́ць, што німа́ ні анно́й та́лькі.* Закур'е.

**СПРЫТНЕ́Й** *прысл.* Ямчэй, лепш. *Дра́чкай спрытне́й было́ смо́ргаць лён.* Закур'е.

**СПРЫ́ТНЫ** *прым.* Лоўкі, умелы, прыдатны. *Гэ́тая дзяўчо́нка да рабо́ты спры́тная.* Нямойта, Карпавічы. СПРЫ́ТНЕНЬКІ *памянш.-ласк.* Зручны. *Клявец нібальшэ́нькі, спры́тненькі.* Багданава.

**СПРЫ́ЧЧЫЦЦА** *зак.* Захварэць. *Была́ дзяўчо́нка, спры́ччылася й памёрла.* Цясішча.

**СПРЫЯ́ЦЬ** *незак.* Садзейнічаць, памагаць. *Спрыя́юць кліматічаскія усло́вія.* Кляпчэва, Нямойта. *Як хто памрэ́ць, і дошч ідзе́ць, то спрыя́іць той сям'е́, што астае́цца* (прыкмета). Гарадзец.

**СПРЭ́ГЧЫ, СПРЭ́ХЧЫ** *зак.* 1. Спражыць. *Спрэ́хчы боп, гаро́х.* Кляпчэва, Цясішча, Фасаўшчына. 2. Падсмажыць. *Са́ла спрох. Спраглі са́ла на скаваро́дзі.* Фасаўшчына.

**СПУГ, ІСПУ́Г** *м.* Спалох, спуд. *Спуг на́да загавары́ць. Спуг, суро́цы – усё шапту́хі загава́рваюць.* Міцюкова, Буй, Дольдзева, Жохава. *Ат іспу́гу зъгъва́рваюць:*

*вады́ наллю́ць у кру́жачку, як пе́рвы дым ідзе́ць – тры разы́ ста́вюць кру́жачку пад дым, вады́ папі́ць тэй, ру́кі памы́ць.* Нямойта.

**СПУ́ГАНЫ** *прым.* Спалоханы, спуджаны. *Тры ра́зы спу́ганы.* Манголія.

**СПУГА́ЦЦА** *зак.* Спалохацца, напужацца. *Як спуга́ўся, на́да ат спу́ду вады́ даць.* Запруддзе, Багданава.

**СПУД, ІСПУ́Д** *м.* Спалох, спуд. *І ат спу́ду на́да к ба́пкам.* Леснікова, Запруддзе. *Яна́ і ку́рыць, і вады́ дае́ць ад іспу́ду.* Апечкі.

**СПУ́ДЗІЦЦА** *зак.* Спалохацца, папудзіцца. *Спу́дзіўся конь – разбі́ў мяне́ саўсі́м, перало́м пазвано́чніка быў.* Міцюкова.

**СПУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Спалохаць, напалохаць. *Мужы́к ка́жаць: спу́джу бап, раздзе́ўся – і ў ба́ню.* Нямойта.

**СПУЖА́НЫ, СПУ́ЖАНЫ** *прым.* Спалоханы. *Што мне дзе́лаць, ён спужа́ны.* Каралевічы, Міцюкова.

**СПУЖА́ЦЦА** *зак.* Спалохацца. *Як ста́лі разбіра́ць, спужа́ўся і ўцёк.* Багданава, Галашчакіна, Каралевічы, Манголія, Самсоны.

**СПУЖА́ЦЬ** *зак.* Спалохаць. *Ціхенька ў вако́нца паглядзе́ў, ду́маю: спужа́ю бап.* Нямойта.

**СПУКУВА́ЦЬ** *зак.* Спакаваць. *Ён ёй усе́ спукува́ў і атпра́віў.* Каралевічы.

**СПУСК** *м.* Сталярная прылада з доўгай калодкай для выраўноўвання паверхні; фуганак. *Спуск бальшы́, ім чы́сцілі до́шкі, як што спу́сціць, то ро́ўненька.* Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Савінічы.

**СПУСКА́ЦЬ, СПУШЧА́ЦЬ** *незак.* 1. Ачышчаць (лён). *Лён жа спуска́лі на грэ́бінь, ку́жаль аддзе́льна, зрэ́б'е аддзе́льна, а патрэ́п'е ўжо ніго́днае.* Каралі, Багданава, Запруддзе, Серкуці, Чуцькі. *Усё рабі́лі, і лён спушча́лі: ку́жаль асо́бна, а то́е асо́бна.* Заазер'е. 2. Вызваляць ад прывязі, адвязваць (пра жывёлу). *Спуска́ць съба́ку ні на́да.* Багданава. 3. Выпускаць вадкасць адкуль-н. *За то́е, што кана́вы нет, не́куда спусці́ць ваду́.* Самсоны. 4. Збаўляць цану. *У іх цана́, і спуска́лі цану́: хадзі́, хадзі́, я спушчу́.* Савінічы. ◊ З ЯЗЫКА́ НЕ СПУСКА́ЦЬ. Увесь час гаварыць пра каго-, што-н. *Яна́ з язы́ка́ не спуска́ець: мой Мала́хавіч.* Міцюкова.

**СПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* Сесці, прызямліцца (пра птушак, насякомых і інш.). *Як паву́к спусці́ўся – но́васць* (прыкмета). Каралевічы.

**СПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Адвязаць. *А дзе́ці спусцілі гэ́ту каня́гу.* Багданава, Міцюкова. 2. Выпусціць вадкасць адкуль-н. *З балаці́н ваду́ спусці́ць хаце́лі.* Турава, Пожанькі. 3. Выгнаць, выпусціць. *На кле́вір спусцілі скот.* Цясішча.

**СПУСЦЯ́** *дзеепрысл.* ◊ СПУСЦЯ́ РУКУВА́. Без належнай стараннасці, абы-як (рабіць што-н.). *Дрына́ш дзе́лълі спусця́ рукува́.* Самсоны.

**СПУ́ТАЦЬ** *зак.* 1. Спутаць. *Я спу́тала каро́ву і на цэп.* Рэчкі. 2. Падмануць. *Мяне́ спу́таў адзі́н, і я ў палажэ́нні.* Кляпчэва.

**СПУЎЗЦІ́** *зак.* З цяжкасцю злезці, спусціцца. *Спуўзла́, вір'я́нкі вы́піла.* Запруддзе.

**СПЫ́РСКІВАЦЬ** *незак.* Крапіць, абпырскваць. *Спы́рсківалі жуко́ў.* Нямойта, Вялікі Азярэцк.

**СПЫ́РСНУЦЬ** *зак.* Пырскаючы на каго-, што-н., намачыць; апырскаць. *Як ую́цца пчо́лы, вадо́й спы́рсніш, не́куда ляце́ць.* Вялікі Азярэцк, Каралевічы.

**СПЫ́ТАВАЦЬ, СПЫ́ТЫВАЦЬ** *незак.* 1. Спрабаваць на смак. *Я ні спы́тъвъла, ні зна́ю, ці го́ркая.* Кішуроўшчына, Дольдзева, Сянно, Ульянавічы. 2. Есці. *Бу́лкі то́лькі, быва́ла, на Па́сху спы́тывалі.* Ульянавічы.

**СПЫ́ТАК** *м.* Проба. *Бра́лі спы́так: калі́ кастра́ атлята́іць, тады́ падыма́лі лён.* Каралі, Карпавічы.

**СПЫТА́ЦЦА** *зак.* Спытаць. *І спыта́юцца ў яе́.* Запруддзе.

**СПЫТА́ЦЬ** *незак.* Спрабаваць. *На́ця, спыта́йця, яны́ ш сма́чныя, сла́ткія.* Станюкі, Багданава, Запруддзе, Нямойта, Чуцькі.

**СПЯКО́ТА** *ж.* Спякота, спёка. *Размары́ла ат спяко́ты, замары́ўся, аддыхну́.* Фасаўшчына, Запруддзе.

**СПЯЛІ́ЦЬ** *незак.* Даводзіць да спеласці. *Я спялю́, сваé выпуска́ю памідо́ры, сушу́ і се́ю.* Чуцькі.

**СПЯРША́** *прысл.* Спачатку. *Спярша́ паду́май, а пато́м скажы́.* Запруддзе.

**СПЯЦО́ЎКА** *ж.* Спецадзенне. *Спяцо́ўкі дало́ў – перадзе́ўся, як чалаве́к.* Нямойта.

**СПЯЧЫ́** *зак.* 1. Сасмажыць, спрэгчы. *Некрасівую яешню спіклá.* Вялікі Азярэцк. 2. Спаліць. *Дзярэ́ўню на́шу спяклí не́мцы.* Баравікі, Нямойта.

**СПЯЧЫ́СЯ** *зак.* Прыгатавацца, зварыцца. *Ба́пка спячэ́цца ў пе́чы.* Неўгадава.

**СПЯШЫ́ЦЬ** *незак.* Спяшацца. *Ні сьпяшы́.* Запруддзе.

**СРАДЗІ́** *прыназ.* Пасярод. *Срадзí ле́са во́зера абразава́ўшыся.* Закур'е.

**СРАДСТВО́, СРАСТВО́** *н.* Радня, сваякі. *Брат сястру́ ўзяў, срадство́ нільзя́ браць.* Чуцькі. *Сваé сабра́ліся, сраство́.* Багданава, Гарадок.

**СРАМ** *м.* Сорам. *Адзін срам табé. Сты́дна!* Фасаўшчына.

**СРА́МНЫ** *прым.* Лаянкавы. *Тро́хі сра́мныя сло́вы ў іх.* Цясішча.

**СРАЎНЕ́НІЕ** *н.* Параўнанне. *Січа́с да́жа сраўне́нія нет блі́зкага, падо́бнага.* Запруддзе.

**СРА́ЧЫЦЬ** *незак.* Рабіць дрэнна, замінаць. *Яны́ пі́шуць, а ты сра́чыш лю́дзям.* Багданава.

**СРО́ТСТВЕННІК** *м.* Сваяк. *Ну, а сро́тственнікі жыву́ць у Латы́галі.* Заазер'е, Багданава, Фасаўшчына.

**СРО́ТСТВЕНІЦА** *ж.* Сваячка. *Сро́тственіца мая́ наўпро́ць жыве́ць.* Багданава.

**СРУЎНУВА́ЦЬ** *зак.* Зраўняць. *Нам сруўнува́лі пе́нсію, нам абі́дна.* Запруддзе.

**ССАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Сапсаваць (здароўе). *А так не́йкая хале́ра ссадзі́ла мяне́ – хадзі́ць ні магу́.* Нямойта.

**ССАЦЬ** *незак.* 1. Ссаць. *Яшчэ́ со́ску ня ду́жа даўно́ сса́ла. Цялёнак ссець і дзіцёнак ссець.* Ульянавічы, Алексінічы, Багданава, Буй, Вялікі Азярэцк, Гарадок. 2. Смактаць. *А тады́ уку́сны э́ты кіёчак ссаць* [з муравейніка]. Савінічы, Багданава.

**ССЕ́КЧЫ** *зак.* Пабіць, сцябаючы чым-н. *Так ссе́кла крапі́вай.* Нямойта.

**ССІВЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць сівым. *Я во ссіве́ла, як стара́я ба́ба.* Запруддзе.

**ССІ́ЛІЦЬ** *зак.* Асіліць, перамагчы. *Ён* [унук] *ужо́ ба́бу ссі́ліць.* Станюкі.

**ССІНЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць сінім. *Дзю́ба ссіне́іць уся́ і цяпе́р жыве́ць.* Міцюкова, Івоні.

**ССІНІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць сінім. *Разбі́ў яе́, усю́ ссіні́ў нага́мі, це́ла ўсё сі́няе.* Запруддзе.

**ССЛЕ́ДАВАЦЬ** *зак.* Абследаваць. *Яе́ тут ссле́давалі і ў дзятдо́м здалі́ ў Ня-мо́йту.* Цясішча.

**ССОР** *м.* Сварка. *Як нош на сталé – ссор бу́дзіць* [нельга пакідаць нож на стале] (прыкмета). Ракаў Засценак.

**ССО́РЫЦЦА** *незак.* Згубіцца. *Каро́ва куды́-та сышла́, во ссо́рылася, пацíра́лася, трэ́ба шука́ць.* Фасаўшчына, Запруддзе, Неўгадава.

**ССО́РЫЦЬ** *зак.* Згубіць. *Кап мне ні ссо́рыць, ні забы́цца. Была́ ка́ртачка, а я яе́ ссо́рыла.* Заазер'е, Вялікі Азярэцк, Закур'е.

**ССО́ЎВАЦЬ** *незак.* Зграбаць, збіраць у адно месца. *Про́шлы гот там ссо́ўвалі ка́мні.* Мянюцева.

**ССО́ХНУЦЬ, ІССО́ХНУЦЬ** *зак.* 1. Засохнуць. *І цвяты́ звя́лі, ссо́хлі, здо́хлі. Сухасто́й – як ссо́хнець на пні дзе́рава. Цвет іссо́х.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Запруддзе, Леснікова, Пожанькі. 2. Сасмагнуць. *У ро́ці ссо́хла.* Дуброўкі.

**ССУ́НУЦЦА** *зак.* Абваліцца. *Пага́ная вада́ на дзярэ́ўні, а мой кало́дзесь ссу́нуўся.* Цясішча.

**ССУЧЫ́ЦЦА** *зак.* Звіцца, скруціцца ў адну нітку. *Прадзе́ш, ня ўспе́іш цяну́ць, ні́тка так і ссу́чыцца.* Заазер'е.

**ССУШЫ́ЦЬ** *зак.* Высушыць. *Паддубо́вік ссу́шаць, укі́нуць у капу́сту – нос угібáіцца!* Дольдзева.

**ССЫ́ПАНЫ** *дзеепрым.* Усыпаны. *Кру́глінькія, як пухо́ўкі, усё по́ля ссы́пана, грыбы́ такі́я, крэ́пінькія, шапіёны такі́я.* Запруддзе. *А ле́тась было́ ссы́пана* [яблыкаў]. Запруддзе, Апечкі.

**ССЫПА́ЦЬ** *незак.* 1. Засыпаць. *Э́та клець, дабро́ ссыпа́лі, за́сікі, сьві́ран зва́лі і клець.* Заазер'е. 2. Усыпаць. *Ссыпа́юць муку́ ў хле́бніцу, пато́м заква́швалі.* Дольдзева.

**ССЯЧЫ́** *зак.* 1. Ссекчы. *Ссячы́ця во гэ́та дзе́рава.* Запруддзе. 2. Здрабніць. *На́да пърася́там ссячы́ травы́.* Запруддзе.

**СТА́ВІЦЬ** *незак.* 1. Прымушаць каго-н. заняць месца стоячы. *І растрэ́льваць ста́вілі.* Гарадзец. 2. Размяшчаць. *Ста́віш буты́лку на стол, вады́ наллé́ш, яны́ ўжо спы́тываюць на́шу гарэ́лку.* Запруддзе. 3. Будаваць. *По́слі вайны́ ста́вілі ха́ту, шчыке́т ста́вілі.* Кішуроўшчына, Багданава. 4. Класці. *Пат страпі́ла бурла́ты ста́вюць.* Вялікі Азярэцк. 5. Прызначаць на якую-н. работу. *Міро́на ста́віш на нач.* Дольдзева. 6. Арганізоўваць, наладжваць. *Калхо́з на но́гі ста́вілі пасля вайны́.* Баравікі. 7. Ажыццяўляць пастаноўку, паказ. *Яшчо́ кіно́ было́, не́як ста́вілі ра́ньшы э́та, на сцяне́ так пака́зывалі.* Заазер'е.

**СТАВО́К** *м.* Сажалка. *Там азе́рчыкі мале́нькія ціпа стаўка́.* Фасаўшчына.

**СТА́ВЫ, СТАВЫ́** *мн.* Кросны. *У ка́ждага былі́ ста́вы: дзве па́лкі такі́х бальшы́х, наваі́.* Буй. *Ставы́ былі́, снава́лі і тка́лі.* Нямойта, Апечкі, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Каралі, Карпавічы, Леснікі, Марозаўка, Рэчкі, Закур'е.

**СТАГАВА́ЦЬ** *незак.* Складаць у стог. *На́да стагава́ць се́на і сало́му.* Гарадзец, Багданава, Пожанькі, Розмыслава.

**СТАГАВІ́ШЧА** *н.* Месца, дзе стаіць стог. *Стагаві́шча – ме́сца, дзе стог стаі́ць.* Розмыслава.

**СТАГНА́ЦЬ** *незак.* Стагнаць. *Аграно́м худзе́нькі, а жо́нка то́ўстая, ідзе́ць, ле́зіць, аш сто́гніць.* Нямойта, Міцюкова, Рулёўшчына.

**СТА́ДА** *н.* 1. Чарада. *Гу́сі два ста́да прыляце́лі, то цёпла бу́дзіць.* Міцюкова, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Гарадок, Жохава, Запруддзе, Каралевічы, Каралі, Кляпчэва, Розмыслава, Самсоны, Фасаўшчына, Дуброўкі, Закур'е. 2. Гурт. *І ста́да дзяце́й сабярэ́цца, за ноч чы́сцінька вы́чысцілі ўсё* [у агародзе]. Запруддзе, Міцюкова, Рассвет.

**СТАЖА́Р'Е** *н.* Подсціл з галля, жэрдак, на які кладуць стог; адонак, стажар'е, стажарышча. *Стажа́р'е – ніс стъга́, хто жардзя́, хто хвъръсця́ нало́жыць.* Гарадзец, Багданава.

**СТА́ЙНЯ** *ж.* Стайня. *На ста́йні ко́ні.* Гарадзец.

**СТАКА́Н** *м.* Шклянка. *Мълянко́ўскі стака́н хлабы́сь, вы́піў, і шчэ мълъва́та гарэ́лкі.* Сянно.

**СТАЛЕ́ТНІК** *м.* Альяс. *Зака́паў гла́зы стале́тнікам і ле́гчэ.* Нямойта, Кішуроўшчына, Ракаў Засценак.

**СТАЛЁЎКА** *ж. зб.* Дошкі для падшывання столі. *Сталёўка – э́та для паталка́, патало́к засціла́лі. Сталёўка то́ншы за мастоўку.* Марозаўка, Вялікі Азярэцк.

**СТАЛІ́НА** *ж.* Адна дошка ў столі. *Сталіну над ім на́да вы́дръць, як чъраўні́к пъміра́іць.* Запруддзе.

**СТАЛІ́ЦА** *ж.* Верхняя дошка, крышка стала; стальніца. *Быў стол на нъга́х, зве́рху сталі́ца.* Гарадзец.

**СТАЛІ́ЧЫНА** *ж.* 1. Верхняя дошка, крышка стала; стальніца. *Сталі́чына ў стале́.* Рэчкі. 2. Адна дошка ў столі. *На бэ́лькі пъкла́ў столь, але́ аннэ́й сталі́чыны ні хъпа́іць.* Неўгадава.

**СТАЛО́ЎКА** *ж.* Сталовая. *Так у мяне́ ш стало́ўка была́, жыў камбры́г, былі́ і так парціза́ны.* Леснікова.

**СТА́ЛЫ** *прым.* 1. Сталы, дарослы. *Ты па́рънь ста́лы, з а́рміі прышо́ў, а іна́ што?* Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Мянюцева, Партызаны, Чуцькі, Неўгадава. 2. Стары. *Яе́ ш каро́ва ста́лая ўжо.* Вялікі Азярэцк.

**СТАЛЬВА́ГА** *ж.* Доўгі ворчык для параконнай запрэжкі. *Стальва́га – па́ра ко́ней запрага́іцца ў плух. У баро́ны ня ге́ткая ўжо, а друго́й сісце́мы стальва́га.* Леснікова, Алексінічы, Багданава, Гарадзец, Манголія, Сукрэмна.

**СТАЛЬНІ́ЦА** *ж.* Верхняя дошка, крышка стала; стальніца. *Стальні́ца астъла́сі, а но́гі падгнілі́.* Каралі, Багданава.

**СТАЛЬНІ́ЧЫНА** *ж.* Адна дошка ў столі. *Як чараўнікі́ паміра́юць, над пе́чкай стальні́чыну ўзрыва́юць, яны́ тады́ скарэ́й памру́ць, стары́я гъвары́лі.* Партызаны, Багданава.

**СТАЛЬНЫ́** *прым.* Жалезны, стальны. *Стальнэ́й про́валкай закруцілі дзве́ры.* Гарадзец.

**СТАЛЮ́ГА** *ж.* Сталярны варштат; сталюга. *Сталю́га, дзе до́скі чы́сцяць. Во сталю́га, на ёй майстру́ю ра́мы.* Фасаўшчына.

**СТАЛЯ́Р, СТО́ЛІР, СТО́ЛЯР** *м.* Сталяр. *Сталя́р – што калёсы дзе́лаіць.* Нямойта. *Ба́цька быў сто́лір бальшы́, баро́ны і ўсё рабі́ў.* Міцюкова. *До́бры быў сто́ляр.* Нямойта.

**СТАЛЯРАВА́ЦЬ** *незак.* Выконваць сталярную работу; сталярнічаць. *І стълярава́ў, і къва́ў, і піджа́к пашы́іць.* Фасаўшчына.

**СТАЛЯ́РНІЧАЦЬ** *незак.* Тое ж. *Стъля́рнічаў з дзе́тства.* Нямойта.

**СТАЛЯ́РНЯ** *ж.* Сталярная майстэрня. *У сталя́рні рабо́таў, а ў ку́зні ні прыніма́лі.* Ульянавічы.

**СТАМЕ́СКА, СТАМЕ́ЦКА** *ж.* Стамеска. *Стаме́ска – вузенькая, то́нкая, падчашча́юць стаме́скай у дзі́рках. Стаме́скі быва́юць прамы́я і палукру́глыя.* Запруддзе, Багданава, Гарадзец, Марозаўка, Нямойта. *Цяпе́р стаме́цка заву́ць.* Вялікі Азярэцк.

**СТАН** *м.* 1. Фігура. *Нікрасівы стаў стан яе́.* Запруддзе. 2. Камплект для воза. *Стан калёс купіў бáцька.* Гарадок.

**СТАНАВІ́ЦЦА** *незак.* 1. Станавіцца, размяшчацца ў вертыкальным становішчы. *Малады́е на ручнік станавя́цца.* Партызаны. *Не станавíўся конь ды́ба, бег.* Чуцькі. 2. Здарацца, рабіцца. *Два мéсяцы мýсіць ляжáў, плóха станавілася.* Манголія. 3. Устанаўлівацца. *У абóры станóвяцца патпóры. Капылы́ станавіліся ў пóлас.* Гарадзец. 4. Прападаць. *Як марóс і зáсуха, ні стáніць вады́.* Міцюкова.

**СТАНАВІ́ЦЬ** *незак.* 1. Ставіць. *Станавіця, я бýду мыць пасýду.* Нямойта, Багданава. 2. Рабіць, устанаўліваць. *Станóвяць грабíльна, брусóк, зýб'я.* Розмыслава, Дольдзева. 3. Абганяць. *Скарóдзюць пéрвы раз бýльбу, акýчваюць, а другí раз станóвюць у барóзны.* Міцюкова.

**СТАНО́ВА** *ж.* Звычай, традыцыя. *Станóва былá такáя: пéршы сноп па закóну стáвілі на кут.* Цясішча.

**СТАНО́К** *м.* 1. Прыстасаванне для вырабу колаў. *Рáншы калясы́ сáмі дзéлалі на станкý.* Фасаўшчына. 2. Корпус калаўрота. *А гéта ўсё станóк прáлкі, у станкý спíцы ды абóт.* Каралі, Вялікі Азярэцк. 3. Апора для чаго-н. *Станóк у жóрнах.* Жохава.

**СТАПІ́ЦЬ** *зак.* 1. Выпаліць (у печы). *У пéчы стаплю́ і карóву нáда падаíць.* Багданава. 2. Адтапіць, стварожыць. *Аддзéльна стóпя малакó.* Нямойта.

**СТАПТА́ЦЬ** *зак.* 1. Знасіць абутак. *Рáньшы бóсыя ідýць, а бацíнкі чэраз плéчы нясýць, кап ні стаптáць.* Заазер'е. 2. Шчыльна скласці што-н. *Дзéжкі былí крýглыя, у лýччыя, падніз сáла, кумпякí, часнакý, кмíну, злóжыш, стóпчаш, пасы́пеш пóверху сóлі.* Міцюкова.

**СТАРАБУ́ДКІ** *мн.* Старажытнае. *Знáець старабýдкі ўсякія.* Вялікі Азярэцк.

**СТАРАБЫ́ДНАЕ** *н.* Старое, простае, без выгодаў. *Усё старабы́днае быó, біз удóбстваў кварцíра.* Цясішча.

**СТАРАВА́ЦЕНЬКІ** *прым. памянш.* Старaваты. *Дзве варýшачкі нашóў, ужó старавáценькія.* Партызаны.

**СТАРАВЕ́Р** *м.* Старавер. *Старавéр гавóрыць: а хвáціць-та, а кудá-та, я ямý паваражý-та.* Сянно, Багданава, Карпавічы.

**СТАРАВЕ́РКА** *ж.* Староверка. *Ягóны рóдны брат любіў старавéрку, ні далí яé.* Івоні.

**СТАРАДА́ЎНІ** *прым.* Старажытны. *Стъръдáўнія мíдзяныя капéйкі.* Каралі, Запруддзе, Дуброўкі.

**СТАРАЖЫ́Л** *м.* Доўгажыхар, стары чалавек. *Старажы́л жывéць, трасéцца, як мая́ мáтка.* Розмыслава.

**СТАРАЖЫ́ТНІ** *прым.* Старажытны. *Гэ́та пры́каска старъжы́тняя.* Марозаўка.

**СТАРАЖЫ́ЦЬ** *незак.* Вартаваць. *Ён нóччы старажы́ць, а ўдзень спіць.* Кішуроўшчына, Гарадзец, Запруддзе, Міцюкова, Закур'е.

**СТАРАНА́, СТО́РАНА** *ж.* 1. Адзін з процілеглых бакоў. *Па прáвуй старанé лес ляжы́ць, а па лéвуй карóвы стая́лі.* Міцюкова, Нямойта, Дуброўкі. *С тэй стóраны спалíлі пяць хат.* Жохава, Каралевічы, Савінічы. *Éта старанá сíльна балíць галавы́.* Нямойта. 2. Застаронак. *У пýні, у такý старанá, дзе лажы́лі зярнó, снапы́.* Гарадзец, Каралі.

**СТАРАРЭ́ЧЧА** *н.* Старое рэчышча. *Старарэ́чча – руслó стáръя, абы́ як ішлó, у старарэ́ччы піскунóў былó мнóга.* Багданава.

**СТАРАСВЕ́ЦКІ** *прым.* Колішні, ранейшы. *Старасве́цкія лю́дзі крэ́пкія былі́.* Неўгадава, Вялікі Азярэцк.

**СТА́РАСЦЬ, СТА́РАСЬ** *ж.* 1. Старасць. *Ста́расць ніко́га ні кра́сіць. Пат ста́рась пажы́ць німа́ за кім.* Ульянавічы, Запруддзе, Івоні, Нямойта, Самсоны, Фасаўшчына, Закур'е. 2. Пра старую, засохлую траву. *Тут ста́ръсь на́да касі́ць.* Забор'е.

□ *Ста́ръсь ні ра́дъсь, а горп ні кары́сь.* Заазер'е, Чуцькі.

**СТА́РАЦ** *м.* 1. Жабрак. *Старцы́ хадзілі, шурма́нку кру́цяць, сляпы́я, ма́лінькій ма́льчык вядзе́ць, пяе́ць, малі́ўся.* Серкуці, Вялікі Азярэцк, Чуцькі. 2. Негаспадарлівы чалавек. *Ста́рцы ста́рцамі і ёсь. Яке́й дзет, таке́й і ўнук. Па крыві так ідзе́ць.* Сянно.

□ *Ста́рцу сімна́ццаць вёрст ня крух, ліш бы дзіръўня́мі.* Сянно, Алексінічы.

**СТАРА́ЦЕЛЬНЫ** *прым.* Дбайны. *Стара́цельны дзед быў.* Міцюкова, Нямойта.

**СТАРА́ЦЦА** *незак.* Прыкладаць намаганні. *Чъла́ве́к стъра́ўся, дзе́лаў.* Леснікова, Заазер'е.

**СТАР'Ё** *н. зб.* Старыя людзі. *Стар'ё астае́цца ў дзярэ́ўні, адзін лом.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк.

**СТАРУ́ХА** *ж.* Старая. *Жыла́ тут стару́ха ў нас, у Улья́навічах.* Ульянавічы, Латыгаль. СТАРУ́ШКА *ласк. Анна́ стару́шка ля нас сядзе́ла.* Неўгадава.

**СТА́РШЫ** *прым.* Старэйшы. *Сям'я́ была́ бальша́я, дзяце́й мно́га, ну я была́ ста́ршая ў сям'і.* Гарадзец.

**СТАРШЫНІ́ХА** *ж.* Жонка старшыні. *Старшыні́ха прышла́.* Нямойта.

**СТАРШЫНСТВО́** *н.* Старшынства. *Аддава́лі за́муж па старшынству́, зако́н такі быў, дурата́ была́.* Леснікі.

**СТАРШЫНЯ́, СТАРШЫНА́** *м.* Старшыня. *Старшыні вяно́к саўём і нясём к яму́ на дом. Ён жа старшыня́, нас на рабо́ту выпраўля́іць і рабо́ту прынімаіць.* Багданава, Каралі, Леснікова. *Брыгадзір с старшыно́м угава́рваюць. Старшыну́ вілі вяно́к з лёну, з жы́та.* Баравікі, Багданава, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Кішуроўшчына, Кляпчэва, Марозаўка, Сукрэмна, Фасаўшчына.

**СТАРЫ́, СТА́РЫЙ** *прым.* 1. Стары, які дасягнуў старасці. *Я ўжэ ста́рая, го́лас ні ўзвяду́.* Чуцькі, Буй, Дольдзева, Заазер'е, Забор'е, Ульянавічы. *Жыў дзед ста́рый такі, ста́рый, жыў з ба́бай.* Ульянавічы, Алексінічы, Багданава, Заазер'е, Кішуроўшчына, Партызаны. 2. Непрыгодны для жылля. *Наш буды́нак ста́ры, то рашы́лі нам даць фінскі до́мік.* Гарадок. 3. Даўні, колішні. *Цяпе́р ста́лі варо́чацца к ста́раму, людзе́й пло́ха звярну́ць.* Каралевічы.

**СТАРЫ́К** *м.* Стары чалавек. *Старыко́ў усю́дых ёсь, мно́га старыко́ў.* Багданава, Алексінічы, Фасаўшчына, Нямойта.

**СТАРЫНА́** *ж.* Старадаўнасць, мінулае. *Пачаму́ ма́ла ўспаміна́юць старыну́?* Леснікі, Карпавічы. СТАРЫ́НАЧКА *ласк. Ра́дзі стары́начкі лісце клёну, ліпы патыка́ю ў ха́ту.* Неўгадава.

**СТАРЫ́НКА** *ж.* Пожня. *Ко́ні на стары́нкі.* Станюкі.

**СТАРЫ́ННЕ** *н.* Старадаўняе, мінулае. *Я сама́ з-за стары́ння гару́ю.* Кішуроўшчына.

**СТАРЫ́ННЫ** *прым.* Старадаўні, мінулы. *На́шы пра́знікі стары́нныя іду́ць па заду́* [пазней, пасля]. Савінічы, Хамінічы. *Кірмашы́ былі стары́нныя, як уво́сінь, на стары́нныя свя́ты.* Дольдзева, Закур'е.

**СТАРЫ́НУШКА** *ж.* Колішняе, старадаўняе. *Была э́та пры стары́нушке. Па стары́нушке я ні зна́ю, па-на́шаму ю́бкі называ́ліся.* Дольдзева. *Як тка́лі пры*

*старынушке – не знаю.* Апечкі, Вялікі Азярэцк, Жохава, Каралі, Рассвет, Савінічы, Самсоны, Чуцькі. *У мяне нікрашаны пол, ешчэ старынушка.* Рэчкі, Неўгадава.

**СТАРЭ́Й** *прысл.* Старэйшы. *Ён быў старэй за ўсіх.* Нямойта, Багданава, Серкуці. *Старэй за міне, але ён раскажыць пра жысь.* Серкуці.

**СТАРЭ́ЙШЫ** *прым.* Тое ж. *Мой сын старэйшы быў за ўсіх.* Нямойта.

**СТАРЭ́Ц** *м.* Стары чалавек. *Ні старэц, а мъладыі спрасіў.* Закур'е.

**СТА́ТУЙ** *м.* Пра чалавека высокага росту. *Бальшы, як статуй.* Фасаўшчына.

**СТАЎ** *м.* Запруда. *Тут быў мост і стаў.* Нямойта.

**СТАЎБЕ́ШНІК** *м.* Электрык. *Як будуць стаўбешнікі хадзіць, папрашу, хай павырубяць ракіту.* Ракаў Засценак.

**СТАЎБУ́Н** *м.* Гарлач. *Стаўбун – мълако дзяржалі.* Заазер'е.

**СТА́ЎКА** *ж.* Вулей для прываблівання пчол. *Пъставіў на елцы стаўку. Стаўку ў лес нясуць, смотраць, пчолы ўляцелі, закрываюць лётку і нясуць дамоў.* Манголія, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Марозаўка, Міцюкова, Нямойта.

**СТА́ЎЛЕНЫ** *дзеепрым.* Пабудаваны. *Хата пъсля вайны стаўлена.* Кішуроўшчына.

**СТАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Складаць пэўным чынам. *Бапкі стаўляюць, яны сохнуць, а тады возіш у такі.* Заазер'е. 2. Ставіць (банькі). *Ладзіміръха мне стаўляе банкі.* Дуброўкі. 3. Правяраць стан здароўя з дапамогай тэхнікі. *Во як такіх ужо швэблаў, так стаўляюць на апарат і ўстанаўляюць сцепень зоба.* Нямойта.

**СТАЎЧЫ́** *зак.* Патаўчы. *Бобу нъпаруць, бульбу стаўкуць.* Багданава, Фасаўшчына, Запруддзе.

**СТАЦІ́ВІНЫ** *мн.* Аснова ткацкага станка. *Стацівіны ўжэ пасек.* Марозаўка.

**СТА́ЦЦА** *зак.* 1. Застацца. *Усе згарэла, нічога ні сталася.* Гарадзец. 2. Зрабіцца. *Ласкі кърову так змучаюць, што яна ўся мокрая станецца.* Вялікі Азярэцк.

**СТАЦЬ** *зак.* 1. Спыніць ход (пра механізм). *Часы – брык дагары і сталі.* Нямойта. 2. Пачаць. *А баба ў бубён як станіць біць.* Багданава, Галашчакіна, Гарадзец. 3. Пачацца. *Пажылі пяць гадоў, въйна стала.* Леснікова, Нямойта. 4. Здарыцца. *Кап табе тое стала, што я табе думаю!* (праклён). Запруддзе. 5. З'явіцца, узнікнуць. *Возіра анулірвалі, і рэчка стала.* Нямойта, Алексінічы, Кляпчэва. 6. Зрабіцца. *Упацеў конь, пеный аш стаў.* Гарадзец. 7. Пра немагчымасць існаваць, памерці. *Як ні станіць такіх дърмаедаў, як дзед і баба, тады будзіць усё.* Ульянавічы, Багданава, Баравікі, Гарадок. ◊ СТАЦЬ НА НО́ГІ. Зрабіцца самастойным. *Яны сталі на ногі, хай прадалжаюць жызь.* Каралевічы.

**СТАЦЬМА́** *прысл.* Старчма. *Смык* [што баранаваць зямлю] *стацьма стаіць.* Сянно.

**СТАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Патачыць. *Лехі сточыць крот, во так паласу прагоніць.* Серкуці, Багданава, Вялікі Азярэцк, Леснікова.

**СТАЧЫ́ЦЬ** *зак.* ◊ СТАЧЫ́ЦЬ КАНЦЫ́ З КАНЦА́МІ. З цяжкасцю задаволіць жыццёвыя патрэбы, ледзь укласціся ў суму даходу, заработку. *Чуць канцы з канцамі стачыў, сын прывядзець друзей і ўсё чай п'юць, ні хватаіць сахару.* Багданава.

**СТАЯ́К** *м.* 1. Апорная частка, аснова чаго-н. *У прапцы кола, стаяк, вінт, вілачкі, нітка ідзець па вілачках.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Каралі. 2. Комін. *У печы стаякі.* Запруддзе. 3. Калода, вулей. *Стаяк паставілі на дрэва.* Закур'е.

**СТАЯ́НАЧКА** *ж.* Малая ўкладка снапоў, бабка. *У стаяначкі нібальшэнькія лён ставіш, па шэсь снапкоў.* Карпавічы.

**СТАЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Размяшчацца, быць на пастоі. *Парціза́ны ў мяне́ стъя́лі чаты́ры на кварці́ры.* Баравікі. *Я не была́ ў двар́э, паліца́і тут стъя́лі.* Нямойта, Гарадзец, Рулёўшчына. 2. Знаходзіцца. *Шко́ла кляпчэ́ўская ў Ракі́тах стаі́ць. Тут ля дзярэ́ўні стая́ў дом такі́ бе́лы, па́нскі, іме́ніе зва́лася.* Кляпчэва, Каралі, Самсоны, Неўгадава. 3. Заставацца на полі. *А дзе́тка маё, а бу́льба стаі́ць, у мяне́ ш гаро́т – капа́ць жа ш на́да.* Заазер'е, Серкуці. 4. У спалучэнні са словамі, якія падкрэсліваюць асаблівасць пэўнага становішча. *Хадзі́ла па чужы́х ні́вах і с со́нца да со́нца стая́ла ра́кам.* Марозаўка. 5. Не цячы, не струменіцца (пра ваду). *Дзе было́ бало́та, там въда́ цяпе́р стаі́ць.* Забор'е, Кавалі, Рассвет. ◊ СТАЯ́ЦЬ НА СЛО́ВЕ. Настойліва адстойваць свой погляд. *На сло́ве стая́ў і прывёў.* Нямойта.

**СТАЯ́Ч** *м.* Прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны; светач, лучнік. *У кало́дачку ўбіва́лася па́лка, а на па́лку жале́зіна, дзі́рачкі былі́ абы́ лучы́ну ўто́ркнуць, стая́ч у карыдо́ры палі́лі.* Каралі.

**СТАЯЧКА́** *прысл.* Стаяком, вертыкальна. *Стаячка́ ста́вілі снапы́.* Запруддзе.

**СТАЯ́ЧЫ, СТАЮ́ЧЫ** *прым.* 1. Стаячы, прызначаны для стаяння. *Мой Мі́шка наплёў красі́вых стая́чых карзі́нак із ру́чачкамі.* Запруддзе. 2. Які знаходзіцца ў вертыкальным становішчы. *Ён цябе́ стая́чага заб'е́ць.* Жохава. 3. Не праточны (пра ваду). *Вада́ стаю́чая за магі́льнікам.* Нямойта, Багданава.

**СТВО́ЛАЧКА** *ж.* 1. Столка. *Склада́лі ў дзве ство́лъчкі і къча́лі ў тру́пкі.* Турава, Алексінічы, Заазер'е. 2. Ствол (у расліны). *Аі́р у дзве расце́ць, яджгі́р у чаты́ры ство́лачкі.* Фасаўшчына.

**СТЛУМІ́ЦЦА** *зак.* Здурнець. *Гълъва́ стлумі́лася за век.* Гарадзец.

**СТО** *ліч.* Сто. *Купі́лі каня́ ў Вугло́х, адда́лі сто рубле́й.* Міцюкова.

**СТОГ** *м.* Стог. *Склаў стог се́на. І па два стагі́ ў дзень се́на кла́лі.* Каралевічы, Алексінічы, Багданава, Гарадзец, Леснікова, Нямойта, Розмыслава. СТАЖО́К *памянш.* *У стажку́ забуры́лася, спа́ла.* Нямойта.

**СТОГН** *м.* Жаласны енк, стагнанне. *Хто стогн гэ́ты лю́біць?* Каралевічы.

**СТО́ЙКА** *ж.* 1. Прыстасаванне ў выглядзе табурэткі з прарэзанай круглай дзіркай, у якое ставілі дзіця. *Сто́йкі з дзе́рава дзе́ткам дзе́лалі, разгні́ліся, развалі́ліся. Сто́йку і лю́льку на по́ле бра́ла.* Запруддзе, Цясішча. 2. Вертыкальная палка, якая служыць апорай для чаго-н. *К сто́йкі крэ́піцца ўсё: і но́сік, і ды́шаль, і кры́лле* [у акучніку]. Парэчча.

**СТО́ЙЛА** *н.* Адгароджанае месца для каровы (каня) у хляве. *У сто́йлы цяпе́р каро́ў ні заганя́юць, а на во́лі, у калхо́зі, і са́мі.* Заазер'е, Жохава.

**СТО́ЙЛА** *ж.* Месца адпачынку жывёлы на пашы. *Загна́лі каро́ў у сто́йлу на по́лі.* Запруддзе.

**СТО́ЙМА** *прысл.* Стойма, у стаячым становішчы. *Сто́йма гра́блі ця́гне.* Нямойта.

**СТОЛ** *м.* Прадмет мэблі, стол. *За сто́лам пасе́лі і яду́ць.* Гарадзец, Багданава, Дольдзева, Жохава, Каралевічы, Міцюкова, Партызаны, Ракаў Засценак, Цясішча.

**СТОЛЬ** *ж.* Верхняе ўнутранае пакрыццё памяшкання, процілеглае падлозе; столь. *Пусці́ ў ха́ту, мы табе́ столь памы́ім, сце́ны вы́клеім.* Партызаны, Апечкі, Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Леснікова, Марозаўка.

**СТО́ЛЬКІ, СТО́ЛЬКА, СТО́КА** *прысл.* 1. Столькі. *Ско́лька сне́гу, сто́лька й до́жджу.* Савінічы, Каралевічы. *Бу́льбы ня се́ілі сто́лькі, як цяпе́р.* Гарадок. 2. Так. *Я сто́ка ні хаце́ла е́хаць.* Неўгадава.

**СТО́ЛЯ** *ж.* Верхняе ўнутранае пакрыццё памяшкання, процілеглае падлозе; століь. *Дзе паттóркнеш, калі стóля падбіта.* Карпавічы.

**СТОН** *м.* Лядовае покрыва на паверхні вады. *Стаў стон расхадзіцца, зімля́ растварáлася, бýльбу ў капцы́ заліло́ вадóй.* Партызаны.

**СТО́ПКА, ІСТО́ПКА** *ж.* Памяшканне для захоўвання гароднiны, іншых прадуктаў; істопка, варыўня. *Былá там стóпка, дзе хáта стаіць, інá былá кýрна. Стóпка – такáя хáтка, дзе ўсё стаіць.* Гарадзец, Алексінічы, Багданава, Запруддзе, Серкуці, Неўгадава. СТО́ПАЧКА *памянш. Стóпачка ёсь, разасла́ла там, насушы́ла чабаркý.* Багданава. *Істóпка былá, у яé вы́нясуць я́шчык з сáлам. Смаллянка хóдзіць у істóпку.* Гарадзец. *Істóпка – бýльбу хавáлі ў ёй.* Запруддзе, Партызаны.

**СТО́РАЖ** *м.* Вартаўнік. *Старажóм слýжыць на хéрме.* Чуцькі, Галашчакіна.

**СТОЎБ, СТОЎП** *м.* 1. Слуп. *Цамéнтныя стаўбы́, ад стаўбá да стаўбá – прáсла.* Сянно. *Стая́ць удваіх, як стаўбы́.* Запруддзе, Кляпчэва, Серкуці, Неўгадава. 2. Стос. *Такі во стоўп блінóў напякý.* Запруддзе.

**СТО́ЎКАЦЬ** *незак.* Стукаць. *Дзя́цел стóўкаіць у дзéрава.* Багданава.

**СТО́ЧМА** *прысл.* Стаўма, старчаком. *Дзед ляцéў стóчма галавóй.* Засценак.

**СТО́Я** *дзеепрысл.* Стаяком. *Стáвілі снапы́ стóя.* Дольдзева.

**СТРА́ВА** *ж.* Вараная ежа. *Усé стрáвы з ры́бы гатóвілі. Не былó такíх дастáткаў па сем страў вары́ць.* Карпавічы, Буй, Гарадок, Партызаны, Закур'е.

**СТРАВІ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць патраву. *Гарóт мне стравілі, на клéвір спусцілі скот.* Цясішча, Кішуроўшчына, Чуцькі.

**СТРАДА́ННЕ** *н.* Прыпеўкі пра каханне і музыка да іх; танец на гэту музыку. *Страдáнне ўжо былó éта пра нас: / Я страдáла дзень і нóчку, / Настрадáла сы́на й дóчку, / Я страдáла, страданýла, / З мастá ў рэ́чку скаканýла* (з прыпеўкі). Багданава.

**СТРАДА́ЦЬ** *незак.* Гараваць, мучыцца. *Во лю́дзі як страдáюць ат éтага, ні дай бох, зглáзу.* Запруддзе.

**СТРА́ЖНІК** *м.* Стражнік. *Éслі злóдзій украдзіць, то ягó стрáжнік забірáіць.* Міцюкова.

**СТРАКАТА́ЦЬ** *незак.* Утвараць строкат (пра насякомых, птушак). *Калі сарóка пад вакнóм стракóчэць – гóсці бýдуць* (прыкмета). Міцюкова, Багданава.

**СТРАКА́ТКА** *ж.* Жывёла пярэстай масці. *Стракáтка – карóва сíвая з бéлым.* Буй.

**СТРАКА́ТЫ** *прым.* Стракаты. *Стракáтыя кýры ў мяне і два пітухí.* Буй.

**СТРАКА́ЦЦА** *незак.* Апякаць крапівой. *Крапіва стракáецца.* Вялікі Азярэцк.

**СТРАКА́ЦЬ** *незак.* Пячы. *Як вы́піла стакáн крапівы, стáла стракáць у сярэ́дзіне.* Багданава.

**СТРАЛА́** *ж.* Пра тое, што падобна да стралы, нагадвае стралу. *Перунóва стралá як брусóк, што кóсы óйстраць.* Кішуроўшчына, Багданава.

**СТРАЛЁЦ** *м.* Стралок. *Стралéц такí, застраліў буцянá.* Нямойта.

**СТРАЛЬНУ́ЦЬ** *зак.* Стрэліць. *Быў п'я́ны, стральнýў і забíў.* Жохава.

**СТРАЛЯНІ́НА** *ж.* Страляніна, стральба. *У Турбанóсах былá страляніна.* Савінічы, Вялікі Азярэцк.

**СТРАМІ́ДЛА** *агульн.* Той (тая), хто выклікае пачуццё сораму; бессаромніца. *Ах ты страмíдла.* Вялікі Азярэцк.

**СТРАМІ́ЦЦА** *незак.* Імкнуцца. *А дзéці да навýкі страміліся, ні так, як цяпéр.* Фасаўшчына.

**СТРАМІ́ЦЬ** *незак.* Сароміць, знеслаўляць. *Нам ня стыдна, ніхто́ не страміў нас.* Леснікова, Розмыслава.

**СТРАМЛЕ́ННЕ** *н.* Імкненне. *Тады́ ш было́ страмле́нне зяме́льку купіць.* Парэчча.

**СТРА́МНА** *прысл.* Сорамна. *Стыдна, стра́мна табе́ каза́ць.* Нямойта, Галашчакіна.

**СТРА́МНІК** *м.* Бессаромнік. *Стра́мнік, стыднік ты, што ты здзе́лаў?* Заазер'е, Марозаўка, Цясішча.

**СТРА́МНІЦА** *ж.* Бессаромніца. *Стра́мніца ты, ніпра́ўду там гаво́рыш.* Гарадзец.

**СТРА́ПАВАЦЦА** *незак.* Зношвацца, абтрэпвацца. *Стра́паваюцца крылышкі ў пчалы́, і яна́ пагіба́ець.* Кляпчэва.

**СТРАПА́ЦЬ** *зак.* Ачысціць валакно, выбіваючы кастрыцу. *Трапо́шкі такія, як дашчэ́чкі з ру́чачкай, кастру́ страпа́лі.* Фасаўшчына.

**СТРАПІ́ЛЫ** *мн.* Кроквы. *Пато́м ста́вяцца страпілы, дзе́лаецца абрашо́тка пат шыфер.* Нямойта. *Када́ пасле́дні вяне́ц ло́жыцца, ло́жуцца бурла́ты, дзве бурла́ты ло́жуцца, пато́м ста́вюцца страпілы.* Нямойта. *Па бурла́тах страпілы ло́жаць.* Запруддзе, Гарадзец.

**СТРАПЦАТЫ́П** *м.* Стрэптацыд. *Не́йкі страпцатып сыплюць каню́ на ра́ну.* Мянюцева.

**СТРА́САВАЦЬ** *незак.* Страсаць. *Асінаўкі стра́савалі і насыпа́лі на пала́ці ў кле́ці.* Пожанькі.

**СТРАСА́ЦЬ** *незак.* 1. Трасучы, змяшаць разам. *Зімо́й страса́лі каро́ві се́на і сало́му і карміл́і.* Серкуці, Багданава, Марозаўка. 2. Абтрасаць. *Я ру́кі страса́ю над та́зікам, як памыю.* Запруддзе.

**СТРАСЦІ́СЯ** *зак.* Страсянуцца. *Уся́ не́як я аш страсла́ся.* Нямойта.

**СТРО́ІЦЬ** *незак.* Будаваць. *Стро́іць і будува́ць – е́та адно́.* Сукрэмна. ◊ СТРО́ІЦЬ КЕ́ПІКІ. Насміхацца з каго-, чаго-н. *Не́йкія ке́пікі стро́іць.* Міцюкова.

**СТРУ́ЧЧА** *н. зб.* Струкі. *Стру́ччa тако́е кра́снае ў пе́рца.* Вялікі Азярэцк.

**СТРЫ́ГЧЫ, СТРЫ́ХЧЫ, СТРЫЧ** *незак.* Зразаць, падразаць (валасы, шэрсць). *Стрыхчы валасы́.* Багданава. *Гот прайшо́ў, на́да стрыч вълась́і.* Апечкі. ◊ СТРЫ́ГЧЫ ВУША́МІ (ВУШМІ́). Прыслухоўвацца. *Вуша́мі, ка́жыць, стрыжэ́ць* [пра каня]. Багданава. *Конь вушмі́ стрыжэ́ць.* Гарадзец.

**СТРЫКАНУ́ЦЬ** *зак.* Апячы крапівай. *Вазьмі крапівінай стрыкані́, кап зна́ў.* Сукрэмна.

**СТРЫКА́ЦЦА, СТРАКА́ЦЦА** *незак.* Мець уласцівасць стрыкаць, апякаць скуру. *Крапіва стрыка́іцца, а ёсь што ні страка́ецца.* Багданава, Заазер'е, Запруддзе, Савінічы.

**СТРЫКА́ЦЬ** *незак.* Апякаць крапівою. *Крапівай ліцо́ стрыка́ла, як ціфо́зная, каб не́мцы не забра́лі.* Мянюцева.

**СТРЫКЛІ́ВЫ** *прым.* Пякучы (пра крапіву). *Жыгу́шку стрыклівую ву́ткам сячэ́ш.* Чуцькі.

**СТРЫКУ́ЧЫ** *прым.* Тое ж. *Стрыку́чая жгу́чка, но́гі ёй стрыка́юць, як баля́ць.* Запруддзе, Багданава, Ракаў Засценак.

**СТРЭ́ЛАЧКА** *ж.* Парастак. *Міста́мі, як стрэ́лачкі ў бу́льбіне* [парасткі]. Партызаны, Запруддзе.

**СТРЭ́ЛКА** *ж.* Востры і вузкі выступ сушы сярод вады. *Стрэ́лка сяро́т во́зіра, як е́дзіш з Карале́віч.* Багданава.

**СТРЭ́ЛКА** *ж.* Страказа. *Лётаюць стрэ́лкі, як паго́да, кала ваду́, зялёнінькія, шэ́ранькія.* Вялікі Азярэцк.

**СТРЭ́ЦІЦЦА** *зак.* Сустрэцца. *Як стрэ́ціцца, да́жэ ні глядзіць на ба́цьку.* Фасаўшчына.

**СТРЭ́ЦІЦЬ** *зак.* Сустрэць. *Калі-то стрэ́ціла яе́, йшла за хле́бъм.* Гарадок. *Як стрэ́ла го́ра з дзе́цтва, так і гару́ю.* Баравікі, Вялікі Азярэцк, Цясішча.

**СТРЭ́ЦЦА** *зак.* Сустрэцца. *Е́слі Вергіля з літо́ўцамі стрэ́нецца, разгава́рваець па-літо́ўскі.* Івоні.

**СТУ́ЖАЧКА** *ж. памянш.* Стужка. *Сту́жачкай красівай звя́звалі ве́рбіну.* Каралевічы.

**СТУК** *м.* Стукат. *Но́ччы кры́са абла́зіць усе́ чы́сценька, то́лькі стук і грук.* Нямойта. ◊ НІ СТУК НІ ГРУК. Нечакана, без папярэджання. *Ні стук ні грук – на́да се́на варо́чаць.* Дольдзева.

**СТУ́КАЛКІ** *мн.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога ўтвараюць стук, шум, лёскат; трашчотка. *Сту́калкі з дзе́рава дзе́лалі, на вечары́нку по́йдзеш і сту́каеш.* Алексінічы.

**СТУ́КАТ** *м.* Моцны бесперапынны стук. *На ра́ння вылята́іць самалёт, такі́ сту́кат.* Неўгадава.

**СТУ́КАЦЬ** *незак.* Ударацць са стукам. *Наго́й сту́каіць кот, як у сапагу́.* Ульянавічы. СТУК. Стукнуць, штурхнуць. *Ён яго́ стук вілкамі.* Нямойта.

**СТУ́КНУЦЬ** *зак.* Стукнуць, ударыць. *Вілкамі як сту́кнула ў чале́шнік!* Багданава.

**СТУЛ** *м.* Крэсла. *Вадо́ю атлілі́, пасадзілі на стул.* Алексінічы, Гарадзец. *Былі сту́лы ве́нскія такея́, шэсць стуло́ў было́.* Леснікова, Фасаўшчына. СТУ́ЛІК *памянш. Сту́лік малёнькі, а гэ́та скаме́йка. Я дам крэ́пкі сту́лік, а гэ́ты сла́бы, разва́ліцца.* Заазер'е, Буй. СТУ́ЛІЧАК *памянш. Сту́лічак у сіня́х ёсць.* Міцюкова.

**СТУ́ПА** *ж.* 1. Ступа. *Сту́па была́ дзервя́нная і таўка́ч у сту́пі, кру́пы таўклі́, мак.* Гарадзец, Багданава, Вялікі Азярэцк, Леснікова, Міцюкова, Неўгадава, Дуброўкі. СТУ́ПКА *памянш. Патаўчо́м усё ў сту́пцы.* Нямойта. 2. *эмац.-ацэн.* Пра непаваротлівую поўную жанчыну. *Год мой ба́ба ў канцы́ жыве́ць, як сту́па зрабілася.* Партызаны.

**СТУ́ПА** *ж.* Ступня. *Сту́па распу́хла.* Гарадзец.

**СТУПА́** *ж.* Шаг. *Конь біс ступы́, бо німа́ ў яго́ до́брага ша́гу.* Гарадзец.

**СТУПА́ЦЬ** *незак.* Ступаць. *Нага́ баліць так, што ступіць ні магу́, баліць крэ́пка.* Ульянавічы, Гарадзец.

**СТУПЕ́НЬ** *м.* Ступня. *Ло́міць но́гі, да́жа стаў ступе́нь бале́ць.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Станюкі.

**СТУ́ПІЦА** *ж.* 1. Ступка. *Сту́піцу ў магазіні купі́ў, ліст лаўро́вы, пе́рац це́рці.* Кляпчэва. 2. Калодка ў коле. *Рэ́хва набіва́еціца на сту́піцу, штоп сту́піца ні ло́палася. Сту́піца надзяе́цца на вось.* Вялікі Азярэцк. *На сту́піцу у калёсах надзіва́лі рэ́хву.* Манголія, Гарадзец, Гарадок, Дольдзева, Дуброўкі.

**СТУПНУ́ЦЬ** *зак.* Ступіць. *Калі дзе ступне́ць, пры́йдзець – пой яго́ гарэ́лкай, а дзе та́я гарэ́лка.* Ракаў Засценак. ◊ НАГО́Й НЕ СТУПНУ́ЛА. Ніколі не была. *Наго́й пасля гэ́тага не ступну́ла да дакто́ркі.* Нямойта.

**СТУПНЯ́** *ж.* Ступня. *Ці падвярну́ла, ці што, ступня́ баліць, кось. У ступня́х со́лі аткла́ліся, на́да расткі ат старо́й бу́льбы насто́яць на трайно́м адзікало́не.* Партызаны, Марозаўка.

**СТУРНУ́ЦЬ** *зак.* Скінуць. *Яго́ ў шко́ле стурну́лі са втаро́га этажа́.* Нямойта.

**СТУРУЖУВА́ЦЬ** *незак.* Вартаваць. *Струржува́ў, пайшо́ў падча́пліваць тра́ктар – яго́ пат тра́ктар.* Запруддзе.

**СТУЧА́ЦЬ** *незак.* Стукаць. *Адзін рас но́ччы стучы́ць к нам.* Заазер'е.

**СТУШЫ́ЦЦА** *зак.* Утушыцца. *Грыбы́ заллёш жы́дкім са́лам і ў печ, сту́шацца там до́бра.* Цясішча.

**СТУШЫ́ЦЬ** *зак.* Утушыць. *Стушы́ла я́блыкі без са́хару.* Парэчча. *Бурако́ў падзяру́, стушу́, так і жылі́.* Цясішча, Запруддзе.

**СТЫД** *м.* Сорам. *Нідзе́ мне стыду́ ні было́ за дзяце́й.* Нямойта, Багданава, Буй. □ *Стыд – ня дым, во́чы ня вы́есць.* Партызаны, Нямойта.

**СТЫДЛІ́ВЫ** *прым.* Сарамлівы. *Стыдлі́вы чалаве́к.* Багданава.

**СТЫ́ДНА** *прысл.* Сорамна. *Мне сты́дна, я ш так ні магу́ ісці́, мне кіёк на́да.* Гарадзец, Заазер'е, Дуброўкі. *Ты бы з па́рнем гуля́ла, а ён з друго́й, ты бы прыйшла́ і на цябе́ надзе́лі б гаро́хавы вяно́к, сты́дна, гуля́ў, гуля́ў – ды не ўзяў.* Дуброўкі.

**СТЫ́ДНІК** *м.* Бессаромнік. *Сты́днік ты! Што гаво́рыш!* Цясішча, Савінічы. *Стра́мнік, сты́днік ты, што ты здзе́лаў?* Заазер'е.

**СТЫДНЯ́ЦЦА** *незак.* Саромецца. *Стыдня́лася каро́ў даіць.* Манголія.

**СТЭП** *м.* Тустэп (танец). *І васаду́лі, і стэп – та́нцаў мно́га было́.* Нямойта.

**СУБО́ТА** *ж.* Субота. *Дзяды́ перат Акця́брскімі ў субо́ту.* Нямойта, Каралевічы.

**СУГЛЕ́ІСТЫ** *прым.* Падзолісты. *Сугле́істая зімля́.* Жохава.

**СУГЛЕ́Й** *м.* Падзол. *Сугле́й бе́лый, сіва́я зімля́.* Нямойта, Багданава, Гарадок, Фасаўшчына.

**СУГРО́Б** *м.* Гурба снегу, сумёт. *Сугро́бы намяло́, атка́павалі.* Нямойта, Фасаўшчына.

**СУД** *м.* Суд. *Ні дажы́ў да суда́.* Кішуроўшчына, Партызаны.

**СУДА́К** *м.* Судак (рыба). *Судакі́ былі́, нос у яго́ длі́нны, як спіца́к, во́чкі, як сцікля́начкі.* Багданава.

**СУ́ДАРГА** *ж.* Сутарга. *У дзе́ўчыны то́я су́дарга ста́ла.* Багданава, Нямойта. *Кап цябе́ су́дарга хвацíла!* (праклён). Вялікі Азярэцк.

**СУДДЗЯ́** *м.* Суддзя. *Яе́ пляме́ннік суддзём рабо́таіць у У́здзенскім раёне.* Мянюцева, Нямойта.

**СУ́ДЖАНЫ** *прым.* Суджаны, жаніх (нявеста). □ *Мой су́джаны вы́скачыць з лу́жыны, сам атрасе́цца і ка мне прынясе́цца.* Каралевічы.

**СУДЖО́НЫ** *прым.* Судзімы. *Мужы́к быў суджо́ны.* Рэчкі.

**СУДЗІ́МАСЬ** *ж.* Судзімасць. *У яго́ стогадо́вая судзі́мась* [многа разоў судзімы]. Пожанькі.

**СУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Асуджаць, ганіць. *Грэх абі́дзіць чалаве́ка, судзі́ць, апсмія́ць, а рабо́таць у свя́та ні грэх.* Дольдзева, Каралевічы.

**СУДЗЬБА́** *ж.* Лёс. *Ве́рна судзьба́ така́я ў чалаве́ка.* Каралевічы.

□ *Сваю судзьбу́ на кані́ ні аб'е́дзеш і пяшко́м ні або́йдзеш.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк.

**СУ́ДНА** *н.* Рачное судна. *Рэ́чка Пало́нка, па ёй су́дны хадзі́лі.* Нямойта.

**СУ́ДНІК** *м.* Шкафчык для посуду. *Шка́пчык называ́лі су́днік, пасу́ду, хлеб лажы́лі ў су́дніку.* Леснікова, Багданава, Буй, Ракаў Засценак, Рэчкі, Серкуці. СУ́ДНІЧАК *памянш. Су́днічак быў, шка́пчык такі́.* Каралі, Гарадзец, Леснікі.

**СУДНО́** *н.* 1. Пасудзіна. *Пачну́ць смалля́нкі сіга́ць па су́днах, па скры́нках.* Партызаны, Міцюкова. 2. Рамачны вулей. *Ні упудуба́лі пчо́лы судно́, вы́лецелі.* Кішуроўшчына.

**СУ́ДЫ**, **СУДЫ́** *мн.* Два вядры вады, якія прыносяць за адзін раз на каромысле. *Два вядры́ – е́та су́ды, я су́ды на пле́чы і пашла́.* Леснікова, Савінічы, Серкуці. *На ме́сці з суда́мі забіла яго́, ваду́ нёс аго́нь гасі́ць, пяру́н забі́ў.* Запруддзе, Неўгадава.

**СУК** *м.* Сук, галіна. *А сук ат сасніны сухі – і па мне!* Багданава. СУЧО́К *памянш. У я́блані сучкі́ ёсць.* Заазер'е. *Мо́жна сучко́ў смаро́дніка накіда́ць.* Багданава, Запруддзе, Леснікова, Міцюкова, Мянюцева, Сянно.

**СУКАВА́ТЫ** *прым.* Сукаваты, галінасты. *Сасна́ сукава́тая, ця́жка разбіва́ць, яе́ на дро́вы ня рэ́жуць.* Партызаны, Багданава, Фасаўшчына.

**СУКА́ЛА** *н.* Прылада для навівання нітак на цэўкі; сукала. *Сука́ла, як ра́ньшы ткалі кро́сны, сука́ць цэ́ўкі, цэ́ўку на гво́здзік і сука́іш.* Закур'е, Леснікова, Дуброўкі.

**СУКАЛЕ́НКІ**, **СУКАЛЕ́НЦЫ** *мн.* Вузел кушчэння. *Сукале́нкаў мно́га ў грача́най сало́мы.* Міцюкова. *У жы́ці ско́лькі сукале́нцаў было́, то да пасле́дняга сукале́нца ўсё ко́лас бы́ў.* Партызаны.

**СУКА́ЦЬ** *незак.* Сукаць. *Сука́ем і чаўнако́м кіда́ем.* Карпавічы.

**СУКЕ́НКА** *ж.* Сукенка. *Былі сукенкі, пла́цціміі ніхто́ ні зва́ў.* Гарадзец. СУКЕ́НАЧКА *памянш.-ласк. Дзіўча́там суке́начкі такія шы́лі.* Гарадзец.

**СУКНАВА́ЛКА** *ж.* Сукнавальная машына; сукнавалка. *Сукнава́лка была́, валі́лі сукно́.* Нямойта.

**СУКНАВА́ЛЬНЯ** *ж.* Сукнавальная машына і памяшканне, дзе валяць сукно. *Сукнава́льня ў дзярэ́ўні свая́ была́.* Нямойта.

**СУКНО́** *н.* Тканіна з авечай воўны. *Пъўса́чыкі зва́лі, жаке́тачкі, сукно́ тка́лі.* Гарадзец.

**СУКО́ЛЫ** *мн.* Два перавітыя віткай калкі ў плоце. *Суко́лы – е́та два ко́лікі, лазо́й перапле́цеўныя.* Фасаўшчына, Вялікі Азярэцк, Партызаны.

**СУКО́НКА** *ж.*Ануча з сукна. *Суко́нкі на но́гі абу́еўць. Дра́ліся лы́кі ў лясу́, падніз суко́нкі, або́ркамі ўкру́цюць.* Закур'е, Гарадзец, Леснікова.

**СУКО́ННЫ** *прым.* Зроблены з сукна. *Ко́хта харо́шая, суко́нная, свае́ вя́скі.* Буй.

**СУ́КРЫ** *мн.* Закруткі на нітцы. *Су́чыш ні́тку. Як кру́та су́чыш, палуча́юцца су́кры.* Леснікова. СУКРЫ́НКА *ж. памянш. Я спра́ла, мато́к ро́ўнінькі, ні дно́й сукры́нкі ні было́.* Багданава.

**СУКРЫ́СТЫ** *прым.* Кучаравы. *Сукры́сты, як бъра́н, валасы́ уюцца.* Багданава, Леснікова, Серкуці. *Каб бы́ў дзяцёнак сукры́сты, то гаро́хвіны пад паду́шку кла́лі* (павер'е). Чуцькі.

**СУ́КРЫТКІ** *мн.* Закруткі на нітцы. *Пра́жа быва́е крута́я – су́крыткі.* Вялікі Азярэцк.

**СУ́КРЫЦЦА** *незак.* Скручвацца, сплятацца ў вузлы. *Е́слі кру́та ні́ткі пъпрадзе́ш, яны́ су́кръцца.* Заазер'е.

**СУЛІ́ЦЬ** *незак.* Жадаць. *Нікаму́ не сулю́ плахо́га.* Каралевічы, Багданава.

**СУМАШЭ́ДША** *прысл.* Вельмі хутка, на злом галавы. *Е́здзіў сумашэ́дша.* Запруддзе.

**СУМЕ́СНЫ** *прым.* Сумесны. *Суме́сная е́та рабо́та, а адзі́н зна́чыць адзі́н.* Леснікова.

**СУМЕ́ЦЬ** *зак.* Здолець, змагчы. *Хто як суме́іць сказа́ць.* Сукрэмна, Латыгаль.

**СУМЁТ** *м.* Гурба. *Навеіць мнóга снéгу – éта сумёт.* Леснікова.

**СУМІЦЦА** *зак.* Страціць розум, здурнець. *Суміцца – éта нéшта здзéлалася с мазгáмі. Ажанілі без ягó, жóнка сумілася і спаліла дом.* Леснікова, Нямойта.

**СЎМНА** *прысл.* Сумна. *Бываіць сўмна, настраéнія ніякага.* Запруддзе.

**СУМНІВАЦЦА** *незак.* Сумнявацца. *Сумніваюся я, сказáць ці не.* Запруддзе.

**СУМЫСЛІ** *прысл.* Наўмысна. *Сумыслі здзéлаў плахóя.* Запруддзе.

**СЎМЯЦЕЛЬ** *м.* Дождж са снегам. *Такі сўмяцель, віхр, а я дабрó сыплю сінічкам.* Розмыслава, Савінічы.

**СЎМЯЦЕЛЬ** *ж.* Тое ж. *Сўмяцель былá на дварэ́, мóкра, снег.* Савінічы.

**СУНДЎК** *м.* Куфар. *Сундўк вінчáльны – трўбкі тўтацькі, пасцілкі, скáцеркі, палацéнцы ляжáць. Самá зáмуш ішлá с сундукóм.* Марозаўка, Алексінічы, Жохава, Каралевічы, Леснікі, Леснікова. *Цэ́лы сундўк адзёжы згарэ́ла.* Каралі. СУНДУЧÓК *памянш. Панрáвіўся сундучóк, у ім склад дзéлаіць.* Нямойта, Ульянавічы.

**СУНІЦЫ** *мн.* Суніцы. *Суніцы дзе-нібўдзь трóху ё. Ня рóдзяць у нас суніцы.* Сяргейкі, Багданава, Буй, Запруддзе, Каралевічы, Манголія, Чуцькі.

**СУНІЧНІК, СУНІШНІК** *м.* Ягаднік суніц. *Суніцы па барáх, па высóкіх містáх, сунічнік там.* Запруддзе, Багданава. *Сунішнік вы́сах.* Каралевічы.

**СУНÓШКА** *ж.* Планка, што змацоўвае ножкі стала, табурэта. *Сунóшка пірагарáджвала ўнізў сталá, нóгі станавіць.* Запруддзе, Леснікова.

**СЎНУЦЦА** *незак.* 1. Лезці куды-н. *Ня сўнься ў вадў! Вярóўкай выхладжу, кап ня сўнуўся ў сáжалку.* Запруддзе. 2. Павольна ісці. *Ёй гавóрым не хадзіць, а інá закрыéць вóчы, ідзéць, сўнецца.* Латыгаль, Каралевічы. 3. Прыходзіць у нягоднасць, разбурацца. *Усё, дзéткі, сўнецца, бўрыцца, і шчакéт і ўсё.* Цясішча, Івоні.

**СУП** *м.* Суп. *Густы суп, лóжка станóвіцца.* Багданава.

**СУПАДÁЦЬ** *незак.* Адбыцца адначасова з чым-н. *Éта як супадзéць рáзам.* Нямойта.

**СУПАКÓІЦЦА** *зак.* Перастаць, сціхнуць. *Баі сціхлі, супакóілася, мы іх і пахаранілі.* Леснікова.

**СЎПІСАК** *м.* Пясчана-гліністая глеба. *У нас і сўпіскі ёсць.* Самсоны.

**СУПІШЧÁНЫ** *прым.* Які мае адносіны да супеску. *У нас зéмлі супішчáныя, ёсь і падзóлістая зімля́, грáвіль.* Заазер'е, Гарадок.

**СУПÓНЯ** *ж.* Рэмень для сцягвання клешчаў хамута; супоня. *Супóня ўцягіваіцца ў хамўт, кап хамўт сціснуць на каня́. Дзве супóні ў хамуцé, вéрхняя і ніжняя, вéрхняя наглўха звязваіцца, а ніжняя не.* Леснікова, Гарадзец, Гарадок, Дольдзева, Запруддзе.

**СЎПРАДКІ, СЎПРАТКІ** *мн.* Попрадкі. *Бывáла, хадзілі ў сўпрадкі, там пры лучы́не прáлі, цяпéр ніхтó ні хóча хадзіць ні к камў.* Багданава, Буй, Гарадзец, Дольдзева, Заазер'е, Запруддзе, Карпавічы, Леснікова, Нямойта, Партызаны. *Я на сўпраткі мáла хадзіла.* Фасаўшчына, Вялікі Азярэцк, Кавалі, Дуброўкі.

**СУПРАЦІВІЦЦА** *незак.* Супраціўляцца. *Чалавéк супраціівіцца, ня хóчыць.* Запруддзе.

**СУПРÓЦЬ** *прысл.* 1. Насупраць, на процілеглым баку. *Супрóць сат тут сасéдні.* Запруддзе. 2. Наперакор, насуперак каму-н. *Супрóць ягó во шчэ йдзець.* Запруддзе.

**СУПРУЖÁНКА** *ж.* Папрадуха. *Супружáнкі хóдзюць, дзéўкі, бáбы, у сўпраткі, бóбу насы́плюць, бўльбы, ядўць.* Запруддзе, Нямойта.

**СУПЯРЭ́ЧЫЦЦА** *незак.* Пярэчыць, не згаджаючыся з кім-н. *Як я бу́ду супярэ́чыцца з і́мі, калі́ мяне́ вяду́ць?* Парэчча.

**СУПЯРЭ́ЧЫЦЬ** *незак.* Пярэчыць. *Не супярэ́чылі, што ў сваёй адзе́жы хаджу́.* Нямойта.

**СУРАВЕ́ЖА** *ж.* Сыраежка (грыб). *Ай, во́ адны́ сураве́жы. Сураве́жа лю́біць е́льнік.* Заазер'е, Алексінічы.

**СУРАВЕ́ЖАНКА** *ж.* Тое ж. *Дзе пад е́лкай, бяро́зай, ду́бам – сураве́жанкі, апе́нкі.* Парэчча.

**СУРАВЕ́ЖКА, СУРАВЕ́ШКА, СУРАЕ́ЖКА** *ж.* Тое ж. *У нас ё суравежкі, лісі́чкі, ба́пкі бъравічкі.* Запруддзе. *Сураве́шка гарка́вая кра́сная, а ёсь жо́ўтая.* Старая Беліца, Сянно. *Сурае́жка бува́іць кра́снъя, бе́лінькъя.* Вялікі Азярэцк. *Сурае́жкі кро́ххія.* Багданава.

**СУ́РАВЕСЬ** *ж.* Буры колер неадбеленага палатна. *Нава́рым лу́гу, штоп су́равесь выіда́ла. На́да выбе́ліваць су́равесь с палатна́.* Запруддзе, Жохава, Савінічы, Турава.

**СУРАВЫ́** *прым.* Грубы, нябелены (пра палатно, ніткі). *Сураво́я палатно́ – ра́знае шы́лі: про́стыні, руба́хі, штанэ́.* Запруддзе. *Сураўы́я ніткі з лёну атбе́лівалі.* Фасаўшчына. *Суравы́мі ніткамі выв́язывалі дзі́чы.* Міцюкова. *Як у нас кро́сны тка́лі: суравы́м аснуюць, а бе́лью патыка́юць.* Леснікова.

**СУРО́ВЫ** *прым.* Вельмі цяжкі, невыносны. *Го́ра пірънясліі, вайну́ та́кую суро́вую.* Ракаў Засценак.

**СУРО́ДАВАНЫ** *дзеепрым.* Знявечаны, скалечаны. *У сы́на пазвано́чнік суро́даваны.* Розмыслава.

**СУРО́П** *м.* Сіроп. *Суро́п на́да вары́ць з са́хара і падкармі́ць пчол.* Закур'е.

**СУРО́ЎКА** *ж.* Буры колер неадбеленага палатна. *У по́пел іх кла́лі, ты́я скуты́, кап суро́ўка выця́гувалась, і тады́ яны́ бе́лінькія бу́дуць.* Багданава. *На адрэ́зкі рэ́жым гу́бкі, нясём у во́зіра, каб выця́гвала суро́ўку.* Закур'е. *Луг дзе́лалі: бялі́лі, і суро́ўка жо́ўтая ста́нець.* Запруддзе.

**СУРО́ЦЫ** *толькі мн.* Хваробы і іншыя няшчасці, якія, паводле традыцыйнага ўяўлення, прычыняюцца ад нядобрых, «благіх» вачэй; сурокі, урокі. *Суро́цы – е́та зглазіць чалаве́ка. Асуро́чылі чалаве́ка, і як ста́ла трэ́сці!* Леснікова. *Варажба́ памага́іць ад суро́цы: со́ллю сцэ́рці дзяцёнка, пажава́ць соль, цераз плячо́ плю́нуць, сыпану́ць, а астальну́ю соль з рукі́ – у я́мку, у жар.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Багданава, Буй, Запруддзе, Каралевічы, Міцюкова, Партызаны, Савінічы, Серкуці.

**СУРО́ЧЛІВЫ, СУРО́ШЛІВЫ** *прым.* Сурочлівы; які можа прынесці хваробу і іншыя няшчасці ад нядобрых, «благіх» вачэй. *Е́слі жэ́ншчына атняла́ сы́на і́лі до́чку, а по́тым даёць грудзь, то такія жэ́ншчыны суро́члівыя* (павер'е). Манголія. *Суро́шлівая іна́ была́, урэ́дныя глаза́.* Леснікова, Чуцькі.

**СУРО́ЧЫЦЬ** *зак.* Пашкодзіць каму-н., прычыніць хваробу позіркам нядобрых, «благіх» вачэй. *Калі́ хто суро́чыў, лі сквозь рэ́шыта ваду́, ат суро́цы, чэ́рас кля́мку, чэ́рас замо́к, прас яку́ю дзі́рку* (павер'е). Ракаў Засценак. *Суро́чылі – чалаве́ку пло́ха: трасе́ць, азно́ба бярэ́ць.* Багданава, Нямойта, Чуцькі.

**СУРУПО́НЯ** *ж.* Кіслае малако, сыракваша. *Сурупо́ня – уся́кае кі́слае малако́, верх сні́муць, ён жы́рны, у пост есь было́ нільзя́.* Міцюкова.

**СУСЕ́Д, СУСЕ́Т** *м.* Сусед. *Сусе́д у мяне́ ваду́ бярэ́ць.* Багданава. *Ка́жыць сусе́т: «Ты крэ́пкъя ба́ба».* Чуцькі, Неўгадава.

**СУСЕ́ДКА** *ж.* Суседка. *На другі дзень Паскі пъшла да суседкі нъ сяло.* Каралевічы.

**СУСЕ́ДСТВА** *н.* Суседства. *Дўжа дрэнная баба у суседстве.* Латыгаль.

**СУСІ́ЛЬ** *прысл.* Адусюль. *У гэту камуну людзі сусіль з'іжжаліся.* Баравікі.

**СУСІ́М** *прысл.* Зусім. *Я сусім была біз сазнання.* Дольдзева. *Сусім атмякла бульба ў мяне нъ гародзі.* Багданава.

**СУСТА́Ў** *м.* Суставу. *Рукі у суставах бъляць.* Партызаны. *У суставъх баліць.* Заазер'е.

**СУСТАЯ́ЦЦА** *зак.* Адстаяцца. *Попел у чыгун ускінець, сустоіцца, так слізкая въда – галаву мые.* Цясішча.

**СУСТРЭ́ЦЦА** *зак.* Сустрэцца. *Я с старшыном сянні сустрэўся.* Марозаўка.

**СУСТРЭ́ЦЬ** *зак.* Сустрэць. *Як сустрэніш вуўка, то трэба пакойнікуў зваць, тады ён спужаіцца і пубяжыць.* Ракаў Засценак. *Ходзім на астаноўку сустрэць яе.* Заазер'е.

**СУСТРЭ́ЧА** *ж.* Сустрэча. *Сустрэча – во, і з вамі сустрэліся, так і з другімі.* Заазер'е.

**СУ́ТАРГА** *ж.* Сутарга. *Сутарга схваціла.* Багданава.

**СУ́ТКІ** *толькі мн.* Суткі. *З естай бутылачкай малака суткі работаў.* Алексінічы.

**СУ́ТЫЧКІ** *толькі мн.* Вузкі праход паміж сценамі сумежных будынкаў. *Улез у сутычкі, вузенькія-вузенькія сутычкі міжда пастройкі.* Запруддзе.

**СУ́ХА** *прысл.* Суха. *Пъкапалі кънавы, насыпалі дарогу – цяпер суха, хърашо.* Ульянавічы. *Была суха, высъхла была ўсё.* Самсоны.

**СУХАВЕ́Й** *м.* Сухі гарачы вецер. *Якое лета цяпер, відзіця: сухавеі дуюць, ірвуць.* Запруддзе. *Сухавей гоніць пясок па дарозе.* Партызаны, Багданава.

**СУХАДО́ЛЬНЫ** *прым.* Які мае адносіны да сухадолу. *Сухадольныя лясы, то там грыбы бъравэя, разныя.* Партызаны.

**СУХАДРЭ́ВІНА** *ж.* Засохлае дрэва. *Сухадрэвіну нъ пастройку бралі, як крэпкія.* Запруддзе.

**СУХАЖЫ́ЛЛЕ** *н.* Сухажылле. *Сухажылле звузілася, нага ні ходзіць.* Апечкі.

**СУХАЛІ́НА** *ж.* Засохлае дрэва. *На сухаліні сядзіць буцян.* Нямойта.

**СУХАЛЛЁ** *н. зб.* Засохлы лес. *Лес, каторы ссох, сухаллё завуць.* Заазер'е.

**СУХАМЯ́ТКА** *ж.* Сухая яда, без вадкага і варанага. *А ты мяне сухумяткуй корміш.* Сянно.

**СУХАПА́Р** *ж.* Пара. *Над сухапар'ю падыхала – паляхчэла.* Нямойта.

**СУХАПА́РКА** *ж.* 1. Бульба, звараная цэлай. *І бульбы-сухапаркі наварым.* Баравікі. 2. Спецыяльна прыгатаваны раствор, парай якога дыхалі ў час хваробы. *Ад дзіфцерыі сухапарку дзелаюць: скіпяцяць вады, скіпідарку каплю, соды, над пар'ю дзіця спацела – дыхаць палягчэла.* Нямойта.

**СУХАПУ́ЦЬ** *ж.* Сухая мясцовасць (поле, сенажаць). *Каровы, еслі нъ сухапуці, то могуць пъдняць вуўка на рогі, а еслі нъ балоці, то – не.* Міцюкова.

**СУХАРУ́КІ** *прым.* Сухарукі. *Як рука ня дзействуіць, тады завуць сухарукі.* Заазер'е. *Бальная рука, ня дзействует – сухарукі ён.* Леснікова.

**СУХА́РЫКІ** *мн.* Пячэнне. *Сухарыкаў напякуць з мукі.* Гарадзец. *Яйца разаб'еш, мукі насыпіш, накачаіш сухарыкаў.* Багданава.

**СУХАРЭ́БРЫ** *прым.* Худы. *Сухі, ці сухарэбры, як рэбры відаць* [карова ці конь]. Заазер'е.

**СУХАСТО́ІНА** *ж. зб.* Сухастой. *Сухасто́іну нъ пастро́йку ні бра́лі, як іна́ някрэ́пкъя.* Запруддзе.

**СУХАСТО́Й** *м. зб.* Сухастой. *Сухасто́й, як ссо́хнець на пні дзе́рава.* Леснікова. *Сухасто́й на дро́вы ішо́ў.* Гарадок, Багданава, Заазер'е.

**СУХВА́Л** *м.* Свінушка (грыб). *Сухва́лы сяме́йна расту́ць, іх ста́лі зваць, што быў стары́к Сухва́л Іва́н, які́й браў іх.* Канева.

**СУХІ́, СУХЕ́Я** *прым.* 1. Сухі; не мокры. *Зямля́ суха́я, хало́дная.* Ульянавічы. *Здае́цца і сухе́я дро́вы, а ня хо́чуць гарэ́ць.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Гарадзец, Каралі, Нямойта, Партызаны, Чуцькі, Закур'е. *Хай усё ідзе́ць на сухі́ лес* (з замовы). *«Хай усё ідзе́ць на сухі́ лес» – гаво́раць, як няўда́ча яка́я.* Вялікі Азярэцк. 2. Высушаны, пасохлы. *Пасу́шуць, у ёўню, вы́сахне, лён сухі́, мнуць.* Буй. 3. Засушлівы. *Май саўсі́м сухі́ быў, ду́мала, згары́ць уся́ гаро́дніна.* Партызаны. *Як сухі́ год – па ніз́інах бу́льба ро́дзіць.* Багданава, Вялікі Азярэцк. 4. Цвёрды, загартаваны. *На харо́шую, суху́ю пілу́ трэ́ба тры патпі́лкі.* Запруддзе. 5. *н.* Сухое надвор'е. *Касі́ць на сухо́я* [трэба]. Серкуці.

**СУХЛЯ́К** *м.* Хворы зуб (у каня). *Сухлякі́ выбіва́юць у кънbackslash.*

**СУХМЕ́ЦЬ** *ж.* Сухое надвор'е, засуха. *До́жджу німа́, так вот і сухме́ць.* Заазер'е. *Во сухме́ць! Су́ха і тръва́ выгара́іць.* Гарадок, Дольдзева, Жохава.

**СУХО́ПЕРНА, СУХО́ПІРНА** *прысл.* Нечакана, раптоўна. *Так сухо́перна памёр адзі́н з яе́ двайняшо́ў, ла́дны быў ма́ліц, во́сем ме́сяцаў бы́ла.* Багданава. *Бы́стра, сухо́пірна з'яві́ўся, як ні чака́лі.* Жохава.

**СУХО́ТНІК** *м.* Хворы на сухоты. *Сухо́тнік – ён худы́.* Жохава.

**СУХО́ТЫ** *толькі мн.* Сухоты, туберкулёз. *Сухо́ты – е́та бале́знь, е́та така́я жызнь, не жыве́ць, а му́чаіцца.* Жохава. *Як сухо́ты, со́хніць чалаве́к, не набіра́іць це́ла.* Заазер'е, Вялікі Азярэцк.

**СУХУРЛЯ́ВЫ** *прым.* Хударлявы. *Худы́ чалаве́к – зна́чыць сухурля́вы.* Леснікова. *Ка́жуць сухурля́вы, тады́ як худы́.* Заазер'е.

**СУЦЭ́ЛЬНЫ** *прым.* Не сточаны, не сшыты. *Суке́нка – гэ́так усё скразно́я, суцэ́льнъя.* Заазер'е.

**СУ́ЧАНЫ** *прым.* Звіты, скручаны з некалькіх нітак у адну; ссуканы. *Трысці́лі ніткі – у ку́чу, зма́тывалі у клубо́к, а тады́ – у пра́лку, сучы́лі, і выхадзі́ла су́чаная ні́тка.* Парэчча.

**СУ́ЧКА** *ж.* 1. Сука. Самсоны. 2. *эмац.-ацэн.* Пра жанчыну, якая абгаворвае каго-н., лаецца. *Я табе́ налгу́, напляту́, і ска́жуць – су́чка.* Заазер'е. *Яе ўну́чкі – су́чкі.* Нямойта.

□ *Мая́ су́чка ні за съба́чку* (гавораць пра чалавека, які не карыстаецца павагай). Рэчкі. □ *Як су́чка ні захо́чыць – кабе́ль ня ўско́чыць.* Сянно, Забор'е, Неўгадава.

**СУ́ЧКА** *ж.* Мінога (рыба). *У су́чкі ву́сікі – ніба́льшэ́нькія, іна́ – пъ са́мъму дну і шчы́піцца і зъка́пыіцца у іл.* Багданава.

**СУ́ЧКІ** *мн.* Ваўчкі (расліна), насенныя калючкі ваўчкоў. *Су́чкі жо́ўтым цвіця́ць, у іх зу́бчыкі. Як у дзяце́й асы́пка, на́да кіпяці́ць і дзяце́й купа́ць. Пакупа́еш разы́ два, і ўсё прахо́дзіць.* Каралі. *Залату́ха у дзяце́й была́ – купа́лі у су́чках.* Буй, Багданава, Гарадзец, Запруддзе, Леснікі, Леснікова, Міцюкова, Мянюцева, Партызаны, Ракаў Засценак.

**СУ́ЧЧА** *н. зб.* Сухое галлё. *Дро́вы рэ́жуць, а су́чча пакіда́юць.* Заазер'е. *Су́чча патцярэ́блівалі і гарадзілі плётачкай парка́н.* Каралі, Каралевічы, Марозаўка, Закур'е.

**СУЧЫ́ЦЬ** *незак.* Скручваць, звіваць некалькі нітак у адну. *Сучы́лі ніткі шырсцяны́я, на пра́лку ссу́чуць уме́ста.* Леснікова. *Ніткі сучы́лі на сука́льні.* Кляпчэва, Гарадзец, Дуброўкі.

**СУШ** *ж.* Сухое надвор'е, засуха. *Суш така́я! Гуркі гара́ць.* Партызаны.

**СУШ** *ж.* Вашчына без мёду. *Суш – атрабо́таныя ра́мкі, дзе мёт аткладаю́ць.* Нямойта, Запруддзе. *Суш – ста́рыя со́ты, ня хо́чуць пчо́лы вывадзі́цца.* Вялікі Азярэцк.

**СУШАНІ́ЦА** *ж.* Сушаніца; лекавая расліна з жаўтавата-белымі або аранжавымі кветкамі. *Сушані́ца – ад даўле́ння.* Каралевічы. ○ СУШАНІ́ЦА БАЛО́ТНАЯ. Сушаніца. *Сушъні́ца бало́тная – тра́ўка така́я кудла́ценькая, сі́венькая, жо́ўценькая, на нізі́нах расце́.* Нямойта.

**СУ́ШКА** *ж.* Сухое надвор'е, засуха. *Калі нъ мъкаве́я су́шка, то бу́дуць бальшэ́я пъжа́ры.* Савінічы.

**СУШЫ́ЦЬ** *незак.* 1. Рабіць сухім. *Бульбо́ўнік сушы́лі каро́вам.* Розмыслава. *У еўні малаці́лі і сушы́лі жы́та.* Савінічы. *Дзве нядзе́лі сушы́ла се́на: усё дош і дош.* Міцюкова, Баравікі, Гарадзец, Запруддзе, Цясішча. 2. Нарыхтоўваць у запас шляхам высушвання. *Некато́рыя я́блыкі су́шаць – сма́чныя, паху́чыя.* Запруддзе. *Бъравікі сушы́лі к зіме́.* Рассвет, Дольдзева, Сянно, Сяргейкі. 3. *перан.* Падрываць здароўе, знясільваць. *Хваро́ба су́шыць чалаве́ка.* Апечкі. 4. Пра сухое надвор'е, засуху. *Ду́жа жъра́, до́жджу німа́, су́шыць усё.* Нямойта.

**СФУҐО́ВЫВАЦЬ** *зак.* Стругаць. *Фуґа́н – до́скі сфуґо́вываць.* Леснікі.

**СХАВА́НЫ** *дзеепрым.* Пахаваны. *На тых мо́гілках е́йныя радзі́целі схава́ныя.* Самсоны.

**СХАВА́ЦЬ, СХУВА́ЦЬ** *зак.* 1. Пакласці ў патаемнае месца. *Схава́ць – е́та палажы́ць пада́льшы.* Жохава, Станюкі. *Схава́й ад людзе́й, каб ні укра́лі.* Заазер'е. *А я ду́мала, куды́ мне дзіцёнка схува́ць.* Леснікова. 2. Пахаваць памерлага. *І свёкра схава́ла, і свякро́ў схава́ла.* Вялікі Азярэцк. *До́чку схува́лі у нядзе́лю, а ён у аўто́рак радзі́ўся.* Нямойта, Закур'е.

**СХАДЗІ́ЦЦА** *незак.* 1. Ладзіць, наладжваць адносіны. Запруддзе. 2. Зліванца (пра галасы). *У нас галасы́ так схадзілісі, што по́ле грыме́ла.* Кляпчэва.

**СХАДЗІ́ЦЬ** 1. *зак.* Пайсці за якой-н. патрэбай. *Схадзі́це вы разы́ па тры у цэ́ркву.* Вялікі Азярэцк. 2. *незак.* Зрасходваць, скончыцца. *А січа́с хлеп бе́лы са стала́ ня схо́дзіць.* Марозаўка. 3. *незак.* Заканчвацца, праходзіць (пра тэрмін, час). *Схо́дзіць срок, я е́ду у Ві́цебск лячы́цца.* Нямойта. ◊ СХАДЗІ́ЦЬ С УМА́. Дурнець, рабіць дзіўныя, не зразумелыя для іншых учынкі. *Ка́жды дура́к па-сво́йму с ума́ схо́дзіць.* Нямойта.

**СХАДНЕ́Й** *прысл.* Зручней, лягчэй, прасцей. *От вам е́здзіць чуць схадне́й у къмандзіро́ўку, чым ёй, дзяўчы́не.* Парэчча.

**СХАМРЫ́ЦЬ** *зак. экспр.* Зрабіць няўдала, абы-як. *Друга́я с харо́шай му́кі схамры́ць хлеп, як рызі́на.* Заазер'е.

**СХАМЯНУ́ЦЦА** *зак.* Падхапіцца. *Схамяну́лася і на рабо́ту пайшла́ бы́стра.* Заазер'е.

**СХАПІ́ЦЦА** *зак.* Усхадзіцца, узняцца (пра з'явы прыроды). *Як узняўся віхор, як схапіўся!* Гарадзец.

**СХАПІ́ЦЬ** *зак.* Раптоўна востра праявіцца (пра сутаргу). *Ён стары́, су́дарга яго́ схапіла і усё.* Багданава.

**СХАРАНІ́ЦЬ** *зак.* 1. Пахаваць. *Ні аднаго́ ні схараніла дзіцёнка.* Самсоны. *Нъ падго́ры схъраніў.* Гарадок. *Тут і схаро́нім.* Савінічы. 2. Схаваць. *Ра́ньша зва́руць по́ліўку ці ка́шу і схаро́нюць.* Нямойта.

**СХАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Захацець. *Ні схаце́ла жыць.* Нямойта.

**СХВАЦІ́ЦЦА** *зак.* 1. Схапіцца, дакрануцца. *Як пъжа́р, жэ́нщчына* [цяжарная] *схво́ціцца за ліцо́, ліцо́* [у дзіцяці] *мо́жэць і кра́снае быць.* Багданава. 2. Усхадзіцца, абвастрыцца (пра хваробу). *Схваці́лася бале́ць рука́.* Баравікі.

**СХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Схапіць; хуткім рухам узяць што-н. *Падбяжы́ш, схво́ціш я́блык.* Буй. *Уну́чка бяллё маё схва́ціць і памы́е, пасу́шыць.* Нямойта, Дольдзева, Запруддзе, Міцюкова, Фасаўшчына, Закур'е. *Каб цябе́ халера схваціла!* (праклён). Вялікі Азярэцк. 2. Ухапіць і загубіць каго-н. (пра драпежніка). *Ку́рыцу сава́ схво́ціць і нясе́ць.* Вялікі Азярэцк. *Кот ры́бу – цоп! – схво́ціць і пайшо́ў.* Багданава, Нямойта, Закур'е. 3. Цапнуць, ухапіць. *Кры́сы, як атра́вы схво́цюць, ду́жа ваду́ шука́юць.* Нямойта. 4. Арыштаваць. *Прые́дуць но́ччу, схво́цюць. За свой трут, што трудзіліся, што ў лапцях усё ўрэ́мя хадзілі.* Буй. 5. Усхадзіцца, абвастрыцца. *Як схво́ціць боль – пры́ступ.* Нямойта.

**СХІ́БІЦЬ** *зак.* Памыліцца. *Бальшынство́ схібіць стары́х: то недавідзіць, то недаслы́шыць.* Вялікі Азярэцк.

**СХІНУ́ЦЦА** *зак.* Памерці. *Як мая́ галоўка схіне́цца, то твая́ ігра́ міне́цца.* Чуцькі.

**СХІТРАВА́ЦЬ** *зак.* Схітрыць. *Като́ръя дъя́рка схітру́іць, ваду́ ліне́ць.* Марозаўка.

**СХЛІРО́З** *м.* Склероз. *Схліро́з у гълаве́.* Вялікі Азярэцк.

**СХО́ВЫ** *толькі мн.* 1. Захаванне, хованка. *Ка мне прыно́сіла дзе́жу на схо́вы.* Запруддзе. 2. Схаваныя запасы. *Век у мяне́ схо́ваў не было́.* Нямойта.

**СХОД, СХОТ** *м.* 1. Сход; месца спуску. *Па ле́свіцы быў схот у склеп.* Партызаны. 2. Апошняя квадра месяца. *Сход ве́таха.* Багданава. 3. Заканчэнне каляднага перыяду. *Пасле́дняя Каліда́ – схот Каля́д, Крышчэ́нне.* Гарадзец.

**СХО́ДНА** *прысл.* Выгадна. *Сын ха́ту купіў за две́сця рубле́й, ха́та была́ харо́шыя, схо́дна купіў.* Міцюкова.

**СХО́ДНЫ** *прым.* Памяркоўны, падатлівы. *Ма́ліц схо́дны бо́лей, На́сця – дзёрсткая.* Савінічы.

**СХО́ДСТВА** *н.* Падабенства. *Крэ́пка схо́дства была б, кап пахуда́ў.* Івоні.

**СХО́ДЦЫ** *мн.* Сходы, сходкі. *Схо́дцы былі красівыя.* Ульянавічы.

**СХУВА́ЦЦА** *зак.* Схавацца. *Схува́цца ім не́куды.* Фасаўшчына. *Мы схува́ліся за по́грап.* Леснікова, Станюкі.

**СХУДА́ЦЬ, СХУДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Схуднець. *Другі́ захварэ́ець да схуда́ець, а я – не.* Нямойта. *Я ш така́я і была, ды схудзе́ла.* Заазер'е.

**СЦА́ПАЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Схапіць, прымусова затрымаць. *Яны́ яго́, паліца́я, сца́пълі, забра́лі нъга́на.* Партызаны.

**СЦЕБАНУ́ЦЬ, СЦІБАНУ́ЦЬ** *зак.* Ударыць чым-н. *Хваціла пру́цік і сцебану́ла вужа́ку.* Партызаны. *У мяне́ кіёчък ёсць, і я кіёчкъм сцібану́ў і забіў.* Алексінічы.

**СЦЕ́БЕЛЬ, СЦЕ́БІЛЬ** *м.* Сцябло. *Сце́бель слане́чніка.* Розмыслава. *Сце́біль у яе́ бальшы́.* Заазер'е.

**СЦЕ́БЛЕ** *н. зб.* Бульбоўнік. *Бульбо́ўнік – сцэ́бле.* Міцюкова.

**СЦЕ́ЖКА** *ж.* Сцежка. *Сцэ́жку вы́білі каро́вы, што там па́сціць!* Гарадок. *Сцэ́жку во здзе́лалі.* Запруддзе, Чуцькі. СЦЕ́ЖАЧКА *памянш. Там з агаро́ду ёсць даро́жка, сцэ́жачка.* Заазер'е.

**СЦЕ́ЛІШЧА** *н.* Месца, дзе сцелюць лён; сцелішча. *Як абмало́цюць, на сцэ́лішчы сцэ́люць лён.* Каралі.

**СЦЕ́НКА** *ж.* Сцяна. *Усе́ стая́ць па сцэ́нцы у адзін рад.* Заазер'е.

**СЦЕНЬ** *ж.* Хвароба ад сполаху, спуду. *На́да сцень выбіра́ць па усі́х суста́вах.* Каралевічы. *Выбіра́йце сцень з галавы́, з касцэ́й.* Жохава, Запруддзе, Партызаны, Рулёўшчына. *Убіра́йся сцень с усі́х касцэ́й, с усі́х жыл, с усі́х суста́ў, с бу́йнъй гълавы́, с румя́нага ліца́, с крыва́вага сэрца́. У гало́ўку ні калі́, сэ́рца ні тамі́, но́жак ні ламі́. Ляці́ сцень на буйнэ́я, на сухе́я лясы́, на лугі́, на мо́ра-акія́н* (замова ад спуду). Рулёўшчына.

**СЦЕРАГЧЫ́** *незак.* Глядзець, наглядаць. *Я бу́ду глядзе́ць, су́мку сцерагчы́.* Сянно.

**СЦЕ́РЦІ** *зак.* 1. Перацерці, стаўчы. *На́да сцэ́рці я́гат с са́харам, стаўчы́ на́да.* Запруддзе. 2. Вытаптаць. *За ноч усё* [агарод] *сцёрлі, як ко́нніца яка́я прашла́.* Запруддзе. 3. Знішчыць. *Так сатру́ць увесь лес.* Партызаны.

**СЦЕ́РЦІСЯ** *перан.* Перавесціся, знікнуць. *Ма́тка ляжы́ць забі́тая, ба́цька ту́тацька – уся́ сям'я́ сцэ́рлася.* Вялікі Азярэцк.

**СЦЁБАЦЬ** *незак.* Сцябаць, хвастаць. *Каро́ва мух сцёбыіць хвасто́м, і табе́ пападзе́ць.* Чуцькі. *Каня́ гэ́тага сцёбаіць: «Як улез, так і вы́лезь».* Ульянавічы, Гарадзец, Запруддзе, Нямойта.

**СЦЁБНУЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Выпіць (гарэлкі). *Па́ру стъка́нчыкаў гарэ́лкі сцёбнуў.* Марозаўка.

**СЦЁК, СЦЕК** *м.* Сцёк. *Здзе́лаў кана́ўку, кап сцёк быў.* Фасаўшчына. *Сцёку німа́, і на бурака́х вада́ стаі́ць.* Баравікі, Закур'е.

**СЦЁКЛАЧКА** *ж.* Невялікі кавалак шкла. *Сцёклачка знайшлі у канфе́тах.* Парэчча.

**СЦІГА́** *ж.* Сцежка. *Сціга́, ці сцэ́жка, ска́жуць.* Запруддзе.

**СЦІКА́ЦЬ** *незак.* Сыходзіць (крывёй). *Кро́ую як ён сціка́ў, мяне́ аблі́ў.* Алексінічы.

**СЦІ́МЕР** *м.* Гушчар. *Бува́я, тра́піш у сці́мер – цемната́, заро́слае ме́сца, не́як вы́йсці.* Багданава.

**СЦІ́ПЛЫ** *прым.* Сціплы. *Іна́ сці́плая така́я.* Закур'е.

**СЦІ́ПНА** *прысл.* Сціпла. *Жыве́ць сці́пна, ня п'ець.* Запруддзе.

**СЦІ́ПНА** *прысл.* Шчыльна. *У кру́глъй бо́ццы сці́пна са́ла ні пало́жыш адзін к днаму́.* Каралі.

**СЦІ́ПНЫ** *прым.* Шчыльны. *Сці́пны быў пърка́н.* Фасаўшчына.

**СЦІРА́ЦЬ** *незак.* 1. Мыць (бялізну). *Сці́ркі мно́га: на́да бяллё сці́раць.* Запруддзе. *Бяллё мы́юць, сціра́юць, пало́шчуць.* Вялікі Азярэцк. 2. Выціраць. *Сто́ла ні сціра́юць, як сідзя́ць лю́дзі у ха́ці.* Міцюкова. 3. Ачышчаць, абмятаць абмалочанае жыта ад каласкоў. *Сціра́лі жы́та мятло́й.* Каралі.

**СЦІ́РКА** *ж.* 1. Мыццё. Запруддзе. 2. Брудная бялізна. *Сці́ркі чугу́н стаі́ць.* Багданава. 3. Анучка, шматок. *Да́йця я сатру́ са стала́ сці́ркай.* Багданава.

**СЦІСКА́ЦЦА** *незак.* 1. Рабіцца меншым. *Со́нца ігра́іць – дзе́лаіцца вялі́кае, а по́тым сціска́іцца.* Гарадзец. 2. Пусцець. *Дзярэ́ўні сціска́юцца: па адны́м чалаве́ку, па два астае́цца.* Вялікі Азярэцк.

**СЦІ́СНУЦЦА** *зак.* Зменшыцца, зрасціся. *Адна́ ра́на ня сціснiцца, дава́й другая усхадзiць.* Івоні.

**СЦІ́СНУЦЬ** *зак.* 1. Заціснуць пальцамі рукі. *Адна́ жэ́ншчына вужа́ку узіла́ і сціснула.* Запруддзе. 2. Звузіць. *Яму́ пішчаво́т сціснула й памёр гало́днай сме́рцю.* Гарадок. 3. Здушыць, сцясніць. *Нап'е́сся с крыні́чкі, аж у грудзя́х сці́сніць.* Вялікі Азярэцк. *Ат во́ўчых я́гът у ро́ці сці́сніць.* Запруддзе. 4. Забалець, пачаць балець. *Е́слі гло́тка сці́снець, ма́мка бу́льбу спа́рыць, дух к сабе́ цiга́іш і цiга́іш і про́йдзіць.* Запруддзе. 5. Абмежаваць продаж. *Гэ́ту во́тку сці́снулі, мне іна́ ні трэ́ба.* Заазер'е. 6. *перан.* Стаць цяжкім, складаным (пра долю, лёс). *Так яго́ судзьба́ сці́снула.* Сукрэмна.

**СЦІХА́ЦЬ** *незак.* Пастунова сунімацца, пераставаць. *Як развіднéiцца, дош сціха́іць.* Запруддзе. *Тады́ галава́ сціха́іць* [балець]. Кішуроўшчына. *Баі́ сці́хлі, супако́іліся.* Леснікова.

**СЦІ́ШЫЦЦА** *зак.* 1. Перастаць, суняцца. *І сці́шыцца, і ні ста́ніць таго́ ка́шля, як малі́ннік, па́лкі гэ́тыя па́рылі.* Запруддзе. *Лі́сця з малі́нніка запа́ру, дам папі́ць, і сці́шыцца ка́шаль.* Запруддзе. 2. Супакоіцца. *Змы́ла вадо́й ад суро́цы, і каро́ва сці́шылася.* Запруддзе. *Зъгъвары́ла, мой ма́ліц сці́шаецца, сцiх і заснуў.* Партызаны.

**СЦУЛЬ** *м.* Мачавы пухір. *Сцуль у нас надзму́ць, у вадзе́ со́льнай вы́маюць і начыня́юць.* Леснікова.

**СЦЭ́ДЖВАЦЬ** *незак.* Сцэджваць. *Жы́шку сцэ́джвъіш.* Савінічы.

**СЦЮ́ДЗЕНЬ** *м.* Халадзец, студзень (страва). *Сцю́дзень ва́раць з нох, галавы́.* Запруддзе.

**СЦЮДЗЁНА, СЦІДЗЁНА** *прысл.* Холадна. *На ву́ліцы сяго́ння сцюдзёна, ні выхадзі біз адзёжы.* Запруддзе. *Сцiдзёна на дварэ́, хо́лад бальшы́.* Вялікі Азярэцк.

**СЦЮДЗЁНЫ, СЦІДЗЁНЫ** *прым.* Халодны. *Въда́ сцюдзёная.* Запруддзе. *Ці сцiдзёная вада́?* Багданава.

**СЦЮ́ЖА** *ж.* Моцны холад, халадэча. *Така́я сцю́жа на дварэ́, хо́ладна.* Запруддзе.

**СЦЯБЛІ́СТЫ** *прым.* 1. З высокім сцяблом. *Тъка́я харо́шъя, сцяблі́стъя пшані́ца.* Кішуроўшчына. 2. *эмац.-ацэн.* Высокі (пра чалавека). *Во які́ сцябли́сты, высо́кі чалаве́к.* Запруддзе.

**СЦЯБЛО́** *м.* Сцябло. *Сцябло́ у слане́чніка злама́лася.* Розмыслава.

**СЦЯ́ГА** *ж.* Сцёк. *Пері́д гаро́ду кънáва была́, і сця́га была́ въдзе́.* Самсоны.

**СЦЯГА́ЦЦА, СЦІГА́ЦЦА** *зак.* Схадзіць. *Дзе ты сцiга́іcся: нага́ балі́ць.* Буй. *Мо́жна было́ б сцяга́цца у Нямо́йту.* Ракаў Засценак.

**СЦЯГНО́** *н.* Кумпяк. *Сцёгны гэ́тыя ве́шаюць і къпця́ць.* Галашчакіна. *Сцягно́ – э́та о́карак.* Запруддзе.

**СЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Цягнучы, знесці ў адно месца. *То́лькі-то́лькі сцягну́ла капцы́ с се́нам.* Партызаны. *Расло́ бальшо́я жы́та, што нямо́жна сцягну́ць.* Ракаў Засценак. 2. Перацягнуць, зацягнуць. *Каты́ сцягну́лі мае́ тра́пкі.* Неўгадава. 3. Украсці, узяць, забраць. *Сцягну́ць – э́та укра́сці.* Запруддзе. *Кры́са сця́гнець кро́шку яку́ю, што ем.* Нямойта, Вялікі Азярэцк. 4. Выцягнуць (пра дым). *Сцягну́ла тро́ху дым у пе́чку.* Вялікі Азярэцк.

**СЦЯКЛІ́НА** *ж.* Кавалак шкла. *На Купа́лу ко́мін сцяклі́най закры́юць, дым ідзе́ць* [у хату]. Марозаўка.

**СЦЯКЛІ́ЦЬ** *незак.* Шкліць, устаўляць шкло. *Мой зяць уме́іць во́кны сцяклі́ць.* Партызаны. *Сам хазя́ін і сцяклі́ў усе́ во́кны.* Чуцькі, Дольдзева.

**СЦЯКЛÓ, СЦІКЛÓ** *н.* Шкло. *Чысціць дóскі, адбіраíць рáмкі пьт сцяклó.* Нямойта. *Рýкі бьля́ць, як сціклó насы́пала.* Нямойта.

**СЦЯКЛЯ́НКА, СЦІКЛЯ́НКА** *ж.* Слоік. *Саллю у сцяклянкі тушóнку і зіму стаíць.* Баравікі, Алексінічы, Партызаны. *У сціклянкі цяпéр цэ́дзяць малакó.* Багданава. СЦЯКЛЯ́НАЧКА *памянш. Дзве сцякля́начкі сóку дáла.* Партызаны.

**СЦЯЛІ́ЦЬ** *незак.* Слаць (лён). *Лён сцéляць на пóжнях.* Закур'е. *Лён б'юць, тады́ на пóлі сцéлюць.* Вялікі Азярэцк.

**СЦЯМНЕ́ЦЬ** *зак.* Сцямнець. *Бýду сядзéць, пакýль сцямнéіць.* Леснікова.

**СЦЯНÁ** *ж.* 1. Сцяна. *Сцéны пьзавéшаны кууˇрáмі.* Самсоны. 2. *перан.* Суцэльная маса, мноства чаго-н. *Гляджý, у сáжылцы сцянóй стаíць ры́ба.* Сянно.

**СЧАРНЕ́ЦЬ** *зак.* Пачарнець, стаць чорным. *Счарнéіць грэ́бень у кýрыцы, глядзí, прападзéць.* Партызаны. *Як грэ́бінь счарнéіць – кýры дóхнуць* (прыкмета). Цясішча, Багданава, Запруддзе.

**СЧО́СВАЦЬ** *незак.* Часаць (лён). *Лён счóсваіш на чóсцы.* Дольдзева.

**СЧЫ́СЦІЦЦА, ШЧЫ́СЦІЦЦА** *зак.* Ачысціцца ад плацэнты (пра свойскую жывёлу). *Казá счы́сцілася, я ўсё убрáла.* Запруддзе. *Шчы́сцілася карóва.* Рассвет.

**СЧЭ́СВАЦЦА** *незак.* Счосвацца. *Счóсваіш на чóсцы, катóра у рукáх астаéцца, назывáіцца кýжаль, катóрая счэ́сваіцца – зрэ́б'е.* Дольдзева.

**СЫГЛІ́ЧЫВАЦЬ** *незак.* Сшываць брускамі дошкі ў дзвярах. *Дóскі сыглíчываюць і іх называ́юць іглíцы.* Міцюкова.

**СЫМÁЦЬ** *незак.* Здымаць. *Кóжу сымáй с кьня́.* Пожанькі.

**СЫ́НАЎ** *прым.* Сынаў. *У сы́навага мáльчыка бядá.* Запруддзе.

**СЫ́ННІ** *прым.* Тое ж. *Éта сы́нні хлóпец.* Дольдзева. *У нас адзíн унýк – дачкíн, а другí – сы́нні.* Гарадзец, Міцюкова, Савінічы, Дуброўкі.

**СЫ́ПАЦЦА** *незак.* 1. Рассыпáцца. *Кругóм кáмня мукá сы́піцца.* Дуброўкі. 2. *перан.* Выпадаць, крышыцца. *Сы́пюцца зýбы у рóце.* Розмыслава. 3. *перан.* Цячы, ліцца. *Слёзы, як боб, сы́паліся.* Каралевічы.

**СЫ́ПАЦЬ** *незак.* 1. Усыпаць, кідаць (што-н. сыпкае). *У калóдзісь мак сы́палі, каб дажджы́ пашлí.* Запруддзе, Дольдзева, Гарадок, Каралевічы, Фасаўшчына, Неўгадава. *Зрáзу сы́пюць пісóк на дьмавíну.* Багданава. 2. Класці, дадаваць. *Кмін у капýсту сы́пім, і ў сáла, і ў кілбáсы.* Кавалі. *У цéста кмін сы́палі, а пат хлеб клáлі капýснья лíсця.* Цясішча.

**СЫПНУ́ЦЬ** *зак.* Нарадзіцца ў вялікай колькасці. *Пóсьлі вайны́ дзéці сыпнýлі.* Мянюцева.

**СЫР** *м.* 1. Сыр. *Сыр, мáсла ў лýпку злóжаць і пувязýць свяцíць.* Гарадок. *Сыр атцікáіць пад кáмень.* Манголія. 2. Пра прыгожага, здаровага. *Íнá біркулёзная і ён, а дзéці рьджáюць – як сыры́.* Вялікі Азярэцк.

**СЫ́РА** *прысл.* Вільготна, мокра. *Нямóжна уз'éхаць на гарóд: сы́ра.* Заазер'е. *За хлявóм – нíзка, сы́ра, абгавары́лі: ня бýдзіць сын стáвіць фíнскі дóмік.* Гарадок.

**СЫРАВÁТКА, СЫРВÁТКА, СЫ́РВАТКА** *ж.* Сыроватка. *Сыравáтку свíнням давáлі.* Багданава. *На сыравáтцы спячэ́ш блін – вы́расцець пýшаны.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Запруддзе, Леснікова, Міцюкова, Самсоны, Станюкі. *Аттóпіцца малакó і тады́ – сырвáтка і тварóх.* Жохава. *Тóрбачку падвéсіць – сы́рватка сцячэ́ць.* Багданава.

**СЫРАВÁТЫ, СУРУВÁТЫ** *прым.* Сыраваты. *Жардзíну стáвілі ўверьх, штоп ні пры'пáла сыравáта'я сéна, срадзі стóга.* Каралевічы. *Калí сурувáты лён, сушы́лі ў ёўні.* Карпавічы.

**СЫРАДОЙ** *м.* Сырадой. *Папіце сырадою, а хто – халоднага малака, як не хочыць.* Міцюкова. *Сырадой – хто гаворыць «свежае малако».* Вялікі Азярэцк, Багданава, Жохава, Заазер'е, Нямойта, Самсоны. СЫРАДОЙЧЫК *ласк. Сырадойчыку папіце, дзеўкі!* Леснікова.

**СЫРАМАЛОТ** *м.* Збожжа, абмалочанае без папярэдняй падсушкі. *Жыта білі сырамалотам нъ пасеў.* Міцюкова. *Сырамалотам тожа малацілі.* Дольдзева, Нямойта.

**СЫРАМАЦЬ, СЫРМАЦЬ, СЫРМЯЦЬ** *ж.* Сырамятная скура. *Лаза, як сырамаць, крэпкая.* Дольдзева. *З сырмаці дзелалі гужы.* Гарадзец. *Сырмяць кру-цілі, у дзёгаць* [апускалі], *скруцяць, выцягнуць – крэпкая будзіць.* Дольдзева.

**СЫРАСЦЬ** *ж.* Сырасць. *Можа, у съраканожак і сто нох, хто ведаіць, але яны у сырасці усё.* Вялікі Азярэцк.

**СЫР'ЁМ** *прысл.* Няварaны, у сырым выглядзе. *Грыбы саліць сыр'ём.* Пожанькі.

**СЫРНІК** *м.* Сырнік (страва). *Сырнікі пяку, як ёсь карова ні запусціўшыся.* Жохава.

**СЫРНЫ** *прым.* Які выкарыстоўваецца для прыгатавання сыру. *Малако аттопіш, суэдзіш сыраватку, туды солі, кміну і у торбу сырную, і пад груз.* Міцюкова.

**СЫРЦОМ** *прысл.* Нятоплены, у сырым выглядзе. *І сырцом масла прынімалі.* Кляпчэва.

**СЫРЫ, СУРЫ** *прым.* 1. Насычаны вільгаццю. *Куль лёну сырога на ёўню садзілі.* Каралі. *Бапкі ў сырым лесі растуць.* Багданава. 2. Мокры, дажджлівы. *Сырая пагода.* Каралі, Гарадзец, Дольдзева, Цясішча. 3. Няварaны, нясмажаны. *Печанёўка сырая робіцца.* Міцюкова. *А ён суроя яйцо хай вып'іць.* Заазер'е. *Сырую ваду не давалі піць.* Запруддзе, Неўгадава.

**СЫРЫЗНА** *ж. зб.* Агародніна. *Сырызна гэта бруква і бурачкі.* Жохава.

**СЫРЭЦ** *м.* 1. Нявырабленая скура, аўчына. *Сырэц – невыръбътаная аўчынка.* Багданава. 2. Неабпаленая цэгла. *Печка з сырцу здзелана.* Рэчкі.

**СЫРЭЦЬ** *незак.* Станавіцца мокрым, вільготным. *На зямлі ён сырэіць* [ячмень]. Дольдзева.

**СЫСКАВАЦЬ** *незак.* Спаганяць доўг. *Ніхто з цябе не будзе сыскаваць тыя грошы.* Нямойта.

**СЫСЦІ** *зак.* 1. Пайсці. *Маруся сышла з дому.* Запруддзе. *Карова куды-та сышла, паціралася, трэба шукаць.* Фасаўшчына. 2. *перан.* Знікнуць, прапасці. *Здароўе сышло цяпер.* Фасаўшчына.

**СЫСЦІ** *зак.* Адстаць, абварыцца. *Варам заліць курыцу, каб сышло пер'е.* Буй.

**СЫСЦІСЯ, СЫЙСЦІСЯ** *зак.* 1. Сысціся, сустрэцца. *Кап улетку была п, так на лавачцы дзе сышліся.* Нямойта. *Як сойдуцца, крычаць абоі.* Жохава. 2. *перан.* Уступіць у шлюб. *С анным сышлася, дзяцей ні было.* Вялікі Азярэцк. *Яна з другім была сыйшлася.* Цясішча.

**СЫТА** *ж.* Мядовая вада. *Сыта – з мёдам въда.* Вялікі Азярэцк.

**СЫТНЫ** *прым.* Буйны, тлусты. *У возеры рыба сытная, тоўстая.* Запруддзе.

**СЫТЫ** *прым.* Поўны. *Зяць сыты, сыны худэя.* Багданава. *Косць у яе буйная, не сытая так яна.* Нямойта.

**СЮДЫ, СЮДА** *прысл.* Сюды. *Як лён бралі восенню, так і сын прыехаў сюда.* Заазер'е. *Прышлі сюды* [немцы] *і пъсялілісі у хатъх.* Гарадок.

**СЮРОК-СЮРОК** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць жарабя. *«Сюрок-сюрок!» – як манюць жърабёнка.* Замошша.

**СЯ́БАР** *м.* Сябар. *Мы падружыліся: э́та мой ся́бар, э́та сябро́ўка.* Серкуці.

**СЯ́БРА** *м.* Тое ж. *Шчыта́й, ся́бра, то спяшу́.* Сянно.

**СЯВА́ЛКА** *ж.* Плеценая пасудзіна для ручной сяўбы; сявенька. *Ці ёсь гэ́та сява́лка с сало́мы у цябе́?* Рассвет.

**СЯВЕ́НЬКА** *ж.* Тое ж. Вялікі Азярэцк.

**СЯВЕ́Ц** *м.* Сейбіт. *Сяве́ц се́іць жы́та.* Нямойта.

**СЯГАЛЕ́ТКА** *ж.* Сяголетак; цяля гэтага года. *Вясно́й радзі́ўшыся, у хляве́ ле́та стая́ў, э́та сягале́тка.* Самсоны.

**СЯГО́ННЯ, СЯГО́ННІ** *прысл.* Сёння; у гэты дзень. *Хъзя́іна два-тры събярёмся, і тады́ мне сяго́ння вы́везім гной да бе́да.* Багданава. *А яна́ і сяго́ння жыве́ць.* Неўгадава. *Сяго́нні учыню́ хлеп: мукі́ усы́плю і кі́сніць да за́ўтрага.* Неўгадава. *Сяго́нні вы́шла то́лькі на двор.* Нямойта, Буй, Каралевічы.

**СЯДА́К** *м.* Пасажыр. *А ско́лькі ты, мно́га седако́ў набра́ў?* Гарадзец.

**СЯДЗЕ́ЛЕЦ** *м.* Той, хто адбываў зняволенне ў турме. *Быў магазі́нщчык – сядзе́лец.* Ульянавічы.

**СЯДЗЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Сядзець. *А цяпе́р згаро́ду злъма́юць на Іва́на, сядзі́ ноч, пілнуй ба́нду. Цяпе́р сядзя́ць на вясе́ллі, што на хаўту́ры.* Баравікі. *Сядзі́ць, як а́ўгуст, ні ръзгаво́ру з яго́, нічо́га, пусты́.* Кавалі, Багданава, Гарадок, Гарадзец, Дольдзева, Леснікова, Нямойта, Ракаў Засценак, Фасаўшчына, Чуцькі. 2. Знаходзіцца, размяшчацца. *Я ні зна́ю, дзе маё се́рца сядзі́ць, у які́м баку́.* Фасаўшчына. *Ячме́нь на ёўні сядзі́ць, су́хінькі.* Каралі. ◊ СЕ́ДЗЬМА СЯДЗЕ́ЦЬ. Нічым не займацца. *Се́дзьма сядзі́ць, хоць ко́лъм вярні́.* Запруддзе.

**СЯДЗЁЛКА** *ж.* 1. Частка збруі для верхавой язды ў выглядзе сядзення для конніка, якое ўмацоўваецца на спіне жывёлы; сядло. *Сядзёлка ло́жыцца наве́рх, на каня́.* Гарадзец. *Папру́га – кап не звалі́лася сядзёлка.* Буй, Гарадок, Міцюкова, Партызаны. 2. Частка спіны каня, куды прымацоўваецца сядло. *Удо́ль сядзёлкі як перацяне́ць дзед яму́.* Буй.

**СЯДЗІ́БА** *ж.* Сядзіба. *Та́мацькі сядзі́ба была́ па́нская.* Дуброўкі. *На на́шай сядзі́бі пастро́ілася.* Закур'е.

**СЯ́ДНІ, СЯ́ННІ** *прысл.* Сёння; у гэты дзень. *Сістра́ у Мінск ся́дні е́дзіць.* Багданава. *Ся́нні у ба́ню по́йдзіш.* Багданава. *Ну ся́нні ваднёў було́!* Сукрэмна, Вялікі Азярэцк, Багданава, Запруддзе, Леснікова, Нямойта, Цясішча, Чуцькі.

**СЯДУ́К** *м.* Дзіця, якое доўга не ходзіць. *Сяду́к і па два гады́ ні хо́дзіць.* Запруддзе.

**СЯДУ́ХА** *ж.* Курыца-квактуха. *Сяду́ха і піскля́тніца, іна́ кво́кчыць, сядзі́ць, ні нясе́цца, хо́дзіць, я́йца ні нясе́ць.* Станюкі.

**СЯДЫ́** *прым.* Сівы. *Въласы́ сядэ́я.* Ульянавічы.

**СЯЛЕ́ТНІ** *прым.* Гэтага года. *Сяле́тні цялёнък – у гэты́м го́дзе* [нарадзіўся]. Карпавічы.

**СЯЛЁДКА** *ж.* Селядзец, засоленая рыба. *Ра́ньшы на пост е́лі то́лькі сялёдкі, карто́шку.* Нямойта.

**СЯЛІ́БА** *ж.* Сядзіба. *Каб твая́ сялі́ба бы́льнікам зарасла́!* Запруддзе.

**СЯЛІ́ЦЦА** *незак.* Сяліцца. *Буцяны́ ня се́люцца, як чэ́раз тры кіло́метры.* Нямойта.

**СЯЛО́** *н.* 1. Сяло, вёска. *Ішла́ Купа́ла сяло́м, сяло́м, / Нісла́ гало́ўку пяро́м, пяро́м* (з песні). Запруддзе. 2. Жыхары сяла. *Усё сяло́ събра́лься.* Гарадзец. ◊ НА СЯЛО́. На вуліцу, да людзей. *Ма́ма, а ці мо́жна мне на ся́ло?* Запруддзе.

**СЯМЕ́ЙНЫ** *прым.* 1. Які мае сям'ю. *Як сяме́йнаму, то э́та нібальша́я ра́дасць.* Нямойта. 2. *перан.* Які расце ў мностве, калоніямі. *Бървікі – яны́ сяме́йныя, адзін ні расцэ́ць.* Пожанькі.

**СЯМЕ́ЙСТВЕННЫ** *прым. перан.* Які расце ў мностве, калоніямі. *Мъхвікі́ расту́ць ва мху і па бара́х, яны́ сяме́йственныя.* Сянно.

**СЯМЁНАЎНА** *ж.* Сямёнаўна (танец). *Усё танцава́лі: і сямёнаўну, і каро́бачку, і падыспа́нь, і мно́га чаго́.* Міцюкова.

**СЯМІГО́ДКА, СЯМІГО́ТКА** *ж.* Сямігадовая школа. *Пъсля вайны́ сяміго́дка была́ у нас.* Гарадзец. *Сяміго́тка была́, два гады́ рабо́таў там.* Ульянавічы.

**СЯМІРУ́ЧКА** *ж.* Від касы. *Къса́ бывá́іць сяміру́чка.* Сукрэмна.

**СЯМ'Я, СІМ'Я** *ж.* 1. Сям'я. *Мълацілі у два, чатыры цапы́, як у каго́ сім'я́.* Цясішча. СЯМЕ́ЙКА *ласк. Крапівы́ цыгу́н навару́, і ядзі́м – сяме́йка бальшэ́я.* Цясішча. 2. Сям'я пчол. *Пяць сяме́й пчол.* Вялікі Азярэцк. *У нас было́ там пчол две сям'і.* Леснікова, Запруддзе.

**СЯННІ́К** *м.* Матрац, набіты сенам ці саломай. *Сянні́к наткнэ́ць сало́май, дзяру́гай засцэ́ліць і ла́дна.* Алексінічы. *Пашыі́ш, сало́май напхнеш – і сяннік. Здо́рава было́ спаць!* Фасаўшчына.

**СЯННІ́ШНІ, СЯНЕ́ШНІ** *прым.* Сягонняшні, сённяшні. *Я дъ сянні́шніга дня яшчэ́ нічо́га ні дзе́лала.* Запруддзе. *Па сяне́шні дзень жыву́.* Сукрэмна.

**СЯННЫ́** *прым.* Прызначаны для сена. *Пъдваро́тніцы у сянны́м трысцэ́ні.* Марозаўка.

**СЯРДЗЕ́ЧНІК** *м.* Буйміна (расліна). *Сярдзэ́чнік – дро́бненькая трава́, то́чна се́рца.* Каралі. *Сярдзэ́чнік – жо́ўценькі ду́жа дро́бненькі цвято́чак, а ко́рань – то́ўсценькі, як заліва́юць спіртам ро́завенькі стано́віцца.* Запруддзе, Багданава, Нямойта.

**СЯРДЗЕ́ЧНІЦА** *ж.* Жанчына, хворая на сэрца. *Растаўсцэ́лася: сярдзэ́чніца яна́.* Запруддзе. *Яна́ была́ сярдзэ́чніца. За ёй дзет, му́сіць, церас ме́сяц памёр.* Партызаны.

**СЯРДЗІ́ТЫ** *прым.* 1. Сярдзіты, злосны. *Калі́ сярдзі́ты чълаве́к нъ каго́.* Запруддзе. 2. Які злуецца, гневаецца. *Дзівітна́ццаць гадо́ў пражыла́ і дзе́сіць міну́т сярдзі́тая ні была́.* Нямойта. 3. *перан.* Марозны (пра зіму). *Крэ́пка сярдзі́тая зіма́ была́.* Вялікі Азярэцк.

**СЯРНІ́ЧКІ** *мн.* Запалкі. *Сярні́чкі ні ко́жан меў.* Фасаўшчына.

**СЯРО́Д** *прысл.* Пасярод (чаго-н.). *Скаме́йку паста́віла сяро́д ха́ты.* Нямойта.

**СЯРО́ЖКІ** *мн.* Завушніцы. *Златэ́я сяро́жкі у пада́рак дала́.* Нямойта.

**СЯРЭ́ДЗІНА** *ж.* 1. Сярэдняя частка чаго-н. *Сярэ́дзіна дзярэ́ўні ахраня́лася, а канцы́ усе палілі.* Баравікі. 2. Нутро. *Сярэ́дзіна балі́ць: сагну́ўшыся сядзі́ш і сядзі́ш.* Гарадзец. *У міне́ ў сярэ́дзіне ўсё як абарва́лася.* Багданава, Дольдзева, Запруддзе.

**СЯСТРА́, СІСТРА́** *ж.* Сястра. *У мяне́ пяць сясцёр было́.* Ракаў Засценак, Леснікі, Ульянавічы. *Сястра́ мая́ прые́хала.* Запруддзе. *Сістра́ за мно́ю сядзе́ла, за парціза́ны.* Алексінічы, Багданава. *А на табе́, сістра́, зло́та, се́рабра / І къня́ варано́га. / А едзь, сістра́, купчу́ючы, / А мы пайдзём жабру́ючы* (з песні). Буй. СЯСТРЫ́ЧКА, СЯСТРУ́ЛЬКА *ласк. Іна́ ш маладзе́йшая сястры́чка.* Заазер'е. *Ро́дныя сястру́лькі, і абіза́цільна паруга́юцца.* Латыгаль.

**СЯСТРУ́ШКА** *ж.* Дваюрадная сястра. *За мо́стам сястру́шка жыве́ць.* Багданава.

**СЯСТРЫ́ЦА** *ж.* Ласкавы зварот да жанчыны. *Сястры́ца мъя дъръга́я.* Міцюкова.

**СЯЎБА́** *ж.* Сяўба. *Сяўба́ на́ зіму нъчына́іцца.* Нямойта.

**СЯЎБІ́Т** *м.* Сейбіт. *Сяўбі́т – той, хто се́е.* Серкуці.

**ТАБА́К** *м.* 1. Тытунь (расліна). *Тъба́к се́ялі, у пук звя́жам – со́хніць.* Жохава. 2. Высушанае і нарэзанае лісце і сцёблы тытуню, якія ідуць на курэнне. *У шарсцяны́я пакрыва́лы, каб іх не пае́лі, у адзе́жы кладзём таба́к.* Фасаўшчына. *Самаго́нкі наго́ніць з куры́ным памётам, таба́кам.* Нямойта.

**ТАБА́КА** *ж.* 1. Тытунь (расліна). *Тъба́ка-съмасе́йка была́, дъ вайны́ садзілі.* Гарадзец. 2. Высушанае і нарэзанае лісце і сцёблы тытуню, якія ідуць на курэнне. *Тъба́ку куры́лі, у пі́пкі нъкладу́ць.* Багданава. *У вайну́ таба́кі ні было́.* Заазер'е. *За шчаку́ тъба́кі насы́піць і ссець ту́ю тъба́ку.* Гарадзец, Жохава, Міцюкова, Нямойта, Дуброўкі.

**ТАБАЛА́** *ж.* Балаболка, пустамеля. *Ой, табала́, гаво́рыць і гаво́рыць.* Дуброўкі.

**ТАБА́ЧНЫ** *прым.* Колеру тытуню; тытунёвы. *Ніці таба́чнага ко́леру.* Запруддзе.

**ТАБЛЕ́ТКА** *ж.* Таблетка. *А тэ́я лу́ччыя табле́ткі.* Нямойта.

**ТАБУ́Н** *м.* 1. Табун, статак. *Табу́н ко́ней, аве́чак.* Розмыслава. 2. *перан.* Натоўп. *Снег дало́ў – маладзёж табуна́мі ў нас* [гуляе]. *Там табу́н людзе́й стаі́ць – караго́д.* Нямойта. 3. Кампанія, хаўрус. *Цэ́лым табуно́м на тры ме́сяцы пае́дуць на юг.* Нямойта. 4. У вялікай колькасці. *Табуно́м жукі́ ляця́ць, а дзе́ці мятло́й.* Нямойта.

**ТАБУНІ́ЦЦА** *незак.* Хадзіць гуртам, зграяй. *На ваўчы́нную сва́дзьбу ваўкі́ табуня́цца.* Леснікова.

**ТА́ВАЛГА** *ж.* Медуніца (расліна). *Вот э́та та́валга, медуні́ца.* Серкуці.

**ТАВАЛЕ́Т** *м.* Прыбіральня. *Зъ хлявő́м ёсь тавале́т.* Неўгадава.

**ТАВА́Р** *м.* Тавар. *Даўне́й тъва́р прыво́зілі ў мъгазі́н.* Серкуці.

**ТАВА́РЫШ** *м.* Сябра. *Я быў каню́ тъва́рыш: вазьму́ нагу́ каню́ къва́ць у кале́нькі і ску́лу вы́рвець.* Ульянавічы.

**ТАГАНЫ́** *мн.*, **ТАГА́Н** *м.* Трыножнік для палатнянай люлькі. *Тъганы́ – дзіця́ калыха́ць, як жа́лі – насілі, тры па́лкі звіза́ць уверху́, паве́сіць – тъганы́.* Вялікі Азярэцк. *Тъганы́? У таганы́ лю́льку пълътня́ную ве́шаюць.* Фасаўшчына. *У лю́льках таганы́ былі. Тъганы́ – калі́ на по́ля хадзілі.* Гарадзец, Дольдзева, Каралі. *Тъга́н мой хазя́ін рабіў так: ра́мку з до́сак абшываў палатно́м, а у по́лі казў ста́віў.* Заазер'е. *Тага́н зва́лі – абручо́к, тра́пачкай абшы́іш і – глыбе́й так. Тады́ дзіцёнка пало́жуць і паве́сяць на куст.* Запруддзе, Багданава, Каралі.

**ТАДЫ́**, **ТАДЭ́Й** *прысл.* 1. У той час. *Тады́ ж машы́н ніякіх ні было́.* Багданава. 2. Тады, пры такой умове. *Заліва́ю кіпятко́м апе́нкі, тады́ у чыгу́н мно́га ле́зіць.* Сяргейкі, Багданава. 3. Тады, потым. *А тадэ́й мы пашлі́.* Багданава. *Ма́ма мне не дава́ла мыць, паку́ль Дзяды́ ня бу́дуць, тады́ то́лькі мыць дава́ла.* Багданава[1].

**ТАДЫ́ШНІ** *прым.* Тагачасны. *Тады́шняе ўрэ́мя калісі усё рабілі са́мі.* Запруддзе.

**ТАІ́ЦЦА** *незак.* Утойваць, хаваць. *Тагда́ таі́уся, што з по́лькай жыве́ць.* Міцюкова.

**ТА́ЙНЫ** *прым.* Схаваны, патаемны. *А ра́дам быў та́йны ако́п, я аткры́ла ако́п: вылізá́йця кра́сных устрыча́ць.* Леснікова.

# Т

**ТАК** *прысл.* 1. Так, такім чынам. *Так ка́жны год грыбо́ў бага́та.* Пожанькі. 2. Так, гэтак. *Выезны́я – так ле́йцы называ́юць.* Гарадзец, Запруддзе, Нямойта, Серкуці.

**ТАКАВІ́ШЧА** *н.* 1. Месца, дзе быў ток. *Астало́ся такавішча, дзе ток стая́ў,* [ток] *згарэ́ў.* Партызаны, Нямойта. 2. Месца каля гумна, дзе складваліся снапы. *Такавішча было́ ля то́ку, дзе скльда́лься зярно́* [снапы збожжа]. Гарадок.

**ТАКА́РНЫ** *прым.* Такарны станок. *Хазя́ін рабо́таіць на тька́рным.* Гарадзец.

**ТАКАЎНЯ́** *ж.* 1. Будынак гумна. *Як ток дзе́лалі? Зру́біш тыкаўню́, сцэ́ны вы́гыніш, прывязе́ш гліны, пяску́, ізвісці.* Міцюкова. 2. Месца, дзе стаяла гумно. *Ме́сца, дзе стая́ла гумно́, такаўня́ завём.* Закур'е, Міцюкова.

**ТАКЕ́ЧКІЙ** *прым.* Малюпасенькі. *Сьба́чка во таке́чкій.* Пожанькі.

**ТАКІ́, ТАКЕ́Й** *займ.* Такі. *Яна́ спра́шыіць: «Хто такі?»* Міцюкова, Нямойта, Закур'е. *Ячме́нь быў во таке́й!* Леснікова. *Таке́м па<sup>ъ</sup>ма<sup>ъ</sup>га́юць, як інвалід вайны́.* Апечкі. *Забы́лыся* [як называюцца] *кусты́ таке́я.* Хамінічы.

**ТАКІ́М ЧЫ́НАМ** *прысл.* Такім чынам. *Завёў кьня́ ў капліцу і прывіза́ў гьлаву́ вы́шы, каб ні рзаў, і такі́м чы́нам спёрлі кьня́.* Самсоны.

**ТАКСА́МА** *прысл.* 1. Таксама. *У нас такса́ма былі не́мцы: пост быў тут.* Гарадок. 2. Так, гэтак жа. *У Расіі такса́ма, як і ў По́льшчы.* Вялікі Азярэцк. *Тькса́ма так там і ў дачкі.* Гарадзец, Жохава, Кляпчэва.

**ТАК-СЯ́К** *прысл.* 1. Нияк. *Так-ся́к зімо́й абмы́іся, а ле́там у Сянно́ ў ба́ню хаджу́.* Сукрэмна. *Вераб'і наха́льныя, так-ся́к пражыву́ць.* Гарадзец. 2. Крыху. *Так-ся́к тро́шку патчы́сціш* [хату], *бага́цце нібальшо́я.* Леснікова, Гарадзец.

**ТАКТ** *м.* ◊ У ТАКТ. Разам, у адным рытме. *Малацілі цапа́мі ўдваіх у такт.* Гарадзец.

**ТАЛАКА́** *ж.* Звычай сумеснай дабрачыннай працы, а таксама група людзей, якая яе выконвае; талака. *Пры́ме́рна ў дзярэ́ўні мы жывём сем хат; па во́чарадзі выво́зім наво́с, ты́я прые́дуць ка мне – сем кане́й, а мой во́сьмы, усе́ агу́лам вы́вязім мне, а тады́ – другі́м. Вот э́та называ́лася тьлька́.* Фасаўшчына, Багданава, Запруддзе, Марозаўка, Самсоны, Чуцькі.

**ТАЛАКНО́** *н.* 1. Мука з ачышчанага пражанага аўса. *С аўса́ талакно́ дзе́лалі: мало́лі, па́рылі яго́.* Рэчкі, Гарадзец, Запруддзе, Леснікова, Міцюкова. 2. Страва, прыгатаваная з такой мукі. *Мька́ім бліна́мі ў талакно́, да сма́чна.* Запруддзе. *Ячме́нь, пшані́цу, авёс па́рыш у пе́чы, тады́ вы́сушыш у пе́чы, сту́па дзервя́нная і два таўкачы́ былі, аптаўчэ́ш, што го́ленькіе, пала́еш, зме́ліш, вады́ валле́ш, со́лі – талакно́, ясі.* Леснікі.

**ТАЛА́НІЦЬ** *незак.* Балаваць. *Жысь яе́ ні тала́ніла.* Закур'е.

**ТАЛАЧЫ́ННІК** *м.* Талакнянка (расліна). *Талачы́ннікам кра́сілі ніткі.* Каралі.

**ТАЛЕ́РКА, ТАРЭ́ЛКА** *ж.* Талерка. *Тале́рак ні было́, міскі стая́ць на стале́.* Буй. *Ні гарэ́лкі, ні тале́ркі – нічо́га німа́.* Партызаны, Нямойта. *Тарэ́лка бліно́ў была́.* Багданава.

**ТА́ЛІСТЫ** *прым.* Які мае прыгожы стан, тонкую талію. *Я яе́ прадстаўля́ла стро́мкай, та́лістай.* Нямойта.

**ТАЛО́ЧЫНЕЦ** *м.* Жыхар Талачына. *Тало́чынцы сусе́дзюць з на́шым раёнам.* Міцюкова.

**ТА́ЛЬКА** *ж.* 1. Самаробныя ніткі вышэйшага гатунку. *Та́лькі – ніткі то́нкія, мы́чкі грубе́й тка́лі.* Розмыслава, Вялікі Азярэцк. 2. Сукаратка, патаўшчэнне

на нітцы. *Ой, та́льку пусьціла, – гэ́та гузо́к гэ́ты. Во спры́тна прадзе́ць, што німа́ ні анно́й та́лькі.* Закур'е.

**ТАМ, ТА́МА** *прысл.* Там. *Зімля́ там ста́ла лу́ччы ўжо радзіцца.* Самсоны. *У віры́ там бяллё мы́ла.* Буй. *Ты ш там пакінь на рашчы́ну, каб ні высыха́ла дзе́шка.* Серкуці. *Ім та́ма далі ха́ту.* Парэчча, Багданава, Заазер'е, Запруддзе, Леснікова, Станюкі, Неўгадава.

**ТА́МАКА** *прысл.* Тое ж. *Ідзі, та́мака твой дзяцёнък.* Дуброўкі.

**ТА́МАЦЬКА, ТА́МЫЦЬКА, ТА́МЭЦЬКА** *прысл.* Тое ж. *Та́мацька і сын жыве́ць.* Запруддзе, Багданава, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Міцюкова, Свечы, Закур'е. *Та́мыцька грыбы́ радзілі.* Міцюкова, Багданава, Вялікі Азярэцк, Неўгадава. *Та́мэцька стары́я лю́дзі.* Вялікі Азярэцк. *Та́мэцька хле́ба кусо́чък дава́лі с сабо́й.* Багданава.

**ТА́МБАР, ТА́НБУР** *м.* Кручок для вязання. *Та́мбар – кручо́к кружъва́ віза́ць.* Дольдзева. *Та́нбур – ге́та такі кручо́к, што кру́жаўца вя́жуць.* Алексінічы. ТА́МБУРЧЫК *памянш. Та́мбурчыкамі вяза́лі салфе́ткі.* Розмыслава.

**ТА́МБУРКА, ТА́НБУРКА** *ж.* Тое ж. *Та́мбурка вяза́ць салфе́ткі.* Розмыслава. *Та́нбуркай вяза́лі падзо́рнікі.* Каралі. ТАНБУ́РАЧКА *памянш. На́да ўмець танбу́рачкамі ўкінъць у ніцікі, як у пітна́ццаць тка́лі ска́ціркі.* Неўгадава.

**ТАМІ́ЦЦА** *незак.* Стамляцца. *На та́нцах не тамі́лася.* Цясішча.

**ТАМІ́ЦЬ** *незак.* Ахопліваць, непакоіць. *Ста́ла сла́бась таміць.* Манголія.

**ТАНЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш тонкі. *С таўсце́йшага сукна́ шы́лі штаны́ на ка́жды дзень, с тане́йшага – на выхадны́.* Нямойта.

**ТА́НКА** *ж.* Танк. *Дзве та́нкі но́ччы акружы́лі парціза́ны. У та́нку вы́страліў не́міц і ўбіў парціза́на.* Партызаны, Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ТАНКАТА́** *ж. зб.* Тонкія ніткі. *Нацягніць не тых двана́ццаць гу́бак танкаты́ ў адно́ бёрда.* Багданава.

**ТАНУ́ЦЬ** *незак.* Тапіцца. *Лёд някрэ́пкі, ста́лі тану́ць.* Нямойта.

**ТАНЦАВА́ЦЬ** *незак.* 1. Танцаваць. *Калі танцу́еш і пяеш ва сне – ніхарашо́, ніпрыя́тнась* (павер'е). Каралевічы, Кляпчэва, Нямойта. 2. *перан.* Дагаджаць, гадзіць. *Чаго́ вы бу́дзіце калъ нас тънцъва́ць.* Кляпчэва.

**ТАНЦО́РКА** *ж.* Жанчына, якая добра танцуе. *Во гэ́та харашо́ паёць, сьпіва́чка, танцо́рка.* Запруддзе. *Іс по́лькі ні выхадзіла с кру́гу – танцо́рка была́.* Багданава, Закур'е.

**ТАНЦУ́ЛЬКІ** *мн.* Танцы. *І танцу́лькі былі.* Нямойта.

**ТАПАРЫ́ШЧА** *н.* Тапарышча. *Е́та тапары́шча, наве́рх наса́джвалі тапо́р.* Гарадзец. *Тапары́шча дзірвя́нная, тапары́шча мо́жна з бярэ́зіны дзе́лаць.* Жохава, Запруддзе, Нямойта.

**ТАПАРЭ́ЧКА** *н.* Тое ж. *Два тапары́ насадзіць на́да: тапарэ́чкі палама́лісь.* Нямойта.

**ТАПІ́ЦЦА** *незак.* Тапіцца. *Тут дрыгва́ бы́ла, во́кны былі, тапілісі.* Запруддзе. *Я тапілася, і с таго́ ста́ла баяцца.* Багданава, Манголія, Леснікова, Нямойта.

**ТАПІ́ЦЦА, ТАПЕ́ЦЦА** *незак.* 1. Гарэць, тапіцца (у печы). *Тапе́лася пе́чка.* Багданава. 2. Ацяпляцца. *Гады́ тры-чаты́ры тапілася уну́ка дръва́мі.* Закур'е.

**ТАПІ́ЦЬ** *незак.* Паліць (у печцы), ацяпляць. *Які́я дро́вы ёсць, такімі і тапілі пе́чку. У нас абы́чна то́поюць* [лазню] *у Чы́сты чэ́цвер, а цяпе́р абы́чна па субо́тах.* Багданава, Нямойта. *Пе́чку то́піш, натапля́іш, адга́рнаіш углі напе́рат.*

Карпавічы, Галашчакіна, Заазер'е, Леснікі, Станюкі. *Ёўня былá, там тóпюць, мнуць лён у мялку.* Буй.

**ТАПІ́ЦЬ** *незак.* 1. Стварожваць, адтопліваць (малако). *Плéўка на малацэ́, як атстóіш, тапіць ягó нáда.* Заазер'е. 2. Заварваць. *Ад залатýхі травý тóпюць і п'юць.* Запруддзе. *Ня мóчацца дзéці, ня мóжыць папісаць, дык тóпяць і даюць піць трыпýтнік.* Станюкі. *Малíннік тапілі ад кáшлю, ат прастýды.* Багданава, Мянюцева.

**ТАПЛЕ́ННЕ** *н.* Патоп. *Як цяпéр Бóга ні памінáюць, то і наваднéнне, таплéнне, гáзы.* Цясішча.

**ТАПЛЁНКА** *ж.* 1. Таплёнае малако. *Таплёнка – éта малакó с пéчы.* Нямойта, Запруддзе. *С маълакá-таплёнкі пéнку сабірáюць.* Партызаны. 2. Пенка на малаку. *Таплёнка – пéнка тóўстая, у пéчы пéнка вы́расцець.* Багданава, Міцюкова, Нямойта, Партызаны.

**ТАПЛЁНЫ** *прым.* Таплёны (пра малако). *У лáдкі – мóжна лліць таплёнае малакó.* Заазер'е.

**ТАПО́Р** *м.* Сякера. *Тапарóм пасякý, падзяўбý свінням гарбузы́.* Гарадзец, Міцюкова. ТАПАРО́К *памянш. Нóжэм абрэ́жыць, тапаркóм мяса пасячэ́ць.* Гарадзец, Нямойта.

**ТАПТА́** *ж.* Тафта. *Там тры крэ́слы, таптá.* Каралевічы.

**ТАПТА́ЦЬ** *незак.* Апладняць. *Пятýх курэ́й тóпчыць, калі ня тóпчыць, яйцы няпéўные.* Вялікі Азярэцк.

**ТАПТУ́Н** *м.* Адзін з відаў рыбалоўнай сеткі; таптуха. *Таптýн як нарóт, тóлька аткры́та. Я́джгура таптунóм лавілі.* Багданава. *Таптунóм лóвюць, трэугóльны.* Фасаўшчына, Дольдзева, Заазер'е, Партызаны. ТУПТУНО́К *памянш.-ласк. Яджгурá туптункóм лавілі.* Сянно.

**ТАПТУ́Н** *м.* Непаваротлівы, павольны ў працы (пра чалавека). *Тóпчыцца, як таптýн, на адны́м мéсці дзень.* Запруддзе.

**ТА́ПУЧКІ** *мн.* Тапачкі. *Тáпучкі нóвыя надзéла.* Неўгадава.

**ТАПУ́ЧЫ** *прым.* Багністы, дрыгвяністы. *Балóты траслíся, бярэ́знік такі тапýчы, кусты́ былі, і вóкны былі там.* Запруддзе.

**ТАПЧА́Н** *м.* Услон. *Тапчаны́ тут стаяць.* Ульянавічы.

**ТАРАБА́НІЦЬ** *незак. перан.* 1. Гучна разам гаварыць. *Търъбáнюць, кап спаць ні хацéлъся.* Дольдзева. 2. Тараторыць, балбатаць, малоць языком. *Я п тут і дзень тарабáніла.* Серкуці.

**ТАРАДО́ЛІЦЬ** *незак.* Гаварыць без перапынку, балбатаць, малоць языком. *Скóлькі търадóлю, а гълъвá не балíць.* Жохава.

**ТАРАДЭ́ІЦЬ** *незак.* Тое ж. *Тарадэ́іць, трашчы́ць тóлькі – як вóйдзіць, так і гавóрыць.* Гарадзец.

**ТАРАКА́Н** *м.* Таракан. *Пасля въйны́ таъраъкáны былí, рáзве цяпéр у гóрад увалíліся?* Вялікі Азярэцк.

**ТАРА́Н** *м.* 1. Сушаная рыба; таранка. *І сялёдку, і тараны́ éлі, адпасцілі сем нядзéль.* Самсоны. *Пóснае éлі з бóбам, сялёткі, тарáн.* Леснікова, Закур'е. 2. Пра сухарэбрага, вельмі худога чалавека. *Вы́сах, як тарáн.* Вялікі Азярэцк.

**ТАРБЕ́ШНІК** *м. эмац.-ацэн.* Пабіруха, папрашайка. *Ідзíця, тарбéшнікі стáлінскія!* Заазер'е.

**ТАРГАНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Таргануцца, тузануцца (пра каня). *Конь тарганéць – бóчка шусь с сáнак.* Вялікі Азярэцк. 2. Піхнуць. *Дык як тарганýў ён у вóду гэ́тую злы́дню.* Вялікі Азярэцк.

**ТАРГА́ЦЦА** *незак.* Пачынацца, адбывацца. *Въйнá... хоць бы інá больш ні търгáлься.* Ульянавічы.

**ТАРГЕ́ЛЬ** *выкл.* Піхнуць, штурхнуць. *Мальчы́шку вы́садзілі з я́мы, а там нéмцы. Я таргéль ягó нъзáт. Я ягó за нóгі таргéль, і ўніз, у я́му.* Леснікова.

**ТА́РКА** *ж.* Тарка, драчка. *На тáрцы дзéрлі дзярóннікі.* Гарадзец, Багданава, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Каралевічы, Ракаў Засценак.

**ТАРКАНУ́ЦЬ** *зак.* Садануць, пырнуць. *А чагó памёр? Карóву прагнáў, жнівó пеў на вýліцы, мóжа хто ямý тарканýў што.* Апечкі.

**ТАРКА́ЦЬ** *зак.* Уторкваць, устаўляць. *Май търкáюць на Дýха.* Гарадзец, Апечкі.

**ТАРМАЗНУ́ЦЬ** *зак.* Спыніць. *Янá б ягó тармазнýла.* Чуцькі.

**ТАРНУ́ЦЬ** *зак.* Пырнуць, садануць. *Тарнéць нóжам.* Ульянавічы.

**ТАРПІ́НА** *ж.* Адно звяно прасла (?). *Дзéсецъ тарпін, у кóжнъй тарпíне…* [тэкст не скончаны]. Баравікі.

**ТАРХАМУ́ДЗІЯ** *ж. экспр.* Адзенне. *Уся́ тархамýдзія на ём зъгранíшнъя.* Сянно.

**ТАРХАНУ́ЦЬ** *зак.* Працяць, з’явіцца (пра адчуванне). *Штó-та тарханýла, не мог есць. А ягó жóнка у гéты час затапíлася.* Каралевічы.

**ТАРЧА́ЦЬ**, **ТАРЧЭ́ЦЬ**, **ТЫРЧА́ЦЬ** *незак.* 1. Вытаркацца, тарчаць. *Убáчылі: у лумíні нóгі тырчáць, там бáбу нашлí.* Каралі. *Там хрэст тарчэ́ў, дзе цэ́рква пратанýла.* Чуцькі, Багданава. 2. Знаходзіцца, быць. *Тарчы́м, як стóраш нат капéшкъй, мóкрае сéна.* Забор’е. *Лéта я п ужó тарчэ́ла тут.* Кішуроўшчына.

**ТАСЁМКА** *ж.* Тасьма, завязка. *Тасёмкі завя́жаць у рубáшцы халшчавóй.* Каралі. ТАСЁМАЧКА *памянш.* Стужачка. *Нарвёш вýзенькіх тасёмачак, кручкí, і вя́жыш кругí* [палавік круглай формы, звязаны з ануч] *такíя.* Запруддзе.

**ТА́ТА** *м.* Бацька. *Тáта быў членам сельсавéта.* Серкуці, Багданава, Гарадзец, Забор’е, Леснікова, Партызаны. ТА́ТКА, ТА́ТАЧКА, ТАТУ́ЛЬКА *ласк. Тáтка мой, што éта такóе.* Ульянавічы. *Тáта звáла, а ласкáва татýлька.* Леснікі. *Тáтъчка мой рóдніңькі!* [у звароце да дзіцяці, а таксама пры звароце да памерлага]. Міцюкова.

**ТАТУ́СЬ**, **ТА́ТУСЬ**, **ТАТУ́СЯ** *м.* Хросны бацька. *Ён Тъмáру крысціў – татýсь ён.* Багданава. *У свáты прыязджáлі і татýсь, і дзя́дзька.* Вялікі Азярэцк. *Татýсь наш з раскулáчъный сям’í.* Рэчкі. *Матýся і тáтусь хрóсныя.* Запруддзе. *Бярýць татýсю, стары́х брáлі, і маладзён íдзець.* Вялікі Азярэцк. *Матýся і татýся пяклí кървáй на вясéлля.* Ракаў Засценак.

**ТАЎКА́Ч**, **ТУЎКА́Ч** *м.* Прылада з патоўшчаным круглым канцом, якой таўкуць што-н.; таўкач. *У стýпе крупý таўклí таўкачóм.* Марозаўка. *Таўкáч быў і стýпа.* Партызаны, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Леснікова, Марозаўка, Неўгадава. *Туўкáч у стýпе крýпы таўчы́, дзірвя́нны такí, засыпáлі ячмéню, таўклí.* Леснікі, Жохава. ТАЎКАЧО́К, ТАЎКА́ЧЫК *памянш. Таўкачкóм усё растаўчэ́цца.* Гарадзец. *Таўкáчыкам ні ўсё таўчэ́ння.* Гарадзец.

**ТАЎКА́ЧЫКІ**, **ТУЎКА́ЧЫКІ** *мн.* Хвошч палявы (расліна). *Таўкáчыкі па нíвах раслí, а патóм здзéлаецца ёлачкай і расцéць.* Каралі. *Таўкáчыкі свíнням рвáлі.* Багданава. *Таўкáчыкі растýць найбóлей, дзе пъпáр.* Багданава. *Туўкáчыкі з шы́шачкай кары́чневай.* Запруддзе. *Éта туўкáчыкі, вяснóй на іх тъўкáчыкі, а цяпéр ёлачка.* Кавалі.

**ТАЎПІЦЦА** *незак.* Тоўпіцца. *У хаце таўпіліся усе.* Партызаны.

**ТАЎСЦЮЧЫ** *прым.* Таўшчэзны. *Ёсць таўсцючы віцінар.* Гарадзец.

**ТАЎХАНУЦЬ** *зак. перан.* Цюкнуць, раптоўна з'явіцца (пра думку). *А тады мне як хто тъўханўў: а можа тое, што баба мне късала.* Партызаны.

**ТАЎЧОНІК** *м.* Праснак з тоўчанай бульбы. *Бульбу нъпаруць у мундзюрах, палупюць і таўкуць, късаюць у муцэ, і ў печ садзілі – так пяклі таўчонікі.* Запруддзе. *Бульбу парыць, лупіць, таўчы з пшонную мукой, ръскачуваць качулкай і нъ сквародку. Таўчонікі.* Дольдзева, Фасаўшчына.

**ТАЎЧЫ, ТАЎКЦІ** *незак.* 1. Таўчы, мяць. *Дзежачка была для хлеба, а цяпер пъръсятам бульбу таўку.* Нямойта. *У ступу крупы таўклі тъўкачком.* Марозаўка, Гарадзец, Каралі, Чуцькі. 2. Танцаваць пэўным чынам. *Таўкуць у танцы мальцы.* Неўгадава. ◊ МАК ТАЎЧЫ (ТАЎКЦІ). Мітусіцца ў паветры плоймай, клубком. *Камары мак таўкуць.* Рулёўшчына. *Камары мак таўкуць. Як нізенька таўкуць, будзіць лён маленькі, а як вісока – будзіць бальшы лён* (прыкмета). Ракаў Засценак. *На пагоду, цёпла будзіць: к'мары мак таўкуць.* Гарадзец.

**ТАЎЧЫСЯ** *незак. экспр.* Ваяваць. *Мы с Фінляндзіяй таўкліся тры месяцы.* Вялікі Азярэцк.

**ТАЎШЧЫНЯ, ТАЛШЧЫНА** *ж.* Паўната (пра чалавека). *Нам можна падзяліцца: вашай таўшчыні – мне. Каб трошачку мне вашай талшчыны.* Нямойта.

**ТАХАЦЬ** *незак.* Стукаць, біць. *Па вакне тахаюць дзеці.* Манголія, Ракаў Засценак. ТАХ. Нечакана стукнуць, ударыць. *Шчаўка тах – і пайшоў поп.* Ульянавічы. *Я так сяджу, а дъчка так, і пярун тах, аш сьвет у провыт.* Міцюкова.

**ТАХНУЦЬ** *зак.* Ударыць, стукнуць. *Ашалеў, таъпаром дзверы сячэць, мог бы тахнуць маймў мужыку.* Ракаў Засценак.

**ТАХ-ТАХ** *выкл.* Раз-пораз паблісквацьь (пра гром, маланку). *У бапку села, сядзім, а граза – тах-тах.* Сукрэмна, Ульянавічы.

**ТАЦЦЯНІН** *прым.* ○ ТАЦЦЯНІН ДЗЕНЬ. Дзень у студзені ў гонар Святой Таццяны, апякункі студэнцтва. *Таццянін дзень быў, праздраўлялі яе, но я ня помню, якоя чысло: па-мойму ў начале марта.* Нямойта.

**ТАЧКА** *ж.* Тачка, невялікі вазок. *Зяць здзелаў тачку.* Вялікі Азярэцк. *Тачку дзе возьмуць, бульбу прывязуць.* Нямойта, Каралевічы.

**ТАЧКІ** *прым.* Вельмі малы. *У нас мышы тачкея во.* Сянно.

**ТАЧЫЛА** *н.* Прылада для заточвання; тачылка. *Тачыла – тачыць нажы, тапары.* Запруддзе, Гарадзец. ○ ВАДЗЯНОЯ ТАЧЫЛА. Тачыла, заточванне якім рабілася з выкарыстаннем вады. *Вадзяноя было тачыла, як казёл. Карыта стаіць, у карыці вада ллецца, ручкай круціш тачыла, камень абыкнавенны. Ён на валу зганяіцца, заклінобўваіцца камень наждачны.* Запруддзе.

**ТАЧЫЦЦА** *незак. перан.* Уціскацца, шчаміцца. *Як чарвяк, точысся і точысся.* Жохава.

**ТАЧЫЦЬ** *незак.* Вастрыць, заточваць. *Маліц пілу точыць.* Жохава. *Вярцёны тачылі* [гэта рабілі звычайна на такарным станку]. Фасаўшчына. ◊ БАРБУ ТАЧЫЦЬ. Сварыцца. *Кінылі вазіць гарэлку, то цяпер барбу точаць, сваруцца.* Неўгадава.

**ТАЧЭННЕНЬКІ** *прым.* Малюпасенькі. *Во тачэнненькую малюсенькую бульбу сеялі.* Партызаны.

**ТАЧЭНЯЧКІ, ТАЧЭНІЧКІ** *прым.* Тое ж. *Тачэнячку* [бульбу] *пакрышыць.* Ульянавічы. *Ва тачэнічкаыя бульба!* [дробная]. Ракаў Засценак.

**ТАШНІ́ЦЬ** *незак.* Ванітаваць, ірваць. *У яго́ ката́р жалу́дка: ча́ста ташні́ць.* Гарадзец. *Як ташні́ць чалаве́ка, то му́тарна.* Марозаўка, Сянно.

**ТАШНО́ТЫ** *мн.* Ванітаванне, ірвота. *Ста́лі ташно́ты.* Кляпчэва.

**ТАШНО́ЦІКІ** *мн.* 1. Перамёрзлая бульба. *Бу́льбу там събіра́юць, яка́я перамёрзла за зіму, ташно́цікі называ́лася.* Фасаўшчына, Багданава, Партызаны. 2. Бліны з гнілой бульбы. *Бліны́ пячо́м, ташно́цікі, з гніло́й бу́льбы.* Марозаўка, Кляпчэва, Нямойта.

**ТАШЧА́К** *м.* Нізкай катэгорыі (пра жывёлу). *Гла́ткі скот тъшчако́м пъста́вілі.* Пожанькі. *Здзе́лъюць тъшча́к і пло́цюць дзівяно́ста сем капе́ік.* Закур'е.

**ТАШЧО́НІКІ** *мн.* Перамёрзлая бульба. *Ташчо́нікі пъсабіра́еш, налу́піш і пячэ́ш ла́дкі.* Замошша.

**ТВАРО́Г** *м.* Тварог. *На́да, штоб тваро́г забрадзі́ўшы быў.* Галашчакіна.

**ТВАРЫ́ЦЦА** *незак.* Рабіцца, адбывацца. *Пайду́ пагляджу́, што там твары́цца.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк.

**ТВАРЫ́ЦЬ** *незак.* Вытвараць. *Хто што хо́ча, то́е і твары́ць.* Апечкі. *Чо́рта твары́лі, як былі малады́я.* Партызаны, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Запруддзе.

**ТКАННЁ** *н. зб.* Тканіна, вытканая ў хатніх умовах, і вырабы з яе. *Ткannё гэ́та я відзела, у ба́бушак было́. У яе́ мо́жа і тканнё гэ́та ёсць.* Станюкі.

**ТКА́НЫ** *прым.* 1. З даматканага палатна. *Тка́ны армя́к: сукно́ тка́лі і шы́лі.* Савінічы. *Гэ́та ўсё бува́лашняе: рушнікі́ тка́ныя, пасці́лкі.* Вялікі Азярэцк, Багданава. 2. *н.* Зробленае з даматканага палатна. *Тка́нае усё насі́лі.* Леснікова. *То́лька тка́нае было́.* Каралі.

**ТКАНЬ** *ж.* Тканка. *Нага́ атка́зываіць: тка́ні паўрэжодзены́.* Латыгаль.

**ТКАЦЬ** *незак.* Ткаць. *Рушнікі́, пасці́лкі ду́жа красі́ва тка́лі.* Буй, Карпавічы, Леснікі, Цясішча, Неўгадава. *Тка́ла ў чаты́ры панажы́. Спанні́цу са зрэ́б'я тка́лі. У паўдэ́сікі тка́лі пасці́лкі.* Багданава.

**ТКАЦЬ** *незак.* 1. Саваць, сунуць. *Ні ткай па́льца у чужы́я дзве́ры, без цябе́ ръзбяру́цца.* Ульянавічы. 2. *перан.* Расходаваць, траціць (пра грошы). *Нашто́ гро́шы ткаць на электрапастуха́.* Партызаны.

**ТКНУЦЬ** *зак.* Сунуць, даць. *Буты́лку гарэ́лкі ткнеш – здзе́лаюць.* Нямойта.

**ТЛАХ** *м.* Шлях, бальшак. *Шлях тут нібальшы́, лю́дзі на́шы яго́ тлах заву́ць.* Багданава.

**ТЛЕ́ЛЫ** *прым.* Спарахнелы. *Э́та тако́я тле́лае, унутры́, у дзе́раві, про́ста так сатле́іць.* Гарадзец.

**ТЛУМ** *м.* 1. Шум. *Не́йкі тлум у галаве́: ні магу́ згіна́цца.* Запруддзе. 2. Турбота, клопат. *Э́та тлум, э́та ле́хчы купі́ць, чым здзе́лаць.* Багданава. *Нашто́ мне такі́ тлум!* Гарадок, Каралевічы.

**ТЛУМАНІ́ННЫ** *прым.* Турботны, неспакойны. *Тлумані́нная, нінарма́льная жы́зня была́: мно́га чаго́ і пазабы́ўшысь.* Розмыслава.

**ТЛУМІ́ЦЦА** *незак.* 1. Турбавацца, клапаціцца. *Цяпе́р ні на́да тлумі́цца шыць – купі́ць мо́жна.* Нямойта, Гарадок, Запруддзе. 2. Зневажаць, здзекавацца. *Бу́дзіць тлумі́цца нат табо́й.* Запруддзе. 3. Гаварыць, расказваць. *Тлумі́цца ня бу́ду вам.* Нямойта.

**ТЛУМІ́ЦЬ** *незак.* 1. Дурыць галаву. *Ай, ні тлумі ты гълаву́.* Запруддзе. 2. Турбаваць, замінаць. *Ніхто́ ні міша́іць, ня тлу́міць, спако́йствія.* Гарадзец. 3. Абманваць, гаварыць пустое. *Ні тлумі́, ты ня віóдзіў!* Багданава, Запруддзе, Міцюкова, Фасаўшчына, Ульянавічы. 4. Глуміць. *Тлу́мюць усё цяпе́р.* Багданава.

**ТЛУ́ХАЦЬ** *незак.* Павольна, з цяжкасцю ісці. *Стары ўжо, і ход ня той, тлўхаіш, як карова тая.* Запруддзе.

**ТМІН** *м.* Кмен. *Тмін – калбасы прыпраўляць.* Буй.

**ТО** *займ.* Тое. *То яно і ё* [як працуеш, так тое і маеш]. Цясішча. *Што я чўла т* [ад] *людзей, то і гувару.* Дольдзева.

**ТО** *часц.* Так. *То хто кўпіць баню?* Неўгадава. *А то во некътрыя хадзілі, дык німа грыбоў.* Чуцькі.

**ТО́Е** *займ.* Так. *А было тое, што бсяком тъцъвалі.* Цясішча.

**ТО́Е-СЁЕ, ТО́Я-СЁЯ** *займ.* Тое-сёе, нешта. *А тут тое-сёе дзелаць нада.* Серкуці. *Як у каго ёсці: сала жаруць, бліны пякўць, суп варуць і тоя-сёя.* Багданава. *Тога-сёга у скрыню ўкінець.* Запруддзе. *З тым-сім звару суп, і ядўць.* Нямойта.

**ТО́ЖА** *прысл.* Таксама. *Рыжыкі, яны тожа, як зрэжыш, то мълако з іх.* Латыгаль. *І меншъя тожа учылысь харашо.* Нямойта, Гарадок.

**ТОЙ, ТЭЙ, ТЭ́Я, ТЭ́І** *займ.* Той, тыя. *У дзедушкі ў тога жылі.* Івоні. *Калі вераб'ёў, і тых мала стала.* Багданава, Нямойта, Кавалі. *Тэй жонцы боты пашыў.* Нямойта, Вялікі Азярэцк, Мянюцева. *У тэй хаце я жыла і свякроўка мая.* Сукрэмна. *На тэй гот аткроюць дзесяцігодку.* Вялікі Азярэцк. *У тэя гады бралі малэя ціляты.* Багданава. *А тэі – дзікія куры.* Багданава, Неўгадава. ◊ С ТАГО́. Пасля таго. *С таго я не хачў ў бальніцу.* Галашчакіна. ◊ ТА́Я ВАЙНА́. Першая сусветная вайна. *Я яшчэ помню тую вайну.* Вялікі Азярэцк.

**ТО́К** *м.* 1. Гумно. *А ток – пастройкі халодныя.* Багданава. У *Рымона быў ток, пуня.* Міцюкова. *Лён вязўць у пуню ці ў такі.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Гарадок, Закур'е. 2. Пляцоўка для абмалоту збожжа. *Праннікам гакаем дзень лён на таку.* Буй. *На таку малацілі цапамі.* Багданава. *У таку выбіта, як асфальт.* Фасаўшчына, Гарадзец, Нямойта, Партызаны, Закур'е.

**ТОЛК** *м.* Карысць, сэнс. *Бадзяецца, ходзіць біс толку.* Савінічы.

**ТОЛЬ** *ж.* Толь, руберойд. *Як вецер – падымаіць толь с хлява.* Ракаў Засценак.

**ТО́ЛЬКІ, ТО́ЛЬКА, ТО́КА** *часц.* 1. Толькі, усяго толькі. *Яму толькі галавой у вір.* Гарадок, Савінічы. *Тока да вайны палілі угалле.* Леснікова. *Тока дзве бўлачкі даюць.* Неўгадава. *Я тока асталася жывая.* Карпавічы. 2. *злучн.* Толькі, як толькі. *Толька заб'ю кабана, пасылаю пячонкі у горад.* Галашчакіна, Марозаўка.

**ТО́ЛЬКІ** *прысл.* Столькі, у такой колькасці. *Толькі народу там.* Марозаўка.

**ТОН** *м.* Гул, гудзенне (пра пчол). *У пчол нескулька таноў, як атпраўляіць матка на работу – адзін тон, для пчол, якія ўбіраюць пяргў, – другі тон.* Запруддзе.

**ТО́НКА** *прысл.* 1. Тонка, не тоўста. *А кўжаль можна было тонка спрасці.* Марозаўка, Фасаўшчына. ТО́НІНЬКА *памянш.-ласк. Замесіць цеста, раскачыюць тонінька, а тады крышуць, завўць лапша, прасўшыюць.* Фасаўшчына. 2. *перан.* Падрабязна. *Расказаць тонка пра русалак не магў.* Баравікі.

**ТО́НКІ** *прым.* 1. Тонкі, невялікай таўшчыні. *Сала тонкае кала брўха – пътчаровък.* Багданава. 2. Майстарскі, далікатны. *Дўжа тонкая работа.* Фасаўшчына. 3. Прыемны, меладычны (пра гук). *Е́слі тонкі звон, то късá атлічнъя.* Запруддзе.

**ТО́НУЦЬ** *незак.* Раставаць (пра снег). *Атлега, лёд стаў тонуць.* Нямойта.

**ТО́НЯ** *ж.* 1. Сетка для лоўлі рыбы. *Рыбакі тоню закідыюць.* Багданава. 2. Колькасць рыбы за адзін заход сеццю. *Тоню цягнулі на Чысты пясок. Рыбакі тры тоні рыбы выцігнулі.* Багданава.

**ТО́ПАЛІНА, ТАПАЛІ́НА** *ж.* Таполя. *Адну́ то́паліну са́мі зрэ́залі.* Латыгаль. *Тъпалі́на была́, маку́шку сын зрэ́зуў.* Нямойта.

**ТО́ПАЛЬ, ТО́ПЕЛЬ, ТО́ФЕЛЬ** *м.* Тое ж. *То́паль су́шыць, карані́ на весь агаро́д.* Латыгаль. *То́пель – чо́рнае дзе́рава.* Каралевічы. *То́фель і бяро́за стая́ць перад вакно́м.* Каралі.

**ТО́ПАЦЬ** *незак.* Корпацца, варушыцца памаленьку. *Ба́ба то́паець і то́паець.* Дольдзева.

**ТО́ПКА** *ж.* 1. Грубка. *Каб то́пка была́ ў ха́ці, то лацве́й.* 2. Под, чарэнь у печы. Гарадзец.

**ТО́ПКА** *прысл.* Вязка, багніста. *Тут то́пка было́, ні ара́ў тут.* Кішуроўшчына. *То́пка, не прайці́, вя́ска.* Фасаўшчына, Багданава, Вялікі Азярэцк, Нямойта, Партызаны.

**ТО́ПКІ** *прым.* Вязкі, багністы. *Луг то́пкі, ня ўе́дзеш цяпе́р.* Баравікі. *Воўк увъгна́ў каро́ву ў то́пкъя бало́та.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк, Нямойта.

**ТО́ПЛЕНІК, ТО́ПЛЕННІК** *м.* Тапелец. *У пе́кла пъпада́юць то́пленнікі, ві́сельнікі, а като́ры сваёй сьме́рцю памрэ́ць – э́та пъпада́іць у рай.* Запруддзе. *То́пленікаў ні хава́лі на кла́дбішчы.* Партызаны. *І то́пленік, і сілёнік ра́зъм хъва́юць.* Запруддзе.

**ТО́ПНУЦЬ** *зак.* Станцаваць, прытупнуць. *А я то́жа і са ста́расці то́пнула* [на вяселлі]. Вялікі Азярэцк.

**ТО́РБА** *ж.* 1. Торба, сумка. *То́рбу пашыюць – су́мачку таку́ю с пълатна́.* Фасаўшчына. *То́рбу бяру́, і ў магазі́н, за хле́бам.* Багданава, Каралевічы. 2. Прадукты, харч, якія давалі з сабой. *І то́рба на́да, і дзе́ньгі, як ма́лец вучы́ўся.* Партызаны, Ульянавічы. ТО́РБАЧКА *памянш. Ма́лы мяшо́к – то́рбачка.* Нямойта. *Аблуплю́ бу́льбу і ў то́рбачку, а крапчэ́йшу ў пасці́лку.* Партызаны. 3. Клінок з марлі для вырабу сыру, тварагу. *Мълако́ атто́піш, атцэ́дзіш, у то́рбу, і пат ка́мень – вот і сыр палуча́іцца.* Запруддзе. 4. *эмац.-ацэн.* Пра пражорлівую карову. *Ідзі́ ў хлеў, то́рба ты, ня блэ́ндый ты.* Чуцькі.

**ТОРГ** *м.* Гандаль, кірмаш. *Спіць крэ́пка, як с то́ргу прые́хаў.* Вялікі Азярэцк.

**ТО́РГАЦЬ** *незак.* 1. Шморгаючы, абрываць. *То́ргаеш адну́ к аднэ́й* [гаворка пра ягады]. Леснікова. 2. Торгаць, балець (пра рэзкі, перарывісты боль). *Но́гі... гра́ма ні засну́: но́гі то́ргъіць.* Багданава. 3. Непакоіць, тузаць. *То́лькі ко́люць і то́ргаюць у гэ́тай бальні́цы.* Галашчакіна.

**ТОРК** *выкл.* 1. Тыцкаць. *Яму́ сі́ську торк і торк.* Багданава. 2. Утыркнуць, пасадзіць. *Іна́ къля згаро́ды торк – і сядзі́ць трава́.* Запруддзе.

**ТО́РКАЦЦА** *незак.* 1. Уторквацца, устаўляцца. *Уве́рсе* [у жорнах] *до́шка з дзі́ркай, што то́ркаецца ме́лянь. У ло́пацень млён то́ркаецца, у ло́пацень ваду́ праліва́юць ат суро́цы.* Вялікі Азярэцк. 2. Уладкоўвацца на працу. *Зачэ́м табе́ то́ркацца, е́слі не бу́дзеш рабо́таць.* Партызаны. ТОРК. Нечакана з'явіцца, прыйсці. *Зіна торк у ха́ту.* Багданава. *Тут торк у ха́ту – я прышо́ў.* Запруддзе.

**ТО́РКАЦЬ** *незак.* 1. Уторкваць, утыкаць. *На Ве́рбніцу нясу́ць ве́рбу свяці́ць і па жы́це то́ркаюць, каб яно́ радзі́ла* (звычай). Міцюкова. *На Ю́р'я ня́суць ве́рбу, то́ркаюць на сваю́ паласі́нку* (звычай). Каралевічы. *Не́йдзе май то́ркаць, ране́й бэ́лькі былі́, іко́ны.* Партызаны. *То́ркаць май у свянцо́ную ваду́, каб скот вадзі́ўся. Да трох лет мо́жна храні́ць.* Запруддзе, Багданава, Вялікі Азярэцк, Ракаў Засценак, Савінічы. 2. Напіхаць. *Сало́му то́ркалі ў мътра́с.* Запруддзе. 3. Нанізваць.

*Рыбу торкаў на провалаку – маток звалі.* Станюкі. 4. *перан.* Папіхаць. *Вы яго ўсюды торкаіце за тое, што зашчыты німа.* Ракаў Засценак.

**ТОРКНУЦЬ** *зак.* Торкнуць, паварушыць. *Палачкай торкну вужаку.* Міцюкова.

**ТОРНУЦЬ** *зак.* Тузануць, пацягнуць. *Як торнуць, падаюць яны.* Вялікі Азярэцк.

**ТОРФ, ТОРХ** *м.*, **ТАРФЫ** *мн.* 1. Торф. *Далей за возера торф загатаўліваюць.* Багданава. *Торх у лъпцёх каъпалі лапатамі.* Баравікі. *На торх ездзілі за Воршай.* Нямойта. 2. Праца на торфанарыхтоўках. *На тарфы дзве дзяўчыны ездзілі.* Партызаны.

**ТО-ТО-ТО** *выкл.* Перадача гукаў спеву ўдода. *Удод красівінькій закудактъў: то-то-то.* Сянно.

**ТОЎСТЫ, ТАЎСТЫ, ТАЎСТЭЯ** *прым.* 1. Тоўсты (пра кішку). *Таўстыя кішкі не скрабуцца.* Гарадзец. 2. Поўны, гладкі, здаровы. *Тоўсты, як гарбуз.* Сукрэмна, Вялікі Азярэцк. *Тоўсты, як бэбух.* Розмыслава. *Ён таўсты, як лось, а такі нідалужны: сказаць слова ня ўмеіць, дзелаць нічога ня ўмеіць.* Савінічы. *Таўсты, як дзешка.* Серкуці. *Таўстая, як печ, як карова.* Запруддзе, Багданава, Міцюкова. 3. Вялікі (па памеры, аб'ёме). *Таўстэя доскі ў лаўках.* Ульянавічы. *Бярно бальшое, таўстое прыцягнулі бабі, яна на дровы парэзала.* Запруддзе, Багданава. *Кълбъса тъкая тъўстая.* Ульянавічы, Багданава, Чуцькі, Неўгадава. *Такі таўсты пук цыбулі.* Гарадзец. 4. Буйны. *Кашы навар'уць з таўстых круп, капусты.* Чуцькі. 5. Тоўсты, крамяны. *Баравік тоўсты такей расцець.* Багданава[1].

**ТОЎХАЦЬ** *незак.* Торгаць (пра рэзкі, перарывісты боль). *Як стала загаварваць урочную рожу, нъга стала тоўхаць, аш у калена даець.* Партызаны.

**ТОЧНА** *прысл.* Дакладна. *Хто тут жыўшы, той точна раскажыць.* Станюкі. *Як точна судзьбу апрэдзяліш.* Каралевічы.

**ТОШЧЫ** *прым.* Худы, няўкормлены. *Тошчы конь, як ня есць.* Запруддзе. *Бяры цілят, кап тошчыя былі, а ня поўныя.* Савінічы.

**ТРАБІЦЬ** *незак.* Набіваць бруха. *Трабіць у трабух.* Заазер'е.

**ТРАБЛО** *агульн. эмац.-ацэн.* Ненажэра. *Трабло, трабіць і трабіць трабух.* Заазер'е.

**ТРАВА, ТРУВА** *ж.* 1. Трава, пустазелле. *Бульба не ў траве, ні нада палоць.* Дольдзева. *Бывала, на Тройцу ірвалі траву, у цэркву насілі свяціць, патом куруць у хаце свянцонай травой.* Багданава. *Трува ды Пітра – вос мёду, послі Пітра – вос навозу* (прыкмета) [пасля Пятра бываюць частыя дажджы, і трава гніе]. Запруддзе, Леснікова, Міцюкова, Нямойта. 2. Лекавыя расліны, зёлкі. *Травы сушыць і здаець у апцеку.* Алексінічы, Багданава, Партызаны. ТРАЎКА *ласк. Сушаніца балотная – траўка такая кудлацінькая, сівінькая, жоўцінькая, на нізінах расце.* Нямойта.

**ТРАВІНА, ТРАВІНА** *ж.* 1. Трава, пустазелле. *Усю травіну выцягвалі з лёну.* Неўгадава, Міцюкова. 2. Лекавыя расліны, зёлкі. *Ё травіна такая трупутнік, як парэжаш – прыкладаюць.* Чуцькі.

**ТРАВІНКА** *ж.* Адно каліва травы, адна травіца. *Ціха, я пакажу, атарву травінку.* Запруддзе, Неўгадава.

**ТРАВІЦА** *ж.* Трава, пустазелле. *Гэту травіцу пырнік завём.* Заазер'е, Нямойта.

**ТРАВІЦЬ, ТРАВІЦЬ** *незак.* Труціць. *Я дустам травіла жукоў, а цяпер – не.* Нямойта. *Травіў Валерка мух.* Партызаны. *Як травілі, травы не было.* Нямойта.

**ТРАВІЧКА** *ж.* Адно каліва травы, адна травіца. *Я гэту травічку прынясла.* Багданава.

**ТРАВЯЛЬНЫ́** *прым.* Які мае адносіны да травы; травяны. *Асакі шышкі пасу́шыш, ды шча́вель, гало́ўкі травяльны́я, і на муку́ патрэ́ш.* Баравікі.

**ТРАВЯНУ́ЦЦА** *зак.* Атруціцца. *Кіры́ла тръвяну́ўся, як ста́лі дъ яго́ дъкáпвацца.* Пожанькі.

**ТРАЙНЯ́** *ж.* Ніжні брус, якім злучаюць пярэднюю і заднюю падушкі ў калёсах. *Трайня́ дзяржы́ць за́днія і пярэ́днія ву́згалаўі.* Гарадок. *У калёсъх тръйня́ ста́віцца, іна́ распіра́іць пярэ́дніе і за́дніе ву́згълаўе.* Гарадзец, Станюкі. *Е́та тръйня́, ат пярэ́дняга ўзгало́ўя да за́дняга ўзгало́ўя.* Замошша. *Ра́ньшы упо́рак ня дзе́лалі, тръня́ называ́лася, като́рая саідзіня́ла пярэ́днюю паду́шку і за́днюю.* Кляпчэва.

**ТРА́КТАР, ТРА́ХТАР** *м.* Трактар. *Ду́ба стаў конь, тады́ не відзелі тра́ктараў, машы́н.* Гарадзец. *Тра́хтарам прывёз пясо́к.* Закур'е.

**ТРАКТАРЫ́СТ** *м.* Трактарыст. *Хадзя́ін трактары́стам рабо́таў.* Вялікі Азярэцк.

**ТРА́ЛЕР** *м.* Велікагрузны аўтамабіль; трэйлер. *Тра́лер ско́льку ско́ту бярэ́ць!* Міцюкова.

**ТРАЛЁЎКА** *ж.* Вываз бярвення з лесу. *Тралёўка ле́су.* Міцюкова.

**ТРАМБО́ЎКА** *ж.* Прылада для трамбавання гліны, зямлі і пад. *Трамбо́ўкі – такія качу́лкі дзе́лалі, трамбува́лі гліну ро́ўнінька.* Нямойта.

**ТРАМБУВА́ЦЬ** *незак.* Трамбаваць, ушчыльняць. *Бе́руць гліну, абыкнаве́нную гліну, насціла́лі сло́ем, а пато́м гліну трамбува́лі.* Нямойта.

**ТРАНТ** *м.* Гультай, абібок. *Транцю́га ты, трант такі, гульта́й!* Багданава.

**ТРА́НТЫ** *толькі мн.* 1. Адзенне, рэчы. *Ба́бы за тра́нты – і да другея́ ба́ні.* Нямойта. 2. *зневаж.* Жаночыя ўборы. *Куды́ тра́нты адзюва́ць – усё но́вае і но́вае.* Сукрэмна, Алексінічы, Багданава, Партызаны. ТРА́НТАЧКІ *эмац.-ацэн.* *Тра́нтачкі нам кінула на палу́.* Алексінічы.

**ТРА́НЦЕ** *н. зб.* Адзенне, рэчы. *Аддаду́ць ёй тра́нце, так і жыве́ць, гульта́йка.* Багданава.

**ТРАНЦЮ́ГА** *м. эмац.-ацэн.* Гультай, абібок. *Транцю́га ты, трант такі, гульта́й!* Багданава.

**ТРАПА́ЛКА, ТРАПЁЛКА** *ж.* Прылада для трапання лёну; трапашка. *Трапа́лка – э́та дасо́чкі с ру́чачкамі.* Дольдзева, Буй. *Трапёлка – лён што трэ́піць.* Багданава. *Лён мя́лі трапёлкі.* Запруддзе, Гарадзец.

**ТРАПА́НЫ, ТРО́ПАНЫ, ТРЭ́ПЛЕНЫ, ТРО́ПАНЫЙ** *дзеепрым.* Трапаны, патрапаны. *Трапа́ны лён здава́лі.* Буй. *Наш лён тро́паны у абе́т прыма́лі.* Баравікі. *Трэ́плены лён на таку́ засціла́лі.* Багданава. *Тро́паный лён віза́лі у цюкі.* Закур'е.

**ТРАПА́ЦЬ** *незак.* Ачышчаць валакно, выбіваючы кастрыцу. *Сабра́лі лён, мя́лі, білі, трапа́лі – усё зрабілі.* Багданава. *Лён трапалі, но́ччы мя́лі, круцілі рука́мі.* Заазер'е, Гарадзец, Карпавічы, Нямойта, Закур'е.

**ТРА́ПАЧНІК, ТРА́ПАШНІК** *м.* Скупшчык старога адзення; анучнік, каравачнік. *Парва́лася адзе́нне – тра́пачнікі е́здзілі.* Запруддзе, Гарадзец. *Тра́пашнік ры́ззя сабіра́ў.* Буй. *Ху́стку у тра́пашніка купіла.* Дольдзева, Гарадзец, Фасаўшчына.

**ТРАПА́ШКА, ТРАПУ́ШКА, ТРАПО́ШКА, ТРЭПА́ЧКА** *ж.* Прылада для трапання лёну; трапашка. *Трапа́шкай трапа́лі лён.* Серкуці, Апечкі, Фасаўшчына. *Трапа́лі лён трапу́шкамі.* Закур'е. *Трапу́шкі былі, і лён трапа́лі.* Рэчкі. *Дзерав́яная трапо́шка – абыкнаве́нная до́шачка, а тут ру́чка дзяржа́ць.* Вялікі Азярэцк.

*Трапошкі такія, як дашчэчкі з ручачкай, кастру страпалі.* Фасаўшчына. *Трапошкі былі лён трапаць.* Апечкі, Партызаны. *Мялка, трэпачка была, з дрэва здзелана.* Буй.

**ТРА́ПАШНЫ** *прым.* Анучны, са старога адзення. *С трапък, дзяругі трапъшныя.* Запруддзе.

**ТРАП'Ё, АТРА́П'Е** *н. зб.* Лахманы, рыззё. *Дзецi трап'я прывязуць, я вазьму і свяжу што-нёбудзь.* Цясішча. *Крух* [палавік круглай формы, звязаны з ануч] *с трап'я вяжым.* Серкуці, Вялікі Азярэцк, Міцюкова. *Свае атрап'е укінулі і пашлі дамоў.* Баравікі.

**ТРА́ПІЦЦА** *зак.* Прыйсціся, атрымацца. *Так трапілася, што нічога не палучаю за мужыка.* Сукрэмна, Леснікова. ◊ ТРА́ПІЦЦА НА ВО́КА. Нечакана ўбачыць, з'явіцца ў полі зроку. *Поліш, вужака і трапіцца на вока.* Партызаны.

**ТРА́ПІЦЬ** *зак.* 1. Папасці, паспець. *На аўтобус трапілі, але ня селі.* Партызаны, Сукрэмна. 2. Нарвацца. *Во як я трапіла ў магазіні.* Запруддзе. 3. Патрапіць. *Як на дух трапіш, то паможыць зъгавор.* Багданава. 4. Убачыць. *Трапіла на рапуху.* Міцюкова.

**ТРА́ПКА, АТРА́ПКА** *ж.* 1. Паношанае, старое адзенне; лахманы. *А мы што відзілі? Нічога! У трапках хадзілі.* Самсоны, Леснікова. 2. Ануча. *Але ш я закруціла яе* [руку] *атрапкамі і брала лён.* Запруддзе. *Надзярэш бульбы, на атрапку кладзеш, ацціскаіш, пасоліш, зьмесіш і ў печ.* Вялікі Азярэцк. ТРА́ПАЧКА, АТРА́ПАЧКА *памянш.* 1. Невялікі кавалачак якой-н. анучы. *У якую атрапачку схаваюць пупок і ў скрыню.* Запруддзе. 2. Пра часткі цела, якія з-за старасці нагадваюць анучу. *Рука здзелалася, як трапъчка.* Самсоны. 3. Рэч, адзежына. *Якая трапка была зъкъпана, прадала.* Леснікова.

**ТРАПКА́Ч** *м.* Кусок недатканага палатна з махрамі, які выкарыстоўвалі для нашэння ежы ў поле. *Трапкач – астаткі з канцоў.* Буй. *Трапкач пакідаюць, як ткуць кросны, увязваць яду.* Дольдзева. *Трапкач зьвяжыш, чатыры тасемкі ў яго, дзірачка для дэначкі.* Каралі. *У трапкачах насілі на поле есці.* Рэчкі, Дуброўкі.

**ТРАПЛО́** *н.* Прылада для трапання лёну; трапашка. *Траплом трапалі, часалі на шчоткі.* Дуброўкі. *С-пат трапла дрэннае патръп'е ляцела.* Вялікі Азярэцк.

**ТРАПЛЯ́ЦЦА** *незак.* Прыходзіцца, выпадаць. *Нам так ні трапляльса.* Карпавічы.

**ТРАСА́** *ж.* Багна, багністае месца. *Бірагі возіра топкія, вязкія – тръса тъкая.* Турава.

**ТРАСКАТНЯ́** *ж.* Шум, трэск. *Чую: там тръскътня, страляюць та-та-та, та-та-та.* Партызаны.

**ТРАСНІ́К, ТРО́СНІК, ТРЫСНІ́К** *м.* 1. Чарот (расліна). *Кала возера траснiку нарэжыць.* Сукрэмна. *Траснік кубасты ёсь, а ёсь гладкі, дваякі ёсь, яшчэ крапчэй саломы. Саломай ржаной, траснiком крылі, первы слой – траснiку, наверх – саломы. Адным траснiком – прапусціць ваду.* Запруддзе, Каралі, Закур'е. *Тросник расцець, чорныя пухоўкі, апсыпюцца, як пер'ям, пухам.* Каралі, Багданава. *Трыснік – ета ў возіры, кала берага расцець, шэранькі, зелюнкуваты. Трыснік мяцёлачкай цёмненькай уверх расцець.* Багданава, Запруддзе. 2. Рагоз (расліна). *Трыснік – длінные пухоўкі, дзеці б'юцца імі, абсыпюцца, як пер'ям.* Каралі.

**ТРАСТАВА́ЦЬ** *незак.* Апрацоўваць лён пасля сцелішча для атрымання льновалакна. *Лён трастую, а ён прыходзіць, глядзіць, што крыша с саломы.* Нямойта.

**ТРА́СЦА** *ж.* Малярыя. *Трасца трасець. Трава расцець жоўтая, як свірэпіца, рвалі, сушылі, кіпяцілі, піць давалі.* Каралі. ◊ УСЯ́КАЯ ТРА́СЦА. Самае рознае,

усё, што заўгодна. *Дабаўляюць усякую трасцу для кароў.* Марозаўка. ◊ КАБ ЦЯБЕ ТРАСЦА ТРАСЛА! Лаянкавы выраз, якім выказваецца абурэнне (у праклёне). *Кап цябе трасца трасла!* (праклён). Вялікі Азярэцк, Каралі.

**ТРАСЦІНА** *ж.* Адна з тонкіх драўляных пласцінак у бёрдзе, праз якія праходзяць ніткі асновы. *Анна трасціна у бёрдзі выпала.* Закур'е, Рэчкі. ТРАСЦІНКА, ТРЫСЦІНКА *памянш. Трысцінка зламалася ў бёрдзе.* Рэчкі. *Міжды каждае трысцінкі нада перасыпаць бёрда, кап танеи, таўсцеи ткаць.* Багданава.

**ТРАСЯНКА** *ж.* Сумесь сена і саломы на корм жывёле. *Сена нясець, трасянку.* Савінічы.

**ТРАЎЛІВЫ** *прым.* Травяністы, травяны. *Лён траўлівы палолі бабы.* Вялікі Азярэцк.

**ТРАЎЛЯЦЬ** *незак.* Атручваць. *Паля траўляюць – вяніць усё.* Запруддзе.

**ТРАХ** *выкл.* Моцна, з сілай стукнуць, ляснуць чым-н. *Трах! – дзверы зачыніліся.* Партызаны, Запруддзе, Кляпчэва.

**ТРАХАНУЦЬ** *зак.* 1. Трасянуць, страсянуць. *Куфайку траханець – і грошы сыпюцца.* Нямойта. 2. Закалаціць, затрэсці. *Як траъханула, стала паъзяваць – цімпературa.* Міцюкова. 3. Ударыць электрычным токам. *Як траханула яе токам!* Багданава, Каралевічы, Нямойта. 4. Працяць. *Мяне што-та як траханула, сказалі, што ўтапілася Федзька.* Каралевічы.

**ТРАХАЦЬ** *незак.* Стукаць, ціснуць. *Сучылі цэўкі на прялку – нагой трахаіш дзень.* Буй.

**ТРАХНУЦЬ** *зак.* Трасянуць, страсянуць. *Возьмеш, як трахнеш арэшыну, то спелыя арэхі шпок-шпок на зямлю.* Партызаны.

**ТРАХОМ, ТРУХОМ** *м.* Хвароба вачэй. *Трахом быў – вочы красныя, часаліся. Як трахом, адным ручніком не нада абъціраца.* Багданава, Гарадзец, Сукрэмна. *Трухом на глазах – красныя глазы, балят.* Баравікі.

**ТРАХОМА** *ж.* Тое ж. *Трахомай нейкай балелі, глаза сталі красныя, апохлыя. Трахома – апухлые глаза, красные.* Гарадзец, Сукрэмна.

**ТРАЦІНЫ**, **ТРАЦЦІНЫ** *мн.* Памінанне нябожчыка праз тры дні пасля дня смерці. *У нас трацiны, шасціны, дзевяцiны – усё дзелаюць ні вымагаюцца, ні выгатаўліваюцца.* Багданава, Фасаўшчына. *На трацьціны ідуць нъ магільнік.* Савінічы, Нямойта.

**ТРАЦЯК**, **ТРАЦЦЯК**, **ТРЭЦЯК** *м.* 1. Жарабя трох гадоў. *Жарабёнак на трэці год – траццяк.* Сянно. ТРАЦЦЯЧОК *ласк. Жарабёнак на трэці гот – траццячок, ужо ў бароны запрагаць нада, прывучаць к рабоці.* Сянно. 2. Карова, якая не пакрылася тройчы. *Траццяк ні пакрылася – плахая карова.* Нямойта. 3. Трэці рой (пра пчол). *Траццяк – на трэці дзень рой атходзіць, у часы тры-чатыры, днём.* Вялікі Азярэцк, Нямойта. *Трацяк – слабы рой.* Закур'е. *Трэцяк – трэці рой, менш было пчол.* Запруддзе.

**ТРАШЧАЦЬ, ТРАШЧЭЦЬ** *незак.* 1. Утвараць трэск. *Альховыя драва, штоб ні трашчэлі, тапілі імі ёўню.* Дольдзева, Серкуці. 2. Страляць, грукацець. *Хоць бы куды ўцёк, дык кулямёты тръшчаць.* Серкуці. 3. *перан.* Хутка, доўга, не змаўкаючы гаварыць. *Тарадзіць, трашчыць толькі, як выйдзіць, так і гаворыць.* Гарадзец.

**ТРАЮРАДНЫ** *прым.* Які знаходзіцца ў сваяцкіх адносінах у трэцім калене. *Траюрадныя жаніліся з-за багацтва.* Чуцькі.

**ТРАЯКІ** *мн.* Тройня. *Траякі дзеці былі.* Запруддзе.

**ТРО́Е, ТРО́Я** *ліч.* Трое. *У мяне́ было́ тро́е дзяцей.* Сукрэмна, Алексінічы, Багданава, Дольдзева, Міцюкова. *Тро́я дзяцей, а ён мъладэ́й.* Запруддзе.

**ТРО́ЙКА** *ж.* Тры рублі (даўнейшая грашовая адзінка). *Хадзі, тро́йку дадзім, тады́ атрабо́таем.* Ракаў Засценак.

**ТРО́ЙЦА, ТРО́ІЦА** *ж.* Тройца; каляндарна-абрадавае свята. *Тро́йца – аір прыно́сяць на падло́гу, на двор, май прыно́сяць.* Запруддзе. *У като́рых на Тро́йцу хо́дзяць на кла́дбішча.* Гарадзец, Багданава, Міцюкова, Чуцькі, Закур'е. *Пасля Па́скі сем нядзе́ль – Тро́іца.* Партызаны.

**ТРО́НУЦЦА** *зак.* Зрушыцца, скарачацца (пра час). *Дзень тро́нуўся на ніз.* Мянюцева.

**ТРО́НУЦЬ** *зак.* ◊ ПА́ЛЬЦАМ НЕ ТРО́НУЦЬ. Не прычыніць ніякай шкоды каму-н., не біць. *Е́слі хъзя́ін скъза́ў «начу́йця», то ужо́ ніхто́ па́льцъм ня тро́ніць.* Рубежніца.

**ТРО́ПАЦЬ** *незак.* Біць нагой. *Дзве нядзе́лі хадзілі ўдваі́х даіць. Як пады́йдзіш, іна́ тро́пъіць.* Жохава.

**ТРО́ПКА** *ж.* Трапанне. *У нашну́ю трэ́плеш на чо́рную тро́пку.* Цясішча.

**ТРО́ПНУЦЬ** *зак.* Ударыць нагой. *Конь тро́пнуў наго́й і зу́бы вы́біў.* Самсоны, Жохава.

**ТРОСЬ** *ж.* Тонкая драўляная пласцінка ў бёрдзе, праз якую праходзяць ніткі асновы. Заазер'е. ТРО́СТАЧКА *ласк. Тро́стачкі то́нянькія ў бёрдзе.* Леснікова.

**ТРОХ** *выкл.* Трусіць, раструшваць. *Я вядро́ трох-трох, трасу́, на́да было́ рука́мі трэ́сці.* Ракаў Засценак. *Пазьбіра́іць на даро́зі гной і нъ гаро́т гэ́ты гнаёк, трох-трох і растру́сіць.* Чуцькі.

**ТРО́ХІ, ТРО́ХУ** *прысл.* Крыху, мала. *Там со́снік і тро́хі бярэ́знік ёсь.* Запруддзе, Багданава, Ракаў Засценак. *До́бра, што буракоу тро́ху зарадзіла – ёсць чым карміць каро́ву.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадок, Дольдзева, Запруддзе, Міцюкова, Нямойта, Партызаны, Рэчкі, Ульянавічы, Неўгадава.

**ТРОХЛІТРО́ВІК** *м.* Трохлітровы слоік. *Трохлітро́вік узяла́ і зноў пашла́ на двор.* Партызаны.

**ТРОХЛІТРО́ЎКА** *ж.* Тое ж. *Мёд быў дзяшо́вы, трохлітро́ўка – васімна́ццаць рублёў.* Рэчкі.

**ТРОХПАЛЬЦО́ЎКА** *ж.* Сетка з вочкамі на тры пальцы велічыні. Багданава.

**ТРОХПО́ЛКА** *ж.* Устарэлая сістэма паляводства з падзелам ворнай зямлі на тры палі, кожнае з якіх засявалася спачатку азімымі, затым яравымі, а на трэці год заставалася пад папар; трохполле. *Ра́ньшы была́ трохпо́лка: адно́ по́ле засіва́лъсь азі́мым, друго́е – яр'ю, трэ́ціе – па́пар.* Кляпчэва.

**ТРОХРО́ГІ** *прым.* З трыма рагамі (пра карову). *Я відзіў трохро́гую каро́ву – тры рагі.* Фасаўшчына.

**ТРОХСЦЕ́НКА** *ж.* Прыбудова з трох сцен; трысцен. *Трохсце́нка называ́іцца прыстро́ік.* Гарадзец.

**ТРО́ШАЧКІ** *прысл.* Трошачкі, крышачку. *Кіндзю́к – с са́ла, мя́са, на́да тро́шачкі падвары́ць і ў ма́рлю палажу́.* Жохава.

**ТРО́ШКІ, ТРО́ШКУ** *прысл.* Трошкі, у невялікай колькасці. *Прынясу́ць све́чы, патсма́люць валаскі дзе́цям тро́шкі, спе́раду, збо́ку, чаты́ры ра́за, каб не бая́ліся гро́му.* Савінічы, Багданава, Запруддзе. *Хоць бы тро́шку я́гад назбіра́ць.* Міцюкова. *Кіт – е́та во́кна зама́звалі, ён як брусо́чак, яго́ тро́шку пагрэ́іш, тады́ абле́пліім во́кна.* Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Заазер'е, Манголія, Дуброўкі.

**ТРУБА́** *ж.* 1. Комін. *Мой тата вызываў ваўка у трубу.* Багданава. *Сядзіць, гадаець: прыйдзець-не прыйдзець. У трубу яго звала.* Міцюкова. 2. *прысл.* Угару, прама ўверх. *Ячмень трубой пашоў, а жыта – што кажух.* Неўгадава. 3. *прысл.* Панікнуўшы, нахіліўшыся да зямлі. *Як хто ня верыць Богу, ня ўторкніць вербінку у жыта, ячмень, яго паласа уся, усё жыта лягло трубой.* Каралевічы.

**ТРУБА́** *ж.* Дуда, пры дапамозе якой падзывалі жывёлу. *Бувала була труба у пьстуха.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**ТРУБАЧЫ́СТ** *м.* Чысцільшчык комінаў; камінар. *Трубачыст быў, кажу: «Хадзі мне пачысці комін». Ёлачку к жардзіні прычэпіць і чысцім.* Нямойта.

**ТРУБЁЛКА** *ж.* Тое, што мае выгляд трубачкі. *Лісце пакруцілься ўжо ў трубёлку, шо ты хоч?* Кавалі. ТРУБЁЛАЧКА *памянш.-ласк. У трубёлачку скоцюць жыр нутраны.* Міцюкова.

**ТРУБІ́ЦЬ** *незак.* Граць на дудзе. *Пьстухі ёсць, але яны ціпер не трубяць.* Вялікі Азярэцк.

**ТРУ́БКА, ТРУ́ПКА** *ж.* Сувой, скрутак палатна. *У трубкі скручвалі палатно. Скут выбелюць – у трупкі, і ставілі ў скрыню.* Багданава. *Трубак столькі згарэла, засталіся, у чым стаю.* Каралі. *Трупкі мъльдая нісла у кублі. А свякроўка яшчэ глядзіць, ці многа іх.* Гарадзец, Дольдзева, Карпавічы, Нямойта, Закур’е.

**ТРУД, ТРУТ** *м.* Праца. *Дай бох трудам жыць.* Каралевічы. *Жалка свайго труду.* Мянюцева. *Трут любіць нада.* Багданава, Баравікі, Ульянавічы.

**ТРУДАЛЮБІ́МЫ** *прым.* Працалюбівы. *Трудалюбімая жэншчына.* Багданава. *Трудалюбімы быў Ганнульчын Віця.* Закур’е.

**ТРУДЗІ́ЦЦА** *незак.* Працаваць. *Чълавек, як пчъла, трудзіцца.* Вялікі Азярэцк. *Ё мъладэя, а трудзіцца ня хочуць.* Нямойта.

**ТРУДЗЯ́ГА** *агульн.* Працаўнік. *Я трудзяга, век работала.* Карпавічы. *Мой хызяін трудзяга, мыладзец.* Запруддзе.

**ТРУ́ДНА, ТРУ́ННА** *прысл.* Цяжка. *Тры бяды перажыць трудна.* Каралевічы, Багданава. *Раньшы послі вайны было трудна, і усё было.* Буй, Галашчакіна, Заазер’е, Івоні. *Вам ужо трунна.* Кішуроўшчына.

**ТРУЛЁЎКА, ТРАЛЁЎКА** *ж.* Вываз бярвення з лесу; тралёўка. *Трулёўка – трулявалі дзерава, камель – на санках, макушка цягнецца. Тралёўка лесу.* Міцюкова.

**ТРУЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Вывозіць бярвенне з лесу; траляваць. *Трулёўка – трулявалі дзерава, камель – на санках, макушка цягнецца.* Міцюкова.

**ТРУНА́** *ж.* Труна. *Труна – ета гроп, дъмавіна раньшы гъварылі.* Багданава. *Гроп ілі труна, як раньшы.* Нямойта. *Бувала гаварылі труна.* Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Івоні, Леснікова.

**ТРУНО́ШКА** *ж.* Трыножак. *Труношка ёсь варыць.* Сукрэмна.

**ТРУ́ПАМ** *прысл.* Пра стан надзвычай п’янага чалавека. *Работаў леснікóм – прывазілі трупам.* Ракаў Засценак.

**ТРУПЕ́ХЛЫ** *прым.* Мяккі, паляжалы. *Трупехлы, мяккі кьчан капусты.* Турава.

**ТРУС** *м.* Трус (жывёліна). *Трусоў дзіржалі ранеи.* Каралевічы, Гарадзец. ТРУ́СІК *ласк. Пьдажджы, Олька, я трусікам атарву травы.* Партызаны.

**ТРУСЁНАЧАК** *м.* Маленькае трусяня. *Труска прыгнула, а за ёй – трусёначак.* Партызаны.

**ТРУСІ́НЫ** *прым.* Трусагадоўчы. *Там была трусінъя ферма: трусоў разводзілі.* Вялікі Азярэцк.

**ТРУ́СКА** *ж.* Трусіха, самка труса. *Была́ тру́ска пад пе́ччу, забра́лася у шчыт, я затапі́ла шчыт, а тру́ска як жвы́гнець – і дро́вы вы́кінула.* Багданава, Партызаны.

**ТРУ́СНІК** *м. зб.* Шчэпкі, трэскі. *Тру́снік – шчэ́пы е́та.* Галашчакіна.

**ТРУСЯ́ТНІК** *м.* Майстэрня па пашыве бялізны. *Пазасялі́лі дамы́, хто ў трусятніку* [там трусы шыюць] *рабо́таець, хто яшчэ́ дзе.* Ульянавічы.

**ТРУТНЁЎКА** *ж.* Рабочая пчала, што адкладвае яйцы, з якіх развіваюцца трутні; трутнёўка. *Гэ́тыя пчо́лы перараджа́юцца, адні́ тру́тні, пчо́лы перараждежа́юцца, адна́ трутнёўка.* Закур'е.

**ТРУТНЯВЫ́** *прым.* Які мае адносіны да трутня; трутневы. *Гэ́та трутнявы́я со́ты. Ма́ткі ёсць трутнявы́я, то́лькі тру́тняў выво́дзяць.* Вялікі Азярэцк.

**ТРУ́ХАМ** *прысл.* Павольнай рыссю; трушком. *Конь тру́хам ідзе́ць, а на́да быстрэ́й – то ры́ссю пушчу́.* Сянно.

**ТРУХА́ЦЦА** *незак.* Штурхацца, валтузіцца. *Дзе́ці между сабо́й ба́лавалісь, труха́лісь.* Нямойта, Турава.

**ТРУХА́ЦЬ** *незак.* Штурхаць, піхаць. *Адзі́н аднаго́ труха́лі, піха́лі, като́рый сільне́йшы*[й]*, атпіхне́ць* [пра свіней]. Турава.

**ТРУ́ХЛЫ** *прым.* Спарахнелы. *Бярэ́зіна тру́хлыя – хруп, а ён з яе́ бух у рэ́чку.* Пожанькі.

**ТРУ́ХНУЦЬ, ТРА́ХНУЦЬ** *незак.* 1. Парахнець, гнісці. *Не ако́рыш жардзі́ну, бу́дзіць тру́хнуць, пьт каро́й.* Нямойта. *Лі́сця тра́хла ў во́зеры.* Вялікі Азярэцк. 2. Абвугліванца. *Зъкльда́лі карчы́ ў крух, яны́ там тру́хлі, млелі там.* Вялікі Азярэцк.

**ТРУ́ЦЕНЬ** *м.* 1. Труцень. *Тру́тні ядзя́ць мёд, яны́ пабо́льшы пшчол.* Закур'е. *Як са́мі пчо́лы нару́бюць ра́мку, так яны́ тру́тняў зало́жаць по́ўную ра́мку.* Вялікі Азярэцк. 2. Пра гультаяватага, лянівага чалавека, абібока. *Тру́цень ты, ло́дыр ляні́вы.* Станюкі, Дольдзева.

**ТРЫ** *ліч.* Тры. *У майго́ дзе́да було́ тры браты́ – Лявон, Хве́дър і Груго́р.* Міцюкова. *Калі́ на ўсе тры къляды́ зо́ркі, то бу́дзіць я́гът, грыбо́ў і арэ́хуў* (прыкмета). Галашчакіна. *Ба́цька тры разы́ жані́ўся. Трох жо́нак дзе́ці.* Закур'е.

**ТРЫБУ́Х, ТРУБУ́Х, ТРАБУ́Х** *м.* 1. Страўнік (у жывёлы). *Трабу́х у свіне́й, у каро́ў, у цялёнка.* Рассвет. *Трыбу́х у цялёнка.* Багданава, Алексінічы, Гарадзец. *Па трыбуху́ се́тка* [здор] *тька́я абаўе́цца.* Турава. ТРЫБУШО́К *памянш. У къня́ малёнькі трыбušо́к.* Фасаўшчына. 2. Сальцісон. *Трыбу́х – лёхкія, пе́чань, са́ла пакры́шаш, зва́рыш і – пад ка́мень, каб трыбу́х не перавары́ўся.* Марозаўка, Леснікова. *Шкілёндзя была́ у нас кълбаса́: і пе́чань там, і по́чкі, прыпра́вы, мя́са – у кі́шкі ці ў трубу́х.* Нямойта. 3. Вялікі жывот, пуза. *У зя́ця трыбу́х, як у е́тага, што ўчо́ра хадзі́ў.* Багданава, Гарадзец. 4. *эмац.-ацэн.* Пра чалавека з вялікім жыватом. *О, трыбу́х пайшо́ў.* Гарадзец. 5. *эмац.-ацэн.* Ненажэра, абжора. *Трыбу́х які́, прэць і прэць у сябе́.* Заазер'е.

**ТРЫБУХА́ТЫ, ТРУБУХА́ТЫ** *прым.* З вялікім чэравам (пра карову). *Трыбуха́тая каро́ва, як пад'е́сць.* Гарадзец. *Трубуха́тая каро́ва, мно́га есць, абжо́ра.* Парэчча, Гарадзец.

**ТРЫБУХА́Ч** *м.* Брухач, пузан. *Трыбуха́ч таўсцю́шчы не́йкі ідзе́ць, то́лькі пыхці́ць, сто пяцьдзеся́т кілагра́м.* Гарадзец.

**ТРЫВА́ЦЬ, ТРЫМА́ЦЬ** *незак.* 1. Трываць, цярпець. *Як ты трыма́іш, уся́ ско́льна.* Чуцькі. *Гэ́та ўсё перадумаць – нямо́жна трыва́ць.* Серкуці. *Е́слі то́лькі ля́гу ніц, балі́ць спі́начка, трыма́ць ні магу́.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Леснікова, Нямойта.

2. Вытрымліваць. *Як людзі тръмалі, такая жысь.* Розмыслава. 3. Трымацца. *А як вы трымаіця з гора?* Чуцькі.

**ТРЫВО́ГА** *ж.* Трывога, непакой. Нямойта.

**ТРЫВО́ЖЫЦЦА** *незак.* Хваляваца, перажываць. *Дўжа яны трывожуцца па нашым.* Вялікі Азярэцк.

**ТРЫЗНІ́ЦЦА** *незак.* Трызніцца, сніцца. *Мне абы-што трызніцца: думаю, што памру.* Рэчкі.

**ТРЫ́МКАЦЬ** *незак.* Трынкаць, няўмела іграць. *З гітаръй трымкаюць пъ дзярэўні.* Мянюцева.

**ТРЫНА́ЦЦАЦЬ** *ліч.* Трынаццаць. *У трынаццаць гадоў дзяўчына асталася адна.* Закур'е.

**ТРЫПУ́ТНІК, ТРУПУ́ТНІК** *м.* Трыпутнік, падарожнік (расліна). *Трыпутнік, ці падарожнік, сабіраіця, сушыця.* Станюкі. *Трыпутнік прыложыць, як нарыў на пальцы, мусар выцягвае с пальца.* Міцюкова, Багданава, Запруддзе, Каменшчына, Мянюцева, Ракаў Засценак, Чуцькі. *Трыпутнік ад жалудка.* Апечкі. *Трупутнік і падарожнік завём, с шышачкамі растуць.* Заазер'е. *Трупутнік, калі нарыў, прыкладаем, выцягаіць.* Баравікі.

**ТРЫПУЦІ́** *м.* Тое ж. *Трыпуці, трыпуці, ты расцёш пры пуці. / Відзіш малога, старога, / Пакажы мне мілога* (прыпеўка). Міцюкова.

**ТРЫ́СТА** *ліч.* Трыста. *Я авечку пръдаў за трыста рублёў.* Міцюкова.

**ТРЫСТА́** *ж.* Лён пасля мачэння, ляжання, з якога атрымліваюць валакно на пражу; траста. *Трыста – ето ўжо звязаны ў снапы лён, ачышчаны здаваць.* Жохава.

**ТРЫСЦЕ́Н, ТРЫСЦЕ́НЬ** *м.* 1. Прыбудова да хаты, трохсценак. *Бацька зрабіў трысцен, і трысцен гніець. Была хата і трысцен.* Буй, Баравікі, Івоні, Латыгаль, Партызаны. *Я спала на дзіваніў трысцені.* Фасаўшчына. 2. Палова пабудовы (хлява). *Там склеп, а тут – трысьцен.* Гарадзец. 3. Застаронак у вугле гумна. *Трысцен для сена.* Гарадзец. *Адзін трысцен ложыцца сена.* Серкуці. ТРЫСЦЕ́НЧЫК *памянш.* *Купіла ў Сукрэмне трысценчык, накрылі саломай.* Сукрэмна.

**ТРЫСЦЁ** *н. зб.* Тонкія драўляныя пласцінкі ў бёрдзе, праз якія праходзяць ніткі асновы. *У бёрдзе – трысцё.* Багданава, Закур'е.

**ТРЫСЦІ́ЦЬ** *незак.* Ссучваць, злучаць ніткі ў адну. *Трысцілі ніткі ў кучу, зматывалі ў клубок, а тады ў пралку сучым, і выхадзіла сучаная нітка.* Парэчча.

**ТРЫ́ЦЦАЦЬ** *ліч.* Трыццаць. *У дзярэўні було трыццаць хъзяінуў, адзін аднаго глядзелі, пумъгалі.* Міцюкова.

**ТРЫ́ШЧЫЦЦА** *незак.* Трэскацца, лопацца. *Яблыкі белыя, трышчуцца напълам.* Запруддзе.

**ТРЭ́БА** *прысл.* Трэба, неабходна. *Карова куды-та сышла, во ссорылася, паціралася, трэба шукаць.* Фасаўшчына. *Як мшацца кросны, то трэба зварыць семя і мазаць.* Вялікі Азярэцк, Гарадок.

**ТРЭ́СКА** *ж.* Трэска, шчэпка. *Нъ загнеці, нъ жар кідълі трэскі* [каб хлеб запякаўся]. Серкуці. *На каленках сорак трэсак у зубах прынесці, як сорак шчэпак прынясець, будзець выгравяць яечкі.* Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Леснікі. ТРЭ́САЧКА *памянш.* *Дровы нарубіць, усе трэсачкі прынясець.* Закур'е.

**ТРЭ́СКАТ** *м.* Трэск, моцны гук. *У фанты, у бабу гуляюць: ажны трэскат ідзець, як дадуць па руцэ.* Марозаўка.

**ТРЭ́СКАЦЬ** *незак.* Расколвацца, утвараючы трэск пры гарэнні. *Асіннік трэскаіць – разлятаюцца іскры.* Заазер'е.

**ТРЭ́СНУЦЬ** *зак.* Знемагчыся, лопнуць. □ *Пой пе́сні, хоць трэ́сні, а е́сці не прасі́.* Каралевічы.

**ТРЭ́СЦІ, ТРАСЦІ́** *незак.* 1. Штуршкамі хістаць, трэсці. *Жарабо́к трасе́ць мяне́ за ка́рак, кап прачну́ўся.* Запруддзе. *Па то́плю жуко́ў маёвых мно́га было́, трасу́ць іх.* Багданава, Каралевічы, Дуброўкі. 2. Вытрасаць, выкалочваць. *Кулі́ на́да трэ́сці. Шуму́ ўсю, траву́ вы́трасіш.* Нямойта. *Кудзе́льку траслі́, зрэ́б'е ды пра́лі. Білі жы́та, кулі́ траслі́ і кры́лі ха́ту.* Леснікова, Нямойта, Серкуці. 3. Ачышчаць ад кастрыцы (лён). *Лён трасём, ве́рцім у кружо́лкі лён.* Заазер'е.

**ТРЭ́СЦІСЯ, ТРАСЦІ́СЯ** *незак.* 1. Дрыжаць. *Ру́кі-но́гі тро́ху траслі́ся.* Нямойта, Ульянавічы. 2. Калаціць, трэсці (з-за хваробы). *Ляжы́ць бо́лей як тры гады́, трасе́цца як асі́на.* Багданава. 3. Калаціцца, тахаць, трапятаць. *Се́рцэ трасе́цца, і ў галаве́ пло́ха.* Манголія. 4. Баяцца, дрыжаць ад страху. *Пълажы́ця парце́йныя біле́ты! – Я і мрусь, і трасу́сь.* Івоні. *Быва́ла поп пры́дзець, трасе́ся.* Ульянавічы. 5. Танцаваць. *Мазу́рка – е́та як по́йдуць трэ́сціся.* Багданава. 6. *перан.* Напаўняцца водгуллем. *Пе́лі – аш по́ле трасе́цца.* Запруддзе.

**ТРЭ́ЦІ** *ліч.* ◊ У ТРЭ́ЦІХ. Траюрадны (брат, сястра). *У трэ́ціх майго́ хъзя́іна дзе́ці.* Заазер'е.

**ТУБАРЭ́ТКА, ТУБУРЭ́ТКА** *ж.* Табурэтка. *Э́та тубарэ́тка развалі́лася.* Каралевічы. *Хто гаво́рыць стул, а хто – тубурэ́тка.* Рэчкі.

**ТУБУРЭ́Т** *м.* Табурэтка. *Я тубурэ́т прынясу́.* Запруддзе. ТАБУРЭ́ЦІК *памянш.* *Нача́ў табурэ́цік дзе́лаць.* Ульянавічы.

**ТУ́ГА** *прысл.* 1. Густа. *Муку́ зъкъча́іць ту́га.* Нямойта. 2. Густацветам. *Сады́ ту́га цвіце́лі.* Багданава.

**ТУГАВА́ТА** *прысл.* Пра недахоп грошай. *У мяне́ з гро́шьмі тугава́та.* Апечкі.

**ТУГА́-ТУГА́** *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць ці гоняць воўка. *Воўк аве́чку панёс, дзя́дзька ўслед: «Туга́-туга́!»* Закур'е.

**ТУГІ́** *прым.* 1. Цвёрды, пруткі. *Ду́жа туго́е вы́мя.* Запруддзе. 2. *перан.* Незгаворлівы, упарты. *Така́я туга́я ба́ба, нія́к на пе́сню цябе́ не ўгавару́.* Баравікі. ○ ТУГО́Е МАЛАКО́. Пра малако, якое цяжка выдойваецца з-за асаблівасцей будовы вымя ў каровы. *Туго́е мълако́ – жырне́йшае.* Вялікі Азярэцк. *Малако́ туго́е у не́целей.* Партызаны, Запруддзе.

**ТУДЫ́** *прысл.* Туды. *Туды́ да́льшы праеха́ўшы, там адна́ дра́хлая стару́шка жыве́ць.* Карпавічы. *Туды́ е́здзілі глі́ну къпа́ць.* Багданава, Міцюкова.

**ТУДЫ́-СЮДЫ́** *прысл.* Туды-сюды, у розныя бакі, у розных напрамках. *Свякро́ўка вучы́ла: як ця́шуць брау́но, узя́ць трэ́ску с сучко́м, сучо́к вы́валіцца, зберагчы́, по́тым пралі́ць вады́ туды́-сюды́ тры разы́ ці́рас ды́рку – ат суро́цы.* Вялікі Азярэцк. *Я туды́-сюды́, а яго́ німа́.* Партызаны.

**ТУ́ЖАНЬКІ** *прым.* Крэпкі, не рассыпчаты. *Пабу́дзіць сы́рны мяшо́к пад гру́зам – сыр такі́ ту́жанькі здзе́лаецца.* Міцюкова.

**ТУЖУ́РКА** *ж.* Тужурка. *Тужу́рку таку́ю надзе́ніць.* Вялікі Азярэцк.

**ТУЖЫ́ЦЬ** *незак.* Журыцца, сумаваць, маркоціцца. *Я сама́ па сабе́ ні тужу́.* Вялікі Азярэцк. *Во́рън усё ту́жыць, забы́ць ня мо́жыць варо́ну, яку́ю убі́ў бракані́ер.* Сянно.

**ТУЖЭ́Й** *прысл.* 1. Тужэй, больш туга. *На́да табе́ тужэ́й – зацісніш наво́й.* Алексінічы. 2. Цяжэй, горш. *Зра́зу з ле́сам было́ тужэ́й, а січа́с бяры́ любу́ю па́лку, хо́чаш альху́, хо́чаш сасну́, і дарма́.* Дольдзева.

**ТУЗ** *м.* ◊ жыць ЯК ЗА ВІНО́ВЫМ ТУ́ЗАМ. Бесклапотна. *За ім жыву́ць як за віно́вым ту́зам.* Нямойта.

**ТУЗУВА́НЫ** *прым.* Перацёрты, памяты. *Тузува́ная ўся са́ло́ма цяпе́р праз машы́ну.* Багданава.

**ТУК** *м.* Растоплены тлушч. *Калі яка́я ко́стка ё – ко́стку укініш, а німа́ – так запра́віш ту́кам.* Багданава. *На тук усё са́ла перабе́гла.* Леснікова, Партызаны.

**ТУЛЯ́ЦЦА** *незак.* Бадзяцца, хадзіць без справы. *Лянівец ён, ло́дыр, гультай, туля́ікца, туля́ікца, каб ме́ній парабо́тать.* Міцюкова.

**ТУМА́К** *м.* Цёмны, неадукаваны чалавек (?). *А якія тут лю́дзі?! Тумакі́ стары́я!* Партызаны.

**ТУМА́Н** *м.* Туман. *Пашлі́ тума́ны – пашлі́ грыбы́.* Пожанькі, Леснікова, Партызаны. *Ці гэ́та тума́н на кры́шы, ці дым?* Нямойта.

**ТУ́МАРНІК** *м.* Маўклівы чалавек. *Ну, ту́марнік, ніразгаво́рчывы. Шты ты стаіш, як ту́марнік, ні гаво́рыш нічо́га?* Багданава.

**ТУ́МАРНІЦА** *ж.* Вясёлая жанчына. *Была́ тъка́я ту́марніца, тъка́я вясёлая была́.* Івоні.

**ТУ́ПАЦЬ** *незак.* Тэпаць, ісці. *Павязло́ ба́бі, а то ту́пала п.* Фасаўшчына.

**ТУРБУВА́ННЕ** *н.* Праяўленне клопату, перажыванне. *І вам за турбува́нне спасі́ба.* Багданава.

**ТУРБУВА́ЦЦА** *незак.* Турбавацца; праяўляць клопат, трывожыцца. *Ні турбу́йцеся, са́мі зро́бім.* Кішуроўшчына.

**ТУРГУВА́ЦЬ** *незак.* Таргаваць, гандляваць. *Яўрэ́і тургува́лі: прывазілі шэрсць, плюш чо́рный і бе́лый – дзе́сіць капе́ек аршы́н.* Багданава. *Дзе́луюць ларо́к і бу́дуць тургува́ць у нас хле́бъм.* Чуцькі, Гарадзец, Дольдзева, Карпавічы, Нямойта.

**ТУ́РКАЎКА** *ж.* Дзікі голуб. *Ту́ркаўка на дош крычы́ць.* Багданава.

**ТУРНУ́ЦЬ** *зак.* Прагнаць, адагнаць. *Куды-ні́бу́дзь турні́ яго́, каб ні міша́ў.* Вялікі Азярэцк.

**ТУРНЭ́ПСІНА** *ж.* Турнэпс. *Турнэ́псіну рва́лі на падвячо́рак.* Чуцькі.

**ТУРО́К** *м.* Падзыўная назва жарабяці. *Як ма́нюць мале́нькага жърабёнка – туро́к, тпру́сенька.* Кавалі.

**ТУРО́К** *м.* Мядзведка. *Туро́к – махна́цінькі жук такі́, асо́бінна у́трам як вы́йдзеш, ён, як ту́ркаўка «тур-тур-тур».* Запруддзе.

**ТУР-ТУР** *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць свіней. *Як зату́ркаюць свінням – тур-тур, – дамо́й каб бе́глі.* Багданава.

**ТУ́РХАЦЦА** *незак.* Штурхацца. *Во́чарадзь, ту́рхаліся, бува́ла, за во́д$^{m}$кай.* Вялікі Азярэцк.

**ТУСАВА́ЦЦА** *незак.* Змяняцца па чарзе, чаргавацца. *Адно́ по́ля, яно́ так тусу́ецца: сёліта пасе́юць уво́сінь жы́та зімнае, а тады́ вясно́й другоя по́ля пасе́юць – яр.* Самсоны.

**ТУСТЭ́П** *м.* Тустэп (танец). *Тустэ́п па па́рах, быва́ла, гуля́лі, усё уме́лі.* Марозаўка.

**ТУТ**, **ТУ́ТА** *прысл.* 1. Тут. *Тут радзі́ўся, тут і памрэ́ць.* Серкуці. *Тут ле́су ні́якага німа́.* Закур'е, Неўгадава. *Мо́жа, ту́та ёсць тэй грыб.* Фасаўшчына. *Мая ба́пка жыла́ ту́та.* Багданава, Алексінічы, Запруддзе. 2. Вось-вось, у найбліжэйшы час. *Каро́ва тут-тут ацялі́цца* [павінна]. Багданава.

**ТУ́ТАКА** *прысл.* Тут. *Мо́жна ту́така абажда́ць.* Дуброўкі.

**ТУ́ТАЦЬКА, ТУ́ТЭЦЬКА, ТУ́ТАЧКА** *прысл.* Тое ж. *Ту́тацька лісі́чкі, баравікі́ растуць.* Вялікі Азярэцк. *Далжны́ вы́страіць ту́тацька царкву́.* Багданава, Баравікі, Гарадзец, Кавалі, Манголія, Нямойта, Партызаны, Ульянавічы, Фасаўшчына, Неўгадава. *Пан пастая́ў з людзьмі́ ту́тэцька.* Ульянавічы. *Ту́тэцька стаі́ць стол.* Неўгадава. *Адна́ сям'я́ ту́тачка к ма́тцы прые́хала.* Нямойта.

**ТУ́ТАЦЬКІ, ТУ́ТАЧКІ** *прысл.* Тое ж. *Сат ту́тацькі яшчэ́ па́нскі.* Турава. *У яе́ ту́тацькі мно́га падру́г.* Розмыслава, Гарадзец, Закур'е. *У бязме́на пабі́тыя то́чкі, значкі́ такія ту́тачкі.* Вялікі Азярэцк.

**ТУТЭ́ШНІ** *прым.* Тутэйшы, мясцовы. *Ён чълаве́к ні туте́шні, то ні зна́іць.* Серкуці.

**ТУ́ХАЛЛЯ** *ж.* Тухліна. *Ба́нка па́хне ту́халляй.* Запруддзе.

**ТУ́ХНУЦЬ** *незак.* Затухаць, пераставаць гарэць. *Са́мыя ху́жэе дро́вы – ліпо́вые, гары́ць, жар ту́хніць.* Партызаны.

**ТУ́ЧА** *ж.* 1. Хмара. *Ту́ча ідзе́ць, цёмная така́я.* Нямойта, Багданава. 2. *перан.* Вялікая колькасць чаго-н. *Як чо́рная ту́ча, е́дуць на каня́х.* Леснікова.

**ТУ́ЧАНЫ** *прым.* Тукавы, які выдзяляе многа туку. *Ту́чанае ду́жа са́ла: у харо́шае надво́р'е забі́лі – ту́ку мно́га.* Багданава.

**ТУ́ШАНЫ** *прым.* Тушаны. *Ту́шаныя грыбы́: сырэ́я грыбы́ атва́рым, аццэ́дзім, у чугуно́к пъкладзёш, укры́шыш цыбу́ліну, са́ла, пасо́ліш – і у печ.* Дольдзева.

**ТУШО́НКА** *ж.* Тушаная бульба. *Тушо́нка – е́та ту́шанья бу́льба, жы́ру кладу́ць, мя́са кла́лі.* Вялікі Азярэцк.

**ТУШО́НКА, ТУ́ШАНКА** *ж.* 1. Тушанае мяса. *Паста́ўлю ту́шанкі ў печ да бу́льбы.* Міцюкова. *Забі́ла пітуха́ – паста́ўлю тушо́нкі.* Міцюкова. 2. Тушанае мяса, прыдатнае для закатвання ў слоікі. *Тушо́нкі ро́бяць с паъдчаро́ўка.* Багданава.

**ТУШЫ́ЦЬ** *незак.* Варыць на малым агні ў закрытай пасудзіне. *Мо́жна тушы́ць дурні́цы без са́хару.* Вялікі Азярэцк.

**ТХАРАНЁНАК** *м.* Тхараня. *Тхары́ца з тхаранёнкъм у ле́се, а тхор курэ́й таска́іць.* Багданава.

**ТХАРЫ́ЦА** *ж.* Самка тхара. *Тхары́ца адны́м слядко́м да ба́ні хадзі́ла.* Партызаны.

**ТХОР** *м.* Тхор, шашок. *Тхор есь курэ́й, ваню́чы такі́, ён як пу́сьціць э́ту вонь.* Багданава. *Усі́х чы́ста ву́тък піраця́гну́ў тхор, а ку́рыцы то́лькі галаву́ аткі́нуў.* Партызаны. *Тхаро́ў мно́га ё, гэ́тых хоць адба́ў.* Марозаўка, Гарадзец, Буй, Каралевічы, Латыгаль, Міцюкова, Ульянавічы.

**ТЫ** *займ.* Ты. *Нашто́ ты къня́ укра́ў?* Гарадок.

**ТЫН** *м.* 1. Агароджа з жэрдак, у якія ўстаўляліся яловыя сукі. *Тын гърадзі́лі: се́клі ад ёлак крыве́я сукі́.* Вялікі Азярэцк. *Та́та тын зрабі́ў: жардзі́ны ўсяго́ дзве прыбі́ў.* Гарадзец. *Тын цяпе́р ужо́ забо́р заве́цца.* Серкуці. 2. Вароты з жардзінак. *Аччэні́, ма́мэнька, но́вы тын!* (з песні). Партызаны.

**ТЫНКУВА́ЦЬ** *незак.* Тынкаваць. *Ха́ту шчыкату́рылі, тынкува́лі.* Багданава.

**ТЫНО́ЎНІК** *м. зб.* Яловыя сукі, кійкі ў тыне. *У ты́ні тры жардзі́ны, і пірьплі́та́лісі тыно́ўнікъм.* Запруддзе.

**ТЫ́СЯЧА, ТЫ́СІЧА** *ліч.* Тысяча. *Я дзьве ты́сячы мълъка́ ле́тась здъла́.* Малы Азярэцк. *Па дзве ты́січы* [рублёў] *ў канцы́ го́да палучы́лі.* Цясішча.

**ТЭЛЕБА́ЧАННЕ** *н.* Тэлебачанне. *Ге́та белару́скае тэлеба́чанне пъка́зваіць.* Гарадзец.

**ТЭРАПЕ́ЎД** *м.* Тэрапеўт, доктар. *Я ста́ла гавары́ць тэрапе́ўду.* Нямойта.

**ТЭРЦ** *м.* Дрыжанне, тупат. *Ска́чуць, аш тэрц па падло́зе ідзе́ць.* Кішуроўшчына.

**У** *прыназ.* 1. У (месца, напрамак, час і інш.). *Пръвязлі ў Віцепск сына.* Запруддзе. *Наваруць крупені чыгун – у вядро.* Гарадок. *У хаці не гаварыць, а сядзіць і маўчыць.* Багданава. *Пчолы – у паход, а трутні ахраняюць рамоўку.* Неўгадава. *У тэй бок мы жылі.* Міцюкова. 2. У (пры ўказанні на ўладальніка). *У нас было дзевіць кароў, і па тры літры за суткі дувалі мълька, а цяпер – дваццаць.* Чуцькі. *У нас радоўкі сталі упътръбляць з тысіча дзівіцьсот сімідзісятъга года.* Пожанькі. 3. У, на, творны беспрыназоўнікавы (спосаб дзеяння). *У жорны змеліш і спячэш, во ужо і радасць.* Нямойта. *Памнуць у мяліцу лён.* Фасаўшчына. *Цяпер уцюгом уцюжуць, а даўней у качалках качалі.* Вялікі Азярэцк, Галашчакіна, Карпавічы, Самсоны. *У рукі шые ці на машынку?* Багданава[1]. *Цяпер жа рукамі не бяруць* [лён]. *У рукі жалі сярпом. Цяпер жа ў рукі ня жнуць.* Гарадзец. *У нас у рукі рэзълі дошкі.* Багданава. *Ай, і ў рукі круцілі лён. У рукі малацілі лён. І авёс, і ячмень, і жыта – усе ў рукі.* Запруддзе. *Во ў рукі так во трэш лён.* Заазер'е. 4. Па, за (мэта). *Пойдзім у ягады, у грыбы.* Вялікі Азярэцк. *З Воршы прыіжджаюць машыны людзей у грыбы.* Міцюкова, Запруддзе. *У пятніцу паедзім у чарніцы у Церабені.* Забор'е, Алексінічы. 5. На, к, да (месца, час, аб'ект). *Нас, дзяцей, пакідалі ў калёсы, мы ляглі і паехалі.* Розмыслава, Мянюцева. *Рыба выходзіць у берьх.* Багданава. *Аракі ў берьх ідуць, на агонь.* Сянно. *«Пайду ў завот», – сказаў сын. Цяпер работаіць масцірам.* Івоні. *Работала да вайны ў заводзі малошным.* Нямойта. *Мъладзёш гуляе хлебам у мячыка.* Станюкі. *У Каляды думала з'ездзіць да дзяцей.* Багданава. *А ён – у дубкі, як стала баба гаварыць дактарцы, што яе сын кідаець у ваду малых.* Нямойта. *Быў у выглядъх той злодзій.* Запруддзе. 6. Каля, ля, побач (прасторавая сумеснасць). *У рэчкі быў куст.* Багданава.

**УБЕЙСТВА** *н.* Забойства. *Насілія, убейства развялося.* Багданава. *Кап толькі прыкрацілася гэта убейства.* Серкуці, Савінічы.

**УБЕЙЦА** *м.* Забойца. *Нідзе ні нашлі убейцы.* Кавалі.

**УБІВАЦЦА** *незак.* 1. Заганяцца, прымацоўвацца. *Бабка ўбіваецца ў калодачку, кляпіць малатком.* Розмыслава. 2. Гараваць, бедаваць, пакутаваць. *Убівалася па айцу так, што ўсё забывалася.* Запруддзе. 3. Працаваць звыш сілы. *Катрая дужа ні убіваецца на гэтай рабоце.* Запруддзе.

**УБІВАЦЬ** *незак.* Забіваць. *У нас дужа ні ўбівалі людзей.* Запруддзе.

**УБІРАЦЬ** *незак.* 1. Капаць (пра бульбу). *Паехалі ўбіраць бульбу.* Багданава. 2. Грэбці (пра сена). *Въскрасенье – нічъво ні дзелъли, а сена граблі. Эта што пакойнік: сена нада убіраць.* Савінічы, Леснікова.

**УБІТЫ** *дзеепрым.* 1. Забіты, увагнаны. *Быў убіты гвозд, яны* [ластаўкі] *абляпілі яго і кала вакна дзелаюць гнёзды.* Фасаўшчына. 2. Цвёрды, утаптаны. *Нада штобы зямелька не была ўбітай, тады не зніцеюць гуркі.* Розмыслава.

**УБІЦЦА** *зак.* 1. Залезці, забрацца ў недазволенае месца. *Каб якія дзеці ў хату убіліся: ніхто ня лес, ніхто ні браў.* Запруддзе. 2. Стаць каля чаго-н. *Ідзіця вы к столу, а то убіліся у шчыт.* Багданава. *Каб ты ў зямлю ўбіўся!* (праклён). Багданава.

**УБІЦЬ** *зак.* Абязболіць шляхам прыпякання. *Нерв уваб'ю кіслатой, корань* [зуба] *сам выйдзе.* Нямойта.

**УБІЦЬ** *зак.* Накіраваць на што-н. *Конь упудзіўся, і дзед яго ў пастройку ўбіў.* Самсоны. ◊ ХОШ УБЕЙ. Выказванне немагчымасці што-н. зрабіць. *Іншы раз хош убей нічога есці не магу.* Закур'е.

**УБОГІ** *прым.* Жабрак. *Убогіе – па беднасці людзі – даўней хадзілі.* Партызаны.

**УБО́К** *прысл.* Убок. *Убо́к павяло́: кружэ́нне ў галаве́.* Вялікі Азярэцк. *Узна́лі ба́пкі ўзбо́жныя і вы́кінулі* [пахаванага] *с кла́дбішча ўбок.* Партызаны.

**УБО́РКА** *ж.* 1. Чыстка лесу. *Кап бува́лушная убо́рка была́, дзіля́нкі былі́ п харо́шыя.* Серкуці. 2. Уборка (ураджаю). *Дзве нядзе́лі німа́ до́жджу. Ужо́ трэ́ба: для убо́ркі гэ́та до́бра.* Серкуці.

**УБО́РНЫ** *прым.* Прыгожа апрануты, прыбраны. *Які́ убо́рны па́рънь!* Запруддзе.

**УБРА́ЖЫЦЦА** *зак.* Закіснуць. *Сянні́ малако́ здава́ць, а яно́ убра́жылася ужо́.* Станюкі.

**У́БРАНЬ** *ж.* Убранне; аддзелка, абсталяванне памяшкання. *Тъка́я ўжо у́брань красі́вая у царкве́.* Нямойта.

**УБРА́ЦЦА** *зак.* Зайсці, забрацца. *У лес убяро́мся далёка і дор дзяро́м.* Ульянавічы.

**УБРА́ЦЦА** *зак.* Прыбрацца, навесці парадак. *Я уста́ла: убра́лася ў ха́ці, пъдава́ла свíнням.* Заазер'е.

**УБРЫКНУ́ЦЬ** *зак.* Ударыць нагой, выцяць. *«Кап цябе́ пяту́х убрыкну́ў!» – пагаво́рка ў дзя́цькі была́.* Вялікі Азярэцк.

**УБУ́ХНУЦЦА** *зак.* Уваліцца, абрынуцца. *Вакно́ – е́та бало́та тако́я, пра́ма бі́за дна, яна́ ўбу́хнулася туды́.* Заазер'е.

**УБЫ́ТКІ** *мн.* Страты. *Сніш яі́чкі, які́я пабі́ліся, – убы́ткі бу́дуць* (павер'е). Каралевічы.

**УБЯДЗЁНЫ** *прым.* Перакананы, упарты. *Ёсь лю́дзі убядзёныя, тру́дна усё перавярну́ць.* Буй.

**УВАБІ́ЦЬ** *незак.* Разбіць, дадаць (яйка). *Заці́рку ва́рыш – мукі́ ўсы́піш, яйцо́ ўваб'е́ш.* Кішуроўшчына.

**УВАБРА́ЦЦА** *зак.* Спасці, увайсці ў берагі (пра ваду). *А січа́с въда́ увабра́лься, і німа́ нічаво́.* Ульянавічы.

**УВАБРА́ЦЬ** *зак.* 1. Згрэбці, прыбраць. *Во́сенню увабра́ла лі́сце, а цяпе́р панацерушы́лася.* Багданава. 2. Сабраць (ураджай і пад.), упарадкаваць. *Прые́ду, памагу́ увабра́ць агаро́д.* Розмыслава.

**УВАГНА́ЦЬ** *зак.* 1. Загнаць. *У сара́й ні ўвагна́лі каро́ву.* Партызаны. 2. Прагнаць, адвярнуць. *На́сця ўвъгна́ла каро́ву з ячме́ню.* Фасаўшчына.

**УВАГРЭ́ТЫ** *прым.* Нагрэты. *Злёзу, як машы́на увагрэ́та.* Серкуці.

**УВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Калоць, рабіць (уколы). *А та́я уко́лаў увадзі́ла ім.* Міцюкова.

**УВАЖА́ЦЬ** *незак.* Паважаць. *Адзі́н аднаго́ уважа́лі, то і слу́халіся.* Міцюкова. *Уважа́ем адзі́н аднаго́.* Ульянавічы, Фасаўшчына.

**УВАЖЫ́ЦЕЛЬНЫ** *прым.* Ветлівы. *Маладзёш была́ така́я уважы́цельная.* Буй. *Уважы́цельны: у чълаве́ка ёсць жа со́вісць.* Вялікі Азярэцк.

**УВАЗЛІ́ЦЦА** *зак.* Раззлавацца. *Тут і люба́я ўвазлі́лася п.* Багданава.

**УВАЙСЦІ́** *зак.* Выйсці з сударгавага стану. *Кіда́ецца, б'е́цца, паку́ль увой́дзець у сябе́* [пры падучай хваробе]. Гарадзец.

**УВА́ЛІСТЫ** *прым.* Прысадзісты. *Смаржо́к ра́нні вясе́нні грып, расце́ць къла зямлі́, ува́лісты.* Серкуці.

**УВАЛІ́ЦЦА** *зак.* 1. Зваліцца, упасці. *Ували́ўся ў во́зера.* Багданава. *Ува́лішся і дъ дна, въда́ тъка́я бузя́ная там.* Запруддзе. *Калі́ ўва́лісся ува сне і цябе́ выта́сківаюць, то табе́ го́ра, но про́йдзе* (павер'е). Каралевічы. 2. Завесціся, утачыцца. *Як уваліу́ся грыб* [грыб-паразіт], *з'еў вяне́ц круго́м ха́ты.* Савінічы. 3. Сесці (пра рой). *Патчэ́пюць* [вулеі на дрэве], *штоб рой уваліу́ся.* Каралевічы. 4. *экспр.* Увайсці. *Як у рай, ува́лімся у гэ́ту ха́ту.* Партызаны. *Насі́лу ў ха́ту ўваліу́ся.* Ульянавічы.

5. Зарадзіць, пачаць бесперапынна ісці, ліць (пра дождж). *Уваліўся дож, льлець.* Запруддзе. 6. Перабрацца. *Мурáшкі малéнькія, таракáны ў гóрад уваліліся цяпé-рацькі.* Вялікі Азярэцк.

**УВАЛÓКА** *ж.* Старая мера зямлі; валока. *Увалóка – пасці гектáр зямлí.* Нямойта. *Цяпéр гіктáры, а рáньшы дзісяціны, увалóкі.* Дольдзева.

**УВАМЛÉЦЬ** *зак.* Самлець. *Сасéдка аж увамлéла, як лóпнулі лапýшкай.* Запруддзе.

**УВАПРЭ́ЦЬ** *зак.* Добра ўварыцца, упарыцца. *Увапрэ́іць мяса – харóшае стá-ніць.* Запруддзе. *Гарóх увапрэ́іць, як пáруць.* Каралевічы.

**УВАПХНУ́ЦЬ** *зак.* Уперці, аддаць, навязаць. *Абы́ увапхнýць яé камý* [пра дачку на выданні]. Заазер'е.

**УВАРВÁЦЦА** *незак.* Убегчы, уляцець, ускочыць. *Ажны́ гэ́ты мáлец увар-вáецца – за глóтку мянé і давáй душы́ць.* Нямойта.

**УВÁРЫВАЦЬ** *незак.* Плавіць. *Бярэ́ш жалéза, абгінáіш на клін, кусóк жалéза лóжыш і увáрыіш у гарнé, каб жы́ткае, як вадá.* Жохава.

**УВАСЬМЁХ** *прысл.* Увасьмёх, васьмёра. *Увасьмёх бáбы ідýць, за плýгам – дзівяты.* Вялікі Азярэцк.

**УВАЎРЭ́ЦЬ** *зак.* Увапрэць, упацець. *Ах, уваўрэ́ў, сапрэ́ў ат хадзьбы́!* Багданава.

**УВÉЗЦІ** *зак.* Завезці, узяць. *Ні грáма ні ўвёз сéна сабé.* Дольдзева.

**УВÉРАНЫ** *прым.* Даверань. *Быў чълавéк увéраны, катóры і пашóў.* Сукрэмна.

**УВÉРХ** *прысл.* Уверх. *Салíць грыбы́ – увéрх рашóткъмі.* Пожанькі.

**УВÉСЦІ** *зак.* Уцягнуць нітку ў іголку. *Інá ў іróлку увядзéць* [нітку]. Заазер'е.

**УВÉСЦІСЯ** *зак.* 1. Завесціся. *Увялíся канаплí.* Дуброўкі. 2. Укараніцца. *Бя-рóска расцéць, дзе пішчáная зямлá, як увядзéцца, цáгнецца, каранíстая.* Багданава[1].

**УВÉСЬ** *займ.* 1. Поўнасцю, цалкам. *Вы́йшла ўся мукá, й на пéчыва німá.* За-пруддзе. 2. На працягу пэўнага часу, перыяду. *Адзíн рас на ўсёй вяснé быў у мянé.* Кішуроўшчына, Гарадзец.

**УВÉЧАРЫ**, **УВÉЧАРА** *прысл.* Вечарам, увечары. *Нъсалóдзім увéчара чáю і п'ём.* Чуцкі. *Сядзíм увéчары пóзна, а жэ́ншчыны пяюць.* Нямойта.

**УВÉЧЛІВЫ** *прым.* Пакалечаны, абязвечаны. *Увéчлівы быў бáцька, алé труда-любíмы.* Закур'е.

**УВЁРТАВАЦЬ** *незак.* Абгортваць, абматваць. *Рукý увёртъвала шáпашнікам.* Серкуці.

**УВЁРТКІ** *толькі мн.* Хітрыкі. *Увёрткі ўсякія ў кінé* [кіно]*: запýсціць бърадý, як Будулáй.* Нямойта.

**УВЁРТКІ** *прым.* Актыўны, працавіты. *Увёрткі чалавéк ён, а гэ́ты лянíвы.* Багданава.

**УВІВÁЦЬ** *незак.* Пераvіваць, скручваць. *Жэ́рдзі увівáлі увíткамі.* Марозаўка.

**УВІ́ДЗЕЦЬ** *зак.* Убачыць. *Кап яны́ увíдзілі, то й раты́ п разíнулі.* Кавалі. *Дзéўчыну увíдзеў і к ёй панёсся.* Партызаны.

**УВІ́ТКІ** *мн.* Скручаныя дубцы, галіны, якімі пераvіваюць плот; віткі. *Лазý круцíлі, кап ні лъмáлъся – увíткі рабíлі з лазы́.* Фасаўшчына. *Жэ́рдзі увівáлі ўвíт-камі.* Марозаўка, Нямойта.

**УВІ́ЦЦА** *зак.* Распладзіцца. *Моль як увілáся: і бáгын, і махóрку клáлі – што ня дзéлылі.* Ракаў Засценак.

**УВÓЙ** *м.* Дзве льняныя ці канапляныя ніткі, скручаныя разам; вяроўка. *Увóй уéцца з лёну, з пянькі, у дзве ствóлкі.* Запруддзе.

**УВО́ЛЮ**, **УВО́ЛЛЮ** *прысл.* Шмат, досыць. *Дроў у мяне́ уво́лю.* Нямойта. *Тэ́я гады́ было́ хле́ба уво́ллю.* Вялікі Азярэцк. *Уво́ллю хле́ба ні даю́ць.* Нямойта.

**УВО́СЕНЬ**, **УВО́СЕННЮ**, **УВО́СІНЬ** *прысл.* Увосень, восенню. *Уво́сень дзень ма́лый.* Багданава. *Уво́сінь кла́лі гной пъ́т кано́плі.* Гарадок. *Уво́сінь ку́ркі ў зямле́ расту́ць.* Дольдзева, Баравікі, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Міцюкова, Нямойта, Партызаны.

□ *Уво́сенню на дні во́сім пераме́н.* Запруддзе.

**УВЭ́ДЗГАЦЬ** *зак.* Запэцкаць, забрудзіць. *Увэ́дзгаюць ска́церкі, а мыць не́калі.* Запруддзе.

**УВЯЗА́ЦЦА**, **УВІЗА́ЦЦА** *зак.* 1. Звязацца з кім-н. *Мо́жыш з цыгъна́мі ўвіза́цца, ні атвя́жысся.* Самсоны. 2. Уключыцца ў справу, пачаць займацца. *Увя́жашся – не пу́сцяць з калхо́за.* Партызаны.

**УВЯЗА́ЦЬ**, **УВІЗА́ЦЬ** *зак.* 1. Звязаць. *Пучкі хво́шчу увя́жуць у бару́, прынясу́ць і шару́юць ку́бары, ла́ўкі, сталы́.* Запруддзе. 2. Прывязаць, прыладзіць. *Увя́жыш кудзе́лю к пра́сніцы.* Каралі. 3. Уціснуць сена на возе пры дапамозе жэрдкі і вяровак. *На́да увіза́ць вос, ге́та жэрць віза́ць вос.* Гарадзец.

**УВЯ́ЗВАЦЬ**, **УВЯ́ЗАВАЦЬ** *незак.* 1. Звязваць. *Або́рынка – кудзе́лю увя́зъваць.* Каралі. 2. Уціскаць сена на возе пры дапамозе жэрдкі і вяровак. *Увя́звалі се́на: наве́рх – жэрць, напе́радзе – пірадо́ўка, а ззя́дзі – вяро́ўка.* Гарадзец. *Вос увя́зваеш вяро́ўкай.* Леснікова. 3. Закручваць, ухутваць. *Увя́зваюць но́гі цё́плым.* Каралі.

**УВЯ́ЗНІК** *м.* Кусок недатканага палатна з махрамі, які выкарыстоўвалі для нашэння ежы ў поле. *Увя́знік дзе́лалі с канцо́ў кро́сін, яго́ бра́лі і яду́ на по́ле насі́лі.* Гарадзец. *Хто «тръпка́ч», а хто «увя́знік» зваў – гаршкі́ ўвя́звалі і на по́ле насі́лі.* Партызаны, Дольдзева, Запруддзе.

**УВЯРХУ́** *прысл.* Уверсе. *Дзе́рава сцяблі́стае, але́ высо́кае, го́лае, увярху́ то́лькі лі́сцікаў німа́шка.* Запруддзе.

**УВЯ́РЧЫВАЦЬ** *незак.* Спавіваць, закручваць. *Ю́пку, яка́я падно́шаная, распо́раш, і увя́рчывала* [дзіця]. Міцюкова.

**УВЯ́СКА** *ж.* Кусок недатканага палатна з махрамі, які выкарыстоўвалі для нашэння ежы ў поле. *Была́ ўвя́ска така́я: як ткалі кро́сны, пакіда́лі ніса́тканых: тут німно́шка саткана́, а тут – так ні́ткі. Пато́м э́та разрэ́жуць, сплятуць у такі́я касі́чкі і паста́вяць сюды́ чугуно́к ці гаршчо́к які́ – звя́жыш у руку́ і пашо́ў.* Гарадзец.

**УГАВО́Р** *м.* Дагавор, дамоўленасць. *Ні́хай с такі́м угаво́рам, а то ні дась.* Жохава.

**УГАІ́ЦЦА** *зак.* Урасці ў што-н. *Во́сці ў шчу́ку угаі́ліся, прыжылі́ся там.* Сянно.

**У́ГАР** *м.* Вугор. *У́гър зъхадзі́ў у на́ша во́зіра, дык ду́мълі, што вужа́ка і забі́лі па́лкъмі.* Багданава. *У́гър на не́рыст прыхо́дзіць* [у мясцовыя азёры]. Сянно.

**УГА́Р** *м.* Скідка пры прыёме сена на нарыхтоўчы пункт. *Прыёмшчыца зніла́ уга́р на се́на цэ́лую то́ну.* Мянюцева.

**УГА́Р** *м.* Чад. *Е́та уга́р, там у пе́чы, калі́ стаі́ць, ва́рыцца, мо́жа пабе́хчы, то ўгары́ш.* Багданава. *Я уга́ру ду́жа баю́ся.* Нямойта.

**УГА́РАК** *м.* Рэштка ад згарэлай лучыны; агарак. *Папалю́ я лучы́ну, не уга́ркі, / Прывязі́ нявё́стку у куха́ркі* (з песні). Чуцькі.

**УГА́РНЫ** *прым.* Чадны. *Дубо́выя дро́вы ду́жа ўга́рныя.* Нямойта.

**УГАРЭ́**, **УГО́РЫ** *прысл.* Уверсе, угары. *Све́чка гары́ць угарэ́.* Фасаўшчына. *Два уго́ры зубы́, то́лькі і ўсяго́.* Багданава. *Пры́тылка ў жо́рнах ё ўго́ры і ўнізу́.* Запруддзе.

**УГАСЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Пачаставаць. *Ма́ма любі́цель была́ угасці́ць.* Нямойта. 2. Моцна адлупцаваць. *Я бо́лі угашчу́, як ма́ма паё́дзіць.* Апечкі.

**УГАШЧА́ЦЬ** *незак.* Частаваць. *Што ма́ю, тым угашча́ю.* Вялікі Азярэцк.

**УГЛЯДА́ЦЦА** *незак.* Узірацца. *Я до́ўга углідаю́сь у вас.* Запруддзе.

**УГНАЁНЫ** *дзеепрым.* Угноены. *Зімля́ ні так угнаёная ціпе́р.* Гарадзец.

**УГНЯВІ́ЦЬ** *зак.* Увесці каго-н. у гнеў, раззлаваць. *Я ўгнявіла ро́жу: яна́ бале́ла: а я дзяржа́ла нагу́ сагну́ўшы.* Апечкі. *Уро́чную скулу́ угнявіш, мо́гуць адня́ць руку́, нагу́.* Партызаны.

**УГО́ДКІ, УГО́ТКІ** *толькі мн.* Памінкі праз год пасля смерці чалавека; гадавіна. *Ба́біны былі́ уго́дкі: урэ́залі аве́чку.* Запруддзе. *Куцця́ – на ўго́ткі.* Савінічы. *Падзяржу́ да ма́ткіных уго́дак.* Рэчкі.

**УГО́ЛАС** *прысл.* Уголас. *Уго́лас крыча́лі: «Дава́й есць!»* Буй.

**УГО́ЛЬНІЧАК** *м.* Трохвугольная торбачка для адціскання тварагу. *Уго́льнічкі былі́: сціснiш на со́нцы – сма́шны.* Вялікі Азярэцк.

**УГО́РУШ** *м.* Вугор. *Уго́руш хадзіў на лугі́, а ба́бы ні зна́лі, ду́малі, што вужа́ка, і забіва́лі па́лкамі.* Багданава.

**УГО́Т** *м.* Памкненне дагадзіць, прывеціць. □ *Нядо́рага уго́т, а до́рага ў рот.* Івоні.

**УГРАЗІ́ЦЬ** *зак.* Прыгразіць, строга папярэдзіць. *Угразі́лі нам, штоп ні право́дзілі ніякую агітацыйную рабо́ту.* Фасаўшчына.

**УГРАСЦІ́** *зак.* Згрэбці. *Ко́нчыць э́ту ніву, ураcці на́да граблямі гэ́тый узме́жак, бе́рах гэ́тый.* Гарадзец.

**УГРО́БІЦЬ** *зак.* Вынішчыць, спустошыць. *Угро́білі зямлю́.* Буй.

**УГРУНЁМ** *прысл.* Бягом. *А я ні зна́ла і угрунём пабе́гла.* Серкуці.

**УГРУ́НЬ** *прысл.* Тое ж. *Сто́лькі вужа́к вы́паўзла, што ён перахрысці́ўся і ўгрунь бег, каб іх не ві́дзець.* Ракаў Засценак.

**УГРУНЬКО́М** *прысл.* Тое ж. *Я ра́ньшы угрунько́м бе́гала, а цяпе́р – ні магу́.* Савінічы.

**УГРЭ́ЦЬ** *зак.* Сагрэць, нагрэць. *Натру́, угрэ́ю – вот засну́ хоць ско́лькі.* Гарадзец.

**УГУБІ́ЦЬ** *зак.* Забіць, загубіць. *Лу́ччы п яго́ ўгубі́ў, чым на свет такі́м пусці́ў.* Закур'е.

**УГУМАНІ́ЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Прыкончыць, выпіць усё да астатку. *Дъста́ў ішчэ́ паўлі́тру, і гэ́ту угумані́лі, мулува́та, алі́ бо́лі німа́.* Сянно.

**УДАБРО́НЫ** *дзеепрым.* Угноены. *Зямля́ тут удабро́нъя.* Запруддзе.

**УДАБРЫ́ЦЬ** *зак.* Угнаіць. *Дзе ш ты ўсю зямлю удабры́ш?* Каралі.

**УДАВА́** *ж.* Удава. *Іна́ ўдаво́й ужо́: муш мълады́ памёр.* Заазер'е. *Е́слі муш памёр, то э́та ўдава́.* Леснікі, Баравікі, Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Неўгадава.

**УДАВА́ЦЦА, УДУВА́ЦЦА** *незак.* 1. Атрымлівацца. *Мы ўсё рабо́талі, і нам усё удъ^а^ва́лась.* Заазер'е. 2. Атрымлівацца дабраякасным. *І харо́шы хлеп удува́ўся. А як у вайну́ і по́слі вайны́ пяклі: шылуху́ збіра́лі, што ат бу́льбы, тады́ таўклі яе́ ў сту́пі, а калі́ ў жо́рны мало́лі.* Серкуці.

**УДАВЕ́Ц, УДУВЕ́Ц** *м.* Удавец. *Удаве́ц – калі́ жо́нкі ням́а.* Багданава, Закур'е. *Ма́ма мая́ прышла́ сюды́ за́муж за ўдуўца́.* Савінічы.

**УДАГО́Н** *прысл.* Наўздагон. *Кабы́лу украла́: удаго́н паехълі, дъгна́лі злодзеяў.* Заазер'е.

**УДА́РЫЦЬ** *зак.* 1. Узняцца, пачацца (пра боль). *У галаву́ боль тады́ уда́рыў, як тру́дна было́ жыць.* Цясішча. 2. *перан.* Раптоўна наступіць, пачацца з вялікай

сілай (пра з'явы прыроды). *Марóс бальшы́ тады́ ўдáрыў.* Нямойта. *Срáзу марóзы ўдáрылі.* Партызаны.

**УДÁЎ** *м.* Вераценніца, гадзюка (?). *Ёсетка удáў у лéсі.* Партызаны.

**УДАЎНІ́ЦЬ** *зак.* Надоўга затрымацца (пра стан). *Як удаўніць нуд, сáма хýжа, на галавý, на сéрца, на ўнýтранасць, éслі срáзу не схвóцішся.* Партызаны.

**УДÁЦЦА** *зак.* 1. Атрымацца дабраякасным. *А як сóдзім у астáтнія дні – удáсца бýльба óчынь харóшая: глáдзінькая, бéлінькая, чысценькая!* Запруддзе. *Ня ўдáўся хлеп.* Станюкі, Заазер'е, Серкуці, Чуцькі, Неўгадава. 2. Добра запомніцца; засесці ў памяці. *Удалóся мне ў пáмяць, як зáраз пóмню.* Ульянавічы.

**УДВАЁХ, УДВАІ́Х** *прысл.* Удваіх. *Удваёх з жанóю жывýць.* Розмыслава. *Там удваёх жывýць старыкі.* Запруддзе. *І гéдак прышлі дамóў удваíх.* Гарадзец. *Дрóвы рэ́зала с хазя́інам удваíх.* Савінічы, Жохава.

**УДВАЙНÉ** *прысл.* Удвая. *Плаціл̆і ў калхóзе за выхадныя удвайнé.* Ракаў Засценак.

**УДЗВЮ́Х, УДЗВУ́Х** *прысл.* Удзвюх. *Удзвю́х спáлі на дзівáне.* Вялікі Азярэцк. *Мы тóлькі удзвю́х астáлісі.* Самсоны, Баравікі, Кішуроўшчына, Партызаны. *Мы удзвýх с сястрóй ідзём.* Алексінічы.

**УДЗЁНУЦЬ** *зак.* Уцягнуць нітку ў іголку. *Магý нітку у ігóлку удзёнуць.* Дуброўкі.

**УДЗЁНЬ** *прысл.* Удзень, днём. *Тады́ ўжо русáлку удзéнь гъня́лі ў жыта.* Партызаны.

**УДЗЁРЖЫЦЬ** *зак.* Затрымаць. *А хто іх мóжыць удзéржыць?* Фасаўшчына. ◊ УДЗЁРЖЫЦЬ У ГАЛАВÉ. Пастаянна думаць, помніць пра каго-, што-н. *Усё ў галавé німóжна ўдзéржыць.* Каралевічы.

**УДÓБСТВА** *н.* Выгоды. *Далí са ўсім удóбствам кварці́ру.* Нямойта.

**УДÓД** *м.* Удод. *Удóд красівінькій закудáктъў: то-то-то.* Сянно.

**УДÓТ** *м.* Доўгачасовая агнявая кропка (*руск. ДОТ*). *Дзéлалі такія удóты, байніцы такія.* Ракаў Засценак.

**УДРУЖЫ́ЦЬ** *зак.* Даць, узычыць. *Я вам трóху удружý чабóру.* Міцюкова.

**УДРЭ́БЕЗГІ** *прысл.* Ушчэнт, цалкам. *Разбíў удрэ́безгі.* Савінічы.

**УДУ́МАЦЦА** *зак.* Задумацца, паглыбіцца ў роздум. *Éслі удýмъісся – расстрóісся.* Заазер'е.

**УЁЗД** *м.* Праезд, заезд у двор. *Уéзду у мінé німá, тóлькі длі къня́.* Нямойта.

**УЁЗНЫ** *прым.* Пра цэнтральны горад уезда ў царскай Расіі. *Сяннó быў уéзны гóрад.* Ульянавічы.

**УЁСЦІ** *зак.* Папсаваць здароўе, нервы. *Уéў мянé, пъразíт, і сам падóх!* Заазер'е.

**УЁХАЦЬ** *зак.* Заехаць. *Як засéюць лю́дзі гарóды, ка мне на гарóт не ўéдзіш.* Нямойта.

**УЖАЛЁЦЬ** *зак.* Уберагчы. *Жалéў жóнку і не ўжалéў.* Рэчкі.

**УЖАЛЁЦЬ** *зак.* Утушыцца. *Як у печ пъстáвіць і як крэ́пка стýшыцца, кáжуць ужалéла.* Алексінічы.

**УЖÁЛІЦЬ** *зак.* Уджаліць, укусіць (пра насякомае). *Ужáліў авадзéнь, укусíў.* Фасаўшчына.

**УЖАХНУ́ЦЦА** *зак.* Жахнуцца, быць уражаным. *Урячы ужахнýлісі, як убáчылі, што зрърслáся нъгá палóманъя, якýю вылечыла Хадóра з-пад Бялы́навіч.* Самсоны.

**УЖО́, УЖЭ́** *прысл.* 1. Ужо. *Мы астанавілісі у лесі, то ужо́ чарніцы ёсь.* Сянно. *Стары́я ужэ́ усе́ атміра́юць.* Багданава, Гарадок. 2. *часц.* Вось дык. *Ну, вы ўжо гъ*[а]*варуны́.* Багданава.

**УЖЫВА́ЦЬ** *незак.* Дажываць. *Стары́я лю́дзі дъ дзівяно́ста, ста гадо́ў ўжыва́юць, а мы підзіся́т гадо́ў – і с капы́лля дало́ў, ат удабрэ́ння ўсё.* Мянюцева.

**УЖЫ́ЦЬ** *зак.* Ужыцца. *Яе́ хара́кцер дрэ́нны – не ўжы́лі.* Багданава.

**УЗА́ДЗІ** *прысл.* Ззаду. *Напе́радзе – перадо́ўка, а ўза́дзі – вяро́ўка.* Гарадзец.

**УЗАДРА́ЦЦА** *зак. эмац.-ацэн.* Залезці з цяжкасцю. *Як яна́ ўзадра́лася на ёўню, ні зна́ю ціпе́р.* Багданава.

**УЗАДРА́ЦЬ** *зак.* 1. Адарваць. *Трэ́ба было́ засто́ліну узадра́ць.* Заазер'е. 2. Узадраць, узараць. *Там до́бры лух, яго́ ні ўзъдра́лі, там рэ́чка.* Міцюкова.

**УЗАЛЛІ́ЦЬ** *зак.* Наліць. *Наве́рх мълака́ ўзаллю́.* Манголія.

**УЗАРА́ТЫ** *дзеепрым.* Узараны. *Даро́га ўзъра́тъя, там ні прае́дзіця.* Гарадзец.

**УЗАРА́ЦЬ** *зак.* Паараць, узараць. *На́ зіму ўзара́ў гаро́д пад лён.* Міцюкова, Багданава.

**УЗА́РВАЦЦА** *незак.* Паднімацца. *Рог сало́мы ўза́рваецца на ха́ці, трэ́ба глядзе́ць.* Дольдзева.

**УЗАРВА́ЦЬ** *зак.* Узарваць; разбурыць выбухам. *Узърва́лі дом.* Вялікі Азярэцк.

**УЗБІВА́ЦЬ** *незак.* Дадаваць разбіваючы (яйкі). *Малако́, я́йкі ўзаб'е́ш і са́ла туды́, кълбасы́ – і прыці́рка, мъка́лі бліны́.* Заазер'е.

**УЗБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Залезці, забрацца. *Чаго́ ты ўзбі́ўся на плот?* Станюкі. 2. З цяжкасцю абзавесціся, разжыцца. *Чуць узбіліся на буракі́ скатны́я, а то шы́шкі з асакі́ е́лі* [пасля вайны]. Партызаны. 3. Вярнуць голас, загаварыць. *Я на го́лас узбі́лася.* Баравікі.

**УЗБІ́ЦЦА** *зак.* 1. Наскочыць, наткнуцца. *Каб мне на е́ты ка́мень не ўзбі́цца.* Савінічы. 2. Узляцець. *На сухо́е дзе́рава узаб'е́цца буця́н і начу́іць адзі́н.* Нямойта.

**УЗБІ́ЦЬ** *зак.* Разбіць. *Нъта́ша, ідзі узбі яе́чка.* Багданава.

**УЗБО́ЖНЫ** *прым.* Набожны. *Като́рая узбо́жная, пасці́ла то́жа на Спа́са, як спа́саўка была́.* Партызаны.

**УЗБУ́РАНЫ** *прым.* Узбударажаны, узвінчаны. *Нерв сільна узбу́раны, а се́рца мне ні прызнаюць.* Багданава.

**УЗБУРЫ́ЦЬ** *зак.* Аднавіць; узбудзіць зноў (крымінальную справу). *Узбуры́лі гэ́та дзе́ла і засудзі́лі зало́ўку.* Багданава.

**УЗБЯРЭ́ЖЖА** *н.* Мяжа, край поля. *Узбярэ́жжа было́ аш шэ́рае ад жуко́ў.* Апечкі.

**УЗВА́Л** *м.* Узвышша. *Узва́л – гэ́та гару́шка, а тут, уніз́у, ручаёк прахо́дзіў.* Леснікова.

**УЗВАЛІ́ЦЦА** *зак.* 1. Напасці, з'явіцца ў вялікай колькасці. *То чэ́рві узва́люцца на капу́сту, то то́я.* Запруддзе. 2. *эмац.-ацэн.* Накінуцца з лаянкай. *Як узвалю́ся на яго́, усё адно́ сваё тво́рыць.* Дольдзева. *Каб на цябе́ лі́ха ўзвалі́лася!* (праклён). Запруддзе.

**УЗВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Наварыць. *По́лівачкі узвару́ калі.* Івоні.

**УЗВЕ́СЦІ** *зак.* Пачаць спяваць, падрыхтавацца да спеваў (пра голас). *Го́ласа нямо́жна ўзве́сці: сі́лы няма́ адка́шляцца.* Дольдзева. *Хачу́ пача́ць пе́сню, го́лас не ўзвяду́.* Баравікі.

**УЗВЕ́СЦІ** *зак.* Узвесці; ведучы, дапамагчы ўзысці, падняцца наверх чаго-н. *Чэ́рці яго́ на гла́ткі ка́мень ўзвялі, раздзе́лі, палажы́лі спаць да пітухо́ў* (з казкі). Багданава.

**УЗВО́Д** *м.* Пра вялікую колькасць чаго-н. *Сухаро́ў у цябе́ – на цэ́лы ўзвод.* Ульянавічы.

**УЗВЯЛІ́ЧЫЦЬ** *зак.* Пахваліць. *Узвялі́чыць чалаве́ка трэ́ба, а не га́ніць.* Запруддзе.

**УЗВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Істотна змяніць. *Узвярну́лі ўсё: і чо́бар не расцу́ць па кана́вах, дзе рос ране́й.* Багданава.

**УЗГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Ганяць, пасвіць. *Пе́рвыя гады́ узгъня́лі каро́ў на гэ́ты лух, а цяпе́р і чорт бо́сы ня про́йдзіць.* Баравікі.

**УЗГЛЯ́Д** *м.* Погляд; выраз вачэй. *Узгля́д у яго́ ні харо́шы, ні красі́вы.* Запруддзе. *Зло́снага ўзгля́ду німа́ да́йжа ў до́ктара.* Нямойта.

**УЗГО́Р'Е** *н.* Узгорак. *Узго́р'е – така́я го́рка паро́сшы.* Вялікі Азярэцк.

**УЗГУДУВА́ЦЬ** *зак.* 1. Выгадаваць, выхаваць. *Сама́ дзе́ці ўзгудува́ла.* Івоні. 2. Выкарміць, вырасціць (свойскіх птушак і жывёлу). *Нямо́жна узгудува́ць ціпля́т: варо́на хвата́еиь.* Ракаў Засценак.

**УЗДАВА́ЦЬ** *незак.* Дадаваць духу, узнімаць пару ў лазні. *Дух уздъва́ць – кру́шку во́зьміш і на ка́мні узліе́ш.* Марозаўка.

**УЗДЗВІ́ЖАННЯ**, **УЗВІ́ЖАННЯ** *н.* Восеньскае свята ў народна-царкоўным календары. *А ўво́сень – кірма́ш на Ўздзвіжання.* Вялікі Азярэцк. *На Ўзвіжання усі вужа́кі хува́юцца ў но́ры.* Самсоны.

**УЗДЗЕ́РЦІСЯ** *зак.* Узабрацца, ускараскацца, узлезці. *Чаго́ ты на дзе́рава уздзе́рлъся?* Дольдзева.

**УЗДЗЕ́РЫЦЬ** *зак.* Адарваць. *Ляпёшкі з мяду́нкі ня ўздзе́рыш на патэ́льні.* Дуброўкі.

**УЗДЗЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Абуць. *На́да што на но́гі уздзе́ць.* Савінічы. 2. Насадзіць, надзець на што-н. *На ко́лік куль уздзе́нуць і зъпа́люць.* Каралевічы. 3. Узваліць на сябе. *За плечы уздзе́ніш бало́н, то ні так ужо́ ця́жка апы́льваць.* Нямойта.

**УЗДЗІРА́ЦЬ** *незак.* Узрываць, ламаць. *Уздзіра́лі патало́к, даску́, тады́ пампэ́ць чъраўні́к, а так цяжо́ла ду́жа яму́ пaмipа́ць.* Заазер'е.

**УЗДУ́МАЦЬ** *зак.* 1. Задумаць; намерыцца зрабіць што-н. *На мъладзі́к узду́мала въласы́ пъдраза́ць.* Багданава. 2. Успомніць, прыпомніць. *Як узду́маеш пра вайну́ – се́рца балі́ць.* Чуцькі. *Да́йця ўзду́маць пе́сню.* Багданава, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Леснікова, Ракаў Засценак, Розмыслава.

**УЗДУ́ХІ** *толькі мн.* Месца на целе, дзе паўкружжам канчаюцца рэбры; уздыхавіна. *Быва́іць, ка́шляіць, аш узду́хі зъбаля́ць.* Вялікі Азярэцк.

**УЗДУ́ЦЦЕ** *н.* Уздуцце жывата ў кароў. *Абдыма́іць каро́ву: узду́цце.* Багданава.

**УЗ'Е́ХАЦЬ** *зак.* Заехаць. *Уз'е́хаць на двор ні магу́: сто́лькі дроў.* Нямойта. *Нямо́жна ўз'е́хаць на гаро́т: сы́ра.* Заазер'е, Каралевічы, Чуцькі.

**УЗЕ́ШНЫ** *прым.* ○ УЗЕ́ШНАЯ КІШКА́. Прамая кішка. *Узе́шная кішка́ – гэ́та прама́я кішка́.* Рассвет.

**УЗЁЛ** *м.* Вузел. *Я узёл нъвіза́ла, у міня́ узёл звя́зъный, там на смерць усё.* Запруддзе. ◊ САБА́ЧЫ УЗЁЛ. Від вузла. Запруддзе.

**УЗІ́КАЦЦА** *зак.* Імкліва бегчы, ратуючыся ад укусу гіза; гізаваць. *Узі́каліся каро́вы, бягу́ць дамо́ў.* Рассвет.

**УЗІ́МКУ** *прысл.* Зімой. *Узімку кýчамі сыпала пóпіл з брыкéту на гарóт.* Ракаў Засценак.

**УЗІМÝ** *прысл.* Зімой. *І ўзімý въдá, і ціпéр въдá.* Каралевічы.

**УЗЛÉЗЦІ** *зак.* Залезці, узабрацца. *Узялі калёсы бальшэі, бáба ніяк на іх не ўзлéзіць.* Нямойта. *Яны ўзлéзуць на печ ды галавáмі ў столь – трах!* Серкуці. *Не, ня ўзлéзіць кот туды, высóка.* Чуцькі, Латыгаль.

**УЗЛЁТАМ** *прысл.* 1. Беспераастанку. *Узлётам ляцяць гэтыя мýхі.* Запруддзе. 2. Гвалтам, наступам. *А ён – узлётам нъ мяне.* Запруддзе.

**УЗЛІ́ЦЦА** *зак.* Раззлавацца. *Узлішся на скаціну, бувáла.* Партызаны.

**УЗЛІ́ЦЬ** *зак.* Лінуць. *Крýшку вóзьміш і на кáмні узліéш.* Марозаўка.

**УЗЛЯЦÉЦЬ** *зак.* Узяцца. *Адкýль узляцéла моль?* Каралевічы.

**УЗМАКРЭ́ЦЬ** *зак.* Успацець. *Як лáска па храбцé карóвы бéгаіць, карóва аш узмакрэ́іць.* Партызаны.

**УЗМÉЖАК** *м.* Узмежак. *Ня éдзіць узмéжкъм трактарыст, а éдзіць па пóжні.* Рассвет. *Кóнчыць эту ніву – уграсьці нáда граблямі гэтый ўзмéжак, мяжý эту.* Гарадзец, Кавалі, Нямойта, Партызаны, Фасаўшчына. УЗМÉЖАЧАК *памянш.* *На узмéжачку травá расцéць.* Нямойта.

**УЗМÉЖЖА** *н.* Тое ж. *На гэту ніву нъвазілі гнóю, а гръблямі пъдбярэш узмéжжа.* Фасаўшчына.

**УЗНАСІ́ЦЦА** *зак.* Забегаць, замітусіцца, кінуцца шукаць. *Як узнасілісі шукáць, хто ўкраў.* Нямойта.

**УЗНÁЦЬ** *зак.* Зведаць. *Узнáлі вужáкі, як стáлі балóты асýшваць.* Нямойта.

**УЗНÉСЦІ** *зак.* 1. Занесці, схаваць. *Сабярэш травý, у пучóк звяжаш, пат страхý, на хáту узнясéш, кап сóнца ні былó.* Запруддзе. 2. Падкласці. *Буцян дзéлыіць выбракóўку: скініць дзяцёнка. Мы узнясём у гняздó, а ён тагó ш скіне зноў.* Сянно, Марозаўка, Нямойта, Неўгадава.

**УЗНЯСÉННЕ, УЗНÉСЕННЕ** *н.* Веснавое свята ў народна-царкоўным календары. *Узнясéння – эта, кáжуць, Бох лéзіць на нéба: с Пáсхі хóдзіць па зямлé, а на Ўзнясéнне лéзіць на нéба.* Вялікі Азярэцк. *Узнéсенне – сóрак дней ат Пáскі, Трóіца – пяцьдзесят.* Карпавічы.

**УЗÓР, ВУЗÓР** *м.* Узор. *І ўзóры вытакáлі.* Багданава. *Вузóры рáзныя дзéлалі, накладáннікі.* Вялікі Азярэцк.

**УЗÓРЧАСТЫ** *прым.* Узорысты. *Узóрчастыя шкапы былі, красівыя, і крáскамі крáсілі.* Запруддзе.

**УЗРÁДАВАЦЦА** *зак.* Абрадавацца. *Я ўзрáдавалася, як радзіла дзéвачку.* Сукрэмна.

**УЗРАСЦІ́** *зак.* Вырасці, стаць дарослым. *Як узрóс, то стаў памагáць людзям.* Чуцькі.

**УЗРАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Вырасціць, выгадаваць. *Дзяцéй узрасціла, а пóмачы ні ат кóга німá.* Ракаў Засценак.

**УЗРÝШЫЦЬ** *зак.* Падрапаць. *Шкýры ўзрýшыў, шрáмы на шкýры.* Рассвет.

**УЗРЫВÁЦЬ** *незак.* Зрываць, скідаць. *Пат крышу тóркалі вярбінку пасвянцóную, каб вéцер крышу ні ўзрывáў.* Савінічы.

**УЗРЫ́ЦЬ** *зак.* Раскапаць, перарыць. *Усё узрылі – і траў німá.* Каралі.

**УЗРЭ́Х, УРЭ́Х** *м.* Агрэх. *Арэш, узрэх пакінеш: бърънá не зачэпіць.* Серкуці. *Урэхі – дзе ні дасéіць.* Гарадзец.

**УЗЎБІЦЬ** *зак.* Нарабіць зазубняў. *Узўбіў касў, кóсіш, як удáраш, узўбіў касў.* Розмыслава.

**УЗЫМÁЦЦА** *незак.* Падняцца. *Узымáецца даўлéнне і прахóдзіць быстра.* Запруддзе.

**УЗЫСЦÍ**, **УЗЫЙСЦÍ** *зак.* 1. Зайсці. *Кýрыца узышлá на ячмéнь.* Ульянавічы. *На двор узóйдзеш – маé сыны́ разарвýць, як кацёнка.* Каралевічы. 2. Паказацца, з'явіцца на небе (пра месяц). *Во, мъладзік узышóў.* Заазер'е. 3. Прарасці, прабіцца на паверхню глебы. *Не ўзышлá бýльба.* Чуцькі. *Пагóда харóшая, дык пасéянае ўзóйдзіць.* Цясішча.

**УЗЫХÓД** *м.* Уваход. *І аттýлі узыхóд ёсь у пóграб.* Партызаны.

**УЗЫХÓДЗІЦЬ** *незак.* Узыходзіць, прарастаць. *Дóбра жы́та ўзыхóдзіць.* Гарадзец, Запруддзе.

**УЗЯ́ТКА** *ж.* Медазбор, ношка. *Іскóвыя пчóлы ішчуць, дзе ўзя́ткі браць.* Запруддзе.

**УЗЯ́ЦЦА** *зак.* Пачаць рабіць. *Узя́ліся раскóпваць вóзера.* Запруддзе. *Узя́ліся касíць гарóх.* Фасаўшчына, Каралі, Партызаны. ◊ УЗЯЦЦА ЗА УМ. Спахапіцца, паразумнець. *Стаў жыць, за ум узя́ўся.* Фасаўшчына.

**УЗЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Атрымаць у сваё карыстанне. *Загадáлі ім бяллё узя́ць, паўшýбак.* Партызаны. *Вазьмí вады́ ат сурóцы ад бáбы.* Самсоны. 2. Пачаць рабіць. *С пітнáццъці гадóў касý ў рýкі узілá.* Баравікі. *Што ні ўзяў, то здзéлаў.* Фасаўшчына. 3. Украсці. *Узя́ць нямнóшка – éта ні крáжа, éта дзялёшка* (прыгаворка). Івоні. 4. Запрасіць у памочнікі. *Бáцька тады́ узя́ў пáсціць карóў.* Партызаны. 5. Запрасіць жыць разам. *Яны́ ўзя́лі ягó к сабé жыць.* Івоні. 6. Уступіць у шлюб, ажаніцца. *Ён узя́ў удавý, у яé былó дзве дзéвачкі.* Вялікі Азярэцк. *Кóля Адамёнък узя́ў Кáцю Éвішку.* Сянно, Міцюкова, Нямойта. 7. Нечакана, рашуча зрабіць. *Аднамý брáту жáлка стáла, ён узя́ў і запалíў анбáр.* Міцюкова. *Узілá і пъднілá скры́ню.* Нямойта, Гарадзец. 8. Праявіць, паказаць. *Які харáктар узілá, вíдзіця?* Леснікова. *Кап цябé за сэ́рца узялó!* (праклён). Вялікі Азярэцк. ◊ УЗЯ́ЦЬ ЗА РАБРÓ. Прымусіць прызнацца пры дапамозе фізічнага ўздзеяння ці пагрозы. *Узя́ў за рабрó, янá і прызнáлася, што нагуля́ла дзіця́ ат другóга.* Розмыслава. ◊ УЗЯ́ЦЬ НА ВЎДАЧКУ. Прымусіць зрабіць што-н., падмануўшы, схітраваўшы. *На вýдачку узя́ў ягó, ён і прызнáўся.* Запруддзе.

**УКÁЛЫВАЦЬ** *зак. экспр.* Напружана працаваць. *Укáлываіць як чóрны вол.* Міцюкова.

**УКАРАЦÍЦЬ** *зак.* Скараціць, зменшыць. *Век лю́дзям укарацíлі: радыя́цыя.* Нямойта.

**УКАРМÍЦЬ** *зак.* Накарміць. *Брóйлераў укармíць німóжна: мнóга ядýць.* Буй.

**УКАСÁЦЦА** *зак.* Умяшацца. *Мужы́к і жóнка білíсі, пóйдзіш мíрыць, укасáісся, а яны́ кáжуць: «Якóя табé дзéла?»* Нямойта.

**УКАСНЎЦЦА** *зак.* Тое ж. *Ты, глядзí, ні ўкаснíся ў такóя дзéла.* Ульянавічы.

**УКÁТЫВАЦЬ** *незак.* Трамбаваць, укатваць поле круглым валікам. *Укáтывалі ячмéнь, каб рóўна булó касíць.* Фасаўшчына.

**УКАХÁЦЦА** *зак.* Закахацца. *Ні ў мълъдзя́на, дак у свáта ўкъхáіцца.* Леснікі.

**УКАЦÍЦЦА** *зак.* Закаціцца. *У ракý укацíлася, пад бéрах.* Серкуці.

**УКАЦÍЦЬ** *зак.* Закаціць. *Янá п'я́нага ўкацíла ў хáту і спалíла.* Кляпчэва.

**УКÍНУЦЬ** *зак.* Закінуць, апусціць. *Вядрó укíнълі ў калóдзіш.* Неўгадава.

**УКÍСНУЦЬ** *зак.* 1. Набыць кіслы смак. *Трэ́ба, кап укíсла цéста.* Карпавічы. *Хлеп дóлжын укíснуць.* Багданава, Вялікі Азярэцк. 2. Адсырэць, адмокнуць. *Бýльба укíсла уся́: дажджы́ ідýць і ідýць.* Запруддзе.

**УКЛА́СЦІ** *зак.* 1. Пакласці. *У рот укладу́, а е́сці ні магу́.* Нямойта. *Укладаю у кастру́лю і вару́.* Кавалі. 2. Прыправіць. *Смітаны як укладзе́ш, тады сма́шны суп.* Багданава. 3. Уцягнуць нітку ў іголку. *Нітку ў іго́лку ні магу́ саўсе́м укла́сці.* Закур'е. *Што зашы́ць на́да – чуць укладу́ нітку у іго́лку.* Багданава. 4. Пакласці спаць. *Укла́ла я спаць Ната́шку.* Багданава. 5. Аддаць, страціць (здароўе). *А ён так здаро́ўе укла́ў!* Заазер'е. ◊ МАЗГІ́ ЎКЛА́СЦІ. Навучыць; наставіць на жыццёвы шлях. *У а́рміі яму́ мазгі́ ўкладу́ць.* Цясішча.

**УКЛЕ́ЙКА** *ж.* Верхаводка (укляя; рыба). *Укле́йка – до́ўжанькая, жы́рная, як пасо́ліш – сма́чна.* Багданава. *Укле́йка ста́йкімі хо́дзіць, ло́віцца ў не́вът, у се́тку, у таптýн ле́зіць.* Сянно, Алексінічы.

**УКЛЕ́ЙНІЦА** *ж.* Сетка для лоўлі верхаводкі (укляі; рыбы). *Укле́йніца – з ча́стымі во́чкъмі, длі уклі́і.* Багданава.

**УКЛЕ́НЧЫЦЬ** *зак.* Стаць на калені. *Укле́нчыў і Бо́гу мо́лісся.* Багданава.

**УКЛЕ́Я, УКЛІЯ́** *ж.* Верхаводка (укляя; рыба). *Укле́я лаві́лася у Бярёзаўскім во́зеры.* Самсоны. *Уклія́ – ры́бка до́ўгінькая, як пло́тъчка, яе́ салі́ць ло́ўка.* Запруддзе. *Уклія́ – тъка́я ро́ўнья ры́бка: жывъткá німа́, пу́зца чуць-чуць.* Багданава, Фасаўшчына.

**УКЛІПА́ЦЦА** *зак.* Абазнацца. *Ці ты Ко́сцік, ці я ўкліпа́лься?* Гарадзец. *Стаў глядзе́ць ко́ні, шука́ць свайго́, каб ні ўкліпа́цца ў друго́га.* Самсоны.

**УКО́ПАНЫ** *дзеепрым.* ◊ стая́ць ЯК УКО́ПАНЫ. Нерухома, перастаўшы рухацца, замёршы на месцы (стаяць). *Ён стаі́ць як уко́паны.* Вялікі Азярэцк.

**УКО́С** *м.* 1. Укос. *Втары́ уко́с – ужо́ як пры́йдзецца.* Партызаны. *Як пе́рвы уко́с бяру́ць, скот пуска́юць.* Дуброўкі, Гарадок. 2. Пожня, сенажаць (як мера сена). *Пе́рвы уко́с ні далі́, а ці мая́ сі́ла кра́сці.* Партызаны.

**УКРАІ́ЦЦА** *зак.* Укараніцца. *Палі́тры́т, ка́жыць, украі́ўся, стаў храні́чъскім.* Запруддзе.

**УКРА́СЦІ** *зак.* Украсці. *Я які́ сноп магу́ укра́сці, а іна́ – нікъда́!* Гарадок. *А у нас тады́ каня́ укра́лі, чэрас гот.* Гарадзец, Запруддзе, Каралевічы, Нямойта, Сянно.

**УКРА́ТКАМ** *прысл.* Употай, крадком. *Укра́ткам рі́бу павы́бралі: і пло́тку, і ка́рпы.* Машчоны.

**УКРАШЭ́ННЕ** *н.* Упрыгожанне. *У пітуха́ ўсё украшэ́нне – пе́р'е.* Буй.

**УКРО́П** *м.* Укроп, кроп. *У капу́сту цяпе́р укро́п кладу́ць.* Багданава.

**УКРУГАВУ́Ю** *прысл.* Кругом. *Укругаву́ю мо́жна во́зера абысці́.* Багданава.

**УКРУГУ́** *прысл.* Навокал, паблізу. *Укругу́ ня було́ ме́льніцы.* Вялікі Азярэцк.

**УКРУЦІ́ЦЬ** *зак.* Скруціць, зрабіць. *Со́ску укру́цяць у зрэ́б'я – і сасі́.* Ульянавічы, Багданава, Самсоны.

**УКРУ́ЧВАЦЬ** *незак.* Абкручваць. *Укру́чваюць ру́ку пъскъння́мі – тады́ ляхчэ́й.* Запруддзе.

**УКРЫВЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць акрываўленым, укрывяніць. *Каб не укрыве́лі індзюкі́, ву́ткі, жгу́чка на́да.* Буй.

**УКРЫ́ЎДЗІЦЬ** *зак.* Пакрыўдзіць. *Во, мало́га укры́ўдзілі.* Багданава.

**УКУ́С** *м.* Укус. *Уку́сы о́саў – ядаві́тыя, хай яны́ падо́хнуць.* Партызаны.

**УКУСНУ́ЦЬ** *зак.* Адкусіць. *Два разы́ я́блыка укусну́ла.* Каралевічы.

**УКУ́СНЫ** *прым.* 1. Смачны. *Сок такі укýсны.* Багданава. 2. Прыемны, водарны. *Накýрыць бабýля мáю, зáпъх такі укýсны.* Ракаў Засценак.

**УКУСІ́ЦЬ** *зак.* Укусіць. *Вуж чóрны, ён урэ́дны. Калі ён укýсіць, то трýдна вы́лічыць.* Запруддзе.

**УЛАВІ́ЦЬ** *зак.* 1. Злавіць, паймаць. *Улóвяць буцянá, хлéба кінуць, а ён і не баіцца.* Багданава. *Ай, кот, што ён за бумáгай улóвіць мы́шыну?* Чуцькі. *Кръта́ мóжна ўлавіць за дзень сто штук: іх прымáюць шкýркі.* Марозаўка, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Міцюкова, Нямойта, Ракаў Засценак, Ульянавічы. 2. Арыштаваць. *Аднагó парцізáна тут, у Бáбках, улавілі.* Ня́мойта. *А ягó* [злодзея] *тут, у Бáбках, улавілі.* Цясішча, Запруддзе. ◊ У СТУ́ПЕ ТАЎКАЧО́М НЕ ЎЛО́ВІШ. Пра вельмі спрытнага, актыўнага чалавека. *Яé у стýпе таўкачóм не ўлóвіш.* Партызаны.

**УЛА́ДЗІЦЦА** *зак.* Наладзіцца. *Безлáддзе ў сям'і ў іх. Ці ўлáдзілася цяпéр?* Багданава.

**УЛА́ЖНЫ** *прым.* Вільготны. *Калі сéна улáжнае, тады́ ягó сóлюць, і карóва лýччы есь.* Вялікі Азярэцк.

**УЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* 1. Пакласці, палажыць. *Сóрак клёцак мáма пяклá на Саракí, у аднý улóжыць капéйку, як нóйдзіш – шчаслíвы.* Міцюкова. 2. Уцягнуць нітку ў іголку. *У іго́лку улажý нітку, а так мітусíць.* Баравікі.

**УЛА́ЗІЦЬ** *незак.* Запаўзаць, хавацца. *На Узвíжанне ўлáзюць у нóрку вужáкі, хъвáюцца.* Каралевічы.

**УЛА́Н** *м.* Валан; прышыўная палоска лёгкай тканіны або карунак у выглядзе фальбоны ці брыжоў на сукенцы. *Улáн на ю́пцы ў забóрку.* Нямойта. *Бры́ндачкі мáлінькія, а ўлан – бальшы́.* Гарадзец. УЛА́НЧЫК *памянш.* *Прышывáлі улáнчыкі, бры́нды і знíзу, і пóвірху.* Турава.

**УЛАТКАВА́ЦЦА** *зак.* Сесці, размясціцца. *Улаткýйцеся усé к сталý, каб сéлі і éлі.* Вялікі Азярэцк.

**УЛЕ́ВА** *прысл.* У левы бок. *Е́дзіш у Каплáны, тады́ два кіламéтры улéва і – Мáліш.* Пожанькі.

**УЛЕ́ЖЫЦЦА** *зак.* 1. Набыць неабходны смак. *Йна сураéжкі сырэ́я салíла, як улéжуцца – тады́ смáжылі.* Дольдзева. 2. Вылежацца (пра лён). *Лён ръссцілáлі на пóжні, штоп сцéлька былá аўгустóўскъя, тады́ бы́стра улéжыцца, і дóбръя вълакнó бýдзіць.* Закур'е.

**УЛЕ́ЗЦІ** *зак.* 1. Увайсці, забрацца. *Пакýль хъзяін прышóў, я ужó улéзла у хáту.* Самсоны. 2. Умясціцца. *Паўвідрá улéзіць у гарнéц.* Багданава. 3. Перасяліцца, перабрацца (у новае памяшканне). *Як у кагó дъстáткі якія, тъдá ўжо ўлáзіны дзéлаюць, я як нідастáткі, так і лáнна, улéзуць і жывýць.* Заазер'е.

**УЛЕ́ТА** *прысл.* Летам. *Улéта свінням хърашó – іллінáя мякíна.* Каралевічы.

**УЛЕ́ТКУ** *прысл.* Летам. *Улéтку дажы́нкі, як зярнó сажнýць.* Запруддзе. *Пастýх ён: зімóй глядзíць цілят, а ўлéтку пасéць.* Вялікі Азярэцк, Алексінічы, Кляпчэва, Нямойта.

**УЛЕ́ХЦЫ**, **УЛЕ́ХЦ** *прысл.* Паражняком, без нічога. *Е́дзіць улéхцы, біс сідакóў.* Гарадзец. *Вазóк – абыкнавéнныя сáнкі, éздзілі улéхц.* Гарадзец.

**УЛЕ́ХЧЫ** *зак.* Кінуцца наўздагон. *Як улёх кот за піскля́тъмі!* Партызаны.

**УЛЁТАМ** *прысл.* Вельмі хутка. *Як пъляцéлі ўлётам індыкí.* Каралевічы.

**УЛІВА́ЦЬ** *зак.* Наліваць. *Нъгдá гарэ́лкі ў рот улівáлі каню́, тады́ ён прэць, як шымашэ́ччый.* Самсоны.

**УЛІ́ПНУЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Унадзіцца, часта наведваць. *Улі́пла ка мне, хо́дзіць і хо́дзіць.* Міцюкова.

**УЛІ́ТЫ** *дзеепрым.* ◊ ЯК УЛІ́ТА. Дакладна па памеры. *На кані́ далжно́ усё як улі́та быць.* Гарадзец.

**УЛІ́ЦЬ, УВАЛЛІ́ЦЬ** *зак.* 1. Уліць, дадаць што-н. *Як хлеп учыня́лі, то сыва́ткі ульёш, і ён тады́ до́ўга нечарствы́.* Неўгадава. 2. Наліць. *Улей мне гу́шчы!* Карпавічы. *Я вады́ уваллю.* Багданава. *Я вам валлю малака́.* Багданава. 3. Моцна лінуць, пачаць ліць (пра праліўны дождж). *А дош як увальлёць.* Кляпчэва.

**УЛІЯ́ЦЬ** *незак.* Уплываць. *Во́зіра уліяіць на пчол.* Багданава. *Пло́ха ўліяіць тъка́я зіма́: мъкрата́, маро́зец.* Нямойта.

**УЛО́ВЫ** *толькі мн.* Спосаб лоўлі дзікіх звяроў пры дапамозе капкана. *Пайду́ на ўло́вы, пайма́ю за́йца.* Запруддзе.

**УЛО́ННЕЙКА** *н. памянш.* Абярэмак дроў. *Прынясі мне анно́ ўло́ннейка дроў.* Самсоны.

**УЛУПА́СІЦЬ** *зак. эмац.-ацэн.* Выпіць (гарэлкі). *Улупа́сіў ба гарэ́лкі і пашо́ў у ско́кі.* Рассвет.

**УЛУПІ́ЦЬ** *зак.* Адлупцаваць, агрэць. *Увя́зкай харашо́ не́сці і харашо́ улупіць дзіця́м, хто ня слу́хаіць.* Гарадзец.

**УЛУ́ТКА** *ж.* Бакавы стаяк асады акон. *Улу́тка з бако́ў у акне́.* Багданава.

**УЛЮБІ́ЦЬ** *зак.* 1. Упадабаць, палюбіць. *Ні зна́юць, як вары́ць по́ліўку, а я ўлюбі́ў, як звары́ла ма́тка.* Партызаны. 2. Спадабаць. *Мо́жа, ня ўлюбі́ць, што так сказа́ла.* Запруддзе. 3. Адказваць на ўздзеянне лекавага сродку. *Пама́зала, яна́ не ўлюбі́ла, сасу́дзіна та́я, і усё балі́ць, пу́хніць.* Запруддзе.

**УЛЮ́БЧАСТЫ** *прым.* Улюблівы. *Ду́жа ўлю́бчасты: цалу́еццa, мілу́еццa.* Жохава.

**УЛЯКНУ́ЦЦА** *зак.* 1. Перапалохацца, перапужацца. *Улякну́лась і памёрла.* Вялікі Азярэцк. 2. Моцна стукнуцца, ударыцца. *Улякну́цца – крэ́пка сту́кнуцца, да́жа мо́ву адні́міць.* Каралевічы.

**УЛЯЦЕ́ЦЬ** *зак.* Прыляцець, заляцець у вулей (пра пчаліны рой). *А ле́тась уляцеў пчол рой, ды памярлі.* Кішуроўшчына.

**УМАЛАЦІ́ЦЬ** *зак.* Адмыслова, па-майстэрску выканаць. *Аге́іў Анто́н як умълаціў на ёй* [сыграў на гармоніку], *а людзе́й събра́лася.* Сянно.

**УМАЛО́ТНЫ** *прым.* Спорны, ураджайны. *Быва́іць умало́тная бу́льба, да ма́ленькая.* Розмыслава. *Бу́льба ду́жа ўмало́тная.* Запруддзе.

**УМАНІ́ЦЬ** *зак.* Заманіць, завабіць. *Умо́ніш, упро́сіш каро́ву у двор.* Гарадзец.

**УМАРЫ́ЦЦА** *зак.* Замарыцца, стаміцца. *Умары́лася з ранняя, ні шаве́люцца ужо́ мае́ лы́ткі.* Станюкі.

**УМЕ́РЗНУЦЬ** *зак.* Замерзнуць. *Яно́ ўме́рзніць, і дзе́ці ста́нуць къта́цца.* Міцюкова.

**УМЕ́РЦІ** *зак.* Памерці. *Це́шча была́ ста́рая, але́ це́шча ўме́рла ўжо.* Ульянавічы. *Ма́тка умярла́ із ро́ду.* Розмыслава.

**УМЕ́СНЫ** *прым.* Агульны, сумесны. *Уме́сны – трэ́ці дзяцёнак, а так, у яе́ свой быў і ў яго́ быў такса́ма, у яго́ – ад пе́ршай жо́нкі.* Багданава.

**УМЕ́СТА** *прысл.* Разам. *Арэ́хі спарышы́ быва́юць два уме́ста, і агурцы́.* Гарадзец. *Уме́ста звя́зваем лук.* Багданава, Леснікова.

**УМЕ́СТА** *прыназ.* Замест. *Кры́га – е́та се́тка к двум па́лкам уме́ста таптуна́.* Дольдзева.

**УМЕ́СЦЕ, УМЕ́СЦІ, УМЕ́СЦЯ** *прысл.* Разам. *Ток і ў канцэ́ тóка ёўня, умéсце, плóтнае, што хáта, дзвéры на ток, малéнькае акóшка.* Запруддзе. *Ну, сабрáліся мы, слáва бóгу, усé умéсці.* Леснікова. *Умéсця цéсна тут.* Багданава.

□ *Як урóсь – мíлы гóсці, а як умéсця – так і цéсна.* Івоні.

**УМЕ́СЦІ** *зак.* Умалоць, умяць (пра ежу). *Ай-ё, вýткі усё ўмятýць!* Сянно.

**УМЕ́ЦЬ** *незак.* Магчы суцешыць, падтрымаць. *Інá с кáжным умéла пъгъварыць.* Івоні.

**УМІРА́ЦЬ** *незак.* Паміраць. □ *Камý гурувáць, тамý не ўмірáць.* Партызаны.

**УМЛЕ́ЦЬ** *зак.* Супакоіць, суцішыць. *Умлéла дзяцёнка, як вады́ здзéлала, а то разрывáецца – ноч гагатáла.* Багданава.

**УМО́ЎЧЫЦЬ** *зак.* Сцярпець, не адказаць. *А я ня ўмóўчыла і скъзáла ў вóчы.* Закур'е.

**УМУРАВА́ЦЬ** *зак.* Умураваць. *Гърлáчык умуравáлі, вíлачкі лóжым сушы́ць.* Каралі.

**УМЫВА́ЦЦА** *незак.* ◊ УМЫВА́ЦЦА СЛЯЗА́МІ. Шмат плакаць. *Аткýль ты́я слёзы бярýцца – умывáюся слязáмі.* Жохава.

**УНА́ДЗІЦЦА** *зак.* Панадзіцца. *Унáдзіўся тхор – курэ́й, вýтак усíх чы́ста пíрацягнýў.* Партызаны. *Зімлянáя кры́са ўнáдзілася, усé памíдóры з'éла.* Гарадзец, Заазер'е, Нямойта, Ракаў Засценак.

**УНІЗУ́** *прысл.* Унізе, знізу. *Сунóшка пíрагарáджвала унізý сталá, нóгі станавíць.* Запруддзе.

**УНІ́КНУЦЬ** *зак.* Вельмі зацікавіцца чым-н. *Ён унíк у жалéззе – заняўся тэ́хнікай.* Багданава.

**УНІ́КНУЦЬ** *зак.* Знікнуць, прапасці. *Мълакó унíкніць у карóў, як крывамóчка.* Латыгаль.

**УНІМА́ЦЦА** *незак.* Сунімацца, сціхаць (пра боль). *Вы́п'ю «пятнóк» лíкáрства, унíміцца балéць пóчка.* Нямойта.

**УНІСТО́ЖВАЦЬ** *незак.* Зніштажаць. *Сáмі сябé унíстóжваюць, хто п'е.* Дуброўкі.

**УНІСТО́ЖЫЦЬ** *зак.* Знішчыць, спаліць. *Нéмцы там усё унíстóжылі. Такáя дзярэ́ўня былá!* Гарадзец, Кішуроўшчына, Фасаўшчына.

**УНО́Ў** *прысл.* Наноў. *Жысь нáша пóйдзіць унóў.* Партызаны.

**УНО́Ч** *прысл.* Ноччу. *Унóч сядзéла пъ ізрýбам.* Гарадзец.

**УНУ́К** *м.* Унук. *Каб ні ўнýкі, я ні знáю, як бы мы жылí.* Гарадзец. *Унýку аддълá пчол.* Кішуроўшчына. УНУЧО́К *ласк.* *Унучóк мой дъражэ́нькі!* Міцюкова.

**УНУ́ТРА** *ж.* Нутрыя. *Унýтры гэ́тыя гадýюць у нас сáмі.* Багданава.

**УНУ́ТРАНАСЦЬ, УНУ́ТРАНАСЬ** *ж.* Вантробы. *Унýтранасць парэ́жуць, у кíшкі, у капýсту – пóлівачку вáраць.* Багданава. *Сéчка – éта унýтранась с прыпрáвай.* Жохава, Заазер'е.

**УНУ́ТРАНЫ** *прым.* Нутраны, са здору. *Бáнак шэсць натóпленага унýтранага жы́ру.* Жохава.

**УНУТРЭ́** *прысл.* Унутры. Вялікі Азярэцк.

**УНУ́ЧКА** *ж.* Унучка. *Унýчка мъя́ ў дзяўкóх радзілá.* Дольдзева.

**УНЯ́ЦЬ** *зак.* Спыніць кровацячэнне. *Далí прайцí крывí, а тады́ ўнялí.* Дольдзева. ◊ УНЯ́ЦЬ МО́ВУ. Страціць здольнасць гаварыць. Заазер'е.

**УПАДАБА́ЦЦА** *зак.* Спадабацца. *Ад нéйкъга ўцякýць пчóлы, а хто ўпъдъбáецца, там сядуць.* Кішуроўшчына, Вялікі Азярэцк.

**УПАДАБА́ЦЬ**, **УПУДУБА́ЦЬ** *зак.* 1. Спадабацца, адпавядаць смакавым патрабаванням. *А харо́шыя э́тыя кішкі, я іх упадаба́ла.* Багданава. *Чарніц я ані ні ўпъдъба́ла.* Кішуроўшчына. 2. Спадабацца, захапіцца. *Ці ўпудуба́іць ён яе́?* 3. Паважаць. *Упудуба́лі ба́цьку, ён Іва́н, і яшчэ́ два уну́ка назва́лі.* Манголія, Партызаны.

**УПА́ДАК** *м.* ◊ УПА́ДАК СІЛ. Слабасць, стомленасць. *Аслабе́ла, упа́дак сіл.* Партызаны.

**УПАДА́ЦЬ** *незак.* Упадаць (пра раку). *Рака́ Субо́та ўпъда́іць у Абъля́нку.* Серкуці, Самсоны.

**УПАДВА́Л** *прысл.* Падрад, без разбору. *Ой, вы́гъладаўся, рэ́жыць ўсё ўпадва́л.* Запруддзе.

**УПАДРА́Д** *прысл.* Тое ж. *Ой, вы́хъртуўся, то ўсё йдзець упъдра́д.* Запруддзе.

**УПАЛА́ЦЬ** *зак.* Папалаць, правеяць. *Пасе́йкі ўпала́еш у пала́нках – да вон.* Марозаўка.

**УПАМІ́НАК** *м.* Напамін, наяўнасць. *Ба́нък німа́ і ўпамі́нку, усе́ дзе́ўкі забра́лі.* Сянно.

**УПАРА́ДЧЫЦЦА** *зак. перан.* Памерці. *Дзя́куй бо́гу, упара́дчылася та́я жэ́ншчына – чараўні́ца, тры дні паміра́ла, памёрла, усі́м ле́гчы ста́ла.* Партызаны.

**УПАРА́ДЧЫЦЬ** *зак.* 1. Упарадкаваць. *Ба́пка пуп атрэ́жыць, упара́дчыць.* Баравікі. 2. Уладкаваць. *Дзе́ці жыву́ць ні пад стра́хам – усі́х упара́дчыла.* Багданава[1].

**УПА́РЫЦЬ** *зак.* Зварыць, утушыць. *Як упа́рыш с шалу́п'ем бу́льбу, дык іна́ ръспа́рваецца.* Запруддзе.

**УПАСЛЕ́СТВІ** *прысл.* Пасля, пазней. *Упасле́стві по́йдуць сабе́ жаць.* Нямойта.

**УПА́СЦІ** *зак.* Захварэць. *На но́гі парсю́к упадзе́ць, пішчы́ць і ўсё.* Дольдзева.

**УПАТРАБІ́ЦЬ** *зак.* Укалоць, зрабіць. *Яна́ ўпатрабі́ла тры ўко́лы, і ко́сці ні ста́лі бале́ць.* Партызаны.

**УПА́ЎЗЦІ** *зак.* Запаўзці. *Упаўзе́ш у ако́п ды там спіш.* Леснікова.

**УПАЦЕ́ЦЬ** *зак.* Упацець, пакрыцца пенай. *Калі́ конь упаце́іць, то яму́ ні даю́ць піць.* Буй, Багданава, Гарадзец, Каралевічы, Сукрэмна, Неўгадава.

**УПАЦЁМКУ** *прысл.* Упацёмку, папацёмку. *Е́хуў упацёмку і нае́хуў нъ стра́жніка.* Алексінічы. *Уста́ніш зъра́ні, упацёмку печ вы́тапіш.* Сянно. *Ці ўсягда́ ўпацёмку ла́зіць?* Нямойта.

**УПАЦЬМА́Х** *прысл.* Тое ж. *Упацьма́х пашла́, як ко́шка.* Нямойта. *Упацьма́х хо́дзіць кры́са, як цёмна.* Нямойта.

**УПЕРАГО́НКІ**, **УПЕРГО́НКІ** *прысл.* Наперагонкі, навыперадкі. *Дзе́ці ўперго́нкі гуля́юць. Рабо́таюць упераго́нкі.* Заазер'е.

**УПЕ́РАДЗЕ**, **УПЕ́РАДЗІ**, **УПІРАДЗІ́** *прысл.* 1. Наперадзе. *Упірадзі́ йшоў чълаве́к такі́, яны́ ба́чылі яго́ то́лькі но́гі.* Багданава. 2. Раней. *Святы́ Бо́жа, пъмажы́, / Зло́му во́чы зъвяжы́, / Хто ўпе́радзе нъча́ў, / Кап ззя́дзі търча́ў* (з песні) [яна мае жартоўны характар, пяецца, каб адстаў у працы той, хто ідзе наперадзе]. Нямойта. *Ма́ці ўпе́радзі памярла́.* Кляпчэва.

**УПЕ́РАТ**, **УПЯРО́Д**, **УПЯРО́Т** *прысл.* Даўней, раней. *Упе́рат ду́жа рабо́талі.* Міцюкова. *Упе́рат не́як ране́й бра́лі ў а́рмію.* Запруддзе, Багданава, Кляпчэва, Манголія, Нямойта, Савінічы. *Я сам упяро́д ганя́ў скот.* Самсоны, Міцюкова, Серкуці. *Упяро́т ко́жу лупі́лі, здава́лі са свіння́.* Багданава.

**УПЕ́РЦІ** *зак. груб.* Выдаць замуж. *Шэсь дачо́к трэ́ба ўпе́рці.* Дуброўкі.

**УПІВА́ЦЦА** *незак.* Упівацца, усмоктвацца. *Крэ́пка ўпіва́ецца ў ко́жу клешч, яго́ выдзіра́юць.* Жохава.

**УПІКА́ЦЬ** *незак.* Папракаць, упікаць. *Упіка́ў калі-ніబу́дзь – во не хацéла за́муш атда́ць.* Гарадзец.

**УПІРА́ЦЦА** *незак.* Упарціцца, супраціўляцца. *Чаго́ ты ўпіра́ісся, як конь.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе.

**УПІ́ТАНЫ** *прым.* Адкормлены, сыты. *А жэрапкі бальшэ́я, такія ўпітаныя.* Самсоны.

**УПІ́ЦЦА** *зак.* Уціцца, усмактацца. *По́йдзем у како́шнік, піяўка ўвап'éцца ў нагу́.* Багданава[1]. *Сляпéнь увап'éцца да крыві.* Нямойта, Жохава, Рулёўшчына, Фасаўшчына.

**УПЛЕ́СЦІСЯ** *зак.* 1. Адабрацца, забрацца. *Хоць бы за ніўку не ўпляліся – далі б мне скасіць.* Партызаны. 2. Есці адно і тое ж. *Уплёўся ў грыбы́ – і ніч́óга другóга ні есць.* Міцюкова. 3. Паўтараць адное і тое ж. *Як уплятýцца – аднý і тýю ж пéсню пяю́ць.* Чуцькі.

**УПЛЁТКА** *ж.* Стужка для валасоў, каснік. *Дай мне éту стýшку на ўплётку.* Серкуці.

**УПЛІСКА́ЦЬ** *зак.* Ушчыльніць, убіць пранікам. *Ток упліскáлі прáнікамі.* Фасаўшчына.

**УПЛУ́ТАЦЦА** *зак.* Заблытацца. *У прóвълаку ўплýтълася ды пъвълілася.* Запруддзе, Багданава[1].

**УПО́КАТ** *прысл.* Упокат, покатам. *Нъ палý ўсі ўпóкът лажы́лісі спаць.* Запруддзе.

**УПО́МНІЦЬ** *зак.* Запомніць, запамятаць. *Ну, забувáіш, дзе тут ягó упóмніш усё.* Міцюкова.

**УПО́Р** *м.* Апора. *На сцянý лóжыцца даскá і патпірáіцца ўпóрам, штоп не бы́ла нахілёна.* Нямойта.

**УПО́Р** *м. неадабр.* Настойлівы, упарты (пра чалавека). *Упóр ты, дык упóр.* Дольдзева.

**УПО́РКА** *ж.* Жалезная дэталь у возе. *Упóрка дзéржыць ляжэ́йкі ў калёсах.* Замошша, Вялікі Азярэцк, Гарадок. *Рáньшы ўпóрак ня дзéлалі. Трыйня́ называ́лася, катóрая саідзіня́ла пярэ́днюю падýшку і зáднюю.* Кляпчэва.

**УПО́РНЫ** *прым.* Настойлівы, упарты. *Такáя вот упóрная!* Нямойта.

**УПРА́ВІЦЦА** *зак.* Угнацца. *Ні мóжна ўпрáвіцца за карóвамі – бяжы́ш, вáлішся і кýлішся.* Партызаны.

**УПРАЖНЫ́** *прым.* Прызначаны для запрагання. *Упражны́ хамýт у цялéгу запрагáлі.* Заазер'е.

**УПРА́ЎНЫ** *прым.* Працавіты, жвавы. *Дзéўкі мъладыя, далжны́ быць упрáўныя.* Каралевічы, Партызаны.

**УПРО́СТА** *прысл.* ◊ ТКАЦЬ УПРО́СТА. Спосаб ткання ў два ніты. *Пълавік гéты ўпрóста ткáлі – у два ніты́.* Партызаны, Заазер'е.

**УПРО́ЎДУ** *прысл.* Сапраўды. *Мóжа, і ўпрóўду, късáлі, што ён гуля́іць з ёй.* Нямойта.

**УПРЫ́СЯТКІ** *прысл.* Прысядаючы і папераменна выкідваючы ногі (танцаваць). *Як стáла ўпры́сяткі танцавáць.* Партызаны.

**УПРЫТЫ́К** *прысл.* Шчыльна, па памеры. *Сапагі купілі ўпрыты́к, памянялі.* Багданава.

**УПРЭ́ШКА** *ж.* Вупраж, збруя. *Упрэ́шка бы́лá харóшая, кóні харóшыя.* Багданава.

**УПУ́Д** *м.* Спуд, пярэпалах. *Загавóр ат упýду ёсь.* Каралевічы, Запруддзе.

**УПУ́ДЗІЦЦА** *зак.* Спудзіцца (пра каня). *Конь упýдзіўся, чълавéк спужáўся.* Кляпчэва, Багданава, Гарадок, Самсоны.

**УПУКУВА́ЦЦА** *зак.* Упакаваць, скласці рэчы. *Упукува́лісі ўжо, пъсядзім нъ даро́шку.* Запруддзе.

**УПУСКА́ЦЬ** *незак.* Устаўляць у паглыбленне, зробленае ў бервяне. *Вот ба́лькі када́ ўпуска́ім у зру́бі, у до́мі, ло́жыцца ашлапно́я браўно́ с ча́шкамі наве́рх, яно́ закрыва́ець ба́лку.* Нямойта.

**УПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Не ўтрымаць у руках. *Ба́ба ўпусці́ла ў ваду́ руба́ху.* Буй, Дольдзева, Неўгадава. 2. Выпырснуць, выліць (пра яд). *Гадзю́ка як упу́сціць яд.*

**УПУ́ЦІЦЬ** *зак.* Спарадкаваць, давесці да ладу. *Пра́дзіва на́да ўпу́ціць, памы́ць.* Вялікі Азярэцк.

**УПЯЧЫ́СЯ** *зак.* Спячыся. *Трэ́ба пот зрабі́ць, кап хлеп до́бра ўпёкся.* Алексінічы. *І ў печ саджу́* [хлеб]. *І ў печ со́дзіш хлеп, засло́нку засло́ніш, і ён упячэ́цца.* Нямойта.

**УРАБА́ТВАЦЬ** *незак.* Апрацоўваць. *Ураба́твалі сі́льно зямлю́.* Закур'е.

**УРАДЖА́ЦЦА** *незак.* Нараджацца. *Бе́лыя лъшъдзя́ рэ́тка ўръджа́юцца.* Сянно, Багданава.

**УРАДЗЕ́НЕЦ** *м.* Ураджэнец. *Сам урадзе́нец з трыцца́тага го́да.* Неўгадава.

**УРАДЗІ́МКА** *ж.* Ураджэнка. *Я ўрадзі́мка лъшча́нскъя.* Закур'е.

**УРАДЛІ́ВЫ** *прым.* Урадлівы. *Къпыты́* [грыбы] *ўрадлі́выя.* Пожанькі.

**УРА́ДЫ** *мн.* Сурокі. *У каго́ скаці́на це́льная – ура́ды быва́юць. Ураку́ць каро́ву.* Дуброўкі.

**УРАЖДЗЕ́БНА** *прысл.* Варожа. *Ураждзе́бна ста́ла, стра́шна, во́рах пашо́ў.* Сянно.

**УРАЗО́Р** *прысл.* Араць *уразо́р* – спосаб ворыва ад краёў да сярэдзіны загона, пры якім пласты зямлі адвальваюцца ў супрацьлеглыя бакі. *Наўскі́т ару́ць – э́та пасрадзі ні́вы начына́юць, а е́слі ўразо́р – то с краёў.* Гарадзец. *Уразо́р – калі́ ат мяжы́ го́нюць разо́р.* Цясішча.

**УРАСКІ́Д, УРАСКІ́Т, УРО́СКІЦЬ** *прысл.* Тое ж. *На́да падыма́ць, як ураскі́д – къна́ва палу́чыцца.* Дольдзева. *Калі́ бу́дзіць ара́ць ураскі́т, то пъсяро́т разо́р.* Гарадок. *Разо́ра ёсь, як ару́ць уро́скіць.* Закур'е, Алексінічы.

**УРАСКІ́ДКУ** *прысл.* У розныя бакі. *Ро́гі ўраскі́дку, бе́лъя была́ каро́ва.* Запруддзе. *Крыві́й, ураскі́дку ідзе́ць.* Багданава.

**УРАСЦЯ́ШКУ** *прысл.* Сточваючы бярвенне ў сцяне (пры будаўніцтве хаты). *Калі́ ле́су ма́ла, то мо́жна ўрасця́шку рабі́ць, а калі́ бъга́та, то по́слі вы́ражыш на во́кны.* Гарадзец.

**УРАЧЫ́** *зак.* Сурочыць. *Я ні ра́зу ні ўръкла́, я ня ўро́шнъя.* Партызаны.

**УРА́ЧЫСТВА** *н.* Праца доктарам. *Яго́ зня́лі с ура́чыства.* Закур'е.

**УРО́ДА** *ж.* Ураджай. *Калі́ на ўро́ду, тады́ больш дава́лі зе́рня.* Каралі, Серкуці.

**УРО́ДЗІ** *злучн.* Хоць, быццам. *Уро́дзі во цёпла, а пъзя́блі ру́кі.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Дольдзева.

**УРО́ДНЫ** *прым.* Урадлівы. *У па́на была́ ўся ўро́днъя зімля́.* Рассвет. *Вы́п'ем усе́ сто́я, каб было́ жы́та ўро́днае, і мълады́м жыло́ся, і было́ся, і вяло́ся, як стру́чча ў гаро́сі* (вясельнае пажаданне). Каралевічы.

**УРО́КІ, УРО́ЦЫ** *мн.* Сурокі. *Тры ра́за праз замо́к вады́ праліць па дзе́вяць раз і дава́ць піць ад уро́каў.* Багданава. *Уро́цы – на́да к ба́бкам.* Леснікі. *С уро́цы змія́ ўку́сіць.* Багданава.

**УРО́Н** *м.* Урон, страта. *Ку́ры падо́хлі – уро́н мне бальшэ́й.* Запруддзе.

**УРО́НА** *ж.* Тое ж. *Ско́лькі ўро́ны здзе́лъў ты мне.* Цясішча.

**УРО́СЬ** *прысл.* Асобна. *З бацька́мі ўрось жылі́.* Івоні.

**УРО́ЧЛІВЫ** *прым.* Сурочлівы. *Як рабёнка два разы́ атыма́еш ат грудзі́ – уро́члівы рабёнак і ўсё тут.* Нямойта, Манголія.

**УРО́ЧНЫ** *прым.* Тое ж. *Рабёнак бывáіць уро́чны.* Партызаны. *Ліцо́ тро́шкі апо́хла – уро́чная ро́жа, як ад тэй ба́бы прышла́. Яшчэ́ ху́жа.* Багданава, Запруддзе.

**УРО́ЧЫШЧА** *н.* Урочышча. *Чу́ю, так с ле́вай старaны́, уро́чышча Аме́рыка называ́еца, страля́юць.* Леснікова.

**УРО́ШШЫ** *дзеепрым.* Урослы, прарослы. *Се́на ня ўбі́та до́жджам, а ўро́шша.* Баравікі.

**УРУЖО́НЫ** *прым.* Узброены. *Прышлі́ парціза́ны ўружо́ныя, чъляве́к двана́ццаць уружо́ных.* Багданава.

**УРУЧНУ́Ю, УРУШНУ́Ю** *прысл.* Уручную. *Лён бра́лі ўручну́ю ра́ньшы. На таку́ малаці́лі уручну́ю цапа́мі.* Нямойта. *Урушну́ю пілі́лі до́шкі.* Серкуці, Багданава, Буй, Заазер'е, Запруддзе, Каралевічы, Карпавічы, Ульянавічы, Дуброўкі.

**УРЫ́СК** *прысл.* Ушчэнт. *Машы́на ўся ўрыск пасы́палась.* Савінічы.

**УРЭ́Д** *м.* Шкода. *Вераб'і такія, што ўрэд дзе́лаюць.* Розмыслава, Нямойта.

**УРЭ́ДЗІЦЬ** *зак.* Урадзіць, даць добры ўраджай. *Сёлета, мо́жа, не ўрэ́дзіць бу́льба.* Багданава.

**УРЭ́ДЗІЦЬ** *незак.* Шкодзіць. *Апі́лкі ня ўрэ́дзюць глі́ні.* Гарадок.

**УРЭ́ДНЫ** *прым.* 1. Шкодны (пра расліну). *Урэ́дны асо́т, макры́ца ўрэ́дная.* Кішуроўшчына. 2. Злы, сярдзіты. *Міко́ла, гаво́рюць, е́та ўрэ́дны чалаве́к.* Самсоны, Багданава, Нямойта, Фасаўшчына.

**УРЭ́ЗАК** *м.* 1. Зрэзанае. *Аір выраза́еш і раскладáеш урэ́зкі.* Закур'е. 2. Мера палатна, роўная тром губкам. *Пълатно́ рэ́жуць на ўрэ́скі, у ім тры гу́пкі, штоп ле́хчы бялі́ць.* Закур'е.

**УРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Забіць, зарэзаць. *Дзе́ці папрыяжджа́лі з Ві́цебску. Аве́чку ўрэ́залі, чы́м-та карміць на́да іх.* Запруддзе.

**УРЭ́МЯ** *н.* Час. *Ба́ба за тра́вы за ле́та прыно́сіла сто підзіся́т рубле́й у ста́ръя ўрэ́мя.* Алексінічы.

**УСАВЕСЦІ́ЦЬ** *зак.* Крануць сумленне. *Чым іх усавесці́ць?* Баравікі.

**УСАДЗІ́ЦЬ** *зак.* 1. Укласці. *Со́рак пудо́ў усадзі́ла ў мажы́.* Дуброўкі. 2. Пасяліць. *Мне на́да стро́іцца, мне на́да дзецей у ха́ту ўсадзі́ць.* Сукрэмна.

**УСА́ДЗЬБА, УСЯ́ДЗЬБА** *ж.* Сядзіба. *На яе́ ўса́дзьбі ха́ту паста́віла.* Запруддзе, Гарадок. *Уся́дзьбы ў атца́ не хвата́ець на ўсі́х сыно́ў.* Цясішча. *Уся́дзьбу далі́ і ха́ту.* Цясішча, Кляпчэва, Нямойта.

**УСАЛІ́ЦЦА** *зак.* Засаліцца. *Пічанёўка ўсо́ліцца, тады́ е́лі.* Дольдзева. *Сві́нні як усо́люцца, то мо́жна есь сыры́мі.* Латыгаль.

**УСЕ́, УСІ́** *займ.* Усе. *Усі́ на гуля́ння ідуць з Късадо́я, Ра́я, Вялі́кьга Сі́ла, Аўсе́ева ў Няме́йкува.* Міцюкова, Запруддзе, Жохава.

**УСЕ́ АДНО́, УСЕ́ АННО́, УСЕДНО́, УСІННО́, УСЯДНО́, УСЮДНО́** *прысл.* Усё адно, усё роўна. *Вужа́ку ўві́дзіць усе́ адно́.* Ракаў Засценак. *Усе́ анно́ паеду.* Неўгадава. *Усе́дно ў адны́м пако́і жылі́.* Запруддзе. *Усінно́ яму́ Бог не прасці́ць.* Запруддзе. *А яны́* [каларадскія жукі] *усядно́ сёліта нъпладзі́лісі.* Малы Азярэцк. *Як усюдно́ злёт, на Ра́даніцу, з гарадо́ў к сваі́м ту́тацькі е́дуць.* Вялікі Азярэцк.

**УСЕ́ІЦЦА** *зак.* Зарадзіць, пачаць ісці (пра дождж). *Як усе́іцца дошч, бу́дзе ме́ней пы́лі.* Латыгаль.

**УСЕНО́ШНАЯ, УСЁНО́ШНАЯ, УСЁНАШНАЯ** *ж.* Начная служба перад Вялікаднем або іншым гадавым святам; усяночная. *Перад Па́скай усено́шная – кастры́ распа́льваюць. Ко́ні з калёсамі, Па́ску прыве́злі свяціць.* Нямойта. *У Сянне́ цэ́ркаў была́, на ўсёно́шную хадзіла туды́.* Багданава. *І на ўсёнашную хадзілі і спавіда́ліся.* Станюкі.

**УСЕ́НЦЫ** *мн.* Вусце ў нераце. *Наро́т як таптўн, то́лькі ўсе́нцы ў ім.* Багданава.

**УСЕ́РДЗІЦЦА** *зак.* 1. Раззлавацца. *Як усе́рдзіцца та́я па́ні.* Вялікі Азярэцк. 2. Загаўкаць, забрахаць. *На вас не́шта саба́ка ўсе́рдзіўся.* Партызаны, Багданава, Гарадок, Запруддзе, Нямойта.

**УСЕ́РДЗІЦЬ** *зак.* Раззлаваць. *Сто́іць то́лькі яе́ ўсе́рдзіць, тады́ яна́ – дзе́ўка дзябёлая.* Ульянавічы. *Калі усе́рдзяць, то пра́шкай біла.* Заазер'е.

**УСЕ́СЦІ** *зак.* Абсесці, абсыпаць (пра жукоў). *Жукі ўсе́лі – калара́д – лічы́нак да гібелі.* Партызаны.

**УСЁНЕЧКА** *прысл.* Заўсёды, пастаянна. *Усёнечка п'яны прыхо́дзіў.* Ракаў Засценак.

**УСЁ РО́ЎНА, УСЁ РАЎНО́, УСЁРНА, УСЁ РО́ЎНО, СЕРО́ЎНА, СІРАЎНО́** *прысл.* Усё роўна. *Праз гот таго́ къня́ пръдалі́, усё ро́ўна ўкра́дуць.* Міцюкова. *Вот тут жывеш, усё ро́ўно ле́зуць. Пълъма́лі штаке́т.* Багданава. *Усё раўно́ як з лъпа́ты скінула.* Заазер'е, Багданава, Буй. *Ві́дзіць грыбы́ – трыво́га, усёрна – ні то спуг, ні то ўдар.* Дольдзева. *Нам ужэ́ серо́ўна.* Неўгадава. *Сіраўно́ бяро́м смаршкі.* Жохава.

**УСЁ-ТКІ, УСЁ-ТКА, УСЁ-ТКУ** *часц.* Усё-такі. *Бу́дзім каро́ву прадава́ць, усё-ткі шэ́сціра цілят у яе́ было́.* Неўгадава, Багданава. *Усё-тка не па ма́ткі пайшо́ў – карна́чак не́йкі.* Партызаны. *Усё-тку цяпле́йшая зімля́.* Леснікова.

**УСІГДА́** *прысл.* Заўсёды. *Мы ўсігда́ людзьмі ра́ды.* Заазер'е, Партызаны.

**УСКА́КВАЦЬ** *незак.* Ускокваць, залятаць, забягаць. *Два ма́льчыкі ўска́кваюць у ха́ту.* Нямойта, Багданава, Запруддзе.

**УСКАПА́ЦЬ** *зак.* Ускапаць, узрыхліць. *Гэ́та я ўсё рука́мі ўскапа́ла.* Кішуроўшчына.

**УСКІ́Д** *прысл.* Араць *ускі́д* – спосаб ворыва ад сярэдзіны да краёў загона, пры якім пласты зямлі складваюцца адзін да аднаго. *Вясно́й заго́н разме́руць і пъсяро́д бъразну́ го́нюць – ускі́д ара́лі.* Цясішча. *Зачне́ш ара́ць заго́н ускі́д.* Гарадок, Алексінічы, Сукрэмна.

**УСКІДА́ЦЬ** *незак.* Падымаць уверх. *Бе́лка ёсь, пушы́стъя тъка́я, хвост ускі- да́іць.* Багданава.

**УСКІ́ДВАЦЦА** *незак.* Ускокваць, прыгаць. *На ге́тага ма́льца воўк ускі́дваўся.* Партызаны.

**УСКІ́НУЦЬ** *зак.* 1. Накінуць на сябе, апрануць. *Ускі́нула нъ сябе́ адзе́жыну.* Сукрэмна. 2. Пасадзіць. *Дзяце́й на калёсы ускі́ніш і паедзіш убіра́ць бу́льбу.* Багданава.

**УСКЛА́КВАЦЬ** *незак.* Узнімацца, пузырыцца. *На во́зеры ўскла́кваюць пузыры́.* Багданава.

**УСКЛА́СЦІ** *зак.* Раскласці (пра вогнішча). *Аго́нь ускла́лі, бу́льбы нъпяклі.* Каралевічы.

**УСКО́РАСЦІ** *прысл.* Хутка. *Памёр уско́расці дзіцёнак.* Запруддзе, Заазер'е.

**УСКО́ЧЫЦЬ** *зак.* Ускочыць, забегчы. *Кап ускóчыла ў ваду́, то былá п жывáя.* Жохава, Багданава.

**УСЛА́ЦЬ** *зак.* Разаслаць. *Скуты́ ўсцéліш і бéліш.* Дольдзева.

**УСЛЕ́Д** *прысл.* Услед. *Мне ўслед ніхтó ні плювáў.* Парэчча.

**УСЛО́НЧЫК, СЛО́НЧЫК** *м.* Невялікі ўслон. *Лáўкі дзірвя́нныя, услóнчык тóжа, но мáлінькі.* Гарадзец, Буй. *Во што карóву даю, éта завéцца слóнчык, нібальшы́.* Міцюкова, Багданава.

**УСЛЫ́Х** *прысл.* Услых. *Малілася ўслых, малітву пакóйную.* Рэчкі.

**УСМЯ́ГНУЦЬ** *зак.* Згатавацца, настаяцца. *Усмя́гнець, аж кары́чневая саладу́ха.* Багданава.

**УСО́ХНУЦЬ** *зак.* Засохнуць. *Сухаліна – дзéръва, катóръя ўсóхне.* Нямойта.

**УСПАКА́ІВАЦЬ** *незак.* Супакойваць, суцішаць. *Успакáіваць нáда дзіця́.* Запруддзе.

**УСПАЛЕ́ННЕ** *н.* Запаленне. *Дзядóўніна ат успалéння, як кóлікі, яé трэ́ба завáрваць і піць.* Запруддзе. о УСПАЛЕ́ННЕ ЎКРУГАВУ́Ю. Двухбаковае запаленне лёгкіх. *Вы́йшаў на двор, і стáла успалéнне ўкругаву́ю.* Неўгадава.

**УСПАМІНА́ЦЬ** *незак.* Успамінаць, узгадваць. *Бувáлашняе ўспамінáць не хачу́.* Ульянавічы.

**УСПАМЯНУ́ЦЬ** *зак.* Успомніць, прыпомніць. *Усё, сéдзячы, ўспамяну́ць, што нікóму не павінны.* Буй.

**УСПА́СЦІ** *зак.* Напасці, завесціся. *Блóшка на лён успадзéць, трáвіш ду́стам.* Буй.

**УСПА́СЦІ** *зак.* Напасці, накінуцца, насварыцца. *Як успаду́ на іх абаіх калі.* Кляпчэва.

**УСПАХА́ЦЬ** *зак.* Узараць. *Кънямі ўспахáлі і ўражáй быў – рату́й бох.* Фасаўшчына.

**УСПРЫ́ГНУЦЬ** *зак.* Узысці, паказацца (пра сонца). *Сóнца ня ўспры́гнула, а мы рóбіць стáлі.* Дуброўкі.

**УСПЫ́ЛЬЧЫВАТЫ** *прым.* Запальчывы. *Успы́льчываты харáкцер, я маўчу́, нáда маўчáць.* Жохава.

**УСПЫ́РХІВАЦЬ** *незак.* Успыхваць, імгненна ўзнікаць. *Маю нъгу́ су́дърга бярэ́ць, чáста ўспы́рхіваець.* Нямойта.

**УССАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Насадзіць для сушкі. *Чаты́ры капы́ на ёўню ўссóдзіш.* Міцюкова.

**УССЕ́СЦІ** *зак.* 1. Абляпіць (пра мух). *Конь къчáіцца, як уссядуць му́хі.* Чуцькі. 2. Ускочыць, сесці. *Я ўссéў нъ кън́я – і за ім.* Міцюкова.

**УСТАВА́ЦЬ, УСТУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Уставаць, прачынацца. *Ён рáна ўстаéць.* Каралевічы. 2. Падымацца з месца. *Бóкам, рáкам устаéш, то усяк дапускáеш у хáці.* Марозаўка. 3. Паднімацца, расці (пра бліны). *Бліны́ уку́сные, смáшные, устувáлі хърашó.* Багданава.

**УСТА́ВІЦЬ** *зак.* Паставіць, правесці. *Газ устáвілі даўнó.* Заазер'е. *Цэмянтóвыя тру́бы ўстáвілі скрозь.* Заазер'е.

**УСТА́ЛАСЦЬ** *ж.* Стомленасць. *І ўстáласць прапáла.* Партызаны.

**УСТАЁЎШЫ** *дзеепрысл.* Устаўшы, прачнуўшыся. *Рáненька ўстаёўшы, нáда бéгчы к сы́ну.* Запруддзе.

**УСТАНАВІ́ЦЬ** *зак.* Уставіць, прыладзіць. *Тру́бку ўстанавіць, і мя́са па той кішчэ́ ідзéць.* Багданава.

**УСТАНАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Устанаўліваць, ставіць. *Па́мятнік не ўстанаўля́лі.* Алексінічы. 2. Пастанаўляць, вызначаць. *Цану́ э́ту хто ўстанаўля́ў?* Гарадзец.

**УСТАРЭ́ЦЬ** *зак.* Састарэць (пра расліну). *Пака́ медуні́ца не ўстарэ́іць, рвом.* Каралі.

**УСТАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Устаўляць. *Каро́пка, у яе́ ра́му ўстаўля́юць.* Багданава.

**УСТА́ЦЬ** *зак.* 1. Устаць, прачнуцца. *Уста́нець ра́ніцай і пайшо́ў на ры́бу.* Нямойта. *На́да ра́на ўстаць.* Каралевічы, Багданава, Запруддзе. 2. Устаць, падняцца. *Ні ўста́ну, ні ля́гу съма́.* Жохава, Марозаўка. 3. Стаць. *Пъмажы́ мне, Мі́ша, на но́шкі ўстаць.* Івоні.

**УСТРАПЯНУ́ЦЦА** *зак.* Страпянуцца, схамянуцца. *Пан устрапяну́ўся: «Ня мо́жа быць!»* Ульянавічы.

**УСТРЭ́ННЕ** *н.* Стрэчанне, Грамніцы; зімовы прысвятак у народна-царкоўным календары (пэўны дзень у лютым месяцы, калі, паводле традыцыйных уяўленняў, зіма сустракаецца з вясной). *Устрэ́нне – зіма́ і ле́та ўстрача́юцца.* Вялікі Азярэцк.

**УСТРЭ́ЧАННЕ, ВСТРЭ́ЧАННЕ** *н.* Тое ж. *Прышло́сь к Устрэ́чанню зрабі́ць ве́чар.* Партызаны. *Яка́я паго́да на Встрэ́чанне, тако́я бу́дзя й ле́та.* Нямойта.

**УСТУПІ́ЦЦА** *зак.* Заступіцца. *Астала́ся адна́, не́каму ўступі́цца.* Цясішча.

**УСТУПІ́ЦЬ** *зак.* 1. Стаць членам партыі і пад. *Там я ўступі́ў у кандзіда́ты па́рціі.* Івоні. 2. Наступіць. *І чуць ні ўступі́ла нъ вужа́.* Вялікі Азярэцк. ◊ УСТУПІ́ЦЬ НА ЯЗЫ́К. Стаць прадметам размовы, абмеркавання. *Ты на язы́к мне ўсту́піш – ой табе́ бу́дзіць.* Нямойта.

**УСТУПІ́ЦЬ** *зак.* Уважыць просьбу, зрабіць ласку. *Ён мне, дзя́куй, уступі́ў, а сабе́ бу́дзіць купля́ць пазне́й.* Запруддзе.

**УСТУ́ПЛІВАЦЦА** *незак.* Заступацца. *А другі́ ўсту́пліваецца за дзе́ўку.* Дольдзева.

**УСУ́НУЦЦА** *зак.* Патануць. *Дрыгба́, во́кны такі́я, мо́жаш папа́сці ў яго́ – і ўсу́нішся.* Запруддзе.

**УСУ́НУЦЬ** *зак.* Накінуць, апрануць. *Усу́неш хъла́т чо́рны, бо свіння́ дзе лы́чам парне́ць.* Латыгаль.

**УСХАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Пачаць непакоіць. *Сын захварэ́ў: глісты́ ўсхадзі́ліся.* Нямойта.

**УСХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Узыходзіць, з'яўляцца. *Кагда́ зо́ркі ўсхо́дзяць, начына́юць е́сці, а цэ́лы дзень ні ядзя́ць.* Запруддзе.

**УСХВАЦІ́ЦЦА** *незак.* З'явіцца, усхапіцца. *Су́дырга як во́зьміць, як усхво́цproperties!* Нямойта.

**УСХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* Схапіць. *Ні хадзі́це ў дабро́, руса́льніца ўсхво́ціць.* Чуцькі.

**УСХО́ЖЫ** *прым.* Здольны прарасці, усхожы. *Се́мя ўсхо́жае, сырамало́тнае.* Нямойта.

**УСЦІ́НКА, УСТЫ́НКА** *ж.* Гусцяра (рыба). *Усці́нка нападо́біе ўкляі́. Яе́ ўскінь нъ скваро́ду – адзі́н жыр.* Пожанькі. *Усты́нка як уклія́, мо́жыш пъджа́рываць у сваі́м жыру́. Іна́ сво́йлівъя, атла́ўлівълься рука́мі.* Сянно.

**УСЦІРАХЧЫ́СЯ** *зак.* Засцерагчыся. *Гэ́та ш ні ўсцірахчы́ся, хто ве́дае, што бу́дзіць.* Кавалі.

**УСЦІХАМІ́РЫЦЦА** *зак.* 1. Уціхамірыцца, супакоіцца. *Во спіць ужо́, усціхамі́рыўся.* Запруддзе. 2. Уціхнуць, перастаць балець. *Як вып'ю ліка́рства, усціхамі́рыцца по́чка.* Нямойта.

**УСЦІХАМІ́РЫЦЬ** *зак.* Уціхамірыць, прымусіць супакоіцца. *А тады́ ўсціхамі́руць друз'я́ іх.* Дольдзева.

**УСЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* Зацягнуць, узняць. *Бура́н быў скінуў гняздо́, сабра́ліся мужыкі і ўсцягну́лі наве́рх.* Запруддзе. *Ста́ръю бърану́ на ліпу ўсцягну́ў, прымасціў для буцяна́.* Запруддзе.

**УСЦЯРЫ́НА** *ж.* Адна рыбіна гусцяры. *Адну́ ўсцяры́ну злавіў.* Багданава.

**УСЫ́ПАЦЬ** *зак.* 1. Насыпаць, усыпаць. *У тры каló∂зісі на́да ўсы́паць ма́ку, тады́ по́йдзіць дош* (павер'е). Дольдзева. *Со́лі хай на хвост усы́пюць.* Савінічы. 2. Пабіць або моцна вылаяць каго-н. *Хъзя́ін пры́дзіць, ён табе́ усы́піць.* Станюкі.

**УСЫПА́ЦЬ** *незак.* Засынаць. *Во́сім брато́ў палягло́, а дзівя́ты ня ўсыпа́іць, с ку́пчыхаю размуўля́іць: «А ці ро́ду ты вялікага, атца́-ма́ці ці бага́тага?»* (з казкі). Буй.

**УСЫХА́ЦЬ** *незак.* Засыхаць, зачахнуць. *Дрэ́вы ўсыха́юць, як апыля́юць іх, а каб чалаве́ку не здзе́лалася пло́ха.* Запруддзе.

**УСЮ́ДАВАХ** *прысл.* Усюды, паўсюль. *За адну́ ноч смало́цім тры ёўні, і так усю́давъх.* Нямойта. *Вараб'і цісну́цца ўсю́давъх.* Партызаны, Латыгаль, Марозаўка.

**УСЮ́ДЫХ, УСЮ́ДУХ** *прысл.* Тое ж. *Усю́дых усё пераце́рла і перамы́ла.* Каралевічы, Багданава, Жохава, Заазер'е, Запруддзе, Карпавічы, Розмыслава, Сукрэмна, Ульянавічы. *Усю́дых абыдзе́ць, за дзень па дзярэ́ўні прайдзе́ць.* Дуброўкі, Закур'е, Неўгадава. *Частаце́л, ён не ўсю́дух есць.* Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Марозаўка.

**УСЯГДЫ́** *прысл.* Заўсёды. *Ба́бу на́шу ўсягды́ бра́лі ў валачо́бнікі, яна́ запява́ла.* Дольдзева, Запруддзе, Чуцькі.

**УСЯ́К** *прысл.* Па-рознаму. *Усяк прыхо́дзілася: і не пае́сць, і не паспа́ць.* Нямойта. *Гаво́раць уся́к, як, хто зду́маець.* Серкуці, Багданава, Карпавічы, Кішуроўшчына, Міцюкова, Нямойта, Закур'е.

**УСЯ́КІ** *прым.* Розны, усякі. *Я дор драў, метро́вая дліна́, а шырына́ ўся́къя.* Ульянавічы, Багданава, Вялікі Азярэцк.

**УСЯ́СНЫ** *прым.* Самы розны. *Уся́кія, уся́сныя насто́йкі ў іх.* Нямойта.

**УТАПІ́ЦЦА** *зак.* 1. Патануць. *Кап ты ў рацэ́ ўтапіўся!* (праклён) Вялікі Азярэцк, Багданава. 2. *перан.* Паглыбіцца, правіснуць. *Абру́ч пълатно́м апшы́іш, штоп ніс утапіўся, штоп дзіцёнка пълажы́ць.* Вялікі Азярэцк.

**УТА́РКІВАЦЬ** *незак.* Уторкваць, утыкаць. *У разе́тку ўта́рківаеш.* Каралі, Багданава, Марозаўка.

**УТАЎКЦІ́** *зак.* Утаўчы. *Таўкачо́м зліўкі ўтаўку́ць у камы́ – і ядуць, сма́шна так.* Міцюкова.

**УТВАРЫ́ЦЬ** *зак.* Вытварыць, напракудзіць. *Што ўтвары́ць і бяжы́ць.* Заазер'е.

**УТКНУ́ЦЬ** *зак.* Выцяць, ударыць. *Я табе́ уткну́ ро́згамі.* Багданава.

**УТО́НУЦЬ** *зак.* Патануць. *Ва Уллянавічах там нібальшэ́нькыя бало́тца і січа́с въда́ стаіць, ка́жуць, што цэ́ркуў там уто́нула і зь людзьмі да́йжа.* Закур'е, Гарадок.

**УТО́ПЛЕНІК** *м.* Тапелец. *Уто́пленіка харо́нюць нъ кла́дзьбішчы.* Багданава.

**УТО́ПТАНЫ** *дзеепрым.* Утаптаны. *Ара́ць ні ме́ній чым два́ццаць-два́ццаць пяць санціме́траў, і штоп зімля́ не была́ ўто́птана.* Фасаўшчына.

**УТО́РКНУЦЬ** *зак.* 1. Уткнуць. *Пасту́х пруто́к уто́ркніць, і каро́вы нікуда́ ні по́йдуць.* Багданава. *Узя́ў у разе́тку пры́емнік уто́ркнуў.* Фасаўшчына. 2. Уставіць, прыладзіць. *Карэ́ц із лазіны здзе́лаіш і ў кішку́ ўто́ркніш, і тады́ мя́са ціскаіш, ціскаіш, і яно́ ідзе́ць* [як каўбасы робяць]. Багданава, Гарадзец, Кішуроўшчына, Міцюкова, Партызаны, Цясішча.

**УТРА́НКА** *ж.* Раніца. *Я е́хуў пу ўтра́нке пъ лясу́, бяжы́ць чълаве́к.* Пожанькі.

**УТРА́ЦІЦЬ** *зак.* Страціць, згубіць. *Утра́ціла каро́ўку.* Партызаны.

**УТРУМБУВА́ЦЬ** *зак.* Шчыльна пакласці. *Утрумбува́ла капу́сту ў ба́нкі.* Вялікі Азярэцк.

**УТРЫДО́РАГА** *прысл.* Вельмі дорага. *Утрыдо́рага бяру́ць.* Буй.

**УТУЙМАВА́ЦЬ** *зак.* Аб'ездзіць (пра каня). *Запрага́лі ў са́нкі маладо́га каня́, каб скарэ́й утуймава́ць.* Дольдзева.

**УТУ́ЛКА** *ж.* Жалезная ўстаўка (кальцо) у трубцы кола, каб не сціралася. Гарадзец.

**УТУПІ́ЦЬ** *зак.* Апусціць. *Гълаву́ ўту́піць і ідзе́ць ціхо́нька.* Леснікова.

**УХА́** *ж.* Юшка, рыбная поліўка. *Аку́нь, с акунёў уха́ сма́чная.* Запруддзе.

**УХАЖО́Р** *м.* Жаніх. *Прыбіра́іцца красіва ўхажо́р.* Неўгадава.

**УХАЖО́РКА** *ж.* Нявеста. *Прывёў мужы́к не́йкую другу́ю ўхажо́рку.* Запруддзе, Азярэцк.

**УХА́ЖЫВАЦЬ** *незак.* Даглядаць. *Сын за ёй уха́жыіць ужо́ во ме́сіц.* Нямойта.

**УХАНДЭ́ШЫЦЬ** *зак. экспр.* Знішчыць, забіць. *Я яго́ ўсё ро́ўна ўхандэ́шу.* Партызаны.

**УХАПІ́ЦЬ** *зак.* Схапіць, узяць што-н. *Ня ўхо́піш с пъжа́ру нічо́га.* Мянюцева, Сукрэмна.

**УХВАЛЁНЫ** *прым.* Знакаміты, вядомы. *Ён усю́дых ухвалёны, быко́ў атко́рмліваіць, у раёне вісіць.* Баравікі.

**УХВА́Т** *м.* Вілкі. *Ухва́т – у Ча́шніцкім раёне, у нас – ві́лкі ля пе́чы стая́ць.* Багданава.

**УХВА́ТКА** *ж.* Спрыт, хватка. *У аднаго́ харо́шая ўхва́тка, а ў другога плъха́я.* Савінічы.

**УХВА́ЦІСТЫ** *прым.* Праворны і цэпкі. *Ухва́цісты чълаве́к.* Савінічы.

**УХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* Ухапіць, злавіць. *На дварэ́ каршуны́ ўхво́цяць ку́рацу і пятуха́ мо́гуць уцягну́ць.* Розмыслава, Партызаны.

**УХО́ДЖАНЫ** *прым.* Дагледжаны. *Рабёнак ухо́джаны, як камёлак.* Жохава.

**УЦАЛЕ́ЦЬ** *зак.* Ацалець. *У нас пшаніца была́ і ўцале́ла.* Апечкі.

**УЦЕ́РЦІ** *зак.* Выцерці. *Уватрэ́ць яму́ слёзы, а ён пла́чыць і пла́чыць.* Вялікі Азярэцк.

**УЦЕ́Ч** *зак.* Уцячы. *Я уце́ч ні магу́, но́гі бъля́ць.* Запруддзе. *Раз страля́юць, я ш ужо́ ні змагу́ уце́ч.* Леснікова, Алексінічы.

**УЦІГА́ЦЬ** *незак.* Уцягваць у вадаварот, засмоктваць, паглынаць. *Вір уціга́іць чълаве́ка, і ўто́ніць.* Гарадок.

**УЦІКА́ЦЬ** *незак.* Пакідаць, выязджаць. *Мълады́я ўціка́юць, ні хо́чуць жыць у дзярэ́ўні.* Мянюцева, Багданава, Міцюкова, Фасаўшчына, Цясішча.

**УЦІРА́ЛЬНІК** *м.* Ручнік. *А гэ́та ўціра́льнікі, што выціра́цца.* Алексінічы.

**УЦЭ́ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Ацалелы, захаваны. *Пасці́лкі, два адзія́лы куплёныя, рушніко́ў было́, тру́бак – усё уцэ́лена.* Партызаны.

**УЦЭ́ПЛЕНЫ** *дзеепрым.* Ачэплены. *Дзет гъвары́ў: «Бу́дзіць тако́й свет, што ўсё бу́дзіць про́валъкай уцэ́плена». Во дажы́лі: і ціліфо́н, і ўсё.* Рэчкі.

**УЦЮ́Г** *м.* Прас. *Былі́ уцюгі́ духавы́я, туды́ накладзёш жа́ру, ён нагрэ́іцца, і гла́дзіш.* Станюкі. *Уцю́г быў с вуга́ллем.* Каралі, Багданава, Леснікова.

**УЦЮ́ЖЫЦЬ** *незак.* Прасаваць. *Цяпе́р уцюго́м уцю́жуць, а даўне́й у къча́лках къча́лі.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Міцюкова.

**УЦЯ́ГВАЦЬ** *незак.* Зацягваць, уводзіць (праз бёрда). *З нітоў у бёрда ўцягаеш нітку.* Леснікова.

**УЦЯ́ГНУЦЬ** *зак.* 1. Зацягнуць (пра дрыгву). *Дрыгва́ – ідзёш і мо́жа ўця́гнуць.* Запруддзе. 2. Затрымаць, доўга нешта рабіць. *Е́слі ўця́гнеш прагаво́р, ху́жэй бывáіць.* Партызаны.

**УЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* Запусціць хваробу. *Ты ўцягну́ла бале́ць, цяпе́р мы табе́ не памо́жам.* Апечкі.

**УЦЯПЛЯ́ЦЬ** *незак.* Уцяпляць. *Э́та уцяпля́лі сваé хáты.* Фасаўшчына.

**УЦЯСА́ЦЦА** *зак. перан.* Ледзьве ўладкавацца (на працу), уціснуцца. *Чуць уцясáўся на рабо́ту.* Партызаны.

**УЧАПІ́ЦЦА** *зак.* Ухапіцца, узяцца. *Ё за што ўчапіцца.* Нямойта.

**УЧАРА́СЬ** *прысл.* Учора. *Учарáсь віцінáр прыхо́дзіў.* Каралі.

**УЧАРА́ШНІ** *прым.* Учарашні, мінулы. *Учъра́шнюю ноч бале́ла.* Гарадзец.
□ *Учара́шняга дня не на́йдзеш.* Вялікі Азярэцк.

**УЧАРНЕ́ЦЬ** *зак.* Змарнець, зблажэць. *Учарне́ў з рабо́ты.* Фасаўшчына.

**УЧАТЫРО́Х** *прысл.* Учатырох. *Учатыро́х ля́гуць на пе́чы.* Рулёўшчына.

**УЧАШЧО́НЫ** *прым.* Учашчаны, часты. *Пульс учашчо́ны.* Міцюкова.

**УЧО́РА, УЧАРА́** *прысл.* Учора. *Пляме́ннік прыве́з учо́ра пяць бу́лак хле́ба.* Вялікі Азярэцк. *Учъра́ і зъўчъра́ по́ўны ча́йнік чарні́ц нясе́ць.* Ульянавічы.

**УЧУ́БІЦЦА** *зак.* Упіцца, прысмактацца. *Клешч як учу́біцца, не мо́жна аткавырну́ць го́лкай, аж кру́ціцца, пат'ядáў так, што пшчо́лы па аднэ́й вылятáюць і прападáюць.* Закур'е.

**УЧУДЗІ́ЦЬ** *зак.* Утварыць, напракудзіць. *Не́шта ўчудзі́лі тыя хвіны.* Гарадок, Дольдзева.

**УЧЫ́ЛІШЧА** *н.* Вучылішча. *Я ко́нчыў чатырохклáснъя ўчы́лішча – зе́мскую нъча́льную шко́лу.* Марозаўка.

**УЧЫ́НЕТЫ** *дзеепрым.* Учынены (пра цеста). *Учы́неты хлеп быў, прачну́лася, мужы́к хлеп ме́сіць – ажно́ гэ́та Во́сьмага ма́рта.* Багданава.

**УЧЫНІ́ЦЬ** *зак.* Рашчыніць (пра цеста). *Блі́ны на ноч учы́ніш.* Серкуці. *Уве́чары ўчы́ніш,назáўтра ра́на ме́сіш.* Нямойта, Багданава, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Каралі.

**УЧЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Рашчыняць (пра цеста). *Пе́чку нато́пюць, жар вы́грабуць, це́ста учыня́юць і пяку́ць.* Станюкі. *Шэсь бу́лак учыня́лі хле́ба і бо́лей.* Чуцькі.

**УЧЫ́ЦІЛКА, УЧЫ́ЦЕЛЬКА** *ж.* Настаўніца. *Яе́ дъчка́ – учы́цілка.* Запруддзе. *Тут учы́целькі жыву́ць.* Фасаўшчына.

**УЧЭ́СВАЦЬ** *незак.* Расчэсваць. *Ні так іна́ мяне́ бе́ла ўмы́іць – / Ско́ка ліца́ сатрэ́ць, / Ні так гла́тка ўчэ́шыць – / Ско́ка маі́х валасо́ў нарве́ць* (з песні). Буй.

**УШАРЫ́ЦЬ** *зак.* Пашырыць, зрабіць шырэйшым. *Тут даро́гу ўшары́лі, лес выръзáлі с або́іх старо́н, іна́ саўсе́м ву́ская была́.* Баравікі.

**УША́ЦІК** *м.* Цабэрак. *Дзет бо́ндар быў, дзе́шкі, ушáцікі дзе́лаў.* Багданава.

**УШЧАМІ́ЦЦА** *зак.* Зашчаміцца, заціснуцца. *Іва́н, твой пяту́х ушчамі́ўся.* Мянюцева.

**УШЧАМІ́ЦЬ** *зак.* Зашчаміць, заціснуць. *Калі́-йта ён ішо́ў і ру́чку ў дзве́ры ўшчамі́ў.* Сянно, Нямойта.

**УШЧАПІ́ЦЦА** *зак.* Зачапіцца. *Якая ўшчэпіцца рыбіна на вудачку, такую і цягнем.* Партызаны.

**УШЧЫНЯ́ЦЦА** *незак.* Пачынацца, зараджацца. *Як гэта іна ўшчынялься ета жысь...* Запруддзе.

**УШЧЫЧА́ЦЬ** *незак.* Уцяпляць на зіму. *Ушчычаю на зіму пшчол сенам.* Рэчкі.

**УЮ́ГА** *ж.* Завея. *Уюга зъкруціла, зъдуваіць дарогу.* Кішуроўшчына.

**УЮ́ШЧЫ** *прым.* Кучаравы. *Дужа ўюшчыя въласы ў яго.* Партызаны.

**ФАЕТО́Н** *м.* Лёгкі экіпаж з адкідным верхам; фаэтон. *Фаетон шчэ Напалеон прыдумаў, па госці ездзюць.* Дуброўкі.

**ФАЗА́Н, ХВАЗА́Н** *м.* Фазан. *У Чъхъслъвякіі закупілі фазануў. Падзёжы ні было хвъзануў* [яны карміліся ля стагоў сена]. Сянно.

**ФА́КЕЛ** *м.* Факел, паходня. *Немец здзелаў факел с саломы і падпальваў хаты.* Партызаны.

**ФАЛЬБО́НЫ** *мн.* 1. Брыжы. *Фальбоны ніска прышывалі.* Фасаўшчына. 2. У выглядзе складачак (пра фасон). *У фальбоны – значыць у складачкі.* Фасаўшчына.

**ФАЛЬВА́РАК, ФО́ЛЬВАРАК, ФУЛЬВА́РАК, ХО́ЛЬВАРАК, ХО́ЛЬВІРАК, ХАЛЬВА́РАК** *м.* Фальварак. *Там быў фальварак, жыла панёнка.* Нямойта. *Тут пан жыў, панскі фольварак быў.* Баравікі. *Фульварък быў, Кузьміцкія там жылі.* Ульянавічы. *Прыгналі ў хольвірак, а потым у Канева. А мы пайшлі ў хольварак. Там раньшы пан жыў, там дзярэўня была.* Партызаны. *У Пурпліві быў хъльварък.* Цясішча.

**ФА́ЛЬШ** *м.* Падман. *Я нікакога фальшы ні дзелаю.* Нямойта.

**ФАНА́Р, ФУНА́Р, ХУНА́Р** *м.* Ліхтар. *Былі фунары-рамъчкі, а зверху дошчычка з дзіручкуй.* Заазер'е. *Фунар звалі, быў такі с кірасінам.* Нямойта, Запруддзе, Сукрэмна. *Я с хунаром бягу наперáду.* Галашчакіна. *Йна сказала: «Палі хунар і йдзі па тъках. Калі закрыта, хай хъзяін аткрыя».* Міцюкова. ◊ НІ ДАСТА́ЦЬ З ФАНАРА́МІ. Цяжка знайсці. *Цяпер с фанарамі мэблю ні дъстанеш.* Каралевічы.

**ФАНЕ́РА** *ж.* Фанера. *Фанерай абычна пъталкі патшываюць. Сразу доскі, а патом пъ даскам ідзёць фанера.* Нямойта.

**ФАНТ** *м.* Гульня дзяцей і моладзі. *У фанта гулялі: нібы ўгалёк у руку палбжаць і адгадвай.* Багданава. *У фанты гулялі, як збіраліся па хатах.* Марозаўка.

**ФАРБАВА́ЦЬ, ФАРБУВА́ЦЬ** *незак.* Фарбаваць. *Сцяну пафарбуіш аліфай, а патом пъкрасіш. А так фарбуваць.* Сукрэмна.

**ФАРТО́ВЫ, ХВАРТО́ВЫ** *прым.* 1. Спрытны, хвацкі, прыгожа апрануты. *Дужа фартовы, уборны паръньң, культурны.* Запруддзе, Леснікі. 2. Фарсісты, ганарысты. *Хвартовая дзяўчонка была.* Міцюкова. 3. Прыгожы. *Выйдзіць фартовая кофтачка.* Міцюкова.

**ФА́РТУ́Х, ХВА́РТУХ** *м.*, **ХВАРТУКІ́** *мн.* Фартух. *Фартух кала работы.* Каралі. *Адной бабі далі хвартух, дык іна хустку сдзельла* [пра амерыканскую дапамогу]. Нямойта. *Як въгъняюць кароў першы рас, то нада пъслаць юпку ці хвартух нъ парозі, кап ні блуждала пъ чужых двърах* (павер'е). Ракаў Засценак. *Хвартух падкашыць* [падапне] *і ідзець.* Закур'е. *Хвартух насілі, хвартукі.* Запруддзе.

**ФАРФО́РЫЦЦА** *незак.* Харахорыцца, ганарыцца. *Каторы фарфорыцца, а сам з дзярэўні.* Вялікі Азярэцк.

**ФАРШАВА́ЦЬ** *незак.* Фаршыраваць, начыняць. *Фаршава́лі шчу́ку, чуць з'е́лі яе́, така́я вялі́кая была́.* Багданава.

**ФАСО́Н** *м.* Фасон. *А э́та для фасо́на, штоп красіве́й было́.* Марозаўка.

**ФЕ́ЛЬШАР, ХВЭ́РШАЛ** *м.* Фельчар. *На́ша фе́льшар, ну, фе́льшарыца, ні падыма́іцца.* Нямойта. *Хвэ́ршал гавары́м ста́рыя.* Фасаўшчына.

**ФЕ́ЛЬШАРА-УКУША́РАЧЫ** *прым.* Фельчарска-акушэрскі. *Ако́нчыў фе́льшъра-укуша́ръчы це́хнікум.* Кляпчэва.

**ФЕ́ЛЬШАРЫЦА** *ж.* Фельчар (пра жанчыну). Нямойта.

**ФЕ́РМА, ХЕ́РМА** *ж.* Ферма. *Забуры́лася фе́рма.* Івоні. *А рабо́тала я на хе́рмі, была́ към цілят. Я да вайны́ на хе́рмі рабо́тала, так атвіча́ла за усё, і свіне́й па́сціла.* Нямойта.

**ФЕ́РМІР** *м.* Заатэхнік (?). *У два́ццаць васьмы́м гаду́ калхо́с, фе́рмірам рабо́таў як зъаце́хнік.* Сукрэмна.

**ФІ́ҐА, ХВІ́ГА** *ж.* Дуля, фіга. *На во фі́гу!* Гарадзец. *Я кажу́: а табе́ ж хві́гу дасць хто!* Нямойта. *А табе́ фі́гу даду́ць.* Ульянавічы.

**ФІГУ́РЫСТЫ** *прым.* Прыгожа складзены. *Фігу́рысты, шэ́ры, ў я́блычкі конь быў, Палка́н, у дзень зімы́ прыз на во́зеры браў.* Запруддзе.

**ФІ́КУС** *м.* Фікус (расліна). *Фі́кус быў на ўвесь кут, ад яго́ гълава́ бале́ла.* Партызаны. *Я забыва́ю, як гэ́ты цвет, фі́кус ці што.* Закур'е.

**ФІЛЁНГА** *ж.* Створка (дзвярэй). *У філёнгавых дзвяра́х – адна́, друга́я, трэ́цція філёнга.* Гарадзец. *Вы́біў у філёнгъх акно́.* Запруддзе.

**ФІЛЁНГАВЫ, ФІЛІНГО́ВЫ** *прым.* Двухстворкавы (пра дзверы). *Філёнгавыя дзве́ры.* Гарадзец. *Філінго́выя дзве́ры на дзве сто́раны раскрыва́юцца.* Савінічы. *Філінго́выя дзве́ры на дзве пъ*ʸ*лавіны.* Нямойта, Запруддзе.

**ФІЛЁНЧЫСТЫ** *прым.* Двухстворкавы (пра дзверы). *Філёнчыстыя дзве – дзве́ры на дзве палавіны. Філёнчыстыя дзве́ры – двайны́я гэ́та.* Кляпчэва.

**ФІ́ЛІН, ХВІ́ЛІН** *м.* Філін (птушка). *Фі́лін крычы́ць ху-ху-ху!* Сянно. *Хві́лін быў но́ччы, крычы́ць, як дзяцёнак.* Леснікова.

**ФІЛЯ́НСКІ** *прым.* Фінскі. *На філя́нскую вайну́ хадзіў, на по́льскай быў.* Мянюцева, Багданава.

**ФІНЦЮФЛЮ́ШКА** *ж. эмац.-ацэн.* Ганарліўка, фанабэра. *Така́я фінцюфлю́шка, што дзяржы́ся!* Каралевічы.

**ФЛАНҐ** *м.* Шланг. *Фланґ бальшы́, е́ты купі́лі гаро́т паліва́ць.* Станюкі.

**ФЛЯ́ГА, ХЛЯ́ГА** *ж.* 1. Бітон. *Іна́ ўсе флягі парассы́пець, паразаб'е́ць.* Запруддзе. *Адну́ хля́гу спі́рту към шулы́ зарыў.* Міцюкова. 2. *эмац.-ацэн.* Пра невысокага і залішне поўнага чалавека. *Хля́га ты мало́чная!* [на невысокага і залішне поўнага чалавека]. Вялікі Азярэцк.

**ФЛЯ́НСЫ** *мн.* Расада. *Пакі́нулі пат флянсы бурако́ў.* Рассвет.

**ФО́РТАЧКА** *ж.* 1. Фортачка. *Фо́ртачка – е́та ў акне́.* Запруддзе. 2. Калітка. *Фо́ртачка – у шчыке́тніку, а вялі́кія – варо́ты.* Леснікі. *Фо́ртачку на Іва́ну* [Купалле] *не́куды знéслі.* Вялікі Азярэцк. *Варо́ты с фо́ртачкай былі́.* Марозаўка.

**ФО́РТКА** *ж.* Фортачка. *Фо́ртка – э́та ў акне́.* Нямойта.

**ФРАНТО́Н, ФРАЙТО́Н, ФРАНТО́Р, ФАРТО́Н** *м.* Франтон. *Франто́ны – е́та ў канцы́ до́ма, даска́мі зашыва́юць. Зашыва́юць франто́н, пато́м патало́чуць ізру́п.* Нямойта. *Пат франто́намі з гра́зі здзе́лаіць ла́стаўка гняздзе́чка, прыле́піць, ні атва́ліцца.* Міцюкова. *Стрыжы́ на фрайто́не гняздо́ зле́пяць.* Вялікі Азярэцк.

*Франто́ры рабілі ў ха́тах.* Алексінічы. *У ха́це канёк, фарто́н, атліў.* Запруддзе. *Ра́ньшы фарто́наў ні было́, дзе́лаліся зало́пкі нъўскася́к, касэ́я.* Гарадзец. *Зало́пкі былі, як сало́май крылі ха́ту, цяпе́р фарто́н.* Дольдзева. *Фарто́н зашываюць даска́мі, дзе́лаюць дзве́ркі ла́зіць на чарда́к.* Фасаўшчына, Багданава, Вялікі Азярэцк, Каралі, Марозаўка.

**ФРАНЦУ́З** *м.* Француз. *Міро́нъва гъра́ – тут, гъварылі, францу́зъў хъранілі.* Латыгаль.

**ФРЭ́НЧЫК** *м.* Пінжак, камізэлька. *Фрэ́нчык ат касцюма быў, я надзе́ў ге́ты фрэ́нчык.* Ульянавічы.

**ФУГА́Н, ФУҐА́Н** *м.* Рубанак. *Фуга́н – е́та дзе́рава спуска́ць.* Нямойта. *Фуга́н бальшы́, а руба́нчык ма́лый.* Фасаўшчына. *Фуґа́н – до́скі струга́ць, каб ро́ўная до́ска была́. Фуга́н вялікі.* Марозаўка, Гарадзец, Леснікі, Леснікова, Чуцькі.

**ФУГА́НАК, ФУГАНО́К** *м.* Тое ж. *Фуга́нкам сніма́юць трэ́ці слой с до́скі, ён раўняіць, чыста і ро́ўна дзе́лаіць.* Запруддзе. *Фугано́к до́шчачкі дзе́лыць.* Фасаўшчына.

**ФУГА́НІЦЬ** *незак.* Апрацоўваць з дапамогай фуганка (рубанка). *Фугано́м фуга́нілі, кле́пкі дзе́лалі.* Міцюкова.

**ФУЛЮГА́НСТВА** *н.* Хуліганства. *Фулюга́нства развяло́ся.* Багданава.

**ФУМІ́ЧАСКІ** *прым.* Хімічны. *Фумі́чъскія грыбы́ къла нізу даро́шкъмі расту́ць.* Вялікі Азярэцк.

**ФУНДА́МЕНТ, ФУНДА́МІНТ, ХУНДА́МЕНТ, ХУНДА́МІНТ** *м.* 1. Падмурак, фундамент. *Зра́зу ру́біцца ізру́п, зруп стано́віцца на фунда́мент.* Нямойта, Багданава, Партызаны, Серкуці. *Ні на ро́ўным, то фунда́мінт жа ні ро́ўны.* Серкуці. *Паку́ль зру́бюць, ён хунда́мінт пало́жыць.* Заазер'е. *У нас не хунда́мент, а так каме́нне дро́бненькае, рука́мі падма́залі. Ку́ры як уна́дзілісі, аб'е́лі усю гліну, да́жэ каме́нне высыпалася.* Ракаў Засценак. 2. Падмурак у печы. *Фунда́мент сра́зу заліва́ецца, тады патпе́чча, тады падзагне́т, загне́т, а там паднябе́ння ўвярху́, а гэ́та пот.* Партызаны.

**ФУНТ, ХУНТ** *м.* Мера вагі, роўная прыкладна чатыромстам грамам, якая існавала да ўвядзення метрычнай сістэмы; фунт. *Фунт – э́то ужо́ чатырыста грам.* Марозаўка, Гарадзец. *Хунт – чатырыста грам. Два с палавінай ху́нты – кілагра́м. І тады на́да дзе́сяць ху́нтаў атрапа́ць за дзень.* Багданава. *У кілагра́мы два ху́нты с пълавінай.* Станюкі. *Ра́ньшы ху́нты былі. Гірка была́ кру́глінькая, ма́лінькая: на хунт і на чатыры.* Нямойта. *За ве́чар ку́жалю чуць не хунт напрадзём.* Карпавічы, Буй, Заазер'е. 2. Аплата, якая вымяралася ў фунтах. *У ме́льніцы бра́лі хунты́, тры-чатыры хунты́ с пу́да.* Серкуці.

**ФУ́РА** *ж.* 1. Вялікі воз, прызначаны для перавозкі грузаў. *Фу́ра – е́та бъльша́я паво́ска, нъклада́юць се́на ці сало́му. Вот, гаво́руць, на фу́ру нъклада́й і вязі ў стагі.* Сукрэмна. *Фу́ра – е́та калёсы, па́рка ко́ній зъпрага́ліся.* Фасаўшчына. *Фу́ра – е́та два кані зъпрага́лі з дышлам.* Карпавічы, Багданава. 2. Лёгкая павозка на рысорах. *Фу́ра на рысо́рах, лёхкая.* Гарадзец. 3. Крыты кузаў на калёсах. *Вазо́к быў, фу́ра была́ на калёсах, крытая была́,* [фура] *ці бо́чка зва́лася.* Нямойта.

**ФУРА́Ж** *м.* Раслінны корм для свойскай жывёлы і птушак; фураж. *Віку з гаро́хам, аўсо́м – на фура́ж*$^{ш}$. Багданава[1].

**ФУРАЖЫ́Р** *м.* Чалавек, у абавязкі якога ўваходзіць нарыхтоўка, захаванне і выдача фуражу; фуражыр. *Ён фуражыра*$^{ы}$*м зімо́й быў.* Вялікі Азярэцк. *Ён ціпе́р*

*фуражы́ръм, выдае́ць, ва́жыць дабро́, се́на выдае́ць, буракі́, усё пад вясы́.* Багданава.

**ФУРГО́Н** *м.* Вялікі воз на два кані, прызначаны для перавозкі грузаў. *Фурго́н – гэ́та калёсы з ды́шлам, два кані́ зъпрага́лі.* Гарадзец. *Фурго́н – се́на, сало́му вазі́ць.* Нямойта, Розмыслава.

**ФУРР** *выкл.* Пырхнуць. *Вераб'і фурр – і пъляце́лі.* Запруддзе.

**ФУТБО́ЛАЧКА** *ж.* Адзенне, пашытае ў форме футболкі. *Шы́лі футбо́лачкъй* [кофту], *кліны́ ўстаўля́ліся.* Запруддзе.

**ФУ́ТРА** *ж.* Каўнер з меху; шуба з меху. *Фу́тра была́, ці мо́жа е́та мех, фу́тра была́?* Нямойта.

**ФУТУЛЯ́Р** *м.* Футляр. *У футуля́ры ліжа́ў гармо́нік.* Каралевічы.

**ХАБАТО́К** *м.* Хабаток (у пчол). *Хъбато́к такі́ у пчалы́. Ляці́ць, бярэ́ць хъбатко́м сок.* Вялікі Азярэцк. *Хабатко́м сок у цвято́ў бяру́ць.* Закур'е.

**ХАБЛО́** *н. груб.* Хамула, нявыхаваны чалавек. *Такі́я са́мыя хаблы́, як мы. Зачу́ханыя, п'юць, руга́юцца.* Міцюкова.

**ХАВА́ЎШЫСЯ** *дзеепрысл.* Хаваючыся. *Хава́ўшыся ад мяне́, курыу́.* Партызаны.

**ХАВА́ЦЦА, ХУВА́ЦЦА** *незак.* 1. Засцерагацца, хавацца. *А дзе́ хава́лися? У ле́сі.* Заазер'е. *Упяро́т хува́цца на́да, а цяпе́р сяро́д дня сма́люць свінню́.* Багданава. *У вайну́ ў ле́сі хува́лися. Лю́дзі хува́лісі. А куды́ хува́цца?* Запруддзе. 2. Запаўзаць у норы на зімовую спячку. *Зме́і на Взвіжъння хува́юцца уво́сень.* Вялікі Азярэцк. *На Узвіжанне хува́юцца вужа́кі, а на Благаве́шчанне з зямлі́ выхо́дзяць.* Ракаў Засценак. 3. Тапіцца, правальвацца. *Каткі́* [колы ў калёсах] *хува́лися у грась.* Нямойта.

**ХАВА́ЦЬ, ХУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Класці што-н. так, каб цяжка было знайсці. *Схава́ць – е́та палажы́ць пада́льшы адзёжу, хава́лі і хлеп, зака́пывалі.* Жохава. *Мы гро́шы ні хава́лі.* Марозаўка. 2. Не паказваць, не дазваляць трапляцца на вочы. *Мы ат сваі́х дзяце́й яго́ хува́лі* [сабаку]. Фасаўшчына. 3. Трымаць у бяспечным месцы. *Хува́ць ні́ма́ чаго́: ско́лькі там тае́ бу́льбы.* Запруддзе. *А ў нас там да вайны́ бу́льбу хува́лі: къпа́лі я́мкі і хува́лі бу́льбу.* Леснікова.

**ХАВА́ЦЬ, ХУВА́ЦЬ** *незак.* Закопваць у зямлю (пра нябожчыка). *Цяпе́р жа хава́юць і́лі харо́нюць.* Нямойта. *Е́тых вісельнікаў ні хува́лі, ну а ціпе́р усі́х ра́зам кладу́ць.* Багданава. *А цяпе́р хува́ім, як прыхо́дзіцца.* Вялікі Азярэцк. *Ніхрышчо́ных хава́лі за кла́дбішчам.* Партызаны. *Клёцкі – як хува́юць чълаве́ка.* Савінічы.

**ХАДА́** *ж.* Хада. *Я на хаду́ лёгка была́.* Нямойта.

**ХАДА́К** *м.* Шагавіты, са спорным крокам (пра каня). *Быў у мяне́ бе́лый конь, хъда́к быў о́чынь уда́лый.* Сянно.

**ХАДАЛА́** *прысл.* Хутчэй, бягом. *Я іх схваці́ла* [дзяцей] – *і хъдала́!* Багданава.

**ХАДА́ТАЙНІЧАЦЬ** *незак.* Хадайнічаць. *Ніdзе́ ні хада́тайнічаў стары́.* Фасаўшчына.

**ХАДА́ТАСТВА** *н.* Хадайніцтва. *На́да хъда́тъства, каб яе́ пакла́лі ў бальні́цу.* Жохава.

**ХАДЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Рухацца, перамяшчацца (пра чалавека, жывёлу). *На́да рабо́таць, пака́ но́гі хо́дзюць.* Буй. *Хадзі́лі но́гі, а цяпе́р зусі́м пераста́лі хадзі́ць.* Ульянавічы. *Стары́, а з мъладэ́й у абды́мку хо́дзіць.* Запруддзе. *Та́м-ка, у ляcу́, хадзі́ла ў сапага́х.* Апечкі. 2. Бываць, накіроўвацца куды-н. з пэўнай мэтай. *Я ле́тась*

*хадзіла ў чарніцы.* Партызаны. *У нас у ягады, грыбы ходзюць.* Буй. *У нас суніц німа, я ў іх ні хаджу.* Кішуроўшчына. 3. З'яўляцца, перамяшчацца ў пэўным кірунку (пра хмары, з'явы прыроды). *Віхор часта ходзіць. Тучы ходзюць чорныя.* Багданава. 4. Удзельнічаць у вайсковых справах. *На дзень хадзілі нъ вайну, а нанач дамоў хадзілі.* Серкуці. 5. Наведваць. *Трэйцяя часць ня ходзюць у нашу цэркъў.* Закур'е. 6. Плысці чарадой, касяком (пра рыбу). *Ляшчы ходзюць зъ іршамі* [бо тыя падымаюць жыўнасць з дна вадаёма]. Багданава. 7. Насіць які-н. абутак, адзенне. *Цяпер жызьнь няўміруўшчая, ніхто голы ня ходзіць, ніхто босы ня ходзіць.* Ульянавічы. 8. Бегаць за спажывай. *Ходзюць мышы ноччу за бумагай.* Латыгаль, Заазер'е, Марозаўка, Нямойта. 9. Пасвіцца. *Як кузня стъяла, тоя места, там карова ходзіць.* Запруддзе. 10. Ездзіць (пра сродкі перамяшчэння). *Ходзюць аўтобусы.* Багданава. *Бальшыя тръктары далжны ў транспарці хадзіць.* Фасаўшчына. 11. Бабіць. *Пры родах хадзіла, дзяцей бабіла. За бапку хадзіла.* Заазер'е. 12. Даглядаць (жывёлу). *Дзеўкай як работала, дык і за конімі хадзіла.* Заазер'е. 13. Працаваць кім-н. *Іна пъштаркай хадзіла. Тут трыццаць гадоў пъштальёнам хадзіла.* Міцюкова. 14. Перадавацца, пераходзіць. *Раньшы яно па людзях хадзіла.* Каралевічы. 15. Здраджваць каму-н. *Я нікуды ні хадзіла ат хъдзяіна, а ён ад міне.* Дольдзева. 16. Запрашэнне ісці куды-н. *Хадзіця ўжо абедаць, а то зъ вамі зарьс і прыедуць.* Фасаўшчына. ◊ ХАДЗІЦЬ ХУДУРОМ (ХАДУНЁМ). 1. Моцна хістацца, калыхацца. *Змольду хадзілі ў журавіны, то балота худуром хадзіла* [багністае]. Гарадзец. *Цэлы месяц зімля хадзіла хадунём.* Савінічы. 2. Прыходзіць у рух, бурна праяўляцца. *Усё худуром ходзіць у сярэдзіне.* Багданава.

**ХАДЗЯІН, ХАЗЯІН, ХУЗЯІН** *м.* 1. Гаспадар. *Лучшы за хадзяіна касіла.* Вялікі Азярэцк. *К хъдзяіну нас пъставілі жыць.* Гарадок. *Ніякія мы не хадзяіны. Хъдзяін сена пъкасіў.* Серкуці. *Адно ўжо нада: на хутар. Мы ўжо хъзяіны: купілі казу.* Ульянавічы. *Палку пакідалі хузяіну, хто угасціў* [на Каляды]. *Хузяін іх сказаў: «Вы ідзіце к бежанцам!»* Алексінічы. 2. Муж. *І хъдзяін крычыць, і дочка плачыць. Ну, гэта ў трэцціх майго хъзяіна дзеці, у трэцціх сёстры яны.* Заазер'е. *Тут я са сваім хадзяінам у палажэнні* [на фотаздымку]. *Хъдзяін мой з работы ні прышоў.* Партызаны. *С хадзяінамі лехчы, а адной бабі цяшка.* Неўгадава. *Меншай быў шосты месяц, як хазяін памёр.* Багданава[1]. *Біс хъзяіна, адна жывець.* Манголія.

□ *У дрэнную пагоду добры хаъзяін сьбаку ні гоніць на двор.* Багданава.

**ХАДЗЯЙКА, ХАЗЯЙКА, ХУЗЯЙКА** *ж.* 1. Гаспадыня. *Сын дома за хадзяйку быў.* Партызаны. *Яна і работніца, і хъзяйка.* Розмыслава. 2. Жонка. *А ета, ну, хузяйка мая.* Багданава. *Еслі хазяйка з голаду памрэць, хазяйку пад загнетам пахароняць.* Міцюкова.

**ХАДЗЯЙСТВА, ХАДЖАЙСТВА, ХАЗЯЙСТВА** *н.* Гаспадарка. *Харошае хъдзяйства.* Каралевічы. *Зъ хадзяйствъм, кажыць, німа калі ў бальніцу хадзіць.* Неўгадава. *Усе хаджайства на Івана можа пайці пад аткос.* Дольдзева. *У міне хъзяйства, хъця яго крэпка можна ні дзіржаць.* Багданава. *І на што мне гэта хъзяйства?!* Дольдзева. *Усё гадавала на хазяйстве: каровы, свінні.* Мянюцева, Запруддзе. *Послі рэвалюцыі ў Тураве было двънаццъць хъзяйствуў.* Турава.

**ХАДЗЯЧЫ** *прым.* 1. Такі, які ходзіць, рухаецца. *Сама хадзячая была я.* Міцюкова. 2. Такі, па якім часта ходзяць (пра месца). *На захад сонца загавораную ваду нада выліць на хадзячае месца.* Міцюкова.

**ХАДНЯ́** *ж.* Хада. *Халера па маёй хадне: ўсё хóдзіш.* Серкуці.

**ХАДО́ВЫ, ХУДУВЫ́** *прым.* Энергічны, уплывовы. *Я чалавéк хадóвы, біз мяне ні апхóдзіцца: у мяне віздзé блат.* Нямойта. *Йна былá худувáя: паéздзіць у Мінск, кýпіць мацéрыі і тут бап адзівáла.* Багданава.

**ХАДЫ́ЛКА** *ж.* Прыстасаванне для немаўляці, каб вучыцца хадзіць; хадункі. *Хадылка – такі абрýч і кóлік. Кóлік – да бэ́лькі. Усáдзюць дзіцёнка, ён навýчыцца тут хадзíць.* Вялікі Азярэцк.

**ХАЗІІНУВА́ЦЬ** *незак.* Гаспадарыць. *Ён умéў хъзіінувáць, у ягó ўсё былó.* Дуброўкі.

**ХАЗЯ́ЙСКІ** *прым.* Гаспадарлівы. *Я і лáпаць сплятý, і карзіну – тáкая хазяйская.* Баравікі. *Хъзяйскі быў, усё умéў рабíць.* Леснікова.

**ХАЙ** *часц.* Няхай, хай. *Зямлю хай пáшуць так, як пáшуць. Ад зямлі ніхтó ні аткáзываіцца.* Гарадзец, Запруддзе, Нямойта, Рассвет, Сянно, Чуцькі.

**ХАЙЛО́** *м.* Неахайны, нязгрэба. Серкуці.

**ХАЙЛУ́К** *м.* Тое ж. Серкуці.

**ХАЛАДЗЕ́Ц** *м.* Студзень, халадзец (страва). *Халадзéц застаéць дагýста.* Баравікі. *Пірат Пáскай варылі хъладзéц.* Карпавічы. *Тáта, хъладзéц бýду варыць – яршóў німá* [тата ідзе лавіць на кручок]. Сянно.

**ХАЛАДЗЕ́Ц** *м.* Халаднік (страва). *Шчáвель варылі, хъладзéц, мы цяпéр вáрым ягó.* Вялікі Азярэцк.

**ХАЛАДЗЁНКА** *ж.* Халодная вада (вада, якой разводзілі (ахалоджвалі) гарачую ў бані). *Халадзёнка – каб развóдзіць жáркую вадý ў бáні. Бóчка во былá на халадзёнку.* Марозаўка. *Халадзёнка ў бакý стаíць, у бáні.* Вялікі Азярэцк.

**ХАЛАДНЕ́Й** *прысл.* Больш халодна. *У яé хáці хъладнéй, як у хлéві! У такéй хáці жылá зімý.* Баравікі. *У кагó гарóды ніжэ́й, там хъладнéй, там ні так жукóў.* Нямойта.

**ХАЛАДНЕ́ЦЬ** *незак.* Станавіцца халаднейшым (пра надвор'е). *Ніхáй хъладнéіць, а тады зарэ́жу авéчку.* Неўгадава.

**ХАЛАМІ́ДЗІНА** *ж.* Старое адзенне, рэчы; рыззё. *Мáці пасцілкай ці якóй хъламідзінай накрыіць. Халамідзіну éту пад нагý кіну – мякчэ́й бýдзіць.* Запруддзе.

**ХАЛАСТЫ́, ХАЛО́СТЫ, ХАЛАСТЭ́Я** *прым.* 1. Халасты, нежанаты. *Стáршая дóчка ў мяне, адзін ён халастыі.* Леснікі. *Халастэ́я хлóпцы былí.* Фасаўшчына. *Мáлец халóсты быў, сідзéў і што высідзеў?* Запруддзе. *Халóсты быў пáніч Казімéр, прыслýгу дзяржáў замест жаны.* Нямойта. 2. Незамужні (пра жанчыну). *У мяне дъчкá халóстыя.* Рассвет.

**ХАЛАСЦЯ́К** *м.* Халасцяк. *Халасцяк быў у Стукáлава пáніч – Казімір Пашкéвіч.* Нямойта.

**ХАЛА́Т** *м.* 1. Халат. *Далі хълáт – пълá с палóй не схóдзюцца.* Леснікі. 2. Верхняя вопратка. *Сваé халáты* [плашчы] *пакідáлі.* Запруддзе.

**ХАЛЕ́РА, ХАЛЕ́РЫЯ** *ж.* 1. Вострая заразная кішэчная хвароба. *Вымерлі людзі – свірэ́пствавала халéрыя, ръскáзвълі.* Латыгаль. 2. *эмац.-ацэн.* Хвароба, напасць. *Халéра нéйкая мяне ссадзíла саўсім.* Нямойта. 3. Лаянкавае слова. *Халéра і жóнка. Нільзя дýжа хваліць: асóбяно* [асобна] *сабé варыла.* Дольдзева. *Мух, усякай халéры тут пóўна. Во халéра – бъдáіцца.* Запруддзе. *А халéра ягó далó! Плóха с сéрцъм.* Чуцькі. *Хай на іх халéра!* (праклён). Алексінічы. *Хай іх халéра: курáм купляй!* Багданава. *Кап напáла на цябé халéра! Кап цябé халéра схвацíла!*

(праклён). Вялікі Азярэцк. *Каб цябе́ хале́ра задавіла!* (праклён). Каралевічы. ◊ ХАЛЕ́РА ЯГО́ (ІХ) ЗНА́ІЦЬ (ВЕ́ДАІЦЬ). Невядома. *Кігікаўкі кру́цяцца, вот-вот на гълаву́ ся́дуць, а чаго́ яны́ таке́я – хале́ра іх зна́ець.* Ракаў Засценак. *А хале́ра яго́ ве́дъіць?!* Рассвет. ◊ ХАЛЕ́РА <ЯГО́> НЕ ХВАЦІ́ЛА. Абсалютна нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. *Не праклялі́ – хале́ра яго́ не хваці́ла.* Нямойта. ◊ НА ХАЛЕ́РУ. Навошта, для чаго. *На хале́ру вам сто́лькі гро́шай?* Запруддзе. ◊ ДА ХАЛЕ́РЫ. Вельмі многа. *Віраб'ёу да хале́ры ёсь.* Сукрэмна.

**ХАЛЕРАВА́ЦЬ** *незак.* Нерваваццa, злаваццa. *Халяру́іць – е́та хто псіху́іць.* Фасаўшчына. *Сын тро́ху патсмы́гіваіць* [піць спіртное], *а яна́* [нявестка] *тада́ злу́іць, халеру́іць.* Багданава.

**ХАЛЕ́РНАЯ** *ж.* Малярыя. *Каб у дзе́да была́ хале́рнъя.* Заазер'е.

**ХАЛЕ́РСТВА** *н. зб.* Пра нешта дрэннае. *І цяпе́ръка ўся́кае хале́рства вядзе́цца, а тады́ въйна́ была́.* Вялікі Азярэцк.

**ХАЛЁП** *выкл.* Хутка і нечакана праскакаць. *Як падму́рка не́ была, ляглá спаць. Халёп-халёп па грудзі лягу́шка.* Багданава.

**ХА́ЛІПА** *ж.* Надвор'е са снегам і дажджом; халепа, слата. *Ха́ліпа – дож і снег.* Багданава.

**ХАЛО́ДНА** *прысл.* Холадна. *Мне хало́дна нага́м было́.* Багданава. *Як на двар́э хало́дна!* Вялікі Азярэцк. *Калі нагу́ падымець ку́ра, то хало́дна бу́дзець* (прыкмета). Дольдзева. *Было́ і хало́дна і гало́дна.* Партызаны, Баравікі, Гарадзец, Гарадок, Міцюкова, Ульянавічы. ХАЛО́ДНЯНЬКА *памянш.-ласк. Хало́днянька ў ха́ці.* Алексінічы.

**ХАЛО́ДНАЕ** *н.* Халадзец, студзень (страва). *Хало́днае ва́руць, маслы́ аста́лісі – на́да събаку вы́кінуць.* Багданава. *Вары́лі ву́шы, но́гі, галаву́ – хало́днае зва́лі.* Партызаны.

**ХАЛО́ДНЫ, ХАЛО́ННЫ** *прым.* 1. Халодны, студзёны. *Прамы́ла хало́днай вадо́й, атвары́ла, пажа́рыла і пае́лі* [грыбы]. Гарадок. *У во́зіры Саро́ въда́ хало́днъя.* Пожанькі. *Хало́ннага баяліся ду́жа.* Закур'е. 2. Неацяпляльны, які не абаграваецца. *Там па́стро́йкі стъялі хало́дныя. Там і кле́ці стая́лі, і гумно́, я по́мню.* Баравікі.

**ХАЛУДНАВА́ТЫ** *прым.* Халаднаваты. *Тры дні не́як халуднава́тая паго́да была́.* Нямойта.

**ХАЛУ́ПА** *ж.* Невялікая, непаглядная хата. *Халу́па, халу́пка – ма́ленькая ха́та, ма́ленькая ха́тка называ́лі.* Гарадзец. *Ма́ма халу́пу небальшэ́нечкую купі́ла.* Партызаны. *Пастро́ілі халу́пу пъсля вайны́ ды жывём.* Ракаў Засценак. *За сваю́ халу́пу васімсо́т заплаці́ла.* Неўгадава.

**ХАЛУ́ПКА** *ж.* Невялікая непаглядная хатка; хаціна. *Іка́я там ха́та – халу́па. Здзе́лъў ма́ленькъю халу́пку.* Гарадзец. ХУЛУПЁНКА *памянш. Хулупёнку пръда́лі і пае́хълі к сына́м.* Галашчакіна.

**ХАЛШЧАВЫ́** *прым.* Палатняны, кужэльны. *Руба́шку длінную халшчаву́ю надзе́ніць.* Каралі.

**ХАЛШЧАНЫ́** *прым.* Тое ж. *Я насі́ла халшчано́е усё.* Каралі.

**ХАЛЬВА́РНІК** *м.* Фальварак. *Паны́ былі́, там хальва́рнік быў.* Серкуці.

**ХА́МСТВА** *н.* Грубасць, бесцырымоннасць, нахабства. *Тут ха́мства мно́га.* Партызаны.

**ХАМУ́Т** *м.* Хамут. *Хаму́т нъдзяюць на кънá. Хаму́т такі прадуўгувáты, на вълá.* Гарадзец. *Нáда хаму́т, нáда плуг, нáда усё.* Рэчкі. ХАМУ́ЦІК *памянш.-ласк. Дайце хаму́цік.* Алексінічы.

□ *Абы шыя – хаму́т нóйдзецца.* Дольдзева. □ *Хаму́т лацвéй найці, а шыю не.* Дольдзева.

**ХАМУЦІ́НА, ХУМУЦІ́НА** *ж.* Мяккі валік (яго рабілі з рознага матэрыялу – рагозу, саломы або лямцу), які прымацоўваецца пад клешчы хамута, каб яны не націралі шыю каню; хамуціна. *Хамуціна кóжънъя, рáньшы з мячэ́ўніку плялі: такі расцéць вісóкі ў балóці, як аір. Нарвáць ягó, ён завя́ніць, і сплéсці ягó ў тры рэ́дзі. Хамуціну плялі з мычавіны ў чатыры ствóлкі ў аралёвы хаму́т. У вызавэ́й хаму́т апшывáлі салóму ў хумуціну.* Гарадзец. *Хамуціна на каня́.* Міцюкова. *É́та хамуціна плéціная, сплéніца.* Фасаўшчына.

**ХАНДРЫ́ЦЬ** *незак. перан.* Дрэнна працаваць. *Рэ́дка калі цілівізер хандры́ць стáнець. Па пéрвай прагрáме як пакáзваець, хандры́ць.* Нямойта.

**ХАП, ХОП** *выкл.* 1. Хапнуць, хапануць. *Хап за жалéзіну.* Каралевічы. *Янá падышлá і хап за прóстань.* Вялікі Азярэцк. 2. Рэзка ўскокнуць, нечакана з'явіцца. *Янá – хоп і ў хáту ўскóчыла* [пра мыш]. Багданава. 3. Ускінуць, пакласці. *Нóгі хап на лáўку: я ду́мала, што гэ́та вужáка, а гéта рэ́мень скруціўся.* Багданава.

**ХАПА́ЦЬ** *незак.* 1. Красці, зносіць. *Сарóка хъпáіць піскля́таў.* Чуцькі. 2. *перан.* Ірвацца, старацца. *Памнéш, вы́б'еш, хъпáеш прадзéш.* Багданава.

**ХАПІ́ЦЬ** *зак.* Схапіць. *Хапíла ту́ю бумáжку і гъвару́: парву́!* Заазер'е. ХАПЫ́ЛЬ. Імгненна, хутка ўхапіць, хапнуць. *А воўк дзéўчыню – хапы́ль і панёс ў лес.* Партызаны.

**ХАПУ́Н** *м.* Хапуга. *Гэ́тыя хапуны́ ужэ́ събрáліся.* Савінічы.

**ХАПУ́Н** *м.* 1. Хапанне, набыванне з-за ажыятажу. *Як прывязу́ць – хапу́н, ні даб'éсся.* Запруддзе. *І то хапу́н быў: хáпаюць усé!* Нямойта. 2. Перыяд масавых арыштаў. *Тады́ хапу́н быў, і бáцьку майгó ўхапілі.* Партызаны, Багданава, Канева.

**ХАРА́КЦЕР, ХАРА́КЦІР** *м.* Характар, манера сябе паводзіць. *Харóшы харáкцір, уважы́цельны.* Вялікі Азярэцк. *Харáкцер – кап ягó ў бéлым свéці!* Івоні.

**ХАРАНІ́ЦЦА** *незак.* Хавацца (пра нябожчыка). *Там яўрэ́і харанілісі.* Баравікі.

**ХАРАНІ́ЦЬ** *незак.* 1. Хаваць (пра нябожчыка). *У мъскалéй харóнюць дъ абéда.* Карпавічы. *Ранéй дзе хто пагíп, тады́ у я́мку харанілі.* Самсоны. 2. Трымаць у бяспечным месцы. *Там і бу́льбу харанілі.* Баравікі. 3. Закопваць. *Цыплёнка вóзьмуць, харóнюць.* Міцюкова.

**ХАРАШБА́** *ж. іран.* Хораша, добра. *Якáя табé харашбá! Ні так скáжаш – заб'ю́ць.* Запруддзе.

**ХАРАШО́** *прысл.* Добра. *Как ты хърашó ўсё здзéлъла.* Каралевічы, Запруддзе. ХАРАШЭ́НЬКА *ласк. З дзéцьмі так хърашэ́нька!* Нямойта.

**ХАРО́ШЫ** *прым.* 1. Прыгожы, дагледжаны. *Харóшы дом.* Гарадзец. 2. Ядраны, буйны. *Сáма харóшаё зярнó адлітáіць дáлій.* Дольдзева. 3. Урадлівы. *É́слі васількі ў жыці – знáчыць жы́та харóшае* (прыкмета). Партызаны. 4. Роўны, высокі. *Нъ харóшых пóжніх слáлі лён.* Каралі. 5. З добрым звонам. *Катóры звініць гаршóк, той харóшый.* Багданава. ХАРАШЭ́НЬКА *ласк.* Прыветны, ласкавы. *Ты павінна быць харашэ́нька з людзьмí.* Запруддзе.

**ХАРЧ** *м.* Харч, ежа. *Пра харч нáда ду́маць.* Нямойта.

**ХАРЧАВІ́К** *м.* Прагавіты на яду. *Не такí харчавíк, як трэ́ба, усё выду́мліваe.* Закур'е.

**ХАРЧАВІТЫ** *прым.* Тое ж. *Сільна хърчавітыя кýры.* Закур'е.

**ХАРЧÓЎКА** *ж.* Ежа. *Мне до éтай харчóўкі. Аткýль бýдзіць павышаная харчóўка?* Серкуці.

**ХАРЧЫЦЦА** *незак.* Харчавацца. *Я хáты ні жалéю, алé вы сáмі харчыцеся.* Запруддзе.

**ХÁТА** *ж.* 1. Дом, жыллё. *Ня пі, ня еш, з хáты ня лезь, як мяцéліца.* Вялікі Азярэцк. *Укінула кýрыцу ў хáту, каб вялóся ўсё.* Запруддзе. *Ідзіце ў сваю хáту, сядзіце ў сваёй хáці.* Леснікова. *У бацькóў былá дрэнная хáта.* Неўгадава, Каралевічы. 2. Частка хаты. *Аднá хáта дзяцём, а другáя – стóпка.* Партызаны. *Рáньшы сéні і хáта: пéрвая хáта, другáя хáта, сéні.* Гарадзец. 3. Сядзіба, гаспадарка. *Тхор чатыры хáты абчысціў ад курэй.* Партызаны. ◊ НА ХÁЦЕ. На гарышчы. *Яшчэ адзін на хáці ё.* Партызаны. *Нъ хáці прáлка ляжыць.* Неўгадава. ◊ НА ХÁТУ. На гарышча. *Палéс нъ хáту.* Савінічы.

□ *Не усігдá хáта крáсіць вуглáмі, а пірагáмі.* Каралевічы.

**ХÁТКА** *ж.* Невялікі, непрыглядны дамок; хаціна. *Купілі стáранькую хáтку, як пажанілісі.* Вялікі Азярэцк. *Здзéлаў хáтку і жылí.* Гарадзец. *Калхóз накрыў хáтку, і стáла бáба жыць.* Запруддзе, Партызаны. ХÁТАЧКА *памянш. У тэй хáтъццы жылá, а даглядáць німá камý – аднá ў хáтаццы ляжыць.* Нямойта.

□ *Свая хáтка, як рóдна мáтка.* Партызаны, Багданава. □ *Павéтка ні хáтка, свякрóўка ні мáтка.* Партызаны, Каралевічы.

**ХÁТНІ** *прым.* Які адносіцца да хаты. *Хáтняя мыш сівая.* Багданава.

**ХАТÓМКА** *ж.* Клунак, ношка. *Хатóмку на рýкі і пъшлá. Хлéба там, сухарóў якіх – пъшлá.* Фасаўшчына.

**ХАТÝЛЬ, ХАЎТÝЛЬ** *м.* Тое ж. *Во чагó навяжуць якóга клóчча – во й хатýль.* Багданава. *Нясý хатýль, а на зямлянцы нéмцы.* Баравікі. *Нясéць які-нéбудзь хатýль на спінé.* Жохава. *У нас бальшынствó хатýль дзяцёнку нóсяць. Я свой хатýль набрáла хлéба. Во пад пáху хатýль прэць.* Міцюкова. *Хаўтýль звізáла: ці сын бýдзіць мянé давадзіць?* Леснікова. ХУТУЛЁК *памянш. Кажу: там і там у хутулькý жугýшка. Яé мнóга нъсушý – бярыця.* Чуцькі. *У мянé быў хутулёк, дýмаю, калí мóжа пападýся, дык вазьмý хоць трóшку сухарóў, насíла.* Леснікова.

**ХАЎТÝРЫ, ХАЛТÝРЫ** *толькі мн.* 1. Пахаванне. *Пóйдзем на хаўтýры: сяннí ягó харанíць бýду.* Чуцькі. *Дзе якія халтýры, там стаяць пратэсы, як флáгі.* Вялікі Азярэцк, Баравікі. 2. Памінкі, жалобны стол, абед па нябожчыку. *Двóе хаўтýр спрáвілі.* Партызаны. *У Міхнаве былá на хаўтýрах.* Міцюкова.

**ХАХАТÁЦЬ** *незак.* Рагатаць. *А мы з éстай хахóчым, мром сó смéху.* Запруддзе.

**ХАХЛÁТКА** *ж.* Дзяруга, посцілка. *А рáньшы эта ткáлі хъхлáткі такія, пасцілкі с трáпак. Ну іх называлі хъхлáткі.* Івоні. *Ткáлі хъхлáткі такéя с трáпак, дзярýгі трáпъшныя. Гэту хахлáтку пашыіць, і ў пакóт, хъхлáткамі пънакрывáімсі і сьпім.* Багданава.

**ХАХÓЛ** *м.* Украінец. *І хахлы, і стъравéры, і латышы ў нас тут былí.* Івоні.

**ХАХÓЛ** *м.* Віхор (пра валасы). *Свой хахóл прыглáдзь.* Міцюкова.

**ХАЦÉННЕ** *н.* Хаценне. □ *На хацéнне ёсць цярпéнне.* Ульянавічы.

**ХАЦÉЦЦА** *незак.* Хацецца, вельмі жадаць. *Бярóзавік такі ўкýсный, што п'еш і хóчацца.* Багданава. *Пасварыся ты ямý, скóлькі хóчъцца, хай па дзéвъчкъх ні валóчыцца.* Сянно.

**ХАЦÉЦЬ** *незак.* 1. Мець жаданне, ахвоту. *Сам еў, што хацéў, піў, што хацéў.* Багданава. *А цяпéр ня хóчуць дзéлаць, трýдна.* Заазер'е. *Як хто хóчыць, так і рóбіць.*

Цясішча, Запруддзе. 2. Мець патрэбу ў кім-н. *Хто бярэць* [замуж], *зъ таго ні хачу, а зъ каго хачу, то ні бярэць.* Каменшчына. ◊ КНУРОЎ ХАЦЕЦЬ. Знаходзіцца ў стане палавой актыўнасці. *Кнуроў хочыць свіння, рохаіць, ня есь.* Станюкі. ◊ ЯК НІ ХАЦІ. Нягледзячы ні на што, пры любых абставінах. *Вучаная, як ні хаці, старшая над гэтым светам.* Запруддзе.

**ХАЦЁНА** *ж.* Невялікая, несамавітая хата. *Во мая хацёна.* Партызаны. *А тады ўжо хацёну зляпілі.* Дуброўкі.

**ХАЦЁНКА** *м.* Тое ж. *Хацёнку купілі нібальшэю.* Розмыслава. *Хацёнку дзелалі, бутачкі такіе.* Рэчкі. *Самая первая хацёнка яго была.* Ульянавічы. *Усадзьбу даў калхоз, і хацёнку пастроілі.* Цясішча. ХАЦЁНАЧКА *памянш. Тут хацёначка была немудраная.* Савінічы.

**ХАЦЁНЫШ** *м.* Тое ж. *Хацёныш аставіла і сюды да дачкі прыехала.* Баравікі.

**ХАЦІШЧА** *ж.* Месца, дзе стаяла хата. *Усё стъяла лета на хацішчы.* Партызаны. *Нъ хацішчы бяроска ръсла.* Закур'е.

**ХАЦЯ** *часц.* Хаця, хоць. *Пайду хаця адзёжу вазьму дзіцям.* Дольдзева.

**ХВАЛІЦЦА** *незак.* 1. Расхвальвацца. *Бабы хвалюцца на полі, што хлеб удаўся.* Запруддзе. 2. Расказваць. *Прыходзяць яны з канторы, кажу: «Хваліціся, што там».* Гарадок.

**ХВАЛІЦЬ** *незак.* Хваліць, нахвальваць. *І хваляць: «Во укусная, во укусная!»* Багданава. *Ён як конь рабочы, яго ў дзярэўні усе хвалюць.* Дольдзева. *Дык ён як прыйдзіць с ахоты, есь і хваліць* [суп]. Заазер'е.

□ *Ні нада хваліць, як што баліць.* Нямойта.

**ХВАЛЬБОНКА, ХВЯЛЬБОНКА** *ж.* Палоска матэрыялу, прышытая зборкамі да спадніцы, фартуха і пад.; фальбона. *Ета хвальбонка, юпка с хвальбонкай.* Нямойта. *Ета хвяльбонка, ета аборкі, хто прышываў наверх.* Алексінічы.

**ХВАРАВІТЫ** *прым.* Хваравіты, слабы. *Балела ўсё. Іна хваравітая была, дык я ездзіла яе зіму глядзець.* Багданава.

**ХВАРАСЦІНА** *ж.* Дубец. *Ёй нада хварасціна ля задніцы.* Савінічы.

**ХВАРОБА** *ж.* Захворванне, хвароба. *Хвароба мяне сушыць.* Апечкі. *Хай твая хвароба пойдзіць на сухій лес* (з замовы). Багданава. *Ну й агледзілі й нашлі хваробу на глазах.* Заазер'е. *У мяне дзівяноста дзевіць хвароб. На мне усе хваробы былі.* Неўгадава, Каралевічы, Нямойта. ◊ ХВАРОБА ЯГО (ЯЕ, ІХ) ЗНАІЦЬ. Невядома. *Чуў вулуі* [грыб *валуй*], *якея яны – хвароба іх знаіць.* Алексінічы. ◊ НІ ХВАРОБЫ. Зусім нічога (не будзе). *Калі дзярэўні ні будзіць ні хваробы – і гораду як быць?* Самсоны.

**ХВАРОСЦЕ, ХВАРАСЦЁ** *н. зб.* 1. Галлё, вецце. *С хваросця бярозъвага венік. Хварасця націгаў.* Гарадзец. *Набіваюць такія кольшкі у зёмлю, а патом абычным хваросцем заплітаюць кольшкі. Ну эта пляцень.* Нямойта. *Нанасілі буцяны хваросце.* Партызаны. *Хваросця дробныя, а сук тоўсты. Нъ палку дроў пайдзёць.* Сянно. *Захлудзілі хвърасьцём.* Савінічы. 2. Галіны. *Куды болі хваросця* [на дрэве], *там усход, а куды мені – захът* (з назіранняў). Багданава. 3. Зараснік. *У хваросця улезіць, вытъчыць нару і вывідзіць.* Каралевічы. 4. Адсечаныя галінкі дзеркача. *Галень гэты нада на тры часці рассеч і хваросця спаліць.* Партызаны.

**ХВАРСІЦЬ** *незак.* Хваліцца, задавацца чым-н. *Хварсіць, задаецца хварсун, нос задраў.* Вялікі Азярэцк. *Хварсіла іна дужа.* Галашчакіна. *Я дажа хварсіла: о, я белы хлеп ем. А січас хлеп белы са стала ня сходзіць.* Марозаўка.

**ХВАРСО́ВЫ** *прым.* Фарсісты, ганарысты. *Яé мáліц хварсóвы!* Гарадок.

**ХВАРСУ́Н** *м.* Хвалько, выхваляка. *Хварсіць, задаéцца, хварсýн, нос задрáў.* Вялікі Азярэцк.

**ХВАРТУНА́Т** *м.* Прысвятак у народна-царкоўным календары. *А Хвартунáт – на дзвінáццатай нядзéлі, пъ нядзéлях бувáіць.* Багданава.

**ХВАРЭ́ЦЬ** *незак.* Хварэць. *Ну, бувáла, хварэ́лі біз дахтарóў, сáмі сабóй.* Багданава.

**ХВАСЛІ́ВЫ** *прым.* Хвалько, выхваляка. *Хваслівы, хвáстаіць мнóга. Ці багáты, ці хваслівы, дык ні разбярэ́ш.* Багданава.

**ХВА́СТАВАЦЬ** *незак.* Хваліцца, выхваляцца. *Ня бýду хвáстьвъць, маé дзéці харóшыя.* Запруддзе.

**ХВАСТА́ЦЦА** *незак.* Хвастаць сябе (венікам у лазні). *Вéнікам хвастáліся. Як пахвóшчысся, лёхка былó. Бíся-бíся вéнікам, хвашчы́ся.* Багданава. *Вéнікам хвóшчуцца ў бáні, пáруцца. На печ вады́ як лінýць, як стáніць пáра! Вéнік клáлі на печ і хвастáліся.* Вялікі Азярэцк. *Хвастáліся вéнікам у бáні, харашó.* Дольдзева. *Вы́тапіла шчыт* [грубка, невялікая печка для атаплення], *хоць хвашчы́сь – цёпленька!* Запруддзе. *Я пражылá і ні рáзу ні хвашчýся: гълавá баліць.* Марозаўка.

**ХВА́СТАЦЬ** *незак.* Хваліцца, выхваляцца. *Хваслівы ён, хвáстаіць мнóга.* Багданава.

**ХВАСТА́ЦЬ** *незак.* 1. Біць, лупцаваць. *Кап бізунóм хвъстáў іх.* Гарадзец. *Ты ягó мáла хвóшчыш* [пра ката]. Леснікі. 2. Сцёбаць сябе (венікам у лазні). *З бярэ́знікі вéнікі, хвастáліся у бáні íмі.* Міцюкова.

**ХВАСЦЬ** *ж.* Пахвальба. *З тáнцаў не выхадзіла без хвáсці, на тáнцах не тамілася.* Цясішча.

**ХВАТАГРА́ХЧЫК** *м.* Фатограф. *Знімáў хвътъгрáхчык нас нъ пáміць.* Закур’е.

**ХВАТА́ЦЦА** *незак.* Біцца, стукаць запаволена (пра сэрца). *Сэ́рца не так, каб янó дýжа хватáлася. Б’éцца, як авéччы хвóсцік.* Нямойта.

**ХВАТА́ЦЬ** *незак.* Досыць, дастаткова, ставаць. *Ды гэ́тага хватáіць: късмарóў, мух.* Заазер’е. *Усю́дых хватáіць усíм.* Фасаўшчына.

**ХВАТА́ЦЬ** *незак.* 1. Хапаць. *Каршýн хватáіць курэ́й.* Міцюкова. 2. Цягнуць. *А янá ягó к сáбе, хватáць ягó к сабé.* Леснікова. 3. Арыштоўваць. *Стрáшна ръскъзáць, як брáлі людзéй, хвътáлі.* Міцюкова. 4. Раскупліваць. *У пяць пар хватáлі бяллё – усё парасхватáлі.* Апечкі.

**ХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* Хапіць, быць у дастатковай колькасці. *Хвацíла гóра, пакýль вы́гудувала.* Вялікі Азярэцк, Неўгадава.

**ХВАЦІ́ЦЬ** *зак.* 1. Схапіць. *Калí хвóціць поп за вýха, ці за валасы́, агнём разгары́цца усё.* Ульянавічы. 2. Сарваць, адарваць. *У Грычня́* [прозвішча] *хвацíла кры́шу і атняслó мéтруў нъ пітнáццъць. Éта віхóр.* Запруддзе. 3. Раптоўна і моцна адчуць боль. *А тады́ жывóт мой як хвацíў – нéшта балíць.* Заазер’е. *Хвацíла сэ́рца – ні с мéста.* Дуброўкі. ХВАЦЬ. 1. Хутка схапіць. *Я хваць, а галавá ягó боўць.* Партызаны. *А адзíн мушчы́на вы́шаў і хваць мяне за рукý і кáжыць: «Ай, мякенькая рýчка!» А íнá мне засьвярбéла-засьвярбéла* [пра тое, як чалавек можа сурочыць другога чалавека]. Самсоны. 2. Пачаць імгненна рабіць. *Узяў запрóх рысакá. Хвацьъ кътáцца. А ён вянкóм гълавý на клéшчы пълажы́ў і панёс! Як чорт мáтку ў пéкла – с такóй скóръсцю. І мы ягó ўспéрлі нъ згарóду.* Сянно.

**ХВАЦЯНУ́ЦЬ** *зак.* Схапіць, рвануць. *Бабёр як хвацянýў събáку!* Нямойта. *Бобр парэ́зал кнут, хвацянýл, събáка, зубáмі.* Вялікі Азярэцк.

**ХВАШЧЭ́Ц** *м.* Хвошч (расліна). *Хвашчэ́ц мо́жна рваць і вясно́й і піць ба́бъм.* Сянно.

**ХВІЦЬ** *выкл.* Рэзка павярнуцца, крутануцца. *Хвіць – і павірачо́к мой хло́пнуў і атляцё́ў. Ўсё бало́тца вы́таптала, іска́ла.* Нямойта.

**ХВО́РЫ** *прым.* Хворы, нездаровы. *Ён ніякі, хво́ры.* Запруддзе.

**ХВОСТ** *м.* Хвост. *Сілязе́нь, у яго́ хвост сіні.* Запруддзе. ХВО́СЦІК *памянш.* Гарадзец. ◊ У ХВОСТ хадзіць. Ззаду ўсіх. *Што ты ў хвост хо́дзіш?* Савінічы. ◊ ЯК ХВОСТ ПРЫВЯ́ЗАНЫ. Пра залежнасць ад каго-н., немагчымасць самастойных учынкаў. *Як хвост прывя́зъны – тру́дна ўжо мне е́хъць куды́.* Запруддзе.

**ХВОШЧ** *м.* Хвошч (расліна). *Ёсь хвошч гаро́дны, хвошч бало́тны, хвошч лясны́.* Закур'е. *Лячэ́бны хвошч расце́ць пъ бъра́х, а бало́тны – у бало́ці.* Кішуроўшчына. *Хвошч пъляві́ ат по́чак.* Чуцькі. *Хвошч лясны́ бе́рым, штоб гаршкі мыць.* Закур'е. *Хвошч у бару́ расце́ць. Як палы́ мы́юць, шару́юць* [ім]. *Хво́шчам ку́бары шару́юць, ла́ўкі мы́юць.* Запруддзе. *Па лясу́, дзе ніскія мяста́, длінны шурпа́ты хвошч.* Каралі.

**ХВО́ШЧЫК** *м.* Лясны хвошч (расліна). *Хво́шчык е, на паго́рках рос, падло́гі шурува́лі; такі шо́рсценькі. Хво́шчык шо́рсткі на Ліпаві́не.* Багданава.

**ХІ́БА** *часц.* Хіба. *Тут мо́жа хіба Ле́кса зваць зна́іць?* Забор'е.

**ХІ́ЛЫ** *прым.* Хілы, хваравіты. *Насто́лькі хілые лю́дзі, а раўня́юцца з мълады́мі. Маладыя, а насто́лькі хілыя, раўня́юцца на стары́х.* Нямойта. ХІ́ЛЕНЬКІ *ласк.* *Сла́бы ён, хіленькі.* Багданава.

**ХІМ** *м.* Істота, якая мае хіб (?). *Агляну́ўся – хім ідзе́ць. Такéй мале́нькі, і гълаву́ уве́рх дзяржы́ць і чы-чы-чы* [шыпіць]. Алексінічы.

**ХІ́МІЯ** *ж. зб.* Хімічныя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы. *Гэ́та хімія ўсё. Кнігавак, буцяно́ў ма́ла ста́ла.* Закур'е. *Сёліта было́ ма́ла брусні́кі. Як пат гот. Хімія ўсё патравіла.* Міцюкова.

**ХІ́НІЧ** *м. эмац.-ацэн.* Пра тоўстага чалавека. *Хініч ты пуза́ты!* Запруддзе.

**ХІ́РА, АХІ́РА** *ж.* Немач, хвароба (ужываецца толькі ў выслоўях, калі сцябаюць асвечанай вярбой). *Хіра ў лес, здаро́ўе ў ко́сці. Ні я б'ю, ве́рба б'е́ць* (прыгавор). Каралевічы, Запруддзе, Партызаны. *Ахіра ў по́ля, ахіра ў лес! – і сціба́лі чълове́ка, каб здаро́вы быў.* Савічы.

**ХІРЭ́Й** *м.* Архірэй, епіскап. *За мной наблюда́лі, як за хірэ́ем.* Нямойта.

**ХІСТА́ЦЦА** *незак.* Ісці хістаючыся. *Яны́ ссуць* [смяюцца], *я хаджу́ аш хіста́юся.* Манголія.

**ХІСТА́ЦЬ** *незак.* Кідаць з боку ў бок. *У бакі хіста́іць.* Багданава.

**ХІ́ТРАСЦЬ** *ж.* Хітрасць. *Я не́ік біс хітръсьці жыву́.* Савінічы.

**ХІТРУВА́ЦЬ** *незак.* Умудрацца. *Лю́дзі хітрува́лі, выпісваліся с калхо́за.* Чуцькі.

**ХІ́ТРЫ** *прым.* Хітры. *На́тта хітры. Пра́ма ў яго́ ўсё маме́нтам стро́іцца.* Вялікі Азярэцк. *Хітры э́ты чълаве́к, ён мо́жа абману́ць людзе́й.* Запруддзе.

**ХЛАК** *м.* Флаг, сцяг. *Сістра́ была́ мълъда́я, а не́мцы шлі. Яна́ ў вакно́ бух – і сядзіць у ле́сі. А мы хлак вы́весілі. Тады́ на бярэ́зіну уле́зіць хто, відзіць: хлак вісіць, і іду́ць у двор.* Заазер'е.

**ХЛАМ** *м.* Хлам, смецце. *Дзе хла́му німа́, там і тръва́ расце́ць.* Галашчакіна.

**ХЛАПЕ́НІЦЦА** *незак.* Кудлаціцца. *Як не даб'еш* [у кроснах], *то ніткі ірву́цца і хлапя́няцца.* Вялікі Азярэцк.

**ХЛАПУ́ШКА, ХЛО́ПУШКА** *ж.* Хлапушка біць мух. *Хлапу́шку бяры́ і мух бі.* Цясішча, Нямойта. *Вазьмі хло́пушку і мух пабі.* Нямойта.

**ХЛАРАКО́СТ** *м.* Хларафос. *Хлъракóст у піва ўліў.* Закур'е.

**ХЛЕБ**, **ХЛЕП** *м.* 1. Хлеб. *Хлеп агіркóм* [аерам] *пáхнець.* Серкуці. *Хлéба, сóлі, вадзíчкі нъ рушнічóк пыстáўця* [перш чым перасяляцца ў новую хату]. Запруддзе. *А тады́ вар стаіць, кіпятóк на загнéці, крýшку бярэ́ш, на лапáту гэ́ту крýшку вады́ на бýлку вы́ллеш і ў печ – ён тады́ блісцяшчы такí, красíвы хлеп ужó.* Серкуці. ХЛЕ́БЕЦ, ХЛЕ́БІЦ *ласк. Хлéбец у парáдку.* Баравікі. *Хлéбіц ядзíм, як сóнца.* Леснікова. *Для тагó, каб папрáвіць дзéла, у пéрвую óчырыдзь нáда хлéбіц, а патóм – лю́цццы.* Парэчча. *Пражы́ў, а такóга хлéбца ня відзіў* [сказаў дзед]. Пожанькі. 2. Збожжа. *У ёўні сýшыцца хлеп* [снапы жыта і інш.]. Рэчкі. *Калí ў Къляды зімля глядзíць на нéба, ня жджі хлéба* (прыкмета). Сянно. *Мнóга снéгу – мнóга хлéбу* (прыкмета). Гарадзец. 3. Сродкі для існавання. *На хлеп дык до* [хапае] *пéнсіі.* Ульянавічы, Марозаўка, Партызаны, Цясішча, Неўгадава. ◊ ХЛЕБ-СОЛЬ. Пажаданне таму, хто есць. Міцюкова.

□ *Хто хлеп с сабóй нóсіць, той éсці ня прóсіць.* Багданава. □ *Хлеб – ня жóнка: ня ўдáўся – другí спякýць.* Міцюкова. □ *Прымáцкі – хлеб сабáцкі.* Вялікі Азярэцк, Запруддзе, Ракаў Засценак. □ *Жывí і хлеп жвí.* Багданава. □ *Пражылí палякі – ні хлéба, ні табáкі.* Вялікі Азярэцк. □ *Хлеб мякчэ́й – зубáм ляхчэ́й.* Каралевічы.

**ХЛЕ́БЕЦ** *м.* 1. Ураджай, хлеб. *Пражы́ў, а такóга хлéбца ня відзіў.* Пожанькі. 2. *ласк.* Бохан хлеба. *Хлéбец як сóнца.* Леснікова, Парэчча.

**ХЛЕ́БНІЦА** *ж.* Дзяжа, у якой рашчыняюць хлеб. *Былí такія дзéшкі абыкнавéнныя, хлéбніца звáлася. Крýглая, вядры́ на двá.* Серкуці, Манголія, Нямойта, Дуброўкі. *Хлéбніца – такáя здзéланъя з дзéрыва, кры́шка былá дзірвя́ннъя. Хлéбніца – што хлеп учыняюць, стáвюць на лáўку, калí чэ́сная, то садзіся на хлéбніцы* (звычай). Вялікі Азярэцк. *Хлéбніца для хлéба. Дно выразáецца, затóр і рэзь выразáецца.* Жохава, Гарадзец. ХЛЕ́БНІЧКА *памянш.-ласк. Ну, саладýха, як рáньшы хлеп пяклí. У хлéбніцу звáрыш яé, тады́ янá ў хлéбніцы пастаіць дзень. Тады́ ў дзéжачку, у хлéбнічку – і íнá* [саладуха] *кíсніць.* Багданава.

**ХЛЕ́БНЫ** *прым.* 1. Аржаны, жытні. *Хлéбную мукý сыпуў на ўчы́нку* [каб замясіць, учыніць цеста]. Неўгадава. 2. Прызначаны для хлеба, яго прыгатавання. *Хлéбная дзéжка для хлéба.* Чуцькі. *Хлéбная скры́ня бъльшáя.* Партызаны.

**ХЛЕБЯСТА́ЦЦА** *незак.* 1. Пялёскацца, клекатаць, булькаць. *Хлябéшчыцца ў къня ў сярэ́дзіні сілязéнь.* Нямойта. 2. *экспр.* Працаваць. *Век свой у г... хлебяшчы́ся.* Дольдзева.

**ХЛЕЎ** *м.* Хлеў. *Лáскі вядýцца па хлявáх. Хлявы́ стрóілі с алéшніку.* Багданава, Баравікі. *Вóкны былí нібальшэ́нькія ў хлéве.* Міцюкова. *Хлéва ж ні былó, хлеў здзéлала.* Рэчкі, Гарадзец, Каралі, Неўгадава. ХЛЯВО́К, ХЛЯВО́НАЧАК, ХЛЯВЁНАЧАК, ХЛЕ́ЎЧЫК, ХЛЯЎЧУ́К, ХЛЯЁНАК *памянш.-ласк. Хлявóк быў для курэ́й, цёплінькі, ў хáту ні брáлі.* Каралевічы. *Хай яны́ там у хляўкý стъяць. Нáда хлявóк дзéлаць.* Міцюкова. *Стáла напы́твацца, напытáла хлявóначак. Які ў іх хлявёначак?* Савінічы. *Хлéўчык няшчы́тны.* Ульянавічы. *У хляўчукý гной быў.* Баравікі. *Сын накры́ў хляёнак.* Фасаўшчына.

**ХЛЁП** *выкл.* Плюхнуцца, шлёпнуцца. *Кýрачка хлёп – і сядзíць, не баіцца.* Багданава. *Янá хлёп – і сéла ў кары́та з вадóй.* Нямойта.

**ХЛЁСТ** *м.* Задзіра, задавака. *Хлёст – не абы́-які.* Жохава.

**ХЛЁСТКІ** *прым.* Вёрткі, жвавы, энергічны. *Я былá бáба хлёсткая.* Дольдзева. *Мушчы́на хлёсткі за кол!* Пожанькі.

**ХЛІБАНУ́ЦЬ** *зак.* Сербануць, хлёбнуць. *Тры разы́ хлібанéш – рас укýсіш.* Савінічы.

**ХЛІБА́ЦЬ** *незак.* Сёрбаць, хлябтаць. *Е́дък хліба́іш ва́раныя грыбы́.* Багданава.

**ХЛОП** *м.* Самыя нізкагатунковыя вычаскі з валакна. *Пасьле́днія – хлоп.* Дольдзева.

**ХЛО́ПАЎКА, ХЛО́ПУЎКА** *ж.* Хлапушка біць мух. *Хло́пъўка – паб'еш мух і німа́.* Багданава. *Хло́пуўка – е́та мух біць.* Нямойта.

**ХЛО́ПАЎКА** *ж.* Няроўнасць на касе ад няўмелага кляпання. *Наго́нюць хло́павак на касе́ не́йкіх, а не́катары навядзе́ць касу́ харашо́. Хто ня ўме́іць кляпа́ць, наго́ніць хло́павак.* Ракаў Засценак.

**ХЛО́ПІЦ** *м.* Юнак, нежанаты мужчына. *Хло́піц іці па́рынь, ніжана́ты када́.* Леснікі. *Хло́піц прышо́ў з а́рміі.* Багданава. *Хло́пцы, пае́шце.* Кляпчэва.

**ХЛО́ПНУЦЬ** *зак.* Хлопнуць, ляснуць. *Кап мушчы́на хло́пнуў пу́гай, каро́вы бъяліся п.* Баравікі.

**ХЛО́ПЧЫК** *м.* Падлетак, юнак. *Сілна харо́шы хло́пчык: ко́ліць дро́вы, ня ку́рыць.* Закур'е.

**ХЛУД** *м.* Смецце; дробны хворост, вецце, галіны. *Пънадзе́лалі хлу́ду ў лясу́. Хлу́ду нъ дзіля́нцы – чорт ні пръпаўзе́ць.* Серкуці.

**ХЛУ́ДЗІЦЬ** *незак.* Біць, лупцаваць. *Як пачану́ вас хлу́дзіць і адну́, і другу́ю.* Нямойта.

**ХЛУ́ПНУЦЬ** *зак.* Плюхнуць. *Як хлу́пнула! Ме́лач была́ ў кашальку́ – пайшо́ў къшалёк на дно.* Нямойта.

**ХЛУСНЯ́** *ж.* Хлусня. *Хлусня́, што па чэ́рыпу даў і забі́ў вуўка́.* Пожанькі.

**ХЛЫ́НУЦЬ, ХЛЫНУ́ЦЬ** *зак.* Хлынуць, паліцца. *Не́шта атарва́лася, кроў хлы́нула ў сэ́рца.* Багданава. *Як хлыну́ла кроў з яго́! Сілязёнка была́ ўся пацёрта.* Запруддзе.

**ХЛЫСТ** *м.* Ствол спіленага дрэва з неадсечанай верхавінай. *Бяро́завых хлысто́ў хто наво́зіць.* Леснікова.

**ХЛЫСЬ-ХЛЫСЬ** *выкл.* Перадача гукаў лопання, трэскання абалонкі. *Ло́паюцца като́вы я́йцы* [расліна раллявая канюшына] *– хлысь-хлысь.* Каралевічы.

**ХЛЯБНУ́ЦЬ** *зак.* Зрабіць глыток, трохі адпіць. *На, хлябні́ німно́шка.* Жохава.

**ХЛЯВІ́ШЧА** *н.* Месца, дзе стаяў хлеў. *Хляві́шча ту́тацька было́. Воўк бех і туды́ ўвалі́ўся.* Партызаны. *Хляві́шча засе́іла траво́й.* Закур'е.

**ХЛЯ́ПА** *ж.* Хлюпота, непагадзь. *Ціпе́р хля́па, хля́па.* Багданава.

**ХЛЯЎНІ́К** *м.* Ласка (звярок). *Хляўні́к ёсьціка, ла́ска така́я, шэрсць выдзіра́іць* [у каровы]. Багданава. *Хляўні́к па каро́ві бе́гаіць, выдзіра́іць шэрсць с хръбта́. Дзяро́ць ла́памі да крыві́. Вы́дзіріць шэрсць у каро́вы – раса́ па ёй. Сваі́м ка́лам сціра́юць па спіне́.* Запруддзе.

**ХЛЯЎНЫ́** *прым.* Які жыве ў хляве. *Хляўнэ́е есь ла́скі, а я ні ра́зу ні ві́дзела.* Ракаў Засценак.

**ХЛЯХАТА́ЦЬ** *незак.* Бурліць (пра ваду). *Вада́ хляхо́чыць.* Каралевічы.

**ХМА́РА** *ж.* Хмара. □ *З вялі́кай хма́ры – малы́ дошч.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**ХМЕЛЬ** *м.* Хмель (расліна). *Хмель събіра́лі, штоп хмільна́я была́.* Дольдзева. *Хме́лю по́ўна было́ па куста́х.* Запруддзе. *Ма́йскія жукі́ на куста́х, як хмель, вісяць.* Нямойта.

**ХМЫ́ЗНІК** *м.* Хмызняк. *Хмы́зьнік там, а ня лес!* Гарадок. *Хмы́зні́към зърасло́ по́ля, а зъра́ння там сад быў.* Заазер'е. *Вужа́ка была́ ў гаро́дзі: цяпе́р жа хмы́знік.* Мянюцева. *Хмы́знікі былі́ ў бало́це.* Ракаў Засценак.

**ХМЫ́ЛІЦЦА** *незак.* Касавурыць вочы, прыціскаць вушы (пра каня). *Як хмыліцца конь, кáжуць касавýрыцца.* Рассвет.

**ХО** *выкл.* Вокліч пры выказванні ўзрушэння, узбуджэння; ого. *Хо! Яны здарóўя бірагýць* [а працаваць не хочуць]. Чуцькі.

**ХОД** *м.* 1. Уваход. *Хáтка стáрая і два хóды.* Алексінічы. *Ідзéш у цёмны ход – прóсіш.* Савінічы. 2. Падземны ход. *Тут жа ход быў сáмы з-пад Талóчына на Сяннó.* Каралі. 3. Праход, брод. *Ход церас рэ́чку.* Запруддзе. 4. *прысл.* Па кругу. *Падзяржы́ць бáба буты́лку, аддáсць і пóйдзець хóдам.* Партызаны. 5. *перан.* Доступ, дазвол. *У мянé хадá нет нікудá.* Ульянавічы. ◊ НА ХАДУ́. Адразу ж, тут жа. *На хадý цяплёнка кот схапíў.* Партызаны. *На хадý памёр.* Нямойта. ◊ С ХО́ДУ. Тое ж. *Пчóлы с хóду с улля́ ні звілісі – нідалёка мéста булó.* Сянно. ◊ СВАІ́М ХО́ДАМ. Пехатой. *Купíлі карóў у Літвé і вялí іх сваíм хóдъм мéсіц.* Міцюкова. ◊ У ХАДУ́. У шырокім ужыванні, карыстанні, вельмі распаўсюджаны. *Яны́ даўнó былí ў хадý.* Ульянавічы.

**ХО́ДКА** *ж.* Хада, хадзьба. *Мінýт пяць хóт$^{д}$кі на рабóту.* Багданава.

**ХО́ДУ** *прысл.* Бягом, наўцёкі. *Ён хóду ад тых дзéвак блатны́х.* Запруддзе. *Схадзілі туды́ – і хóду: салдáт забíты.* Баравікі. *Нéшта ляпаў, надзéўся – і хóду.* Леснікова. *Я за платóк – і хóду.* Партызаны.

**ХО́ЙРА** *ж.* Хойра (танец). *Кадры́лю, вінгéрку і хóйру гуля́лі. Хóйра – бы́стры тáнец. Бярýцца за рýкі і ідýць, тады́ перакрýчваюць дзéўку і зноў ідýць.* Кавалі.

**ХО́ЛАД, ХО́ЛАТ** *м.* Холад. *Гады́ ўжо, стáла хóладу бая́цца.* Цясішча. *Я хóлъду баю́сі.* Неўгадава. *Кот на пéчку лéзіць – хóлад бýдзіць* (прыкмета). Гарадзец. *Хóлат бальшы́ на дварэ́.* Вялікі Азярэцк. *Халóнна былó, нéяк сáма хóлат быў.* Нямойта.

□ *У хóлат кóжны мóлад.* Гарадзец.

**ХО́ЛКА** *ж.* Карак, частка шыі. *Набíў хóлку каню́ біс сядзёлкі.* Гарадзец.

**ХРА́БРЫ** *прым.* Смелы. *Алé хрáбръя, і здарóў ні кáжыць.* Гарадзец.

**ХРАК** *м.* Кныр, кнораз. *Храк з я́йцамі, къбáн кастры́раваны.* Гарадзец.

**ХРАМА́ЦЬ** *незак.* Кульгаць. *Кáжды пашцí хръмáіць.* Гарадзец. *Хръмáіць на тры нагí конь. Хръмáіць карóва, на тры нагí скáчэць.* Мянюцева.

**ХРАМЫ́** *прым.* Крывы. *Як кълъмáга пашóў, калí нъгá хръмáя.* Запруддзе.

**ХРАНІ́ЧАСКІ** *прым.* Хранічны. *Невылячы́ма хранíчаскі.* Нямойта.

**ХРАНО́ВЫ** *прым.* Хрэнавы. *Хранóвыя лісты́ бáбы ат гълъвы́ прыклáдъюць.* Дуброўкі.

**ХРА́ПА** *ж.* Морда, пыса. *У вуўкá хрáпа і клыкí.* Багданава.

**ХРА́ПА** *ж.* Трава (пустазелле), якая выкарыстоўваецца на корм жывёле. *Лю́бая хрáпа свінням.*

**ХРАПАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Трашчаць, хрусцець. *Храпацíць у калéнях.* Багданава. *Храпаця́ць нóгі, баля́ць.* Івоні.

**ХРА́ПАЦЬ** *ж.* Трава (пустазелле), якая выкарыстоўваецца на корм жывёле. *Хрáпъці насéкці мнóга нáда.* Кляпчэва.

**ХРА́ПАЦЬ** *незак.* Паколваць пахруставаючы. *Хрáпъець плячó абы́ павярнýся. А-ё! Плячó балíць, хрáпаіць.* Міцюкова.

**ХРА́ПАЦЬ** *незак.* Трашчаць (пра лёд). *Лядóк хрáпаіць, а мы бяжы́м.* Запруддзе. ХРАП-ХРАП. Трашчаць пахруставаючы. *Ідзéш па малíнніку – храп-храп.* Міцюкова. *Лядóк – храп-храп.* Гарадзец.

**ХРАПЕ́ЦЬ** *зак.* Храпці. *Ляжáла, храпéла і захлынýлася.* Каралевічы. *Кóлік храп у яé гарóдзі.* Каралевічы. *Éлі, аш храпéлі.* Фасаўшчына.

**ХРА́ПКА, АХРА́ПКА** *ж.* 1. Ствол качана капусты без лістоў. *Што кóрънь ссячэ́ць – хрáпка. Хрáпкі пакідáюць на расáду.* Гарадзец. 2. Унутраная цвёрдая частка качана капусты. *Як къчáн разрэ́жыш – там ахрáпка.* Кішуроўшчына, Розмыслава, Турава.

**ХРА́ПНУЦЬ** *зак.* Храпнуць, храпянуць. *Нéкалі хрáпнець – і ўсё.* Запруддзе. ХРАП. Імгненна храпануць. *Храп – і ўсё, памёр, балёсць пáла на сэ́рца.* Багданава.

**ХРАП-ХРАП** *выкл.* Хутка, спехам наадрываць. *Жы́та, галóвак – храп-храп – нарвёш, патрэ́ш, патаўчэ́ш і кулёш звáрыш зялёны.* Запруддзе.

**ХРАСТО́К** *м.* Парастак, расток. *Хай трóху засінéюцца храсткí: крапчэ́й бýдуць.* Нямойта.

**ХРАСЬ** *выкл.* Перадача гукаў хрусту, трэскання. *Хрась – і трэ́скаіцца, расціpáіцца усё, пýхнуць нóгі.* Савінічы.

**ХРАШЧ** *м.* Храсток. *Зрастáюцца храшчáмі рóбра.* Запруддзе.

**ХРА́ШЧЫК** *м.* Тое ж. *Падцягнý нагý – хрáшчык як бы разлýчыцца.* Вялікі Азярэцк.

**ХРОМ** *м.* Сорт мяккай тонкай скуры; хром. *Прынёс хрóму тáта на бóты.* Нямойта.

**ХРОП** *выкл.* Хруснуць, зламацца з трэскам. *Рабрó – хроп.* Запруддзе.

**ХРО́ПКІ** *прым.* Нямоглы, слабы, стары. *Я ўжо хрóпкая ціпéр, ужó валюся.* Кішуроўшчына.

**ХРО́СНАЯ** *ж.* Хросная маці. *Мамýся – э́та хрóсная.* Леснікі. *Хрóсная далá мацер'я́л і я.* Партызаны.

**ХРО́СНЫ** *м.* Хросны бацька. *Ягó хрóсны ў Прывéтцы кóсіць.* Партызаны.

**ХРУ́ПАЦЬ, ХРА́ПАЦЬ** *незак.* Хрумстаць, есці з хрумстам. *Бранéц – я́гады хрýпаюць у рóце, як ясí.* Кішуроўшчына. *Адарвём бубы́шку ад свірэ́піцы, аблýпім і хрýпаем.* Запруддзе. *Піскунóў сушы́лі, у мяшкí. Зімý тады́ хрáпаюць.* Сянно. ХРАП-ХРАП. Пахрумстваць, хрусцець. *Груст бéлы, здарóвы, крэ́пкі, ягó вáруць, сóлюць. Ён храп-храп* [на зубах, калі ясі]. Рудніца.

**ХРУ́ПКІ, ХРО́ПКІ** *прым.* 1. Крохкі. *Свінні* [грыбы белыя грузды] *хрýпкія такíя, у іх мълачкó ёсь.* Латыгаль. 2. Незагартаваны, мяккі (пра касу). *Късá хрýпкъя – ні късá!* Леснікова. 3. Слабы, нямоглы. *Я ўжо хрóпкъя ціпéр, ужó валюся.* Кішуроўшчына.

**ХРУПУЦЕ́ЦЬ** *незак.* Хрумсцець. *Грыбы́* [млечнік белы] *хрупуця́ць* [пасля прыгатавання]. Вялікі Азярэцк.

**ХРУСЦЕ́ЦЬ, ХРУШЧЭ́ЦЬ** *незак.* 1. Хрусцець, трашчаць. *У нъгáх стáла хрусцéць.* Запруддзе. ХРАСЬ. *Кашлянý, а рабрó хрась-хрась.* Запруддзе. 2. Хрумсцець, хрумстаць. *Хрушчы́ бéлыя* [ядомыя грыбы белыя грузды] *хрушчáць нъ зубáх, як звáрыш.* Партызаны. *Хрушчы́ць пясóк на зубáх.* Фасаўшчына.

**ХРУ́ХАЛЛЕ** *н. зб.* Пра старых, нямоглых людзей. *Мы абéдзве – такóе хрýхалле. Мне сéмдзесят сёмы гот ужó.* Кішуроўшчына.

**ХРУШЧЫ́** *мн.* Грузды (грыбы). *Хто гавóрыць хрушчы́, а хто – лазóвікі. Хрушчы́, як талéркі, растýць.* Дольдзева. *Хрушчы́ бéлыя, кýбачкамі.* Каралі, Жохава. *Бéлыя хрушчы́ гóркія. Іх сáмыя салíць.* Міцюкова.

**ХРЫБЕ́Т, ХРЫБЁТ, ХРЭ́БЕТ, ХРАБЕ́Т, ХРАБЁТ** *м.* Хрыбет, пазваночнік. *На хрыбятý йгóлкі ў ры́бы, жоўць у яé.* Багданава, Савінічы. *Кáжуць, нéйкая лáска*

*хо́дзіць. Па храпту́, пъ каро́ві, ка́жуць. Каро́ва ляжы́ць – ла́ска дзярэ́ць, бе́гаіць па храбцэ́.* Міцюкова. *Павярну́ла, не спо́равала – я кійко́м па храбту́.* Нямойта. *Шлізы́, пуўзуны́, на храпту́ як па́нцыр.* Фасаўшчына. *Ла́ска была́. Ла́ска нъ хрыбёт ся́дзіць і дзярэ́ць, а каро́ва бе́гае па хляву́.* Чуцькі. *У хрэ́бет аттаўкла́ дзіця́, і пашла́ на рабо́ту.* Манголія. *Ла́ска шчъкъта́ла каро́ву, аш та́я макрэ́ла. Ка́лам вы́мазалі каро́ве храбёт – і бро́сіла ла́ска хадзі́ць.* Гарадзец.

**ХРЫБЦІ́НА, ХРАБЦІ́НА** *ж.* Тое ж. *Хрыбці́най уда́рылася – прыве́злі кукарэ́чкай.* Жохава. *Хляўні́к* [ласка] *выдзіра́іць шэрсць з храбці́ны у каро́вы, дзярэ́ць да крыві́.* Запруддзе.

**ХРЫЗАНТЭ́МЫ** *мн.* Хрызантэмы (кветкі). *Хрызантэ́мы так цвілі́ харашо́, канцы́ аддаю́ць.* Міцюкова.

**ХРЫПЕ́ЦЬ** *незак.* Хрыпець. *Гвазды́ былі́ ў жалу́дкі, хрыпе́ла, язы́к аж вы́салапіць.* Запруддзе.

**ХРЫ́ПЛЫ** *прым.* Хрыплы. *Го́лас хры́плы.* Багданава.

**ХРЫСЦІ́НЫ** *толькі мн.* Хрысціны. *Хрысці́ны ў іх адро́зніваюцца ад на́шага.* Карпавічы.

**ХРЫСЦІ́ЦЬ** *незак.* Хрысціць. *Я сваі́х дзяцёй хрысці́ла ўсех.* Партызаны.

**ХРЫШЧЭ́ННЕ, КШЧЭ́ННЕ** *н.* Вадохрышча. *Хрышчэ́нне – пасле́нне, Раждзяство́ – пе́рвая.* Багданава. *То́нінькъя каліда́, тады́ ўжэ Кшчэ́нне.* Ракаў Засценак. *Кшчэ́нне – распрашчэ́нне быва́іць.* Багданава.

**ХРЭН, ХРОН** *м.* Хрэн (расліна). *Хрэн дзяру́ць, ядуць, с-пад сне́гу расцэ́ць. Хрэ́ну накапа́юць, цэ́лу карзі́ну і сі́йча́с расхво́цюць.* Баравікі. *Хрэн табе́ ў во́чы!* (праклён). Багданава. *Нявестка хро́ну нъкъпа́ла к Вялі́чку.* Дуброўкі.

**ХРЭ́СНІК** *м.* Хроснік, хрэснік. *На Па́сху хрэ́снікам я́йца дава́лі, тату́сь называ́лі нас.* Вялікі Азярэцк.

**ХРЭ́СНІЦА, ХРЭ́СЦІЦА** *ж.* Хросніца, хрэсніца. *Гэ́та мъя́ хрэ́сніца і ро́дная плімя́нніца.* Рэчкі. *Хрэ́сніца дала́ мне тры́ ку́ркі.* Цясішча. *Хрэ́сціца прые́хала, ка́жыць: «Мату́ся, што вы дзе́лаіці?»* Нямойта.

**ХРЭСТ** *м.* 1. Крыж. *Храсты́ ка́менныя дзе́лалі бага́тыя. Бага́тыя дзе́лалі ка́менныя храсты́, а бе́дныя – дзервя́нныя.* Багданава. *Пъхъро́нілі – хрэст стаіць дубо́вы, по́тым падме́няць.* Вялікі Азярэцк. *Хрэст на магі́ле ста́вілі хто ў гълъва́х, хто ў нъга́х. А перад ім къмянёк пало́жыць.* Мянюцева. *На са*[ы]*ра*[ы]*кавы́ дзень трэ́ба пъстънаві́ць хрэст.* Ракаў Засценак. 2. Крыж з выявай Ісуса Хрыста. *До́жджык, дош, пераста́нь, я паеду на Ірда́нь, Бо́гу малі́цца, Хрэ́сту пакланіцца* (з дзіцячага вершыка). Багданава. 3. Выява, знак у форме крыжа. *Храсты́ дзе́лалі на дзвяра́х у Каля́ды.* Цясішча. 4. *прысл.* У выглядзе крыжыка, від вышыўкі. *Гла́ддзю і храсто́м уме́ю вышыва́ць.* Розмыслава. *Храсто́м вышыва́лі, гла́ддзю.* Гарадзец.

**ХРЭСТ-НА́ХРЭСТ** *прысл.* Крыж-накрыж. *Пе́рвы ма́лец крыча́ў, ба́лькі рэ́залі хрэст-на́хрэст. І двіна́ццаць іго́лак у ваду́ кладу́. І дзе́вяць рас у е́тай вадзе́ купа́ла. Ма́лец быў крыклі́вы.* Багданава.

**ХРЭ́СЦІК** *м.* 1. Крыжык. *У кало́дзезь браса́лі хрэ́сцікі.* Цясішча. 2. Выява, вышытая ў форме крыжыка. *Хрэ́сцік вышыва́ла.* Запруддзе. 3. *мн.* Невялікі рыштунак з убітых колічкаў у галаве ляжачага пчалінага вулея. *Хрэ́сцікі ў ліжаку́ вы́дзіўбъным былі́, на іх ву́зу прыкръпля́лі.* Вялікі Азярэцк.

**ХРЭ́СЬБІНЫ, ХРЭ́ЗЬБІНЫ, ХРЭ́СЬЦІБЫ** *толькі мн.* Хрэсьбіны. *А тады́ спраўля́лі хрэ́сьбіны. Ско́лька душ хо́чыць, сто́лька і прыглаша́юць душ.* Міцюкова.

*На памінкі, на хрэсьбіны макаюць ладкі.* Чуцькі. *Усягда на хрэзьбіны нявестка застаўіць прыехаць.* Нямойта. *На хрэзьбіны дзяцей купаюць.* Запруддзе. *На хрэсьцібы песні пяялі: «Дзякуй таму кьвалю...»* Дуброўкі.

**ХТО** *займ.* Хто. *Хто там зваліўся ці ты забурыўся?* Міцюкова.

□ *Хто з языком, той с пірадом.* Івоні. □ *Хто скуп, той сам сабе не глуп: добраахвочы глядзіць скупому ў вочы.* Багданава, Запруддзе.

**ХУВА́ЦЦА** *незак.* Быць пахаваным. *Хуваліся французы на гары.* Вялікі Азярэцк.

**ХУ́ДА** *прысл.* Дрэнна, млосна. *Так худа мне стала. Думаю: так і загнесся.* Леснікова. *Як худа было, я ей паўмагла.* Партызаны, Вялікі Азярэцк. ХУ́ДЗЕНЬКА *памянш.-ласк. Буваіць дужа худзенька, але не баюся памерці.* Вялікі Азярэцк. *А як жа мне была худзенька: нагу не выраўнаю, папохла.* Цясішча.

**ХУДАРЛЯ́ВЫ** *прым.* Хударлявы, сухарлявы. *Худърлявы чълавек.* Кляпчэва.

**ХУДЗЕ́НЕЧКІ** *прым.* Празмерна худы. *Не худзенечкі, срэдні.* Міцюкова.

**ХУ́ДЗЕНЬКІ** *прым.* Вельмі бедны. *Дзеравушка худзенькая.* Алексінічы.

**ХУДЗЮ́ШЧЫ, ХУДУ́ШЧЫ** *прым.* Вельмі худы, змарнелы. *Цётка тъкая худзюшчая, ні стъзнаць.* Дольдзева. *Такая худушчая стала, аш страх бярэць.* Нямойта.

**ХУДО́БА** *ж.* Нешта дрэннае, непрыемнае, злоснае. *Я табе худобы ні думаю, ні прьдавай мяне.* Дольдзева.

**ХУДО́СЦЬ, ХУДО́СЬ** *ж.* Схуднеласць, худоба. *Другі захварэіць, дык схудаіць. Мяне ш худосць не бярэць. Худось ніякая ні бярэць.* Нямойта.

**ХУДУШЧА́ВЫ** *прым.* Хударлявы. *Я худушчавая была, а цяпер здзелалася, як пьмак.* Нямойта.

**ХУДЫ́, ХУДЭ́Й** *прым.* 1. Худы, танклявы. *Наша прырода такая – худая. Худэя абодва сыны. Худую дзеўку ш дужа ні любілі.* Багданава. *Худы, адны косці ды шкура.* Вялікі Азярэцк. 2. Пра празмерна худога. *Худы, як быліна. Худы, як шкілет. Худэй, як жэрдзіна. Худэй, як шчэпка. Худэй, як тыран. Худэй, як сухар. Худэй, як бёрда. Худэй, як кьчалка плоскья. Худэй, як доска сціральньяя. Худэй, як смык.* Сянно. *Худы, як здыхля.* Сукрэмна. *Худы, як шэпка.* Розмыслава. 3. Худы, з запалымі бакамі, перахлябісты. *Худэя каровы: чуць с поля прыцягніш.* Вялікі Азярэцк. 4. Нятлусты (пра сала). *А ета сала худоя.* Вялікі Азярэцк.

**ХУДЫ́** *прым.* 1. Дрэнны, нядобры. *Прачнулася – ніхто ка мне ні прышоў, ніякі худы чалавек.* Івоні. 2. Непрыемны, кепскі (пра навіну). *Павук, павучок, ты мне новасць прынёс. Як добрую – наверх, як худую – naніз* (прыгаворка). Каралевічы. 3. *н.* Нешта нядобрае. *Я худога нічога ні знаю.* Багданава. *І худое будзіш помніць, і старое.* Манголія. *Маўчыць ён, ці худое ці добрае, ці яму добра ці худа.* Вялікі Азярэцк. ○ ХУДА́Я БАЛЕ́ЗНЬ. Эпілепсія. *Худая балезнь, пірастань!* (з замовы). Багданава.

**ХУЖЭ́Й, ХУ́ЖЫ** *прысл.* 1. Горш. *Ніхай ей хужэй будзіць.* Жохава. *Там шчэ хужэй.* Запруддзе. *Ні павінна хужэй быць.* Рэчкі. *Мне тады хужы.* Багданава. 2. Найбольш, больш за ўсіх. *Сама хужы ў дзярэўні пьўстрадалі мы.* Заазер'е.

**ХУЖЭ́ЙШЫ, ХУ́ЖЖЫ, ХУ́ШШЫ, ХУ́ДШЫ, ХУ́ЖЫ** *прым.* 1. Горшы, самы дрэнны. *Яго брат хужэйшы быў. Сваё прадаўцелі худшые болей.* Нямойта. 2. Будзённы, не самы лепшы (пра адзенне). *Хушшую адзежу у кубіл клалі.* Буй. 3. Ніжэйшага гатунку. *Хужэйшае звалась зрэб'е.* Заазер'е. 4. Дробны, небуйны

(пра зерне). *Сáмае лýчшае – упéрад* [зярно], *а хужэ́йшае, драбнéйшае – блíжай.* Леснікова. 5. Больш стары, скарыстаны. *Хужэ́йшыя ёсь вёдры.* Неўгадава. 6. Самы кепскі, маласпажыўны. *Лóжым сéна сáмъя хýжжъя* [пад стог]. Леснікова. 7. Невыносны. *Хýжая скýка дзéлаіцца цяпéр.* Багданава.

**ХУЛА́** *ж.* Хвала. *Хулá табé бóжа, ларóк ёсь.* Чуцькі.

**ХЎРКАЦЬ** *незак.* Фыркаць (пра каня). *Хýркаець конь, страх які здáсца. Конь хýркаіць, захрыпіць, зачмы́хаіць.* Гарадзец.

**ХЎРМАН** *м.* Фурман, вазніца. *Хýрманы – éта былí ў пáна.* Манголія. *Рáньшы панóў вазíў, хýрман звáўся.* Нямойта.

**ХЎРТАВІНА, ХУРТАВІ́НА** *ж.* Хмара. *Нъйшлá хýртъвіна, стаў вéцір, пашóў дóжджык. Найшлá хуртавíна, бýра, стаў вéцер.* Вялікі Азярэцк.

**ХЎСТКА** *ж.* Хустка. *Хýстка с кутáсамі, хýсткі насілі. Хýстку ў магазíне купíла.* Гарадзец. *Хýстка с кутáсамі, бъльшáя, ткáлі сáмі ў клéтку.* Каралі. *Дзéсяць капéек – хýстку кýпіш.* Багданава. ХЎСТАЧКА, ХУСЦІ́НКА *памянш.-ласк. Я хýстъчку купíла красíвенну.* Каралевічы. *Кап ён хусцíнку купíў?!* Чуцькі.

**ХЎТАР, ХЎТУР, ФЎТАР** *м.* 1. Хутар. *У нас уся́ дзярэ́ўня былá па хутарáм.* Івоні. *Мы ў дзярэ́ўню пріїжджáлі с хýтъра.* Кляпчэва. *Да вайны́ хутарóў былó мнóга, жылí па хутурáх, на хýтары.* Леснікі, Багданава, Баравікі. *На хутурáх, на пóлях жылí. Дзе хутуры́ былí – дзяреýня.* Машчоны. *Нъ хутърáх брáлі, бóлі ў нас былó хутарэ́й.* Савінічы. *Жылá ў дзярэ́ўні, патóм на хýтары.* Дуброўкі. *Хутары́ былí раскíнутыя.* Закур'е. *Яны́ на фýтары жылí.* Ульянавічы. *Футары́ зараслí лéсам.* Пожанькі, Рулёўшчына. 2. *метаф.* Могілкі. *Аднó ужэ нáда – хýтар.* Ульянавічы.

**ХУТАРНЫ́** *прым.* Які адносіцца да хутара; складаецца з хутароў. *Хутърнáя сісцéма былá.* Нямойта.

**ХУТАРЭ́Ц** *м.* Хутаранін. *Тры хутарцы́ там былí.* Баравікі.

**ХЎТРА** *ж.* Футра, шуба. *Хýтра – éта цёплая шýпка.* Галашчакіна.

**ХЎХАЎКА** *ж.* Вільготны след на шкле ад дыхання. *Ні хýхавак, нічóга на зéркалі ні былó, срáзу убíла* [жанчыну], *пярýн убíў.* Багданава.

**ХЎХАЦЬ** *незак.* Хукаць, дзьмуць. *Хýхаць нáда на вадý: хух–хух–хух. Тры разы́.* Багданава. *Шаптýха ў вадý хýхъла, а ў яé самóй сілітэ́р.* Заазер'е. *І малатóчкам ня стýкаў, і ў рýчачкі ня хýхаў, і надзéлаў такýю вясёлую бясéду нам* [на хрэсьбінах]. Запруддзе.

**ХУХНА́ЛЬ, УХНА́ЛЬ** *м.* Цвік, якім падбіваюць падковы. *Хухнáль – што падбівáюць падкóвы.* Нямойта. *Ухнáль – éта гвозд, калí кóні кую́ць, у паткóву, у капы́т зъганя́ўся.* Багданава, Гарадзец, Манголія.

**ХЎХТАЦЬ** *незак.* Кутаць, цёпла апранаць. *Цімпіратýра ў дачкí, на пéчы хýхтаем, бáпку нашлí.* Багданава.

**ХУЦЬ, ХОЦЬ, ХОЧ** *злучн.* Хаця. *Хъхлáтка* [дзяруга, посцілка] *хоць цішкáя, алé цёплая.* Запруддзе. *Лісíчкі, яны́ хуць цвёрдыя,* [але] *у іх чарвéй дýжа німá.* Галашчакіна. *Хуць і пóсных,* [але] *з'ясí пышак.* Алексінічы. *І з рýчкай, хоч* [хоць] *без рýчкі – карзíны.* Запруддзе.

**ХУЦЬ** *часц.* Хаця, хоць. *Хуць гот патрымáю къбáнчыка.* Вялікі Азярэцк. *Хуць бы ўжо пірад*$^{m}$ *смéрці пажы́ў спакóйна.* Нямойта. *Хуць ты цягнí сýмку.* Ульянавічы.

**ХЫЛК** *выкл.* Хаўкнуць, дыхнуць, раскрыўшы рот. *Стáніць, хылк рóцікам – і падóх* [пра куранят]. Запруддзе.

**ХЫ́РКАЦЬ** *незак.* Кашляць. *Ізрáзу стаў хы́ркаць і хы́ркаць.* Турава.

**ХЭ́ЎКНУЦЬ** *зак.* Хуценька выпіць, з'есці. *Па мінýці ў хáці: хэ́ўкнуць мълькá з варэ́ннем – і пабéглі.* Запруддзе.

**ЦАҐЕ́ЛЬНЯ** *ж.* Прадпрыемства, дзе вырабляюць цэглу; цагельня. *Цаґéльня – цэ́ґлу дзéлалі.* Багданава.

**ЦАДЗІ́ЛКА** *ж.* Кавалак палатна для працэджвання; цадзілка. *Съматкáныя цадзілкі былí.* Вялікі Азярэцк. *Малакó цóдзілі у бáнку на цадзілку с пълатнá.* Каралі. *– Дзе цадзілка? – Цадзілку зняў: дýмаў, дождж бýдзіць.* Нямойта.

**ЦАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Цадзіць. *Кръхмáл – éта надзярэ́ш бýльбу, перамывáіш і цэ́дзіш, вадý зліваіш, вады́ тры́. Кубарóк – éта ў катóры малакó цэ́дзяць.* Багданава.

**ЦАЛЕ́Й** *прысл.* Больш надзейна. *Хоць літр малакá, што дабýдзеш, пастáвіш у халадзільнік, бýдзіць цалéй.* Нямойта.

**ЦАЛКАВЫ́** *прым.* ○ ЦАЛКАВА́Я ЯЕ́ЧНЯ (ЯЕ́ШНЯ). Яечня з цэлымі жаўткамі. *Цълкавáя яéчня за то, што цэ́лые я́йцы. Цалкавáя яéшня – як цэ́лыя я́йкі.* Вялікі Азярэцк.

**ЦАЛЯКО́М** *прысл.* Цэлы, непакрышаны. *Бýльбіны цалякóм варý, а тады́ патаўчý, а тады́ раскалачý.* Пожанькі.

**ЦАЛЯ́ЦЬ** *незак.* 1. Цэліцца, патрапляць. *Кýрыца б'ецъ ні сваíх. Цаля́іць у галавý, пакýль не заб'é ў гълавý.* Станюкі. 2. Прымяркоўваць на вызначаны час. *Сын цъля́ецъ, як выхадны́, прыéхаць бýльбу пакапáць.* Багданава.

**ЦАМЯНТО́ВЫ** *прым.* Зроблены з цэменту. *Цамянтóвы ґáнак быў – нясéць бутэ́лькі, паб'ець.* Ульянавічы.

**ЦАНА́** *ж.* ◊ ЦАНЫ́ НІМА́. Вельмі дарагі, неацэнны па сваіх якасцях, вартасцях. *Цаны́ ямý німá.* Буй. *Цаны́ німá: рабóтніца, хазя́йка* (пра дзяўчыну). Розмыслава. ◊ НОЛЬ ЦАНА́. Не зважаць, не звяртаць увагі. *На нас – ноль цанá.* Нямойта.

**ЦАНТА́ЛАВА, САНТА́ЛАВА** *н.* Прылада для трапання лёну; трапло. *Цънтáлава ці сантáлава – э́та трапáлка, лён трапáлі.* Парэчча.

**ЦАНТРА́ЛКА** *ж.* Паляўнічая стрэльба цэнтральнага бою; цэнтралка. *Рýжжы былі не цантрáлкі.* Ульянавічы.

**ЦАПАНУ́ЦЬ** *зак.* Зачапіць, ударыць. *Мянé цапанýла карóва рóгам.* Рэчкі. ЦАП. Цапнуць, схапіцца. *Я назáўтра цап – німá грóшай.* Нямойта.

**ЦАПКІ́** *толькі мн.* 1. Памост у лазні, на якім парацца; палок. *Як нáры, цапкí падзéлаюць.* Нямойта, Запруддзе. *Цапкí з дасóк у бáні.* Серкуці. *У бáні цапкí, там хвастáліся.* Багданава, Вялікі Азярэцк. 2. Прыстасаванне з жэрдак у сушні (ёўні) для сушкі снапоў. *Цапкí – жóрдачкі дзіравя́нныя, настаўля́лі тýды снапóў.* Гарадзец. *У ёўнях цапкí здзéланы, як жардзё, каб дух прахадзíў.* Вялікі Азярэцк. *На ёўнях сушы́лі, на цапкí садзілі, кап сох, тады́ мя́лі, трапáлі.* Фасаўшчына. *Садзілі на ёўні на цапкí дабрó.* Каралі, Запруддзе, Карпавічы. ◊ ляжáць ЯК ЦАПО́К. Ціха, нерухома (ляжаць). *Як ля́жыць як цапóк, ляжы́ць рóўнінька каля мянé* [пра маленькую ўнучку].

**ЦА́ПЛЯ** *ж.* Чапля (птушка). *Цáпля – нóгі мéншыя, як у буцянá.* Розмыслава. *Цáплі ў нас прылятáюць.* Леснікова.

**ЦАПЛЯЦЦА, ЦАПАЦЦА** *незак.* Чапляцца. *А як вырасціць і атцвіціць і тъявяцца на ей калючыя сучкі, і яны тады цъпляюцца.* Запруддзе. *Дзядоўнік – калючкі во такія цапаюцца.* Вялікі Азярэцк.

**ЦАПОК** *м.* Жэрдачка. *Цапкі у бані былі. Вешаюць адзежу, рыззя.* Партызаны.

**ЦАРАПІНА** *ж.* Драпіна. *Царапіна дзе якая – сталетнік гоіць.* Нямойта. *Як царапіна, натрэш казельцам – разнясець руку.* Чуцькі.

**ЦАРАПНАТЫ** *дзеепрым.* Падрапаны. *Пат вокам царапната.* Запруддзе.

**ЦАРКВА, ЦЭРКВА, ЦЭРКАЎ, ЦЭРКОЎ** *ж.* Царква. *Царкву відзіў* [пра тое, што сніцца] *– плоха будзіць* (павер'е). Ракаў Засценак. *Бяздэнка – багна тъкая. Была цэрква, да было зімлітрасення – пръвалілъся. Чаго ты сягонні прыбралася, як у цэркву?* Вялікі Азярэцк. *Пожня там, пат цэрквы. Там цэрква утанула.* Заазер'е. *Была цэрква, бацюшка быў.* Нямойта, Багданава, Гарадзец, Дольдзева, Запруддзе, Каралевічы, Кляпчэва, Партызаны. *Была цэркаў, у вайну спалілі.* Манголія, Закур'е. *Тукінскае возіра – стъяла цэркоў, там і зътанула. У Вятцы цэркаў была і касцёл быў.* Вялікі Азярэцк.

**ЦАРСКІ** *прым.* ○ ЦАРСКАЯ КАРОНА. Пакаёвая кветка. *Царская карона красівым цвіціць.* Партызаны.

**ЦАЎЁ** *н.* Ручка (дзяржанне) у вілах; вілачнік. *Цаўё зламалася.* Каралевічы.

**ЦАЎКТ-ЦАЎКТ** *выкл.* Есці, гучна прыцмокваючы. *Дам мёт з жаранымі семъчкамі, ён – цаўкт-цаўкт.* Нямойта.

**ЦАЦЭНЬ** *м.* Праснак. *Блін так жа раскалацііў і пячы, а цацэнь нада мясіць і раскатываць.* Жохава. *Цацэнь як блін. Цеста намішаю густа, наляплю цацнёў, на скъвараду і пяку.* Міцюкова.

**ЦВЕТ** *м.* 1. Кветка. *Цьвяты цьвітуць жа цяпер.* Заазер'е, Каралевічы. *На Івана цвяты свяцілі.* Ульянавічы. *Снег раней ляжыць, і тута цвяты цвітуць: сінінькія патснежнікі, белый кураслеп, сінія пралескі.* Цясішча. *Вянок съуём, а там і жыта, і цвет ідзе які найдзем, і зеляніна, якую найдзем.* Багданава. ЦВЯТОЧАК *памянш.-ласк. Я пасвіла радоўку і цвяточкаў нарвала – гарлачыкаў. Нейкіе каляные, румяные. Нядзелю атстоялі – хваціць красавацца, нада выкідываць.* Міцюкова. 2. *зб.* Кветкі на раслінах і дрэвах у час цвіцення. *Тры гады на бульбе цвету не было: то жук, то яшчэ што. Раз цвет есь – значыць бульба будзіць.* Партызаны. *Цвету было аж бела.* Галашчакіна. 3. Час цвіцення. *На цвет мароз – дык ягад німа.* Гарадзец. ○ ЛІПОВЫ ЦВЕТ. Высушаныя кветкі ліпы, якія ўжываюцца ў якасці лякарства; ліпавы цвет. *Ліпа цвіцела – ліповы цвет насушыла* [для лякарства]. Запруддзе.

**ЦВЕТ** *м.* Колер. *Чомбар расцець па аблогах, цвіціць сірэнявым цветам.* Каралі.

**ЦВЕТНЫ** *прым.* Каляровы. *Цілівізар у сына цветны, бальшы.* Закур'е.

**ЦВЁРДАЛОБЫ** *прым.* Упарты. *Швей трэст арганізаваўся ў Нямойці, мяне, цвёрдалобую, нікуды ня ўзялі.* Серкуці.

**ЦВЁРДЫ, ЦВЯРДЫ** *прым.* 1. Моцны, крэпкі. *А дуп цвярды, лопъіць, а зуп з рабіны крапчэй.* Леснікова. 2. Не мяккі, які цяжка раскусваецца. *Як не кастрыраваны къбан – сала цвярдое.* Буй. *Цвярдая каўбаса, адно жылле.* Міцюкова, Леснікова. 3. Ушчыльнены, не рыхлы. *Жоўуенькі пясочак быў цвёрды.* Заазер'е.

**ЦВІК** *м.* Цвік. *І гвоздзь, і цвік гавораць.* Манголія.

**ЦВІЦЕЦЬ, ЦВІСЦІ** *незак.* Цвісці. *Сады доўга цвіцелі. Усё цвіціць.* Багданава. *Бульба цвіцела, а лівень як даў, яна ні стала цвісці. Ні цвіцеў сат, смароднiку німа.*

*Ні цвілі ні вішні, ні слівы.* Вялікі Азярэцк. *Ні цвілі ні аднагó дрэ́ва.* Гарадзец. *Лóпух, ён вяснóй пéрва на дварэ́ жóўтым цьвіціць.* Фасаўшчына, Гарадок, Каралевічы, Кішуроўшчына, Серкуці. *Бýльба ні стáла цвіцéць* [ад хімікатаў]. Дуброўкі. *Цвіў лён галýбянькім.* Неўгадава.

**ЦВЫРКУ́Н, ЦЫРКУ́Н, ЦУРКУ́Н** *м.* Цвыркун, конік. *Цвыркýн завядзéцца ў дравáх, зялёны такí. Яны́ і па пóлю скáчуць. Цвыркýн на дварэ́. Прынясéш з драўмі, схувáецца: цвыр-цвыр.* Багданава. *Цвыркýн – даўгéі нóгі, зялёныя, два вóкі вірлавóкія.* Вялікі Азярэцк. *За пéчкай рáньшы былí цвыркуны́. Цвыркýн, у ягó тóжа мнóга нох. Ён сам цвярды́, чарвяк-сараканóшка. Цвыркýн – яны́ пры́гаюць тóжа па травé, зялёненькі. На барóдаўкі, штоб яны́ з'ідáлі.* Запруддзе. *Цыркýн у хáту як улéзіць, співáіць.* Запруддзе. *Цыркýн любíў бурадáўку вы́кусіць.* Серкуці, Рулёўшчына, Сукрэмна. *Упéрат жа цуркунóў у хáце дýжа буłó. Пішчáць за пéччу, аш пъ хáце адгалóскі ішлí.* Багданава.

**ЦВЫР-ЦВЫР** *выкл.* Перадача гукаў строкату цвыркуна. *Цвыркýн схувáецца – і цвыр-цвыр.* Багданава.

**ЦВЯРО́ЗЫ** *прым.* Цвярозы, не п'яны. *П'я́ны ці цвярóзы, ён асцерагáецца.* Жохава.

**ЦВЯТУ́ЧЫ, ЦВІТУ́ЧЫ, ЦВІТУ́ШЧЫ** *прым.* 1. Які мае кветкі. *Цвітýчая éта травá. Брушнíшнік – сáмы цвітýчы.* Каралевічы. *Цвітýшчы есь мак, як півóнь.* Розмыслава. 2. Які цвіце, пакрыты кветкамі. *Мак цвітýчы быў, яны́ дýмалі, што ён вы́спеў.* Запруддзе. *Бýльба ўся тъкáя цвітýчъя.* Каралевічы. 3. Квітнеючы (пра знешні выгляд). *Мъладáя, цвітýчая жэ́ншчына – сем рублéй не мáець.* Каралевічы. 4. Заможны, шчаслівы (пра жыццё). *Сáмая цвятýчая тагды́ былá жы́зня.* Каралевічы.

**ЦЕ́КЧЫ** *незак.* Цячы. *Хáта цéкчы ні цікла́, а так даўнó стаíць.* Цясішча.

**ЦЕ́ЛА** *н.* Цела. *Бýдта нéшта пóйдзіць хадзíць па цéлу, з калéн дáйжа і падóшвы.* Нямойта. ◊ НАБІРА́ЦЬ ЦЕ́ЛА. Паўнець, таўсцець. *Сóхнець чълавéк ці скацíна, ні набірáіць цéла, як сухóты.* Заазер'е. *Як даéш парасятам мя́са з гарбузá, яны́ цéла набірáюць бы́стра.* Партызаны.

**ЦЕЛАГРЭ́ЙКА** *ж.* Падшываная ватовая куртка; целагрэйка, ватоўка. *Хтó-та даў мне целагрэ́йку, я надзяю́ яé, старýю целагрэ́йку – непрыя́тнасць, слёзы* [пра сон]. Каралевічы.

**ЦЕ́ЛЕВА, ЦЕ́ЛІВА** *н.* Цяленне, ацёл. *А карóві да цéліва дзве нядзéлі.* Багданава. *Масціт завёўся паўмéсяца да цéлева. Як карóвы аддыхнýць перад цéлевам, ні знáю.* Партызаны.

**ЦЕЛЕГРА́М, ЦІЛІГРА́М** *ж.* Тэлеграма. *Ім целегрáм былá.* Багданава. *Ціліграм ямý былá.* Багданава[1].

**ЦЕЛЬ** *м.* Цяленне. *Перад цéлем не даём хлéба карóві.* Чуцькі.

**ЦЕ́ЛЬНАЯ, ЦЕ́ЛНАЯ, ЦЁЛЬНАЯ, ЦЁЛНАЯ** *прым.* Цельная (пра карову). *Цéльныя цёлкі былí і іх ні чыпáлі ваўкí, бо іх былó тут лóгава.* Багданава. *Цéльная карóва.* Парэчча. *Карóва цéлная, каб не ураклí.* Дуброўкі. *Цёлкі цёльныя ат удабрéнія аддóхлі.* Дуброўкі. *Былá цёлна, цёлку такýю расцяліла. Не былá цёлная карóва.* Алексінічы. *За цёлную* [карову] *давáлі чаты́рыста рублéй.* Кляпчэва.

**ЦЕ́МЛІВЫ** *прым.* Кемлівы, разумны. *Ён цéмлівы, разýмны, пáмятны.* Запруддзе.

**ЦЕНЬ** *м.* (?). Зацемак. *У нас цень у хáці.* Багданава.

**ЦЕПЛАТА́** *ж.* Цеплыня, цяпло. *Нет цеплаты́ сёлета.* Манголія. *Зімо́й цеплата́ стаіць, маро́з крэ́пка ні замаро́зіў зямлю́.* Партызаны. *Агурцы́ лю́бяць цеплату́.* Цясішча.

**ЦЕРАБІ́ЛАЎКА** *ж.* Машына для цераблення лёну, канапель; церабілка. *Церабі́лаўка вы́церабіць лён, пасце́люць – і атпраўля́юць лён на заво́д.* Сукрэмна.

**ЦЕРАБІ́ЦЦА** *незак.* 1. Ачышчацца, робячы частыя рухі. *Мъладзэ́я пчо́лы вы́вяліся, яны́ к со́нцу, к лёткам – і цярэ́бяцца.* Вялікі Азярэцк. 2. Абчышчаць пёры (пра курэй). *Ку́ры цярэ́бюцца – дождж бу́дзіць* (прыкмета). Гарадзец, Багданава, Дольдзева, Каралевічы.

**ЦЕРАБІ́ЦЬ** *незак.* 1. Прачышчаць лес, высякаць кусты. *Ля́ды церабі́лі, кусты́ высякалі.* Цясішча. 2. Чухаць, драпаць. *Мо́жа во́шы завяліся, не́шта цярэ́біш?* Міцюкова. *Кацяня́ты цярэ́бюць, мо там бло́хі.* Вялікі Азярэцк. 3. Есці з ахвотай. *Прые́дуць, цярэ́бюць, хай на здаро́ўе.* Станюкі. *Цяру́бюць мае́ дзе́ці до́бра, а я ўжо ні та́я.* Станюкі. *Дзе́ці цярэ́бюць гэ́ту ры́бу.* Багданава.

**ЦЕ́РАЗ**, **ЦЕ́РАС**, **ЦІ́РАЗ**, **ЦІ́РАС**, **ЦІ́РЫЗ**, **ЧА́РАЗ**, **ЧЭ́РАЗ**, **ЧЫ́РАЗ**, **ЧЫ́РЫС**, **ЧЭ́РЭЗ** *прыназ.* 1. Праз, цераз. *Цераз се́ні жыў брат.* Закур'е. *Церас дзве нядзе́лі і сва́дзьба.* Фасаўшчына. *Кіда́іць вяро́ўку церас стох, ста́ршый спуска́іцца.* Леснікова. *Цірас рэ́чку піра́йсці.* Кішуроўшчына. *Кіда́йця ціры́з згаро́ду!* Сянно. *Чараз во́зера е́дзем у лес. Бе́гла чараз гаро́д. Там чараз ву́ліцу дзед з ба́бай жыве́ць.* Багданава. *Чараз тры дні хлеб пяклі.* Фасаўшчына, Карпавічы, Ульянавічы. *Мы тады́ чэраз э́ты алёс.* Запруддзе. *З Пу́рпліва ў Ця́сішчы чыраз лес зъйшла́ за́муж.* Цясішча. *Чырыс ха́ту ха́ты нет* [пра вёску, з якой з'язджаюць людзі жыць у другое месца; у такой вёсцы застаецца шмат пустых хат]. Мянюцева. *Чэрэз забо́р кот пабе́г. Ку́рыцу тхор чэрэз ды́рку не змог вы́несці.* Партызаны. 2. З-за, праз. *Цераз яго́ і паме́рла.* Закур'е. 3. Праз, з дапамогай. *Сыідзіня́юцца луко́мскыя во́зіры ціраз рэ́чку Ру́дніца.* Пожанькі.

**ЦЕРАССЯДЗЕ́ЛЬНІК**, **ЧАРАССЯДЗЕ́ЛЬНІК** *м.* Частка збруі, якая падтрымлівае аглоблі на сядзёлцы; церассядзельнік, церассядзёлак. *Церассядзе́льнік на сядзёлцы: адзі́н кане́ц нъ адну́ аглъблю́, другі́ – на другу́ю аглъблю́. Пъццягні́ чъръссядзе́льнік.* Гарадок.

**ЦЕРУШЫ́ЦЬ** *незак.* Шамацець, бегаць. *Кры́сы па усі́х вугла́х церуша́ць.* Ульянавічы.

**ЦЕ́РЦІ** *незак.* 1. Шураваць, чысціць. *Ве́нікам падло́гу цёрлі, а ха́ту мялі́, падміта́ць на́да.* Вялікі Азярэцк. 2. Раздрабняць размінаючы. *У сту́пі мак це́рлі, у ка́шу сы́палі.* Гарадзец. *Палі́лі ячме́нь, цёрлі на муку́, у тра́пачку – і ў бяро́завы сок. Са́хару дабаўля́лі мале́нька – ён тады́ харо́шы.* 3. Высякаць агонь. *Яло́вую па́лку аб па́лку трэць – і аго́нь палуча́ецца.* Дольдзева. 4. Рабіць мякчэйшым. *Ні жані́ўся – тры пърця́нкі, ажані́ўся – тры пърця́нкі* [іранічны каламбур з дзеясловам *церці* і лічэбнікам *тры* на тэму цяжкай мужчынскай долі]. Каменшчына.

**ЦЕ́РЦІСЯ** *незак.* 1. Церціся адно аб адно. *На піскуно́ў* [на ўюноў] *як пасы́піш со́лі, то тру́цца адзі́н аб адзі́н і чушу́ю выціра́юць.* Сянно. 2. Ператварацца ў труху. *Яно́ ш ужо́* [сучча] *гніло́я, так яно́ і трэ́цца.* Заазер'е. 3. *перан.* Умінацца, з'ядацца. *Хлеб, соль трэ́цца, а го́сці гало́дные.* Каралевічы.

**ЦЕ́СНА** *прысл.* Цесна. *У нас хлеў ма́лы – г...! Це́сна.* Міцюкова.

**ЦЕ́СНЫ** *прым.* Шчыльна, блізка адзін ад аднаго размешчаны. *Це́сная яе́шня – некрасі́вая.* Вялікі Азярэцк.

# Ц

**ЦЕ́СТА** *н.* Цеста. *Це́ста раскалаці́ў, і пячы́ праснакі́.* Заазер'е, Фасаўшчына.

**ЦЕСЦЬ, ЦЕСЬ** *м.* Цесць. *Сця німа́ ў цябе́?* Леснікова. *Палане́іна дзяў́чонка ле́та ў майго́ цісця́ жыла́.* Рассвет. *Сядзі́ць у це́ся, гарэ́лку п'ець.* Жохава.

**ЦЕ́ЦЕРАЎ** *м.* Цецярук. *У́так бі́лі, цецераве́й, ра́пчыкаў.* Нямойта.

**ЦЕЦЯРУ́К, ЦЕЦЯРО́К** *м.* Тое ж. *Цецяру́к больш кала бало́та.* Розмыслава. *Аж чо́рна па жы́це – цецерукі там. Цецерукі́ цяпе́р не вяду́цца.* Дуброўкі. ◊ ЦІЦЯРУ́К (ЦЕЦЯРО́К) ГЛУХІ́. Чалавек, які кепска чуе. *Ціцяру́к ты глухі́! Стары́ – цецяро́к глухі́.* Багданава.

**ЦЕ́ШЧА, ЦЁШЧА** *ж.* Цешча. *Це́шча была́ стара́я.* Ульянавічы. *Майго́ сы́на цёшча забале́ла.* Багданава. *У цёшчы с хо́ду разры́ў се́рца.* Каралевічы.

□ *Це́шча длі саве́ту, жо́нка длі прыве́ту, а ро́дная ма́тка мі́лей усяго́ све́ту.* Леснікова. □ *Зяць на паро́х – це́шча (цёшча) за я́йца.* Міцюкова, Вялікі Азярэцк.

**ЦЕ́ШЧУЎ** *прым.* Цешчын. *У це́шчувуй ха́ці жыве́ць.* Чуцькі.

**ЦЁКАМ** *прысл.* Доўга, не ўстаючы. *Сеў цёкам – сядзі́ць на адны́м ме́сцы.* Марозаўка.

**ЦЁЛКА** *ж.* Цёлка, цялушка. *Цёлка – калі́ го́ду німа́.* Рулёўшчына, Алексінічы. *Цёлка ёсь, быў бычо́к.* Багданава. *Каро́вы і дзве цёлкі ў іх.* Ракаў Засценак. ЦЁЛАЧКА *ласк.* *Да́лі нам маладзе́нькую цёлачку.* Багданава.

**ЦЁЛНЫ** *прым.* Які характэрны для цельнай жывёлы (пра карову). *Цёлнае – салёнае малако́.* Жохава.

**ЦЁМНА** *прысл.* Цёмна. *І тут мне цёмна ў вача́х ста́ла, ня віджу нічо́га.* Леснікова. *Мне ўжо ў вача́х цёмна дзе́лаецца.* Нямойта. *Со́нца вы́ша ста́нець хадзі́ць – цёмна, як у ха́ту ўво́йдзеш.* Партызаны. ЦЕ́МНІНЬКА *памянш.-ласк.* *Мы шчэ спім, ён це́мнінька по́йдзіць.* Заазер'е. ◊ З ЦІМНА́ ДА ЦІМНА́. Увесь дзень, з раніцы да вечара (рабіць што-н.). *З цімна́ да цімна́ рабо́таюць.* Буй. ◊ АД (С) ЦЁМНА <І> ДА ЦЁМНА (ЦЁМНАГА). Тое ж. *Рабо́чы дзень ат цёмна да цёмна.* Серкуці. *А мы на рабо́це с цёмна і да цёмнага.* Заазер'е.

**ЦЁМНА-ГНЯДЫ́** *прым.* Цёмна-гняды (масць каня). *Цёмна-гняды́ конь.* Дольдзева.

**ЦЁМНА-КАРЫ́ЧЛЕВЫ, ЦЁМНА-КАРЫ́ШЛІВЫ** *прым.* Цёмна-карычневы. *З грэ́чкі мёт цёмна-кары́члевы.* Нямойта. *Вазьмі́ жале́за іржа́въга, альхо́вый кары́ і ўсё ра́зъм кіпяці́, і пъкра́сь што-не́будзь* [палатно]. *І яно́ здзе́лъіцца цёмна-кары́шлівъга ко́ліру, цве́ту.* Запруддзе.

**ЦЁМНА-КУ́БАВЫ** *прым.* Колер, падобны на сіні. *Цёмна-ку́бавы цвет, як бы сі́ні.* Запруддзе.

**ЦЁМНА-СЕ́РЫ** *прым.* Цёмна-шэры. *Жърабёнък све́тла-се́ры нъ другі́м гаду́ стано́віцца цёмна-се́ры.* Сянно.

**ЦЁМНЫ** *прым.* 1. Цёмны (пра колер). *Сві́нні* [ядомыя пласцінчатыя грыбы чорныя грузды] *– цёмныя, а грузды́ – бе́лыя.* Баравікі. *Ён цёмны ці ру́сы* [пра чалавека]. Леснікова. ЦЁМНЕНЬКІ *ласк.* *Вавёрка – жаўтля́вая і цёмненькія вало́сікі па ней прыкі́дваюцца.* Багданава. 2. *перан.* Непісьменны. *Цёмны наро́д, што бот.* Каралевічы. ◊ ДА ЦЁМНАГА. Да самага вечара, дапазна. *Сядзе́ць бу́ду да са́мага цёмнага, да са́мага ве́чара.* Леснікова. *Цяпе́р по́йдуць на рабо́ту: шэсць часо́ў – і пашлі́* [дадому]. *А даўне́й да цёмнага рабо́талі.* Нямойта.

**ЦЁНАМ** *прысл.* Працягла, не злазячы. *Сядзі́ць цёнъм, ні злізя́іць* [пра квактуху]. Каралевічы.

**ЦЁП** *выкл.* Ухапіць, схапіць. *Далёка не адстаўляіць руку, цёп – і муха ёсць.* Міцюкова.

**ЦЁПАЦЦА** *незак.* Цягацца, рабіць. *Вóсім гадóў у гразі цёпълься, рабóтъла.* Каралевічы.

**ЦЁПЛА** *прысл.* 1. Цёпла. *Цёпла, таму што хаты малыя. Ні пара, хай сабе, што цёпла – сваё ўрэмя на ўсё.* Нямойта. *Цёпла, як у бані. Цёпла, як на печы.* Серкуці. 2. Да высокай тэмпературы. *Масла разагрэла цёпла-цёпла.* Нямойта.

**ЦЁПЛЫ** *прым.* Цёплы. *Цёплъя ўрэмя станіць, то й цёпла нъстъяшча станіць* [так было раней з надвор'ем]. Цясішча, Запруддзе.

**ЦЁПНУЦЬ** *зак.* Жарнуць, пекануць. *Пътхаджу, а заіц сьпіць. Дык я яго пальчкуй цёпнуў, і ён ножкі выцігнуў.* Міцюкова.

**ЦЁП-ЦЁП** *выкл.* Хлопаць раз за разам. *Па плячу мяне цёп-цёп.* Нямойта.

**ЦЁРКА** *ж.* Цёрка, драчка. *Як картафляныя клёцкі робіш, на цёрку трэш бульбу, выціскаеш праз марлінку.* Багданава.

**ЦЁРЛА** *н.* Гліняная пасудзіна з ручкамі, у якой збіралі смятану, білі масла і інш. *Цёрла глінянае з ручачкай, смітану скідаюць.* Багданава.

**ЦЁРЛАЧКА** *ж.* 1. Цёрла. *У цёрлачцы скруціш масла ложкай дзеравяннай.* Каралевічы. *Цёрлачкі гліняныя тожа. Дзве ручкі. Масла калацілі, дзірвянныя лошкі былі.* Каралі. 2. Лыжка, якой білі масла. *Цёрлачкай масла білі.* Вялікі Азярэцк.

**ЦЁРЛІК** *м.* Цёрла. *Цёрлік гліняны. Купі, кажъць, матка, мне цёрлік смітану сабіраць.* Запруддзе, Савінічы. ЦЁРЛІЧАК *памянш.* *Раньшы білі масла ў цёрлічках. Длінныя, як кубарок, там лошкай б'еш. У цёрлічку ёсць беражкі.* Вялікі Азярэцк.

**ЦЁСЬ-ЦЁСЬ, ЦЁСЬ-ЦЁСЬ-ЦЯСЮ́** *выкл.* 1. Выгукі, якімі падклікаюць карову ці цялушку. *Карову ці цялушку падзываюць: цёсь-цёсь-цёсь.* Вялікі Азярэцк. *Як заву карову, то: цёсь-цёсь-цёсь.* Розмыслава. 2. Выгукі, якімі падганяюць ці заганяюць карову ці цялушку. *Цёсь-цёсь-цясю ў хлеў.* Фасаўшчына. *Цёсь-цёсь, Малышка, Малышка, ану дамоў!* Баравікова.

**ЦЁТАЧКА** *ж.* Ласкавы зварот да жанчыны. *Цётъчка, аткрыйця і ўпусціця ў хату.* Міцюкова.

**ЦЁТКА** *ж.* Цётка. *Ідзець мъя цётка.* Багданава.

**ЦІ** *часц.* Ці. *А вот ці знаеце?* Багданава. *А ці ты ні сыпуў курам ячмень?* Гарадок. *Ці ёсць што ў пісклят* [трэба пасыпаць проса]. Міцюкова. *Ці мае грошы ні такея, што мне тавару ні дасталося?* Нямойта. *Ці ш мне нада касіць?* Серкуці. *Ці до табе, Танічка?* Сянно.

**ЦІ** *злучн.* Ці, або. *Сумняваюся я: сказаць ці не?* Запруддзе. *Ці ты яе засаліць, ці ты яе пасушыць.* Нямойта.

**ЦІГА́ЦЦА** *незак.* 1. Працаваць, рабіць. *Такі дзет незаседлівы: робіў, цігаўся.* Багданава. *Тры інваліды на работу цігаюцца.* Буй. *Цігаліся і стаpанькія на работу.* Ульянавічы. 2. Раўняцца, спаборнічаць. *Во, табе цігацца з мъладымі.* Гарадзец.

**ЦІГА́ЦЬ** *незак.* 1. Насіць, прыносіць у вялікай колькасці. *Вёдрамі цігаюць ягады сёлета.* Апечкі. *Ваду нада цігаць, паліваць.* Багданава. 2. Цягнуць, араць. *Плуг пад ячмень цігалі – во як, бывала, жылі.* Леснікова. *Плуг цігалі ў калхозі, па дзесяць сотак аралі.* Цясішча. 3. Насіць (пра адзенне). *Сатчэш што і цігаіш.* Партызаны. 4. Удыхаць, уцягваць. *Еслі глотка сціснець, мамка бульбу спарыць. Дух к сабе цігаіш і цігаіш – і пройдзіць.* Запруддзе. ◊ ЦІГА́ЦЬ КАЛО́ТКУ. Праводзіць абрадавыя дзеянні ў дзень прысвятка Аўласа. *Нъ Улассі калотку цігалі – гуляюць так.* Партызаны.

# Ц

**ЦІГА́Ч** *м.* Цягач (пра машыну). *Сын рабо́таець на цігачы́.* Багданава.

**ЦІЖА́Р** *м.* Адчуванне знямогі, знясіленасці. *Рабо́талі, ціжа́ру ні было́.* Запруддзе.

**ЦІ́ЖМА** *ж.* Гушчар, зараснік. *Там цяпе́р ці́жма: крапі́ва, ажы́ны, а ле́су німа́.* Пожанькі.

**ЦІКАВА́ЦЬ** *незак.* Падсцерагаць, чакаць. *Парцізаны цікую́ць не́мцуў у куста́х.* Неўгадава.

**ЦІЛІ́КНУЦЬ** *зак.* Абазвацца гукамі, падобнымі на «ці-лі», «ці-лі» (пра птушак). *Пту́шка та́я, дзе ка́ліва, цілі́кніць.* Міцюкова.

**ЦІЛІФО́Н** *м.* Тэлефон. *Цілiфо́н мой ні звоніць це́перся* [даўно не працуе]. Парэчча.

**ЦІЛЯ́ТНЫ** *прым.* Цялячы. *У нас фе́рма цілятнъя.* Кішуроўшчына.

**ЦІМАФЕ́ЕЎКА, ЦІМАФЕ́ЯЎКА, ЦІМАХВЕ́ЕЎКА, ЦІМАХФЕ́ЕЎКА** *ж.* Цімафееўка, кармавая трава. *Адзін год усю́ цімафе́еўку краты́ стачы́лі. Пръдала́ цімафе́еўкі па паўтара́ рубля́ пуд.* Багданава. *Цяпе́р каро́ў ко́рмяць цімафе́еўкай, се́нам.* Багданава[1]. *Кле́вер ра́ньшэ се́ялі с цімафе́яўкай.* Запруддзе. *Цімахве́еўка – ні цве́ту, нічо́га.* Буй. *Жы́та, пшані́цу се́юць, кле́вір, цімахве́еўка: ско́ту мно́га.* Гарадзец. *Се́ілі кле́вір с цімахве́еўкай, звялі е́та.* Запруддзе. *Цімахве́еўку се́ялі, кле́вір.* Сукрэмна. *Цімахфе́еўка ды пад дажджо́м была́.* Багданава. ЦІМАФЕ́ЕЧКА *ласк.* *Цімафе́ечка каро́вам, каню́ лу́чшага се́на блюду́ць.* Багданава.

**ЦІМНАТА́** *ж.* Цемната, цемень. *Цімната́ іка́я.* Вялікі Азярэцк.

**ЦІ́НА** *ж.* Раска (расліна). *У вадзе́ ёсь ці́на, зялёныя ве́ткі, як ла́пкі мядзве́джыя, як у ёлачкі, мя́кінькія. Яе́ ду́жа гу́сі яду́ць.* Закур'е. *Ці́на – зялёная траві́чка. На кла́ткі націгалі ці́ны гэ́тай.* Багданава.

**ЦІП-ЦІП-ЦІП** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць курэй і куранят. *Ціп-ціп-ціп – і сы́плю што кура́м.* Розмыслава. *Ціп-ціп-ціп – так завём ціпляня́т.* Вялікі Азярэцк.

**ЦІРАБНУ́ЦЬ** *зак.* Моцна лінуць (пра дождж). *Як цірабну́ў лі́вень – страхо́цце.* Кавалі.

**ЦІРА́ЦЦА** *незак.* Губляцца, страчвацца. *Сі́ла цірáіцца скóра.* Леснікова.

**ЦІСА́ЦЬ** *незак.* Цясаць. *Як ціса́ў, быў тапаро́к мале́нькі.* Вялікі Азярэцк. *Ім* [спецыяльным інструментам – склюдам] *быстрэ́е шпа́лы ціса́ць: як ча́хнуў – і ўсё.* Жохава. *Ла́ты – як кры́шу кладу́ць, це́шуць такія па́лкі. Ла́ты ла́цяць.* Фасаўшчына.

**ЦІСКАНУ́ЦЬ** *зак.* 1. Моцна націснуць, надавіць. *Зладзе́і замо́к вы́вірнулі, цісканулі ло́мъм.* Заазер'е. 2. Заціснуць. *Каб цісканула у ку́чу? Не, я за во́дкай не хаджу́* [гаворка пра вялікія чэргі, у якіх стаялі людзі]. Нямойта.

**ЦІ́СКАЦЦА** *незак.* Ціскацца, штурхацца. *Кап не ціскаліся за яе́ – хай бы гарэ́лка была́.* Заазер'е.

**ЦІ́СКАЦЬ** *незак.* 1. Націскаць некалькі разоў. *І тады́ мя́са ці́скаіш, ці́скаіш, і яно́ ідзе́ць.* Багданава. 2. Абдымаць. *Ня клыч дзяцёнка! Во́зьмеш на ру́кі ды ці́скаіш.* Заазер'е.

**ЦІСКІ́** *толькі мн.* Прыстасаванне для выціскання алею; прэс. *Мяшо́к у ціскі́ – бяжы́ць але́й.* Запруддзе.

**ЦІСНАТА́** *ж.* Цесната. *Цісната́ тут. Хо́чыць хъзя́ін калідо́р бо́льшы здзе́лаць, укругаву́ю.* Нямойта.

**ЦІ́СНУЦЦА** *незак.* 1. Лезці, уціскацца. *Дзе со́ўнейка, туды́ піскліня́ты ці́снуцца. Іна́ ўсё ў кусты́ ці́сніцца.* Запруддзе. *Наро́ду – аж на сталы́ ці́снуцца лю́дзі.* Марозаўка. *Вераб'і ці́снуцца ўсю́дых.* Партызаны. *Ба́бы ці́снуцца ў во́чарадзь.* Неўгадава. 2. Прысутнічаць, захопліваць. *А чаго́ на́шы ці́снуцца* [у Афганістан],

*чагó лéзуць тудьí?* Запруддзе. 3. Пладзіцца, нараджацца ў вялікай колькасці. *Цяпéр цíснуцца смаля́нкі – прыпáдкі іх не вóзьмуць.* Буй. 4. Выязджаць. *Усé ў гарадьí цíснуцца.* Неўгадава.

**ЦІ́СНУЦЬ** *незак.* Вымешваць, мяць (пра цеста). *Цíсніш бáпку, а інá расцéць* [пра печыва]. Серкуці. ЦІСЬ, ЦІСЬК. 1. Націскаць неаднаразова. *І тадьí пáльцам ціськ, ціськ, і пашлá па той кішчэ́* [пра тое, як начынялі мясам хатнюю каўбасу]. 2. Моцна націснуць. *Я цісь – прыцíснала лáдна кóшку.* Багданава.

**ЦІ́СНУЦЬ** *незак.* 1. Здабываць, гнаць. *Алéй сáмі цíснулі.* Станюкі. *Цíснулі съмагóнку.* Станюкі. 2. Прымушаць. *Цíснуць у калхóз.* Партызаны. 3. Павялічвацца, узмацняцца (пра мароз). *Марóзы цíснулі. Удзéнь пячэ́ць, унóчы.* Партызаны. 4. Кусаць, шчыпаць (пра мароз). *Марóс, ні цíсні за нос.* Гарадзец.

**ЦІ́ТАЎКА, ЦІ́ТУЎКА** *ж.* Сорт яблыкаў. *Цíтаўкі къла чатырóх сартóў було́.* Пожанькі. *У нас ёсь я́блыкі: бéлый наліў, шыфрáн, пéпін, антóнаўка, цíтаўка.* Самсоны. *Цíтуўка – я́блыня квóлъя, марóзу баíцца.* Закур'е.

**ЦІЎРУ́КАЦЬ** *незак.* Падаваць голас (пра жаўранка). *Жáўранка шэ́ранька ціўру́каіць.* Міцюкова.

**ЦІФ** *м.* Тыф. *Два разьí цíфам балéла.* Жохава.

**ЦІФІ́Р** *м.* Зефір. *Цифíру купілі – як крухмáл, бувáла, смáшны быў.* Чуцькі.

**ЦІ́ХА** *прысл.* 1. Ціха, спакойна. *Я спаць ні хацéў, було́ цíха-цíха* [да трох гадзін ночы]. *Як ёсць, абьí цíха.* Станюкі, Алексінічы. 2. Павольна, не хутка. *Хóдзіць цíха на къвілáх.* Багданава.

**ЦІ́ХІ** *прым.* Ціхі, спакойны. *Мáлец цíхі, харóшы.* Запруддзе. *Карóва цíхая, пад ёй кладзíся.* Запруддзе.

**ЦІХО́НЯ** *агульн.* Ціхоня. *Цíхóня такí.* Гарадзец.

**ЦІЦІВІ́НА, ЦІЦІ́ВІНА, ЦІСІВІ́НА** *ж.* Бульбоўнік. *Па бу́льбі бярóз[с]ка* [трава] *такáя ўéцца, як абаўéцца вакóл ціцівíны, нéяк атарвáць ад ціцівíны.* Багданава. *Пат ціцівíнай стóлькі мнóга бу́льбы – нáтта умалóтная.* Запруддзе. *Як ціцівíна бальшэ́я, ат жукóў нямá спасу́.* Каралі. *Ціцівíну бу́льбы вьíрвала с картóшкай і з зямлёй.* Розмыслава, Партызаны. *На аднóй цісівíне па тры-чатьíры жукí.* Сукрэмна. ЦІЦІВІ́НКА *памянш.* *На аднэ́й ціцівíнцы тóлькі былí жукí. На дзвюх ціцівíнках жукí.* Алексінічы. *Страсу́ ціцівíнку, і папáдаюць жукí крáсныя.* Запруддзе.

**ЦІ́ША, ЦІ́ШЦЯ, ЦІ́ШЫЦЯ, ЦІ́ШЫЧЫ** *прысл.* Ціха, цішэй; як загад захоўваць цішыню, маўчаць. *Цíша, сабáчча мя́та тут расцéць. Цíша, цíша! Прыéдзеш дамóў, з табóй разбярýцца.* Запруддзе. *Цíшця, бáбы, éта пъдасíнувік!* Вялікі Азярэцк. *Цíшыця, цíшыця! Зáраз скажу́.* Міцюкова. *Цíшычы, ён не здох* [пра ката]. Багданава.

**ЦІ́ШКА** *прысл.* Тое ж. *Цíшка, стару́хі!* Каралевічы.

**ЦІШКО́М** *прысл.* Цішком, употайкі. *Цішкóм ку́рыць тóлькі дзет. Усё цішкóм нáда было́ дзéлаць.* Багданава. *Украдзéцца ку́рыца цішкóм, вадьí папіць у сáжълцы.* Каралевічы.

**ЦІШЭ́Й** *прысл.* 1. Цішэй, спакайней (пра стан прыроды). *Сёліта хоць цішэ́й было́.* Запруддзе. 2. Больш спакойны, ураўнаважаны (пра чалавека). *Чым цішэ́й чалавéк, тым лу́чшы.* Нямойта. *У тáнцах былá пéрвая, а пóтым усё цішэ́й і цішэ́й стáла.* Партызаны.

**ЦМЫ́ХАЦЬ** *незак.* Танцаваць, скакаць. *Цмьíхалі пóльку-бáбачку.* Партызаны.

**ЦО́КАЦЬ** *незак.* Бегаць палюючы. *Цо́каіць, цо́каіць* [ласка] – *і мышэ́й ня ста́ла.* Мянюцева.

**ЦО́КНУЦЬ** *зак.* Цмокнуць, гучна пацалаваць. *У лоп цо́кнуў яе́, пъцълъва́ў.* Нямойта. ЦОК. Цмокаць, цалаваць. *Прые́дзіць няве́стка – цок-цок, у шчаку́, у лоб.* Каралевічы.

**ЦО́ПНУЦЬ** *зак.* Сперці, украсці. *Дзіргаганы́ цо́пнулі гро́шы ў ка́жънуй дзярэ́ўні.* Неўгадава. ЦОП. Рэзка ўдарыць. *Ён паўлі́тра цоп аб нагу́!* [і корак выпаў]. Пожанькі.

**ЦУБУ́К** *м.* Сцябло, цыбук. *Дзе віда́ць цубукі́, там рві́це.* Каралевічы.

**ЦУ́ҐЛІ** *мн.*, **ЦУ́ГІЛ** *м.* Цуглі. *Цу́глі ў рот каню́.* Манголія. *Цу́глі – яны́ з мета́ла здзе́ланы.* Гарадзец. *Цу́гіл здзе́ржые къня́, каб ня пу́дзіўсі.* Самсоны.

**ЦУ́КАР** *м.* Цукар. *Цу́кър быў куска́мі, на сла́дасць быў лу́ччы.* Алексінічы. *Цу́кър ра́ньшы зва́ўся.* Нямойта. *Ра́ньшы зва́лі цу́кар і са́хар пясо́шны і кускавы́.* Партызаны.

**ЦУКЕ́РКІ** *мн.* Лекавая трава. *Кра́скі ё – цуке́ркі – трува́ така́я.* Гарадок.

**ЦУ́КРЫ** *мн.* Цукеркі. *Цу́кры прывёс с Сенна́.* Рудніца.

**ЦУЛУВА́ЦЦА** *незак.* Цалавацца. *Сало́ткъя Лука́ – гэ́та пры́звішча* [назва ўрочышча]*: мо́жа хто цулува́ўся там.* Рассвет.

**ЦУЛУВА́ЦЬ, ЦАЛАВА́ЦЬ** *незак.* Цалаваць. *Е́слі мушчы́на цалу́ець ва сне́ – харашо́, а е́слі жанчы́на – пло́ха* (павер'е). Каралевічы. *Цулува́лі мяне́ ўжо, цулува́лі.* Серкуці.

**ЦУ́ПКА** *ж.* Цыбук, быліна. *Кле́вір як усо́хня, то цу́пкі астану́цца* [а лісце абатрэцца пры зграбанні]. Гарадок.

**ЦУПУ́РАЧКІ** *толькі мн.* Тоўстыя драўляныя калодачкі, падстаўкі. *Хлеб у пе́чы ста́іць нъ цупу́ръчкъх, віёо́кінька, на клянёвых ліста́х.* Чуцькі. ◊ НА ЦУПУ́РАЧКАХ. Сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках. *Сяджу́ ў бало́ці на цупу́рачках.* Леснікова.

**ЦУРБА́Н, ЦУРУБА́Н** *м.* 1. Тоўстае і кароткае палена; цурбак, цурбалак. *Цурба́н – е́та па́лка атрэ́жыцца.* Нямойта. *У лясу́ цурбаны́, такія, таўсты́я.* Гарадок. *Для сту́пы цуруба́н зрэ́зън у ме́тър.* Заазер'е. 2. Пра фізічна здаровага, дужага чалавека. *Ён крэ́пкі, ляжы́ць, як цурба́н.* Запруддзе. 3. *эмац.-ацэн.* Пра нямоглага, паралізаванага чалавека. *Як цурба́н: і мо́ва адняла́ся, і ру́кі, і но́гі.* Вялікі Азярэцк.

**ЦУ́РКА** *ж.* Нічуць, нікольки. *Хле́ба цу́ркі ні было́. Хадзі́лі па по́лі, збіра́лі бу́льбінкі* [пра тое, які быў голад пасля вайны]. Ракаў Засценак.

**ЦУРКО́М** *прысл.* Цурком, струменем. *Въда́ цячэ́ цурко́м ззаду па плячах.* Розмыслава.

**ЦУРЧЭ́ЦЬ** *незак.* Цурчэць, струменіць, ліць. *Цурчы́ць с кры́шы, са страхі́.* Серкуці. *Каро́ву ссуць лягу́шкі. Убіва́юць лягу́шкі – малако́ з іх цурчы́ць.* Запруддзе.

**ЦУ́РЫЦЬ** *незак.* Тое ж. *Вада́ во цу́рыць.* Заазер'е.

**ЦЫБУ́ЛІНА** *ж.* Цыбуліна. *Цыбу́лінай, со́ллю, кмі́нам выціра́юць дзе́жку.* Запруддзе. *Цыбу́ліна харо́шая не́шта вяць ста́ла.* Нямойта. ЦЫБУ́ЛІНКА *памянш.-ласк. Цыбу́лінку ра́зъм укі́ніш – і таўчо́м.* Ульянавічы.

**ЦЫБУ́ЛЬНІК, ЦУБУ́ЛЬНІК** *м.* Блін з дабаўленнем цыбулі. *У сярэ́дзіне ў бліна́х цубу́ля – цубу́льнікі зва́лісь. У це́ста размі́шаюць цубу́лю, ну і цыбу́льнікі.* Фасаўшчына.

**ЦЫБУ́ЛЯ** *ж.* Цыбуля. *Цыбу́лю на ліха́х со́дзім.* Гарадзец. *Кала кусто́ў нільзя́ цыбу́лю садзі́ць.* Запруддзе, Серкуці, Ульянавічы, Фасаўшчына, Чуцькі, Закур'е.

ЦЫБУ́ЛЬКА *памянш.-ласк. Я ў грыбы́ цыбу́лькі, ма́сла дъба́ўлю, і ў тарэ́лкі і нъ сталы́* [на вяселлі]. Сяргейкі.

**ЦЫБУ́ЧЫНА** *ж.* Зяленіва. *Атарву́ яку́ю цыбу́чыну, бульбо́ўніну аблуплю́.* Запруддзе.

**ЦЫГА́Н, ЦАГА́Н** *м.* Цыган. □ *За адно́ ле́та цыга́н (цага́н) дзве зімы́ аддА́сць.* Запруддзе.

**ЦЫГА́НКА** *ж.* Сорт яблыкаў. *Цыга́нка – аш сінія, пляцёнкуй вісе́лі.* Пожанькі.

**ЦЫГА́РКА** *ж.* Цыгарка, самакрутка. *Другу́ю цыга́рку ве́рцяць.* Ульянавічы.

**ЦЫ́ГАЦЬ** *незак.* З цяжкасцю прыжывацца, узыходзіць. *Сучко́м прыжыва́юцца. Цы́гаў, цы́гаў – і прыжы́ўся. Ста́лі лісто́чкі выхадзі́ць.* Міцюкова.

**ЦЫ́ГАЦЬ** *незак.* Пішчаць, прасіць есці. *Ціпля́ты лётаюць, цы́гаюць.* Ульянавічы, Партызаны.

**ЦЫМЯНТО́ВЫ** *прым.* 1. Цэментны. *Пол там цымянто́вы.* Багданава. 2. *перан.* Надзвычай цяжкі. *Я цымянто́вая ста́ла: падыма́ць мяне́ не было́ каму́.* Жохава.

**ЦЫНБА́ЛЫ** *толькі мн.* Цымбалы. *На цынба́лах гра́лі.* Закур'е.

**ЦЫНДА́ЛІ** *мн.* Сандалі. *Віцька, ты ў цында́лях?* Запруддзе.

**ЦЫНТА́ЎРА** *ж.* Лекавая расліна з ярка-ружовымі кветкамі; цвінтарэй. *Цынта́ўра ад жывата́. Як нато́піш – го́ркая.* Багданава. *Ёсць на сухіх мясці́нах высо́кая тра́ўка, ро́завыя цвяты́ – цынта́ўра, як пад грудзьмі́ балі́ць.* Каралевічы. *Ро́завая цынта́ўра ад жалу́дка, на Пілі́паўшчыне расцёць.* Партызаны. *Цынта́ўру рва́лі, пілі лю́дзі, хто ад чаго́.* Рэчкі.

**ЦЫНТРАМО́Н** *м.* Цытрамон (лекавы сродак). *Цынтрамо́н п'юць ад галавы́.* Кляпчэва.

**ЦЫ́ПКІ** *толькі мн.* Дробныя трэшчыны, шурпатасць і чырвань на руках і нагах ад ветру і вады; цыпкі. *Цы́пкі – як памо́чацца но́гі, як пашчапа́юцца но́гі.* Баравікі. *Цы́пак панаго́нюць у но́гі вясно́й, абы́ снег сышо́ў.* Багданава. *Цы́пак пънаго́ніш нъ нъга́х нъ расе́.* Дольдзева. *Цы́пкі на нага́х ма́жуць ікро́й люга́шкі.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Сукрэмна, Цясішча. *Цы́пкі пападзе́лаіш. Як памо́чыш, то ме́стачка німа́.* Неўгадава.

**ЦЫПЛЁНАК, ЦАПЛЁНАК, ЦЯПЛЁНАК** *м.*, **ЦЫПЛЯ́ТЫ, ЦІПЛЯ́ТЫ** *мн.* Кураня. *Тры цаплёнкі. Ко́лькі табе́ на́да? До, ба́ба!* Ульянавічы. *Чатыры цяплёнкі забі́ў.* Партызаны. *Варо́ны, саро́кі цыпля́т хвата́юць.* Розмыслава. *У мі́ску ім рашкі́ вары́ў ціпля́там, і яны́ бягу́ць.* Жохава. *До́ма ціпля́там накрашу́, а кабану́ два ра́зы даю́.* Партызаны. ЦІПЛЯ́ТКІ *памянш.-ласк. Схадзі ты ціпля́ткам дай, памані́ іх.* Міцюкова.

**ЦЫПЛЯ́ТНІЦА** *ж.* Квактуха, якая мае куранят. *Цыпля́тніца там была́ з ціпля́тамі.* Міцюкова.

**ЦЫ́РКАЦЬ** *незак.* Цвыркаць. *Цыркуны́, як пъпаду́цца ў ха́ту, то цы́ркъюць за пе́ччуй.* Сукрэмна. *Цырку́н цы́ркаіць, а ў ха́ці німа́, даўне́й жа ў ха́ці былі́.* Рулёўшчына.

**ЦЫ́РКЕЛЬ, ЦІ́РКЕЛЬ, ЦЫ́РКЫЛЬ** *м.* Цыркуль. *Было́ ў нас фуга́н, бъра́н з дзвумя́ ру́чкамі, абцугі́, рuба́нъчък, цы́ркель.* Багданава. *Дзе́шкі дзе́лалі, цы́ркель быў.* Міцюкова. *Ці́ркель, трыуго́льнік, наўго́льнік – усё ма́юць.* Марозаўка. *У бо́ндъра быў цы́ркыль дно выръза́ць.* Жохава.

**ЦЫЎ́КАЦЬ** *незак.* Ціўкаць (пра кураня). *Цыў́къіць цаплёнък.* Каралевічы.

# Ц

**ЦЭ́БАР, ЦЭБР, ЦЫ́БАР** *м.* 1. Шырокая круглая драўляная пасудзіна з клёпак з двума вушкамі; цэбар. *Цэ́бры з вуша́мі былі́.* Запруддзе. *Цэ́бър – е́та для са́ла, і я́шчык то́жа.* Запруддзе. *Цэ́бар зва́лі і ша́йка. Цэ́бар дзе́лалі длі запа́ркі мякі́ны* [жывёле]. Фасаўшчына. *А тады́ ш ра́ньшы цэ́бры былі́ – каро́вам э́та по́йла вынасі́лі. Я вы́несла с свекрывёй цэ́бар, каро́ву напаі́лі.* Заазер'е. *Для запа́ркі мякі́ны каро́вам – цэ́бър.* Манголія. *У цэ́бар мо́рквы, бурако́ў – абсту́пім, наядзі́мся. І цэ́бар, і бо́чку, і хто што пашы́е – усі́м търгъва́лі.* Гарадзец. *У цэ́бър насе́іш по́пілу і зъпа́ріш і ў том лугу́ сціра́іш.* Гарадок, Алексінічы, Багданава, Буй, Леснікова, Нямойта. *Цэбр называ́ўся, што каро́ў по́юць. Два ву́хі, ако́ўвалі абруча́мі, абру́ч замыка́ецца замко́м.* Жохава. ЦАБЭ́РАК, ЦЭ́БАРЧЫК *памянш.* *Цабэ́рак дзірвя́нны с клёпък, з вуша́мі – каро́ву кармі́ць.* Сянно. *Laха́нка – е́та такі́ цэ́барчык, вaду́ куды́ зліва́юць.* Фасаўшчына. 2. Вядро з бляхі (?). *Во такі́я цыбары́ былі́.* Запруддзе.

**ЦЭ́ГЛА, ЦЭ́ҐЛА** *ж.* Цэгла. *Ра́ньшы гъвары́лі: плъха́я цэ́гла. Пры мне ге́та ні гъвары́лъся.* Гарадзец. *Цаґе́льня – цэ́ґлу дзе́лалі.* Багданава.

**ЦЭД, ЦЭТ** *м.* Вадкая частка з працэджанага аўсянага кісялю; цэд. *Як працэ́дзіш аўся́ны кісе́ль – цэд астае́цца. Цэт – жы́жка з аўса́.* Гарадзец. *Дзягно́ вары́лі с кънапе́ль. Цэт бе́лінькі, як мълако́.* Багданава.

**ЦЭ́ЛЫ, ЦЭЛ** *прым.* 1. Цэлы, не пашкоджаны. *Зве́рху цэ́лая, а ў сярэ́дзіні згніла́ у дзе́раві.* Багданава. *Ха́та астала́ся цэ́ла шчэ.* Нямойта. 2. Поўны, у вялікай колькасці. *Дзе́ці былі́, цэ́лая дзярэ́ўня была́ дзяце́й.* Фасаўшчына. *Калі́ нало́вюць цэ́ла вядро́ ры́бы, а калі́ пяць штук уло́вюць.* Гарадзец. 3. Жывы, здаровы. *Я цэ́л бу́ду, чаго́ ты валну́ешся.* Алексінічы. *Чаго́ ты расстра́івасся, цэл бу́дзіш.* Нямойта.

**ЦЭЛЬ** *ж.* Мера таўшчыні бервяна ў дэцыметрах. *Цэль нъ ха́ці – усё пъ два́ццъць сънцімі́етруў.* Міцюкова.

**ЦЭ́ЛЬНЫ, ЦЭ́ЛНЫ** *прым.* 1. Поўны. *Цэ́лны цэ́бар натаска́ем – і мы́ем* [мылі ў вадзе з лугам]. Закур'е, Баравікі, Каралі. 2. Увесь. *Цэ́льны блакно́т спіса́лі.* Вялікі Азярэцк.

**ЦЭ́ННЫ** *прым.* 1. Добрасумленны, шчыры. *Мужы́к быў цэ́нны, харо́шы.* Нямойта. 2. Пародзісты. *Э́та саба́ка цэ́нная.* Нямойта. 3. Высокакаштоўны. *Ма́ташнае малако́ ёсць, цэ́ннае о́чынь, збіра́ць тру́дна.* Нямойта.

**ЦЭ́НТРА** *ж.* Цэнтральная частка горада. *Сын жыве́ць у Маскве́, нъ са́мъй цэ́нтры.* Марозаўка.

**ЦЭНЦУ́БЕЛЬ** *м.* Цяслярскі інструмент. Гарадзец.

**ЦЭП** *м.* Ручная прылада для малацьбы; цэп. *Цэп – па́лка тъка́я, кру́глінькая, цапі́лна было́, ръмушкі́, кру́глая па́лка.* Каралі. *Малаці́лі цапа́мі удваі́х, у тры́ цапы́, у чаты́ры.* Гарадзец. *Пасце́люць рад ячме́ню на таку́ і цэпа́мі памало́цюць.* Ракаў Засценак, Багданава, Вялікі Азярэцк, Дольдзева, Заазер'е, Карпавічы, Нямойта. ◊ ляжа́ць ЯК ЦАПЫ́. Нерухома (ляжаць). *Як цапы́ пат пло́там ляжа́ць. Яны́ як цапы́ ліжа́ць, і стуле́шнікі ліжа́ць.* Багданава.

**ЦЭП** *м.* Ланцуг. *Цэп крэ́пкі – не сарве́цца* [пра сабаку]. Фасаўшчына.

**ЦЭ́ПАЧКА** *ж.* Ланцужок (пра выраб). *Цэ́пачка срэ́бная на шы́і.* Каралі.

**ЦЭ́ПКІ** *прым.* Учэпісты. *Дзядо́ўнік цэ́пкі такі́, стары́, ле́ташні.* Фасаўшчына.

**ЦЭ́ЎКА** *ж.* Прыстасаванне ў выглядзе трубачкі, на якое навіваюцца ніткі і якое ўстаўляецца ў чаўнок пры тканні; цэўка. *Тру́бачка тъка́я з дзі́рачкамі – цэ́ўка.* Кляпчэва. *Цэ́ўкі ў чаўно́к, ччэш – пълатно́ выхо́дзіць. Цэ́ўкі больш ча́сці з лі́пы:*

*пáрыш, нарэ́жаш. Як рáньшы ткáлі крóсны, дзéлалі цэ́ўкі, а на цэ́ўкі намáтывалі ніткі.* Леснікова. *Цэ́ўкі сýчыш у чаўнóк.* Багданава, Карпавічы, Серкуці. *Цэ́ўкі ў чалóнак пракíдваюць.* Закур'е.

**ЦЮК** *м.* Сноп. *Цюкí малацíлі цэпáмі.* Розмыслава. ЦЮЧÓК *памянш. Цючóк завя́жуць с калóсся, закрýцяць к зямлé, перакýляцца цераз гълавý.* Нямойта.

**ЦЮЛЬ-ЦЮЛЬ-ЦЮЛЬ** *выкл.* Перадача гукаў спеву салаўя. *Сълавéй, ён на нéскалька гъласóў у маíм балóце стáнець пець: цюль-цюль-цюль.* Розмыслава.

**ЦЮ́ПКІ** *мн.* Ежа з квасу, накрышаных кусочкаў хлеба і цыбулі, з дабаўленнем солі. *Цю́пак нараблю́.* Багданава. *Расóлу з буракóў наллéць, падсóліць, цубýлі, хлéба – цю́пкі такéя éлі.* Гарадзец.

**ЦЮРАЧКÓМ** *прысл.* Цурком. *Кап-кап – і пъшлá цюръчкóм.* Дольдзева.

**ЦЮ́РЛА** *агульн. эмац.-ацэн.* Чалавек з шырокім тварам. Пожанькі.

**ЦЮРНЯ́** *ж.* Пацяруха, труха. *На цюрню́ пацёрлъся усё. Унутры́ цюрня́, тъкáя цюрня́, што пацёртае такóё.* Гарадзец.

**ЦЮ-РУ-РУ-РУ** *выкл.* Перадача гукаў спеву жаваранка. *Жáўранак малéнькая бýдзіць у вóздухе круцíцца: цю-ру-ру-ру.* Нямойта.

**ЦЮРУХÁ** *ж.* Пацяруха, труха. *Цюрухá астаéцца, калí малóціш.* Нямойта.

**ЦЮХЛЯ́К** *м.* Матрац. *Па двá цюхлякí на кóжнъм лóжку.* Закур'е.

**ЦЮХ-ЦЮХ-ЦЮХ** *выкл.* Перадача гукаў гудзення, зумкання пчалінай маткі. *Аднá мáтка ках-ках-ках, другáя – цюх-цюх-цюх.* Кляпчэва.

**ЦЯ́ГА** *ж.* Цяга, праходжанне паветра праз дымаход. *Німá цягí, дым ня йдзець.* Багданава. *Ця́га харóшая, дым ідзéць прáма ў кóмін.* Станюкі.

**ЦЯ́ГА** *ж.* Дзяга, рэмень. *Вазьмý цягу ды как дам табé!* Савінічы.

**ЦЯ́ГАМ** *прысл.* Пастаянна, увесь час. *Як прыéдуць дзéці – ця́гам дзвéры адчы́нены.* Запруддзе.

**ЦЯГÁЦЦА, ЦІГÁЦЦА** *незак.* 1. Цягацца, гультаяваць. *Рабóтаць ня хóчыць, цягáіцца па дъмáх, блатня́к-бáба.* Багданава. *А дзе твае́ дзéці, чагó ты цігáісся, чагó ты хóдзіш?* Марозаўка. *Цягáіцца на трáктары, с кабíны пакýль нéхта не вы́цягніць.* Міцюкова. 2. Хадзіць. *Мы рáзам цягáліся па валачóбніках.* Партызаны.

**ЦЯГÁЦЬ, ЦІГÁЦЬ** *незак.* 1. Насіць нешта цяжкае. *Вадý ш цігáць нільзя́ пóслі апірáцыі. З вóзера цягáлі вадý.* Закур'е. 2. Цягнуць, араць. *Шэсць чалавéк бап, сёмы – за плýгам, цягáем плух.* Леснікова. *Цігáлі плух, гарóды апсівáлі. Аднá пáшыць, а чэ́цьвіра* [жанчын] *ця́гнуць.* Рэчкі. 3. Валачы, вазіць. *Цігáць кóпны пъслáў брыгадзíр.* Леснікова. 4. Перасоўваць, перацягваць. *Ты больш з'еў, я мéней з'еў: давáй э́ту міску цігáць па сталý.* Багданава. 5. Прымусова адпраўляць. *А тады́ ў Бéліцу цігáлі на рабóту.* Станюкі.

**ЦЯГБІ́ТЫ** *прым.* Гнуткі, падатлівы. *Вя́ззя гнýлі з ісянíны, інá цягбíтъя.* Гарадзец.

**ЦЯГНІ́НА** *ж.* Цяганіна. *Цягнíна былá б з гэ́тым.* Запруддзе.

**ЦЯГНУ́ЦЦА** *незак.* 1. Цягнуцца, павялічвацца ў даўжыню. *І таўкачóм патаўкýць, пакýль янó цягнýцца стáніць, éта цéста, і ў камы́ качáюць.* Марозаўка. 2. Адбывацца. *Знáеце, ні так ця́шка былó, янó і цягнýлася. Я самá, бывáла, прыдý с рабóты са шкóлы і пъшлá бýльбу къпáць. І сто карзíнак яшчэ́ нъкъпáю.* Фасаўшчына.

**ЦЯГНУ́ЦЬ** *незак.* 1. Валачы. *Схвацíліся ўтрох за мяне́ ды ця́гнуць.* Нямойта. 2. Араць. *Ён* [конь] *ужó ні ця́гніць, бяссíльны* [калі пашуць]. Вялікі Азярэцк. 3. Нагнаць (пра дождж). *Цягнýла, цягнýла і апя́ць пацягніць дош.* Запруддзе.

**ЦЯ́ГУ** *прысл.* Бягом, наўцёкі. *Я ця́гу скарэ́й, плато́к на галаву́ і уціклá. Як мáлец гармóнік сціснуў, я ця́гу з хáты.* Партызаны.

**ЦЯГУ́ЧЫ** *прым.* Цягавіты, вынослівы. *Цягу́чые гэ́тые стáрые. Цягу́чыя стары́я, дóўга жыву́ць.* Ульянавічы.

**ЦЯЖА́РНАЯ** *прым.* Цяжарная. *Цяжáрная жанчы́на што прóсіць, ёй аткá-жаш – мы́шы штось ссяку́ць* (павер'е). Вялікі Азярэцк.

**ЦЯ́ЖКА, ЦЯ́ШКА** *прысл.* 1. Пра прыкладанне фізічнай сілы. *Бу́ду такóй – ця́шка будзéць падня́ць, як памру́.* Нямойта. 2. Нязручна. *Прагнáў двайны́ пра-кóс – злéва і спрáва, і ягó ръзбівáць ця́жка.* Леснікова. 3. Пра фізічную працу, клопат. *Ця́шка карóву дзіржáць.* Баравікі. 4. Павольна, марудна. *Цішкáя зямля́ – ця́жка усхадзíла ўсё.* Вялікі Азярэцк. 5. Доўга, без актыўнага браджэння. *Гэ́ты хлеп ця́шка хадзíць.* Багданава. 6. Пра наяўнасць вялікай працы, турбот. *Ця́шка гъдъвáць дзяцéй.* Запруддзе. 7. Пакутліва, балюча. *Ця́шка ўспамінáць вайну́.* Марозаўка. 8. Пра пачуццё болю, адчуванне немачы. *Як ця́жка стáнець на грудзя́х ат прасту́ды, п'юць саснóвыя шы́шкі.* Партызаны.

**ЦЯ́ЖКІ, ЦЯЖКІ́, ЦЯ́ШКІ, ЦЯШКІ́** *прым.* 1. Цяжкі, які многа важыць. *Паддзéўка ця́жкая.* Нямойта. *Цяжкóе ніштó падня́ць не магу́: ды́ханне займáе.* Розмыслава. *Што э́та ляжы́ць цяшкóё на пéчы? А гэ́та снърáт.* Серкуці, Запруддзе. 2. Грузны, поўны. *Ужó ш стáръя, цішкáя.* Алексінічы. 3. Хваравіты (пра дыханне). *Ды́ханне цяшкóе.* Серкуці. 4. Непасільны, складаны (пра службу). *У Кóлі ў ракéтных слу́жба ця́шкая.* Запруддзе. 5. Цвёрды, недастаткова рыхлы (пра глебу). *Мóжа зямля́ ціжкáя, памідóры ця́жка ўсхóдзяць.* Вялікі Азярэцк.

**ЦЯЖО́ЛА** *прысл.* Цяжка, складана. *Цяжóла жыць на адну́ зарплáту.* Апечкі. *Цяжóла, бу́ла вся́ка, пéнсію малéнькую пълучáю.* Вялікі Азярэцк. *Во былó цяжóла жыць, а цяпéр ўсё гатóвінькае, мя́кінькае.* Нямойта. *Карóву цяжóла дзіржáць.* Рэчкі.

**ЦЯЖО́ЛАСЦЬ** *ж.* Цяжар, складанасці, нягоды. *Па лісáх бéгалі, цяжóласць былá.* Буй.

**ЦЯЖО́ЛЫ** *прым.* 1. Цяжкі, важкі. *Éта цяжóлая, а гэ́та карзíна лёгенька.* Багданава. *Су́мка цяжóлая бу́дзіць, і не бярэ́ць я́йкі.* Жохава. 2. Звязаны з вялікай колькасцю працы, нягодамі; турботны. *Бувáлашняя жысь ду́жа цяжóлая. Бувáлашняя жы́зня інціраснéй.* Галашчакіна.

**ЦЯЖО́Р** *ж.* Надзвычай вялікі клопат, цяжкасць. *Цяжóр якáя табé зрабíць.* Нямойта.

**ЦЯЖЭ́ЛІ** *прысл.* Больш цяжкі, з большай вагой. *За дуп рабíна ні цяжэ́лі.* Запруддзе.

**ЦЯ́ЖЭСЦЬ** *ж.* Цяжкасць, турботы. *Весялóсць на дзень, а ця́жэсць на век* [пра жаніцьбу]. Каралевічы.

**ЦЯЙ** *выкл.* Вокліч пры перадачы здзіўлення; ай, авой. *Цяй! Ну, як білізíнъм хто аблíў. Кры́ша былá сълъмя́нъя.* Міцюкова.

**ЦЯКУ́Н, ЦІКУ́Н** *м.* Мак-самасей. *Цяку́н – éта мак, які́ пъстаíць і скóра высыпáіцца.* Гарадок. *Цяку́н-мак нáда, катóры расцéць сам.* Запруддзе. *Увóсень, як не спрáвяцца сарвáць, – ціку́н.* Дольдзева. *Ціку́н – дрóбненькі мак. Па калóдзісях мак сы́палі. У тры калóдзісі мáку э́тага цікунá пънясём і сы́пім, кап дош ішóў.* Заазер'е. *Ціку́н – мак сéялі. Лáдак намакáеш, лу́чшэ éлі, чым са смятáнай.* Леснікова, Розмыслава. ЦІКУНО́К *ласк.* *Цікунóк – мак дрóбненькі.* Заазер'е.

**ЦЯКУ́Н** *м.* Дробны пясок. *Такі́ пясóк, цяку́н, мáлінькі, як пыл.* Кляпчэва.

**ЦЯКУ́ЧЫ** *прым.* Цякучы (пра ваду). *Вада́ бы́стра цяку́чая. Я ў цяку́чую ваду́ къшалёк ураніла. Цяку́чая вада́ – і атнясло́ кашалёшак.* Нямойта.

**ЦЯЛЕ́ГА** *ж.* Калёсы. *У цяле́гу каня́ запрагаю.* Дольдзева.

**ЦЯЛЕ́ШКІ** *толькі мн.* Пярэдняя частка калёс (вось і два колы). *Цяле́шкі ў калёсах.* Гарадзец.

**ЦЯЛЁНАК** *м.* Цяля. *Цялёнък – бычо́к ці цёлачка.* Рассвет. *Цёлка ці бычо́к нарадзіўся – цялёнък ды і ўсё.* Багданава. *Цялёнак пат каро́вай не́шта ні сасе́ць, забале́ў.* Гарадзец, Гарадок. *С се́на цялёнак, ме́ншы пасля гуме́нніка, с сало́мы – бо́льшы.* Хамінічы. *Каро́ва шо́стым цялёнкъм, ста́ра.* Неўгадава. ЦЯЛЁНАЧАК *памянш.-ласк. Цялёначак худзе́нькі быў сёлетні.* Партызаны.

**ЦЯЛЁП** *выкл.* Шлёпаць, шлёпнуць. *А тады́ цялёп-цялёп – двоя па бало́ці ідуць.* Леснікова.

**ЦЯЛЁПАЦЦА**, **ЦЯЛЁПКАЦЦА** *незак.* 1. З цяжкасцю ісці, брысці па балоце. *Цялёпаісі па калёна ў бало́ці. Разу́ессі і па бало́ці па калёні ў вадзе́ цялёпаісся.* Партызаны. *Цялёпкаліся па пу́за каро́вы ў гразі́.* Латыгаль. 2. Корпацца, марудна рабіць. *Даку́ль вы тут бу́дзіце цялёпкацца?* Латыгаль.

**ЦЯЛІ́ЦЦА**, **ЦІЛЯ́ЦЦА** *зак. і незак.* Ацяліцца і цяліцца. *Цялі́лься каро́ва, скора ме́сіц. Не́ціль – э́та като́рая пакры́лася і не цялі́лася, це́льная, перваце́лка.* Дольдзева. *Каро́ва цялі́цца далжна́ дня́мі.* Запруддзе. *Чаты́ры ра́зы каро́ва цялі́лася.* Латыгаль. *Каро́ва цялі́лася ніда́ўна.* Нямойта. *Як бу́дзіць усё харашо́, то це́ліцца.* Станюкі. *Каро́ва ціля́еццa пло́ха – я пайду́ і памагу́.* Каралевічы.

**ЦЯЛО́К** *м.* Цяля. *Гэ́дак цялку́ къла́ціць куле́ш* [гаворка пра прыгатаванне корму для цяляці]. Запруддзе.

**ЦЯЛУ́ШКА** *ж.* Цялушка. *Цялу́шка – гот, а так – цялёнък.* Вялікі Азярэцк. *Была́ цялу́шка і каро́ва. Цялу́шка шчъта́іцца, як ле́та і зі́му прагаду́іш.* Неўгадава. *Цялу́шка – паку́да ні це́ліцца, а пато́м каро́ва заву́ць.* Запруддзе, Дольдзева, Заазер'е, Савінічы.

**ЦЯЛЬПУ́К** *м.* 1. Цурбан, калодка. *Атрэ́зан цяльпу́к, ся́дзіць нъ яго́ і ве́ілкуй ве́іць дабро́.* Цясішча. 2. *эмац.-ацэн.* Пра нязграбнага, непаваротлівага чалавека. *Цяльпу́к – като́ры непаваро́тлівы.* Багданава.

**ЦЯЛЮ́Х-ЦЯЛЮ́Х** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць цяля. *Цялю́х-цялю́х – для цялёнка.* Хамінічы.

**ЦЯЛЯ́**, **ЦІЛЯ́** *н.*, **ЦІЛЯ́ТЫ** *мн.* Цяля. *Ле́ташнік – цяля́ про́шлага го́да.* Карпавічы. *Малы́я ціля́ты і бальшы́я.* Багданава. *Трохгадо́вых ціля́т глядзе́ла, і усё уручну́ю.* Партызаны. *Стая́ць у хле́ві ціля́ты гало́дные.* Цясішча. *Ціля́т-пуюно́ў глядзе́ў, на фе́рме рабо́таў.* Жохава.

□ *Ла́скавае ціля́ (цяля́тка) двух ма́тък пассе́ць (сасе́ць).* Каралевічы, Запруддзе.

**ЦЯЛЯ́ЦІНА** *ж.* Мяса цяляці. *С цялёнку – цяля́ціна.* Багданава, Вялікі Азярэцк.

**ЦЯ́МКІ**, **ЦЯ́МКІЙ** *прым.* Цямкі, кемлівы. *Ця́мкі чалаве́к мълады́.* Партызаны. *Не́мый сміка́ліст быў, ця́мкій быў, што ўба́чыць, усё здзе́лъіць.* Самсоны. *Ду́жа ця́мкі ма́лец.* Закур'е.

**ЦЯМНЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш цёмны (пра колер). *Пъдзялёнкі цямне́йшыя, гразне́йшыя грыбы́, як сурае́жы.* Вялікі Азярэцк.

**ЦЯМНЕ́ЦЦА** *незак.* Цямнець. *Цёмна дзе́лаецца – цямне́яцца.* Алексінічы. *Цямне́ецца, я баюся іцці на го́рат.* Нямойта.

**ЦЯМНЕ́ЦЬ** *незак.* Тое ж. *Ста́ніць цямне́ць, упацёмкъх ня здзе́лъіш.* Сянно.

# Ц

**ЦЯНЁК** *м.* Цянёк, халадок. *У цяньку́ ні пасядзіш – ве́цер.* Манголія.

**ЦЯПА́** *ж.* Матыка з зубамі і без зубоў. *Ця́пы на тры зубы і ця́пы спла́шныя.* Сукрэмна.

**ЦЯ́ПАЦЬ, ЦА́ПАЦЬ** *незак.* Матычыць, капанічыць. *Ца́пкай ца́паім зямлю́.* Міцюкова. *Ця́пкай ця́пую ка́жыннага дня.* Запруддзе.

**ЦЯПЕ́Р, ЦЯПЕ́РА, ЦІПЕ́Р, ТАПЕ́Р** *прысл.* Цяпер. *Цяпе́р лю́дзі мно́га ле́хчэ рабо́таюць, бо міханіза́цыя.* Гарадзец. *Каро́ва была́, а цяпе́р – ко́зы.* Міцюкова. *Цяпе́р усё ёсь, а тады́ ш ні было́.* Нямойта. *Цяпе́р жа лацве́й. Во я ў ха́ці запаліла, а ў хляве́ свет гары́ць.* Неўгадава. *Цяпе́ра ёсць сын, з а́рміі прыйшо́ў.* Запруддзе. *Клі́чкі былі ко́ням, ё і цяпе́ра.* Мянюцева. *Вавё́ркі былі пъ ліса́х, і цяпе́ра ёсь.* Нямойта. *Як німа́ ллянóга се́мя, і цяпе́ра, і й бува́ла я́йцы разаб'ём, вып'іць і пірьста́ніць пано́с.* Чуцькі, Багданава. *Ціпе́р завём напё́рстык.* Турава. *А тапе́р іх нігдзе́ ні віда́ць. Тапе́р ей атка́зваюць но́гі.* Дуброўкі.

**ЦЯПЕ́РАКА, ЦЯПЕ́РКА** *прысл.* Тое ж. *Цяпе́рька я ні хадзіла ў грыбы́, я хадзіла тады́, як на мі́сці нарэ́жыш.* Карпавічы. *Цяпе́рка ду́жа ця́шка, як дзет жыў, до́бра было́.* Кішуроўшчына, Партызаны. *А цяпе́рка ідзі.* Закур'е.

**ЦЯПЕ́РАЦЬКА, ЦЯПЕ́РАЦЬКІ** *прысл.* Тое ж. *Цяпе́рацька ні хо́чуць рабо́таць.* Дольдзева. *Цяпе́рацька то́лькі шчыт то́піць.* Запруддзе. *Цяпе́рацька адвучы́лася, за́муж зьйшла́.* Партызаны, Багданава, Нямойта, Ракаў Засценак, Цясішча. *Цяпе́рацька усе́ пля́шуць.* Неўгадава. *Я́шчыкі для са́ла кру́глыя, цяпе́рацькі – прадаўгава́тыя.* Марозаўка. *Цяпе́рацькі і жалу́дак стаў бале́ць, і пе́чань.* Розмыслава. *Цяпе́рацькі па дзярэ́ўні паўро́дуюць* [нешта разбураць, паламаюць; гаворка пра ноч на Івана Купалу], *казла́ паўзно́сяць на кры́шу.* Чуцькі.

**ЦЯПЕ́РАШНІ** *прым.* 1. Які адбываецца цяпер, у гэты час. *Све́жую бу́льбу яшчэ́ ні кьпа́ю ў цяпе́ръшняе ўрэ́мя.* Каралевічы. *Ране́й лю́дзі рабо́талі у підзіся́т рас лу́чшы, чым у цяпе́рашняя ўрэ́мя, патаму́ што зна́лі – э́та маё, а цяпе́р – на́ша.* Фасаўшчына. 2. Сучасны. *Цяпе́рашні чълаве́к ці бу́дзіць так рабо́таць.* Серкуці.

**ЦЯПЕ́РСЯ, ЦЕ́ПЕРСЯ, ЦЕ́ПІРСЯ** *прысл.* Даўно, вельмі даўно. *Цяпе́рся гэ́та было́.* Латыгаль. *Цілі́фо́н мой ні зво́ніць це́перся.* Парэчча. *Це́пірся ўжо адзі́н жыву́.* Кавалі. *Я ўжо забы́лься – гэ́та ш це́пірся было́.* Чуцькі.

**ЦЯ́ПКА** *ж.* 1. Лыч у парасяці. *Ця́пка ў парасё́нка заве́цца. У ця́пку парасё́нка праліва́ецца въда́, ад пу́ду праліва́ла, як заб'ём парасё́нка.* Багданава. *У кьба́нчыка лыч, ні́жняя – ця́пка.* Вялікі Азярэцк. 2. Ніжняя ці верхняя губа ў каня. *Конь зълазу́іць, у яго́ пад ні́жняй ця́пкъй гной цячэ́ць.* Самсоны. 3. *эмац.-ацэн.* Ніжняя сківаца ў чалавека. *Цяу́къла, ні шау́кьй ця́пкьй!* Запруддзе. *Яна́ каць* [кажа]: *«Ма́ма, я пастау́лю зуп. – Ні́ма за што зачапі́ць, ця́пку усю вы́рваць, паднябе́нне ўстаўля́ць».* Партызаны. *Кап яго́ паве́сілі пьт ця́пку!* (праклён). Савінічы.

**ЦЯ́ПКА, ЦА́ПКА** *ж.* Матыка з зубамі і без зубоў. *Ця́пка – ця́паць ле́хі. Адзі́н кане́ц з зубца́мі, а другі́ – во́стры, сплашны́.* Запруддзе. *Ца́пкай палю́.* Кішуроўшчына, Міцюкова.

**ЦЯПЛЕ́Й** *прысл.* Цяплейшы. *Сълъмя́нныя кры́ша цяпле́й, чым шы́хвір.* Багданава.

**ЦЯПЛЕ́ЙШЫ** *прым.* Тое ж. *Ваɗы́ прыняслá ў ха́ту, усё-ткі цяпле́йшы дух тут.* Леснікова.

**ЦЯПЛО́** *н.* 1. Агонь, прылады асвятлення. *Во як пра́сці, тады́ цяпло́ вы́круцім, капці́лачка то́лькі ма́ленькая.* Заазер'е. *Я цяпло́ не палі́ла яшчэ́.* Закур'е.

2. Вогнішча, касцёр. *Як коні пасцілі, то цяпло ръскладуць. Коні пасець, цяпло ръскла́ў і храсты пъпаліў.* Багданава. *Хадзілі коні, цяпло было разложъна.* Ракаў Засценак. *Там ужо і цяпло гарыць.* Серкуці. 3. Цёплае надвор'е. *Німа цяпла цяпер ніколі.* Вялікі Азярэцк. *Пятух нап'ецца – к цяплу* (прыкмета). Міцюкова. 4. Электрычнае святло. *Май месяц ціпла не гасіла, калыхала, малаком паіла* [пляменніка]. Цясішча.

**ЦЯРПЕ́ННЕ** *н.* Цярпенне. *Новае стругаць – у мяне цярпення ні хваціла п.* Парэчча.

**ЦЯРПЕ́ЦЦА** *незак.* Пра немагчымасць цярпець, трываць. *Ні цярпіцца, каб скарэй ехаць.* Буй.

**ЦЯРТУ́ХА** *ж.* Перацёртая салома. *Кулявэй саломы цяпер німа. Цёртая ўся, цяртуха.* Запруддзе.

**ЦЯСЁМКА** *ж.* Матуз, завязка ў фартуху. *Завяскі ў фартуху, цясёмкі.* Каралі.

**ЦЯСЛА́, ЦІЛСА́, ЦІСЛА́** *ж.* Цяслярская прылада з паўкруглым лязом для выдзёўбвання карыт, начовак і пад.; цясла. *Ступу – выдаўбълі цяслой ямку, выпалівълі гърашчым жаръм.* Заазер'е. *Цілсой і скобляй начоўкі дзелаў.* Кляпчэва. *Цісла былі – начоўкі дзелаць.* Савінічы. *Цісла – выдзяўбоўваць карыты, каромыслы. Біс цяслы ні сдзелыіш.* Жохава. *Цісла – карыты дзелаць свіням, выдзяўбывалі.* Марозаўка. *Цісла – што начоўкі, пъланкі дзелаюць.* Фасаўшчына. *Там цісла нада, як начаўкі дзелаеш.* Савінічы.

**ЦЯСЛО́** *н.* Тое ж. *Цясло – къмягі выдзяўбъвъць.* Каралевічы.

**ЦЯСЬБА́** *ж.* Частка збруі – пояс – для ўмацавання сядла, падсядзёлка на спіне каня. *Гета патпруга з цясьбы.* Гарадзец.

**ЦЯСЮ́ТКА** *ж.* Ласкавая падзыўная назва для каровы. *«Цясютка мая», – заве яна карову, кап тая ішла ў фортку.* Вялікі Азярэцк. *Карову завём: цясютка, цясютка, і ідзець дамоў.* Жохава. *Цясютка, цясютка, цёсь-цёсь, хадзі ў хлеў.* Розмыслава.

**ЦЯЎ-ЦЯЎ** *выкл.* Перадача гукаў парыпвання мялкі. *Мяліцай – цяў-цяў. Цяўкаіць.* Гарадзец.

**ЦЯЦЕ́РА** *ж.* Цецярук, цяцерка. *Цяцеры, як куры, шэрыя.* Баравікі. ◊ ГЛУХА́Я ЦЯЦЕ́РА. Чалавек, які кепска чуе. *Ішлі маліц і дзеўка. Пъсярот вуліцы лужа. Маліц кааць: «Дувай перанясу». Ён нясець, а йна нешта яму шэпчыць. А маліц быў глухей, ні разбіраіць. Дзеўка яму кааць: «Глухая цяцера», а ён ей: «Што? Любіш цяпера?»* (жарт). Сянно.

**ЦЯЦЕ́РА** *ж.* Ядомы грыб. *Цяцеры салоткія, не чарвівыя.* Неўгадава.

**ЦЯЦЕ́РКА** *ж.* Цецярук, цяцерка. *Цяцерка, што мыш бяжыць, адвядзець далёка.* Ульянавічы.

**ЦЯЦІ́ЎЕ, ЦЯЦІ́ЎЯ** *н. зб.* Бульбоўнік. *Бульба – харошае цяціўе.* Серкуці. *Цяціўя гэта раньшы сушылі.* Кішуроўшчына. *Цяціўе дужа было харошая, а тады шчарнела. Німа бульбы. Пачарнела ўсё цяціўе.* Запруддзе. *Цяціўя бульбы ў пояс, доўга цвіцела* [ад угнаення]. Неўгадава. *У нас цяціўя, а ў Мъгълёві – націна.* Алексінічы.

**ЦЯЧЫ́, ЦЕЧ** *незак.* 1. Працякаць. *Лотка цячэць, згніла.* Багданава. *Стала цеч і струхла крыша.* Леснікова. 2. Сачыцца, збягаць. *У кажнюю саломінку цячэць сок.* Багданава. 3. Сцякаць. *Гразь цячэць па локцям – і ў малако.* Запруддзе.

**ЦЯ́ШКАСЦЬ** *ж.* Складанасць, нязручнасць. *У чым была цяшкасць: ні было падручнікаў, ні было бумагі.* Фасаўшчына.

**ЧАГÓ**, **ЧААГÓ**, **ЧÁ** *займ.* Чаму. *Чагó мъя́ бýльба ні цвіціць?* Заазер'е. *Чаагó ты, сынóк, злáзіш з кóйкі?* Запруддзе. *Чá йнá пъя́віцца?* Савінічы.

**ЧАБАРЭ́Ц**, **ЧАБРЭ́Ц**, **ЧАБЯРЭ́Ц** *м.* Чабор (расліна). *Пáхніць чабарэ́ц. Як бýдзеш піць чабарэ́ц, мнóга бýдзеш спаць.* Парэчча. *Чабрэ́ц – зáпъх такí.* Вялікі Азярэцк. *Чабярэ́ц – пахýчая травá.* Буй.

**ЧАБÓР**, **ЧÓМБАР**, **ЧАМБÓР**, **ЧÁМБАР**, **ЧÓНБАР** *м.* Тое ж. *Чабóр у чай ірвý.* Гарадзец. *Чабóру дзед прывёз карзíнку, зверабóю і мя́ты.* Міцюкова. *Чабóрам запáрвалі гърлачы́, бóчкі. Мерцвякóм пáхніць, каля клáдбішчаў, каля кýпінак расцéць.* Нямойта. *Чабóр ірвáлі ат прастýды.* Рэчкі, Серкуці. *Гърля́нка нъпадóбіе чóмбъра.* Кішуроўшчына. *У нас гърлачы́ чóмбъръм пáруць.* Дольдзева, Багданава, Вялікі Азярэцк, Заазер'е, Каралі, Нямойта. *Чамбóр пахýчы, душы́сты.* Парэчча. *Чáмбар па пóлі расцéць, па кýп'ях, кубары́ глíняныя запáрваюць ім.* Запруддзе, Кішуроўшчына. *Чóнбар расцéць па аблóгах, дзе кýпінкі, мурáшкі натóчуць, для чáю сýшуць.* Каралі. *Чóнбар па кýп'ях у паля́х расцéць.* Багданава. ЧАБАРÓК *памянш.-ласк. Чабаркý зъвары́ла ў чáйнічку.* Багданава. *Чабарóк па гарýшачках – як у грудзёх залóжыць – п'юць.* Каралевічы.

**ЧАВÓХАЦЬ** *незак.* Цяжка, з намаганнямі хадзіць па гразкім, вязкім месцы. *Чавóхаеш па пóлі і бýльбу сабірáеш.* Баравікі.

**ЧÁГА** *ж.* Грыб у форме капыта, які паразітуе на дрэвах; чага, гу́ба. *Чáга, кáжуць, ат рáка ўрóдзі.* Багданава.

**ЧАД** *м.* Чад. *Чад – калí сáла як жáрыш, мóжыш разліць у пéчы, а тады́ закладзéш, то чад.* Багданава.

**ЧАЙ** *м.* Чай, гарбата. *Чóмбар – дóбрая травá, чай п'юць з ёй.* Фасаўшчына. *Чóнбар у чай мóжна.* Багданава.

**ЧÁЙКА** *ж.* Чайка (птушка). *Азярны́я чáйкі, нідáўна яны́ прышлí.* Багданава. *Чáйкі летáюць, бéлыя такíя, раскрычáцца на лýжы.* Цясішча. *Чáйкі ад Лýкамля прылятáюць.* Буй, Вялікі Азярэцк, Закур'е.

**ЧÁЙКА** *ж.* Кнігаўка (птушка). *Чáйкі па пóлю ёсь: кігí-кігí* [крычыць]. Сянно.

**ЧАЙНÁЯ** *ж.* Чайная, карчма. *Гíля Мáузер дзіржáў чайнýю.* Ульянавічы.

**ЧÁКАЦЬ** *незак.* Неяк трываць. *Яшчэ́ трóху здарóўе чáкала, а цяпéр і бýлкі ёсць, а éсці ня хóчацца. Так, дзéткі маé, і чáкаю.* Цясішча.

**ЧАЛАВÉК** *м.* 1. Чалавек, асоба. *Калí нармáльны чалавéк, то сабé цаны́-мéры ні знáець.* Буй, Каралевічы, Партызаны. 2. Мужчына. *Там ёсці ваш чълавéк, ён падзéржыць рáмку.* Запруддзе.

**ЧАЛАВÉЧА** *м.* Пачцівы зварот да чалавека. *Вы знáіця, чълавéча, яны́ і кýрыцы ні гадýюць.* Багданава.

**ЧÁЛАСЦЬ** *ж.* Сівы з белым (масць каня). *Чáлъсць тъкáя – сíвы з бéлым бывáіць у кóні.* Сянно.

**ЧАЛÉСІНА** *ж.* Уваход у печ; чалеснікі. *Чалéсіна – увахóд у печ.* Чуцькі.

**ЧАЛÉСНІК**, **ЧАЛЁШНІК** *м.*, **ЧАЛÉСНІКІ**, **ЧАЛЁШНІКІ** *мн.* 1. Уваход у печ; чалеснікі. *Пакýль высахніць* [печ новая]. *Чалéснікі ў пéчы, паднябéнне. Дым жа нáда кап прахадзíў. Калí ня бýдзець чалéснікаў, дым жа на хáту пóйдзіць.* Багданава. *Ні ў чалéснік дым ішóў, ў кірпíчча ішóў. Я стýкнула вíлкамі ў чалéснік – і кірпічы́на вывалілася.* Багданава. *Штоб табé так былó чóрна, як чóрна ў чалéсніку!* (праклён). *Пайшлá к загнéту, сагнýла – і к чалéсніку. «Малáхавіч, Малáхавіч!» – завéць.* Міцюкова, Неўгадава. 2. Звод, скляпенне (у печы). *Чалёшнікі*

*ў пéчы. Янь́і звéрху. І крýглыя і квадрáтныя, больш крýглыя.* Фасаўшчына. 3. Прыпечак. *Жар вы́гарнеш у чалéшнікі.* Чуцькі, Гарадзец. *У чалéсніку стаіць ядá.* Рэчкі.

**ЧАЛÓ** *н.* Лепшае, адборнае зерне. *Чалó на сéмя і сабé есь було́.* Гарадзец. *Даéць бáпка кърабéц яéц. / Інá ш іх ні бярэ́ць і чалóм ні аддаéць. / Дълá бáпка крáсну карóўку. / Інá ш карóўку ўзілá і чалóм аддалá* (з песні). Багданава.

**ЧАЛÓНАК** *м.* Чаўнок. *Панажы́, дзе нъгáм прыціскáеш, дзе зеў быў, пракíдваеш чалóнак. Цэ́ўкі ў чалóнак пракíдваць.* Дуброўкі.

**ЧÁЛЫ** *прым.* Сівы з дамешкай іншага колеру (масць каня); дэрашаваты. *Чáлы – сівы з рыжым, смесь.* Сянно.

**ЧАМЎ** *прысл.* Чаму. *Чамў ж ні знáіць? Сéнненская дзéўчына.* Партызаны.

**ЧАМЯРЫ́ЦА, ЧЭМЯРЫ́ЦА, ЧЫМЯРЫ́ЦА** *ж.* 1. Чамярыца (расліна з лекавымі ўласцівасцямі). *Чамяры́цы даюць, пóсная мáсла, як карóву абадзьмéць. Чэмяры́цу даюць, пóснае мáсла залівáюць, як карóву абдýець.* Гарадзец, Багданава, Самсоны. 2. Хвароба жывата ў коней. *Чымяры́ца – трувá й хварóба.* Самсоны.

**ЧАПÁЦЦА, ЧАПЛЯ́ЦЦА** *незак.* 1. Чапляцца, вешацца на што-н. *Бърънá чъпáлься вярóўкай* [за ворчык], *чъпáецца адзін канéц к плýгу.* Гарадзец. *Чапáецца атвéс на вярóвачку, шнýрам атаб'éць рóўненька.* Дольдзева. *За ніці чапáюцца два пънажы́. Нагóй аднý праціснеш* [нітку], *пракíнеш, пракíнеш чаўнóк.* Леснікова. *Чапля́юцца, бярýцца за спадніцу сучкі. У сучкáх, чыстацéле, купáлі дзяцéй.* Мянюцева. 2. *перан.* Наставаць, надыходзіць следам. *Дзень за дзень чапáецца, і врэ́мя бяжы́ць.* Баравікі. 3. *перан.* Нанізвацца, адбывацца. *Аднó за аднó чъпáіцца, зáрьз ръскажý.* Ульянавічы.

**ЧАПÁЦЬ** *незак.* 1. Чапляць, вешаць на што-н. *Гэ́та крýчкі, вёдры чапáюць.* Баравікі. *Званóчак чъпáлі, як на вясéлле éхалі, ды не адзін. Чапáюць вóсім пар.* Гарадзец. *Званóк чапáлі на дугý.* Леснікова. *Арэ́лі чапáлі, калыхáліся на Мáслянку.* Цясішча. 2. Чапляцца, заблытвацца. *Лужóк рóўненькі, нідзé тваé нóжкі не чапáець.* Баравікі.

**ЧАПÁЦЬ** *незак.* 1. Браць, дакранацца да чаго-н. *Ні чапáй завушніцы, а то за іх заб'юць.* Нямойта. 2. Кранаць, непакоіць. *Я ні чапáю нікóга.* Багданава. *Нáдъбны чълавéк быў і фýтър. Ягó ні чъпáлі.* Пожанькі. 3. Заляцацца, праяўляць павышаную цікавасць. *Ні нáда чапáць дзéўку, калі ні хóчаш з ей быць.* Запруддзе. 4. Нападаць, кідацца. *Ваўкі дýжа людзéй ні чапáюць.* Багданава. *Събáка наш ні чъпáіць нікóга.* Марозаўка.

**ЧÁПАЦЬ** *незак.* Мадзець, трываць. *Дзет трóху чáпаіць.* Багданава.

**ЧАПÉЦ** *м.* Чапец, каптур. *Хýсткі насілі, чапцы́ насілі, як шáпъчка, крýгленькі, бéленькі.* Гарадзец. *Свякрóўка чапéц надзéніць з бры́жыкамі з палатнá.* Закур'е.

**ЧАПІЦЦА, ЧАПÉЦЦА** *незак.* 1. *перан.* Імкнуцца выкарыстаць усё магчымае. *Жывóм мы, стары́я, во чэ́пімся яшчэ́ за жыццё.* Фасаўшчына. 2. Жыць, мадзець, трываць. *І так ні вéдаю, як чапéссі яшчэ́.* Багданава. *Пакá трóху чаплюся памалéньку.* Партызаны. *Да хазяіна нéшта шчэ чáпілася, аднóй цяжóла жыць.* Цясішча.

**ЧÁПКАЦЬ** *незак.* Шастаць. *Бърані бог, кры́сы – і там чáпкаюць, і там чáпкаюць.* Ульянавічы.

**ЧÁПЛЯ** *ж.* 1. Чапля (птушка). *У балóці чáпля і па пóлю хóдзіць.* Багданава. 2. *эмац.-ацэн.* Пра высокага чалавека. *Дóўгая ты чáпля – на высóкага чалавéка кáжуць.* Сукрэмна.

**ЧАПУШЫ́ЦЬ** *незак.* Плявузгаць. *Што ты чапушы́ш?* Турава.

**ЧАПЯЛА́, ЧАПІЛА́** *ж.* Чапяла. *Чапяла́ – скавaро́ду брать.* Неўгадава. *Чапяло́й як уда́рыць!* Закур'е. *Чъпіла́ – вынімáюць скъварóду.* Запруддзе. *У къчарэ́жніку і чъпялá, і вілкі, і къчаргá.* Багданава.

**ЧАПЯЛЬНІ́К, ЧАПЯ́ЛЬНІК** *м.* 1. Ручка (дзяржанне) у чапяле. *Чапя́льнік.* Багданава, Дуброўкі. 2. Месца ў куце каля печы, дзе знаходзяцца печныя прылады. *Чапяльні́к – вілкі у кýце.* Дуброўкі.

**ЧАРАВА́ЦЬ, ЧАРУВА́ЦЬ, ЧУРУВА́ЦЬ, ЧЫРУВА́ЦЬ** *незак.* Чараваць, варажыць. *Хто-нібýдзь чарýіць, то іна́ прыўрацíцца ў лягýшку. Е́та хто чарува́ць умéіць. Ягó зачурувáлі. Катóра старýха чарýіць, інá пъдашлéць лягýшку. А лáпку атсячы́ – і тáя бáба кульгáць бýдзіць, ці ўпáдзець, ці паб'éць нагý.* Гарадзец. *Жанчы́ну, што янá вот чарýіць, ці мълакó адбірáіць ці што дзéлаіць. Ці янá чараўнíца ці не?* Самсоны. *У нас быў Сілівéй. Чъръвáў крэ́пка.* Заазер'е. *Бáба знáяць, чарýець. Чамý ты дзяцéй не чаравáла, што хвóрыя твае́ дзéці. Умéюць чыруваць, зъгавóр нéйкі умéюць дзéлаць.* Запруддзе. *Лю́дзі ўмéлі чъръвáць.* Каралевічы. *Чараўнікí былí. І на скот чурувáлі.* Багданава.

**ЧАРАВІ́КІ** *мн.* Чаравікі. *На нóгі чъравíкі надзівáлі.* Буй. *Чаравíк з нагí кíнеш чараз варóты з дварá. Наскóм у які бок ля́жыць, тудá і зáмуж пóйдзеш.* Міцюкова.

**ЧАРАДА́** *ж.* Чарга. *Чърадá падышлá да ўмірáй.* Багданава.

**ЧАРАДА́** *ж.* Ваўчкі (лекавая расліна). *Купáлі ў чарадзé, ад залатýхі пóмач былá.* Баравікі.

**ЧАРАДАВА́ЦЦА** *незак.* Чаргавацца. *У мінé так чърадýецца харашó.* Рэчкі.

**ЧАРАДЗЕ́Й** *м.* Чараўнік, варажбіт. *Рáньшы чърадзéі былí, чъръвáць умéлі.* Дольдзева. *Былó чарадзéяў! А цяпéр не чувáць.* Леснікова.

**ЧАРАДЗЕ́ЙСТВА** *н.* Чараўніцтва, вядзьмарства. *Бывáла, чарадзéйства мнóга былó.* Нямойта.

**ЧАРАНО́ЧАК** *м.* Невялікі кубак (?), чарачка (?). *З чаранóчкаў п'éць.* Ульянавічы.

**ЧАРАПА́ШКА** *м.* Чарапашка (клоп раслінаедны). *Чарапáшка такí вот крýгленькі, бздзюль ягó завýць. Як я́гады сабірáеш, ён такí вanю́чы. Мáлінькі, такí лапшáценькі, ня крýгленькі, як мýха, а як чарапáшка.* Запруддзе.

**ЧАРАПО́К** *м.* Чарапок, кавалак разбітага глінянага посуду. *Там гънчáр жыў і чърапкí вывóрыюцца цяпéр.* Самсоны.

**ЧАРАЎНІ́К, ЧУРУЎНІ́К** *м.* Чараўнік, варажбіт. *Е́сь чараўнікí, мóгуць карóву зачаравáць. Чараўнíк даéць вадý чалавéку і карóві, як што карóві здзéлаюць. Чараўнікí чарýюць.* Багданава. *Лáпу лягýшцы атсячэ́ш – у чараўнікá рукá забалíць* (павер'е). Запруддзе. *Адзін быў чараўнíк, і дачкý ягó празвáлі Гэ́лдашка.* Нямойта, Парэчча. *Чараўнікí, кáжуць, былí. Нáўчуцца* [навучацца] *загавóру і зачарýіць. Цяпéр ужó нímá чуруўнікóў.* Гарадзец.

**ЧАРАЎНІ́ЦА** *ж.* Чараўніца, варажбітка. *Лягýшка ссáла карóву – чъраўнíца пъдъслáла. Мужы́к хацéў вíламі яé – інá ўцíклá. Ні ўспéў. Так ён кіпяткóм. І ў той бáбы, чъраўнíцы, спінá балéла.* Гарадзец. *Кáжуць, чъраўнíца пъшлá, каб ёй так і éдак. Гэ́та нéйкая халéра чаръўнíца, у яé бéла пат гóрлам.* Запруддзе.

**ЧАРАЎСТВО́** *н.* Чараўніцтва, вядзьмарства. *Късáлі, былó чъръўствó.* Каралевічы.

**ЧАРВА́** *ж.* Чарва, лічынкі пчол. *Мáтка чарвý кладзéць. Чарвá – накладáецца ў клéткі. Чарвá – як чарвячкí, бéленькая. Пакрывáюць плёначкай. Праз э́ту плёначку праграза́іць вýсікамі і вылáзіць.* Закур'е. *А éта тут брáць мёд не нáда. Тýтацька*

*чърва́, то́лькі трохднёвыя чарвячкі і чо́рныя гало́ўкі, прас тры дні вы́ведзіцца.* Вялікі Азярэцк.

**ЧАРВІ́ВЕЦЬ** *незак.* Станавіцца чарвівым. *Радо́ўкі расту́ць ръда́мі і чарві́веюць ве́льмі.* Пожанькі.

**ЧАРВІ́ВЫ** *прым.* Чарвівы. *Ні на́да садзі́ць бу́льбу ў чацве́р. Бу́дзіць чарві́вая бу́льба, зато́ што чацве́р – чарві́вы* (з назіранняў). *Ры́жыкі ма́лінічкія й чарві́выя ўжо.* Запруддзе. *У чацве́р не се́яць гуркі́, капу́сту: чарві́выя бу́дуць* (з назіранняў). Міцюкова. *У чацве́р не со́дзюць гуркі́ – чарві́вае было́ ўсё* (з назіранняў). Чуцькі.

**ЧАРВЯ́К** *м.* Чарвяк. *У сурае́жжък чэ́рві ёсь.* Галашчакіна. *Не́йкі чарвя́к зялёненькі з'еў.* Запруддзе. *Бува́ла, бу́льбіну чарвя́к прато́чыць, а то чо́рная ўся.* Нямойта. *Чэ́рві капу́сту з'е́лі.* Турава. *Папро́буй зімляны́х чарве́й набра́ць і хай разло́жацца, і націра́ць но́гі.* Нямойта.

**ЧАРВЯТО́ЧЫНА, ЧЫРВЯТО́ЧЫНА** *ж.* 1. Дробныя і частыя дзірачкі ў драўніне, праедзеныя чарвямі ці лічынкамі. *Як швед* [шашаль] *стачы́ў дзе́рава – чарвято́чына.* Багданаўка. 2. *зб.* Лічынкі насякомых, чарвей (?). *Чарвято́чына пачне́ ха́ту тачы́ць. Чарвято́чына ў бро́ўнах.* Апечкі. 3. Парахня, драўляны пыл. *Чарвято́чына – як папрэ́юць па́льцы, пірасыпа́лі. Як папрэ́юць па́льцы, то чырвято́чыну сы́пълі.* Каралі. *Чырвято́чынуй тэй пірысыпа́лі дзе́цім, як папрэ́іць.* Партызаны. *Гэ́та як папрэ́іць* [дрэва], *то чырвято́чыну сабіра́лі і дзяцём пірасыпа́лі, як прэ́лі яны́.* Заазер'е.

**ЧАРДА́К** *м.* Гарышча, вышкі. *І на чарда́к пале́злі аддыха́ць.* Багданава. *Чы́сты чърда́к, ло́жуць і се́на.* Вялікі Азярэцк, Багданава, Дольдзева, Нямойта. *Штра́фу хо́дзіць пъжа́рнік дае́ць, хто се́на нъ чърда́к ло́жыць.* Марозаўка. *Сама́ на чарда́к зале́зла і ня сле́зла.* Дуброўкі. *Тро́ху я́блыкі на чарда́к насі́лі.* Неўгадава.

**ЧА́РКА** *ж.* Чарка. *Упе́рад, як я ішла́ за́муш, стаканы́ былі́, а це́рас – ча́ркі.* Багданава. *Ся́дуць за стол: ча́рку якýю вы́пілі – дзе́люць карава́й.* Гарадзец. *Стул во́зьмуць, хлеп, со́лі і ча́рку с вадо́й, і буке́т цвято́ў.* Запруддзе. *П'юць: жанчы́ны па ча́рцы – мужчы́ны па паўча́рцы. Другі́ раз: мужчы́нам ча́рка – жанчы́нам паўча́ркі* [на вяселлі]. Партызаны. ЧА́РАЧКА *памянш.* *Ду́жа ў бальшэ́й кампа́ніі вып'е́ць ча́рачку.* Каралевічы. *Даў ча́ръчку спі́рту паспыта́ць.* Міцюкова.

**ЧАРНАВУ́СЫ** *м.* Чарнавусы. *Ёсь з ва́мі ваш чарнаву́сы.* Вялікі Азярэцк.

**ЧАРНАЗЁМ** *м.* Чарназём. *Чарназёму набра́ў для́ цвято́ў.* Самсоны.

**ЧАРНАСЛІ́Ў** *м.* Чарнасліў. *Сі́нія, фіяле́тавыя чърнаслі́вы.* Пожанькі.

**ЧАРНЕ́ЦЬ** *незак.* Рабіцца чорным. *Нъга́ чарне́іць, як укýсіць вужа́ка.* Апечкі. *Іна́ чарне́іць.* Дольдзева. *Пшані́ца мо́лніяй чарне́іць.* Розмыслава. *Мазо́ль сухі́ нарасце́ць, каб ён чарне́ў!* Баравікі. *О, каб ты чарне́ла!* [забіваючы муху] (праклён). Гарадзец.

**ЧАРНЁНКА** *ж.* Чорная фарба. Неўгадава.

**ЧАРНІ́ЛА** *н. экспр.* Нізкагатунковае віно. *На́дзя, кіда́й сваё чарні́ла!* Міцюкова.

**ЧАРНІ́ЦЫ** *мн.*, **ЧАРНІ́КА** *ж.* Чарніцы. *Ра́ншы чарні́цы вы́сушыць ма́тка то́лькі для́ ліка́рства.* Алексінічы. *За Бешанко́віч ду́жа чарні́цы.* Багданава. *Чарні́цы ад пано́су, скрапля́юць жалу́дак.* Буй. *Лясы́ чы́сцянькія, сасо́нкі, чърні́ц мно́га у іх.* Вялікі Азярэцк. *За чарні́цамі хо́дзюць у русі́наўскі лес, замо́сціцкі лес.* Гарадзец. *Чарні́цы ў сне – слёзы. Сабе́ бярэ́ш я́гъды – слёзы, а калі́ табе́ даю́ць – хто́-то у́мер* (павер'е). Каралевічы. *Бок кра́сны ў чарні́цах, а бок чо́рны, але́ бяру́ць дзе́ці. Сні́ць чарні́цы – дрэ́нна бу́дзіць* (павер'е). Ракаў Засценак, Міцюкова, Партызаны, Закур'е. *У Казлы́ на́шы пае́халі ў чарні́ку.* Івоні.

**ЧАРНІ́ЦЬ** *незак.* Фарбаваць у чорны колер. *Кажухі чарнілі яўрэі.* Каралі.

**ЧАРНІ́ЧНІК, ЧАРНІ́ШНІК** *м.* Чарнічнік. *Чарнічніку нідзе́ німа́.* Міцюкова. *Чарнішнік ат даўле́ння.* Алексінічы. *Чарнішніку і чарніц было́, цяпе́р ні ста́ла.* Баравікі. *Чарнішніку насу́шъна ў істо́пцы.* Каралі.

**ЧАРНО́БЫЛЬ** *м.* Чарнобыль (палын звычайны; расліна). *Чарно́быль як палы́н.* Чуцькі. *Чарно́быль, ён такі ўжо га́ткі, расце́ць высо́кі, карні такія, як в ві́дзі палы́ні, у дрэ́ві які́м.* Жохава. *Чарно́быль на́да на том баку́ павы́драць.* Ракаў Засценак.

**ЧАРНУ́ШКА** *ж.* Карова чорнай масці. *Чарну́шку куплю́ і даіць бу́ду.* Нямойта.

**ЧАРО́МХА** *ж.* Чаромха. *На чаро́мхе птушкі я́гады аб'ядаюць.* Багданава. *Як то́лькі цёпла, чаро́мха і цвіці́ць.* Кішуроўшчына.

**ЧАРПА́К** *м.* 1. Чарпак, апалонік. *Чарпа́к у Се́нні купіла. Бяры́ чарпа́к і паліва́й ваду́. Чърпако́м ваду́ у ба́ні чэ́рпалі.* Багданава. 2. Рыбалоўная снасць у выглядзе вялікага сачка. *Зъганя́юць ры́бу, а ён с чърпако́м стаіць і ло́віць.* Заазер'е.

**ЧАРПЛО́** *н.* Рыбалоўная снасць у выглядзе вялікага сачка. *Чарпло́ ры́бы паддзе́ніць, то пут ры́бы пъця́гніць.* Пожанькі.

**ЧАРСТВЫ́** *прым.* Чэрствы. *Чарствы́ хлеп.* Вялікі Азярэцк. *Чарствы́ дзе́лаецца, ніхто́ не хо́чыць браць хлеп.* Розмыслава. *Хлеп чарствы́* [даўней] *ня быў, бо ў яго́ лілі сы́раватку, як учыня́лі.* Неўгадава.

**ЧАРТАКО́ЖЫНА** *ж.* Сорт тканіны. Рудніца.

**ЧАРТО́ВІНА** *ж.* Непатрэбшчына. *Яны́ прыво́зяць усякае ўсё, усякую чарто́віну.* Запруддзе.

**ЧАРУША́ЦЬ** *незак.* Шархацець, шастаць. *Чаруша́ць па усім вугла́м кры́сы.* Ульянавічы.

**ЧА́РЫ** *толькі мн.* Чараванне. *Ча́ры чуруўніка́мі дзе́лылі.* Ракаў Засценак.

**ЧАРЫ́ЦЬ** *незак.* Адкладваць чарву (пра пчаліную матку). *Ма́тка чары́ць.* Вялікі Азярэцк. *Ма́тка тады́ пачына́іць сільне́й чары́ць.* Кляпчэва, Запруддзе.

**ЧАРЭ́МШЫНА** *ж.* Чаромха. *Гэ́та чарэ́мшына, чаро́муха. Іна́ то́лькі атцвіце́ла. А там клён.* Мянюцева.

**ЧАРЭ́ПАЦЬ** *незак.* Чэрпаць, браць. *Чърпачо́к такі, чарэ́паюць муку́, хърашо́ муку́ чарэ́паць.* Каралевічы.

**ЧАРЭ́П'Я** 1. *мн.* Чарапы. *Там касце́й по́ўненька. І ко́нскія чере́п'я, і аве́ч'я.* Багданава. 2. *зб.* Асколкі разбітага глінянага, чыгуннага або фарфоравага вырабу. *Чарэ́п'я наб'е́ш у спъдня́к і вірхня́к.* Вялікі Азярэцк.

**ЧАС** *м.* 1. Час. *Як у я́гады ў журавіны хо́дзяць, ад галавы́. Калі каму́ час ёсць.* Багданава. *На ўсё на́да час.* Вялікі Азярэцк. *Каму́ час быў, то кляно́выя лісця збіра́лі* [пад хлеб]. Цясішча. *Ён шо́фер, машы́на ў яго́. То, калі час, прывязе́ць.* Чуцькі. 2. У большасці выпадкаў, часцей. *Больш час на ру́скам гаво́рыць.* Апечкі. ◊ У ДО́БРЫ ЧАС. Пажаданне поспеху каму-н. *Ну, у до́бры час – на ўлучшэ́нне.* Заазер'е.

**ЧАСА́ЦЦА** *незак.* 1. Часацца, свярбець. *Смылі́ць, гары́ць, чэ́шацца прышчуўка.* Манголія. 2. Расчэсваць валасы. *А Мары́лька ка́жыць: «Во табе́ чъса́цца, як гром».* Кішуроўшчына. ◊ ЯЗЫ́К ЧЭ́ШАЦЦА. Пляткарыць, балбатаць. *Тро́ху язы́к чэ́шацца.* Міцюкова.

**ЧАСА́ЦЬ** *незак.* Расчэсваць, чысціць (пра воўну). *У яго́ вуўначо́ска была́. Чъса́ў во́ўну, зъръба́тъвъў.* Каралевічы. *Ваўначо́ску здзе́лаў* [пан], *во́ўну часа́лі. Разбуры́лі пато́м.* Леснікова.

**ЧАСА́ЦЬ** *незак.* Абчэсваць, склюдаваць дрэва. *Се́клі паплёціны, часа́лі іх і прывя́звалі лазо́й да ла́таў, кап сало́ма лу́чшы дзіржа́лася.* Фасаўшчына.

**ЧАСІ́НА** *ж.* Пара, момант. *Міну́та ці часі́на та́я нашла́ – нъга́ таўста́я ста́ла. Іллю́шыха прыйшла́ – зъгавары́ла.* Міцюкова.

**ЧАСНАЧЫ́НА** *ж.* Часнок, долька часнаку. *У дзягно́ – цыбу́лі, часначы́ну. Яно́ тады́ гусьцё́нькае, харо́шанькае.* Багданава.

**ЧАСНО́К, ЧО́СНАК, ЧО́СНЫК, ЧАСНА́К** *м.* Часнок. *У калбасу́ кмін, укро́пу нямно́шка, каля́ндру, часно́к, лаўро́вы ліст.* Нямойта. *Часно́к харашо́ сільна на запра́ву ідзёць.* Розмыслава. *Чо́снак не са́дзім. Чо́снык не саджу́, не магу́ ўкусіць.* Закур'е. *Пryла́дзіла ма́ма часна́к, кмі́ну, цыбу́ліну ў по́ліўку.* Партызаны. *Е́та чъсна́к пъляві́, та́я са́мая прыпра́ва.* Фасаўшчына.

**ЧАСО́ЎНЯ** *ж.* Капліčка. *На кла́дбішчы была́ часо́ўня, а так – у Пустънках, Нямо́йце.* Івоні. *На гъру́шкі дзве цэ́рквы, часо́ўня стаі́ць.* Нямойта. *На кла́дбішчы часо́ўня стаі́ць.* Фасаўшчына.

**ЧАСО́ЎКА, ЧЫСО́ЎКА** *ж.* Пасма нітак на клубку. *Часо́ўка ў клубку́, як валя́ецца, з'е́дзіць – сарвё́цца.* Гарадзец. *Нъ клубку́ чъсо́ўкі ёсь, мъта́ім.* Закур'е.

**ЧАСТАВА́ЦЦА** *незак.* Частавацца. *Часту́юцца ў ба́бы і йдуць к радзі́сі.* Партызаны.

**ЧАСТАВА́ЦЬ** *незак.* Частаваць. *Гарэ́лкі набярэ́ць і нас ся́дзіць і часту́ець.* Багданава.

**ЧАСТАКО́Л** *м.* Агароджа з калкоў. *А бува́ла, гарадзі́лі чъстако́лам.* Гарадзец. *На Купа́лле частако́л абніма́лі: ці ў па́ру, ці не́.* Міцюкова. *Ап чъстако́л абадра́ла нагу́.* Алексінічы. ЧАСТАКО́ЛЬЧЫК *памянш.-ласк. Кап вісе́лі яны́ на чъстако́льчыку, не убіла п.* Івоні.

**ЧАСТАКО́ЛІНА** *ж.* Адзін кол частаколу. *Усё спа́лена, нідзе́ частако́ліны не было́.* Алексінічы.

**ЧА́СТАЧКА** *ж.* Дробная дэталь. *Да мё́лкай ча́стачкі вы́мыў матацы́кл.* Партызаны.

**ЧАСЦЕ́ЙШЫ** *прым.* Гусцейшы, драбнейшы. *Вазьмі́ сі́та. Яно́ часце́йшае, чым рэ́шата.* Міцюкова.

**ЧАСЦЬ, ЧАСЬ** *ж.* 1. Частка. *Два надзе́лы раздзялі́лі на тры ча́сці.* Самсоны. *Часць По́льшчы вядзе́ш каро́ў, а тады́ ў Літву́ і дамо́ў.* Міцюкова. *Часць лё́ну мя́лі, а часць так здува́лі* [здавалі на прыёмны пункт]. Гарадзец. 2. У большасці выпадкаў, часцей. *На за́хад со́нца бо́льшай ча́сці ваду́ вылі́ва́лі* [калі купалі дзіця]. *Больш ча́сці, гра́ма шко́ды кура́ не здзе́лае.* Закур'е, Дуброўкі. *Хрушчы́ бо́льшую часць расту́ць пу памё́тъх, у ле́сі.* Сукрэмна.

**ЧАСЫ́** *толькі мн.* Гадзіннік. *Часы́ на шка́пі.* Нямойта.

**ЧАТЫ́РНАЦЦАЦЬ** *ліч.* Чатырнаццаць. *Там чаты́рнаццаць зімля́нак было́.* Леснікова. *На чаты́рнаццаць вянцо́ў ха́та.* Марозаўка.

**ЧАТЫ́РЫ** *ліч.* ◊ НА ЧАТЫРО́Х по́ўзаць. Адначасова на абедзвюх руках і нагах. *Учо́ра на чатыро́х по́ўзала.* Нямойта.

**ЧАТЫ́РЫ І ДЗЕ́ВІЦЬ** *ліч.* Чатыры цэлыя і дзевяць дзясятых. *А ў гэ́тый каро́вы жы́рнъсь чаты́рі і дзе́віць* [пра тлустасць малака]. Чуцькі.

**ЧА́ЎКАЦЬ** *незак.* Чвякаць, чмякаць. *Ча́ўкаіць ён: зубо́ў німа́.* Заазер'е.

**ЧАЎНО́К, ЧУЎНА́К** *м.* Чаўнок. *У чаўно́к цэ́ўкі ўклада́ліся.* Апечкі. *Чаўно́к быў, і цэ́ўкі сучы́лі.* Буй. *Чаўнако́м кіда́ем туды́-ад$^{т}$ту́ль.* Карпавічы. *У чаўно́к цэ́ўкі*

*клáлі і перакíдвалі.* Рэчкі. *У чаўнóк укладáюць цэўку на прýцíку.* Закур'е. *Цэўку нъ прутóк у чуўнáк – і ў зеў кíдáеш. І так ччэш.* Вялікі Азярэцк.

**ЧА́ХНУЦЬ** *зак.* Секануць, ударыць з сілай. *Ім* [склюдам] *быстрэ́е шпáлы цíсáць. Як чáхнуў – і усё.* Жохава. ЧАХ. Хутка, з размахам ударыць. *Крэ́сівам – чах пъ кáмні.* Жохава.

**ЧАХО́ТКА** *ж.* Сухоты, туберкулёз. *Чахóтка звáлася, балéў чахóткай.* Гарадзец. *Чахóтка, лёхкія спрáхнуць – і ўсё.* Каралі. *Я ж дýмала, што я ў чахóтцы.* Кішуроўшчына.

**ЧАЦВЕ́Р** *м.* Чацвер. *Ні нáда садзíць бýльбу ў чацьвéр. Бýдзіць чарвíвая бýльба, бо чацьвéр чарвíвы.* Запруддзе.

**ЧАЦВЕРАКІ́, ЧАЦВІРАКІ́** *мн.* Чацвёра, двое дзяцей з боку мачахі і двое з боку бацькі. *Былí чъцьверакí дзéці: былí ў мáчыхі дзве дачкí, і ў тáта быў сын і я, і яшчэ́ с тáтом былí дзéці – во гэ́та чъцьвіракí дзéці.* Кішуроўшчына.

**ЧАЦВЕРГАВА́ЦЬ, ЧАЦВІРГАВА́ЦЬ, ЧАЦВІРГУВА́ЦЬ** *незак.* Трымаць шчыры пост з вечара Чыстага чацвярга да раніцы Вялікадня. *Чацьвергавáлі: у Чы́сты чацвéр пъвячэ́раюць і да въскрасéння ні ядýць.* Багданава. *Чацвергавáлі саўсíм некатóрыя, для спасéння пасцíліся.* Вялікі Азярэцк. *А мъя́ мáма чъцьвіргувáла адзíн гот: с чъцьвіргá да сыбóты Вялікóднай éсьці зусíм нямóжна, акрамя вадóй жыць нáда.* Запруддзе. *Чацвіргъвáць – пувячэ́рыць у чацьвéр і ня есь пя́тніцу, субóту і пакýль ръзгавéюцца. Тóлькі вады́ п'юць.* Сукрэмна. *А тады́ чъцьвіргувáлі: с чъцьвіргá ня есць да васкрасéнья.* Нямойта.

**ЧАЦВЯРА́К** *м.* Чацвёрты рой пчол, які вылятае з вулея пры раенні. Кляпчэва.

**ЧАЦВЯРЫ́К, ЧЭЦВЯРЫ́К** *м.* Пасудзіна з клёпак і мера аб'ёму для сыпкіх рэчываў. *Чацвяры́к с клёпачак быў у майгó тáты. У ягó для сóлі ці круп – чэцьвярíк з дасóк і з клёпачък.* Вялікі Азярэцк, Савінічы.

**ЧАЧАВІ́ЦА, ЧАЧАВІ́КА** *ж.* Сачавіца, сачыўка; зернебабовая культура. *Чачавíца – травá, на корм ішлá.* Розмыслава. *Чачавíка гъвары́лі, чъчавíца.* Міцюкова.

**ЧА-ЧА-ЧА** *выкл.* Перадача гукаў строкату сарокі. *Сарóкі ўсё: ча-ча-ча.* Багданава.

**ЧАЧО́ТКА** *ж.* Чачотка, карэльская бяроза. *Тъкáя шэ́рънькая бярóза называ́ецца чачóтка.* Гарадзец.

**ЧА́ШАЧКА** *ж.* Сподачнік чырвоны (грыб). *Чáшъчкі тапíлі* [рабілі лекавы настой] *ат крывалю́чкі.* Заазер'е.

**ЧА́ШКА** *ж.* Міска. *Смітáну ў чáшку кладзём, як ядзíм грыбы́.* Карпавічы.

**ЧА́ШКА** *ж.* Высечанае ў бервяне паглыбленне для другога бервяна пры пабудове. *У чáшку палóжыць браўнó: прадзярэ́ць дрáчкай жалéзнай.* Дольдзева. *Вот бáлькі кадá упускáіш у зрýбі, у дóмі, лóжыцца ашлапнóя браўнó с чáшкамі, навéрх, янó закрывáець бáлку.* Нямойта.

**ЧАШНЯ́ЦКІ, ЧАСНЯ́ЦКІ** *прым.* Які мае адносіны да горада Чашнікі. *Чъшня́цкі раён.* Мянюцева. *Ён чалавéк часьня́цкі, ні тýташні.* Партызаны.

**ЧВА́КНУЦЬ** *незак.* Стукнуць, трахнуць, ударыць. *Як чвáкнуў у калідóры аб дзéжку.* Дольдзева. *Як чвáкнуў лóмам – ён нежывы́.* Дольдзева.

**ЧВАНЬ** *ж.* ◊ ЧВАНЬ НЕ́СЦІ. Фанабэрыцца, задавацца. *Хто хварсóвы, то кáжуць, што: во, чвань нясéць.* Гарадок.

**ЧВЫР** *ж.* Расліна з непрыемным пахам. *Чвыр – травá такáя, клапáмі пáхла.* Каралевічы.

**ЧВЭ́РТКА** *ж.* Першы знак на бязмене, самая меншая вага. Вялікі Азярэцк.

**ЧМОК** *выкл.* Хуценька цмокнуць. *Чмок у шчóчку – і пабéгла.* Жохава.

**ЧМУРА́** *ж.* 1. Гушчар, глухое месца; немарач. *Там чмура́ тъкáя у тых кустáх, там пъзраслó ўсё, і балóта такóе.* Запруддзе. *Чмура́ – кустáрнік такі густы́. Во, чмура́, кáжуць.* Нямойта. *Лагі ўзырáлі, то там цяпéра ўсякъя чмура́, зáръсіль, ні прайці́ць.* Ракаў Засценак. *Зáйдзіця ў чмуру́ і ня вы́йдзіця.* Сянно. 2. Зацененае месца, дзе гародніне не хапае святла. *А ці вы́спеюць яны́ ў той чмурэ́ ці нé?* [пра гуркі пад дрэвам]. Запруддзе. 3. Нешта непатрэбнае. *Усякая чмура́, смéцьце ўсякъе, абы-штó.* Марозаўка. 4. Атрута. *Яна́ атравíла ягó, нéйкай чмуры́ далá.* Запруддзе.

**ЧМУРЫ́ЦЬ** *незак.* Чмуціць, дурыць сабе галаву. *Галóвачку я чмуры́ла – сядзéла і ткáла нявéсткам.* Вялікі Азярэцк.

**ЧО́КНУЦЦА** *зак.* Здурнець, бязглузда сябе паводзіць. *Жъна́ чóкнулася.* Закур'е.

**ЧО́РНА** *прысл.* 1. Цёмна з-за вялікай колькасці. *Нападу́ць варóны, аж чóрна.* Запруддзе. 2. Брудна. *А ў хáці чóрна-чóрна.* Багданава. 3. *пераң.* Цяжка, змрочна. *Ёй чóрна так былó на éтый час. Хай яму́ так чóрна бу́дзець, як мне на душы́!* (праклён). Міцюкова.

**ЧОРНАГАЛО́ЎКА, ЧАРНАГАЛО́ЎКА** *ж.* Чорнагаловік (расліна). *Чорнагалóўка як асъкá, чóрная.* Багданава. *Чарнагалóўкі ў балóце расту́ць.* Жохава. *Чарнагалóўкі яду́ць карóвы і кóні. Як вы́лезла – так і касí, як пырэ́й. Чарнагалóўка як асакá. Нъсабірáім, нътаўчóм – пы́шкі, пръснакí дзéлаім. Чърнагалóўку сушы́лі, таўклí, малóлі і пяклí съ аржанóю мукóй.* Запруддзе. *Як тóлькі ръсьцвінéць сьнех – і пъшлá расьці́ чърнъгалóўка.* Пожанькі.

**ЧО́РНЫ** *прым.* 1. Чорны, цёмны (пра колер). *Гаршкí куплялі чóрныя.* Буй. *Чóрныя вóчы крапчэ́й.* Вялікі Азярэцк. *Кап на цябé чóрная зямля́ напáла!* (праклён). *Пъдальхóвік* [свінуха тонкая] *чóрны, то трэ́ба вы́мачыць у салёнай вадзé, і тады́ крупéня бу́дзе са свéтлай ю́шкай.* Сяргейкі. *Чóрны як сáжа. Чóрны як варóна.* Серкуці. *Каб ты чóран стаў!* (праклён). Сукрэмна. ЧО́РНЕНЬКІ *ласк.* *Палевáя мыш самá жóўценькая, а палóска чóрненькая на спінé. Адзíн – усё лíчачко чóрненькаё, згарэ́ла.* Багданава. 2. Больш цёмны, чым звычайна. *Чóрная тут зімля́, а там пясóк, глíна.* Гарадзец. 3. Чорнай масці. *Ён чóрны конь, на ягá вадні́ садзя́цца. Стрáшны, галавá чóрна і сам чóрны.* Запруддзе. 4. Зроблены з цёмнай, жытняй мукі. *Усягó ёсітка: і бéлы хлеп на сталé, і чóрны, і пячэ́нне.* Ульянавічы. 5. Цёмны, навальнічны (пра хмару). *Ту́чы хóдзюць чóрныя.* Багданава. 6. Неўрадлівы (пра глебу). *Гарóд зусíм чóрны, нічóга ні расló.* Ульянавічы. 7. Найменш значны, першасны (пра працу, яе частку). *У начну́ю ідзéш – трэ́пеш на чóрную трóпку, а удзéнь – на чы́стую трóпку.* Цясішча. 8. Не галоўны, службовы (уваход). *Нікóлі нічóга з чóрнага хóду ні брáлі.* Дуброўкі. ○ ЧО́РНЫ БУЦЯ́Н. Чорны лясны бусел. *Чóрны буця́н ў лéсі жывéць. Шы́йка і галóўка бéлінькія, а там чóрны* [усё тулава]. Сукрэмна. ○ ЧО́РНАЯ БА́НЯ. Лазня, якая не мае дымахода. *Бáні чóрныя былí, бес кóміна пéчка. Пéчы без вéрху, кáмні палівáлі, някры́тыя пéчкі. Éта чóрныя бáні.* Нямойта.

**ЧОРТ** *м.* 1. Чорт, міфічная істота. *Чэ́рці нéйкія вадзíліся ў лéсі. Чорт ягó схóпіць! Чэ́рці ягó пъдлавілі і гавóраць: «Ідзí, дзéдушка».* Багданава. *Чэ́рці нéкія булí бувáла.* Гарадзец. *Дзе чорт прывы́к? – У балóці.* Дольдзева. *Чэ́рці па лóдках éздзюць.* Марозаўка. *Чорт, чорт! Аддáй маё – вазьмí сваё!* [так трэба сказаць, калі нешта згубіш, каб згубленае знайшлося]. Ракаў Засценак. *А каму́ нáда кóжа ш чъртá?* (з казкі). Сянно. *На пóлі чэ́рці хавáліся.* Ульянавічы. *Спачáтку нóчы спі, вы́лупіўшы вóчы, глядзí на пъталóк, кап чорт не звалóк, а як бу́дзіць валачы́, тады́ крычы́,*

*я прыбягу́, чо́рту пъмагу́* (прыгаворка?). Нямойта. 2. Пра некага, хто выяўляе незвычайную сілу, хуткасць. *Ко́ні тады́ – звяр'ё было́. Нъкладзёш вос: «Чорт! Ляці!» – ну, і на по́ле.* Багданава. ◊ ДА ЧО́РТА. Вельмі многа. *Э́та ш зъра́за, крот, іх да чо́рта.* Марозаўка. ◊ К ЧАРЦЯ́М ісці. Прэч, вон. *Ідзіця к чърця́м!* Чуцькі, Кляпчэва. ◊ НА ЧО́РТА. Навошта, для чаго. *Сто́лькі стро́ілі, тлуміліся, на чо́рта?* Запруддзе, Партызаны, Сукрэмна. ◊ ЧОРТ ГАНЯ́Е. Пра нечыя неапраўданыя паводзіны. *Чаго́ цібе́ ганя́іць чорт?* Нямойта. ◊ І ЧОРТ НІ ХАПІ́Ў. Нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. *Барві́чыха і мухамо́ры паела – і чорт ні хапі́ў.* Запруддзе. ◊ ЧОРТ ЯГО́ ДУШУ́ ЗНА́ІЦЬ! Невядома. Гарадок. ◊ ЧОРТ ВЕ́ДАІЦЬ (ЗНА́ІЦЬ). Выказванне абурэння, гневу, збянтэжанасці з-за чаго-н. *Дзе яны́ былі – чорт іх ве́дыіць!* Алексінічы. *А чорт яго́ ве́дыіць!* Багданава. *А чорт іх ту́тыцькі зна́іць!* Турава, Партызаны. ◊ ЧОРТ ПАВЁЎ. Хто-н. паддаўся спакусе. *Павёў чорт яе́ – пяцьдзеся́т рублёў забра́ла з ба́начкі маянэ́знай.* Нямойта. ◊ ЧОРТ БО́СЫ НЯ ПРО́ЙДЗІЦЬ (НІ ПРАЙДЗЁЦЬ). Пра вельмі глухое, зарослае месца. *Быў лужо́к до́бры нъ Пуўлюко́вым, а цяпе́р там чорт бо́сы ні прайдзёць.* Багданава. *Узъра́лі лух, да́йжа прайці́ ня мо́жна, цяпе́р чорт бо́сы ня про́йдзіць.* Баравікі. ◊ НІЯ́КІ ЧОРТ не бярэ́ць. Зусім ніхто. *Валуі́ – іх нія́кій чорт ні бярэ́ць.* Сукрэмна. ◊ ЧОРТ ШТО. Нешта недарэчнае, незразумелае, што выклікае злосць, раздражненне. *Дък вы чорт што напі́шыця!* Дуброўкі. ◊ ЧЭ́РЦІ ГАРЭ́ЛЫЯ. Лаянкавы зварот; нягоднікі. *Што вы, чэ́рці гарэ́лыя, куба́тары пракля́тыя!* Нямойта. ◊ ЧОРТ ПАЦЯГНУ́Ў ЗА ЯЗЫ́К. Знянацку і недарэчы захацелася каму-н. сказаць што-н. *Чорт дурно́й ма́тку за язы́к пацягну́ў.* Партызаны. ◊ ЧО́РТА ПАРО́ЦЬ (ТВАРЫ́ЦЬ). Займацца абы-чым, вычвараць. *Цяпе́р малы́я чо́рта по́руць.* Вялікі Азярэцк. *Чо́рта твары́лі, як былі малады́я.* Партызаны. ◊ ЧОРТ НО́СІЦЬ. Хто-н. недарэчы, не ў пару ходзіць, бадзяецца дзе-н. *Чаго́ цябе́ чорт но́сіць?! Як ба́ба с кърчарго́й лётаіш!* Вялікі Азярэцк. ◊ панёс ЯК ЧОРТ МА́ТКУ Ў ПЕ́КЛА. Вельмі хутка памчаўся. *Рыса́к быў нату́рлівы – і панёс як чорт ма́тку ў пе́кла.* Сянно. ◊ пабіць ЗА ЧО́РТА ЛЫ́САГА. Дарэмна, невядома за што загубіць. Заазер'е. ◊ ЧОРТ РАБО́ТУ ДАСЦЬ. Пра сітуацыю, калі чалавек будзе займацца марнай справай. *У пра́зьнік рабо́таць – так чорт рабо́ту дасьць.* Рэчкі. ◊ ЧЭ́РЦІ ВО́ДЗЯЦЬ. Пра стан, выкліканы ўздзеяннем нячыстай сілы. *Замкну́ла скры́ню, пайшла́ ў я́гады – згубіла ключ. А другі раз пайшла́ – здало́ся, як бы вужа́ка, а там ключ – чэ́рці вадзілі.* Багданава. ◊ ЧЭ́РЦІ МАЛЮ́ЮЦЬ. Пра нячыстую сілу, якая пільнуе п'яніцу. *Другі п'ю́шчы спіць, а яго́ ж чэ́рці малю́юць.* Жохава.

□ *Бяс чо́рта бало́та ня бу́дзіць.* Вялікі Азярэцк. □ *У ціхім бало́це ўсе чэ́рці на дне.* Жохава. □ *Ці не чорт цябе́ нёс, не падма́заўшы калёс!* Запруддзе. □ *Чорт сем пар лапце́й сарва́ў, паку́ль іх у ку́чу сабра́ў.* □ *Паку́ль чорт ні нъгуля́ўся, то ні адда́ў* [гаворыцца, калі знойдзеш згубленае]. Багданава, Ракаў Засценак.

**ЧО́СКА** *ж.* Шчотка (з цвікамі) для часання лёну пасля церніцы. *Чо́ска – тъка́я до́шчъка, набіта гваздзе́й, лён счо́сваіш. Чо́ска тъка́я: до́шчачка і набіта гваздзе́й, лён чъса́ць.* Дольдзева.

**ЧОТ** *м.* Цот. *Ці чот ці лішка: чот – у па́ру, а лішка – тры, пяць – гэ́та прайграва́лі.* Буй.

**ЧО́ХНУЦЬ** *зак.* Хлынуць, лінуць. *Въда́ як чо́хнула ў ло́дку, дык яны́ і выскачылі.* Багданава. *У убо́рнай павалі́ўся, і кроў чо́хнула.* Запруддзе.

**ЧО́ХУЎКА** *ж.* Чых, чыханне. *У мяне́ чо́хуўка, мо́жа, грыб* [захворванне] *бу́дзіць.* Запруддзе.

**ЧУБА́ТКА** *ж.* Курыца з чубком. *Чуба́тка – ку́рыца, хо́дзіць, усе́ сако́чыць.* Розмыслава. *У мяне́ тры ку́рыцы чуба́тых, чуба́тка.* Вялікі Азярэцк. ЧУБА́ТАЧКА *памянш.-ласк.* *Чуба́тачка – чуба́тая ку́рачка. З чубко́м чуба́тачка.* Багданава.

**ЧУБА́ТЫ** *прым.* Чубаты, з чубам. *Сініца. Іх мно́га сарто́ў ёсь, і чуба́тыя ёсь.* Сянно. ЧУБА́ЦЕНЬКІ *ласк.* Партызаны.

**ЧУБО́К** *м.* Чубок. *Чуба́ценькі ма́лец, чубо́к астаўля́лі.* Партызаны, Багданава.

**ЧУВА́ЦЬ** *незак.* Чутно, чуваць. *І чуць, дзе кінълі дуст, то ў дош чува́ць* [пахне]. Чуцькі.

**ЧУГУ́Н, ЧЫГУ́Н, ЦЫГУ́Н, ЦУГУ́Н, ШЧУГУ́Н** *м.* Чыгун (посуд). *Вілкі для чугуно́ў.* Багданава. *У нас у Ду́бръўкі чугу́н, а ў Тало́чънскім раёні шчугу́н заву́ць.* Дуброўкі. *Чыгу́н быў с ку́кіш.* Ульянавічы, Леснікова, Міцюкова, Неўгадава. *У кале́на цыгу́н нава́руць і паяду́ць.* Чуцькі. *Пъста́ў за бок* [у печы] *цугу́н.* Міцюкова. *Вару́шкі у цугу́н ды звары́ў, ды з'еў.* Цясішча. ЧУГУНО́К *памянш.* *Калі́ на літр – чугункі́, а бальшэ́й – чугуны́ заву́цца.* Багданава. *Чугункі́ пабіля́ныя.* Каралі. *Пу бува́лышніму ва́рім у чугунку́, а ні ў кастру́лі.* Гарадок.

**ЧУ́ДА** *ж.* Дзіва, дзіўны, незвычайны выпадак. *Таку́ю чу́ду расска́зывалі.* Вялікі Азярэцк, Савінічы.

**ЧУДЛІ́ВЫ** *прым.* Дзівак, які можа нешта незвычайнае ўтварыць. *Чудлі́вы чалаве́к.* Савінічы.

**ЧУДЛІ́ЎКА** *ж.* Дзівачка. Савінічы.

**ЧУДНЕ́ЙШЫ** *прым.* Здаравейшы. *Я бува́ла сама́, як была́ чудне́йшая, здъва́ла малако́.* Івоні.

**ЧУ́ДНЫ, ЧУДНЫ́** *прым.* Дзівак, дзіўнаваты (пра чалавека). *Адна́ чу́дная стару́ха была́. Да́гала раздзе́ніцца, го́лінькая, чу́дная жэ́ншчына была́.* Багданава. 2. *н.* Нешта неверагоднае, непраўдападобнае. *Не́шта чудно́е: як я выжыў?* Ульянавічы.

**ЧУ́ДЫ** *толькі мн.* Восеньскі прысвятак (6 (19) верасня), дрэнны дзень, у які з'яўляюцца чалавеку розныя дзівосы. Гавораць, што баяцца трэба не так Прачыстую, як *Чу́даў* перад Прачыстай. *Чу́ды – пра́знік уво́сень. Перат Чу́дамі пайшо́ў, палядзе́ў, дзе мало́цяць, – сідзя́ць, касма́ты но́гі. – Чу́ды, Я́нка, чу́ды, Я́нка! – яму́ здало́ся.* Вялікі Азярэцк.

**ЧУЖАДЗЕ́МЕЦ** *м.* Чужынец. *Як прышо́ў які́ чужадзе́мец.* Вялікі Азярэцк.

**ЧУЖУНА́** *ж.* Чужакі, чужыя людзі. *Чужуне́ адда́лі гаро́д, лю́дзі кала іх смяю́цца.* Дольдзева.

**ЧУЖЫ́** *прым.* 1. Чужы, не свой. *Спалі́лі ха́ту, жыць не́йдзі, як жыць у чужэ́й ха́ці?!* Гарадок. *У чужэ́й дзярэ́ўні жыла́, як былі́ тут паліца́і. Жысь мая́ дрэ́нная у чужэ́й сям'е́.* Нямойта. *Мі́ліцыя нъшла́, у чужэ́й ха́ці нучува́ў.* Савінічы. 2. З іншай мясцовасці. *Дзіўча́т было́ ў дзярэ́ўні, а хлапцы́ чужэ́я хадзілі.* Партызаны. 3. Суседні, не ўласны. *У ка́ждага свъя́ пъласі́на была́, ніхто́ на чужу́ю пъласі́ну ні лес.* Самсоны. 4. *н.* Тое, што належыць іншаму; чужое. *Яно́ і астаўля́ць, і брать чужо́га баю́ся.* Нямойта, Вялікі Азярэцк.

□ *Бі свайго́, кап чужы́я бъя́лісь.* Заазер'е. □ *Между дзвярэ́й па́льцы не лажы́, между сваі́х чужы́ не міша́йся.* Каралевічы. □ *Чужо́е ні ўво́лю, ні ўпо́ру.* Ульянавічы.

**ЧУ́ЛЫ** *прым.* Здаровы, рухавы, моцны. *О, чу́лы, здаро́вы ішчэ́ дзет! Але́ дзет яшчэ́ чу́лы быў, крапі́ўся.* Багданава.

**ЧУМА́** *ж.* Нешта дрэннае, непрыемнае (ужываецца часцей у праклёнах). *Кап на іх чума́ навалі́лася!* (праклён). Партызаны. *Не́йкія ёсьць хляўнэ́я, чума́ іх,*

*кáжуць, карóва з нóчы мóкрая.* Ракаў Засценак. *Хай на іх чумá, éтых нéмцаў!* (праклён). Сукрэмна.

**ЧУМУДА́Н** *м.* Чамадан. *Чумудáн узілá с сабóй, на Вóршу паéхъла.* Багданава.

**ЧУ́НІ** *мн.* Глыбокія самаробныя галёшы. *Чýні з рызіны на вáленкі рабілі.* Станюкі.

**ЧУП** *м.* Два кальцы, злучаныя паміж сабой сеткай. *Мірóжы – два чубы́, саідзянёных сéткай, тудь́і ры́ба пъпадáіць у гэ́ты чуп. Чуп тóжа с крапцінкі.* Дольдзева.

**ЧУР-ЧУРО́Ў** *выкл.* Вокліч, якім замацоўваюць дамоўленасць пры гульні ў жмуркі; цур. *Як у жмýркі гулялі і къзáлі: «Чур-чурóў!»* [я цябе злавіла, убачыла, усё, табе нельга больш хавацца]. Міцюкова.

**ЧУ́РАК** *м.* Цурбан, цурбалак. *Атрэ́жаць чýрак, наб'éць, насýшыць, наскіпáець лучы́ны.* Каралі.

**ЧУРА́ЦЦА** *незак.* Цурацца, адмаўляцца. *Дзéткі мянé не чурáюцца.* Цясішча. *Ат тóга чурáлася – з éтым пашлá.* Розмыслава.

**ЧУРБА́Н** *м.* Цурбан, цурбалак. *Бабры́ на чурбаны́ альхý, асíну пъпагрызýць.* Вялікі Азярэцк.

**ЧУ́РКА** *ж.* Цурбан, цурка. *Атрэ́жыць чýрку, наб'éць, насýшыць, паскідáець лучы́ны.* Каралі.

**ЧУ́РСТВАВАЦЬ** *незак.* Адчуваць. *Чýрствуіць кýрыца, што піскліняты вылýпліваюцца.* Каралевічы.

**ЧУ́ТАЕ** *н.* Вядомае. *Чýтае пачýеш.* Вялікі Азярэцк.

**ЧУ́ТНА, ЧУ́ШЧА** *прысл.* Чутна, чуваць. *Нáшы, чýтна, былі ўжо ў Курэ́йшаві* [стралялі]. Леснікова. *Шумéйкі нацэ́пюць, звіня́ць, далёка чýшча.* Нямойта.

**ЧУХО́НКА** *ж.* Выязная брычка. *Чухóнка тькáя лёгінькаъя, пъкрáшъна хърашó, напéрадзе выкрунтэ́сы, паны́ éздзілі.* Гарадзец. *Возóчак – э́та праязны́, а рáньшы чухóнка звáлі.* Кляпчэва. *Чухóнка укрáшаная, дзéлалася дрáпка, палазы́ раскрáшаваны, Бóгу малíцца éздзілі. На чухóнцы у цэ́рквы éздзілі, украшэ́нне дзéлалі.* Леснікова.

**ЧУ́ЦЦА** *незак.* 1. Чуваць, чутна. *Жнівó, чýцца пéсні.* Нямойта. 2. Гучаць моцна, гучна, з усёй сілай. *Аш ня чýцца, лягýшкі квóкчуць.* Гарадзец. *Па пóлі жнуць, а к вéчару, аш ня чýцца, пяюць.* Багданава. *Захóдзіць сóнца, пяюць, аж ня чýцца.* Марозаўка. *А паюць – аж ня чýцца.* Партызаны. *Бывáла былó аж ня чýцца за пéснямі.* Нямойта.

**ЧУЦЬ** *незак.* 1. Чуць, успрымаць на слых. *На дно вýха чýіць, а на другóя ня чýіць.* Савінічы. *Брат ужó ні чуць стаў.* Запруддзе, Жохава. *Інá лéтам клілá, я ні чýла.* Нямойта. 2. Чутно, чуваць. *У нас ня чуць цыганóў цяпéр.* Нямойта. *Нікóга ня чуць пыт кустóм.* Багданава. *Пáсцілі кóні, падзéлуў ляпуўкі, то і чуць, дзе кóні пасýцца.* Гарадзец. *Цяпéр цішынá: ваўкóў ні чуць.* Партызаны, Дольдзева, Міцюкова. *Там гуляюць, а тут чуць.* Закур'е. 3. Ведаць. *Гéткага я ні чýла. Гéткае травы́ ні чýла.* Багданава. 4. Распазнаваць, адрозніваць (пра жывёлу). *Сабáкі чýюць гарнастáяў нóсам.* Багданава. *Э́та ж ужó во – ры́бу чýець* [кошка]. Запруддзе. 5. Адчуваць. *Замёрзлі рýкі, што ня чýіш іх.* Гарадок. *Ня чýю пáльцы саўсíм нічóга. Пáльцамі прáвай рукі ня чýю нічóга.* Нямойта. ◊ ЧУЦЬ НА СВАЕ́ ВУ́ШЫ. Пра дакладнасць звестак. *Я ш съмá чýла нъ сваé вýшы.* Вялікі Азярэцк.

**ЧУЦЬ** *часц.* Ледзь. *Я гэ́тай ня дзéйствую рукóй і во чуць хаджý.* Фасаўшчына. ◊ ЧУЦЬ НЯ ЧУЦЬ. Ледзь-ледзь. *Чуць ня чуць, хáту зляпілі.* Гарадзец.

**ЧУ́ЧАЛА** *н.* 1. Чучала. *На Купа́ла чу́чала дзе́лалі – і ў рэ́чку, каб ве́дзьма мълако́ ў каро́вы не адбіра́ла* (звычай). Леснікова. 2. Пудзіла. *На гаро́дах чу́чала гаро́дняе.* Дольдзева.

**ЧУ-ЧУ** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць авечку ці свінню. *Чу-чу – падзыва́юць аве́чак так.* Алексінічы. *Чу-чу – падзыва́юць свіне́й.* Хамінічы.

**ЧХАЦЬ** *незак.* Чхаць. *Чхаць ста́ла – грыб* [захворванне] *бу́дзіць.* Запруддзе.

**ЧХНУЦЬ** *зак.* Чхнуць. *Як чхнець – і тампо́ны вы́скачуць.* Алексінічы.

**ЧЫЙ**, **ЧЭЙ** *займ.* Чый. *«Чыя́ ш е́та?» – «Пілі́пуўна». «Чэй уну́к?» – «Клімо́вічуў».* Чуцькі.

**ЧЫКІРДА́** *ж. экспр.* Пра нешта крывое, бясформеннае. *Звя́жуць чыкірду́ не́йкую, а ня сноп.* Серкуці.

**ЧЫМ** *прысл.* Як. *Чым жа цябе́ заву́ць, дзе́ўчына? Нькъза́лі, нькъза́лі* [нагаварылі розных імён дзіцяці], *чым цябе́ заву́ць.* Партызаны. *Чым яго́ зва́лі? Ня по́мню.* Ульянавічы.

**ЧЫН** *м.* Чын, пасада. *Ён у чын пайшо́ў.* Багданава. ◊ АДНЫ́М ЧЫ́НАМ. Разам, заадно. *Дзе́ці адны́м чы́нам: пае́дзім у Во́ршу.* Цясішча.

**ЧЫНІ́ЦЬ** *незак.* Начыняць, фаршыраваць. *І да сёлітніга стая́лі ты́я кішкі, і харо́шыя – чынілі.* Багданава. *А с мяса кілба́сы чы́нюць. Уну́транъсцямі чы́нюць кішкі.* Буй. *Ня хо́чацца чыні́ць уручну́ю, бо́жа, плач!* Гарадзец. *Ма́ма чыні́ла пъръся к Па́скі.* Запруддзе. *С адно́й крыві́ чыні́лі – э́та крыва́ўка.* Савінічы. *Кілбасу́ мя́сам чы́ніш.* Сукрэмна.

**ЧЫ́НКА** *ж.* Каўбаса, зробленая з вантробаў; вантрабянка. *Чы́нка – е́та ва́рыш уну́транасць, нажо́м парэ́жыш, прыпра́віш, яі́чка сыры́я б'еш і ва́раныя, лу́ку і ў ма́рлечку; до́шчачку наве́рх і до́шчачку падні́з, распле́шчыш, і ка́мінь наве́рх, туга́я здзе́лаіцца чы́нка.* Заазер'е.

**ЧЫНО́ЎКІ** *мн.* Дошчачкі для падліку і раздзялення пасмаў пры снаванні. *Чыно́ўкі, чыны́ рабілісі: дзве зза́дзі до́шчачкі.* Карпавічы.

**ЧЫНЫ́** *мн.* Тое ж. *Чыны́ – до́шчачкі такія.* Багданава.

**ЧЫР** *ж.* Нарыў, скула. *Чыр ускǒчыла, каб яна́ прарва́ла, мазь прыклада́юць, стры́жэнь на́да вы́ціснуць.* Багданава. *Знасі́ў штук два́ццаць на гарбу́ сваі́м чыро́ў.* Ульянавічы.

**ЧЫРВО́НЫ** *прым.* Чырвоны. *Чырво́н мак, чырво́н мак у гаро́дзе! / Чырване́й, чырване́й Вало́дзька ў караго́дзе! / А на ім ша́пачка, / Як аго́нь, гары́ць. / Перат ім, перат ім Со́нечка, / Як аго́нь, цві́ціць* (з песні). Багданава.

**ЧЫ́РКАЦЬ** *незак.* Пішчаць (пра мышэй). *Мы́шына за або́і зале́зіць і чы́ркаіць.* Багданава.

**ЧЫР-ЧЫР** *выкл.* Утвараць гукі шорхання, хлопаючы крыламі (пра індыкоў). *Паляце́лі індзе́йкі: чыр-чыр-чыр.* Каралевічы.

**ЧЫРЫ́КАЦЬ** *незак. перан.* Хваляваць, непакоіць. *Мяне́ не чыры́кае, што с табо́й так ста́лася.* Партызаны.

**ЧЫРЫСПАЛО́СІЦА** *ж.* Дробныя надзелы зямлі, што належалі розным уласнікам і аддзяляліся межамі; цераспалосіца. *Была́ чырыспало́сіца, як аднаасо́бна жылі.* Марозаўка.

**ЧЫСЛАВЫ́** *прым.* ◊ ЧЫСЛАВО́Е СВЯ́ТА. Пра пастаянную дату свята. *Гэ́та свя́та чыславо́е, ў чысле́.* Каралевічы.

**ЧЫ́СЛЕНКІ** *мн.* Тры ніткі асновы пры ўкіданні ў бёрда. *Чы́сленкі ў бёрдах.* Багданава.

**ЧЫСЛО́** *н.* Дата, парадкавы нумар дня ў месяцы. *Мікóла тóжа бувáіць зімóй, ня пóмню якóга числá.* Самсоны. ◊ У <АДНО́ (ВАДНО́)> ЧЫСЛО́ хадзіць (выхóдзіць). Пра пастаянную дату свята. *Вялікъдня і Трóйца хóдзяць ні ў аднó числó.* Дольдзева. *Вот Пáска так ні ў аднó числó выхóдзіць. Пáска бывáіць ні ў ваднó числó.* Запруддзе. ◊ БІС ЧЫСЛА́. Вельмі многа, без меры. *Пілі гарэлку біс числá.* Нямойта.

**ЧЫСЛО́М** *прысл.* ◊ хадзіць <АДНЫ́М> ЧЫСЛО́М. Пра пастаянную дату свята. *Трóйца ня хóдзіць числóм. Інá, піраплáўніца, хóдзіць ні числóм, а так хóдзіць.* Дольдзева. *Мáслянка ні адны́м числóм хóдзіць.* Міцюкова. *Блъгавéшчанне сядзьмóга апрэля, янó числóм хóдзіць.* Гарадзец.

**ЧЫ́СТА** *прысл.* 1. Чыста, нябрудна. *І ядýць харашó, і чы́ста хóдзюць, і мълькá німá.* Заазер'е. *Ёсь чóрныя свінні* [грыбы чорныя грузды]. *Іх нъзьбірáў, вы́муў чы́ста і зъсаліць мóжна.* Латыгаль. ЧЫ́СЦІНЬКА *ласк. Там ёўня у такý. А ток глінъй вы́біт, чы́сцінька.* Серкуці. 2. Прыбрана. *Зáўтра Прачы́ста, кап былó ў пóлі чы́ста. Як? Дзівіліся яны́, чы́ста!* Кляпчэва. 3. Акуратна, без касмыкоў. *Скасíў чы́ста, што яйцó къчáіцца на пóжынькі. Вóй-та хъзяін, што пóжынька чы́стъя.* Леснікова. ◊ УСЁ (УСЕ́, УСЯ́) ЧЫ́СТА (ЧЫ́СЦЕНЬКА). Поўнасцю, цалкам, без выключэння. *Усё чы́ста дзéлаіць, карóву дзяржы́ць.* Леснікова. *Дъчкá шкатýрам* [тынкоўшчыкам] *рабóтаіць, пъмагáіць мне ўсё чы́ста.* Сукрэмна. *Ужó к стáрасці патхóдзіць усё чы́ста.* Вялікі Азярэцк. *Смылянка у хáце, усё чы́ста ламáчча вы́брасіла і дóскі ўбрáла.* Багданава. *Усé чы́ста залягль: кор пакаціла.* Нямойта. *А цéла ўся чы́ста мóкрая.* Галашчакіна. *Усé чы́сценька зýбы павыпáдвалі.* Нямойта.

**ЧЫСТАТА́** *ж.* Чысціня. Запруддзе.

**ЧЫСТАПЛО́ТНЫ** *прым.* Ахайны. *Чыстаплóтны: ён спячэць хлеп культýрна.* Жохава.

**ЧЫСТАЦЕ́Л** *м.* Чыстацел, падтыннік (расліна). *Чыстацéл цвіціць жóўценькім, éслі залатýха – завáраюць, купáюць рабёнка.* Партызаны. *Чыстацéл урэдны, кубурóчкамі расцéць і цвіціць.* Парэчча. *Чыстацéл – дзяцéй купáць.* Апечкі. *Чыстацéл трэба сървáць, ръзлъмáць, і гэтым жóўцінькім дзічку пъмáзъць.* Фасаўшчына. *Чыстацéл прымяняіць, як бóлькі, зъвáраваюць, мы́юць.* Вялікі Азярэцк. *Чыстацéл мóжна ад усягó. Мáшся э́тым сóкам, кадá дзíчкі.* Заазер'е, Багданава, Ракаў Засценак.

**ЧЫ́СТЫ** *прым.* 1. Празрысты, без смецця. *Ці чы́стая вадá?* Сянно. 2. Гладкі, непрышчаваты. *З малéнькага быў чы́сты, кавалéрам – узяўся балячкамі.* Партызаны. 3. Сапраўдны, з тыповымі рысамі нацыянальнай прыналежнасці. *Вы чы́сты беларýс.* Ульянавічы. ЧЫ́СЦЕНЬКІ *ласк.* Добра ачышчаны, правеяны (пра зерне). *У зáсек ягó чы́сценькае, тады́ на мéльніцу.* Вялікі Азярэцк. ○ ЧЫ́СТЫ ВУ́ГАЛ. Гладкі, без выступаў вугал. *Нямéцкі вýгал ці чы́сты вýгал – глáткі дзéлаіцца.* Міцюкова. ○ ЧЫ́СТАЯ ХА́ТА. Пакой у сялянскай хаце, дзе спяць, адпачываюць. *Тут чы́стая хáта, там трысцéн.* Партызаны. ○ ЧЫ́СТЫ ЧАЦВЕ́Р (ЧАЦВЕ́РГ, ЧЭ́ЦВІРГ). Чацвер перад Вялікаднем. *У Чы́сты чацвéр пам**ы́**ім палы́.* Багданава. *У Чы́сты чацвéрг бéгаюць дзéўкі мы́цца да васхóда сóнца. У Чы́сты чацвéр нáда мы́цца ў бáні да васхóда сóнца.* Запруддзе. *Сóнца гуляіць у Чы́сты чэцьвірг.* Дуброўкі, Гарадок. ◊ ПАД ЧЫСТО́Е браць. Цалкам, поўнасцю, не пакідаючы нічога. *Усё пат чыстóе бярýць, нічавó нéту.* Цясішча.

**ЧЫ́СЦІЦЬ** *незак.* 1. Ачышчаць ад бруду, выдаляць непатрэбнае. *Кішкі чы́сцілі, я дык нóжам чы́шчу.* Багданава. *Парасёнка чы́сціла. Сéмя чы́сціць насіла ў Сяннó.* Нямойта. 2. Габляваць. *Гъблівáлі дóскі, а хто гъварыý – чы́сцілі.* Гарадзец. *А бърáн? Ён с дзéрава – на пол дóскі чы́сціць.* Жохава. *Ён рабóтаіць, чы́сціць дóскі.* Нямойта.

**ЧЫ́ХАННЕ** *н.* Чых, чыхаўка. *Чы́хъньня пъпáла.* Запруддзе.

**ЧЫ́ШЧЫ** 1. *прысл.* Чысцей. *Штоп чы́шчы брáла късá, бóлі вóзьміш.* Леснікова. 2. *прым.* Лепшы, смачнейшы. *Чы́шчы мя́са – грыбы́.* Баравікі.

**ЧЭ́КІР** *м. зб. зневаж.* Малеча, дзеці. *Чэ́кіры гэ́тыя дурэ́юць тýтацька.* Закур'е.

**ЧЭ́ЛІСЬ** *ж.* Сківіца. *Чэ́лісь пъламáлі мáльцу.* Вялікі Азярэцк.

**ЧЭ́МЕР** *м.* Пра нешта вельмі салёнае. *Сóлена, як чэ́мер.* Запруддзе.

**ЧЭ́П'Е** *н.* Прабой, запорнае прыстасаванне, у якое ўстаўляецца дужка навяснога замка. *На чэ́п'е надзéла, а замóк ні павéсіла.* Запруддзе.

**ЧЭ́ПІ** *мн.* Тое ж. *Рас прыéхалі, чэ́пі павы́рвалі і паéхалі.* Баравікі.

**ЧЭР** *м.* Лічынка пчалы, пчаліная дзетка; чарва. *Чэр закладáюць, вывóдзяцца пчóлы.* Запруддзе. *Пчóлы з вясны́ закладáюць чэ́ры.* Неўгадава.

**ЧЭ́РАЗЬ** *прысл.* Усюды. *І от чэ́разь так калíна аб'éдзіна. Там чэ́разь, па гэ́тых гърáх, стъя́лі късякí.* Вялікі Азярэцк.

**ЧЭ́РАП** *м.* Чэрап. *У събáкі тóненькі чэ́ръп.* Пожанькі.

**ЧЭРВÓ** *н.* Чэрава, бруха. *Брýха, чэрвó ў вуўкá гóлъя, а ў събáкі зарóсшы.* Пожанькі.

**ЧЭ́РНЯ** *ж.* Чорная фарба. *Чэ́рні – парашóк такí быў, купля́лі. Вадóй зальéш, размóчыш, раскалóціш і крáсіш. Чэ́рняй крáсілі.* Дольдзева.

**ЧЭ́РПАЦЬ** *незак.* Чэрпаць, браць. *Лóжкай чэ́рпаю бýльбу развáраную.* Вялікі Азярэцк. *Калóнка ні рабóтаіць, хóдзім у калóдзіш, там вадý чэ́рпаім.* Міцюкова.

**ЧЭРЭНÓК** *м.* Скула, баляўка, нарыў. *Чэрэнкáмі цéла пакры́лася у мéсячнага дзяцёнка.* Жохава.

**ЧЭ́СНА** *прысл.* Шчыра, без падману. *Як бýдзеце не па чэ́сна дзéлаць, я так не змірýся.* Цясішча.

**ЧЭСЦЬ** *ж.* ◊ НІ Ў ЧЭСЦЬ НІ Ў ЛÁСКУ. Усё не так, не дагадзіць. Жохава.

**ЧЭ́ЦВЕРА**, **ЧЭ́ЦВІРА**, **ЧЭ́ЦВЯРА** *ліч.* Чацвёра. *Чэ́цьвера дзяцéй засталóся.* Кішуроўшчына. *Павéр, сынóк, чэ́цьвера дзяцéй гудувáла. Бýльбу гнілýю збірáла, пірагóну дам – і вы́рысьлі.* Чуцькі. *Чэ́цьвіра рыбя́т астáлься.* Запруддзе. *Чэ́цьвіра былó, двóе памёрла.* Рэчкі. *Чэ́цьвіра: два сыны́ і дзвé дачкí.* Фасаўшчына. *Нажылí чэ́цвяра дзяцéй.* Дуброўкі.

**ЧЭ́ЦВЕРЦЬ** *ж.* Мера даўжыні. *Чэ́цьверць – на расця́гнутыя пáльцы.* Фасаўшчына.

**ШАБАЛДÁ** *агульн.* Пра гультаяватага чалавека, які на працу, што робіцца талакой, прыходзіць пры яе заканчэнні. *У Чáшніках гавóруць так. Тълакý хъзя́ін рóбіць, навóс вóзяць, хто паслéдні прыéдзіць, той шъбалдá.* Фасаўшчына.

**ШАВАЛÍЦЦА**, **ШАВЯЛÍЦЦА** *незак.* 1. Шавяліцца, варушыцца. *Зікуны́ на пчалý пахóжы, жывýць за кóжай. Як стáнуць атжывáць і шавалíцца за кóжай – карóва зíкаецца.* Жохава. *Шавóліцца нéшта ў мяшкý – і мя́ккае.* Партызаны. *Пакýль сóнца не зáйдзе, бýдзіць шавялíцца* [пра вужаку], *хоць і забíты.* Леснікова. 2. Варочацца. *Ня спіць дзяўчóнка, шавóліцца і ўсё.* Нямойта.

# Ш

**ШАВЕ́Ц** *м.* Шавец. *Тут і шаўцы́, і краўцы́ былі, ўсё дзе́лалі.* Багданава. *Шаве́ц шыў мне.* Дольдзева. *Бо́ты, баці́нкі, ту́хлі – усё шыў, шаве́ц зва́ўся.* Нямойта.

**ШАВЯЛІ́ЦЬ** *незак.* 1. Рухацца. *Ні шаве́ляць тро́хі лы́ткі.* Станюкі. 2. Вымушаць нешта зрабіць, не пакідаць у спакоі. *На пе́нсію пайшо́ў – усё ро́ўна шаве́люць: рабо́тай.* Буй.

**ШАГАВІ́ТЫ** *прым.* Які мае шырокі крок. *А ёсь конь – у яго́ харо́шъя ступа́, шъгаві́ты.* Сянно.

**ША́ЙКА** *ж.* 1. Банда. *Там жа хадзілі э́тыя ша́йкі разбо́йнікаў.* Фасаўшчына. 2. Кампанія, хаўрус. *Сабіра́емся ша́йкамі і е́здзім на за́ръбъткі.* Багданава.

**ШАКАЛА́ДЗІНА** *ж.* Шакаладка. *Шъкъла́дзіну прыне́слі.* Каралевічы.

**ШАЛ** *м.* Шаленства. *Ат ша́лу ён зна́ў* [замову], *е́та калі́ шалёны саба́ка ўку́сіць.* Рулёўшчына.

□ *Лацве́й было́ б шале́ць, калі́ шал бярэ́ць.* Каралевічы.

**ШАЛАШЫ́ЦЬ** *незак.* Цягаць, красці. *Піскля́т вясно́й то́лькі шълъша́ць саро́кі.* Партызаны.

**ШАЛҐА́Н** *м. эмац.-ацэн.* Шалапут, бадзяга. *Цігаюцца такія шалґа́ны, якія і ноч хо́дзюць* [на Івана Купалу]. Самсоны.

**ШАЛЕВА́НЫ** *прым. перан.* Люты, раз'юшаны. *Шалева́ны ён. Яна́ – хале́ра!* Запруддзе.

**ШАЛЕ́ЦЬ** *незак.* Станавіцца дурнаватым. Каралевічы.

**ШАЛЁНЫ** *прым.* Злосны, нястрыманы. *Ён шалёны, ні па ёй.* Запруддзе.

**ШАЛЁЎКА, ШУЛЁЎКА** *ж.* 1. Шаляванне, абшыванне шалёўкай. *Шалёўка ха́ты.* Гарадзец. 2. Дошкі для шалявання, абшыўкі. *До́ска шалёўка – апшыва́юць дом.* Вялікі Азярэцк. *Шалёўка для апшы́ўкі, шыліва́ць дом.* Марозаўка. *Шалю́юць шалёўкай. Дваццаткі до́скі – шалю́юць дом.* Нямойта. *Шалёўка на ха́ці, а на во́кнах – ґарніз. Шалёўкай ашаліва́на ха́та.* Фасаўшчына. *Апшулюва́ць шулёўку нъкупля́лі гато́вую.* Неўгадава.

**ШАЛІ́ВАЧКА** *ж.* Вялікая хустка, якая пакрывае плечы. *Ху́стачка-шалі́вачка бълта́іцца.* Запруддзе.

**ША́ЛІК** *м.* Шалік. *Ша́лік на шы́ю.* Гарадзец. *Ні ша́ліка ні было́, ні кра́лі.* Запруддзе.

**ШАЛІ́ЦЬ** *незак.* Сваволіць. *Што ты шалі́ш?* Станюкі.

**ШАЛО́П** *выкл.* Шмыгнуць, шуснуць. *Мужы́к шало́п – і ў ба́ню, а ба́бы за тра́нты і да другея́ ба́ні.* Нямойта.

**ШАЛО́ПАЦЬ** *незак.* Хадзіць шлёпаючы. *Дош, пъ гразі шало́пълі.* Баравікі. ШАЛО́П-ШАЛО́П. Шлёпаць, ісці, утвараючы глухія гукі. *Шало́п-шало́п у гра́зных бо́тъх пу падло́зі.* Чуцькі.

**ШАЛУДЗІ́ВЫ** *прым. эмац.-ацэн.* 1. Дробны, неўрадлівы. *Шалудзі́вая бу́льба, ня ро́дзіць бу́льба, ка́жуць, по́ля атраві́лі хі́міяй самалёты.* Парэчча. 2. Недалуга, нікчэмны (пра чалавека). *Дзеўкі ска́жуць: шалудзі́вы ма́лец.* Партызаны.

**ШАЛУ́Н** *м.* Дураслівец, сваволыік. *Шалу́н ён, во які́ разба́лаваны шалу́н, так ба́лаіцца.* Міцюкова.

**ШАЛУПА́, ШУЛУПА́, ШО́ЛУПА** *ж.* 1. Лупіна бульбы, цыбулі. *Ра́ншы нъпа́руць мундзюры́ – ш шулупо́й бу́льба.* Запруддзе. *Э́та бу́льба с шалупо́ю, зва́лі бу́льба ў мундзі́рах.* Марозаўка. *Шулупа́ ат лу́ку, я́йца кра́сілі.* Леснікова. *Шулуха́ з ры́бы, шулупа́ з бу́льбы.* Багданава. 2. Ачысткі, шалупінне. *Э́та я шалупу́ вару́ на дварэ́.*

Багданава. *Шулупу́ па́рылі ў хлеп, ллянóе се́мя ў хлеп дабаўля́лі.* Багданава. *Шулупу́ бульбяну́ю сушы́лі, таўклí і е́лі.* Серкуці, Чуцькі. 3. Шкарлупіна (яйца). *Шулупы́ ад яе́чак, што піскля́т вывóдзіць, не выкіда́йце: дзяце́й купа́юць.* Каралевічы. *Шулупу́ зьбіра́ю кура́м атда́ць.* Серкуці. 4. Тонкая абалонка, якой пакрыта зерне злакаў. *Шулупа́ аптаўчэ́цца, і зе́рне астане́цца.* Гарадзец. 5. Перхаць. *Шалупа́ на галаве́. Шóлупа з гълавы́ сыпіцца.* Сукрэмна.

**ШАЛУ́П'Е, ШАЛУ́П'Я** *н. зб.* 1. Лупіна бульбы. *І с шалу́п'ем паясі* [бульбу]. *С шалу́п'ем іна́ крухма́льнъя.* Запруддзе. 2. Ачысткі, шалупінне. *«Дай ты мне шалу́п'я!» – прашу́.* Заазер'е. 3. Шкарлупіна (яйца). *Шалу́п'я ат яе́ц.* Рулёўшчына. 4. Рыбная луска. *Шалу́п'я – луска́ на ры́бі была́, э́та луска́.* Заазер'е.

**ШАЛУПЕ́ЙКІ** *мн.* Шкарлупіны (яйца). *Шалупе́йкі разышліся ў ву́ксусе.* Марозаўка.

**ШАЛУПІ́НА, ШУЛУ́ПІНА** *ж.* 1. Шалупкі; ачысткі з бульбы. *Шалупíну таўчэ́ш у сту́пі.* Марозаўка. 2. Шкарлупіна (яйца). *Шулу́піна ат яе́чка.* Заазер'е. ШУЛУПІ́НКА *памянш.-ласк. Кура́м як не даць пяску́, шулупі́нка слабе́нькая.* Запруддзе.

**ШАЛУПІ́ННЕ** *н. зб.* Лупіна бульбы. *Бу́льбу ў шалупíнні трэ́ба вары́ць.* Фасаўшчына.

**ШАЛУ́ПКА** *ж.* Тонкая абалонка вакол зерня, ядра арэха; луска. *Шалу́пка с сярэ́дзіны арэ́ха настóйваецца, і п'юць. Адна́ шалу́пка астае́цца, як прапала́еш на дварэ́ ячме́нь. Зярнó не таўчэ́цца: шалу́пкі адлята́юць.* Гарадзец.

**ШАЛУХА́, ШУЛУХА́** *ж.* 1. Тонкая абалонка, якой пакрыта зерне злакаў. *У сту́пе ячме́нь патсу́шаны таўчэ́ш – шалуха́ атхóдзіць.* Багданава. *Е́лі ш мякі́ну і шалуху́.* Серкуці. 2. Лупіна цыбулі. *Збіра́ю цубу́льную шалуху́ я́йкі кра́сіць.* Міцюкова. 3. Рыбная луска. *Шулуха́ з ры́бы, шулупа́ з бу́льбы.* Багданава. *Шълуха́у ры́бы.* Фасаўшчына. 4. Перхаць. *На галóўцы шалуха́. Памы́еш рама́шкай – злéзіць.* Ракаў Засценак.

**ШАЛЯВА́ЦЬ, ШАЛЮВА́ЦЬ, ШУЛЮВА́ЦЬ, ШАЛІВА́ЦЬ, ШУЛІВА́ЦЬ** *незак.* Абшываць шалёўкай. *Шалю́юць шалёўкай, дваццáткі дóскі, шалю́юць дом.* Нямойта. *Сам ха́ту шалюва́ў.* Гарадзец. *Ха́ту шалюва́ў ці дом.* Ульянавічы. *Ха́ту шуліва́ў.* Гарадзец. *Шулюва́лі дъска́мі і вот гэ́тым фуга́нкъм атбіра́лі.* Манголія. *Шаліва́ць – вот у мяне́ дом апшълёваны.* Сукрэмна.

**ШАМАЦЕ́ЦЬ** *незак.* Шамацець, шалпацець. *Ён сабе́ паравóе* [сена] *кóсіць. Мы – у куста́х шамóцім.* Запруддзе.

**ШАМПІЁН, ШАПІЁН, ШЫМПІЁН, ШПІЁН** *м.* Шампіньён (ядомы грыб). *Шампіёны на льня́нішчы расту́ць.* Старая Беліца. *Шампіёны па пóлю.* Дуброўкі. *Кру́гленькія, як пухóўкі, усё пóля ссы́пана, грыбы́ такія крэ́пінькія, шапіёны такія.* Запруддзе. *Шапіёны на пóжніх расту́ць.* Неўгадава. *Сівэ́е, бе́лые шымпіёны.* Жохава. *Шпіёны, як ку́пкі, такея́, тóўстыя.* Вялікі Азярэцк.

**ШАНАВА́ЦЬ** *незак.* Шанаваць. *Мы ж вас, Каля́ткі, / Шанова́ць ка́ждый ве́чар бу́дзім, / Светкава́ць бу́дзім* (з песні). Чуцькі.

**ШАНПУ́ЛЬ** *м. экспр.* Адэкалон і іншыя вадкія сродкі, якія выкарыстоўваюцца для замены спіртных напояў. *Шанпу́ль піў і памёр.* Закур'е.

**ШАНС** *м.* Шчасце. *Яму́ шанс бу́дзіць, а мне гóра.* Сянно.

**ША́НСУВЫЙ** *прым.* ○ ША́НСУВЫЙ ІНСТРУМЕ́НТ. Рыдлёўка, сякера, піла. *Ша́нсувый інструме́нт.* Сянно. *Тут уве́сь ша́нсувый інструме́нт.* Фасаўшчына.

**ШАНТРАПА́** *ж. зб.* Зневажальная назва малых дзяцей. *А мне сядзі з гэ́тай шантрапо́й.* Запруддзе.

**ШАПАЛІ́ЦЦА, ШАПАЧЫ́ЦЦА** *незак.* Шавяліцца, варушыцца (пра вужаку). *Як відзіш, як шапо́ліцца* [у траве вужака], *тады́ адбяжы́сся.* Багданава. *Вужа́кі ў траве́ шапо́чуцца.* Сукрэмна.

**ШАПАТКО́М** *прысл.* Шэптам. *Шъпатко́м хърашэ́нька гаво́рыць: «Мары́йка, вы́йдзі, а то ат шампа́нскага гук бу́дзіць». Мужы́к ціхо́нька, шъпатко́м: «Як з'ясі, здо́хніш».* Жохава.

**ША́ПАТНІК, ШАПЫ́ТНІК** *м.* Лопух (расліна). *Ша́патнік як вы́расцець, шы́шкі ле́пяцца. Ша́патнік што зонт.* Багданава. *Э́та ша́патнік у нас заву́ць.* Вялікі Азярэцк. *Ад радзікулі́та ша́патнік такі́, у въгаро́дзе ён.* Запруддзе. *Ша́патнік, марко́ўнік пакасілі, а яны́ пагнілі ад дажджэ́й. Ша́патнік апкасі́ў. Ша́патнік тро́ху сын апка́шкаў, а то шы́шкі атсява́юцца.* Латыгаль. *Балі́ць гулува́, то ша́пытнік кладу́, то ле́хчы, а на́нач і цытрамо́н п'ю.* Міцюкова. *Ша́патнік лячэ́бны, е́слі жалу́дак балі́ць, ко́рні на́да къпа́ць пад во́сень – цвёрды-цвёрды.* Партызаны. *Ша́патнік с шэ́рымі шы́шкамі калю́чымі.* Чуцькі. *Шапы́тнік дзе́ці рвуць, у гълаву́ кіда́юць, каля згаро́ды расцэ́ць.* Запруддзе. *У шапы́тніку лісце каро́ткае.* Ракаў Засценак.

**ША́ПАТНІНА** *ж.* Тое ж. *Та́мыцька во ша́патніна расцэ́ць, ту́тыцька во дзівасіл.* Кавалі.

**ША́ПАШНІК** *м.* Тое ж. *Ша́пашнік – э́та ло́пух такі́, калю́чыя на ім шы́шкі.* Серкуці. *Ша́пашніку прыкла́ла ба́ба.* Багданава. *Я кала магазі́на се́ла ў ша́пашнік.* Вялікі Азярэцк. *Ша́пашнік цвіці́ць, прывя́зваюць, як но́гі баля́ць, к пятам і к спіне́. Ша́пашнік прывяжу́ к назе́, к пятам.* Запруддзе.

**ША́ПКА** *ж.* 1. Галаўны ўбор. *За́йцаву ша́пку но́сіць.* Багданава. *Ша́пкі купля́ліся у магазіне бара́шкавыя.* Каралі. *Схапіў ша́пку пад па́ху і дамо́ў хо́ду.* Партызаны. 2. Верхняя круглая частка грыба. *У гры́ба жо́ўцінькая ша́пка і то́ўсты каранёк.* Дольдзева. *Падасі́нъвічък, у яго́ кра́снъя ша́пка.* Дуброўкі. ША́ПАЧКА *памянш. Пъ ша́пъчкі бяро́м, а карні́ атразаем у апенък.* Фасаўшчына. 3. Галава сланечніка. *Слон* [сланечнік] *со́дзіш, ша́пка кру́глая тъка́я.* Гарадзец. *Ша́пка ў сланешніка.* Розмыслава. 4. Верхнія снапы, якімі накрывалася бабка (дзесяць пастаўленых разам снапоў). *Ша́пкуй ба́пку накрыва́ім. Ста́вілі ба́пкі: дзе́сіць снапо́ў у ба́пку, адзінаццатым накрыва́лі. Е́та ша́пка.* Каралі. 5. Верхняя папярочка ў аконнай ці дзвярной раме. *Ша́пка – увярху́ ў вакне́.* Багданава. *Ша́пка – е́та над вакно́м. Над дзвярмі то́жа ша́пка.* Гарадзец. *Ша́пка надзяе́цца. Ша́пка ве́рхняя дзяржы́ць. Ве́рхняе браўно́ апуска́ецца на гэ́ту ша́пку. Ша́пка увярху́, унізу́ – падаке́нка* [у вокнах]. Дольдзева. *Лу́ткі, і ша́пка на лу́ткі надзяе́цца.* Каралі.

**ШАПТА́ННЕ** *н.* Замова, загавор. *Гэ́та шапта́нне ад спу́гу памага́ець.* Буй. *Ад вужа́кі пъмага́ла шапта́нне.* Ракаў Засценак.

**ШАПТАНУ́ЦЬ** *зак.* Шапнуць, падказаць. *А тут не́хта шъптану́ў, што ён там ажані́ўся.* Нямойта.

**ШАПТА́ЦЬ** *незак.* Загаворваць, замаўляць. *Я і сама́ уме́ю шъпта́ць ат пу́ду, ат піле́псіі.* Багданава. *Шэ́пчаць і плюе́ць ба́ба Ма́р'я, як ле́чыць ад упу́ду.* Запруддзе.

**ШАПТУ́Н** *м.* Чарадзей, варажбіт. *А ну́-ка шаптуно́ў на маро́з!* Нямойта.

**ШАПТУНЫ́** *мн.* Пяньковыя вяровачкі, якімі завязваліся лапці. *Шаптуны́ з вяро́вачак, не з лёну, а з пянькі́.* Закур'е.

**ШАПТУ́ХА** *ж.* Чарадзейка, варажбітка. *К шаптýхъм хадзілі вылівáць въласéнь.* Багданава. *У нас во гэ́та шэ́пчыць, анá шаптýха.* Запруддзе. *Схадзіў к бабішаптýсі, не дáла рáды.* Савінічы.

**ШАПЫ́Р-ШАПЫ́Р** *выкл.* Чапурыцца, прыбірацца. *Інá цяпéр, шапы́р-шапы́р, надзяéцца, тады́ ужэ́ назаўтра пячэ́ць лáткі.* Заазер'е.

**ШАПЯТЛІ́ВА** *прым.* Шапялява. *Шапятліва, не разабрáць. Шапятліва гаварý без зубóў.* Жохава.

**ШАР** *м.* Рад. *У шар пъстанóвюцца і сéюць з съльмя́ных лýбък.* Багданава. *Збярóмся вóсем бап і мужчы́на, які́ хóдзіць за плýгам. Стънавіліся па дзве ў шар* [так аралі зямлю пасля вайны, калі не было каня]. Гарадзец. *У мянé шар вішань, а на іх кап віиніна.* Чуцькі. ШАРÓК, ШАРÓНАК *памянш. У шарóк небальшэ́нькі лён* [лён у снапках, у бабках] *пастáвілі.* Гарадзец. *Кънчáлі жаць, бáпкі стáвілі, у рат, у шарóнък.* Каралі.

**ШАРАБА́Н** *м.* Выязны вазок з адкрытым верхам; фаэтон. *Ідзём шъръбáн зъцягнім.* Фасаўшчына.

**ШАРАБА́НЫ** *толькі мн.* Званочкі, якія чапляліся на конскую збрую; бразготкі, бомы. *Шъръбáны – званкі нъ кані.* Жохава.

**ШАРАБУ́Р** *м.* Гармідар, беспарадак. *Шарабýр у хáці, нідзé німá парáдку.* Манголія.

**ШАРАПА́ШКА** *ж.* Чарапашка (?). *Шарапáшкі ў вóзеры ёсь.* Багданава.

**ШАРАХУНЫ́, ШУРХУНЫ́, ШЫРГУНЫ́** *толькі мн.* Званочкі, якія чапляліся на конскую збрую; бразготкі, бомы. *Шъръхуны́ – званóчкі былі такія, нъ кані.* Жохава. *Нъ вясéллі нъ дугý і каню на шы́ю вéшылі шыргуны́. Шурхуны́ на кóні, як éдзіць мълады́ да мъладýхі. На шыю, такія, як вянóчак, увéсь з кълакóльчыкаў.* Ракаў Засценак.

**ШАРА́ЦЬ** *незак.* Трапаць (лён). *Лён трэ́піш трапýшкуй, трэ́піш нъ калéна, шърáіш.* Закур'е.

**ШАРА́ШАЦЬ** *незак.* Збіраць, рэзаць. *Пайшлá крапіву шарáшаць, ды́хаць нямóжна былó, так пяклó, як напóхла.* Нямойта.

**ШАРЛАТА́Н** *м.* Чалавек, які бадзяецца без справы. *Шарлатáны ягó збілі.* Партызаны.

**ША́РНУЦЬ** *зак.* 1. Шарахнуць. *Як шáрнуў буты́лкай, то буты́лка разбілася.* Баравікі. *Шáрнулі на ягó матацы́клам.* Запруддзе. 2. Шпурнуць, шуснуць. *Каністру шáрнуць – і хáта гары́ць.* Закур'е. 3. Дзьмухнуць. *Як шáрне – касцёр ляціць.* Дольдзева. 4. Драпнуць. *Гляжý я: ён* [певень] *шáрнуў кіпцюрóм – нóшка крáсная стáла.* Сукрэмна.

**ША́РПЫ** *мн.* Шарэнгі, рады. *Нас баб тры́ццаць вы́вядуць на пóле і ў шáрпы станóвяць.* Багданава.

**ШАРСЦІ́НА** *ж.* 1. Шэрсць жывёлы. *Пакупáеш дзяцёнка, пóпілам патрэ́ш, працэ́дзіш – застаéцца кацячая шарсціна, як крэктуны́ у дзяцёнка.* Нямойта. *Там усякая шарсціна: сабáчча, авéчча.* Партызаны. 2. Волас. *Котá не пускáюць між ду нох, каб шарсцін не былó на ліцэ́* (павер'е). Міцюкова.

**ШАРСЦІ́НКА** *ж.* Пух, пер'е. *Апсмáліць кýрыцу, штоб ні былó шарсцінак.* Буй.

**ШАРУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Шнарыць. *Што ты пóрыссі, шарудзіш тáмыцька.* Нямойта.

**ШАРХ** *выкл.* Сарваць, хутка і рашуча зняць. *Яны́ з ягó шарх паўшýбак – і забрáлі на акóпу за Віцебск* [расказ пра тое, як немцы ў час Вялікай Айчыннай вайны на акупаванай тэрыторыі забіралі людзей на прымусовыя работы]. Сукрэмна.

**ША́РХАЦЬ** *незак.* Шархаць, дакранацца, утвараючы гук. *Ша́рхаеш – усе́ ру́кі аб дра́чку, паку́ль дзяро́ннікаў напячэ́ш.* Леснікова.

**ШАРША́ВЫ** *прым.* Шурпаты, бугрысты. *Жа́ба, като́рая рабая́, шарша́вая.* Карпавічы.

**ШАРША́ТКА** *ж.* Вялікая швейная іголка. *Шърша́тка – ва́лінък патшы́ць, мяхі ла́піць.* Турава. *Шърша́ткаю што́паюць наскі.* Багданава, Каралі.

**ШАРШЭ́ПКА** *ж.* Невялікі вузкі рубанак з паўкруглым лязом. *Шаршэ́пка нападо́біе руба́нка, палукру́глае ле́звія.* Гарадзец. *Шаршэ́пка – такі інстуме́нт струга́ць з адно́й ру́чкай. Шаршэ́пка вузе́йша за руба́нак, жале́зка друга́я.* Марозаўка.

**ША́РЫКІ** *мн.* Званочкі, якія чапляліся на конскую збрую; бразготкі, бомы. *Ша́рыкі на шы́ю чъпа́лі каню́.* Леснікова.

**ША́РЫЦЬ** *незак.* Шнарыць. *І знае́ць жа, дзе канфе́ты! І ша́рыць, і ша́рыць!* Станюкі.

**ШАРЫ́ЦЬ** *незак.* Успрымацца размыта, блякла, шэра. *Мітусі́ць мне, шары́ць, як прас пълатно́ зацяга́іць мне.* Багданава.

**ШАРЭ́НҐА** *ж.* Рад. *Шарэ́нґа сядзіць грыбо́ў.* Вялікі Азярэцк.

**ШАРЭ́НДА** *ж.* Грубая тканіна. *Шарэ́нда гру́бая, каля́ная.* Нямойта.

**ШАРЭ́НЬКІ** *прым. ласк.* Шэранькі. *Зязю́лька шарэ́нька, пракуку́й шчырэ́нька, ко́лькі мне гадо́ў жыць?* Буй.

**ШАСЕ́ЙКА** *ж.* Шаша, бальшак. *Па шасе́йцы вёска.* Нямойта.

**ШАСНА́ЦЦАЦЬ** *ліч.* Шаснаццаць. *Сяку́, сяку́, сяку́ – рас. Сяку́, сяку́, сяку́ – два. Сяку́, сяку́, сяку́ – тры. Хто ня ве́рыць, хай праве́рыць, калі ні шъсна́ццъць* (з дзіцячай лічылкі). Запруддзе.

**ША́СТАЦЬ** *незак.* Шапацець, шалясцець. *Не́шта ша́стаіць, ша́стаіць у хле́ве, як на дзе́раві лісця.* Гарадзец.

**ШАСЦІКЛІ́НКА** *ж.* Спадніца, сукенка на шэсць кліноў. *Шасцікліінка шыро́кая.* Неўгадава.

**ШАСЦІ́НЫ** *мн.* Памінанне нябожчыка праз шэсць тыдняў пасля дня смерці. *Шасці́ны – шэсць нядзе́ль, со́рак дзён, як памрэ́ць чалаве́к.* Баравікі. *Шасці́ны – як со́рак дней ці шэсь нядзе́ль про́йдзіць.* Савінічы. *Да шасці́н душа́ блужда́іць, ні зна́іць, куды́ ёй дзе́цца.* Гарадзец. *Шчэ шасці́ны ці былі? Ня ду́жа даўно́ паме́рла – зімо́й. К шасці́нам пасла* [пасля] *пъхаро́наў цялёнка атвязла́.* Багданава. *Ся́нні шасці́ны, шэсь нядзе́ль, а чэраз гот – гадаўшчы́ны, го́ткі. Былі на Ляксе́івых шасці́нах. Па Ляксе́ю спраўля́лі шасці́ны.* Міцюкова.

**ШАСЦІРА́ДКА, ШАСЦІРА́ТКА** *ж.* Сорт ячменю, у якім зярняты ў коласе размяшчаюцца ў шэсць радоў. *Шасціра́дка крэ́пка кладзе́цца, а двухра́тка стаіць, што струна́, глядзе́ць лю́ба. Шасціра́тка лама́іцца – гало́вы уніз, ня мо́жна вязьма́ здзе́лаць.* Ракаў Засценак.

**ШАСЦІРА́К** *м.* Шасцёра коней для выезду; шасцярык. *Шасцірако́м пан вы́ехаў.* Вялікі Азярэцк.

**ШАТА́ЦЦА** *незак.* 1. Хістацца. *Стаіць хрэст дубо́вы, да́жа ні шъта́ецца.* Серкуці. 2. Бадзяцца. *У ле́сі не́скалькі дней шъта́ліся.* Нямойта. 3. Цягацца, быць у інтымнай сувязі. *Шата́лася ба́ба с паліца́ямі.* Алексінічы.

**ШАТКАВА́ЦЬ, ШУТКУВА́ЦЬ** *незак.* Шаткаваць. *Мы сь сястро́й шатку́ім капу́сту.* Кішуроўшчына. *Капу́сту шуткува́лі.* Міцюкова.

**ШАТКО́ЎКА, ШУТКО́ЎКА, ШЫТКО́ЎКА** *ж.* Прылада для шаткавання капусты; шаткоўня, шаткаўніца. *Шатко́ўка – тры нажы́. Таўкачо́м патаўчо́м* [капусту], *со́лі ўсы́пім.* Турава. *Шутко́ўка – капу́сту шуткува́ць.* Марозаўка. *Шытко́ўка для капу́сты была́.* Буй.

**ШАТРАВЕ́ННЕ, ШАТРАВІ́ННЕ** *н.* Адходы ад шатравання – ачышчэння зерня ад абалонкі. *Шатраве́нне – там і шалу́пкі, і ко́нчыкі ячме́ню. Усё абдзіра́лася – кру́пы былі бе́лінькія. Ну, абдзіра́лі: шатраві́нне аддзе́льна, кру́пы аддзе́льна.* Багданава.

**ШАЎКО́ВЫ** *прым.* ○ ШАЎКО́ВАЯ ТРАВА́. Дэкаратыўная расліна з белымі падоўжанымі паскамі на лістах. *Шаўко́вая трава́ перарадзі́лася. Я яе́ высіка́ла.* Ракаў Засценак.

**ШАЎНЫ́** *прым.* Прызначаны для шыцця. *Шаўны́я ніткі.* Гарадзец.

**ША́ФЕР** *м.* Дружка жаніха на вяселлі. *Маладу́ю ша́фер выку́плівае.* Багданава. *Ат маладу́хі – ша́ферка, ат маладо́га – ша́фер.* Запруддзе. *Ша́фер, шафяры́ца – дружбакі́ малады́х на вясе́ллі.* Партызаны, Сукрэмна.

**ША́ФЕРКА, ША́ФІРКА** *ж.* Дружка нявесты на вяселлі. *Ат мъладу́хі ша́феркі, ат мъладо́га – ша́фір.* Запруддзе. *Мъладу́хіна сістра́ – э́та ша́фірка, а е́та ўжо ша́феры ат маладзя́на.* Серкуці.

**ШАФРА́Н-КІТА́ЙКА** *ж.* Сорт яблыні. *Я́блына шафра́н-кіта́йка. Я́блыкі яе́ до́ўга ліжа́ць, крэ́пкія.* Гарадок.

**ШАФЯРЫ́ЦА** *ж.* Дружка нявесты на вяселлі. Партызаны.

**ШАХ** *выкл.* Рэзка шпурнуць, кінуць. *Яго́ руж'ё шах у во́зіра!* Рубежніца.

**ША́ХАМ-МА́ХАМ** *прысл.* Не згаджаючыся, пярэчачы. *Та́я, ша́хам-ма́хам, не хо́ча каро́ў пераганя́ць.* Латыгаль.

**ШАХ-ШАХ** *выкл.* 1. Перадача гукаў рэзання нечага з шумам. *Шах-шах-шах – рэ́жуць сало́му. Сярпо́м нъръзэ́лі.* Каралевічы. 2. Хутка пачаць і скончыць працу. *Шах-шах – і разгрузі́лі машы́ну кірпічу́.* Кляпчэва. 3. Адыходзіць крок за крокам, аддаляцца. *Шах-шах – і падала́ся ад я́блані.* Нямойта.

**ШАША́, САША́** *ж.* Шаша, бальшак. *З Латы́гала, с шашы́ да Ганчаро́ва дае́дзіш.* Баравікі. *Къла сашы́, къла даро́гі стаі́ць.* Галашчакіна.

**ША́ШАЛЬ** *м.* Шашаль. *Ша́шаль – што дрэ́ва пато́чыць. Як пато́чыць – парахня́, пръсыпа́юць дзяце́й.* Вялікі Азярэцк.

**ШАШО́К** *м.* 1. Тхор. *Ваню́чы шашо́к, то́лькі па́стку паста́віць і улаві́ць.* Багданава. 2. *эмац.-ацэн.* Пра чалавека, ад якога дрэнна пахне. *Як забзьдзі́ць хто, то ка́жуць: во, шашо́к!* Багданава.

**ШВАГЕ́РКА, ШВАҐЕ́РКА** *ж.* Жончына сястра; швагерка. *Я табе́ швагé́рка, ты мне шва́гра.* Міцюкова, Запруддзе. *Шва́ґра таке́й мой ка́аць* [кажа]*: «Шваґе́рка, я куплю́ магазі́н».* Фасаўшчына.

**ШВА́ҐІР** *м.* Швагер. *Мой шва́ґір з Мъгълёўскай во́бласці.* Дуброўкі.

**ШВА́ГРА, ШВА́ҐРА** *м.* Тое ж. *Сястры́н муж шва́гра зва́ўся.* Запруддзе. *Шва́гра ро́дненькі ка мне жыць прышо́ў, хай жыве́ць. Жо́нка паме́рла, сярдзе́чніца.* Міцюкова. *Шва́гра вы́капаў я́мку, сало́мы кала бо́ку – і скры́ню паста́віў. Шва́гра прыйшо́ў. І мы скры́ню сало́май, і закапа́лі. А наве́рх жы́та скла́лі.* Партызаны, Алексінічы, Багданава, Дольдзева, Дуброўкі. *Я браў жо́нку, а ў яе́ брат быў, так гэ́та шва́ґра.* Сукрэмна. *Шва́ґра і тры сястры́ пагі́блі.* Гарадзец, Багданава, Дольдзева, Леснікова, Фасаўшчына, Дуброўкі.

**ШВА́ҐРАЧКА** *м. ласк.* Тое ж. *Устава́йце, бра́ццы, устава́йце. / Мы сабе́ ужо́ грэ́ху закупі́лі, / Свайго́ шва́грачку загубі́лі, / Пляме́ннічка ўтапі́лі* (з песні). Буй.

**ШВА́ЛІ** *мн.* Палі, завостраныя бярвёны, якія ўбіваюцца ў зямлю і выкарыстоўваюцца як фундамент. *Шва́лі – па́лі зъга́няюць у рэ́чку і дзе́лаюць слю́зы.* Запруддзе.

**ШВЕД, ШВЕТ** *м.* Шашаль. *Швед*[т] *– што то́чыць дзе́рава, палуча́ецца чарвято́чына. Як дзе́ці малыя* [націск?], *бра́лі, кла́лі, перасыпа́лі дзяце́й, каб не прэ́лі.* Багданава. *Швед*[т] *дрэ́ва есь.* Гарадзец. *Швет то́чыць бервяно́ ў ха́ці.* Запруддзе. *Дро́вы стары́я, швет іх пае́ў.* Кавалі.

**ШВЕ́ЙКА** *ж.* Швяя, швачка. *Вучы́лася на шве́йку – кі́нала* [перастала вучыцца, кінула]. Багданава. *Ці ў нас, ці ў друге́я дзярэ́ўні бы́лі шве́йкі, там мы і шы́лі.* Партызаны. *І тады́ На́сцю Аўхі́маву ўзя́лі на шве́йку учы́цца.* Серкуці.

**ШВО́РАН, ШВО́РАНЬ** *м.* Жалезны стрыжань, які з'яўляецца вертыкальнай воссю передка павозкі; шворан. *У пярэ́днія ву́згулуўя шво́рън устуўля́іцца. Зве́рху ў яго́ вусы́, а зні́зу – чыка́. Шво́рън скрапля́іць уве́сь вос. Шво́ран цераз вось.* Гарадзец. *Шво́ран саедзіня́е пірадо́к с калёсамі, на ім пірадо́к кру́ціцца.* Кляпчэва. *Шво́ран саедзіня́ў пярэ́днія калясы́.* Дуброўкі. *Шво́рань.* Станюкі.

**ШВЫРНУ́ЦЬ, ШВУ́РНУЦЬ, ШВАРАНУ́ЦЬ, ШВА́РНУЦЬ** *зак.* 1. Шпурнуць, кінуць. *Ён табе́ швырне́ць бурака́ ў вакно́.* Гарадзец. *Як шву́рнуў у мяне́ каме́ннем!* Гарадзец. *Шву́рнуў ка́мень дале́ка. Как шву́рнуць у рэ́чку за ру́кі за но́гі! Шву́рнуў вужа́ на даро́гу – як мълако́ пъцякло́. Аста́вілі на даро́зе – а яго́ і няма́.* Нямойта. *Шва́рнула яго́ ка́скай.* Дольдзева. 2. Трапна стрэліць. *Швараны́ў яму́ з нъга́на* [відаць, усё ж такі аўтамат] *о́чарадзь пра́ма ў грудзь.* Запруддзе.

**ШВЭ́БЛА** *агульн.* Зневажальная назва старога, хворага, нямоглага чалавека. *Во як такі́х ужо́ швэ́блаў, так ста́ўляюць на апара́т, устана́ўляюць сце́пень зо́ба.* Нямойта.

**ШКАЛУТА́ЦЬ** *незак.* Шкуматаць, трэсці. *Дачка́ з ёй ні пала́дзіла, шкалута́ла, бі́ла яе́.* Запруддзе.

**ШКАП** *м.* Шафа. *Шкапы́ дзе́лаюць, ша́фы. У шка́пе бы́лі гро́шы. Шкап жа мо́ды ні было́.* Багданава. *Адзе́жа ў шкапу́ ві́сіць, гро́шы у пе́ршы які́ кърма́н кла́ла. Ні было́ каму́ шка́па спра́віць. Шкапы́ такі́я то́жа, усё с аддзе́лкай.* Нямойта. *У тым шка́пі адна́ шуфло́да.* Гарадзец. *Шкап с дасо́к там стая́ў, сталы́.* Партызаны. *С ку́бламі я за́муш ні ішла́, у мяне́ скры́ня была́, а ціпе́р шкап.* Турава, Запруддзе, Леснікі.

**ШКАП** *ж.* Тое ж. *Мне шкап ужэ́ была́ ні кра́шъньня, а жо́ўценькая шкап была́. Я мъла́я была́, а шкап была́.* Нямойта.

**ШКАРЛАТЫ́Н, ШКАРЛАЦІ́Н, ШКАРЛЯЦІ́Н** *м.* Шкарлятына. *Шкарлаты́н быў, да Багушэ́ва трэ́ба было́ ве́зці. Шкарлаты́н ду́жа тру́нна вы́лячыць.* Леснікова. *Шкарлацін быў – адзі́н паме́р. Шкарлацін быў, ня тут гаво́рачы.* Багданава. *Яны́ шкарлаці́нам забуле́лі – заве́злі абе́дзьвух у бальні́цу.* Вялікі Азярэцк. *Шкърлаці́нъм пъбале́лі мае́ тры дачкі́.* Нямойта. *Шкарляці́н быў, бале́лі дзе́ці. Ра́ньшы забале́іць і ра́ды ні даду́ць.* Багданава. *Шкарляці́н у ма́льчыка стаў – і паме́р.* Запруддзе.

**ШКАРЛУПА́, ШКАРЛУ́ПА, ШКУРЛУПА́, СКАРЛУПА́** *ж.* 1. Шкарлупіна (яйца). *Шкърлупа́ ў яі́чка. Шкарлу́па з яі́чка.* Багданава. 2. Шалупінне, шалупайкі ад бабовых і інш. культур. *Се́мячка гарбузо́вае у шкарлупе́.* Нямойта. *Шкурлупа́ ат се́мячак.* Розмыслава. *Скарлупу́ на загне́т сы́палі.* Карпавічы.

**ШКАРЛЯЦІ́НА** *ж.* Шкарлятына. *Шкарляці́най балéў.* Гарадзец.

**ШКА́ФЧЫК, ШКА́ПЧЫК** *м.* Невялікая шафа. *Сушы́лка былá і шкáфчык, на ніс мълакó стáвіш.* Гарадзец. *У латýшкі, у шкáпчык хувáіш.* Каралі. *У шкáпчыку, у бáначцы грóшы ляжáлі.* Нямойта.

**ШКЕ́ЛІЦЬ, ШКО́ЛІЦЬ** *незак.* 1. Дакараць. *Як стáніць янá ягó шкéліць, а я уступлюся тады́.* Буй. 2. Біць. *Ён і мянé б'ець* [певень], *а я ягó шкéлю* [палкай]. Сукрэмна, Марозаўка. 3. Здзекавацца. *Так шкéлілі, як атступáлі, – ругáлі, плёткамі дъвáлі, убівáлі.* Марозаўка. 4. Падганяць (чым-н.) выгаворваючы. *Шкóліць къня́, каб бег.* Міцюкова.

**ШКІЛЕ́Т** *м.* Пра надзвычай худога чалавека. *Худы́, як шкілéт.* Вялікі Азярэцк. *Кóсці адны́, вы́сах, як шкілéт.* Запруддзе.

**ШКІЛЁНДЗЯ** *ж.*, **ШКІЛЁНДЫ, ШКІЛЁНДЗІ, ШКІЛО́НДЗІ, ШКІЛО́НДЫ** *мн.* Каўбаса-вантрабянка, а таксама трыбух, начынены вантробамі. *Шкілёндзя былá ў нас кылбасá: і пéчань там, і пóчкі, мя́са, прыпрáвы. Атвáрыш усё ўмéста і рэ́жуць у кішкі ці ў трубýх.* Нямойта. *Къбанá заб'éш, нýтранасці, лёхка, пéчань у жалýдак – éта шкілёндзя.* Сукрэмна. *Шкілёнды – éта пічанёўкі. Вантрóб'я пірарýбліваюць і ў кішкі тóўстыя налівáюць, падвéшваюць, яны́ высыхáюць.* Фасаўшчына. *Шкілёндзі хто завéць, хто пічанёўкі – с пéчані кілбасá.* Фасаўшчына. *Шкілóндзі дзéлаюць: пéчань, сéрца, лёхкае. Шкілóндзі дзéлаюць. Éта лёхкая, сéрца, пóчкі – íмі чынілі кішкі.* Буй. *Шкілóнды рабілі: крышы́лі пячóнку, здóру, каб лýчча былó.* Баравікі.

**ШКО́ДА** *ж.* 1. Пашкоджанне. *Андрýша, кап ты шкóды мне ні зрабíў! Кап ты мне шкóду якýю ні здзéлаў!* Багданава. 2. Патрава. *Кругóм шкóда, кап не стравіць кóньмі.* Кішуроўшчына. *Пóля мáлая. Тут шкóда, тут шкóда, а скаціна відзіць.* Самсоны.

**ШКО́ДА** *прысл.* Шкода, шкада. *Тóлькі куўнярцы́ патрýць, шчóлаку навáрым, а самý рубáшку ня трэш: мы́ла шкóда.* Буй. *Шкóда лáўкі – шукáй тады́ даскý.* Запруддзе.

**ШКО́ДНІК** *м.* 1. Шкадлівец. *Шкóднік які ты, Мíша.* Дольдзева. 2. Насякомае, якое псуе пасевы. *Шкóднік бýльбу есць: аб'ядáіць кóрні.* Партызаны.

**ШКО́ЛА** *ж.* Школа. *Сáла у сýмку, а то і які пръснáк – і пашлі ў шкóлу.* Фасаўшчына.

**ШКРАБАТНІ́** *мн.* Стары, зношаны абутак. *Якія шкръбатні на плéчы – і пашóў.* Заазер'е.

**ШКРЫ́ГАЦЬ** *незак.* Соўгацца. *Атышлá інá* [ачуняла, папраўілася], *во шкры́гаіць і шкры́гаіць.* Фасаўшчына.

**ШКРЭ́БАЦЬ** *незак.* Хадзіць, не падымаючы ног. *Шкрэ́баіць, нох ні паднíміць.* Нямойта.

**ШКРЭЦЬ** *ж.* Зневажальная назва малых непаслухмяных дзяцей. *Шкрэць надаéла во éтъя – на дзяцéй скáжуць.* Запруддзе.

**ШКУ́РА** *ж.* 1. Скура. *Шрáмы на шкýры* [у каровы]. Рассвет. 2. Абразлівая, лаянкавая назва чалавека. *«А ты, шкýра, ідзі!» Абдуры́ў дзяўчóнку, а шчэ шкýрай абзывáіш.* Нямойта. ◊ ШКУ́РУ ДЗЕ́РЦІ. Браць высокую цану за што-н., абіраць каго-н. *Кáжды з нас бýдзіць шкýру дзéрці, бо знáе, што мы не стаíм за цанý.* Нямойта.

**ШКУРА́Т** *м.* Шкумат. *Дзе які шкурáт – падплітáла лáпці.* Кляпчэва.

**ШКУРАТО́К** *м.* Тое ж. *Шкураткóм палю́х прывя́зыіш.* Фасаўшчына.

**ШКУ́РКА** *ж.* Футра невялікага пушнога звярка. *Шку́рку злупіў, здаў, а мяса* [зайца] *згато́віла хъзя́йка.* Міцюкова.

**ШКУРЫ́НКА** *ж.* Сала з падчарэўя (падбрушша). *Шкуры́нка – этá як то́нінькае са́ла, э́та патчаро́вак.* Багданава.

**ШЛАНГ** *м.* Шланг. *У лётку шланг укла́ла, укла́ла і слу́хала: пчо́лы жывэ́і.* Вялікі Азярэцк.

**ШЛАПА́К** *м.* Пра нешта абвялае, мяккае. *Як шлъпа́к мя́ккъя.* Запруддзе.

**ШЛЁМ** *м.* Шлем. *Брат, што ў шлёме, забі́ты.* Леснікова.

**ШЛЁПАНЦЫ** *мн.* Абутак без заднікаў. *Ідзе́ць, адна́ нъга́ ў съпагу́, другá́я – у шлёпанцы.* Партызаны.

**ШЛІЗ** *м.* Смоўж. *Шлізы́, пуўзуны́, на храпту́ як па́нцыр. Іх яду́ць лу́ччы ры́бы.* Фасаўшчына.

**ШЛО́ПАЦЬ** *незак.* Хадзіць з цяжкасцю. *Шло́паю съма́ ў мъгазі́н. А ўсё адно́ з і́мі* [дзецьмі] *шло́паю абы-дзе́.* Запруддзе. ШЛОП, ШЛЁП. Шлёпнуцца, пляснуць. *Къшалёк шлёп – і ў ваду́. Карма́н ня́ду́жа глыбо́кі, кашалёшак шлоп у ваду́.* Нямойта.

**ШЛО́ПНУЦЬ** *зак.* 1. Шлёпнуць, плюхнуць. *Яна́ каля мяне́ шло́пнула.* Запруддзе. 2. Стукнуць, ударыць. *Не́шта шло́пнула ў асі́ну. Аж грана́та.* Серкуці.

**ШЛЫ́НДАЦЬ, ШЛЭ́НДАЦЬ** *незак.* Бадзяцца. *Як цёпла, дык во па двару́ шлы́ндаюць.* Запруддзе. *Шлэ́ндаю ўсё я, во ў мъгазі́н пайду́.* Серкуці.

**ШЛЭ́ПКІ** *мн.* Вязаны абутак з тоўстых ільняных нітак, якія пралі з грубай пражы. *Хадзілі ў шлэ́пках. Напрадзём на вірьціно́ то́ўста і спляцём шлэ́пкі.* Вялікі Азярэцк. *Шлэ́пкі плялі, я ў іх у шко́лу хадзіла. Ніткі такія таўстэ́я, са зрэ́б'я. Шлэ́пкі дзёлалі кручка́мі.* Дольдзева. *Во, шлэ́пкі пъвіза́ла.* Партызаны. *Шлэ́пкі з лёну віза́лі.* Станюкі. *Ма́льцы ў лапця́х, а дзе́ўкі ў шлэ́пках гуляць хадзілі. Шлэ́пкі з таўсты́х ні́так. Дзе́ўкі ў шлэ́пках, з ні́так кручко́м вя́жуць.* Фасаўшчына. ШЛЭ́ПАЧКІ *памянш.* Маленькія шлэпкі для дзяцей. *Здзе́лаеш шлэ́пачкі дзяцём.* Мянюцева.

**ШЛЮ́ХА** *ж. эмац.-ацэн.* Неахайная жанчына. *Шлю́ха, па-бува́лашнаму, неакура́тная жэ́ншчына.* Нямойта.

**ШЛЯХ** *м.* Шлях, бальшак. *Шлях ідзе́ць на Латы́галь.* Баравікі. *Е́тым са́мым шля́хъм ішлі.* Вялікі Азярэцк. *Там далёка ат шля́ху.* Нямойта. *Гля́неш – шлях, аўто́бус хо́дзіць.* Парэчча. *За шля́хам – лес.* Ракаў Засценак. *То́лькі прыхаджу́ да шля́ху – ліця́ць самалёты. Да шля́ху ні дъхадзя́, бамбілі.* Серкуці. *Вёў чъла́вёк па шля́ху каро́ву, там шлях.* Гарадзец, Гарадок, Каралі, Кляпчэва, Манголія. *Па шляху́ скрозь у Ча́шнікі.* Закур'е.

**ШЛЯХЦЮ́К** *м.* Шляхціч. *Там у нас шляхцюкі́ жылі́.* Вялікі Азярэцк.

**ШМА́ЙКА** *ж. эмац.-ацэн.* Пра некага, каго трымаюць пры сабе падобна шылу (?). *Што шма́йку яе́ цягну́ў за сабо́й.* Ульянавічы.

**ШМА́ЛЕЦ, ШМАЛЬЦ, ШМЭЛЬЦ** *м.* Топлены тлушч. *Шма́лец – і свінны́, і гусіны жыр.* Гарадзец. *Шмальц – е́та гусі́ны, вуці́ны ці куры́ны.* Міцюкова. *Шмэльц у курэ́й, яны́ ні баяцца хо́ладу. Блін пъмачы́ць, бу́льбу ў шмэльц с ку́рыцы, гусі.* Буй. *Шмэльц гусі́ны.* Нямойта.

**ШМАНДЭ́ЛІЦЬ** *незак.* Дубасіць, лупцаваць. *Шмандэ́ліць удо́ль спіны́ рамнём!* Буй.

**ШМАТО́К** *м.* Невялікі кавалак тканіны. *Укру́ціш са́ла кусо́к у тра́пачку, у шмато́к – э́та по́дмаска.* Багданава. ШМО́ТАЧКА *ж. памянш.* *Цяку́н* [мака-

вае насенне] *сыпълі ў шмотъчку і кідылі ў калóдзіш, кап дош быў* (звычай). Партызаны.

**ШМІЛЬЧА́К** *м.* Смелы чалавек. *Бувáла шмільчакі хадзілі, яйцы брáлі.* Гарадзец.

**ШМУЛІ́КАЦЬ** *незак.* Змазваць, націраць. *Пóдмыску завéрніш у трáпачку і шмулікаіш патэ́льню.* Заазер'е.

**ШМЫК** *выкл.* Шмыкнуць, уцячы. *Я шмык – і пъшлá.* Нямойта. *Завярнýўся, шмык, – пашóў ад мянé.* Савінічы.

**ШНІ́ПРЫ** *мн.* Бярвёны пэўных памераў, сплаўны лес. *Лес рубілі: што на шпáлы, што на шніпры, што на бэ́лькі. Шніпры Дзвінóй сплаўлялі ў Рыгу.* Ульянавічы.

**ШНІ́ТКА** *ж.* Снітка, сыць (расліна); выкарыстоўваецца на корм жывёле. *Шнітка кала балóт расцéць, свіння́м даю́ць.* Каралі. *Шнітку свінні яду́ць.* Марозаўка.

**ШНІ́ЦЕЛЬ** *ж.* Тое ж. *Абычна шніцель свінням сабірáюць і свінéй кóрмяць.* Запруддзе.

**ШНІЦЬ** *ж.* Тое ж. *Шніць у лéсі расцéць, дзядзвель. Пóйдзеш, мяшóк прынясéш с пýшчы – свінні ядýць.* Багданава. *Шніць у нас у гарóдзе расцéць, лáпкамі бальшы́мі. Свіння́м рвуць.* Запруддзе. *Шніць – свінням і карóвам даю́ць. Зялёная, лапушы́стая. Кóркі капáюць і суп вáруць.* Самсоны.

**ШНУР** *м.* 1. Шнур. *Шнýръм сціскáіцца мы́льніца нъ кассі.* Леснікова. 2. Раменная перадача. *Шнуры́ калясó крýцяць* [у калаўроце]. Каралі.

**ШНУРО́К**, **ШНЮРО́К** *м.* Шнурок. *Буты́лку на шнурóк і ў бóчку – віна́ набярýць.* Ульянавічы. *Смаллянкі куляюцца на шнюркý.* Нямойта. ШНУРО́ЧАК *памянш.-ласк.* 1. Невялікі рэмень, пры дапамозе якога нешта замацоўвалася. *Шнурóчак звáлі румушóк ад гужэ́й, ад рэ́мня.* Багданава. 2. Роўны рад снапоў. *Ячмéнь у шнурóчак стáвілі, гуськóм састаўлялі ячмéнь у шнурóчак.* Дольдзева.

**ШНУРО́ЎКА** *ж.* Гарсэт, шнуроўка. *Шнурóўка вы́краена, як жалéтка, сціпна ўнізе пашы́та, у збóрачку, увéрсе завязвалася.* Нямойта.

**ШО́ЛУДЗІ** *толькі мн.* Заразнае скурнае захворванне, пры якім на скуры пад валасамі з'яўляюцца гнойныя струпы; шолудзі. *У ягó былі шóлудзі, бълячкі нъ гълавé. Мяклі й мяклі. Бáбы клялі: «Шóлудзі нъ ягó!»* Заазер'е.

**ШО́ПА**, **ШО́ХА**, **ШАХА́** *ж.* 1. Страха на чатырох слупах, куды складвалі сена, дровы; шопа. *У шóпу сéнца складáлі. Сéна складáлі ў шóпу, алі інá забуры́лъся.* Рулёўшчына. *Шóхі былі падзэ́лънъя для сéна.* Серкуці. *У мянé ёсць грыбóк ці шахá для дроў. Дрóвы пат шахý палажы́ў.* Серкуці. 2. Павець. *Пъднавéс дзéлалі, шахá звáлі. Нáда здзéлаць шахý пат сéна. Цяпéр з дасóк дзéлаюць.* Гарадзец. *Шахá – сéна кладýць. Як мнóга – кры́ша падымáіцца.* Фасаўшчына.

**ШО́РАШНА** *прысл.* Стан, калі чуваць ціхі шум, шорах. *Шóрашна стáла ў лéсі, нéйкі шóрах.* Манголія.

**ШО́РКІ**, **ШО́РХІ** *мн.*, **ШО́РКА** *ж.* Конская збруя без дугі і хамута, са шлеямі; шоры. *Шóркі надзівáліся на каня́. Шóркі – éта шырóкія рамні.* Карпавічы. *Рáньшы ланцýх звáлі, а къля шы́і – шóрка.* Нямойта. *Шóркі на шы́ю каню́ надзявáюць.* Дольдзева. *Шóркі – як къня́ запрагáюць.* Закур'е. *Шóрхі надзявáць каню́ на шы́ю.* Дольдзева.

**ШО́РНІК** *м.* Майстар, які займаецца вырабам конскай вупражы. *Шóрнік збрýю дзéлаў. А катóры хамуты́ дзéлаў, назывáлі шóрнік.* Гарадзец. *Шóрнікі назывáліся, што хамуты́ шы́лі.* Леснікова. *Шóрнік – éта што хамуты́ пачыня́лі, сядзёлкі*

*ладзілі.* Леснікова. *Шорнік? Мой дзядзька быў шорнік. Хьмуты дзелаў, сядзёлкі.* Нямойта. *Шорнік гэты хамуты шыў із гатоўвага мацерыяла.* Парэчча.

**ШО́РСТКІ** *прым.* Шурпаты, нягладкі. *Тькая трьва шорсткая, німожна атьбраца.* Серкуці. ШО́РСЦЕНЬКІ *памянш.-ласк. Падлогі шурувалі хвошчыкам, столь. Ён* [хвошчык] *шорсценькі.* Багданава.

**ШОСТ** *м.* Жэрдка. *Шост пірат печчу, нь яго вешалі.* Фасаўшчына. *Ля печы шост вісіць.* Цясішча. *На шост што захочаш, тое і вешаеш. Шост – вешаем адзежу, як памыем.* Багданава. *Шост – ета кьбана як заб'ём, на пачопках кьлбасы патсушьваем.* Дольдзева. ШАСТО́К, ШО́СЦІК *памянш. Шосцік такі быў на печы.* Дольдзева. *Шосцік быў кала сцяны, вешалі бяльё* [у лазні]. *Быў шастök, павесіць што.* Багданава. *І на шастку, над духам* [кілбасы]. *І яны тады такія краснінькія, харошынькія.* Багданава.

**ШОЎК** *м.* Шоўк. *Шоўку галубьвьга прывёс.* Нямойта.

**ШО́ФІР** *м.* Шафёр. *Вучыўся на шофіра, а машыны яму німа.* Партызаны, Кляпчэва.

**ШПА́ГА** *ж.* Шпага. *Быў пан, у яго зьльтая шпага была.* Вялікі Азярэцк.

**ШПАК** *м.* Шпак. *Шпакі чорныя.* Багданава. *На Сьракі прылітаюць птушкі: шпак, жаўранка.* Гарадзец. *Шпак у дуплах сядзіць.* Міцюкова. *Шпакі ляцяць у дзярэўню, у шпакоўнях пасяляюцца кала хаты.* Розмыслава. *У шпака яйцы фіялетавага* [колеру]. Сянно. *І шпакі, і буцяны прыляцяць.* Ульянавічы. ШПАЧО́К *памянш.-ласк. Шпачок чорны, ўжо прыляцеў.* Багданава. *Шпачкоў мала, патравілі ўдабрэннем.* Мянюцева.

**ШПАКО́ЎНІЦА** *ж.* Пра невялічкую, непрыглядную пабудову. *Сенкі, як шпакоўніца, прылеплены. Як шпакоўніца прыклеена віранда к хаці.* Партызаны.

**ШПАЛЕ́РЫ** *толькі мн.* Шпалеры. *Во, шпалеры купіла.* Багданава.

**ШПА́НДАР** *м.* Спецыяльны шавецкі інструмент у выглядзе крука з прымацаванай да яго вяроўкай. *Шпандар з дроту, кручок загнуты. А тут кручок і вяроўка. І тады нагой выцягуіш* [калодку з пашытага абутку]. *Шпандарьм дзяцей раньшы гьнялі. Шпандьр – што калоткі выцягвалі.* Жохава. *Шпандьр – бочку як дзелаюць.* Леснікова.

**ШПАР** *м.* 1. Паз, выемка. *Кіжоўнікьм шпары выбіраць у рамі для сцякол. Паставілі шулу, а тады ў шуле дзелаіш шпар, закладаюцца броўна.* Гарадзец. *У шуле шпар выбіваеш, і закідыіш шулу.* Фасаўшчына. *Адбіраіцца шпар для варот, дзе варота заходзяць, эта называіцца шула.* Нямойта. *Выбіралі шпары у балках з дзвюх старон і клаўся пьталок. Шпары адбіраць пьт сцякло нада.* Жохава. *А хто ў бальках выбіраіць шпары. Доскі пьдгьняеш адна к аднэй у шпар.* Серкуці. *У гонтах нада спецыяльна шпары прыбіраць. Нажоўка, драчка была – шпары выдзіраць.* Сукрэмна. ШПАРО́К, ШПІРО́К *памянш. А тады там шпарок выбіраіш. Шпарок выбіраіш і дно ўстаўляіш.* Фасаўшчына. *Кітоўнікам такі шпірок адбіраецца, дзе сцякло ўстаўляецца.* Гарадзец. 2. Шчыліна. *Шпары ў хаці забіваюць мхом.* Запруддзе. *А яны* [клапы] *ў шпарах жывуць. Шпар падладзіў посьлі пажару.* Багданава.

**ШПА́РКА** *прысл.* Хутка, быстра. *Старья, а так шпарка хадзіла! Я ні магла справіцца.* Баравікі. *Я не магу, кап ціха, кап шпарка.* Закур'е.

**ШПАРНА́ЦЬ** *незак.* Бадзяцца. *Шпарналі па дзярэўні, курочылі* [рабавалі] *жэншчын.* Нямойта.

**ШПА́РНУЦЬ** *зак. экспр.* Стрэльнуць, выстраліць. *Як шпа́рнець! Сыч ко́ціцца па кры́шы, па клє́ці – ўсё ро́ўна крычы́ць. Свякро́ў: «Гэ́та па мне крычы́ць». Як шпа́рнулі – ба́ню спалі́лі.* Нямойта.

**ШПАРО́К** *м.* Радок. *Агуркі са́дзім у два шпаркі́.* Партызаны.

**ШПАЦЫРАВА́ЦЬ, ШПАЦЯРАВА́ЦЬ, СПАЦЫРАВА́ЦЬ** *незак.* Шпацыраваць, прагульвацца. *Шпацыру́іць і шпацыру́іць – хто хо́дзіць ўзат ці ўпе́рат.* Фасаўшчына. *Шпацяру́іць ўзад да ўпе́рът.* Запруддзе. *Што ты спацыру́еш ту́дысю́ды.* Нямойта.

**ШПІГА́Т** *м.* Шпагат. *Шпіга́т разраза́лі но́жам.* Багданава. *Шпіга́т у дзе́вяць ство́лак.* Ульянавічы.

**ШПІГА́ТА** *ж.* Тое ж. *Як цяпе́р шпіга́та – ізрэ́б'е была.* Дольдзева. *На шпіга́ту паве́сіць тъба́ку.* Серкуці.

**ШПІГА́ЦІНА** *ж.* Тое ж. *Шпіга́ціна та́кая, што вяро́ўкі уюць. Шпіга́ціна така́я, што цюкі вя́жуць.* Латыгаль. ШПІГА́ЦІНКА *памянш. На́дзя дъла́ даро́гу сы́ну, нъпіса́ла запі́ску, а съма́ нъ шпіга́цінку й зъсілі́лься.* Нямойта.

**ШПІЁН** *м.* Шпіён. *Шпіёны фі́нскія забі́лі сы́на: грані́ца блі́ска была́.* Нямойта.

**ШПІКАДА́Р, СПІКІДА́Р** *м.* Шкіпінар. *Шпікада́р на са́хар і дава́лі, як ко́кліч.* Гарадзец. *Спікіда́р.* Вялікі Азярэцк.

**ШПІКАЛЯ́НТ** *м.* Спекулянт. *Шпікаля́нты мёт паддзе́лваюць.* Неўгадава.

**ШПІКУЛЯ́ЦЫЯ** *ж.* Спекуляцыя. *Усё шпікуля́цыя, усё капера́цію́.* Нямойта.

**ШПІ́ЛЬКА** *ж.* 1. Шпілька, заколка. *Шпі́лька – во, е́та була́ўка.* Багданава. *Кно́пкі, шпі́лькі былі́. Шпі́лек у въласы́ нато́ркаюць.* Гарадзец. 2. Зашпілька. *Шпі́лькай сашпі́ліш спадні́цу – і жнеш.* Мянюцева. 3. Стрэмка. *Як пераспе́іць лён, шпі́лек наго́нім.* Гарадзец.

**ШПІНГАЛЕ́Т** *м. эмац.-ацэн.* Падлетак. *Я тады́ быў шпінгале́т: мне тады́ ні да зямлі́ было́.* Парэчча.

**ШПОК** *выкл.* Шпокнуць. *Трахне́ш арэ́шыну, то арэ́хі шпок, шпок на зе́млю.* Партызаны.

**ШПУ́ЛЬКА** *ж.* 1. Дэталь калаўрота, на якую намотваюцца спрадзеныя ніткі. *Шпу́лькі былі́.* Апечкі. *На шпу́льку ні́ткі мата́юцца.* Каралі. 2. Колькасць нітак, што змяшчаецца на шпульцы. *Шпу́льку дасць напра́сці.* Марозаўка. *Супрутжа́нкі прышлі́. Пряду́ць да двана́ццаці часо́ў, кап па шпу́льцы напра́сці.* Нямойта. *Шпу́льку змо́тъюць на мътаві́ла.* Закур'е.

**ШПУ́ЛЯ** *ж.* Дэталь калаўрота, на якую намотваюцца спрадзеныя ніткі. *Шпу́ля – што нама́тваецца пра́жа.* Вялікі Азярэцк.

**ШПУНТ** *м.* Шпунт, корак. *Шпунт – е́та клін кру́глы.* Багданава. ШПУ́НЦІК *памянш. Бо́чачка кру́глінькая, нібальшэ́нькая: ра́ньшы піва гна́лі. Зале́зныя абручы́, навярху́ шпу́нцік.* Каралі.

**ШПУНТО́ЎНІК** *м.* Цяслярскі інструмент, якім робяць (выбіраюць) пазы. *Шпунто́ўнік для вы́баркі шпа́ра.* Нямойта.

**ШПЫ́РЫЧАК** *м.* Маленькі кавалачак чаго-н. ядомага. *Шпы́рычък ці кусо́чак са́ла. Шпы́рычак са́ла аста́ўся.* Вялікі Азярэцк. *Шпы́рычък атрэ́жаш хле́ба.* Гарадзец.

**ШПЭ́НДЗІКІ** *мн.* Сорт печыва. *Я гэ́тых шпэ́ндзікаў і наката́ю.* Багданава.

**ШПЭ́ТНЫ** *прым.* Хударлявы, стройны. *Былá шпэ́тная, а цяпéр разваліласся, як тýша.* Дольдзева.

**ШРАМ** *м.* 1. Шрам, рубец. *Шрамы́ на шкýры. Прабіла бок карóва.* Рассвет. 2. Гадавы круг на рагу ў каровы. *Пу зубáм, пу ръгáм: скóлькі шрамóў – стóлькі гадóў карóве.* Апечкі. *Нъ ръгáх шрам: скóлькі ўжо ацялілася карóва.* Чуцькі.

**ШТÁБА** *ж.* Жалезная паласа для запірання дзвярэй; завала, штаба. *Нъ варóты жалéзнъя штáба былá.* Самсоны. *Штáба на дзвер жалéзнъя, дзвер закрывáць.* Фасаўшчына.

**ШТАНДÁРЫ** *мн.* Апорныя слупы ў будынку. *Дзе ніска – штандáры дубóвыя. На штандáры дубóвыя дом стáвілі.* Леснікова. *Штандáры стáвілі, калóдачкі такія. Штандáры стáвілі път хáту.* Міцюкова. *У другíх міснасцях камнéй нéту, стáвюць штъндáры, как фундáмінт, а патóм лóжуць брóўна.* Нямойта. *Упярóт былó хáту стáвілі нъ штандáрах – дубóвых шýллях.* Серкуці. *Штандáры – набівáюць такія во брóўна, санцімéтраў пяцьдзесят, стáвюць калóткі, а патóм лóжуць брóўна. Э́та называíцца штандáры. Станóвяцца пат страпілы па бáлкам паппóры, штоп страпілы ні прагінáлісі, станóвяцца штандáры, страпілы.* Нямойта.

**ШТАНЁНКІ, ШТАНІНКÍ** *толькі мн.* Дзіцячыя штонікі. *Двóе штанёнкаў вісéла – і гэ́тыя забрáў.* Нямойта. *Штанінóк не былó ў бальніцу дзяцéй звéсці.* Запруддзе.

**ШТАНЫ́** *толькі мн.* Штаны. *Пан хадзіў у дрэ́нных штанáх. Біс штанóў хадзілі.* Неўгадава. ◊ ШТАНЫ́ КАРÓТКІЯ. Пра таго, хто не дарос для выканання якой-н. справы. *Ты ат мянé далёка астáўся, у цябé штаны́ карóткія.* Запруддзе.

**ШТО** *займ.* 1. Што. *Ну ў чóм дзéла? Я знáю, дъ чагó ты кáжъш?!* Гарадок. *Въражбітка скъзáла, хто і што украў.* Міцюкова. *Як німá с чым дзéлаць свáдзьбу, так схадзіліся.* Хамінічы. *Тады́ піць ні булó за штó.* Цясішча, Гарадзец, Партызаны. 2. Нешта, што-н. *Нáда ш на стол што пъстáвіць.* Партызаны. *Што з'есць, пъвячэ́раіць і ідзé нъ мялцы рабóтаць.* Серкуці. *Ці пъсláў ты што?* Падворыца.

□ *Што пражы́та, то забы́та.* Ульянавічы.

**ШТО** *злучн.* 1. Што. *Дýмаець, што ямý угóл дастáнецца.* Міцюкова. 2. Бо, таму што. *Цяпéр і ні раджáюць крэ́пка, што цяшка глядзéць.* Гарадзец.

**ШТОДЗЕ́НЬ** *прысл.* Кожны дзень. *П'е гарэ́лку штодзéнь, дык во вы́сах.* Заазер'е. *Штодзéнь éлі кíслую стрáву.* Партызаны, Вялікі Азярэцк.

**ШТРАХÓЎКА** *ж.* Страхавыя выплаты. *Ямý штрахóўку не далí.* Багданава. *Заплаціла штрахóўку за хáту.* Кляпчэва.

**ШТРАХУВÁЦЦА** *незак.* Страхавацца. *Ці бýдзіця штръхувáцца?* Міцюкова.

**ШТРЫ́ФЕЛІНА** *ж.* Адна яблыня сорту штрыфель. *Штры́феліна былá. Я́блыкі дóўга храняцца, бы пéпанкі.* Латыгаль.

**ШТРЫ́ФЕЛЬ, ШТРЫ́ФІЛЬ, ШТРЫ́ХВІЛЬ** *м.* Сорт яблыні і яблыкаў. *Штры́фель у нас, я́блыня.* Латыгаль. *Каля хлявá у мянé штры́фель.* Нямойта. *У мянé ў садý тры я́блыны штры́філь.* Гарадзец. *У нас раслí антóнуўка, цыгáнкі, штры́філь, бéлы налíў, цíтуўка, ранэ́ткі, сéрыя я́блыкі.* Сянно. *У нас такія сарты́: антóнаўка, штры́хвіль, цíтуўка, апóрт, бéлы налíў, ранéтка, лясóўка.* Мянюцева. *Штры́хвіль зърадзíў сёліта.* Ульянавічы.

**ШТРЭ́ЙФЕЛЬ** *ж.* Сорт яблыні. *Адна́ штрэ́йфель кала хлéва есь я́блана.* Нямойта.

**ШТÝКА** *ж.* Адзінка ліку; адна асобіна, адна рэч. *Ваўкóў былó штук пяць.* Багданава. *Два штýкі зáйцы ліжáць кла рýні ў разóры.* Міцюкова.

**ШТЫР** *м.* Штыр. *Убіць мóжна два штыры́ ў сцяну́ і вéшыць шланх.* Жохава.

**ШУ́БАЙ** *прысл.* ◊ ЗДЗЁЛАЦЦА ШУ́БАЙ. Успучыцца. *Шу́бай такéй здзéлаецца, падымáецца смятáна.* Савінічы.

**ШУБЧА́ЦЬ, ШУПЧЭ́ЦЬ** *незак.* 1. Пішчаць. *Шупчáць піскліняты.* Каралевічы. 2. Шамацець, аддаваць глухім гукам. *Шубчы́ць, а не звініць гаршчóк – знáчыць пабіты. Катóры звініць гаршóк, той харóшы, не пабіты. А катóры шупчы́ць, той не.* Багданава.

**ШУГА́ЦЬ** *незак.* Шугаць (пра полымя). *Пóлымя сіняе шугáець у пéчы. Жар у я́мку заграбём, пóлымя шугáець, свякрóў гавóрыць: «Ідзі пагуля́й!» – а то я ўгару́.* Нямойта.

**ШУГЕ́ЛЬ** *выкл.* Шпурнуць, шугануць. *Бярэ́ць кірпічы́ну, шугéль – і тóчна пъпъдáіць у ру́кі.* Кляпчэва.

**ШУКА́ЦЬ** *незак.* Шукаць. *Сярóт лéсу нáда пáпараць-квéтку шукáць. Вы ш шукáйце яé, найдзéце яé.* Запруддзе. *Зъпалі́ў хунáр і пашлі пъ тъкáх шукáць късня́. А сістрá шукáла карóву два дні.* Міцюкова. *А тады́ шукáй іх, глядзі. Ідзіце шукáйце сваіх нъпáрнікъў.* Гарадзец, Багданава, Каралевічы, Леснікова.

**ШУ́ЛА, ШУЛА́** *ж.* Драўляны вертыкальны слуп з высечанымі пазамі, у якія закладаюцца бярвёны ці брус; на гэты слуп падвешваецца створка варот. *Стáвюць дзве шу́лы, закідваюць брóўнамі* [кладуць адно бервяно на другое, каб зрабіць загароду] – *стáвюць замёт между хáтай і хлéвам.* Вялікі Азярэцк. *Шу́лы кала хлéва ўкáпваеш. Пастáвіш шулу́, а тады́ ў шулé дзéлаіш шпар, закладáюцца брóўна. Дзве шулы́ ўкапáюць, брóўны закладáюць. Шулы́ кала хлéва станóвяць. Пастáвіць шулу́, у шулé дзéлаіцца шпар, у шулé стáвіцца яшчэ́ пáлка* [на гэтую *пáлку* ‘брус’ навешваюць потым створку варот: *пáлка* паварочваецца ўнутры шулы і разам з *палкай* паварочваецца і створка – вароты адчыняюцца і зачыняюцца]. Гарадзец. *Вот шулы́ для дзвярэ́й.* Марозаўка. *Шулá – інá съ шпáрам. Укáпываіцца два сталбá, і ў іх шпары́, а ў шпары́ забрáсываюць брóўна. Э́та называ́ецца замёт.* Нямойта. *Вот шулá і вот шулá, на іх варóта стáвіліся. У шулу́ бярвéння закідыіш, інá ў пъркáні.* Фасаўшчына. *Пастáвім у шулé і пераплёт рóбім.* Дуброўкі.

**ШУ́ЛЛЕ** *н. зб.* Шулы. *Рáньшы ўсе хлявы́ ў шу́лля станавілі.* Запруддзе. *Замёт – э́та кадá забрáсъваеш у шу́лля брóўна, э́та называ́іцца замёт.* Нямойта. *Шу́лля, тóлькі ні дубóвае, ў хлéві. На штандáрах, дубóвых шу́ллях пъстáвіў тáта хáту.* Серкуці, Гарадзец.

**ШУМ** *м.* Шум, гудзенне ў галаве. *Шум у гълавé быў, гълъвá балéла.* Каралевічы. *Стаў шум у гълавé.* Партызаны.

**ШУМ** *м.* 1. Адходы пры малацьбе, веянні зерня; амецці. *Пра́ннікам сноп мáку абаб'ю́ць, звéтраюць. Шум адляціць – зéрнышкі астáнуцца.* Гарадзец. 2. Смецце. *Скóлькі шу́му ў вóўні, яны́* [авечкі] *качáюцца зімóй у сéні, сéна даéць шум.* Багданава. ◊ ЛЁЗЦІ ШУ́МАМ. Выпадаць у вялікай колькасці. *Валасы́ шу́мам лéзлі.* Розмыслава.

**ШУ́МА, ШУМА́** *ж.* 1. Адходы пры малацьбе, веянні зерня; амецці. *Таўчэ́ш кру́пы, каб шу́ма атсыпáлася. Шу́ма уся́ атсы́плецца ад зярнá.* Багданава. *Шумá – што звéрху на зéрні: калóссе, салóма. Шу́ма – э́та мéлкае зярнó, нідаспéлае.* Фасаўшчына. *Касцéр – шу́му такýю палучáлі.* Заазер'е. *Прасéілі усё, шу́му вы́трасіш, éта ужó на пóсцілку.* Нямойта. *Дадýць якіх адхóдаў, шу́мы, і рабóталі.* Чуцькі. *Шуму́ гэ́ту палучáлі – касцéр ж жы́там – і хлеп пяклі.* Каралі. *Мы ш маладэ́я,*

*вытрапім лён – як шолк. Уначную хадзілі трапáць, здавáлі не такýю шумý.* Карпавічы. *Кілагрáмы шумы́ палучáлі.* Самсоны. 2. Смецце. *Шýма – éта мýсар.* Вялікі Азярэцк. *Шýма, ну во змітáіш смéцце – éта шýма. Змяцéш у кýчку і вон.* Багданава. *Шýфлі – во чысціш двор, шýму гэ́ту шýфлем събярэ́ш.* Дольдзева. *Шýму высыпáюць на шумéтнік.* Сянно. *Трóшку шумý збóльшага зъмятý.* Вялікі Азярэцк. *Нáда чысціць крыніцу: шýмы пóўна.* Цясішча. *Нъ шумéтнік, як сóнца зáйдзіць, шумý ні вынасілі* [каб не вынесці багацця]. Запруддзе. 3. Попел. *Шумý з пéчы павы́грабуць, нясýць шумý. Кýды панясéць – туды́ зáмуж пóйдзеш* (звычай). Чуцькі.

**ШÝМА** *ж.* Накіп. *Кáжуць, што дзе вы́кінеш грыбнýю шýму, так мóгуць вы́ръсьць грыбы́.* Вялікі Азярэцк.

**ШÝМАТ** *м.* Шум, мітусня. *Прáма шýмат нéйкі.* Серкуці.

**ШУМАЦÉЦЬ** *незак.* Шамацець. *Пашлі капáць зямлю́ – шумаціць нéшта. Бéлае зóлата.* Фасаўшчына.

**ШУМÉЙКІ** *толькі мн.* Званочкі, якія чапляліся на конскую збрую; бразготкі, бомы. *Шумéйкі на дугý начэ́пюць – звіняць.* Багданава. *Каню́ на дугý шумéйкі такія вéшаюць. Звіняць красіва. На свя́та, на свáдзьбу вéшаюць. Бубянцы́, шумéйкі звіняць красіва. Шумéйкі кóням чаплялі, званóчкі.* Гарадзец. *А, гéты шумéйкі нъ дузé чъпáлі, як éхълі за мъладэ́й. Дзын-дзын бърьбáнілі.* Запруддзе.

**ШУМÉТНІК** *м.* Павець для гаспадарчых патрэб. *Шумéтнік быў, як у кагó павéтка былá. Там усё складáлася, і дрóвы. Éта шумéтнік.* Багданава.

**ШУМÉТНІК** *м.* Сметнік. *Зънясі гэ́ты мýсър нъ шумéтнік.* Савінічы. *На шумéтнік вынóсюць памы́йкі. На шумéтніках чыстацéл расцéць.* Вялікі Азярэцк. *Кýры капáюцца на шумéтніку.* Запруддзе.

**ШУМÉЦЬ** *незак.* 1. Гудзець. *Пчóлы шумяць, крýжацца кала лётак.* Вялікі Азярэцк. *Шуміць рой.* Запруддзе. 2. Лаяцца, сварыцца. *Мáмка, нащтó ты шуміш?* Леснікова. 3. Шамацець. *Аж шуміць усё на ей!* [такое ўсё новае, з іголачкі]. Вялікі Азярэцк. 4. Пра руплівыя адносіны да працы і яе добрыя вынікі. *Штоб гэ́тыя жэ́ншчыны ды цяпéр – усё б шумéла! Так рабóталі!* Запруддзе.

**ШУМÍНКА** *ж.* 1. Пацяруха з сена. *Нацёртую шумінку с сéна* [дзе стог стаяў зімой] *éлі курълáтычкі.* Сянно. 2. Пустазелле. *Нідзé ні шумінкі, анны́ цвяты́.* Неўгадава.

**ШУМÍХА** *ж.* Шуміха, сумятня. *А тут такáя шуміха, людзéй събрáлася, схваціліся ўтрох за мянé.* Нямойта.

**ШÝМКА** *ж.* Попел. *Пéчкі змітáлі да усхóда сóнца. Шýмку збірáіш і вы́нясеш, кýды захóчыш. А дзе сабáкі брэ́шуць – тады́ ў тýю стóрану зáмуж вы́йдзіш* (звычай). Заазер'е.

**ШÝМКА** *ж.* Пена на перагрэтым кані. *Хъзяін шýмку зганяець мяткай.* Вялікі Азярэцк.

**ШУМЛÍВЫ** *прым.* Шархаткі, шумлівы. *Янá шумлівая, як камы́ш.* Вялікі Азярэцк.

**ШУМÓН** *м.* ◊ НАВÓДЗІЦЬ ШУМÓН. Прыводзіць усё ў поўны парадак. *Тамáра усё шумóн навóдзіць.* Івоні. *Інá, як ні прыéдзіць, шумóн усігдá навóдзіць.* Серкуці.

**ШУПÉЦЬ** *незак.* Шыпець. *Ужáка шупіць, і яé біць нáда.* Запруддзе.

**ШÝПІЦЬ** *незак.* Разумець, цяміць. *Шýпіць – гэ́та панімáць. Мáлінькі рабёначак шýпіць.* Заазер'е.

**ШУПУВÁЛ** *м.* Майстар, які ў мінулым вырабляў валеннем шэрсці капелюшы і іншыя рэчы; шапавал. *Ранéй дык шупувáлам аддавáлі валіць вóўну.* Вялікі Азярэцк.

**ШУ́РАЧКА** *ж.* Ласкальная назва авечкі. *Шу́ръчкі мае́, шу-шу́, пашлі ў хлеў!* Партызаны.

**ШУ́РКА** *ж.* Даўнейшая мера дроў, роўная 2 м$^3$. *Шу́рка дроў была́, нібальшэ́нькая ку́чка.* Вялікі Азярэцк.

**ШУ́РНУЦЬ** *зак.* Шпурнуць, шпульнуць. *Як шу́рнуў ка́рты з ваго́нчыка!* Ульянавічы.

**ШУРПА́ТЫ** *прым.* 1. Шурпаты, не гладкі. *Крэ́пкі шурпа́ты гарбу́з, пасяку́ тапаро́м.* Гарадзец. 2. Агрубелы, не мяккі. *Рукі́ шурпа́тыя, калі́ папо́рцяцца.* Заазер'е. 3. Бугрысты. *Жа́ба шурпа́тъя тъка́я. Іна́ тъка́я шэ́ръя, шурпа́тъя.* Запруддзе. *Жа́ба шурпа́тая, цёмная.* Міцюкова. 4. Каляны, шорсткі. *Шурпа́ты хвошч па лясу́, па нізі́нах.* Каралі.

**ШУРУВА́ЛКА, ШУРУВА́НКА** *ж.* Вехаць з хвашчу для мыцця посуду. *Шурува́лку скру́ціш с хвъшча́.* Заазер'е. *Шурува́нкуй шару́й чыгу́н!* Багданава.

**ШУРУВА́ЦЬ, ШАРУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Чысціць, скрэбці. *Ве́нікам шарува́лі. Ве́нік змяце́цца, астане́цца хваро́сціёйка бяз лісця – і тады́ тым шарува́лі. Падло́гі шурува́лі хво́шчыкам, столь. Ён* [хвошчык] *шо́рсценькі.* Багданава. *Шару́іш, шару́іш са спі́ртам – па́льцы змярцве́юць.* Нямойта. *Шурува́ла, мы́ла, каб не віда́ць было́, як зъкапцёў къцяло́к.* Цясішча. 2. *перан.* Махляваць. *Заве́душчая* [малочнай фермай] *ста́ла шурува́ць то с ма́слам, то са смітанай.* Багданава.

**ШУРУДЗІ́ЦЬ** *незак.* Рабіць рэвізію, правяраць. *Шурудзя́ць на́шых: камі́сія зъ камі́сіюй.* Сянно.

**ШУРУ́П** *м.* Шпень са спіральнай нарэзкай; шруба. *Шуру́п атвёрткай уварачваюць.* Запруддзе.

**ШУ́РХАЦЬ** *незак.* Веяць, палаць (зерне). *Ве́ілкай* [ручной] *я шу́рхала дабро́.* Баравікі.

**ШУ́СТРЭНЬКІ** *прым.* Спрытны, рухавы. *Шу́стрэнькі хло́пчык быў.* Багданава.

**ШУ́ТАЧКІ-ШУ́ТАЧКІ** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць авечак. *Шу́тъчкі-шу́тъчкі! Гані́ іх сюды́!* Партызаны.

**ШУТЛІ́ВЫ** *прым.* З пачуццём гумару, жартаўлівы. *Така́я шутлі́вая дзе́ўчына была́.* Нямойта.

**ШУТРУВА́НАЕ** *н.* Зерне, ачышчанае ад абалонкі, шалупіння. *Бува́ла, былі́ ме́льніцы, кру́пы дзе́лалі, прыва́рак, шутрува́нае.* Вялікі Азярэцк.

**ШУ́ФЕЛЬ, ШУ́ПІЛЬ, ШУ́ХАЛЬ, ШУ́ФІЛЬ, ШУ́ПІЛЬ** *м.* Шуфель. *Шу́фель – къпа́ць пясо́к. Сагну́ты; як лапа́та, але́ сагну́ты. Шу́філь – е́та во жы́жу ат пърася́т, торф у калхо́зі* [убіраем]. Запруддзе. *Шу́флем снех раска́пыем. Шу́фель залу́ высыпа́ць.* Гарадзец. *Шу́флі – во, чы́сціш двор, шу́му гэ́ту шу́флем събярэ́ш.* Дольдзева. *У нас шу́халь і ё шу́халь.* Жохава. *Шу́філь – і снех раска́паім, у анба́рах шу́флім піралапа́чваюць. Шу́хлем зярно́ зачэ́рпнеш.* Леснікова. *Шу́філь – што пясо́к кіда́юць, піралапа́чваюць зярно́.* Алексінічы. *Шу́піль як лъпа́та, то́лькі што загну́ты.* Нямойта.

**ШУФЛЯ́ДА, ШАФЛО́ДА, ШУФЛО́ДА, ШУХЛЯ́ДА** *ж.* Шуфляда. *Сто́лікі с шуфля́дамі ў каго́ былі́.* Алексінічы. *Шуфля́ды ў шкапа́х.* Рэчкі. *Шъфло́ды ў шка́пе дзве. Шуфло́ды аткрыва́юцца ў шка́пі.* Гарадзец. *У скры́ні была́ шухля́да.* Буй. ШУХЛЯ́ТКА *памянш. Шухля́тка – туды́ кла́лі віла́чкі, нош, пасу́дзіну. Сто́лік такі́ с шухля́ткамі.* Нямойта.

**ШУХ** *выкл.* Шугануць, рэзка падняцца і паляцець. *На кры́шу – шух і паляце́лі.* Жохава.

**ШЎХЛЯ** *ж.* Шуфель. Фасаўшчына.

**ШУХЛЯ́ДАК** *м.* Шуфляда. *Шухля́дак у сталу́.* Рэчкі.

**ШУЦЕ́ЙНЫ** *прым.* Жартаўлівы, іранічны. *Заклы́чълі – ста́лі ба́лаваціца, дурэ́ць. Е́та шуце́йнае сло́ва.* Нямойта.

**ШУ-ЧУ-ЧЎ** *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць ці падганяюць авечак. *Шу-чу-чу́, шу́тачкі!* Фасаўшчына.

**ШУ-ШЎ** *выкл.* Тое ж. *Шу́рычкі мае́, шу-шу́, пашлі́ ў хлеў!* Партызаны.

**ШЧАБЯТА́ЦЬ** *незак.* 1. Стракатаць (пра сароку). *Як саро́ка шчабе́чыць, страко́ча і страко́ча.* Багданава. *Саро́ка шчабе́чыць – но́васць бу́дзіць* (прыкмета). Гарадзец. *Саро́кі шчабе́чуць.* Партызаны. *Саро́ка ста́нець шчабята́ць.* Розмыслава. 2. Падаваць голас (пра ластаўку). *На дошч шчабе́чыць ла́стъчка* (прыкмета). Вялікі Азярэцк.

**ШЧА́ВЕЛЬ, ШЧА́ВІЛЬ** *м.* 1. Лісце, сцябло расліны. *Шча́вель у ю́не ме́сяцы рвом, зъка́тваем.* Каралі. *Хо́дзяць па куста́х, шча́вель сабіра́юць.* Фасаўшчына, Багданава, Рудніца. *Шча́віль насі́ла ў Сянно́, по́ля было́ ў шча́ўлі.* Каралевічы. 2. Страва са шчаўя. *Шча́ўлю табе́ зварыла, прынясла́.* Апечкі. *Шча́ўлю нъва́рыш, смíта́ніны.* Запруддзе. *Шча́ўлю навару́, ссяку́ на пръсна́к. Шча́ўлю ссяку́ і гэ́тае мукі́ з асакі́ – і пяку́ пръснакі́.* Партызаны.

**ШЧАЗА́ЦЬ** *незак.* Знікаць. *А тады́ руса́лкі шчаза́юць.* Гарадзец.

**ШЧАКА́** *ж.* 1. Шчака. *За шчаку́ тъба́кі – і ссець бува́ла мъя́ ба́ба.* Багданава. 2. Бакавая паверхня абуха. *Біць даўбе́шкуй, то шчо́кі ні атліця́ць* [гаворка пра тое, што нельга біць молатам па сякеры]. Чуцькі.

**ШЧАКАТАРАВА́ЦЬ** *незак.* Тынкаваць. *Печ ста́лі шчъкътъръва́ць, а тады́ пабе́лім.* Запруддзе.

**ШЧАКАТА́ЦЬ, ШЧЫКАТА́ЦЬ** *незак.* Бегаць па спіне каровы, драпаць скуру, з-за чаго карова пакрываецца потам. *Ла́ска каро́ву шчако́ча ўсю ноч.* Буй. *Ла́ска шчако́чыць каро́ў.* Леснікова. *Шчако́чыць каро́ву ла́ска, з начы́ аш ка́пае с каро́вы. На спіне́ сядзіць ла́ска, шчыко́чыць, каро́ва тады́ мо́края.* Гарадзец.

**ШЧАКАТА́ЦЬ** *незак. перан.* Сакатаць, балбатаць. *Шчако́чыць дзе́ўка, як саро́ка.* Багданава.

**ШЧАКАТЎРКА** *ж.* Лучына абіваць сцены для тынкоўкі. *Шчакату́ркі цюкі́ два было́.* Неўгадава.

**ШЧАЛІ́НКА** *ж.* Шчылінка. *Пакі́ну шчалі́нку ў буфе́т – хай памідо́ры ды́хаюць. Яка́я шчалі́нка і як улёз такі́ ком агню́!* Нямойта.

**ШЧАМЕ́ЛЬ, ШМЕЛЬ** *м.* 1. Чмель. *Шчаме́ль чо́рны, бальшы́, гудзі́ць крэ́пка; кра́сныя па ім ка́пелькі.* Вялікі Азярэцк. *Шчаме́ль гудзі́ць, то́жа куса́іцца.* Сукрэмна. *Ёсць жа такі́е шчамялі́ на кле́веры, дзе ко́сяць.* Закур'е. *Во́дзюцца дзі́кія пчо́лы, шмялі́.* Запруддзе, Буй. 2. Аса. *Ма́лінькія піраш чо́глыя шчамлі́, уро́дзі іх піраш чапі́ў.* Багданава. *Шчамлі́ у сьцяне́ жыву́ць.* Кішуроўшчына.

**ШЧАМІ́ЦЦА** *незак.* Імкнуцца патрапіць, залезці. *Шчэ́мюцца мальчакі́ ў садо́к.* Ульянавічы.

**ШЧАМІ́ЦЬ** *незак.* Шчымець, балець. *Як жа нъ рабо́ту іці́ць, калі́ жыво́т жа шчэ́міць.* Сянно.

**ШЧАМЯЛІ́НА** *ж.* Шчамяліца (расліна). *Шчъмялі́на ў ліса́х расце́ць, падо́бна на шні́тку.* Нямойта.

**ШЧАМЯЛКІ** *мн.* Прыстасаванне са слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны, травы; азярод, пярэплат. *Боб, гарóх у шчамялкі засáджвалі* [рыштаванне з жэрдзя]. Дуброўкі.

**ШЧАНЁНАК** *м.* Шчаня. *Двóе шчанёнкаў – дáжа і гéтая пазабрáў паліцáй. З ікóн рушнік зняў, пасцілачку забрáў.* Нямойта.

**ШЧАНІЦЦА** *незак.* Прыводзіць шчанят. *Шчанілася сýчка.* Гарадзец.

**ШЧАПÁ** *ж.* 1. Тонкія дошчачкі для крыцця даху або для абівання сцен пад тынкоўку; дранка. *Былá шчъпá, шчапóю крылі, шчэ называюць дрáнка.* Гарадзец. 2. Трэска, падпалка. *Эта шчапá на паттóпу.* Нямойта.

**ШЧАПÁК** *м.* Станок, на якім робяць дранку. *Ґонт-та стругáюць станкóм такім, шчапáк называіцца.* Нямойта.

**ШЧАПÁНЫ** *дзеепрым.* Адшчэплены, адколаты. *Апáльваюць з вярбы, кусóчкі шчапáныя.* Закур'е.

**ШЧАПÁЦЬ, ШЧАПІЦЬ** *незак.* 1. Адколваць, адшчэпліваць. *Шчапáіш пáлачку, кладзéш, кап кóрачка з'явілася на хлéбі.* Карпавічы. 2. Ашчаджаць, выдаткоўваючы па невялікай колькасці. *Пéнсію палучý, шчаплю, шчаплю і ў прóгалаць жывý.* Партызаны.

**ШЧАРАВÁЦЬ, ШЧУРУВÁЦЬ** *зак.* Зачараваць. *Къзáлі, былó чъръўствó. І так шчарýюць.* Каралевічы. *Кап ніхтó карóву ні шчурувáў.* Багданава.

**ШЧАРБÁ** *ж.* Шчарбіна, дзірка на месцы зуба. *Шчарбá у мяне напéрадзе.* Нямойта.

**ШЧАРБÁТЫ** *прым.* Шчарбаты, бяззубы. *Во шчарбáты дзет, бяззýбы. Бяззýбаму і шчърбáтаму дзéду, што ямý!* Дольдзева.

**ШЧАРБЁТАЧКА** *ж.* ◊ У ШЧАРБЁТАЧКУ. Роўна столькі, каб хапіла, без лішку. *Бýдзе ў шчарбётачку сéна на карóву.* Дольдзева.

**ШЧАРНÉЦЬ** *незак.* Пачарнець. *І калéна шчарнéіць, і шчарнéіць лытка. А во нацíна шчарнéла, ссóхла.* Багданава. *Карóва рóгам удáрыла, рукá шчарнéла.* Гарадзец. *Каб ты шчарнéла!* (праклён). Запруддзе. *Я сéна пъвярнýла, а то прáма шчарнéла ўсё.* Івоні. *Бéлый баравік ні шчарнéіт* [калі высыхае]. Карпавічы. *Гніéць пéчънь, шчарнéець грэ́бень – і кýрыца прападáець.* Партызаны.

**ШЧАС** *прысл.* Адразу. *Мая галавá шчас ад сóнца забаліць.* Багданава.

**ШЧАСЛІВЫ** *прым.* 1. Пра чалавека, якому шчасціць, шанцуе. *У аднý* [пампушку] *клáлі капéйку, і хто нáйдзіць, той шчаслíвы бýдзіць.* Запруддзе. *Па бáцьку дóчка – шчаслíвая, па мáцеры – ні так шчáсце, нішчаслíвая* (павер'е). Каралевічы, Гарадзец. 2. Пра час, пару, калі чалавеку шанцуе. *Не ў шчаслíвы дзянёчак маць мяне радзілá.* Каралевічы.

**ШЧÁСЦЕ** *н.* Шанцаванне, удача. *На Сърaкі збярыце сóрак шчэ́пъчак і аббяжыце, пъклáўшы ў прыпóл, къла сваёй хáты сóрак разóў – бýдзіш гнёзды находзіць* (павер'е). *І гэ́та шчáсце шчытáецца.* Дольдзева. *Бальшóя шчáсця, як убáчыш дзятла* (павер'е). Сянно, Вялікі Азярэцк.

□ *Шчáсце за гърáмі, а бідá за плічáмі.* Каралевічы.

**ШЧÁЎЕ** *н.* Шчаўе. *Мóжна яшчэ́ шчáўя нарвáць.* Баравікі.

**ШЧАЎЛЮК, ШЧУЎЛЮК** *м.* Конскае шчаўе. *Шчаўлюк быў на пóлі, смóргалі і прасначкі пяклі, якáя жменя мукі для клéйкасці. Шчаўлюк на пóлі быў, у пръсначкі дабаўлялі.* Багданава. *Мы пяклі с шчуўлюкý бліны.* Марозаўка.

**ШЧАЎЧО́К** *м.* Пстрычка. *Шчаўчо́к як дась, ажно́ ў галаве́ зазвініць.* Ульянавічы.

**ШЧА́ХНУЦЬ** *зак.* Астыць (пра ежу). *Ідзіця е́шця, шча́хла ужэ́ ўсё, ні гара́чае.* Нямойта.

**ШЧАЦІ́НА** *ж.* Шорсткая і кароткая шэрсць у некаторых жывёл; шчацінне. *Шчаціна ішла́ ў дзе́ла.* Дольдзева.

**ШЧАЦІ́ННЯ** *н. зб.* Тое ж. *Шчаціньня гэ́та ўста́ніць.* Савінічы.

**ШЧВІР** *м.* Жвір. *Шчвір свішчы́ць къла атліва* [гаворка пра акладню ці паліцу ў плузе]. Сянно.

**ШЧО́ЛАК** *м.* 1. Вада з попелам для адбельвання бялізны, палатна; луг. *Шчо́лак – по́піл е́та, сыпіш у бялё і сціра́іш.* Заазер'е. 2. Мыльны раствор. *Я шчо́лаку здзе́лаю, гало́вы ў ха́ці памо́ем.* Нямойта. *На́да дзе́лаць шчо́лак.* Савінічы.

**ШЧО́ПАТКА** *ж.* Невялікая колькасць чаго-н. сыпучага, што можна ўзяць трыма пальцамі; шчопаць. *Шчо́патку со́лі ўзіла́.* Фасаўшчына.

**ШЧО́СЫВАЦЬ** *незак.* Ачышчаць счэсваючы. *По́слі дра́чкі шчо́ткамі шчо́сывалі, нідзе́ ні кастры́нкі, блісціць, э́та ку́жаль.* Дольдзева.

**ШЧО́ТКА** *ж.* Спецыяльнае прыстасаванне, грэбень у выглядзе роўнай дошкі з зубамі для падбівання саломы пры крыцці страхі. *Шчо́тка – дъска́ тъка́я і зу́бы па ўсёй, сало́му раўня́лі.* Фасаўшчына. *Шчо́тка – раўня́ць сало́му на ха́це. Салье́цца, як адна́ сало́мка. Самадзе́льная шчо́тка была́.* Багданава. *Шчо́ткай сало́му падаб'е́м на ха́ці.* Дольдзева.

**ШЧОЎК** *выкл.* Хуценька распусціцца, распасціся. *Макаро́ны з крухма́лу жъва́ць ні на́да. Яны́ шчоўк – і пашлі́.* Багданава.

**ШЧО́ЧКІ** *мн.* Цвёрдыя рухомыя бакавіны, што прыкрываюць шчэлепы ў рыбы. *Усцінку ўскінь нъ скъвaро́ду – адзін жыр, адны́ шчо́чкі аста́нуцца* [уся разыдзецца на тлушч].

**ШЧУ́КА** *ж.* Шчупак. *Рас вы́цігнулі кры́гуй вужа́ і шчу́ку.* Алексінічы. *Куфа́йку здзеў і шчу́ку нясе́ць у куфа́йцы.* Багданава. *Шчу́кі былі кільгра́м пъ пітна́ццъць.* Каралевічы. *Шчу́ка шчу́ку есь, мало́дзінькіх шчупако́ў.* Сянно.

**ШЧУПА́К** *м.* Тое ж. *Шчупакі ішлі нъ на́раст, то я бе́гуў і кало́ў асьця́мі. Шчупакі́ іду́ць пъд ваду́.* Багданава. *Во такія шчупакі былі, нало́віш карзінкай.* Марозаўка. *Сасніла, як шчупъка́ ўлавіла, што сы́на радзіла.* Ракаў Засценак. *Шчу́ка і шчупа́к мало́дзінькій.* Сянно.

**ШЧУ́ПАЦЬ** *незак.* 1. Намацваць рукой шукаючы. *Шчу́пай, шчу́пай – там цітра́ць.* Міцюкова. 2. Вызначаць, ці з яйцом курыца. *Шчу́паць кур, на́да ку́рыцу пашчу́паць.* Вялікі Азярэцк.

**ШЧУРУВА́ЦЬ** *зак.* Зачараваць. *Кап ніхто́ каро́ву ні шчурува́ў.* Багданава.

**ШЧЫКАТУ́РЫЦЬ** *незак.* Тынкаваць. *Шчыкату́рым ха́ту.* Каралі.

**ШЧЫКЕ́Т, ШЧАКЕ́Т, ШТАКЕ́Т** *м.* 1. *зб.* Вузкія драўляныя планкі, дошчачкі, з якіх робяць плот. *Шчыке́там гаро́дзюць цяпе́р, до́шчачкамі.* Фасаўшчына. *Ну, вот прыме́рна шчыке́т. Дзе́лаюцца два жэ́рдзя, сце́люцца до́скі – прыме́рна, шырына́ шэсць санціме́траў, і набіва́юцца на жардзіну пла́нкі. Э́та называ́іцца пра́сла.* Нямойта. *Шчыке́там двор загарадзі́ў.* Гарадзец. *Шчыке́там сад агаро́джаны.* Буй. 2. Плот, зроблены са штыкетніку. *Шчыке́т з до́шчачак, густы́, не ўле́зіць.* Каралі. *Шчыке́т – то з до́шчачак, а е́слі так, то згаро́да. Тры жардзіны прыбі́ў – то згаро́да.* Леснікі. *Шчыке́т і паламáць мо́гуць.* Багданава. *На́да*

*пастáвіць шчыкéт. Шчыкéт стаíць у нас, і згарóда ёсь.* Гарадзец. *Кýры на шчыкéты лéзуць сядзéць – хóлад* (прыкмета). Дольдзева, Запруддзе, Нямойта. *Усё сýнецца шчакéт.* Цясішча. 3. Агароджа са штыкетніку, частаколу. *Этá штакéт, частакóл дзéлалі. Э́та штакéт – жóрдачкі.* Марозаўка. *Цяпéр штакéт вакóл хáты. Штакéт падрáўся.* Вялікі Азярэцк, Багданава.

**ШЧЫКЕ́ТНІК** *м. зб.* Плот, агароджа, зробленая з роўных вузкіх дошчачак; штыкетнік. *Шчыкéтнік абнімáлі, шчытáлі, каб пáрамі быλó.* Чуцькі.

**ШЧЫ́ЛЬНЫ** *прым.* Шчыльны, шчытны. *Дом быў, варóты шчы́льныя.* Багданава.

**ШЧЫНЯ́ЦЦА** *незак.* Зачыняцца. *А ў нас хáта ні шчынялъсь ат людзéй.* Дуброўкі.

**ШЧЫПА́ЦЬ**, **ШЧАПА́ЦЬ** *незак.* 1. Выцягваць. *Ідзí, шчыпí цыбýлю з галóўкай.* Каралевічы. 2. Здымаць, зрываць (плады). *Пан пры́дзіць, папрóсіць мальцóў штук дзéсяць я́блыкі шчапáць.* Вялікі Азярэцк. *Злавíлі на вýліцы ў кры́гу і дзіржáць* [гаспадары], *а ты́я мáльцы сады́ шчы́пюць.* Алексінічы. 3. Шморгаць, адрываць. *Ні шчыпí я́гады с ялéнцу.* Партызаны. *Ідзí, барбары́с шчыпí. Ідзём шчыпáць.* Станюкі. 4. Збіраць, ірваць. *Мáла шчапáлі шчáўлю.* Каралевічы.

**ШЧЫПО́К** *м.* Невялікая колькасць сыпучага рэчыва, якое можна ўзяць трыма пальцамі; шчопаць. *Вазьмí шчыпóк сóлі.* Вялікі Азярэцк.

**ШЧЫПЦЫ́** *толькі мн.* Шчыпцы. *Шчыпцы́ – выдзірáць гвóздя, што неглыбóка загнáты.* Запруддзе.

**ШЧЫПЧЫ́ННІК** *м.* Шыпшына. *Шчыпчы́ннік рóзавым цвіцíць.* Леснікова. *Як карóва крóўю мóчыцца, дзярýць карý з шчыпчы́нніка.* Багданава. *Шчыпчы́нніку напáрым, п'ем.* Дуброўкі.

**ШЧЫ́РА** *прысл.* Прыцiснуўшыся адзін да аднаго. *Дýжа шчы́ра сідзя́ць індзю́шкі.* Латыгаль.

**ШЧЫ́РАСЦЬ** *ж.* Праўдзівасць, чыстасардэчнасць, адкрытасць. *Рáдъсці і шчы́расці быλó бóлей.* Вялікі Азярэцк.

**ШЧЫ́РЫ** *прым.* 1. Старанны, дбайны, працавіты. *Шчы́ры чълавéк цягніць, як мурáшка.* Серкуці. 2. Сардэчны, душэўны. *Бяры́ сiратý, янá шчы́ръя дзяўчы́на.* Неўгадава.

**ШЧЫРЭ́НЬКА** *прысл.* Заўзята, старанна. *Шчырэ́нька кукýець зязю́ля.* Буй.

**ШЧЫ́СЦІЦЦА** *зак.* Вызваліцца ад плацэнты (пра жывёлу). *Карóва шчы́сцілася, паслéд атышóў.* Парэчча.

**ШЧЫ́СЦІЦЬ** *зак.* Размесці, расхапаць (пра тавар). *Туалéтнае мы́ла быλó у магазíне, а патóм усё шчы́сцілі.* Нямойта.

**ШЧЫТ** *м.* Грубка. *Шчыт учóра ні тапíла, цёпла быλó.* Партызаны.

**ШЧЫТА́ЦЦА** *незак.* Лічыцца. *У нас шчытáлася Асíнуўка* (урочышча), *тут рáншы грыбóў быλó пóўна.* Неўгадава.

**ШЧЫТА́ЦЬ** *незак.* Лічыць. *Ён тады́ шчытáець, і гуляéм тады́ ў хóванкі.* Станюкі. *Шчытáй, сярэ́дзіна лéта.* Вялікі Азярэцк.

**ШЧЫ́ТНА** *прысл.* 1. Шчыльна, наглуха, каб не было ніякіх адтулін. *Усё шчы́тна задзéлана. Шчы́тна ў сарáі, здаéцца, падлóга, а тхор вýтак праз ды́рку ў вуглé цігáў.* Партызаны. *І тады́ пабівáлі малаткóм ці тапарóм, каб шчы́тна прыхадзíлася, во э́та называ́лася паркáнніца.* Запруддзе. 2. Туга. *Шчы́тна рáну абвíнціў.* Нямойта.

**ШЧЫ́ТНЫ** *прым.* Які складаецца з блізка размешчаных адзін ля аднаго прадметаў; шчыльны. *Дзе́лалі скры́нкі шчы́тныя ў я́му, у зе́млю.* Жохава. *Такі́ шчы́тны быў двор, стая́ў анба́р, клець, сара́й і яшчэ́ сара́й – е́та кру́глы двор. Шчы́тны быў двор, закрыва́ліся варо́ты.* Леснікова, Гарадзец. *Двары́ былі́ шчы́тныя.* Марозаўка.

**ШЧЫТО́К** *м.* Выступ у печы. *На шчыто́к малако́ пъста́ўлю, дакі́снець.* Закур'е.

**ШЧЭ́ЛКА** *ж.* Шчыліна. *Хіба́ то́лькі ў шчэ́лку прато́чацца цыпля́ты.* Ульянавічы. *Шчэ́лкі ў шкапу́ есь. Клапо́ў было́ кра́сна па шчэ́лках.* Нямойта. *Шчэ́лку нашлі́ му́хі.* Гарадзец. *Як шчэ́лкі не зрасці́ся, так дурно́му сну не спра́ўдзіцца* (з замовы). Каралевічы. *Як шчэ́лкі ня бу́дзіць, то і пло́тніка ня бу́дзіць.* Серкуці.

**ШЧЭНТ** *м.* Ушчэнт, цалкам, поўнасцю. *То́рбінка ў вайну́ была́ спа́ліна пат шчэнт.* Сянно. *Разьбі́ў у шчэ́нт, удрэ́безгі.* Савінічы.

**ШЧЭ́ПІНА** *ж.* Трэска, шчэпка. *Далжно́ со́рак пту́шак прыляце́ць, ра́на, да ўсхо́да со́нца сабра́ць со́рак шчэпін і прынесці́ ў ха́ту – вы́рай прылітáіць* (павер'е). Запруддзе.

**ШЧЭ́ПКА** *ж.* 1. Трэска, шчэпка. *Шчэ́пкі віза́лі.* Фасаўшчына. 2. Стрэмка. *Е́слі шчэ́пка пападзе́ць, то пат но́хаць. Загна́ў шчэ́пку ў нагу́.* Заазер'е. 3. Пра вельмі худога чалавека. *Худы́, як шчэ́пка.* Серкуці, Розмыслава.

**ШШЫ́ТЫ** *дзеепрым.* Сшыты, злучаны. *У ка́чкі но́гі як шшы́ты – перапо́нка.*

**ШЫ́БА** *ж.* Шкло, устаўленае ў раму; шыба. *Як шы́ба пабі́та, мо́лнія мо́жа ўляце́ць.* Багданава. *Разбі́ў шы́бу ці бало́нку ска́жуць. Дожч быў, шы́бы запаце́лі.* Серкуці, Гарадзец. *Шы́бы ж бальшэ́я, іна́ вы́лізла ў вакно́.* Серкуці.

**ШЫБАВА́ЦЬ** *незак.* Моцна, парывіста дзьмуць. *Ве́цёр шыбу́іць у е́ту дзі́рку, і се́на со́хніць.* Запруддзе.

**ШЫБА́ЦЬ** *незак.* Шугаць, выходзіць. *Дух які́ шыба́іць ад брыке́ту.* Багданава.

**ШЫ́БІНА** *ж.* Шкло, устаўленае ў раму; шыба. *Як йка́я ха́та была́, то й два, тры вакны́ пъ чаты́ры шы́біны, а як бъгаце́й ха́та, то па шэсь шы́бінък.* Нямойта. *Пту́шка ўда́рылася ў шы́біну – і ба́цьку забі́лі.* Розмыслава. *Шы́біну дзе́ці вы́садзілі, дык я кардо́ніну і газэ́ціну* [заклала]. Неўгадава. ШЫ́БІНКА *памянш. Шы́бінку вы́ніў, усё адшчапі́ў* [у хаце ўсе запоры]. Сянно.

**ШЫКА́РНЫ** *прым.* Раскошны. *Ха́та не шъка́рная, ды чыстата́ ў ёй.* Партызаны.

**ШЫЛУШЫ́ЦЦА** *незак.* Лушчыцца, здзірацца. *Като́ры шылушы́цца рабёнак, купа́юць, бра́ткі запа́рваюць.* Чуцькі.

**ШЫ́НА** *ж.* 1. Металічны абруч, нацягнуты на вобад. *Шы́на – е́та жале́зны, або́т – е́та дзірвя́нны. Шы́на на кълясы́.* Нямойта. *Нъ або́т нъдзяе́цца шы́на.* Гарадзец. 2. Металічная пласціна, якая набіваецца на палазы ў санках. *На калясы́ нацягуюць, на са́нкі шы́ны.* Багданава.

**ШЫ́ННЫ** *прым.* Прызначаны для вырабу шын. *Шы́ннъя жале́за пъдбіва́лася пъд пълазы́.* Багданава.

**ШЫП** *м.* Драўляны клін, шып. *Дзе́лаецца шып і ўбіва́ецца. Шып убіва́ецца ў дзе́рава.* Дольдзева.

**ШЫПАНДРО́** *н. зб. зневаж.* Дзетвара. *Шыпандро́ хо́дзіць, дзітвара́, адзі́н за ъдны́м.* Запруддзе.

**ШЫПЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Утвараць глухія гукі, якія нагадваюць доўгі гук «ш-ш», шыпець. *Шыпі́ць гадзю́ка.* Вялікі Азярэцк. *Шыпя́ць вужа́кі.* 2. *перан.* Гаварыць

здушаным, сіплым ад раздражнення голасам; злоснічаць. *Бýдуць шыпéць, як вужáчка, адзін на аднагó. Варажбітка гаварыла: вужáчку пáлачкай парнý – сядзяць хлóпяц з дзяўчóнкай – шыпяць яны назáўтра.* Міцюкова.

**ШЫ́ПКА** *ж.* Рама, акно. *Былó чатыры шыпкі ў хáтъх.* Леснікова.

**ШЫ́ПКА** *прысл.* 1. Хутка, быстра, шпарка. *Яны пóйдуць шыпка, шыпка!* Партызаны. *Бéгъла шыпка так, як бýльбу къпáла.* Баравікі, Манголія. 2. Гучна. *Чуць загавóрыш шыпка – пчóля шавéлюцца, не падхадзі к пчóлам.* Закур'е.

**ШЫР** *ж.* Шырыня. *Éта сматрá какáя шыр* [палатна]. Леснікова.

**ШЫ́РМА** *ж.* Шырма. *Шырмы ня твéшывълі, каб мýхі ня лéзлі.* Запруддзе.

**ШЫ́РМІНА** *ж.* Занавеска. *Ікóну завéсілі шырмінай.* Багданава.

**ШЫРÓКІ** *прым.* Шырокі. *Лéхі не шырóкія.* Каралі. ШЫРÓЧАНЬКІ, ШЫРÓЧЫНЬКІ *памянш. Лешч і падлéшчыкі ё. Яны, як ляшчы, шырóчанькія, тóлькі мéньшыя.* Багданава. *Каблучóк быў шырóчанькі.* Буй. *Ткáлі такія шырóчынькія паясы і спавівáлі.* Гарадзец.

**ШЫРЫ́НКА** *ж.* Разрэз у пярэдняй частцы штаноў; прарэх. *Шырынка ў кальсóнах, у вéрхніх штанáх.* Леснікова. *Шырынка разышлáся ў штанáх.* Каралевічы. *Шырынка ў штанáх.* Леснікі.

**ШЫРЭ́Й**, **ШЫ́РАЙ** *прысл.* Шырэй. *Акóскі нъ сáнкі лóжъцца, кап шырэй былó.* Гарадзец. *Хто шырай пракóс кóсіць, а хто вузéй.* Гарадзец.

**ШЫРЭ́Н** *м.* Шарэнга. *Трáктар у мяné, і стъяць у шырэн начáльства.* Нямойта.

**ШЫСЦІРЫ́К** *м.* Запрэжка ў шэсць коней. *Шысцірыкóм выíхъў.* Вялікі Азярэцк.

**ШЫ́ТА** *прысл.* ◊ ШЫ́ТА-КРЫ́ТА. Скрытна, патаемна ад іншых, у поўнай тайне. *Ён здзéлаіць шыта-крыта.* Запруддзе.

авання капусты; шаткоўня. *Шыткóўка для капýсты былá.* Марозаўка.

**ШЫ́ФЕР**, **ШЫ́ФІР**, **ШЫ́ПЕР** *м.* Шыфер. *Рáньшы к лáтам прывязывалі салóму, а цяпéр во шыфер прыбівáюць.* Фасаўшчына. *Шыферу прывязлí.* Каралевічы. *Цяпéр шыфірам крыюць.* Леснікова. *Шыфер панашчэльваўся.* Дуброўкі. *Шыпер прывéзлі.* Буй.

**ШЫ́ЦЦА** *незак.* Вырабляцца шыццём. *Ш чагó янó шыласё?* Нямойта.

**ШЫ́ЦЦЁ** *н.* Тое, што шыюць ці сшытае, шыццё. *Нанóсюць шыцця так – абó!* Леснікова.

**ШЫЦЬ** *незак.* Шыць. *Ну, ён шыў, харашó шыў, óчынь партны быў харóшы.* Леснікова. *Стáръга ні шыць, ні пъчыняць, ні лáпіць, ні цісáць, ні гвост зъбíць, ні тръсянкі трэсьці карóвъм* [нельга было з 7 да 20 студзеня]. Ракаў Засценак.

**ШЫ́ШКА** *ж.* Шышка. *Мáлец у шышкі чóрненькія, як растýць, схóдзіць, іх высушу, патаўкý, зéрнеткі ў праснáк.* Партызаны. ШЫ́ШАЧКА *памянш. Саснóвые шышачкі пагóначкі даюць у начáле мáя, намáчываць на сýткі, вымыеш, у чыгунóк і ў пéчку, працáджываеш і п'еш – ат прастýды тóжа харашó.* Партызаны.

**ШЫ́Я** *ж.* Шыя. *Зъбалíць шыя, не павéрніш гълавы.* Багданава.

**ШЭ́ЙКА** *ж.* Вузкая частка бязмена, якая сваёй формай нагадвае шыю. *У бязьмéні шэйка, тады на шэйку кручóк нагнáты, гвóзьдзікі абазначáлі фýнты.* Нямойта.

**ШЭЙСЯТЛЕ́ЦІЯ** *н.* Шасцідзесяцігоддзе. *Дзéлала шэйсятлéцiя сабé.* Запруддзе.

**ШЭ́ЛЬМА** *ж.* Шэльма (пра хітрую жанчыну). *Шэльма ты!* Міцюкова.

**ШЭПТ** *м.* Набор слоў, якія, паводле забабонных уяўленняў, маюць чарадзейную сілу. *Пу бáбах хадзілі, алé што гэты шэпт!* Вялікі Азярэцк.

**ШЭ́РА** *прысл.* Пра вялікую колькасць чаго-н. *Сагне́ш арэ́шыну, то аж шэ́ра арахо́ў!* Партызаны.

**ШЭ́РАНЬ** *ж.* Цьмянасць, невыразнасць (пра слабы зрок). *Уваччу́ шэ́рань, ачкі адзе́ну, пагляжу́: а як жа э́та я рубіла?!* [спадніцу]. Запруддзе.

**ШЭ́РАСЦЬ, ШЭ́РАСЬ** *ж.* 1. Белыя рыхлыя крышталікі, якія нарастаюць пры значным марозе і тумане на галінках дрэў, дроце і пад.; шэрань. *Шэ́рась сёлета крэ́пка была́.* Багданава. *Калі на пе́рвы дзень Каля́т была́ шэ́расць бъльша́я на дзярэ́ўях, то ўража́й бу́дзіць о́чань харо́шы, бу́дзіць о́чань мно́га каласо́ў* (прыкмета). Запруддзе. 2. Цьмянасць, невыразнасць (пра слабы зрок). *Шэ́рась-шэ́рась перад глаза́мі, а мо́жа яна́ б сышла́?* Самсоны.

**ШЭ́РКАСЦЬ** *ж.* Змрок, цемра. *Шэ́ркасць насу́нулася.* Вялікі Азярэцк.

**ШЭ́РКІ** *мн.* Вяснушкі. *Шэ́ркі – э́та вясну́шкі.* Фасаўшчына. *Шэ́ркі вясно́й ры́жыя на тва́ры.* Багданава. *Хто гнёзды разара́іць, у таго́ шэ́ркі бу́дуць, э́та вясну́шкі* (павер'е). *О, гняздо́ разары́ў ла́стачкіна, бу́дуць табе́ шэ́ркі.* Фасаўшчына. *Шэ́ркі вы́сыпалі.* Гарадзец.

**ШЭ́РСНЫ, ШЭ́РСТНЫ, ШО́РСНЫ** *прым.* Шарсцяны. *Купіла ю́пку шэ́рсную, плато́к шэ́рсны, ко́фту баціставу́ю. Я як нъ бъласе́* [балоце] *рабо́тала, купіла сабе́ шэ́рсну спадніцу. Жале́тку купля́ла, іску́сная, ня шэ́рсная. Ху́стку шэ́рстную крэ́мавую купіла, штаны́ шэ́рстныя купіла.* Нямойта. *Хустку шо́рсную купіла.* Івоні.

**ШЭ́РСЦЕНЬ** *м.* Шэршань. *Шэ́рсцень куслівы, як пчъла́.* Вялікі Азярэцк.

**ШЭРСЦЬ** *ж.* Валасяное покрыва ў жывёлы; шэрсць. *Ху́ды съба́ка. На спіне́ шэрсць пъдніла́ся.* Фасаўшчына. *У вуўка́ шэрсць трохцве́тнъя.* Пожанькі. *Кап па табе́ шэрсць вы́расла!* (праклён). Вялікі Азярэцк, Каралі.

**ШЭ́РЫ** *прым.* 1. Шэры (пра колер). *У нас не было́ шэ́рых ко́ней.* Запруддзе. *Шэ́ры конь ажно́ ў я́блъчкі.* Міцюкова. *Бальшэ́і шэ́рыя сабіра́ла жукі.* Вялікі Азярэцк. *Конь шэ́ры, як зязю́лька.* Дольдзева. *Рысь шэ́ръя.* Пожанькі. *Куніца ма́ленькая, шэ́рая.* Багданава, Нямойта. ШЭ́РАНЬКІ *ласк.* *Чачо́тка – тъка́я шэ́рънькъя бяро́за.* Гарадзец. *К къля́дъм на́да мушчы́нам нъткá́ць нъ штаны́. Шэ́ранькім ткуць і шэ́ранькім патыка́юць.* Багданава. 2. Пакрыты вяснушкамі, вяснушкаваты. *Калі ла́стаўкіна гняздо́ разбу́рыш, то шэ́ры бу́дзіш* (павер'е). Гарадзец. *Калі заб'е́ш ла́стаўку, бу́дзіш шэ́ры* (павер'е). Запруддзе. *Не чапа́йце гнёзды, то бу́дзеце шэ́рыя хадзіць.* Багданава. *Ма́льчык шэ́ранькі, канапа́ценькі.* Івоні. ○ ШЭ́РАЯ КАПУ́СТА. Асобым спосабам прыгатаваная квашаная капуста. *Шэ́рая капу́ста: лісцё секачо́м пасяку́ць у кары́це, соль, а хто і буракі кры́шыць.* Запруддзе. *Бува́лышныя лю́дзі капу́сту шэ́рую е́лі, а цяпе́ра – бе́ліенькую.* Цясішча. *Капу́ста была́ шэ́ръя, сікачо́м сяклі ў начо́укъх. Шэ́рая капу́ста з лісця.* Запруддзе.

**ШЭ́СЦЕРА, ШЭ́СЦІРА, ШЭ́СЦЯРА** *ліч.* Шасцёра. *Нас было́ шэ́сцера.* Закур'е. *Я ма́лая застала́сь – нас шэ́сцера. Шэ́сцяра радзіла.* Багданава. *Было́ па шэ́сціра дзяце́й.* Дольдзева. *Я шэ́сцера свінне́й вы́цягнула вон.* Партызаны. *У ба́цька нас было́ шэ́сціра.* Кляпчэва. *Шэ́сціра дзяце́й было́ ў радзіцеляў.* Нямойта.

**ШЭ́СЦЕРКА** *н.* Тое ж. *Шэ́сцерка дзе́так, чым я бу́ду гудува́ць?* Цясішча.

**ШЭСЬ** *ліч.* Шэсць. *Шэсь літраў дась мъльќа́.* Вялікі Азярэцк. *У нас шэсь пагібла, мужы́к пагіп, шва́гра пагіп, і чаты́ры браты́ пагіблі.* Турава. *Дъ шасці лет ня тро́гълі къня́, ні рабо́тылі на ём.* Сянно.

**ШЭХ-ШЭХ** *выкл.* Шаптацца, перашэптвацца. *Варо́шка та́я шэх-шэх з Нінкай.* Нямойта.

**Э́ДЗІ** *мн.* Трохвальная машына, пры дапамозе якой труць лён. *Э́дзі – машы́на трохва́льнъя для таго́, кап лён мяць. Э́дзі даўне́й былі́, цяпе́р такі́х і ў калхо́зі німа́.* Станюкі. *Э́дзі – тры кату́шкі, лён цёрлі, на вал адзяе́цца раме́нь і тры кату́шкі, э́та э́дзі.* Парэчча. *Э́дзі – малаціць гало́ўкі, лён, кача́лкі такія, што абмала́чываюць лён.* Фасаўшчына.

**ЭКЗЕ́МА** *ж.* Экзэма (захворванне скуры). *Экзе́ма быва́іць, мо́кніць рука́, нъга́.* Гарадзец.

**ЭЛЕКТРАПАСТУ́Х** *м.* Электрапастух. *Дава́йце ку́пім электрапастуха́.* Партызаны.

**ЭПІДЗЕ́МІЯ** *ж.* Эпідэмія. *Мно́га эпідзе́міяў было́.* Гарадзец.

**Э́ХА** *н.* Рэха. *Хто э́ха, а хто адгало́скі гаво́рыць.* Гарадзец.

**Э́ХА** *ж.* Тое ж. *Ба́ла на бало́ці э́ха тъка́я ат лягу́шък, аж бало́та трасе́цца.* Вялікі Азярэцк.

**Ю́БКА, Ю́ПКА** *ж.* Спадніца. *Ю́пка то на пу́гаўку, ра́ньшэ по́яс плялі́ с канцо́ў.* Леснікова. *Ю́пка-кужэ́лка была́.* Багданава. *То́нкія ю́пкі насі́лі.* Неўгадава. *Яна́ ў ю́бцы шыро́кай на ігры́шча хадзі́ла.* Закур'е. Ю́БАЧКА *памянш. Ю́бачкі ў скла́дачку з бе́лага палатна́ і ткалі́, і шы́лі, і насі́лі.* Цясішча.

**Ю́КНУЦЬ** *зак.* Вымакнуць, прапасці. *У мяне́ бало́та, нажы́м, чуць ня ю́кнула бу́льба.* Цясішча.

**ЮЛЬ** *м.* Ліпень. *У ю́лі нъчъна́юць грыбы́.* Пожанькі.

**ЮНЬ** *м.* Чэрвень. *Яны́ ш каза́лі ў ю́не прые́дуць.* Міцюкова. *Ба́цька ў ю́не паме́р.* Нямойта.

**ЮР** *м.* Узбуджэнне. *Юр на жо́нку нъпа́ў.* Каралевічы.

**Ю́РАЎШЧЫНА** *ж.* 1. Прадукты харчавання, якія даюць пастуху ў час веснавога свята Юр'я. *Пры́дзець Ю́р'я, пастухі́ го́нюць у по́ле, каб ю́раўшчыну дава́лі.* Каралевічы. 2. Вечарынка, якая ладзіцца на сабраныя ўдзельнікамі прадукты ў дзень Святога Юрыя. *Усе́ на начле́зі гуля́лі ю́раўшчыну – на́да што-не́будзь узя́ць. Ю́раўшчыну гуля́лі на начле́зі: і танцу́юць, і аго́нь на по́жні разло́жаць.* Дольдзева.

**ЮРГІ́НЬ** *ж.* Вяргіня (кветка). *Юргі́нь люблю́, саджу́ ўсю́дых, дзе мо́жна. Юргі́нь гно́ем аблажы́ла.* Партызаны. *Юргі́нь зімъва́я і ле́тняя бува́іць.* Багданава. *Юргі́нь ужо́ цвіці́ць.* Серкуці. *Юргі́нь се́юць – кра́снъя і бурдо́въя.* Гарадзец.

**ЮРГІ́НЯ, ЮРГІ́НА** *ж.* Тое ж. *Ду́жа красі́ва, усё ле́та цвіту́ць. Гэ́та юргі́на ў нас. Мы со́дзім яе́, юргі́ня ро́завая, бе́лая, кра́сная, ё ўся́кая.* Багданава. *Юргі́ня то́лькі цвіці́ць – і ўсё.* Запруддзе. *Юргі́няў пат во́кнамі пато́ркаюць като́рые.* Вялікі Азярэцк.

**ЮРО́К** *м.* Палачка з прарэзанымі дзірачкамі для намотвання нітак на клубок; вірок. *Юро́к – у клубо́к ні́ткі мата́ць, там ні́тка прабяга́іць.* Партызаны. *Мато́к разма́тываеш юрко́м.* Багданава. *Юро́к – у клубкі́ ві́лі з матаві́ла на клубо́к.* Гарадзец, Вялікі Азярэцк, Рэчкі.

**Ю́РЦЫ** *мн.* Палок уздоўж сцяны за грубкай. *Зале́зу на ю́рцы і бу́ду ліжа́ць там.* Запруддзе.

**ЮРЫ́ЦЬ** *незак.* Узбуджацца. *А жо́нка ў яго́ юры́ць.* Каралевічы.

**Ю́Р'Я** *н.* Свята ў народна-царкоўным календары, якое прыпадае на 23 красавіка па старым стылі. *З Ю́р'я да Ю́р'я – два́ццаць дзве нядзе́лі. На Ю́р'я абя-*

*зáцельна ў пóле пагóнім.* Ракаў Засценак. *Прайшлó Ю́р'я.* Гарадзец. *Кáуць* [кажуць]*: у дýрня да Ю́р'я* [корм], *а ў разýмнага – да Мікóлы. Аднó Ю́р'я бываíць у пілíпаўку, халóднае. Аднó Ю́р'я – карóў у пóле гóняць.* Самсоны.

□ *Два Ю́р'і – абóдва дýрні: аднó халóднае, другóе галóднае.* Дольдзева, Чуцькі, Міцюкова, Багданава. □ *Ю́р'і – два дýрні: аднó халóднае увóсень, а галóднае вяснóй.* Міцюкова. □ *Да Ю́р'я кармí дýрня.* Жохава. □ *Да Ю́р'я каб быў корм і ў дýрня.* Вялікі Азярэцк.

**ЮХТÓВЫ** *прым.* Зроблены з юхту; юхтовы. *Юхтóвыя бóты, кóжаныя такія.* Гарадзец.

**Ю́ШКА, ЛЮШКА** *ж.* Металічнае прыстасаванне, якім закладаюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра; юшка. *Печ закрываíць – заслóнка, а дым – юшка.* Фасаўшчына. *Ю́шка ці задзвíшка ў кóміні.* Дольдзева. *Ю́шка ў пéчы, у шчыткý.* Жохава. *Ю́шка крýглая, во такáя, у шчыткý мóгуць быць і задзвíшкі.* Заазер'е. *Ю́шку закладáй, шчэ жар не згарэ́ў.* Каралі, Багданава, Леснікова, Партызаны. *Люшку ў кóміні разбíла.* Неўгадава.

**Ю́ШКА** *ж.* Адвар, жыжка. *Як спáраш боб, юшка жóўтая. А юшка чóрная, дзе мухамóры вары́ліся.* Запруддзе. *Назбірáеш алéшніку, гýпкі чóрнай, юшка чóрная – чóрная, нацягнець – гýпкі фарбýюць.* Сукрэмна. *У къпътóў юшка чóрнъя, а так салóткія грыбы́. У Бéшынкъвічъх іх ня éлі.* Партызаны, Багданава.

**Я** *займ.* Я. *Яны́ паéхълі сабé, а я сабé.* Міцюкова. *У мянé сімнáццъць кýрыц ёсь, вот.* Вялікі Азярэцк. *Нашто́ мне Вáшы грóшы?!* Сянно.

**Я́БЛУШНЫ** *прым.* Яблычны. *Даéтуль быў яблушны сок.* Вялікі Азярэцк.

**Я́БЛЫК** *м.* Яблык. *У кагó памёр рабёнък, той да Спáса не есь яблыка* (павер'е). Ракаў Засценак.

**Я́БЛЫКА, Я́БЛАКА** *н.* Яблык. *Трóху яблык ёсітка.* Ульянавічы. *Бувáла рукáмі патрýць, кмін сыпіш, яблыкі.* Турава. Я́БЛЫЧКА *памянш.* Багданава. *Як гóрка яблыка ты мне надаéла!* Вялікі Азярэцк. ◊ У Я́БЛЫКІ (Я́БЛЫЧКІ). З цёмнымі круглымі плямамі на поўсці (масць каня). *Конь у яблыкі – гэ́та сéрый конь ат шасці да дзісяці лет, а к пітнáццаці гъдáм бýдзіць свéтлый. Па ім тады́ пъіўляюцца жы́рныя цёмныя плямы.* Нямойта. *Конь шэ́рай мáсці ў яблыкі.* Сукрэмна, Замошша, Сянно. *Конь у яблычкі, ажнó шэ́ры.* Міцюкова.

□ *Я́блака ад яблані далёка ні кóціцца.* Гарадзец, Закур'е.

**Я́БЛЫНА** *ж.* Яблыня. *Я́блына аднá антóнуўка, дык яблыкі нéйкія крывабóкія.* Серкуці. *Цвілá аднá яблына.* Запруддзе. Я́БЛЫНЬКА *памянш.-ласк. Слівінька, яблынька – усё звяла, пъчарнéла, на пъжáру.* Багданава.

**Я́БЛЫЧКА, Я́БЛАЧКА** *м.* Яблычка (танец). *Ох, і яблычка танцавáлі, і карóбачку. І яблачка гулялі.* Багданава.

**ЯВÍЦЦА** *зак.* З'явіцца, прыляцець. *Нъ Блъгавéшчынь няхай снех, хай марóс – буцян явіцца.* Серкуці.

**Я́ГАДА** *ж.* Ягада. *Вóўчыя ягады крáсныя ўвóсень.* Багданава. *Відзіш, хто давáў табé ягады, éта харашó* (павер'е). Каралевічы. *Аднá нéкалі хадзіла па ягадах.* Партызаны, Сянно.

**Я́ГАДЗІНА** *ж.* Адна ягада. *Усё павы́рвалі, стаптáлі, ні аднóй ягадзіны ня відзела.* Баравікі. Я́ГАДЗІНКА *памянш. Інá ні ягадзінкі ні знáла.* Багданава.

**Я́ГАДКА** *ж.* Ружовае месца на шчацэ. *Я́гадкі гара́ць – кра́снае ліцо́.* Багданава.

**ЯГНЯ́ТЫ** *мн.*, **ІГНЯ́ТКА** *н.* Ягняткі, ягнятка. *Усе́ аўчы́ны ат ягнят ма́ленькіх у грут скі́даюць.* Жохава. *Ігня́тка – ці аве́чачка, ці бара́нчык.* Вялікі Азярэцк. ІГАНЁНАЧАК *памянш.-ласк. Іганёньчъка акаці́ла.* Вялікі Азярэцк.

**ЯГО́ДНІК** *м.* Ягаднік. *Ёсь яго́днік – чарні́шнік, бруснí́чнік, суні́ца.* Заазер'е. *Яго́днік е́ты – і чарні́чнік, і бруснí́чнік.* Мянюцева.

**ЯГО́НЫ**, **ЯГО́ННЫ**, **ЯГО́ЙНЫ**, **ЯВО́ЙНЫ** *займ.* Яго. *Або́ра ягóнья была́ бъльша́я, пу́ня бъльша́я. Ягóны сын быў дзірэ́ктарам.* Баравікі. *Ягóный конь, а мне німа́ прывéзці дроў. Уну́кі ў ягóных уну́каў – гэ́та пра́ўнукі.* Дуброўкі. *Як там уну́чка ягóнная?* Розмыслава. *Ягóнныя сасéдзі ўсе зна́юць.* Івоні. *Ба́цька ягóйны прыязджа́ў. Цéшчу ві́дзела явóйную.* Запруддзе.

**ЯГРЭ́СТ** *м.* Куст агрэсту. *Ягрэ́ст прапа́ў, слі́вы.* Вялікі Азярэцк. *І ягрэ́ст – настая́шчая ўжо лі́сця.* Партызаны.

**ЯДА́** *ж.* Ежа, страва. *Глядзі́ш то́лькі на ту́ю яду́, і жа́лка.* Багданава. *Яды́ ш по́ўна ёсь.* Неўгадава.

□ *Соль да вада́ – маладзе́цка яда́.* Заазер'е.

**ЯДАВІ́ТЫ**, **ІДАВІ́ТЫ**, **ЕДАВІ́ТЫ** *прым.* 1. Атрутны. *Казе́ліц ідаві́ты, го́ркі.* Буй. 2. Які вельмі балюча кусаецца. *Мура́шкі едаві́ты, бара́ні бох, залéзла за спіну́ – дасьць клас.* Вялікі Азярэцк. 3. *перан.* Уедлівы, востры на язык. *Во е́та ба́ба ду́жа ядаві́тая: з нявéсткай паруга́ецца, з бра́там. Така́я ядаві́тая до́хтарка, уся́кую ругню́ пуска́ець.* Нямойта. *Ёсць едаві́тыя дзепута́ты.* Вялікі Азярэцк.

**ЯДЖҐУ́Р**, **ЯЖГУ́Р**, **ЯЧҐУ́Р** *м.* Ёрш. *Яджґу́р наду́ўся. І на чълавéка ска́жуць: наду́ўся як яджґу́р.* Багданава. *Яжгуры́ ў во́зеры вадзі́ліся, акуні́ – у Суідзю́нскім во́зеры.* Самсоны. *Ячґу́р – е́та ры́ба, калю́чая ду́жа, ду́жа калю́чая, апчы́сціць нéяк.* Фасаўшчына.

**Я́ДКІ** *прым.* Ядавіты. *Я́дкая така́я трава́, раз'яда́ла* [казёлкі]. Багданава.

**ЯДО́МЫ, ЯДЗЁМЫ** *прым.* Ядомы. *Мълако́ – гэ́та прад́укт ядо́мы.* Самсоны. *Мъхаві́к – ядзёмы грыб!* Вялікі Азярэцк.

**Я́ДРАНЫ** *прым.* 1. Наліўны, спелы, сакавіты. *Я́драны – спéлы я́блык, я́драная і гру́ша.* Запруддзе. 2. Сакаўны, моцны. *Апёнкі былі́ я́драныя, а як пълядзéлі на іх, то ста́лі вя́лыя.* Пожанькі. 3. Гучны, звонкі, чысты. *Быва́я го́лас такі́ гро́мкі, я́драны.* Серкуці.

**ЯДРО́** *н.* Яйцо. *Я́дры распу́хлі – по́сік нацёр казéльцам.* Чуцькі.

**ЯДУ́ХА** *ж.* Тая, што есць. *Я така́я ядуха, то мне хва́ціць.* Багданава.

**ЯДУ́ШЧЫ** *дзеепрым.* Ядомы. *Тут яду́шчыя і ніяду́шчыя грыбы́ намалява́ны?* Патрызаны.

**ЯЁШНЯ** *ж.* Ячня. *Яёшню прынісла́ мату́ся.* Партызаны. *У лату́шкъх яёшню пяклí.* Каралі.

**Я́ЖДЖАЛЬ**, **Я́ЖДЖЫЛЬ**, **Я́ЖДАЛЬ**, **Я́ЖДЖАР** *м.* Від асакі. *Я́жджаль скот еў.* Багданава, Пожанькі. *Я́жджъль – трава́, нападо́бе асакі́, каро́вы харашо́ яду́ць.* Каралевічы. *Я́жджъль уро́дзі асакі́, шыро́кі, скот есь хърашо́. Я́жджыль па кънáвах, пъ бало́тах.* Фасаўшчына. *Я́ждаль ёсць, вясно́й расцéць, то́ўсценькі, як агі́р, ко́рань сало́ткі.* Запруддзе. *У нас расту́ць клéвір, ціма́хвеі́ўка, я́жджар вясно́й.* Леснікова, Закур'е.

**ЯЖЫ́ХА** *ж.* Самка вожыка. *Яжы́ха вядзéць чатыро́х малéнькіх папяро́к даро́гі, ко́цяцца, як клубо́чкі.* Міцюкова.

**ЯЗ**, **ЯС** *м.* Плеценая перагародка папярок ракі для затрымання і лоўлі рыбы; ез. *Стáвюць пірагарóтку, усё запрýдзюць, пакідáюць дзірачкі, язы.* Фасаўшчына. *Язы стáвілі: нъбівáлі кóлля і хварóсцім плялі пляцéнь.* Багданава. *Яс нъзъвáўся, нъ кънáвы дзéлъли.* Багданава.

**ЯЗЫ́К** *м.* 1. Орган у ротавай поласці, язык. *Кап табé язык атсóх, кап табé ён атваліўся, як ты ніпрáўду гавóрыш!* (праклён). Міцюкова. *Кап ты языкóм не павярнýў!* (праклён). Багданава. *Кап табé язык выпер, што ты кáжаш! Кап табé на язык скýла сéла!* (праклён). Вялікі Азярэцк. 2. *перан.* Здольнасць шмат гаварыць. *Біз языкá плахáя бáба.* Запруддзе. ◊ НА ЯЗЫ́К. Пад язык, без музычнага суправаджэння. *А яны на язык як стáлі «рýскага».* Малы Азярэцк.

□ *Хто з языкóм, той і з пірагóм.* Марозаўка, Вялікі Азярэцк.

**ЯЗЫ́ЧЛІВЫ** *прым.* Языкаты. *Мая цéшча язычлівая – ня мóжна жыць!* Малы Азярэцк. *Дýжа язычлівая былá бáба.* Нямойта.

**ЯЗЫ́ЧНЫ** *прым.* Тое ж. *Янá тъкáя язычнъя бáба! І абгавóрыць, і аблáіць.* Сянно.

**ЯЗЬ** *м.* Язь (рыба). *Язі і пыд'язікі, ляшчы былі, плáваюць жывэ́я.* Фасаўшчына. *Язь – харóшъя рыба, хітръя рыба. Éслі цябé замéціла, то ты яé ні ўбáчыш.* Алексінічы. *Язі, як гылавéнь, брáлісі нъ мáйскъга жукá, цуп ягó – і пувалóк.* Багданава. *Ясь – хітръя рыба, вóдзіцца ў ръкáх, лажыцца на дно і трýдна злавіць яé. Йна, як лешч, тóлькі длінней і цямнéй.* Сянно. ЯЗЁК *памянш.* *Брэднікóм язькóў злóвіць, плóтак у рэ́чцы.* Самсоны.

**ЯЙЦÓ** *н.* Яйцо, яйка. *Сóрак яéц стóіла мéтар манъфактýры.* Кляпчэва. *Вужы кладýць яйцы нъ сухім мéсці.* Алексінічы. *Нъ радóўку ні спяшы несь есь* [пастуху]. *Дай нáшча з'есь два яйцы, стъканóк мълъкá, а тады прынясéш éсці.* Чуцькі. *Сняцца яйцы цэ́лыя – хърашó, а бітыя – ушчэ́рб нéйкі* (павер'е). Ракаў Засценак. ЯІЧКА *памянш.* *І другі раз яны вадзіліся і другі раз клáлі яічкі* [ластаўкі]. Фасаўшчына. *У кýрыцы нарастáюць яічкі.* Буй. ○ КАТÓВЫ ЯЙЦЫ. Раллявая канюшына (расліна). *Катóвы яйцы як урасцéць, лóпаецца, палéзна, як мачá ня йдзéць.* Каралевічы.

**ЯК** *злучн.* 1. Як, калі. *Два плáці былá сітцавых і тры юпкі, як зáмуш ішлá.* Нямойта. *Кап ні баяцца грóму, трэ́ба, як пéршы рас пачýіш гром, тры разы пíракульнýцца* (павер'е). Дольдзева. *Руччэ́й бальшы, а руччаёк мéншый, як въдá бяжыць.* Гарадок. *Як ёўні былі, тады садзілі снапы ў ёўні.* Заазер'е. 2. Нібы, быццам бы. *Як хто зачурувáў, залóмы па жыту.* Дольдзева. *Рашóткі, як сат, сідзя́ць у мху.* Партызаны. 3. Абазначэнне ўмоўнасці, пажаданасці; каб, калі. *Як бы людзéй бóлей, я п нікýды ні паéхъла.* Кішуроўшчына.

**ЯК** *часц.* Як. *Як паéду к дачкé ў Гърадóк.* Серкуці.

**ЯКІ́**, **ЯКÉЯ** *займ.* Які. *Бярэ́ш якýю пасýдзіну і вéтрыш зярнó.* Дольдзева. *Крáскай якéй памáжаш нóгі кáчкам, крылы – назначáць для сябé.* Буй. *А якéя былі? – Абы-якéя.* Серкуці. *Якéй цяхнíчкай? Метсястрóй.* Міцюкова. *Якóя табé дзéла?* Нямойта. *Якéя і шърсцянэ́я сучылі.* Леснікова.

**ЯКÓЕ-ШТО** *займ.* Нешта, штосьці. *Якóе-што прадáсць, атрэ́зы ўсякія.* Багданава.

**ЯКРА́З**, **АКРА́З**, **ІКРА́З**, **ЯКРА́С**, **КРАС** *прысл.* Якраз. *У маé дачкі якрáз на éтай éлкі вялісі.* Нямойта. *Акрáз то былó пóслі Раждэ́жыстьвá.* Каралевічы. *Паўгóда ікрáз ні былó.* Малы Азярэцк. *Свякрóўка якрáс печ тапíла.* Багданава. *А гэ́та былó крас пірат Нóвым гóдам, нъ Калядý, нáда ш і пол мыць, і ўсё дзéлаць.*

Заазер'е. *Бáцька крас на Вéрбніцу памёр.* Багданава. *Éта крас пірад Нóвым гóдам былó.* Заазер'е.

**ЯЛАВІНА** *ж.* Зямля, не араная некалькі гадоў запар; ялавіна, абложная зямля. *Ялъвіна – гот і два аддыхáіць зімля, а тады лýччы рóдзіць. Нъ ялъвіні лён вырьс стъя чълавéка!* Гарадок.

**ЯЛАВІЧЫНА** *ж.* Ялавічына (мяса). *Купі хоць ялавічыны.* Багданава. *Як мазóль сухі, ялавічыны – любóвіны памачыць у карасіну і прылажыць.* Баравікі, Вялікі Азярэцк.

**ЯЛАЎКА** *ж.* Ялаўка. *Ну, ялаўка – éта катóрая ні пакрылася, ну, дóйная карóва.* Самсоны. *Пірадóйка – не цялілася гот. Як бóлій – ялаўка.* Нямойта. *Асталáся ялаўка – няцéльная карóва.* Рассвет. *Ялаўка – не пакрылася карóва.* Рулёўшчына. *Ялаўка – інá ня дóіцца.* Малы Азярэцк. *Ялаўку дýжа ні дзяржáць, а здаюць.* Гарадзец.

**ЯЛÉНЕЦ, ЯЛÉНІЦ** *м.* Ядловец. *Кумпякі капцяць éльнікам, дóбра ялéнец, німá ягó нідзé.* Марозаўка. *Ялéнцам пахвастáўшысь, апкóлешся.* Нямойта. *Ялéніц – што къпцяць кілбáсы.* Савінічы. *На ялéнцу зімóй растýць ягады, янá іх паéла ад мачавóга пузырá.* Партызаны.

**ЯЛÉЦ** *м.* Ялец (рыба). *Ялéц, як плóтъчка, вóчкі крáснъя, мéлкъя, с серабрыстай чашуёй рыба. Свóйлівъя былá рыба, яé ў нéраст рукáмі брáлі. Цяпéра рэтка ёсь.* Сянно.

**ЯЛÍНА** *ж.* Яліна. Каралевічы.

**ЯЛКІ** *мн.* Дзёсны. *Ялкі баляць, намýчыла.* Самсоны.

**ЯЛÝШКА** *ж.* Елка, яліна. *Ялýшка паднялáся вот такáя.* Жохава.

**ЯМА** *ж.* 1. Паглыбленне ў зямлі; яма. *Лýжы былі бальшыя, ямы.* Самсоны. *Спужáлася: яма адкрыта.* Запруддзе. *Лён сахраніўся ў ямі.* Партызаны. *Калі сніцца, што ў яму вáлісся ці з гары – бъльшáя ніўдáча* (павер'е). Ракаў Засценак. 2. Траншэя для захоўвання сіласу. *Рáншы ямы на сілóс на Чóрнуй гарэ къпáлі.* Закур'е. 3. Гнаявая яма. *Торх у яму гýцюць* [дзе гнаявая жыжа сцякае на ферме]. Баравікі. 4. Яма ў хаце для захоўвання бульбы. *Яма ў хáці былá.* Партызаны.

**ЯМАЧКА** *ж.* Невялікая ўпадзінка на шчацэ, падбародку; ямачка. *На барадзé ямачка – дзве жóнкі бýдзе* (павер'е). Багданава. *Ямъчка нъ шчацэ – шчаслівы чълавéк* (павер'е). Заазер'е.

**ЯМКА** *ж.* Паглыбленне ў зямлі, яма. *Выкапалі ямку, насыпалі аўсá, апстáвілі кулявэй салóмай, ржанэй.* Леснікова.

**ЯМКА** *ж.* Месца, куды заграбаюць жар з печы, пячурка. *Жар у ямку заграбé і спіць.* Нямойта.

**ЯМЧЭЙ** *прысл.* Лепш. *Трóшку ямчэй жыць стáла.* Запруддзе.

**ЯНÁ** *займ.* Яна. *Хазяін быў, янá век дроў ні знáла.* Закур'е.

**ЯНÓТ** *м.* Янот. *Янóты здзéлалі зъстáў на рэцы.* Марозаўка.

**ЯР** *м.* Яравыя культуры, якія сеялі вясной. *Аднó пóля – пад яр вяснóй, аднó пóля зімнае ўжо жыта пасéяна, аднó пóля – гэта ўжо на пар янó пускáецца.* Самсоны. *Ці яр, ці жыта жáлі сярпóм.* Розмыслава. *Другóя пóле – яр, пшаніцу сéілі, лён.* Фасаўшчына. *А гной клáлі тóлькі пад жыта, а яр сéілі так.* Гарадок. *Гéта як яр жнуць, так пяюць.* Багданава.

**ЯР** *ж.* Тое ж. *Аднó пóле – азімае сéілі, другóе – яр. Другóе пóле засівáлься яр'ю.* Кляпчэва. *Тады катóрая пóля былó пад ярью, éта астаéцца ўжо пад пáрыну.* Самсоны.

**ЯРАВЫ́, ЕРАВЫ́, ІРАВЫ́** *прым.* 1. Які сеецца вясной. *Іравáя пшанíца бывáіць і азíмая.* Дольдзева. *У нас іравóя жы́та сéілі.* Гарадок. 2. Поле, на якім сеюць яравыя культуры. *Іравóе ці жы́тняе пóле.* Мянюцева. *Там яр – яравóя пóля, бу́льбу сáдзюць.* Серкуці. 3. *н.* Збожжавыя культуры, якія сеюцца вясной. *Еравóе – што вяснóй сéюць, пшанíца еравáя ёсь.* Гарадзец.

**Я́РАНЬКІ** *прым. эмац.-ацэн.* Жвавы, энергічны. *Шу́стрынькі быў, я́рънькі быў мáльчык.* Багданава.

**Я́РАЧКА** *ж.* Маладая авечка да года. *Я́рачка – авéчачка мълъдáя, гóда німá.* Запруддзе.

**Я́РКА** *ж.* Маладая авечка, якая яшчэ не ягнілася; ярка. *Увóсень я́рка – ягнёнак.* Нямойта.

**Я́РКІ** *прым.* Сонечны, цёплы, яркі. *Я́ркае такóе надвóр'е, чу́ю: ідзé сусéд.* Рэчкі.

**Я́РМАЛКА** *ж.* Кірмаш. *Я́рмалка былá чаты́ры рáза, скóлькі людзéй мнóга бувáла!* Нямойта.

**ЯРМО́** *н.* Драўляны хамут для вупражы буйной рагатай жывёлы; ярмо. *Атнéкуль хтó-то прынёс ярмó і арáлі.* Гарадзец.

**Я́РУС** *м.* Рад гарызантальна размешчаных прадметаў адзін над адным; ярус. *У два я́русы стáвілі снапы́* [у ёўні]. Дольдзева.

**ЯРУ́ШКА** *ж.* Яравая пшаніца. *Былá яру́шка пшанíца і зімувáя пшанíца.* Цясішча.

**ЯРЧЭ́Й** *прысл.* Больш светла, выразна (пра зрок). *Як зъкáпъю* [у вока], *тады́ ярчэ́й глядзéць.* Нямойта.

**Я́РЫ, Я́РЫЙ** *прым.* 1. Заядлы, злосны, гнеўны. *Ён быў я́рый пъліцáй!* Пожанькі. 2. Чысты, заўзяты, сапраўдны. *У гэ́нуй хáці жывéць я́ры мъскáль.* Дуброўкі.

**Я́СЕННІК** *м.* 1. Ясень. *У нас і я́сеннік расцéць.* Гарадок. 2. Драўніна з ясеню. *Зрэ́заў бярэ́зіну, а ў асíнавай рóшчы – нарэ́заў я́сенніку. Нарэ́заў я́сенніку два вазёнкі.* Нямойта. *Мужы́к я́сеннік браў, распáрваў у бáні, сáнкі рабíў, дзéжкі – усё.* Чуцкі.

**Я́СЕНЬ** *м.* Ясень. *Я́сеню былó, дрóвы жáркія.* Нямойта.

**Я́СІНЬ** *ж.* Тое ж. *Гэ́та я́сінь жылá сóтні пуўтары́ гадóў, пáньскъя я́сінь.* Фасаўшчына.

**Я́СЛІ** *толькі мн.* Кармушка для жывёлы. *У кънé я́слі, драбíнка тъкáя, атхóна пъдвéшъна.* Каралевічы.

**Я́СТРАБ, Я́СТРАП, Я́СТРЭП** *м.* Ястраб (птушка). *Каршу́н – éта малéнькі, я́страп – бальшы́.* Вялікі Азярэцк. *Я́страб цыплят хватáець, савá. Я́стрэп і лісá хватáлі курэ́й, і варóны забівáлі.* Леснікова.

**ЯСЯНО́ВЫ, ЕСЯНО́ВЫ** *прым.* 1. Што мае адносіны да ясеню. *Есянóвая рóшча там у нас ё.* Нямойта. *Ясянóвае дзéрава браў, сáнкі, дзéжкі дзéлаў.* Чуцкі. 2. Зроблены з ясеню. *Есъ$^{а}$нóвые сáні сáмые лу́чые.* Станюкі. *Ісъ$^{а}$нóвыі гну́лі пълазы́.* Гарадзец.

**ЯСЯНЫ́** *прым.* Зроблены з ясеню. *З ясянóга дзéрава рабíў сáнкі.* Чуцкі.

**ЯТ** *м.* Яд. *Казлы́ – бальшы́ ят!* Партызаны.

**ЯТРО́ЎКА** *ж.* Ятроўка. *Ятрóўка мая́ бальнáя.* Дуброўкі.

**Я́ЧАННЕ** *н.* Поле пасля ўборкі ячменю; ячнішча, ячменішча. *Па я́чанні хóдзяць карóвы.* Міцюкова, Жохава.

**ЯЧМЕ́НЬ** *м.* 1. Травяністая расліна сямейства злакавых. *Па ячмéню і па ўся́каму дабру́ расцéць свірэ́піца.* Запруддзе. *Пълавíну ячмéня скасíлі.* Запруддзе.

*Узімку з брыкéту пóпел сéяла на пóле, ячмéнь зарадзíў – век такóга ні былó.* Ракаў Засценак. 2. Зерне гэтай расліны. *Ячмéню намялю мяшкí чатыры.* Гарадзец. *Ячмéнь выпісвалі, за ўсе плацілі.* Дольдзева. *Ячмéнь сéюць, аўсы.* Розмыслава. *Ячмéнь труць, курáм сыпюць, тады схóдзіць на вóку.* Багданава. ЯЧМЯНÍНКА *ж. памянш. Тры ячмянінкі бярэш у тры пáльцы і тры разы сцірáеш* [ад ячменю на вачах], *аддаéш курáм.* Партызаны.

**ЯЧМÉНЬ** *м.* Гнойнае запаленне павека. *Ячмéнь на вóку – ячмéням труць, курáм сыпюць, каб з'éлі з хлéбам гéтым; мáсла карóўскае мішáюць с хлéбам і прыкладáюць.* Багданава.

**Я́ЧНЫ**, **Я́ШЧЫ** *прым.* 1. Прыгатаваны з ячменю. *Крупý я́чнаю таўчэш, вадэй падлéціш.* Міцюкова. *Атвáр з я́чных круп дъвáлі, як панóс быў.* Нямойта. 2. Ячменны (пра салому). *Я́чнъя салóма, карóвы éлі.* Каралі. *Я́шча салóма харóшая, янá мякчэйша.* Жохава.

**ЯЧЫ́ЦЬ** *незак.* Разносіцца (пра спеў). *Там – пяюць, там – пяюць, прáма ячыць усюдъх пóля.* Самсоны.

**ЯЧЭ́ЙКА**, **ЯЧА́ЙКА** *ж.* 1. Паглыбленне, адтуліна ў жорнах, куды сыпалі зерне. *У ячэйку сыпалі зярнó.* Вялікі Азярэцк. *Ячáйка.* Заазер'е. 2. Ячэйка ў сотах. *Дзе трýтні залóжаны ў ячэйках, бальшанствó на трýтнях кляшчы развóдзяцца.* Закур'е.

**Я́ШЧЫК** *м.* 1. Пасудзіна квадратнай формы. *У я́шчык сáла складáлі.* Гарадзец. *Для сáла я́шчык.* Каралі. *Кýбіл – тóжа адзéжу складáлі, а сáла ў я́шчык. Сáльны я́шчык – для сáла.* Нямойта. *Пакýль у гóрад у магазíн – мы ў я́шчык.* Івоні. 2. Бочачка з вушкамі, крышкай і засаўкай для засолкі сала. *Я́шчык – такéй, як ушáт, з зáсаўкай.* Дольдзева.

**Я́ШЧАРКА** *ж.* Яшчарка. *Я́шчаркі і ў гарóдзі бывáюць.* Гарадзец. *Я́шчъркі ні кусáюцца.* Гарадок.

**Я́ШЧАРЫЦА** *ж.* Тое ж. *Я́шчарыцы небальшэнькія, як удáраш, хвост атвáліцца і самá пабéгла.* Вялікі Азярэцк.

**ЯШЧЭ́** *прысл.* Яшчэ. *Яé німá яшчэ, а што мне дзéлыць?* Міцюкова.

**ЯЮ́Р** *м.* Клін у коле навоя. *Яюр, каб навóй не круціўся.* Дуброўкі.

## ІНДЭКС ФРАЗЕМ

**АБВАЛІЦЦА**
◊ АБВАЛІЦЦА Ў ВОБМАРАК. Страціць прытомнасць.
**АБВАРАНЫ**
◊ пабегчы ЯК АБВАРАНЫ. Вельмі хутка, імкліва.
**АБГАЛІЦЬ**
◊ АБГАЛІЦЬ НА ГОЛУЮ БЕЛКУ. Абрабаваць, забраць усё.
**АБКЛАДЗЕНЫ**
◊ АБКЛАДЗЕНЫ ПА-ЦВЁРДАМУ. Пра заможнага, багатага чалавека.
**АБУВАЦЬ**
◊ АБУВАЦЬ У ЛАПЦІ. Падманваць.
**АГОНЬ**
◊ АГОНЬ ЯГО ВЕДАЕЦЬ (ЗНАЕЦЬ). Невядома.
**АГРОБ**
◊ АГРОБУ НІМА. Вельмі многа.
**АДБАВІЦЬ**
◊ ХОЦЬ АДБАЎЦЕ. Пра вялікую колькасць чаго-н.
**АДБІЦЦА**
◊ АДБІЦЦА АД РУК. Перастаць слухацца, падпарадкоўвацца.
**АДДАЦЬ**
◊ АДДАЦЬ БОГУ ДУШУ. Памерці.
**АДЗІН**
◊ АДЗІН АДНЫМ. Зусім адзін (пра чалавека).
◊ АДЗІН РОДАМ. Толькі адзін.
**АДСЯЧЫ**
◊ ХОЦЬ <ТЫ> ГАЛАВУ АДСЯЧЫ. Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н.
**АДТУЛЬ**
◊ НІ АДТУЛЬ НІ АДСЮЛЬ. Узяцца невядома адкуль.
**АДУРНІЦЬ**
◊ АДУРНІЦЬ (АДУРЫЦЬ) ГАЛАВУ. Надакучыць, назаліць чым-н.
**АЗЯЛІЦЬ**
◊ АЗЯЛІЦЬ ГАЛАВУ. Надакучыць, назаліць чым-н.
**АСА**
◊ ЯК АСВА лезіць. Неадчэпна, дакучліва.
**АСІНА**
◊ ЯК АСІНА дрыжыць, трасецца. Вельмі моцна (калоціцца).
**АТПРАВІЦЬ**
◊ АТПРАВІЦЬ СТОЛ. Аднесці на службу ў царкву памінальную ежу.
**АТРЭЗАЦЬ**
◊ ЯК АТРЭЗАЎ. Катэгарычна (сказаць), рашуча прыпыніць якое-н. дзеянне.

**АТЦАПНО́Е**
◊ ДЗЕЛЯ АТЦАПНО́ГА. Зрабіць для прыліку.
**АХО́ТА**
◊ ПРЫЙСЦІ́ Ў АХО́ТУ (У ВАХО́ТУ). Бегаць; знаходзіцца ў стане цечкі (пра карову).
◊ У ВАХО́ЦЕ. Тое ж.
**АШПА́РАНЫ**
◊ ЯК АШПА́РАНЫ. Вельмі рэзка, імкліва.

**БА́БАЧКА**
◊ ЗАВЯ́ЗВАЦЬ БА́БАЧКАЙ. Завязваць хусту банцікам на лбе.
**БАГА́ТА**
◊ БАГА́ТА Ў ХА́ТУ! Пажаданне дабрабыту на ўваходзінах.
**БАЗА́Р**
◊ ПО́ЛАЦКІ БАЗА́Р. Беспарадак, вэрхал.
**БАЛО́ТА**
◊ З АДНАГО́ БАЛО́ТА ЧЭ́РЦІ. Пра каго-, што-н. падобнае, аднолькавае.
**БАРАДА́**
◊ БАРАДУ́ БІЦЬ. Плявузгаць, гаварыць абы-што.
**БА́СНЯ**
◊ БА́СНІ БА́ЯЦЬ. Займацца пустымі размовамі.
◊ ДАЛЁКАЯ БА́СНЯ. Доўгае апавяданне.
**БА́ЦЬКА**
◊ ПА БА́ЦЬКУ. Быць падобным на бацьку, нагадваць бацьку.
**БЕ́ЖАНЦЫ**
◊ быць У БЕ́ЖАНЦАХ. Часова пакідаць месца жыхарства з-за вайны.
**БЕ́ЛКА**
◊ круціцца ЯК БЕ́ЛКА Ў КАЛЯСЕ́. Быць вельмі занятым, заклапочаным.
**БЕ́ЛЫ**
◊ БЕ́ЛЫ СВЕТ. Свет, сусвет.
◊ БЯЛО́ ТАБЕ́. Пажаданне на добрае мыццё.
**БЕЛЬ**
◊ БЕ́ЛЬ БЕ́ЛЛЮ. Пра ярка-белы колер.
**БЕС**
◊ І Ў ЛЕС І Ў БЕС. Не знаходзіць сабе месца.
**БІТКІ́**
◊ У БІТКІ́ гуля́ць. Разбіваць адным яйкам другое (велікодная гульня).
**БІТКО́М**
◊ БІТКО́М НАБІ́ТА. Вельмі поўна, у вялікай колькасці.
**БІ́ЦЦА**
◊ БІ́ЦЦА (КІДА́ЦЦА) ЯК РЫ́БА АБ ЛЁД. Без выніку і плёну намагацца, старацца, шукаючы выйсце з бядоты.
**БІЦЬ**
◊ БІЦЬ У ГО́ЛАВУ. Раптоўна, выпадкова з'яўляцца ў свядомасці.
**БЛІ́ЗУ**
◊ КАЛА БЛІ́ЗУ. Паблізу, побач.
**БЛІН**
◊ ЗА ЦЁПЛЫ БЛІН АДДА́Ў ДО́ЧКУ. Пра вельмі нявыгадны шлюб.

**БЛУД**
◊ ІСЦІ́ Ў БЛУД. Паводзіць сябе непрыстойна.
**БОГ**
◊ БОГ ДАЕ́ЦЬ. Так атрымліваецца, складваецца.
◊ І́СЦІННЫ БОГ. Так, праўда.
◊ ЯК У БО́ГА ЗА ДЗВЯРМІ́. Без клопатаў, заможна, у поўнай бяспецы (жыць).
◊ ЯК У БО́ГА ЗА ДЗВЯРМІ́ пажы́ць. Вельмі дрэнна, з цяжкасцямі.
◊ З БО́ГАМ ЖЫЦЬ. Жыць у суладдзі, у згодзе з сумленнем.
◊ БАРАНІ́ (БАРО́НЬ) БО́ЖА (БОГ), БРАНІ́ (БРАНЬ) БОХ. Засцярога ад чаго-н., забарона рабіць што-н. небяспечнае.
◊ ХАЙ БОХ КРЫ́ЕЦЬ. Выраз перасцярогі, папярэджання не рабіць чаго-н.
◊ ДАЙ БО́ЖА (БО́ЖАЧКА) ЗДАРО́ЎЯ. Пры пажаданні здароўя.
◊ БО́ЖА, БО́ЖА МОЙ, БО́ЖАЧКА МОЙ. Выгук пры хваляванні.
◊ ГАСПО́ДЗЬ БО́ЖАЧКА. Тое ж.
◊ БО́ЖА МОЙ ВЫСО́ЧАНЬКІ. Бажба.
**БОК**
◊ ПАД БО́КАМ. Зусім блізка, недалёка.
◊ У БО́КІ. На пояс.
**БРАТ**
◊ У ТРЭ́ЦІМ БРАТ. Траюрадны брат.
**БРАЦЬ**
◊ НЕ БРАЦЬ ДА ГАЛАВЫ́. Не думаць пра што-н., не звяртаць увагі.
◊ БРАЦЬ У ДОЎГ. Пазычаць.
◊ ЯК НІ БЯРЫ́. Безумоўна, бясспрэчна.
**БУБЫ́**
◊ НА БУБА́Х. У адзіноце і нястачы.
**БУЛДА́**
◊ ПАД БУЛДО́Й. У стане ап'янення.
**БЫТ**
◊ СТАРЫ́ БЫТ. Старая закалка.
**БЯДА́**
◊ НІ БІДА́. Ну дык што ж.
◊ БІДА́ ПА БЯДЗЕ́. Пасля аднаго няшчасця здараецца другое.
◊ А БІДА́ ЯГО́ ВЕ́ДАІЦЬ (ЗНА́ІЦЬ). Невядома.
**БЯЗМЕ́Н**
◊ ЯК БЯЗМЕ́Н. Пра неразумнага, бесталковага чалавека.
**БЯРО́ЗА**
◊ АД БЕ́ЛАЙ БЯРО́ЗЫ ДА ЧО́РНАГА ДУ́БА. Ад краю да краю.

**ВАДА́**
◊ ПЯ́ТАЯ ВАДА́ НА КІСЯЛІ́. Пра далёкае сваяцтва.
**ВАДЗІ́ЦЬ**
◊ ВАДЗІ́ЦЬ РУСА́ЛКУ. Выконваць абрад праводзін русалкі з вёскі ў жыта.
**ВАЛАСЫ́**
◊ ВАЛАСЫ́ СТА́ЛІ ДУ́БАМ (ДУ́БАРАМ). Пра пачуццё жаху, вялікага страху, зведанага кім-н.

**ВЕК**
◊ ВЕК ВЯКО́М. Заўсёды, спрадвеку.
**ВЕ́СЦІ**
◊ ВЕ́СЦІ ЛАТ. Рабіць належным чынам.
**ВЕ́ЦЦЕ**
◊ САБІРА́ЦЬ З ДУ́БА ВЕ́ЦЦЕ. Гаварыць абы-што.
**ВЕ́ЧАР**
◊ ДАЖДА́ЦЬ ВЕ́ЧАРА. Бажба.
**ВЕ́ЧНА**
◊ ВЕ́ЧНА ВЯКО́М. Спрадвеку.
**ВЕ́ШАЦЬ**
◊ ХОЦЬ ТАПО́Р ВЕ́ШАЙ. Дзе няма чым дыхаць.
◊ ХОЦЬ НА КІЙ ВЕ́ШАЙ. Вельмі многа.
**ВІ́ДНА**
◊ ДА ВІ́ДНА. Да світанку.
**ВОЛ**
◊ ЯК <ЧО́РНЫ> ВОЛ рабо́тацъ. З крайнім напружаннем.
**ВО́РАН**
◊ ЧО́РАН ВО́РАН. Аўтамашына для перавозкі рэпрэсаваных.
**ВОСК**
◊ ЯК ВО́СКАМ САЛЛІ́ЦЬ. Зрабіць акуратна.
**ВОЧЫ**
◊ НІ ЗВЕ́СЦІ ВО́КА. Не заснуць.
◊ ГЛЯ́НУЦЬ АДНЫ́М ВО́КАМ. Пагглядзець.
◊ ВО́ЧЫ НА ЛОБ ПАВЫЛА́ЗІЛІ. Пра вялікае здзіўленне.
◊ ВО́ЧЫ НЕ ПРАСЫХА́ЮЦЬ. Злоўжываць спіртным.
◊ САДЗІ́ЦЦА НА ВО́ЧЫ. Слепнуць.
◊ СЛА́БЫ НА ВО́ЧЫ. Слепавокі.
◊ быць НА ВАЧА́Х. Побач, пад прыглядам.
**ВУ́ТКА**
◊ ЯК У ВУ́ТКІ згарэ́ць. З'есці без наступстваў.
**ВУ́ХА**
◊ УНЕ́СЦІ Ў ВУ́ШЫ. Расказаць, давесці да ведама.
◊ БРА́ЦЦА ЗА ВУ́ШЫ. Здзіўляцца.
◊ ВУ́ШЫ ВЯ́НУЦЬ. Прыкра, непрыемна слухаць што-н.
◊ ВУ́ШЫ НЯ СХВО́ЦІШ. Не ўсё пачуеш з таго, што нагаворана.
◊ ПРАПУСЦІ́ЦЬ СКРОЗЬ ВУ́ШЫ. Не звярнуць увагі.
◊ ХОЦЬ У ВУ́ХА ЎЛЕ́ЗЦІ. Пра нешта мяккае.
◊ увідзіць ЯК СВАЕ́ ВУ́ШЫ. Ні пры якіх абставінах не (убачыць каго-, што-н.).
◊ пашапта́ць НА ВУ́ШКА. Пад сакрэтам, ціха, каб ніхто не чуў.
**ВЫБІРА́ЦЬ**
◊ ВЫБІРА́ЦЬ СЦЕНЬ. Выганяць хваробу з дапамогай замовы і магічных дзеянняў.
**ВЫ́БІЦЦА**
◊ ВЫ́БІЦЦА З ГО́РА. Зажыць у дастатку.
◊ ВЫ́БІЦЦА ІЗ СІЛ. Вельмі стаміцца, аслабець, знемагчы.
**ВЫБО́Р**
◊ НА ВЫБО́Р. З правам выбару.

**ВЫ́ГЛЯДЫ**
◊ У ВЫГЛЯ́ДЫ хадзіць. Прыходзіць, каб паглядзець на немаўля.
**ВЫКІДА́ЦЬ**
◊ ВЫКІ́ДАЦЬ НА ВЕ́ЦІР. Дарэмныя выдаткі.
**ВЫЛА́ЗІЦЬ**
◊ ВЫЛА́ЗІЦЬ ДУХ. Адчуваць сябе вельмі стомлена.
◊ ВЫЛА́ЗІЦЬ З КО́ЖЫ. Старацца з усіх сіл.
**ВЫ́ЛЕЗЦІ**
◊ ВЫ́ЛЕЗЦІ БО́КАМ. Кепска кончыцца для каго-н., не прайсці бясследна.
**ВЫЛІТА́ЦЬ**
◊ ВЫЛІТА́ЦЬ З ГАЛАВЫ́. Забываць.
**ВЫ́РВАЦЬ**
◊ ВЫ́РВАЦЬ НЕ́РВЫ. Знерваваць.
◊ ВЫ́РВІ ДЫ ПАДА́Й. Пра нецярплівага чалавека.
**ВЫСКА́КВАЦЬ**
◊ ВЫСКА́КВАЦЬ (ВЫПІНА́ЦЦА) З (С) КО́ЖЫ. Вельмі старацца.
**ВЫСЫХА́ЦЬ**
◊ ПА́МІЦЬ ВЫСЫХА́ІЦЬ. Забываць што-н.
**ВЫЦЬ**
◊ ВЫЦЬ У ГО́РЛА. Выць, падняўшы галаву.
**ВЯДРО́**
◊ ліць (ліўну́ць) ЯК З ВЯДРА́. Вельмі моцным струменем, суцэльным патокам (аб праліўным дажджы).
**ВЯНЕ́Ц**
◊ пайсці ПАД ВЯНЕ́Ц. Вянчацца.

**ГАДАВА́ЦЦА**
◊ ПА САСНЯКУ́ ГАДАВА́ЦЦА. Расці без увагі і нагляду бацькоў.
**ГАК**
◊ З (С) ГА́КАМ. З невялікім перавышэннем, з лішкам.
**ГАЛАВА́**
◊ крычэ́ць НА ЎСЮ ГАЛАВУ́. Моцна, нема (крычаць).
◊ ГАЛАВА́ НІ ВА́РЫЦЬ. Не дадумвацца, не прыходзіць да якога-н. вываду.
◊ НА СВАЮ́ ГАЛАВУ́. Сабе на шкоду.
◊ НЯ Ў ГО́ЛАВЕ. Не з'яўляцца прадметам чыіх-н. клопатаў, думак.
**ГАЛЁНЫ**
◊ НА ЯЗЫ́К ГАЛЁНЫ. Языкаты, языкасты.
**ГАЛІПА́**
◊ З ГАЛІПА́. Галопам, вельмі хутка.
**ГАНЯ́ЦЬ**
◊ ГАНЯ́ЦЬ РУСА́ЛКУ. Праводзіць абрадавыя дзеянні па выгнанні русалкі з вёскі ў жыта.
**ГАРЭ́ЦЬ**
◊ ГАРЫ́ ТЫ (ЯНО́) ГА́РАМ! (праклён). 1. Пра пільную неабходнасць, безвыходнасць. 2. Нізашто, ні ў якім выпадку.
**ГАСПО́ДЗЬ**
◊ ГАСПО́ДЗЬ НА СВЕ́ЦІ. Выгук пры незвычайным здзіўленні.

◊ ГАСПО́ДЗЬ МОЙ БОГ. Тое ж.
◊ ГАСПО́ДЗЬ ВІСО́КІ. Тое ж.
**ГАЦІ́ЦЬ**
◊ ХОЦЬ ГАЦЬ ГАЦІ́. Вельмі многа, вялікая колькасць чаго-н.
**ГІ́БЕЛЬ**
◊ ДА ГІ́БЕЛІ. Вельмі многа.
**ҐІШЭ́ФТ**
◊ ІМЕ́ЦЬ ҐІШЭ́ФТ. Быць у адносінах.
**ГЛА́ЗЫ**
◊ У ГЛА́ЗЫ сказа́ць. Адкрыта, прама, нічога не хаваючы.
◊ ГЛА́ЗЫ РАЗБЯГА́ЮЦЦА. Пра немагчымасць засяродзіцца на нечым з-за мноства тавараў, прадметаў.
**ГЛУХІ́**
◊ ГЛУХІ́ ПЕНЬ. Зусім глухі.
**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ**
◊ НЕ (НІ) ГЛЯДЗЕ́ЦЬ НІ ЛБА НІ ВО́КА. Быць неахайным, абыякавым.
**ГНАЦЬ**
◊ ГНАЦЬ ГРЭ́НКУ. Злавацца, крыўдаваць.
◊ ГНАЦЬ КУПА́ЛА. Праводзіць абрадавыя дзеянні па выгнанні купалы.
**ГНІЛЬ**
◊ ГНІЛЬ ЯГО́ ЗНА́ІЦЬ. Пра поўную пагарду ці абурэнне адносна некага ці нечага.
**ГОД**
◊ АДЗІ́Н ГОД. У нейкі мінулы год.
◊ пайсці СВАІ́М ГО́ДАМ. З аднагодкамі, равеснікамі.
◊ ПА ГАДА́Х. Па старасці, па ўзросце.
◊ ГАДЫ́ Ў РАДЫ́. Вельмі рэдка.
◊ ТЫ́Я (ТЭ́Я) ГАДЫ́. Раней, у мінулым.
◊ НЕ ГАДЫ́. Узрост.
◊ МАЕ́ ГАДЫ́. Тое ж.
◊ ПАД ГАДЫ́. Ва ўзросце.
◊ ЯК ПАТ ГОД. 1. Пры спрыяльным годзе. 2. У залежнасці ад года.
**ГО́ЛАС**
◊ ГО́ЛАСАМ ГАЛАСІ́ЦЬ. Гучна, з енкам плакаць, прычытаць.
**ГО́ЛЫ**
◊ ГОЛ ЯК САКО́Л. Дужа бедны, нічога не мае.
◊ РАБО́ТАЦЬ ЗА ГО́ЛЫ ТРУДАДЗЕ́НЬ. Праца без аплаты ці з невялікай аплатай.
◊ НА ГО́ЛЫ ЖЫВО́Т. Нашча.
◊ прыйсці НА ГО́ЛЫ КА́МЕНЬ. Там, дзе пуста, нічога няма.
**ГОЛЬ**
◊ ГОЛЬ ПЕРАКА́ТНАЯ. Галеча; бядняк спрадвечны.
**ГО́РА**
◊ ГО́РА ПА ГО́РУ. Пра бяду, што не пакідае чалавека.
**ГОСЦЬ**
◊ НА ГО́СЦІ. У госці.
◊ ПАБЫВА́ЦЬ У ГАСЦЁХ. Быць за госця.
**ГРАЗЬ**
◊ ЯК ГРАЗІ́. Вельмі многа.

**ГРАМ**
◊ ДА ГРА́МА. Цалкам, поўнасцю.
◊ НІ ГРА́МА. Ніколькі.
◊ НІ ГРА́МАЧКІ. Тое ж.
**ГРУ́ДЗІ**
◊ ПАД ГРУДЗЯ́МІ (ГРУДЗЬМІ́). Пад дыхавіцай, у сонечным спляценні.
◊ ЗА ГРУ́ДЗІ ўзяцца, схапіцца. Узяцца (схапіцца) за адзенне.
**ГРЫБ**
◊ расці ЯК ГРЫ́БЫ <АТ ЦЁПЛАГА ДО́ЖДЖУ>. Расці хутка, непрыкметна (пра дзяцей).
**ГРЭХ**
◊ ЯК НА ГРЭХ. Як на зло, на няшчасце.
**ГУЛЯ́ЦЬ**
◊ ГУЛЯ́ЦЬ ЛІНЦЯ́Я. Нічога не рабіць, гультайнічаць.

**ДАВА́ЦЬ**
◊ ДАВА́ЦЬ (ДАЦЬ) У ДОЎГ. Пазычаць, пазычыць.
◊ НІ ДАВА́ЦЬ ХО́ДУ. Не дазваляць нешта рабіць.
**ДАВЕ́СЦІ**
◊ ДАВЁЎ ДА НІ МАГУ́. Пра стан (сітуацыю), калі нельга вытрываць.
**ДАГАРЫ́**
◊ ДАГАРЫ́ НАГА́МІ. Пра парушэнне звычайнага парадку.
**ДАЛЕ́Й**
◊ ДА́ЛІ-ПАДА́ЛІ. Чым далей.
**ДАЛО́Ў**
◊ І С КАПЫ́ЛЛЯ ДАЛО́Ў. Памерці.
**ДАЎНО́**
◊ ДАЎНЫ́М-ДАЎНО́ (ДАЎНО́-ДАЎНЫ́М). Вельмі даўно.
◊ ДАЎНО́-ЗДАЎНЫ́Х. Тое ж.
◊ ДАЎНО́-ПРАДАЎНО́ (ПРЫДАЎНЭ́). Тое ж.
**ДА́ЎНЫ**
◊ З ДА́ЎНІХ ДАВЁН. Здаўна.
◊ ДА́ЎНЫ-ДА́ЎНЫ, ДА́ЎНЫ-ДА́ЎНЫ-ПРЭДА́ЎНЫ. Вельмі даўні, старадаўні.
**ДАЦЬ**
◊ ДАЦЬ РУКУ́. Павітацца або развітацца.
◊ ДАЦЬ ДАРО́ГУ. Пажадаць добрага шляху.
◊ ДАЦЬ ДЫ́ХТУ. Моцна насварыцца, аблаяць.
◊ ДАЦЬ ДРАЗДА́. Насварыцца, дакарыць за нешта.
◊ ДАЦЬ У КАРШЭ́НЬ. Ударыць.
◊ ДАЦЬ ЗНАЦЬ. Паведаміць пра што-н.
◊ ДАЦЬ ЧО́СУ. Пусціцца наўцёкі, уцячы.
◊ ДАЦЬ ДЗЁРУ. Тое ж.
◊ ДАЦЬ ДРА́ЛА. Тое ж.
◊ ДАЦЬ ДУ́БА. Памерці.
**ДВОР**
◊ У ДВАРЭ́, У ДВАРЫ́. На вуліцы, не ў хаце.

**ДЗЕ́ВА**

◊ СТАРА́Я ДЗЕ́ВА. Пра немаладую дзяўчыну, якая не была замужам.

**ДЗЕНЬ**

◊ ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ. Штодзень, кожны дзень.

◊ ДЗЕНЬ У ДЗЕНЬ. Тое ж.

**ДЗЕ́ЎКА**

◊ радзіць У ДЗЕ́ЎКАХ, У ДЗЯЎКО́Х. (Нарадзіць дзіця) да замужжа.

◊ У ДЗЯЎКО́Х. 1. У дзявоцтве, да замужжа. 2. Заставацца (застацца) незамужняй.

**ДЗІ́РКА**

◊ ДЗІ́РКА АД АБАРА́НКА. Нічога, пустое месца.

**ДЗЯЦІ́НЫ**

◊ ХАЙ ТАБЕ́ ДЗЯЦІ́ННЫ РО́ЗУМ. Прадраканне не развівацца разумова.

**ДО́БРЫ**

◊ ДО́БРАГА ВУ́ТРА. Вітанне раніцай.

◊ ДО́БРЫ ДЗЕНЬ. Вітанне днём.

◊ ДО́БРЫ ВЕ́ЧАР. Вітанне вечарам.

◊ У ДО́БРЫ ЧАС. Пажаданне поспеху.

**ДОЖДЖ**

◊ СЛЯПЫ́ ДОЖ (ДОШ). Дождж пры сонцы.

**ДО́ШКА**

◊ ЧО́РНАЯ ДАСКА́. Спіс людзей, якія падлягалі рэпрэсіям.

**ДРАЦЬ**

◊ ДРАЦЬ КАЗЛЫ́. Крычаць, лаяцца.

**ДРА́ЧКА**

◊ дзе́лаць У ДРА́ЧКУ. Спосаб укладкі бярвёнаў (пры пабудове рубленых засекаў).

**ДУ́БКІ**

◊ У ДУ́БКІ. Быць катэгарычна нязгодным, супраць.

**ДУ́ЛЯ**

◊ ДУ́ЛЮ (КУ́КІШ) ТАБЕ́. Катэгарычнае адмаўленне ў нечым ці нязгода з нечым.

**ДУ́МАЦЬ**

◊ ДУ́МАЦЬ НА́ДА. Так, напэўна, менавіта.

◊ НІМА́ ЧАГО́ І ДУ́МАЦЬ. Пра поўную немагчымасць зрабіць што-н.

**ДУРА́К**

◊ САТВАРЫ́ЦЬ ДУРУКА́. Учыніць глупства.

**ДУРНІ́ЦЬ**

◊ ДУРНІ́ЦЬ ГАЛАВУ́. Надакучаць,назаляць.

**ДУРУЧО́К**

◊ У ДУРУЧКА́. Назва карцёжнай гульні.

**ДУХІ́**

◊ НІ ДУ́ХІ. Ні ў якім выпадку, нізашто.

**ДУША́**

◊ АД (ДА) ДУШЫ́. Вельмі многа.

◊ ДА ДУШЫ́. Праўда, на самай справе.

◊ БЕЗ ДУШЫ́. У стане непрытомнасці.

◊ ЧЫ́СТЫ НА ДУШУ́. Праўдзівы, чэсны.

◊ НІ ПАПО́ВА ДУША́. Сквапны, прагны.

**ДЫБЫ́**
◊ НА ДЫБЫ́. На заднія ногі (стаць, падняцца і да т. п.).
**ДЫМІ́НА**
◊ У ДЫМІ́НУ. Вельмі моцна.
**ЖА́БА**
◊ набра́цца ЯК ЖА́БА ГРАЗІ́. Быць моцна п'яным, залішне напіцца.
◊ ле́зці ЯК ЖА́БА НА КОРЧ. Пра чалавека, які некуды моцна імкнецца.
**ЖУТКІ́**
◊ ЖУТКО́Ё ДЗЕ́ЛА. Надзвычай многа.
**ЖЫВЫ́**
◊ ЖЫВЫ́-ЗДАРО́ВЫ. У добрым здароўі.
◊ НА ЖЫВЫ́ БОХ. З цяжкасцю.
◊ НА ЖЫВО́Е. Для жыцця.
**ЖЫ́ЛА**
◊ НА ЎСЕ ЖЫ́ЛЫ. Як мага больш.
**ЖЫ́ЛЛЕ**
◊ ПАДЦЯГНУ́ЦЬ ЖЫ́ЛЛЕ. Аслабнуць здароўем.
**ЖЫЦЬ**
◊ НА́ДА ЯК ЖЫЦЬ. Пра пільную патрэбу.
◊ ЖЫЦЬ АБ АДНЫ́М ДНІ. Не клапаціцца пра будучыню.

**ЗАБІ́ТЫ**
◊ спаць ЯК ЗАБІ́ТЫ. Вельмі моцна, не прачынаючыся.
**ЗАБІ́ЦЦА**
◊ ХОЦЬ ЗАБІ́СЯ. Пра безвыходнае становішча.
**ЗАВЯ́ЗАЧКА**
◊ ПАД ЗАВЯ́ЗАЧКУ. Вельмі многа.
**ЗАГАРА́ДЖВАЦЬ**
◊ ЗАГАРА́ДЖВАЦЬ МАЛАДЫ́Х. Звычай перапыняць вясельны поезд, перагароджваючы дарогу.
**ЗАГРАБА́ЦЬ**
◊ ЧУЖЫ́МІ РУКА́МІ ЖАР ЗАГРАБА́ЦЬ. Карыстацца вынікамі чужой працы ў карыслівых мэтах.
**ЗАДРА́ЦЬ**
◊ ЗАДРА́ЦЬ НО́ГІ. Страціць прытомнасць.
**ЗАКІ́НУЦЬ**
◊ СЛО́ВА ЗАКІ́НУЦЬ. Падтрымаць.
**ЗАКЛАДА́ЦЬ**
◊ ШТО (ХОЦЬ) КАСУ́ ЗАКЛАДА́Й. Вельмі многа, процьма.
**ЗАКРУЦІ́ЦЦА**
◊ ЗАКРУЦІ́ЦЦА Ў ГАЛАВЕ́. Пачаць адчуваць галавакружэнне.
**ЗАЛІВА́ЦЦА**
◊ ЗАЛІВА́ЦЦА СЛЯЗЬМІ́. Горка, няўцешна плакаць.
**ЗАЛІ́ЦЬ**
◊ ЗАЛІ́ЦЬ ВО́ЧЫ. Быць моцна п'яным.
◊ ЗАЛІ́ЦЬ БУ́ЛЫ. Тое ж.
**ЗАМІТУСІ́ЦЬ**
◊ ЗАМІТУСІ́ЦЬ ГАЛАВУ́. Ачмурыць, пазбавіць здольнасці думаць, разважаць.

**ЗАМУЦІ́ЦЦА**
◊ ЗАМУЦІ́ЦЦА Ў ГАЛАВЕ́. Пачаць адчуваць галавакружэнне.
**ЗАМУЦІ́ЦЬ**
◊ ВАДО́Й <НІКАМУ́> НЕ ЗАМУЦІ́ЦЬ. Не зрабіць ніякай шкоды, нічога кепскага.
**ЗАМЯТА́ЦЬ**
◊ ЗАМЯТА́ЦЬ СЛЯДЫ́. Знішчаць улікі.
**ЗАНЯ́ЦЬ**
◊ ЗАНЯ́ЦЬ АБАРО́НУ. Заняць абарончую пазіцыю.
**ЗАПАРО́ЦЬ**
◊ ПА́ЛЬЦАМІ ЗАПАРО́ЦЬ. Засарамаціць, зганьбіць.
**ЗА́ПЕРЦЬ**
◊ У ЗА́ПЕРЦІ. Запёрты, зачынены.
**ЗАПІ́НАЧКА**
◊ БІЗ ЗАПІ́НАЧКІ. Не спыняючыся, не запінаючыся.
**ЗАПО́Р**
◊ У ЗАПО́РЫ. Запёрты, зачынены.
**ЗАСАЛІ́ЦЬ**
◊ ЗАСАЛІ́ЦЬ НА ДУ́ШУ. Абяцаць, выклікаючы давер.
**ЗАТАНУ́ЦЬ**
◊ ЗАТО́НЬ ТЫ НІХА́Й. Выказванне моцнага раздражнення, злосці з прычыны чаго-н.
**ЗБІ́ЦЦА**
◊ ЗБІ́ЦЦА З ПАНТАЛЫ́КУ. Заблытацца.
**ЗБРАСЦІ́**
◊ НА УМ ЗБРАСЦІ́. Раптоўна, выпадкова з'явіцца ў свядомасці.
**ЗБЫЦЬ**
◊ ЗБЫЦЬ З ГАЛАВЫ́. Вызваліцца, пазбавіцца.
**ЗВЕ́СЦІ**
◊ НЯ ЗВЕ́СЦІ ВО́ЧЫ. Аб чым-н. вельмі прыгожым, прываблівым.
**ЗВОДЗІЦЬ**
◊ ЗВО́ДЗІЦЬ СПЛЕ́ТНІ. Пляткарыць.
**ЗВЯРНУ́ЦЬ**
◊ ГАЛАВУ́ ЗВЯРНУ́ЦЬ. Загінуць.
**ЗГАНЯ́ЦЬ**
◊ ЗГАНЯ́ЦЬ АХО́ТУ. Задаволіць жаданне, здаволіцца.
**ЗДАРО́ЎЕ**
◊ НА ЗДАРО́ЎЕ! Пажаданне пры адказе на «дзякуй».
**З'Е́ХАЦЬ**
◊ З'Е́ХАЦЬ З ГЛУ́ЗДУ. Страціць розум, развагу.
**ЗЖЫВА́ЦЬ**
◊ ЗЖЫВА́ЦЬ ДВА ВЯКІ́. Доўга жыць.
**ЗЛАМІ́ЦЬ**
◊ ГАЛАВУ́ ЗЛАМА́ЦЬ. Скалечыцца, загінуць.
**ЗНЯЦЬ**
◊ ЯК РУКО́Й СНЯЛО́. Поўнасцю прайсці (звычайна пра боль).

**ЗУБ**
◊ ЗУБ НА ЗУБ НЕ ПАПАДА́ЕЦЬ (ТРАПЛЯ́ЕЦЬ). Пра дрыжыкі ад моцнага холаду ці страху.
◊ ЗУ́БЫ НА ПАЛІ́ЦУ. Галадаць.
**ЗЯМЛЯ́**
◊ ПУ́ХАМ ТАБЕ́ ЗІМЛЯ́! Словы нябожчыку як выказванне добрай памяці пра яго.

**ІГРА́ЦЬ**
◊ ІГРА́ЦЬ У АДНУ́ ДУ́ДКУ. Дзейнічаць заадно.
**ІК**
◊ ІК ЗАНЯЛО́. Спынілася дыханне.
**ІСЦІ́**
◊ ІЦІ́ ДАМО́Ў. Паміраць.

**КАДУ́К**
◊ КАДУ́К ЯГО́ (ЯЕ́) ЗНА́ІЦЬ. Невядома.
**КАЗА́**
◊ НАКЛА́СЦІ КАЗУ́. Зрабіць памылку пры снаванні красён.
**КАЛЁСЫ**
◊ НІ КАЛЁС НІ АТО́С. Пра адсутнасць усяго.
**КА́ЛІВА**
◊ ДА КА́ЛІВА. Абсалютна ўсё, цалкам.
◊ НІ КА́ЛІВА. Зусім, ніколькі, ані.
◊ ПА КА́ЛІВУ. Вельмі мала, пакрысе.
◊ ПА КА́ЛІЎКУ. Тое ж.
**КАЛО́ДЗЕЖ**
◊ ЯК У КАЛО́ДЗІЖЫ. Пра хмурнае надвор’е.
**КАЛО́ЦЬ**
◊ ХОЦЬ У ВО́КА КАЛІ́. Зусім нічога не відаць з-за цемры.
**КАЛЯДА́**
◊ Е́ЗДЗІЦЬ ПА КАЛЯДЗЕ́. Атрымліваць пачастунак за віншаванне з Калядой.
**КАЛЯСО́**
◊ КАЛЯСО́М ДАРО́ГА. Пажаданне добрай дарогі.
**КА́МЕНЬ**
◊ КА́МІНЕМ ТАБЕ́ ЗІМЛЯ́! Як праклён дрэннаму чалавеку.
**КА́НУЦЬ**
◊ ЯК У ВАДУ́ КА́НУЎ. Бясследна прапасці, знікнуць.
**КАПЫ́ЦЦЕ**
◊ С КАПЫ́ЦЦЯ. Памерці.
**КАРО́ВА**
◊ КАРО́ВА БЫКО́Ў. Бегаць; знаходзіцца ў стане цечкі (пра карову).
◊ ПАД (ПАТ) КАРО́ВУ. Даіць.
◊ ЯК КАРО́ВА ЯЗЫКО́М ЗЛІЗА́ЛА. Бясследна знікнуць.
**КАРО́ЛЬ**
◊ ЖЫЦЬ КАРАЛЯ́МІ. Пра добрае, заможнае жыццё.

**КАСÁ**
◊ ПУПÁЛА КАСÁ НА КÁМЕНЬ. Сутыкнуліся розныя непрымірымыя погляды, характары.
**КАСÍЦЬ**
◊ ХОЦЬ КАСÍ КАСÓЙ. Вельмі многа, процьма.
**КАЧÁН**
◊ СТРЫ́ГЧЫСЯ НА КАЧАНÁ. Налыса.
**КÍДАЦЬ**
◊ КІДÁЦЬ У ДЭ́СІКІ (ПАЎДЭ́СІКІ). Уводзіць 10 пасмаў (і іншую колькасць) у бёрда.
◊ КÍДАЦЬ НА КÁРТЫ. Варажыць.
**КÍНУЦЬ**
◊ КÍНУЦЬ НА КÁРТЫ. Пaваражыць.
◊ НІ КÍНУЦЬ У ГРАЗЬ ЛІЦÓМ. Апраўдаць надзеі, спадзяванні.
**КІШЭ́ЦЬ**
◊ АШ КІШЫ́ЦЬ. Вельмі многа.
**КЛІН**
◊ НА КЛІН. Звузіцца.
**КОЛ**
◊ НІ КАЛÁ НІ ДВАРÁ. Нічога не мець.
**КОНЬ**
◊ БЫЦЬ НА КАНÍ І ПАТ КАНЁМ. Жыць добра і блага, быць у розных сітуацыях.
**КОРЧ**
◊ СЯДЗÉЦЬ КАРЧЭ́М. Застацца адзінокім.
**КОТ**
◊ ЯК КОТ НАПЛÁКАЎ. Вельмі мала, у невялікай колькасці.
◊ лáзіць ЯК КОТ У СÁЛА. Пра чалавека, які пасягае на чужое.
◊ цігáць ЯК КАТÁ ЗА ХВОСТ. Пра валакіту, наўмыснае марнаванне часу.
**КРАЯНУ́ЦЬ**
◊ КРАЯНУ́ЦЬ МÁТАМ. Аблаяць нецэнзурнымі словамі.
**КРОЎ**
◊ КРОЎ ЗА КРОЎ. Помсціць забойствам за забойства.
◊ МЫЦЬ РУ́КІ КРÓЎЮ. Злачынстваваць, забіваць самавольна.
**КРÓШКА**
◊ НІ КРÓШКІ. Нікольки.
**КРУК**
◊ САГНУ́ЦЦА Ў КРУК. Моцна выгнуцца, цяжка працуючы.
**КРЫВÍЦЬ**
◊ КРЫВÍЦЬ ДУШÓЙ. Быць няшчырым, наўмысна не гаварыць праўды.
**КРЫЖ**
◊ ПАКЛÁСЦІ КРЫЖ. Зарачыся.
**КРЫЦЬ**
◊ крыць ПАТ КÓЛАС. Саломай каласамі ўніз (крыць).
◊ крыць ПАТ (ПОД) ШЧÓТКУ. Саломай камлямі ўніз (крыць).
**КРЫЧÁЦЬ**
◊ КРЫЧÁЦЬ РАТУ́НКУ. Прасіць аб дапамозе.
◊ КРЫЧÁЦЬ ГВÁЛТУ. Тое ж.

**КРЫ́ША**
◊ КРЫ́ША НА КРЫ́ШЫ. Упрытык, шчыльна.
**КРЭ́ЛІ**
◊ У КРЭ́ЛІ. Дзіцячая гульня, падобная на гарадкі.
**КУКУРА́ЧКІ**
◊ НА КУКУРА́ЧКІ. Сагнуўшы ногі ў каленях.
**КУЛА́К**
◊ КУЛАКО́Ў НАДАВА́ЦЬ. Наштурхаць пад бок.
**КУ́РА**
◊ КУРА́М НА СМЕХ. Зрабіць што-н. недарэчна, дрэнна.
◊ КУ́РЫ КАЛО́ДЗЕШ АБЯРНУ́ЛІ. Пра адсутнасць вады ў калодзежы.

**ЛАГО́ДНАСЦЬ**
◊ НЕ Ў ЛАГО́ДНАСЦІ. У дрэнных, нацягнутых адносінах.
**ЛАД**
◊ ЛАТ У ЛАТ. Зладжана, у такт.
◊ ЛАД ВЕ́СЦІ. Задаваць тон, рытм пры ручной малацьбе.
◊ НІ ЛА́ДУ НІ СКЛА́ДУ. Бесталкова, бязладна (гаварыць).
◊ НА СВОЙ ЛАД. На свой манер.
**ЛАМА́ЦЬ**
◊ ЛАМА́ЦЬ ГАЛАВУ́. Біцца над вырашэннем якой-н. задачы.
**ЛАПТА́**
◊ У ЛАПТУ́. Дзіцячая гульня.
**ЛА́ПЦІ**
◊ ДВА ЛА́ПЦІ – ПА́РА. Абсалютна аднолькавыя, адзін не лепшы за другога.
◊ АБУ́ЦЬ У ЛА́ПЦІ. Абхітрыць, абмануць.
**ЛЕ́ГЧЫ**
◊ ЛЕ́ГЧЫ ЛО́ГАМ. Ляжаць доўгі час.
**ЛЕ́ЖМА**
◊ ЛЕ́ЖМА ЛЯЖА́ЦЬ. Ляжаць не ўстаючы.
**ЛЕ́ЗЦІ**
◊ ЛЕ́ЗЦІ НА РАЖО́Н. Рызыкаваць, задзірацца; рабіць што-н. рызыкоўнае.
**ЛЕ́ТА**
◊ НА ЛЕ́ТА. На будучы год.
◊ БА́БІНА (БА́Б'Е) ЛЕ́ТА. Цёплая сонечная пара ранняй восені.
**ЛЁГКІ**
◊ ЛЁГЕНЬКІ НА ЯЗЫ́К. Гаваркі.
◊ ЛЁХКАЯ СМЕРЦЬ. Раптоўная смерць.
**ЛЁД**
◊ ЯК ЛЁДУ. Роўна, не менш і не больш.
**ЛІ́НІЯ**
◊ ГНУЦЬ У АДНУ́ ЛІ́НІЮ. Разам настойліва дабівацца чаго-н.
**ЛІ́ХА**
◊ ЛІ́ХА ЛІХО́Е. Бяда, зло, няшчасце.
◊ НА ЛІ́ХА. На што, на якую патрэбу.
◊ ЛІ́ХА ЯГО́ ВЕ́ДАЕЦЬ. Невядома.

**ЛОБ**
◊ ЛОБ У ЛОБ. 1. Тварам у твар. 2. Аднолькавага росту.
**ЛО́ГАМ**
◊ ЛЯЖА́ЦЬ ЛО́ГАМ. Ляжаць нерухома, не маючы сіл падняцца.
**ЛЫ́НДЫ**
◊ БІЦЬ ЛЫ́НДЫ. Бадзяцца без працы.
**ЛЮДСКІ́**
◊ ЛЮДСКІ́ ПАРА́ДАК. Прыстойнасць, належнасць, чалавечнасць.
**ЛЯ́ПАЦЬ**
◊ ЛЯ́ПАЦЬ ЗУБА́МІ. Дрыжаць ад перапуду, калаціцца.

**МА́ЗАНЫ**
◊ ЯК ПА МА́ЗАНЫХ КАЛЁСАХ. Вельмі лёгка, добра, без перашкод.
**МАЗО́ЛІЦЬ**
◊ МАЗО́ЛІЦЬ ВО́ЧЫ. Дакучаць, назаляць пастаяннай прысутнасцю, наяўнасцю.
**МАЗО́ЛЬ**
◊ БА́ЦЬКІН МАЗО́ЛЬ. Грошы, заробленыя бацькам.
◊ З МАЗАЛЯ́. За грошы, заробленыя цяжкай працай.
**МА́ЛА**
◊ МА́ЛА-МА́ЛЕНЬКА. Вельмі рэдка.
**МАЛА́ДНЯ**
◊ ЯК МАЛАННЁЙ. Хутка.
**МАЛАКО́**
◊ ВЕРАБ'ІНАЕ МАЛАКО́. Дастатак, заможнасць.
**МА́ЛЫ**
◊ МА́ЛА-МА́ЛЫ. Вельмі малы.
**МАРО́З**
◊ МАРО́З ПА СКУ́РЫ. Пра адчуванне холаду ад моцнага хвалявання.
**МА́СЛА**
◊ ідзе́ць ЯК ПА МА́СЛУ. Вельмі лёгка, добра, без перашкод і ўскладненняў.
**МАТА́ЦЬ**
◊ НА УС МАТА́ЦЬ. Цвёрда запамінаць, улічваць на будучае.
**МЕ́РА**
◊ ДА МЕ́РЫ. Дастаткова.
◊ е́хаць ПА МЕ́РЫ. Не спяшаючыся, паціху.
**МЕХ**
◊ МЕХ І ТО́РБУ нагавары́ць. Вельмі многа і абы-чаго.
**МО́ВА**
◊ УНЯ́ЦЬ МО́ВУ. Страціць здольнасць гаварыць.
**МО́КРЫ**
◊ ЯК МО́КРАЕ ГАРЫ́ЦЬ. Вельмі павольна, марудна.
**МУЖ**
◊ МУЖ НАЕ́ЎСЯ ГРУШ. Той, які пакінуў жанчыну.
**МУРЛЫ́ҐА**
◊ У МУРЛЫ́ГУ. Гульня ў гарадкі.
**МУХА**
◊ мруць ЯК МУ́ХІ. У вельмі вялікай колькасці (пра людзей).
◊ ЯК МУ́ХІ НА МЁД. З вялікай ахвотай, неадчэпна.

**НАБРАХА́ЦЬ**
◊ НАБРАХА́ЦЬ НА СВОЙ ХВОСТ. Нагаварыць сабе на бяду.
**НАБРА́ЦЦА**
◊ НАБРА́ЦЦА РО́ЗУМУ. Стаць разумнейшым, паразумнець.
**НАВА́Л**
◊ ПАД НАВА́Л. Навалам, шмат.
**НАВЕ́СІЦЬ**
◊ ХОЦЬ ЗАМО́К НА ЯЗЫ́К НАВЕ́СЬ. Прымусіць сябе маўчаць, не гаварыць.
**НАГА́**
◊ ЯК САБА́КУ ПЯ́ТАЯ НАГА́. Зусім не, ніколькі не (патрэбны каму-н.).
◊ НАГІ́ НЕ ЎКЛА́СЦІ. Пагроза не хадзіць, не паказвацца дзе-н.
◊ спаць БЕЗ ЗА́ДНІХ НОГ. Вельмі моцна, не прачынаючыся.
**НАЕ́СЦІСЯ**
◊ нае́ўся ЯК ДУРНЫ́ ПРАСНАКА́. Празмерна многа (наесціся).
**НАЖЫМА́ЦЬ**
◊ НАЖЫМА́ЦЬ НА ЎСЕ ПУ́ГАВІЦЫ. Загуляць, празмерна захапіцца гулянкай, папойкамі.
**НАЗЯЛІ́ЦЬ**
◊ НАЗЯЛІ́ЦЬ ГАЛАВУ́. Надакучыць, абрыднуць.
**НАЙСЦІ́**
◊ НАЙСЦІ́ НА ГЛАЗА́. Прыйсці ў галаву, надумаць.
**НАКЛАДА́ЦЬ**
◊ НАКЛАДА́ЦЬ НА СЯБЕ́ РУ́КІ. Скончыць жыццё самагубствам.
**НАЛЕ́ВА**
◊ ІЩІ́ ЯГО́ НАЛЕ́ВА. Лаянка.
**НАМАЛЯ́ЦЬ**
◊ НАМАЛЯ́ЦЬ ХО́ЛКУ. Моцна прабраць, строга выгаварыць.
**НАПО́РЫСТЫ**
◊ НАПО́РЫСТЫЯ ВРЫМІНА́. Гарачая пара, пільніца.
**НАСІ́ЦЬ**
◊ НАСІ́ЦЬ ЗАЖЫ́НКІ (ДАЖЫ́НКІ). Дарыць гаспадару поля першы (апошні) сноп.
**НАСТУПІ́ЦЬ**
◊ НАСТУПІ́ЦЬ НА КРОЎ. Закрануць самалюбства, пачуццё годнасці.
◊ НАСТУПІ́ЦЬ НА ВО́ЧЫ. Тое ж.
**НЕЖЫВЫ́**
◊ ЯК НЕЖЫВЫ́. Вельмі марудна, павольна.
**НЕ́КУДЫ**
◊ ДА́ЛІ НЕ́КУДЫ. Лепш не можа быць.
**НЕТ**
◊ НЕТ-НЕТ І. Зрэдку, час ад часу.
**НЕЎМЕ́ТА**
◊ НА НЕЎМЕ́ЦІ. На ўвазе.
**НЕХАЦЯ́**
◊ ХАЦЯ́ НІ ХАЦІ. Незалежна ад жадання.
**НЕ́ШТА**
◊ НЕ́ШТА НЕ́ЙКАЕ. Выключны выпадак.

**НІ**
◊ НІ-АНІ́. Зусім.
**НІТЫ́**
◊ У ВО́СЕМ НІТО́Ў [а таксама: у два, тры і г. д.; колькасць нітоў вагалася ад 2 да 16 і больш]. Спосаб ткання.
◊ У НІТЫ́ (НІТ) КІ́ДАЦЬ (КІДА́ЦЬ). Працягваць ніткі асновы праз ніт.
**НІ́ЦІКІ**
◊ У НІ́ЦІКІ. Спосаб ткання.
**НІЦІ́НА**
◊ У ВО́СЕМ НІЦІ́Н [а таксама: у дзве, тры і г. д.; колькасць *ніцін* вагалася ад 2 да 16 і больш]. Спосаб ткання.
**НО́ГАЦЬ**
◊ КАБ ДЗЕ ШТО НО́ГЦЕМ. Пра сумленнага чалавека.
**НОС**
◊ е́сці АЖ НОС УПЛІТА́ЕЦЦА. З вялікім апетытам, задавальненнем (есці).
◊ АЖ НОС УПРЫСЯ́ТКІ СКА́ЧЫЦЬ. Тое ж.
◊ п'ець АЖ НОС УГІБА́ЕЦЦА. Тое ж.
◊ НІ ТВАЙГО́ НО́СА ПАЛО́СА. Не твая справа, не для цябе.
◊ БЫЦЬ З НО́САМ. Мець чуццё, прадчуваць.
◊ НОС У НОС. Вельмі блізка адзін да аднаго.
**НРАЎ**
◊ ПА НРА́ВУ. Да душы, даспадобы.
**НЯЛЮ́ЦКІ**
◊ СЕМ РАС НЯЛЮ́ЦКІ. Вельмі непрыгожы.

**ПАБРА́ЦЬ**
◊ ПАБРА́ЦЬ КРО́ШКІ. Быць вельмі падобным да некага.
**ПАВЕ́СЦІ**
◊ ПАВЕ́СЦІ МА́СЛІНКУ. Хадзіць на Масленіцу па вуліцы, спяваючы масленічныя песні.
**ПАГЛА́ДЗІЦЬ**
◊ ПАГЛА́ДЗІЦЬ ПА ШЭ́РСЦІ. Пахваліць, ва ўсім дагадзіць каму-н.
**ПАДРЭ́З**
◊ У ПАДРЭ́З. Падрэзаны, па плечы (пра валасы).
**ПАДЫМА́ЦЬ**
◊ ПАДЫМА́ЦЬ РУКУ́. Спрабаваць ударыць, біць каго-н.
**ПАКАЗА́ЦЬ**
◊ ПАКАЗА́ЦЬ ДЗЕ РА́КІ ЗІМУ́ЮЦЬ. Жорстка пакараць, правучыць каго-н. так, каб не захацелася паўтарыць што-н. яшчэ раз.
◊ ПАКАЗА́ЦЬ ПАЧЫ́М ХУНТ ЛІ́ХА. Жорстка пакараць, правучыць каго-н., каб непанадна было.
**ПАКАЦІ́ЦЬ**
◊ ХОЦЬ ШАРО́М ПАКАЦІ́. Нічога няма, зусім пуста.
**ПАЛЯРЫ́Ш**
◊ А ПАЛЯ́РУС ЯГО́ ЗНА́ІЦЬ. Невядома.
**ПАМІНА́ЦЬ**
◊ ПАМІНА́Й ЯК ЗВА́ЛІ. Знік, уцёк, схаваўся дзе-н.

**ПА́МЯЦЬ**
◊ НА <МАЁЙ> ПА́МЯЦІ. Пры жыцці каго-н., хто быў сведкам чаго-н.
**ПАПАЛА́М**
◊ З ГО́РАМ ПАПАЛА́М. З вялікай цяжкасцю, ледзь-ледзь.
**ПАПА́СЦІ**
◊ ШТО ПАПА́ЛА. Рознае, усякае.
**ПАПРАЎЛЯ́ЦЬ**
◊ ГАЛО́ВЫ ПАПРАЎЛЯ́ЦЬ. Пахмяляцца.
**ПА́РА**
◊ БЕС ПА́РЫ. Не ў шлюбе.
**ПАРА́**
◊ НЕ Ў ПАРУ́. Не ў час.
◊ БІЗ ПАРЫ́. Рана, заўчасна.
**ПАРО́Г**
◊ У ПАРО́ЗЕ. Каля дзвярэй, каля ўваходу.
**ПА́РЫЦЬ**
◊ ПА́РЫЦЬ ЗЯМЛЮ́. Ляжаць у магіле.
**ПАСЛЕ́ДНІ**
◊ ПАСЛЕ́ДНІ ПУЦЬ. Пра смерць.
**ПАСПЕ́ХІ**
◊ СКО́РАНЬКІЯ ПАСПЕ́ХІ. Пра нешта хуткае, зробленае наспех.
**ПАСТА́ВІЦЬ**
◊ ДУ́БА ПАСТА́ВІЦЬ. Натапырыць.
**ПАТКЛА́СЦІ**
◊ ПАТКЛА́СЦІ ПІТУХА́. Зламысна падпаліць.
**ПАТЦЯ́ГАЦЬ**
◊ ПАТЦЯ́ГАІЦЬ ЖЫ́ЛЫ. Хацець есці.
**ПАЎДЭ́СІКІ**
◊ У ПАЎДЭ́СІКІ. Спосаб ткання ў чатыры ніты.
**ПАЦЕ́РАНЫ**
◊ ПАЦЕ́РАНЫ УМУ́. Пра псіхічна хворага.
**ПЕ́НА**
◊ ПАД ПЕ́НАЙ. Перагрэты конь.
**ПЕНЬ**
◊ ЗА ПНЁМ ГАЛАВА́, ЗА КАЛО́ДАЙ НО́ГІ. Пра гультая.
**ПЕРСТ**
◊ ПЯРСТО́М ЖЫЦЬ. Быць адзінокім, жыць аднаму.
**ПЕШАХО́ДАМ**
◊ ХАДЗІ́ЦЬ ПЕШАХО́ДАМ. Хадзіць адкрыта, не хаваючыся.
**ПІЦЬ**
◊ ПІ, ХОЦЬ ГАЛАВУ́ ПАМЫ́Й. Пра што-н. у вялікай колькасці.
**ПЛЮ́НУЦЬ**
◊ І СПАСІ́БА НЕ СКАЗА́Ў, І НА РУКУ́ НЕ ПЛЮ́НУЎ. Пра няпэўныя, нявызначаныя паводзіны каго-н.
**ПЛЮ́СКІ**
◊ У ПЛЮ́СКІ. Моцна заціснуць.

**ПЛЯЧÓ**
◊ НА СВАÍХ ПЛЯЧÁХ. Самастойна, без дапамогі.
◊ ПЛЯЧÓ Ў ПЛЯЧÓ. Дружна, адзін за адным.
◊ ПАЦÍСНУЦЬ ПЛІЧÁМІ. Пра няпэўную рэакцыю на што-н.
**ПÓМАЧ**
◊ БОГ У ПÓМАЧ! Пажаданне, каб была паспяховай праца.
**ПРАБÓЙ**
◊ ПАЦУЛУВÁЎШЫ Ў ПРАБÓЙ. Не застаць нікога дома, пастаяць перад замкнёнымі дзвярыма.
**ПРАВАЖÁЦЬ**
◊ ПРАВАЖÁЦЬ УМÉЦЬ. Рабаваць, разбойнічаць, красці.
**ПРАВАЛÍЦЦА**
◊ ПРАВАЛÍСЯ ЯНÓ СКРОЗЬ ЗЯМЛÍ! Згінуць (у праклёнах).
**ПРАВЫ́**
◊ НЕ Ў ПРАВÁХ. Быць не правым, памыляцца.
**ПРАÉСЦІ**
◊ ЗЎБЫ ПРАÉЎ. Мае, набыў вялікі вопыт, навыкі ў чым-н.; майстар на што-н.
**ПРАЖЫЦЦЁ**
◊ НА ПРАЖЫЦЦЁ. Столькі, каб толькі пражыць.
**ПРÁНЦЫ**
◊ А ПРÁНЦЫ ЦЯБÉ ВÉДАЮЦЬ. Выказванне абурэння, злосці, гневу.
**ПРАХАДНЫ́**
◊ НІ ВЫХАДНÓГА НІ ПРАХАДНÓГА. Пра адсутнасць выхадных дзён.
**ПРАЦЯГНЎТЫ**
◊ З ПРАЦЯГНЎТАЙ РУКÓЙ. Просячы міласціну.
**ПРАЧЎХА**
◊ БІС ПРАЧЎХІ. Без перапынку, не перастаючы.
**ПРÓЧКІ**
◊ ПРЫÉХАЦЬ У ПРÓЧКІ. Пакінуць на некаторы час сям'ю з-за нязгоды, разладу.
**ПРЫ́ДАМ**
◊ СÉСЦІ ПРЫ́ДАМ. Зацвярдзець.
**ПРЫКУСÍЦЬ**
◊ ПРЫКУСÍЦЬ ЯЗЫ́К. Раптоўна замаўчаць, устрымацца ад размовы.
**ПРЫЛÉПЛЕНЫ**
◊ ЯК ПРЫЛÉПЛЕНЫ. Дакладна па памеры.
**ПРЫМÁК**
◊ ПА ПРЫМÁКАХ пайсці. Жыць у прымаках.
**ПРЫМÉТА**
◊ НІ Ў ПРЫМÉЦІ. Не ведаць.
**ПРЫ́МУШ**
◊ БРАЦЬ (УЗЯ́ЦЬ) ПРЫ́МУША. Прыняць прымака.
◊ У ПРЫ́МУШЫ (ПРЫ́МШЫ) прысці, пайсці, зайсці, ісці. Стаць прымаком.
◊ У ПРЫ́МУШАХ БЫЦЬ. Жыць у прымаках.
**ПРЫ́МЫ**
◊ У ПРЫ́МЫ прысці, зайсці. Жыць у прымаках.
**ПРЫ́МЫЧ**
◊ У ПРЫ́МЫЧ зайсці. Стаць прымаком.

**ПРЫПА́ДКІ**
◊ КАБ (ХАЙ) ЦЯБЕ́ (ВАС, ІХ, ЯГО́, ЯЕ́) ПРЫПА́ДАК (ПРЫПА́ДКІ (ПРЫПА́ТКІ)). Выказванне абурэння, злосці, гневу.
◊ ПРЫПА́ТКІ ІХ ВЕ́ДАЮЦЬ. Невядома.
**ПРЫПЕ́ШЫЦЬ**
◊ ПРЫПЕ́ШЫЦЬ ДА БУХА́. Давесці да вынішчэння, да адчаю.
**ПРЫ́СТУП**
◊ НІ ПРЫ́СТУПУ. Нежаданне наблізіцца, падысці.
**ПРЭ́ТКІ**
◊ С ПРЭ́ТКАЎ. Спрадвеку.
**ПУ́ЗА**
◊ АД ПУ́ЗА е́сці. Уволю, удосталь.
**ПУП**
◊ ГРЫ́ЗЦІ ПУП. Бурчаць, бубнець.
**ПУСЦІ́ЦЬ**
◊ ПУСЦІ́ЦЬ НА СВЕТ. Нарадзіць, даць жыццё каму-н.
◊ ПУСЦІ́ ПАВАЛЮ́СЯ. Вельмі дрэнны.
**ПШАНІЦА**
◊ спаць ЯК ПШАНІ́ЦУ ПРАДА́ЎШЫ. Вельмі моцна, не прачынаючыся.
**П'Я́НЫ**
◊ П'Я́НЫ Ў ГРАЗЬ. Празмерна п'яны.
◊ прыста́ў ЯК П'Я́НЫ К ПЛО́ТУ. Пра надакучлівага, назойлівага чалавека.
**ПЯРУ́Н**
◊ ПЯРУ́Н ЯГО́ (ЦЯБЕ́) ЗНА́ІЦЬ. Невядома.

**РАБІ́НАВЫ**
◊ РАБІ́НАВАЯ НОЧ. Летняя ноч з громам, маланкай, дажджом.
**РАБО́ТА**
◊ СВАЁЙ РАБО́ТЫ. Самаробны, зроблены сваімі рукамі.
**РА́ДА**
◊ ДАЦЬ РА́ДЫ. Дапамагчы.
◊ НІМА́ РА́ДЫ. Пра бязвыхаднае, роспачнае становішча.
◊ НАЙСЦІ́ (НАХО́ДЗІЦЬ) РА́ДЫ. Атрымаць (атрымліваць) дапамогу.
**РАЖО́Н**
◊ РАЖО́Н ТАБЕ́ Ў БОК. Пажаданне нядобрага (пры лаянцы).
◊ РАЖНА́ НІ ХВАТА́ЦЬ. Чаго (трэба, не хапае каму-н.).
◊ РАЖО́Н ЯГО́ ЗНА́ІЦЬ. Пра поўнае няведанне ці неразуменне чаго-н.
**РАЗ**
◊ НІ РА́ЗУ. Ніколі, ні пры якіх умовах.
◊ НІ РА́ЗАЧКУ. Зусім ніколі.
**РАЗАРВА́ЦЬ**
◊ КАБ ЦЯБЕ́ РАЗАРВА́ЛА, РАЗДУЛО́. Ужываецца пры лаянцы як пажаданне непрыемнасці, няшчасця каму-н.
**РАЗІ́НУЦЬ**
◊ РОТ НІ РАЗІ́НУЦЬ. Маўчаць, хаваючы тайну.
**РАЗЛІ́ЦЦА**
◊ ВАДО́Й РАЗЛІ́ЦЦА. Знікнуць, прапасці.

**РАСПУСЦІЦЬ**
◊ РАСПУСЦІЦЬ НЮНІ. Расплакацца, разжаліцца.
**РАССЫПАЦЦА**
◊ РАССЫПАЦЦА ДРАБНЕЙ МАКУ. Лісліва дагаджаць каму-н., паддобрывацца да каго-н.
**РАСЦІ**
◊ РАСЦІ Ў РОЦЕ. Пра адсутнасць апетыту.
**РАТАВАЦЬ**
◊ РАТУЙ МАЮ ГАЛАВУ. Выказванне моцнага здзіўлення.
**РАЎЦІ**
◊ РОВАМ РАЎСЦІ (РАЎЦІ). Вельмі моцна раўці, плакаць.
◊ НЕМА РАЎСЦІ (РАЎЦІ). Тое ж.
**РАШЧЫНЯЦЬ**
◊ РАШЧЫНЯЦЬ КАШУ. Разблытваць якую-н. складаную, клопатную ці непрыемную справу.
**РАШШЫБІЦЦА**
◊ ХОЦЬ РАШШЫБІСЯ. Нягледзячы ні на якія стаpанні, намаганні; што ні рабі (не атрымліваецца што-н.).
**РВАЦЬ**
◊ НА ХАДУ ПАДМЁТКІ РВЕЦЬ. Вельмі знаходлівы, спрытны, лоўкі ў сваіх справах, учынках і пад.
**РОД**
◊ АТ РОДУ. Ад нараджэння.
◊ НА РАДУ. Тое ж.
◊ НІ РОДУ НІ ПЛОДУ. Нічога; нікога з родных, сваякоў (няма, не засталося).
**РОЗУМ**
◊ НА <ЦЯПЕРАШНІ> РОЗУМ. Разважаючы цвяроза, разумна.
**РУБЕЦ**
◊ БАЛЕЦЬ РУБЦОМ. Пра вельмі моцны галаўны боль.
**РУБІНАЧКА**
◊ ДА РУБІНАЧКІ. Цалкам, поўнасцю.
**РУГНЯ**
◊ РУГНЯ ДА ПАРОГА. Пра крыўду ці сварку, якая хутка праходзіць, забываецца.
**РУКА**
◊ ПАЙСЦІ З РУКІ. Прадаць.
◊ РУКІ АПУСЦЯ. Няўважліва, без належнай стараннасці.
◊ ЗАЛАТЫЯ РУКІ. Пра вельмі ўмелага і здольнага ў сваёй справе чалавека.
◊ ЛЁХКАЯ РУКА. Пра таго, хто прыносіць шчасце, поспех, удачу.
◊ НА РУКІ. Здольны на многае, здатны да ўсяго.
◊ РУКА РУКУ МЫЕЦЬ. Аб адносінах людзей, калі яны пакрываюць дрэнныя ўчынкі адзін аднаго.
**РЫБА**
◊ НІ РЫБА НІ МЯСА. Пасрэдны чалавек, які нічым не вызначаецца.
**РЭДЗЬКА**
◊ ЯК ГОРКАЯ РЭДЗЬКА. Вельмі моцна, нязносна (надакучыць, абрыдзець і пад.).

**РЭ́ДКАСЦЬ**
◊ НА РЭ́ДКАСЦЬ. Выключна, на дзіва.
◊ У РЭ́ТКАСЦІ. Надзвычай рэдка.
**РЭ́ЗАНЫ**
◊ крыча́ць ЯК РЭ́ЗАНЫ. Вельмі моцна, гучна, нястрымна.
**РЭ́ЗАЦЬ**
◊ РЭШ КАСО́Й. Вельмі многа, у вялікай колькасці (пра грыбы).
**РЭ́ШАТА**
◊ ЯК У РЭ́ШАЦЕ. Вельмі моцным струменем, суцэльным патокам.

**САБА́КА**
◊ ЯК САБА́КУ ПЯ́ТАЯ НАГА́. Зусім не, ніколькі не (патрэбны каму-н.).
**САБА́ЧЧЫ**
◊ САБА́ЧЧАЯ ДО́ЛЯ. Пра незаможнае, несамавітае жыццё.
◊ САБА́ЧЧАЯ СМЕРЦЬ. Смерць без пахавання.
**САМ**
◊ САМ (САМА́) ПРАЗ СЯБЕ́. Самастойна, без нікога.
◊ СА́МІ АТ СЯБЕ́. Самастойна, без дапамогі ад каго-н.
**САМА́**
◊ САМА́ ПА САБЕ́. Адвольна, незалежна ні ад каго.
**САШЧАПІ́ЦЬ**
◊ САШЧАПІ́ЦЬ РУ́КІ. Памерці.
**СВЕТ**
◊ СВЕ́ТУ НЕ ВІ́ДЗЕЦЬ. Быць вельмі занятым.
◊ ПУСЦІ́ЦЬ НА СВЕТ. Нарадзіць.
◊ ТОЙ СВЕТ. Замагільны свет.
**СВЕТ**
◊ У СВЕ́ЦЕ. Далёка.
◊ ЗА СВЕТ. Тое ж.
◊ СВЕТ КАЛІ́. Вельмі даўно.
**СВЕ́ЧКА**
◊ НІ БО́ГУ СВЕ́ЧКА НІ ЧО́РТУ КАЧАРГА́. Пра пасрэднага чалавека, які не вызначаецца здольнасцямі да чаго-н.
**СЕ́НА**
◊ САБА́КАМ СЕ́НА КАСІ́ЦЬ. Бадзяцца дзе-н., займаючыся пустой справай.
**СІ́ЛА**
◊ НЯ Ў СІ́ЛУ. Зусім немагчыма, вельмі цяжка (зрабіць што-н).
**СІСЯ́**
◊ СІСЮ́ І ТУ́Ю НІ ЎСЮ́ зна́еш. Нічога, зусім нічога не ведаць.
**СКАЗА́ЦЬ**
◊ НЯЎРО́КАМ СКАЗА́ЦЬ. Каб не сурочыць.
**СКАКА́ЦЬ**
◊ ДУГО́Й СКАКА́ЦЬ. Сапсавацца (завяліся чэрві).
**СКА́ЛІЦЬ**
◊ ЗУ́БЫ СКА́ЛІЦЬ. Смяяцца, рагатаць.

**СКАЧО́К**
◊ СКАЧКО́М ТАБЕ́. Пажаданне ўдачы, поспехаў.
◊ СКАЧКО́М БЛІНЫ́! Пажаданне таму, хто пячэ бліны.
**СКО́ЛЬКІ**
◊ СКО́ЛЬКІ ЗАЎГО́ДНА. Колькі хочаш.
**СКРУЦІ́ЦЦА**
◊ ГАЛАВА́ СКРУЦІ́ЛАСЯ. Пра аслабелую памяць.
**СКРЫВІ́ЦЬ**
◊ СКРЫВІ́ЦЬ ДУ́ШУ. Пасквапнічаць.
**СКУ́ЛЛЯ**
◊ СКУ́ЛЛЯ ЧАПА́ЦЬ. Займацца непатрэбшчынай, лайдачыць.
**СЛАТА́**
◊ ЛЕ́ЗЦІ СЛАТО́Ю Ў ВО́ЧЫ. Лезці назойліва, нахабна.
**СЛАЦЬ**
◊ МЯ́ККА СЦЕ́ЛІЦЬ <МУ́ЛКА СПАЦЬ>. Знешне ветлівы, далікатны, а спадцішка робіць ці можа зрабіць шкоду.
**СЛІ́НКІ**
◊ СЛІ́НКІ ЦЯКУ́ЦЬ. Пра моцнае жаданне з'есці, выпіць што-н. смачнае.
**СЛУХ**
◊ НІ СЛУ́ХУ НІ ДУ́ХУ. Ніякіх вестак (няма пра каго-н.).
**СМА́ГА**
◊ СМА́ГУ ПРАГНА́ЦЬ. Напіцца вады.
**СМАЛА́**
◊ прыліпнуць ЯК СМАЛА́. Неадчэпна, дакучліва.
**СМЕХ**
◊ КУРА́М НА СМЕ́Х. Пра што-н. вельмі недарэчнае.
**СМЕ́ШКІ**
◊ СМЕ́ШКІ СТРО́ІЦЬ. Насміхацца, смяяцца з каго-н.
**СМЫЛЬ**
◊ ХОЦЬ СМЫЛЬ СМАЛІ́. Пра нішчымніцу, галечу.
**СМЯРКА́НАК**
◊ З РА́НКУ ДА СМІРКА́НКУ. Цэлы дзень.
**СМЯРКА́ННЕ**
◊ АД РА́ННЯ ДА СМЯРКА́ННЯ. Цэлы дзень.
**СО́НЦА**
◊ З СО́НЦА ДА СО́НЦА. Цэлы дзень.
**СПАРНЯ́**
◊ СПАРНЯ́ Ў ДЗЯЖУ́. Пажаданне, каб было спорным замешванне хлеба.
**СПАС**
◊ НІМА́ СПА́СУ. Не пазбавіцца, не ўратавацца ад чаго-н.
**СПАСЕ́ННЕ**
◊ НІМА́ СПАСЕ́ННЯ. Не пазбавіцца, не ўратавацца ад чаго-н.
**СПЕ́ШНЯ**
◊ СПЕ́ШНЯ ТКА́ЛЛІ! Пажаданне поспеху, удачы ткаллі.
**СПІНА́**
◊ НА СПІНЕ́. Пад апекай каго-н.

**СПОД**

◊ ПАД ІСПО́Д. Знізу.

◊ ПАДА СПО́ДА. Тое ж.

**СПОР**

◊ СПОР (СПО́РА) <ТАБЕ́> Ў ДЗЯЖУ́! Пажаданне, каб было спорным замешванне хлеба.

◊ СПО́РА Ў АСНО́ВУ! Пажаданне, каб было добрым тканнё.

**СПРАСТА́**

◊ СПРАСТА́ ЯК З МАСТА́. Адразу ж, раптоўна, зусім не падумаўшы (рабіць).

**СПУСКА́ЦЬ**

◊ З ЯЗЫКА́ НЕ СПУСКА́ЦЬ. Увесь час гаварыць пра каго-, што-н.

**СПУСЦЯ́**

◊ СПУСЦЯ́ РУКУВА́. Без належнай стараннасці, абы-як (рабіць што-н.).

**СТАЦЬ**

◊ СТАЦЬ НА НО́ГІ. Зрабіцца самастойным.

**СТАЧЫ́ЦЬ**

◊ СТАЧЫ́ЦЬ КАНЦЫ́ З КАНЦА́МІ. З цяжкасцю задаволіць жыццёвыя патрэбы, ледзь укласціся ў суму даходу, заработку.

**СТАЯ́ЦЬ**

◊ СТАЯ́ЦЬ НА СЛО́ВЕ. Настойліва адстойваць свой погляд.

**СТРО́ІЦЬ**

◊ СТРО́ІЦЬ КЕ́ПІКІ. Насміхацца з каго-, чаго-н.

**СТРЫ́ГЧЫ**

◊ СТРЫ́ГЧЫ ВУША́МІ (ВУШМІ́). Прыслухоўвацца.

**СТУК**

◊ НІ СТУК НІ ГРУК. Нечакана, без папярэджання.

**СТУПНУ́ЦЬ**

◊ НАГО́Й НЕ СТУПНУ́ЛА. Ніколі не была.

**СХАДЗІ́ЦЬ**

◊ СХАДЗІ́ЦЬ С УМА́. Дурнець, рабіць дзіўныя, не зразумелыя для іншых учынкі.

**СЯДЗЕ́ЦЬ**

◊ СЕ́ДЗЬМА СЯДЗЕ́ЦЬ. Нічым не займацца.

**СЯ́ЛО**

◊ НА СЯЛО́. На вуліцу, да людзей.

**ТАКТ**

◊ У ТАКТ. Разам, у адным рытме.

**ТАЎЧЫ́**

◊ МАК ТАЎЧЫ́ (ТАЎКЦІ́). Мітусіцца ў паветры плоймай, клубком.

**ТАЧЫ́ЦЬ**

◊ БАРБУ́ ТАЧЫ́ЦЬ. Сварыцца.

**ТОЙ**

◊ С ТАГО́. Пасля таго.

◊ ТА́Я ВАЙНА́. Першая сусветная вайна.

**ТРА́ПІЦЦА**

◊ ТРА́ПІЦЦА НА ВО́КА. Нечакана ўбачыць, з'явіцца ў полі зроку.

**ТРА́СЦА**
◊ УСЯ́КАЯ ТРА́СЦА. Самае рознае, усё, што заўгодна.
◊ КАБ ТАБЕ́ ТРА́СЦА ТРАСЛА́! Лаянкавы выраз, якім выказваецца абурэнне (у праклёне).
**ТРО́НУЦЬ**
◊ ПА́ЛЬЦАМ НЕ ТРО́НУЦЬ. Не прычыніць ніякай шкоды каму-н., не біць.
**ТРЭ́ЦІ**
◊ У ТРЭ́ЦІХ. Траюрадны (брат, сястра).
**ТУЗ**
◊ жыць ЯК ЗА ВІНО́ВЫМ ТУ́ЗАМ. Бесклапотна.

**УБІ́ЦЬ**
◊ ХОШ УБЕ́Й. Выказванне немагчымасці што-н. зрабіць.
**УДЗЕ́РЖЫЦЬ**
◊ УДЗЕ́РЖЫЦЬ У ГАЛАВЕ́. Пастаянна думаць, помніць пра каго-, што-н.
**УЗЁЛ**
◊ САБА́ЧЫ УЗЁЛ. Від вузла.
**УЗЯ́ЦЦА**
◊ УЗЯ́ЦЦА ЗА УМ. Спахапіцца, паразумнець.
**УЗЯ́ЦЬ**
◊ УЗЯ́ЦЬ ЗА РАБРО́. Прымусіць прызнацца пры дапамозе фізічнага ўздзеяння ці пагрозы.
◊ УЗЯ́ЦЬ НА ВУ́ДАЧКУ. Прымусіць зрабіць што-н., падмануўшы, схітраваўшы.
**УКЛА́СЦІ**
◊ МАЗГІ́ ЎКЛА́СЦІ. Навучыць; наставіць на жыццёвы шлях.
**УКО́ПАНЫ**
◊ стаяць ЯК УКО́ПАНЫ. Нерухома, перастаўшы рухацца, замёршы на месцы (стаяць).
**УЛАВІ́ЦЬ**
◊ У СТУ́ПЕ ТАЎКАЧО́М НЕ ЎЛО́ВІШ. Пра вельмі спрытнага, актыўнага чалавека.
**УЛІ́ТЫ**
◊ ЯК УЛІ́ТА. Дакладна па памеры.
**УМЫВА́ЦЦА**
◊ УМЫВА́ЦЦА СЛЯЗА́МІ. Шмат плакаць.
**УНЯ́ЦЬ**
◊ УНЯ́ЦЬ МО́ВУ. Страціць здольнасць гаварыць.
**УПА́ДАК**
◊ УПА́ДАК СІЛ. Слабасць, стомленасць.
**УПРО́СТА**
◊ ТКАЦЬ УПРО́СТА. Спосаб ткання ў два ніты.
**УСТУПІ́ЦЬ**
◊ УСТУПІ́ЦЬ НА ЯЗЫ́К. Стаць прадметам размовы, абмеркавання.

**ФАНА́Р**
◊ НІ ДАСТА́ЦЬ З ФАНАРА́МІ. Цяжка знайсці.

**ХАДЗІ́ЦЬ**

◊ ХАДЗІ́ЦЬ ХУДУРО́М (ХАДУНЁМ). 1. Моцна хістацца, калыхацца. 2. Прыходзіць у рух, бурна праяўляцца.

**ХАЛЕ́РА**

◊ ХАЛЕ́РА ЯГО́ (ІХ) ЗНА́ІЦЬ (ВЕ́ДАІЦЬ). Невядома.

◊ ХАЛЕ́РА <ЯГО́> НЕ ХВАЦІ́ЛА. Абсалютна нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н.

◊ НА ХАЛЕ́РУ. Навошта, для чаго.

◊ ДА ХАЛЕ́РЫ. Вельмі многа.

**ХА́ТА**

◊ НА ХА́ЦЕ. На гарышчы.

◊ НА ХА́ТУ. На гарышча.

**ХАЦЕ́ЦЬ**

◊ КНУРО́Ў ХАЦЕ́ЦЬ. Знаходзіцца ў стане палавой актыўнасці.

◊ ЯК НІ ХАЦІ́. Нягледзячы ні на што, пры любых абставінах.

**ХВАРО́БА**

◊ ХВАРО́БА ЯГО́ (ЯЕ́, ІХ) ЗНА́ІЦЬ. Невядома.

◊ НІ ХВАРО́БЫ. Зусім нічога (не будзе).

**ХВОСТ**

◊ У ХВОСТ хадзіць. Ззаду ўсіх.

◊ ЯК ХВОСТ ПРЫВЯ́ЗАНЫ. Пра залежнасць ад каго-н., немагчымасць самастойных учынкаў.

**ХЛЕБ**

◊ ХЛЕБ-СОЛЬ. Пажаданне таму, хто есць.

**ХОД**

◊ НА ХАДУ́. Адразу ж, тут жа.

◊ С ХО́ДУ. Тое ж.

◊ СВАІ́М ХО́ДАМ. Пехатой.

◊ У ХАДУ́. У шырокім ужыванні, карыстанні, вельмі распаўсюджаны.

**ЦАНА́**

◊ ЦАНЫ́ НІМА́. Вельмі дарагі, неацэнны па сваіх якасцях, вартасцях.

◊ НОЛЬ ЦАНА́. Не зважаць, не звяртаць увагі.

**ЦАПКІ́**

◊ ляжа́ць ЯК ЦАПО́К. Ціха, нерухома (ляжаць).

**ЦЕ́ЛА**

◊ НАБІРА́ЦЬ ЦЕ́ЛА. Паўнець, таўсцець.

**ЦЕЦЯРУ́К**

◊ ЦІЦЯРУ́К (ЦЕЦЯРО́К) ГЛУХІ́. Чалавек, які кепска чуе.

**ЦЁМНА**

◊ З ЦІМНА́ ДА ЦІМНА́. Увесь дзень, з раніцы да вечара (рабіць што-н.).

◊ АД (С) ЦЁМНА <І> ДА ЦЁМНА (ЦЁМНАГА). Тое ж.

**ЦЁМНЫ**

◊ ДА ЦЁМНАГА. Да самага вечара, дапазна.

**ЦІГА́ЦЬ**

◊ ЦІГА́ЦЬ КАЛО́ТКУ. Праводзіць абрадавыя дзеянні ў дзень прысвятка Аўласа.

**ЦУПЎРАЧКІ**
◊ НА ЦУПЎРАЧКАХ. Сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках.
**ЦЭП**
◊ ляжáць ЯК ЦАПЫ́. Нерухома (ляжаць).
**ЦЯЦЁРА**
◊ ГЛУХА́Я ЦЯЦЕ́РА. Чалавек, які кепска чуе.

**ЧАС**
◊ У ДО́БРЫ ЧАС. Пажаданне поспеху каму-н.
**ЧАСА́ЦЦА**
◊ ЯЗЫ́К ЧЭ́ШАЦЦА. Пляткарыць, балбатаць.
**ЧАТЫ́РЫ**
◊ НА ЧАТЫРО́Х по́ўзаць. Адначасова на абедзвюх руках і нагах.
**ЧВАНЬ**
◊ ЧВАНЬ НЕ́СЦІ. Фанабэрыцца, задавацца.
**ЧОРТ**
◊ ДА ЧО́РТА. Вельмі многа.
◊ К ЧАРЦЯ́М ісці́. Прэч, вон.
◊ НА ЧО́РТА. Навошта, для чаго.
◊ ЧОРТ ГАНЯ́Е. Пра нечыя неапраўданыя паводзіны.
◊ І ЧОРТ НІ ХАПІ́Ў. Нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н.
◊ ЧОРТ ЯГО́ ДУШУ́ ЗНА́ІЦЬ! Невядома.
◊ ЧОРТ ВЕ́ДАІЦЬ (ЗНА́ІЦЬ). Выказванне абурэння, гневу, збянтэжанасці з-за чаго-н.
◊ ЧОРТ ПАВЁЎ. Хто-н. паддаўся спакусе.
◊ ЧОРТ БО́СЫ НЯ ПРО́ЙДЗІЦЬ (НІ ПРАЙДЗЁЦЬ). Пра вельмі глухое, зараслае месца.
◊ НІЯ́КІ ЧОРТ не бярэ́ць. Зусім ніхто.
◊ ЧОРТ ШТО. Нешта недарэчнае, незразумелае, што выклікае злосць, раздражненне.
◊ ЧЭ́РЦІ ГАРЭ́ЛЫЯ. Лаянкавы зварот; нягоднікі.
◊ ЧОРТ ПАЦЯГНУ́Ў ЗА ЯЗЫ́К. Знянацку і недарэчы захацелася каму-н. сказаць што-н.
◊ ЧО́РТА ПАРО́ЦЬ (ТВАРЫ́ЦЬ). Займацца абы-чым, вычвараць.
◊ ЧОРТ НО́СІЦЬ. Хто-н. недарэчы, не ў пару ходзіць, бадзяецца дзе-н.
◊ панёс ЯК ЧОРТ МА́ТКУ Ў ПЕ́КЛА. Вельмі хутка памчаўся.
◊ пабіць ЗА ЧО́РТА ЛЫ́САГА. Дарэмна, невядома за што загубіць.
◊ ЧОРТ РАБО́ТУ ДАСЦЬ. Пра сітуацыю, калі чалавек будзе займацца марнай справай.
◊ ЧЭ́РЦІ ВО́ДЗЯЦЬ. Пра стан, выкліканы ўздзеяннем нячыстай сілы.
◊ ЧЭ́РЦІ МАЛЮ́ЮЦЬ. Пра нячыстую сілу, якая пільнуе п'яніцу.
**ЧУЦЬ**
◊ ЧУЦЬ НА СВАЕ́ ВУ́ШЫ. Пра дакладнасць звестак.
**ЧУЦЬ**
◊ ЧУЦЬ НЯ ЧУЦЬ. Ледзь-ледзь.
**ЧЫН**
◊ АДНЫ́М ЧЫ́НАМ. Разам, заадно.
**ЧЫСЛАВЫ́**
◊ ЧЫСЛАВО́Е СВЯ́ТА. Пра пастаянную дату свята.

**ЧЫСЛО́**
◊ У <АДНО́ (ВАДНО́)> ЧЫСЛО́ хадзíць (выхóдзіць). Пра пастаянную дату свята.
◊ БІС ЧЫСЛА́. Вельмі многа, без меры.
**ЧЫСЛО́М**
◊ хадзіць <АДНЫ́М> ЧЫСЛО́М. Пра пастаянную дату свята.
**ЧЫ́СТА**
◊ УСЁ (УСЕ́, УСЯ́) ЧЫ́СТА (ЧЫ́СЦЕНЬКА). Поўнасцю, цалкам, без выключэння.
**ЧЫ́СТЫ**
◊ ПАД ЧЫСТО́Е браць. Цалкам, поўнасцю, не пакідаючы нічога.
**ЧЭСЦЬ**
◊ НІ Ў ЧЭСЦЬ НІ Ў ЛА́СКУ. Усё не так, не дагадзіць.

**ШКУ́РА**
◊ ШКУ́РУ ДЗЕ́РЦІ. Браць высокую цану за што-н., абіраць каго-н.
**ШТАНЫ́**
◊ ШТАНЫ́ КАРО́ТКІЯ. Пра таго, хто не дарос для выканання якой-н. справы.
**ШУ́БАЙ**
◊ ЗДЗЕ́ЛАЦЦА ШУ́БАЙ. Успучыцца.
**ШУМ**
◊ ЛЕ́ЗЦІ ШУ́МАМ. Выпадаць у вялікай колькасці.
**ШУМО́Н**
◊ НАВО́ДЗІЦЬ ШУМО́Н. Прыводзіць усё ў поўны парадак.
**ШЧАРБЁТАЧКА**
◊ У ШЧАРБЁТАЧКУ. Роўна столькі, каб хапіла, без лішку.
**ШЫ́ТА**
◊ ШЫ́ТА-КРЫ́ТА. Скрытна, патаемна ад іншых, у поўнай тайне.

**Я́БЛЫКА**
◊ У Я́БЛЫКІ (Я́БЛЫЧКІ). З цёмнымі круглымі плямамі на поўсці (масць каня).
**ЯЗЫ́К**
◊ НА ЯЗЫ́К. Пад язык, без музычнага суправаджэння.

## ІНДЭКС ВЫСЛОЎЯЎ

**АДЗІН**
□ *Адно́ ле́чыць, а друго́я кале́чыць.*
**АКРА́ЕЦ**
□ *На́да з'е́сці акра́йчык, бу́дзе сын Мікала́йчык.*
**АТПЯВА́ЦЬ**
□ *Як пяю́ць, так і атпява́юць.*
**АТРО́СТАК**
□ *Які́ пень, такі́ і атро́стак.*
**АЎЦА́**
□ *Маладзе́ц срадзі аве́ц, а срадзі малайца́ – і сам аўца́.*
**АШЫ́ПКА**
□ *Ашы́пка хо́дзіць шы́пка.*

**БА́БА**
□ *Што бало́та, то съка́, а што ба́ба, то с… .*
□ *А ты, ба́ба, таўчы́ і маўчы́.*
**БАГА́Ч**
□ *Прыйшо́ў Бага́ч – бяры́ рага́ч, бяры́ се́йку – сей пamaле́ньку.*
**БАРЫ́С**
□ *Прыйшо́ў Бары́с – за сяўбу́ бяры́сь.*
□ *Святы́ Бары́с – за сяўбу́ бяры́сь.*
**БАРЫ́С І ГЛЕБ**
□ *Бары́с і Глеб се́юць хлеп.*
**БА́ЦЬКА**
□ *Як ма́тка памрэ́ць, так ба́цька асле́пніць.*
□ *Які́ сук, такі́ клін, які́ ба́цька, такі́ сын.*
**БЕ́РКА**
□ *Бе́рка есць – хле́ба нет, хлеб ёсь – бе́ркі няма́.*
**БЛІН**
□ *Пе́рвы блін ко́мам.*
**БОГ**
□ *Як яка́я трыво́га, тады́ – да Бо́га.*
□ *Дзіцёнък упадзе́ць – Бох паду́шку падсціла́іць, а стары́ па́даіць – бърану́ паткіда́іць.*
□ *Нъ каго́ Бох, нъ таго́ й лю́дзі.*
□ *Хто ра́на ўстае́, таму Бох дае́.*
□ *Ні гані́ Бо́га с ха́ты, калі́ ён уле́с у ха́ту.*
□ *Што Бог су́дзіць, то́е і бу́дзіць.*
□ *Не вінава́т Бох, а хто плох.*
□ *На Бо́га надзе́йся, а сам ні плаша́й.*

□ *Гóрдага (гънарыстъга) Бог із нéба ськідваіць.*
□ *На табé, бóжа, калі мне нягóжа.*
□ *І Бóгу грэшна і людзя́м смéшна.*
□ *Бы́стры сам нъбяжы́іць, а на ціхъга Бох нанісéць.*
□ *Бог сірóт лю́біць, алé дóлі ні даé.*
□ *Барóнь бох свінні рóгі – не састýпіць дарóгі.*
□ *Даў бох шча́сця, ды ня ўмéйеш шунувáць.*
□ *Дай бох усё умéць, а ня ўсё дзéлъць.*
**БРАТ**
□ *Брат лю́біць сястрý багáтаю, а мужы́к – жóнку здарóваю.*
**БРЎХА**
□ *Слýхай вýхам, а не брýхам.*
**БРЫ́ТВА**
□ *Як тóпішся, дык (то) і за брытву ўхóпішся (хóпісся).*
**БЯДА́**
□ *Бядý на кані не аб'éдзеш, вадóй не пераплывéш.*
□ *Бідý вадóй не пераплывéш.*
□ *Дзе вадá, там і бідá.*
□ *Аднá бідá ні хóдзіць.*
□ *І бідá ідзé і другýю вядзé.*
□ *Нъ бядý паспéіш і нъ валý.*
□ *Аднá бідá – ні бідá.*
□ *Ні хавáйся ад біды́, бідá съмá нáйдзіць.*
□ *Бідá пъ лясý ні хóдзіць, а па людзя́х хóдзіць.*
□ *Ні смéйся чужóй бядзé, свъя́ нъ градзé!*
□ *Хто бядý пірабýдзіць, събáкъм бýдзіць.*
□ *Німá гóршай бяды́, як ні хлéба, ні лібяды́.*

**ВАДА́**
□ *Абажглáся на малацэ́, бýдзіш студзíць і на вадý.*
□ *Бялó ні бялó, абы́ ў вадзé пабылó.*
□ *Пъд ліжа́чый кáмінь і въдá ні патхóдзіць.*
**ВАЛАСА́ТЫ**
□ *Валасáты да валасáтага, насáты да насáтага.*
**ВАРВА́РЫ**
□ *Въррвáры пълавíна начы́ атырвáлі.*
□ *Прышлі Варвáры, палавíна (кусóк) нóчы (начы́) ўварвáлі.*
**ВАРО́НА**
□ *Пъпáла ў въраны́, кáркъй, як яны́.*
□ *Мъкарóну – абы́ ні варóну.*
**ВЕК**
□ *На вякý не паспíш на бакý.*
□ *Век жыць – не мех шыць.*
□ *Век жыві – век учы́ся, а дуракóм памрэш.*
**ВЕРАБЕ́Й**
□ *Увóсень і ў вераб'я́ піва.*

**ВЕ́СЦІСЯ**
□ *Як вядзе́цца, то і на шчэ́пку прадзе́цца, а як звядзе́цца, на верьцяно́ не прадзе́цца.*
**ВОЗ**
□ *На чыі́м вазу́ (кані́) е́дзіш, таму́ і пе́сні пей.*
**ВО́ЛЯ**
□ *Дай кі́шцэ во́лю – праясі́ шча́сце і до́лю.*
□ *Во́льнаму – во́ля, а дурны́м – по́ле.*
**ВОР**
□ *Не паймá́ў за руку́ – ні кажы́, што вор.*
**ВО́РАН**
□ *Во́ран во́рану во́ка не вы́дзяўбаіць.*
**ВО́СЕНЬ**
□ *Во́сень на ра́бам (се́рым) каню́ е́здзіць.*
**ВОЎК**
□ *Воўк у сваі́м ста́дзе аве́чак ні бярэ́ць.*
□ *Ваўка́ но́гі ко́рмюць.*
**ВЫБО́Р**
□ *З бальшы́х выбо́раў нет ні ла́пцяў, ні або́раў.*
**ВЯРО́ЎКА**
□ *Ско́лькі вяро́ўкі* [не віцца], *ну кане́ц бу́дзіць.*
**ВЯРСТА́**
□ *Сем вёрст да нябёс ды ўсё ле́сам.*
**ВЯСНА́**
□ *Вясна́ во́чы крадзе́ць.*
□ *Вісна́ красна́ кве́ткамі, а во́сень пірага́мі.*
□ *Вісна́ хоць няўе́жная, дак уле́жна.*

**ГАД**
□ *Ка́жны (уся́кі) гад на чужо́е рад.*
□ *Ко́жны гад на свой лад.*
**ГАЛАСІ́ЦЬ**
□ *Гаъласі́ ні гаъласі́, ра́ды ні дасі́.*
**ГАЛО́ЎКА**
□ *Гало́ўка хіне́цца – душа́ ні гарне́цца.*
**ГАСПАДА́Р**
□ *Як жы́та красу́е, дак гаспада́р галасу́е.*
**ГЛО́ТКА**
□ *Сам с сіні́цу, а гло́тка с святлі́цу.*
□ *У каго́ гло́тка, у таго́ і сі́ла.*
**ГО́ЛАД**
□ *Го́лад ня цётка.*
**ГО́РА**
□ *Ад го́ра ні ў мо́ра – въда́ хало́дная.*
□ *Го́ра з бядо́ю у абды́мку хо́дзяць.*

**ГОСЦЬ**

□ *Які гось, такáя і чэсь.*

□ *Насі бох гасцéй – і я каля іх часцéй.*

□ *Дай бох гасцéй часцéй – бýдзе сям'і лягчэ́й.*

**ГРАМНІЦЫ**

□ *Грамніцы – палавіна зіміцы, скідáй рукавіцы.*

□ *На Грамніцы – здзівáй (скідáй) рукавіцы.*

□ *Да Грамніц не скідáй рукавіц.*

□ *Дъждáў Грамніц – пълавіна зіміцы, хлéба траціна, а кóрму пълавіна.*

□ *На Грамніцы <пад вуглóм> нап'éцца пятýх вадзіцы.*

□ *Грамнічкі – пълавіна зямічкі.*

**ГРОМ**

□ *З бальшóга грóму мáлы дошч.*

**ГРО́ШЫ**

□ *У кагó грóшы, той і харóшы.*

□ *Грóшы любюць лік, а бáба любіць цвік.*

□ *Грóшы – гэ́та навóс, сённі німá, а зáўтра вос.*

**ГРЭХ**

□ *Рáда б душá у рай папáсь, а грахі ні пускáюць.*

**ГУЖЫ́**

□ *Узя́ўся за гуш, ні гувары́, што ня душ.*

**ДАБРО́**

□ *Не бывáіць хýда без дабрá, а дабрá без хýда.*

**ДАРМАЁД**

□ *Дзякýй за абéт, што пад'éў дармаéт.*

**ДА́ХА**

□ *Якáя бýдзіш дáха, такáя бýдзіш і ўзя́ха.*

**ДАЧКА́**

□ *Дачýшка – шэ́рая зязюлька.*

**ДЗЕНЬ**

□ *Вясéнні дзень год кóрміць.*

□ *Ні хвалíся у тры́ дні, а хвалíся у тры гадý.*

**ДЗЕ́ТКІ**

□ *Мáлыя дзéткі – мáлые бéткі, бальшы́я дзéткі – бальшы́я бéткі.*

□ *Бýдуць дзéткі – бýдуць бéткі.*

**ДЗЕ́ЎКА**

□ *Аўгустóўская мýха, як дзéўка-сядýха.*

□ *Журавы́ прыляцéлі – дзéўкі зáмуш захацéлі.*

**ДЗІЦЯ́**

□ *Мáлый дзіця́ спаць не даéць, ад бальшóга сам не заснéш.*

□ *Мáлыя дзéці – мáлыя гóра.*

□ *Што хáта без дзяцéй, што нóгі без лапцéй.*

□ *Дзяцéй гадýй – тóрбу гатýй.*

□ *Ні радзíў – ні дзіця́, ні гудувáў – ні слугá!*

□ *Дзе мнóга ня́нек, дзіця́ бяз нóса.*

□ *Якáя мáтка, такáя дзіця́тка.*

**ДЗЯЎЧЫ́НА**
□ *Гаду́й дзяўчы́ну, рыхту́й пяры́ну.*
**ДОЖДЖ**
□ *Ні тады́ дош ллець, як про́сіш, а тады́, як ко́сіш.*
**ДО́ЛЯ**
□ *Ро́дзіцца до́ня (до́нька), то бу́дзя яму́ й до́ля (до́лька).*
□ *Ро́дзіцца до́нька, дасьць Бох до́льку.*
**ДРА́ЦЦА**
□ *З сы́нам бі́ся-дзяры́ся і на печ дзяры́ся, а з зя́цем бі́ся-дзяры́ся і за паро́г дзяры́ся.*
**ДРУГ**
□ *Ня мей сто рубле́й, а сто друзе́й.*
**ДУРА́К**
□ *П'я́ны праспі́цца, а дура́к ніко́лі.*
**ДУХ**
□ *Паку́ль дзе́ткі с пу́ху, ма́мка – з ду́ху.*

**ЖО́НКА**
□ *Съба́ку выбіра́юць пъ пся́рні, а жо́нку пъ радні́.*
□ *Паку́ль жо́нка сніда́нне зва́рыць, сем раз му́жа абма́ніць.*
**ЖУРБА́**
□ *Журба́ бядзе́ ня по́мач.*
**ЖЫВЫ́**
□ *Жывы́ ў я́му ні ля́жыш.*
□ *Хоць жыво́му ў я́му лезь.*
**ЖЫ́ЗНЯ**
□ *Жысь прайці́ – ня по́ля перайці́.*
**ЖЫ́ТА**
□ *Сабра́ўся уміра́ць, а жы́та сей.*
□ *Сухі́ май – бу́дзе жы́та як гай.*
□ *Ні ўважа́й на ўража́й, а жы́та сей.*

**ЗАКО́Н**
□ *Зако́н што ды́шла: куды́ павярну́ў, туды́ і вы́шла.*
**ЗАЛО́ЎКА**
□ *Зало́ўка – е́та бунто́ўка.*
□ *Зало́ўка – вяро́ўка.*
**ЗАМУЦІ́ЦЬ**
□ *Глыбо́ку ваду́ не замуці́ш.*
**ЗА́МУШ**
□ *Ні ка́йся ра́на ўста́ўшы і ра́на вы́йці за́муш.*
**ЗВАНЕ́Ц**
□ *Зване́ц – хле́бу кане́ц.*
**ЗЛОСЦЬ**
□ *У зло́сці няма́ міло́сці.*
**ЗМІ́ЦЕР**
□ *Да Змі́тра дзе́ўкі хі́тры, а пасля Змі́тры хоць ты імі́ ж... вы́тры.*
□ *Да Змі́тры – дзе́ўкі хі́тры, а по́сле Змі́тры – хоць ж... вы́тры, а по́слі Міха́йлы – дык папіха́йлы.*

**ЗО́ЛАТА**
□ *Зо́лата і ў по́пілі віда́ць.*
**ЗЯМЛЯ́**
□ *На бе́лую зямлю съба́кі хо́дзюць, а на чо́рнъй зямлі пшані́цу ро́дзюць.*
□ *Зімля́ – ро́дная ма́ці.*
**ЗЯЦЬ**
□ *Зяць лю́біць узя́ць.*

**ІВА́Н**
□ *На Іва́на ноч абарва́на.*
**ІЛЛЯ́**
□ *Ілля́ кі́ніць лідня́.*
□ *Ілля́ (Ілья́) ўкі́нуў (ўкі́нъла) <у во́зіра> лідня́ (льда).*
□ *Ілля́ надзе́лаў (накіда́ець) гнілля́ (гнілья́).*

**КАЗА́**
□ *Зъдърма́ і воўк казе́ ні пля́шыць.*
**КАЛЕ́КА**
□ *Ума́ нет – шчыта́й кале́ка.*
**КАЛЁСЫ**
□ *Рыхту́й калёсы зімо́й, а са́ні – ле́там.*
□ *Берагу́ць са́ні ле́там, а зімо́й – калёсы.*
**КА́МЕНЬ**
□ *На адны́м ме́сці і ка́мень абраста́іць.*
**КАПЫ́Л**
□ *Нъ харо́шым къпылу́ і сапо́х харо́шый.*
**КАСА́**
□ *Касі́ къса́, паку́ль ръса́, ръса́ дало́ў – касе́ц дамо́ў.*
**КАСЦЕ́Р**
□ *Касце́р – хле́бу падмасце́р.*
**КА́ША**
□ *Ка́шу ма́слам не спо́рціш.*
□ *Куле́ш і ка́ша – гэ́та не ва́ша, а рабо́та ва́ша.*
**КІ́НУЦЬ**
□ *Зза́ду кінь – зно́йдзеш напе́раду (папе́раду).*
□ *Напе́рат (напяро́д) кі́неш (кінь), а зза́ду (зза́дзі ) на́йдзеш.*
**КЛЯСЦІ́**
□ *Кляні́, ды на сябе́ бяры́!*
**КОНЬ**
□ *Стары́ конь баразны́ ня по́рціць.*
□ *Хто ко́ні міня́іць, у таго́ хаму́т гуля́іць.*
□ *На ле́чаным кані́ далёка ні пра́едзіш.*
**КОСЦЬ**
□ *На жыво́й касце́ мя́са нарасце́.*
**КОТ**
□ *І кот ня лю́біць ла́зіць у адну́ і ту́ю ж дзі́рку ў загаро́дзі.*

**КО́ШКА**

□ *Са́ла <ма́ла> ко́шка ўкра́ла.*

**КРАЙ**

□ *Які́ (дзе які́) край, такі́ <і> абыча́й.*

□ *Што край, то абыча́й.*

**КРАПІ́ВА**

□ *Бу́дзець і нъ тваю́ крапі́ву маро́с.*

□ *На жгу́чую крапі́ву маро́с ні пячэ́ць.*

**КРАСІ́ВЫ**

□ *Хай пъд ла́ўкъй сядзе́ць, абы́ на красі́въга глядзе́ць.*

**КРА́СНЫ**

□ *Не радзі́ся кра́снай, а радзі́ся шча́снай.*

**КРОЎ**

□ *Дзе крыві́ ні ло́шкі, там жа́ласці ні кро́шкі.*

**КРУК**

□ *Крук кру́ку <у> во́ка не клюе́(ю́ць).*

**КРЫВАРО́Т**

□ *Мой крываро́т ні міне́ць маі́х варо́т.*

**КРЫВАРО́ТЫ**

□ *Твой крываро́ты ні міне́ць тваé варо́ты.*

**КУ́ЖАЛЬ**

□ *Ку́жаль дале́жыцца шо́ўку, а во́ўна дале́жыць г....*

**КУЛІ́К**

□ *Ка́жны улі́к сваé бало́та зна́іць.*

□ *Улі́к уліка́ ві́дзіць здаліка́.*

**КУМА́**

□ *Гало́днай куме́ хлеб на ў́ме.*

**КУПА́ЛА**

□ *На Купа́ла (Іва́на Купа́ла) ўсё <што здзе́лаў> прапа́ла.*

□ *У нас сяго́ння (за́ўтра) Купа́ла, <хто што здзе́лаў>, – усё прапа́ла.*

**КУ́РЫЦА**

□ *Ку́рыца на сваю́ гълаву́, на прычы́ну пяе́ць.*

□ *На прычы́ну й ку́рыца пе́рніць.*

□ *Цяплёнак ку́рыцу ву́чыць.*

**КУХА́РКА**

□ *Пака́ хазя́йкі ў гу́пкі, дак у куха́ркі ў ду́пкі.*

**ЛАД**

□ *Ні скла́ду ні ла́ду – цалу́й съба́ку зза́ду.*

**ЛА́ЎКА**

□ *На сваёй ла́ўцы і паме́рці ня грэх.*

**ЛЕ́ЗЦІ**

□ *Ня пі, ня еш і с ха́ты ні лезь.*

**ЛЕС**

□ *Бо́льшэ віда́ць за лясо́м, чым пад насо́м.*

□ *Бі́ца па лясу́ ні хо́дзіць.*

□ *У лес дроў ня во́зяць.*

**ЛЕ́ТА**
□ *Ле́там но́шкай коп, а зімо́й ру́чкай хоп.*
□ *Зіма́ на ле́та ро́біць (рабо́таець), а ле́та на зіму́.*
□ *Зімо́й к ле́ту ла́дзісся.*
□ *Ле́та на зіму́ ла́дзішся, зімо́й – на ле́та.*
□ *Ле́та збіра́іць, а зіма́ паяда́іць.*
**ЛІМО́Н**
□ *Каму́ лімо́н, а каму́ скры́пка с-пат лімо́на.*
**ЛО́ЖКА**
□ *Кърávая ло́шка ўсігда́ рот дзярэ́.*
**ЛЮ́ДЗІ**
□ *Свет ні бяз до́брых людзе́й.*
□ *Што блюдзём, то ўсё людзём.*
□ *Гара́ з гаро́й ні схо́дзяцца, а лю́дзі схо́дзяцца.*
**ЛЮДНЫ́**
□ *Адна́ – і та́я ні людна́.*
**ЛЯКСЕ́Й**
□ *На Лясе́я (Аляксе́я) шчу́ка <хвасто́м> лёт разаб'е́ць.*
□ *Ры́біна лёд хвасто́м разбіва́іць на Ляксе́я.*

**МАЙ**
□ *Май – каню́ се́на дай, а сам на печ уцяка́й.*
□ *Май – къню́ се́на дай, а сам кажу́х надзіва́й.*
□ *Май халóдны – ня бу́дзіш галóдны.*
□ *Май – кажу́х адзіва́й.*
**МАЛАДЫ́**
□ *Ні ка́йся, ра́на ўставаю́чы, а мълады́ (по́зна) жэ́нючыся (жъня́ся).*
**МАЛАКО́**
□ *Па мълаку́ ног не пъвалаку́.*
**МА́РАЦ**
□ *Ма́рац па пу́нях шма́раць.*
**МАРТО́К**
□ *Марто́к – не скіда́й парто́к.*
**МА́ТКА**
□ *Сваяя́ ха́тка як ро́дная ма́тка.*
□ *У каго́ ма́тка, у таго́ гало́ўка гла́тка.*
□ *Дату́ль ма́тка, як калы́шаш у лю́льцы.*
**МЁД**
□ *Быў на мяду́, аблі́ў бъраду́, у рот ні пъпа́ла.*
**МІКО́ЛА**
□ *На Міко́лу з лу́пкаю ў по́ле.*
□ *Ідзе́ць Святы́ Міко́ла – з сяўбо́й у по́ле.*
□ *Сіта́я Міко́ла – з сіва́лкай (з лу́бкаю) у по́лі.*
□ *Да Міко́лы зімы́ німа́ ніко́лі.*
□ *Ды Міко́лы німа́ ле́та ніко́лі і зімы́ ніко́лі.*

**МІЛЫ**
□ *Сілай ня бýдзіш мілы!*
**МÓЖА**
□ *Мóжа – гэ́та на двóя варóжа.*
**МУЖ**
□ *Муш (мужы́к) і жъна́ – адна́ сътъна́.*
□ *За дóбрым (харóшым) мýжам і Хôўра жана́.*
□ *Хоць муж варóна, а жóнцы зъбарóна, хоць муж разіня, за ім дрóвы і лучы́на.*
□ *<Ніха́й> муж як (хош) ла́пъць, абы́ (але́) жыць ды не (ні) пла́къць.*
**МУЖЫ́К**
□ *За харóшым мужукóм, трасе́ць ба́ба кумпякóм.*
□ *У харóшага мужыка́ і Хôўра жóнка.*

**НАРАСПА́ШКУ**
□ *Рот нараспа́шку, язы́к на плячó.*
**НАТУ́ЗАЦЬ**
□ *Прагуля́ў ле́та – нату́зай нъ вале́та.*
**НІВА**
□ *На длíннай ніве ўсяк быва́іць.*
**НІДАСÓЛ**
□ *Нідасóл на сталé – перасóл на спіне́ (гълаве́).*
□ *Нідасóл на сталé – перасóл пад сталóм.*
**НІТКА**
□ *Хоць ніскóра – па нітаццa клубóк на́йдзіш.*
**НІШЧА́СЦЕ**
□ *Свайгó нішча́сця ні канём ні аб'е́дзіш, ні пе́шкам ні абы́йдзіш.*
**НОС**
□ *Берагі нос у вялікі марóс.*
□ *Твой нос чорт тром нёс, а ты адзін ухваціў.*
**НОЧ**
□ *Зімняя нóчка – дзе́ткам сарóчка.*
**НЯВЕ́СТКА**
□ *Матра́с (сяннíк) не паду́шка, няве́стка не дачу́шка.*
□ *Сын – свой рабёнак, а няве́стка – чужа́я кóстка.*
**НЯЎМЕ́КА**
□ *Як із дзяжы́ пацячэ́ць, і няўме́ка спячэ́ць.*

**ПАКЛА́СЦІ**
□ *Не пакладзі к..., ні вазьмёш па́пу.*
**ПАЛАЖЫ́ЎШЫ**
□ *Ні палажы́ўшы, ні вóзьміш.*
**ПАМА́ЗАЦЬ**
□ *Як пама́жаш, так і пае́дзеш.*
**ПАМÓЎКА**
□ *На вóўка памóўка, а рыбу ліса́ з'е́ла.*

**ПАНЯДЗЕ́ЛЬНІК**
□ *Пънядзе́льнік – дзень бяздзе́льнік.*
**ПАРО́Г**
□ *Ад ка́ждага паро́га да Кіева даро́га.*
**ПАРО́ШША**
□ *На худо́га чалаве́ка і паро́шша ляціць.*
**ПАСЦЯЛІ́ЦЬ**
□ *Як пасце́ліш, так паспіш.*
**ПАЦЕ́ШНА**
□ *Дзе це́сна, там паце́шна.*
**ПЕНЬ**
□ *Вялік пень, ды ду́рань, мал зло́ты, ды дарагі.*
**ПРАДМЕ́Т**
□ *Не знай прадме́т, ня бу́дзіш знаць бед.*
**ПРАСІ́ЦЬ**
□ *Як про́сюць, тады́ жнуць і ко́сюць.*
**ПРА́ЎДА**
□ *Што то́рба, то ня мех, што пра́ўда, то ня грэх.*
**ПРАЧЫ́СТАЯ**
□ *Да Прачы́стага каб было́ по́ле чы́стае.*
□ *Да дру́ге Прачы́сты каб бы́ло ў по́лі чы́ста.*
□ *Втара́я Прачы́ста го́ніць дрэ́ва усе́ чы́ста.*
□ *Адна́ Прачы́ста глядзіць, каб жы́то усе́ было́ чы́сто, друга́я Прачы́ста глядзіць, каб усе́ было́ чы́сто.*
□ *Да пе́рвае Прачы́стае каб было́ по́ле чы́стае, а да друге́й Прачы́стае каб было́ ў ха́це чы́ста.*
□ *Пятро́к атшчыкне́ць лісто́к, Ілля́ – два, Прачы́стая* [другая Прачыстая] *го́ніць дрэ́ва ўсё чы́ста.*
□ *Пятро́к атарва́ў адзін лісто́к, Ілля́ накіда́ець гнілля́, Прачы́стая – на по́лі усё чы́ста.*
**ПРЫГО́ДЫ**
□ *На гот мно́га прыго́т, а на вяку́ – як на даўге́й ніве.*
**ПРЫКАЗ**
□ *Як пры́дзіць прыка́з – ступа́й ура́с.*
**ПРЫКІПЕ́ЦЬ**
□ *Се́ла, як прыкіпе́ла.*
**ПТУ́ШКА**
□ *Ра́ннія пту́шка* (*пту́шъчка*) *зу́пкі калупа́іць, а по́знія во́чкі прадзіра́іць* (*праціра́іць*).
**ПЧАЛА́**
□ *Пчо́лы ні бъя́цца хо́лъду, а жары́ і го́лъду.*
**ПЯТРО́**
□ *Святы́ Пятро́ ў касу́ зво́ніць, а Святы́ Па́ўла гра́блі ло́міць.*
**ПЯТРО́К**
□ *Пятро́к атшчыпну́ў лісто́к, а Лля <укінуў> два, Прачы́ста апчы́сціць чы́ста.*

□ *Пятро́к атшчыкну́ў ліcто́к, а Ллячукі́нуў лядня́.*
□ *Прышо́ў Пятро́к, атарва́ў (атшчыкну́ў) ліcто́к.*
□ *Пятро́к атшчыкне́ць (атшчыкну́ў) ліcто́к, (а) Ілля́ – два́.*

**ПЯТРО́ЎКА**

□ *Пятро́ўка – гаъладо́ўка.*

**РАБО́ТА**

□ *Уво́сень – рабо́т во́сем (дзе́сіць).*
□ *Дурука́ рабо́та лю́біць, а дура́к рабо́ту.*
□ *Вясно́ю рабо́ты ат нядзе́лі да cубо́ты.*
□ *Рабо́та дурака́ лю́біць, а дура́к яе́ хва́ліць.*
□ *Рабо́ты аж да cубо́ты.*

**РАДЗІ́НА**

□ *А мне та́я радзі́на, што му́жа радзі́ла.*

**РАДЗІ́НЫ**

□ *Смерць і радзі́ны ня ждуць до́брай гадзі́ны.*

**РАДЗІ́ЦЬ**

□ *Радзі́ў ні радзі́ў, а я го́лы ні хадзі́ў.*
□ *Пъгадзі́ радзі́ць: дай зъ ба́бъй сxадзі́ць.*

**РАДНЯ́**

□ *Радня́ да паўдня́, а як со́нца за́йдзіць, дак і чорт ні на́йдзіць.*

**РАК**

□ *Адны́ ра́кі за́дъм хо́дзюць.*

**РА́НА**

□ *Ра́нъ ро́сна, а ўдзень мло́сна.*

**РОД**

□ *Што на раду́, то на вяку́.*

**РО́ЗУМ**

□ *У cтарога́ ро́зум пъпъла́м з наво́зам.*
□ *Ро́зум – не куле́ш: у гълаву́ ні валле́ш.*

**РУДА́**

□ *Руда́ бядзе́ не по́мач.*

**РУКА́**

□ *Ру́кі сваé – усё на сталé.*
□ *Дзе́ла мазо́ліць ру́кі.*

**РЫ́БА**

□ *І ры́ба б запе́ла, каб го́лас іме́ла.*

**РЭ́ДЗЬКА**

□ *Го́рка рэ́дзька, ды яду́ць, ху́да за́мужам, ды йдуць.*

**САБА́КА**

□ *Съба́ку съба́ччая смерць.*
□ *Съба́ку выбіра́юць пъ пся́рні, а жо́нку пъ радні́.*

**САВА́**

□ *Сава́ спіць, ды (а) курэ́й ба́чыць (ві́дзіць).*

□ *Савá не рóдзіць сакалá.*

**СÁЛА**

□ *Калі ня бýдзіць сáлца, не памóчыш пáлца.*

**САРАКÍ**

□ *Саракі – вадá пашлá з ракі.*

□ *На Саракі пóйдзіць зімá да ракі.*

□ *Саъракі гóнюць снех дъ ракі.*

**САРÓКА**

□ *Сабáка бéгла, а сарóка на хвасцé сядзéла.*

□ *Сарóка стракóчыць – бяды́ хóчыць.*

**САРÓЧКА**

□ *Свая́ сарóчка бліжэ́й к цéлу.*

**СВÁДЗЬБА**

□ *Свáдзьба рубáшку нáйдзіць.*

**СВАТ**

□ *Свáту пéрвая чáрка і пéрвая пáлка!*

**СВАЯ́К**

□ *Свой сваікá відзіць здалікá.*

**СВЕТ**

□ *Не ўвесь свет, што ў вакнé, за акнóм бóлей.*

**СВІННЯ́**

□ *Свінні ні да парася́т, калі на агóнь нясýць.*

□ *Кап свінні рóгі – не саступіла б з дарóгі.*

□ *Дай свінні рóгі, то й свет паравéрнець.*

□ *Ні дай бох свінні рох.*

□ *Свінню́ ніхтó ня хры́сціць.*

□ *Свіння́ грась нáйдзіць.*

**СВЯКРÓЎ**

□ *Свякрóў, свякрóў, пі маю́ кроў, як ражжывýся, і я тваé нап'ю́ся.*

□ *Свякрóў – чужáя кроў.*

□ *Хáта мая́ зялёная, свякрóў мая́ шалёная.*

**СÍЛА**

□ *Чыя́ сіла, тагó й ніва.*

**СІРАТÁ**

□ *Хто сіратá, той вéчная дуратá.*

**СІРМЯ́ШКА**

□ *Свъя́ сірмя́шка нікóму ні ця́шка.*

**СКВÁРКА**

□ *Зямлé сквáрка – а лю́дзям чáрка.*

**СЛУГÁ**

□ *Нáшы слýгі пагнýліся ў дýгі.*

**СЛУ́ЖБА**

□ *Слýжба – ня дрýжба.*

**СМÁЧНА**

□ *Век смáчна ні з'ясі, век лáскава ні піражывéш.*

**СМÉЛЫ**

□ *Камý нагý, камý галавý, а хто смéлы, астáўся цэ́лы.*

**СМЕРЦЬ**
□ *Ат смéрці і пад гаршкóм ні схавáісся.*
□ *Ат смéрці багáты ніяк не аткýпіцца.*
□ *Смерць не (ні) глядзіць у барадý, а ў чарадý.*
□ *Мýчыцца нáда, пакýль смерць лýчыцца.*
□ *Бýдзем сýчыцца, пакýль смерць злýчыцца.*
**СМЯРКÁНАК**
□ *Як ні павязéць, то з рáнку да смяркáнку.*
**СМЯРКÁННЕ**
□ *Як пашлó з рáння, так і да сміркáння.*
**СÓНЦА**
□ *Зімóй сóнца свéціць, да ні грэ́ець.*
**СÓРА**
□ *Нáша Сóра шые і пóра.*
**СПАС**
□ *Пятрóк атшчыкнéць лістóк, Ілля́ – два, Спас – у квас, Прачыстая начанéць чысціць чыста.*
□ *Спас на ўсё лас.*
□ *Спас – усямý час.*
**СПÁСАЎКА**
□ *Пятрóўка – галадóўка, а спáсаўка – лáсаўка.*
**СПЛЫЦЬ**
□ *Былó ды сплылó.*
**СТÁРАСЦЬ**
□ *Стáръсь ні рáдъсь, а горп ні карысь.*
**СТÁРАЦ**
□ *Стáрцу сімнáццаць вёрст ня крух, ліш бы дзіръўнямі.*
**СТЫД**
□ *Стыд – ня дым, вóчы ня выесць.*
**СÝДЖАНЫ**
□ *Мой сýджаны выскачыць з лýжыны, сам атрасéцца і ка мне прынясéцца.*
**СУДЗЬБÁ**
□ *Сваю судзьбý на кані ні аб'éдзеш і пяшкóм ні абóйдзеш.*
**СÝЧКА**
□ *Мая сýчка ні за събáчку.*
□ *Як сýчка ні захóчыць – кабéль ня ўскóчыць.*

**ТРЭ́СНУЦЬ**
□ *Пой пéсні, хоць трэ́сні, а éсці не прасі.*

**УВÓСЕНЬ**
□ *Увóсенню на дні вóсім перамéн.*
**УГÓТ**
□ *Нядóрага угóд, а дóрага ў рот.*
**УМÉСЦЕ**
□ *Як урóсь – мілы гóсці, а як умéсця – так і цéсна.*

**УМІРА́ЦЬ**
□ *Каму́ гурува́ць, таму́ не ўміра́ць.*
**УЧАРА́ШНІ**
□ *Учара́шняга дня не на́йдзеш.*

**ХАДЗЯ́ІН**
□ *У дрэ́нную паго́ду до́бры хаъзя́ін съба́ку ні го́ніць на двор.*
**ХАМУ́Т**
□ *Абы́ шыя́ – хаму́т но́йдзецца.*
□ *Хаму́т лацве́й найці́, а шы́ю не.*
**ХА́ТА**
□ *Не усігда́ ха́та кра́сіць вуглáмі, а пірагáмі.*
**ХА́ТКА**
□ *Свая́ ха́тка, як ро́дна ма́тка.*
□ *Паве́тка ні ха́тка, свякро́ўка ні ма́тка.*
**ХАЦЕ́ННЕ**
□ *На хаце́нне ёсць цярпе́нне.*
**ХВАЛІ́ЦЬ**
□ *Ні на́да хвалі́ць, як што балі́ць.*
**ХЛЕБ**
□ *Хто хлеп с сабо́й но́сіць, той е́сці ня про́сіць.*
□ *Хлеб – ня жо́нка: ня ўда́ўся – другі́ спяку́ць.*
□ *Прыма́цкі – хлеб саба́цкі.*
□ *Жыві́ і хлеп жві.*
□ *Пражылі́ паля́кі – ні хле́ба, ні таба́кі.*
□ *Хлеб мякчэ́й – зуба́м ляхчэ́й.*
**ХМА́РА**
□ *З вялі́кай хма́ры – малы́ дошч.*
**ХО́ЛАД**
□ *У хо́лат ко́жны мо́лад.*
**ХТО**
□ *Хто з языко́м, той с пірадо́м.*
□ *Хто скуп, той сам сабе́ не глуп: добраахво́чы глядзі́ць скупо́му ў во́чы.*

**ЦЕ́ШЧА**
□ *Це́шча длі саве́ту, жо́нка длі прыве́ту, а ро́дная ма́тка мі́ле́й усяго́ све́ту.*
□ *Зяць на паро́х – це́шча (цёшча) за я́йца.*
**ЦЫГА́Н**
□ *За адно́ ле́та цыга́н (цага́н) дзве зімы́ аддáсць.*
**ЦЯЛЯ́**
□ *Ла́скавае ціля́ (цяля́тка) двух ма́тък пассе́ць (сасе́ць).*

**ЧОРТ**
□ *Бяс чо́рта бало́та ня бу́дзіць.*
□ *У ці́хім бало́це ўсе чэ́рці на дне.*
□ *Ці не чорт цябе́ нёс, не падма́заўшы калёс!*
□ *Чорт сем пар лапце́й сарва́ў, паку́ль іх у ку́чу сабра́ў.*
□ *Паку́ль чо́рт ні нъгуля́ўся, то ні адда́ў.*

**ЧУЖЫ́**

□ *Бі свайго́, кап чужы́я бъя́лісь.*

□ *Между дзвярэ́й па́льцы не лажы́, между сваі́х чужы́ не міша́йся.*

□ *Чужо́е ні ўво́лю, ні ўпо́ру.*

**ШАЛ**

□ *Лацве́й было́ б шале́ць, калі́ шал бярэ́ць.*

**ШТО**

□ *Што пражы́та, то забы́та.*

**ШЧА́СЦЕ**

□ *Шча́сце за гъра́мі, а біда́ за плі́ча́мі.*

**Ю́Р'Я**

□ *Два Ю́р'і – або́два ду́рні: адно́ хало́днае, другое галодна́е.*

□ *Ю́р'і – два ду́рні: адно́ хало́днае уво́сень, а гало́днае вясно́й.*

□ *Да Ю́р'я кармі́ ду́рня.*

□ *Да Ю́р'я каб быў корм і ў ду́рня.*

**Я́БЛЫКА**

□ *Я́блака ад я́блані далёка ні ко́ціцца.*

**ЯДА́**

□ *Соль да вада́ – маладзе́цка яда́.*

**ЯЗЫ́К**

□ *Хто з языко́м, той і з пірагом.*

Навуковае выданне

**МОВА СЕННЕНШЧЫНЫ**

**Дыялектны слоўнік**

*У двух тамах*

Т. 2

П–Я

Рэдактар *В. А. Рахуба*

Мастацкі рэдактар *Т. Д. Царова*

Тэхнічны рэдактар *В. А. Тоўстая*

Камп’ютарная вёрстка *Л. І. Кудзерка*

Падпісана да друку 10.07.2015. Фармат 70×100 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 33,15. Ул.-выд. арк. 30,2. Тыраж 100 экз. Заказ 124.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 1/18 ад 02.08.2013.
Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, г. Мінск.